**Зянон Пазьняк**

# ЦЯЖКІ ЧАС

## РАЗБУРЭНЬНЕ

**Платформа беларускага змаганьня,**
**кн. 4, артыкулы і матар'ялы (2011- 2015)**

**IV**

**БВ**

Варшава – Нью-Ёрк
Выданьне: «Беларускія Ведамасьці»
2018 г.

# ПРАДМОВА

У чацьвертым томе сабраныя выбраныя артыкулы і матар'ялы, якія даюць праекцыю на падзеі і зьмест 2011-2015 гадоў. Гэты час акрэсьлены намі як час актывізацыі акупацыйнай русіфікатарскай палітыкі рэжыму і разбурэньня беларускай грамадзянскай супольнасьці. Беларусь панесла грамадзкія і сацыяльна-культурныя страты.

Гэты час характарызаваўся абвастрэньнем міжнароднага становішча і разбурэньнем ялцінскага парадку сьвету ў выніку ваеннай агрэсіі Расеі супраць Украіны ў 2014 годзе, захопам яе тэрыторый. Напад Расеі на Украіну быў нечаканы для Эўропы, але найбольш для беларускай, так званай, дэмакратычнай інтэлігенцыі, прывыклай жыць яшчэ савецкімі ілюзіямі. Гэтая гібрыдная вайна і фантастычная па сваім цынізме і лжы расейская прапаганда, накіраваная на Беларусь праз маскоўскае тэлебачаньне, раскалола беларускае грамадзтва. З ўсёй відавочнасьцю стала відаць расейская падрыхтоўка да захопу Беларусі па ўкраінскім сцэнары. Гэтая тэма стала галоўнай у нацыянальна-вызвольным сэктары грамадзтва, адлюстравана ў гэтым зборы.

Чацьверты том выходзіць ў мяккай вокладцы на афсэтнай паперы, без ілюстрацый, абмежаваным накладам. Гэта вынік аб'ектыўных прычынаў.

Лічу, аднак, неабходным такое выданьне ў любой форме і паліграфічнай якасьці, бо яно паказвае зьмест гістарычнага часу -- часу разбурэньня беларускай нацыі і выяўляе ацэнкі падзеяў з пазыцыі нацыянальнага супрацьдзеяньня і змаганьня за Беларусь.

*19 кастрычнік 2018 г.* **Зянон Пазьняк**

# 2011

# РАЗВАГІ ПРА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ. 20 ГАДОЎ

Думаю, што шмат хто з нас, фронтаўцаў і дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, успрымаюць дасягненьне незалежнасьці Беларусі як галоўны вынік жыцьця і ўдзячныя лёсу, які бы цяжкім ён ня быў і ня стаўся далей.

Мы, беларусы, выратаваліся ўжо амаль зь небыцьця (з савецкага небыцьця), калі лепшыя былі зьнішчаны, а астатніх ператварылі ў дэнацыяналізаванае калгасна-савецкае насельніцтва.

Наш шлях да незалежнасьці і свабоды доўжыўся 200 гадоў, быў вельмі пакутны, стратны і крывавы. Мы страцілі тэрыторыі і сталіцу, гісторыю і памяць, набыткі культуры і мільёны людзей, а тыя, што засталіся (у большасьці), не шанавалі гонар.

І ўсё ж час справядлівасьці адчыніўся. Ён стаўся для нас шанцам, быў вельмі кароткі – усяго некалькі дзён, -- але мы скарысталі яго, неверагоднымі высілкамі ў неверагодных умовах вырвалі нашу свабоду.

Неверагодныя ўмовы былі ў тым, што ў адрозьненьні ад іншых краінаў СССР, кіраўніцтва КПСС у Беларусі (КПБ) было цалкам антынезалежніцкім і антыбеларускім, рэакцыйнасьць кіраўніцтва гэтай партыі ў Беларусі была татальнай. Кіраўніцтва КПБ падтрымала путчыстаў (ГКЧП), але не пасьпела цалкам выявіцца ў дзеяньнях, бо камуністычны путч у Маскве праваліўся.

Да дзевяноста адсоткаў дэпутатаў Вярхоўнага Савету складалі камуністы, бальшыню ў ім мела кіруючая партыйная намэнклятура, плюс ветэраны КПСС і НКВД. Дэпутаты Апазыцыі БНФ мелі тут каля васьмі-дзевяці адсоткаў галасоў.

На сэсіі Незалежнасьці (24-25 жніўня 1991 г.) нашая задача была ў тым, каб скарыстаць перапалох камуністаў пасьля праваленага путча і абапіраючыся на народ на плошчы, зьмяніць кіраўніцтва Вярхоўнага Савета (якое падтрымала ГКЧП), спыніць дзейнасьць кампартыі ў Беларусі і аб’явіць незалежнасьць краіны. Пасьля гэтага – зьмяніць Канстытуцыю БССР і аб’явіць новыя выбары ў парлямант.

Складанасьць у тым, што ўсё гэта трэба было (і адзіна магчыма было) дасягнуць, выкарыстаўшы галасы камуністычнай большасьці (партыю якой мы зьбіраліся забараніць). Тэарытычна -- зыходзячы з логікі і арыфмэтыкі -- такое было немагчыма. Але ўлічваючы рэвалюцыйную сытуацыю і характар барацьбы ў надзвычайных умовах, -- можна. Галоўнае было ажыцьцявіць правільную тактыку, не нарабіць памылак і ня страціць час, якога было вельмі мала (адзін -два дні).

Зыходзячы з вопыту, найважнейшым лічу тое, што мы, дэпутаты Фронта, усё гэта разумелі і верылі ў перамогу (рваліся ў бой). Гэта – аснова нашай перамогі. Справа была няпростая і фармальна, без уліку сытуацыі, магла б выглядаць поўнай авантурай. Спачатку нам трэба было моцным напорам “аглушыць”, напалохаць намэнклятуру, паралізаваць яе волю, зьняць кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, прадэманстраваць сілу (абапіраючыся на народ на плошчы) і спыніць дзейнасьць КПБ (КПСС) у Беларусі. Потым, пасьля забароны кампартыі, трэба было гэтых жа дэпутатаў-камуністаў зрабіць нашымі саюзьнікамі за незалежнасьць, стварыць

атмасфэру адзінства і салідарнасьці з палітычнымі ворагамі ў змаганьні за свабоду Беларусі.

І ўсё гэта нам удалося! Прытым – бліскуча, ніхто не галасаваў "супраць" незалежнасьці, ніхто не "устрымаўся". Тады на практыцы я пераканаўся, што ***палітыка – гэта мастацтва немагчымага,*** гэта мастацтва шанцаў, калі рэалізацыю іх, бывае, вырашаюць ні дзень, ні два, а нават секунды.

Філісьцерскі лёзунг палітычнай бюракратыі тыпу Чэмбэрлена ды Гарбачова ("политика – искусство возможного"), найперш, ня ёсьць "искусство", а дэманстрацыя паражэнскай нямогласьці. Яны сапсавалі тое, што зьбіраліся зрабіць, і ўвайшлі ў гісторыю як вялікія правальшчыкі, іхныя пляны і праекты перамагла новая палітычная рэальнасьць, якую яны справакавалі і супраць якой плылі.

Беларуская незалежнасьць мае два этапы, дзьве вялікія даты: ***25 Сакавіка 1918 г.*** і ***25 Жніўня 1991-га***. У сакавіку 1918 быў падняты сьцяг незалежнасьці Беларусі, беларуская палітыка і змаганьне былі ськіраваныя ў незалежніцкае рэчышча, створаны палітычны ідэал.

25 Жніўня 1991-га – вырашальны этап, рэалізацыя незалежніцкага ідэалу, стварэньне і пачатак будаўніцтва рэальнай незалежнай Беларускай дзяржавы.

Намэнклятурная рэакцыя ў першай палове 90-х, наступны "лукашызм", пачатак гібрыднай вайны і ўнутраная акупацыя Беларусі – гэта ўжо пытаньні ўлады і працяг пэрманэнтнай барацьбы нашай дзяржавы з Масквой.

Непрыхільнікі Беларусі, людзі з каланіяльнай сьведамасьцю, эгацэнтрысты і абывацелі, якія ня ўдзельнічаюць у грамадзкім жыцьці, і не прымалі ўдзелу ў змаганьні за незалежнасьць, выяўляюць сваю непрыхільнасьць складаньнем розных выдумак. Найбольш папулярны сярод іх узор творчасьці кшталту. «Незалежнасьць ўпала зь неба». Істотна, што для бальшыні гэтакіх людзей так яно і выглядала. Сядзеў з жонкай на дачы, акучвалі бульбу. Усё спакойна. Потым прыехалі ў Менск, а тут чорт це што – нейкія сьцягі іншыя. Аказваецца незалежнасьць ужо. Нейкі Пазьняк ваду муціць.

Іншая катэгорыя – інтэлектуалы, маўляў. Разважаюць з толкам, гэтак спакойна. Які там Фронт, кажуць, ды кіньце вы. Усяроўна незалежнасьць былы б і бяз Фронта. Атрымаў жа Туркмэністан незалежнасьць і ўся Сярэдняя Азія бяз Фронту.

У сапраўднасьці сітуацыя была такой, што калі б не існавала Беларускага Народнага Фронту, то сапраўды ўсе вакол мелі б незалежнасьць. І Туркменістан таксама. Толькі адна Беларусь яе ня мела б. Рэальна так было б. Такі быў стан. Цуду б ня сталася, зь неба не звалілася б.

А з Туркменістанам лепш не раўняцца. Пастухі авечак на чале з дыктатарам стварылі нацыянальную дзяржаву, дзе школа, мова, начальства, сьведамасьць – ўсё туркменскае. У іх ёсьць нацыянальная будучыня. Дыктатары ня вечныя.

Тым часам беларусы – насьледнікі вялікай, моцнай, гістарычнай культуры, геапалітычны народ, ствральнік дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага ад мора да мора, гэтыя беларусы ня маюць цяпер ні беларускай школы, ні мовы, ні нацыянальнага начальства, ні сьведамасьці – ўсё не беларускае і дыктатар не Туркменбашы, не за свой народ, а халуй маскоўскі, здраднік і хам, лапаць каснаязычны, неадукаваны, ілжывы і прадажны, які нішчыць нацыю і гадзіць ўсім у душу, пазбаўляе нацыянальнай будучыні. Але ён для паловы беларусаў (як для туркменаў Туркменбашы і Гурбангулы) – «харошы прэзідзент».

Гісторыя, якая ніколі не засвойваецца, і, на якой ніхто ня вучыцца, на гэтых прыкладах паказвае, што, дбаючы пра пра краіну і народ, шляхам дыктатуры, ціску, індактрынацыі і прапаганды можна за адно пакаленьне з пастухоў стварыць нацыю і нацыянальную дзяржаву, і наадварот, культурны, моцны, гістарычны народ, які ганяў Маскву пад Воршай ды немцаў пад Грунвыльдам, ды кніжкі друкаваў, калі іншыя нават пісьмовасьці ня мелі, ды магдэбурыяй кіраваўся, тады, калі ў іншых яшчэ й гарадоў не існавала, гэты народ можна апусьціць ніжэй за пастухоў, які стане сам сябе грызьці і ганарыцца сваёй цемрай. Вось розьніца паміж аўтарытарызмам дыктатуры

нацыянальнай і аўтарытарызмам дыктатуры антынацыянальнай, здрадніцкай, прадажнай і акупацыйнай. Правы чалавека парушаныя ўсюды. Але глядзім, што на выхадзе і ці складваецца будучыня нацыі.

Дзякуючы Народнаму Фронту, маем незалежную дзяржаву, маем грунт, пункут апоры, дзеля будучыні. Але ў становішчы гібрыднай вайны і пагрозы нацыі, будучыня можа быць забясьпечана толькі тады, **калі на чале змаганьня будзе арганізацыя і лідары, якія стаяць (як Беларускі народны Фронт) на Беларускай нацыянальнай ідэі.** Ўсё астатняе – параза, марнае, беспэрспэктыўнае і бяссільнае.

Перад Беларусяй вялікія выпрабаваньні, якія пачаліся даўно і кладуцца на ўсё пакаленьне. Перамогі і вопыт Беларускага Народнага Фронту хай стануць тут зарукай і дапамогай. Слава Айчыне!

*19 кастрычніка 2018 года.* Зянон Пазьняк

# СЭСІЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

1

Галоўны зьмест Беларускага Народнага Фронту (дзеля чаго ён і быў створаны) – гэта ліквідаваць камунізм, здабыць незалежнасьць Беларусі і адчыніць дарогу да дэмакратыі. Але напачатку, пакуль Фронт не ўвайшоў яшчэ ў сілу, а камунізм быў моцны, пра гэта казалася асьцярожна. У жніўні 1989 года на Сойме Фронту, які праходзіў у Чырвоным касьцёле ў Менску, было адкрыта сцьверджана, што наша галоўная задача – суверэнітэт і незалежнасьць Беларусі.

11 траўня 1990 года Сойм БНФ зноў заявіў, што галоўнай палітычнай мэтай Фронта зьяўляецца незалежнасьць краіны. У канцы траўня гэтага ж года адбылася агульнафронтаўская канфэрэнцыя ***“Незалежная Беларусь”*** з удзелам фронтаўскіх дэпутатаў усіх узроўняў. Канфэрэнцыя пацьвердзіла курс на незалежнасьць Беларусі.

У траўні-чэрвені 1990 года Фронт падрыхтаваў важны дакумант – ***Праект Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі.*** Дэпутаты-фронтаўцы дамагліся пастаноўкі гэтага пытаньня ў Вярхоўным Савеце БССР. Быў зроблены даклад старшыні Фронта ў парляманце, адбылося абмеркаваньне тэксту фронтаўскай Дэкларацыі. Некаторыя дэпутаты-камуністы ад нечуванай тэмы апынуліся ў стане псіхічнага паралічу. Ім здавалася, што сьвет (іхны сьвет, створаны імі) пачынае валіцца, яны ня ў стане былі ўспрымаць новую рэальнасьць. Пры галасаваньні камуністы дружна завалілі наш праект.

Але неўзабаве, менш чым праз месяц, прыняць падобную дэкларацыю ім рэкамендавала Масква. Гэта было няўклюднае палітыканства М. Гарбачова – прыняцьце ў савецкіх рэспубліках фармальных пустых дэкларацыяў аб суверэнітэце, і потым на гэтай падставе абнавіць Савецкі Саюз, заключыць новую саюзную дамову і зачыніць такім чынам (як у Маскве спадзяваліся) пытаньне аб незалежнасьці.

Дэпутаты-фронтаўцы аднак выдатна скарысталі гэтую ініцыятыву Гарбачова. Яны дружна пайшлі працаваць у парляманцкую камісію па падрыхтоўцы праекта дэкларацыі і склалі добры патрэбны тэкст, які ўдалося ў асноўным адстаяць у няроўнай барацьбе з камуністычнай парляманцкай большасьцю і прыняць (дакладней, прымусіць камуністаў прыняць) неабходны для Беларусі дакумант. Пры гэтым нам прышлося ўжываць розныя мэтады і прыёмы парляманцкага ўзьдзеяньня: дыскусіі, прапановы, уплывы, вэрсіі, контравэрсіі і незразумелую для камуністаў псіхалягічную тактыку (аж да імітацыі абструкцыі і выхаду з залі). Урэшце Апазыцыя БНФ свайго дамаглася: не дазволіла выхаласьціць тэкст і падштурхнула апанэнтаў яго прыняць у прынцыпе на аснове фронтаўскіх палажэньняў. (Пра гэта гл. *Зянон Пазьняк. “Дэкларацыя -- першы крок да незалежнасьці.” – Варшава, Нью-Ёрк, Вільня, 2010 г.; Сяргей Навумчык “Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995). – Варшава-Прага, 2006 г., стар. 29-38*).

Дэкларацыя сыграла вялікую ролю ў падрыхтоўцы незалежніцкага думаньня ў грамадзтве. Людзі сталі абмяркоўваць тое, што пры бальшавіках было забаронена. Станавілася відавочным, што рэальная незалежнасьць Беларусі – гэта толькі пытаньне нядоўгага часу.

**2**

У жыцьці ў мяне было шмат падзеяў і перажываньняў, якія ўрэзаліся ў сьвядомасьць назаўсёды. Але сярод іх 25 жніўня – гэта зьява надзвычайная, бо азначала (як мне здавалася) ажыцьцяўленьне сэнсу існаваньня тут, у гэтым сьвеце, у Беларусі. Ведаю, што гэта ня толькі асабістае ўспрыняцьце. Так адчуваюць многія з нас, дэпутатаў Апазыцыі Народнага Фронту.

Калі зараз пачынаеш аналізаваць ходу ўсёй нашай 200-гадовай гісторыі пад расейскім заборам, то бачыш, што ў жніўні 1991 года на працягу некалькіх дзён стварыліся ўнікальныя магчымасьці свабоды. Таталітарная імпэрыя (СССР) дала

слабіну, трэснула ва ўнутранай барацьбе за ўладу. Трэба было імгненна і рашуча скарыстаць гэты час, пакуль зьвер не апамятаўся. Дзеля гэтага патрэбна была разумная, арганізаваная і легітымная сіла, якая мела права вырашаць. Усе краіны (Эстонія, Латвія, Летува, Украіна і інш.), што мелі такую сілу, скарысталі момант. Скарысталі момант і мы. Аднак у нас шанец быў найменшы, практычна, яго амаль не было. Дэнацыяналізаванае грамадзтва, антыбеларуская, антынацыянальная камуністычная партыя ўлады (ва ўсіх астатніх краінах кампартыі не былі цалкам антынацыянальнымі) і суадносіны сіл нацыянальнай свабоды і камуністычнай рэакцыі раўняліся ў нас у парляманце, як адзін да дзесяці. Вось такія зыходныя дадзеныя барацьбы.

Усялякая логіка і арыфметыка паказвала, што франтальнае змаганьне (нават ва ўмовах страху і разгубленасьці апанэнтаў пасьля правалу камуністычнага путчу) прывядзе да паразы, усялякае камбінатарства, дыпляматыя і кампрамісы – тым больш – да ганебнай паразы. Нельга перамагчы ў парляманце, калі суадносіны 1 супраць 10. Быў толькі адзін шлях і правільнае выкарыстаньне моманту – гэта атака на іхны страх, дэманстрацыя рашучасьці і сілы, і адначасна – імкненьне перацягнуць бальшыню на свой бок хоць на момант, хоць на кароткі час (бо патрэбныя былі галасы), каб здабыць галоўнае – незалежнасьць краіны. Магчымасьць свабоды вісела ў паветры. Ад выбару тактыкі тут залежыла амаль усё. І галоўнае было – не нарабіць памылак.

Сухая стэнаграма не перадае ні эмоцыяў, ні атмасфэры, ні таго напружаньня, якое існавала ў залі. Шмат падзеяў і заяў, якія не фіксаваліся праз мікрафон як выступы, натуральна, у стэнаграме таксама не адлюстраваныя (я не кажу ўжо пра напружаную кулуарную працу, дыскусіі, размовы, абмеркаваньні).

Не перадае стэнаграма таксама вельмі важнага, менавіта: тону размовы, асаблівай афарбоўкі выступаў, якія ў эмацыйных абставінах маюць значэньне. Натуральна, не адлюстравана тое, што гаварылася без мікрафона але ўплывала на агульныя паводзіны.

Затое ў стэнаграме добра відаць форма і этыка дыскусіі паміж ярымі апанэнтамі, частка якіх усяго пару дзён таму рыхтавала наручнікі, закратаваныя вагоны і расстрэлы для іншай часткі дэпутатаў, а некаторыя (напрыклад, камуніст Міхаіл Жэбрак) нават у вочы казаў, што нам, фронтаўцам, ужо канец, і будзе расправа. (Дарэчы, зьвернем увагу на ягоны выступ за незалежнасьць у канцы сэсіі, пасьля перамогі нашай тактыкі.) Стэнаграма адлюстроўвае ветлівую, паважлівую дыскусію (у рэальнасьці – зацятых ворагаў). Ні аднаго зьняважлівага слова, ніякіх абразаў, нянавісьці ці, тым больш, грубасьці не было; зварот да кожнага, нават самы рэзкі і крытычны, суправаджаўся словамі “шаноўны”, “паважаны”, “вельмі шаноўны” і г. д. Там, дзе трэба, там была падзяка ці прабачэньне. Нават у эмацыйных выкрыках і абвінавачваньнях “без мікрафонаў” у пачатку сэсіі, ці ў час недапушчэньня на трыбуну сакратара ЦК КПБ А. Малафеева, не прагучэла ніводнай асабістай абразы ці грубых вульгарных словаў (хаця дэпутаты часам ня тое, што крычалі, але раўлі).

Напружаньне і эмоцыі трымаліся ў пэўных рамках, не пераступалася мяжа прыстойнасьці. Зрэшты, так было заўсёды, і абумоўлена яно, перш за ўсё, агульным узроўнем звычаёвай культуры ў нашай краіне. Другое – гэта было абумоўлена нашым асаблівым апазыцыйным клопатам пра дачыненьні. У парляманце, дзе нас дзясяткі, а камуністаў сотні, перамагчы іх у нечым можна было толькі іхнымі ж галасамі. Таму жорсткая (але не зьняважлівая) крытыка ў парляманце і паважлівыя асабістыя адносіны ў кулуарах – такі быў прынцып нашага існаваньня і працы ў палітычна варожым дэпутацкім асяроддзі. Мы за гэтым сачылі і самы сябе кантралявалі.

Аднойчы, напрыклад, адзін наш вясёлы дэпутат публічна ў залі кінуў рэпліку зь месца, цытуючы Маякоўскага (“ и не повернув головы качан”) ў дачыненьні да вельмі рэакцыйнага і злоснага ветэрана-камуніста, прозьвішча якога было “Качан” і які нечага ня мог уцяміць, гаворачы нам насуперак. Камуніст пакрыўдзіўся і залямантаваў: “Как не стыдно, а ещё образованный чаловек”. Памятаю, што ў залі я толькі паглядзеў на калегу, і той зразумеў – тут жа падышоў да М. Качана і папрасіў прабачэньня.

У палітыку нельга ісьці з бытавымі замашкамі. Мы не павінны былі мець сярод гэтай палітычна варожай масы яшчэ і асабістых ворагаў. Адносіны на ўзроўні асобаў мусілі быць ветлівымі і людзкімі. І гэта шмат дапамагала нам у палітычным змаганьні (як кажуць, трэба ведаць беларусаў).

3

19 жніўня, у першы ж дзень маскоўскага праімпэрскага путчу, Апазыцыя БНФ вывела людзей на плошчу перад Домам ураду. Мы запатрабавалі ад кіраўніцтва ВС і Саўміну, старшыні КДБ і Міністра ўнутраных спраў выкананьня Канстытуцыі і законаў, заявілі аб неабходнасьці скліканьня нечарговай сэсіі аб прыняцьці Незалежнасьці. Тры дні на наш заклік тысячы людзей выходзілі на плошчу пад Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі, пашыраліся ідэі супраціўленьня камуністычнай рэакцыі, гуртаваліся вайскоцы, якія падтрымлівалі ідэі і палітыку БНФ.

Камуністычны путч у Маскве праваліўся раптам на трэці дзень (21 жніўня). За гэты час ЦК КПБ і некаторыя іншыя партыйныя структуры і асобы ўжо засьведчылі сваю падтрымку ГКЧП. Адчувалася, што ў Беларусі ідзе падрыхтоўка, намэнклятура не хавала сваёй узбуджанай радасьці. Яшчэ дзень-два, і яны б выявіліся ўсе, падтрымалі б ГКЧП дзеяньнямі. Але тут раз – і канец, правал, жорсткія заявы і ўказы Ельцына і Гарбачова адносна КПСС і путчыстаў, арышт закапёршчыкаў перавароту, самагубства Пугі* і г. д. А ў Менску – мітынгі БНФ, заклікі некаторых людзей граміць ЦК КПБ, патрабаваньне тэрміновага скліканьня надзвычайнай сэсіі Вярхоўнага Савета. Ня дзіва, што камуністычнай намэнклятуры стала млосна ад страху і невядомасьці.

Наша барацьба за тэрміновае скліканьне надзвычайнай нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савета – гэта цэлая гісторыя. Дзейнічаць трэба было вельмі хутка, пакуль камуністы ў Беларусі не апамяталіся і ў Маскве што-небудзь не перамянілася. Шушкевіч мямліў. Рашэньне аб скліканьні надзвычайнай сэсіі было прынята Прэзідыумам Вярхоўнага Савета пад нашым ціскам. Сэсію прызначылі на 24 жніўня. (Старшыня Вярхоўнага Савета М. Дземянцей і апаратная намэнклятура не хацелі хуткага збору).

На сэсію яны, аднак, прыехалі даволі дружна, з апушчанымі галовамі і разгубленымі тварамі. Некаторыя храбрыліся, імкнуліся ўдаваць, што нічога ня здарылася.

Задачы перад намі былі ня тое, што складаныя, -- незвычайныя. Трэба было дамагчыся, каб Вярхоўны Савет зацьвердзіў прапанаваны намі парадак дня; трэба было прыняць дакуманты, якія мы падрыхтавалі (а мы за суткі напісалі 14 законапраектаў, пастановаў і заяваў), адправіць у адстаўку старшыню Вярхоўнага Савета М. Дземянцея, яго намесьніка В. Шаладонава і ўвесь Прэзыдыюм, спыніць дзейнасьць кампартыі ў Беларусі і абʼявіць незалежнасьць краіны праз наданьне Дэкларацыі аб суверэнітэце статусу Канстутыцыйнага закона. Дзеля гэтага мы мусілі зрабіць дзьве рэчы: зламаць волю намэнклятуры (выкарыстаўшы ейны страх і шокавы стрэс пасьля правалу путча), каб забараніць кампартыю іхнымі ж галасамі; потым – перацягнуць іх на свой бок, каб абʼявіць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі як агульную неабходнасьць і агульную справу.

Саюзьнікамі тут у нас былі дэпутаты Дэмклюба, некаторыя “незалежнікі” і дэпутаты-“перабежчыкі”. Усяго разам з намі – каля 80-85 асобаў. Гэта менш, чым адна трацiна (усіх дэпутатаў – 345, зарэгістравалася на сэсіі– 267). За астатнія галасы, волю і сьведамасьць дэпутатаў трэба было змагацца.

У залю мы ўвайшлі з нацыянальным Бел-Чырвона-Белым Сьцягам (несьлі Г. Сямдзянава, потым В. Голубеў, які паставіў яго ў Прэзыдыюм Сэсіі). Камуністы пачалі абмяркоўваць месца для Сьцяга і галасаваць супраць. Каб не даць намэнклятуры збочыць ад галоўнай тэмы Сэсіі, мы тут жа прынялі Сьцяг з Прэзыдыюма і зьмясьцілі яго ў залі ў нашым 1-м сэктары. (“Нічога, мы пачакаем”, -- сказаў я тады камуністам.)

Мы адразу паставілі пытаньне аб адхіленьні М. Дземянцея ад вядзеньня сэсіі і аб перадачы гэтай функцыі Першаму намесьніку С. Шушкевічу.

Тут узьняўся ярасны шквал крытыкі, абвінавачваньняў Дземянцея (які падтрымаў ГКЧП) і ўсяго Прэзыдыюма. (У стэнаграме гэта, натуральна, не адлюстравана.) Крычалі без мікрафону з розных канцоў залі, але "дэцыбэлы" вытвараліся такія, што і мікрафоны былі непатрэбныя. Дземянцей, як партыйны апаратчык прывучаны да біцьця, нэрвова тузаючыся, вытрымаў атаку, але на іншых намэнклятуршчыкаў яна падзейнічала адпаведна (нагнала яшчэ больш страху). Тым больш, што яны добра ведалі абставіны ў краіне пасьля путча, а на плошчу перад Вярхоўным Саветам БНФ вывеў дзясяткі тысячаў людзей, якія патрабавалі трансьляцыі на плошчу і дапусьціць прадстаўнікоў ад плошчы ў залю сэсіі (патрабаваньні былі задаволеныя).

Прыступілі да фармаваньня парадку дня сэсіі. Пачалі засьведчваць сваю пазыцыю так званыя дэпутаты-"перабежчыкі", якія раней памоўчвалі альбо пагаджаліся з камуністамі. Асабліва пафасна адзначыўся наш беларускі касманаўт генэрал Уладзімер Кавалёнак. Прадстаўляючыся, ён назваў сваю парлямацкую прыналежнасьць так: "Ад Апазыцыі!". І аб'явіў, што ён вышаў з шэрагаў КПСС. Усе ведалі, што ён у Апазыцыю не ўваходзіў. Але гэты трук успрынялі апладысмэнтамі. На зьбянтэжаных камуністаў выбар Кавалёнка падзейнічаў прыгнечана і злавесна.

Тут, адыходзячы крыху ўбок, растлумачу, што Кавалёнак тады з'арыентаваўся хутка, дакладна і рашуча, пачаў нават у перапынках хадзіць на плошчу разам з намі і размаўляць зь людзьмі. А аднойчы, ідучы з гатэлю ў добрым настроі пасьля абеду, Кавалёнак збочыў да людзей, папрасіў у нейкага Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і дэманстратыўна ўвайшоў зь ім у залю. Кур'ёзам стала тое, што выпадкова ён ўвайшоў у дзьверы разам з Інэсай Драбышэўскай і Аляксандрам Лукашэнкам. Лукашэнка якраз у гэты час ужо зразумеў, што справа йдзе да аб'яўленьня незалежнасьці і голасна адмовіўся ўдзельнічаць у сэсіі (адлюстравана ў стэнаграме). Ён прагаласаваў толькі адзін раз супраць парадку дня сэсіі і, выступіўшы сумніўна аб суверэнітэце, больш не рэгістраваўся і не выступаў (гэта значыць, фармальна адсутнічаў на сэсіі, каб ня быць прыналежным да яе рашэньняў).

Кур'ёз яшчэ і ў тым, што пазьней, гадоў праз 10, падлыжныя журналісты, успомніўшы гэты эпізод з Кавалёнкам, напісалі, што Лукашэнка быццам бы ўнёс разам зь ім у парлямант сьцяг незалежнасьці. Магчыма, журналісты "чэсна" хацелі дагадзіць узурпатару, але атрымалася глупства.

Дэманстрацыя патрыятызму і адзінства з БНФ у рэвалюцыйным 1991-м не перашкодзіла, аднак, Кавалёнку пазьней (калі зьмянілася сытуацыя і пачалася рэстаўрацыя намэнклятурнай рэакцыі) гэтак жа голасна заявіць у Вярхоўным Савеце, што БНФ – гэта "фашызм", а фронтаўцы – "фашысты", сарваўшы бурныя апладысменты камуністычнай намэнклятуры**.

Зацьвярджэньне парадку і зьместу працы сэсіі заняло большую палову дня. Дэпутаты-камуністы не хацелі, каб Вярхоўны Савет разглядаў пытаньне пра правалены камуністычны путч у Маскве і датычнасьць да яго камуністычнага кіраўніцтва БССР. Таму нягледзячы на перапалох, супраціў быў доўгім і ўпартым (тое можна прасачыць па стэнаграме).

Мы адразу нанесьлі ўдар па самай рэакцыйнай групе намэнклятуры (30 галасоў), па так званых "ветэранах" вайны і працы (у рэальнасьці – у асноўным НКВД-КГБ), якія падтрымалі путч. Ад Апазыцыі выступіў Сяргей Навумчык і паставіў пад сумненьне факт рэгістрацыі гэтай арганізацыі. Яго падтрымаў Яўген Глушкевіч (Дэмклюб). Пытаньне стаяла, фактычна, аб выключэньні "ветэранаў" са складу Вярхоўнага Савета. (Людзі іх не выбіралі, у склад дэпутатаў яны былі ўключаны, згодна савецкага заканадаўства, па квоце ад ветэранскай арганізацыі, а цяпер стала вядома, што гэтая арганізацыя не была перарэгістраваная ў Мін'юсьце). На момант Сэсіі не было яе перарэгістрацыі. Дэпутат Генадзь Майсееў (пдпісант Апазыцыі БНФ) прапануе

ў сувязі з гэтым адкласьці галасаваньне па зацьвярджэньні новага псэўдадэпутата-ветэрана (ўзамен памерлага).

Інфармацыя выклікала жах і разгубленасьць у “ветэранскай” публікі. Становішча няўклюдна пачаў ратаваць міністар юстыцыі Л. Дашук (які сам падтрымаў ГКЧП). Урэшце Вярхоўны Савет паверыў на слова Дашуку, што рэгістрацыя існуе. Нам трэба было далей “ціснуць” гэтае пытаньне, запатрабаваць прадставіць дакуманты і г. д. Але ў працягу дыскусіі пытаньне перабілася іншымі важнымі тэмамі, і да яго больш не вярнуліся (бо была небясьпека збочыць ў сьляпы завулак  і завязнуць).

Істотную шкоду тут рабіў таксама Станіслаў Шушкевіч, які на працягу ўсёй сэсіі стараўся заблытаць, загаварыць пытаньні, пастаўленыя Апазыцыяй БНФ і адвесьці размову ў бок, пераключыць на іншыя тэмы. Ён быў вельмі актыўны ў гэтай разбуральнай працы (тое добра відаць у стэнаграме). Характэрны ягоны праём, які сінхронна падтрымліваў старшыня Камісіі па заканадаўству Д. Булахаў, -- гэта перанесьці актуальнае пытаньне на наступную сэсію. Мы часам дзіву даваліся ягонай вынаходлівасьці супраць нашай пазыцыі.

Ад камуністычнай намэнклятуры больш-менш апамятаўся толькі Міхаіл Мачуленка – другі сакратар гомельскага абкама КПБ (КПСС). Ён і ўзяў на сябе ролю нефармальнага лідэра ўсёй іхняй парляманцкай бальшыні на гэтай сэсіі. Астатнія былі разгубленыя, напалоханыя і няўпэўненыя. Сакратары ЦК КПБ В. Ціхіня і А. Камай сядзелі ціха. Ціхіня ўвогуле не падаў голасу на сэсіі.

Найбольшы супраціў Апазыцыі БНФ (прытым пасьлядоўны, амаль на працягу ўсёй сэсіі) аказалі ўсё ж дзьве асобы: Станіслаў Шушкевіч і Дзімітры Булахаў. Шушкевіч сумбурна і шматслоўна супраціўляўся прыняцьцю нашага парадку дня сэсіі, падтрымліваў намэнклятуру і выкручваўся, як толькі мог. Асабліва абсурднай выглядала ягоная прапанова ўключыць у парадак дня пункт аб “саюзным дагаворы” у той час, калі СССР ужо, фактычна, разваліўся на нашых вачах, а дзейнасьць КПСС ужо спынілі ў Расеі. Шушкевіч разам з часткай слаба думаючай намэнклятуры гэтага яшчэ, відаць, не разумеў і клаўся касьцьмі, каб на сэсіі разглядаць і рухаць наперад пытаньне аб заключэньні новай дамовы пра СССР.

Былі моманты, калі пытаньне аб парадку дня здавалася ўжо падвісала ў паветры. Тады некалькі разоў на працягу сэсіі да мікрафона падыходзіў Яўген Глушкевіч (асоба блізкая да ідэяў БНФ, адзін з кіраўнікоў Дэмклюбу) і пагражаў, што зьвернецца да людзей на плошчы. Адзін раз нават паведаміў, што на плошчы створана нацыянальная гвардыя і “ўжо запісалася 300 чалавек”***, то каб намэнклятуршчыкі спынілі тут сабатаж сэсіі і не спакушалі лёс. Гэта дзейнічала. Тым больш, што Глушкевіч быў, як кажуць, са “сваіх” – у мінулым першы сакратар аршанскага гаркама КПБ (КПСС) і загадчык аддзелу Віцебскага абкама****.

У гэты ж час на сэсіі адбыўся даволі важны інцыдэнт, які паўплываў на паводзіны камуністаў. У пэўны момант (як мне здалося, нават без дазволу старшыні сэсіі) да трыбуны важна пасунуўся надзьмуты першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў. (Ён быў народным дэпутатам СССР і таму прысутнічаў на сэсіі. Нагадаю, што за саветамі першаму сакратару ЦК належыла, фактычна, уся непадкантрольная народу ўлада ў краіне). Дэпутаты Апазыцыі зрэагавалі імгненна, і з усіх канцоў залі з крыкамі “прэч” кінуліся яму напярэймы (і наперадзе ўсіх Галіна Сямдзянава). Малафееў падтрымаў ГКЧП і рыхтаваў путч у Беларусі. На той час ён выглядаў злачынцам, адыёзнай фігурай. Усе дэпутаты большасьці Вярхоўнага Савета паўскоквалі зь месцаў і стаялі разгубленыя. Да рукапашнай, дзякуй Богу, не дайшло. Да Малафеева нават не дакрануліся, але з трыбуны сагналі, і ён рэціраваўся.

Вось тут у намэнклятуры адбыўся яшчэ адзін істотны надлом. Іхняга, такога недатыкальнага, важнага вярхоўнага начальніка пагналі з трыбуны, як цюцьку, ці як бамжа, і ён патаптаў на сваё масца. Увесь аўтарытэт і вага яго тут жа зьнізіліся ў гэтай сытуацыі ў іхных вачах амаль да нуля. Яны ўбачылі, што ніякай абароны і ніякага заступніцтва ня будзе. (Дарэчы, калі б мы бесперашкодна дапусьцілі выступ у Вярхоўным Савеце вярхоўнага начальніка намэнклятуры, які абвінавачваецца ў

галоўным злачынстве, то, не сумняваюся, вельмі ўскладнілі б сабе далейшую барацьбу на сэсіі. Намэнклятура, адчуўшы падпорку, магла б пачаць больш актыўна і неразважна ўсёй сваёй масай супраціўляцца.)

Ні Шушкевіч, ні Булахаў, аднак, не ацанілі належным чынам гэтага ўдару па камуністах і працягвалі надалей заблытваць пытаньне і тапіць нашыя прапановы па парадку дня. Булахаў плёў розную надуманую юрыдычную казуістыку (якая ня мела ніякага значэньня ў тых палітычных абставінах), а Шушкевіч вар'іраваў свае дэмагагічныя прыёмы, паўтараючы пра "згоду" усіх у Вярхоўным Савеце (у пытаньнях, дзе згоды на магло быць). Практычна, атрымлівалася, што Шушкевіч сходу і р'яна адстойваў пазыцыю камуністаў (сутнасьць якой была – захавацца ва ўладзе)

Абгрунтаваньне прапаноў па парадку дня ад Апазыцыі БНФ і крытыку супраціву намэнклятуры па даручэньні фракцыі зрабіў Валянцін Голубеў. Змаганьне з камуністамі на Сэсіі – гэта была барацьба логікі з дэмагогіяй.

Асабліва ярасны супраціў пазыцыі Фронту праявіўся пры абмеркаваньні пытаньня аб увядзеньні ў парадак дня праекта канстытуцыйнага закона аб наданьні Дэклярацыі аб суверэнітэце статуса канстытуцыйнага закону. Вядучую ролю апанэнта тут зноў прадэманстраваў С. Шушкевіч. Супраціўляючыся разгляду пытаньня пра незалежнасьць, ён пераўзыходзіў часам самога сябе. "Гэта на мяжы бязглузьдзіцы, -- нэрваваўся Шушкевіч, -- наданьне канстытуцыйнага статуса Дэклярацыі БССР – гэта пярэчыць самой Дэклярацыі!" І далей: "Адразу надаць канстытуцыйны статус – гэта проста немагчыма. Мы зробім хаос у нашай дзяржаве." (Стар. 7, 13 -- бюлетэнь 2).

Нам тады не было часу думаць аб матывах ягоных такіх паводзінаў, трэба было змагацца зь яго пазыцыяй. Шматслоўны і актыўны супраціў Шушкевіча статусу незалежнасьці часам прымаў нейкія адчайныя формы. Ён пачынаў гаварыць несусьветныя глупствы, ні трохі не праймаючыся адмоўнымі ацэнкамі, сьмехам і кпінамі ў свой адрас. Вось, напрыклад: "Паважаныя народныя дэпутаты! Я хачу ўнесьці як намесьнік Старшыні такую прапанову. Давайце ўключым пункт, у гэтых жа дужках, аб паскарэньні, аб мерах па паскарэньні рэалізацыі палажэньняў Дэклярацыі. Бо аб наданьні канстытуцыйнага статуса – гэтага нельга ўключаць. А паскараць рэалізацыю Дэклярацыі трэба." (Стар. 13 -- бюлетэнь 2).

"Як можна паскараць прававы акт? – Зьдзекваліся з такой прапановы дэпутаты-юрысты. – Яго трэба рэалізоўваць" (Стар. 20 -- бюлетэнь 2). "Прапанова дэпутата Шушкеаіча абсалютна непрыймальная, -- суха канстатавалі дзіўную прапанову іншыя дэпутаты. – Гэта тое самае, што галасаваць за ўсход сонца ў шэсьць гадзін раніцы". (Стар. 16 -- бюлетэнь 2).

(Увогуле ў той час (1990-1991 гг.) С. Шушкевіч быў гэтакім сумбурным непрымальнікам незалежнасьці Беларусі. У інтэрв'ю для друку казаў, што незалежнасьць гэта "жарт" (*"Навіны БНФ "Адраджэньне", 3, 1991*), стараўся падтрымліваць дэмагогію М. Гарбачова і пры аказіі ўкалоць БНФ, які выцягнуў яго ў палітыку і на вяршыню ўлады.)

Улічваючы, што добрая палова камуністычных дэпутатаў слаба арыентавалася ў канстытуцыйнай сытуацыі, гэтакае гаварэньне з трыбуны кіраўніцтва Вярхоўнага Савета было вырабленай прапагандай супраць незалежнасьці. Нават некаторыя разумнейшыя намэнклятуршчыкі не ўспрымалі такой таннай дэмагогіі.

Дэпутат Уладзімер Гаркун, напрыклад, выразна сказаў, што пытаньне пра канстытуцыйнасьць Дэклярацыі трэба ўключаць у парадак дня. Дарэчы, калі меркаваць па вазе ўплыву, то слова Гаркуна было важнейшым за ўвесь слоўны сэрпантын Шушкевіча, бо Гаркун быў для намэнклятуры "свой", а Шушкевіч – толькі абслуга, чужак, які падладжваецца.

Словам, незаўважна для Шушкевіча і Булахава, лёд скрануўся, маса прыгнечанай намэнклятуры здрыганулася, імпэт асобных супраціўленцаў і актывістаў вычарпаўся, і неўзабаве мы іх даціснулі, парадак дня быў, нарэшце, прыняты ў значнай ступені такі, на якім настойвала Апазыцыя БНФ.

Зноў узьнікла пытаньне пра адстаўку Дземянцея, задэкляраванае намі ў самым пачатку сэсіі. Дземянцей не павінен быў весьці паседжаньне Вярхоўнага Савета. Функцыі сьпікера мусіў узяць на сябе першы намесьнік С. Шушкевіч.

Выступаючы з гэтым патрабаваньнем і бачачы імпэт Шушкевіча супраць нашай палітыкі і ягоныя стараньні на карысьць намэнклятуры, мы разумелі безвыходнасьць становішча. Іншых рэальных варыянтаў не было. Дземянцей не павінен быў застацца на пасадзе. І тут мы пайшлі б на ўсё. Нават запрасілі б у залю народ з плошчы, каб людзі вынесьлі яго, абшчыпанага, на руках, бо інакш мы на сэсіі не перамаглі б*****. Справа ня ў "шэрай" асобе Дземянцея і яго экзатычным словаблудзтве (у стэнаграме ягоныя сумбурныя выступы папраўленыя і пачышчаныя, відаць, па просьбе самога Дземянцея. – *З.П.*) Справа ў яго палітычнай віне і няўхільнасьці расплаты. Расплата павінна была адбыцца. І гэта стала б дэманстрацыяй нашай сілы перад напалоханай намэнклятурай. Інакш мы іхнюю масу маглі б не зламаць.

Так што замена Дземянцея на Шушкевіча гэта не была замена "быка на індыка", а неабходны крок для ажыцьцяўленьня перамогі, што б там Шушкевіч ні вытвараў. (Яго, дарэчы, намэнклятура за "свайго" не ўспрымала, як ён перад ёй ні слаўся. У будучыні, аднак, мы атрымалі ад ягонага сьпікерства такі галаўны боль, ад якога яшчэ і нашчадкі збавіцца ня могуць.)****** Шушкевіч быў тыповай кампраміснай фігурай паміж двух агнёў: БНФ і КПСС. Сытуацыя барацьбы паміж Фронтам і КПСС вынесла Шушкевіча наверх ("без лишней драки попал в большие забияки"). Апынуўшыся на вяршыні ўлады, Шушкевіч ухітрыўся так залезьці пад скуру адным і другім, што праз нейкі час ганебна страціў сваю пасаду. Але вернемся да Сэсіі Незалежнасьці.

На М. Дземянцея ціснулі, каб сам пакінуў пасаду. Ён упарціўся, як толькі мог, хаця ўжо, як я пісаў, здрыганулася нешта ў залі. Для мяне паводзіны Дземянцея былі добра зразумелыя, ведаючы яго сэрвільную натуру і камуністычныя парадкі ў сістэме партыйнай улады. На старшыню Вярхоўнага Савета яго прызначыла і правяло Бюро ЦК КПБ (як звычайна гэта рабілася за саветамі), і Дземянцей ня мог самавольна адмовіцца ад пасады бяз санкцыі партыйнага начальства.

Атмасфэра ў залі зноў накалілася да мяжы. Упартасьць Дземянцея ўжо ламала цярпеньне апазыцыйных дэпутатаў. Зьявіліся нават ідэі падзяліць Вярхоўны Савет і стварыць паралельны. Актыўны Глушкевіч у чарговы раз пристрашыў намэнклятуру: "Калі мы ня вызначымся напрацягу гэтых дзьвюх гадзін (гэта значыць, да перапынку – *З.П.*), паралельная структура будзе створаная. Зараз ужо фармуецца нацыянальная гвардыя... Мы абяцалі народу парадак, але далей так існаваць мы ня будзем. Думайце!" Пра гэта ж казаў В. Голубеў, С. Антончык і іншыя дэпутаты Апазыцыі.

Мне таксама на працягу Сэсіі пастаянна прыходзілася выступаць і ўкліньвацца ў розныя пытаньні, ведаючы, што намэнклятура будзе ўважна прыслухоўвацца, каб лепш зразумець, чаго мы хочам і што будзем рабіць.

Зусім зьбянтэжыў намэнклятурных сакратароў і апаратчыкаў выступ аднаго зь іх, які паведаміў, што толькі што на плошчы адбылося "физическое насилие" над сакратаром ЦК КПБ дэпутатам таварышам В. Ціхінем. Па яго словах, людзі Ціхіню зьбілі. Мы ўсе пра гэта нічога ня ведалі і маўчалі. Па залі прабег шум, нібы трывожны ветрык. Нехта спрабаваў абурацца, нехта пачынаў круціцца. Сытуацыю праясьніў Сяргей Навумчык, які супакоіў намэнклятуру тым, што ніхто Ціхіню, маўляў, ня рушыў, яго проста абплявалі.

Гэта была праўда. Калі Ціхіня ішоў у Вярхоўны Савет, на яго кінуліся нястрыманыя людзі, каб адлупіць, але дружыньнікі Фронту, стаўшы ланцугом і ўзяўшыся за рукі, не дапусьцілі расправы. Тады на Ціхіню пачалі здалёку пляваць, і сакратару ЦК крыху з таго дасталося.

У сваім выступе ад Апазыцыі напачатку сэсіі я канстатаваў, што камуністычная намэнклятура вядзе да зрыву пытаньняў, пастаўленых на сэсіі, і заклікаў людзей і ўсе прадпрыемствы Беларусі рыхтавацца да ўсеагульнай забастоўкі.

Тое ж ад страйкама пацьвердзіў Сяргей Антончык. Гэта ўсё вісела над абставінамі ў залі.

Патрэбны быў тэрміновы перапынак і кулуарныя перамовы, бо абстаноўка імкліва нагняталася, і разумнейшыя намэнклятуршчыкі шукалі выйсьця.

5

Пасьля перапынку, перамоваў і кансультацыяў было аб'яўлена, што Дземянцей ідзе ў адстаўку сам. Усё стала зразумелым. Дземянцея здалі, і маса пачала трашчэць. Тым ня менш, ні Шушкевіч, ні Булахаў яшчэ не зразумелі, відаць, што намэнклятура пачала франтальна адступаць, і працягвалі блытаць пытаньні. (Дарэчы, без рашэньня Малафеева Дземянцей ня здаўся б, і вопытныя намэнклятуршчыкі гэта разумелі.)

Дземянцею далі апошняе слова. Гэта было "нешта". Гучэў такі крыклівы сумбур, якога рэдка даводзілася чуць*******. У пэўным моманце ён пачаў быў узбуджаць у прысутных жаласьць да сваёй асобы, казаў, што ваяваў у партызанах і ў 14 гадоў быў паранены ў нагу, закасваў нават калашыну і паказваў усім голую лытку. (Нехта зь нездаволенай ветэранскай намэнклятуры пры гэтым бурчэў, што ў 14 гадоў "гэта яго сабака за лытку абарваў, смаркача".)

Пасьля выдаленьня Дземянцея з кіраўніцтва Вярхоўнага Савета мы спрабавалі яшчэ зьняць В. Шаладонава і ўвесь Прызыдыюм, але тое ўжо мела меншае значэньне. Гэтыя задачы не ўдалося давесьці да завяршэньня. Вярхоўны Савет прыступіў да палітычнай ацэнкі путчу і датычнасьці да яго кіраўнікоў КПБ (КПСС) у Беларусі. Потым перайшлі да пытаньня аб забароне ў Беларусі дзейнасьці КПБ (КПСС).

Як толькі С. Шушкевіч пераняў чыннасьці сьпікера, ён адразу выказаў шэраг блытаных прамоваў пра згоду, дэмакратыю і канстытуцыйны парадак, сказаў пра свой сорам за ўсіх дэпутатаў, што не далі выступіць першаму сакратару ЦК КПБ А. Малафееву і неўзабаве запрасіў яго на трыбуну.

Апазыцыя БНФ выйшла з залі. Але нас ужо другое зьяўленьне Малафеева не бянтэжыла. Дземянцей зьняты, пералом абазначыўся, і сагнаны раней Малафееў цяпер, як кажуць, "ня той герой", каб нешта паправіць. Ды і сам ён добра такі ператрусіўся. Сытуацыя ўжо пахілілася ў наш бок. Акрамя таго некаторыя члены Прэзыдыюма пасьля перамоваў прасілі мяне даць магчымасьць (не парашкаджаць) выступіць Малафееву, каб пасьля зьняцьця Дземянцея ён праясьніў становішча КПБ, казалі, што ён, маўляў, падтрымае незалежнасьць і зьбіраецца адступіць. Я адказаў "па кітайску" (што мы не пагаджаеся на выступ і пакінем залю). Зрэшты, нядрэнна было б і даведацца як зьбіраецца "адступаць" КПБ.

Як аказалася, прамова Малафеева (нягледзячы на спробу выглядаць салідна) – гэта была ўжо цяпер праграма капітуляцыі, якая толькі ўзмацніла нашыя пазыцыі, бо стала знакам для капітуляцыі намэнклатуры. Па-першае, Малафееў вымушаны быў наступіць на "горла ўласнай песьні" і некалькі разоў сказаў, што Беларусь "ідзе да сваёй самастойнасьці". Напярэдадні нашай сэсіі Міхаіл Гарбачаў заявіў пра роспуск КПСС, і, каб ўратаваць скуру, Малафееў агучыў наступнае: "Учитывая то обстоятельство, что республика начинает приобретать свой суверенитет не на словах, а на деле, мы сегодня посоветовались с партийным активом и пришли к выводу, что компартия республики должна выйти из КПСС". Далей ён сказаў пра пляны зьезда, на якім павінны быць прыняты праграма і статут новай камуністычнай партыі ў Беларусі.

У заключэньне, разумеючы, што камуністам канец, ён гэтак салідна паведаміў, што трэба пайсьці насустрач і падтрымаць дэпартызацыю на прадпрыемствах і ўстановах. Сказаў пры гэтым, што ён "совершенно чист перед людьми", і важна аддаліўся.

І ўся б гэтая ілюзія прыстойнасьці, магчыма, пры ім і засталася, калі б вострая на язык Г. Сямдзянава не сапсавала яму ўсю "абедню". Улучыўшы момант, яна паведаміла дэпутатам гэтакім варкуючым голасам: "Я хачу скласьці свае прабачэньні спадару Малафееву ў сувязі з тым, што я стала на трыбуне грудзьмі на яго абарону. (Гэта калі праганялі Малафеева, і Сямдзянава першая. -- *З.П.)* Я думала, што ён, як

прыстойны чалавек, вырашыў на трыбуне пакончыць жыцьцё самагубствам, як робяць прыстойныя людзі ва ўсім сьвеце. А ён аказваецца, хацеў аб'явіць аб тым, што пераходзіць у іншую партыю. Таму я лічу, што мы павінны даць прынцыповую ацэнку і абавязкова забараніць дзейнасьць злачыннай арганізацыі ў рэспубліцы."

Малафееў пачынае сапсьці і няўцямна глядзець на Сямдзянаву. У гэты час узьвіўся, як вуж, Міхаіл Мачуленка: "Я категорически протестую против выпадов, против глумления над личностью, а тем более народного депутата СССР товарища Малофеева. И прошу вас, Станислав Станиславович, выдворять авторов подобных выпадов за пределы этого зала."

Тут дэпутат-поп, інтэлектуал і віція Віктар Радамысьльскі******** (выступаў на баку Апазыцыі БНФ) і кажа яму гэтак збоку, што "вздор говорите, уважаемый депутат Мачуленко. Никто не может ни выдворить, ни арестовать, ни даже дотронуться до народного депутата, согласно закона".

"Уважаемый духовный отец! – зазьвінеў звонкім голасам Мачуленка. – Вы бы вообще не занимались политикой."

Усё гэта паказвае, як намэнклятуры і яе нефармальнаму лідэру на сэсіі Мачуленку пачалі здаваць нэрвы, як іхныя рэакцыі і выпады рабіліся ўсё больш неадэкватнымі і роспачнымі.

Пры разглядзе пытаньня аб КПБ выявілася, што ў яе нават няма статута, і яна не зарэгістраваная ў Мін'юсьце, а значыць дзейнасьць яе незаконная. Гэта стала сюрпрызам нават для партыйнай намэнклятуры, і зваліла іх, як сказаў бы сьвятар Радамысьльскі, "в уныние". (Трымаючы ў руках абсалютную ўладу, навошта ім быў той статут і Мін'юст. Аж аказалася, што трэба было.)

Здаецца, ужо ўсе ўбачылі, што надыходзіць катастрофа для КПБ. Усе, акрамя, як ні дзіўна, Шушкевіча і Булахава. Аднак у пэўным моманце іхняя палавіністая пазыцыя тут ужо перастала ўплываць.

Адзіную сур'ёзную саступку, якую нам прышлося зрабіць, гэта замяніць у фармулёўцы слова "спыніць" на слова "прыпыніць", а потым, з падачы Шушкевіча (дарэчы, у тых абставінах, талковай), на словазлучэньне "часова прыпыніць". Мы пагадзіліся, ведаючы, што тут камуністам усяроўна будзе капец (як кажуць, няма ў палітыцы больш пастаяннага, чым часовае).

Такім чынам, дзейнасьць КПБ у Беларусі, а заадно і камсамола (ЛКСМБ) была прыпыненыя ў выніку галасаваньня дэпутатамі Народнага Фронту, Дэмклюбу і самой палітычна і псіхалягічна раздушанай камуністычнай намэнклятуры.

6

Нарэшце, падышлі да сэнсавага пытаньня ўсяе сэсіі – аб незалежнасьці краіны. Яшчэ калі вырашалася пытаньне аб спыненьні дзейнасьці КПБ (КПСС), мы вялі ўсю магчымую кулуарную працу, шукаючы напалоханых "саюзьнікаў", каб неяк скруціць і пагнаць гэтую масу ў адным накірунку. Капітуляцыя Малафеева ўжо спрыяла павароту намэнклятуры да незалежнасьці. Гаварыць з Шушкевічам было бяз сэнсу, толькі трата часу, для яго незалежнасьць – гэта "новая саюзная дамова". Здавалася, што ён часам не разумеў, што тут робіцца (дакладней, разумеў нешта па-свойму). Аўтарытэтам у намэнклятуры, найперш, быў Кебіч, бо ўсе яны (іхныя вобласьці і раёны) залежылі ад фінансаваньня і ад разьмеркаваньня Саўміна. Рычаг быў моцны.

Зь Кебічам у перапынках удавалася перакінуцца толькі кароткімі рэплікамі. Ён быў заклапочаны, але настроены прыхільна, дэманстраваў думаньне пра лёс "рэспублікі" і ўлады (і, адпаведна, сябе самога). І гэта была тады не паказуха. З дзяржаўнага кіраўніцтва ён, бадай што, адзіны, які імкнуўся ацэньваць падзеі больш-менш рэалістычна.

У адным зь перапынкаў Кебіч падыходзіць да мяне, дае аркуш паперы з тэкстам і кажа: "Вось паглядзіце, можа, якія заўвагі будуць. Зьбіраемся прапанаваць Вярхоўнаму Савету". Гэта быў праект пастановы Вярхоўнага Савета падрыхтаванай

Саўмінам “Аб забесьпячэньні палітычнай і эканамічнай самастойнасьці Беларускай ССР”.

Істотных заўваг па праекту Саўміна ў мяне не было. Гэта быў патрэбны дакумант, але я западозрыў, што могуць падмяніць пытаньне аб Дэклярацыі прыняцьцем гэтай пастановы, і сказаў пра гэта Кебічу. Ён запярэчыў і запэўніў, што падтрымлівае наданьне канстытуцыйнага статусу Дэклярацыі як аснову незалежнасьці.

Падтрымка Кебіча і пазыцыя Саўміна тут была істотнай, і, безумоўна, аблегчыла нам шлях да канстытуцыйнага афармленьня незалежнасьці краіны. Прыняцьце пастановы, прапанаванай Саўмінам, паказала б дэпутатам большасьці накірунак, куды трэба ісьці. Але каб гэты накірунак канчаткова сасьпеў у іхных галовах, патрэбны быў час на добрую дыскусію.

Дыскусія, тым ня менш, была ня лёгкай. Яна ня стала для нас адным толькі пераможным шэсьцем, але крок за крокам, цаглінка за цаглінкай выбудоўвалася ўсё ж сытуацыя пераважнай падтрымкі незалежнасьці і разуменьня яе неабходнасьці. Было нават некалькі асэнсаваных выступаў з боку камуністаў.

Шушкевіч убачыў, што і камуністы, і ўрад (Кебіч) сасьпелі ўжо, каб прыняць рашэньне аб незалежнасьці. Паводзіны яго сталі больш памяркоўнымі, але пытаньня незалежнасьці ён усяроўна сур’ёзна не ўспрымаў. Пазьней, праз сем гадоў, ён будзе апраўдвацца і скажа, што, маўляў, ня верыў, што гэтае пытаньне пройдзе, што дэпутаты прагаласуюць за незалежнасьць і, што калі ўсё ж прагаласавалі, тое стала для яго нечаканасьцю. (Гэта ў інтэрв’ю газэце БДГ ад 27 ліпеня 1998 года, цытату зь якога прыводзіць у адным з артыкулаў Сяргей Навумчык: *Сяргей Навумчык-Зянон Пазьняк. Дэпутаты Незалежнасьці. – Варшава, Нью-Ёрк, Вільня, 2010 г., стар. 116-117*.)

Аднак гэта ўжо пазьнейшае апраўданьне. На справе выглядала інакш. Шушкевіч і ў канцы сэсіі быў не зацікаўлены, каб станоўча вырашыць пытаньне пра канстытуцыйны статус Дэклярацыі аб суверэнітэце. Пасьля прыняцьця законаў аб дэпартызацыі, аб маёмасьці КПБ(КПСС) і ЛКСМБ ён кажа, што можна перайсьці да наступнага пытаньня аб “саюзным дагаворы” (пра якое так стараўся ўпачатку). Але ў залі ўжо ўсе разумелі, што разглядаць яго немагчыма, няма сэнсу, бо зьмяніліся палітычныя абставіны.

Зразумеў гэта па-свойму і Шушкевіч і раптам пачаў казаць, што “фактычна другога пытаньня парадку дня не існуе”, бо ён, Шушкевіч, ня ёсьць старшыня Вярхоўнага Савета, ня мае права падпісваць дагавор, і таму ўсё трэба адкласьці “дзеля кансультацыі ў Маскве” і г. д. і т. п., і пасьля доўгай тырады кажа: “Давайце заканчваць нашу працу”. Тады яму з залі падказваюць, што засталося галоўнае пытаньне, дзеля якога ўсе сабраліся. Тады Шушкевіч нібы прыпомніў: “Не, пачакайце, мы дойдзем да гэтага. Я проста гавару, інфармую вас”. І далей так будзённа, прыхапкам: “У нас ёсьць праект... “Аб наданьні статуса канстытуцыйнага закона Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце” і г. д.

У чым зьмест гэтага лёгкага “цырку” пра “заканчэньне працы”? Шушкевіч некалі казаў, што вучыўся сьпікерству ў тагачаснага саюзнага “сьпікера” і кручкатвора Анатоля Лук’янава (які быў, фактычна, разам з ГКЧП). Тое-сёе ў прыёмах вядзеньня сэіі Шушкевіч у яго пераняў, падыгрываў псіхалогіі апаратнай намэнклятуры.

У Менску ўжо быў вечар, дэпутаты з правінцыйнага начальства стаміліся (хутчэй бы скончыць сэсію – ды ў гасьцініцу ці дадому, ды ўзяць шкалік пасьля напругі). І таму ў некаторых ёсьць жаданьне хутчэй прагаласаваць, не ўдаючыся ў дэталі – і справе канец. Псіхалогія добра вядомая ў некаторых дэпутатаў-камуністаў. Шушкевіч гэта ведае, і як бы незнарок падыгрывае такім настроям, абуджае жаданьні.

Які вынік таго можа быць? Альбо хутчэй прагаласаваць “за”, альбо проста заваліць праект да другога чытаньня, альбо (што звычайна рабілася) адкласьці назаўтра. У любым выпадку падказкі Шушкевіча – гэта сімуляцыя нерабочай абстаноўкі, магчымасьць для маніпуляцыі.

Але на гэтай сэсіі нічога нельга было адкласьці, не існавала ніякога "другога" чытаньня. Неабходна было вырашыць задачу нацыі, вычарпаць парадак дня, нават калі б прышлося працаваць цэлую ноч.

"Лёгкі лук'янаўскі цырк" аднак працягваецца: "Вы захоўваеце гэтую прапанову?" – зьвяртаецца Шушкевіч да Апазыцыі (як быццам гэта нешта такое так сабе, што можна не захоўваць і зьняць). Далей прапаганда супраць незалежнасьці працягваецца ў той жа лук'янаўскай манеры: "Вы ведаеце, канстытуцыйная большасьць патрэбная нам. Я б хацеў зьвярнуць вашую ўвагу, што вельмі цяжка гэтае пытаньне, нават пры самых станоўчых адносінах, вырашыць..."

Гэты прыём мы заўважылі ўсе. Сяргей Навумчык (у кнізе *"Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995). – Варшава-Прага, 2006 г., стар. 62*) так ацэньвае паводзіны С. Шушкевіча: "Казаць такое было ані ў якім разе нельга, бо значная частка дэпутатаў пры галасаваньні (па любых пытаньнях) кіравалася эмоцыямі і была схільная падтрымаць пазыцыю таго, хто вёў сэсію (не істотна, быў гэта Дземянцей, Шушкевіч ці вёў сэсію нехта з намесьнікаў). Цяпер жа, пасьля двух дзён нэрвовага напружаньня, дэпутаты папросту былі стомленыя, і нехта мог падумаць: "Ну, калі гэта не рэальна, дык навошта галасаваць?" (Адсотак тых, хто не галасаваў ці "ўстрымліваўся" таксама заўсёды быў значны)".

І сапраўды, хоць атмасфэра ў залі значна палепшылася ў наш бок (у бок канстытуцыйнага абвяшчэньня незалежнасьці), тым ня менш, трэба было асьцерагацца, каб справу не ўскладнілі нейкія непрадбачаныя выпадковасьці. Нельга было дапусьціць, каб галасаваньне адбывалася праблемна, каб, скажам, не хапала б некалькі галасоў, і трэба было б нешта перафармулёўваць. Лепш за ўсё, каб галасаваньне было аднадушным.

Інтуітыўна я адчуваў гэтае напружаньне, і пасьля сумніўнага выступу Шушкевіча зразумеў: трэба тэрмінова ратаваць становішча.

Я ўсьведамляю, што неабходна рэагаваць імгненна і паставіць на карту ўсё. Выступаў экспромтам, зьвяртаючыся да ўсіх, як да землякоў, казаў пра неабходнасьць незалежнасьці Беларусі і пра тое, чаму гэта трэба вырашыць цяпер, паказваў на нязьменнасьць імпэрскай палітыкі Расеі, казаў пра ілюзію дэмакратыі ў гэтай краіне, пра прагматычную палітыку Ельцына і расейскія інтарэсы, пра небясьпеку нашаму нацыянальнаму існаваньню, калі мы самы не скарыстаем магчымасьць і ня вызначым свой лёс*********.

Мушу адзначыць, што тады ў Беларусі пра імпэрскасьць Расеі і падвойнасьць яе "дэмакратаў" яшчэ не гаварылі і нават ня думалі. Некаторыя з дэпутатаў Дэмклюбу закруцілі насамі, што ня быў мной ухвалены Ельцын (сьвятая на той час карова абстрактнай савецкай "дэмакратыі"). Але гэтая іхняя нездаволенасьць ня мела тут ніякага значэньня. Нам трэба было забраць усе галасы парляманцкай бальшыні, стварыць адзінства ў залі і завершыць змаганьне з бляскам. А ў гэтым выпадку трэба было проста ўратаваць незалежнасьць.

Фартуна, нарэшце, рэальна павярнулася да нас тварам. Пасьля майго выступу яшчэ захоўвалася нейкі час цішыня. Потым слова папрасіў М. Мачуленка. Якраз немалаважна было, што скажа ён.

"Паважаныя народныя дэпутаты! Паважаныя дэпутаты-камуністы, -- пачаў Мачуленка. -- ...Тое, што адбылося на гэтым тыдні, рэзка зьмяніла сытуацыю. І ў гэтым пляне я стоадсоткава падтрымліваю народнага дэпутата Пазьняка і прапаную тут жа, зараз жа прагаласаваць за тое, што ён сказаў..."

Імгненна ўклініўся Булахаў: "Паважаныя народныя дэпутаты, ... мы парушаем Канстытуцыю рэспублікі..."

Але працэс за незалежнасьць ужо пайшоў хваляй. У падтрымку адзін за адным сталі выступаць дэпутаты камуністычнай намэнклятуры. Выступіў Кебіч, які таксама сказаў: "Павінен заклікаць вас ... прыняць такі закон".

Сымптаматычным быў выступ дэпутата Міхаіла Жэбрака (першы сакратар Ваўкавыскага райкаму КПБ(КПСС), той самы, які ў час путчу некалькі дзён перад гэтым

зьбіраўся нас расстрэльваць). Ён сказаў гэтак: "... Калі мы сёньня ня прымем такі закон, тое, што прапануе Зянон Станіслававіч Пазьняк, то трэба прыняць тады рашэньне аб уваходзе Заходняга краю ў склад Расейскай Фэдэрацыі. Іншага выйсьця няма. І Беларусь ня будзе існаваць, таму што тады Беларусі абсалютна ня будзе. Я ў гэтым перакананы і прашу падтрымаць і прыняць гэты закон."

Нарэшце пасьля ўсяго пачутага здалося, што старшынствуючы на сэсіі Шушкевіч канчаткова ўсё зразумеў (дайшло, што ўсе за незалежнасьць), і адразу выступіў: "Шаноўныя народныя дэпутаты, я здыму некаторыя пытаньні. Я да ўчарашняга дня, як вы ведаеце, таксама лічыў, што гэта будзе неканстытуцыйнай зьявай (намёк на фразу Булахава *(-- З.П.),* што мы зробім нейкія юрыдычныя складанасьці і г. д. Але чакаць немагчыма. Таму я лічу, што неабходна прыняць не пастанову, а закон Беларускай ССР аб наданьні канстытуцыйнага статусу Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР".

Як кажуць, здаўся "апошні з магікан". У залі было вялікае хваляваньне. Яшчэ абмяркоўвалі шэраг пытаньняў, якія мы абрынулі на Вярхоўны Савет (у тым ліку і пытаньне аб дэнансацыі так званай "саюзнай дамовы" 1922 г.). Але гэта ўжо для ўсіх было зашмат (і ня так важна), і мы ня сталі настойваць, каб не загубіць дасягнутае нацыянальнае адзінства з сьмяротнымі ворагамі, партыю якіх мы перад гэтым спынілі, а яе велізарную маёмасьць забралі ў дзяржаву. Наперадзе было лёсавызначальнае гістарычнае галасаваньне.

7

Спачатку трэба галасаваць, каб прыняць праект "за аснову" з удакладненьнем, што прымаецца канстуцыйны закон. Зарэгістравана 265 дэпутатаў. Прыступаем да галасаваньня. Шушкевіча не пазнаць: "Я вельмі прашу не хвалявацца, -- сыпле ён скарагаворкай. – Прашу ўсіх народных дэпутатаў сесьці на свае месцы і захоўваць той добры парадак, які ў нас захоўваецца ўжо больш чым гадзіну" і г. д.

Прагаласавала "за" -- **253**, "супраць" -- **0**, устрымаўся – адзін, не галасавала -- **11**. Было 20 гадзін 08 хвілін**********.** Потым прагаласавалі папраўкі па пунктах і, нарэшце, галасаваньне за закон "цалкам". Зарэгістравалася -- **265** дэпутатаў. Прагаласавала "за" -- **256**, супраць -- **0**, "устрымалася" -- **0**, не галасавала -- **9**. **Было 20 гадзін 12 хвілін 25 Жніўня 1991 года.**

Што тварылася!.. Апладысмэнты, усьмешкі, воклічы, сьлёзы...

"Віншую вас, паважаныя народныя дэпутаты, віншую вас, жыхары Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі! Закон прыняты", -- сказаў Шушкевіч. (Хаця, якая "савецкая" ды "сацыялістычная", -- гамон ужо гэтаму ўсяму!)

Адразу пачалі прымаць заканадаўчую падтрымку незалежнасьці і гэтаму канстытуцыйнаму закону. Было зьменена некалькі артыкулаў Канстытуцыі БССР і падпарадкавана Пракуратура ў веданьне Беларусі. Панавала поўнае паразуменьне і настрой на мяжы эйфарыі. Самы час было прыняць праект пастановы "Аб забесьпячэньні палітычнай і эканамічнай самастойнасьці Беларускай ССР", падрыхтаваны Саўмінам. Валянцін Голубеў (адзін з каардынатараў Апазыцыі БНФ і чалавек з гумарам) устаў і перафразуючы М. Гарбачова (той любіў "раіцца" то з Палітбюро, то з народам), кажа: "Мы тут параіліся, спыталі ў Вячаслава Францавіча Кебіча і вырашылі, што трэба зараз прыняць праект, які ўнёс Савет Міністраў".

Потым выступае Кебіч і абгрунтоўвае: "Цяпер, як ніколі, ёсьць неабходнасьць прыняць Пастанову Вярхоўнага Савета аб перадачы непасрэдна ў падпарадкаваньне Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і Савета Міністраў Беларускай ССР органаў Пракуратуры, Міністэрства Ўнутраных Справаў, Камітэта Дзяржаўнай Бясьпекі і ўсёй маёмасьці, якая знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі.

Аб'явіць палітычную і эканамічную незалежнасьць і перадаць ва ўласнасьць Беларускай ССР усе прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы саюзнага падпарадкаваньня, якія знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі" і г. д.

Пасьля шэрагу ўдакладненьняў пастанова была прынята таксама аднагалосна. (**0** – “супраць”, **0** – “устрымалася”)

Мы, дэпутаты Фронту, прапанавалі ў гэтых умовах вырашыць адразу і пытаньне з назвай краіны, скасаваўшы назву БССР і назвацца – Рэспубліка Беларусь. Але гэтае рашэньне адклалі на наступную сэсію.

А ў заключэньне адбыўся акт поўнай капітуляцыі намэнклятуры і Станіслава Шушкевіча. Па яго ж уласнай прапанове была прынятая пастанова аб скасаваньні ў парадку дня сэсіі пункту аб “саюзнай дамове”, з-за якога столькі яны патрацілі сілаў, энэргіі і дэмагогіі ўчора, 24 жніўня, у пачатку сэсіі, каб уключыць гэтую сваю стратэгічную пустышку і непатрэбшчыну на разгляд Вярхоўнага Савета.

8

Нам аж ня верылася нават у такую бліскучую і абсалютную перамогу, калі супраціўленьне зышло на нулі, асабліва калі ўспомніць учарашні дзень, пачатак сэсіі і гэтую масу разгубленых чырвоных і непрыхільных абліччаў. Мы разумелі, што ўлада пакуль засталася ў іх (у савецкай намэнклятуры), але пэрспэктыва незалежнасьці і свабоды давала нам крыльлі. Трэба было хутка стварыць усе незалежныя атрыбуты дзяржавы (сымвалы, грошы, войска, амбасады, межы) і аснову вольнай нацыі (дзяржаўная беларуская мова, нацыянальная беларуская школа, прыватная ўласнасьць, дэмакратыя).

(Галоўнае было – захаваць парлямантарызм, не дапусьціць прэзыдэнцтва і каб не ўмяшалася Расея. Мы высільваліся потым у гэтым савецкім парляманце, каб адбудаваць нашую новую дзяржаўнасьць. І шмат што ўдалося. Наша дзяржава сталася. Але сілы былі настолькі няроўнымі, што праз пэўны час непрыяцелі акрыялі, парлямантарызм разбурылі, і Расея ўмяшалася. Акрамя нешматлікага авангарду беларускае грамадзтва яшчэ не гатовае было усё хутка асэнсаваць, не сасьпела цалкам для разуменьня нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі. Улада засталася ў старой савецкай каляніяльнай адміністрацыі з узурпатарам начале, палітыка стала антыбеларускай, а незалежнасьць – у небясьпецы.)

9

Калі пасьля сэсіі мы вышлі на плошчу, быў позьні жнівеньскі вечар. Мне здавалася, што перамяніўся сьвет, і ўсё ўжо цяпер новае, іншае, наша. Людзі на плошчы сьмяяліся, плакалі, абымаліся, гучэлі песьні, палілі газэты (замест паходняў).

Колькі было шчасьлівых абліччаў! Ніколі ў жыцьці я не перажываў чагосьці падобнага, ніколі не адчуваў такой радасьці. Запомніўся наш Пётра Садоўскі. Ён стаяў на трыбуне сярод плошчы ў тлуме людзей і, быццам адзін, да самазабыцьця ад шчасьця сьпяваў народную беларускую песьню...

Дзьвесьце гадоў, пакаленьне ў пакаленьне, крок у крок, сьмерць у сьмерць мы ішлі да гэтага дня. І вось ён настаў. І верылася – ужо назаўсёды. Аднак пакуль жывы зьвер (што ўжо нібы здох, “як быццам ад раны”), ніхто ня ведае, колькі яшчэ жыцьцяў і часу, і волі прыдзецца пакласьці на алтар народнай свабоды. Але крэпасьць – наша. І нікому ніколі нельга яе здаць.

*22 сакавіка 2011 г.* Зянон Пазьняк

------------------------------------------

***** Барыс Пуга – міністар унутраных справаў СССР у 1991 г. Браў удзел у камуністычным путчы. Пасьля правалу путча застрэліўся. *(-- З.П.)*

****** Філіпікі супраць Фронта былі выкліканыя тым, што Кавалёнак пасьля 1991-га прыняў расейскае грамадзянства, жыў у Маскве, у Вярхоўным Савеце Беларусі не зьяўляўся. Гэта супярэчыла Канстытуцыі краіны (і, дарэчы, прыстойнасьці). Дэпутаты Апазыцыі БНФ, згодна закону, запатрабавалі ад яго скласьці

паўнамоцтвы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь. Пасьля гэтага Кавалёнак назваў фронтаўцаў “фашыстамі”. *(-- З.П.)*

*** “Нацыянальная гвардыя” сапраўды была створаная на плошчы ў колькасьці адной тысячы чалавек. Але пазьней, пасьля абвяшчэньня незалежнасьці яна была распушчана Народным Фронтам. Удзельнікам яе прапанавалі ўступаць у БЗВ (Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў), якое было створана 20 жніўня на другі дзень путчу. Нацыянальная гвардыя арганізавалася на плошчы стыхійна, дзеля бягучага моманту. Ключавыя пазыцыі захапіла там агентура КГБ, што таўклася на плошчы між людзей і “размаўляла” ламана па-беларуску. Фронт, маючы БЗВ, не плянаваў ствараць паралельных структур і пасьля 25 жніўня ліквідаваў гэтую стыхійную самадзейнасьць. *(-- З.П.)*

**** Яўген Глушкевіч ад самага пачатку Вярхоўнага Савета трымаўся блізка каля Апазыцыі БНФ, дрэйфаваў, як кажуць, у бок дэмакратыі і нацыянал-камунізму. На “Сэсіі Незалежнасьці” у 1991 годзе займаў рашучую прафронтаўскую пазыцыю. У апошнія гады дзейнасьці Вярхоўнага Савета перайшоў на бок Лукашэнкі. Цяпер ужо не жыве. *(-- З.П.)*

***** Па нашым патрабаваньні, як ужо адзначана ў тэксьце, на плошчу была выведзена аўдыётрансляцыя сэсіі. Людзі на плошчы слухалі, што адбывалася ў залі Вярхоўнага Савета. *(-- З.П.)*

****** Маецца на ўвазе найперш паваротны 1992 год, калі Шушкевіч сыграў адказную ролю ў антызаконнай забароне рэфэрэндуму пра новыя выбары і зьмену ўлады. Улада ў выніку засталася ў намэнклятуры і ў савецкай каляніяльнай адміністрацыі. Шлях Беларусі да свабоды і дэмакратыі быў прыпынены. *(-- З. П.)*

******* У стэнаграме ягоны выступ заменены напісанай і адрэдагаванай прамовай. Ізноў жа, відаць, па ягонай просьбе. Дарэчы, дэпутаты мелі права карэктаваць у стэнаграме свае выступы і прамовы. Але мала хто гэтым карыстаўся. З дэпутатаў Апазыцыі БНФ, бадай, ніхто. Давяралі супрацоўнікам сакратарыяту ВС. *(-- З.П.)*

******** Віктар Радамысьльскі, які ўвесь час дэманстраваў прафронтаўскую пазыцыю, скончыў дрэнна, выявіўшы сваю залежнасьць ад КГБ. У 1994 годзе, у час прэзыдэнцкіх выбараў, у рашаючы момант (за дзень да галасаваньня) ён выступіў па тэлебачаньні супраць кандыдата ад БНФ. Бліскаючы залатым крыжам на жываце, падораным яму даверлівымі аўстралійскімі беларусамі, ён прамаўляў нечакана для ўсіх яго прыхільнікаў паклёпніцкія словы пра “фашызм” Пазьняка і “всего Фронта” (тыповыя ярлыкі камуністаў і КГБ), заклікаў не галасаваць за лідэра “предателей и фашистов”, які “ввергнет страну в кровь и войну” і г. д. *(Успамінаю прыблізна. -- З.П.)*

Народ адвярнуўся ад Радамысьльскага (які ў той час быў вельмі папулярны сваімі дэмакратычнымі прамовамі на мітынгах і ў парляманце). Пра здраду казалі яму ў вочы, а на вуліцы плявалі ўсьлед. Пасьля гэтага ўчынку Радамысьльскі псіхалягічна заламаўся, ніколі больш не выступаў у Вярхоўным Савеце і потым цалкам зьнік з публічнага жыцьця. *(-- З.П.)*

********* У Дадатку даем перадрук гэтага выступу, паколькі ў адбітку стэнаграмы тэкст няякасны і цяжка чытэльны. *(-- З.П.)*

********** Гэты час і першае галасаваньне зафіксаваў Сяргей Навумчык (“Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995). Варшава-Прага, 2006, стар. 64).

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І ПАЛІТЫКА

Палітыка – гэта вышэйшая сфэра грамадзкай дзейнасьці. Нічога няма вышэй палітыкі. Тут таксама трэба мець чуцьцё, “слых”, як у музыцы, ня быць “дальтонікам” і г. д. Але трэба разумець і быць гатовым (усім тым, хто змагаецца за Беларусь і сутыкаецца з маскоўскай палітыкай), што іх абкідаюць балотам, вымажуць, абгавораць, абылгуць, абвінавацяць ва ўсіх грахах, здрадзяць, магчыма, несправядліва засудзяць, пасадзяць і нават заб’юць. У дачыненьнях з Масквой – гэта звыкласьць. Нэрвы мусяць быць моцнымі. Трэба разумець, хто куды трапіў і быць падрыхтаваным да ўсяго. ***Беларуская палітыка (змаганьне за Беларусь) – гэта ахвяраваньне і пакліканьне.***

Правільнае разуменьне рэальнасьцяў барацьбы дапамагае цьвяроза перажываць удары лёсу (як для мяне – дык эміграцыю) і працягваць змаганьне. Усё, што пасьля 1994 года адбываецца ў Беларусі, трэба ацэньваць і ўспрымаць як вайну, сучасную вайну гэбоўскай маскоўшчыны зь беларускай нацыяй. Трэба разумець, што гэта вайна – на сьмерць.

Небясьпека для Беларусі ў такіх умовах месьціцца, найперш, у самой Беларусі, дзе бальшыня людзей з-за невысокай нацыянальнай сьведамасьці не разумее, што адбываецца, наўпрост ня бачыць непрыяцеля. Гісторыя сьведчыць, што калі чалавек ня стане нацыянальна відушчым, ён не асэнсоўвае нават сваё забойства. (Прыклад – Курапаты.)

Цяпер незалежнасьць і суверэнітэт Беларусі зноў у вялікай небясьпецы. У краіне імкліва разгортваецца фінансавы крызіс, штучна выкліканы адмысловай расейскай палітыкай, адкрыта рыхтуецца рэйдарскі захоп эканомікі Беларусі Масквой.

Як бы ні нішчыў, аднак, культуру і нацыю антыбеларускі рэжым, але 20 гадоў у незалежнай дзяржаве пакінулі свой адбітак у душах беларусаў. Ёсьць і своеасаблівы патрыятызм, і ўсьведамленьне выгады мець сваю незалежную краіну, і ўсьведамленьне сябе суб’ектам міжнароднай супольнасьці.

Аднак, па вялікаму кошту, апошнія 17 гадоў нацыянальна-культурнага вынішчэньня амаль што выкінуты з нацыянальнай гісторыі, ацэньваюцца як пэрыяд паўзучай нацыянальнай катастрофы, культурнае разьвіцьцё затармажана, страчаныя вялікія магчымасьці, цэлае пакаленьне.

Уся складанасьць для беларусаў у тым, што нацыянальны дом непрыяцелі разбураюць найперш знутры (па схеме ўнутранай акупацыі). Гэтай відавочнасьці не разумеюць (як правіла, і на жаль) нацыянальна неадукаваная вярхі грамадзтва, якія імкнуцца прыстасавацца да вынішчэньня.

Ад стану нацыянальнага асьветніцтва, адраджэньня нацыянальнай мовы і навядзенньня парадку ў гэтым сваім доме і будзе найперш залежыць будучыня Беларусі.

Трэба, аднак, усім выразна ўсьведамляць, што цяпер ні адно пытаньне – ні ў эканоміцы, ні ў культуры, ні ў фінансах, ні ў міжнароднай палітыцы, ні ў чым – ня будзе вырашана (і немагчыма вырашыць), пакуль нашай краінай будзе абсалютна кіраваць цёмнае варварства адной асобы. Сытуацыя зайшла ў тупік, у абсурд, у залежнасьць усяго ад аднаго начальніка, і пакуль гэты “начальнік” ня будзе адкінуты з дарогі беларускага разьвіцьця, да гэтага часу гэтага разьвіцьця ня будзе.

У Беларусі цалкам ліквідаваныя ўсе магчымасьці зьмены ўлады на ўзроўні рэжымнага заканадаўства, а функцыянальныя “люфты” сістэмы (выбары прэзыдэнта) заменены беззаконьнем, фальсыфікацыяй і ўжываньнем сілы.

Такая сістэма ўлады запраграмаваная на вайну з народам, бо зьмяніць яе можна толькі шляхам рэвалюцыі альбо фізычнай ліквідацыяй рэжыму.

Крызісы абвастраюць канфліктныя магчымасьці. Сёньня гэтая вайна паступова набывае адкрыты кшталт. Толькі адбываецца не рэвалюцыя народа, а прэвентыўнае нішчэньне народа рэжымам, які ў мэтах самазахаваньня дзейнічае на апераджэньне.

Пад нішчэньне народа падганяецца і квазі-заканадаўства сістэмы, закладваецца “законнае” абгрунтаваньне рэпрэсаваць людзей “за бязьдзейнасьць” і маўчаньне, ствараецца заканадаўчая база рэжымнага этнацыду.

Хуткім вынікам такой крызіснай палітыкі (кантралюемай Масквой) можа стаць прыватызацыя беларускай эканомікі расейскім капіталам і захоп беларускай рабочай сілы (выштурхоўваньне беларусаў на працу ў Расею).

***Галоўнае зьвяно ў правядзеньні захопніцкай палітыкі Крамля ёсьць Лукашэнка (ягоная паталогія ўлады).*** Без выкарыстаньня паталогіяў Лукашэнкі (і ўвогуле ягонай асобы) маскоўскі рэйдарскі праект валіцца.

Сёлета споўнілася 20 гадоў дзяржаўнай незалежнасьці Рэспублікі Беларусь і 17 гадоў пастаяннай небясьпекі для незалежнасьці пад антыбеларускім рэжымам. Кардынальныя перамены магчымыя. Здзяйсьненьне іх залежыць ад шматлікіх чыньнікаў, але (як часта было ў нашай гісторыі) таксама -- ад хуткасьці пераменаў, бо кожны дзень існаваньня рэжыму разбурае нашу краіну, аддаляе нас ад свабоды.

*Жнівень 2011 г.* Зянон Пазьняк

# 25 ГАДОЎ ЧАРНОБЫЛЯ. ПЕРШЫ ПАЎРАСПАД

26 красавіка 1986 года а палове на другую ночы выбухнуў адзін з рэактараў Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, разьмешчанай на мяжы Беларусі і Украіны (на украінскім баку). Велізарная колькасьць радыяактыўнага рэчыва паднялася ў атмасфэру, разносілася ветрам, асядала на людзей, зямлю, траву і дрэвы, кандэнсавалася ў аблоках і хмарах.

У радыюсе 30-ці кілёмэтраў ад станцыі камуністы першым чынам пачалі ратаваць і выганяць за межы вызначанай зоны калгасныя статкі жывёлы. Потым сталі вывозіць адтуль людзей. Тым часам радыяцыя сыпалася на ўсю краіну. Камуністычнае начальства ведала, што насамрэч адбылося, але насельніцтву Беларусі не паведамлялі. Саветы засакрэцілі сьмерць. Міналі дні, ніякіх захадаў па інфармаваньні насельніцтва краіны  не рабілася, ніхто толкам нічога ня ведаў, акрамя чутак пра непаладкі на АЭС і нейкую аварыю. У Гомлі і ў Берасьці, па ўсёй Гомельшчыне камуністычнае начальства сабрала мноства дзяцей на першамайскую дэманстрацыю (рабілі выгляд, што ўсё стабільна і небясьпекі няма). Па ўсёй Беларусі адбываліся першамайскія масавыя ўрачыстасьці, дзяжурныя клікуны крычалі з трыбун “слава КПСС”.

Увесь сьвет ужо ведаў пра катастрофу, і ўрады стараліся дапамагчы сваім народам пазьбегнуць першага радыяцыйнага ўдару. Нічога не рабілі (больш таго – забаранялі рабіць) толькі ў Беларусі.

Праз два тыдні пасьля выбуху выступіў па тэлебачаньні М. Гарбачоў і прызнаў, што адбылася “аварыя” на Чарнобыльскай АЭС. Тут жа прапагандысты сталі ўсіх супакойваць, што нічога сур’ёзнага ня сталася, што хутка ўсё нармалізуецца, пагрозы жыцьцю і здароўю людзей няма. Пасьля гэтага настала доўгая і трывожная афіцыйная ціша.

Сутнасьць жа “аварыі” была добра вядомая вярхоўнаму камуністычнаму кіраўніцтву. Нагадаю агульнавядомыя зьвесткі. Адразу пасьля выбуху ўтвараецца шмат лёгкіх ізатопаў ёду-131. Яны трапляюць высока ў атмасфэру і, дзякуючы сваёй лёгкасьці, доўга знаходзяцца ў паветры і пераносяцца на вялікія адлегласьці. (Цяжэйшыя доўгажывучыя ізатопы цэзія, стронцыя, плутонія і інш. мэталаў хутчэй ападаюць на зямлю.)

У гэты час, які называецца “першым ёдным ударам”, вельмі важна (па інструкцыі) на працягу першых трох месяцаў зачыняць вокны, форткі і старацца менш зьяўляцца на вуліцы. Асабліва гэта датычыць дзяцей, якія больш датклівыя да радыяцыі.

Такія месячныя карантыны пасьля катастрофы для дзяцей абавязковыя. Пэрыяд паўраспаду радыяактыўнага ёду-131 складае 8 дзён. За месяц карантыну ёдзістая радыяцыя памяншаецца ў паветры ў 16 разоў і праз нейкі час зьнікае. У гэты пэрыяд важна яшчэ, каб людзі прымалі ўнутр прэпараты ёдзістага калію (ёдзіда калія – KJ). Гэтая соль дзейнічае як пратэктар і не дазваляе накаплівацца радыяактыўнаму ёду ў шчытападобнай залозе і ў цэлым у арганізме. Калій-ёд распаўсюджаны ў фармакалогіі і фатаграфіі. Яго ёсьць шмат, ён танны, вытворчасьць яго нескладаная, а для прафілактычнага ўжываньня чалавеку патрэбныя мікрадозы. Імгненна забясьпечыць усё насельніцтва Беларусі ёдзідам калія -- ў той час гэта была не праблема. Можна было б ўратаваць здароўе і жыцьцё цэлага пакаленьня. Але гэтага прынцыпова і сьведама не было зроблена. Тое, што натварылі ў 1986 годзе кіруючыя камуністы ў Беларусі (Сьлюнькоў, Камай і інш.) – гэта ёсьць злачынства супраць нацыі. Сігналы вучоных камуністы не прымалі пад увагу, не хацелі нічога слухаць, ім важна было захаваць непарушнасьць і “чысьціню” сваёй улады і дэмагогіі.

Але гэтага было мала для камуністычных магільшчыкаў Беларусі. Неўзабаве пасьля Чарнобыльскай катастрофы камуністычная намэнклятура БССР пачала дамагацца пабудовы атамнай электрастанцыі на Віцебшчыне. Таемна (як звычайна) быў выбраны праект і месца пабудовы, і ўжо гатовыя былі прыступіць да працы. Але паднялася грамадзкасьць Віцебшчыны, стварылася арганізацыйна-пратэстная група, ініцыятарам якой стаў малады журналіст Сяргей Навумчык, сабралі тысячы подпісаў людзей супраць пабудовы АЭС, пачаліся акцыі і пратэсты і ... народ перамог. Ужо ў 1988 годзе капээсэсьнікі вымушаныя былі адмовіцца ад будаўніцтва АЭС на Віцебшчыне. Арганізацыйна-ініцыятыўная група ўлілася ў БНФ, а актывістаў яе народ выбраў у дэпутаты Вярхоўнага Савета.

У кастрычніку 1988 года ў Беларусі ўтварыўся Народны Фронт, які ўзначаліў змаганьне за праўду пра Чарнобыльскую катастрофу. Пачалася сапраўдная і выніковая барацьба з засакрэчаным чарнобыльскім генацыдам. Беларускія вучоныя і Беларускі Народны Фронт аб’ядналі тут свае сілы, і камуністычная хлусьня пачала трашчэць. Была арганізаваная сэрыя экалягічных мітынгаў, выпускаліся інфармацыйныя матэрыялы, улёткі, дзякуючы гарбачоўскай “галоснасьці” шмат што ўдавалася надрукаваць у газэтах і часопісах, пісаліся звароты, запіскі і прапановы і адсылаліся па інстанцыях, мы салідарызаваліся зь лекарамі, эколагамі, чарнобыльскімі ліквідатарамі, БНФ распаўсюджваў інструкцыі для людзей, як ратавацца ад радыяцыі.

У красавіку 1989 года Фронт стварыў арганізацыю ***“Дзеці Чарнобыля”*** з мэтай дапамогі атручаным радыяцыяй хворым беларускім дзецям. Першым старшынём яе стаў Мікола Купава, потым арганізацыю ўзначаліў Генадзь Грушавы, і праца набыла шырокі міжнародны размах. Побач утварыліся іншыя фронтаўскія арганізацыі: “Чарнобыльскі камітэт” у Магілёве (кіраўнік Натальля Рослава) і Чарнобыльскі фонд “Сакавік” у Менску пад кіраўніцтвам Марыі Міцкевіч. Неўзабаве ўтварыліся чарнобыльскія арганізацыі за мяжой сярод беларускай эміграцыі. Найбольш знаныя – гэта арганізацыя ў Англіі (дзейнасьць айца Аляксандра Надсана) і ў Канадзе (дзейнасьць Івонкі Сурвілы). Да чарнобыльскай дабрачыннасьці падключылася арганізацыя Бацькаўшчына і яе аддзелы. Беларусы ва ўсім сьвеце пачалі ратаваць беларускіх дзяцей – будучыню нацыі.

У гэтым жа 1989 годзе 26 красавіка у трэцюю гадавіну трагедыі Фронт арганізаваў на цяперашняй плошчы Незалежнасьці ў Менску (тады плошчы Леніна) надзвычайнае па сіле эмацыйнага ўражаньня мерапрыемства – ***“Гадзіну смутку і маўчаньня па ахвярах Чарнобыля”.*** Акцыю не дазволілі камуністычныя ўлады. Але Фронт праігнараваў забарону, спадзеючыся на масавую падтрымку народа. Так яно і сталася. На плошчу прыйшло 10-15 тысячаў людзей з лёзунгамі і транспарантамі на чорным палатне, на якіх былі словы і лічбы пра Чарнобыльскую сьмерць. Цэлую гадзіну пасьля адзінай кароткай прамовы і малітвы людзі стаялі моўчкі з запаленымі сьвечкамі. Кожныя 5-7 секунд у поўнай цішыні званіў “Чарнобыльскі Звон” (выраблены спэцыяльна дзеля гэтага дня). Ніхто ня рушыўся, не азіраўся. І так на працягу гадзіны.

Жалобнае маўчаньне тысячаў чалавек пад гукі самотнага звону выклікалі ў людзей навокал (пешаходаў на ходніках, што спыняліся, як укапаныя) вялікае ўзрушэньне. Людзі стаялі вакол у вокнах дамоў, на бальконах, у праёмах дзьвярэй, моўчкі, задумаўшыся і назіралі. Менгарвыканкам адмовіўся потым нават ад свайго абавязковага судовага перасьледу нас (кіраўніцтва БНФ) як арганізатараў несанкцыянаванага мерапрыемства (хоць спробы і былі), разумеючы, што інакш ён будзе дрэнна выглядаць перад абліччам менчан (улада і тады была антыбеларускай, але нармальнай у пляне псіхікі).

Пра Чарнобыльскую трагедыю загаварылі ўсе. 30-га верасьня 1989 года Фронт праводзіць грандыёзнае шэсьце праз увесь Менск -- ад Гадзіньнікавага завода да плошчы Леніна (Незалежнасьці). Гэта быў першы ***Чарнобыльскі Шлях***. Спэцыяльна з Масквы прыехаў Алесь Адамовіч, расейскі акадэмік Веліхаў, былі беларускія вучоныя,

фізікі і эколягі (спадары Несьцярэнка, Нікітчанка, Пятраеў, Канопля, акадэмік Ліштван і інш).

Міліцыя, АМАП перакрылі тады ўсе дарогі на Менск з Гомельскай, Берасьцейскай, Магілёўскай вобласьцяў. Тысячы людзей не змаглі прыйсьці (некаторыя йшлі адмыслова групамі пешшу) і прыехаць у сталіцу, трапіўшы ў міліцэйскае акружэньне. І тым ня менш, першы Чарнобыльскі Шлях (таксама несанкцыяваны, потым судзіліся) сабраў больш за 30 тысячаў чалавек.

Пасьля грандыёзнага маршу і мітынгу на плошчы адбылася ў Чырвоным касьцёле вялікая прэсавая канфэрэнцыя фронтаўцаў, вучоных і грамадзкіх дзеячоў.

Тут жа неўзабаве, у кастрычніку, Фронт арганізоўвае і склікае ў Менску міжнародны грамадзкі ***Чарнобыльскі трыбунал.*** Прысутнічалі юрысты, палітыкі, грамадзкія дзеячы і спэцыялісты зь Беларусі, Украіны, Малдовы, краінаў Балтыі, Расеі і іншых. Трыбунал адбываўся ў Чырвоным касьцёле на працягу двух дзён. Спачатку была акадэмія, выступалі з дакладамі спэцыялісты і палітыкі. Потым быў сфармаваны трыбунал, які заслухаў сьведкаў трагедыі – людзей з радыяцыйных зонаў, пацярпелых ад уладаў і ад Чарнобыльскай катастрофы. Пасьля праслухоўваньня сьведкаў быў вердыкт трыбунала, аформлены ў адпаведных дакумантах, якія потым шырока разаслалі людзям, арганізацыям, кіраўніцтву і па ўсіх інстанцыях.

У 1989 годзе засакрэчанасьць сутнасьці і вынікаў Чарнобыльскай катастрофы была ўзарвана Народным Фронтам, таямніца абвалілася. Грамадзтва пачало патрабаваць прыняцьця тэрміновых ахоўных захадаў дзеля здароўя людзей, заклікала да суду над камуністычнымі вінавайцамі трагедыі.

На хвалі змаганьня некалькі дзясяткаў фронтаўцаў, нягледзячы на ўсе камуністычныя рагаткі ўладаў, былі абраныя ў Вярхоўны Савет БССР. Дэпутацкя Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце паставіла пытаньне аб стварэньні ахоўнага чарнобыльскага заканадаўства, аб адсяленьні людзей з зонаў высокай радыяцыі, аб забесьпячэньні іх лякарствамі і чыстым харчаваньнем, аб сацыяльных ільготах для пацярпелых і г. д., а таксама аб прыцягненьні да адказнасьці кіруючых камуністаў, вінаватых у непрыняцьці захадаў, у занечышчэньні тэрыторыяў і страце здароўя насельніцтва.

У 1991 годзе, пасьля цяжкай барацьбы з камуністычнай бальшынёй у парляманце, што цягнулася больш за год, заканадаўства па Чарнобылю было прынятае. Гэта было вялікае дасягненьне Фронта і іншых дэмакратычных дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня.

Не ўдалося, праўда, аддаць пад суд камуністычных кіраўнікоў (бо камуністы валодалі бальшынёй галасоў у Вярхоўным Савеце), але была створана дэпутацкая камісія, якая выявіла вінаватых, раскрыла іхнюю ролю і злачынныя справы паказала ўсім.

Звышподласьць і антыбеларускасьць кіраўніцтва так званай КПБ-КПСС выразна ілюструе той факт, што калі трагедыя Чарнобыля ўскалыхнула ўвесь сьвет, МАГАТЭ прапанавала тром рэспублікам (Беларусі, Украіне і Расеі) вялікую грашовую дапамогу дзеля ратаваньня людзей ад радыяцыі, але менскія камуністычныя бонзы адмовіліся ад гэтай дапамогі, жадаючы па-халуйску дагадзіць Маскве (сказалі, маўляў, мы самы справімся). Тады грошы МАГАТЭ, выдзеленыя Беларусі, забрала Масква, а беларусы засталіся на сваіх папялішчах.

Чарнобыль – гэта няшчасьце двух народаў: беларусаў і ўкраінцаў. (Радыяцыя на Браншчыне ў РСФСР выяўлена там, дзе жывуць беларусы.) Для беларусаў, аднак, яно перарасло ў трагедыю нацыі. Чвэрць тэрыторыі краіны аказалася моцна засьмечанай радыёактыўнымі доўгажывучымі ізатопамі цэзію, стронцыю, плутонію і інш. Чвэрць ворнай зямлі выключана з сельскагаспадарчага выкарыстаньня. Пэрыяд паўраспаду асноўных ізатопаў цэзія-137 і стронцыя-90 у сярэднім 30 гадоў. Але ёсьць ізатопы, якія будуць існаваць тысячы год. Больш таго, у выніку распаду і ўзаемадзеяньня існуючых ізатопаў уранавай групы ўтвараецца новы радыёактыўны

ізатоп амэрыцый-241, і радыяцыйны фон у месцах яго ўтварэньня павялічваецца (у 2,4 разы за сто гадоў).

Радыяцыя (асабліва першы ёдны ўдар) моцна падарвала здароўе беларусаў. Асабліва адмоўна дзейнічае на рэпрадуктыўную функцыю мужчын і жанчын. Выміраньне беларускага насельніцтва напрасткі зьвязана з вынікакмі Чарнобыльскай катастрофы і з палітыкай "Чарнобыльскага генацыду", якую сьведама праводзіць антыбеларускі рэжым Лукашэнкі (выкарыстаньне забруджаных земляў, ліквідацыя ільготаў і дапамогі пацярпелым, накіраваньне моладзі на працу ў радыяцыйныя зоны, распаўсюджваньне радыяцыйна забруджаных прадуктаў і г. д.).

У час аварыі на ЧАЭС вецер дзьмуў на Беларусь. 70% усёй выкінутай радыяцыі ў час выбуху апусьцілася на беларускую тэрыторыю. Радыяактыўныя хмары, аднак, маглі пайсьці далёка, аж у Ледавіты акіян, выпадаючы малымі дозамі і рассейваючыся над вялікімі тэрыторыямі (што і сталася з тых хмараў, якія прайшлі праз Эўропу). Шкода ад іх зрабілася  не малая. Гэта была плынная (не пастаянная) крыніца радыяцыі, ападкі выпадалі плямамі рознай канцэнтрацыі. Існаваў шанец, што воблакі дасягнуць бязьлюдных прастораў акіяна і там  канчаткова разьвеюцца.  Аднак тут з боку Масквы быў зьдзейсьнены яшчэ адзін акт  злачынства супроць беларусаў.

Маскоўцы вырашылі апусьціць радыяцыйныя воблакі на зямлю, але не на сваю выбраную расейскую тэрыторыю, а на беларускую, на галовы беларусаў, нічога не кажучы нават камуністычнаму кіраўніцтву Беларусі, скарыстаўшы адсутнасьць незалежнасьці і сувэрэнітэту нашай краіны. Яны стварылі спэцыяльную эскадрыльлю, задача якой была распыліць адпаведнае рэчыва ў хмарах над Магілёўскай і Гомельскай вобласьцямі і апусьціць такім чынам радыяцыйныя хмары на Беларусь. У выніку на Магілёўшчыне і Гомельшчыне, за 200 кілёмэтраў ад Чарнобыля, радыяцыя сталася канцэнтраванай і вялікай, як у 30-кілёмэтровай зоне каля атамнай электрастанцыі.

Нічога ня ведаючы, што адбываецца, людзі пачалі хварэць (найперш дзеці). Злачынства Масква строга засакрэціла. Але невытлумачальна высокую радыяцыю на Магілёўшчыне і Гомельшчыне выявілі нашыя вучоныя, а Народны Фронт неўзабаве раскрыў і даведаўся, хто гэта зрабіў. Пасьля распаду СССР расейцы пачалі цынічна пісаць пра тыя падзеі і ўсхваляць лётчыкаў, якія выконвалі заказ КПСС. Лётчыкаў адзначылі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

У 2006 годзе ў Нью-Ёрк прыехала зь Лёндану здымачная група Бі-Бі-Сі, каб узяць у мяне відэа-інтэрв'ю пра змаганьне з Чарнобыльскай катастрофай. Я расказаў ім пра асаджэньне радыяцыйных хмараў над Беларусяй, даў матэрыялы, прозьвішчы лётчыкаў, месцы іхняга пражываньня. Група паехала ў Маскву і запісала адзінага на той час жывога "героя" злачынства над Магілёўшчынай, нейкага Аляксея Грушына. У 2007 годзе фільм пад назовам ***"Гульня ў Бога з надвор'ем"*** (з цыклу "Навука пра супершторм") зьявіўся ў Сеціве і моцна зьбянтэжыў некаторых цемрашалаў у Расеі і лукашысцкай Беларусі. Пачаліся абвяржэньні ды фальшывыя разважаньні ў электронным друку.

У гэтым кіно тым часам было дакумэнтальна зафіксавана наўпроставае сьведчаньне пра расейскае злачынства. А. Грушын, думаючы, што яго здымаюць як героя, надзеў мундзір з урадавымі ўзнагародамі і сьведчыў шчыра пра свае "подзьвігі". Ён сказаў, што дзейнічаў тады сьведама і перакананы, што так і трэба было рабіць, бо інакш хмары маглі павярнуцца на Расею, "...і тады пацярпелі б мільёны людзей", -- патлумачыў Грушын.

10-га красавіка я паказваў фільм у залі Беларускага сабора сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. Гэтыя варварскія словы выканаўцы злачыннага загаду пра матывацыю яго паводзін, відаць, найбольш уразілі прысутных. Мушу зазначыць, што сьведчаньне Грушына, -- гэта не прызнаньне цыніка. Тут разважаньні савецкага фундамэнталіста. Грушын – звычайны і тыповы савецкі расеяц, выхаваны ў шчарбатай псіхалёгіі расейскага вайсковага шавінізму, для якога "людзі" – гэта расейцы, астатнія –

“чуркі”, “лабусы”, “хахлы”, “бульбашы”, “амэрыкосы”, “пшэкі”, “піндосы” і г. д., а значыць на іх можна спусьціць рыдыяцыйныя хмары, каб не пацярпелі “людзі”.

Адзначу таксама, што рускія лётчыкі, якія зрабілі гэтае злачынства, ня ведалі, што іх паслалі ў хмары на сьмерць. Па сутнасьці, гэта былі сьмертнікі. Іх выкарысталі, і яны павінны былі хутка памерці ад радыяцыі, каб ніхто нічога ня ведаў. У 2006 годзе жывым заставаўся толькі А. Грушын, якога журналісты Бі-Бі-Сі пасьпелі зьняць і запісаць. Цяпер і ён ужо не жыве.

Мінула 25 гадоў пасьля катастрофы. Праз 8 гадоў заканчваецца першы паўраспад цэзія-137 , і праз тры гады – стронцыя-90, і радыяцыя ад іх зьменшыцца на палову. Яшчэ праз 30 гадоў яна ўжо будзе меншая ў чатыры разы. Можа нават усяго праз 60 гадоў мы ўжо пачнем вяртацца туды, дзе вечна былі і дзе мы цяпер часова адсутныя. Гэтая наша, цяпер хворая, але запаведная зямля, чакае нас. Патрэбная толькі адна ўмова – каб мы былі, каб засталіся (і ня толькі фізічна).

Для мяне даўно было зразумела, што краіны з малой тэрыторыяй не павінны будаваць атамныя электрастанцыі. У атамнай станцыі ў прынцыпе не існуе гарантыі супраць катастрофы. Выбухнуць можа кожная АЭС у выніку зьбегу прыродных, сацыяльных, вытворчых, індывідуальных і тэхналягічных абставінаў. Чарнобыльская ўзарвалася ў выніку фатальнага супадзеньня вытворчых, тэхналягічных, палітычных і індывідуальных чыньнікаў. Фукусіма – выбухнула толькі ад прыродных і тэхналягічных прычын.

Краіна зь вялікай тэрыторыяй лягчэй можа перажыць атамную катастрофу АЭС, бо нават самая разбуральная ядзерная аварыя не накрые ўсю плошчу і, адпаведна, усю нацыю (папуляцыю). Тым часам для якой-небудзь мініятурнай Бэльгіі, напрыклад (якая памерам меншая за нашу Берасьцейскую вобласьць), Чарнобыль стаў бы адначасна агульнай катастрофай нацыі. У прынцыпе небясьпечна будаваць АЭС у Прыбалтыйскіх краінах, гэта вялікая рызыка.

Беларусь па тэрыторыі большая за тры прыбалтыйскія краіны ўзятыя разам, але свой вельмі абмежаваны тэрытарыяльны рэсурс яна ўжо вычарпала пасьля Чарнобыля. Пабудова атамнай станцыі на другім канцы краіны (у Астраўцы) па дыяганалі ад Чарнобыльскай – гэта праграмаваньне магчымасьці поўнай нацыянальнай катастрофы, зьнікненьне нацыі з твару зямлі. (Я ўжо не кажу тут пра небясьпечныя геафізічныя і крайне не карысныя для Беларусі эканамічныя, экалягічныя, сацыяльна-палітычныя аспэкты праектаваньня АЭС у Астраўцы.) Ужо не сакрэт, што людзі, якія яе нам навязваюць і праектуюць, усё тое якраз і маюць на ўвазе, закладваюць бомбу пад будучыню Беларусі. Энэргетыка тут зьява прагматычная і ў гэтым аспэкце – другасная.

З усіх энэргетык атамная энэргетыка мае найменшую супрацьаварыйную гарантыю і найбольшую верагоднасьць катастрафічнай аварыі. Прытым катастрафічная аварыя на АЭС зьяўляецца разбуральнай і небясьпечнай ня толькі для асяроддзя, але і для чалавецтва, вынікі яе, як правіла, непапраўныя.

За паўстагоддзе існаваньня атамнай энэргетыкі былі дзясяткі аварый і непаладак. Тры вялікія катастрофы з расплаўленьнем актыўнай зоны рэактара, выкідам радыёнуклідаў у асяроддзе і эвакуацыяй насельніцтва адбыліся на сёньняшні дзень у межах апошніх 30-ці гадоў. Статыстычная заканамернасьць паказвае, што праз 20-25 гадоў на зямлі зноў можа адбыцца катастрофа на АЭС, кшталту Чарнобыльскай і Фукусімы. З павелічэньнем колькасьці АЭС гэтая верагоднасьць сьціскаецца, аварыйнасьць павінна стаць больш частай.

Тут заўважу, што распрацоўшчыкі АЭС, некаторыя адэпты МАГАТЭ ды расейскага РОСАТОМ заўсёды прыводзяць фантастычна мінімальныя долі малой верагоднасьці катастрофы на АЭС. На гэтыя лічбы ня трэба зьвяртаць увагі, яны ўзятыя са столі, нічым не абгрунтаваныя і ёсьць тыповай і нахабнай прыдумкай для прастакоў. Напрыклад, аўтары РОСАТОМу ў гэтым годзе пішуць, што імі “...закладзена ў сучасныя праекты верагоднасьць найбольш цяжкай рэактарнай аварыі – з

расплаўленьнем актыўнай зоны і выхадам значнай колькасьці накопленых у рэактары радыёактыўных матэрыялаў у зьнешняе асяроддзе (што патрабуе эвакуацыі насельніцтва). Такая аварыя была ўсяго адна – Чарнобыльская. З прычыны недапушчальнасьці такіх аварый у прынцыпе (яшчэ адна такая аварыя назаўсёды вывядзе атамную энэргетыку за рамкі грамадзкай прыймальнасьці) гадавая верагоднасьць такой аварыі для аднаго энэргаблёку прынята 10 у "мінус" 8-й ступені". (*Крыніца:* http://www.blogi.rosatom.ru/baltaes/kak-ocenivayutsya-riski-tyazhelyx-avarij-na-sovremennyx-i-perspektivnyx-aes/ )

Гэты адметны па свайму алагізму тэкст быў напісаны да аварыі на Фукусіме. Сцьвярджаючы, што Чарнобыльская катастрофа "была ўсяго адна", лічбе 10 у мінус 8-ай ступені надавалі бачнасьць тэорыі, бо яна ўмяшчалася ў прыдуманую "верагоднасьць" адной катастрофы для адной АЭС раз ў сто мільёнаў гадоў (10 у мінус 8-й ст.), маўляў, адна ўжо адбылася і больш ня будзе.

Удакладню, што для атамнай энэргетычнай сістэмы Зямлі (500 АЭС) гэта азначала б верагоднасьць адной катастрофы АЭС адзін раз у 200 тысяч гадоў. Практычна, усе гэтыя прыдуманыя лічбы ня маюць ніякага значэньня. Катастрафічная аварыя на Фукусіме перакуліла дагары нагамі ўсю гэтую лічбавую ліпу, бо пачала працаваць рэальная статыстыка, зьявіліся статыстычныя каардынаты працэсу. (Хаця яны ўжо існавалі і раней – акрамя Чарнобыля, была вельмі сур'ёзная аварыя на Тры-Майл-Айленд у ЗША у 1979 годзе з усімі прыкметамі катастрофы.) Улічым таксама выпадак на атамным комплексе Сэлафілд у Уіндскэйле (Англія) у 1957 годзе, калі рэакцыя выйшла там з-пад кантролю і рэактары залілі вадой, рызыкуючы і разумеючы, што можа стацца выбух (кшталту Чарнобыльскага), пасьля якога па разьліках ад радыяцыі маглі б памерці каля аднаго мільёна чалавек. На шчасьце, Бог зжаліўся над Англіяй.

Атамная энэргетыка маральна скончылася пасьля Чарнобыля. Расейцы, як бачым, пішуць, што для гэтага трэба "яшчэ адна такая Чарнобыльская аварыя" (думаючы, што яе ня будзе). Але выбухнула Фукусіма, і будуць выбухаць іншыя. Атамная энэргетыка ўжо даўно ператварылася ў злачынства супраць чалавецтва, створаная людзьмі безадказнымі і недалёкімі, якія добрымі пажаданьнямі вымошчвалі дарогу ў пекла.

Мушу нагадаць, што ў канцы 80-х, калі адчынілася разбуральная пэрспэктыва Чарнобыльскай катастрофы для беларусаў і калі гаварылі аб магчымасьці паўторнага, ужо ядравага выбуху на ЧАЭС, мы, фронтаўцы, шукалі выйсьця, прапрацоўвалі розныя варыянты выратаваньня беларусаў. Адзін зь іх быў – далучэньне Смаленшчыны да Беларусі (дзе беларускае насельніцтва пад Расеяй зменшылася месцамі ў 10 разоў, вобласьць апусьцела а ўрадлівыя землі зарасталі хмызамі). Меркавалася, што калі далучыць Смаленшчыну, то можна было б перасяліць туды людзей з Чарнобыльскай зоны Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Яны адрадзілі б там жыцьцё і гаспадарку, толькі б даць ім волю, зямлю і падтрымку.

У траўні 1990 г. дэпутацкая дэлегацыя Апазыцыі БНФ была ў Маскве ў Вярхоўным Савеце РСФСР. Па гэтым пытаньні было спатканьне з дэпутатамі і кіраўніцтвам Смаленскай, Бранскай і Арлоўскай вобласьцяў РСФСР (ад Беларусі былі мы з Алегам Трусавым). Кіраўнік Смаленскай вобласьці спадар Арлоў тады ня толькі цалкам, але з зацікаўленасьцю падтрымаў нашу ідэю. Прытым (сам расеяц з Белгарадзкай вобласьці) выявіў веданьне беларускай гісторыі і таго, што Смаленск – старажытны беларускі горад. Ён разумеў, што павінна было стацца палітычнае рашэньне на ўзроўні Ельцына, Гарбачова і парляманта, і гатовы быў яго падтрымаць.

Далей трэба было размаўляць з кіраўнікамі Беларусі (на той час з Першым сакратаром ЦК КПБ А. Малафеевым і старшынёй Вярхоўнага Савета М. Дземянцеям). З гэтымі асобамі, якія тады ў прынцыпе не дапускалі гаворкі пра незалежнасьць Беларусі, размаўляць пра Смаленшчыну і Чарнобыль было бяссэнсава. Але трэба было. Далейшыя бурныя падзеі, аднак, зьмянілі абставіны, і пытаньне аб "чарнобыльскай" Смаленшчыне больш не ўзьнікала.

На выпадак паўторнага (ядзернага) выбуху Чарнобыля і агульнанацыянальнай атамнай катастрофы ў Фронце разглядалі розныя варыянты выратаваньня. Звышзадача – нацыя мусіць выжыць. Але ўсе цалкам магчымыя варыянты захаваньня і выжываньня былі б для беларусаў супэрцяжкімі і толькі верагоднымі, бо для выжываньня мусіла б існаваць моцная народная кансалідацыя на аснове ўсьвядомленай нацыянальнай агульнасьці традыцыяў і культуры. Менавіта дзякуючы гэтаму выжывалі ў халодных казахскіх стэпах выселеныя Сталінам народы і вярнулі потым сваю радзіму. Пры адсутнасьці культурна-нацыянальнага пасіянарнага цэмэнту катастрофа ператварае супольнасьць у бездапаможны натоўп.

Адзін з неверагодных варыянтаў захаваньня і выжываньня нацыі пры абшырнай ядзернай катастрофе, які мы абмяркоўвалі ў разважаньнях, -- гэта кампактнае перасяленьне часткі беларусаў на пустыя слаба заселеныя землі Канады пры ўмове прызнаньня культурна-нацыянальнай аўтаноміі беларускай супольнасьці на ўзроўні існаваньня асобнай канадзкай правінцыі. У 1991 годзе дэпутацкая дэлегацыя Апазыцыі БНФ (Ул. Заблоцкі, Л. Баршчэўскі, З. Пазьняк) была ў Канадзе. Мы спрабавалі высьветліць між іншым меркаваньні канадзкіх палітыкаў пра гэты сцэнар. Яны дапускалі яго як магчымы (хоць і мала верагодны).

Я лічыў, аднак, такі варыянт цалкам не рэальным і не падтрымліваў такую ідэю, мяркуючы, што яна можа быць канструктыўнай для немцаў, партугальцаў, габрэяў, нават для курдаў, словам, для ўсіх, толькі не для нас, беларусаў. Жыцьцё на Захадзе і назіраньні за беларусамі на чужыне ўмацавалі мяне ў гэтай думцы.

Мы можам існаваць і спраўдзіцца як нацыя толькі ў Беларусі, толькі на сваёй зямлі і толькі ў сваёй мове. Наша зямля – гэта нашая калыска, наш карабель, які трымае нас разам, побач і прымушае задумвацца аб супольным існаваньні. За бортам мы выжываем, як людзі – кожны сабе -- і зьнікаем, як нацыянальная супольнасьць людзей.

Мы ўсе павінны вельмі берагчы наш карабель, рыхтаваць яго ў вечнае плаваньне, не раскладаць агонь на палубе, не дзяўбаць карабельнае дно, не выбіраць капітанам вар’ята.

25 гадоў – гэта цэлае пакаленьне. Чарнобыль нас нішчыць і нябачна існуе разам з намі, прымушае і вучыць нас выжываць, клапаціцца пра будучыню і здароўе, супраціўляцца і думаць аб народным сваім існаваньні.

***20 красавіка 2011 г.*** **Зянон Пазьняк**

# НЕБЯСЬПЕКА ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ, НАЦЫІ І ДЗЯРЖАВЫ

Тыдзень таму, 30 жніўня, адбылася адметная крымінальная падзея ў жыцьці антыбеларускага рэжыму. Выступаючы перад прадстаўнікамі ўлады ў сродках масавай інфармацыі, узурпатаар сказаў наступнае:

“У насельніцтва на руках па ацэнках Нацыянальнага банка звыш сямі мільярдаў даляраў. У сувязі з гэтым даручаю Нацыянальнаму банку стварыць такія эканамічныя ўмовы, каб людзі самі прынесьлі грошы ў банкаўскую сістэму”.

17 гадоў гэты буйны аферыст рабаваў краіну, але ўпершыню сказаў адкрыта, нахабна і лапідарна – я вас абрабую, так зраблю, што самы аддасьцё мне свае грошы.

Узурпатар зьняў маску і казаў тое, што думаў. Увогуле ў гісторыі мафійных рэжымаў (нават афрыканскіх) такое грубае фармальнае прызнаньне зьяўляецца ўнікальным. Звычайна дзяржаўныя злачынцы ва ўладзе камуфлююць сваю дзейнасьць інтарэсамі народа, які рабуюць, а тут такі грубы пасаж, што некаторыя нават не паверылі сваім вушам.

Чаму такое адбылося? Найперш, хто глядзеў гэты выступ па тэлебачаньні ці ў Інтэрнэце, той бачыў, што ўзурпатар гаварыў у стане злосьці і нянавісьці да людзей. У такім стане, як гэта бывае з нэўрастэнікамі і псіхапатамі, траціцца адказнасьць за свае словы, пацыент выплёсківае сваю злосьць у грубых і адкрытых фармулёўках.

Але сутнасьць у іншым. Пагрэўшы рукі на фінансавым крызісе, які стварыла беларусам Расея, і, абрабаваўшы народ да ніткі мафійна прадуманай вялікай дэвальвацыяй беларускага рубля, бачачы, што ўсё ўдалося, што беларус утуліў галаву ў плечы і жаласна маўчыць, галоўны начальнік рэжыму адкінуў усе ўмоўнасьці і рашыў не хавацца за словы. Сказаў адкрыта, што будзе стрыгчы і рабаваць.

Улічваючы, што, як паказвае практыка, змагацца з рабаўніком людзі, відаць, ня будуць, можна зрабіць некалькі папярэджаньняў беларусам. Найперш, ні пры якіх умовах (а могуць паабяцаць вялікія працэнты) нельга несьці грошы ў рэжымныя банкі. Адбяруць! Могуць увесьці аплату за пэўныя тавары і паслугі ў замежнай валюце (хоць гэта злачынна і антызаконна). Могуць нават пачаць экспрапрыяцыю валюты праз пeратрусы. У мафіі ўсё магчыма. Людзям трэба быць абачлівымі.

* * *

Наступная крымінальная (незаконная) заява, якую агучыў узурпатар, выглядае так. Цытата: “Там дзе утвараюцца звышдаходы, гэтыя звышдаходы павінны быць адабраныя. Бізнэс, прадпрыемствы, фізічныя асобы, якія пасьпяхова працуюць, павінны разумець, што цяпер дзяржаве трэба падставіць плячо”.

Экспрапрыяцыю вынікаў працы рабілі (як вядома) бальшавікі. Што з гэтага атрымалася і чым скончылася таксама вядома. Усе мафіі падобныя. Але каб пасьля бальшавіцкага пекла ўзурпатар мог зноў сказаць, што будзе адбіраць напрацаванае высокаарганізаванай працай, да гэтага грамадзтву, як кажуць, трэба было дажыць.

Ня гледзячы на стан грамадзтва, усе такія заявы і дзеяньні ўзурпатара ўлады ў Беларусі ня тое што паказваюць, але крычаць, лямантуюць аб тым, што гэтая асоба не павінна кіраваць уладай у краіне. Гэтае кіраваньне стала крайне небясьпечным для ўсіх беларусаў, для будучыні Беларускай нацыі і дзяржавы.

***6 верасьня 2011 г.*** **Зянон Пазьняк**

# “СІПЛЫ ГОЛАС НЯНАВІСЬЦІ”

***(Выступ перад сябрамі народнай партыі)***

Цяпер, асабліва пасьля выказваньняў узурпатара пра “казлоў”, “вашывую палітыку” і абвяшчэньня права на свабоду думак чалавека ў сваёй хаце на кухні, шмат хто (хто ня ведае яго псіхалёгіі) пачаў казаць і пісаць пра “агонію” рэжыму, якому, трэба разумець, надыходзіць канец. Тэндэнцыя такая, вядома, ёсьць, але ў цэлым пра “агонію” і “канец” – гэта перабольшаньне. “Агонія” адбываецца ўжо скора 17 гадоў. Так званы “прэзыдэнт” заўсёды быў такім і выказваўся гэтаксама (гэта значыць так, як умеў). У самым пачатку сваёй улады ён нават Гітлера пахваліў і казаў, што гэта “узор” для яго “прэзыдэнцкага” кіраваньня. “Вашывыя блохі”, “адмарозкі”, “падонкі” і т. п. лексіка гучэла ўвесь час у хамскай і нецярпімай (у дачыненьні да апанэнтаў) форме. І грамадзтва (акрамя невялікай яго часткі) усяго гэтага варварства, як быццам, не заўважала. Такі фэнамэн мае сваё тлумачэньне. Але факт застаецца фактам: грамадзтва глядзела наўпрост – і ня бачыла, слухала – і ня чула.

Сямнаццаць гадоў, з дня ў дзень, гучэў над краінай сіплы голас нянавісьці. Адных беларусаў натраўлівалі на іншых беларусаў. Народ дзялілі па ўсім: па мове (увёўшы дзьвюхмоўе і чужую мову ў якасьці дзяржаўнай), па веры (прыярытэт і дыскрымінацыя ў канфэсіях), па працы (мафійныя адносіны да прадпрыймальніцтва), па дачыненьнях да Захаду, да Расеі, да гісторыі (усхваленьне СССР), да самых сябе.

А ў гэты ж час былі амаль зьнішчаныя асновы нашага нацыянальнага духа і культурнага існаваньня: дзяржаўныя і нацыянальныя сымвалы, беларуская школа, беларуская мова, нацыянальная асьвета і выхаваньне моладзі, тэлебачаньне, радыё, разбурана беларускае кнігавыданьне і літаратура, у глыбокай структурнай і тэхналягічнай яме знаходзіцца эканоміка і фінансы, разбураныя беларускія вытворчыя сілы праз адлучэньне ад рэальнай уласнасьці, ад вольнага гандлю і вольнай вытворчай дзейнасьці. Тым часам незмаўкаючы голас нянавісьці паказвае на ўсё новых і новых, унутраных і зьнешніх, ворагаў – прычыны ўсяго.

Нянавісьць сталася палітыкай і заразнай, як хвароба. Гістарычны вопыт паказвае, што псіхапатыяй і паранойяй грамадзтва можа заразіцца ад дыктатара і паранойнай улады. Тады дамінуе міфалёгія і засынае розум.

Тое, што сёньня загаварылі пра “агонію”, пра тое, што кіраўнік рэжыму “дайшоў да ручкі”, што ён невук і хам, і “вар’ят”, і што будзе яму “канец” – гэта толькі частка праўды. Рэжым зь яго начальнікам не зьмяніўся. Ён застаўся такі самы, як і быў – акупацыйны і антыбеларускі – і “агонія” тут не галоўнае.

Пачало зьмяняцца само грамадзтва. У некаторых беларусаў сталі расплюшчвацца вочы, іншыя раптам прачнуліся, сталі слухаць і чуць. Ім здаецца, што згоршала ўлада, палітыка, і зьмяніўся сьвет. Тым часам зьмяняцца пачаў не рэжым, а яны.

Адбыўся працэс дастатковага накапленьня інфармацыі і асэнсаваньне вопыту, калі вострыя палітычныя падзеі і эканамічныя абставіны сталі ўжо выклікаць у людзей адэкватныя ацэнкі і крытычнае думаньне.

Ілюстрацыяй да гэтага здаровага працэсу ўспрыняцьця рэальнасьці зьяўляюцца адносіны беларусаў да пабіцьця людзей у Менску 19 сьнежня 2010 г., да абвальнага фінансава-эканамічнага крызісу і да выбуху ў Менскім мэтро 11 красавіка гэтага году. Упершыню палітыка цемры (якая кіруецца паняцьцем, што “народ дурань”) не спрацавала. Прытым масава не спрацавала. Ніхто ня верыць ілгуну. І вось тут якраз маюць рацыю тыя, што кажуць пра “агонію”, бо на вачах у народа адбываецца агонія ілжы, якая прала мазгі людзям без перапынку амаль 17 гадоў.

Узурпатар агаломшаны, кідаецца ў бакі, кожны дзень гаворыць нейкую прымітыўную лухту, але ён яшчэ, відаць, не разумее, што на гэты раз ён уліп. Уліп

моцна. Не ўратуе яго ўжо ні тэлебачаньне, ні прапаганда, ні халуі, ні суддзі, ні КГБ, ні нават спэцназ. Не ўратуе, бо людзі сталі расплюшчваць вочы і раптам убачылі замест надзьмутага мача – нізкую, ілжывую, ненавісную ў дачыненьні да беларусаў істоту, не адэкватную ў псіхіцы і здольную на злачынствы.

Узурпатар (як некалі Чаушэску) ня быў падрыхтаваны да такога павароту, ён ня ведае, што рабіць і працягвае ілгаць, яшчэ больш раздражняючы гэтым народ, які ўжо ўсё бачыць. А ўвесь жа зьмест у тым, што Лукашэнка ня можа не ілгаць. Гэта ягоны звычайны стан розуму і паводзінаў.

Адбываецца агаленьне грамадзянскай ганьбы. Нацыя прачынаецца і абурана ўзіраецца на Лукашэнку, яшчэ не разумеючы, што бачыць у ягоным начальстве, як у люстэрку, скрыўлены адбітак свайго быцьця. Гэтую горкую пілюлю трэба будзе рана ці позна зьесьці, бо 17 гадоў таму, знаходзячыся ў стане палітычнага дзяцінства, беларускае грамадзтва, паверыўшы дэмагогіі, няўсьведама прыняло яго на сваю шыю само. Ужо страчана 17 гадоў нацыянальнай гісторыі.

Крымінальная справа па 19-м сьнежня, ня тое, што развалілася, -- яна ня "склеілася" з самага пачатку. Ва ўсім адчуваецца нізкаінтэлектуальны "геній" галоўнага закапёршчыка. Сапраўды, трэба быць "геніем" вельмі своеасаблівай мазгаўні, каб загадаць спэцвойску міліцыі напасьці на сорак тысячаў мірных беларусаў, жорстка (да крыві і калецтва) іх зьбіць, каго ўдалося – пахапаць, арыштаваць і абвінавáціць усіх у "дзяржаўным перавароце". На што спадзяваліся "стратэгі" гэтай дубаломнай правакацыі і злачынства? На які народ?

Гэтая крымінальная справа, напісаная палітычнымі і юрыдычнымі анальфабэтамі, ужо скончыла сваё існаваньне пасьля першага ж выступу ***Ўладзімера Някляева*** ў судзе. Больш разграміць і расьляскаць увесь гэты псэўдасудовы крымінал, чым яго раплякаў паэт, здаецца ўжо і немагчыма, бо не застанецца нават мокрага месца.

Паказны судовы псэўдапрацэс пайшоў не на карысьць рэжыму, і дарогі назад у рэжымных агрэсараў няма. Ім засталося толькі і надалей хлусіць, усіх дурыць, затыкаць вушы і рабіць прысуды (не разумеючы, што ў існуючай сытуацыі гэта ёсьць прысуды самым сабе).

На маю думку, поўны крах чакае ўзурпатара пасьля раскрыцьця арганізатараў крывавай авантуры ў Менскім мэтро. Тым, хто ўмее назіраць і аналізаваць, адразу было зразумела, што гэта справа рук самога Лукашэнкі, ягонай групы і ягоных спэцслужбаў. Страх перад раскрыцьцём злачынства штурхае яго на дзіўныя паводзіны, на шчыльны кантроль і фактычнае кіраўніцтва сьледчым працэсам і на ролю інфарматара аб яго выніках. Адсюль уся бязглузьдзіца, якую мы чуем пра гэтую справу.

Людзі ў Беларусі ўсё бачаць, і на гэты раз добра ўсё разумеюць. Наш вядомы палкоўнік спэцназу ***Ўладзімер Барадач*** прафэсійна прааналізаваў і расклаў па палічках увесь гэты самадзейны спэктакль са "сьледзтвам" па выбуху, якое нагадвае нейкую дзіцячую гульню ў сьледчыя дзеяньні.

Мне здаецца, што і тут дарогі назад у тых, хто арганізаваў гэтае злачынства і хавае канцы, таксама ўжо няма.

Гэта ня проста тэракт. Гэта ёсьць сьведамае масаве забойства людзей. Небясьпечнасьць і непазьбежнасьць раскрыцьця такога злачынства шмат хто (асабліва хто ня ведае Лукашэнку) яшчэ, магчыма, не да рэшты ўсьвядомілі. Ратуючы скуру, спраўца будзе гатовы патапіць увесь карабель. Такое -- у яго магчымасьцях і ў складзе мазгоў. Зь ліквідацыяй дзяржавы зьнікае магчымасьць юрыдычнага перасьледу за злачынствы супраць гэтай дзяржавы, тым больш, што сама ліквідацыя ёсьць супэрзлачынства перад народам, злачынства, адказнасьць за якое ня будзе каму прад'явіць. Лукашэнка тэрмінова не павінен быць ва ўладзе. Ягоная ўлада – вялікая небясьпека для нацыі.

Я ўжо ня раз пісаў раней, што дзеля змаганьня з рэжымам патрэбныя не эканамічныя санкцыі (якія могуць канчаткова ўгробіць нацыю), а санкцыя суда на

арышт узурпатара. У прынцыпе – любога суда, які б узяўся яго судзіць за этнацыд (генацыд, лінгвацыд) беларускага народа. Патрэбная санкцыя. Яна адчыніць магчымасьці.

У абставінах актывізацыі і нацыянальнай салідарнасьці грамадзтва ўсё стане выглядаць крыху інакш. Непад'ёмнае стане магчымым.

У сувязі з гэтым хачу яшчэ раз падкрэсьліць асаблівую патрэбнасьць і важнасьць нашай фронтаўскай партыйнай нацыянальна-асьветніцкай працы, якой мы займаемся ўвесь час. Перамены ўлады магчымыя і ў асьлепленым грамадзтве (калі ня хопіць раптам для ўсіх яды і працы), але вынікі такіх сьляпых пераменаў бываюць, як правіла, яшчэ горшыя, чым былі да пераменаў.

У сацыяльна ўзбуджаным, але нацыянальна сьпячым грамадзтве, звычайна не бывае і нацыянальных лідэраў. Месцы іх тады займаюць дэмагогі, нягоднікі і авантурысты. І калі б нацыянальны лідар раптам аб'явіўся, ён быў бы зьнішчаны непрыяцелямі пры маўчаньні і згодзе (а то і падтрымцы) грамадзтва, і памяць яго была б абплявана.

Перш, чым змагацца за свабоду -- трэба яе хацець. Перш, чым хацець свабоды -- трэба любіць Беларусь. Інакш – свабодай скарыстаюцца іншыя і ў сваіх інтарэсах. Без стварэньня нацыянальна арыентаванага крытычнага асяроддзя пазытыўныя перамены ў нацыянальнай палітыцы не адбудуцца і нацыянальных лідараў ня ўзьнікне (ня будуць запатрабаваныя).

Пасьля расколу ў 1999 годзе (і, практычна, разбурэньня) Беларускага Народнага Фронту (які здабыў незалежнасьць Беларусі) цяпер, каб збавіцца ад антыбеларускага рэжыму і збудаваць вольную народную і дэмакратычную Беларусь, шмат што трэба зноў пачынаць спачатку (абапіраючыся, вядома, на вопыт і здабыткі папярэдняй барацьбы).

Цяпер у сувязі з ускладненьнем сацыяльна-эканамічных і палітычных абставінаў і ў сувязі з адкрытай рэпрэсіўнай вайной рэжыму супраць беларускага народу (пагрозай ужываньня войска і г. д.) пачаліся паскораныя працэсы пераацэнак і палітызацыі ў грамадзтве.

Беларусам патрэбная праўдзівая і пазытыўная нацыянальная інфармацыя. Перш за ўсё, тая інфармацыя, якая даходзіць ня толькі праз Сеціва, а (што важна) папяровым шляхам і праз асабістыя кантакты зь людзьмі (бо ўключае ў сабе арганізацыйныя моманты).

Запатрабаваньні грамадзтва на праўдзівую і асьветніцкую інфармацыю цяпер узрасьлі, і мы павінны скарыстаць усе магчымасьці нашай народнай партыі, у тым ліку, і магчымасьці віртуальных (пакуль што) суполак Руху "За новыя выбары без Лукашэнкі".

Магчымасьці нацыянальна-асьветніцкай працы ў нашым грамадзтве дастаткова вялікія, ёсьць добры патэнцыял, які, на жаль, абмяжоўваецца пакуль толькі Сецівам і пасыўным выкладам пазыцыяў. Але, мяркую, што праз Рух "За новыя выбары без Лукашэнкі" (скарочана РУХ) можна будзе заахвоціць людзей зь віртуальнай да інфармацыйна-кантактнай і арганізацыйнай сфэры дзейнасьці.

Паўтараю галоўную думку, якую мы мусім мець на ўвазе ў нашай практычнай партыйнай працы: без стварэньня актыўнага нацыянальнага асяроддзя і актыўных беларускіх асяродкаў у грамадзтве – немагчымай будзе нацыянальная рэвалюцыя і свабода. Авангард можа перамагчы, але без апоры на армію (гэта значыць, на сьвядомых людзей) – не ўтрымаецца. Маем вопыт.

Па вялікаму кошту, перад пагрозай Бацькаўшчыне людзі павінны б зразумець простыя рэчы, што трэба любіць сваю зямлю, культуру, дзяржаву, мову, народ, адзін аднаго, абараняць народныя каштоўнасьці, незалежнасьць і свабоду, не дапускацца зьняваг і маўчаньня перад нішчэньнем сьвятога.

Голас нянавісьці ня мусіць больш уплываць на людзей. Ён увогуле не павінен гучэць у Беларусі і над Беларусяй. Ён мусіць зьнікнуць з паветра, з эфіру, з экрану,

згінуць, адыйсьці, як туман, як сон, як начны кашмар, зьнікнуць з нашай сьвядомасьці, як ачмурэньне чартоўскім пойлам. Ёсьць дарога. Ёсьць нялёгкая, жмудная, непрыкметная праца, якую таксама трэба зрабіць, каб выйсьці на шлях, што вядзе ў жыцьцё.

***9 траўня 2011 г.*** **Зянон Пазьняк**

# ЗБАВІЦЦА АД ПСІХАПАТА

*(Выступ на красавіцкім Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ і БНФ “Адраджэньне” 10 красавіка 2011 г.)*

...Пасьля правакацыі кандыдатаў псэўдаапазыцыі 19-га сьнежня мінулага году пачаўся татальны перасьлед усяго жывога беларускага, і найперш – актыўных, сьведамых і прыстойных беларускіх людзей. Усё тое новае, добрае, што нарасло за апошнія 10 гадоў у грамадзтве, куды было ўкладзена шмат нашай працы (асабліва па асьвеце і падрыхтоўцы байкоту) – усё гэта было бязглузда справакавана безадказным дзясяткам асобаў, падстаўлена пад удар і стаптана рэжымам разам з правакатарамі.

Дадзена поўная воля антыбеларускаму КГБ, які прыступіў да мэтадычнага нішчэньня нацыянальнага грамадзтва. Гэбісты і іхныя дзеяньні выведзеныя з-пад сфэры закону. (Аналягічнае становішча і ўсёдазволенасьць КГБ былі ў 30-я гады, за часы генацыду пад савецкім заборам.)

У краіне ўжо амаль 17 гадоў існуе антынацыянальная ўлада і праводзіцца палітыка ўнутранай акупацыі. Цяпер, пасьля 19-га сьнежня, вайна рэжыму супраць народу (дакладней, супраць нацыянальных яго пардстаўнікоў) агалілася настолькі, што стала бачна нават тым, якія ня здольныя нічога бачыць, акрамя вобразаў прапаганды.

Антынародная татальная прапаганда ўжо аднак не спраўляецца з сваёй задачай, і, як за часы СССР, паступова ператвараецца ў сваю супроцьлегласьць. Вопыт паказвае, што такі парцэс неабарачальны, бо прапаганда будзе ўзмацняцца на фоне агульнага пагаршэньня жыцьця, павялічваючы непрыняцьце яе ў грамадзтве.

Ёсьць некалькі важных аспэктаў у палітыцы антынароднага рэжыму, якія пагражаюць усяму грамадзтву.

Пасьля фальшывых выбараў і пагрому 19-га сьнежня 2010 г. рэжым трапіў, практычна, у безвыходную залежнасьць ад Крамля і маскоўскай гэбісцкай групы ўлады. Магчымасьць вольнага манэўру менскай хунты звузіліся да мінімуму. Антынацыянальная ўнутраная палітыка рэжыму і антыбеларуская зьнешняя палітыка гэбісцкай Расеі прывялі да рэзкага дысбалансу паміж імпартам і экспартам тавараў у беларускай эканоміцы. Пачаўся абвальны валютны крызіс, якім умела кіруе Масква, выкарыстоўваючы поўную крыдытную залежнасьць ад Расеі, у якую трапіў рэжым Лукашэнкі. Накінуўшы крэдытную пятлю на шыю ўзурпатара, Масква крок за крокам ажыцьцяўляе свае стратэгічныя інтарэсы, штурхаючы Беларусь да дэфолту.

Чатыры вялікія прарывы ў накірунку нішчэньня Беларусі ажыцьцявіла Масква за апошнія чатыры месяцы: прымусіла ўзурпатара ўлады ў Беларусі падпісаць пагадненьні аб Адзінай Эканамічнай Прасторы з Расеяй, прымусіла ўступіць зь ёй у Мытны Зьвяз, прымусіла згадзіцца на пабудову практычна расейскай атамнай электрастанцыі ў сэйсьмічнай зоне ля Астраўца (яшчэ адна крэдытная шворка для рэжыму і пагроза існаваньню нацыі), прымусіла за бясцэн прадаваць Расеі беларускую сельгаспрадукцыю і фінансаваць тым самым эканоміку Расеі.

Усё гэта адбываецца на фоне сістэмна неразьвітага ўнутранага беларускага рынку і зьвязанай з гэтым тэхналягічнай адсталасьці вытворчасьці і, як вынік, -- неканкурэнтнасьці тавараў. (Прытым рэжым ня ў стане тут нічога зьмяніць, бо ня пойдзе на рэформы, якія пагражалі б аднаасобнай уладзе.)

Стратэгія Крамля тут таксама зразумелая і відавочная. Гэта тактыка паступовага захопу нашай эканомікі і ў цэлым краіны, -- такая, каб ня выклікаць рэзкіх рухаў у нашым грамадзтве. Завяршэньнем усяго мусіць стацца дэфолт – прыватызацыя Беларусі Расеяй за даўгі ўзурпатара. Ажыцьцяўляючы сваю мэту, Масква будзе даваць сатрапу час ад часу крэдыты, каб працягнуць яго нікчэмнае існаваньне і забіраць пазыцыі па частках, увесь час нагнятаючы абставіны бязвыходнасьці і капітуляцыі.

Агентура Лубянкі ў Беларусі, падладжваючыся пад дэмакратаў і непрымальнікаў рэжыму, абапіраючыся на злосьць некаторых слаба думаючых беларусаў, ужо лемантуе на ўсё горла пра неабходнасьць эканамічнай ізаляцыі Беларусі і пра татальныя эканамічныя санкцыі з боку Захаду (гэта пры эканамічнай залежнасьці беларускага рынку ад Расеі і пры адкрытай мяжы з РФ). Мяркуецца, што санкцыі нібыта абваляць антыбеларускі рэжым (які будзе ратаваць Масква, каб забраць Беларусь цалкам).

Руская агентурная калона хоча скарыстаць пратэстныя настроі беларусаў супраць рэжыму псіхапата, каб заваліць нам заадно і дзяржаву, і незалежнасьць. Чужымі рукамі яна штурхае Захад на эканамічную ізаляцыю Беларусі.

Па вялікаму кошту, з гэтага нічога ня выйдзе. Пры ўсёй памылковасьці эўрапейскай палітыкі, Эўропа дастаткова прагматычная, каб разумець, чаго ёй ня трэба рабіць. Але не ў Эўропе справа. Выратаваць сябе і сваю дзяржаву могуць толькі самы беларусы – арганізаваны нацыянальны рух.

Сытуацыя, якая ўзьнікла даўно, цяпер відавочна абвастрылася. Тое, пра што мне прыходзілася казаць два гады таму, зараз набыло ўжо крытычны кшталт.

Існаваньне Лукашэнкі ва ўладзе ў Беларусі стала крайне небясьпечным для незалежнасьці дзяржавы і лёсу ўсяе нацыі. Ён не павінен быць ва ўладзе. Уся пакрокавая палітыка гэбісцкай Расеі па захопу і прыватызацыі нашай дзяржавы выкарыстоўвае, перш за ўсё, паталогію Лукашэнкі ў дачыненьні да ўлады. Масква бачыць, што гэта хворы на ўладу псіхічна ссунуты чалавек, які канвульсіўна ўчапіўся за пасаду і аддасьць яе хіба што толькі разам са сваім жыцьцём. Ні Беларусь, ні народ тут ня маюць для яго ніякага значэньня. Галоўнае – улада, якая стала для яго сэнсам існаваньня.

Зьмест становішча, у якім апынулася Беларусь і адначасна прычына, чаму ў культурнай, гістарычна вялікай эўрапейскай нацыі вось ужо скора 17 гадоў ва ўладзе знаходзіцца і аднаасобна распараджаецца яе лёсам жорсткі, хітры, псіхічна неадэкватны і малакультурны чалавек, заключаецца ў тым, што ў дзяржаве поўнасьцю адсутнічае прававы мэханізм зьмены ўлады. Выбары ў гэтых абставінах – заўсёды ілюзія і фарс, падтрымка рэжыму. Улада тут можа быць зьменена толькі праз народную рэвалюцыю і дзяржаўны пераварот. А гэта ня хуткая справа, рэвалюцыйныя абставіны сьпеюць дзесяцігоддзямі.

Зазначу, што заканадаўчую і выканаўчую архітэктоніку дыктатуры дапамагала ўзурпатару рабіць палітычнае асяроддзе, праўнікі і інтэлектуалы, розныя Абрамовічы (якія пісалі канстытуцыю дыктатуры) ды Ціхіні (якія яе абаранялі) і зрэшты – бальшыня грамадзтва, якой было ўсё “да лямпачкі”, што там робіцца ва ўладзе, пакуль усе ні апынуліся ў мяшку, у якім ўсіх завязалі.

Шлях пазбаўленьня ад узурпатара, па якім мы йдзем, -- гэта непрызнаньне яго ўлады, нацыянальнае ўсьведамленьне і асьвета грамадзкай эліты і ўсяго грамадзтва, якое стане здольным (павінна стаць) на рэвалюцыю і ліквідацыю антынароднага рэжыму. Цяпер нашае грамадзтва яшчэ не гатовае ні на які агульнанацыянальны змагарны чын. Тым часам у імя захаваньня Беларусі і нацыі Лукашэнка мусіць зьнікнуць з улады ўжо ня тое, што сёньня, але ўчора. Зь яго зыходам нават пры самым нязьменным раскладзе (які будзе толькі часовым) зьявяцца шанцы на перамены ва ўнутранай палітыцы, эканоміцы і культуры, магчымасьці для нацыянальнага адраджэньня грамадзтва, затармозіцца маскоўская палітыка дэфолту Беларусі.

Беларусам трэба цяпер (абавязкова і катэгарычна) як найхутчэй збавіцца ад псіхапата ва ўладзе. Як гэта канкрэтна зрабіць, ніхто ня ведае.

Тэарэтычна існуе магчымасьць (ёсьць мэханізм) узбудзіць крымінальную справу супраць Лукашэнкі за генацыд-этнацыд беларускага народа (артыкул 127 КК РБ) і атрымаць санкцыю на яго арышт праз Міжнародны Крымінальны Суд у Гаазе. Я ўжо адкрыта зьвяртаўся з такой прапановай да Старшыні Рады Эўразьвязу (разумеючы,

што гэта толькі дэманстрацыя магчымасьці, дзеля рэалізацыі якой Эўразьвяз не пачне ніякіх захадаў). Тым ня менш, санкцыя на арышт тут была б найбольш патрэбная (няхай сабе нават якога іншага суда ці незалежнага юрыдычнага воргана). Патрэбна канкрэтыка для санкцыянаваных дзеяньняў. Узурпатар і псіхапат ня можа больш кіраваць уладай у Беларусі. Ён мусіць тэрмінова зыйсьці, зьнікнуць з палітыкі.

Гэтая неабходнасьць ужо вісіць над краінай, як дамоклаў меч. Інакш – імклівае набліжэньне нацыянальнай катастрофы, ад якой потым не ўцячэ і якой ня ўнікне ніхто.

***10 красавіка 2011 г.*** **Зянон Пазьняк**

# ПЕРШАЧАРГОВАЯ ЗАДАЧА

*(Выступ на чэрвеньскім Сойме БНФ і Партыі БНФ)*

...Настае абвостраны час. Але нічога ня станецца само сабой, без падрыхтоўкі і арганізацыі працэсаў. Сацыяльныя пратэсты будуць пашырацца і выяўляцца ў розных формах. Але без палітычнай падрыхтоўкі і базавай нацыянальнай ідэалёгіі яны скончацца альбо нічым, альбо пры стыхійным пашырэньні будуць скарыстаныя палітычнымі прайдзісьветамі і пры падтрымцы з-за мяжы прывядуць да такіх жа (а то і горшых) антынародных і антыбеларускіх вынікаў, як і пры існуючым рэжыме Лукашэнкі.

Без беларускай нацыянальнай ідэі і без беларускага *Бел-Чырвона-Белага Сьцяга* над галовамі усялякі пратэст стане толькі формай зьмены аднаго антыбеларускага маразму іншым і спосабам вынішчэньня Беларусі, якімі б "дэмакратычнымі" фразамі ён ні прыкрываўся. Маем ужо вялікі станоўчы і адмоўны гістарычны вопыт у гэтай справе. Таму падрыхтоўка і пашырэньне базавай нацыянальнай сьвядомасьці людзей была і застаецца нашай агульнай палітычнай задачай. Гэта неабходнасьць, бо нацыянальна-культурнае разбурэньне нашага грамадзтва, праведзенае камуна-саветамі і антыбеларускім рэжымам Лукашэнкі, такое маштабнае, што сама па сабе сітуацыя ўжо не паправіцца. Патрэбная шырокая (і ахвярная) праца ўсёй беларускай палітычнай і культурнай інтэлігенцыі.

Другой агульнай задачай ёсьць падрыхтоўка нацыянальна-дэмакратычнай арганізацыі, здольнай арганізаваць і ўзначаліць стыхійныя сацыяльныя пратэсты насельніцтва. Патрабуецца прыліў новых сілаў і палітычна актыўных людзей. Неабходны зараз інтэнсіўны і мэтавы распаўсюд нацыянальна-асьветніцкай інфармацыі (на папяровых носьбітах) і непасрэдныя кантакты з выбранымі людзьмі. Наш наробак улётак трэба скарыстаць, плюс літаратура. У аснове – плятформа *Беларуская Салідарнасьць* і *Рух За новыя выбары без Лукашэнкі*.

Узурпатар цяпер паводзіць сябе і выказваецца настолькі груба, цынічна, неразумна і неадэкватна, што нават журналісты і палітыкі ў Эўропе сталі адкрыта казаць пра яго як пра параноіка і вар'ята.

Апошняй паранойнай выхадкай вар'ята сталі яго заявы аб прадажы нацыянальных каштоўнасьцяў, рэсурсаў і нетраў Беларусі (пры тым па ськінутай цане, абы праіснаваць ва ўладзе яшчэ пару гадоў). Як прыклад – заява аб прадажы Беларуськалія за 30 мільярдаў даляраў для рускага капіталу.

У гэтай сувязі прасіў бы сяброў Сойму даць ацэнку гэтым вар'яцкім заявам і даручыць кіраўніцтву Партыі зрабіць адпаведнае афіцыйнае папярэджаньне ўсім інвэстарам і прэтэндэнтам на гандаль нацыянальнай маёмасьцю з Лукашэнкам. Сутнасьць гэтага папярэджаньня мусіць быць у тым, што ўсялякая купля нацыянальнай маёмасьці ў Лукашэнкі будзе анулявана новай народнай уладай Беларусі і сродкі незаконнай зьдзелкі будуць залічаныя ў даход Беларускай дзяржавы. Ніякая асоба (ні прыватная, ні дзяржаўная) ня мае права прадаваць беларускія нетры, радовішчы і стратэгічную эканоміку. Гэта супярэчыць Канстытуцыі і зьяўляецца злачынствам. І інвэстары ды "купцы" пра тое ведаюць. Лукашэнка ня ёсьць выбраным, прызнаным і легітымным прэзыдэнтам. Гэта ўзурпатар улады ў Беларусі, і ўсялякія маёмасныя зьдзелкі з гэтай асобай ня ёсьць юрыдычна сапраўднымі.

Я ўстрымліваюся ад эмацыйных ацэнак намераў вар'ята, але нашыя палітыкі і інтэлектуалы павінны ведаць, што Салігорскае (Старобінскае) калійнае радовішча мае запасы солі на сотні гадоў здабычы. Гэта сотні мільярдаў, трыльёны даляраў. Наш ацэначны вердыкт аб вар'яцкіх намерах узурпатара павінен быць вельмі жорсткім.

Апошнія гады я пастаянна нагадваю аб вялікай небясьпецы для нацыі, калі Лукашэнка і надалей будзе існаваць ва ўладзе. Гэтая небясьпека ўвесь час павялічваецца. І дзеяньні, і лексіка ўзурпатара робяцца ўсё больш неадэкватнымі,

агрэсіўнымі і безадказнымі. Нядаўна да нас дайшлі зьвесткі, што калі рабочыя аднаго з цэхаў Менскага трактарнага завода, нездаволеныя абніжэньнем зарплаты і ростам цэнаў, вырашылі спыніць парцу, узурпатар прыслаў туды АМАП, узброены аўтаматамі, і гэбістаў, якія гукалі пад аўтаматамі: “Ну, кто здесь недоволен?”

Акупацыйны рэжым даўно ўжо агаліўся, і шмат каму стала відаць яго зьвярыная поўсьць. Бяда, аднак, што нашае грамадзтва, адлучанае ад нацыянальнай культуры, яшчэ не да канца разумее антыбеларускую сутнасьць гэтага рэжыму. Таму ахвяры амаль непазьбежныя. Гэта паказаў і 19-ы сьнежань, і выбух у Менскім мэтро, і варварскія суды над невінаватымі беларусамі.

Шмат праблемаў накапілася ў беларусаў за 17 гадоў уладнай цемры, хамства і варварства: гэта і неабходнасьць адраджэньня беларускай культуры і беларускай школы, права і законнасьці, гэта і рэформы эканомікі, якія не рабіліся з пачатку 90-х гг., гэта і дачыненьні з Расеяй і Эўропай. Але прыярытэтная па парадку, першасная праблема, якая стаіць перад беларускім грамадзтвам, -- гэта праблема вар’ята ва ўладзе. Без яе хуткага вырашэньня нічога ня зрушыцца нідзе, усё будзе толькі горшаць (як і горшае ўвесь час).

На жаль, яе вырашэньне не такое простае. Як зь ёй парадзіць, мусяць задумацца беларусы, найперш – нашая эліта грамадзтва. Усім, аднак, варта ўсьвядоміць простую праўду. Лукашэнка – гэта беларуская праблема, і толькі самыя беларусы могуць яе вырашыць. Усялякія спадзевы на Ўсход, Захад, суседзяў будуць памылковымі. Пакуль само грамадзтва ня зоймецца сабой і сваёй уладай, -- дыктатура будзе існаваць. Вынікі яе існаваньня надзвычай разбуральныя і могуць стаць фатальнымі для ўсёй нацыі.

***12 чэрвеня 2011 г.*** **Зянон Пазьняк**

# ВЫЗНАЧАЛЬНАЯ ПАДЗЕЯ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Сёлета 21-я гадавіна прыняцьця **Дэкларацыі аб Незалежнасьці**.

Нашая Незалежнасьць здабывалася доўга, пакутліва і цяжка на працягу двухсот гадоў расейскай акупацыі. На алтар Незалежнасьці пакладзены мільёны беларускіх жыцьцяў, панесены вялікія страты. Яны не змарнаваліся, не прапалі дарма.

Першы этап незалежнасьці, які громам адазваўся ў гісторыі нацыянальнага Адраджэньня, адбыўся ***25 Сакавіка 1918 года***, калі было аб'яўлена аб незалежнасьці толькі што ўтворанай ***Беларускай Народнай Рэспублікі***. Гэты Акт стаў падзеяй велізарнага значэньня, адчыніў новую незалежніцкую эпоху беларускага змаганьня.

Другі (вырашальны) этап адбыўся ***25 Жніўня 1991 года*** пасьля правалу камуністычнага імпэрскага путчу ў Маскве, калі стварылася ўнікальная магчымасьць перамогі для змагароў за свабоду і дзяржаўную незалежнасьць акупаваных краін у СССР. У Беларусі сытуацыя была найгоршай з прычыны антынезалежніцкага характару камуністычнай намэнклятуры, якая трымала на той час усю ўладу ў краіне. Супраціўленьне намэнклятуры было пераадолена дэпутатамі Фронту -- незалежнасьць была дасягнута.

Але перад 25-м жніўнем 1991 г. адбылася падзея 27-га ліпеня 1990 г., якая істотна аблегчыла і канкрэтызавала аб'яўленьне незалежнасьці Беларусі. Гэтая падзея – прыняцьце Вярхоўным Саветам ***Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларускай ССР***.

Тады, у ліпені 1990-га, Дэпутаты Народнага Фронта выкарысталі няўмелую палітыку Гарбачова па абнаўленьні СССР (які хацеў шляхам прыняцьця фармальных дэкларацыяў аб суверэнітэце "рэспублік" заключыць новую "саюзную дамову" і зачыніць пытаньне пра незалежнасьць).

Дэпутаты-фронтаўцы рашуча паўплывалі на напісаньне тэксту Дэкларацыі і ўзялі ініцыятыву ў свае рукі, ажыцьцявілі гнуткую і незразумелую камуністам псіхалагічную тактыку імітацыі адваротнай пазыцыі, удаваньня абструкцыі дасягнутага (выхад з залі галасаваньня) з мэтай згуляць на іхняй псіхалогіі і справакаваць іх прывычна прагаласаваць "у піку" і супраць БНФ (а ў рэальнасьйці – за тэкст Дэкларацыі, які фронтаўцы дыскусійна выйгралі ў камуністаў).

Прыняцьце Дэкларацыі аб суверэнітэце само па сабе было важным дасягненьнем на шляху да незалежнасьці Беларусі. Гэты Акт павярнуў думаньне грамадзкасьці ў натуральнае незалежніцкае рэчышча, дазволіў беларусам убачыць пэрспэктыву краіны, сфармаваць сваю пазыцыю і спосаб паводзінаў.

Паміж дзьвума вялікімі падзеямі – **25 Сакавіка 1918** і **25 Жніўня 1991** – знаходзіцца Дэкларацыя ***27 Ліпеня 1990 года*** – вызначальны чыньнік нацыянальнай барацьбы, які папярэднічаў і паспрыяў дасягненьню незалежнасьці.

Гэтую дату -- 27 ліпеня -- (якую ў пачатку 90-х афіцыйна сьвяткавалі як Дзень Незалежнасьці) беларусы павінны памятаць і адзначаць у сваім календары як этап да свабоды і вызначальную падзею ў гісторыі Беларусі.

*27 ліпеня 2011 г.* Зянон Пазьняк

# ХАТНЯЯ ТУРМА

Антыбеларускі рэжым прыдумаў “хатнюю турму”, якой (па ўсім відаць) наканавана “вялікая будучыня” (бо турмаў у лукашысцкай Беларусі ўжо не хапае). Хатні арышт прапісаны ў законе, але тое, што практыкуе рэжым, ні ў які закон ня ўлазіць.

Хатняя турма ўзьнікла з беззаконьня рэжыму і поўнага самаупраўства КГБ, які, фактычна, выведзены з-пад дзеяньня закона.

У камэру ператворана хата (кватэра) арыштаванага, да якога прыстаўляюць наглядчыкаў, што маюць ключы ад хатняй камэры (адчыняюць і зачыняюць яе), назіраюць і кантралююць кожны крок вязьня. Вязень ня мае права падыходзіць да дзьвярэй, да вокнаў, ня можа выходзіць на сьвежае паветра, ня можа чытаць газэты, слухаць радыё, глядзець тэлевізар, размаўляць па тэлефоне, карыстацца кампутарам. Яму забароненыя спатканьні з адвакатам, медыцынская дапамога і агляд лекара. Ніхто ня мае права заходзіць у хатнюю камэру, акрамя вызначаных сваякоў: жонкі, бацькі альбо маткі, якія бяруць на сябе догляд і харчовае забесьпячэньне вязьня і самы знаходзяцца пад турэмным наглядам. Такім чынам кватэра (дом) ператвараецца ў турэмную камэру гэтаксама і для сям'і вязьня. Прытым (да прыкладу), разам з арыштаванай Ірынай Халіп пад турэмны рэжым трапляе нават яе трохгадовае дзіця, яно становіцца фактычным вязьнем хатняй камэры і камэрнага рэжыму.

Ведаючы садысцкую мэнтальнасьць узурпатара і сэнс сукупнай палітыкі генацыду, нескладана прадбачыць наступны крок у афармленьні хатняй пенітэнцыярнай сістэмы — аплату з боку сям'і за прысутнасьць (“працу”) наглядчыкаў. Закон тут (як і ўсюды ў рэжыме) не абавязковы. Могуць на што-небудзь спаслацца альбо прыдумаць (альбо указ аформіць і т. п.).

Заўважу, што па закону арыштаваны, які знаходзіцца ў турме, у кожным моманце мае права на спатканьне з адвакатам, на медыцынскую дапамогу і агляд лекара, можа чытаць, выпісваць газэты, слухаць радыё, глядзець тэлебачаньне і выходзіць на сьвежае паветра.

Арыштаваны беларус у хатняй турме, прыдуманай рэжымам, ня мае ніякіх такіх правоў у забесьпячэньні элемэнтарных патрэбаў існаваньня. Яму пакінута толькі магчымасьць біялагічнай “вегетацыі”.

Такія ўмовы створаныя пакуль што для двух закладнікаў. Паўстае пытаньне: навошта? Псіхалягічнае (ці дакладней, псіхіятрычнае) абгрунтаваньне тут цалкам зразумелае: “А что б не выпендривались, отморозки”. Успомнім “ягоныя” пячорныя публічныя разважаньні пра напад на Някляева. (“Ну, дали по голове. Ну и что?” “Ты же мужик! Чего ты кричишь!” “Прибежал в больницу — спрятался.” І г. д.)

Аднак, галоўнае абгрунтаваньне ў стварэньні хатняй турмы — гэта логіка палітычнага і крымінальнага кшталту, якая толькі накладзена на шызафрэнічную матрыцу.

Гэтая логіка вынікае з факталогіі падзей. Калі план “другога падпалу Райхстагу” быў зьвёрстаны і ўсё было падрыхтавана для правакацыі, з усіх спарынг-кандыдатаў “праблемным” для рэжыму заставаўся толькі Някляеў. Ён пастаянна цьвердзіў пра мірны характар акцыі і што яна мусіць быць на плошчы Каліноўскага. Някляеў здольны быў уплываць на людзей і прадухіліць іхны зыход да Дому ўраду. Пры гэтым якраз

ягоная група павінна была забясьпечыць дастаўку магутнай гукаўзмацняльнай апаратуры.

Захады супраць Някляева былі зробленыя, як на вайне (вядома, чыя тут галава думала). Не дачакаўшыся нават канца галасаваньня, на кандыдата ў прэзыдэнты Някляева напала баявая спэцгрупа Міністэрства Унутранных Спраў “Алмаз”. Пакінуўшы сьмяртэльна зьбітага і нерухомага паэта на сьнезе, група ад'ехала на двух аўтобусах. Праз некалькі гадзін высьветлілася, што паэт у цяжкім стане знаходзіцца ў рэанімацыйнай палаце шпіталя Хуткай дапамогі. (“Ну, думаю, убили”, — камэнтаваў публічна на сваім узроўні гэты момант Лукашэнка. — “Потом смотрю — живой, ожил, в больницу убежал.”)

Ноччу функцыянеры спэцслужбаў уварваліся ў палату рэанімацыі, схапілі Някляева і павалаклі яго па падлозе ў турму КГБ.

Я ўжо пісаў раней, што гэтыя дзьве незаконныя апэрацыі, праведзеныя супраць Някляева спэцслужбамі МУС і КГБ, зьяўляюцца найгрубейшым і злачынным парушэньнем закона. Па факту такога злачынства неадкладна мусіла б быць узбуджана крымінальная справа пракурорам (арганізаваная групавая спроба забойства, тэрарызм, выкраданьне закладніка, сьвядомае перавышэньне ўлады, выкарыстаньне ўлады дзеля палітычных і асабістых інтарэсаў). Груба парушаны цэлы шэраг артыкулаў Крымінальнага Кодэксу. Прытым, у злачынную справу канкрэтна і непасрэдна ўключаны і сам узурпатар Лукашэнка, які засьведчыў сваё кіраўніцтва і прыналежнасьць да нападу на Някляева, да ўсіх рэпрэсіяў і пабіцьця людзей на плошчы.

Даказаць нешта адваротнае ў такой справе немагчыма. Гэта разумеюць спраўцы злачынства і ліхаманкава шукаюць выхаду. Адразу прымусілі аднаго агентурнага арыштаванага засьведчыць, што “міліцыя не вінавата”. Тут жа насьпех прыдумалі вэрсію, што на Някляева напалі “неизвестные хулиганы”. Гэбісты ізноў абавязалі Дзімітрыева (выконваў ролю кіраўніка выбарчага штабу Някляева) агучыць гэтую вэрсію ў відэа-запісе.

Потым стварылі цэлы прапагандысцкі кінафільм “Плошча. Жалезам па шклу”, дзе склеілі новую бязглуздую легенду, што Някляева быццам бы хацелі забіць яго паплечнікі і палітычныя супернікі — спарынг-кандыдаты. (Дарэчы, апошняя легенда — тыповы шаблон у забойствах КГБ. У 90-х гадох гэты шаблон хацелі прымераць у “нэўтралізацыі” маёй асобы.)

Наступнае дзеяньне — недапушчэньне адвакатаў да арыштаваных. Праца адвакатаў у гэтай крымінальнай афёры ёсьць небясьпечная для рэжыму, але найбольш — у справе Някляева. Сэнс ня толькі ў тым, што спраўцам злачынства тут “няма чым крыць”, але ў тым, што, як ні круці, справа Някляева паварочваецца супраць іх самых.

Самы тыповы (і прывычны) выхад для іх — гэта пазбавіцца ад Някляева і ад ягонай справы. Небясьпечна, калі такое пачнуць рабіць людзі, якія перакрочылі рубікон забойства. Магчыма, што плян пачаў дзейнічаць разам са стварэньнем хатняй турмы, куды не дапускаецца нават лекар і сьвежае паветра.

Пасьля чэрапна-мазгавой траўмы, Някляеў ня меў у турме ні медыцынскага дасьледваньня, ні лячэньня (акрамя таблеткавага). Ён перажыў за няпоўныя паўтары месяцы чатыры пагрозьлівыя гіпертанічныя крызы. Яго мучыў пастаянны боль галавы, зьявіліся правалы памяці.

Невядома, што дакладна зараз са здароўем Някляева. Магчыма, зьявіліся ўскладненьні ў выніку нелячэньня ЧМТ сярэдняй цяжкасьці і ў камбінацыі з гіпертанічнымі крызамі, магчыма, быў перанесены (і сьведама не зафіксаваны лекарамі) мікраінсульт. Выклікаюць трывогу правалы памяці праз амаль паўтары месяцы пасьля траўмы. Усё гэта пры неабсьледваньні і нелячэньні можа прывесьці да сур'ёзнай страты здароўя, інваліднасьці, і нават да летальнага выніку.

Спраўцы антыбеларускага рэжыму ўжо ня могуць выйсьці са свайго бандыцкага кола зла. Цынічная хлусьня, самадурства і гразь верхавіны гэтай хунты мярзотнікаў ахоплівае і занечышчае, як гангрэна, усё новыя і новыя пласты грамадзтва: чыноўнікаў, настаўнікаў, праўнікаў, юрыстаў, лекараў і міліцыі — усіх патапляе ў сваю дрымучую, сьмярдзючую твань расчалавечваньня, ілжы і злачынства.

Увогуле, калі глянуць на ўсё разважліва і без пачуцьцяў, то адзіны цяпер выхад для рэжыму — выпусьціць усіх закладнікаў і спыніць прыдуманы судовы перасьлед. Такога рэжым ня зробіць, бо ня хопіць розуму. Ды й не для гэтага прыдумана подлая справа, каб ад яе адмаўляцца нішчыцелям. Адно, што пачынаюць разумець ужо болей і болей людзей — узурпатар ня можа больш быць ў Беларусі. Ён мусіць зьнікнуць неадкладна. Ягонае існаваньне небясьпечнае для нацыі, як ракавая пухліна для здаровага арганізма. І чым хутчэй такая пухліна будзе выдалена, тым здаравей людзям, тым лепш для народа.

*4 лютага 2011 г.* Зянон Пазьняк

# ГІСТОРЫЯ ДАЕ ЛЕКЦЫЮ

*(Ліст сябрам Сойму БНФ і КХП-БНФ)*

Рэжым працягвае тасаваць псэўдаапазыцыю. Нядаўна засьведчылі пра сваё існаваньне былыя прагматыкі – раскольнікі Народнага Фронту ў 1999 г. Яны заявілі, што выходзяць з партыі Кастусёва і Янукевіча і ствараюць “Беларускі рух” (!). Гэта тыя асобы, якія перад расколам БНФ пісалі, што нацыянальная ідэя сябе вычарпала (Ю. Хадыка), што Фронт сваю задачу выканаў і што яму трэба злучыцца з АГП.

Гэтыя людзі падтрымалі кандыдатуру непрыяцеля БНФ камуністычнага намэнклятуршчыка У. Ганчарыка на пасаду прэзыдэнта Беларусі, выцягнулі ў вялікую палітыку нішчыцеля структур Народнага Фрронту А. Мілінкевіча, заклікалі людзей удзельнічаць ва ўсіх псэўдавыбарах рэжыму і незаконных рэфэрэндумах, ўступілі ў саюз з камуністамі (“пяцёрка+”), адчынілі дзьверы для кадравай агентуры ў сваю прагматычную партыю і давялі яе да поўнага палітычнага маразму, пакуль генэрацыя новых (прагмацейшых) прагматыкаў ня выкінула іх на ўзбочыну.

Будучы ў сваёй партыі (якая выставіла кандыдата), яны ўдзельнічалі ў апошніх псэўдавыбарах у чужой камандзе А. Саньнікава (гэта ўжо нейкі паліт-сюррэалізм). Не хачу камэнтаваць чарговую справу раскольнікаў-умельцаў (ні Хадыка, ні Вячорка, ні Івашкевіч прабачэньня ў Фронту, за раскол, не папрасілі). Але сімптаматычна: РУХ (“За новыя выбары без Лукашэнкі”) толькі-толькі пачаў ставарацца, ужо зроблены кавалак працы і на табе – тут жа аб’яўляюць пра іншы “рух” знаёмыя ўсе твары. (Блытайцеся, людзі, які дзе “рух”!) Можа каму і сьмешна ўсё гэта (але каб ні было так сумна).

Шмат з таго, што адбываецца зараз у псэўдаапазыцыйным асяродку, і асабліва ў нешматлікіх СМІ, выяўляе рысы, вартыя жалю. У пэўнай ступені рыкашэтам гэта закранула і нас. Я маю на ўвазе пустую гаворку пра нейкі фантастычны плян плошчы Пазьняка-Някляева. Размову зь Юры Беленькім пра стварэньне РУХУ журналісты раскруцілі ў цэлы дэтэктыўны сюжэт. Знайшліся нават “дасьледчыкі” і “аналітыкі” гэтага сюжэта і глыбокадумна пераліваюць здагадкі з пустога ў парожняе.

Пра неабхонасьць стварэньня РУХУ “За новыя выбары без Лукашэнкі” мы гаварылі і пісалі задоўга да выбараў. Напрыклад, у артыкулах “Байкот – гэта мэханізм барацьбы” (14-18 лістапада) і “Байкот – рэальнае дзеяньне” (21 лістапада) я пісаў пра гэта канкрэтна. А 18 сьнежня, за дзень да галасаваньня, мы, на партыйным спатканьні з выбаршчыкамі, аб’явілі пра пачатак стварэньня такога РУХУ. (Дарэчы, пра гэтую акцыю паведамілі даволі шырока розныя СМІ.) Някляеў ня мог таго ня ведаць.

Адзіным рацыянальным момантам тут было тое, што яшчэ да выбараў разумелі мы ўсе, -- рыхтуецца маштабная правакацыя рэжыму, і яе цяжка было прадухіліць, бо мы ўжо не ўплывалі на сытуацыю. Ініцыятыва перайшла да Лукашэнкі і яго спарынг-кандыдатаў.

Можна яшчэ было б паспрабаваць з’амартызаваць і прадухіліць падзеі, калі б знайшлася асоба, якая б узяла на сябе арганізацыю парадку. Трэба было ўтрымаць людзей на плошчы Каліноўскага, прапанаваўшы ўсім агульную задачу і яе працяг. Працяг мог быць розным. У гэтым сэнсе я прасіў перадаць Някляеву прапанову выкарыстаць ідэю стварэньня РУХУ “За новыя выбары без Лукашэнкі”. Сумняваюся, ці яму тое перадалі, бо на мае запросіны сустрэцца з выбаршчыкамі 18 сьнежня (дзе быў запачаткаваны РУХ) Някляеў не зьявіўся.

Нашыя спробы паўплываць на мітынг 19 сьнежня на плошчы Каліноўскага таксама не далі выніку. Сытуацыя была некіруемай, павадырамі яе сталі правакатары і сьляпыя (у пераносным сэнсе, вядома). Не было ніякага парадку, ніякай адказнасьці за людзей. Арганізацыя масавага шматтысячнага мерапрыемства ў канфліктных умовах з уладай – гэта вельмі няпростая справа. Трэба прадумаць усё: маршруты, варыянты, кіраўніцтва масай у зьменных абставінах, ахову людзей, дружыну, адказных за сектары і парадак, нэўтралізацыю правакатараў. На выпадак нападу “амонаў” трэба

прадугледзіць бясьпеку жанчын, бо пры стыхійнай масавай ціскаціне іх топчуць найперш (успомніце Нямігу-99), акрамя таго рэжымныя гарылы даўно перакрочылі маральны бар’ер людзкасьці, яны зьбіваюць дзяўчат (чаго нават пры саветах не было).

Псэўдаапазыцыя даўно зьнішчыла фронтаўскія традыцыі масавых мерапрыемстваў. Грантаўскія паражэнцы (“змагары”) ўвесь час зьбіралі людзей бяз сэнсу, імітавалі масу, каб засьвяціцца перад грантадаўцамі. Гэта нізасьць, якую яны і прыдумалі. 19-га сьнежня спарынг-кандыдаты дзейнічалі па гэтай жа звычцы, думалі пакарыстацца энтузіязмам людзей, каб пакрасавацца ў сваіх амбіцыях і пустой фразеалогіі (тыпу “Лукашенко пал!”), не разумеючы, што ўсёй вольнай Беларусі, усім гэтым вольным людзям, што прышлі на плошчу (і спарынг-кандыдатам у тым ліку), ужо падрыхтаваная пастка, куды яны і ўскочылі.

Для мяне было зразумела, што ўмешвацца ў чужое бесталкоўе, каб нешта паправіць, -- справа марная і няўдзячная. Але і цалкам дыстанцавацца нельга было, калі відавочна, што рыхтавалася менская “Цяньаньмэнь”, і ўся нашая дзесяцігадовая супраціўленчая і асьветніцкая праца па ўзьняцьці беларускага духу магла быць панішчана.

“Цяньаньмэнь”, як бачым, злучылі з “другім падпалам Райхстагу”, і зараз ідзе пагром вольнай Беларусі.

Але абудзіліся новыя сілы. Барацьба працягваецца. Беларусы, відаць, ніколі ня думалі, што такім цяжкім і доўгім можа стаць змаганьне з вар’ятам, калі за плячыма яго стаяць Масква, Лубянка і ўся гэбоўская кантора. Гісторыя дае беларусам суровую лекцыю, што такое ўлада, Радзіма і воля. Яна заклікае і сьведчыць: станьце нацыяй па культуры, станьце нацыяй па духу, шануйце мову сваю беларускую, любеце сваё, станьце гаспадарамі на сваёй зямлі, у сваёй краіне, змагайцеся за свабоду.

***11-13 лютага 2011 г.*** **Зянон Пазьняк**

# “ВОСЬ ЗА ГЭТА І ПАКАРАНЬНЕ”

Апошнім часам антыбеларускі рэжым перастаў маскавацца пад законнасьць і пачаў адкрыта дэманстраваць рэпрэсіўную вайну супраць беларускага народа і яго лепшых прадстаўнікоў.

Вайна пачалася адразу з 1994 года (пачатак ўлады Лукашэнкі), але да 19 сьнежня мінулага году этнацыд маскавалі пад змаганьне з “апазыцыяй” і ўсімі, “хто супраць прэзыдэнта”. Пасьля 19-га сталі хапаць і біць усіх, хто трапляўся пад руку і пад падазрэньне КГБ. Выконваецца задача, падобная да вайсковай апэрацыі: прэвентыўная зачыстка сацыяльнага поля грамадзтва і ўсяленьне страху ў сьвядомасьць нацыі.

Пад гэтую тыпова акупацыйную задачу падганяюцца і рэжымныя “законы”, ацэнкі і дзеяньні.

Рэжымнае заканадаўства, якое характарызуецца праўнай неадэкватнасьцю, набывае рысы гратэскнай фантастыкі. Узьнік нават праект караць людзей (арыштоўваць) за бязьдзейнасьць і прысутнасьць на вуліцы. Заканадаўча замацавалі поўную свабоду дзейнасьці спэцслужбаў супраць цывільнага насельніцтва і поўную беспакаранасьць КГБ. КГБ можа ўламывацца ў жыльлё беларуса без санкцыі пракурора, зыходзячы са сваёй “мэтазгоднасьці”, і калі ў выніку ўламаньня будзе забіты нехта з уладальнікаў жыльля ці там прысутных асобаў, гэбісты ня будуць несьці ніякой адказнасьці. Такое “заканадаўства” – прыкмета ваеннага часу ў акупацыйным рэжыме. У мірны час дзейнічаюць іншыя прынцыпы права і іншыя функцыі КГБ.

Рэжым узмоцнена (я б сказаў, татальна) уцягвае міліцыю ў палітычныя рэпрэсіі супраць народа. Прагучэла нават патрабаваньне кіраўніка ўлады, каб міліцыя пры гэтым забылася на прыстойнасьць, ня думала, як будуць ацэненыя іхныя паводзіны, а дзейнічала жорстка.

І гэта пры тым, што ў самой Беларусі палітычная сытуацыя спакойная (каб не сказаць “балотная”), грамадзянская супольнасьць разбурана, пануе маўчаньне і стабільны страх. Вайна з народам (пэрманэнтная вайна) адбываецца з аднаго боку – з боку рэжыму.

Самы подлы прыём, на які ня раз адважвалася антынародная ўлада, -- гэта імітацыя тэракту, калецтва і забойства людзей (“прынцып Лёзна”).

У 2008 годзе інсьпіраваны “тэракт” даў падставы ўзурпатару распачаць татальную дактыласкапію беларусаў. Такая мера ёсьць складовай часткай палітыкі этнацыду, якую адкрыта робіць рэжым (насаджэньне страху, кантроль над асобай).

Некалькі гадоў таму, калі рэжымным КГБ кіраваў расейскі вайсковец генэрал Жадобін, ён з салдафонскай просталінейнасьцю паведаміў аб зьмесьце сваёй працы, у выніку якой быў складзены сьпіс 1767 актыўных беларусаў, якіх у выпадку грамадзкага абвастрэньня (па словах генэрала) “нэўтралізуюць” у першую чаргу.

Паколькі вайна “пэрманэнтная”, складаньне “сьпісаў” на рэпрэсіі не спыняецца ўжо 17 гадоў. Нядаўна на *Дзяды* ў Менску адбылося традыцыйнае Крыжовае шэсьце ў Курапаты. Шэсьце было афіцыйна дазволена двума выканкамамі – гарадзкім і абласным, -- быў узгоднены час і маршрут. І тым ня менш журналісты налічылі два дзясяткі пераапранутых “ціхуноў”, якія пастаянна здымалі ўсіх людзей на фота і відэа-камэры. Такія дзеяньні неадэкватныя па мерках мірнага часу і не вынікаюць з праўнай сытуацыі. Навошта ўлада гэта робіць? Дзеля чаго? А дзеля таго ж. Дзеля сьпісу нацыянальна актыўных беларусаў, дзеля рэестру “сьвядомых”, “урагоў”, якіх “нада унічтажаць” (а пакуль што запалохаць).

Ход пастаяннай вайны зь беларусамі і нязьменныя ўстаноўкі рэжымнага этнацыду ўвесь час асімілявалі зьнешнія падзеі, канфлікты і раздражняльнікі ў сваё антыбеларускае рэчышча. Якія б ні былі “газавыя”, “нафтавыя”, “малочныя”, “цукровыя” і іншыя канфлікты з Крамлём, якая б ні была рыторыка, якія б ні разыгрываліся

спэктаклі і інсцэніроўкі з Расеяй, -- унутраная антыбеларуская палітыка рэжыму ніколі не зьмянялася. Наадварот, любыя зьнешнія падзеі рэжым стараўся скарыстаць для яшчэ большага прыдушэньня беларусаў, беларускай асобы, свабоды і культуры.

На цяперашнія паводзіны ўзурпатара ўплываюць два зьнешнія чыньнікі: пазыцыя Расеі (якая заганяе яго ў кут) і разгром рэжыму Кадафі ў Лібіі. Паранойная рэакцыя на гэтыя раздражняльнікі спарадзіла тыпова паранойную логіку і адпаведныя дзеяньні па абароне ад небясьпекі (тэрытарыяльная абарона, новае 120-тысячнае войска, ваенізацыя ўладнай вертыкалі, падрыхтоўка да партызанскай вайны, пазыцыянаваньне сябе ў ролі ваеннага стратэга, галоўнакамандуючага, спасылкі на падкопы “сусьветнай закулісы” і г. д.).

Трэба мець на ўвазе, што рэжым узурпатара ўлады ў Беларусі не праводзіць нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі. Гэта тып адзіналічна-карпаратыўнай улады, якая прыватызуе дзяржаву ў сваіх інтарэсах. Уся палітыка такой улады прадыктаваная гэтымі яе прыватнымі інтарэсамі.

Па аналагічнай схеме была пабудавана ўлада Кадафі з той істотнай розьніцай, што Лібія – рэсурсная (нафтавая) краіна, і дыктатар не зьнішчаў шматаблічную культуру сваёй нацыі. Канцэпцыя ягонай улады грунтавалася на клясычным фашысцкім падыходзе. Правадыр і ягоная група ўлады забясьпечваюць грамадзтву матэрыяльны дабрабыт і гарантаванае сацыяльнае існаваньне (і Кадафі забясьпечыў тое), але адлучаюць народ ад удзелу ў кіраваньні дзяржавай, ад палітыкі і свабоды (маўляў, за народ паклапоціцца фюрэр). Аднак людзі, калі яны не апускаюцца да “скоцкага” стану (ад купалаўскага “ня быць скотам”), рана ці позна пачынаюць змагацца за свабоду.

Мэтадалёгія разуменьня ўлады Лукашэнкам у гэтым сэнсе такая, як у Кадафі, -- тыпова фашысцкая (і раўненьне на Гітлера тут не выпадковае). Аднак ідэалёгія ягонай палітыкі забясьпечваецца рэсурсным цэнтрам іншай дзяржавы і залежная ад яе. Таму ягоны гэбісцкі фашызм (гэбізм) і ўся ўладная сістэма ёсьць прамаскоўская, антынацыянальная, антыбеларуская. Ды-й не дыктатар ён, а тыповы сатрап маскоўскі, ня гледзячы на ўсю ягоную квазі-самастойную рыторыку і жаданьне стаць крамлёўскім царом.

Тут прыдзецца сказаць пра рэчы добра вядомыя сярод палітыкаў за мяжой і ў Беларусі, але пра якія мала пішацца (з пэўных прычын). Заходнія экспэрты ацэньваюць украдзены ў народа набытак Лукашэнкі прыблізна ў 10-12 мільярдаў даляраў (асабісты капітал Кадафі – у 200 мільярдаў).

Скрадзеныя грошы Лукашэнка трымаў у сэрбскім банку зь ведама Мілошавіча (“друг Слабадан”). Перад крахам Мілошавіча ў 2000 годзе гэтыя грошы былі вывезеныя. (Апэрацыяй пагрузкі грошай на транспартны самалёт кіраваў старэйшы сын узурпатара. Для перавозкі даляраў з банку на борт самалёта Мілошавіч выдзеліў яму вайсковыя браневікі. Самалёт падняўся ў паветра і ўзяў курс на Лібію.)

З таго часу ў Лукашэнкі зьявіўся “друг Муамар” і пачынаюцца незразумелыя ўзаемныя візіты. У верасьні гэтага года (калі “друг Муамар” быў яшчэ жывы), у Менскім аэрапорце прызямліўся транспартны самалёт, які прыляцеў зь Лібіі невядома з чым. Гэтая падзея была адлюстравана нават у беларускіх СМІ. Але беларускія журналісты ў такіх выпадках «малацікаўныя», і тэма зьнікла з інфармацыі.

“Няведама што” – гэта якраз “тое самае”, плюс, як паведамляюць, частка грошай самога Кадафі.

Дзе цяпер гэты “скарб” можна толькі здагадвацца. Але грошы зь Лібіі вывезеныя, рэйс быў і самалёт у Менскім аэрапорце прызямліўся. Хаця тэарэтычна сваю “форсу” ўзурпатар мог бы завесьці таксама ў якую-небудзь іншую рэжымную краіну (ужо зь Менску).

Тым часам цяперашнія паводзіны Лукашэнкі ўскосна сьведчаць пра важкі зьмест верасьнёўскага авіярэйсу. Узурпатар рыхтуецца ваяваць за ўладу і майно. Яму ўсюды

здаюцца ворагі: і з Захаду, і з Усходу, і знутры. Уцякаць ужо няма куды. Улада і майно, як стопудовая гіра на нагах, прывязалі яго да зямлі, якую ён ніколі не шанаваў, да нелюбімага народу, які ён гатовы загнаць у зямлянкі. І калі паўстане выбар паміж уладай і народам, паміж народам і майном -- будзьце пэўныя – пасыплюцца і кулі, і бомбы на галовы “сьведамых” і “нясьведамых”, “чэсных” і “нячэсных”, “вашывых блох” і “адмарозкаў”. Гэты чалавек ужо даказаў, што ён здольны на забойства. Урэшце рэшт нянавісьць чалавека, надзеленага абсалютнай уладай, мае заўсёды прадказальны вынік і прадказальны зыход.

І цяпер трэба ўсё ж пагаварыць пра тое, пра што мне ніколі гаварыць не хацелася з прычыны грамадзкай бяссэнсавасьці такой гаворкі – пра нашу нацыянальную ганьбу і сорам.

Як так сталася, што разумны працавіты народ разьвітай краіны з індустрыяльным грамадзтвам, адукаваным насельніцтвам і інтэлігенцыяй, з высокай гістарычнай культурай паставіў над сабой і надзяліў уладай вар’ята, хама, паранойную асобу, чалавека неадэкватнага, злога, амаральнага, бескультурнага, неадукаванага, які адкрыта выказваў нянавісьць да мовы, культуры, свабоды і незалежнасьці народа, таго народа, які яго выбіраў. І гэта ў краіне, якая толькі што здабыла незалежнасьць. Парадокс, сюррэалізм, абсурд – але факт.

Абсурд немцаў, якія ў 30-х гадах мінулага стагоддзя паставілі над сабой нэўрастэніка, малаадукаванага яфрэйтара і фашыстаў, вынікаў з эканамічнага крызісу, зь вялікай дэпрэсіі і з зьняважанага нацыянальнага пачуцьця, прыніжанага Вэрсальскім замірэньнем. Матывацыя грамадзтва была прымітыўнай, але адэкватнай: вырвацца з абцугоў крызісу і рэпарацый, вярнуць страчанае.

У Беларусі адбылося з дакладнасьцю наадварот. Алагізм паводзінаў грамадзтва, якое паставіла над сабой Лукашэнку, вынікаў з сацыяльна-эканамічнага крызісу, зьніжэньня ўзроўню жыцьця і з адсутнасьці нармальнага нацыянальнага пачуцьця. Матывацыя была прымітыўнай і неадэкватнай: вярнуцца ў сацыялізм, у разьмеркаваньне, у клетку, зь якой толькі што выскачылі.

Такім чынам нацыянал-сацыялізм Гітлера (скарочана “нацызм”) і люмпен-сацыялізм Лукашэнкі прыводзяць да аднолькавых палітычных вынікаў – да фашызацыі ўлады, з той, аднак, розьніцай, што нацызм, накіраваны на экстэнсіўнае (агрэсіўнае) разьвіцьцё і пашырэньне дыктатуры, а люмпен-сацыялізм (лукашызм) ськіваваны на самога сябе, на суіцыднае вынішчэньне грамадзтва. Карэляцыя з паранойнай асобай тут адпаведная.

Тое, пра што я тут пішу, Народны Фронт казаў і 17, і 18 гадоў таму. Мне прыходзілася казаць пра антынацыянальны рэжым, пра нашу народную небясьпеку ўвесь час, заклікаць падумаць, паглядзець, азірнуцца. І тут былі найбольшыя ўдары і найбольшы тупік. Адукаваныя людзі глядзелі на відавочнае і ва ўпор, наўпрост нічога ня бачылі. Слухалі яго косназычныя, непісьменныя разважаньні, яго дрымучае хамства, крыклівасьць, зьвяртаньне да ўсіх на “ты”, зьнявагі нацыянальнай годнасьці і культуры, слухалі і – ня чулі. Гэта шакавала.

Дэнацыяналізацыя, нацыянальная няразьвітасьць сьвядомасьці і нацыянальная сьлепата такая ж (і нават больш) небясьпечная грамадзкая паталогія, як і агалцелы, ірацыянальны вялікадзяржаўны (гітлерскі) шавінізм. Гэта ёсьць жыцьцё бяз волі і нежаданьне свабоды.

У Вярхоўным Савеце 12-га скліка期ньня да дэпутата Лукашэнкі адносіліся аднолькава грэбліва і без павагі як Апазыцыя БНФ, так і камуністы. Нястрыманая балбатлівасьць ад мікрафону, дэвіянтныя паводзіны, сістэматычная лагічная амбівалентнасьць у выступах (на раніцы казаў адно, вечарам – адваротнае), падазронасьць, скандальная крыклівасьць у дыскусіях і ўвогуле – нейкая характэрная для яго “лапцюжнасьць” у захаваньні – усё гэта бачылі ўсе і сур’ёзна яго не ўспрымалі.

Дэпутаты часта былі сьведкамі ягоных дзіўных выхадак, якія адэкватна нельга было растлумачыць.

Усё тое мы ведалі і бачылі яшчэ тады, у Вярхоўным Савеце, ведалі пра інфантылізм псіхікі, пра бязроднае паходжаньне, пра скандальнасьць у сям'і і разрыў з жонкай, ведалі пра зьбіцьцё трактарыста і як яго ратаваў ад турмы сакратар магілёўскага абкама КПБ(КПСС) Васіль Лявонаў, ведалі пра яго вечную падазронасьць, вечныя пошукі ворагаў, службу ў турме, у КГБ, ведалі пра яго бахвальства, хлусаманію, некамунікабельнасьць, саветызм, беларусафобію і помсьлівасьць.

Нікому не магло нават прысьніцца ў страшным сьне, што такая асоба стане прэзыдэнтам незалежнай Беларусі. Увесь яго дэвіянтны спосаб захаваньня, паводзіны і логіка думаньня цалкам укладваліся ў псіхічны эпікрыз параноўі. Мала хто ў гэтым сумняваўся, але сур'ёзна не адносіліся. З паранойяй жыве мноства людзей, працуюць, псуюць кроў супрацоўнікам і суседзям, жонцы, мужу, дзецям, сварацца, б'юцца, судзяцца, пішуць кляўзы і творы мастацтва. Але адна справа -- дырэктар саўгаса, іншая – прэзыдэнт краіны. Апазыцыя БНФ (выступаў Сяргей Навумчык) нават паставіла пытаньне аб прыняцьці пастановы Вярхоўнага Савета пра абавязковае медыцынскае абсьледваньне Лукашэнкі, але дэпутаты-камуністы завалілі гэтае пытаньне.

Неверагоднае адбылося, бо ў тым дэнацыяналізаваным грамадзтве, якое засталося ў спадчыне ад камунізму, такое магло стацца: Лукашэнку зрабілі прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь.

І цяпер -- якія вынікі (а вынікі ўжо ёсьць) гэтага грамадзкага асьляпленьня? (Я кажу “грамадзкага”, бо вынікі немагчымыя былі пры адным Лукашэнку. Дзеля гэтага патрэбная была маніпуляцыя грамадзтвам і мільёны лукашэнак.)

Маладая дзяржава ідэёва стабілізуецца і становіцца на нацыянальныя ногі, калі ў сфэры ідэалаў свабоды і незалежнай нацыянальнай палітыкі вырастае новае пакаленьне (патрэбна мінімум дваццаць гадоў). Гэта ёсьць працэс росту. Ён прывязаны да часу гэтак жа, як і разьвіцьцё чалавека. Ён абавязковы. Адтэрміноўка яго і разьвіцьцё ў неадэкватных ўмовах прыводзіць да збочаных дэфармацыяў, спараджае скалечанае грамадзтва, далейшае існаваньне якога ператвараецца ў пакутлівую тэрапію змаганьня за духоўнае і культурнае выжываньне нацыі.

Першае пакаленьне незалежнай Беларусі вырасла ў змроку антыбеларускай палітыкі.

Тое, што дзяцінства і юнацтва нашай незалежнай дзяржавы адбывалася ў несвабодзе, у цемры і нянавісьці антынацыянальнага астракізму, дало такія шкодныя вынікі, якія прыроўніваюцца амаль што да катастрофы, калі б яшчэ не захавалася, не зьберaглося сьветлае, добрае, чыстае, што ёсьць ў лепшых нашых людзях.

Палітыка антыбеларускай хунты пабудавана на антыбеларускасьці, нянавісьці, хлусьні, хамстве, страху і рэпрэсіях.

Груба парушаная Канстытуцыя і суверэнітэт Беларусі – ліквідаваная дзяржаўная мяжа на ўсходзе (а гэта выбраная пагроза незалежнасьці); заключаныя незаконныя антыканстытуцыйныя пагадненьні аб незаконнай “саюзнай дзяржаве” з Расеяй, што кваліфікуецца як здрада Радзіме, і дало магчымасьць чужой дзяржаве бесперашкодна сьцягваць і забіраць беларускую рабочую сілу, рабаваць таварны рынак, беларускую маёмасьць і тэрыторыі, кантраляваць сістэму ўлады і працэсы ў краіне. Гэта злачынства, якое патрабуе вышэйшага абавязковага пакараньня.

Грунтоўна падарвана нацыянальная культура, дыскрымінавана беларуская мова, вынішчана беларуская школа і адукацыя, кнігавыдавецтва і пэрыядычны друк, ліквідавана нацыянальнае радыё і тэлебачаньне, падарвана мараль і дэмаграфія, навука і мастацтва, заведзена ў тупік эканоміка, дэзарганізавана фінансавая сістэма. Усе гэтыя разбурэньні нацыянальнага жыцьця значна глыбейшыя і больш зьнішчальныя, чым былі яны зроблены за 73 гады савецкай акупацыі.

За гэты цёмны час дно зрабілася верхам. Людзі неадукаваныя, цёмныя, прымітыўныя, злыя, малакультурныя, – сталі начальнікамі, падняліся ў гару ва ўладу, сталі кіраваць нацыяй, гарадамі, раёнамі, адукацыяй ды культурай. Палітыка, узгадаваная на паранойнай нянавісьці, раскалола беларускае грамадзтва і ўнесла гэтую ірацыянальную нянавісьць у рэальнае жыцьцё людзей. Зроблена вялікае злачынства. Народ не павінен ненавідзець -- сябе.

Другім жахлівым вынікам паранойнага рэжыму ёсьць ліквідацыя грамадзкіх ідэалаў (і ўвогуле – ідэалаў). За 17 гадоў ненармальнасьці страчана цэлае пакаленьне беларусаў. Зьявілася шмат людзей з заніжанай жыцьцёвай арыентацыяй, без духоўных запатрабаваньняў і з "псіхалогіяй травы".

У адным з артыкулаў журналістка Сьвятлана Калінкіна прыводзіць вымоўную статыстыку конкурсных запатрабаваньняў пры паступленьні ў вайсковыя вучэльні. Самыя вялікія конкурсы жадаючых – не на лётчыкаў, а ва ўнутранае войска, у ахову і на вайсковыя спэцыяльнасьці тылу. Юнакі страчанага пакаленьня імкнуцца стаць турэмшчыкамі і тылавымі пацукамі, інтэндантамі, каб зарабляць і не рызыкаваць. Турэмшчык – прэстыжная прафэсія!

Жыцьцё ў несвабодных умовах, у штодзённым, інсьпіраваным зьверху хамстве, у дэфармаванай небеларускай школе і ўнівэрсытэце рэзка абнізіла культуру, веды і адукацыю несвабоднага пакаленьня беларусаў. Сорамна казаць, але на Захадзе іх адразу пазнаеш па бескультур'ю, няўменьні сябе паводзіць зь людзьмі і няведаньні роднай мовы.

Вынік рэжыму – катастрафічнае разбурэньне і дэградацыя беларускай вёскі, пашырэньне п'янства, падрыў этнічнай асновы народа.

Але самы цяжкі вынік этнацыду і паранойнай сістэмы ўлады ёсьць усё ж пакаленьне без ідэалаў, бяз мовы, бяз гонару, бяз сьведамасьці і нацыянальных абавязкаў.

Зрэшты, усё гэта, хоць і вялікая, але пасыўная частка пакаленьня (і ў цэлым – зьявы). Ёсьць шмат моладзі, якая актыўна не ўспрымае ўзурпатара і ягоную палітыку, якая шукае ідэалы існаваньня і знаходзіць іх у вольнай Беларусі, за якую трэба змагацца. Гэтая моладзь, як пасталее, як бы ня нішчыў яе рэжым, вызначыць будучыню краіны.

Я невыпадкова зьвяртаю ўвагу на псіхічную падкладку ўлады антыбеларускага рэжыму. Тут адказ на шмат якія пытаньні. Абсалютна беспэрспэктыўныя ўсялякія дзеяньні беларусаў, накіраваныя на перамовы, пагадненьні, патрабаваньні, зразуменьні ці супрацоўніцтва з Лукашэнкам. Тут не было і ня будзе ніякіх зрухаў ні на каліва, ні на ёту. Не палепшаць, ня зьменяць ніякое выбарчае заканадаўства, не адчыняць ніякую новую беларускую школу, не адчыняць ніякі новы беларускі часопіс, не зарэгіструюць ніякую партыю і арганізацыю і г. д. Увогуле, не было і ня будзе з шчырага калабаранцкага канфармізму з вар'ятам нічога. Ня трэба ганьбіцца і марнаваць час. Ці 17 гадоў было мала? Ужо граблі разагрэліся, не вытрымліваюць, а ілбам – хоць бы што!

Прычына ня ў цьвёрдасьці і не ў аргумэнтах узурпатара, а ў ягоным эпікрызе. Калі каму не хапае вопыту і ведаў, можна пагаварыць зь любым псіхіятрам, і ён растлумачыць, як фармуецца логіка і псіхіка паранойі. Ворагі тут існуюць і ўзьнікаюць пастаянна, і гэты працэс ніколі не спыняецца. Ён пэрманэнтны. Сябры рана ці позна абавязкова робяцца ворагамі (пытаньне часу). З ворагамі, паводле такой псіхікі, нельга суіснаваць, з ворагамі трэба змагацца і перамагаць (улада дае магчымасьць зьнішчаць). Ворагі маскіруюцца. Ворагаў трэба выяўляць і г. д.Тут цэлая лагічная сістэма паводзінаў цалкам рацыянальная, дзе неадэкватнай і памылковай ёсьць толькі зыходная ідэя. Параноіка яшчэ ніхто ніколі ні ў чым не пераканаў (нават псіхіятры), ў яго задушана пачуцьцё гумару. Будзеш шмат пераконваць – узбудзіш падазрэньні, пачнеш жартаваць – лепш не жартаваць. Тым часам ёсьць людзі, перад якімі параноік псіхічна капітулюе. Яго можна моцна напалохаць. Яго псіхікай можна маніпуляваць. І ў

гэтым -- вялікая небясьпека такіх людзей, асабліва ва ўладзе, асабліва ў краіне, дзе таемныя структуры кантралююцца з вонку.

Цяпер, калі ўзурпатар пачаў адкрытую прэвентыўную вайну з народам, ужо нават самыя цьвёрдагаловыя пачынаюць разумець, што хадзіць на выбары і падтрымліваць рэжым ня трэба, што тактыку абструкцыі і байкоту рэжыму трэба было пачынаць даўно.

Зараз вельмі істотна хутка накапіць нацыянальныя сілы і ня даць іх справакаваць, зьнішчыць па частках. Дзеля гэтага трэба шматкроць пашырыць сістэму паралельнай нацыянальнай асьветы актыўных пластоў грамадзтва (найперш распаўсюд літаратуры і інфармацыі). Бяз гэтага ня будзе перамогі. Трэба памятаць вопыт 90-х, калі авангард перамог, а грамадзтва аказалася не гатовым да разуменьня нацыянальнай палітыкі. Асьветніцкія сілы і магчымасьці ў беларусаў ёсьць, патрэбна толькі гатовасьць і рашучасьць працаваць дзеля Айчыны.

Віртуальны стан абложанай крэпасьці, у якім зараз існуе псіхіка Лукашэнкі, узмацненьне рэпрэсій і падрыхтоўка да вайны аўтаматычна змушае беларусаў гуртавацца і дзейнічаць паралельна, схавана і няяўна, строга рэгламэнтуючы легальныя дзеяньні. Ёсьць шмат добрых справаў, якія можна рабіць эфэктыўна і плённа, не выходзячы (да пары) на паверхню. Тым часам культурная праца павінна разьвівацца адкрыта. Гэта вялікая сіла, вялікія магчымасьці ў змаганьні з цемрай. Трэба іх скарыстаць.

Раздумляючы пра 17 страчаных гадоў, пра сорам і ганьбу, пра спакойны, працавіты, добры наш народ, пра грамадзкі абсурд і гістарычнае пакараньне, я задаў аднойчы нечакана наўпрост пытаньне прыяцелю, які патэлефанаваў мне адтуль, зь Беларусі, з нашага сьветлага летуценнага раю, launched ператворанага ў стойла страху і паняверкі:

-- Скажы, чаму наш добры вялікі народ скарыўся перад цемрай і стаў жыць у страху, бяз гонару і павагі? Чаму так сталася?

Доўгая маўчанка. І потым чую:

-- Гэта ёсьць пакараньне Божае за нелюбоў да сябе. Гасподзь даў нам жыцьцё, таленты, мову, зямлю, волю, культуру, а людзі адрынулі дар Божы, кінулі сьвіньням пад ногі. Вось за гэта і пакараньне.

*Лістапад 2011 г.* Зянон Пазьняк

# МУСІЦЬ БЫЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЯА ЛЬТЭРНАТЫВА РЭЖЫМУ

*(Выступ на кастрычніцкім Сойме Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)*

...Час сапраўды абвастрыўся. Ідзе адкрытая маніфэстацыя ўлады цемры. Гэта першае, што відаць. Другое, у асяроддзі рэжыму, як я мяркую, стала зьяўляцца прадчуваньне канца. Ёсьць факты, якія дазваляюць так думаць.

Тым ня менш само нічога не станецца. Але трэба разумець, што абвал улады сам па сабе не паправіць становішча, калі не падрыхтаваць сур'ёзнай альтэрнатывы гэтай цёмнай уладзе.

Падрыхтоўка грамадзтва да нацыянальнага думаньня і вызвольнай барацьбы застаецца нашым важным дзеяньнем. Бяз гэтага нічога сур'ёзнага ня можна будзе арганізаваць. Галоўным у нашай працы з людзьмі мусяць быць ня толькі пытаньні абвалу рэжымнай эканомікі і пагаршэньня сацыяльных умоў жыцьця, але і пытаньні нацыянальнага гонару, беларускай культуры, школы, мовы і інфармацыя пра небясьпеку з боку Расеі. Сацыяльны пратэст ужо высьпявае сам сабой. Наша задача накіраваць яго на праўдзівы і рэальны шлях -- у беларускае нацыянальнае рэчышча, аб'яднаць гэтыя накірункі. Так, як некалі зрабіў гэта наш Народны Фронт, накіраваўшы антыкамунізм у нацыянальна-вызвольную плынь. Гэта забясьпечыла перамогу. Цяперашнія сацыяльна-пратэстныя настроі самы па сабе нічога ня вырашаць, нават калі яны перарастуць у нейкія падзеі. Урэшце ўсё скончыцца пшыкам, калі грамадзтва ў сацыяльнай барацьбе ня будзе валодаць нацыянальнай ідэалёгіяй. Пшыкам павінна скончыцца ідэя правальшчыкаў аб арганізацыі Народных сходаў. І якраз з-за адсутнасьці таго, той працы, пра якую я тут кажу, плюс адсутнасьць даверу да правальшчыкаў з боку людзей.

...На працягу года мы шмат увагі і працы прысьвяцілі 20-годдзю Незалежнасьці Беларусі, разумеючы, што гэта ня толькі гісторыя. Ёсьць добрыя вынікі. Усім нам трэба працягваць гэтую тэму (інфармацыя, распаўсюд літаратуры, мерапрыемствы).

...Наперадзе чарговыя рэжымныя выбары. Мы ўжо цяпер павінны зноў рыхтаваць грамадзтва да няўдзелу ў фальшывым фарсе. Падзеі даюць нам новыя абгрунтаваньні і аргумэнты. Відавочна, што асобы, якія засьвяціліся на мінулых выбарах, зноў пойдуць ў нагу з рэжымам (на выбары па рэжымным сцэнары). Трэба будзе гэта ўлічваць.

*2 кастрычніка 2011 г.* Зянон Пазьняк

# ЗЬВЕР СКОЧЫЎ

Трэці "падпал Райхстагу" стаў крывавым. 11-га красавіка ў выніку выбуху самаробнай бомбы ў Менскім мэтро загінула 13 чалавек (потым памерла яшчэ 5) і паранена больш за 200. Пытаньне часу: калі будуць выяўленыя сапраўдныя і канкрэтныя арганізатары і выканаўцы крывавага злачынства, засьведчаныя на аснове фактаў, доказаў і ўлік. Гэта важна, інакш забойствы будуць працягвацца стануць нормай, як у Расеі. Зьвер панюхаў чалавечай крыві і робіцца небясьпечным.

Ужо вечарам, 11-га красавіка, паглядзеўшы відэазапіс нарады ў Лукашэнкі, стала шмат што зразумелым. Насьцярожыла фальшывасьць у ягоным захаваньні і самадурства загадаў, якія не стасаваліся з заканадаўствам нават гэтай улады. Пастаўлена задача знайсьці бамбіста хутка, працаваць дзень і ноч, дакладваць пра ўсё асабіста ўзурпатару, і каб кожны дзень былі вынікі. Папутна было сказана, што ён сам усё ведаў, прадбачыў і папярэджваў, і што "яны" (?) у спакоі "нас" (гэта значыць "іх") не пакінуць.

У гэты ж вечар правіцель зрабіў учынак, які зьбянтэжыў многіх. Праз дзьве з паловай гадзіны пасьля выбуху ён, у суправаджэньні відэакамэр прыехаў на месца трагедыі (яшчэ дым не разьвеяўся і мёртвых не забралі) ускладаць кветкі, цягнучы за руку сваё пазашлюбна народжанае дзіця. Мяркую, што нават людзі, далёкія ад веданьня ўсіх такіх справаў, аслупянелі. Гэта азбука, што бамбісты шмат дзе, калі робяць выбух зь нейкай забойчай мэтай, то, як правіла, закладваюць побач другі зарад, каб узарваць яго, калі сюды прыедуць знаныя асобы. Таму такія асобы туды ня едуць, і ахова павінна іхняй прысутнасьці не дапусьціць. У Менску (ужо другі раз) такіх абавязковых правілаў не прытрымліваюцца. Чаму? Адказы могуць быць розныя. Адзін зь іх – што знаная асоба дакладна ведала: другога выбуху ня будзе. Адкуль магло быць такое веданьне?

Аднак найбольш агаломшыў людзей другі выступ узурпатара на тэлекамэры 13-га красавіка. Гэта быў агрэсіўны выступ нэўрастэніка з зададзенай мэтай. Паслухайма, што было сказана (ёсьць відэазапіс у Сеціве: http://rutube.ru/tracks/4326197.html?v=e680b50e6a138d8a54c337a65f1554df&autoStart=true&bmstart=1000 )

"Я прасіў, каб былі вынікі. У 5.00 злачынства было раскрыта. Чэкістам спатрэбіліся суткі, каб у 21.00 12-га красавіка бяз шуму, стрэлаў і траскатні, затрымаць тэрарыстаў. Мы ведаем, што і як. Пакуль мы толькі ня ведаем, дзеля чаго. Удзячны чэкістам і міліцыі. Аналітыкі, сьледчыя, экспэрты апрацавалі велізарны масіў аўдыё і відэа матэрыялаў. І што асабліва цешыць – не выходзячы з кабінэтаў вылічылі злачынцаў."

Пасьля гэтага ўзурпатар загадвае "сілавікам" не расслабляцца: "Зачыстка павінна быць праведзена па ўсіх накірунках! Гэта павінна стаць навукай для ўсіх людзей. Усе гэтыя нягоднікі – працавалі токарам і электрыкам, размаўлялі з шматлікімі калегамі. Няўжо ні ў каго ня ўзьнікла падазрэньня?.. Мы атрымалі тысячы сігналаў. Я ўпэўнены, што мы раскрыем яшчэ тысячы злачынстваў на падставе гэтых дадзеных... Затрыманыя прызналіся ня толькі ў зьдзяйсьненьні тэрарэстычнага акту ў мэтро, але на іх сумленьні і тэракты, зьдзейсьненыя ў дзень незалежнасьці і ў Віцебску."

І далей – самае цікавае: "Я даручыў разглядзець усе заявы ад палітычных дзеячоў. Мы шукаем саўдзельнікаў і заказчыкаў. Гэтыя дзеячы... можа адчыняць карты і пакажуць, хто заказчык... Усіх прыцягнуць і дапытаць, ня гледзячы ні на якую дэмакратыю, стогны і выцьцё замежных перажывацеляў".

Потым ён зноў запатрабаваў ад "сілавікоў" "не расслабляцца". "Рэжым нясеньня службы ўзмоцнены не таму, што мы чагосьці чакаем, -- кажа ўзурпатар, -- а таму, што махавік раскручаны... Любая паніка, у тым ліку па поваду прадуктаў, валюты, павінна спыняцца, -- шыпеў Лукашэнка. – За распаўсюджваньне паклёпніцкіх выдумак

вінаватыя будуць прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці... Я распарадзіўся знайсьці гэтых нягоднікаў, затрымаць іх і дапытаць, як сапраўдных злачынцаў... Ніякага дараваньня ім ня будзе, яны ствараюць асяроддзе і бударажаць нашых людзей", -- сказаў узурпатар.

Гэты выступ, ацэнкі і паводзіны – тыповыя для Лукашэнкі: неадэкватныя, нэўрастэнічныя і нязгодныя з правам, нават у сэнсе лукашысцкіх пісаных законаў і палажэньняў. Але сутнасьць іх вельмі вымоўная: выкарыстаць трагічныя падзеі ў мэтро супраць апазыцыйна настроеных людзей і ўсіх нязгодных, зваліць на іх віну і за выбух у мэтро, і за валютны крызіс, і за недахоп прадуктаў (грэчкі, алею і інш.), разглядаць такіх асобаў "як злачынцаў", "прыцягнуць", "дапытаць" і г. д.

Усё выглядае груба, прымітыўна і дзіка, але тое ёсьць факт. У лукашысцкіх афіцыёзных СМІ імгненна пачалася істэрыка супраць апазыцыйна нязгодных беларусаў, як "пасобнікаў злачынцаў". Адзін "палітолаг" так і напісаў: "Толькі тыя, хто ўсе гэтыя гады заклікаў дэстабілізаваць абстаноўку ў Беларусі, і могуць мець дачыненьне да выбухаў у Менскім мэтро".

Але ўсіх пераўзышла (як і трэба было чакаць) "Советская Белоруссия". Ніжэй даем цытату без перакладу, надта ж характэрна фальшывы савецкі стыль 30-х гадоў. "Когда безвестные студенты в обгоревшей одежде таскали носилки с ранеными, эта гнусная публика радостно обсуждала, как замечательно опрокинуто стремление властей к порядку и спокойствию в стране. «Пусть теперь попробуют говорить о безопасной Беларуси!» — ликовали они, когда девчонка с окровавленными коленями ползала по асфальту и искала мобильник, чтобы позвонить маме. «Наконец–то это сонное быдло встряхнется!» — потирали руки свободолюбивые и гуманные «комментаторы», пока чей–то родной человек умирал в больнице". (*Крыніца:* http://www.sb.by/post/115266/)

Такую лексіку, стыль (і адпаведную палітыку) нашае грамадзтва ўжо крывава перажыло ў 30-х гадах мінулага стагоддзя. Паўтарэньне чагосьці падобнага цяпер становіцца фарсам. Але гісторыя паказвае, што і фарс можа стацца крывавым і ня менш разбуральным для культуры і нацыі.

Лукашэнку так ня церпіцца хутчэй выканаць свой сцэнар, што ён, як актор-неўрастэнік, не вытрымлівае ніякіх, нават мінімальных, паўз. Учора загадаў "раскрыць" – сёньня ўсё і "раскрылі" (нават з перавыкананьнем пляну). Адразу ж у гэты дзень узурпатар аб'явіў "асабістую падзяку" усім, хто нібыта "раскрыў" злачынства, распарадзіўся ўсіх узнагародзіць дзяржаўнымі ўзнагародамі і грашовымі прэміямі. Усё – за суткі, як у Хлестакова: "Усё напісаў, усіх зьдзівіў". Засталося толькі задушыць апазыцыйнае грамадзтва і ўсіх нязгодных. Але тут ужо пачынаецца нешта падобнае на "клініку". Ня буду казаць пра хамства, пра нізкі ўзровень культуры і лексікі (факт ёсьць факт – такі чалавек мае абсалютную ўладу ў Беларусі), але тое, аб чым і як ён цяпер гаворыць, паказвае, што ўзурпатар губляе кантроль над сабой і знаходзіцца ў стане нэрвовага сіндрому нянавісьці, якая паліць яго знутры.

16-га красавіка на прэс-канфэрэнцыі, камэнтуючы закіды, што ён хоча скарыстаць выбух у мэтро, каб зьнішчыць апазыцыю, Лукашэнка кажа: "Я занадта самаўпэўнены і горды чалавек, я сабе не дазволю такімі мэтадамі глдзець на гэту мразь". І тут жа – пра нязгодных: "Што вы зьдзекваецеся з простых людзей, -- фальшыва апэлюе Лукашэнка, -- што вы іх палохаеце?.. Што вы вякаеце там за нейкую замежную капейку, пачынаеце патрашыць грамадзтва... (наўпроставы намёк на прыналежнасьць апазыцыі да выбуху ў мэтро і сьмерці людзей. – *З.П.).* Хто павылазіў – Багданкевіч, Кебіч, Казулін... і іншыя, як Лебядзько, якіх я выпусьціў з турмы. А ён сёньня вякае. Гэта ж падонкі! Вы хоць дзякуй скажэце, што прэзыдэнт вас выпусьціў з гэтай камэры. (*Крыніца*: http://www.sb.by/post/115497/)

Такім чынам, мэты і задумы ўзурпатара відавочныя (ён іх, фактычна, не хавае). Лукашэнка імкнецца скарыстаць трагедыю ў Менскім мэтро для вынішчэньня грамадзянскай супольнасьці, беларускага руху і ўсіх нязгодных з варварскай палітыкай антыбеларускага рэжыму.

Іншае пытаньне, якое адразу паўстала пасьля выбуху, -- хто і зь якімі мэтамі яго зрабіў? Уся логіка і тыпалогія гэтай дыверсіі паказвае, што яна тыповая для падрыўной дзейнасьці спэцслужбаў і самой дзяржаўнай улады (Расея тут – характэрны прыклад).

Іншыя магчымыя варыянты арганізатараў – гэта расейскія спэцслужбы, эканамічная мафія ("разборкі") і псіхічна зацыклены бамбіст-адзіночка.

Сумбур у сьледчых дзеяньнях (працу якіх, хутчэй за ўсё, дэзарганізаваў сам Лукашэнка) паказвае аднак, што існуе тэндэнцыя зваліць усё якраз на прызначаную асобу, на "адзіночку" (псіха-токара-электрыка), асудзіць яе па вышэйшай катэгорыі і зачыніць справу. Праблема, відаць, толькі ў тым, каб зьвязаць бамбіста (хоць бы ўскосна) зь нейкай апазыцыйнай асобай ці арганізацыяй (каб можна было спасылацца).

Подласьці і цынізму чэкістаў-лукашыстаў ужо даўно ня трэба зьдзіўляцца. Яны здольныя на гнюснасьці, да якіх нармальны чалавечы розум не дадумаецца. Прыкладаў дастаткова. Самае галоўнае, што іх характарызуе, -- непавага да чалавечага жыцьця (якое ня мае ў іх ніякага значэньня перад палітычнай неабходнасьцю). У 90-х гадах яны ўжо паспрабавалі забіваць людзей па адным, але сустрэліся з адчувальным супрацівам у грамадзтве (якога, відаць, не чакалі). Тады не дайшло да масавых забойстваў людзей. Забойства ў Менскім мэтро 11-га красавіка ёсьць масавае забойства. Такога Беларусь ня ведала з часоў СССР. Пяройдзена вельмі небясьпечная мяжа, за якой могуць паўстаць іншыя забойствы. І калі сьледзтва будзе весьціся так, як хоча Лукашэнка, калі адбудзецца фальшывы і пасьпешны суд і потым схаваюць "канцы ў ваду", то няма мовы – адказнасьць ва ўсім (бяз тэрміну даўніны) мусіць панесьці рэжым і канкрэтна – Лукашэнка, які самым брутальным і валюнтарысцкім чынам на сьледзтва ўплывае, патрабуе і камандуе.

Для беларускага грамадзтва цяпер вельмі важна кансалідавацца на патрабаваньні высьветліць праўду аб арганізатарах і выканаўцах масавага забойства ў Менскім мэтро. Існуюць многія формы грамадзкага назіраньня за судовым працэсам, але істотна, каб у гэтых абставінах назіральнікам можна было б нармальна дзейнічаць і працаваць. Гэта ня простае пытаньне ў цяперашняй Беларусі. Мы бачым як Лукашэнка пачаў кіпяціцца з першага ж дня сьледзтва, каб прыдушыць незалежныя думкі і меркаваньні.

Адной з разбуральных асаблівасьцяў незаконнай улады і кіраваньня Лукашэнкі ёсьць раскол грамадзтва на аснове нянавісьці. Па сваёй прыродзе Лукашэнка ня ёсьць чалавекам эўрапейскай мэнтальнасьці. Усіх, хто ня згодны зь яго справамі і думкамі, ён успрымае як ворагаў, зь якімі трэба змагацца, якіх трэба ненавідзець, а ў выпадку небясьпечнага "варожага" дзеяньня – зьнішчаць. Яго паводзіны і адносіны да іншадумцаў пасьля выбуху ў мэтро якраз характэрна ілюструюць мэтодыку і псіхалёгію такога кіраваньня.

На жаль, беларускі народ стаў закладнікам гэтай шчарбатай хваравітай псіхікі ўзурпатара. У выніку вялікая людзкая трагедыя і ахвяры ў мэтро становяцца полем барацьбы ўлады зь нязгоднымі беларусамі і нязгодных беларусаў з антыбеларускай уладай. Канца гэтай (часам бяссэнсавай) барацьбы ня бачна, пакуль будзе рэжым узурпатара, бо Лукашэнка і ягоны рэжым ня ў стане існаваць бяз ворагаў, без зьняваг і нянавісьці. Пазбаўленьне ад псіхапата ёсьць цяпер – асноўная палітычная задача нашага грамадзтва.

*16 красавіка 2011 г.* Зянон Пазьняк

# НАПЕРАДЗЕ АДРАДЖЭНЬНЕ

***(Даклад на IX Зьезьдзе Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і XI Зьезьдзе Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”)***

...Які б цяжкі час мы зараз не перажывалі, але Незалежнасьць ёсьць! Ёсьць дзяржава, ёсьць свой народны дом, а значыць ёсьць і будучыня, якая залежыць ад таго, як пакіруемся мы ў сваім доме, які мы навядзем у доме парадак. Гэта значыць, што наша народная будучыня залежыць найперш ад нас самых. Такія магчымасьці дае нам незалежнасьць.

200 гадоў ішла Беларусь да Незалежнасьці, да вяртаньня дзяржавы і волі. На гэтым шляху былі вялікія страты, ахвяры і мільёны загубленых жыцьцяў. І вось гэты дзень адбыўся 25 жніўня 1991 года.

Нашаму пакаленьню выпала вялікае шчасьце і гонар змагацца за волю і Незалежнасьць Айчыны і здабыць яе для Беларусі.

x x x

Зьвяртаючыся да цяперашняга цяжкага часу і ўсіх гэтых ганебных для грамадзтва і культуры гадоў, мы кажам пра прычыну, якая ўсім відаць: 20 гадоў таму была здабыта народная Незалежнасьць Беларусі, але не дасягнута народнай улады. Улада засталася ў руках савецкай каляніяльнай адміністрацыі, якая знайшла пры дапамозе Масквы і вылучыла свайго стаўленіка.

Ёсьць яшчэ адна ўнутраная прычына кансэрвацыі заганнага становішча ў нашым грамадзтве. За кароткі час адноснай нацыянальнай свабоды пры ўладзе постсавецкай намэнклятуры ў пачатку 90-х гадоў не адбылося яшчэ ідэёва-духовай рэвалюцыі ў сьвядомасьці людзей. Занадта кароткі быў час (тры гады). Грамадзтва не пасьпела збавіцца ад старога думаньня, ад каляніяльнага грузу імпэрскага саветызму. Дзеля гэтага павінна б было зьявіцца цэлае пакаленьне, якое прайшло праз сістэму сярэдняй і вышэйшай нацыянальнай адукацыі. Такой магчымасьці не ўзьнікла і рэстаўрацыя саветызму (савецкай сістэмы ўлады і дачыненьняў) у аўтарытарнай антыбеларускай упакоўцы стала магчымай пры падтрымцы расейскай агентуры (пра што, дарэчы, сам узурпатар неаднаразова выказваўся).

Сутнасьць рэжыму, які ўсталяваўся ў Беларусі, і стратэгічны зьмест ягонага існаваньня заключаецца ў антыбеларускай, антынацыянальнай сьціраванасьці. Гэта ўлада, якую прынята называць у палітыцы рэжымам унутранай акупацыі. За рэжымам стаіць Масква і праз яго праводзіць свае пляны нішчэньня беларускай нацыі.

Адбываецца халодная рэпрэсіўная вайна з народам і нацыянальнай культурай. Аб’ектам атакі рэжыму стала ўсё нацыянальнае ад беларускай мовы і беларускіх актывістаў да аб’ектаў прыроды і нацыянальных краявідаў.

Законы, якія прымаюцца рэжымам, у вялікай частцы сваёй адмыслова антыбеларускія. Але сутнасьць у тым, што ніякія законы не выконваюцца, калі паўстае нагода нішчэньня культурнага, беларускага, грамадзянскай супольнасьці і гістарычнай памяці.

У такіх умовах традыцыйная дзейнасьць беларускай партыі немагчымая. Аднак мы навучыліся дзейнічаць у ценю і выкарыстоўваць магчымасьці.

x x x

Ад правільнага вызначэньня сутнасьці галоўнага палітычнага канфлікту залежыць магчымасьць перамогі. Усё ідэйна-сацыяльнае канфліктнае поле ў Беларусі абумоўлена і вынікае з галоўнага сутыкненьня паміж палітыкай расейскага імпэрыялізму і беларускім нацыянальным адраджэньнем, якое ў жніўні 1991 года здабыло незалежнасьць Беларусі. Усе астатнія праблемы і сутыкненьні (правы

чалавека, антыдэмакратызм, беззаконьне і т.п.) ёсьць пабочныя і вытворныя ад асноўнага вызначальнага канфлікту.

Рэжым пачынаўся ад ліквідацыі нацыянальнай дзяржаўнай сымволікі, нішчэньня беларускай мовы як дзяржаўнай мовы краіны, спаленьня беларускіх падручнікаў, зачыненьня беларускіх школаў, закрыцьцём беларускіх часопісаў і выдавецтваў, беларускага радыё і тэлебачаньня і выявіўся як тэрарыстычная антынародная ўлада, дзе бяссьледна зьнікаюць людзі, а моладзь сядзіць у турмах за патрыятычныя перакананьні.

На пачатку гэтага антынароднага разбурэньня не стаяла пытаньня пра правы чалавека і дэмакратыю. Нацыянальную Беларусь зьнішчалі, выкарыстоўваючы механізм дэмакратыі. Была незаконна ліквідаваная мяжа з Расеяй і адчыненыя шлюзы для чужой разьведкі і чынавенства, якім разьмяркоўвалі ключавыя пасады ва ўладзе і нават у войску і дзяржбясьпецы. Унутраная акупацыя перажывала актыўную фазу захопу краіны знутры і, галоўнае – тых пазыцыяў, якія давалі магчымасьць паралізаваць і нішчыць разьвіцьцё беларускай культуры.

Былі захоплены, практычна, усе сродкі масавай інфармацыі, нацыянальнае тэлебачаньне ператварылі ў злосны расейскі пасквіль на Беларусь і нават нацыянальнай кінастудыяй стаў кіраваць палкоўнік чужой разьведкі, выдаючы ў пракат псэўдагістарычны антымастацкі кіч. Краіна пагрузілася ў цемру, хамства і хлусьню, якая стала сутнасьцю і візітнай карткай антыбеларускага рэжыму.

У 90-х гадах акупацыйнай палітыцы рэжыму рашуча супрацьпаставіўся Беларускі Народны Фронт. Сіла і посьпех Народнага Фронту былі перш за ўсё ў яго народнасьці, у вялікай аб’яднаўчай нацыянальнай ідэі, зь якой ён узначаліў змаганьне супроць камунізму. Вельмі важна таксама было тое, што ў барацьбе з Фронтам савецкія спэцслужбы (КГБ і інш.) пацярпелі паражэньне (імгненнае стварэньне Фронту, Курапаты, незалежнасьць Беларусі, блакіроўка агентуры ў структурах БНФ і г.д.).

У 1997 годзе на V Зьезьдзе БНФ было прынята вельмі важнае рашэньне аб стварэньні Вызвольнага Руху начале з Фронтам на барацьбу з антыбеларускім рэжымам. Гэта значыць, што супроць рэжыма рыхтавалася выступаць аб’яднаная нацыянальная апазыцыя пад нацыянальнымі сьцягамі і дэмакратычнымі лёзунгамі. Нацыянальная сіла рабілася б дэмакратычнай альтэрнатывай антыбеларускаму рэжыму. У Беларусі існавала б сьветлая пэрспэктыва.

Такі паварот на пэрспэктыву адраджэньня і моцы Беларусі занепакоіў Маскву і Эўропу. Масква і ейны рэжым у Беларусі пачалі прысьпешваць праект інтэграцыі. Эўропа тым часам пачала ствараць сваё дэмакратычнае лобі ў Беларусі, ініцыявала ўзьнікненьне рэсурсна інфармацыйнага цэнтра Хартыя-97, праз які пайшлі сродкі з Захаду на лабіраваную дэмакратыю.

У канцы таго ж года ў Менск накроўваецца прафэсійны разьведчык Ганс Вік, які ўзначальвае Менскую місію АБСЭ, навязвае кантакт з КГБ і іншымі структурамі рэжыму. Пачынаецца сумесная праца з КГБ па развалу Народнага Фронту і стварэньні падстаўной дэмакратычнай апазыцыі без нацыянальнай праграмы дзейнасьці. (Усё гэта засьведчана падзеямі і словамі самога Ганса Віка).

І тут, у гэты час, адчынілася нядобрая старонка ў слаўнай дзейнасьці БНФ. Тое, чаго не змагла зрабіць Масква і цэлая рота ейнай агентуры, зрабілі халяўныя грошы з Захаду. Просьценькая спакуса шмат каму здалася не пад сілу. У выніку Фронт раскалолі. Народны рух перастаў быць дамінуючай аб’яднанай сілай і, адпаведна, нацыянальнай альтэрнатывай выхаду са стагнацыі і разбурэньня.

На паверхню Эўропа выцягвае ненацыянальную апазыцыю, якая пачынае гаварыць пра правы чалавека і лібэральныя каштоўнасьці. І гэта на фоне брутальнага вынішчэньня каштоўнасьцяў Беларускай нацыі.

х х х

Гэты кароткі аглядны экскурс я зрабіў, каб лепш было зразумелым цяперашняе становішча і дачыненьні з Масквой і Эўропай. Нагадаю толькі пра сутнасьць і галоўны інтэрас у гэтых дачыненьнях. Галоўным жа інтарэсам у адных і другіх зьяўляюцца не дэкларацыі намераў, не дэмакратыя і не правы чалавека, а геапалітыка і прагматычны (собскі) разьлік. Так было заўсёды, пачынаючы ад падзелаў Рэчы Паспалітай, і так ёсьць цяпер. Газа-нафтавая труба і стратэгічны разьлік вызначаюць палітыку з Усходу і Захаду адносна Беларусі. Ніхто зь іх не зацікаўлены ў моцнай, эканамічна дамінуючай і палітычна незалежнай Беларусі. Змаганьне йдзе за сфэру ўплыву, ступень якога розьніцца, але сутнасьць стратэгіі застаецца.

Найбольш небясьпечная для нас палітыка Усходу, якая доўжыцца ўжо стагоддзямі і канцовай мэтай мае поўную ліквідацыю беларускай нацыі і дзяржавы. Палітыка Эўропы больш лаяльная, менш пагражае нашаму нацыянальнаму разьвіцьцю і зацікаўлена галоўным чынам ва ўсталяваньні сфэры свайго ўплыву і экспарце сваіх сумніўных “каштоўнасьцяў”.

Палітыка Эўропы адносна рэжыму на Беларусі надзіва прымітыўная, зыходзіць з абстрактных уяўленьняў, а не з рэальнага аналізу сытуацыі, якую яны не ў стане адэкватна ацаніць, бо яна не ўкладваецца ў іхныя лібэральна-касмапалітычныя схемы.

А схемы простыя: разбурэньне ў Беларусі нацыянальна-дэмакратычнага супраціву, стварэньне лабіраванай (кіруемай) дэмапазыцыі, фінансавая падтрымка яе дзейнасьці, прымушэньне яе да ўдзелу ў рэжымных выбарах, шляхам якіх (як думаюць “мудрацы” у Эўропе) гэтая “апазыцыя” паступова прыйдзе да ўлады.

Гэтая “палітыка” паўтаралася з году ў год, ад выбараў да выбараў, аж пакуль разгубленыя эўрадзеячы не ўбачылі, што кіруемая псэўдаапазыцыя ператварылася ў вялікую халяву і гатовая хоць тысячу разоў наступіць на адны і тыя ж граблі, абы плацілі.

У выніку, шукаючы выйсьця, Эўропа прыдумала “Усходняе партнёрства” і прыняла саламонавае рашэньне супрацоўнічаць адначасна з рэжымам і з “апазыцыяй”. Чарговы наіўны праект заключаўся ў тым, што Лукашэнка пачынае паступова рэформы ў заканадаўстве і эканоміцы, а Захад будзе яму ўсё гэта аплочваць (даваць крэдыты) і такім чынам (як думалі брусэльскія “стратэгі”) яны ўвядуць рэжым у прававое і эканамічнае поле дэмакратыі.

Гэтая школьная вучнёўская стратэгія, вядома, мусіла хутка скончыцца. Можна толькі ў соты раз зьдзівіцца наколькі чыноўна-палітычная Эўропа не разумее, з кім мае справу. Узурпатар, які прадаецца Маскве за мільярды, гатовы быў прадавацца і Эўразьвязу, але не за капейкі і не за рэформы. “Прымайце мяне такім, якім я ёсьць” – “тонка” у двукосьсі намякаў ён Эўропе. Але каб перакупіць гэты рэжым у Масквы на корані, патрэбныя былі дзясяткі мільярдаў даляраў. І што потым зь ім, узурпатарам, Эўропе рабіць, няма ніякіх рычагоў (ні нафты, ні газу), каб гэты рэжым утрымаць пасьля таго, як ён скарыстае крэдыты? У выніку на цане не зышліся і гандаль не адбыўся. Праўда, у верасьні 2010 года Эўразьвяз ужо прапаноўваў тры мільярды эўра і крэдытныя пэрспэктывы. Але такой сумай Маскву не пераб’еш. Таму выбар быў зроблены ў карысьць Масквы і гэты выбар аказаўся для ўзурпатара пасткай, якая зачынілася за ім у выніку ціхай апэрацыі расейскіх спэцслужбаў. Настала цяжкая пара. Але ня столькі для ўзурпатара, колькі для народа, для ўсяго беларускага грамадзтва.

Увогуле, адыходзячы крыху ў бок ад тэмы, заўважу, што мы назіраем унікальную зьяву палітычнай прастытуцыі ў сістэме міждзяржаўных дачыненьняў і ўнікальнае цярпеньне людзей.

x x x

Палітыка Масквы па вынішчэньні беларускай нацыі мае доўгія традыцыі, выпрацаваную ідэалогію і стэрэатыпы. Пасьля захопу тэрыторыі ў канцы XVIII стагоддзя галоўным накірункам гэтай выпрацаванай палітыкі ў Беларусі стала русіфікацыя, першым пытаньнем якой было вынішчэньне беларускай мовы, гістарычнай памяці і ўсталяваньне рускай сістэмы адукацыі. Выпрацаванасьць

антыбеларускага, антыкультурнага этнацыду і пазьней бальшавіцкага генацыду 20-30-х гадоў уражваюць сваёй распрацаванасьцю, маштабам і вынікамі. У справу нішчэньня Беларусі (асабліва ў XIX стагоддзі) было ўцягнута, практычна, усё рускае грамадзтва. У выніку праз 100-200 гадоў вялікая культура і вялікая беларуская цывілізацыя скурчылася як шагрэневая скура, памяць і назва яе амаль зьніклі ў сьведамасьці нашчадкаў.

Цяперашні рэжым унутранай акупацыі працягвае ў Беларусі гэтую старую расейскую каланіяльную палітыку. Расея як рэсурсная краіна ў адрозьненьне ад Эўропы валодае энэргетычнымі рычагамі ціску на Беларусь. Каб зрабіць гэтую зброю эфектыўнай, яна пры дапамозе Лукашэнкі амаль цалкам прывязала нашу эканоміку да сваіх рэсурсаў і рынку, стварыўшы моцны чыньнік шантажу і ўплыву ў палітыцы. Абʼяўленьне разам Лукашэнкам незаконнай так званай “саюзнай дзяржавы” і незаконных структураў гэтай “дзяржавы” дазволіла расейцам кантраляваць важныя працэсы ў нашай краіне, мець інфармацыю аб магчымасьцях і падзеях.

З канца 2005 года палітыка рускага гэбізму супраць Беларусі набывае прыярытэтную эканамічную накіраванасьць. Ставіцца задача пранікненьня ў эканоміку Беларусі, ажыцьцяўленьне кантролю над ёй і забраньне прыбытковых прадпрыемстваў у расейскую ўласнасьць. Як элемэнт ціску на рэжым правакуюцца так званыя “газавыя канфлікты”.

Да канца 2008 года (пасьля нападу Расеі на Грузію) у Маскве (як можна меркаваць) быў распрацаваны радыкальны працяг “эканамічнага праекта”, накіраваны на падрыў фінансавай сістэмы Беларусі. Зноў пачынаюцца штучныя газава-нафтавыя войны, а таксама надуманыя “малочныя”, “мясныя”, “цукровыя” і іншыя па асноўных накірунках экспарту Беларусі ў Расею з мэтай яго дэзарганізацыі. У выніку рэзка падскочыла адмоўнае сальда экспартнага гандлю. Заганяньне рэжыму ў так званы “мытны саюз” Расеі і Казахстану (выгадны Расеі і шкодны для Беларусі), падняцьце цэнаў на газ і мытныя пошліны на нафту, ліквідацыя рынку і гандлю аўтамабілямі, згортваньне памежнага гандлю, плюс папулісцкае з палітычнымі мэтамі падвышэньне сярэдняга ўзроўню зарплаты ў канцы 2010 года – усё гэта прывяло да таго, што беларускі рубель захістаўся.

Пачаўся абвальны фінансавы крызіс. Прытым антыбеларускі рэжым не шукаў хуткага выхаду з крызісу, але як тыповая мафійная сістэма ўлады скарыстаў яго з мэтай прыватнага прыўладнага абагачэньня, увёўшы на гэты час розныя курсы даляра, розныя правілы крэдытаваньня і апрацэнтаваньня крэдытаў. Задача была ў тым, каб выцягнуць валюту з кішэні беларускага насельніцтва, адначасна, не даючы яму магчымасьці яе купляць.

Пагрэўшы рукі на гэтай апэрацыі, 24 траўня 2011 года абʼявілі аб дэвальвацыі беларускага рубля і правялі яе на недапушчальна высокім узроўні працэнтнага абясцэньваньня. Усе беларусы імгненна зьбяднелі больш чым на палову, а ў жыцьцёвым эквіваленце, улічваючы ўсе выплаты, цэны, паслугі, -- людзі зьбяднелі ў некалькі разоў. Такое разьвіцьцё падзеяў цалкам у інтарэсах Масквы. Беднае насельніцтва ня можа эфэктыўна ўдзельнічаць у прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці.

Маскоўскі праект разьвіваецца па вельмі жорсткай схеме. Тое, што робіць Расея – гэта фінансава-эканамічная вайна, накіраваная на зьнішчэньне самастойнасьці суседняй краіны, забраньне і падпарадкаваньне яе эканомікі. Гэта праект рэйдарскага захопу вытворчасьці і маёмасьці Беларусі цераз падпарадкаваную волю аўтарытарнага дыктатара краіны, які, вобразна кажучы, узяты Масквой у закладнікі сваёй уласнай антынароднай палітыкі.

Калі казаць па сутнасьці, Масква ўзяла свайго сатрапа за горла і павольна здушвае, пэрыядычна паслабляючы хват і прыгаворчаючы, каб аддаваў ім за бясцэнь беларускую народную ўласнасьць. Дыктатура і аўтарытарны рэжым вельмі выгадныя Маскве ў яе агрэсіўнай палітыцы, бо праз аднаго сатрапа можна разбурыць і захапіць цэлую краіну.

Далейшыя падзеі, калі меркаваць па зьвестках, Крэмль будзе працягваць па той жа схеме. Калі б Маскве ўдалося забраць беларускую маёмасьць і эканоміку, то нейкі час, згодна пляну, захоўвалася б фармальная бачнасьць сувэрэнітэту краіны, але ўсім бы ўжо валодала, распараджалася і кіравала Расея, не нясучы пры гэтым ніякой адказнасьці. І толькі потым, пасьля поўнага разбэшчваньня і вынішчэньня актыўных прадстаўнікоў народа тэрыторыя траціць сувэрэнітэт і ператвараецца ў расейскі стратэгічны пляцдарм.

Мяркую, што пасьля таго, што здарылася за 17 гадоў з грамадзтвам, якое паставіла над сабой Лукашэнку (няхай сабе і з дапамогай Расеі), адносіцца да такіх антылюдзкіх плянаў Масквы трэба цалкам сур'ёзна.

х х х

Існаваньне Лукашэнкі начале ўлады ў Беларусі стала ў апошнія гады (і асабліва цяпер) крайне небясьпечным для краіны і грамадзтва. Тым часам праўных і рэальных мэханізмаў па зьмене ўлады не існуе. Яны ліквідаваныя рэжымам. У народа засталося толькі ягонае (у такім выпадку) права на рэвалюцыю. Тым больш, што рэвалюцыйныя перадумовы ствараюцца ўжо самы сабой (гэта значыць, калі народ не ў стане жыць так, як прапануе ўлада, а ўлада нічога іншага прапанаваць ня ўмее, ня можа і ня хоча).

Наша партыя дала ацэнку ўсім гэтым працэсам, вызначыла пазыцыю і сістэму дзеяньняў, якія прысьпешваюць кансалідацыю людзей супраць антыбеларускага рэжыма ў змаганьні за будучую беларускую Беларусь і дэмакратычную ўладу.

Галоўнае палажэньне нашай пазыцыі і нашых дзеяньняў – няўдзел грамадзтва ў ашуканствах і маніпуляцыях рэжымнай улады, кансалідацыя на непрыняцьці рэжымнай палітыкі, на неабходнасьці перамены ўлады і на адраджэньні нацыянальнай нармальнасьці жыцьця.

Найбольш гэта праяўляецца ў дачыненьні да выбараў. Рэжымнай уладай створана такая адміністрацыйна-фальсіфікацыйная сістэма галасаваньня, што выйграць выбары ў рэжыма немагчыма ў прынцыпе. У гэтай сістэме, практычна, ня лічаць нават галасы, робяць толькі імітацыю падліку, які выконваюць выбраныя людзі ад рэжымнай улады. Адзінае, што патрабуе тут рэжым ад выбаршчыкаў, -- гэта каб прыйшлі на ўчасткі і прагаласавалі (таму зганяюць на выбары пад прымусам). Прытым няважна як выбаршчыкі будуць галасаваць (вынікі выдае сістэма фальсіфікацыі), важна, каб людзі былі на ўчастках, каб бралі і кідалі ў скрынку бюлетэні, каб была бачнасьць, што нібыта адбываюцца выбары. Пры пустых участках такой бачнасьці няма. Гэта правал, які немагчыма схаваць (і тады ўжо галасаваньне немагчыма сфальсіфікаваць незаўважна).

Байкот мусіў бы рэзка аддзяліць рэжым ад народа, спрыяў бы ўнутранай ізаляцыі рэжыма і адначасна дапамагаў бы самастойна кансалідавацца людзям. Рэжым у такім разе знаходзіцца ў падвешаным стане, дэманструе грубую і наглядную нелегітымнасьць. Такі стан – дарога да рэвалюцыйнай сытуацыі.

Тым часам удзел выбаршчыкаў у фальшывых псэўдавыбарах – гэта заўсёды выйгрыш рэжыму, працяг яго існаваньня з апорай на сфальшаваную легітымнасьць. Выбаршчыкі тут у ролі паражэнцаў. Пры байкоце выбаршчыкі знаходзяцца ў ролі суддзяў рэжыму.

Практыка паказала, што пры гэтай антыбеларускай дыктатуры людзям няма сэнсу гуляць у выбары. ***Задача нашай палітыкі – адасобіць грамадзтва ад рэжыму, стымуляваць паралельнае, незалежнае ад рэжыму культурна-нацыянальнае існаваньне, а рэжым падвесіць (сістэмай байкоту) у ізаляцыі ад народа, ад асноўнай часткі людзей.*** Стварэньне такога становішча ў грамадзтве аб'ектыўна вядзе да ліквідацыі дыктатуры. Удзел жа ў фальшывых выбарах па сцэнары рэжыму падтрымлівае рэжымнае балота і пустыя ілюзіі ў грамадзтве.

Ва ўмовах уціску, рэпрэсіяў і адсутнасьці сродкаў масавай інфармацыі наша праца ў гэтым кірунку, якая пачалася ў самым канцы 90-х, расьцягнулася на доўгія

гады. Але ўжо ў 2008 і 2009 гадах мы адчулі першыя яе вынікі – людзі сьведама перасталі хадзіць на рэжымныя выбары. Фальсіфікацыя ў гэтым безвыходным для рэжыма становішчы была настолькі грубая, што ў людзей расплюшчыліся вочы.

Асноўны настрой у масе выбаршчыкаў перад прэзыдэнцкімі выбарамі 2010 года быў такі: ня йсьці на фальшывыя выбары і не галасаваць. Чакаўся вялікі правал фальшывых выбараў. І тут рэжым зноў уратаваўся ад паразы, выкарыстаўшы, як заўсёды, сваю падстаўную апазыцыю і яе палітычную прастытуцыю.

Улада пайшла на нечувальны для яе крок – лібэралізавала выбарчую агітацыю, прыняўшы ў кандыдаты дзевяць асоб з псэўдаапазыцыі (хоць бальшыня зь іх не сабрала нават належную колькасьць подпісаў). Кандыдаты рынуліся ў гэтую пастку з радасьцю самагубцаў, заклікаючы людзей галасаваць на выбарах.

Часовая вольнасьць слова, крытыка рэжыму нават на тэлебачаньні зрабілі сваю справу. Людзі забыліся пра байкот, паверылі ў ілюзію і пайшлі на ўчасткі галасаваць. Пастка зачынілася. Узурпатар аб’явіў аб сваёй перамозе на “дэмакратычных” выбарах (напісаў сабе амаль 80% галасоў). Астатнім памагатым у кепскай справе выдзеліў па 1-2 адсоткі прагаласаваных. (У сапраўднасьці, як вядома мне ад маіх інфарматараў і назіральнікаў, Лукашэнка набраў толькі каля 32-33 адсоткаў, другім быў Някляеў – 20-23 адсоткі, трэцім Мікалай Статкевіч, потым Саньнікаў і ўсе астатнія. Але ўсё гэта ўвогуле ня мае значэньня).

Фальшыва выйграўшы з падачы дэмапазыцыі “дэмакратычныя” выбары, Лукашэнка тут жа, спаўняючы сваё абяцаньне двухгадовай даўнасьці, фактычна, ліквідуе гэтую “апазыцыю” сілавым мэтадам (кідае “кандыдатаў” за краты дзеля гандлю з Захадам) і распачынае шырокія рэпрэсіі супраць грамадзянскай супольнасьці Беларусі.

Палітычная віна падстаўной апазыцыі ў чарговым самасцьвярджэньні Лукашэнкі ва ўладзе і распачынаньні ім новай хвалі рэпрэсіяў -- велізарная. І першымі ж ахвярамі гэтай справакаванай хвалі сталі самы ўдзельнікі ганебнага выбарчага фарсу.

Мушу сказаць, што, чакаючы правакацыі з боку рэжыму і разумеючы, якія нэгатыўныя вынікі для Беларусі можа мець фарсавая дзейнасьць псэўдаапазыцыі, наша Партыя імкнулася ў межах разумнага ўвесь час прадухіліць і з’амартызаваць нэгатыўныя падзеі. У прыватнасьці, не дапусьціць пасадкі на турэмны тэрмін паэта Някляева, як асобу значную для беларускай культуры (і, магчыма, менш вінаватага ў тым, што адбылося 19-га сьнежня 2010 года).

x x x

Вялікую ўвагу Партыя надае геапалітычным аспэктам у змаганьні з рэжымам і крамлёўскай палітыкай. Гэтае пытаньне ня простае, бо мэты розныя, а інтарэсы перасякаюцца. Такой складанай праблемай былі адносіны да праекта “Усходняе партрнёрства”. Наша пазыцыя была выразна сфармуляваная: дзьверы на Захад мусяць быць адчыненыя, але нельга дапусьціць супрацоўніцтва Эўропы з рэжымам Лукашэнкі коштам беларускіх нацыянальных інтарэсаў.

Маючы гэта на ўвазе, у 2009 годзе мы прынялі ўдзел у спатканьнях на вышэйшым узроўні перад самітам Эўразьвязу ў Празе. Ставілася задача не дапусьціць прыезду ўзурпатара ў Прагу і ўдзелу яго ў саміце, які павінен быў зацьвердзіць стварэньне Усходняга партнёрства. Гэтая мэта была дасягнута. Лукашэнку ў Празе не захацелі бачыць.

x x x

У сувязі з апошнім паваротам узурпатара ў бок Масквы, прыняцьцем расейскіх умоваў і шырокай хваляй рэпрэсіяў супраць беларускага грамадзтва паўстала пытаньне аб санкцыях. Слаба думаючыя палітыкі ў Эўропе і Беларусі, а таксама расейская агентура на ўсе лады патрабуюць жорсткіх эканамічных санкцыяў супраць “рэжыму” і нават эканамічнай ізаляцыі Беларусі (што выглядае ўжо поўным глупствам, бо ў прынцыпе немагчыма).

У тых палітычных і геапалітычных абставінах, якія склаліся ў Беларусі, нельга дапусьціць эканамічнай блакады і жорсткіх эканамічных санкцыяў з боку Захаду. Падкрэсьліваю, катэгарычна нельга дапусьціць. У Беларусі адсутнічае мяжа з Расеяй (Лукашэнка незаконна яе ліквідаваў, гэта грубае парушэньне суверэнітэту). Эканамічная блакада і санкцыі Захаду ва ўмовах крызісу прывядуць да яшчэ большага зьбядненьня насельніцтва Беларусі і беспрацоўя. У выніку беларуская рабочая сіла (асноўны вытворчы сродак экономікі) перамесьціцца ў Расею (масава перамесьціцца!). Яно зараз і пачынае рабіцца і цалкам адпавядае крамлёўскай стратэгіі захопу Беларусі (забраць рабочую сілу і эканамічныя прадпрыемствы). Рускія прапагандысты ўжо на ўсе лады запрашаюць беларусаў на працу ў Расею.

Ратуючы сытуацыю і сваю ўладу, рэжым па патрабаваньні Крамля будзе здаваць Расеі прыбытковыя беларускія прадпрыемствы і вытворчасьць (у тым ліку і зямлю). У выніку рэжым зможа трымацца яшчэ пэўны час у інтарэсах Масквы, а ягоны канец можа стацца адначасна канцом беларускай дзяржавы і разбурэньнем беларускай нацыі.

Як можна закаркоўваць бутэльку з разьбітым дном?! Якая можа быць блакада, якія санкцыі пры адчыненай мяжы з Расеяй, якая ставіць задачу захопу і падпарадкаваньня Беларусі і любыя заходнія санкцыі паверне ў свой бок сваімі крэдытамі антыбеларускаму рэжыму, купляючы яго за бясцэнь?

Такое ўражаньне, што Эўропа загулялася ў сваю “дэмакратыю”, а Амэрыка не разумее, што рабіць. І вось прыклад. Як толькі ў пачатку жніўня Амэрыка ўводзіць санкцыі супраць беларускіх прадпрыемстваў, тут жа прэм’ер-міністар ураду, непатапляльны Мясьнiковіч едзе ў Маскву па крэдыты, дзеля падтрымкі краіны, якая, маўляў, “церпіць” ад амэрыканскіх санкцыяў. І Масква паставілася “з разуменьнем” і гатоўнасьцю “дапамагчы” і “абараніць” Беларусь (чытай – “рэжым”) ад эканамічнай агрэсіі і “варожых” дзеяньняў ЗША. І “дапаможа”, будзем упэўнены. Масква толькі і чакала гэтых санкцыяў (ды й маскоўская дыпляматыя на Захадзе не сядзела рукі склаўшы).

Лявацкае разуменьне кшталту “чым горш, тым лепш” і прымітыўнае спадзяваньне на зьбядненьне народа, які нібыта ўзбунтуецца ад пагаршэньня жыцьця (чаму паспрыяюць, маўляў, эканамічныя санкцыі) выглядаюць у беларускай сытуацыі (зрэшты, як і ўсюды) ня тое што варварскімі, але злачыннымі.

Пры невысокай нацыянальнай сьведамасьці, разбурэньні мовы, культуры, гістарычнай памяці здольнасьць да супраціўленьня і кансалідацыі ў народа вельмі нізкая. Беларус будзе выязджаць у Расею, прыстасоўвацца да беднасьці, выжываць у нястачы і выміраць. Такое ўжо было. Галодныя не змагаюцца за свабоду. За волю змагаюцца тыя, хто яе хочуць. Свабода – гэта духоўная катэгорыя. Таму задача інтэлігенцыі дапамагаць грамадзтву, што апынулася ў цяжкім стане, набыць нацыянальную асьвету, прылучыцца да беларускай культуры, якую нішчаць акупанты, паважаць сваю мову, мець гонар чалавечы і любоў да Айчыны. І чым больш будзе такіх нацыянальна асьвечаных людзей у нашым грамадзтве, тым хутчэй мы збавімся ад цёмнай улады.

Наша Партыя Фронту гэта добра разумее, таму вялікая частка нашай працы (калі не палова) пасьвечана справе нацыянальнага асьветніцтва, культурна-гістарычнай і мэмарыяльнай дзейнасьці. Асабліва хачу адзначыць стварэньне і падтрыманьне ў належным стане Народнага Мэмарыялу Курапаты. Усім сябрам нашай Партыі і Фронту, асабліва актывістам Мэмарыяльнай камісіі належыцца тут вялікая падзяка і гонар.

У гэтым жа рэчышчы асьветніцкага накірунку нашай партыяй праводзіцца і культурніцкая праца па ўшанаваньні гістарычных асобаў, падзеяў, сьвятаў, мэмарыяльных і юбілейных датаў. Штогод мы арганізуем і масава адзначаем гадавіну Слуцкага Збройнага Чыну, Дзяды, усе падзеі, зьвязаныя з Незалежнасьцю Беларусі (Сакавік, Дэклярацыю, Жнівень), штогод арганізуем Ігуменскі шлях, адзначаем дні нараджэньня і сьмерці Васіля Быкава і Ларысы Геніюш, Рамана Скірмунта і іншых

вялікіх асобаў Беларусі, ушаноўваем памяць пра бітву пад Воршай і трагічную памяць Чарнобыля.

Гэтай жа культурніцкай і палітычнай справе прысьвечаная нашая выдавецкая дзейнасьць. Выдаем часопіс “Беларускія Ведамасьці” і бюлетэнь “Беларуская Салідарнасьць”. За справаздачны пэрыяд з 2009 па жнівень 2011 года мной асабіста падрыхтавана, напісана і выдадзена восем аўтарскіх кніг агульным аб’ёмам у 217 аўтарскіх друкаваных аркушаў. Для параўнаньня – гэта аб’ём працы і выданьняў за гэты час акадэмічнага інстытута, кшталту Інстытута гісторыі, са штатам у сто супрацоўнікаў. Прытым фінансуецца гэтая наша выдавецкая справа за кошт прыватнай “егіпецкай” працы трох беларусаў (два зь іх – гэта мы з жонкай).

Асьветніцкага кшталту кнігі выдадзены ў гэты час сябрамі партыі Юры Качуком і Валеры Буйвалам, які аддрукаваў у Італіі гістарычна пазнаваўчую кнігу на італьянскай мове “Беларусь – краіна ў цэнтры Эўропы”. Праводзіцца ў нас таксама інфармацыйна-палітычная праца ў Сеціве на трох старонках, якія вядуць і забясьпечваюць сябры нашай Партыі Фронту.

У цяперашніх цяжкіх грамадзкіх умовах, калі значная частка партыйнай працы не павінна прылюдна афішавацца (такія ёсьць абставіны), мы, спаўняючы нашыя задачы падрыхтоўкі і арганізацыі грамадзтва, мусім зьвярнуць асаблівую ўвагу на разьвіцьцё ініцыятывы “Беларуская Салідарнасьць” і ініцыятывы “РУХ” (поўная назва “Рух за новыя выбары без Лукашэнкі”). Гэтыя ініцыятывы ўзаемазьвязаныя. Толькі калі “Беларуская Салідарнасьць” ёсьць адкрытым дзеяньнем, то “РУХ” – гэта зачыненая сістэма паралельнай структурызацыі актыўнай часткі грамадзтва. Гэтая сістэма, калі яе ўдасца шырока стварыць, можа быць хутка прыведзеная ў дзеяньне ў адпаведным моманце, калі такі момант узьнікне. Прынцып, на якім яна ствараецца, амаль цалкам выключае пранікненьне ў яе агентуры спэцслужбаў, кантроль і развал сістэмы знутры.

Мяркую, што сябры Партыі, якія задзейнічаныя ў стварэньні гэтай сістэмы (практычна, паралельнай, схаванай грамадзянскай супольнасьці) мусілі б вельмі сур’ёзна ёю займацца, тым больш, што ў яе межах ёсьць магчымасьць рэальна дзейнічаць. У першы ж месяц утварылася каля 150 суполак РУХу і потым працэс затармазіўся. Гэта зьвязана найперш з нашым інфармацыйным абмежаваньнем у Сеціве, праз якое мы ствараем першасныя суполкі. Гэта праблема сур’ёзная, улічваючы тое, што “сацыяльныя сеткі” мы ўжываць ня можам (каб не выявіць людзей). Але вырашыць праблему ўсё ж можна і, мяркую, што мы яе вырашым.

Мы перажываем разам з нашй Айчынай цяжкі час. Характар нашай дзейнасьці не такі, як быў некалі, але ён дастасаваны да абставінаў і дае вынікі на карысьць Беларусі. Шмат што мы ня можам цяпер тут гаварыць голасна, але мы гэта кажам па-іншаму і ведаем, што трэба рабіць.

У нас ёсьць праблема колькаснага пашырэньня Партыі і пачынаецца праблема кадраў. Вядома, гэта найперш вынік сацыяльна-палітычных абставінаў, бо цяжка вырашаць гэтае пытаньне наўпрост. Але ў нас ёсьць магчымасьць стварэньня вакол Партыі дапамаговых групаў і асобаў, скарыстоўваючы прынцып Народнага Фронту і гуртаваньне па ініцыятыве. Усё гэта павінна стаць рэзэрвам і заплечам нашае справы. Думаю, што гэтую патрэбу мы павінны ўвесьці цяпер у нашу партыйную штодзённасьць і кожнаму варта пра яе дбаць.

Мы бачым, як адначасна з антыбеларускай дэманстрацыяй рэпрэсіўнага рэжыму, людзі, наадварот, перастаюць яго баяцца. Паволі мінае страх, высьпявае пратэст і вяртаецца чалавечая годнасьць. Гэта ластаўка пераменаў. Мы павінны сур’ёзна, як некалі, рыхтавацца і быць гатовымі браць лёс Бацькаўшчыны на свае плечы.

*27 жніўня 2011 г.* Зянон Пазьняк

# ДРУГІ ПАДПАЛ РАЙХСТАГУ

*(Нататкі для сяброў КХП-БНФ)*

Тое, што адбылося 19-га сьнежня 2010 г., ў Менску на плошчы Незалежнасьці, нагадвае схему правакацыі нямецкіх фашыстаў з падпалам райхстагу. Але цяпер ня той час, публічны "падпал райхстагу" немагчыма зрабіць бяз сьведкаў і выяўленьня падпальшчыкаў. Уся правакацыя "біцьцё парляманта" зафіксавана на відэа, аўдыё і фота-камэры, разам з правакатарамі і іхнымі абліччамі, размовамі, і нават агентурнымі клічкамі. Увесь сьвет гэта ўжо ўбачыў у Сеціве. Але ніхто з правакатараў не арыштаваны.

**Улада-фікс**

Пасьля нападу ў час галасаваньня і зьбіцьця спэцгрупай "Алмаз" беларускага паэта і кандыдата ў прэзыдэнты Ўладзімера Някляева яго ў непрытомным стане прывезла хуткая дапамога ў рэанімацыйнае аддзяленьне шпіталю. Вось што публічна сказаў пра гэта ўзурпатар прэзыдэнцкай улады ў Беларусі: "Ну, так, дали по голове. Ты же мужик, ты же мужик, чего ты прибежал, рыдаешь в этой больнице? Ну, дали по голове, ну и что? Видите, по голове дали, синяк под глазом, ай-яй-яй, какая ... Ну, ты же сам хотел, что бы тебе этот синяк под глаз посадили. До смешного доходит. Позор! Они еще хотели быть президентами!"

Пытаньне аб ненармальнасьці такой рэакцыі і такіх паводзінаў тут ужо не разглядаем. Дыягназ даўно вядомы. Добра вядома таксама, што могуць зрабіць для грамадзтва вар'яты ва ўладзе. Не разглядаем пытаньня пра культуру ("тыканьне" ўсім і т. п.), бо культура паводзінаў выносіцца з сям'і (альбо прыроджаная, гэта значыць даецца ад Духа Сьвятога). Для нас важныя матывы дзеяньняў такога непрадказальнага суб'екта, мэты і накіраванасьць – тое, чаго ён хоча дасягнуць.

Ягоныя пабуджэньні да дзеяньняў усім відавочныя: хваравітая прага ўлады, падазронасьць, помсьлівасьць і страх. Было б памылкай, аднак, тлумачыць яго палітычныя паводзіны толькі паталогіяй. У спакойным, ня ўзбуджаным стане ён бывае часам цалкам адэкватным. Акрамя таго, у людзей з псіхічнымі адхіленьнямі (паранойя, шызафрэнія, псіхапатыя) ёсьць свая "жалезная логіка". Яны сьвята вераць у свае канцэптуальныя фантазіі і пераканаўча, зь верай, усімі фібрамі ўзбуджанай душы даводзяць гэтыя свае погляды іншым. Як правіла, такія людзі ня ў стане свае "ідэі" ажыцьцявіць у грамадзтве, пакуль не дасягнуць улады, якую яны імкнуцца ператварыць у абсалютную.

Пры ўсёй амбівалентнасьці, супярэчнасьці паводзінаў і слоўных пырскаў Лукашэнкі, кіданьня ў супроцьлеглыя канцы адначасна і пры ўсёй неадукаванасьці, у яго ёсьць самамэта, ад якой ён не адыходзіць ніколі, -- гэта захаваньне ўлады, уласны інтэрас і хваравітае памкненьне, ідэя-фікс – па-свойму перамяніць сьвет, зьмяніць "суадносіны сіл на шарніры часу" (А. Гітлер) калі не на адной шостай частцы плянэты, то хаця б – "у цэнтры Эўропы". (Раней ён нешта такое рабіў у саўгасе "Гарадзец", пакуль за зьбіцьцё трактарыста ня трапіў пад артыкул Крымінальнага кодэксу.)

31-га сьнежня, пасьля пабіцьця народу на плошчы, ён сказаў сакрамэнтальную фразу: "Нам неабходна ўсьвядоміць сябе нацыяй, якая вырашае ня толькі свае задачы, але і фармуе аблічча Эўропы". (І гэта пасьля ліквідацыі беларускай школы і ўсяго беларускага.)

Такая мэнтальнасьць характэрная для ўсіх тыранаў і тыранчыкаў, пачынаючы ад Леніна, Сталіна, Гітлера, Мао – і да Фідэля Кастра. Аказваецца, яны нішчылі народ ня проста так, дзеля ўлады, а для ягонай жа (народу) карысьці, якая будзе такой вялікай, што ашчасьлівіць чалавецтва.

Той, хто добра знаёмы з Лукашэнкам, ведае, што імкненьне "ашчасьлівіць" нацыю пагрунтавана ў яго на ірацыянальнай беларусафобіі, на паталягічнай нянавісьці

да ўсіх “сьвядомых”, як ён абзывае беларусаў, і да беларускай культуры. Звышзадачай ягонай улады ёсьць русіфікацыя, патрэба вынішчыць усё беларускае, найперш мову, школу, тэлебачаньне, радыё, кнігавыдавецтва, друк, зьняславіць вялікіх людзей нацыі і проста патрыётаў Беларусі. Ад антыбеларускай палітыкі (што б ні адбывалася) ён не адыходзіў усе гэтыя шаснаццаць цёмных гадоў. У 2006-м годзе на так званым “усебеларускім сходзе” перад выбарамі ён заявіў, што яго задача зрабіць у Беларусі так, каб нішто ўжо нельга было вярнуць і павярнуць да ранейшага. І ён робіць.

Робіцца адкрыта і гаворыцца адкрыта пра зьнішчэньне народнага аблічча і вынішчэньня імя. Фэнамэнальна, што такая ўлада існуе. Але ў яе ёсьць база для існаваньня – савецкая дэнацыяналізацыя і савецкая сістэма сацыяльных дачыненьняў. Шкода, нанесеная беларускай нацыі цёмным рэжымам за 16 гадоў унутраннай акупацыі, значна больш разбуральная для нацыянальнага існаваньня, чым генацыд, душэньне і аббалваньваньне 73-х гадоў савецкага захопу.

**Нэрвы, ці сьвядомы выбар?**

Ужо выказваліся думкі, што Лукашэнка дзікай расправай над народам у дзень галасаваньня перакрэсьліў свае магчымасьці і ўсю нікчэмную, выгадную яму палітыку Эўропы, якая паабяцала яго прызнаць -- за “прагрэс” на выбарах. (Заўважце, не за справядлівыя дэмакратычныя выбары, а толькі за “прагрэс”, за паляпшэньне.) І вось Лукашэнка сапсаваў эўрацынікам увесь “прагрэс” і тры мільярды ня ўзяў. А яны ўжо гатовыя былі прызнаць ягоныя фальшывыя выбары.

Усё складалася на карысьць узурпатара. Дзевяць спарынг-кандыдатаў (якіх дапусьцілі нават на тэлебачаньне) прадэманстравалі Эўропе “дэмакратыю” і “прагрэс” на выбарах і галасна папрацавалі супраць байкоту. Рэжым паціраў рукі: паказалі “дэмакратыю” для Захаду і зрабілі фальсіфікацыю для сябе.

Плошча вялікай небясьпекі для рэжыму не ўяўляла: не было адзінай альтэрнатыўнай асобы і, адпаведна, не была сфармуляваная ідэя, за якую ўсім трэба змагацца. Апынуўшыся на плошчы Каліноўскага, спарынг-кандыдаты прадэманстравалі разгубленасьць, бездапаможнасьць, няведаньне, што рабіць, інфантылізм паводзінаў. Плошча была некіруемая, і правакатары лёгка зьвялі людзей у правакацыйную пастку да Дому ўраду.

Пазьней зьявіліся меркаваньні, што ва ўзурпатара здалі нэрвы, што ад страху ён пабіў народ. Сапраўды, стан афэкту і ўзбуджэньня (не сумняваюся) валодаў ім у час правакацыі і пабіцьця людзей, якое ён асабіста падрыхтаваў. Яму проста падабаюцца такія дзеяньні і відовішчы (калі ўсіх месяць, а ён камандуе). Але тое, што адбылося, вынікала ня толькі з афэкту, і не было выпадковасьцю. На самой справе тут усё было заранёў прадумана і сплянавана, быў зроблены сьвядомы і разьлічаны выбар у карысьць Крамля.

Лукашэнка ніколі не адарвецца ад Масквы. Трэба тое ведаць. Гэта адна мафія, адна “кампанія” і адзін гэбізм. Ён і сам хацеў бы пакіраваць Крамлём, але вымушаны задавальняцца роляй “свайго сукінага сына”. І ўсё ж, ён там сапраўды свой, савецкі, гэбоўскі. У Эўропе яму няўтульна. Эўрапейскі гешэфт – гэта для яго часовая палітыка, спосаб манэўру ў сварках з крамлёўцамі.

Пасьля візіту прадстаўнікоў Эўразьвязу і абяцаньня трох мільярдаў эўра для рэжыму за “прагрэс” на выбарах, узмацнілася атака Масквы “хроснымі бацькамі”. Узурпатар жа ў гэты час паўтарае, што з Расеяй ён быў разам і будзе разам, што ў Беларусі няма патрэбы ў шматлікіх апазыцыйных партыях, што хопіць адной (гэта значыць ліцэнзаванай апазыцыйнай), заклікае людзей дапамагчы сабраць подпісы спарынг-партнёрам на выбарах, кажа, што ў яго 80 адсоткаў падтрымкі, а за дзесяць дзён да галасаваньня едзе ў Маскву на саміт Мытнага саюзу і спатыкаецца з прэзыдэнтам Мядзьведзевым, які да гэтага дэманстраваў, што ня хоча з Лукашэнкам бачыцца і гаварыць.

Сустрэчы на саміце заплянавана не было. Аднак жа ўсё “нечакана” адбылося, “сябры-ненавісьнікі” сустрэліся, дамовіліся, улагодзілі мыта на нафту і нафтапрадукты і “всё друг другу простили”. Лукашэнка падпісаў “грабавыя”, зьнішчальныя для незалежнасьці Беларусі дакуманты па Адзінай Эканамічнай Прасторы з Расеяй і “героем” вярнуўся ў Менск, а Макей (міністар замежных справаў) паведаміў, што на плошчы плянуецца выбух.

Усё выявілася адразу. Пастка над наіўнымі спарынг-кандыдатамі канчаткова зачынілася. Выхад зь яе, каб пазьбегнуць ролі бязвольных саўдзельнікаў і ганьбы, быў толькі адзін – кандыдацкі байкот, сумеснае пратэстнае зьняцьцё сваіх кандыдатур з выбарчай кампаніі. Гэтым можна было б перакуліць усю выбарчую афёру Лукашэнкі.

Тады я казаў пра гэта ў інтэрв’ю (радыё Свабода,10.XII) і ў Сеціве. Было нават паведамлена некаторым спарынг-кандыдатам, што трэба тэрмінова ратаваць ня толькі Беларусь, але і сябе (свой гонар і свабоду). Аднак бессэнсоўна. Бальшыня -- нічога не ўспрымалі.

Далей здарылася тое, што здарылася. Факт другога падпалу райхстагу адбыўся. Улада была зноў захоплена, выбары сфальсіфікаваныя, народ пабіты, спарынг-кандыдаты пакалечаныя і кінутыя ў турму (акрамя двух, роля якіх была зразумелая ад пачатку). Поўны сілавы трыюмф цёмнай улады.

**Плян зачысткі тэрыторыі генацыду**

Падкрэсьліваю яшчэ раз (гэта істотна), што “другі падпал райхстага” і яго працяг рыхтаваліся даўно. Прытым якраз у Працягу быў палітычны сэнс усёй правакацыі на плошчы. Яшчэ ў верасьні, працуючы над падрыхтоўкай байкоту фальшывай выбарчай сістэмы, мы зафіксавалі чуткі аб магчымасьці выбуху на плошчы, які нібыта плянуюць рускія спэцслужбы (каб рукамі Лукашэнкі зьнішчыць нацыянальнае супраціўленьне, зачыніць для Лукашэнкі дзьверы на Захад і падвесіць яго перад Масквой). І вось 11-га сьнежня пра правакацыю з выбухам сказаў Макей. Стала зразумела, што рыхтуецца нешта іншае, бо ў гэты ж час у Менск пачалі сьцягвацца войскі, бронетэхніка і спэцназ.

Тым часам ініцыятыву плошчы перахапілі спарынг-кандыдаты (дакладней, Лукашэнка, паколькі кандыдаты ўжо былі поўнымі і сьляпымі марыянэткамі ў руках рэжыму).

Нашыя спробы ўпарадкаваць сытуацыю непасрэдна на плошчы Каліноўскага не далі вынікаў. Там людзі адзін аднаго проста ня чулі. Неўзабаве агентура і эйфарыя пагналі ўсіх на плошчу Незалежнасьці.

Такім чынам, калі проста па лінейцы храналягічна раскласьці падзеі і факты і збольшага іх прааналізаваць, то адразу ўбачым, што правакацыя была вынікам збочанага, рацыянальнага і далёкасяжнага пляну, і не вынікала толькі са стану страху і нэрвовага ўзбуджэньня, якое апанавала ўзурпатара 19-га сьнежня пасьля ўсьведамленьня свайго практычнага правалу на выбарах.

Цяпер аб ідэалогіі і факталогіі гэтых падзеяў. Выбар у карысьць Масквы Лукашэнка зрабіў за два месяцы да галасаваньня (толькі чакаў адпаведнага часу, каб вызначыцца). Крэмль вымусіў яго гэта зрабіць. Дзьверы ў Эўропу для Лукашэнкі трэба было зачыніць, а Беларусь загнаць у Агульную Эканамічную Прастору. Масква дэманстравала тут цынічную і жорсткую палітыку прымусу (у тым ліку і “Хросным бацькам”). Толькі звышнаіўныя прастакі ў палітыцы (якія водзяцца звычайна ў Беларусі) маглі ў гэты час езьдзіць у Маскву і прыпадаць да ручкі Крамля, каб дапамог прагнаць Лукашэнку.

Крэмль паставіў пытаньне рубам (альбо Захад -- альбо мы), разумеючы, якое рашэньне прыме Лукашэнка. Калі казаць лапідарна, коратка і проста -- Захад ня возьме на ўтрыманьне рэжым Лукашэнкі. Захад будзе яму даваць грошы, але разьлічвацца з Захадам у канцовым падсумаваньні прыдзецца ўладай.

Масква тым часам таксама будзе даваць грошы і гатова падтрымліваць любую ягоную ўладу, але разьлічвацца прыдзецца нацыянальнай маёмасьцю і суверэнітэтам. Выбар Лукашэнкі можна было прадбачыць. За ўладу (калі безвыходнасьць) ён здасьць усё.

Ніхто ў Маскве, як ужо адзначана, не плянаваў сустрэчу Лукашэнкі зь Мядзьведзевым. Але Лукашэнка прыехаў здавацца, і са сьлязьмі на вачах угаварыў Мядзьведзева яго выслухаць (казалі, што ён ледзь ні станавіўся на калені). Каляпалітычная публіка Масквы апавядала, што ён здаў Мядзьведзеву "ўвесь Эўразьвяз", усіх, хто зь ім спатыкаўся і пра што гаварылі. І гэта дакладна адпавядае натуры Лукашэнкі. Крамлёўцы толькі не разумеюць, што ў размове з прадстаўнікамі Эўразьвязу ён гэтак жа даверліва і пераканаўча здаваў Маскву. Таму ашарашаны Хаўер Саляна выходзіў пасьля размовы з узурпатарам вытарачыўшы вочы, амаль хістаючыся ад усьведамленьня сваіх дыпляматычных посьпехаў (якія скончыліся вядома чым), а панна прэзыдэнт Летувы, трапіўшы пад слоўны фантан хлусьні саліднага суседа, правалілася ў такое зачараваньне яго "шчырасьцяй", што потым такое нагаварыла... Цяпер перапісваюцца. "Камэдзі-палітык".

9-га сьнежня зноў адбыўся паварот рэжыму ў бок Масквы. Пустыя ілюзіі (хто іх трымаўся), магчыма, ужо разьвеяліся. Масква наклала лапу на далейшыя паводзіны Лукашэнкі. Здарылася тое, пра што ўзурпатар намякаў і папярэджваў за два месяцы перад гэтым.

Са спарынг-кандыдатаў нармальна адрэагаваў толькі Някляеў, і ў гэты ж дзень прапанаваў усім зьняцца з выбараў, якія не кантралююцца народам і ўдзел у якіх Лукашэнкі незаконны. Але астатнія спарынг-партнёры яго не падтрымалі (некаторыя нават усур'ёз казалі пра другі тур).

За пяць дзён да галасаваньня пачаўся жорсткі загон выбаршчыкаў на папярэдняе галасаваньне. Ніякіх законаў рэжым не прытрымліваўся.

15-га сьнежня ў выбраным коле рэжымнай верхавіны начале з Лукашэнкам адбылася так званая "перадвыбарчая нарада". Фактычна, засядаў штаб правакацыі і сілавой расправы з народам. На нарадзе, акрамя Лукашэнкі, былі непатапляльны Шэйман, беларусажэрца і міністар абароны рускі генэрал Жадобін, старшыня КГБ рускі генэрал Зайцаў, начальнік аховы Лукашэнкі рускі генэрал Вцюрын, міністар МУС (і супэр-хлус) азэрбайджанец Куляшоў, сын Лукашэнкі Віктар, кіраўнік Савета бясьпекі Мальцаў і яшчэ пару нявысьветленых асобаў.

18-га сьнежня ў апошні дзень перад галасаваньнем мы (наша партыя КХП--БНФ) прызначылі публічнае спатканьне з выбаршчыкамі, на якое запрасілі Някляева. Някляеў не зьявіўся. Тады я, парушаючы ўсялякія правілы і цэрымоніі, папрасіў аднаго вядомага ў Беларусі чалавека дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня і сябра Апазыцыі БНФ ісьці ў офіс "Говори правду", спаткацца зь Някляевым і сказаць яму нашыя меркаваньні і засьцярогі.

У офісе "Говправду" вісела ліпкая атмасфэра варожасьці і беларусафобства: "А кто вы такой?" -- спыталі ў візіцёра. "А фамилия?.." "Да? Что-то не припомню. Некляев занят. Он проводит пресс-конференцию." "Добра, я пачакаю."

Праз хвіліну офісныя дамы пашапталіся, паказваючы пальцам на госьця, падышлі зноў і, падціснуўшы губы, сказалі: "Знаете, у нас здесь офисное мероприятие, и присутсвие посторонних не предусмотрено." Госьць пайшоў.

(Словы "куды вы трапілі, Уладзімер Пракопавіч?" пакідаю ў дужках, гэтак жа, як і меркаваньне пра тое, хто першы яго здасьць, якое я выказаў раней, і які яго ўжо здаў.)

Ні сустрэчы, ні размовы зь Някляевым не атрымалася. 18-га сьнежня я яшчэ раз зьмясьціў у Сеціве заяву *("Народная Воля")* пра апошні шанс перакуліць фальшывыя выбары шляхам калектыўнага зьняцьця ўсіх спарынг-кандыдатаў. Але гэта быў голас у пустэчы.

* * *

Правакацыя і нематываванае калечаньне людзей сталася пачаткам псіхапатычнага пляну застрашэньня і выключэньня з грамадзка-сацыяльнага жыцьця беларускай нацыянальнай эліты і актыўнай часткі грамадзтва шляхам стварэньня немагчымых умоваў для дзейнасьці, жыцьцёвай рэалізацыі і разьвіцьця. Гэтыя дзеяньні рэжыму падпадаюць пад артыкул Крымінальнага Кодэксу пра генацыд.

Пачаўся лукашысцкі генацыд яшчэ 16 гадоў таму. Падзеі 19-га сьнежня – гэта чарговы апэратыўны яго этап, пачатак доўгатэрміновага рэпрэсіўнага пляну. Адразу пасьля 19-га сьнежня (а, фактычна, раней) былі створаны апэратыўныя групы ў КГБ і ў іншых спэцструктурах па 5-6 функцыянэраў, задача якіх – рабіць плянамерныя арышты, ператрусы, затрыманьні, уламваньні ў кватэры, рэквізіцыю носьбітаў інтэлектуальнай і інфармацыйнай маёмасьці. Найперш будуць "зачышчаныя" тыя беларусы, што былі на плошчы ў Менску (станцыі мабільнай сувязі, якія даўно сталі залежнымі ад гэбэ, здалі ўсіх). Потым (і, як паказваюць падзеі, адначасна) пачынаюць перасьледваць беларусаў па "жадобінскаму сьпісу".

Нагадаю, што некалькі гадоў таму старшыня КГБ Жадобін склаў сьпіс 1767 актыўных беларусаў, якіх (у выпадку "неабходнасьці") заплянавана схапіць у першую чаргу. Пячорныя мазгі – пячорныя пляны. У 1990-х гг. Лукашэнка выхваляўся, што (каб навесьці "парадак") хопіць "нэўтралізаваць" 400 "сьвядомых".

Далей акцыі зачысткі, застрашэньня і сацыяльнай нэўтралізацыі павінны перакінуцца на партыйныя і грамадзкія арганізацыі, на журналістаў, на беларускія культурныя установы, на беларускія выданьні, якія яшчэ трываюць, на творчую і навуковую інтэлігенцыю і прэвентыўна – на ўсю Беларусь.

Усялякая рэпрэсіўная сістэма інфармацыйна дзіравая, таму вядома, што антыбеларуская зачыстка заплянаваная на некалькі месяцаў. Але цалкам магчыма, што і на большы час, у залежнасьці ад таго, як пойдуць справы ў новых апрычнікаў і якое будзе супраціўленьне. (Калі супраціўленьня ня ўзьнікне, зачыстка пойдзе як пэрманэнтны працэс, бо вядома нават з практыкі, што пры нападзе бандытаў гіне той, хто не супраціўляецца.)

Генэральная гэбоўская "распрацоўка" ўсёй нацыі адбылася ў 2008 г. пасьля крывавай дэманстрацыі тэракта (выбуху) 4-га ліпеня на гарадзкім сьвяце ў Менску. Тады па ўсёй краіне, практычна, прымусова бралі адбіткі пальцаў (нечуваны зьдзек і парушэньне правоў людзей). Народ скарыўся, і гэтага было дастаткова, каб нішчыцелям нацыі шмат што зразумець. Галоўная іхняя задача цяпер – вынішчыць тое жывое, на чым сёньня яшчэ трымаецца беларушчына і вольная думка людзей (*каб нішто ўжо нельга было вярнуць і павярнуць да ранейшага)*.

**Рацыя**

Цяпер шмат хто, нібы ўпершыню, расплюшчыў вочы, агледзеўся і думае: што гэта робіцца, чаму так цёмна і дзе гэта ён жыве? Іншыя задаюцца пытаньнем: што рабіць, каб збавіцца ад антынароднай улады? Чакаюць, што нешта такое можна раптам зрабіць, і ўся гэтая цемра адразу пакоціцца дагары нагамі.

На жаль, высновa мая для хуткасьпелых спадзяваньняў будзе жорсткай. Грамадзтва, якое ня ёсьць нацыянальна скансалідаваным на аснове нацыянальнай мовы, гісторыі, культуры і нацыянальных інтарэсаў, ня ў стане перамагчы дыктатуру. І, паўтаруся, грамадзтва без нацыянальнай сьвядомасьці ня здольнае змагацца за свабоду.

Цяпер жа беларусам не хапае якраз таго галоўнага, што зьнішчаў і зьнішчае ў нас рэжым узурпатара. Без нацыянальных каштоўнасьцяў, без беларускай нацыянальнай сьведамасьці ня трэба цешыць сябе ілюзіяй і траціць час на імітацыю барацьбы за абстрактную "дэмакратыю", "свабоду" ды за правы бесталковага чалавека. Псэўдабарацьба скончыцца паразай, маразмам і расчараваньнем.

Толькі з вызначэньнем беларускай нацыянальнай плятформы і зьяднаньнем беларускай нацыянальнай сілы ( якую трэба ствараць) можна дзейна змагацца з антыбеларускім рэжымам.

Цяпер трэба абазначыць агульныя пазыцыі.

**1.** Выбары былі несправядлівыя, незаконныя, сфальшаваныя. Лукашэнка ня ёсьць законным прэзыдэнтам. Не прызнаваць і не называць яго прэзыдэнтам. Ён захопнік улады (узурпатар). Вынікі прэзыдэнцкіх выбараў 2010 года павінны быць ануляваныя.

**2.** Мусяць быць новыя выбары без Лукашэнкі. Трэба арганізоўваць і шырыць Рух пад такой назвай. Першая задача гэтага Руху – рыхтаваць агульнанацыянальны страйк. Цяпер ён нерэальны, але ў будучыні магчымы. Трэба рыхтавацца. Антынародную дыктатуру можа перамагчы толькі скансалідаваная нацыя.

**3.** Рыхтаваць матэрыялы і выступіць істцамі па факту крымінальнага злачынства – масавага зьбіцьця і скалечаньня людзей у Менску, пабіцьця шыбаў у Доме ўраду (парляманту), зьдзейсьненага ворганамі і структурамі міліцыі, войска і КГБ ў дзень выбараў 19 сьнежня 2010 г.

**4.** Рыхтаваць матэрыялы і выступіць істцамі па факту правядзеньня антынацыянальнай палітыкі, плянамернага стварэньня умоў рэжымам Лукашэнкі для дэградацыі і выміраньня беларускай нацыі (генацыд).

**5.** Пазыцыя, выкладзеная ў п. **3**, уключае ў сабе пытаньне аб вызваленьні з-пад арышту незаконна схопленых людзей, прадстаўнікоў апазыцыі, былых кандыдатаў у прэзыдэнты. Вызваленыя павінны быць усе.

Тут адзначу, што рэжым незаконна пасадзіў за краты вельмі розных асоб (нават агентуру, але тут тэхналёгія). Шмат хто з арыштаваных ня быў на плошчы і нават ня меў непасрэднага дачыненьня да выбараў. Заказчыкі судовага спэктаклю рыхтуюць, магчыма, камэдыю асьмяшэньня са здрадай, пакаяннымі лістамі, супрацоўніцтвам са сьледзтвам, нагаворамі, сваркамі, здачай усіх і т. п. (Такое ўжо пачалося.)

Вызваленьне з-за кратаў незаконна арыштаваных павінна ісьці разам з іскам супраць рэжымных спраўцаў злачынства. Бяз гэтага патрабаваньне вызваленьня арыштаваных ператвораць у прадмет гандалю Захаду з Лукашэнкам.

Па сутнасьці з такой гандлярскай прапановай выступіў спадар Мілінкевіч: маўляў, спачатку вызваліце вязьняў, а потым Захад уступіць у перамовы з Лукашэнкам (гэта значыць, фактычна, прызнае яго). Няма чаго вам зь ім размаўляць, панове эўрасаюзьнікі, у той час, калі нам трэба яго зьняць і судзіць.

Менскі "падпал райхстагу" пачалі як хацелі – па-дзікунску, па-гэбоўску, па-бандыцку. Толькі калі для фюрэра ён абазначаў пачатак новага райха, неабмежаванасьць улады і ўзьлёт кар'еры, то для ягонага прыхільніка ў Менску (спадзяюся) стане, хутчэй за ўсё, пачаткам ганебнага яе канца.

*7 студзеня 2011 г.* Зянон Пазьняк

# РЭЖЫМ ЗДАЕ АГЕНТУРУ

Часам карысна праглядаць прапагандысцкае гэбоўскае кіно, ведаючы іхныя манеры і прыёмы ілжы. Фільм “Плошча. Жалезам па шклу” увесь зроблены на прымітыўных штампах пра міфічных “баевікоў” беларускай апазыцыі, пра бомбы, гранаты, “заточкі”, аўтаматы (якія паказваюць у кадры), пляны захопу ўлады, пагромшчыкаў, экстрэмістаў і г. д.

Але ёсьць два цікавыя моманты. Гэбісты зразумелі, што ўліплі з правакатарамі і са спробай забойства Някляева. Сьпешна прыдумваюцца вэрсіі, каб выблытацца і зваліць віну на іншых.

Правакатараў журналісты зьнялі ва ўсіх ракурсах. Добра відаць іхняя правакацыйная “праца” і дзеяньні. Грамадзкія энтузіясты здабылі нават радыёперахваты іхных галасоў, даведаліся іхныя агентурныя клічкі і прозьвішчы. Гэбістам трэба было нешта рабіць у адказ, і яны пайшлі па стандартнай схеме (магчыма, нават узгодненай з выканаўцамі пагрому) — пачалі самы здаваць сваіх правакатараў, якія білі шыбы, маўляў, мы ведаем, хто яны такія, сьледзтва ўстанавіла — усім будзе па заслугах. Прытым і тэрміны адсідкі ім могуць даць сапраўдныя (звычайна, на правакацыйную ролю падбіраюць крымінальнікаў), папарядзяць яшчэ, каб ня рыпаліся, а то атрымаюць болей. Такіх за людзей там ня лічаць. Ды і сам іхны падпал Райхстагу і грандыёзнасьць злачынных плянаў патрабуюць ахвяр.

Такім чынам аўтары і заказчыкі фільма прызналіся да чатырох агентурных правакатараў і насамрэч іх здалі: Федаровіча Алега Ўладзімеравіча, Хамічэнку Ўладзімера Мікалаевіча, Ліхавіда Мікіту Юравіча, Парфянкова Васіля Пятровіча. Больш таго, стараючыся надаць праўдападобнасьць сваёй прапагандзе, гэбісты засьвяцілі шэраг іншых сваіх сексотаў у асяроддзі людзей (спадзеючыся, відаць, на наіўнасьць гледача і думаючы, што ніхто ні аб чым не здагадаецца). Але мінуў той час. Людзі “паразумнелі” за адзін вечар 19-га сьнежня. Вось прозьвішчы, якія стваральнікі кіно раскрылі: Антон Давыдзенка, Сяргей Лугоўскі, Ігар Мысьлівец, Мікіта Шапуроў, Ігар Нікіцін, Юры Панчук.

Сярод арыштаваных (тых, што сядзяць у турме КГБ) з цягам часу канторскія экзэмпляры раскрыюцца самы. Таму ня буду нічога казаць наперад, каб не бянтэжыць добрых людзей. Некаторыя, праўда, ужо адчыніліся цалкам. Яраслава Раманчука людзі, якія ня першы год у палітыцы, вылічылі адразу. Але падставаў для ацэнак ён не даваў. Выбарчая афёра (якую Раманчук увесь час “гжэчна” падтрымліваў) нечакана вылезла яму бокам і перакрэсьліла ўвесь яго гадамі леплены кшталт разумніка і знаўца эканомікі. (І зьявіўся, раптам, такі Мікіта Зносак.) Заява-данос, якую ён прачытаў на тэлебачаньні, называючы канкрэтныя асобы, скрозь складзена з дакладных фармулёвак артыкулаў Крымінальнага Кодэксу (і ён ня мог таго ня ведаць). Гэтая заява напісана для абвінавачваньня на судзе.

Пасьля заявы Раманчук зьезьдзіў за мяжу, як паведаміў журналістам, каб “зьняць напружаньне”.

Другі момант фільма мне добра вядомы. Схема яго такая: стварэньне канфлікту (альбо бачнасьці канфлікту) у арганізацыі, забойства лідэра (кіраўніка) і звальваньне забойства на канфліктуючы бок (на ўнутраныя “разборкі”).

Нагадаю, што КГБ — гэта арганізацыя антычалавечая, спраўца жахлівага генацыду і сьмерці мільёнаў людзей. У савецкім КГБ няма забароны на палітычныя забойствы, як

гэта ёсьць у цывілізаваных краінах у дачыненьні да кодэксу спэцслужбаў. Іх вучаць забіваць, разбэшчваць, хлусіць. Агенты, якія выконваюць забойствы (альбо не выконваюць) таксама падлягаюць ліквідацыі (выразны прыклад — забойства Аляксандра Ліцьвіненкі). З гледзешча мэтафізікі духа, КГБ — гэта зьява шатанская, д'ябальская. З пазыцыяў сацыяльнага гуманізму і правоў людзей, савецкі КГБ ёсьць утварэньнем, якое ажыцьцяўляла злачынствы супроць чалавецтва. Грамадзтва ня зможа нармальна разьвівацца, не ліквідаваўшы КГБ і не асудзіўшы яго дзеяньняў і спраўцаў у рашэньнях права. Сёньня, як і даўней, КГБ нішчыць беларускую нацыю.

Увесь драматызм і няшчасьце народаў Усходняй Эўропы ў тым, што пасьля частковага распаду СССР і ліквідацыі ўлады КПСС у дзьвух краінах — Беларусі і Расеі — КГБ захапіў поўную і абсалютную ўладу ў дзяржаве. Розьніца паміж гэбізмам у Расеі і гэбізмам у Беларусі толькі ў схеме вярхоўнай улады. У Беларусі — антынацыянальны антыбеларускі аўтарытарызм, у Расеі — антынароднае карпаратыўнае праўленьне. Але гэта адзін і той жа рускі гэбізм. Абодва варыянты характарызуюцца рэпрэсіямі, карупцыяй, тэрарызмам супраць народа і паразітаваньнем на рэсурсах. (Нагадаю, што народ ёсьць галоўны рэсурс дзяржавы.)

Заходняя Эўропа, нажаль, ня ў стане зразумець (як некалі не разумела Гітлера), што за тып улады ўзьнік на Ўсходзе, дзе КГБ стаў і дзяржаўнай, і палітычнай сілай у адной опцыіі. КГБ тут і абсалютная ўлада, і палітычная супэрпартыя аднačасна. Адсюль — кагэбізацыя грамадзтва, разгул агентуры, развал грамадзянскай супольнасьці, пастаянныя рэпрэсіі, поўнае ігнараваньне законаў, бяспраўе людзей. КГБ ажыцьцяўляе ўладу так, як умее і чаму навучаны. Іншай гэтая ўлада быць ня можа.

Цяпер вернемся да “другога моманту”. У 1995 годзе, калі я быў папярэджаны, што рыхтуецца маё забойства (пра тое ўжо ведаў нават Кебіч), было таксама адзначана, што сьмерць зваляць на ўнутраны канфлікт у Фронце і на помсту паплечнікаў. Канфлікту ў Фронце не было, але якраз у гэты час ён пачаў разыгрывацца неадэкватна і на пустым месцы. Падняла галаву нават “ляжачая агентура”.

Гэты плян (які рыхтавала спэцгрупа Лукашэнкі) ня ўдаўся.

Арсэнал прыёмаў і распрацовак савецкага КГБ у цяперашнім яго выглядзе не зьмяніўся (хутчэй, стаў гэбоўскай “клясікай”).

Мы бачым тую ж схему ў спробе забойства Някляева. Калі някляеўская група падтрымкі рушыла ад сядзібы на Нямізе, высьветлілася, што асноўную частку моцнай аховы Някляева яе кіраўнікі адаслалі на плошчу. Ахоўваць Някляева, фактычна, не было каму. Пасьля нападу спэцгрупы “Алмаз” Някляева знайшлі ў непрытомным стане пад машынай дарожнай міліцыі. Праз нейкі час кіраўнік выбарчага штабу Някляева Андрэй Дзімітрыеў, знаходзячыся пад арыштам у турме КГБ, робіць характэрную заяву, што баццам бы на Някляева напалі п'яныя хуліганы, “завязалась драка”, але міліцыя прагнала хуліганаў, і што “міліцыя не вінавата”(?).

Дзімітрыева, адпаведна, выпускаюць з турмы КГБ, як ён сказаў, “сам ня ведаю, чаму”. (Можа ён і ня ведае, але трэба ж некаму назіраць за “Говправдой”, каб не разьбеглася агентура і каб не прышлі туды “ня тыя людзі”.)

Цалкам гэтая прыдуманая вэрсія і заезджаны гэбісцкі плян былі агучаныя ў фільме “Плошча. Жалезам па шклу”. У фільме так і гаворыцца, што напад на Някляева рыхтавалі яго сябры-канкурэнты: Статкевіч, Саньнікаў і Рамашэўскі. На іх жа ў агучаным даносе паказвае і Раманчук.

Тупасьць гэтай гэбісцкай вэрсіі, вядома ж, уражвае і паказвае, на што здольныя іхныя разумовыя якасьці, каб пазьбегнуць адказнасьці за спробу забойства і потым за выкраданьне Някляева са шпіталю.

Зрабіўшы злачынства, рэжым агучвае цяпер сваю гёбельсаўшчыну і, на жаль, і тут навязаў сваю тактыку пацярпелым і сваю зладзейскую ініцыятыву.

У артыкуле “Другі падпал Райхстагу” (і раней) я ўжо пісаў, што неабходна рабіць: узбуджаць крымінальную справу супраць спраўцаў рэжыму за правакацыйнае біцьцё шыбаў у доме Ураду, за напад на дэманстрантаў і калецтва мірных людзей (у тым ліку, па артыкуле 127 Крымінальнага Кодэксу — генацыд).

Сваякі пабітых і захопленых у турму закладнікаў аб'ядналіся, дбаюць аб перадачах вязьням, аб спатканьнях, заклапочаныя высьвятленьнем стану іхняга здароўя і г. д. Вельмі добра, што сваякі гуртуюцца, але гэтага мала. На жаль, мушу канстатаваць, што вынікам толькі гуманітарнай пазыцыі ў дачыненьнях з антылюдзкім рэжымам можа стацца палітычная параза і наступнае сузіраньне гнюснага, хамскага, ілжывага суду, які гэбісты хочуць арганізаваць над невінаватымі людзьмі, дэманструючы ігнараваньне грамадзтва і міжнароднай супольнасьці. Сваякі якраз маглі б падаць ў суд на спраўцаў злачынства. Гуманізм, прыстойнасьць, мараль, справядлівасьць, закон — ўсё гэта невядома нішчыцелям нашага народа. Але яшчэ ёсьць магчымасьць ачуняць ад udaраў і пачаць змагацца.

*13 студзеня 2011 г.* Зянон Пазьняк

# АБ ІСТОТНЫМ

Пасьля рэпрэсіяў 2010 года і нападу на дюдзей  шмат хто ў чарговы раз пераканаліся, што не жывуць у дэмакратычнай краіне, што ўлада ў нашай Беларусі нелегітымная, незаконная, праводзіць антынацыянальную палітыку. Чужасьць і ненармальнасьць гэтай улады выяўляецца найперш у тым, што сваёй палітыкай яна раскалола нацыю і адносіны паміж расколатымі бакамі пабудавала на нянавісьці. Беларусаў, якія маюць адрознае меркаваньне ад вярхоўнай улады, трактуюць як “ворагаў народа”, якіх можна нішчыць, біць, зьневажаць, абзываць “адмарозкамі”, “вашывымі блохамі”, кідаць у турму, зьдзеквацца зь іх, не даваць вучыцца, працаваць, гандляваць.

Калі нацыя расколата па нянавісьці і, горш таго, -- па адносінах да агульных каштоўнасьцяў – яе ўжо, фактычна, няма, яна робіцца аб’ектам маніпуляцыі злой сілы і самазьнішчэньня. Вось што тварыў антыбеларускі рэжым Лукашэнкі ўсе гэтыя 16 гадоў у Беларусі. Існаваньне такога захопніка прэзыдэнцкай пасады на вяршыні ўладнай лесьвіцы ёсьць крайне небясьпечным для жыцьця і экзістэнцыі беларускай нацыі, для ўсёй нашай людзкасьці і грамадзтва.

Зразумела, што за ўзурпатарам стаяць злыя сілы з Усходу, але менавіта ён, Лукашэнка, стаўленік антыбеларускіх сілаў, ёсьць язвай расколу, бездані хлусьні і нянавісьці ў нашым грамадзтве.

У такім становішчы, якое склалася цяпер, калі няма рэальных выбараў і магчымасьцяў зьмены антынароднай улады, беларускі народ мае канстытуцыйнае права на змаганьне з рэпрэсіўным рэжымам, мае права на выбары сабе законнага дзяржаўнага кіраўніцтва. Людзі павінны ведаць, што, з пазыцыі права, непрызнаньне незаконнай улады і імкненьне абраць легітымнага прэзыдэнта ёсьць законным дзеяньнем. Зьмена антынароднай улады ёсьць канстытуцыйным правам народу Беларусі

*9 люты 2011* Зянон Пазьняк

# НАША СПРАВА. ЗАЎВАГІ НА ПРЫКЛАДАХ

Галоўны лёзунг, які акрэсьлівае цяпер сутнасьць моманту, які паказвае напрамак і неабходны крок для выратаваньня краіны, гучыць так: **“Беларусь – без Лукашэнкі”.** (Гэта, так бы мовячы, тлумачальная форма традыцыйнага “Лукашэнка прэч!”) Мэханізм, які можна ўрухоміць для дасягненьня мэты – гэта новыя выбары без удзелу ўзурпатара.

Трэба разумець, што ніякія міжнародныя санкцыі (ні палітычныя, ні эканамічныя) не ліквідуюць дыктатарскі рэжым, тым больш такі рэжым, які паставіла ў Беларусі і які ўтрымлівае Расея. Набор чыньнікаў, якія зьнішчаюць дыктатуру, абмежаваны – гэта вайна, тэракт, пераварот, рэвалюцыя, арышт. Першыя тры адпадаюць як нерэальныя і непрыймальныя. Арышт магчымы пры радыкальным умяшаньні міжнародных арганізацыяў, калі палітыка вынішчэньня нацыі і грамадзянскай супольнасьці, якую праводзіць рэжым Лукашэнкі ў Беларусі, будзе адэкватна разгледжана як генацыд. Пра гэты шлях намі ўжо заяўлена. Веданьне такой дарогі да пераменаў важнае для нас самых (і ад нас залежыць яе працяг). Захад праяўляць ініцыятывы ня будзе.

Больш таго, у становішчы пасіўнасьці беларускага нацыянальнага грамадзтва і малой волі да барацьбы Эўропа зноў вернецца да згодніцтва з рэжымам. Эўропа будзе рабіць сваю палітыку, а ня нашу.

Эвалюцыя ўжо пачалася. Патрабаваньне, якое адразу пасьля 19-га сьнежня выставіў Захад, гучэла так: вызваліць з турмы ўсіх схопленых і арыштаваных у Беларусі і спыніць супраць іх усе судовыя справы і перасьледы. Пад гэтую формулу былі зацьверджаныя санкцыі на 158 неўязных асобаў і фармуляваліся далейшыя пагрозы рэжыму.

17-га лютага рэжым кінуў пробны шар – асудзіў на чатыры гады строгага зьняволеньня ўдзельніка Плошчы і нападу на ўваход у Дом Ураду В. Парфянкова (падазраваны як правакатар). Эўразьвяз імгненна прыняў шар. 18-га лютага выступіла Высокая прадстаўнік Эўрапейскага Зьвязу па замежных справах і палітыцы бясьпекі, Віцэ-старшыня Эўрапейскай Камісіі Кэтрын Эштан і зрабіла наступную заяву: “Эўразьвяз працягвае ўважліва сачыць за пасьлявыбарчай сытуацыяй у Беларусі, у тым ліку за судамі, што маюць адбыцца, і будзе надалей рабіць высілкі для вызваленьня і рэабілітацыі ўсіх зьняволеных па палітычных матывах. Больш за тое, **я настойліва заклікаю беларускія ўлады забясьпечыць справядлівы і адкрыты суд ўсіх асоб,** абвінавачаных за іх ролю ў прэзыдэнцкіх выбарах 19 сьнежня 2010 году, у тым ліку за ўдзел у пасьлявыбарчых дэманстрацыях”.

На гэтае “больш за тое” тут жа адклікнуўся рэжым Лукашэнкі і ў той жа дзень “пракамэнтаваў” заяву Высокага прадстаўніка такім чынам: “Меру адказнасьці кожнага з абвінавачаных за беспарадкі ў Менску вечарам 19 сьнежня будзе вызначаць толькі суд”, -- заявіў прэс-сакратар МЗС антыбеларускага рэжыму А. Савіных. “Падкрэсьліваем, -- сказана далей, -- што судовы працэс быў адкрытым і праходзіў у прысутнасьці вялікай колькасьці журналістаў і прадстаўнікоў грамадзкасьці”.

Камэнтары тут непатрэбныя – хлёсткая аплявуха Эўразьвязу і павучаньне, як сябе павінны паводзіць сапраўдныя дэмакраты.

Новы заклік Эўропы да палачнага рэжыму (“забясьпечыць справядлівы і адкрыты суд”) пачуты і ўспрыняты. Суд будзе забясьпечаны “справядлівы і адкрыты”, ня горш, чым пры Вышынскім.

Магчыма, тыя беларусы, якія пасьля 19-га сьнежня толькі што прачнуліся да палітыкі, будуць, як цяпер кажуць, у шоку ад традыцыйнага эўрапейскага філісьцерства. Але, па вялікаму кошту, Эўропа тут нікога не зьдзівіла. Яна заўсёды

была такой. За беларусаў ніхто беларускую справу рабіць ня будзе. Кожны робіць сваё. Лучацца моцныя.

Цяпер пра рэвалюцыю. Хто яшчэ няглыбака думаў, мусіў бы цяпер зразумець, што немагчымыя ніякія выбары без Лукашэнкі пры рэжыме Лукашэнкі. РУХ "За новыя выбары без Лукашэнкі" – гэта наша дарога да рэвалюцыі. І той, хто хоча волі і свабоды Бацькаўшчыны і сьветлай будучыні для Беларусі – ступае на гэты шлях. Па ім трэба ісьці.

Тут добры пачатак, які ўжо расьце. Усё хараша прадумана. Суполкі Руху можна ствараць усюды, нават у "вертыкалі" узурпатара (калі там знойдуцца дэсідэнты). Выявіць суполкі варожым сілам практычна немагчыма, пакуль арганізацыі ня злучацца ў масавую сілу, а ўжо тады – хто каго. І будуць выбары – без Лукашэнкі. (Пра РУХ можна пачытаць у Сеціве )

Рух разьлічаны не на скампрамэтаваную "апазыцыю", а на сьвежых людзей, на ўсё грамадзтва. Тыя, што супрацоўнічалі з рэжымам, падтрымлівалі ўсе яго фальшывыя выбары ды рэфэрэндумы і завялі людзей у пастку правакацыі 19-га сьнежня, тыя ў Рух ня пойдуць, а калі б каторыя і пайшлі, то ад іх была б толькі шкода.

Дзеяньні, якія адбываюцца ў палітыцы вакол нас і на Ўсходзе, і на Захадзе, заўсёды сьведчаць беларусам гучна і адкрыта: станьце самы сабой, любеце сваё, станьце культурнай салідарнай нацыяй, змагайцеся за сваю культуру, мову, школу, гісторыю, зямлю і свабоду! Не жыве народ жыватом, але духам, ня цемрай, а сьвятлом, не разьвіваюцца людзі ў рабстве, а толькі ў свабодзе, якую самы сабе здабылі, бо хацелі.

*19 лютага 2011 г.* Зянон Пазьняк

---------------------------------------

*Заўвага аўтара: Пры развагах просьба не карыстацца тэкстам зьмешчаным на "навінах.бай" ( http://www.naviny.by/rubrics/opinion/2011/02/22/ic_articles_410_172558/ ). Там зроблены купюры, якія прынцыпова скажаюць зьмест. – (З. П.).*

# ПАРА СТАВІЦЬ КРОПКІ НАД “І”

Мінула 40 дзён пасьля міліцэйскага нападу на народ 19-га сьнежня мінулага году ў дзень выбараў у Менску. Узурпатар задаволены сабой, хваліцца, што без яго каманды нічога не рабілася. Словам, беспакарана любуецца тым, што натварыў.

У грамадзтве тым часам мінае першы стрэс, і яно са зьдзіўленьнем і страхам пачынае прыглядацца да таго, што адбываецца. Для некаторых гэта як пабудка пасьля доўгага сну. Цьвярозыя рацыянальныя галасы былі ад пачатку, але яны губляліся ў сфэры эмоцыяў і абурэньня, і найгорш -- у паветры штучнай гераізацыі схопленых закладнікаў – кандыдатаў у прэзыдэнты, дзеяньні якіх уражліва супярэчылі ўзьнятаму пафасу.

Складанасьць у тым, што ў гэты час нельга было рабіць палітычную ацэнку іхным паводзінам, каб не даваць магчымасьці для подлых спэкуляцыяў і падтасовак з боку рэжыму. Усе яны былі схоплены незаконна, і, каб спыніць масавыя рэпрэсіі, трэба было ліквідаваць падставу – вызваліць закладнікаў з турмы. (Адзначу, што рэальных правакатараў, арганізаваных рэжымам, тых, што білі шыбы, якраз і не затрымалі.)

Антынароднаму рэжыму, па вялікаму кошту, усяроўна, хто там быў і што там было на самой справе, бо дзейнічае ўжо схема арганізаванай ім правакацыі супраць усяго беларускага народа (дакладней – супраць сьвядомай і актыўнай яго часткі). Гэтую схему цяпер і раскручваюць. Сотні людзей згрэблі з плошчы, не разьбіраючыся (нават разам з агентурай), і тут жа распачаліся плянамерныя рэпрэсіі ў сістэме паўзучага генацыду беларусаў, які лукашысцкі рэжым вядзе ўжо 16 гадоў. Махавік закручаны, машына нішчэньня запрацавала.

Для таго, каб завесьці такую вынішчальную машыну, рэжыму патрэбныя былі ня толькі выканаўцы (міліцыя і КГБ), але, перш за ўсё, -- пасобнікі, статысты і кіруемая апазыцыя.

Наша шматгадовая мэтадычная фронтаўская праца па байкоту фальшывых выбараў рэжыму дала свой плён у 2008 годзе. Сытуацыя пацьвердзілася на мясцовых выбарах у 2009-м. У гэты час людзі перасталі хадзіць на рэжымныя выбары, узьніклі новыя настроі ў грамадзтве, зьявіліся пэўныя прыкметы нацыянальнай кансалідацыі. Неабходна было разьвіваць і пашыраць такія тэндэнцыі. Прэзыдэнцкія выбары плянавалася спаткаць жорсткім байкотам, каб ня даць магчымасьці рэжыму сарваць гэты грамадзкі пратэстна-кансалідацыйны працэс.

Небясьпека, аднак, зыходзіла ад Эўразьвязу (які мог зноў пагнаць сваю залежную “апазыцыю” на тупіковыя выбары) і з Масквы, адкуль чакалася маштабная правакацыя.

Тым часам пагроза прыйшла непасрэдна з рэжыму. Прытым тактычна і стратэгічна плян рэжыму быў настолькі дзёрзкі, што пазьней нам прышлося адмовіцца ад прапаганды плошчы і на хаду яму супроцьстаяць, вызначаючы прыярытэты ў дзеяньнях, але (што фатальна) страціўшы палітычную ініцыятыву. Ініцыятыву перахапіў рэжым.

На выбарчую арэну выпусьцілі вялікую групу так званых “дэмакратычных” кандыдатаў у прэзыдэнты і падстаўных асоб, забясьпечылі ім рэгістрацыю і магчымасьць публічна выказвацца. Іхныя выказваньні, заклікі і крытыка рэжыму (у асноўным цалкам абгрунтаваная) штурхнулі на галасаваньне тых, хто не зьбіраўся галасаваць. Людзі пачулі крытычныя, рэзкія словы спарынг-кандыдатаў і паверылі ў ілюзію перамогі. Фальсіфікацыйная машына (дзе галасы ня лічаць) зноў атрымала свой напаўняльнік (сваё “паліва” для працы) – электарат, які прышоў галасаваць. Астатняе ўжо ня мела значэньня. Машына зрабіла сваю справу.

Тут яшчэ раз адзначу агульнае палажэньне. Дыктатара немагчыма перамагчы на выбарах. Такіх прыкладаў гісторыя ня ведае. Але шляхам сістэмнага выбарчага супраціўленьня ягоныя выбары можна перакуліць, падвесіць дыктатара над пустатой без фармальнай і рэальнай апоры на бальшыню людзей, урухоміць працэс слабеньня дыктатуры і ўзмацненьня кансалідаванага грамадзтва. Мэтад на выбарах дзеля гэтага існуе толькі адзін – **байкот**. Байкотам выбары не выйграюць. Байкотам выбары – нішчаць, бо пры дыктатуры выбары ёсьць зброя дыктатуры. ***Байкот – гэта народная барацьба, якая мае працяг***.

Небясьпеку байкоту якраз выдатна разумее "просты" "калгасны" Лукашэнка (які сваёй грубай першабытнай палітыкай увесь час пацьвярджае, што на ўсялякага эўрамудраца хапае прастаты). Групу дэмакратычных кандыдатаў (клоунаў, як называлі іх у дыскусіях) ён ня толькі скарыстаў для адмовы часткі людзей ад байкоту, але яшчэ і выкарыстаў для прыкрыцьця заранёў задуманай правакацыі з "масавымі беспарадкамі".

Сітуацыя для беларусаў магла стацца проста трагічнай, калі б правакацыя не правалілася. Гаворачы лапідарна, рэжым ня здолеў яе "прафэсійна" арганізаваць і ажыцьцявіць. (Сыграла заканамернасьць, што подлыя справы робяць, як правіла, дурныя людзі.) Правакатары аскандаліліся.

Цяперашняя валтузьня рэжыму, імкненьне сшыць са свайго правалу "масавыя беспарадкі" (якіх не было) і намаляваць "дзяржаўны пераварот" выклікае ў грамадзтве толькі абурэньне і злосьць, працуе супраць рэжыму.

Але гэта чужы рэжым. Яму абсалютна не абходзяць думкі і настроі людзей у той час, калі ён вяршыць "вялікую гістарычную задачу" – вынішчэньне беларускай нацыі (Лукашэнка, 2006 г.)

Грубая правакацыя і гвалт, што ўчыніў над людзьмі Лукашэнка, зноў паказала асаблівую непрыстойнасьць, нікчэмнасьць і поўную безадказнасьць перад народам так званай "падстаўной" апазыцыі – гэтага збочанага стварэньня Ганса Віка і КГБ.

Усе спарынг-кандыдаты заклікалі людзей прыйсьці галасаваць і адначасна рэфрэнам гучэла – прыйсьці на плошчу. Але адразу было бачна (і выявілася потым), што ніякага адзінага пляну зьбіраньня людзей на плошчу ў іх не было. І не магло быць, бо для гэтага патрэбны адзін ***агульны лідар***, адна ***агульная ідэя***, адна ***агульная задача*** і ***структурная арганізацыя***, здольная арганізаваць парадак і працэс падзеяў. Такога не існавала. Людзей клікалі бяздумна, а некаторыя спарынг-кандыдаты яшчэ прыгаворвалі, што да канца рэжыму Лукашэнкі засталося столькі і столькі дзён, што 20-га сьнежня ўсе прачнуцца ў новай Беларусі і г. д. Гэта ёсьць звыш безадказнасьць у палітыцы, бо такія пустыя фразы абсалютна нічым не былі забясьпечаныя. Тым часам наіўныя людзі маглі ім паверыць. А потым – расчараваньне.

Я ўжо пісаў раней, што калі спарынг-кандыдаты прыйшлі на плошчу Каліноўскага, то ўсе яны разгубіліся, ніхто ня ведаў, што рабіць. Тады прыдумалі навіну. Параіліся і аб'явілі, што стварылі тут між сабой "Урад народнага даверу". Аж сорамна нават пераказваць, што дарослыя людзі маюць такія падлеткавыя літаратурныя ўяўленьні пра палітычную барацьбу. Для такіх палітыка – гэта нібы забаўка, гульня "у партызаны".

Зразумела, што ў такой атмасфэры для агентуры не ўяўляла ніякай цяжкасьці саштурхнуць людзей на праспэкт і павесьці на плошчу Незалежнасьці. Туды бязвольна пацягнуліся і спарынг-кандыдаты. Але куды? Навошта? Яны ж ужо не кіравалі гэтай масай людзей.

Можна задаць шмат пытаньняў, але яны бессэнсоўныя для безадказных інфантыльных правальшчыкаў.

Нават ужо будучы "ў мяшку", на плошчы перад статуяй Леніна, калі правакатары рэжыму пачалі біць шыбы, спыніць іх, схапіць і аддаць міліцыі – было справай (калі меркаваць па вопыту Народнага Фронту) усяго двух-трох хвілінаў. Але, паўтараю, дзеля гэтага патрэбна было мець адказнасьць за арганізацыю сур'ёзнай справы і

наяўнасьць самой арганізацыі. Спарынг-кандыдаты і тут паказалі сябе як клоуны, ня здольныя адэкватна ацаніць, што адбываецца, і прыняць рашэньне.

Пытаньне аб адказнасьці за вынікі падзей зьвязанае з пытаньнем матывацыі дзеяньняў. Нельга пагадзіцца зь меркаваньнем некаторых асобаў з нармальнай (скажам так, агулам) "непадстаўной" народнай апазыцыі, што спарынг-кандыдаты сьведама выконвалі сваю падстаўную і зазывальную ролю (хоць між імі ёсьць і вырабленыя правакатары). Гэтыя людзі (акрамя Някляева) кіраваліся, перш за ўсё, сваімі прыватнымі (асабістымі, партыйнымі, амбіцыйнымі і т. п.) інтарэсамі, а ўжо потым – інтарэсамі Беларусі. Адсюль і вынік. (У гэтым, між іншым, мэнтальная сутнасьць псэўдаапазыцыі і ўсялякай нацыянальна не арыентаванай палітыкі.)

Відавочна, што яны нічога не плянавалі, нічога па сутнасьці не разумелі (і не чакалі) і нічога ня здольныя былі вырашыць. Тэст на іхнюю палітычную якасьць адбыўся 9-га сьнежня 2010 года, калі Лукашэнка раптам паехаў у Маскву, сустрэўся са сваім нібыта "ворагам" Мядзьведзевым, падпісаў шкодныя для Беларусі дакументы па Адзінай Эканамічнай Прасторы, атрымаў абяцаньні на бязмытную пастаўку нафты і, задаволены, вярнуўся ў Менск. Нават людзям, далёкім ад падзей, павінна была цяпер стаць зразумелай уся гэтая рэптыльная выбарчая палітыка калгаснага камбінатара.

Адразу зрэагаваў Уладзімер Някляеў і 9-га сьнежня прапанаваў усім спарынг-кандыдатам разам зьняцца з фальшывых выбараў. (Гэта была б магіла для ўсёй лукашысцкай выбарчай афёры.) Спарынг-кандыдаты Някляева не падтрымалі. Палова нават не разумела сэнсу яго прапановы. А вырашаўся, фактычна, лёс Беларусі (і іхны асабісты -- таксама). Далей сталася так, як сталася.

Людзей пабілі, зьняважылі, пакалечылі, адмучылі ў арыштанцкай турме. Крымінальнай і нават адміністрацыйнай віны спарынг-кандыдатаў у гэтым няма. Яны не плянавалі і не рабілі правакацыі, і нават па неразуменьні сваім не здагадваліся пра яе падрыхтоўку рэжымам. Аднак на іх ляжыць віна палітычная. Гэта якраз з-за іхняга неразуменьня, бесталкоўя, эгаізму, самазамілаванасьці ды з-за безадказнасьці за лёсы людзей, якіх яны паклікалі сабрацца, сталася магчымасьць для выкананьня антынароднай правакацыі рэжыму. Гэтыя кандыдаты прадэманстравалі сваю палітычную нясьпеласьць, несур'ёзнасьць у палітыцы і ганебнае неразуменьне палітычнага праціўніка (тое, што адбылося, сталася для іх нечаканасьцю). Такіх "кандыдатаў" лепш бы і на сто кілёмэтраў не падпускаць да прэзыдэнцкіх выбараў.

Якасьці нацыянальнага палітыка тут выявіў толькі "непалітык" паэт Някляеў і, перш за ўсё, -- адказнасьцю за свае паводзіны і гатоўнасьцю прыняць рашэньне на карысьць Беларусі коштам сваіх інтарэсаў.

Рэжым яго адразу "вылічыў". Для рэжыма небясьпечная сама асоба такога чалавека, які мог станоўча ўплываць на людзей. Таму яшчэ ў час галасаваньня на яго арганізавалі міліцэйскі напад і жорстка зьбілі, а потым, у крытычным стане, выкралі са шпіталю. Зь Някляева лукашысты якраз і плянуюць зрабіць галоўнага сядзельца (і прадмет гандлю таксама).

Увогуле, што да асобы паэта ў палітыцы, то яшчэ ў траўні мінулага года ў артыкуле ***"Шануйце ж мову нашу, беларускую"*** я даваў зразумець, што прызначэньньне Някляева ў чужым праекце "говори правду" – гэта выканаць сваю функцыю і паўтарыць шлях Казуліна. Вопыт паказвае, што тлумачыць людзям нешта такое – бессэнсоўна. Ўсяроўна пойдуць дарогай, якая наканавана, нават калі справа йдзе аб цане жыцьця (і за панюшку табакі).

Думкі паэта, выказаныя ў той час, бянтэжылі сваёй наіўнасьцю і прамаскоўшчынай. Нічога з таго, што ён казаў, ажыцьцявіць было немагчыма, бо "говправда" – гэта чужая беларускай нацыянальнай ідэі і палітыцы структура, нашпігаваная агентамі і кіруемая агентурай, якая зьляцелася на халяўныя грошы, як мухі на гной. У рэальнасьці Някляеў (у пляне нацыянальнага сьветапогляду) быў там адзінокі. Тыповая сытуацыя ахвяры.

У канцы лета зьявіліся неправераныя зьвесткі зусім дрэнныя – аб будучых выбухах на плошчы ў час выбараў (нібыта праект Масквы) і аб магчымай ахвяры (такой ахвярай мог стаць Някляеў).

11-га сьнежня 2010 г. (пасьля вяртаньня Лукашэнкі з Масквы) Уладзімер Макей сам аб'явіў пра выбухі. Стала зразумела, што чуткі былі невыпадковыя, і што "выбухаў" ня будзе. Рэжым задзейнічаў іншы сцэнар, які праваліў з трэскам, але робіць выгляд, што ўсіх абдурыў і ўсё ўдалося.

Лукашэнка ўжо зноў пачаў гандаль з Эўразьвязам. Некалькі асобаў выпусьцілі з турмы пад падпіску аб нявыезьдзе. Некалькім стварылі турму дома, перавёўшы з камэры ў кватэру. Чакаюцца яшчэ іншыя маніпуляцыі. І Эўразьвяз кляўне. Кляўне – раней ці пазьней, бо такая прырода ягонай палітыкі.

Усё залежыць тут ад беларускага грамадзтва, ад яго здольнасьці да барацьбы за нацыянальныя інтарэсы. **Першым пунктам** такой барацьбы павінна стаць патрабаваньне аб безумоўным вызваленьні ўсіх схопленых і арыштаваных і аб спыненьні ўсялякіх надуманых крымінальных справаў супраць гэтых людзей.

Мусяць быць спыненыя ўсе рэпрэсіі людзей, ператрусы, хапаньні, допыты і рэквізіцыі маёмасьці. Уся незаконна забраная і канфіскаваная маёмасьць павінна быць вернутая ўладальнікам. Ніякіх перамоваў Эўразьвязу з рэжымам ня можа быць без выкананьня гэтых умоваў і патрабаваньняў. У адваротным выпадку гэта стане, фактычна, непавагай да народу Беларусі.

**Другім пунктам** мусіць стаць патрабаваньне і падрыхтоўка новых выбараў без Лукашэнкі. Трэба ствараць і пашыраць Рух за ажыцьцяўленьне гэтай задачы, якая цалкам вырашальная пры вялікай грамадзкай актыўнасьці.

**І трэцяе**, што трэба вырашыць (прынамсі, актыўнай частцы і эліце нашага грамадзтва) – гэта зрабіць правільныя высновы з прычынаў і вынікаў пабіцьця народа 19-га сьнежня 2010 г. у Менску.

Супраць антынацыянальнай антыбеларускай тыпова акупацыйнай палітыкі гэбісцкага рэжыму Лукашэнкі мы, грамадзтва, мы – беларусы, мусім супроцьпаставіць беларускую нацыянальную палітыку сьведамага народа, і толькі зь ёй на вуснах, у галовах і сэрцах, пад сьвятым *Бел-Чырвона-Белым Сьцягам* і дзяржаўнай *Пагоняй* мы пераможам, зьнішчым гэтую чужую, цёмную сатанінскую ўладу.

*31 студзеня 2011 г.* *Зянон Пазьняк*

# АДКРЫТЫ ЛІСТ
# У РАДУ ЭЎРАПЕЙСКАГА ЗЬВЯЗУ

Паважаныя спадары міністры.

Цяпер у Беларусі ўжо другі месяц працягваецца хваля рэпрэсіяў супраць насельніцтва, распачатая рэжымам Лукашэнкі ў дзень выбараў прэзыдэнта 19-га сьнежня 2010 года.

Плян рэпрэсіяў рыхтаваўся задоўга да выбараў. Лукашэнка заручыўся ў гэтым падтрымкай пэўных колаў Расеі і адначасна вёў перамовы пра "прагрэс" дэмакратыі зь міністрамі замежных справаў Эўразьвязу, пагаджаючыся на дэмакратызацыю некаторых бакоў выбарчага працэсу. Кандыдатам ад апазыцыі прадставілі радыё і тэлеэфір, але адначасна, за пяць дзён да выбараў, пачаўся жорсткі і рэпрэсіўны загон выбаршчыкаў на так званае "папярэдняе галасаваньне". Выбарчыя камісіі былі складзеныя выключна з прадстаўнікоў рэжыму, і ў дзень галасаваньня адбыліся масавыя фальсіфікацыі выбараў. У рэальнасьці Лукашэнка не набраў патрэбную колькасьць галасоў і не перамог на выбарах.

15-га сьнежня 2010 г. у Лукашэнкі адбылася зачыненая нарада аб выбарах, на якой прысутнічалі: кіраўнік выбарчага штабу Лукашэнкі генэрал Шэйман, міністар абароны генэрал Жадобін, старшыня КГБ генэрал Зайцаў, начальнік аховы Лукашэнкі генэрал Вцюрын, міністар МУС генэрал Куляшоў, сын Лукашэнкі Віктар, кіраўнік Савета бясьпекі генэрал Мальцаў. Фактычна, засядаў штаб правакацыі і сілавой расправы з народам. Абмяркоўваўся плян дзеяньняў сілавых структураў на плошчы ў дзень выбараў 19-га сьнежня і далейшыя дзеяньні па разгортваньні рэпрэсіяў. Павінны былі быць створаныя групы КГБ, кожная зь 5-7 функцыянераў, якія мусілі б праводзіць арышты, допыты, ператрусы, запалохваньні, ужываньне сілы пасьля 19-га сьнежня.

Рэпрэсіі 19-га сьнежня пачаліся яшчэ ў час галасаваньня. Баевікі рэжымнага спэцаддзелу "Алмаз" па загаду Лукашэнкі напалі на кандыдата ў прэзыдэнты паэта Ўладзімера Някляева. Някляеў быў зьбіты да страты прытомнасьці, а потым гвалтоўна выкрадзены спэцслужбамі з рэанімацыйнай палаты шпіталю і кінуты ў засьценкі КГБ. Усе гэтыя дзеяньні цалкам не стасаваліся з Законам, мелі прыкметы пакушэньня на забойства, тэрарызму і захопу закладніка.

У гэты ж дзень галасаваньня рэжым Лукашэнкі задзейнічаў рэпрэсіўныя аддзелы міліцыі, войска і КГБ супраць мірнай дэманстрацыі насельніцтва, папярэдне арганізаваўшы правакацыйнае пабіцьцё шыбаў у Доме ўраду завербаванымі крымінальнікамі і агентурай КГБ.

Карныя і вайсковыя аддзелы міліцыі жорстка пабілі і скалечылі сотні мірных людзей, якія не выяўлялі ніякай агрэсіі і не аказвалі супраціўленьня нападнікам. У засьценкі кінулі каля 700 чалавек, у тым ліку кандыдатаў у прэзыдэнты. Да ўсіх зьняволеных да гэтага часу не дапускаюць адвакатаў і сваякоў.

Хваля рэпрэсіяў, арыштаў, ператрусаў, допытаў і хапаньня людзей па ўсёй Беларусі разьлічана рэжымам на доўгі час і ставіць на мэце ліквідаваць нацыянальныя сілы грамадзянскай супольнасьці. Пастаўлена задача зьнізіць сацыяльную актыўнасьць і разьвіцьцё інтэлектуальных нацыянальна сьвядомых групаў насельніцтва Беларусі, штурхнуць гэтых людзей у стан сацыяльнай дэградацыі, прымусіць займацца выключна выжываньнем і клопатамі аб фізічным існаваньні.

Ва ўсіх людзей, у якіх робяць ператрусы, незаконна канфіскуюць прадметы інтэлектуальнай і інфармацыйнай маёмасьці, кампутары, друкаркі, сканэры, тэлефоны, кінакамэры, фотаапараты, кнігі, рукапісы, фатаграфіі, носьбіты інфармацыі (флэшкі, плыты CD-DVD, цьвёрдыя дыскі і інш). Рэквізіцыі і ператрусы робяць па некалькі разоў у адной асобы; кожнага могуць схапіць на вуліцы, адвесьці на допыт у КГБ альбо кінуць за краты, потым пазбавіць працы альбо магчымасьці вучыцца.

Зьмест і мэтодыка гэтай хвалі перасьледу людзей у Беларусі вынікае з сутнасьці палітыкі антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі, накіраванай на павольнае этнічнае вынішчэньне беларускай нацыі шляхам стварэньня ўмоваў для сацыяльнай дэградацыі і выміраньня пэўных групаў насельніцтва, ліквідацыі асобаў мэтадам рэпрэсіяў і тэрору.

Антыдэмакратычная антыбеларуская палітыка, якую праводзіць рэжым Лукашэнкі, пачалася з 1994 года, адразу пасьля прыходу яго да ўлады пры садзеяньні савецкага КГБ. За гэты час былі спаленыя беларускія падручнікі для школ, практычна, ліквідаваная нацыянальная беларуская школа і адукацыя. Беларусы цяпер адлучаныя ад атрыманьня адукацыі на роднай мове на ўзроўні школы і ўнівэрсітэту. Вернута камуністычная палітыка русіфікацыі. Пратэсты супраць такой палітыкі разглядаюцца рэжымам як антыдзяржаўная дзейнасьць. Поўнасьцю ліквідаванае нацыянальнае беларускае тэлебачаньне і радыё, разбураныя беларускія нацыянальныя грамадзкія і ўрадавыя інстытуты, творчыя саюзы, беларускія выдавецтвы, беларускі друк, паралізаваная беларуская грамадзкая дзейнасьць, фундамэнтальная і гуманітарная навука. Адбылося рэзкае зьніжэньне якасьці адукацыі і адукацыйнага ўзроўню насельніцтва. Практычна, ліквідаваная ўнутраная і зьнешняя дапамога пацярпеламу ад радыяцыі насельніцтву Чарнобыльскай зоны, спынены ільготы і выплаты людзям за страту здароўя, занячышчаныя землі ўведзены рэжымам у сельскагаспадарчае выкарыстаньне, забруджаная радыёнуклідамі прадукцыя ідзе на ўнутраны рынак, а чыстая прадукцыя – на экспарт у Расею. Беларускую моладзь пасьля вучобы разьмяркоўваюць на працу ў радыяцыйныя зоны Чарнобыльскай катастрофы.

У выніку -- рэзка пагоршылася здароўе нацыі (асабліва дзяцей), беларусы сталі вымiраць. За часы рэжыму Лукашэнкі насельніцтва Беларусі зьменшылася больш чым на паўмільёна чалавек (5%).

Працяг савецкай русіфікацыі, вынарадавеньне і выключэньне з сацыяльнага і грамадзкага жыцьця інтэлігентных і актыўных групаў насельніцтва Беларусі ёсьць цалкам усьвядомленая дзейнасьць Лукашэнкі. Яе асэнсаванасьці ён не хавае. Напрыклад, на так званым передвыбарчым “усебеларускім сходзе” ў 2006 годзе ён сказаў, што сэнс гэтай ягонай русіфікацыйнай палітыкі ў Беларусі – зрабіць так, “каб нічога ўжо нельга было вярнуць назад”.

У рэчышчы такой вынішчальнай задачы старшыня КГБ генэрал Жадобін тры гады таму склаў сьпіс з 1767 актыўных беларусаў і інтэлектуалаў, якія ў выпадку пэўных абставінаў мусяць быць рэпрэсаваныя ў першую чаргу. Пра сьпіс генэрал аб’явіў публічна.

Пачатак цяперашняй хвалі рэпрэсіяў прадугледжваеператрусы, допыты, арышты і пакараньні ня менш 50 тысячаў людзей, што былі на плошчы 19-га сьнежня ў Менску. Адначасна робяць таксама рэпрэсіі і па “жадобінскім сьпісе” – хапаюць актаўных асобаў, беларускіх інтэлектуалістаў, якія непасрэдна ня маюць датычнасьці да Плошчы, да выбараў і грамадзкіх пратэстаў.

Дзеяньні антыдэмакратычнага, антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі, апісаныя мной у гэтым лісьце, падпадаюць пад ацэнку і юрысдыкцыю артыкула №127 (Генацыд) Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь, а таксама адпавядаюць міжнародным азначэньням генацыду ў дачыненьні да палітыкі і дзейнасьці Аляксандра Лукашэнкі.

Улічваючы аўтарытарны і абсалютны характар улады Лукашэнкі, у Беларусі практычна немагчыма ўзбудзіць супраць яго справу па артыкуле 127 (Генацыд), паколькі прызначэньне і дымісія Генэральнага пракурора, усіх кіраўнікоў юстыцыі і судоў -- залежаць ад самога Лукашэнкі.

Фармальна ня можа ўзбудзіць справу і Міжнародны Крымінальны Суд (МКС) у Гаазе, паколькі Рэспубліка Беларусь не падпісала Рымскі Статут і дзяржавай-удзельнікам МКС не зьяўляецца. Вядома, аднак, што хоць МКС не ўваходзіць у афіцыйныя структуры Арганізацыі Аб’еднаных Нацыяў, але, тым ня менш, па прадстаўленьні Рады Бясьпекі ААН можна ўзбуджаць справы і супраць асобаў тых

краін, што не зьяўляюцца дзяржавамі-удзельніцамі МКС. Прэцэдэнт такі ўжо быў. Механізм існуе.

У сувязі з гэтым, паважаныя спадары міністры, прашу разглядзець на паседжаньні Рады Эўрапейскага Зьвязу 31 студзеня гэтага году магчымасьць прыняцьця рашэньня аб звароце ў Раду Бясьпекі ААН на прадмет прадстаўленьня ў Міжнародны Крымінальны Суд прапановы (рэзалюцыі) аб узбуджэньні справы супраць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі Аляксандра Рыгоравіча па абвінавачваньні – “генацыд”, стварэньня ўмоў для дэградацыі і выміраньня групаў насельніцтва беларусаў і асобных грамадзян.

Зьвяртаю ўвагу, што ў сітуацыі, якая існуе, рэальнай магчымасьцю ліквідаваць антынародны рэжым у Беларусі ёсьць арышт узурпатара. У выпадку ўзбуджэньня справы Міжнародным Крымінальным Судом, дні рэжыму будуць палічаныя. Беларусы самы арыштуюць яго і прывязуць у Гаагу.

Гэтая мая просьба і прапанова аб узбуджэньні справы адлюстроўвае пазыцыю ўсіх сумленных грамадзянаў Беларусі, якіх нішчыць і зьневажае рэжым Лукашэнкі.

Гэтая людзі падтрымліваюць рэзалюцыю Эўрапарляманту ад 20 студзеня бягучага года адносна сытуацыі ў Беларусі, але зьвяртаюць увагу на некалькі момантаў, якія я прасіў бы удакладніць.

Лукашэнка ня меў права балатавацца трэці і чацьверты разы на прэзыдэнта Беларусі (рэфэрэндум 2004 года пра трэці тэрмін Лукашэнкі быў незаконны, сфальшаваны і не прызнаны Міжнароднай супольнасьцю). Таму заклік Эўрапарляманту да новых выбараў у Беларусі мусіў бы быць удакладнены тым, што Лукашэнка не валодае больш законным правам балатавацца на выбарах, выбары мусяць быць без Лукашэнкі.

Лукашэнка ня ёсьць легітымным і законна абраным прэзыдэнтам. Гэта захопнік прэзыдэнцкай пасады. Ён сфальшаваў выбары, узурпаваў уладу і ваюе зь беларускім народам. Наша просьба і прапанова -- не называць яго афіцыйна прэзыдэнтам Беларусі.

Рэжым Лукашэнкі праводзіць антыдэмакратычную, тыпова акупацыйную антыбеларускую палітыку паўзучага генацыду, сьвядома накіраваную супраць культурнага існаваньня беларускай нацыі.

Зважаючы на гэта, мы прасілі б не карыстацца тэрмінамі “беларускі рэжым”, “беларуская палітыка”, “беларуская ўлада”, “беларускі лідар” у дачыненьні да Лукашэнкі, тэрмінам “санкцыі супраць Беларусі” і т.п., бо гэта зьневажае пачуцьці дэмакратычных беларусаў і вольных людзей. Гэты рэжым, палітыка, улада і “лідар” – антыбеларускія, гэбоўскія, антынародныя. Вольныя беларусы не называюць гэты чужы рэжым “беларускім”.

Мы спадзяемся на дзейныя рашэньні Рады Эўрапейскага Зьвязу ў пытаньні дачыненьняў з антыбеларускім рэжымам і з грамадзянскай супольнасьцю Беларусі.

*21 студзеня 2011 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**
***Старшыня парляманцкай Апазыцыі БНФ***
***у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня,***
***Старшыня народнай***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

# ЗЬМЕНА НАЁМНІКАЎ

*(Ліст да сяброў народнай партыі)*

Ацэньваючы сытуацыю выбарчай і пасьлявыбарчай афёры рэжыму, мне найбольш непрыемна ўсьведамляць, што ў пастку гэтай авантуры трапіў наш выбітны паэт **Уладзімер Някляеў**. Палітычны выхад у паэта быў, але яго апярэдзілі, бо тое, што адбываецца ў Беларусі, ёсьць не палітыка, але вайна (вайна з народам), і ўсё дзеецца па мэтадах вайны. Гэта значыць – насуперак законам цывільнага часу.

Ня ведаю, ці зразумеў цяпер гэта Някляеў, бо наперадзе ў яго зноў выпрабаваньні ваеннага стану і рыхтуецца цяжкі шлях, нягледзячы на тое, што ён адзіны з усіх так званых “спарынг-кандыдатаў”, які ёсьць (паколькі не прысутнічаў на плошчы) несумненнай ахвярай і нявінна пацярпелым ад дзеяньняў рэжыму. Не паэта павінны судзіць, а паэт мусіць судзіць гэты рэжым за напад і дзеяньні супраць ягонага жыцьця, здароўя і кандыдацкай недатыкальнасьці. Спадзяюся, што такі суд (суд над рэжымам) ўсё ж адбудзецца.

Тым часам правакацыя ідзе сваёй чаргой. “Райхстаг” курыць. Кантора праводзіць масавую “зачыстку” беларускага грамадзтва. Што датычыць так званых “спраўцаў” дзяржаўнага перавароту і “масавых беспарадкаў”, то ведамства актыўна маніпулюе і найперш адпусьціла з-пад арышту частку агентуры ды асобаў, здольных на супрацоўніцтва з рэжымам. Гэта, аднак, яшчэ далёка ня ўсё. Спэктаклі могуць быць самыя бязглуздыя.

Гэбісты пачалі гуляцца са сваёй агентурай, выконваючы заданьне начальніка аб стварэньні новай, больш “канструктыўнай” для рэжыму апазыцыі. Тая, што існуе – іх ужо не задавальняе. Ім не падабаецца, перш за ўсё, уплыў Брусэля і нагляд Захаду за яе імітацыйнымі справамі.

Але паколькі ўсім кіруе адзін калгасны “самародак”, то ўжо цяпер відаць, што адначасна са зьнішчэньнем беларушчыны і стварэньнем новай “падставы” (падстаўной апазыцыі) гэтая гэбоўская сістэма будзе перакульваць сама сябе. Падтрымкі людзей у гэбістаў няма, і маніпуляцыі абернуцца супраць іх.

Нядаўна кантора распачала, напрыклад, так званую “стратэгію” з арыштаваным кандыдатам Міхалевічам, паўтараючы ў нечым схему опуса з агентам Гаўрылінным (зь якім яны праваліліся ў мінулым годзе). Тое самае адбудзецца і тут, як бы хітра гэбоўскія кабінатары ні намудрылі. Кантора ўжо “тонка” намякнула, што не вербавала Міхалевіча, бо ён, маўляў, і так іхны чалавек. *(Радыё “Свабода”, 4 сакавіка 2011 г.)* І пра гэта, маўляў, яны робяць ужо кінафільм. (Выглядае, што кантора знаходзіцца ў стадыі поўнага маразму.) Чакаюцца чарговыя нумары.

Наступным вэрбальным страсеньнем паветра сталі пустапарожныя прызнаньні пра размовы аб грошах “падазраваемага” Кастусёва, якія выклікалі буру лаянкі і вульгаршчыны. І гэтак далей – усё на фоне антыбеларускай дыктатуры і нацыянальнай трагедыі.

Калі пытаньне стаіць аб ліквідацыі чарговага захопу ўлады, аб нелегітымнасьці рэжыму, аб непрызнаньні яго акупацыйнага кіраваньня, аб новых выбарах без удзелу ўзурпатара, аб аб’яднаньні нацыі ў новым руху за вольную Беларусь і супраць прамаскоўскай палітыкі акупацыі, -- тады правальшчыкі з праваленай псэўдаапазыцыі зноў пачынаюць імітаваць свой канцэрт па пабочных пытаньнях адносін, адцягваючы ўвагу ад галоўнага змаганьня. Гэтыя людзі не пераменяцца ні ў турме, ні па-за турмой, ні пад замежнымі грантамі, ні пад міліцэйскімі палкамі, бо яны ёсьць люстэркавым адбіткам рэжыму, і зьмятаць гэты рэжым трэба разам зь ягонай псэўдаапазыцыяй, пра што мы цьвердзім ужо 10 гадоў, як толькі яна зьявілася.

Генэзіс яе вядомы. Псэўдаапазыцыя ўзьнікла з антыфронтаўскіх, антынацыянальных настрояў у нетрах лукашысцкага рэжыму і КГБ. Амаль усе яе асноўныя дзеячы выйшлі адтуль. Гэта быў сумесны праект брусэльскай палітыкі, нямецкай выведкі і савецкага КГБ. Пад яго быў створаны рэсурсны цэнтар Хартыя-97 і

рыхтаваўся раскол Народнага Фронту. Ганс-Георг Вік як кіраўнік антынацыянальнага праекту быў потым аб'яўлены намі (Народным Фронтам) пэрсонай нон-грата, дэкляраваны яго будучы арышт і ўзбуджэньне судовай справы ў вольнай дэмакратычнай Беларусі.

Раскол Нарднага Фронту ў 1999 годзе стаўся фатальнай падзеяй у нацыянальнай палітыцы, адлюстраваў паражэньне нацыянальна-вызвольных сілаў, свабоды і дэмакратыі. На арэну выйшла псэўдаапазыцыя, аплочаная чужымі зьнешнімі грашыма і падтрыманая чужымі ідэямі: дэмакратыі без суверэнітэту і свабоды без Беларусі. (Гэта значыць, "дэмакратыі" і "свабоды" ў складзе гэбоўскай Расеі. Тут -- галоўны зьмест дзейнасьці Ганса Віка, па ўласным яго прызнаньні.)

Псэўдаапазыцыя, як і рэжым, была дэкляацыйна прамаскоўскай. Народны Фронт яны абзывалі "русафобскім", "антырускім", "нацыяналістычным" (у савецкім паняцьці).

Прыход Пуціна і КГБ да ўлады ў Расеі пахавалі авантурныя спадзяваньні Лукашэнкі на крамлёўскі пасад. Пагроза для неабмежаванай улады менскай хунты з боку рускага гэбізма ("мухі-катлеты") прымусілі ўзурпатара загаварыць пра суверэнітэт, а наступныя газавыя шантажы з боку Масквы спарадзілі ў яго антымаскоўскую фразэалёгію і спарадычныя філіпікі ў адрас Крамля.

Адпаведна ва ўнісон зьмянялася і фразэалёгія псэўдаапазыцыі. Цяпер словы "суверэнітэт" і "незалежнасьць" сталі ў іх прывычнымі, дэкляруюцца амаль як каштоўнасьці. Нядаўна пачалі нават казаць пра прамаскоўскую "ўнутраную акупацыю". (Нагадаю: прамаскоўская унутраная акупацыя – асноўная палітычная характарыстыка існуючага рэжыму, зробленая Народным Фронтам яшчэ ў 90-х гг.)

Псэўдаапазыцыя сінхронна існуе ў сфэры палітычных настрояў рэжыму, але тэрміналёгію бярэ з арсэналу Беларускага Адраджэньня. Да "дэмакратыі" дадалася ўжо й незалежнасьць, а ў палітыцы Масквы яны сталі заўважаць нават "расейскі імпэрыялізм" і пагрозу беларускай дзяржаўнасьці. Па той бок каштоўнасьцяў, аднак, засталося (як і ў рэжыма) самае галоўнае – беларуская мова. Не, яны ня супраць "белорусского языка", але змагацца за яго ня будуць (бо "ўсе", маўляў, гавораць па-руску). І ніякая ідэйная, культурная, маральная сіла, і нават Боская справядлівасьць не пераменіць іхных адносінаў да мовы, хіба што пераменіць адносіны да мовы сам антыбеларускі рэжым Лукашэнкі (які ня здольны на гэта па сваёй прыродзе).

Галоўная функцыя псэўдаапазыцыі (дзеля якой рэжым цярпеў яе крытыку і патрабаваньні правоў чалавека) – гэта мабілізацыя людзей на выбары і рэфэрэндумы пад выглядам агітацыі за "дэмакратыю". Ад выбараў да выбараў яны настройвалі і накіроўвалі пратэстны электарат на галасаваньне, на ўдзел у фальшывых выбарах. Не забясьпечыўшы ніякіх умоў для аб'ектыўнага выніку, яны штурхалі выбаршчыкаў у горла фальсіфікацыйнай машыны, як салому ў сячкарню, дзе на выхадзе была толькі сечка. І так увесь час.

Ад частага паўтарэньня ўмоўны рэфлекс засвойваюць нават рыбы ў акварыюме, але ніяк не засвойвала палітычны вопыт падстаўная апазыцыя, псэўдазмагары за абстрактную дэмакратыю без нацыянальнай ідэі. Чаму не засвойвала – пытаньне рытарычнае.

Самым вялікім злачынствам псэўдаапазыцыі (і яе спонсараў) быў загон пратэстнага электарату на антызаконны антыканстытуцыйны рэфэрэндум 2004 г. аб трэцім тэрміне Лукашэнкі. Беларусам ні ў якой форме нельга было ўдзельнічаць у антызаконнай справе, інакш яны легітымізавалі крымінальныя дзеяньні рэжыму па ўзурпацыі ўлады. Наша аргумэнтацыя і агітацыя за няўдзел у галасаваньні і за байкот антыканстытуцыйнага рэфэрэндуму была ўспрынята і пачута, але тады ўжо ня Фронт (які раскалолі) дамінаваў у апазыцыйнай прасторы. Шум і галас псэўдапрагматыкаў і псэўдаапазыцыі, падтрыманы іхнымі заплечнікамі і эўра-фінансамі, заглушыў сумленьне й развагі здаровага сэнсу. "Иди и скажи ему свое НЕТ" – такі быў іхны

фальшывы лёзунг, просты для разуменьня простых людзей. Пайшлі і сказалі. А на выхадзе -- “сечка” (“элегантная перамога” ўзурпатара).

Так зьявіўся мясцовы “кадафі”. Рэжым і псэўдаапазыцыя стварылі яго разам.

Нашыя высновы былі жорсткімі. Сьведамая падтрымка і ўдзел у незаконных дзеяньнях, якія прывялі да антынацыянальных антыграмадзкіх вынікаў, павінны быць караныя па закону. У вольнай дэмакратычнай Беларусі кіраўнікі псэўдаапазыцыі, гэтак жа, як і кіраўнікі антыбеларускага рэжыму, мусілі б разам ісьці пад суд (захоп улады незаконным мэтадам і спрыяньне яму).

Цяпер мы зьяўляемся сьведкамі тыповай для гэбізму зьявы (некалькі гадоў таму такое адбылося ў Расеі) – рэжым зьмяняе існуючую псэўдаапазыцыю на новую каманду і сам распраўляецца са старой надакучыўшай яму апазыцыяй, засадзіўшы яе кіраўнікоў у турму.

Адметнасьць моманту ў тым, што мы, фронтаўцы, як людзі дэмакратычнага кшталту, вымушаныя цяпер абараняць гэтую, па сутнасьці прадажную і нават у некаторых асобах прамаскоўскую і камуністычную публіку, што знаходзіцца пад сьледзтвам і кінута за краты разам з усімі, схопленымі пазьней, бо ніякай крымінальнай віны ў дачыненьні да падзеяў 19 сьнежня за імі няма, абвінавачваньні надуманыя, і ўся грубая правакацыя сшыта белымі ніткамі. Акрамя таго, рэпрэсіі разьвязаныя рэжымам супраць усяго сьведамага беларускага народа. Справа йдзе аб прынцыпах стасаваньня закону і аб справядлівасьці, гэта значыць аб каштоўнасьцях, якія датычаць усіх, усяго грамадзтва. Прынцыпы парушаныя. Іх трэба абараняць.

Тым часам палітычная віна спарынг-кандыдатаў псэўдаапазыцыі відавочная. Яна не прапісаная ў законах, ня мае непасрэднага дачыненьня да абвінавачаньня і да пасадкі за краты, і таму гаварыць пра яе можна і трэба гэтак жа, як і пра патрабаваньне іхнага вызваленьня.

Я ўжо казаў і пісаў раней: ўсё, што адбылося 19 сьнежня 2010 г. – гэта, у значнай ступені таксама, -- вынік палітычных паводзінаў спарынг-кандыдатаў на выбарах Лукашэнкі. Яны сьведама ўдзельнічалі ў подлым праекце рэжыму, лёгкадумна не здагадваючыся, які будзе падзейны вынік іхняга ўдзелу. Сваёй палітычнай недальнабачнасьцю, бязглуздасьцю і нацыянальнай безадказнасьцю яны падставілі тысячы людзей пад пабоішча на плошчы і самы трапілі ў пастку, як мышы, рэальна не разумеючы, зь якой катэгорыяй улады і зь кім маюць справу.

Сцьвярджаю гэта з поўным правам, бо пісаў і папярэджваў аб выніках, пачынаючы з траўня мінулага году, а некаторым спарынг-кандыдатам казаў асабіста. Але самае дрэннае тое, што безадказна паставіўшыся да народа, яны далі повад для масавых гэбісцкіх “зачыстак” грамадзтва, да вынішчэньня ўсяго таго становучага, беларускага, што, супрацiўляючыся ўціску, зьявілася ў нашай краіне.

Тое, што вікаўскай псэўдаапазыцыі прыходзіць канец, -- гэта заканамернасьць, якая мусіла адбыцца (шкада толькі, што праз несувымернае цярпеньне людзей). Палітычнае стварэньне Ганса Віка на беларускім полі было антынацыянальным і заганным ад пачатку і ўрэшце дайшло да маразму. Гнілое мусіла зьнікнуць.

Аднак тое, што цяпер адбываецца, -- гэта не перамога здаровых сілаў над аджылым, гнілым, але маніпуляцыя цемры. Рэжым (у сваім стылі) упарадквае сваё структурнае асяроддзе (“ператрахівае” сваю “апазыцыю”, кажучы лексіконам узурпатара).

Зьмена псэўдаапазыцыйнай каманды абумоўлена валявым узмацненьнем ўлады гэбізму і адначасна аслабленьнем апоры рэжыму ў грамадзтве плюс патрабаваньне Масквы. Масква, як вядома, раней “рэфармавала” сваю падстаўную апазыцыю, падвяла яе пад непасрэднае падпарадкаваньне Крамлю і ўзяла “на давольствие”.

Нешта падобнае намячаецца і ў Беларусі, але ў іншай форме, бо абставіны складаныя. Стаўка, як бачым, робіцца, перш за ўсё, на агентуру, а фармаваньнем

займаецца КГБ. Імёны новай прырэжымнай “апазыцыі” ужо мільгацяць. Не пакінуты без увагі і ўзмацняецца накірунак на Захадзе.

Вікаўская псэўдаапазыцыя не задавальняла рэжым і Маскву, у асноўным, па двух прычынах: цесныя сувязі з Захадам ды падкантрольнасьць Брусэлю і крэн (у апошні час) да нацыянальных інтарэсаў (прынамсі, на словах), што найбольш непакоіла Маскву, якая прывыкла шукаць і ствараць сваіх стаўленьнікаў сярод апазыцыі. Раздражняла тое і рэжым, які трымаў манаполію на сваю інтэрпрэтацыю інтарэсаў нацыі (гатовай, па выказваньні ўзурпатара, “умирать за Россию”).

У другой палове мінулага года Крэмль прымусіў Лукашэнку парваць адносіны з Захадам і арыентавацца толькі на Расею. Адпаведна і празаходняй апазыцыі больш ня мусіла быць. Масква зноў дае грошы рэжыму (праз фінансаваньне АЭС) і абяцае даць болей, відаць, аднак, забараніўшы яму ўжо размаўляць аб “другім крыле”. Прыўладную апазыцыю, да стварэньня якой падступаецца ўлада, будуць імкнуцца зрабіць прамаскоўскай (хоць рэжым у гэтым і не зацікаўлены).

Паўстае пытаньне: што ў гэтай акупацыйнай валтузьні, накіраванай на захаваньне антыбеларускага рэжыму, рабіць нам, беларусам, жыхарам краіны? Што рабіць у абставанах бяспраўя, страху і перасьледу?

Відавочна, што патрэбны агульны нацыянальны пратэстны Рух, сканцэнтраваны на прыймальнай для бальшыні задачы. Такі Рух ня ўтворыцца па легальнай клясычнай схеме. Першыя ж арганізацыі і першыя крокі будуць задушаны. Ідэя, якая можа згуртаваць бальшыню грамадзтва, простая: **новыя выбары без Лукашэнкі**. Гэта ёсьць прынцып, каталізатар, па якім можна структурызаваць наша атамізаванае грамадзтва. Сама ідэя, фактычна, на шмат шырэйшая і ўключае ў сябе ідэю нацыянальную. Структурызаванае грамадзтва хутчэй акамулюе ідэі, хутчэй палітычна сьпее, больш здольнае ў патрэбны момант імгненна стварыць арганізацыйныя формы барацьбы, якія могуць адразу вырасьці ў масавы рух. Структарызаванае грамадзтва ў сфэры Руху, што існуе пад дыктатурай, складаецца не з асобных людзей, а з асобных групаў (суполкі ад 3 да 7 чалавек), аб’яднаных адной задачай, але ня зьвязаных арганізацыйна (гарызантальныя сувязі адсутнічаюць). Сувязь ёсьць толькі з каардынацыйным цэнтрам на ўзроўні кіраўнікоў суполак. Каардынацыйны цэнтар недасягальны для рэжыму.

Мы абазначылі зьмест працы і сутнасьць існаваньня суполак, прапанавалі бясьпечную схему кансалідацыі людзей пад дыктатурай у абставінах страху і перасьледу. Суполкі пры неабходнасьці могуць рэгістраваць таксама розныя формы сваіх грамадзкіх арганізацый (бытавога кшталту, таварыстваў па інтарэсах і г.д.), але справа супраціўленьня дыктатуры павінна пашырацца. На пэўным этапе структурызаванае грамадзтва Руху можа скарыстаць дэлегуючыя функцыі суполак і ў адначасьсі ператварыцца ў грамадзкую сілу і г. д.

Перашкодзіць структурызацыі рэжым ня ў сіле (хіба што ў КГБ запішацца ўся нацыя, што немагчыма).

Мы разумеем, што тут жмудная праца, што здольнасьць да самаарганізацыі (з прычыны дэфармаванай ці проста няразьвітай нацыянальнай сьведамасьці ў нашых людзей) – невялікая, што страх ірацыянальны, але трэба працаваць, трэба разумна змагацца, а ня стукацца бясконца ілбом у дубовы плот, не лямантаваць у паветра, не пішчэць, не баяцца там, дзе баяцца ня трэба. Кожны дзень існаваньня гэтага рэжыму, нясе вялікую небясьпеку для нашай краіны.

*13 сакавіка 2011 г.* Зянон Пазьняк

# ПРАВІЛЫ

Нічога (літаральна нічога!) ня будзе папраўлена і станоўча вырашана пакуль краінай кіруе цемра, а на вяршыні ўлады сядзіць вар'ят. Яго не павінна быць. Задача сьціданьня вар'ята ёсьць цяпер задачай выратаватьня нацыі. Цяпер усе сродкі прадатныя, якія вядуць да кансалідацыі беларусаў супраць вар'яцкага антыбеларускага рэжыму.

Некалькі практычных заўваг хацелася б мне ўставіць у гэтае паведамленьне.

Трэба адмовіцца ад апартуністычных выкрыкаў, што "міліцыя з народам". Лукашысцкая міліцыя не з народам, а з рэжымам. Яна сьведама выконвае антызаконныя загады. І за гэта мусіць быць расплата (трэба фіксаваць нягоднікаў).

Другое – трэба трымацца далей ад так званай "вікаўскай апазыцыі", якая нясе палітычную адказнасьць разам з Лукашэнкам за тое, што сталася ў Беларусі пасьля 19-га сьнежня 2010 года. Калі ў "вулічную рэвалюцыю" ўмяшаюцца гэтыя брусэльска-маскоўскія клоўны, справа будзе правалена.

І

Трэцяе – неабходна зь вялікай пашанай адносіцца да нашай беларускай мовы (гэта мова контра рэжым, лукашызм на ёй не гаворыць); трэба шанаваць нашы сьвятыя нацыянальыя сімвалы, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і Пагоню. Калі сотні тысяч людзей выйдуць на вуліцы (а гэты час набліжаецца) – хай лунаюць нашыя сімвалы над нашым шляхам да чаканай свабоды.

*22 чэрвеня 2011 г.* Зянон Пазьняк

# РЫХТУЕМСЯ ДА ПЕРАМЕН

Катастрафічная дэвальвацыя і раптоўнае зьбядненьне беларусаў – гэта вынік ажыцьцяўленьня палітычнага праекту Масквы і антыбеларускай самадурнай палітыкі Лукашэнкі.

Фінансавы крызіс у Беларусі сплянаваны Расеяй некалькі гадоў таму. Першая мэта такой палітыкі – забраць за бясцэнак прыбытковыя беларускія прадпрыемствы, і другая – выклікаўшы зьбядненьне і беспрацоўе ў Беларусі, забраць беларускую рабочую сілу ў Расею.

Падрыў фінансавай сістэмы і эканомікі нашай краіны пачаўся з штучнага стварэньня так званых “малочных”, “мясных”, “цукровых”, “нафтавых”, “газавых” і іншых “войнаў”. Быў нанесены моцны ўдар па экспарту Беларусі, пасьля чаго пагрозьліва павялічылася адмоўнае сальда гандлёвага балансу краіны.

Наступны ўдар – гэта палітычны загон антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі ў так званы “мытны саюз” Расеі і Казахстана, эканамічна шкодны для Беларусі і выгадны Маскве. У выніку – дзяржава і насельніцтва Беларусі пазбаўлены шматлікіх крыніцаў даходу (напрыклад, гандлю аўтамабілямі) і панесьлі велізарныя страты.

З мэтай стварэньня фінансавага крызісу Крэмль спыніў таксама крэдытаваньне залежнага ад яго рэжыму Лукашэнкі, выстаўляючы непрыймальныя патрабаваньні.

Фінансавы крызіс пачаўся са студзеня 2011 горда. Кропляй, якая перапоўніла чашу абвалу, было недапушчальнае павелічэньне сярэдняга ўзроўню зарплаты насельніцтва Лукашэнкам у канцы 2010 года з папулісцкай мэтай задобрыць электарат перад выбарамі.

На працягу амаль пяці месяцаў крызісу рэжым не рабіў неабходных захадаў па яго зьмякчэньні і выхаду на стабільны ўзровень. Замест гэтага зьверху ўводзіліся розныя курсы абмену валюты, правілы атрыманьня крэдытаў і крэдытнага апрацэнтаваньня. Гэта давала магчымасьць нажывацца на крызісе чыноўным асобам, набліжаным да рэжыму, і галоўнае – выцягнуць валюту з насельніцтва. Прытым людзям у пунктах абмену валюту, практычна, не прадавалі.

Галоўная задача такіх дзеяньняў – узбагаціцца рэжымна-чыноўнай мафіі і выцягнуць грошы ад беларусаў перад магчымай прыватызацыяй дзяржаўнай маёмасьці. За некалькі месяцаў такога выкарыстаньня крызісу рэжымам усе беларусы (акрамя рэжымных маніпулятараў) зьбяднелі, згарнуўся гандаль і прадпрыймальніцтва. Адначасна, каб беларус лёгка не выжываў, рэжым увёў абмежаваньне на выезд за мяжу. (Адна асоба можа выехаць на машыне толькі адзін раз у пяць дзён.)

24 траўня адразу адбылася велізарная (недапушчальная па правілах) дэвальвацыя рубля. Усё насельніцтва імгненна зьбяднела больш, чым на палову (а фактычна – у некалькі разоў).

Шалёная дэвальвацыя ўдарыла па вытворчасьці, гандлю і прадпрыймальніцтву, сталі скарачацца працоўныя месцы, рэзка павялічылася беспрацоўе. Беларусы пачалі масава звальняцца з працы ў Беларусі і масава выязджаць на больш аплатную працу ў Расею (праз незаконна адчыненую Лукашэнкам мяжу).

Рэалізацыя праекту Масквы па зьнішчэньні Беларусі робіцца на нашых вачах. А каб беларусы не імкнуліся потым вярнуцца з Расеі назад на Радзіму, Лукашэнка пазбавіў выяздоўцаў усялякіх ільгот па медыцыне, сацыяльным забесьпячэньні, у аплаце за камунальныя паслугі і г. д. Словам, абы было горш беларусу ў Беларусі.

Гэтае разбурэньне можна спыніць. Шмат што яшчэ можна паправіць. Але толькі пры адной умове, якая зьяўляецца для Беларусі абсалютнай: **не павінна быць Лукашэнкі ва ўладзе.** Інакш ніякіх station... 

Палітычная сістэма рэжыму даведзена да псіхапаталогіі і поўнага абсурду. Уся ўлада, усе рашэньні, усе пытаньні ўлады завязаныя і залежныя ад адной кіруючай

неадэкватнай асобы. Зьмена ўлады, фактычна, не прадугледжана рэжымным заканадаўствам, а там, дзе засталіся фармальнасьці (выбары прэзыдэнта) праўная сутнасьць заменена беззаконьнем, фальсыфікацыяй і ўжываньнем грубай сілы. Зьмяніць уладу законным шляхам немагчыма, бо такой магчымасьці ў рамках дзеючага рэжымнага заканадаўства і яго прымяненьня -- не існуе.

Рэжым пакінуў грамадзтву, фактычна, толькі адзін рэальны шлях перамен – гэта народная рэвалюцыя і рэвалюцыйная ліквідацыя улады ўзурпатара. Гэтага ён і баіцца.

**Рэвалюцыйны вабар народа быў бы у такіх умовах канстытуцыйны, законны і справядлівы. У абставінах беззаконьня і нацыянальнага ванішчэньня народ мае права на рэвалюцыю.**

Рэвалюцыя сталася ў нашым несвабодным грамадзтве аб’ектыўнай неабходнасьцю (і сытуацыя высьпявае). Рыхтуймася да перамены. Наш шлях да яе – гэта найперш Беларуская нацыянальная ідэя і Беларуская салідарнасьць, гэта Беларуская мова, Беларускі Сьцяг і гэрб Пагоня, Беларуская свабода і дэмакратыя.

І памятайма галоўнае: за свабоду змагаюцца і свабоду здабываюць тыя, хто хочуць свабоды, але ня тыя, што хочуць есьці. Ідэалы – паперадзе. Толькі тады магчымая перамога. Нашыя ідэалы – гэта ідэалы 25 Сакавіка і 25 Жніўня, і вольны чалавек, і вольная Беларусь.

*2 жніўня 2011 г.* Зянон Пазьняк

# АБ ТЭНДЭНЦЫЯХ У ГРАМАДЗТВЕ І ЎЛАДЗЕ

*(Ліст да сяброў верасьнёўскага Сойму КХП-БНФ. )*

....Становішча сапраўды зьмяняе межы ранейшых дачыненьняў у Беларусі. Найперш гэта тычыцца зрухаў у грамадзкай сьвядомасьці і ў паводзінах узурпатара ўлады.

Адносна цяперашняга стану грамадзтва мы не павінны, аднак, мець ілюзіяў, што нешта станецца само сабой. Зрухі гэтыя не глыбокія, бо пагрунтаваныя ў асноўным на сацыяльных і эканамічных цяжкасьцях. Наша задача выкарыстаць гэты стан дзеля больш грунтоўнай нацыянальнай асьветы грамадзтва, бо яно цяпер здольнае ўспрымаць ідэі. Калі салідарнае нацыянальнае жыцьцё і свабода стануць патрэбнасьцю людзей, тады будзе і асэнсаваная барацьба і перамога. Мы гэта ўжо ведаем з гісторыі змаганьня Народнага Фронту.

Наша асьвета цяпер (прынамсі да канца году) павінна ісьці пад сьцягам 20-годдзя Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Матэр'ялы ёсьць. Памятайма, што гэта нашая найбольшая палітычная каштоўнасьць, найбольшы здабытак і найвялікшае палітычнае дасягненьне, якое зьмяніла гісторыю. Пад гэтым сьцягам трэба рыхтавацца і да Дзядоў, і да ўгодкаў Слуцкага Збройнага чыну, і да іншых мерапрыемстваў.

Другі аспэкт, што вынікае з цяперашняга стану ўлады і грамадзтва, -- гэта паводзіны ўзурпатара і палітыка Расеі. Мы бачым, што ягоная хворая псіхалогія выбудоўваецца ў полі афрыканскіх паняцьцяў Кадафі. Ён імкнецца заручыцца падтрымкай Масквы, каб яна (у выпадку, калі рэжым захістаецца, а народ падымецца) увяла ў Беларусь сваё войска дзеля абароны ўзурпатара. І Масква паабяцала яму гэта. Іхняя палітыка, як бачым, набывае дзікія рысы 30-х гадоў.

Мы павінны ўлічыць гэты панічны паварот іхняга палітычнага думаньня, бо выснова тут відавочная: Лукашэнка не павінен больш заставацца ва ўладзе. І гэта праблема тэрміновая. Яна вымагае хуткага, дакладнага аналізу і дакладных палітычных дзеяньняў.

На сёньняшні дзень добра зразумелае тое, што гэтую выснову трэба пашыраць у грамадзтве, паказваць на вялікую небясьпеку для людзей, нацыі і грамадзтва, калі ўзурпатар і надалей будзе сядзець на месцы беларускага прэзыдэнта і нішчыць народ. Ён гатовы яго абрабаваць да ніткі (забраць усе грошы) і аб'яўляе пра гэта. Ён гатовы запрасіць чужое войска (што абазначала б страту незалежнасьці), каб яно забівала беларусаў, дзеля захаваньня ягонай над імі ўлады. Гэта думаньне і паводзіны вар'ята. І чым хутчэй такое будзе спынена, тым бясьпечней для людзей і краіны.

Жыве Беларусь!

*11 верасьня 2011 г.* Зянон Пазьняк

# НАКАПЛІВАЕМ СІЛЫ, НЕ ПАДДАЕМСЯ НА ПРАВАКАЦЫІ

Плясканьне ў ладкі на вуліцах гарадоў, арганізаванае летам праз “сацсеткі” выглядала заплянаванай агентурнай правакацыяй, адной з задачаў якой была спроба выцягнуць нашых людзей са структураў РУХУ на вуліцы і, найперш, выявіць іх, потым здушыць, зьбіць, пазбавіць надзеі на перамогу. Мы не сталі высьвятляць колькі рухаўцаў паддаліся на заклікі, але, відаць, няшмат.

Тым часам воплескі на вуліцах выклікалі нечаканаую сітуацыю -- паранойную рэакцыю з боку ўлады. Спэцслужбы рэжыму пачалі біць людзей і хапаць усіх без разбару. Рэжым, так бы мовячы, распрануўся перад грамадзтвам у сваёй дзікасьці і маразме. Атрымалася, што правакацыя справакавала сам рэжым і беларусы зблізку ўбачылі яго зьвярыны твар.

Для тых, хто раней не прыглядаўся, убачанае стала добрай навукай. Мы адмыслова ўхвалілі гэтую «справу» і ўсю гэтую “рэвалюцыю”, якая аб’ектыўна спрацавала на беларусаў, на ўсьведамленьне грамадзтва. Пасьля гэтага мусіў бы настаць перапынак (паўза). Грамадзтва, народ павінны цяпер накопліваць сілы, гуртавацца, салідарызавацца, усьведамляцца ў нацыянальнай культуры, мове і гісторыі, накопліваць і захоўваць сваю моц, каб выступіць за свабоду ў час “Х”.

Важна разумець самае галоўнае ў такой барацьбе: ***каб перамагчы, трэба выйсьці на вуліцы ў вялікай колькасьці. Зрабіць гэта ў нашых умовах можна будзе адзін раз. І тады змагацца да перамогі. Нельга ўжо цяпер выходзіць бязмэтна па сто чалавек, прафанаваць падзеі, якія не сасьпелі, зьняверваць і засьвечваць актыўных людзей. Цяпер жа бярэмся за працу, асьвету і падрыхтоўку.***

*18 верасьня 2011 г.* Зянон Пазьняк

# ДЗЯДЫ-2011

Адно зь вялікіх і сакральных нашых сьвятаў – ***Дзяды***. Гэта вельмі важна, што ў нашай культуры ёсьць такое народнае сьвята, якое адзначае вечнасьць і гістарызм народнага існаваньня.

У пачатку 90-х гадоў па ініцыятыве дэпутатаў Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту Вярхоўны Савет зацьвердзіў Дзяды як дзяржаўнае сьвята – Дзень памяці. Гэта было разумнае і правільнае рашэньне. Сьвядомасьць і дух нацыі абапіраюцца на культуру і гісторыю. Адзначэньне Дзядоў накіроўвае думаньне людзей у гістарызм свайго быцьця на сваёй зямлі, у падзеі, справы і дасягненьні продкаў.

Для нас, беларусаў, гэта тым больш істотна, што мы зьяўляемся нашчадкамі найвялікшай гістарычнай культуры, і ня проста культуры, а цэлай культурнай цывілізацыі Вялікага Княства Літоўскага.

Дзьвесьце гадоў расейскай акупацыі і цяперашняя ўнутраная акупацыя антыбеларускай цемры наглядна паказалі, што нішчыцелі Беларусі заўсёды імкнуліся сістэмна разбурыць нашу гістарычную памяць, апаганіць гісторыю, сфальсіфікаваць гераічную і культурную справу пакаленьняў. Рэжым цемры яшчэ ў 90-х гадах ліквідаваў дзяржаўнае сьвята Памяці продкаў. Але, бачыце, яно жыве, незалежна ад варварства нішчыцеляў. І будзе жыць, пакуль жывем усе мы, беларусы! Пакуль памятаем нашых бацькоў, дзядоў і народны пачатак.

Шануйма гэтае сьвята Дзядоў моцна. У ім адбітак нашага існаваньня.

Цяпер шмат хто ўбачыў тое, што было ад пачатку, – прамаскоўскі рэжым вядзе адкрытую палітычную вайну зь беларускім народам. Гэта не навіна ў нашай гісторыі.

Вось мы знаходзімся тут, у Курапатах, на сакральным месцы нашага мартыралёгу, падобных да якога ня шмат існуе ў сьвеце. Расейскімі энкавэдзістамі тут было расстраляна і закапана каля чвэрці мільёна людзей. Гэта фінал антыбеларускай палітыкі. Да гэтага (да зьнішчэньня) гатовыя былі ў выніку -- ўсе ненавісьнікі Беларусі, усе ворагі чалавецтва. Тут, у Курапатах, рэалізавана мяжа іхных антычалавечых жаданьняў і сэнс іхнага злачыннага існаваньня.

Тут ёсьць над чым задумацца. Як сьведчыць гісторыя, вусатыя твары дыктатуры з усходу і захаду думалі і рабілі аднолькава, і прыходзілі да аднолькавага чыну – да генацыду, да злачынства супроць чалавецтва.

Нягледзячы на тое, што цяпер шмат хто зь людзей скарыліся цемры, беларусы яшчэ маюць шанц не дапусьціць чарговага злачынства над сабой і народам. Зарукай гэтаму павінна стаць нашая народная памяць, культура і беларуская салідарнасьць супраць дзеяньняў зла.

Слава нашым Дзядам, нашым людзям і вялікім продкам!

Слава героям і пакутнікам, што стаялі, змагаліся і загінулі за Беларусь!

Слава Беларусі!

*30 кастрычніка 2011 г.* Зянон Пазьняк

# СЛУЦКІЯ ЗМАГАРЫ НАТХНЯЮЦЬ НА БАРАЦЬБУ

Сёлета мы адзначаем 91-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну, калі над нашай Бацькаўшчынай зноў згусьціліся хмары і пагроза страты незалежнасьці зноў стала рэальнай. Маецца на ўвазе самавольнае і незаконнае падпісаньне ўзурпатарам маскоўскіх дакумантаў пра ўдзел Беларусі ў эўра-азіяцкай інтэграцыі.

Гэта тыя дзьверы ў стойла гнілой імпэрыі, куды Масква заганяе свайго сатрапа. Цяпер нават людзям, далёкім ад палітыкі, становіцца зразумелым сэнс правакацыі 19 сьнежня мінулага году і жорсткага пабіцьця ў Менску мірных людзей. Тыя, хто разумелі і казалі пра маскоўскую задуму сьнежаньскай авантуры, пра інсьпірацыю масавых рэпрэсій у Беларусі, пра спробы тэрактаў дзеля абвінавачваньня і вынішчэньня грамадзянскай супольнасьці і ўсіх здаровых нацыянальных сіл у краіне, тыя мелі рацыю. Авантура з эўра-азіяцкім саюзам (як бачым) рыхтавалася заранёў.

Перш, чым загнаць сатрапа ў Азію, Масква імкнулася задушыць беларускія сілы, каб паралізаваць нацыянальнае супраціўленьне і расчысьціць дарогу да бесканфліктнага захопу Беларусі, гэта значыць уцягнуць нашу краіну ў сваю імпэрыю шляхам палітычных маніпуляцый і эканамічнай вайны. Прытым усё гэта робіцца рукамі Лукашэнкі, які, хапаючыся за ўладу, вядзе сваю рэпрэсіўную вайну зь беларускім народам.

Да сярэдзіны ХХ-га стагоддзя не было іншага спосабу змаганьня за свабоду, як збройны чын. Грамадзтва, фактычна, ня ведала іншых мэтадаў, бо не было ўнутраных і міжнародных мэханізмаў, такіх, якія ёсьць зараз (дэмакратычная сістэма ўлады, міжнародныя арганізацыі, міжнародная думка, салідарнасьць, грамадзянская супольнасьць, вольны друк і г. д.).

***Улада, якая ліквідуе законныя і мірныя мэтады зьмены ўлады, робіць стаўку на зброю і вайну з народам.*** Гэтую аксіёму і палітычную відавочнасьць, на жаль, не адразу разумеюць людзі, спадзяючыся на законнасьць (якой ужо няма) і на абстрактную справядлівасьць.

Дылема, якая ўзьнікла і якую беларусы (у адрозьненьне ад антыбеларускага рэжыму) ня ведаюць, як вырашыць, -- гэта як зьмяніць антынародную ўладу законным і мірным спосабам у той час, калі законы ня дзейнічаюць, а рэжым адкрыта робіць стаўку на грамадзянскую вайну з выкарыстаньнем інтэрвенцыі чужой краіны. Узурпатар пра гэта ўжо неаднаразова абʼяўляў, прыступіў нават да стварэньня новага 120-тысячнага партызанскага войска з рэзэрвістаў.

У 1920 годзе, аказваецца, сытуацыя была больш простай і для народа зразумелай. На краіну йдзе бальшавіцка-маскоўская арда, і зь ёй трэба было ваяваць. Праблема была толькі са зброяй. Змагацца гатовы быў увесь народ, маткі-беларускі самы выпраўлялі сыноў на вайну. За тры дні случакі сабралі 10-тысячнае войска. Але не было з чаго страляць, і бальшыню адправілі дахаты. А тыя, хто атрымаў зброю, гатовыя былі змагацца да апошняга, гатовыя былі на сьмерць дзеля вольнай Айчыны.

Вось гэты змагарны дух і рашучасьць случакоў натхняла цэлыя пакаленьні беларусаў і натхняе цяпер. Узурпатар і здраднік, што думае здаць нашу краіну ў расейскую Азію і зьбіраецца збройна ваяваць з народам, -- гэта цяпер як той

бальшавіцкі монстр, які некалі йшоў на случакоў з Усходу. Але як толькі ўздымецца, адродзіцца слуцкі змагарны дух, гэты монстр не пасьпее нават стрэліць, як будзе сьцерты з твару ўлады.

Усяму ёсьць мяжа. У тым ліку і мяжа страху. Надыходзіць пара, калі людзі перастаюць баяцца. І тады будзе новы народны беларускі чын. Будзе -- бо ўжо быў.

Слава слуцкім героям!

Слава Беларусі!

*Лістапад 2011 г.* Зянон Пазьняк

# ДЗЯРЖАЎНАЯ ЗДРАДА І ПАКАРАНЬНЕ

Тут я хацеў бы выказаць меркавані пра апошнія падзеі ў Беларусі і найперш пра катастрафічную падзею, якая нядаўна (25 лістапада) адбылася – пра крымінальную здачу Белтрансгазу ва ўласнасьць Расеі.

23 лістапада кіраўніцтва КХП – БНФ выступіла са зваротам да грамадзян Беларусі ***“Аб супроцьдзеяньні антыбеларускай палітыцы”***, дзе дадзена палітычная ацэнка авантуры з Эўразійскім саюзам і адзначана, што 18 лістапада *“зь беларускага боку дакуманты былі падпісаны кіраўніком улады, якая ні ў якой форме не кантралюецца народам Беларусі і не выяўляе яго інтарэсаў. Гэтая ўлада ў асобе А. Лукашэнкі зьяўляецца нелігетымнай і незаконнай, не прызнаная беларусамі і міжнароднай супольнасьцю. Міжнародныя дакуманты, падпісаныя такой уладай, не павінны мець праўнай сілы”.*

Мы заклікалі грамадзтва і міжнародную супольнасьць не прызнаваць за законныя і сапраўдныя пагадненьні, падпісаныя нелегітымным кіраўніком улады ў Беларусі і аказваць супроцьдзеяньне яго антыбеларускай палітыцы і вялікадзяржаўным прэтэнзіям кіраўніцтва Расеі. Праз тыдзень, 25 лістапада, у межах зьдзелкі па Эўра-Азіяцкаму саюзу з Расеяй і Казахстанам узурпатар здаў расейцам Белтрансгаз.

Злачынства, учыненае супраць беларускага народа, настолькі сур’ёзнае, што вымагае ўсіх магчымых спосабаў дзейнасьці па ратаваньні краіны, вяртаньні беларускай маёмасьці і законнасьці ў Беларусі.

Тое, што адбылося 25 лістапада ў Маскве з удзелам Лукашэнкі, кваліфікуецца як здрада дзяржаве (арт. 356 КК РБ, ч. 1, 2): “Аказаньне замежнай краіне дапамогі ў правядзеньні варожай дзейнасьці супраць Рэспублікі Беларусь... на шкоду ... яе суверэнітэту” -- (ч. 1) і (ч. 2) – “Здрада дзяржаве, сазлучаная з забойствам” (Захаранка, Красоўскі, Ганчар, Завадзкі) “караецца ад 10 да 25 гадоў турмы альбо сьмерцю з канфіскацыяй маёмасьці (ці без канфіскацыі)”. Сюды ж адносіцца злачынства па неабгрунтаванаму будаўніцтву, фактычна, расейскай атамнай электрастанцыі ў Беларусі ў інтарэсах Расеі, за расейскія грошы, на расейскай абслузе і радыёактыўных матэрыялах.

Лукашэнка і расейская агентура на ўсе лады даказваюць, што нічога дрэннага не адбылося, проста ён прадаў Расеі непатрэбную іржавую трубу. На каго разьлічаная такая вар’яцкая хлусьня? Белтрансгаз – гэта ня толькі “труба”, але ўся газавая энэргетычная інфраструктура Рэспублікі Беларусь, на якую абапіраецца і ад якой залежыць больш за 80 адсоткаў вытворчасьці ў краіне.

Газавы дысбаланс ствараўся рэжымам Лукашэнкі, пачынаючы з 1994 года, калі ўсе беларускія вытворчасьці і спажыўцы энэргіі (кацельныя і т. п.) пераводзіліся з таннага для нас мазуту (маем два камбінаты) на расейскі газ (які быў даражэй за мазут на 30 адсоткаў). Лукашэнка і яго хунта, выконваючы інтарэсы чужой дзяржавы (якія ня робяцца за “так”) штучна прывязалі беларускую эканоміку да расейскага газу. Цяпер жа ў выніку шматгадовых газавых войнаў і махінацыяў Масквы (у якіх Лукашэнка ўдзельнічаў) ён, ня маючы на гэта права, здаў стратэгічны інтэрас Рэспублікі Беларусь – усю газавую энэргетычную інфраструктуру краіны, на якую завязаная ўся галоўная эканамічная вытворчасьць і сацыяльна-бытавая сфэра.

Цяпер беларусам трэба забыцца пра ўсялякую самастойную нацыянальную палітыку і эканоміку, пра ўсялякія варыянты з гаручымі сланцамі і звадкаваным газам, Балта-Чарнаморскімі энэргетычнымі праектамі і т. п. Беларускі народ абакралі ў адзін дзень. Ён больш ня ўласьнік, а найміт і батрак. Гэтая авантура раўназначная страце суверэнітэту.

Дарэчы, пра агентуру. Здача Белтрансгазу адразу стала тэстам на пацьвярджэньне агентуры. Вылезьлі асобы, якія амаль слова ў слова пачалі паўтараць хлусьню Лукашэнкі пра "іржавую трубу" ды яшчэ прыгаворваць, што выгадна прадаў. У палітыцы выявіць рэальных наймітаў расейскіх (рэжымных) спэцслужбаў нескладана. Існуюць стандартныя тэсты і палажэньні, на якіх агенты імгненна засьвечваюцца. Палітыкі павінны толькі добра валодаць інфармацыяй, ведаць, якія дзеяньні і тэндэнцыі (у Маскве ці на Карла, 38) намячаюцца. І калі раптам зьяўляюцца людзі, што пачынаюць агучваць такія тэндэнцыі, ці выступаць пасьля "адмашкі" – зьвярніце ўвагу. Памыліцца можна, праўда, на дурнях. Але што такое Белтрансгаз для Беларусі ўсе ведаюць. Нўзабаве (пакуль скамандуюць) словы "іржавая труба" загучаць як пароль і яшчэ ня раз.

Тут палітычна-эканамічны аспэкт злачынства.

Цяпер – аб маёмасным. Узурпатар абрабаваў беларускіх людзей і прадаў крадзеную прыватную маёмасьць, а маскоўцы за бясцэнь крадзенае купілі. Згодна Закона аб прыватызацыі (1992 г.) і Пастановы ВС аб разьдзяржаўленьні і прыватызацыі (1993 г.) палова дзяржаўнай маёмасьці (50%) належыць грамадзянам Беларусі паводле прыватызацыйных чэкаў. Улада павінна была стварыць механізм для канкрэтнай перадачы гэтай уласнасьці людзям. Такі механізм пачаў стварацца ў пачатку 90-х. Але Лукашэнка, дайшоўшы да ўлады, усё ліквідаваў і ў 1997 годзе, насуперак Канстытуцыі, праз неканстытуцыйную папраўку ў Закон Аб уласнасьці (Закон прыняты ў 1990 г. пад ціскам Апазыцаі БНФ) і праз нелегітымную "палату" незаконна перадаў права распараджацца народнай доляй маёмасьці Саўміну.

(У Законе Аб уласнасьці было напісана, што Саўмін распараджаецца "ад імя ўласьнікаў", гэта значыць, што бяз згоды людзей урад ня можа прадаць іхнюю уласнасьць. У 1997 годзе Лукашэнка гэтыя словы незаконна выкінуў.)

Цяпер у Маскве скарысталі тую бомбу запаволенага дзеяньня і зрабілі прадуманы манэўр. Беларусаў абакралі двойчы: адзін раз намінальна ў 1997 і другі раз рэальна – 25 лістапада 2011 г.

Скупшчыкі крадзенага – маскоўцы – разумеюць, што робяць і чым займаюцца, але яны павінны ведаць, што крадзенае ў выніку зьдзелкі з нелегітымнай асобай прыдзецца вярнуць па суду і па закону.

Гэта ёсьць грубая незаконная зьдзелка, махінацыя сярод белага дня на відавоку ўсіх. У чалавека, якога самы маскоўцы ня ставяць у грош, зь якога зьдзекуюцца публічна, абзываюць "сукіным сынам", "конюхам", "пастухом", "калхозьнікам", "хросным бацькам" (гэта зн. галавой мафіі) у гэтага ж чалавека яны купляюць крадзенае, як у канакрада, разумеючы, што ён узурпатар, захопнік прэзыдэнцкай улады і ніякага права ня мае прадаваць чужое дабро.

Здаецца, за ўсю нашу гісторыю мы не перажывалі большай нацыянальнай ганьбы і сораму, як цяпер, калі такая некультурная асоба з такімі клічкамі і адыёзнасьцю плюе ў твар усёй нацыі і міжнароднай супольнасьці -- і 17 гадоў усе толькі выціраюцца.

Артыкул 88 дзеючай Канстытуцыі: "Прэзыдэнт можа быць зьняты з пасады ў сувязі з учыненьнем дзяржаўнай здрады або іншага цяжкага злачынства... Справа па сутнасьці абвінавачваньня разглядаецца Вярхоўным Судом".

Сумняваюся, што справа дойдзе да Вярхоўнага Суда, хоць па закону ён павінен гэтым злачынствам займацца. Але пакідаць усё на месцы больш нельга. На нашых вачах суверэнітэт і дзяржаву нішчыць цемра і здрада. Дзеяньні па абароне павінны быць. Зьвярнуцца з іскам у Вярхоўны Суд па гэтых пытаньнях можа кожны грамадзянін краіны, група грамадзянаў і арганізацыі.

У выпадку, калі Суд парушыць Закон і ня прыме іск да вытворчасьці ці дэмагагічна адмовіцца займацца справай, у народа, згодна Канстытуцыі (арт. 3) застаецца права самаму вырашыць гэтае пытаньне любым спосабам. Можа быць створаны Народны суд, які разгледзіць і прыме рашэньні, згодна артыкулаў Канстытуцыі і Крымінальнага Кодэксу, уключна з вышэйшай мерай пакараньня.

Гарантавана пзьбегнуць адказнасьці за афёру зь Белтрансгазам Масква можа толькі адным мэтадам – зьнішчыць дзяржаўнасьць Рэспублікі Беларусь. На гэтым яна будзе будаваць далей сваю стратэгічную палітыку, якую рэальна распачала ў 1994 годзе. Забраўшы беларускую маёмасьць, Масква сама ліквідуе Лукашэнку, каб ня блытаўся (пра гэта мне не раз прыходзілася пісаць яшчэ ў 90-х). Дарэчы, супроцьстаяць імпэрскай палітыцы можа толькі грамадзтва з разьвітай нацыянальнай элітай (інтэлігенцыяй) – першае, што ўвесь час нішчылі і нішчаць акупанты і непрыяцелі Беларусі.

Тым часам Лукашэнка, знаходзячыся ў паталагічным жаху ад пагрозы страціць уладу, будзе ўсімі сіламі душыць народ і здаваць Беларусь па частках да апошняга цьвіка. Сытуацыя фантастычная (якая пры нармальным раскладзе вырашаецца за адзін дзень). Але маем, што маем

Усё будзе залежыць ад беларусаў. Тэарэтычна існуе магчымасьць стварэньня на эміграцыі грамадзкага Беларускага Суду і іншых патрэбных структураў, якія на падставе Канстытуцыі вынясуць свой вердыкт аб адхіленьні Лукашэнкі і аб адказнасьці за здраду

Апатыя і абыякавасьць, якія апусьціліся цяпер на ўсё грамадзтва, ня трэба браць у разьлік. Ад апатычных асобаў нічога ніколі не залежыла, акрамя цемры. Ёсьць людзі, якія змагаюцца за волю і Беларусь. Іх ня шмат, але ад іх залежыць будучыня краіны.

Наконт Захаду (асабліва Эўропы) – трэба пакінуць усе ілюзіі і не марнаваць час.

За мяжой цяпер жыве каля мільёна беларусаў. Узурпатар не павінен заставацца на волі, ня мусіць больш быць ва ўладзе.

### “Злачынства і пакараньне”

Другая тэма, на якую я хачу зьвярнуць увагу, і, якая зьвязана з антыбеларускай палітыкай рэжыму, -- гэта пытаньне злачынства і пакараньня. Гэтая тэма актуалізавалася пасьля суду за тэракт 11 красавіка ў Менскім мэтро.

Загадкавасьць тэракту ў мэтро, незавершанасьць сьледзтва -- відавочныя. Пасьпешнасьць вынясеньня вышэйшай меры пакараньня таксама відаць. Хто стаіць за гэтым выбухам – невядома. Матывацыя тэракту таксама невядомая. Але прысуд застаецца ў сіле пры ўсёй рацыі грамадзкасьці і апанэнтаў. Ёсьць адпаведныя законы і працэдуры, за якія  суд і рэжым будуць фармальна трымацца. На нашых вачах творыцца заведамая і, хутчэй за ўсё, матываваная памылка. Механізму, каб яе спыніць ці хаця б затармазіць, не існуе (акрамя памілаваньня асуджаных, вышэйшай службовай асобай, што вельмі суб’ектыўна і ніяк не рэгламэнтавана).

Тут мы назіраем першы выпадак выкарыстаньня антыбеларускім рэжымам сьмяротнага пакараньня праз суд дзеля схаваньня (як я мяркую) праваленых палітычных планаў.

У мяне склалася ўражаньне, што і планаваньне выбуху 19-га сьнежня ў тлуме людзей у час мітынгу на Цэнтральнай плошчы Менска (пра што 11 сьнежня 2010 года прагаварыўся сп. Макей), і пераарыентацыя дэманстрантаў на плошчу Незалежнасьці, і напад на Ул. Някляева, і біцьцё вокан у Доме ўраду, і пабіцьцё людзей 19-га сьнежня на плошчы Незалежнасьці, і выбух у мэтро 11 красавіка – усё гэта фрагмэнты аднаго антыбеларускага палітычнага плану. Нешта ўдалося, нешта – не, нешта правалілася (як выбух у мэтро) і выклікала нечаканы эфэкт для рэжыму. Больш глыбокае раскрыцьцё арганізацыі тэракту ў менскім мэтро магло б даць ключ для выяўленьня зьместу ўсіх апошніх падзей і ўсёй гэтай антыбеларускай палітыкі.

Менскі працэс тым часам даў аргумэнты маргіналам і прыхільнікам адмены сьмяротай кары. Сытуацыя няпростая, бо ўзьнікла палітычная патрэба ў такім мараторыі (інструмэнт сьмяротнага пакараньня ў руках антынароднага рэжыму – небясьпечная зброя). Выказваньні, аднак, часьцей за ўсё гучаць безадказныя і паўтараюцца  непрыймальным спосабам – шкадаваньнем злачынцаў. Ёрніцтва ў гэтай

сур'ёзнай справе часам не мае мяжы. "Ці чалавечае жыцьцё каштоўней за жаданьне помсьціць?" – лёгка пытаецца ў чытачоў адно выданьне. Падмена проста сатанінская. Аказваецца справа тут не ў справядлівасьці, не ў абавязковам, няўхільным і адэкватным пакараньні зла, а ў помсьце. І такі ўзровень "паняцьцяў" шмат дзе). Быццам і не існавала 1000 гадоў культуры – сем'і пакараных забойцаў пакутуюць, -- інфантыльна маркоціцца нехта. Дык яны і павінны пакутваць, бо нясуць маральную адказнасьць за злачынцу, асабліва бацькі. І ня толькі сем'і, але і ўвесь род, на які звалілася такая ганьба. Сьвет на гэтым стаіць. Дзеці расплочваюцца за памылкі бацькоў.

Зыходзіць трэба з рэальнай сітуацыі, з правоў асобы і грамадзяніна, бясьпекі грамадзтва і ролі дзяржавы ў забесьпячэньні гэтых каштоўнасьцяў. Цалкам пазбавіцца ад крымінальных забойстваў у грамадзтве, немагчыма. Гэта абумоўлена канвергентнай прыродай чалавека (зьмяшаньнем розных магчамасьцяў дабра і зла). Забойствы былі, ёсьць і будуць. Гэтак жа, як пэрыядычна ўзьнікаюць і будуць узьнікаць злачынствы супроць чалавецтва. Увесь зьмест ў прапорцыях, якія можна зьменшыць і кантраляваць.

Цалкам пазьбегнуць кары сьмерці і зьнішчэньня злачынцаў (як некаторыя хочуць) бяз шкоды для грамадзтва і пацярпелых асобаў – не атрымаецца ў прынцыпе. Прынцып кары сьмерцю за найцяжэйшыя забойствы і злачынствы супроць чалавецтва павінен быць. Лагічна дамагацца жорсткай кадэфікацыі і працэсуальнай рэгламэнтацыі гэтай меры, чым падтрымліваць павярхоўныя і псэўдагуманныя заявы аб адмене сьмяротнага пакараньня за любыя злачынствы.

Пра пажыцьцёвае зьняволеньне замест сьмяротнай кары я ўжо пісаў раней. Яно можа практыкавацца там, дзе гарантавана няўхільнасьць пакараньня. Ня кожная краіна можа тое забясьпечыць.

У зьвязцы "злачынства і пакараньне" існуе толькі адно забойства – забойства нявінных людзей бандытам. Пакараньне сьмерцю ёсьць расплата жыцьцём злачынцы за зьнішчаныя ім жыцьці і за яго гатоўнасьць забіваць яшчэ. Сьмяротнае пакараньне забойцы па суду ня ёсьць парушэньнем Запаведзі, але сцьвярджэньнем яе праз пакараньне таго, хто яе парушыў.

Патрабаваньне кары сьмерці за забойства вынікае з усьведамленьня фундамэнтальнай каштоўнасьці чалавечага жыцьця, загубленага злачынцам. Я ўжо пісаў ня раз, што ў мала цывілізаваных народаў спрэс была кара сьмерці за шмат што, толькі, як правіла, не за забойства. З ростам каштоўнасьці асобы ў грамадзтве ўзрасло і пакараньне.

Да апошняга часу ў сутыкненьні калізіі "злачынства і пакараньне" існаваў катэгарычны імпэратыў справядлівасьці. Грамадзтва шкадавала і спачувала забітым пакутнікам, асуджала забойцаў і патрабавала справядлівай кары (справядлівасьці). На гэтым грунтавалася права. Грамадзтва было на баку невінаватых і пацярпелых і не падтрымлівала злачынцаў.

З цягам лібэральных экспэрымэнтаў у праўнай сфэры за аплшнія 50 гадоў (што па сутнасьці зьяўляецца праявай глыбінных працэсаў маніфэстацыі зла) адбываецца зьмяшаньне паняцьцяў ня толькі ў юрыспрудэнцыі, але і ў галовах людзей, якія па-свойму ўспрымаюць лібэральную ўсёдазволенасьць.

Ня буду апісваць у гэтым сэнсе абсурды заходняй (і асабліва амэрыканскай) судовай сістэмы. У Беларусі пра гэта мала ведаюць, а калі пачуюць, то не паверац (не ўкладзецца ў галаве). Сутнасьць маіх разваг у тым, што ў будучай вольнай Беларусі ў судовай тэорыі і практыцы мы павінны будзем пакінуць усё добрае, што было ў нас, узяць лепшае з таго, што на Захадзе, але пазьбегнуць праўнага маразму кшталту, калі бандыт судзіць пацярпелага, а грамадзтва абараняе жыцьцё ворага чалавецтва.

Асобнай рэмаркай адзначу цяперашнюю пазыцыю хрысьціянскай рэлігіі. Рэдукцыя поглядаў асобных дзеячоў Царквы перад агрэсіяй зла і вымогамі сучаснага сьвету відавочная. Адной з прыкметаў рэдукцыі некаторыя лічаць таксама заклікі да

адмены сьмяротнага пакараньня злачынцы. Але папрокі царкве тут былі б перабольшаньнем. Такая пазыцыя ў Хрысьціянства была заўсёды, іншае ніколі не артыкулявалася, нават у часы Інквізыцыі, калі Касьцёл, засланіўшыся сьвецкай уладай, быў ініцыятарам шматлікіх судовых пакараньняў на сьмерць (і зусім не за забойствы).

Пазыцыя Царквы зыходзіць зь метафізічнай сутнасьці чалавека (душы) і з каштоўнасьці ягонага фізічнага жыцьця (цела) як фэнамэна Боскага стварэньня. Пазыцыя Хрысьціянства (пазыцыя сакральная) ня можа быць іншай. Тым часам чалавек і ягоны соцыюм (грамадзтва, якое ён утварае) валодаюць свабодай волі (дадзенай ад Бога, прыроды, парадку рэчаў і г. д.), якая істотна розьніцца ў сваім метафізічным (сакральным) і сацыяльным выяўленьні. Маштабы розьніцы непараўнальныя па велічыні і магчымасьцях (веручы чалавек у духу сваім можа быць вольным нават у турме, дзе сацыяльная свабода абмежавана да мінімуму, яе там, практычна, не існуе).

Там, дзе ўзьнікае імпэратыўная калізія выбару паміж соцыюмам і метасоцыюмам, там прыдатная формула: каралю -- каралёва, Богу -- Богава. Гэта ня ёсьць дуалізм. Тут мудрасьць. Кажучы пра пазьбяганьне кары сьмерці з пазыцыі рэлігіі, мае рацыю сьвятар (дзейнасьць якога, дарэчы, невыпадкова аддзеленая ад дзяржавы, каб ён не спакушаўся пазбавіць іншых свабоды волі і права выбару). І маю рацыю я, чалавек, які падтрымлівае сьвятара і які займаўся заканадаўчай дзейнасьцю ў парляманце і разумее, як могуць (і як ня могуць) рэалізоўвацца ідэалы у грамадзтве ў катэгорыях права і дзяржаўнага заканадаўства.

Нельга блытаць прычыну з вынікам і імкнуцца рабіць тое, чаго рабіць ня трэба. Гадоў 30-40 таму ў Амэрыцы лібэральны псэўдагуманізм і шкадаваньне злачынцаў даходзілі да таго, што ў некаторых штатах бандытаў і злодзеяў “ачалавечвалі” тым, што адпускалі іх з турмы на суботу і нядзелю дадому, да жонак і дзяцей (маўляў, усе ж яны людзі). За гэты час тыя “людзі” пасьпявалі ня толькі аддубасіць жонак, але яшчэ і ўкрасьці, і таго-сяго зарэзаць, пасьля чаго спакойна вярталіся ў турму, дзе іх напачатку ніхто не шукаў. Зразумела, што тут ня трэба было рабіць ніякіх праўных экспэрымэнтаў, акрамя як мець нармальныя мазгі ў галаве, не засьмечаныя памылковымі ўяўленьнямі.

Мне прыходзілася чытаць пра адну веручую фраў, якая ўвесь час малілася за ўратаваньне душы Адольфа Гітлера. Маліцца за душы грэшнікаў не супярэчыць Хрысьціянству. Тут выяўляецца метафізічнае ўяўленьне і веліч Хрысьціянскай рэлігіі. Але той, хто паспрабаваў бы знайсьці форму і перавесьці гэтыя адносіны ў соцыюм, у грамадзтва (прасіць даравальня Гітлеру, напрыклад, ці адмовіцца ад Нюрнберга), той трапіў бы пад суд (і гэта было б справядліва), ня гледзячы на ўсю ўяўную аргумэнтацыю яго меркаваньняў. Так што: Богу -- Богава, каралю -- каралёва.

Каштоўнасьць чалавечага жыцьця ў хрысьціянскім грамадзтве павінна ацэньвацца гэтак жа высока, як і ў рэлігіі. Таму сьмяротная кара за мэтанакіраванае забойства людзей за пазбаўленьне іх жыцьця павінна існаваць як адэкватны сродак пакараньня і стрымліваньня злачынстваў. Кадыфікацыя, абгрунтаваньне, вызначэньне і працэдура такога прысуду мусіць быць шчыльна і падрабязна распрацавана і рэгламэнтавана законам з мэтай выключэньня судовых памылак.

Цяпер гэтыя пытаньні (як і ўсё ў Беларусі) вырашыць немагчыма пакуль тут пануе цемра і афіцыйна ўсё разглядаецца пад вуглом захаваньня ўзурпаванай улады з гледзішча адной асобы. Нідзе нельга станоўча вырашыць ніякіх праблем. 70 адсоткаў маладых людзей хочуць зьехаць за мяжу з вар’яцкага дому, у што цемра ператварыла нашу прыгожую краіну. Цемра павінна зьнікнуць, цемра павінна адыйсьці.

*Сьнежань 2011 г.* Зянон Пазьняк

# СЬМЯРОТНАЕ ПАКАРАНЬНЕ

У вызначэньне сьмяротнага пакараньня, прысуджанага судом, ня трэба ўблытваць хрысьціянскую рэлігію. Хрысьціянства тут кіруецца двума палажэньнямі: “не забівай” і “каралю каралёва, Богу – Богава”. Забіваць нельга. Але, нават калі нехта забіў, вэрдыкт кары выносіць не рэлігія, а сьвецкая (дзяржаўная) улада на падставе закону.

Па Старым Запавеце забойца падлягаў сьмерці (па прынцыпу: “вока – за вока, зуб -- за зуб” і па закону: “якой мерай табе адмерылі, такой і ты адмерай”). Наканаванасьць вэрдыкту ўтрымлівалася ў самой габрэйскай рэлігіі (“прынцып таліёна”). Хрысьціянства пакінула вызначэньне сьмяротнай кары сьвецкай уладзе.

Фармальна так было заўсёды, нават за часы ўсямоцнасьці Папы і духоўнай улады Ватыкана. Сьмяротнага прысуду інквізітары не прысуджалі (і не маглі прысуджаць, Хрысьціянства тое забараняе). Вінаватага, калі той не каяўся і не прызнаваў сваёй віны, адлучалі ад Касьцёла, прызнавалі адступнікам (ерэтыком) і перадавалі сьвецкай ўладзе, каб яна пакарала яго, як палічаць адпаведным.

Зразумела, што тады, калі хрысьціянства змагалася з герметычнымі ведамі і ерасямі, высновы інквізіцыі мелі вырашальнае значэньне. Сьвецкі суд часта рабіў прысуд вядома які. (Дарэчы, якраз як ў рэжыме лукашызма, дзе, калі хто супраць рэжыму, то суд пакарае і бязрукага, бо ў далоні пляскаў, і нямога, бо “крычал”.)

Пры даказанасьці віны вінаватага сэнсавае і сутнаснае значэньне мае тое, што суд кіруецца законам на падставе справядлівасьці. Справядлівасьць у судзе патрабуе вызначэньня кары для вінаватага і тым самым сатысфакцыі для пацярпелага. У выпадку забойства поўная сатысфакцыя немагчымая, але максымальнай мерай яе заспакаеньня ёсьць сымэтрычны прынцып адпаведнасьці (мера крыві).

У грамадзтвах, дзе справядлівага суду не было, сатысфакцыя “па крыві” дасягалася кроўнай помстай. Кроўная помста абавязвала забіць забойцу.

У грамадзтве, дзе чалавечае жыцьцё высока цанілася, але вырак суду (ці закон) ня быў справядлівым (парушаны прынцып сатысфакцыі), тады несправядлівы суд мог справакаваць дзеяньні самасуду. (Мы назіраем цяпер такое ў Расеі, на Каўказе, і нават ёсьць выпадкі ў Беларусі.)

Няразьвітасьць прававых катэгорыяў і дзікасьць нораваў у манархісцкай сярэднявечнай Эўропе (акрамя Вялікага Княства Літоўскага, дзе беларуская сістэма права была для таго часу больш дасканалай) прыводзіла да непапраўных памылак, бо вяршыняй доказу віны лічылася прызнаньне вінаватага, якое выцягвалі звычайна катаваньнем асобы. (У Заходняй Эўропе на тым узроўні права, якое там было, прызнаньне падсуднага лічылася галоўнай ўлікай, і катаваньне было нормай.) У выніку – сьмяротна пакараным мог апынуцца невінаваты (бо чалавек не вытрымлівае катаваньняў).

У ХХ-м стагоддзі рускія бальшавікі, калі праводзілі генацыд народаў, дэмагагічна ўвялі гэты састарэлы заганны прынцып у абсалют дзеля абгрунтаваньня рэпрэсіяў (“прызнаньне – царыца доказаў” – Вышынскі).

У наш час сімэтрычны прынцып адпаведнасьці (сатысфакцыі па крыві) выявіўся зь небясьпечнага боку ў выніку недасканаласьці судоў і судовых памылак, калі пакараныя сьмерцю былі невінаватыя асобы.

З разьвіцьцём дэмакратыі (і асабліва крызіснай яе фазы, абапертай на лібэральных каштоўнасьцях) прынцып справядлівасьці і сімэтрычнай адпаведнасьці пакараньня па крыві быў адкінуты (на думку некаторых маралістаў) як недасканалы і вельмі жорсткі. Галоўнымі аргумэнтамі прыняцьця такіх праўных уяўленьняў былі якраз памылкі судоў і абстрактнае псэўдагуманнае разважаньне аб каштоўнасьці чалавечага жыцьця. Сьмяротнае пакараньне за забойствы (за сьведамыя забойствы) шмат дзе было адменена. Тым самым быў ліквідаваны прынцып сіметрыі і адпаведнасьці пакараньня. Лібэральны суд у дачыненьні да “крымінальнай” сьмерці, фактычна,

ураўняў ацэнкі пацярпелага і злачынцы, вінаватага і невінаватага, забітага і забойцы і на справе стаў на бок злачынцы. Быў парушаны фундамэнтальны прынцып справядлівасьці.

Цяпер якраз (ужо доўгі час) ідзе змаганьне паміж праўным (традыцыйным) і лібэральным падыходамі суда ў справе пакараньня за забойства людзей.

Можна яшчэ адзначыць асаблівую ідэалягічную агрэсіўнасьць лібэральнага суда ў гэтым пытаньні. У Злучаных Штатах Амэрыкі, напрыклад, навукова прызнана, што сьмяротнае пакараньне ёсьць стрымліваючым фактарам забойства, але тым ня менш (не зважаючы на фэдэральны закон) смяротнае пакараньне адмянілі ў 15 штатах (30%). У цэлым амэрыканская Фэміда застаецца прыхільнай да традыцыйных прынцыпаў справядлівасьці, абараняючы пацярпелага. Але частка грамадзтва (30 % -- гэта шмат) трымаецца лібэральнага падыходу ўраўненьня дабра і зла, дзе злачынца карыстаецца часам большымі правамі, чым пацярпелы.

У падрэжымнай Беларусі захоўваецца клясычная праўная сістэма справядлівасьці ў дачыненьні да забойства і сімэтрычны пранцып адплаты, нягледзячы на тое, што рэжымная судовая сістэма практычна поўнасьцю страціла сваю самастойнасьць і ператварылася ў рэпрэсіўную машыну ў руках узурпатара ўлады.

У гэтых умовах неадэкватныя патрабаваньні некаторых лева-лібэральных палітыкаў з Захаду да рэжыму Лукашэнкі аб скасаваньні сьмяротнага пакараньня за забойствы людзей выглядаюць вартымі жалю. Ні лукашысцкі рэжым у Беларусі, ні гэбісцкі рэжым у Расеі не ліквідуюць сваіх палітычных праціўнікаў праз судовую ўладу. Яе выкарыстоўвалі Ленін, Сталін і ўвогуле – камуністы. Дзеля забойства палітычных апанэнтаў гэбізм у Расеі выкарыстоўвае крымінальную сістэму кілераў, лукашызм у Беларусі – дзяржаўную (але пазапраўную) сістэму спэцслужбаў (“эскадроны сьмерці” і т. п.). У Расеі кілерскае забойства, у Беларусі – “зьніклыя” палітыкі. Судовая ўлада і там, і тут ў палітычныя забойствы ня ўключаная, хоць і дзейнічае як рэпрэсіўны апарат дыктатуры. (Дарэчы, з 2011 года ў Расеі з увядзеньнем судоў прысяжных зноў вернута кара сьмерцю).

Людзі, якія абстрактна шкадуюць жыцьцё забойцы і няўпэўненыя ў судовай дасканаласьці, прапануюць замяніць сьмяротную кару пажыцьцёвым зьняволеньнем злачынцы. Тады застаецца верагоднасьць (хоць са спазьненьнем) выправіць магчымыя судовыя памылкі. Тут ёсьць рацыянальны падыход, і ў стабільнай праўнай дзяржаве са стабільнай пераемнасьцю ўлады, гэта – прыймальнае рашэньне, калі створаныя гарантыі яго выкананьня.

У рэжыме карумпаванай дыктатуры “пажыцьцёўка” – гэта таксама ненадзейны варыянт, бо неўзабаве (і як правіла) забойца можа апынуцца на волі, што будзе сьведчыць пра зьдзек над справядлівасьцю і правакаваць на самасуд (як тое адбываецца ў Расеі – забойства Буданава і т.п.)

Увогуле, калі прааналізаваць прапановы, што ідуць у бок антыбеларускага рэжыму з Заходняй Эўропы (якая ўпарта называе гэты рэжым “беларускім”), то бальшыня зь іх, на жаль, альбо бязглуздыя, альбо заведама непрыймальныя як для рэжыму, так і для дэмакратыі. Сярод іх і абстрактная прапанова забараніць у Беларусі сьмяротнае пакараньне за забойства. (Яны думаюць, што ў гэтым выяўляецца “дэмакратыя”.)

У вольнай дэмакратычнай (нелібэральнай) Беларусі (дзе ва ўладзе будуць разумныя людзі) сьмяротнае пакараньне павінна застацца як выключная мера для выключнага злачынства, спраўца якога ёсьць пастаянна небясьпечным для грамадзтва. Дзеля гэтага мусіць быць распрацаваная спэцыяльная строгая праўная судова-сьледчая і кантрольная працэдура, якая прадухіляла б судовыя памылкі (галоўны аргумэнт супраць сьмяротнага пакараньня). Прытым працэдура павінна выконвацца цалкам і да канца, незалежна ад відавочнасьці і відавочнай даказанасьці злачынства.

(Прыкладам можа быць справа Цімаці Маквэя і тэракту ў амэрыканскім горадзе Аклахома-Сіці ў 1995 годзе. Велізарная сьледчая і судова-працэсуальная праца па

гэтым злачынстве ўражвае сваім маштабам і глыбінёй. Доказамі і ўлікамі былі зачынены ўсе шчыліны для маніпуляцыйнай лёгікі абароны падсуднага, хаця злачынства было відавочным і даказаным, а сам тэрарыст ганарыўся сваім учынкам (168 забітых) і называў сябе ваяром у змаганьні з амэрыканскай дзяржавай. Вэрдыкт аб сьмяротным пакараньні (ін'екцыі) быў вынесены ў 1997 годзе і толькі ў 2001 годзе прэзыдэнт ЗША адобрыў сваім подпісам рашэньне суда.)

Дасканала мусіла быць распрацавана праўна-сьледчая і судовая працэдура асуджэньня на пажыцьцёвае зьняволеньне, якое ў шматлікіх выпадках павінна замяніць сьмяротнае пакараньне. Але, як я ўжо адзначыў, дакладнае выкананьне такога прысуду шмат залежыць ад тыпу ўлады ў краіне, ад дачыненьняў унутры ўлады і ад стабільнасьці грамадзкай сістэмы, якая здольная забясьпечваць пераемнасьць і плаўнасьць уладных пераменаў. Дыктатура такога забясьпечыць ня можа, бо стабільны там толькі гвалт над законам і асобай.

Усе гэтыя задачы прыдзецца вырашаць ужо ў вольнай Беларусі пасьля ліквідацыі цёмнага рэжыму і антыбеларускай улады.

Вяртаючыся яшчэ да размовы пра стан права пры антынародным рэжыме, трэба мець на ўвазе, што пры дыктатуры адбываецца пераразьмеркаваньне злачыннасьці. Самымі вялікімі крымінальнымі злачынцамі робяцца дыктатары і іхнія хунты, якія абапіраюцца на сваю ўладу над грамадзтвам. Канкурэнтаў ("шчаўлікаў", былых паплечнікаў і т.п.) зьнішчаюць судовым (бальшавікі) альбо пазасудовым мэтадам ("эскадроны сьмерці", кілеры і т.п.).

Вынікам такіх дачыненьняў робіцца крызіс судовай улады (недавер грамадзтва да судова-праўнай сістэмы). У рэжымнай Беларусі ён існуе даўно, але асабліва абвастрыўся цяпер пасьля пасьпешнага прысуджэньня Вярхоўным судом кары сьмерці двум асобам, падазраваным у зьдзяйсьненьні тэракту ў Менскім мэтро 11 красавіка гэтага года. Суд, які адбываўся ў атмасфэры грамадзкага недаверу, ня даў адказу на істотныя пытаньні і, фактычна, не раскрыў зьмест злачынства, абмежаваўся павярхоўным вызначэньнем выканаўцаў, ідэнтэфікацыя якіх таксама выклікае сумненьні, а роля незразумелая.

Добра відаць, што судавыя ўлады сьпяшаліся пераможна закончыць працэс, апраўдаць атрыманыя ўзнагароды з рук кіраўніка рэжыму, расстраляць падсудных і зачыніць справу. Гэта пахавала б галоўную таямніцу злачынства – хто стаіць за менскім тэрактам. У вэрсію сьледзтва – падарвалі мэтро, каб крымінальна праславіцца – цяжка паверыць. Бальшыня людзей мяркуюць, што выбух -- справа спэцслужбаў зь ведама Лукашэнкі. Паколькі сьледзтвам кіраваў КГБ, то такая вэрсія не дасьледвалася.

Суд ня вызначыў таксама адмыславы тэрмін пакараньня (як гэта робіцца ў ЗША). Цяпер ўсё будзе залежыць ад рашэньня Лукашэнкі, які ня вытрымаў і заранёў пра гэта прагаварыўся. Тыя, хто яго ведаюць, разумеюць, што набліжаецца зорны час ягонага неспакойнага арганізму, найвышэйшы "кайф", як кажуць расейцы: ён, Лукашэнка, такі просты, будзе вяршыць жыцьцямі злачынцаў...

Рэакцыя беларускага грамадзтва на пастановачны суд даволі рацыянальная і адэкватная: пакуль не высьветленыя ўсе акалічнасьці злачынства сьмяротнага выраку не павінна было быць. Інакш гэта выглядае не пакараньнем злачынцаў, а пазбаўленьнем ад сьведкаў.

Тым часам сумніўныя дзеяньні сьледзтва і суда ў гэтай справе выклікалі россып людзкіх эмоцый, часам цалкам безадказных, непрадуманых і павярхоўных (некаторыя нават пачалі шкадаваць "хлопчыкаў").

Шумна ўзбудзілася лібэральная Эўропа са сваімі паняцьцямі аб забароне сьмяротнага пакараньня. Урадавая эўралібэралы ўсіх масьцяў ўбачалі нагоду пагаварыць пра каштоўнасьць жыцьця забойцаў і адмену сьмяротный кары. Нешта мы ня чулі ў іх такога ажыятажу, калі 11 красавіка зь менскага мэтро выносілі акрываўленых людзей, прыгожых, прыгожа апранутых маладых жанчын з адарванымі канечнасьцямі, ці калі праз дзьве гадзіны пасьля выбуху Лукашэнка спусьціўся з сваім

незаконна народжаным дзіцем ў мэтро аглядаць непакрытая трупы. Але, відаць, на тое яны там эўрапалітыкі, каб заштурхоўваць сваю палітыку.

Тым ня менш загадкавасьць тэракту ў Менскім мэтро, незавершанасьць сьледзтва застаюцца. Пасьпешнасьць вынясеньня вышэйшай меры пакараньня таксама застаецца пры ўсёй рацыі грамадзкасьці і апанэнтаў. Ёсьць адпаведныя законы і працэдуры, за якія суд і рэжым будуць фармальна трымацца. Прысуд уступіў у сілу.

У гэтай сытуацыі рэальным захаваньнем магчымасьці раскрыцьця менскай справы быў бы мараторый на вызначэньне сьмяротнай кары судом на пэўны тэрмін да прыняцьця новага больш дасканалага заканадаўства пра вышэйшую меру пакараньня. Але такога мараторыя няма, і на нашых вачах творыцца заведамая і, хутчэй за ўсё, матываваная памылка. Механізму, каб яе спыніць ці хаця б затармазіць, не існуе (акрамя памілаваньня, вышэйшай службовай асобай, што вельмі суб'ектыўна і не кадыфікавана).

Менскі працэс даў аргумэнты прыхільнікам адмены сьмяротай кары (прытым выказваюцца яны непрыймальным эмацыйным спосабам – шкадаваньнем злачынцаў). Аднак званочак празьвінеў. Як мне здаецца (хоць тое яшчэ не даказана), тут першы выпадак выкарыстаньня антыбеларускім рэжымам сьмяротнага пакараньня праз суд дзеля схаваньня праваленых палітычных плянаў. Мараторый на кару сьмерці ў час праўленьня антыбеларускага рэжыму стаў неабходным.

У мяне склалася ўражаньне, што і плянаваньне выбуху 19-га сьнежня ў тлуме людзей у час мітынгу на Цэнтральнай плошчы Менска (пра што 11 сьнежня 2010 года прагаварыўся сп. Макей), і пераарыентацыя дэманстрантаў на плошчу Незалежнасьці, і напад на Ул. Някляева, і біцьцё вокан у Доме ўраду, і пабіцьцё людзей 19-га сьнежня на плошчы Незалежнасьці, і выбух у мэтро 11 красавіка 2011 г. – усё гэта фрагмэнты аднаго антыбеларускага палітычнага пляну. Нешта ўдалося, нешта – не, нешта правалілася (як выбух у мэтро) і выклікала нечаканы эфэкт для рэжыму. Больш глыбокае раскрыцьцё арганізацыі тэракту ў менскім мэтро магло б даць ключ для выяўленьня зьместу ўсіх аплшніх падзей і ўсёй гэтай антыбеларускай палітыкі.

Слухаючы разважаньні беларусаў, якія не адарваліся ад роднай культуры і народнага вопыту, адчуваецца, што людзі добра думаюць (хоць шкодная прапаганда і ўплывае), маюць здаровы сэнс і ведаюць, што трэба рабіць з судовай сістэмай, з сьмяротным пакараньнем і пажыцьцёвым зьняволеньнем забойцаў. 400 гадоў жыцьця па Статуту Вялікага Княства Літоўскага адбіваецца нават ў генах (Заходняя Эўропа тут не аўтарытэт).

Але, каб тое рабіць было можна, неабходна перамяніць рэчаіснасьць. ***Палітычная задача карэнных перамен улады ў Беларусі ёсьць пытаньне нумар адзін****,* ад вырашэньня якога залежыць ня толькі судовая сістэма, але, практычна, усё, найперш -- будучыня і лёс краіны.

*2 сьнежня 2011 г.* Зянон Пазьняк

# 2012

# ПАМІЖ СЦЫЛАЙ І ХАРЫБДАЙ

*(Ліст на Сойм КХП – БНФ)*

Мы зьяўляемся сьведкамі голасных спрэчак ў Беларусі і на Захадзе на тэму байкоту выбараў і санкцыяў супраць рэжымных чыноўнікаў. Акрамя звычайнага зацікаўленьня пытаньнем тут відаць яшчэ праява нэрвовай актывізацыі агентуры, якая паказвае, наколькі небясьпечным здаецца беларускі байкот для антыбеларускага рэжыму і лубянскай Масквы.

Асобы, якія на працягу шматлікіх гадоў сістэматычна выступалі супраць байкоту і нашай фронтаўскай нацыянальна-вызвольнай палітыкі, раптам дружна пачалі казаць пра байкот з выглядам людзей, якія толькі што нарадзіліся на сьвет.

Але гэта тыя самыя асобы, якія ў 2004 годзе зрабілі самае вялікае злачынства псэўдаапазыцыі – сарвалі байкот галасаваньня і дапамаглі Лукашэнку правесьці незаконны рэфэрэндум аб бестэрміновых паўнамоцтвах яго на ўладу ў Беларусі. Пралангацыя рэжыму адбывалася з рыторыкай антыбайкоту і пад лёзунгам: “Иди и скажи свое нет!”. І пайшлі. Што сказалі – ужо ня важна. Лічыліся не галасы, а ўдзел у галасаваньні. І яны тое ведалі.

Фігуранты гэтай справы нясуць адказнасьць за ўзурпацыю улады Лукашэнкам побач з функцыянерамі і злачынцамі антыбеларускага рэжыму.

Цяпер некаторыя зь іх, што адмовіліся ад байкоту 2010 года, ўдзельнічалі ў выбарах у ролі кандыдатаў і ў рэжымнай правакацыі 19 сьнежня, нечакана для сябе апынуліся ў турме ў якасьці разьменнай манеты дзікунскай улады, але сумняваюся, ці разумеюць яны сваю ролю ў палітыцы гэтай цемры.

Некалі палкоўнік рускага КГБ (ФСБ) Аляксандар Ліцьвіненка зразумеў псіхалёгію Лубянкі, і, калі яго паслалі ў Лёндан забіць Беразоўскага, здаўся Скотланд-Ярду (ведаў, што забіўшы Беразоўскага, будзе забіты сам). Але і гэта не ўратавала яго. Шкода чалавека. Позна апамятаўся.

Цяпер агітатараў за выбарыі і кандыдатаў на выбарах, скарыстаўшыся іх паслугай у забесьпячэньні фармальнага галасаваньня (і магчымасьці фальсіфікацыі), трымаюць за кратамі і катуюць у турме, прымушаюць каб пісалі кату аб памілаваньні і вызваленьні з турмы. Абсурд – чуюцца галасы – сюррэалізм!

Гэта абсурд для нармальнага розуму. Для мазгоў, збочаных гэбізмам, гэта сатанінская палітыка выбіваньня права адзіналічна распараджацца душой чалавека. Напісаць такому кату аб памілаваньні – тое самае, што напісаць д’яблу і прызнаць віну. Вязень робіцца ягоным палітычным таварам, які кат можа прадаць свабодна, без абавязкаў перад пакупнікам і законам, па любой цане, з гуманнай маскай на твары.

Такога ня памятае сьвет, бо ніколі не было яшчэ такой гразі на вяршыні ўлады. Гэта тая ўлада, тыя апраметныя дачыненьні, існаваньню якіх яшчэ тады, у 2004 годзе, паспрыялі якраз гэтыя засуджаныя катам асобы (і спрыялі, дарэчы, у 2010-м). Ня ведалі, што тварылі? Ведалі.

Дык хто яны, гэтыя людзі? Безумоўна, ахвяры. Ахвяры д’ябальскай палітыкі, якую яны самаупэўнена не хацелі разглядзець, жывучы ў тумане чужых ілюзій (аплочаных, на няшчасьце, грашыма).

Увесь трагізм людзей, якія калі-небудзь траплялі ў гэбоўскія засьценкі, месьціцца ў тым, што ні псіхіка, ні нэрвы, ні арганізм чалавека не вытрымліваюць катаваньняў. Чалавек альбо ламаецца і гатовы на самаагавор, альбо паміpae (адразу ці потым – у выніку страты здароўя). Таму ў праўных краінах катаваньне забаронена.

Палітвязьні савецкага ГУЛАГу (дысідэнты) гэта добра ведалі, і, калі чалавек не вытрымліваў ціску катаў і здаваўся, то паплечнікі яго не асуджалі, успрымалі са спачуваньнем і па-чалавечаму. Адзіная перамена (і цалкам аб'ектыўная) -- яго ўжо выключалі з кола сваіх асаблівых палітычных інтарэсаў, не пасьвячалі ў сур'ёзныя і агульныя справы.

Захаваліся сьведчаньні з пэрыяду сталінскага тэрору (тады калі бальшавікі нішчылі адзін аднаго), што некаторыя, ідучы на допыт, перадавалі сукамэрнікам, каб ніхто ня верыў таму, што ён скажа на допыце ў час катаваньняў.

Гэта звычайная зьява на судовых працэсах (таксама цяпер), калі абвінавачаны адмаўляецца ад паказаньняў, дадзеных у час сьледзтва на той падставе, што вымушаны быў агаварыць самога сябе ў выніку катаваньняў. Сытуацыя з лукашысцкімі закладнікамі ў турме такая самая. Разумныя людзі даўно на гэта зьвярнулі ўвагу і раяць ім не гуляць ў напарстак з катам, напісаць яму, што ён хоча – ліст аб памілаваньні. Усе ж ведаюць якім спосабам выбівалі ліст. Маральная цана такога ліста ніякая.

Тут цалкам рацыянальны падыход. Так можна рабіць без істотнай шкоды для сваёй асобы. Але ёсьць яшчэ цана -- палітычная – тая "д'ябальшчына" пра якую я пісаў вышэй. Прашэньне не азначае хуткага і гарантаванага вызваленьня. Кат будзе чакаць кан'юнктуры на рынку. У гэты час падпісантам могуць ставіць новыя умовы, прымушаць, напрыклад, супрацрўнічаць з КГБ (хто яшчэ не супрацоўнічае), пераводзіць у Магілёскую турму (дзеля страты здароўя) і г.д.

Парады вязьням, якіх катуюць нечалавечымі ўмовамі, даваць ня проста і нават рызыкоўна. Ім вядома больш. Кожны свае паводзіны выбірае сам. (Галоўны крытэр – не зрабіць шкоды іншым). Прыняць іхную пазыцыю самазахаваньня трэба з разуменьнем, па-людзку, без асуджэньня. Невядома, як паводзілі б сябе мы, апынуўшыся на іх месцы. Але адно зразумела. ***Антычалавечая, антынацыянальная ўлада ўзурпатара мусіць быць ліквідавана як найхутчэй. Вось першасная імпэратыўная задача беларусаў.***

Калісьці, гадоў 10-15 таму, разумныя людзі казалі, што калі антыбеларускі рэжым з вар'ятам на чале захаваецца доўгі час, то вернуцца і калючы дрот, і тэрор, і ГУЛАГ. І вось мы ўжо зноў абмяркоўваем праблему катаваньняў, зьдзеку над народам і самаўпраўства КГБ.

Каб разумець палітыку гэбісцкага сатанізму, патрэбна шмат што, але найперш – ведаць Біблію і быць перакананым беларусам. Без адданасьці нацыянальнай ідэі ў барацьбе з антыбеларускім рэжымам палітыкам няма чаго рабіць, бо аб'ектыўна яны будуць яму спрыяць. З антынацыянальным сэнсоўна змагацца можа толькі нацыянальнае. З антыбеларускім – беларускае. Усё астатняе – ад лукавага.

* * *

Вяртаючыся да агентурнага ажыятажу на тэму байкоту і да цяперашніх выказваньняў закаранелых апазыцыянэраў-антыбайкатоўшчыкаў пра неабходнасьць байкоту, ня цяжка прадбачыць, у які бок пацягнуць гэтае ўзбуджэньне.

Яны "клясычна" падзеляцца на некалькі групаў. Адна будзе за байкот, другая – супраць, трэцяя – за выбары, але галасаваць супраць усіх, чацьвертая – за ўдзел у выбарчай кампаніі, але за тыдзень да галасаваньня зьняць кандыдатуры і аб'явіць байкот і г. д. Тэхналёгія банальная. Гэты спэктакль ужо пачынаецца, падключаюцца нават агенты з расейскага ведамства Караганава (Суздальцаў дык проста перапісвае некаторыя нашыя палажэньні. Яго роля – за байкот). Нават Ганс Вік вылез на сцэну з глыбокай пэнсіі (яго роля адваротная – супраць байкоту).

Увогуле, хутка мы ўбачам адзінства Масквы і Эўропы ў падтрымцы псэўдавыбараў у Беларусі. Для нас гэта не навіна. Такое было.

Псэўдаапазыцыя, як звычайна, будзе шкодзіць у справе байкоту ўжо па самой сваёй прыродзе. З той групай "псэўда", якая стане за байкот, нам, зразумела, таксама нельга будзе сур'ёзна супрацоўнічаць (яны намі не кіруемыя і могуць заваліць працу на любым этапе). Хаця нейкія функцыі можна скарыстаць і прадугледзець. Галоўнае для нас, аднак, -- стане праца з новымі людзьмі.

Ідэалёгія і асьветніцкая частка байкоту, распрацаваная намі і выпрабаваная раней, застаецца тая самая. Да гэтай працы трэба ўжо прыступаць. Што датычыць іншых канкрэтных дзеяньняў, арганізацыі і ініцыятываў, то пра гэта – у канцы ліста.

* * *

Правакацыя 19 сьнежня 2010 года і наступны за ёй разгром беларускай грамадзянскай супольнасьці – гэта толькі адна частка разбуральнага пляну спэцслужбаў. Другая частка (уцекачы ад Лукашэнкі і палітэміграцыя) была падрыхтавана таксама даволі прадумана. У Вільні, Варшаве, у Бэльгіі і іншых месцах імгненна ўзьніклі па 2-3 так званыя "беларускія цэнтры", "офісы за дэмакратыю" і т. п., начале якіх раптам апынуліся "знакомые агентурные лица", прытым некаторыя – зь беларусафобскім багажом, "русским языком" і легендамі пра перасьлед. Гэтыя "цэнтры" і "офісы" тут жа атрымалі ад уладаў краінаў ЭЗ памяшканьні, рыштунак і немалое фінансаваньне, ды прыступілі да імітацыі справы.

Такая хуткасьць, адкрытасьць дзеяньняў і арганізаванасьць "офісаў" тады мяне зацікавіла. І аказалася – каго там толькі няма: прадстаўнікі ўсіх кантор, толькі не беларускага палітычнага змаганьня. І ўсе, каму трэба, ад Брусэля да Варшавы, пра тое ведаюць.

Зараз у Эўразьвязе фармуецца шызоідная думка, што кантактаваць у Беларусі трэбе не з "апазыцыяй" (якую яны дзеля сябе стварылі і якую здалі), а з разумнымі чыноўнікамі лукашысцкага рэжыму і з "інтэлектуаламі" КГБ, каб там знайсьці процівагу аўтарытарызму Лукашэнкі. А дзеля гэтага трэба наладжваць "дыялёг" з уладай.

Пражэкцёры дурных ідэй аказаліся настолькі бяздарнымі, што першае, што зрабілі, -- гэта (відаць, таго не падазраючы) спалілі сваіх прыхільнікаў – гэбісцкую агентуру у якасьці нейкага чарговага квазі-беларускага офіса "за демократию", разьмешчанага ў Брусэлі, які выступіў за перагляд і скасаваньне санкцый для злачынных чыноўнікаў антыбеларускага рэжыму. Цяпер уся гэтая камарыльля сварыцца.

Падсумоўваючы агляд новага вітка "эўралукашызму", зьвяртаю ўвагу на поўную беспэрспэктыўнасьць і шкоднасьць цяперашняй эўразьвязаўскай палітыкі дзеля волі, свабоды і нацыянальна-дэмакратычнага разьвіцьця Беларусі.

***Эўразьвяз арганізоўваў і спрыяў расколу і зьнішчэньню нацыянальна-дэмакратычных сілаў Беларусі (найперш – БНФ), гэта значыць рэальнай альтэрнатывы антыбеларускаму рэжыму.*** Адначасна Эўразьвяз у супрацоўніцтве з КГБ (Ганс Вік і інш.) выцягнулі на палітычную паверхню прамаскоўскіх зрусіфікаваных маргіналаў і стварылі падпарадкаваную сабе квазі-дэмакратычную апазыцыю, якую кантраляваў фінансава і ідэёва Эўразьвяз. Але рэальны кантроль над ёй (па дэфолту, па вызначэньню) мела агентура КГБ і рэжым Лукашэнкі.

Гэтая разбуральная, эгаістычная і шмат у чым таксама антыбеларуская палітыка Эўразьвязу прынесла вялікія перавагі Маскве, яе зьнішчальнаму ўплыву на Беларусі, падрыхтавала прадпасылкі для расейскага захопу беларускай эканомікі, зьнішчэньня культуры, русіфікацыі і падпарадкаваньня нашай краіны.

І што істотна галоўнымі выканаўцамі такой здрадлівай палітыкі ў Эўразьвязе зьяўляюцца не настолькі руская агентура і лукашысцкія лабісты, колькі эўрачыноўнікі-левакі, падкупленыя рознымі спосабамі рускай разьведкай. Падкуплены нават цэлыя партыі і групы. Век карупцыі і прадажніцтва ва ўсім сьаеце.

Становішча і ўся наша найноўшая гісторыя паказваюць, што ў тым супроцьстаяньні сілаў, якія выявіліся вакол Беларусі ў нашай частцы Эўропы, любая моц, што выступае супраць антынароднага русіфікатарскага рэжыму Лукашэнкі і якая ***не стаіць на нацыянальных пазыцыях Беларускай ідэі*** (бачачы ў рэжыме толькі антыдэмакратызм), кожная такая сіла, рана ці позна, стане спрыяць нішчэньню Беларусі, стане прыладай Брусэлю, Масквы, КГБ, лукашызму ці ахвярай сваёй палітычнай дурноты. Перамагчы антынацыянальны рэжым можа толькі нацыянальная сіла, якая ўсьведамляе сябе нацыянальнай.

Байкот ашуканцкіх выбараў антыбеларускага рэжыму можа стаць першым шырокім грамадзкім крокам для нацыянальнай кансалідацыі пратэсту ўсіх беларусаў.

*12 лютага 2012 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# АБ ВЫКАЗВАНЬНЯХ ПРА СЬВЯТОЕ

Апошнім часам сталі гаварыць пра савецкага касманаўта беларуса Уладзімера Кавалёнка, які жыве ў Маскве. (Памятаю, яму нават Ларыса Геніюш верш прысьвяціла, радаючыся за беларуса ў космасе.) Прычынай увагі сталася ягонае цемрашальскае выказваньне пра Беларускі Нацыянальны сьцяг. Ён сказаў, што раней памыляўся, шануючы Нацыянальны сьцяг, бо, маўляў, ня ведаў, што з гэтым сьцягам беларусы ў 1941 годзе спатыкалі ў Менску фашызм. Гэтае выказваньне абурыла беларусаў. Маладзейшыя пытаюцца, што гэта за чалавек, Кавалёнак.

Сяргей Навумчык зьмясьціў пра яго вялікі артыкул на старонцы радыё Свабода, дзе вельмі ашчадна распавёў пра савецкага касманаўта ў палітыцы. За саветамі гэтая катэгорыя людзей насіла флёр герояў. Як на мой погляд, відаць, заслужаны, але вельмі адносны. Хлопцаў, якія ў вельмі цяжкіх умовах гібелі ў савецкім войску, скажам, на атамнай падводнай лодцы, часам гінулі там, ці вярталіся хворымі ад радыяцыі, ніхто за герояў не лічыў, ніхто пра іх ня ведаў. Не на іх канцэнтравалася савецкая паказушная палітыка, не пра іх савецкія кампазітары складалі “народныя” песьні – “а мой Вяся первым будет на Луне”.

Мне прыходзілася прыхапкам ужо пісаць пра паводзіны спадара Кавалёнка ў Вярхоўным Савеце. Як я яго ўспрымаю і разумею, Уладзімер Кавалёнак – тыповы савецкі беларус, выхадзец з сялянства, які выбіўся ў вядомыя людзі. Ідэалёгія (у тым ліку і камуністычная) мела для яго чыста прагматычнае значэньне (за ідэю дзеля ідэі такія людзі не ахвяруюцца, але, калі выгадна, -- падтрымліваюць дзеля асабістага сацыяльнага інтарэсу). Сацыяльная выгада і сацыяльнае становішча маюць тут прыярытэтнае значэньне.

Пры тым усім Кавалёнак ня меў цягі да ўлады, не імкнуўся камандваць людзьмі і ўсюды сцьвярджаць сябе, не ўваходзў у супярэчнасьць з начальствам, з начальніцкай ідэалёгіяй і палітыкай, але паўсюдна арыентаваўся так, каб быць на паверхні, захоўваючы сваё статус-кво.

У Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, застаючыся з камуністамі, ён рабіў сігналы, што прыхіляецца да дэмакратыі ды крытыкуе камуністычны бюракратызм (пры камунізме гэта было дазволена – з бюракратызмам змагаліся) . На першай жа сэсіі Вярхоўнага Савета, калі адбываліся выбары старшыні, мы (дэпутаты Апазыцыі БНФ) зьвярнуліся да яго з прапановай падтрымаць нас у выбарчым змаганьні. Задача была не прапусьціць стаўленьніка бюро ЦК КПБ М. Дземянцея на старшынства. Мы падбіралі лаяльных дэпутатаў з асяроддзя камуністаў, якія не ўспрымалі Дземянцея, і ўгаворвалі іх выставіць свае кандыдатуры, каб расьцягнуць галасы.

Кавалёнак доўга думаў і вагаўся (я яго ўгаворваў, здаецца, разам з Алегам Трусавым), але ўрэшце пагадзіўся. Памятаю, што ён набраў 43 галасы. Мушу сказаць, што для Кавалёнка гэта быў вельмі рашучы ўчынак. Ён рызыкаваў рэпутацыяй, але адначасна глядзеў у будучыню. І... здавалася, не памыляўся. Зорны час ягонага манэўру настаў 24 жніўня 1991 года на “Сэсіі Незалежнасьці”, якая адбылася адразу пасьля правалу камуністычнага путчу ў Маскве. Тут я проста працытую кавалак з сваёй апошняй кніжкі “Сэсія Незалежнасьці”, бо ў Беларусь яна амаль што ня трапіла.

“Прыступілі да фармаваньня парадку дня сэсіі. Пачалі засьведчваць сваю пазыцыю так званыя “перабежчыкі”, якія раней памоўчвалі альбо пагаджаліся з камуністамі. Асабліва пафасна адзначыўся наш беларус-касманаўт генэрал Уладзімер Кавалёнак. Прадстаўляючыся, ён назваў сваю парлямацкую прыналежнасьць так: “Ад Апазыцыі!”. І аб’явіў, што ён вышаў з шэрагаў КПСС. Усе ведалі, што ён у Апазыцыю не ўваходзіў. Але гэты трук успрынялі апладысмэнтамі. На зьбянтэжаных камуністаў выбар Кавалёнка падзейнічаў прыгнечана і злавесна.

Тут, адыходзячы крыху ўбок, растлумачу, што Кавалёнак тады з’арыентаваўся хутка, дакладна і рашуча, пачаў нават у перапынках хадзіць на плошчу разам з намі і размаўляць зь людзьмі. А аднойчы, ідучы з гатэлю ў добрым настроі пасьля абеду, Кавалёнак збочыў да

людзей, папрасіў у нейкага Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і дэманстратыўна ўвайшоў зь ім у залю. Кур'ёзам стала тое, што выпадкова ён ўвайшоў у дзьверы разам з Інэсай Драбышэўскай і Аляксандрам Лукашэнкам. Лукашэнка якраз у гэты час ужо зразумеў, што справа йдзе да абʼяўленьня незалежнасьці і голасна адмовіўся ўдзельнічаць у сэсіі (адлюстравана ў стэнаграме). Ён прагаласаваў толькі адзін раз супраць парадку дня сэсіі і, выступіўшы сумніўна аб суверэнітэце, больш не рэгістраваўся і не выступаў (гэта значыць, фармальна адсутнічаў на сэсіі, каб ня быць прыналежным да яе рашэньняў).

Кур'ёз яшчэ і ў тым, што пазьней, гадоў праз 10, падлыжныя журналісты, успомніўшы гэты эпізод з Кавалёнкам, напісалі, што Лукашэнка быццам бы ўнёс разам зь ім у парлямант сьцяг незалежнасьці. Магчыма, журналісты "чэсна" хацелі дагадзіць узурпатару, але атрымалася глупства, бо ўсім вядома, як дэпутацкая Апазыцыя БНФ увайшла ў залю зь Бел-Чырвона-Белым Сьцягам на адкрыцьцё Сэсіі (Сьцяг было даручана несьці Галіне Сямдзянавай).

Дэманстрацыя патрыятызму і адзінства з БНФ у рэвалюцыйным 1991-м не перашкодзіла, аднак, Кавалёнку пазьней (калі зьмянілася сытуацыя і пачалася рэстаўрацыя намэнклятурнай рэакцыі) гэтак жа голасна заявіць у Вярхоўным Савеце, што БНФ – гэта "фашызм", а франтаўцы – "фашысты", сарваўшы бурныя апладысменты камуністычнай намэнклятуры.

Філіпікі супраць Фронта былі выкліканыя тым, што Кавалёнак пасьля 1991-га прыняў расейскае грамадзянства, жыў у Маскве, у Вярхоўным Савеце Беларусі не зьяўляўся. Гэта супярэчыла Канстытуцыі краіны (і, дарэчы, прыстойнасьці). Дэпутаты Апазыцыі БНФ, згодна закону, запатрабавалі ад яго скласьці паўнамоцтвы народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь. Пасьля гэтага Кавалёнак назваў франтаўцаў "фашыстамі". *("Сэсія Незалежнасьці",-- Варшава -- Нью Ёрк – Вільня, 2011, стар. 8).* Яму вельмі хацелася жыць за мяжой (у Маскве) і лічыцца дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі. Не удалося.

Памятаю яго цьвёрды пафасны голас у самы мікрафон. Ён казаў тое ж самае (па той жа схеме), што і цяпер. Аб тым, што ён, маўляў, памыляўся, "не разглядел", і цяпер толькі ўбачыў, што БНФ – гэта сапраўдны "фашызм".

Тут удакладню, што камуністы (як, зрэшты, усе левакі) у палітычнай барацьбе ўсё, што нацыянальнае і што было супраць камунізму і СССР, называлі "фашызмам". Гэта рабілася сьведама, каб напалохаць іншых. Свой выбар наш касманаўт зрабіў яшчэ тады. Ён убачыў, што йдзе адкат, вяртаюцца бурбоны, мацнее КГБ, узвышаецца Расея, а БНФ да ўлады не прышоў. То, згодна ягонай практычнай пазыцыі, які сэнс за гэты Фронт трымацца. У Маскве чакала яго добрая пэнсія, ганаровая пасада, захаваньне ўсіх рэгалій, выдатная "жылплошча" і бестурботны, важны спосаб існаваньня. Прапанавалі расейскае грамадзянства. Што яшчэ трэба савецкаму сялянскаму сыну, вучню савецкай сярэдняй школы, які дамогся ўсяго сваім характарам, розумам, настырнасьцю і "ўменьнем жыць". Ідэалы – гэта для "бэнээфовцев".

І гэта амаль што праўда. Адны беларусы, ахвяруючыся, зьмяняюць абставіны ў грамадзтве, іншыя – скарыстоўваюць становішча. І адны, і другія могуць быць эмігрантамі: эмігрантамі дабрабыту, як Кавалёнак, і эмігрантамі ідэі, уцекачамі ад рэжыму, ад сьмерці і турмы.

Касманаўт Кавалёнак цяпер пацьвердзіў свой практычны выбар, які даўно ўжо стаўся ягоным статус-кво. Ён, на жаль, тыповы для шмат якіх беларусаў. Гэтак жа, як таксама тыповы і дыяметральна супроцьлеглы ідэйны выбар Сяргея Каваленкі – ахвяраваньне сабой за Сьцяг. Толькі адных – шмат, другіх – мала. І ў гэтым бяда.

Некалькі словаў пра сутнасьць савецкай прапаганды, якая зьневажала нацыянальныя сымвалы за тое, што беларусы шанавалі іх пад нямецкай акупацыяй.

Немцы афіцыйна не дазволілі Беларускі сьцяг (гэтак жа, як і агульнаадукацыйнае беларускае школьніцтва, дазволена было толькі профільнае навучаньне), але (у значнай ступені дзякуючы пазыцыі В. Кубэ) глядзелі на дэманстрацыю беларускай сымволікі скрозь пальцы (і агульнаадукацыйная школа беларуская за немцамі таксама дзейнічала, нягледзячы на інструкцыі акупантаў).

Па апавяданьнях відавочцаў, у 1941 годзе былі выпадкі, калі беларускія сяляне, загнаныя ў калгасы і абрабаваныя пад савецкай акупацыяй, сустракалі немцаў кветкамі

як вызваліцеляў ад бальшавікоў. Тым часам не зафіксаваны нідзе ні адзін выпадак, каб немцаў сустракалі зь Беларускім сьцягам. Але нават, калі б насуперак лёгіцы такое недзе здарылася б, -- яно ня мела б ніякага ацэначнага значэньня для нацыянальнага сьцяга, пад якім у Эўропе дзейнічалі розныя палітычныя групы: і тыя, што ваявалі супраць немцаў, і тыя, што зь імі супрацоўнічалі (у тым ліку і РОА расейскага генэрала Уласава). Фецішызацыя нянавісьці была прыдумана рускімі бальшавікамі дзеля апраўданьня палітыкі рэпрэсій і генацыду. Быў складзены шэраг прадметаў, сымвалаў, асобаў і нават слоў, ужываньне якіх пагражала пакараньнем і турмой.

Асяроддзе, у якім апынуўся цяпер генэрал Кавалёнак у Маскве, відаць, такое самае, у якім ён вырас у СССР. Бо тое, што ён сказаў для радыё Свабода – гэта ёсьць саветчына часоў Сталіна, рэліктавы камунізм, які рэанімавала гэбісцкая ідэалёгія. Таму зьнявага Сьцяга ў вуснах Кавалёнка цяперашніх беларусаў моцна абурыла й зьдзівіла. Асабліва ўлічваючы, што другі беларус – Сяргей Каваленка – трымае жорсткую галадоўку, церпіць у турме, пратэстуе і гатовы ахвяравацца за гэты Сьцяг жыцьцём.

Выглядае, што розум касманаўта затрымаўся ў часе. Шкода, вядома. Ня ён адзін. І выправіць гэта можа радыкальна толькі сам няўмольны час.

Прыклад з касманаўтам Кавалёнкам вымоўна паказаў, што людзі, якія не дарасьлі да нацыянальнага думаньня, да ўсьведамленьня Нацыянальнай ідэі і нацыянальных інтарэсаў, такія людзі нацыянальнымі палітыкамі ня робяцца і ў нацыянальную асобу не вырастаюць.

Мала быць беларусам па паходжаньні, трэба стацца грамадзянінам нацыі, яе прадстаўніком, беларусам па духу, чалавекам беларускай волі і абавязку перад краінай, мець адказнасьць перад людзьмі.

*3 сакавіка 2012 г.* **Зянон ПАЗЬНЯК**

# ДА ПЫТАНЬНЯ ПРА ЗЛАЧЫНСТВА І ПАКАРАНЬНЕ

## Кара за сьмерць

У канцы 2011 года ў Менску адбываўся судовы працэс над спраўцамі выбуху ў Менскім мэтро, які прагрымеў 11 красавіка 2011 года. Загінулі 15 чалавек, 385 паранена. Гэтае вялікае няшчасьце не было належным чынам адзначана рэжымам акупацыйнай улады. Нават прозьвішчы загінулых сьцерліся ў грамадзтве. Затое ва ўсіх на слыху прозьвішчы спраўцаў забойства. Такі перакошаны інтэрас зьвязаны з дрэнным вядзеньнем суда, з сумненьнем грамадзтва ў самастойнасьці забойцаў і, галоўнае, -- з падазрэньнем, што тэракт арганізавалі самы рэжымныя ўлады пры дапамозе Масквы і нават зь ведама Лукашэнкі.

Сумніўныя дзеяньні сьледзтва і суда ў гэтай справе выклікалі россып людзкіх эмоцый і меркаваньняў часам разумных і аргумэнтаваных, часам безадказных, непрадуманых і павярхоўных (некаторыя нават пачалі шкадаваць тэрарыстаў). Шумна ўзбудзілася лібэральная Эўропа са сваімі збочанымі паняцьцямі аб забароне сьмяротнага пакараньня. Урадавая эўралібэралы ўсіх масьцяў ўбачалі нагоду пагаварыць пра каштоўнасьць жыцьця забойцаў і адмену сьмяротный кары. Нешта мы ня чулі ў іх такога ажыятажу і шкадаваньня, калі 11 красавіка зь менскага мэтро выносілі акрываўленых людзей, прыгожых, прыгожа апранутых маладых жанчын з адарванымі канечнасьцямі, ці калі праз дзьве гадзіны пасьля выбуху Лукашэнка спусьціўся з сваім пазашлюбным дзіцем ў мэтро аглядаць непакрытая трупы.

Загадкавасьць тэракту ў мэтро, незавершанасьць сьледзтва тэндэнцыйнасьць, сьпешка і павярхоўнасьць суду -- відавочныя. Пасьпешнасьць вынясеньня вышэйшай меры пакараньня (нібы па заказу) таксама відаць. Уплыў узурпатара на сьледзтва і суд таксама зафіксаваны. Але хто стаіць за гэтым выбухам – невядома. Матывцыя тэракту таксама невядомая. Усё гэта вельмі нетыпова. Прысуд, аднак, застаецца ў сіле пры ўсёй рацыі грамадзкасьці і апанэнтаў. Ёсьць адпаведныя законы і працэдуры, за якія суд і рэжым будуць фармальна трымацца. Шмат хто мяркуе, што судом створана заведамая і, хутчэй за ўсё, матываваная памылка. Механізму, каб яе спыніць ці хаця б затармазіць, не існуе (акрамя памілаваньня асуджаных, вышэйшай службовай асобай, што вельмі суб’ектыўна і ніяк не рэгламэнтавана).

Тут мы назіраем першы выпадак выкарыстаньня антыбеларускім рэжымам сьмяротнага пакараньня праз суд дзеля схаваньня (як я мяркую) праваленых палітычных планаў.

Гэта ўскосна пацьвердзілася ў сярэдзіне сакавіка 2012 года, калі прысуд быў выкананы. Адзін са злачынцаў (напарнік тэрарыста, які ведаў, садзейнічаў злачынству і не паведаміў уладам пра яго падрыхтоўку) на судзе адмовіўся ад часткі паказаньняў і сцьвярджаў пра хлусьню ў абвінавачваньні. Пасьля прысуду ён напісаў ўзурпатару прашэньне аб памілаваньні. Гэтае прашэньне, складзенае негалоўнай злачыннай асобай, зрабілася нібы тэстам на прыналежнасьць улады рэжыму да выбуху у мэтро. Шмат хто меркаваў, што асуджанаму заменяць «вышку» на «пажыцьцёўку». Гэтага вымагала і сытуацыя з шматлікамі невядомымі. Тут магла б быць адтэрміноўка прысуду. Ды ці мала што магло б быць у такім дзіўным і нетыпавым выпадку. Шмат залежыла ад суду і ўлады.

Але спадзяваньні былі марнымі. Узурпатар нічога не зьмяніў. Прысуд выканалі імгненна. Фактычна быў зьнішчаны чалавек, які мог бы стаць сьведкам пры перакваліфікацыі справы, калі б адчыніліся новыя абставіны (а яны адчыніліся б). Усе зразумелі, што антыбеларуская ўлада хавае канцы ў ваду. І шмат каго тое шакавала.

Зрэшты, за 18 гадоў цемры некаторыя людзі так і не зразумелі, што за мярзотны тыпаж кіруе краінай. Адправіўшы на сьмерць сумніўнага тэрарыста (Кавалёва), якому цалкам аргумэнтавана мог зьмяніць пакараньне, захаваўшы жыцьцё, узурпатар пасьля экзэкуцыі выказаў жаль і спачуваньне яго маці ў сувязі з расстрэлам сына. Вы чулі калі-небудзь такое? Вось гэта і ёсьць яго крымінальны «кайф» адчуваньня ўлады – паводзіны з асаблівым садызмам.

Адначасна пачаўся новы этап лібэральнага ляманту аб адмене сьмяротнай кары і абароне жыцьця злачынцаў. Для лібэралістаў зноў узьнікла нагода пашумець супраць сьмяротнага пакараньня забойцаў людзей, блытаючы і валячы ўсё ў адну кучу. Таму адразу ставім кропкі над «і».

Прысуд менскім тэрарыстам зададзены зьверху, судова павярхоўны, фармальны, пасьпешны, і ўсебакова не абгрунтаваны. Не раскрытая матывацыя забойства. Хуткае выкананьне такога прысуду выглядае на заказное палітычнае забойства сьведак арганізацыі тэракту. У будучыні пры выяўленьні сапраўдных акалічнасьцяў тэракту ў Менскім мэтро арганізатары массавага забойства людзей павінны быць пакараныя сьмерцю згодна закона і па рашэньні суда, а сьледчыя, суддзі і пракурор, што адправілі двух злачынцаў на расстрэл, не высьветліўшы ўсіх акалічнасьцяў злачынства, павінны будуць пайсьці пад суд, як саўдзельнікі ў злачынстве. Ужо аднаго гэтага дастаткова, каб спыніць ўсялякія размовы пра мараторый на сьмяротнае пакараньне. Судзіць іх будзе не Гаага (яна «насудзіць»), а мы, беларусы. Вышка забойцам народа павінна быць забясьпечана.

На гэтым тэму выбуху ў Менскім мэтро мы пакінем і пагаворым пра пытаньні агульнага кшталту, на якіх цяпер паразітуе пэўная катэгорыя «сучасных», як яны сябе называюць, людзей.

* * *

У мяне склалася ўражаньне, што і планаваньне выбуху 19-га сьнежня ў тлуме людзей у час мітынгу на Цэнтральнай плошчы Менска (пра што 11 сьнежня 2010 года прагаварыўся сп. Макей), і пераарыентацыя дэманстрантаў на плошчу Незалежнасьці, і напад на Ул. Някляева, і біцьцё вокан у Доме ўраду, і пабіцьцё людзей 19-га сьнежня на плошчы Незалежнасьці, і выбух у мэтро 11 красавіка – усё гэта фрагмэнты аднаго антыбеларускага палітычнага плану. Нешта ўдалося, нешта – не, нешта правалілася (як выбух у мэтро) і выклікала нечаканы эфэкт для рэжыму. Больш глыбокае раскрыцьцё арганізацыі тэракту ў менскім мэтро магло б даць ключ для выяўленьня зьместу ўсіх апошніх падзей і ўсёй гэтай антыбеларускай палітыкі.

Менскі працэс, як ўжо адзначана, даў нагоду узьняць голас прыхільнікам адмены сьмяротай кары. Сытуацыя няпростая, бо ўзьнікла палітычная патрэба ў мараторыі (інструмэнт сьмяротнага пакараньня ў руках антынароднага рэжыму – небясьпечная зброя). Выказваньні, аднак, часьцей за ўсё гучэлі безадказныя і паўтараліся непрыймальным спосабам – шкадаваньнем злачынцаў. Ёрніцтва ў гэтай сур'ёзнай справе часам не мела мяжы. "Ці чалавечае жыцьцё каштоўней за жаданьне помсьціць?" – лёгка пытаецца ў чытачоў адно выданьне. Падмена адкрыта подлая. Аказваецца справа тут не ў справядлівасьці, не ў абавязковам, няўхільным і адэкватным пакараньні зла, а ў помсьце. І такі ўзровень "паняцьцяў" шмат дзе.

Зыходзіць трэба, аднак, з рэальнай сытуацыі, з правоў асобы і грамадзяніна, бясьпекі грамадзтва і ролі дзяржавы ў забесьпячэньні гэтых каштоўнасьцяў. Цалкам пазбавіцца ад крымінальных забойстваў у грамадзтве, немагчыма. Гэта абумоўлена канвергентнай прыродай чалавека (зьмяшаньнем розных магчамасьцяў дабра і зла). Пакараньні сьмерцю былі, ёсьць і будуць. Гэтак жа, як пэрыядычна ўзьнікаюць і будуць узьнікаць злачынствы супроць чалавецтва. Грамадзтва будзе змушана абараняцца. У пэўных абставінах спыніць сістэмныя антычалавечыя злачынствы можа толькі сьмяротнае пакараньне. І яно будзе ўведзена і скарыстана. Вопыт тут велізарны.

Цалкам пазьбегнуць кары сьмерці і зьнішчэньня злачынцаў (як некаторыя хочуць) бяз шкоды для грамадзтва і пацярпелых асобаў – не атрымаецца ў прынцыпе. Лагічна тым часам дамагацца жорсткай кадэфікацыі і працэсуальнай рэгламэнтацыі гэтай меры, стварэньня спэцыяльных судоў, прыняцьця адпаведных законаў і выработанай працэдуры, якая прадугледжвала б унікненьне ад судовых памылак.

Пра пажыцьцёвае зьняволеньне замест сьмяротнай кары ўжо было патлумачана. Яно можа практыкавацца там, дзе гарантавана няўхільнасьць пакараньня і кантроль за выкананьнем. Ня кожная краіна можа тое забясьпечыць.

***У зьвязцы “злачынства і пакараньне” існуе толькі адно забойства – забойства нявінных людзей бандытам. Сьмяротнае пакараньне забойцы па суду ня ёсьць парушэньнем Запаведзі, але сцьвярджэньнем яе праз пакараньне таго, хто яе парушыў.***

Патрабаваньне кары сьмерці за забойства людзей вынікае з усьведамленьня ўнікальнай каштоўнасьці чалавечага жыцьця, загубленага злачынцам. Ужо ня раз адзначалася, што ў мала цывілізаваных народаў спрэс была кара сьмерці за шмат што, толькі, як правіла, не за забойства чалавека. З ростам каштоўнасьці асобы ў грамадзтве ўзрасло і пакараньне.

Да апошняга часу ў сутыкненьні калізіі “злачынства і пакараньне” існаваў катэгарычны імпэратыў справядлівасьці. Грамадзтва шкадавала і спачувала забітым пакутнікам, асуджала забойцаў і патрабавала справядлівай кары (справядлівасьці). На гэтым грунтавалася права. Грамадзтва было на баку невінаватых і пацярпелых і не падтрымлівала злачынцаў.

З цягам лібэральных экспэрымэнтаў у праўнай сфэры за аплшнія 50 гадоў (што па сутнасьці зьяўляецца праявай глыбінных працэсаў маніфэстацыі зла) адбываецца зьмяшаньне паняцьцяў ня толькі ў юрыспрудэнцыі, але і ў галовах людзей, якія па-свойму ўспрымаюць лібэральную ўсёдазволенасьць.

Ня буду апісваць у гэтым сэнсе абсурды заходняй (і асабліва амэрыканскай) судовай сістэмы. У Беларусі пра гэта мала ведаюць, а калі пачуюць, то не паверацы (не ўкладзецца ў галаве). Сутнасьць маіх разваг у тым, што ў будучай вольнай Беларусі ў судовай тэорыі і практыцы мы павінны будзем пакінуць усё добрае, што было ў нас, узяць лепшае з таго, што на Захадзе, але пазьбегнуць праўнага маразму кшталту, калі бандыт судзіць пацярпелага, а грамадзтва абараняе жыцьцё ворага чалавецтва.

* * *

Асобнай рэмаркай адзначу цяперашнюю пазыцыю хрысьціянскай рэлігіі. Рэдукцыя поглядаў асобных дзеячоў Царквы перад агрэсіяй зла і вымогамі сучаснага сьвету відавочная. Адной з прыкметаў рэдукцыі некаторыя лічаць таксама заклікі да

адмены сьмяротнага пакараньня злачынцы. Але папрокі царкве тут былі б перабольшаньнем. Такая пазыцыя ў Хрысьціянства была заўсёды, іншае ніколі не артыкулявалася, нават у часы Інквізыцыі, калі Касьцёл, засланіўшыся сьвецкай уладай, быў ініцыятарам шматлікіх судовых пакараньняў на сьмерць (і зусім не за забойствы).

Нельга блытаць прычыны і вынікі і імкнуцца рабіць тое, чаго рабіць ня трэба. Гадоў 30-40 таму ў Амэрыцы лібэральны псэўдагуманізм і шкадаваньне злачынцаў даходзілі да таго, што ў некаторых штатах бандытаў і злодзеяў "ачалавечвалі" тым, што адпускалі іх з турмы на суботу і нядзелю дадому, да жонак і дзяцей (маўляў, усе ж яны людзі). За гэты час тыя "людзі" пасьпявалі ня толькі аддубасіць жонак, але яшчэ і ўкрасьці, і таго-сяго зарэзаць, пасьля чаго спакойна вярталіся ў турму, дзе іх напачатку ніхто не шукаў. Зразумела, што тут ня трэба было рабіць ніякіх праўных экспэрымэнтаў, акрамя як мець нармальныя мазгі ў галаве, не засьмечаныя памылковымі ўяўленьнямі.

Мне прыходзілася чытаць пра адну веручую фраў, якая ўвесь час малілася за ўратаваньне душы Адольфа Гітлера. Маліцца за душы грэшнікаў не супярэчыць Хрысьціянству. Тут выяўляецца метафізічнае ўяўленьне і веліч Хрысьціянскай рэлігіі. Але той, хто паспрабаваў бы знайсьці форму і перавесьці гэтыя адносіны ў соцыюм, у грамадзтва (прасіць дараваньня Гітлеру, напрыклад, ці адмовіцца ад Нюрнберга), той трапіў бы пад суд, ня гледзячы на ўсю ўяўную аргумэнтацыю яго меркаваньняў. Так што: Богу -- Богава, каралю -- каралёва.

## Аб значэньні слоў

Усялякая ідэя, калі яна накіравана ў грамадзтва і ўспрынята ім, мусіць мець механізм ажыцьцяўленьня, а механізм -- валодаць праўнай працэдурай (ці традыцыяй, калі права не існуе). Запаведзь "не забівай" мусіла мець механізм закона, які прадугледжвае кару. Без кары зло робіцца нормай, і запаведзь ня мае сэнсу. Калі кара неадэкватная (заніжаная), ацэнка ўзроўню злачынства таксама зьніжаецца, стрымліваючы фактар зьмяншаецца. Адпаведна зьмяншаецца і каштоўнасьць чалавечага жыцьця.

Гэта ёсьць заканамернасьці, якія абавязкова маюць канкрэтнае выяўленьне. На жаль, шмат хто ня хоча таго ўспрыняць. Кажучы папулярна, не ўяўляе, як тэорыя канкрэтызуецца ў практыцы.

У гэтым шэрагу стаіць ерась (кажучы мовай гісторыі) аб тым, што судовая кара за злачынства забойства чалавека ёсьць таксама забойства. Тут – падмена паняцьцяў, якая абапіраецца на фармальную логіку і нясьпеласьць маральных каштоўнасьцяў асобы. Гэтае сцьвярджэньне дызарыентуе людзей.

***Вынікам такой папраўкі ў сьвядомасьці (калі яна замацавалася ў асяроддзі) стане ўраўніваньне злачынства і пакараньня. Гэта адчыніць і спрастае дарогу злу. Такім чынам робіцца першы крок, які змушае грамадзтва шкадаваць і нават не караць забойцаў на падставе інфантыльнага разуменьня дабра.***

Вось тыповы выпадак, які адбыўся ў сярэдзіне сьнежня 2011 года ў фламандзкім горадзе Люціху (Льеж). Забойца (арабскі тэрарыст) закідаў гранатамі людзей на прыпынку аўтобуса ў цэнтры горада і страляў па іх з аўтамата. Трох забіў, дзясяткі цяжка параніў. Злачынцу злавілі. Аказалася, што раней у яго ў доме знайшлі цэлы склад зброі і амуніцыі (9800 адзінак). Як і належыць, яго судзілі і пасадзілі на

некалькі гадоў у турму. Але потым, праз год, вырашылі, што ён жа чалавек добры, небясьпекі для грамадзтва не ўяўляе і – выпусьцілі на волю.

Першым чынам “добры чалавек” забіў суседку, а потым пайшоў кідаць гранаты ў людзей. Такія “судовыя “ вынікі ў гэтым левым сьвеце не выключныя і ня рэдкія. Гэта на Захадзе – звычайны маразм.

***Падмена паняцьцяў ў лібэральным грамадзтве вынікае не з судовых памылак, не з хібаў аналізу, не з павярхоўных ацэнак фактаў. Тут выяўленьне сьветапогляднай тэндэнцыі легалізацыі зла.***

У грамадзтве, дзе ўжо легалізавалі збачэнствы і садомію, адбываецца сацыяльнае афармленьне такой легалізацыі пад выглядам “правоў чалавека”. Прызнаецца права “дрэні” нароўні з дабром, што вядзе да панаваньня зла. У Расеі, напрыклад, права “дрэні” сцьвярджаецца зараз праз папулярызацыю злачыннага сьвету. Гэты накірунак мас-культуры вядзе да дэкляраваньня права на крымінальнае злачынства як чарговага “права чалавека”. Нешта падобнае ў Расеі ўжо было. Крымінальную ідэалёгію сцьвердзілі і рэалізавалі бальшавікі як дзяржаўную палітыку, вынішчыўшы пры гэтым лепшых людзей.

Ахова чалавечага жыцьця вынікае з духу Эвангельля. Але нідзе не гаворыцца там аб адмене кары сьмерцю за забойства. Стары Запавет у гэтым сэнсе не адменены, але сцьверджаны. У Новы Запавет прыўнесена міласэрдзе Боскае і ахвяра Хрыста за збаўленьне людзей, але кажацца, што ніводнае слова, ні адна літара ня зьнікне з Закону і спраўдзіцца ўсё.

## Псэўдагуманізм і мэта

Пазыцыя людзей, якія выступаюць у абарону жыцьця злачыннага забойцы і называюць пакараньне сьмерцю за забойства забойствам, павярхоўная і ў прынцыпе – не рэальная. Якая кара магла быць для Саддама Хусэйна – гвалтаўніка і забойцы тысячаў людзей, які трымаў у руках дзеля гэтага найстрашнейшую зброю – абсалютную ўладу? Пажыцьцёвае зьняволеньне?! Але непакараньне яго сьмерцю прывяло б да яшчэ большых забойстваў – зь яго зрабілі б бандыцкі сьцяг фанатыкаў, тэрарыстаў і галаварэзаў. Яны (і ня толькі яны) трымалі б яго за “героя”, зрабілі б “сьвятога пакутніка”, як камуністы зрабілі гэта з бандыта Чэгевары. Хіба мала ў гісторыі такіх крывавых “сьвятых”, асьвечаных антычалавечымі рэжымамі пры дапамозе ідэалогіі і прапаганды?

Цяпер – Бін Ладэн. Тут была, фактычна, вайна з Амэрыкай, і яго зьнішчылі ў выніку ваеннай апэрацыі. Але калі б Бін Ладэна ўзялі жывым, то што павінен быў бы прызначыць суд, якое пакараньне? Пажыцьцёўку? Дзякуй Богу, амэрыканцы яшчэ не развучыліся цьвяроза думаць і не зрабілі памылкі (нават маючы дэмакратычную адміністрацыю, якая схільная да адмены сьмяротнай кары).

Ёсьць людзі, што абараняюць жыцьцё крымінальных забойцаў зусім не ад памылак у логіцы, з-за недасьведчанасьці, безадказнасьці ці недахопу ведаў. Тут, паўтаруся, пазыцыя (найчасьцей несьвядомая) патураньня злу, уляганьне фальшывым тлумачэньням, згодніцтва з фальшывым гуманізмам з прычыны адсутнасьці справядлівых маральных каштоўнасьцяў у сьведамасьці гэтых людзей.

* * *

Існуе цесная карэляцыя паміж тымі, хто супраць сьмяротнай кары і шкадуе злачыннае жыцьцё забойцаў і тымі, якія выступаюць за аборты (за права на аборты, за законнае замацаваньне права на аборты і т. п.). Фактычна, гэта адны і тыя ж людзі. На першы погляд, тут парадокс: адны і тыя ж адначасна выступаюць за захаваньне жыцьця крымінальнага забойцы і за забойства яшчэ не народжанага чалавека.

Але парадокс тут толькі на першы погляд, калі не прымаць пад увагу сэнс і паводзіны зла, яго барацьбу з дабром (на справе – з родам чалавечым). У першым выпадку дэмагагічна спасылаюцца на права ўсіх людзей (а значыць і забойцы) на жыцьцё. У другім – спасылаюцца на права жанчыны самой вырашаць: нараджаць, ці не (гэта значыць, даць жыцьцё ненароджанаму, ці ня даць). Тым часам ***нараджэньне чалавека ня ёсьць права жанчыны, але выключны яе абавязак, ускладзены на яе Богам і прыродай. Права нарадзіцца мае дзіця, што ў жываце маці. Жанчына паклікана ажыцьцявіць, выканаць яго права.*** І гэта ёсьць унівэрсальнае права жыцьця. Бязбожныя прапагандысты абортаў тут ужо да рэлігіі не зьвяртаюцца (бо там сказана: “не забівай”).

Філасофія і рэлігія даюць адказ, калі пачынаецца чалавек. Самая старажытная мудрасьць – кітайская – асэнсавала гэта шмат тысячаў гадоў таму: чалавек пачынаецца ў момант зачацьця (тады, калі пляменьнік злучаецца з яйкаклеткай). У гэты час даецца праграма (душа) новаму жыцьцю, якое пачынае разьвівацца.

У Бібліі канкрэтна кажацца пра чалавека ва ўлоньні маці. Ужо там, ва ўлоньні, жыве душа. Ненароджаныя людзі, выкінутыя пасьля аборту ў сьмецьце, каналізацыю, нечыстоты – гэта адрынутыя душы, якіх пазбавілі жыцьця ў целе, змарнавалі іхняе існаваньне.

Вядома, для некаторых лепш бы, каб гэтага нічога ня ведаць, ня чуць, ня верыць і думаць, што Бога няма. Тады можна звольніцца ад сумленьня і нічым не праймацца. Але ці звальняе гэта чалавека ад адказнасьці перад Богам? Тут нават прырода карае за парушэньне яе законаў.

Пры праўным афармленьні такога стану рэчаў у сацыяльна-прававым полі, у сфэры заканадаўства ўзьнікаюць выключэньні, калі спыненьне нараджэньня дзіцяці можа быць дазволена законам. Напрыклад, цяжарнасьць пасьля згвалтаваньня, дыягностыка нараджэньня скалечанага ва ўлоньні маці немаўляці, страшныя хваробы зь якімі чалавек ня можа выжыць і існаваць. Заканадаўцам тут трэба сто разоў падумаць, перш чым сфармуляваць заканадаўчае рашэньне. Яно мусіла б быць прынята дзеля захаваньня гонару, годнасьці і здароўя жанчыны і, улічваючы прыярытэт таго, хто павінен нарадзіцца.

З пункту гледжаньня рэлігіі, нараджацца павінна ўсё, што зачата. Выключэньні ў сацыяльным заканадаўстве часта зьвязаны (сьведама ці ня сьведама) з нежаданьнем грамадзтва (альбо ўлады) альбо з няздольнасьцю грамадзтва стварыць сістэму сацыяльных інстытутаў, якія апекаваліся б такімі нежаданымі і нездаровымі дзецьмі.

Чым забіваць, лепш нарадзіць. Згвалтаванай асобе і з фізіялагічнага, і з рэлігійнага боку ў пераважнасьці выпадкаў больш правільна нарадзіць і аддаць дзіця ў прытулак, у кляштар ці дзіцячы дом (такія інстытуты павінны быць у грамадзтве). Аднак, фармальна, зыходзячы з сацыяльнай логікі і ўлічваючы псіхалогію кабеты, тут павінна быць пакінута ёй права выбару. Згвалтаваньне ёсьць найвялікшае злачынства супраць жанчыны – растаптаньне яе чалавечага гонару, ўраза псіхікі і здароўя. І калі яна ня зможа пераступіць праз зьнявагу і нарадзіць, закон павінен даваць ёй

магчымасьць выбару. Гэта значыць пакінуць ёй Божы суд і не судзіць чалавечым там, дзе зьява вышэй чалавечага разуменьня.

Тое ж самае адносіцца да скалечаных дзяцей, інвлідаў ад нараджэньня. Раней (ды і цяпер у асобных мясьцінах) імі апекаваліся ў асноўным кляштары. У Беларусі сістэма дзіцячых дамоў была створана яшчэ за саветамі. Яна дзейнічала бедна, але даволі спраўна. Тым больш, што беларусы, якіх напаткала няшчасьце і ў якіх зьявіліся дзеці-калекі, не імкнуліся аддаць іх у “дзет-дом”, як правіла, гадавалі самы. Хіба што догляд быў немагчымым і пагражаў жыцьцю дзіцяці.

У 90-х гадах Беларускі Народны Фронт праз свае арганізацыі апекаваўся такімі прытулкамі і дзецьмі (дастаўляў лекі, сродкі, медыцынскае абсталяваньне). Мне прыходзілася разам зь іншымі фронтаўцамі неаднаразова бываць у такіх установах у Менску, Салігорску і іншых месцах.

Увогуле, пытаньне гарантаванага захаваньня пачатага жыцьця ня ёсьць вялікай сацыяльнай праблемай. Сістэму захаваньня можа стварыць нават небагатая краіна – усё залежыць ад грамадзкіх установак, ад рэлігійнасьці і маральнасьці людзей.

Трэба ўлічыць, што ў большыні краінаў сьвету (асабліва ў Азіі і Афрыцы, і там, дзе дзяржаўныя законы пагрунтаваныя на рэлігійных палажэньнях) пытаньня аб абортах, фактычна, не існуе. Яно ўзьнікае як праблема на піку барацьбы з рэлігіяй у вольным хрысьціянскім сьвеце. Лібэралізм у культуры (сацыяльны лібэралізм, лібэральны сацыялізм і г. д.) зьяўляецца цяпер той ідэалягічна сфармаванай атэістычнай сілай, якая змагаецца з Хрысьціянствам шляхам падмены каштоўнасьцяў (гэтак жа, як і камунізм). Ідэалягічная база Хрысьціянства – гэта дзесяць Божых Запаведзяў і вера ў Ісуса Хрыста. Ідэйная база лібэралізму – гэта рэлятывізм, свабода асобы і расплывістыя паняцьці правоў чалавека.

Мэтода лібэральнай падмены паняцьцяў і слоў прыводзіць (і ўжо прывяла) да абсурдных, фантасмагарычных зьяў, якія адлюстраваныя ў ня менш фантасмагарычных законах. Заходняе грамадзтва дызарыентаванае прымітыўнай і агрэсіўнай лібэральнай прапагандай. У выніку людзі там ужо пачынаюць блытацца і неадэкватна ацэньваць элемэнтарныя рэчы і зьявы, засвоеныя вопытам і традыцыямі чалавецтва (адносіны да жывёлаў, разуменьне псіхалогіі дзяцей, значэньне сям’і, роля жанчыны ў жыцьці грамадзтва, значэньне шлюбу і г. д.). Увядзеньне ў заканадаўства нясьпелых паняцьцяў аб маралі і правах з думкай пра волю і нібыта свабоду асобы (насуперак Божым Запаведзям) прыводзіць на практыцы да жудаснага расчалавечваньня асобы і грамадзтва, да выпадкаў, у якія чалавеку беларускай культуры цяжка паверыць.

* * *

Патрабаваньне адмены сьмяротнага пакараньня для крымінальных забойцаў падаецца лібэральнымі палітыкамі як клопат пра жыцьцё чалавека ўвогуле. Тое, што гэты тэзіс фальшывы, відаць адразу. Асабліва калі параўнаць яго з пазыцыяй гэтых жа людзей у прапагандзе абортаў – забойства ненароджаных.

Пераклікаецца такая пазыцыя таксама з адносінамі да эўтаназіі (яшчэ адна прыдумка лібэральнага розуму) з ідэяй клянаваньня жывых істотаў (і чалавека) і іншымі прыёмамі ўмяшаньня ў жыцьцё, якія ў лібэральным сьвеце, рана ці позна, становяцца таварам, сродкам для зарабляньня грошай. Праз бізнэс адбываецца легалізацыя зла. Чалавечая заганы, паскудства, брыдота, завязаныя на вострыя перажываньні, на адрэналін, палавыя (сэксуальныя) фантазіі – ўсё гэта стала прадавацца і купляцца,

стварыла агрэсіўны рынак дрэні, якая пампуе грошы і запаўняе масавую сьвядомасьць людзей.

Усе гэтыя нібыта гуманістычныя маніпуляцыі са здароўем, маральлю і жыцьцём чалавека прыводзяць да глыбокай дызарыентацыі людзей і зыходзяць з адной ідэалёгіі, сутнасьць якой (калі сфармуляваць коратка) – ліквідацыя хрысьціянскага сьвету (хрысьціянскай цывілізацыі) і рэстаўрацыя зла, таго зла, якое хрыстовая цывілізацыя загнала ў падпольле.

Першая штучная сацыяльна-палітычная структура такой рэстаўрацыі – Аб'яднаная Эўропа (Эўразьвяз). Будаўніцтва (і адначасна распад) гэтай структуры адбываюцца на нашых вачах. Зразумела, што ў канцовым выніку тое грамадзтва, той народ захавае ідэнтычнасьць і цэласьць сваёй культуры, які пазьбегне лібэральнай дызарыентацыі каштоўнасьцяў.

У нас, беларусаў, паміж Сцылай і Харыбдай, пытаньне яшчэ больш складанае. Але прынцып выжываньня той жа – пазьбегнуць дызарыентацыі, зьберагчы духоўную і нацыянальную ідэнтычнасьць, культурнае адзінства нацыі.

*26 сьнежня 2011 г.; 22 сакавіка 2012 г.* Зянон Пазьняк

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

У беларусаў ёсьць тры скарбы, якія вызначаюць іхняе існаваньне ў сьвеце: **беларуская мова, незалежнасьць (незалежная дзяржава) і гісторыя (гісторыя культуры)**. На гэтых трох кітах трымаецца беларуская нацыя.

Незалежнасьць дае магчымасьць рэалізавацца мове, культуры і асобе як носьбіту гэтай мовы й культуры.

Незалежнасьць дае магчымасьць людзям працаваць на сябе і стацца заможнымі.

Незалежнасьць, як і свабода, не існуе асобна, але ў сэрцах людзей. Яе дасягаюць і маюць тыя, хто хочуць незалежнасьці.

Рэвалюцыйныя падзеі 25 жніўня 1991 года, калі незалежнасьць Беларусі была дасягнута ў выніку перамогі ў парляманце дэпутацкай Апазыцыі БНФ (і пры падтрымцы народа) над камуністычнай большасьцю, -- вымоўна пацьвярджаюць гэтую праўду гісторыі.

***21-03-2012*** Зянон Пазьняк

# СЛАВА АЙЧЫНЕ!
# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

З усіх нацыянальных сьвятаў сьвята дзяржаўнай незалежнасьці – найвялікшае. Незалежнасьць – гэта свабода нацыі. Калі свабода страчана, народ пакутуе, бо чыніцца гвалт над яго мовай, сумленьнем, культурай і працай. Гонар таму народу і людзям, якія змагаюцца за свабоду і незалежнасьць Айчыны.

Адразу пасьля нашай дзяржаўнай катастрофы ў канцы XVIII стагоддзя, калі эўра-азіяцкія імпэрыі (а дакладней, немцы і расейцы) разарвалі Рэч Паспалітую і Вялікае Княства Літоўскае, адразу нашыя продкі сталі змагацца за вызваленьне і ўзначалілі супольную беларуска-польскую барацьбу. Імёны герояў ***Андрэя-Тадэвуша Касьцюшкі***, ***Якуба Ясінскага***, ***Кастуся Каліноўскага*** шмат гавораць нам аб змаганьні за волю. Сваім прыкладам ды ідэямі яны падрыхтавалі далейшы вызвольны шлях.

25 Сакавіка 1918 года была аб'яўлена незалежнасьць ***Беларускай Народнай Рэспублікі***. Але тады нашыя продкі не пасьпелі збудаваць моцную беларускую незалежную дзяржаву, бо яна была прадэкляравана пад нямецкай акупацыяй і неўзабаве сталася акупаваная расейскімі бальшавікамі. БНР была зьнішчана расейцамі, але тактычна акупанты вымушаныя былі, у піку БНР, даць дазвол на стварэньне калябаранцкай Беларускай савецкай дзяржавы, якая была аб'яўлена камуністамі ва ўсходняй сталіцы Беларусі – Смаленску. БССР праіснавала як нацыянальна-адміністрацыйная структура СССР да жніўня 1991 года.

25 Жніўня 1991 года, дзякуючы гераічным стараньням і барацьбе ***Народнага Фронту*** і найперш дэпутацкай ***Апазыцыі БНФ*** у Вярхоўным Савеце, была аб'яўлена незалежнасьць Беларусі шляхам наданьня Дэкларацыі аб Незалежнасьці моцы Канстытуцыйнага закону. Пачалося рэальнае будаўніцтва рэальнай незалежнай Беларускай дзяржавы з усімі атрыбутамі незалежнасьці. Такі быў доўгі шлях змаганьня за незалежную Беларускую дзяржаву і волю, які расьцягнуўся на 200 гадоў гісторыі.

Цяпер, азіраючыся на гэты шлях у час, калі з-за дзяржаўных пераваротаў і ўнутранай акупацыі краіны антыбеларускім рэжымам незалежнасьць знаходзіцца пад пагрозай, мы зь вялікім шанаваньнем павінны памятаць і адзначаць усе падзеі, зьвязаныя са змаганьнем і сцьвярджэньнем нашае дзяржаўнае незалежнасьці. Гэта найперш ***25 Сакавіка 1918 года***, сьвята, якое мы адзначаем як Дзень Волі і аб'яўленьне незалежнасьці БНР. Гэта ***27 ліпеня 1990 года*** – дзень аб'яўленьня Дэкларацыі аб незалежнасьці БССР, якая была прынятая Вярхоўным Саветам у выніку ўдалага выкарыстаньня гарбачоўскай палітыкі і дзякуючы найперш рацыянальнай і ахвярнай барацьбе дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Гэта нарэшце -- вянец усіх падзей – дасягненьне рэальнай незалежнасьці Беларусі ***25 Жніўня 1991 года***. Ад гэтага часу вось ужо 21 год Беларусь існуе ў сьвеце як раўнапраўная незалежная дзяржава, прызнаная ўсёй міжнароднай супольнасьцю.

Такім чынам, гістарычна адбыліся тры падзеі, тры этапы беларускай незалежнасьці: ***25 Сакавіка***, ***27 Ліпеня*** і ***25 Жніўня***. Пры цяперашнім антыбеларускім рэжыме ніводная з гэтых датаў не адзначаецца як афіцыйнае дзяржаўнае сьвята. Больш таго, сьвяткаваньне іх, фактычна, забаронена. А спробы грамадзкасьці адзначыць гэтыя сьвяты выклікаюць супроцьдзеяньне і рэпрэсіі з боку антыбеларускай улады.

У 1990-м годзе, пасьля прыняцьця 27 ліпеня Дэкларацыі аб Незалежнасьці, намэнклятура ў Вярхоўным Савеце і камуністычная партыя БССР пагадзіліся аб адзначэньні 27 ліпеня як дзяржаўнага сьвята -- Дзень Незалежнасьці,-- успрымаючы гэта як выгадную для іх прапагандысцкую фармальнасьць (бо ніякай незалежнасьці

рэальна не было, існаваў СССР). Пасьля дасягненьня сапраўднай незалежнасьці краіны ў жніўні 1991 года дзень 27 ліпеня заставаўся дзяржаўным сьвятам яшчэ на працягу пяці гадоў. Потым яно было адменена антыбеларускім рэжымам.

Пасьля ліквідацыі антыбеларускага рэжыма (а ён будзе ліквідаваны) даты, зьвязаныя з гэтымі трыма вялікімі падзеямі Незалежнасьці, будуць аб'яўлены (у гэтым я не сумняваюся) дзяржаўнымі сьвятамі Беларусі. Прытым 25-ы Сакавік і 25-ы Жнівень як даты этапныя, паваротныя і гістарычныя будуць адзначаныя (у гэтым я таксама не сумняваюся) чырвоным колерам календара як непрацоўныя выходныя сьвяточныя дні.

Цяпер беларусы вымушаныя адзначаць свае нацыянальныя сьвяты і ўздымаць сьвятыя нацыянальныя сымвалы, фактычна, нелегальна, дзейнічаць падпольна. Але цемра ня вечная гэтак жа, як і гэбісцкая імпэрыя на ўсходзе, якой бы дзікай і жорсткай яна ні была і як бы ні падтрымлівала яна антыбеларускі рэжым. Прыйдзе, настане сьветлы час разумных, культурных, выхаваных, ветлівых людзей, адыйдзе хамства, нянавісьць, дурнота і злосьць. Сьветлыя ўсьмешлівыя беларусы запоўняць нашыя гарады, вуліцы, экран і эфір. Уся краіна будзе сьвяткаваць свой Дзень Воль і Дзень Незалежнасьці. Беларусь вернецца. Беларусь пераменіцца. Беларусь адродзіцца. Памятайма і сьвяткуйма!      Слава Айчыне!

*24 жніўня 2012 г.*                                        Зянон Пазьняк

# ВАЙНА З НАЦЫЯЙ
# І ВАЙНА З ВАР'ЯТАМ

Пачынаючы з 19 сьнежня 2010 года, антыбеларускі акупацыйны рэжым пачаў адкрытую франтальную вайну супраць беларускай нацыі. Зрэшты, яна такой была заўсёды, пачынаючы з 1994 года, толькі пры масавым асьляпленьні народа, для большасьці гэта было не відаць. Эскалацыя вайны, якая пачалася 19 сьнежня 2010 года, зрабіла многіх відушчымі.

Рэжым адкінуў цяпер усялякае дэмагагічнае прыкрыцьцё. Узурпатар выдае адкрытыя цыркуляры аб недапушчэньні распаўсюджаньня беларускай мовы, прымаецца авантурнае рашэньне (дарэчы, цалкам шызафрэнічнае па характары) аб пабудове побач зь Менскам паўтарамільённага кітайскага горада і засяленьні яго кітайцамі). Інтэнсіфікацыя па зьнішчэньні беларускай нацыі набывае новыя вар'яцкія абароты. Нянавісьць да ўсяго нацыянальнага беларускага, якая жыве ў яго цёмнай душы, пастаянна выходзіць наверх. Ён ня можа яе схаваць і пра ўсё, што для беларусаў сьвятое, ён выказваецца грэбліва і па-хамску. Але бяда ў тым, што бальшыня нацыянальна асьлепленага грамадзтва яшчэ таго ня чуе, ня бачыць, ня здольнае разумець.

Без нацыянальнай беларускай асьветы і падрыхтоўкі нармальнага пакаленьня змагацца з антыбеларускім рэжымам ня будзе каму. Задача нацыянальнай асьветы ляжыць на інтэлігенцыі, на ўсіх тых, хто разумее прычыну этнацыду.

Вынікам васемнаццацігадовай акупацыйнай цемры стала гуманітарная катастрофа Беларусі, маштабы якой імкліва пашыраюцца. Дрэнь, шэрасьць, нікчэмнасьць, дурнота і чарнота пры спрыяньні антынароднага рэжыму вылезлі на верх і захапілі ўладу ў краіне дэнацыяналізаваных людзей. Бескультур'е, хамства, усёзапаўняючая хлусьня, плебейства, нізкасьць і грубасьць нораваў, прадажнасьць і антыбеларускасьць сталі татальным абліччам улады зьверху да нізу. Гэта ўсё робіцца нормай паводзінаў у грамадзтве. Усе пытаньні імкнецца вырашаць адзін псіхічна неадэкватны, але пасьлядоўны ў нянавісьці да людзей чалавек.

У гэтых умовах змагацца за дэмакратыю пры лукашызме (як гэта раіць рабіць самазадаволеная Эўропа) тое самае, што змагацца за дэмакратыю і правы чалавека ў гітлерскім Райху (ці яшчэ горш – у Асьвенцыме). Змагацца трэба не за дэмакратыю ў гітлерскім Райху, а супраць Гітлера і гітлерскага фашызму. Трэба зьнішчыць фашызм. Пры антыбеларускім фашызме ня будзе ні Беларусі ні дэмакратыі.

Дыктатуру вар'ята падрыхтаваў акупацыйны рэжым пры падтрымцы Масквы і пры ўдзеле падстаўной апазыцыі, створанай Гансам Вікам і КГБ. (Паваротны этап – 2004 год – незаконны рэфэрэндум аб бестэрміновых паўнамоцтвах Лукашэнкі і агітацыя падстаўной апазыцыі супраць Народнага Байкоту і за ўдзел у антыканстытуцыйным рэфэрэндуме).

Некаторыя з гэтых палітычных правакатараў пасьля выбарчай афёры 19 сьнежня 2010 года незаконна сядзяць у турме ў якасьці абменнага паліттавару (з ўсім наборам турэмных зьдзекаў і прыніжэньняў; закон пры дыктатуры ня мае значэньня). Гэта ёсьць лёс усялякіх згоднікаў, падвойнікаў, грошалюбцаў і авантурыстаў у сістэме гэбоўскіх дачыненьняў. (Гэбісты пасьля выкарыстаньня "пускалі ў расход" нават сваіх вышэйшых афіцэраў, ня кажучы ўжо пра агентаў ды калабарантаў ды іншых палітартыстаў).

Зрэшты, блытаны лёс гэтых асобаў на турме, відаць, ня спыніцца. Шпіён Вік з Лубянкай загаварылі пра "беларускі ўрад у выгнаньні". На працягу доўгага часу Гэ-Бэ накоплівала на Захадзе сваю агентуру пад выглядам "палітуцекачоў" ад рэжыму, стварала "офісы за дэмакратыю", "Беларускія цэнтры" і т.п. Нарэшце, шпіён Вік падняў галаву. Ім трэба яшчэ раскалоць беларусаў на Захадзе, стварыць тут псэўдаэміграцыю і псэўдаўрад з псэўдаапазыцыяй начале. Інфантыльная Эўропа ўжо пляскае ў ладкі.

Зазначу, што нічога не атрымаецца. Гіблая справа, якую тут, за мяжой, своечасова раскусілі. І гандаль з Лукашэнкам аб вызваленьні за мяжу ягоных палітсядзельцаў скончыцца пшыкам.

Сусьветная гісторыя мае шмат прыкладаў вар'яцкіх дыктатур. Людзей цёмных і псіхічна збочаных было дастаткова ва ўладзе. Але такой улады, як цяпер у Беларусі, не было нідзе і ніколі. Яна ўнікальная не сваёй цемрай, не сваёй амаральнасьцю, не жорсткасьцю, не вар'яцтвам. Усё гэта агульныя месцы. Рэжым у Беларусі ўнікальны сваёй антыбеларускай, антынацыянальнай і антыэтнічнай палітыкай, якая заснавана на рэнегацкай нянавісьці (фобіі) адной асобы да ўсяго беларускага. Асобы – якая незаконна валодае ўсёй паўнатой абсалютнай улады.

Зьнешне гэта выглядае на нацыянальны суіцыд. Але ў сапраўднасьці гэта ёсьць праява палітыкі ўнутранай акупацыі Беларусі чужой дзяржавай. У пачатку 90-х (гэтаму я быў сьведкам) Лукашэнка ўпарта прадаваўся Маскве. І калі яна яго нарэшце купіла, ён прыняў усе яе ўмовы, дайшоў да ўлады і адчыніў дзьверы для Расеі, для яе спэцслужбаў, генэралаў, авантурыстаў, для яе русіфікацыі і палітыкі. Здраднік спадзяваўся абхітрыць маскоўскага сатану і па шклоўскай традыцыі заняць яго месца, але абхітрыў толькі самога сябе, угробіў будучыню нацыі і здаў у закладнікі сваёй улады цэлы народ.

Кожная дыктатура (неідэялагічнага кшталту) рыхтуе сама сабе магілу. Адсутнічаюць законныя магчымасьці зьмены ўлады. Рэпрэсіі і сілавы перасьлед даходзіць да кожнай канкрэтнай асобы. У гэтых абставінах адбываецца метадычнае нішчэньне нацыі і культуры. Сытуацыя ўпрашчаецца да ўзроўню ваенных дачыненьняў, бо можа быць альбо перамога, альбо параза. Трэцяга ўжо не існуе. Альбо ўзурпатар вынішчыць нацыю і ліквідуе дзяржаву, альбо нацыя знойдзе сілы і людзей, якія ліквідуюць здрадніка. Такі ёсьць аб'ектыўны стан, створаны самой уладай узурпатара.

94-я гадавіна БНР, сьветлы Сакавік хай нагадаюць нам аб нашым франтаўскім адзінстве з ідэаламі БНР, аб нязьменнасьці нацыянальных каштоўнасьцяў Беларусі, аб павазе да народу, аб традыцыях змаганьня за волю.

*18 сакавіка 2012 г.* ***Зянон Пазьняк***

# РАЗВАГІ АБ САМАСЬВЯДОМАСЬЦІ Ў ПАЛІТЫЦЫ

Нацыянальная самасьвядомасьць і яе ўвасабленьне (у лучнасьці з эканамічным і культурным інтарэсам) зьяўляецца крыніцай і галоўнай мэтай утварэньня незалежнай дзяржавы. Нацыянальная самасьвядомасьць у значнай ступені вызначае палітычную сістэму, мае ўплыў на эканоміку, культуру і сацыяльныя паводзіны. Галоўнай каштоўнасьцю нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў заўсёды былі і ёсьць: нацыянальная мова, незалежная дзяржава, гістарычная культура і грамадзкая свабода. Беларус ёсьць індывідуалістам, але змагаецца (калі змагаецца) ня толькі за сваё індывідуальнае права, але і за справядлівасьць і грамадзкі лад.

У ХХ стагоддзі (пасьля страты незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага на прыканцы XVIII ст.) нацыянальная самасьвядомасьць палягала на грамадзкіх, моўных і культурных традыцыях, далучнасьці да зямлі і тэрыторыі, на памяці аб свабодзе Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) і Грэка-Каталіцкай Уніі (уніяты – 80% насельніцтва ў Беларусі ў XVIII ст.). Памяць аб Вялікім Княстве была галоўным складнікам змаганьня за незалежнасьць ад Расеі. Ідэя: вярнуць тое, што было, вярнуць адабранае, вярнуць сваё.

На прыканцы XIX ст. (пасьля няўдачы пахода Напалеёна і пасьля шэрагу няўдалых паўстаньняў за адраджэньне ВКЛ) лёзунгі зьмяніліся разам з фармаваньнем новай нацыі з новым назовам – Беларусь. Нацыянальная ідэя агучвалася цяпер нацыянальным авангардам (шляхтай, інтэлігенцыяй) як – «Беларусь»; прагучаў зварот да простага люду, разгарнулася памкненьне да ўтварэньня новай незалежнай дзяржавы, у якой галоўным аргумантам і кансалідуючай каштоўнасьцю сталася беларуская мова, а Вялікае Княства ператварылася ў аснову будучай нацыянальнай дзяржавы, незалежнасьці, разьвіцьця нацыянальнай культуры, укараненьня права на незалежнае існаваньне Беларусі.

Цікава, што расейская імпэрыя адразу ўсьвядоміла вялізную моц беларускай мовы ў справе кансалідацыі нацыі пасьля падзеньня Вялікага Княства Літоўскага. Ужо ў першай трацiне стагоддзя акупацыі былі зачынены базыльянскія кляштары і зьнішчана адукацыя на беларускай мове, акупанты палілі беларускія кнігі. Пасьля ліквідацыі Грэка-Каталіцкай Уніі беларуская мова была забаронена разам (sic!) з новым назовам «Беларусь» (паводле распараджэньня расейскага Сэнату). А пасьля паразы паўстаньня Каліноўскага (1863-64) галоўны зьнішчальнік Беларусі расейскі генэрал-губэрнатар Мураўёў сказаў наступнае: **«В Северо-Западном крае так называемую мову необходимо свести на ничто, потому что если этого не сделать, она постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этничную самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя»…**

З часоў Мураўёва і да сёньня зьместам палітыкі Расеі, накіраванай супраць Беларусі, ёсьць задача зьнішчэньня Беларускай мовы. На гэтым палягае сэнс усёй расейскай палітыкі ў адносінах да Беларусі і асабліва палітыкі рэжыму Лукашэнкі, які зьяўляецца крэатурай Масквы ад самага свайго пачатку і канкрэтна выяўляецца ў яго дзейнасьці і заявах.

Самаўсьведамленьне, нацыянальная тоеснасьць шчыльна зьвязаны ў Беларусі з усьведамленьнем, што родная матчына мова – гэта беларуская. Нават у тым выпадку, калі беларус не размаўляе на сваёй мове і карыстаецца мовай акупантаў. Але як толькі скончыцца акупацыя і будзе ліквідавана забарона на паслугоўваньне

беларускай мовай, адновіцца нармальнасьць і народ пачне сваё адраджэньне. Гады 1-й Сусьветнай вайны, пачатак 1920-х, 30-х, 90-х выразна дэманструюць гэтую сытуацыю.

Х Х Х

Пад Савецкім Саюзам, а асабліва з часоў Гарбачова ў цэлым у сьвядомасьці часткі беларускай інтэлігенцыі і часткі моладзі існаваў толькі адзін праект – адраджэньне беларускай культуры, школы, гістарычнай праўды, абароны помнікаў культуры, разьвіцьця беларускага мастацтва і г.д. У плыні гэтых задач узьніклі розныя культурніцкія, творчыя і маладзёвыя групы. Сам па сабе зьмест такіх захапленьняў узбагачваў і адраджаў нацыянальную самасьвядомасьць у сапраўднай форме. Палітычная распрацоўка будучыні Беларусі зьявілася адразу пасьля адкрыцьця і дасьледваньня ў 1988 годзе мясцовасьці Курапаты пад Менскам – месца бальшавіцкай расправы над сотнямі тысячаў беларускіх людзей. Праўда аб Курапатах скаланула ўвесь беларускі народ і выклікала ўтварэньне ў кастрычніку таго ж года агульнанацыянальнай палітычнай арганізацыі – Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» (БНФ).

Х Х Х

БНФ быў утвораны як палітычны рух супраць таталітарнай улады камунізма і Савецкага Саюза, ён змагаўся за нацыянальнае вызваленьне, незалежнасьць і дэмакратыю. (На пачатку арганізацыя была закамуфлявана пад барацьбу за «перастройку»). Найважнейшымі палітычнымі пастулатамі БНФ ёсьць:

^ антыкамунізм,

^ незалежнасьць Беларусі ,

^ дэмакратыя .

Найважнейшым ідэалагічным пастулатам БНФ у справе нацыянальнага адраджэньня і стварэньні нацыянальнай будучыні была Беларуская мова.

На пачатку дзейнасьці БНФ (1989-1990 гг.) вяліся дыскусіі толькі па адной у пэўнай ступені супярэчлівай пазыцыі – па «антыкамунізму», бо на пачатку шмат людзей Фронту належалі да камуністычнай партыі, але былі ўжо ў апазыцыі да яе. Паівнен быў прамінуць пэўны час, каб гэтыя асобы цалкам перайшлі на пазыцыі антыкамунізма і набылі веру ў перамогу БНФ. З 1991 года сытуацыя цалкам вызначылася – апазыцыйныя камуністы выйшлі з камуністычнай партыі, а ў жніўні 1991 года пад ціскам Фракцыі БНФ, якая дзейнічала ў яшчэ савецкім тагачасным парляманце Беларусі (Фронт выкарыстаў паразу камуністычнага путча ў Маскве) дзейнасьць камуністычнай партыі (КПСС) у Беларусі была спынена.

Сымптаматычная дэталь: ніколі не была дыскутаваная і не паддавалася сумніву тэза аб дзяржаўным статусе Беларускай мовы. Унутры Фронту гэтаму не супраціўлялася нават агентура КГБ (яе асобы нам былі вядомыя). Хаця па-за Фронтам некаторыя ацалелыя камуністы варожа выступалі супраць беларускай мовы і культуры. Падобная сытуацыя павагі да беларускай мовы ўтрымліваецца і цяпер сярод апазыцыйных груп. І гэта нягледзячы на тое (а можа нават з улікам таго), што рэжым Лукашэнкі праводзіць рэпрэсіўную антыбеларускую палітыку, скіраваную ў першую чаргу супраць нацыянальнай мовы і школы.

Х Х Х

Галоўную ролю ў тым, што ў 1994 годзе ўладу ў Беларусі (пры татальнай падтрымцы савецкага КГБ) захапіла антыбеларуская група Лукашэнкі (утвораная Масквой), быў «савецкі» чыньнік, гэта значыць, савецкая мэнтальнасьць значнай часткі электарата. Там, дзе існуе гэтая мэнтальнасьць, нацыянальная самасьвядомасьць здушана, у якасьці першаплянавага вызначаецца сацыяльна-матэрыяльны інтэрас і

выключна прымітыўныя памкненьні да мінімальнага задавальненьня матэр'яльных (пабытовых) патрэбаў. Папулістыка КГБ, які праводзіў выбарчую кампанію Лукашэнкі пры падтрымцы адміністрацыйна-дзяржаўных структур (пра гэта напісаў таксама ў сваіх успамінах тагачасны прэм'ер урада Беларусі і тайны вышэйшы афіцэр КГБ Вячаслаў Кебіч) знайшла тут прыхільнае асяроддзе.

X X X

Для будучай Беларусі (пасьля падзеньня рэжыму Лукашэнкі) узровень самасьвядомасьці (асьвечаны ўзровень) будзе мець важнейшае значэньне ў працэсе аднаўленьня нармальнасьці ў Беларускай дзяржаве (беручы пад увагу пагрозу з боку Масквы). Дэмакратыя ў Беларусі немагчымая без фармаваньня нацыянальнай самасьвядомасьці (рэжым Лукашэнкі зрабіў стаўку на савецкую цемру). Таму, між іншым, наша Партыя (КХП-БНФ) надае першачарговае значэньне нацыянальнаму асьветніцтву. Для пераменаў у Беларусі павінна быць утворана грамадзтва (або ўплывовыя групы грамадзтва), на якія маглі б абаперціся прыхільнікі нацыянальнай ідэі, свабоды і дэмакратыі.

X X X

Элемэнтамі, якія злучаюць большасьць ідэй у Беларусі, зьяўляюцца наступныя:

^ Незалежная Беларуская дзяржава,

^ Беларуская мова,

^ вольны народ і дэмакратыя.

Трэба браць пад увагу, што існуюць праекты расейскай (або прарасейскай) агентуры, таму што змаганьне за Беларусь вядзецца паміж Расеяй і Беларусьсю (больш за 200 гадоў). Агентурныя праекты выдаюцца ў форме «беларускіх» (больш таго, як дэкларацыя пазыцыі). Амаль усе такія «пазыцыі» выступаюць за расейскую мову ў Беларусі. Яны згаджаюцца на дэмакратыю і незалежную дзяржаву (але ў «дружбе» з Расеяй і з расейскай мовай). Ворагі Беларусі разумеюць, што без беларускай мовы не можа быць ніякой незалежнай беларускай дзяржавы. Такія погляды ня маюць вялікага значэньня, але яны гучаць, бо выказваюць афіцыйную пазыцыю рэжыму Лукашэнкі.

X X X

Прэзыдэнцкія выбары 2006 і 2010 г. сьведчаць аб росьце нацыянальнай самасьвядомасьці і зьвязанай зь ёю апазыцыйнасьці ў адносінах да чужога рэжыму ўлады. Але раскол (у 1999 годзе) нацыянальнай дэмакратычнай апазыцыі (БНФ) і ўтварэньне псэўдаапазыцыі, кантралюемай уладай, дало магчымасьць рэжыму выкарыстаць гэтую «апазыцыю» і брутальна здушыць небясьпечныя тэндэнцыі ў электаральных працэсах.

X X X

Нармальная будучыня Беларусі залежыць ад вызваленьня ад ворага на Усходзе. Цяпер гэта разумее бальшыня беларусаў. Мэтады могуць быць розныя. Галоўнае, каб народ гэта зразумеў. Менавіта ўсьведамленьне вечнай імпэрскай палітыкі і пагрозы з Усходу прымушае беларусаў глядзець на Захад, бачыць у стасунках з Заходняй Эўропай лепшыя магчымасьці свайго нацыянальнага існаваньня, бо Эўропа не пагражае сувэрэнітэту Беларусі і ня будзе вынішчаць беларускую мову і школу.

## Высновы

Беларусы залічваюць сябе да беларускага народу на аснове радавода (месца нараджэньня і ўсьведамленьне роду, паходжаньня, сям'і) і па моўна-этнічным вызначэньні. Гэтыя пазыцыі могуць выступаць разам і паасобку.

У асяроддзі расейцаў, *народжаных у Беларусі*, праяўляецца слабая тэндэнцыя (якая існавала нават пры Савецкім Саюзе) лічыць сябе беларусамі. Гэтаму спрыяе эўрапейскае (у адрозьненьне ад Расеі) аблічча Беларусі, поўная адсутнасьць ксэнафобіі і традыцыйная нацыянальная талерантнасьць. Хаця расейцы, *што прыбываюць з Расеі*, гэтай талерантнасьці не прымаюць і часьцей за ўсё ў стылі палітыкі пануючага рэжыму ненавідзяць усё беларускае.

Тым ня менш рэчаіснасьць сьведчыць аб тым, што Расея ня можа перамагчы Беларусь (нават выкарыстоўваючы такога запраданца, як Лукашэнка). Але апошнім часам Масква вынайшла новую біялагічную зброю супраць беларусаў, ад якой, калі на яе прымяненьне не зарэагаваць адразу, -- няма паратунку. Такой зброяй ёсьць засяленьне Беларусі кітайцамі (сотнямі тысячаў). З гэтым плянам зьвязаныя вялікія цёмныя крымінальныя кітайскія грошы, якімі падкуплены ўжо не адзін чыноўнік ва ўладзе ў Беларусі і перш за ўсё самы галоўны. Калі гэты «галоўны» застанецца яшчэ нейкі час на вяршыні ўлады, Краіну чакае нешта такое, чаго ніколі не было і шанцаў у беларусаў перачакаць,ператрываць у сваёй «хаце з краю» (як заўсёды было) цяпер ужо ня будзе.

*23 ліпеня 2012 г.* Зянон Пазьняк

# “НАРОД НЯ ВЕРЫЦЬ НІ РЭЖЫМУ, НІ АПАЗЫЦЫІ”

*(Ліст на жнівеньскі Сойм КХП-БНФ і БНФ “Адраджэньне”)*

Набліжаюцца псэўдавыбары ў псэўдапарлямант. Афіцыйна рэжым як бы не падае з гэтай нагоды ніякіх асаблівых прыкмет дзейнасьці. Гэта ў яго інтарэсах – рабіць усё ціха. Нэрвовасьць яго выдае толькі панічная актыўнасьць агентуры і псэўдаапазыцыі, дзе гэтая агентура ў асноўным сабралася. Як і раней, яны падзеленыя на дзьве групы: адна за ўдзел у “выбарах”, другая быццам бы за байкот. Гэта дае ім магчымасьць ствараць дурнаваты вэрхал вакол байкоту, нічога пры гэтым, практычна, ня робячы і, займаючы інфармацыйную плошчу пару-двойку так званых дэмакратычных СМІ.

Гэта ёсьць таксама прэвентыўныя дзеяньні, каб выцесьніць нас, як партыю байкоту, з інфармацыйнай прасторы. Яны, аднак, элемэнтарна не разумеюць, што ў нас свая прастора, якая ўжо працуе: бальшыня людзей ня пойдзе на псэўдавыбары.

Тактыка нашай Партыі (якая рэальна робіць справу) у гэтых дачыненьнях такая: не зьвяртаць ніякай увагі на вэрхал псэўдаапазыцыі, не рабіць ніякіх заўваг і камэнтароў, а працягваць свае дзеяньні.

Нам вельмі важны вынік, -- каб людзі не пайшлі на фальшывае галасаваньне.

Тым часам мы бачым, што рэжым (дакладней, Масква) падгрэблі ўсіх на контрдзеяньне супраць байкоту, усе кадры, нават мілінкевічы і шараметы, у расход пайшлі. Вельмі вымоўная сытуацыя. Паляць усіх.

Ня выключана, што ў асяроддзі гэтай “апазыцыі” адбудуцца чарговыя штучныя размежаваньні на аснове ўяўных дачыненьняў да байкоту. Але гэта нічога не пераменіць: усе яны дружна называюць камарыльлю лукашыстаў і іхнюю антыбеларускую палітыку “беларускім рэжымам” і ў іхных галовах амаль нічога не зьмяняецца. Цяпер яны ўжо менш гавораць пра антывыбары і байкот, а больш пра паказную правакацыю з швэдзкім маламаторным самалётам. У “мядзьведзікаў” бавяцца – жоўтая тэма знайшла прыхільнікаў.

Шчыра кажучы, як ужо надакучылі гэтыя інфантыльныя “мобы-шмобы” брусэльскага разьліву, гэты багемны эгаізм, гэтае ёрніцтва і безадказныя паводзіны на фоне нішчэньня нашага народу і рэпрэсіўнай палітыкі антыбеларускага рэжыму! Беларусы, якія не жылі на Захадзе, проста не ўяўляюць узроўню чалавечай прымітыўнасьці, абмежаванасьці і інфантыльнасьці, якія пашыраюцца ў заходнім грамадзтве, дзякуючы тэлебачаньню, мас-культуры і канцэпцыі кансумэнцкага жыцьця. Швэдзкая правакацыя якраз і зьяўляецца вынікам такога асяроддзя і ўзроўню думаньня. Што яна дала беларусам? Адны мінусы і разбурэньне. Нічога, акрамя шкоды. Што дала правакатарам? Анічога. Магчымасьць пакрасавацца перад такімі ж, як яны, якія не разумеюць, што робяць. (Не разумеюць нават пэрспэктывы сесьці ў турму, ад якой яны будуць выкручвацца).

Мне гэта піярская “барацьба” швэдзкіх інфантыляў з рэжымам Лукашэнкі нагадвае выпадак, які адбыўся вайной у 1941 годзе. Непадалёк ад вёскі Шаркуці ў ваколіцах Суботнік нейкі “змагар” стрэліў па немцах. У выніку здарылася тое, што павінна было. Немцы спалілі вёску разам зь людзьмі. Чалавек, які ацалеў ад экзэкуцыі, казаў, што каб злавіў, то павешаў бы за ногі таго гада.

Каб змагацца, перш за ўсё, трэба мець розум у галаве і элемэнтарна прадбачыць, што з таго змаганьня атрымаецца. У выніку пустапарожняй швэдзкай правакацыі Лукашэнка сеў на каня сваёй антыбеларускай палітыкі, скарыстаў выпадак напоўніцу. Па-першае, узмацніў рэпрэсіі перад псэўдавыбарамі ў палату, пачаў арыштоўваць нязручных для рэжыма людзей, звольніў беларускіх вайсковых і памежных кіраўнікоў і прызначыў на іх месца расейцаў, атрымаў картблянш для далейшых жорсткіх дзеяньняў, выгнаў швэдзкага амбасадара Эрыксана, на якога даўно

вастрыў зубы за яго падтрымку беларускай культуры і веданьня беларускай мовы. (А гэта сьмяртэльны грэх перад антыбеларускім рэжымам.) Адначасна Лукашэнка спыніў дзейнасьць "шкоднай" для рэжыму швэдзкай амбасады і выставіў жорсткія патрабаваньні Летуве, Швэцыі, НАТО і ў цэлым Эўразьвязу, ад якіх ім прыдзецца ганебна адкручвацца, бо міжнародныя нормы заканадаўства былі груба парушаныя жыхарамі Эўразьвязу і грамадзянамі Швэцыі.

КГБ узбудзіў крымінальную справу па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 371 Крымінальнага Кодэксу па факце незаконнага перасячэньня дзяржаўнай мяжы Беларусі падданымі Швэцыі на маламаторным самалёце. А Летува, -- кажа Лукашэнка, -- "павінны нам адказаць, чаму далі сваю тэрыторыю для парушэньня дзяржаўнай мяжы".

У выніку правакацыі інфантыляў з цацкамі і Летува, і Швэцыя, і НАТО трапілі ў нязручнае становішча. Ініцыятыва ў руках рэжыму, ён грыміць і вяршыць справу.

На жаль, бездапаможны лямант заходніх палітыкаў у гэтым выпадку можа выклікаць толькі сьмех. Вось, напрыклад, што кажа міністар МЗС Швэцыі Карл Більд: "Страх Лукашэнкі перад правамі чалавека дасягнуў новых вышыняў".

Ды пляваць Лукашэнку на ўсе правы чалавека. Ён сто разоў тое даказаў. І не ў правах чалавека тут справа, спадар Більд. І страху тут у яго якраз няма. І дзейнічае ён тут якраз рацыянальна пасьля таго як багемна-рэклямная фірмачка пасадзіла ўсю Швэцыю ў галёш. Не рабеце дурня з праціўніка, якому прайграеце, панове, бо крайнім у выніку такога бахвальства заўсёды аказваецца беларускі народ.

Ці паслухаем, напрыклад, інфантыля, што кіраваў самалётам. Тут "нерацыянальныя дзеяньні з боку Лукашэнкі, -- кажа ён, -- які, мяркуючы па ўсім, знаходзіцца ў поўным адчаі і неадэкватна ўспрымае тое, што адбываецца." У гэтага "лётніка", як бачым, нешта не ў парадку з думкамі ў галаве, ён не разумее, што кажа і што зрабіў. Гэта якраз ён неадэкватна ўспрымае рэчаіснасьць, а не ўзурпатар улады ў Беларусі. Вось такія "змагары".

Арганізатарам правакацыі з самалётам зьяўляецца нейкі Пэр Кромвэл. Па ўзроўню прафанства, нахабства і цынізму гэта вымоўны тыпаж. Таму працытую яго крыху больш. Адстаўку беларусаў Рачкоўскага і Пахмелкіна з пасадаў ён лічыць "для ўсіх нас" (гэта значыць для іх) "посьпехам, бо мы імкнуліся максымальна затурбаваць рэжым".

Ну, "затурбавалі". Цяпер -- кіруюць расейцы. "Ніхто", кажа Кромвэл, нічога ня ведаў пра нашу апэрацыю. "Адзіныя, хто са мной кантактаваў, -- працягвае ён далей, -- гэта беларускія праваабаронцы." (Думаю, што пасьля такіх словаў, рэжым таксама "затурбуецца". Гэтакі вось гусак)

"Тое, што мы зрабілі ў Беларусі, -- кажа далей піяршчык, -- было больш зьвязана з палітыкай." Журналіст "Народнай Волі" задае яму пытаньне: "Вашыя дзеяньні зьяўляюцца сур'ёзным злачынствам у адпаведнасьці з міжнародным заканадаўствам. Ці вы разумееце гэта? Адказ: "Мы ўсьведамляем, што зрабілі злачынства, але не прыдаем гэтаму вялікага значэньня... Вядома, мы ляцелі зь Летувы, перасеклі мяжу Эўразьвязу. Гэта забаронена... Я думаю, што швэдзкія ўлады ня выдадуць нас Беларусі. Мы ня бачым такой рызыкі..., нам здаецца, што швэдзкі ўрад нас падтрымлівае".

"Отэтада", як кажуць у Стакгольме. І пасьля ўсяго сказанага гэты "арыгінал" мовіць наступнае, што гатовы прыехаць у Беларусь па запыце КГБ, калі яму гарантуюць "недатыкальнасьць" і будзе "гарантыя таго, што нас не абвінавацяць, калі мы прыедзем у Беларусь".

Справа ня ў тым, што гэтыя развагі алягічныя, тут тое, пра што я кажу: яны інфантыльныя, дзяціннае думаньне і, адпаведна, поўная безадказнасьць за свае паводзіны. Журналіст задае яму сур'ёзнае мужчынскае пытаньне: "Ваша акцыя прывяла да таго, што Аляксандар Лукашэнка зьняў з пасадаў двух генэралаў: старшыню Дзяржпамежкамітэта Ігара Рачкоўскага і камандуючага ВПС і войскам СПА узброеных сілаў Дзімітрыя Пахмелкіна, двох простых беларусаў затрыманы КГБ.

Відавочна, што “плюшавая бамбардоўка” паўзьдзейнічала і на рашэньне афіцыйнага Менска не працягваць акрэдытацыю амбасадару Швэцыі ў Беларусі Стэфану Эрыксану, што ў выніку прывяло да напружанай сытуацыі паміж дзьвумя краінамі. Калі б вы ведалі наперад пра такія магчымыя вынікі, то ці вы ўсяроўна правялі б сваю акцыю?” Адказ: “Адзінае, пра што мы шкадуем, -- гэта аб узяцьці двух грамадзянаў Беларусі пад стражу”.

Інфантылізм – гэта, перш за ўсё, безадказнасьць і няўменьне адпаведна ацаніць свае паводзіны.

Шкоду, якую яны зрабілі дэмакратычнай Беларусі, гэтая публіка не разумее, як кажуць, ад заснаваньня. Таму меры супраць дурняў мусяць быць усё ж такі прынятыя. Гэта ня значыць, што судзіць іх павінен антыбеларускі рэжым. Але швэдзкія ўлады маглі б і (фактычна) абавязаныя тое зрабіць (калі, вядома, там яшчэ не развучыліся паважаць нацыянальныя і міжнародныя законы).

Будучы ў парляманце ў 90-х гг., памятаю добрыя стасункі і прыхільныя адносіны дэпутатаў Апазыцыі БНФ з швэдзкімі палітыкамі. Працяг такіх адносінаў – амбасадар Эрыксан. Швэцыя адна першых прызнала нашу незалежнасьць. Нам вельмі важна захаваць добрыя дачыненьні з дружалюбнай краінай насуперак антыбеларускаму рэжыму Лукашэнкі. Таму нельга дапусьціць, каб з-за бесталковых дзеяньняў некалькіх безадказных суб’ектаў гэты дэмакратычны набытак – добрыя дачыненьні паміж нацыянальнымі грамадзтвамі – быў пахаваны. Правакатары павінны быць пакараныя ва ўласнай краіне.

Я вымушаны быў прысьвяціць некалькі старонак гэтай жоўтай тэме, бо ўжо лопае цярпеньне і мы не павінны дазваляць, каб цэламу народу дрэнь сядала на галаву.

Трэба ўсё ж паказваць ім іхняе месца, бо за зьнешнім ёрніцкім імкненьнем розных багемных суб’ектаў пустапарожна пазлаваць лукашысцкі рэжым існуе яшчэ і другі плян, які ўзьнікае паралельна – гэта імкненьне прынізіць Беларусь, пазьдзеквацца зь беларускага народа. А гэтага мы не дапусьцім і ніколі не дазволім.

Пад шум піярнага вэрхалу рэжым тут жа пачаў нішчыць у турме Сяргея Каваленку – сапраўднага патрыёта Беларусі. Без тлумачэньня прычынаў яго кінулі ў турэмны карцар на 16 дзён, забаранілі перадаваць яму лякарствы, каб пры яго крытычным стане здароўя пасьля экстрымальнай галадоўкі канчаткова ператварыць чалавека ў інваліда. Героя Каваленку катуюць, нішчаць за гонар Беларусі і веліч Нацыянальнага Сьцяга, а дэмакратычная пена ў гэты час бавіцца ў мядзьведзікі пад хаўтурны звон Айчыны.

Гледзячы на гэта ўсё, успамінаюцца мне словы, якія гучаць рэфрэнам ад апазыцыйных апартуністаў, што ідуць на фальшывыя выбыры. Яны пастаянна жаляцца на народ і паўтараюць маркотна: “Народ ня верыць ні рэжыму, ні апазыцыі”.

Слава разумнаму Беларускаму народу! Гэта адзінае станоўчае, што засталося ў тым ідэёвым сьвінушніку, створаным антыбеларускім рэжымам і яго “апазыцыяй”. Народ ня пойдзе на фальшывыя выбары і настане час – разьбярэцца з усімі.

*12 жніўня 2012 г.* Зянон Пазьняк

# РЭЖЫМ МІТУСІЦЦА, НАРОД МАЎЧЫЦЬ, АЛЕ ГАЛАСАВАЦЬ НЯ ПОЙДЗЕ

Па ўсім відаць, як на барацьбу з байкотам рэжым кінуў свае апошнія сілы ў шэрагах дэмапазыцыі. Усіх падгрэблі, усе кадры. Нават спадар Ул. Падгол ідзе ў выбары (які дагэтуль ніколі ў іх не хадзіў). Прытым кожны нешта тлумачыць. Напрыклад, згаданы спадар Падгол сказаў, што "у кампанію ўвязаўся, каб рыхтавацца да прэзыдэнцкіх выбараў". Спадар Фядута сказаў, што "тактыка байкоту сябе не апраўдывае". А ўсе разам пагадзіліся: "За байкот у грамадзтве ніхто не выступае".

Эўрапейскае радыё для Беларусі дало вельмі вымоўную інфармацыю аб тым, як гэтыя энтузіясты ўдзелу ў фальшывых выбарах сабраліся разам 15 жніўня і абмеркавалі будучыя сумесныя дзеяньні ў лукашысцкім "парляманце" (гэта значыць тады, калі іх выберуць у "палату"). Спрачаліся: "З чым трэба да людзей ісьці?" Адзін сказаў, што "беларусы не разумеюць, навошта патрэбны парлямант". Вырашылі: у час выбарчай кампаніі расказваць людзям пра патрэбу парляманту.

Эўрапейскае радыё зьмяшчае яшчэ шмат гэтакіх глыбокадумных цытатаў гульцоў у палітыку, што адразу задаеш сабе пытаньне: навошта агучваецца ўвесь гэты маразм?

Мэта адна: прыцягнуць людзей на выбары. Усе яны (ці праз аднаго) заяўляюць, што "выбараў няма", што "ніхто ня пройдзе", што некаторыя "здымуць свае кандыдатуры" і г. д. Але цяпер вось яны, маўляў, удзельнічаюць, "каб данесьці свае ідэі" (пра "ідэі" глядзі вышэй).

Абгрунтаваньне подлых паводзінаў робіцца імі, як кажуць, на ўзроўні самых паводзінаў. Тым часам кожнаму чалавеку, які падумае, адразу стане зразумелым, што любая форма ўдзелу ў фальшывай выбарчай кампаніі ёсьць падтрымка гэтай фальшывай кампаніі і псэўдавыбараў у псэўдапарлямант.

Тут звычайная (якую мы бачым увесь час) псэўдаапазыцыйная непрыстойнасьць. Але ў сёлетняй кампаніі мы заўважаем ужо і "звычайную" канторскую "класіку", выпрабаваную ня раз. Дэмапазыцыю дзеляць на дзьве часткі. Адна – за выбары і галасаваньне. Другая – за байкот. Але і там, і тамака – свае людзі. Яны ўсчынаюць між сабой "брань". Паслужныя СМІ друкуюць іхную "барацьбу", "дыскусіі" і ўсю лухту, якую яны пры гэтым вымаўляюць. Адначасна, ствараючы слоўны вэрхал, "дыскутанты" дамагаюцца кампрамэтацыі ідэі байкоту. Ніякай рэальнай дзейнасьці з боку апазыцыйных "забайкатоўшчыкаў" тым часам не назіраецца.

Для нас уся гэтая "арыфмэтыка" была відаць ад самага пачатку. Мы сьведама ігнаруем такія псэўдадыскусіі і рабленьне хваляў у шклянцы вады, але найперш – з іншай прычыны. Ідэі байкоту выбараў і няўдзелу ў галасаваньні, якія мы (наша партыя) ужо шмат год ставім перад грамадзтвам, пусьцілі глыбокія карэньні. Ня толькі ў грамадзтве, але і ў асяроддзі прыхільнікаў псэўдаапазыцыі адбываецца прагрэсіўны падзел у дачыненьні да ўдзелу ў фальшывых выбарах рэжыму. Павялічваюцца тэндэнцыі да ізаляцыі рэжыму ад народу. Няўдзел у рэжымных выбарах – гэта ёсьць неабходны крок. Таму зважаць у гэтым выпадку на шум у дэмапазыцыі няма патрэбы. Няхай яна пасьпяхова топіцца, а іншая частка – спрыяе байкоту. Кантора так загулялася, што перагульвае сама сябе.

Няўдзел у фальшывых выбарах – гэта ёсьць у цяперашніх абставінах масавая форма пасыўнага пратэсту, які пагражае рэжыму ізаляцыяй яго ад народа. Рэжым непакоіцца, бо разумее, што ўнутраная ізаляцыя можа стацца пачаткам яго канца. Прытым магчыма канца хуткага, непрагназуемага і нечаканага. Беларускім патрыётам трэба ўвесь час да гэтага рыхтавацца.

*22 жнівень 2012 г.* Зянон Пазьняк

# БЕЛАРУСКІ НАРОД ТРЭБА ЛЮБІЦЬ І ШАНАВАЦЬ

*(Выступ на верасьнёўскім 2012 г. Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”)*

Да выбарчай прафанацыі рэжыму засталося два тыдні. Васемнаццаць гадоў беларусы назіраюць гэты антыбеларускі маразм. Шмат хто ўжо зразумеў, што падтрымліваць рэжым у яго прафанацыях нельга, але ўсяроўна знаходзяцца асобы, якія зьдзіўляюцца, чаму гэта калгасная хунта нават сваіх “мабілізатараў” да выбараў не дапускае. Прыходзіцца зноў адзначыць сабе ў памяці, што галоўная задача “мабілізатараў” ёсьць агітацыя людзей на псэўдавыбары, а не пранікненьне ў псэўдапарлямант. Хунта не зьбіраецца іх туды пускаць. Яна ня бавіцца ў дэмакратыю на псэўдавыбарах, а зацікаўлена толькі з'імітаваць “усенародную падтрымку” рэжыму і напісаць сабе 83 адсоткі народнага даверу. А тут узьнікла пагроза, што гэты “народны давер” проста ня прыйдзе больш галасаваць. Таму мабілізавалі ўсіх.

Паказальная роля выпала спадару Мілінкевічу. Ён правёў шырокі збор подпісаў, раздаючы направа і налева свае сэнтэнцыі супраць байкоту. Пасьля шумавога афармленьня акцыі яго не рэгіструюць у кандыдаты. Пачынаецца працяг шумавіньня: абурэньне, змаганьне, пісаньне скаргаў, раздача інтэрв’ю і т.п. Прытым “змагарам” добра вядома, што ніякай рэгістрацыі ня будзе, але агітацыя за “выбары” ужо працягваецца ў ролі пакрыўджанай “апазыцыі” (пакрыўджанага Мілінкевіча) ды шуканьня “справядлівасьці” (у Ярмошынай). Такая вось тэхналёгія падтрымкі псэўдавыбараў. (Чакаецца, што пратэстны электарат абурыцца і зноў паляціць сказаць сваё “не”.) Часам думаеш, ну як жа можна так апускацца? Аказваецца, можна ўсяляк, калі ёсьць прычыны.

Бальшыня беларусаў на фальшывае галасаваньне ісьці не зьбіраецца. І правільна робяць. Трэба засьведчваць ізаляцыю антыбеларускага рэжыму ад народа. Калі гэтая ізаляцыя паглыбіцца, хунту будзе лягчэй сьскінуць.

Цяперашняя кампанія «у палатку» выразна паказала, наколькі псэўдаапазыцыя і яе структуры моцна заангажаваныя ў фактычную падтрымку існуючага рэжыму. Засьвяцілася ўся вядомая грамадзтву агентура. Антылукашысцкая фразеалогія тут, фактычна, нічога не абазначае ў той час, калі дзеяньні накіраваныя ў падтрымку фальшывага галасаваньня. Псэўдаапазыцыя ня першы раз заманьвае на квазівыбары наш пратэстны электарат, ужываючы антылукашысцкую фразеалогію.

Гэты прыклад паказвае таксама, што на антылукашызме можа адбыцца часовая мабілізацыя людзей, але ня можа ўзьнікнуць моцнае аб'яднаньне грамадзтва на барацьбу з сістэмай. Згуртаваньне людзей на змаганьне з антыбеларускім рэжымам магчымае толькі на альтэрнатыўных ідэалах, гэта значыць, на беларускіх нацыянальных каштоўнасьцях, дзе галоўнай ёсьць нацыянальная ідэя – беларуская мова, беларуская культура, гісторыя і беларуская воля (г. зн. воля і права для ўсіх грамадзян).

У гэтым кантэксьце хачу зьвярнуць крытычную ўвагу на адну асаблівасьць у пазыцыі антылукашызму і антырэжымнай крытыкі ў Беларусі і за мяжой.

Антылукашызм яшчэ не азначае, што за гэтай пазыцыяй стаіць беларуская дэмакратыя і беларуская воля з нацыянальнай свабодай і культурным разьвіцьцём. На эўразахадзе тое відаць вельмі вымоўна. У антылукашызме яны бачаць перш за ўсё свае інтарэсы. А калі не атрымліваецца, то і лукашызм добры (можна нават навучыць рэжымную міліцыю, як лепш дубасіць беларускіх дэманстрантаў).

Двулічная пазыцыя праяўляецца ў іх нават у фармальных дэталях. Нягледзячы на нашу пастаянную інфармацыю ў іхны адрас і нягледзячы на фактычны стан рэчаў, літаральна ўсе эўрапалітыкі ўпарта называюць лукашысцкую ўладу ”беларускім рэжымам”. Ніхто зь іх ніколі не абмовіўся, што гэты антыбеларускі рэжым праводзіць

палітыку этнацыду, лінгвацыду і мэтанакіраванай русіфікацыі. Для іх гэта ”беларуская ўлада”, якая толькі парушае “правы чалавека”, для іх гэта “беларускія антыдэмакратычныя законы” і “беларуская палітыка”. (Фактаў ды заяваў розных “рараў”, “вікаў” ды “фрыкаў” дастаткова.) Так ствараецца адмоўны вобраз Беларусі, населенай адмоўнымі беларусамі. Хоць тут жа эўрадэмагогі заяўляюць, што беларускі народ “заслугоўвае на лепшую долю”, а беларускія жанчыны надта прыгожыя. (Як кажацца, яшчэ і блытаюць Божы дар зь яечняй).

І ніхто, на жаль, у Беларусі не абураецца. Некаторыя яшчэ і задаволеныя. Калі нядаўна прэзыдэнт ЗША Абама па недасьведчанасьці назваў гітлерскія фашыстоўскія канцлягеры, што былі на тэрыторыі Польшчы, “польскімі канцлягярамі”, то ўсчалася нацыянальная навальніца ў Польшчы, міжнародны скандал, Абама прасіў прабачэньня. Зь Беларусяй жа гэтыя спадары не цырымоняцца, называючы антынацыянальны акупацыйны рэжым “беларускім рэжымам”. А чаму б і не – рэжым задаволены, псэўдаапазыцыя дзякуе, астатнія – “нацыяналісты”.

Узровень думаньня заходніх людзей апошнім часам вымоўна праілюстравала правакацыя швэдзкіх інфантыляў з лёгкаматорным самалётам. Калі ім пачалі задаваць пытаньні беларускія журналісты, то некаторыя адказы дакладна паўтаралі лубянскія маскоўскія нарыхтоўкі пра Беларусь. Адзін нават сказаў, што і нацыі такой, беларускай, няма, а толькі нейкі кангламэрат розных народаў. (Зрэшты, сур'ёзная размова пра гэтых недарасьляў яшчэ наперадзе).

Унутраны антылукашызм (дакладней, частка яго) карыстаецца такой жа тэрміналогіяй, як і Захад, толькі тут яна значна шырэйшая і разнастайная, злучае, практычна, усе антырэжымныя палітычныя пазыцыі, і кожная ўкладвае ў сваё “анты” асобнае разуменьне.

Празаходняя і прамаскоўская пазыцыі тут акрэсьленыя выразна (дастаткова толькі паглядзець у Сеціве некаторыя рэсурсы разам з камэнтарамі). І што характэрна – гэтыя пазыцыі антыбеларускія. Антылукашызм тут толькі камуфляж. Адэпты празаходніх і прамаскоўскіх поглядаў з задавальненьнем і пастаянствам (і заслужана) называюць узурпатара “калгасьнікам”, “калхазанам”, “дзярэўняй” і тут жа кажуць пра “беларускі рэжым”, беларусаў называюць “рабамі”, “чарка-шкваркай”, “даяркамі”, “бульбашамі” і г.д. Нянавісьць карэлюецца. Псіхапатычная, ненавісная асоба Лукашэнкі служыць адначасна нагодай і шырмай для беларусафобнай псіхалогіі. Адбываецца экстрапаляцыя нянавісьці з народа на ўзурпатара, з узурпатара на народ.

Цяпер усё гэта выразна праглядваецца і цяпер усё гэта трэба нам улічваць, бо такія “крытыкі рэжыму” ніколі ня будуць саюзьнікамі ў змаганьні за вольную Беларусь і беларускую свабоду.

Увогуле народ трэба любіць і шанаваць, у якім бы стане ён ні знаходзіўся. Мы самыя, мы ўсе ёсьць народ. Разумеючы гэта, трымаючыся адзінства ў народнай любові, можам зваяваць цемру і зло, мець сваю сьветлую народную будучыню.

*9 верасьня 2012 г.* Зянон Пазьняк

# БАЙКОТ АНТЫБЕЛАРУСКАМУ РЭЖЫМУ

18-23 верасьня беларусы збайкатавалі фальшывыя выбары ў «палатку» рэжыму. Фальшывыя выбары – гэта ёсьць мэханізм незаконнага захопу ўлады. Ад галасаваньня вынік не залежыць. Людзі гэта разумеюць. Больш за 70 адсоткаў выбаршчыкаў не пайшлі галасаваць, і выбары не адбыліся. Прытым больш за палову тых, што галасавалі, рэжым прымусіў прагаласаваць пад страхам, скарыстаўшы залежнасьць людзей па працы і вучобе.

Такім чынам байкот засьведчыў, што рэжым ня мае падтрымкі ў народзе. А значыць, што ён поўнасьцю пазбаўлены легітымнасьці (гэта значыць выбару і даверу народу).

Калі раней выбаршчыкі, паслухаўшы начальства рэжыму і яго прадажную апазыцыю, хадзілі галасаваць, то рэжым фальшаваў выбары, хаваючыся за плечы людзей (бо людзі галасавалі, а вынікі галасаваньня пісаў рэжым, якія хацеў). Цяпер жа выбаршчыкі галасаваць не прыйшлі, і рэжым, апынуўся ў «пралёце». Ня стала кім маніпуляваць. Але замест таго, каб па закону прызнаць, што выбары не адбыліся, рэжым нахабна аб'явіў людзям аб «усенароднай падтрымцы» і што нібы-та прагаласавала 75 адсоткаў выбаршчыкаў.

Вось цяпер усе і ўбачылі, што гэта за камарыльля з Лукашэнкам і Ярмошынай. Ім плюнь у твар, а яны скажуць – дождж ідзе. Той, хто не галасаваў, ведае, што і сусед яго не галасаваў, і ўвесь ягоны 100-кватэрны дом не галасаваў, а гэтыя – хлусяць у вочы, і чхалі яны на ўвесь народ.

Аднак далей так справа ня пойдзе. Трэба байкатаваць увесь гэты антыбеларускі ілжывы рэжым. Першы крок – ня ўдзельнічаць ні ў якіх рэжымных сьвятах, урачыстасьцях, шэсьцях і публічных мерапрыемствах. Пакіньце рэжымнае начальства разам зь яго гэб'ём і халуямі.

Тым часам сьвяткуйма разам усе нашыя беларускія сьвяты, падзеі, даты і ўрачыстасьці. Любем сваё, падтрымлівайма сваіх.

Не паддавайцеся на русіфікацыю, бо гэта варожая зброя нашага зьнішчэньня. Гаварэце па-беларуску між сабой, у сям'і, паўсюдна. Чытайце беларускія кнігі, часопісы і беларускі друк, адчыняйце ў сабе беларускую праўду, бо рэжым хлусіць па-руску.

Пазбаўляйцеся страху на працы. Стварайце вольныя прафсаюзы, незалежныя ад афіцыйных, патрабуйце ліквідацыі на прадпрыемствах пасады гэбоўскіх «ідэолагаў» і ўсялякага гэбісцкага назіраньня. Вытворчасьць павінна быць вольнай ад гэбісцкай палітыкі.

Не называйце «прэзыдэнтам» узурпатара, які пры дапамозе Масквы, КГБ і псэўдаапазыцыі незаконна захапіў уладу ў Беларусі і 18 гадоў хлусіць, ашуквае, абкрадае і прыніжае Беларускі народ.

Не глядзіце рэжымнае русіфікатарскае тэлебачаньне, дзе хлусяць і зьневажаюць. Альтэрнатывай яму можа стаць Белсат, які вяшчае па-беларуску.

Вучыце дзяцей на беларускай мове, патрабуйце беларускіх клясаў і беларускай школы, беларускіх унівэрсітэтаў і вучэльняў, шыльдаў і надпісаў па-беларуску, не дазваляйце рэжымным хамам зьневажаць нашу беларускую мову, шануйце наш беларускі гонар.

Паважайце і беражыце нашыя нацыянальныя сымвалы: гэрб «Пагоня» і Бел-Чырвона-Белы Сьцяг.

Падтрымлівайце нашу **народную партыю**, якая афіцыйна называецца **Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя – БНФ,** якая стаіць за ўвесь беларускі народ, за стварэньне вольнай дэмакратычнай Беларусі і змагаецца за ліквідацыю антынароднага рэжыму, які ёсьць цяпер у краіне. Адным з крокаў кансалідацыі грамадзтва на барацьбу з антыбеларускай ўладай **народная партыя** прапанавала байкот фальшывых выбараў рэжыму. На працягу больш чым дзесяці гадоў партыя пасьлядоўна рыхтавала байкот галасаваньня і давяла гэтую справу да лагічнага завяршэньня. Стварайце групы падтрымкі **народнай партыі**. Не давярайце

псэўдаапазыцыйнай агентуры, рэжымнай прапагандзе і іхным прадажным СМІ. Кіруйцеся на салідарныя ідэі Беларускага Адраджэньня.

Наперадзе вольныя народныя выбары без Лукашэнкі, Ярмошынай і без фальсіфікацыйнай сістэмы рэжыму. Да гэтага мы дойдзем. Антыбеларускі акупацыйны рэжым ня здольны супрацьдзейнічаць нацыянальна скансалідаванаму беларускаму народу.

Жыве Беларусь! Слава Айчыне!

**Ініцыятыва «Беларуская Салідарнасьць»**
**народнай партыі КХП-БНФ**
**(кіраўнік Зянон Пазьняк)**

*24 кастрычніка 2012 г., г. Менск*

# ЛОШЫЦА –
# МЕСЦА ЗАБОЙСТВА НАРОДА

Працягваюцца восеньскія пакутныя Дзяды. Лошыца – страшнае месца расстрэлаў людзей, якія рабілі ў 1937 годзе расейскія энкавэдзісты. Усе яны маскаваліся пад саветаў ды камуністаў, але праводзілі тыповы генацыд беларускага народа – забойства па нацыянальнай і сацыяльнай прыкмеце.

Мне ўдалося яшчэ ў 80-х гадах знайсьці і размаўляць тут, у Лошыцы, з жывым сьведкам расстрэлаў людзей – спадарыняй Верай Шумскай. Тут, у вялікім яры, што цяпер знаходзіцца пад асфальтам і гаражамі, расстрэльвалі людзей на працягу ўсяго 1937 году. Прывозілі ў «хапунах», але часам нават у адкрытых грузавіках, найбольш мужчынаў са зьвязанымі рукамі. Пачыналі расстрэльваць, як правіла, у 6 гадзін раніцы.

Можна дапусьціць, што тут забітыя і закапаныя тысячы беларусаў. Колькасьць забітых можа даходзіць да 10 тысяч.

У канцы 1980-х гг., калі я ўжо зьбіраў археалагічны атрад і хацеў пачаць тут археалагічныя раскопкі, выявілася, што сюды раптоўна нагналі шмат тэхнікі і засыпалі расстрэльны яр буйназярністым галечным жвірам. Пазьней заасфальтавалі і пабудавалі гаражы. Так КГБ-НКВД ратавалася ад адказнасьці за свае злачынствы.

Вяршыня машыны вынішчэньня нашага народа знаходзілася ў Маскве. Але забойцы, тыя, хто выконваў антычалавечыя загады і расстрэльваў людзей у Беларусі, нясуць такую ж адказнасьць, як і арганізатары генацыду.

Цяпер, калі ў Беларусі і Расеі ўстаноўлена ўлада рускага гэбізму (і КГБ стаў палітычнай сілай), увесь час назіраецца імкненьне разбурыць і абылгаць магільнікі – месцы масавых зьнішчэньняў і расстрэлаў людзей, альбо хацяб перакруціць, заблытаць, абнізіць іхняе сакральнае значэньне.

Тыповым фактам такой падрыўной дзейнасьці гэбоўскай канторы ёсьць мэтадычнае псаваньне крыжоў Народнага Мэмарыялу ў Курапатах і мэтадычнае абылганьне сутнасьці гэтага магільніка расстралянага народа. Намі зафіксаваныя пастаянныя экскурсіі ілжы для замежнікаў і дыпламатаў, арганізатарам якіх зьяўляецца падпалкоўнік І. Кузьняцоў. Апошняя правакацыя гэтай асобы ў Курапатах накіраваная на фальсіфікацыю Курапатаў і польскай нацыянальнай памяці з мэтай выклікаць непаразуменьні паміж беларусамі і палякамі. Гэтая брыдкая акцыя зьвяртае на сябе асаблівую ўвагу і паказвае на неабходнасьць прыняць дадатковыя ахоўныя захады супраць агрэсіі расьперазаных адэптаў антынароднай канторы. Ня думаю, што далей усё гэта можна цярпець.

Ні ў Курапатах, ні ў Лошыцы, ні пад Воршай, ні ў Гомлі, ні ў Віцебску -- нідзе кагэбізм больш ня пройдзе. Час чэкісцкай банды канчаецца беспаваротна. Наперадзе ў іх толькі расплата.

Беражэм жа моцна нашых Дзядоў, нашую памяць і годнасьць перад продкамі. Не кідайма сьвіньням пад ногі нашае дараваньне там, дзе дараваць немагчыма, дзе за злачынства супраць чалавецтва кожная нелюдзь і іх пакрывальнікі мусяць атрымаць поўнаю мерай спаўна.

*4 лістапада 2012 г.* Зянон Пазьняк

# СУТНАСЬЦЬ ПРАВАКАЦЫІ

Нядаўна выйшла з друку кніга **«Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял».** Гэта зборнік артыкулаў і матэрыялаў. Аўтары – Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Адразу за вокладкай буйнымі літарамі напісана: **«Змаганьне за Курапаты і за абарону Курапатаў – гэта, найперш, барацьба з КГБ, з агентурай КГБ і «лубянскай» Расеяй, са спадкаемцамі тых, што тварылі генацыд. Толькі ведаючы і разумеючы гэта, можна зразумець сэнс і зьмест падзеяў, што разгортваюцца вакол Курапатаў».**

Тут сутнасьць. У гэтым галоўнае. Тут -- барацьба на сьмерць. Тут ня можа быць кампрамісаў, бо з аднаго боку ахвяры і прадстаўнікі ахвяраў, з другога – забойцы і прадстаўнікі забойцаў, апранутыя ў стракатыя формы палітыкі, ідэалёгіі, прапаганды, нібыта гуманізму, нібыта навукі, нібыта дэмакратыі. Тут ня можа быць прымірэньня, бо гэта канфлікт чужых сабе сілаў, якія выключаюць адна адну, а паміж імі – сьмерць і злачынства супроць чалавецтва.

Прымірыцца можа адно, падзеленае на два дзеля аднаго, але не супроцьлеглае супраць супроцьлеглага. Прымірыцца могуць латышы ці эстонцы з Вэрмахту і Савецкай арміі, якія ваявалі адзін супроць аднаго за вольную Латвію ды Эстонію, бо асновай для замірэньня было змаганьне за вольную Бацькаўшчыну.

Але ня можна прымірыць габрэйскіх ахвяраў Галакосту і нямецкіх эсэсаўцаў, беларускіх ахвяраў савецкага генацыду і расейскіх энкавэдзістаў, бо паміж імі Курапаты і газавыя камэры Асьвенцыма. Рацыя тут толькі на баку ахвяры. Для злачынцаў – толькі пакараньне па міжнародных законах за злачынствы супроць чалавецтва. І той, хто адмаўляе гэтыя злачынствы, што адбыліся, той таксама нясе адказнасьць.

Адкрыцьцё, дасьледваньне і доказнае пацьверджаньне расстрэлаў у Курапатах стала катастрафічнай паразай Масквы, камуністычнай партыі і КГБ-НКВД. Былі здабытыя ўлікі і рэчыўныя доказы генацыду, які праводзіла крамлёўская ўлада ў Беларусі. Зьявілася рэальная падстава для суду над спраўцамі злачынства супроць чалавецтва. Таму з першых жа дзён пасьля адкрыцьця пачалося яраснае змаганьне з двух бакоў: супраць існаваньня Курапатаў і за абарону Курапатаў.

У 1994 годзе ў Беларусі і ў 2000 годзе ў Расеі да ўлады прышоў КГБ. Разумеючы небясьпеку, народная партыя КХП-БНФ, каб захаваць Курапаты, прыступіла да рэалізацыі ідэі ***Народнага Мэмарыялу «Курапаты – лес крыжоў»***. Ужо ў 2000 годзе, пры актыўнай дапамозе і падтрымцы людзей, Народны Мэмарыял быў створаны.

У 2001 годзе пачалася «генэральная бітва» за Курапаты. Антыбеларускі рэжым Лукашэнкі, панукаемы з Масквы, распачаў будаўніцтва шырокай аўтастрады праз Курапаты. Вялікі абшар тэрыторыі магільніка плянавалі зьнішчыць, частку тэрыторыі вакол Крыжа Пакуты ператварыць у забалочаную мясцовасьць. Змаганьне за Курапаты ў гэты час стала выпрабаваньнем для ўсіх беларусаў. Пры дапамозе АМОНа рэжымныя ўлады дарогу ўсё ж праклалі. Але асноўную тэрыторыю могілак удалося абараніць.     Нагадаю толькі адзін эпізод. Калі ня гледзячы на супраціў, разбуральнікі пракапалі экскаватарам 40-мэтровую траншэю пад Крыж Пакуты, каб зрабіць туды вадасток і ўтварыць застойнае балота, то некалькі дзясяткаў сяброў народнай партыі КХП-БНФ рыдлёўкамі за цэлы дзень працы засыпалі гэты роў. Прыязджалі міністры, кагэбісты, міліцыянты і т. п., спрабавалі пагражаць, але ніхто ня сунуўся, бо ўбачылі, што мужчыны сьціскаюць у руках рыдлёўкі моцна і настроены рашуча (пра што было і заяўлена). Балота адступіла.

### Атака на Курапаты

Атака на Курапаты ў той час была комплекснай. Мы на практыцы ўбачылі, як дзейнічае агентура КГБ, іхныя прыёмы, тактыку і тэхналёгіі. Ня буду апісваць падрабязна (усё ёсьць у кнізе). Асноўны накірунак – перахоп ініцыятывы. Паявіліся

актыўныя экзальтваваныя асобы, якія спачатку падтрымлівалі разбурэньне і будаўніцтва дарогі і імкнуліся задушыць супраціў. Потым, калі ўбачылі, што правальваюцца, зьмянілі тактыку і выступілі ў «абарону Курапатаў», каб забегчы наперад і рабіць сваю справу пад відам абаронцаў. Пачалі ствараць розныя групы ды «рухі» «у абарону Курапатаў», пісаць прашэньні ўладам, дамаўляцца з будаўнікамі, забясьпечваць ім фронт працы і г. д. Нават Фонд міру тут абазначыўся (савецкая арганізацыя з адпаведным мінулым). Шуму і перашкодаў ад гэтых фальшывых энтузіястаў было шмат. Пасьля пракладкі дарогі ўсе яны зьніклі. Больш іх у Курапатах ня бачылі. Засталося на паверхні толькі адно прозьвішча – падпалкоўнік Ігар Кузьняцоў, які ў тыя дні адзначыўся сцьвярджэньнем, што «крыжы ставіць у Курапатах нельга, бо там пахаваныя камуністы».

У наступныя гады сябры народнай партыі і абаронцы Курапатаў часам бачылі, як гэтая асоба вадзіла экскурсіі для дыпляматаў ды замежнікаў. Зьмест гэтых «экскурсіяў» -- фальсіфікацыя сутнасьці Курапатаў. У гэты ж час было зафіксавана некалькі такіх жа дзіўных «экскурсіяў» іншых асобаў, якія распавядалі замежнікам, што нібыта ў Курапатах немцы зьнішчалі габрэяў. Іншым групам казалі, што ў Курапатах беларусы расстрэльвалі беларусаў. Гэта быў асноўны ляйт-матыў ілжывай прапаганды. Маўляў, Масква тут ні пры чым, самы сябе забівалі, генацыду не было.

Гэтыя асобы ніколі не падыходзілі да абаронцаў Курапатаў, ня ўдзельнічалі ў працы па доглядзе за магільнікам, нічым не цікавіліся.

Сёлета перад Дзядамі стала вядома аб плянах правакацыі ў Курапатах з удзелам згаданага Ігара Кузьняцова і філіі маскоўскай арганізацыі «Мэмарыял». Плянавалі паставіць знак у памяць «афіцэраў польскага войска, расстраляных у Беларусі».

Я публічна папярэдзіў пра правакацыю. Але гэта іх не стрымала. 29 кастрычніка па савецкай (і дарэчы, энкавэдзісцкай) традыцыі, яны ўкапалі ў Курапатах слупок-тумбу з таблічкай у памяць нібыта расстраляных тут афіцэраў польскага войска.

30 кастрычніка выявілася, што слупок-тумба зьнік. Кузьняцоў адразу пачаў рабіць экзальтаваныя заявы. У гэты ж дзень ён выступіў у менскай галерэі «Ў» з фантастычным паведамленьнем, дзе сказаў, што, маўляў, сёньня, 30 кастрычніка, «в Белоруссии началась гражданская война», што «экстремисты КХП-БНФ» выступілі «против русского народа» і г. д. (пераказваю па расповяду сьведкаў, М. Кляшторнай і інш.). Рэакцыі на выступ з боку прысутных не было ніякай, моўчкі паслухалі і пераглянуліся.

Тым часам лямант падпалкоўніка І. Кузьняцова з моцнымі азначэньнямі не спыняецца. На радыё «Свабода», замест традыцыйнай падзякі за канфэрэнцыю, ён сказаў, што зьнікненьне ўстаноўленага ім слупка з таблічкай «гэта выклік супрацоўнікам МУС і КДБ. Калі і ў гэтым выпадку зноў ня будуць знойдзеныя вінаватыя – прабачце, тады я буду рабіць адпаведныя высновы пра іх ўзровень прафэсіяналізму».

Вось гэтае «тады я буду рабіць адпаведныя высновы пра іх ўзровень прафэсіяналізму» у вуснах падпалкоўніка на радыё «Свабода» выглядае найбольш кур'ёзна, што да тэмы гаворкі. Магчыма, ён пераблытаў студыю з кабінэтам, а магчыма, гэта ўжо такі адкрыты стыль паводзінаў, і некаму з МУС і КДБ павінна стаць страшна.

Улічваючы ўсё пачутае, думаю, што найбольш верагодны варыянт зьнікненьня слупка з таблічкай такі, што тыя, хто яго паставілі, тыя ж яго і зьнялі. Інакш лямантy і моцных азначэньняў не было б магчымасьці распачаць.

## Правакацыя

Цяпер аб правакацыі. Курапаты – гэта самы вялікі мэмарыяльны магільнік генацыду беларускага народа. Расстрэлы адбываліся за часы расейскай камуністычнай акупацыі Беларусі, ажыцьцяўляліся расейскім камуністычным НКВД, плянаваліся, кіраваліся і кантраляваліся з Масквы. Расстрэльвалі плянава, па квотах,

па сацыяльнай (заможныя сяляне, багатыя людзі, інтэлігенцыя) і нацыянальнай прыкметах (беларускія паэты, вучоныя, пісьменьнікі, беларускія настаўнікі, беларускія адміністратары, беларускія выхадцы са шляхты). Сумяшчэньне нацыянальнага і сацыяльнага крытэрыяў генацыду сьведчыць, што ў Курапатах ляжыць расстраляны беларускі народ, увесь сацыяльны і нацыянальны кшталт грамадзтва. Археалягічнымі дасьледваньнямі вызначаныя асноўныя сацыяльныя пласты забітых, дзе найбольшую колькасьць займаюць сяляне. Нацыянальную прыналежнасьць археалёгія не заўсёды можа вызначыць, але зыходзячы з шырокіх крытэраў камуністычнага людабойства (паўтаруся) там, у магілах, мусілі б ляжаць прадстаўнікі ўсіх структураў і групаў беларускага грамадзтва. Таму гэты Мэмарыял ёсьць Народны Мэмарыял усіх забітых жыхароў Беларусі.

Будуючы Народны Мэмарыял, мы ўсьведамляем, што кожная нацыянальная група людзей у Беларусі, прадстаўнікі якой былі забітыя ў часе камуна-маскоўскага генацыду і калі гэтаму ёсьць сьведчаньні, доказы ці пацьвярджэньні – могуць адзначыць, азнакаваць крыжам, помнікам ці іншым знакам гэтыя факты ў Курапатах. Гэта іхняя справа і іхняе людзкое права. Такі ёсьць прынцып Народнага Мэмарыялу, які мусіць існаваць вечна. Гэтак зьявіўся помнік расстраляным габрэям і крыж у памяць забітых за часы сталінізму палякаў.

Мы ня раз былі сьведкамі правакацыйных заяваў і спробаў агентуры сутыкнуць людзей і пасварыць іх на магілах па этнічнай прыкмеце. Гэта любімы канёк канторы, якая тут расстрэльвала. Але ні разу ім гэта не ўдалося і ня ўдасца.

Я ацэньваю тое, што робіць І. Кузьняцоў, як правакацыю. Сутнасьць правакацыі, як я перакананы, пабудавана якраз на гэтым прынцыпе – сутыкнцуць беларусаў і палякаў пад дыктоўку Масквы. Польскія афіцэры – гэта не ўвогуле расстраляныя палякі, у памяць якіх у Курапатах ужо даўно стаіць крыж. Гэта сьцісла акрэсьленая група людзей, парэшткі якіх могуць быць археалагічна ідэнтыфікаваныя, якія вымагаюць таксама дакумэнтальнага пацьвярджэньня, бо гэтая група людзей зьяўляецца вострым чыньнікам цяперашніх палітычных дачыненьняў паміж Польшчай і Расеяй. Тут не павінна быць ніякага авантурызму і безадказнасьці (тыпу, як з трацілам на рэштках прэзыдэнцкага самалёту ў Смаленску). З гэтым нельга гуляцца – сёньня так, заўтра гэтак, бо гэта ня жарты.

Тым часам на сёньняшні дзень ні дакуманты, ні археалягічныя раскопкі не даюць падставы казаць, што ў Курапатах расстраляныя і пахаваныя польскія афіцэры. І Кузьняцоў гэта ведае. Дык навошта ён, насуперак перасьцярогам, зрабіў тое, што зрабіў, і пасьля ўсяго пачаў скандаліць і лемантаваць?

Кузьняцоў апраўдваецца, што, маўляў, тут, у Курапатах, хацелі ўвогуле адзначыць забітых польскіх афіцэраў у Беларусі. Але панове, гаспада! Польскія афіцэры былі расстраляныя расейцамі ў выніку расейска-польскай вайны 1939 года. Беларусь з Польшчай не ваявала. Заходняя Беларусь пры дапамозе расейцаў была акупавана Польшчай, а ўсходняя – Масквой. Між сабой Расея (СССР) з Польшчай і ваявалі. І калі вы, гаспада, раскаіваецеся ў забойстве польскіх афіцэраў, то пастаўце свой помнік пакаяньня ў Маскве перад Крамлём, і ня лезьце ў Курапаты.

Правакацыя Кузьняцова накіравана на фальсіфікацыю Курапатаў, на штучную прывязку забойства польскіх афіцэраў да гэтага месца. Шмат якія палякі ў такое маглі б паверыць. Усё гэта выклікала б напружаньне паміж беларусамі і палякамі, скандальныя выступы і кампрамэтацыю сакральнага помніка. ФСБ-НКВД у Маскве пацірала б ручкі.

Я не выключаю, што ў Курапатах могуць быць адкрытыя магілы расстраляных польскіх ваенных. Але калі б такое здарылася, тады б і прымалі рашэньне.

Польскі друк нічога ня піша пра афёру Кузьняцова. У Польшчы, відаць, разумеюць, адкуль тут вушы растуць. Сама асоба падпалкоўніка Кузьняцова нам, франтаўцам, вядомая даўно, яшчэ з той пары, як яго (пасьля сканчэньня палітвучэльні) накіравалі ў 120-ю дывізію пад Менскам на пасаду зампаліта роты 356–га

мотастралковага палка.  Што такое палітрукі ў Савецкай Арміі старэйшыя беларусы добра ведаюць. Памятаюць і Кузьняцова. Сьвет цесны.

Сярэднія і вышэйшыя **дзейныя** афіцэры (адпаведнай ськіваванасьці), будучы ў Савецкай арміі, маглі мець допуск №1 ў сакрэтныя архівы КГБ. Кузьняцоў карыстаўся такім допускам (ён сам пра гэта сказаў на «онлайн-канфэрэнцыі») і як падпалкоўнік запасу мае права карыстацца гэтым допускам па сёньняшні дзень **.**

У змаганьні з Курапатамі задача КГБ-НКВД у дадзеным выпадку простая: падрыхтаваць сваіх «навуковых спэцоў» і «экспэртаў» па Курапатах, якія будуць даваць ўсяму выгадную Маскве і КГБ трактоўку падзеяў, блытаць мазгі людзей.

Чаму падобнай справай пачаў займацца Кузьняцоў – я ня ведаю (магчыма такія яго схільнасьці). Але фактам ёсьць тое, што ён увесь час стажыруецца па Курапатах, апрацоўвае замежнікаў і дыпляматаў. (Дарэчы, дакладна разьлічана, і праверыць няпроста). Цяпер жа падпалкоўнік, відаць, асьмялеў і перабраў меру – узяўся за правакацыю і груба праваліўся.

Усё гэта нельга пакінуць проста так. Абаронцы Курапатаў (найперш КХП – БНФ), якія ўжо 12 гадоў даглядаюць Народны Мэмарыял, аб'явілі, што прысутнасьць такой асобы ў Курапатах ня мае даверу.

Што датычыць мяне, то я падтрымліваю такое стаўленьне. Размова йдзе не пра забарону прысутнасьці, як напісалі  некаторыя журналісты. Тут аб'яўлена да ведама ўсіх, што пэўная асоба не карыстаецца даверам (ёсьць асобай «нон грата») і прысутнасьць яе ў Курапатах фальшывая. І гэта трэба мець на ўвазе.

Да помнікаў існаваньня і сьмерці тыпу Курапатаў у мяне асаблівае стаўленьне. Магільнікі генацыду маюць сваю гісторыю і тэрыторыю на Зямлі, але адначасна (на мой погляд) гэта ёсьць нябеснае цела народа (астральнае, як сказалі б містыкі, аля я ня містык). Разбурэньне зямной асновы такога «цела» прыводзіць да страты, якая ўплывае на будучыню жывых. Будучыні можа ўвогуле ня стаць. Калі ўсё, што творыцца вакол Курапатаў (ад часу іх узьнікненьня) перавесьці ў знакавую сістэму, то мы атрымаем мэтафару – працэсуальную гісторыю беларускага народа за апошнія 75 гадоў.

Тыя беларусы, якія могуць уздымацца над бытам, адчуваюць і разумеюць сакральнае значэньне Курапатаў дзеля нашага духоўнага існаваньня. Што б ні рабілася і што б ні сталася, Курапаты трэба берагчы і аберагаць усімі магчымасьцямі і ўсімі сіламі. І мы ведаем дзеля чаго.

І сілы ў нас хопіць.

*2012 г.* Зянон Пазьняк

# “АПАЗЫЦЫЯ” ПАВІННА ЗЬНІКНУЦЬ. НАПЕРАДЗЕ ВЫЗВОЛЬНЫ РУХ

У сярэдзіне сьнежня, прыехаўшы ў Нью-Ёрк з Варшавы, я меў гутарку па тэлефоне з адным вядомым старэйшым беларускім дзеячом *К.*, які ў каторы раз выказаў мне абурэньне гэтай “апазыцыяй” зь Беларусі. “Слухайце, -- кажа, -- што гэта за людзі там пайшлі?! Якая ж гэта, да халеры, апазыцыя?! Нічога ж беларускага няма. У іх жа няма душы беларускай. Прыехалі зноў нейкія тры кабеты ў Вашынгтон. Ім даюць беларускіх перакладчыкаў, а яны: “Нет, мы по-русски, чтобы понятно было.” Каму “понятно”? Амэрыканцам? Амэрыканцы мне кажуць: “Вы цьвердзіце, што Лукашэнка нішчыць беларускую мову, мы вас падтрымліваем, але ж апазыцыя сама ня хоча мовы”. Што там за мазгаўня ў іх у тым Менску? -- абураецца *К.* – Расея сто гадоў усё беларускае нішчыць, палітыку супроць нас вядуць, русіфікуюць, школы ліквідуюць, вырадка гэтага знайшлі, а яны -- “нет, нам по-русски”. Ну, слухайце, яны ж хворыя! Прычым тут “апазыцыя”?”

Спадар *К.* выдатна ўсё ведае і пра “апазыцыю”, і пра Віка, і пра ўсё, што сталася ў Беларусі з гэтай “апазыцыяй”, якая выплыла на паверхню пасьля расколу БНФ. Але пры кожным сутыкненьні з асобамі той “апазыцыі” ён ня можа ня выявіць эмоцыяў, убачыўшы і адчуўшы, што гэта душэўна чужыя для Беларусі людзі. Ён разумее, што тут саўковасьць, але ўсяроўна ня можа стрымаць пачуцьцяў.

Выпадак такі мне прыдаўся, каб паразважаць, бо якраз у гэтыя дні на некаторых мэдыя-рэсурсах адзначалі другія ўгодкі правакацыі і пабіцьця людзей 19 сьнежня на плошчы Незалежнасьці ў Менску. Выказаліся шмат якія ахвяры і правакатары, прадстаўляючы тыя трагічныя падзеі як гераічны чын “апазыцыі”.

У выніку пагрому грамадзкай супольнасьці мноства людзей апынулася тады за кратамі, і ўся ўвага грамадзтва (пры дапамозе СМІ) была пераключана з абмеркаваньня правакацыі і бязглуздых паводзінаў кандыдатаў, што ўдзельнічалі ў выбарчым фарсе, на пакуты вязьняў у турмах, замкнутых там незаконна, неадэкватна і несправядліва.

У цэлым усе размовы і дзеяньні “апазыцыі” такога роду (як тады, так і цяпер) маюць ня шмат сэнсу, бо тут адсутнічае рэальная нацыянальная барацьба, адэкватныя задачы барацьбы і, адпаведна, -- нацыянальная сіла, якая магла б такую барацьбу пасьлядоўна ажыцьцяўляць.

Пры акупацыйным рэжыме і акупацыйнай дыктатуры, якая праводзіць антынацыянальную акупацыйную палітыку, ня можа існаваць апазыцыі (у дэмакратычным значэньні гэтага паняцьця). Ва ўмовах антынароднай акупацыйнай палітыкі змаганьне супраць такой палітыкі і рэжыму адбываецца ў формах супраціўленьня, вызвольнага руху ці нават партызанцкай паўстанцкай барацьбы (але не “апазыцыі”).

Апазыцыя – гэта адна са структур дэмакратыі і ўзьнікае там, дзе існуе хоць які парлямант, законнасьць і выбары. Тады, маючы прадстаўнікоў у парляманце і ў грамадзкай супольнасьці, апазыцыя прапаноўвае сваю сістэму бачаньня разьвіцьця і кіраўніцтва дзяржавай ды змагаецца за яе дэмакратычнымі законнымі мэтадамі (парлямант, дэманстрацыі, друк, грамадзкія ініцыятывы, крытыка існуючай палітыкі і г. д.). У гэтай сістэме адносін улада і апазыцыя ёсьць рознаper легля сілы-супернікі, непрыяцелі і спаборнікі, аб’яднаныя агульнай краінай, агульным правам, нацыяй, дзяржавай, нацыянальнымі каштоўнасьцямі і нацыянальнымі інтарэсамі.

Пры нацыянальнай дыктатуры і ліквідацыі дэмакратыі ў грамадзтва (пазбаўленага альтэрнатывы) застаюцца, аднак, усе пералічаныя мной супольныя з уладай чыньнікі, акрамя самой улады, ад якой народ адлучаны. Улада самаісна распараджаецца агульнымі народнымі і дзяржаўнымі каштоўнасьцямі.

Тым часам пры акупацыйнай дыктатуры, практычна, усе пералічаныя мной аб’яднаўчыя з грамадзтвам чыньнікі адсутнічаюць і (што важна) ператвараюцца ў чыньнікі разьяднаньня.

Акупацыйная дыктатура праводзіць антынацыянальную акупацыйную палітыку ў інтарэсах чужой дзяржавы і ў інтарэсах свайго самазахаваньня ва ўладзе. Тут падвойная дыктатура і падвойны ўціск. Для акупацыйнай ўлады і палітыкі характэрнымі ёсьць асэнсаванае і сістэмнае вынішчэньне нацыянальнай мовы, нацыянальнай культуры, нацыянальнай школы, нацыянальнага друку і выдаўніцтва, нацыянальнай асьветы і адукацыі.

Акупацыйная ўлада схільная гандляваць нацыянальным суверэнітэтам, нацыянальнымі каштоўнасьцямі і нацыянальнымі рэсурсамі. Яна імкнецца сацыяльнымі, эканамічнымі і адміністрацыйнымі мэтадамі зьмяніць нацыянальную дэмаграфію краіны, шляхам вымушанай унутранай і зьнешняй міграцыі і стварэньнем нецярпімых умоў для працы і свабоды асобы. Да народа антынацыянальны акупацыйны рэжым адносіцца як да чужога акупаванага насельніцтва (Прымусовае высяленьне, згон з зямлі, спаленьне жыльля, пазбаўленьня маёмасьці, прымусовая прывязка да месца працы, разбурэньне традыцыйных інфраструктураў, стварэньне штучнага беспрацоўя шляхам найму замежнай рабочай сілы і выцясьненьня карэнных людзей са сфэры вытворчасьці, непавага да нацыянальнай мовы, алкагалізацыя грамадзтва, хамскія жлобскія адносіны ўлады да людзей і г.д.)

Акупацыйная ўлада стварае ўмовы і заканадаўчыя акты, накіраваныя на ліквідацыю нацыянальнай творчасьці і творчага разьвіцьця асобы, паўсюдна ўводзячы заменьнікі чужой культуры, чужой мовы і чужых інтарэсаў, ад якіх залежным ёсьць антынародны акупацыйны рэжым.

Тут ва ўмовах такога тыпу ўлады і такой палітыкі ў прынцыпе ня можа існаваць апазыцыя. Тут іншыя формы барацьбы.

У 90-х гадах мы (фронтаўцы) падрабязна тлумачылі, што такое ўнутраная акупацыя краіны і якім чынам быў усталяваны такі тып рэжыму ў Беларусі. Тады ж, у 1997 годзе, мной было прапанавана стварэньне Беларускага Вызвольнага Руху на базе БНФ, які павінен быў аб’яднаць усе антырэжымныя беларускія сілы пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам нацыянальнай ідэі і вызваленьня з-пад акупацыйнай антыбеларускай улады. Па гэтым пытаньні была дыскусія ў Фронце, і ў 1997 годзе, на V-м Зьездзе БНФ было прынятае рашэньне аб стварэньні Вызвольнага Руху супраць акупацыйнай дыктатуры.

Менавіта ў гэты час (у адказ на нашу пэрспэктыву стварэньня салідарнай нацыянальнай альтэрнатывы рэжыму) былі кінутыя ў Беларусь шалёныя заходнія грошы на ўтварэньне па-за-нацыянальнай апазыцыі – створаны міжнародны рэсурсны цэнтар Хартыя-97 (праз які пайшло фінансаваньне), і ў Беларусь прыслалі Ганса Віка. Далейшыя падзеі шматкроць і поўна былі ўжо намі апісаныя і паўтораныя. Грошы і заходняя “халява” (дармаўшчына) зрабілі сваю справу.

(Тут зазначу, што ў нацыянальна скансалідаваным грамадзтве чужыя грошы наўрад ці стварылі б там сваю палітычную крэатуру, таму першай справай, за якую ўзяліся заходнія гансвікі, -- гэта гуртаваньне саветызаваных маргіналаў і раскол Народнага Фронту

Структуру, якую назвалі “апазыцыя”, зшылі з неадраджэнцкіх (ненацыянальных) партыяў (створаных яшчэ пры саветах спэцслужбамі), з прагматыкаў -- выхадцаў з БНФ, з камуністаў і з былых функцыянераў Лукашэнкі, якія аб’явілі сябе апазыцыянерамі.

Разбуральны эфэкт і параліч рэальнай барацьбы пасьля расколу БНФ і стварэньня падставы пад назовам “апазыцыя” быў адчувальны. Квітнела імітацыя змаганьня, накіраваная на адпрацоўку грантаў і дармовых грошай. Нам (КХП – БНФ) спатрэбілася больш 10-ці гадоў мэтанакіраванай працы з грамадзтвам, каб абыйсьці

тое гнілое балота, створанае імітатарамі, выйсьці на стыхійны (пакуль што) байкот выбараў і новае грамадзкае думаньне аб палітыцы акупацыйнага рэжыму.

Групы падтрымкі Народнай партыі, якія мы прапануем ствараць на адраджэнцкай платформе, -- гэта першы этап арганізацыі Вызвольнага Руху на новай народнай аснове. Пакуль ня ўзьнікне рэальная народная альтэрнатыва акупацыйнаму рэжыму -- датуль гэтая вікаўская “апазыцыя” будзе яшчэ боўтацца ў палітыцы, выклікаючы злосьць, апатыю, расчараваньне і фальш.

Прыкметы імітацыйнага жыцьця ў змаразмацелай ужо “апазыцыі” праяўляе яшчэ “Говправду”, галоўны на сёньняшні дзень канторскі праект у змарнелым полі вікаўскай авантуры. Сувязь з “спэцпалітыкай” тут ужо нават не хаваюць. “Говправду” выступіла супраць байкоту, удзельнічала ў апошніх фальшывых выбарах рэжыму, падтрымлівае расейскую атаку на Курапаты (авантуру падпалкоўніка Кузьняцова) і рыхтуецца да фальш-выбараў 2015 года.

Ведаючы пра антынацыянальны характар “Говправду” і пра маскоўскую рыторыку ў Някляева, я ў 2010-11 гадах, нягледзячы на тое, прыклаў усё ж шмат намаганьняў (разам зь іншымі беларусамі), каб Някляеў застаўся жывым і не сядзеў за кратамі. Для беларускай культуры важны ёсьць яго літаратурны даробак і паэтычнае імя, а ня тая роля, у якой ён апынуўся па ўласным жаданьні. Пасьля здрадніцкіх паводзінаў функцыянера “Говправду” А. Дзімітрыева і выхаду паэта з турмы, У. Някляеў меў нагоду зьмяніць сваё становішча на больш ганаровае і пазбавіцца ад гэтай структуры. Таго не адбылося. Паэт застаўся ў дрэннай палітыцы, і тое, што ён цяпер робіць і кажа, вымагае палітычных ацэнак.

Шчыра кажучы, шкода, што Някляеў трапіў у чужую схему. З усіх 10-ці кандыдатаў на прэзыдэнта ў 2010 годзе рэальна толькі Някляеў (ня лічачы Лукашэнкі) сабраў патрэбную квоту подпісаў каб стаць кандыдатам. Але паколькі “дзявятка” была праектам рэжыму, Лукашэнка асабіста распарадзіўся, каб у кандыдаты залічылі ўсіх (нават тых, хто перапісаў тэлефонную кнігу).

Дзесьці за паўтары месяцы да галасаваньня недзяржаўныя сацыялагічныя дасьледваньні паказалі, што першым пасьля Лукашэнкі ідзе Някляеў (18 адсоткаў). За ім – усе астатнія: М. Статкевіч, А. Саньнікаў і г. д.

Гэтакі ж парадак паказала і рэальнае галасаваньне (маю факты). Але паколькі ў час галасаваньня Някляева па замове Лукашэнкі сьмяртэльна зьбілі рэжымныя службы, то яго (каб не рабіць аб’ектам асаблівай увагі) пракінулі на трэцяе месца, а на другое паставілі Саньнікава.

Агітпроп “Говправду” нідзе і аніяк не скарыстаў гэты факт (навошта такое канторы). Тым часам “Хартыя” і нешматлікі клан Саньнікава пакарысталіся падарункам Ярмошынай на сто адсоткаў. Раззванілі на ўвесь сьвет, ляпілі з Саньнікава галоўнага суперніка Лукашэнкі, якога той, маўляў, баіцца і г. д. і т. п.

Няма ўжо патрэбы ацэньваць усё тое спрэчнае, што паэт казаў і рабіў у 2010 годзе. Апошняя яго канфэрэнцыя ў Сеціве на радыё “Свабода” у пачатку сьнежня гэтага года паказала тое, што і раней, толькі больш сканцэнтравана, менавіта – адсутнасьць нацыянальнага палітычнага думаньня. Някляеў ня думае нацыянальнымі катэгорыямі беларускай палітыкі. А гэта (асабліва цяпер, пры антыбеларускім рэжыме) выглядае ня проста балесна, а фатальна для палітычнай пэрспэктывы такой асобы (ды і для Беларусі тым больш). У некаторых аспэктах нацыянальнага суверэнітэта (напрыклад, адмаўленьне моцнага беларускага войска) ён апускаецца нават ніжэй за ўзровень Лукашэнкі, не разумее стандартных складовых незалежнасьці (тым больш у нашых геапалітычных умовах) і гатовы ад іх адмовіцца.

У цэлым тут ёсьць таксама адбіцьцё поглядаў асяроддзя, у якое трапіў паэт, але тое не мяняе становішча. Гэтакая палітыка, гэтакія структуры і гэтакае словаблудзтва з функцыянерамі і вясельнымі генэраламі павінна ўжо скончыцца, скончыцца разам з рэжымам, які іх спарадзіў.

Новыя людзі прыйдуць, бо ёсьць ужо тыя, што думаюць па-новаму, не па-саўковаму, але па-своему, па-беларуску.

Без нацыянальна-культурнай беларускай асьветы цяперашняга грамадзтва перамены да лепшага ня будуць ажыцьцёўлены. Групы падтрымкі гэтым павінны займацца ў першую чаргу, пакуль іх ня створыцца шмат і ні пачнецца новы этап Вызвольнага Руху. Усе тыя суполкі (іх больш ста пяцідзесяці), якія стварыліся ў 2011 годзе пад лёзунгам "За новыя выбары без Лукашэнкі" маглі б уключыцца ў гэтую адраджэнцкую праграму дзеяньняў, не чакаючы ніякіх кіроўных указаньняў (іх ня будзе). Гуртуймася і працуйма. Нішто не прападзе. Беларусь наперадзе.

***23 сьнежня 2012 г.*** **Зянон Пазьняк**

# АНТЫБЕЛАРУСКІ РЭЖЫМ ТРЭБА ІЗАЛЯВАЦЬ АД НАРОДА. НЕ СЬВЯТКУЙЦЕ ЯГО ФАЛЬШЫВЫЯ СЬВЯТЫ, НЕ ХАДЗЕЦЕ НА ЯГО ФАЛЬШЫВЫЯ ВЫБАРЫ!

Колькі разоў за гады лукашысцкага рэжыму людзі хадзілі на выбары, столькі разоў іх ашуквалі і хлусілі проста ў вочы.

Людзі нічога ня могуць зрабіць, бо кантроль за галасаваньнем фактычна ліквідаваны, у выбарчых камісіях толькі асобы, адабраныя рэжымам, галасы лічаць, як хочуць. Але што цікава: прымаюцца нават не фальшыва складзеныя пратаколы падліку галасоў у камісіях, а пратаколы галасаваньня – напісаныя наверсе, у рэжымнай адміністрацыі. Людзі і ня ведаюць, адкуль бяруцца тыя 83 адсоткі за “вусатага” і за ягоных лукашыстых.

То ці трэба хадзіць на такія выбары, калі ад беларуса нічога не залежыць, а ягоны ўдзел у галасаваньні выкарыстоўваюць толькі дзеля зручнай фальсіфікацыі. Пасьля выбараў лукашыстыя кажуць: “Людзі галасаваць прыйшлі? Прыйшлі. Галасавалі? Галасавалі. Галасаваньне тайнае? Тайнае.” Вось, маўляў, усе і прагаласавалі за лукашыстых. Усё, маўляў, падлічана. “Элегантная перамога”.

Але калі б беларусы галасаваць не прыйшлі? Што тады? Ну, вядома ж. Лукашыстыя зноў аформяць “элегантную перамогу”. Але цяпер ужо шыла ў мяшку не схаваеш, кожны ўбачыць, што тут за “выбары”. А гэта будзе азначаць, што ізаляцыя антыбеларускага рэжыму народам пачалася. Яна станецца незваротнай.

Нельга хадзіць на фальшывыя выбары і быць шырмай для ашуканцаў. Унутраная ізаляцыя рэжыму ад народа – вось галоўная задача байкоту выбараў і няўдзелу ў фальшывым галасаваньні. Трэба ствараць умовы, каб народ жыў, а рэжым здыхаў (а не наадварот, як робяць лукашыстыя).

Ніхто на фальшывыя выбары!

*2012 г.*

**Ініцыятыва Беларуская Салідарнасьць**
**(Зянон ПАЗЬНЯК)**

# ПРЫЙДУЦЬ НОВЫЯ ЛЮДЗІ

На апошняй канфэрэнцыі ў Сеціве, адказваючы на пытаньне пра «Ракаўскі Бровар», я пералічыў прозьвішчы сакрэтных перамоўшчыкаў з прадстаўнікамі антыбеларускага рэжыму. Файрверкавая рэакцыя на гэта Вінцука Вячоркі, скажу шчыра, была для мяне нечаканай, нават здалася мне нейкай штучнай, прадуманай ад галавы. Я ніколі ня меў зь ім ніякіх асабістых парахункаў, як некаторыя, ня ведаючы, часам могуць падумаць (дый дачыненьняў зь ім ня меў, ён быў значна маладзейшым). Вінцук Вячорка ўваходзіў у групу раскольнікаў БНФ, быў у гэтым актыўным, але ідэолагамі і генератарамі расколу былі іншыя асобы. Гэта вядома. Вінцука Вячорку, якога ня выбралі на шостым Зьезьдзе БНФ (не дабраў чатыры галасы), маніпулятыўна зрабілі старшынём Фронту тыя, што ішлі на зьнешняе фінансаваньне і раскол арганізацыі. Вінцук Вячорка сам таго старшынства хацеў, сам пагадзіўся і сам потым са сваім старшынствам праваліўся. Я яго не рэкамендаваў на старшыню. Якія могуць быць у мяне да яго асабістыя прэтэнзіі? У мяне іх няма.

Той, хто праглядае матэрыялы пра палітыку, ня раз, напэўна, чытаў, што ў мяне быццам бы нейкія пастаянныя закіды Гансу Георгу Віку, якія незразумелыя, бо Вік, маўляў, такі заслужаны прыяцель дэмакратыі ў Беларусі. Але пытаньне з дзейнасьцю Ганса Віка ў Беларусі значна больш сур'ёзнае, чым некаторыя сабе ўяўляюць. Тут я закрану асобныя аспэкты яго дзейнасьці.

Вінцук Вячорка зьмясьціў на Свабодзе адразу два матэрыялы. Адзін называецца: “Вячорка: 1,5 мільёна даляраў пайшлі не апазыцыі, а на ўтрыманьне КНГ АБСЭ», другі -- «Вячорка адказаў Пазьняку: Мэсія ня прыйдзе». У тэксьце ён пяць разоў называе мяне «паклёпнікам» і піша наступнае: «Абразіўшы Бяляцкага, Зянон Станіслававіч апынуўся па той бок маралі. Па адзін бок з нашчадкамі Бэрыі й Цанавы». З гэтага можна зрабіць выснову, што Вінцук Вячорка быў тут у нэрвовым стане і не зусім разумеў, што пісаў. Ён піша пра грошы Ганса Віка і хоча пераканаць, што іх было няшмат, бо гэта, маўляў, бюджэт Менскай місіі АБСЭ, а значыць на падрыхтоўку перамоўнага працэсу і на «бровар" пайшла толькі частка, мізэр. Такая тут відаць логіка.

На Інтэрнэт-канфэрэнцыі і ў іншых выступах я сапраўды згадваю пра грошы выдаткаваныя Гансу Віку і спасылаюся на ягонае інтэрв'ю газэце. Але сэнс размовы не пра грошы, а пра тое на якую мэту былі яны прызначаны, пра фактычную фальшывасьць новых вікаўскіх апазыцыянераў-прагматыкаў ды пра супрацу Ганса Віка з КГБ, пра што ён сам сказаў ў інтэрв'ю.

Ганс Вік адлюстроўваў намеры пэўных нямецкіх палітычных колаў па далучэньні Беларусі да Расеі. Ствараючы ў Беларусі сваю апазыцыю, немцы хацелі дамагчыся потым ад яе згоды на гэтае далучэньне да Расеі. Маючы такое на мэце, была арганізавана падрыхтоўка да перамоўнага працэсу з рэжымам і адначасна (падвойным дном) таемныя спатканьні прадстаўнікоў улады і новай (толькі што створанай) прагматычнай апазыцыі ў півярні «Ракаўскі бровар» у Менску. (Легальныя перамоўшчыкі пра тое ня ведалі.) З гэтага вынікае (калі ўсё ўзважыць), што нямецкі спадар лічыў, відаць, гэтых апазыцыйных асобаў за поўных «лохаў» і, як ня дзіўна, ледзь не дасягнуў сваёй мэты. Але пра гэта потым. Спачатку пра «паклёпніка» і грошы Віка.

Вінцук Вячорка піша, што ён «не палянаваўся ўважліва прачытаць крыніцу» і там, маўляў, сказана, што гэта быў бюджэт Кансультацыйна-наглядальнай групы АБСЭ. «Гэта значыць, што КНГ АБСЭ, якая працавала ў Беларусі, здаецца, два з паловай гады, з гэтага бюджэту аплочвала свае выдаткі: арэнду, жытло для супрацоўнікаў, іхнія выправы, у тым ліку дадому, ня танных замежных экспэртаў, заробкі сабе і г. д.», -- піша ён.

Тлумачэньне В. Вячоркі бачым. А цяпер цытуем словы Віка з газэты цалкам.

«Когда я руководил миссией ОБСЕ в Беларуси, мы пытались правительство и оппозицию привести к общему столу переговоров, чтобы реформы были либеральными и чтобы они подходили одной и другой стороне. В 1999 г. Лукашенко подписал Стамбульские соглашения, в которых взял на себя обязательства диалога с оппозицией, обеспечения демократических выборов, свободы слова, прекращении давления на СМИ. Он все это подписал! ОБСЕ, решив, что подпись что-то значит, **выделил деньги, все до последнего цента, на переговоры с оппозицией, на консультации с независимыми СМИ.** (Бюджет КНГ и бюджеты ориентированных на эти цели фондов, доступ к которым открыла Европейская комиссия, в совокупности составили немногим меньше **полутора миллиона долларов. Эти деньги прямо и косвенно были направлены на поддержку диалога между правительством Беларуси и оппозицией. - И.Ч.**) И все европейские правительства были в курсе, не было никаких тайн! Единственной тайной было то, что бумаги подписывал также шеф белорусского КГБ, других тайн не было». (БелГазета, -- 2004, 12 студзеня).

Сутнасьць словаў Віка (і тлумачэньне журналісткі) мной выдзелена чорным шрыфтам.

АБСЭ «**выделил деньги, все до последнего цента, на переговоры с оппозицией, на консультации с независимыми СМИ».**

Далей журналістка ўдакладняе, што гэты «бюджет КНГ и бюджеты ориентированных на эти цели фондов, доступ к которым открыла Европейская комиссия, в совокупности составили немногим меньше **полутора миллиона долларов. Эти деньги прямо и косвенно были направлены на поддержку диалога между правительством Беларуси и оппозицией.**»

У першым тэксьце Вінцук Вячорка, магчыма, думаў увесьці чытачоў у зман (альбо не чытаў цытаты Віка). Потым, відаць пачытаў і ўжо ў матэрыяле «Мэсыя ня прыйдзе» надрукаваў словы з «БелГазеты», але пакінуў бяз зьменаў свае папярэднія тлумачэньні, што гэта, маўляў, «некалькігадовы бюджэт» КНГ АБСЭ, што тут і аплата супрацоўнікам, і аплата жыльля супрацоўнікаў, арэнды офісаў і г.д.

За каго Вінцук Вячорка прымае свіх чытачоў? За ідыётаў? Ці можа ён думае, што яны не прачытаюць словы Віка, а толькі выкрутасы Вінцука Вячоркі? Вось вам і «паклёп».

Але мая інфармацыя была ськіравана тут не на аплату, а на тое, што сказана далей. Не істотна якую суму (хоць яна дакладна названа) немцам адпусьцілі на гэтую нямецкую справу. Істотна было наступнае: **«И все европейские правительства были в курсе, не было никаких тайн! Единственной тайной было то, что бумаги подписывал также шеф белорусского КГБ».**

Ці разумелі гэтыя гора-палітыкі, седзячы ў півярні, што яны трапілі ў распрацоўку дзьвюх палітычных сіл – нямецкай (Ганс Вік – былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны) і расейскай (праз «белорусский КГБ»), у якіх была адна мэта: загнаць Беларусь у Расею. Калі не разумелі (былі «прастачкамі»), то гэта яшчэ неяк па-бытавому іх апраўдывае (хаця якая ўжо тут «палітыка»). Але калі разумелі і пайшлі на такое дзеля грошай, то гэта як называецца?

Пакуль што я стаўлю пытальнік, бо людзі там былі розныя. І ўсё пранесла (пры вялікім напружаньні і змаганьні грамадзтва) – Беларусь засталася незалежнай. Але які вынік прагматычнай псэўда-апазыцыйнай працы на чужых грашах за 13 гадоў? Вынік нават не нулявы, а мінусовы. Ні адной станоўчай справы. Ні адной перамогі. Яны заехалі ў поўны тупік і працягваюць спадзявацца на замежныя грошы ды імітаваць палітычную дзейнасьць. Ізноў жа, як гэта ўсё называецца? Падскажыце. Можа гэта прадажнасьць? Ці можа наіўнасьць? А пачалося ўсё адтуль, ад узаемадзеяньня з Гансам Вікам.

1999-2002 гады (як і раней 1996) былі вельмі пагрозьлівыя для незалежнасьці Беларусі. На гэты час прыпадае кульмінацыя нямецка-расейскай палітыкі па ліквідацыі беларускай незалежнасьці. Адзначу схематычна некалькі тычак гэтага пэрыяду.

Лістапад 1999 г. Стамбульскі саміт АБСЭ. Запрашаліся кіраўнікі ўсіх беларускіх партыяў. Ганс Вік лёг касьцьмі, каб ў Стамбуле не было мяне і прадстаўнікоў нашай партыі. З цяжкасьцямі паляцеў туды мой намесьнік Юры Беленькі. Лукашэнка пагадзіўся прыняць умовы АБСЭ аб правядзеньні выбараў у «палату» ў 2000 годзе.

Нямецка-расейскі плян заключаўся ў тым, каб міжнародна прызнаць выбары ў «палату» дэмакратычнымі. Потым «палата» (пры дамоўленасьці з Лукашэнкам) прымае рашэньне аб інтэграцыі з Расеяй. На 2001 год ў Расеі плянавалі рэфэрэндум аб «прыняцьці» Беларусі ў склад РФ, які далей мусіў быць прадубляваны ў Беларусі.

У Стамбуле пасьля саміту Лукашэнка запрашае ўсю прагматычную «апазыцыю» ў свой самалёт ляцець разам у Беларусь. «Апазыцыя» з радасьцю пагаджаецца. Але клямка не ляпнула. Катэгарычна не згадзіўся Юры Беленькі. («Я же говорил, я же говорил, – залемантаваў Гайдукевіч, – что Беленький будет против».) Лукашэнка паляцеў сам.

Чэрвень 2000 года. Ганс Вік запрашае ўсіх кіраўнікоў партыяў у Бэрлін на спатканьні зь нямецкімі палітыкамі. Туды ж былі запрошаныя і прадстаўнікі рэжыму Лукашэнкі. Ганс Вік зноў клаўся ўпоперак, каб не дапусьціць мяне. (Тады я вырашыў, што зноў паедзе Юры Беленькі.)

Спатканьні былі на высокім ўзроўні. Немцы ўсюды казалі беларусам, што адзіны шлях Беларусі, каб здабыць дэмакратыю – гэта далучыцца да Расеі, якая, маўляў, «у дэмакратыі пайшла далёка наперад». Усіх агітавалі яшчэ індывідуальна. Парадам камандаваў Ганс Вік. Рыхтавалі нейкае камунікэ.

На заключным паседжаньні ўсе немцы выступілі ў адно – ідзіце ў Расею. Толькі адзін у канцы сказаў: «А ўвогуле вы можаце пагадзіцца ўвайсьці ў Расею, калі толькі зможаце потым глядзець у вочы сваім дзецям».

Вынік быў некарысным для Віка. Нямецкія парады разьбіў Юры Беленькі. Яго са скрыпам падтрымаў С. Шушкевіч, а потым і В. Вячорка. Астатнія змаўчалі. Камунікэ не прынялі.

25-га верасьня 2000 года Ганс Вік выступае на міжнароднай канфэрэнцыі ў Беластоку і кажа наступнае: **"На протяжении двух лет приоритетной задачей КНГ ОБСЕ было содействовать включению Беларуси в состав России. С одной стороны, это соответствует экономическим интересам Германии. А с другой - белорусы ведь не понимают, что для них это наиболее короткий и безопасный путь к демократии. Так как в этом случае и в Беларуси будут действовать куда более демократические законы Российской Федерации".** (БелГазета, -- 2000, 16 кастрычніка).

Гэтыя словы выклікалі абурэньне прысутных. 30-га верасьня Валянцін Голубеў (удзельнік беластоцкай канфэрэнцыі) расказвае пра гэта на Каардынацыйнай Радзе Дэмакратычных Сілаў і ... поўнае маўчаньне КРДС. Чаму? Таму што Ганс Вік на той час быў амаль што адзіным «рэсурсным цэнтрам» для прагматычнай апазыцыі.

Хіба прагматыкі, што таемнічалі з лукашыстамі ў «Ракаўскім бровары» пад кантролем Віка ня ведалі, што ён кажа і чым займаецца? Вось як апісвае сытуацыю зь Вячоркам Юры Беленькі:

«На наступны дзень (пасьля выступу палатніка Жушмы па БТ, які ўсіх заклаў) перад паседжаньнем «аб'яднанай апазыцыі» ў прысутнасьці чалавек, здаецца, васьмі я запытаўся ў спадара Віка: «Скажыце, калі ласка, хто з сяброў БНФ быў заўчора на згаданым Жушмам паседжаньні?»

-- Я не памятаю, -- коратка адказаў Вік.

Тут адчыняюцца дзьверы – уваходзіць Лябедзька. «Анатоль, -- пытаюся я, -- хто ад БНФ быў заўчора разам з табой у «Ракаўскім бровары»?

-- Вячорка і Хадыка, -- проста адказаў ён.

Адразу ж пасьля слоў Лябедзькі ўваходзіць Вячорка.

-- Вінцук, -- кажу, -- дык раскажы, аб чым ты заўчора дамаўляўся з лукашыстамі ў «Ракаўскім бровары»?

І тут зусім нечаканая для мяне рэакцыя Вячоркі. З абурэньнем, часта дыхаючы, на павышаных танах ён выгукнуў: «Гэта ўсё хлусьня, я там ніколі ня быў!»

І сьледам – спакойныя словы, здаецца Аляксея Караля: Вінцук, маўляў, цішэй. Лябедзька ўсё расказаў. Вінцук змаўкае, сядае на сваё месца. Пачынаецца паседжаньне. Сядзеў ён за сталом насупраць мяне. Я ня вытрымаў і зь лёгкім сарказмам пытаюся, кшталту, ці добрае піва падавалі ў «Бровары»? І тут жа ў адказ даволі гучна чую: «Калі ты дзе-небудзь яшчэ пра гэта скажаш, мы знойдзем спосаб з табой разабрацца». (Як кажуць, зьдзіўленьню майму не было канца – такое пачуць ад акуратнага Вінцука)». (З. Пазьняк. Цяжкі час. Працяг, т. 3, -- Варшава-Нью Ёрк-Вільня, 2010, с. 898).

Што кажа цяпер Вінцук Вячорка:

«Ня люблю той бровар ... я ніколі там ня быў ані зь Вікам, ані з рэжымнымі, ані на таемных перамовах. Ніякога Жушму ня ведаю».

Ну што тут скажаш, ён зноў цьвердзіць, што ня быў. Можа правал памяці.

Выбары ў «палату» павінны былі адбыцца 15 кастрычніка 2000 года. Лукашэнка адкінуў умовы Стамбульскага саміту АБСЭ. Пасьля гэтага наша партыя (КХП – БНФ) прапанавала рэжымныя выбары байкатаваць. Усе партыі пагадзіліся акрамя «Народнай Грамады» М. Статкевіча (Статкевіч падтрымліваў і працягвае падтрымліваць усе фальшывыя выбары рэжыму). Партыі выступілі з патрабаваньнем да АБСЭ не прысылаць на недэмакратычныя выбары назіральнікаў. Гэтаму запрацівіўся Ганс Вік. Ён запрасіў назіральнікаў з розных краін з мэтай пераканаць іх, што ў Беларусі дэмакратыя і што ўсе партыі за тое, каб прыехалі назіральнікі і каб далучыцца да Расеі. Перад гэтым ён наладзіў спатканьне са спонсарамі для «аб'яднанай апазыцыі». Спонсары паабяцалі рэсурсы. Кожнаму, хто толькі б пагадзіўся ўдзельнічаць ў выбарах, немцы адразу давалі за гэта пяць тысячаў даляраў.

На спатканьне з замежнымі назіральнікамі Вік спэцыяльна прывёз з Масквы групу перакладчыкаў – усіх рослых, як на падбор, са спартыўнай выпраўкай, коратка падстрыжаных.

Але паседжаньне ў Нямецкім цэнтры ў Менску прышлося перанесьці ў маленькую залю, бо пад вокнамі стаяў пікет КХП – БНФ з плякатамі аб адстаўцы Віка і замежнікі, якія нічога не разумелі, пачалі цікавіцца. Каб згладзіць сытуацыю, Вік выйшаў і запрасіў Ю. Беленькага на паседжаньне. Калі «апазыцыянеры» выступалі, маскоўскія перакладчыкі кожнаму замежніку шапталі пераклад.

І ўсё было б для Віка па-пляну, калі б Вінцук Вячорка, гэтак жа як і ў Бэрліне, казаў па-руску. Але ў Бэрліне за расейшчыну калегі потым зь яго зьедліва пацьвельваліся. Вячорка пакрыўдзіўся і ў Менску выступіў па-беларуску, ня бачачы адчайных знакаў Ганса Віка.

Працэс акалпачваньня замежнікаў спыніўся, бо «перакладчыкі» не разумелі мовы. Пачалася ціхая паніка. Юры Беленькі запатрабаваў беларускага перакладчыка. Вік быў вымушаны пагадзіцца. Ю. Беленькі выступіў і сказаў, што «Беларусь хочуць загнаць у расейскі канцлягер, што ў краіне няма дэмакратыі і зьнікаюць людзі».

І тут профі Вік сарваўся. Ён ускочыў і прарэзьлівым голасам закрычаў: «Гэта ня так! Гэта правакацыя Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі!» Але ўжо ўсё перакулілася. Ашарашаныя замежнікі, распрапагандаваныя Вікам, аказваецца нічога ня ведалі, бо Вік казаў ім, што Беларусь хуткім тэмпам ідзе да дэмакратыі і хоча ў Расею.

Такі вось характэрны эпізод, што да паводзінаў Ганса Віка. Пасьля правалу з «перакладчыкамі» Вік двойчы прысылаў свайго «парлямантара» да кіраўніцтва КХП – БНФ з пагрозамі зрабіць ізаляцыю нашай Партыі ў сьвеце, калі Партыя ня выканае яго ўмоваў. У партыі над пагрозамі Віка пасьмяяліся. (Хаця, як мне здаецца, ажыцьцяўленьню сваіх пагроз Ганс Вік пасьвяціў потым добрую рэшту свайго жыцьця.)

Тут яшчэ дадам, што назіраючы гэтую вікаўскую палітыку, у нас, нарэшце, лопнула цярпеньне. Сойм КХП – БНФ аб'явіў Ганса Віка пэрсонай нон-грата ў

беларускім палітычным асяроддзі, запатрабаваў яго адстаўкі і выезду зь Беларусі. Гэтае рашэньне і патрабаваньне Сойму мы накіравалі ў Парляманцкую Асамблею АБСЭ, Старшыні АБСЭ, Міністру замежных справаў Нямеччыны, амбасадару Нямеччыны ў Беларусі і ў Бундэстаг. 29 студзеня 2001 года мне афіцыйна паведамілі зь Місіі АБСЭ ў Аўстрыі аб разглядзе нашых патрабаваньняў. Ганса Віка хацелі адклікаць у траўні-чэрвені, але дацягнулі да канца кадэнцыі (восень 2001 г.).

Акрамя Бэрыі і Цанавы Вінцук Вячорка абыгрывае маё інтэрв'ю, дзе было сказана пра інфармацыю з КГБ, кажа пра «інфарматараў і дараднікаў», намякаючы, што я іх там маю і слухаю, што яны кажуць. І яшчэ ён піша: «скажы мне, хто твой дараднік, і я скажу, хто ты». (Ай ды Вінцук Вячорка, ай ды артыст – вышэйшы пілатаж!)

Маю я інфарматараў ці ня маю гэта ня будзе публічна абмяркоўвацца. Можа я іх маю ўсюды, а можа нідзе. Страта невялікая. Сістэма настолькі дзіравая, што доўга нідзе нічога не затрымліваецца. Зьвесткі бягуць адусюль і ня трэба вялікага ўменьня, каб разабрацца, дзе факты, а дзе «ліпа». У сакрэтных перамовах з прадстаўнікамі рэжыму акрамя Вячоркі ўдзельнічалі А. Лябедзька, М. Статкевіч, С. Калякін, С. Гайдукевіч , Ю. Хадыка і яшчэ М. Пліска (быў такі дэмакрат у АГП). Але сакрэт ёсьць сапраўдным сакрэтам тады, калі пра яго ведае толькі адна асоба. Гледзячы на тую небясьпечную камэдыю з «сакрэтным» броварам, часам ня ведаеш ці тут плакаць, ці сьмяяцца з тых «сакрэтаў».

Вяртаючыся да Віка. У аснове нямецка-расейскага пляну «далучэньня» Беларусі да Расеі, які ажыцьцяўляў Вік, з боку немцаў галоўным было эканоміка (транзыт газу і нафты) і геапалітыка (ціск на Польшчу). Тыя ж аспэкты і з боку Расеі. Поўнае супадзеньне.

Трэба сказаць, што Гансу Віку дапамагала група афіцыйных асоб (і ня толькі немцы). Памятаем, напрыклад, такога Адрыяна Севярына – былога старшыню Парляманцкай Асамблеі АБСЭ, а потым адмысловага дакладчыка ААН па правах чалавека ў Беларусі. Ў мінулым годзе ён быў пазбаўлены ў Эўрапарляманце дэпутацкага імунітэту і аддадзены пад суд у справе аб карупцыі і падробцы фінансавых дакумантаў.

Гансу Віку і ягоным лабістам, аднак, не ўдалася стратэгічная апэрацыя ў самым галоўным. Не ўдалося загнаць Беларусь у Расею. І таму двухсэнсоўныя паводзіны прагматычнай вікаўскай апазыцыі ў той час сталі неўзабаве якбы неактуальнымі. Тым часам шкода, якую зрабілі для Беларусі Ганс Вік і ягоная «апазыцыя», велізарная. Найперш тое, што яны развалілі Народны Фронт і пазбавілі Беларусь у змаганьні з антыбеларускім рэжымам нацыянальнай альтэрнатывы. Сваім прагматычным падыходам да палітычнай барацьбы яны ператварылі палітычную дзейнасьць ў бізнэс на імітацыі палітыкі, сапсавалі гэтым цэлае пакаленьне маладых актыўных людзей. У 2004 годзе яны сваім удзелам у антыканстытуцыйным рэфэрэндуме, агітацыяй і дзеяньнямі актыўна паспрыялі ўсталяваньню антыканстытуцыйнай, бястэрміновай асабістай улады Лукашэнкі.

За 13 гадоў існаваньня на чужых грашах яны не зрабілі нічога станоўчага ў палітыцы, не дасягнулі ніводнай нават мінімальнай перамогі. Наадварот, удзельнічалі ва ўсіх антынародных праектах рэжыму.

Разваліўшы Народны Фронт, Ганс Вік і памагатыя, стварылі і пакінулі ў Беларусі такую квазі-апазыцыю, якая шчыльна кантралюецца агентурай рэжыму з Усходу і амаль цалкам кантралюецца грашыма з Захаду, выконвае ролю маніпуляцыйнай прылады ў палітыцы паміж Усходам і Захадам, Захадам і рэжымам.

І вось карцінкі фінальнага выніку гэтага прагматызму. 26 кастрычніка гэтага году «апазыцыянер» **А. Лагвінец** кажа на зборцы ў Празе, што **«беларусы ніколі ня мелі такога ўзроўню дабрабыту як пры Лукашэнку».** Яго падтрымала «апазыцыянер» **Л. Гразнова** і сказала, што **«апазыцыя» павінна працаваць над мадэрнізацыяй сістэмы»** і г. д. (Радыё Свабода, 26 кастрычніка).

Зрэшты, відаць, недакладна я назваў. Тут не «фінальны вынік», а звыклая псэўда-ідэалягічная (халуйская) руціна палітызаваньня вікаўскай «апазыцыі». Яны ўвесь час такое казалі. Вось глянем наўгад у 2001 год. Цяжкі час для Беларусі. «Дэмакрат» **Таццяна Процька** дае інтэрв'ю: **«Как «лукашисты», так и оппозиционеры, должны четко уяснить, – допустить нелегитимного, с точки зрения мирового сообщества, президента, нельзя».** (Народная Воля, -- 2001, 20 лютага). Гэта яна пра выбары Лукашэнкі. Ці вось іншы «апазыцыянер-дэмакрат» -- **Міхаіл Марыніч.** Гэты «таварыш» ў 2007 годзе з групай расейцаў і немцаў нават праграмны твор напісаў (фінансаваў Нямецкі Банк), які называўся «Стратэгія для Беларусі». Там напісана: **«Будучыня Беларусі павінна стаць сумесным эўрапейска-расейскім праектам... Прыярытэтнымі павінны стаць зканамічныя інтарэсы як Расеі, так і Эўразьвязу...»** (З. Пазьняк. Цяжкі час. Працяг, т. 3, -- Варшава-Нью Ёрк-Вільня, 2010, с. 668). І такога шмат. Усе ж выказваюцца. (Цяпер беларусы падпісваюць «Віленскі мэмарандум», разумеючы, што гэта ёсьць прызнаньне ідэалаў БНР. Дык жа знайшоўся «апазыцыянер» **А. Санікаў,** які нават супраць БНР выступіў.)

Камэнтары тут не патрэбныя. Байкот пацьвердзіў відавочнае, што на шляху да ліквідацыі антыбеларускага рэжыму гнілой калодай ляжыць гэтая вікаўская псэўдапазыцыя. Пакуль калода застаецца ляжаць, ніякага руху наперад ня будзе. І ніякага выніку. Аб'ектыўна яе неабходна прыняць з дарогі і скінуць пад адхон. І чым хутчэй, тым лепей.

Што датычыць Вінцука Вячоркі і іншых, якія адкалоліся ад БНФ і пайшлі на «фінансаваньне», то зь імі здарылася тое, што я сказаў ім летам 1999 года. Людзі якія пойдуць да іх на прагматычныя каштоўнасьці пераўзыдуць па інтрыгах і сквапнасьці іх самых і вытураць іх у каршэнь разам з ўсёй іхняй адукацыяй і інтэлектам. Так яно і сталася. Прыйшлі лейтэнанты і павыганялі ўсіх. Самы час задумацца. Можа нават пакаяцца. Хаця, як кажуць, ад сябе не ўцячэш.

Стварайма беларускую народную альтэрнатыву. Гуртуймася (спакойна, бяз шуму) у групы падтрымкі «народнай партыі» (КХП – БНФ). Гэта проста, пакуль што законна і эфэктоўна. У пэрспэктыве будзе новая народная партыя беларускай салідарнасьці. Так некалі ствараўся Народны Фронт. Інфармацыю пра групы падтрымкі можна ўбачыць на старонцы

<narodnaja-partyja.org>

Прыйдуць новыя людзі. Вырашыць народ, які ўсё больш ўсьведамляе сябе сам. Зьявяцца новыя лідары і змагары не за мамону і без заганы, але за вольную, сьветлую, разумную і добрую Беларусь.

*2012 г.* Зянон Пазьняк

# 2013

# ПАСЬЛЯ БАЙКОТУ

*(Ліст да сяброў Сойму КХП – БНФ)*

Ацэньваючы ўсё, што адбываецца цяпер у Беларусі (і там, дзе апынуліся беларусы), належыць не забывацца пра сацыяльна-палітычную сістэму гэбізму, у якую абрынулася Беларусь і Расея. Гэта сістэма, дзе галоўнай палітычнай сілай, якой належыць абсалютная ўлада ў краіне, ёсьць КГБ. Фармальныя адрозьненьні паміж рускім і беларускім гэбізмам не прынцыповыя. У Расеі карпаратыўны рэжым, у Беларусі – аўтарытарны на ўзроўні дыктатуры. Прынцыповай ёсьць залежнасьць акупацыйнага гэбізму ў Беларусі ад гэбісцкай сістэмы Крамля. Гэтая залежнасьць дазваляе Маскве маніпуляваць аўтарытарнай уладай і праводзіць праз яе антыбеларускую палітыку ў Буларусі.

Мэта гэбізму – прыватызацыя дзяржавы і ўзбагачэньне палітычнай групы ўлады за кошт народа і за кошт краіны. У зьнешняй палітыцы – гэта забесьпячэньне расейскіх імпэрскіх інтарэсаў. (Кожны гэбізм сам рабуе свой народ, але ў палітыцы забясьпечвае расейскія інтарэсы.)

Веданьне палітычнай сутнасьці сістэмы, дзе КГБ ёсьць абсалютная ўлада, дазваляе адэкватна ацэньваць гэбісцкую палітыку.

У апошні час яна актывізавалася ў антыбеларускім накірунку. У Беларусі йдзе глыбокая зачыстка грамадзянскай супольнасьці, эскалацыя страху і атака на сакральныя вобласьці беларускай нацыянальнай гісторыі, перш за ўсё, на Курапаты і на памяць пра Кастуся Каліноўскага.

За мяжой уведзены ў дзеяньне агентурныя сеткі, поўным ходам ідзе імітацыя розных дэмакратычных ініцыятываў, "беларускіх дамоў", інфармацыйных бюро "за дэмакратыю" і г. д. Мэта гэтай дзейнасьці такая ж, як і ў Беларусі: стварыць падставу, імітацыю, замкнуць на сябе рэсурсы, узяць на сябе прадстаўніцтва ў палітыцы і задушыць сапраўдныя беларускія арганізацыі, што існавалі дагэтуль.

Трэба ведаць, што арганізацыйная задача агентуры ў стварэньні псэўдаапазыцыйных груп – гэта самаакупнасьць, г. зн. выкарыстаньне тых сродкаў, якія вылучаны Захадам для "падтрымкі дэмакратыі", а таксама кантроль над гэтымі рэсурсамі. Сама ж агентура займаецца і выбіваньнем гэтых сродкаў "на дэмакратыю" (характэрны прыклад – "Говправду").

Першая прыкмета падстаўной арганізацыі – расейская мова ў пісьме і дачыненьнях і адсутнасьць нацыянальных праблем ў зьмесьце і дэклярацыях імітацыйнай дзейнасьці, прытым ў імітацыю прыцягваюцца таксама (як правіла) і ворагі Беларушчыны (пад выглядам дэманстрацыі дэмакратычнага падыходу, аб'яднаньня ўсіх сіл і т.п.).

Рэжым цалкам кантралюе гэтую агентурную публіку, часам саджае некаторых у турму дзеля алібі ды прафілактыкі, ды гандлю з Эўропай. Пасьля 2010 года масы іх апынуліся за мяжой і даволі хутка структурызаваліся па грантах і офісах.

Сытуацыя ўскладняецца, практычна, поўнай адсутнасьцю беларускіх нацыянальных незалежных мэдыя-рэсурсаў масавага ўплыву. Мы ня маем нават такіх

сродкаў інфармацыі, як мелі чэчэнцы ў пэрыяд вайны з Расеяй (“Чэчэн-прэс” і “Каўказ-Цэнтар”).

Галоўны інфармацыйны герой існуючых нібыта “незалежных” СМІ ёсьць Лукашэнка. Яго партрэты, каснаязычныя выказваньні і любыя “піскі” не зыходзяць са старонак такога квазісвабоднага друку. Бачачы актывізацыю жаўцізны ў гэтых сродках, актыўнасьць агентуры ў Беларусі і за мяжой, можа ўзьнікнуць думка, што беларускія справы дрэнныя, што йдзе трыюмф нечысьці.

Такая думка недакладная, бо актывізацыя нечысьці пачалася найбольш пасьля псэўдавыбараў у мінулым годзе, калі адбыўся пасыўны, але татальны, байкот галасаваньня па ўсёй краіне. Рэжым робіць адчайныя крокі, каб заштурхаць усё назад і ня даць разьвіцца грамадзкаму пратэсту, дзеля якога ўжо зьяўляюцца пэўныя ўмовы. Вось гэтым усё і тлумачыцца. Вось тут і ёсьць галоўнае поле бою, якое вядзем мы супраць рэжыму і ягонай “апазыцыі”. Гэта неабходна памятаць і працягваць змаганьне.

Псэўдаапазыцыя ня зьнікне, пакуль ня зьявіцца моцная беларуская альтэрнатыва рэжыму. Да гэтага часу псэўдаапазыцыйнае шкодніцтва будзе пастаянным. Цяпер некаторыя зь іх пачалі ўжо зноў тлуміць галовы людзям (тым, хто іх яшчэ слухае), што трэба рыхтавацца, маўляў, да выбараў 2015 года і ўжо цяпер абраць адзінага кандыдата на прэзыдэнта. І гэта пасьля правакацыі 2010 года. Вожык бы зразумеў. Але тут ня вожык. Кантора пачынае зноў гуляць у зацяганую сваю гульню, якая прапісана ім ад пачатку стварэньня і заганяць людзей на фальшывыя выбары рэжыму.

Зразумела, што ў псэўдавыбарчай афёры гэтай хунты ўдзельнічаць нельга, бо гэта ня выбары, і Лукашэнка не прэзыдэнт, а ўзурпатар улады. Не бывае прэзыдэнтаў па 20 гадоў запар.

Нашыя лёзунгі байкоту павінны быць:

- “Ніякіх выбараў з Лукашэнкам!”; 2) “Выбары – без Лукашэнкі!”

Гэтыя лёзунгі мы паставілі яшчэ ў 2010 годзе. Яны актуальныя ўвесь час. Насельніцтву ня трэба ўдзельнічаць у псэўдавыбарах узурпатара і падтрымліваць гэтым яго існаваньне. У беларусаў тут свая пазыцыя, сваё меркаваньне і сваё законнае патрабаваньне. І ўсе правы за народам.

Перад беларусамі вельмі шмат працы, каб зьмяніць становішча. Ня трэба спадзявацца, што час працуе на нас, бо можна яго змарнаваць, калі самы ня будзем на гэты час працаваць.

Вельмі важна, каб пайшоў працэс стварэньня групаў падтрымкі Народнай партыі і паварот да Беларускага Вызвольнага Руху (у нашай сытуацыі гэта мірны рух). Тады можна будзе казаць аб іншай тактыцы змаганьня. Пакуль што нацыянальная асьвета, абарона і прапаганда нацыянальных каштоўнасьцяў, падрыхтоўка грамадзкага асяроддзя застаюцца неабходнай чыннасьцю нашай арганізацыі і ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь! Слава Айчыне!

*13. 01. 2013 г.* Зянон Пазьняк

# “ЗА СВАЮ ЗЯМЛЮ РОДНУЮ”

*(Выступ на лютаўскім Сойме КХП-БНФ
і БНФ “Адраджэньне”)*

1-га лютага 1863 года, 150 гадоў таму, пачалося паўстаньне супраць Расеі ў Беларусі-Літве, а 2-га лютага споўнілася 175 гадоў з Дня народзінаў кіраўніка паўстаньня і вялікага сына Беларусі Кастуся Каліноўскага. Гэта выбітныя юбілейныя даты вялікай падзеі і вялікага чалавека. Сёньня мы ўрачыста адзначаем гістарычны юбілей паўстаньня ў нас на Сойме і ва ўсёй нашай адраджэнскай народнай Партыі.

Паўстаньне Каліноўскага ўзьняло над галовамі беларусаў нацыянальную ідэю і пазначыла межы нашай Айчыны, волі і незалежнасьці беларускай крывёй.

Дзеля таго, каб мы ў 1991 годзе, упершыню за 200 гадоў акупацыі дамагліся незалежнасьці Беларусі, патрэбна было паўстаньне Каліноўскага. Такая ёсьць гістарычная праўда змаганьня за волю.

Усе наступныя пакаленьні, што вырастаюць над неадпомшчанай магілай Кастуся і ягоных паплечнікаў застаюцца ў даўгу перад героямі, бо да гэтага часу не пазначаны межы і воля крывёй чужаніц, заборцаў, наездцаў, акупантаў.

І шмат хто гэта ўжо зразумеў. Калі ў аднаго беларуса спыталі, чаму цяпер так баіцца Каліноўскага ўся гэтая прамаскоўская рэжымная чэрнь, ён сказаў: “Баіцца Паўстаньня”. І гэта праўда. Бойцеся і дрыжыце! Каліноўцы вернуцца. Вернуцца нават з магіл.

Успышка гэбоўскай гёбельсаўшчыны супраць Каліноўскага ў гэты час невыпадковая (прытым ў паталагічных формах нянавісьці). Масква рыхтуецца да афармленьня Эўразійскага Саюзу ў 2015 годзе, у выніку якога Беларусь (па задуме) у перспэктыве павінна страціць суверэнітэт (дзеля гэтага Масква найперш і прыдумала афёру з ЭўраАзіяСаюзам). Акупанты асьцерагаюцца, што напамін пра Каліноўскага можа кансалідаваць Беларусаў на абарону незалежнасьці радыкальным чынам. І тады ім не ўдасца акалпачыць людзей, акупацыйная хунта пасыпецца. Рыхтуймася да 2015 года. Рыхтуймася да змаганьня.

Аналізуючы ход і вынікі паўстаньня Каліноўскага, прыходзім да высновы, што ў яго барацьбе была моцная і грунтоўная падстава для перамогі. Гэтая падстава – ідэя ўсенароднай барацьбы. Каліноўскі і паплечнікі разумелі, што з адной шляхтай арду не пераможаш. Перамагчы можна толькі ўсім народам, усенароднай барацьбой з царызмам.

Паўстанцы мусілі б мець поўную і паўсюдную падтрымку насельніцтва. Каліноўскі якраз і рабіў стаўку на народ (сялянаў і шляхту), дэкляраваў вяртаньне сялянам усёй зямлі бяз выкупу, а прыгнятальнікі (тыя, хто крыўдзіў сялян-дзяцюкоў) павінны былі быць пакараныя, згодна закону і палажэньня, адлюстраванага ў Маніфэсце Віленскага кіраўніцтва паўстаньнем.

Гэта правільная на той час, разумная канцэпцыя барацьбы, разьлічаная на перамогу.

З пункту гледжаньня фармальнага аналізу галоўная прычына паражэньня паўстаньня Каліноўскага – прынцыповыя рознасьць пазыцыяў паміж Варшавай і Вільняй (што да мэтаў і мэтадаў барацьбы). Канцэпцыя Варшавы была накіравана на паражэньне. Яна была заганнай ад пачатку ў самой сваёй аснове. Варшаўскае кіраўніцтва рабіла стаўку на шляхту і абшарнікаў, мэтай паўстаньня лічылі аднаўленьне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, асноўным палітычным клопатам лічыла забесьпячэньне дамінацыі Варшавы (Польшчы) перад Беларусяй-Літвой у паўстанцкіх дзеяньнях. Фактычна, сам ўдзел палякаў у агульным паўстаньні з такім архаічным

палітычным багажом і падвойным стандартам (падпарадкаваць Літву-Беларусь) гарантаваў яго паражэньне.

Паўтарылася бесталковая матрыца паводзін, як і ў паўстаньні Андрэя Касьцюшкі, калі Варшава рабіла ўсё, каб не ўмацаваўся Якуб Ясінскі (паплечнік Касьцюшкі), каб Вільня не здамінавала паўстаньне і не ўзяла справу барацьбы ў свае крэпкія рукі. Нават у беларускім фальклёры адлюстравана гэтая ненармальнасьць ("Пагнаў бы Касьцюшка Маскву, але паны не далі").

Паўстаньне ў Варшаве пачалося 22 студзеня 1863 г. без узгадненьня зь Вільняй і цэнтрам падрыхтоўкі паўстаньня ў Беларусі-Літве (факт нядобры і заганны ў барацьбе). Падрыхтоўка паўстаньня тут была яшчэ не завершана, але, адпаведна ацаніўшы сытуацыю, якую стварыла Варшава, віленскае кіраўніцтва распачало паўстаньне 1-га лютага. Літоўскі Правінцыйны Камітэт (ЛПК) быў рэарганізаваны ў Часовы Правінцыйны Урад Літвы (ЧУЛ) на чале з Кастусём Каліноўскім.

Адразу асноўным клопатам Варшаўскага Часовага ўраду стала задача ліквідаваць Урад на чале з Каліноўскім. Гэта ўдалося. 11 сакавіка ЧУ з Варшавы адхіліў ад улады Часовы Урад Літвы-Беларусі і перадаў уладу віленскаму камітэту "белых" (г. зн. па-праваршаўску настроеным палякам), які стаў называцца "Аддзелам кіраўніцтва Правінцыямі Літвы". "Аддзел" распаўсюдзіў дэкрэт аб скасаваньні ўсіх мандатаў і паўнамоцтваў ЛПК. Сам "Аддзел" паўстаў у выніку змовы групоўкі "белых" з камісарам Варшаўскага ўраду. Прытым стваральнікі белага "Аддзелу" у Вільні прыгразілі каліноўцам, што калі яны не падпарадкуюцца Вашаве і "Аддзелу", то белыя раскрыюць у друку іхныя сапраўдныя прозьвішчы (гэта значыць рассакрэцяць паўстанцкія псэўданімы (!).

Каліноўскі як чалавек не па гадах мудры падпарадкаваўся, абцяжарыўшы белых за ўсе правалы паўстаньня, якія наступяць у выніку такіх паводзінаў. Сам жа (будучы паўстанцкім камісарам Горадзеншчыны) паехаў на Горадзеншчыну ствараць атрады і кіраваць паўстаньнем. Менавіта ў гэты час Каліноўскі сказаў, што "такой дурной мазгаўні, як Варшава, нельга даручаць лёс Літвы-Беларусі". На Горадзеншчыне Каліноўскі стварыў моцную паўстанцкую сілу. Дзьве траціны паўстанцаў там складалі сяляне.

Белая камэдыя скончылася ў канцы траўня, калі верхавіну іх у Вільні арыштавалі расейцы. Пасьля гэтага ў "Аддзел" прышлі Каліноўскі з паплечнікамі.

У ліпені 1863 года адышлі ад паўстаньня (здрадзілі) абшарнікі (у асноўным, палякі). Тады ў склад Віленскага Правінцыйнага Камітэту (ЛПК) вярнуўся Каліноўскі і ўзначаліў яго, а 22 жніўня прыняў паўнамоцтвы Камісара Варшаўскага ўраду ў Вільні. У руках Каліноўскага сканцэнтравалася ўся ўлада паўстанцкай арганізацыі ў Літве-Беларусі.

Але пераламаць ход падзеяў ужо не ўдалося. Здрадніцкія справы белых падарвалі сілу і веру людзей у паўстаньне. Барацьба пайшла на ўбытак. Каліноўскі ў гэтых умовах пачаў зноў назапашваць паўстанцкія сілы, каб з новай энэргіяй выступіць вясной.

Становішча, як бачым, ад пачатку было фатальным. Розьніца ў ідэйна-палітычным асэнсаваньні мэтаў і задачаў паўстаньня паміж Варшавай і Вільняй сягала амаль ў сто гадоў. Адсталая ў гэтым сэнсе Варшава засталася ў XVIII-м стагоддзі, бачачы мэту паўстаньня толькі ў аднаўленьні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года (што ў прынцыпе ўжо было немагчыма, нягледзячы на высокі польскі патрыятызм, патрэбны былі новыя моцныя ідэі). Комплекс нязбытнага, нерэалізаванага шляхецкага імпэрыялізму сыграў дрэнную службу варшаўскім змагарам за незалежнасьць ад Расеі. На кантыненце працягвалася "Вясна народаў", перадавая стваральная Эўропа ўжо даўно думала па-другому, змагалася з імпэрыялізмам, гуртаваліся нацыі, распаўсюджваліся дэмакратычныя ідэі, узвысілася роля і значэньне простых людзей (народа – па кваліфікацыі XIX ст.)

На вяршыні гэтых ідэй і знаходзіўся Кастусь Каліноўскі. За Каліноўскім і паплечнікамі было рэальнае разуменьне ня толькі сучаснасьці, але і ўсьведамленьне нацыянальна-дэмакратычнай будучыні народаў Рэчы Паспалітай. Пазыцыя каліноўцаў была такая: незалежнасьць, дэмакратычная рэспубліка, зямля сялянам, самавызначэньне народаў. Рухаючая сіла паўстаньня – увесь народ.

Калі б, скажам, уявіць, што каліноўцы перамаглі б і паўстаньне завяршылася б паразай Масквы, то не было б ніякай Рэчы Паспалітай. Існавала б асобная Польшча і асобная Літва-Беларусь, дзе Жмудзь, магчыма (калі б захацела), мела шырокую аўтаномію і свой парлямант у Каўнасе.

Рэальнасьць жа праяўлялася як гістарычная наканаванасьць, бо не магла Польшча і Літва-Беларусь на той час паасобна змагацца за волю супраць Расеі. Матрыцай гэтаму адзінству служыла Рэч Паспалітая і агульны вораг з Усходу, перамагчы якога тым часам было немагчыма, змагаючыся адначасна паміж сабой.

Гэтая гістарычная наканаванасьць (і закамплексаванасьць польскай палітыкі) цягнулася да 1991 года, да часу здабыцьця незалежнасьці і ўтварэньня Рэспублікі Беларусь. На сёньняшні дзень шмат якія польскія эліты зразумелі ня толькі карыснасьць для Польшчы існаваньня незалежнай Беларусі на ўсходзе, але і тое, што вольная дэмакратычная Беларусь па прыродзе сытуацыі будзе натуральным саюзьнікам Польшчы ў дачыненьнях паміж Усходам і Захадам.

Нас чакае яшчэ нялёгкая барацьба з імпэрыялізмам гэбісцкай Расеі і з ўладай яе сатрапіі ў Беларусі. Хай жа сонца Кастуся Каліноўскага асьвятляе нам шлях.

Сёньня мы пішам у гонар угодкаў паўстаньня агульнанацыянальную дыктоўку – “Ліст з-пад шыбеніцы” Кастуся Каліноўскага.

Сёньня ж мы запускаем у дзеяньне вельмі важную праграму **“Глядзім у будучыню”**, даклад па якой падрыхтаваў і распрацаваў спадар Сяргей Папкоў.

Гэта праграма аб арганізацыі інтэлектуальнага разьвіцьця нацыі з апорай на родную мову.

Лічу, што распрацоўка праграмы зроблена на высокім узроўні. Гэта адказ на вызваньне, якое стаіць перад беларускай нацыяй. Мяркую, што ўся Партыя павінна прыняць удзел у арганізацыі і ажыцьцяўленьні гэтай праграмы.

*3 лютага 2013 г.* Зянон Пазьняк

# ХОЧУЦЬ ЛЕГАЛІЗАВАЦЬ РЭЖЫМ

Апошнія паўгода ў Эўразьвязе ішла ўпартая праца па наладжваньні супрацоўніцтва з антыбеларускім рэжымам Лукашэнкі. Тэндэнцыя выклікана заўважнай актывізацыяй на Захадзе лабістаў рэжыму, дыпляматыі і агентуры. Справа разгорнута настолькі шырока, што некаторыя дзеячы з былых савецкіх сяброў Эўразьвязу не без падставы загаварылі пра ўзмоцненую дзейнасьць разьведак, як у пэрыяд "халоднай вайны".

Галоўнай асобай, якую даўно арганізавалі на гэтую справу, ёсьць эўрапэйскі камісар спадар Штэфан Фюле. (Пра рэшту спадароў я не кажу, спадзеючыся, што некаторыя проста не разабраліся і ня ведаюць, што твораць.) У мінулым месяцы ўсплыў стары камуністычны кадр, цяпер дэпутат Эўрапарляманту, Ю. Палецкіс. Ён зьезьдзіў да Лукашэнкі і потым выступіў у Брусэлі з ініцыятывай напісаньня ўласнага дакладу аб справах у падрэжымнай Беларусі і аб неабходнасьці дыялогу з рэжымам.

Чарговая калабарацыя закруцілася сур'ёзна і згоднікаў шмат. Але ёсьць і цьвярозыя сілы супраціўленьня і прыхільнікі Беларусі.

Група Фюле арганізавала нядаўна паездку ў Брусэль мацёрых "апазыцыянераў" зь Менска дзеля ўмацаваньня сваёй пазыцыі. Спадар Лябедзька адразу выступіў там з ідэяй "трохкрокавай стратэгіі": 1 -- вызваленьне палітвязьняў, 2 -- свабодныя сумленныя выбары, 3 -- плян мадэрнізацыі для Беларусі (гэта яны раяць такое для Лукашэнкі прапанаваць).

З "глыбокімі" прапановамі брусэльцы неўзабаве азнаёмяцца ў справаздачы Ю. Палецкіса і, чакаецца, што ўхваляць. А там ужо будзе наступ і дэлегаваньні на паклон да калгаснага начальніка (хіба што апаненты перашкодзяць).

Калі коратка, то ўсё гэта абазначае чарговую актывізацыю сілаў і агентуры на Захадзе з мэтай легалізацыі антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі. Легалізацыя будзе, фактычна, абазначаць наданьне законнай сілы (законнай ў вачах эўрабюракратаў) для разбуральнай антынацыянальнай дзейнасьці акупацыйнай улады ў Беларусі.

Спадзявацца ад Лукашэнкі "мадэрнізацыі Беларусі" і "вольных сумленных выбараў" могуць толькі людзі не ад сьвету гэтага альбо закончаныя нягоднікі. Тым ня менш у Брусэлі такое чаўпецца, бо за ўсім стаіць другі інтэрас (які ў народзе мае найменьне "шкурны"). Эўрабюракратам напляваць на наша гора, на нашае нацыянальнае вынішчэньне і наш Чарнобыль. У іх свае антыкаштоўнасьці. Яны ўвесь час дэманструюць гэта (глядзіце адносіны да С. Каваленкі). Усе тое ўжо ўбачылі. Але для іншых яно ня мае значэньня, калі трэба падтрымаць Фюле.

Учора (восьмага красавіка) чарговая тройка рэжымнай "апазыцыі" (Мілінкевіч, Янукевіч, Някляеў) засьведчыла сваю падтрымку курсу на "дыялог" Брусэля з антыбеларускім рэжымам (і на выбары яны зноў пойдуць, і іншае, і т. п.). Гэты голас трох зроблены дзеля спасылкі пад даклад Палецкіса.

Далей камэнтар не патрэбны, бо справа звыклая -- сто разоў ужо такое назіралі.

*9 красавіка 2013 г.* *Зянон Пазьняк*

# ЯК ЯНЫ НАЗЫВАЮЦЬ АНТЫНАРОДНЫ РЭЖЫМ

*(З выступу на Сойме КХП – БНФ 14 красавіка 2013 г.)*

Жыцьцё паказала, што змаганьне з цемрай ня ёсьць простым, калі за ёй стаіць геапалітычны інтэрас, які сьцьвярджаецца сродкамі сучаснай акупацыйнай вайны. Складанасьць у тым, што бальшыня людзей, кінутая ў гэтую вайну, не разумее, што адбываецца, бо грамадзтва адлучана ад улады, багацьця і інфармацыі. Цемра спраўляе баль. І гэта ня проста словы.

Для беларускага палітычнага Адраджэньня ў гэтых абставінах важна мець дакладныя арыентыры і каштоўнасьці, дзе мэта ніколі не замяняецца кампрамісам, а прыярытэтам зьяўляецца дзяржаўная незалежнасьць, нацыянальная культура і свабода чалавека. Усё астатняе вытворнае (гэта значыць: эканоміка, дабрабыт, сацыяльныя дачыненьні, творчая і працоўная дзейнасьць і г.д.).

У змаганьні з антыбеларускім акупацыйным рэжымам для адраджэнскай партыі важна выклікаць да жыцьця беларускія нацыянальныя групы супраціўленьня. І другая важная задача: ствараць асяроддзе падтрымкі, усталяваць нацыянальны грунт у грамадзтве, на які можна абаперціся ў змаганьні. Сродкам для дасягненьня зьяўляецца нацыянальна-культурная асьвета і нацыянальна-палітычная дзейнасьць. Без усталяваньня гэтых дзьвюх зьяваў у грамадзтве (палітычных групаў і асяроддзя падтрымкі) зьмяніць і ліквідаваць акупацыйную ўладу немагчыма.

Гэта ёсьць якраз наш шлях. Перамены высьпяваюць вельмі павольна. Але яны высьпяваюць. Прытым, што важна, -- у галовах людзей. Выразнасьць мэты (паўтаруся) павінна быць нашым асаблівым клопатам. Бо мэта дыктуе сродкі. Мы бачым, напрыклад, людзей, якія ў слоўных выразах і ў расейскай мове зьнішчальна, бязьлітасна і злосна крытыкуюць, як яны называюць, “белорусский режим”, “белорусскую власть”, “белорусского диктатора”, “белорусский омон”, “дурную страну” і г.д.

Такая зьява добра вядомая ў палітыцы (мы назіралі яе і ў змаганьні з камунізмам). Прарасейскія шавіністычныя дэмакраты ў нянавісьць да дыктатуры Лукашэнкі ўкладваюць адначасна і нянавісьць да нацыянальнай Беларусі, да нашай беларускай краіны. Філіпікамі супраць “белорусского диктатора” яны размахіваюць, як сьцягам сваёй дэмакратыі. Але капніце іх глыбей – аб беларускай мове, аб расейскім імпэрыялізме, аб расейскім бальшавіцкім генацыдзе – і вылезе такое валасатае імпэрскае маскоўскае мурло, “чудзішчэ обло огромно, стозевно і лаяй”.

У палітычнай пазыцыі ня можа быць недагаворак. Усё павінна быць выказана, ясна, зразумела і дакладна. З гэтага гледзішча тэрміналогія ёсьць люстэркам, адбіткам палітычнага думаньня (ці бяздумнасьці адначасна).

Мне шмат разоў, даўно і ўвесь час прыходзілася пісаць пра тэрміналогію і пазыцыю ў палітыцы. Прыходзілася асабіста размаўляць з рознымі палітыкамі, палітыкамі-паэтамі, палітыканамі-журналістамі. Прыходзілася казаць, што антыбеларускі рэжым, падтрыманы Масквой, які праводзіць тыпова акупацыйную антыкультурную, антыбеларускую палітыку, зьнішчае беларускую мову і беларускія каштоўнасьці ня можа называцца “беларускім”. Гэта прыдумка ворагаў беларушчыны, каб прынізіць наш народ і нашую краіну, накласьці на народ кляймо чужароднага маразму і выдаваць гэта за сутнасьць нацыі. Я расказваў пра Асвенцым-Аўшвіц, пра міжнародныя скандалы па неадэкватнай тэрміналогіі.

І што ж? Гэтыя асобы, літаральна ўсе (!) як казалі так і кажуць, як пісалі так і пішуць: “белорусский режим”, “белорусские тюрьмы”. Для іх акупацыйны рэжым не антыбеларускі. Ён для іх “белорусскій”. Яны пішуць пра дзікасьці “беларускай улады” і г.д. Гэта фірменная тэрміналогія ўсёй квазіапазыцыі. Яны апантана топчуць сваю

краіну і яе імя ў гразь. Літаральна ўся бюракратычная Эўропа паўтарае ўсьлед тое самае. Рытарычнае пытаньне: чаму яны ўсё гэта робяць? Наконт Эўропы і Расеі зразумела – гэта ў іхных інтарэсах. А гэтыя, нашыя, тутэйшыя чаму тым займаюцца? Ад дурноты? Сумняваюся. Гэта быў бы павярхоўны адказ.

Некалі палкоўнік ФСБ Аляксандр Літвіненка, калі даведаўся, што беларусы на плошчы замест нацыянальнага сьцяга махаюць джынсавымі порткамі і што Мілінкевіч вырабіў усім джынсавыя парцяначкі на шыю, -- быў уражаны настолькі, што назваў беларусаў “нацией болванов”. Рэжым, маўляў, топча іхны сьвяты нацыянальны Бел-Чырвона-Белы сьцяг, а яны самы яго зьневажаюць, парцянкай махаюць.

Вось што абазначае для нармальных людзей ёрніцтва са сьвятымі рэчамі і бязглуздасьць у тэрміналогіі (але ці толькі бязглуздасьць?).

*14-15 красавіка 2013 г.* Зянон Пазьняк

# “САНКЦЫІ – ДЫЯЛОГ – САНКЦЫІ”

*(З выступу на Сойме КХП – БНФ 14 красавіка 2013 г.)*

... Ёсьць зьявы, якія цыклічна паўтараюцца ў палітыцы (напрыклад, адносіны да выбараў рэжыму, байкот фальшывага галасаваньня і інш.). Тут наша беларуская фронтаўская пазыцыя добра абгрунтаваная і ўспрынята грамадзтвам.

Існуюць цыклічныя падзеі, якія маюць штучнае паходжаньне. Да такога роду падзей адносяцца так званыя міжнародныя санкцыі супраць рэжыму і іх адмена. Наша пазыцыя тут таксама даўно вызначаная: мы супраць эканамічных санкцыяў. Але навязьлівасьць гэтай чужой палітыкі вымагае ўвесь час паўторных азначэньняў і тлумачэньняў.

Найперш трэба адзначыць, што няма ў гісторыі прыкладаў, калі б эканамічныя санкцыі абвалілі нейкі дыктатарскі рэжым ці неяк пахіснулі яго ўладу. Хутчэй наадварот. Тым часам удар па грамадзтву, па простых людзях зафіксаваны ня раз. Эканамічныя санкцыі ніколі ня ўводзіліся насуперак эканамічным інтарэсам тых краінаў, якія іх уводзілі. Эканамічныя санкцыі, як правіла, аслаблялі эканамічную моц краіны, супроць якой яны былі ўжытыя, але ніколі не аслаблялі моц дыктатуры. У так званых эканамічных санкцыях заўсёды адсочваюцца элемэнты палітычных гульняў дзеля выгады пэўных краінаў і эканамічных групаў. У гэтым і ўся сутнасьць.

Эканамічныя санкцыі супраць Беларусі (г. зн. нібы супраць рэжыму Лукашэнкі) патрэбныя найперш Маскве. Яна ж падтрымлівае і цыклічнасьць санкцыяў (г. зн. у адпаведны момант падтрымлівае іх адмену).

Санкцыі ўзмацняюць уплыў Масквы на антыбеларускі рэжым, ствараюць магчымасьць лягчэй захапіць беларускія прадпрыемствы, вытворчасьць і маёмасьць, навязаць палітычныя рашэньні і вымушаную залежнасьць. Тым часам непрызнаньне міжнароднай супольнасьцю рэжыму ў Менску, нелегітымнасьць яго ўлады робіць усе маскоўскія захопы ў Беларусі даволі прывіднымі і юрыдычна нікчэмнымі, без гарантыяў на будучыню. Тады на пэўным этапе ў Маскве робіцца адмашка на дыялог. Уключаецца агентура, дзейнічаюць “рары” ды “вікі”, працуе лобі рэжыму. Мэта такога адкату (які ўжо за гісторыю рэжыму паўтораны некалькі разоў) – паспрабаваць легалізаваць некаторыя інстытуты рэжымнай улады ў абмен на палітзьняволеных, ці фармальныя папраўкі ў заканадаўстве хунты. Легалізацыя інстытутаў улады антыбеларускага рэжыму патрэбна Маскве, каб замацаваць незаконныя маёмасныя зьдзелкі з рэжымам (продаж “Белтрансгазу”, напрыклад, які, дарэчы, беларусы без ваганьняў у будучыні павінны вярнуць назад, і інш.).

Калі б нават частковая легалізацыя рэжыму адбылася, то адразу зноў пачаўся б новы цыкл зрыву “дыялогу” і ўвядзеньне заходніх эканамічных санкцыяў. Маскоўскую палітыку цыклічнай апрацоўкі “свайго сукінага сына” мы назіраем ужо шмат гадоў. Цяпер адбываецца чарговы этап штурханьня да “даялогу” .

У дачыненьні да такой эўра-маскоўскай палітыкі адносна Беларусі гэта той выпадак, які вымагае разуменьня аб якіх каштоўнасьцях ідзе справа. Беларусь знаходзіцца пад прэсам чужой тыпова акупацыйнай унутранай палітыкі (асабліва ў вобласьці культуры). Мэта гэтай палітыкі, інспіраванай з усходу, -- паступовая страта незалежнасьці і захоп нацыянальнай уласнасьці нашай краіны. Прызначэньне ў такіх умовах эканамічных санкцыяў (нібы супраць рэжыма) – гэта нож у горла дзяржавы, якую ў дадзеным выпадку цяжка аддзяліць ад акупацыйнага рэжыму. Уся ўлада і ўся народная маёмасьць знаходзяцца ў руках гэтага рэжыму. Прынцып змаганьня з мышамі шляхам спаленьня гумна з мышамі ці прынцып бальшавікоў – жаданьне паразы ў вайне сваёй краіне (заўважце, за нямецкія грошы) тут катэгарычна непрыймальны.

Грунт, на якім мы ўсе, беларусы, стаім, і на чым будуецца наша будучыня, -- гэта наша дзяржава, наша незалежнасьць, наша зямля і ўся нацыянальная маёмасьць незалежна ад уласнасьці. Нельга лёгкадумна да гэтага адносіцца з пазыцыяў якой-

небудзь палітычнай купіны. Жорсткія эканамічныя санкцыі на рэжым узмацняюць эканамічны і палітычны ціск рэжыму на бяспраўны народ. Гэта пацьверджаны факт. Лявацкае разуменьне, што пад ціскам эканамічных санкцыяў зьбяднелы народ узбунтуецца і рэжым перакуліцца – наіўнае і памылковае. Усё якраз наадварот. Бедны народ траціць здольнасьць на асэнсаваную палітычную барацьбу і ня можа супрацьстаяць дыктатуры. Калі народ у галечы, дыктатура робіцца (аб’ектыўна) крайне жорсткай і рэпрэсіўнай. Для нацыі пры любой сістэме ўлады лепш, калі нацыянальная маёмасьць ёсьць ў нацыянальным валоданьні, у дзяржаве, калі грошы не ўцякаюць за мяжу, калі ёсьць шмат адукаваных і багатых людзей і калі народ не мадзее ў нястачы, бо сур’ёзныя палітычныя перамены адбываюцца не на ўзроўні страўніка, а на ўзроўні ідэй, сацыяльных і духоўных інтарэсаў.

Гэта агульныя палажэньні, якія маюць дачыненьне да становішча ў Беларусі, але рашаючым чыньнікам тут ёсьць агрэсіўная палітыка Расеі. Перакрыцьцё эканамічнай дарогі на Захад павялічвае манапольныя і экспансійныя магчымасьці Расеі (асабліва пры адкрытай мяжы з Беларусяй). Пад пагрозу ставіцца незалежнасьць краіны.

Гэтую пагрозу незалежнасьці па-прапагандысцку выкарыстоўвае рэжым дзеля зьняцьця ўсіх санкцыяў. Інспіравана дзейнасьць лабістаў, квазіапазыцыі і цэлай катэгорыі “адбельвальнікаў”, якія фармальна слушна кажуць аб агрэсіўных інтарэсах Расеі ў Беларусі, аб павелічэньні эканамічнай залежнасьці ад Расеі, аб манапалізацыі палітычнага ўплыву з Усходу і г.д. Яны прапануюць узамен палітыку “дыялогу” Захаду з антыбеларускім рэжымам, “дарожную карту”, “пакрокавы плян”, “мадэрнізацыю” яго палітычнай і эканамічнай сістэмы, “лібэралізацыю”, “дэмакратызацыю” і т.п. лінгвістычныя прыдумкі, мілыя для заходняга вуха, але абсалютна непрыдатныя ў дачыненьні да акупацыйнага рэжыму ў нашай краіне. Мы бачым тут тыповую праяву расейскай цыклічнай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі: “санкцыі – дыялог – санкцыі”, вынікам якой павінна б стацца (згодна Масквы) захоп і забраньне беларускай нацыянальнай маёмасьці і легалізацыя рэжыму дзеля юрыдычнага замацаваньня расейскага рабаўніцтва.

Складанасьць ня ў тым, што многія на Захадзе вераць у магчымасьць такога наіўнага пляну па дэмакратызацыі антыбеларускага рэжыму. Складанасьць у тым, што яны не разумеюць таго, што разумеем мы (бо доказнай аргумэнтацыі не існуе): Лукашэнка ў прынцыпе не павернецца да Захаду тварам, ня пойдзе ні на лібэралізацыю, ні на мадэрнізацыю. Ён можа пачаць бавіцца ў дыялог, зрабіць бачнасьць саступак, каб выйграць час, акалпачыць наіўных, урваць сваё (атрымаць легалізацыю, грошы, крэдыты і т.п.) і пабегчы ў Крэмль, каб закласьці Эўропу і ўрваць ад Крамля. Так жа было (і ня раз)! У 2010 годзе, напрыклад (у пэрыяд нібыта “лібэралізацыі”) прыехалі да яго ў Менск міністры Сікорскі і Вэстэрвэле, прапаноўвалі грошы, вялі сакрэтныя перамовы. У выніку Лукашэнка паехаў у Крэмль і здаў таварышу Пуціну ўсё, аб чым гаварылі міністры (наіўныя міністры потым аж ікалі ад афронту). А Лукашэнка тут жа папрасіў у таварыша Пуціна. Пуцін распарадзіўся па-свойму (падзеі 19 сьнежня 2010 года і т.п., палітвязьні, рэпрэсіі). Зноў пачалася фаза “санкцыяў”. Пераскок на фазу (у інтарэсах Масквы) дорага каштаваў Беларусі (фактычна была раздушана грамадзянская супольнасьць).

Спробы сыграць у карысьць Беларусі на фазе “дыялог” былі зроблены ня раз, у тым ліку і з нашага боку. Маецца на ўвазе саміт “Усходняга партнёрства” у 2009 годзе ў Празе, у якім я прыняў удзел па ўзгадненьні з Партыяй. Але намі ставіліся задачы не дапусьціць прыезду Лукашэнкі на саміт у Прагу, не дапусьціць палітычнай легалізацыі ўзурпатара ўлады і паставіць перад заходнімі палітыкамі пытаньне аб кардынальнай карэктыроўцы пазыцыі ў дачыненьні да рэжыму. Менавіта: уключыць у паняцьце парушэньня правоў чалавека ў Беларусі палажэньні ААН аб палітыцы асіміляцыі (русіфікацыі) карэннага насельніцтва, аб тэндэнцыйным разбурэньні беларускай культуры, аб перасьледзе за нацыянальна-культурную дзейнасьць. Першыя дзьве задачы былі дасягнутыя. Па трэцяму пытаньню мы знайшлі разуменьне (прынамсі на

словах) і завярэньні чэхаў быць нашымі прадстаўнікамі ў Эўразьвязе па гэтай праблеме. Намі (беларускай групай) была падрыхтавана выніковая заява перад самітам, якую падпісалі ўсе (А. Казулін, С. Шушкевіч, І. Сурвіла, З. Пазьняк), акрамя А. Мілінкевіча (ягоная лабісцкая пазыцыя была тады выразна акрэсьлена).

Чым скончылася фаза "дыялог" (2009-2010), зьвязаная з "Усходнім партнёрствам", вядома – сьнежнем 2010 года. Наступная фаза "санкцыі" трывала таксама два гады (2011-2012). За гэты час рэжым вытаптаў Беларусь і беларускае нацыянальнае жыцьцё, як чарада насарогаў культурнае поле. Расейцы захапілі "Белтрансгаз" і ўсю газава-энэргетычную структуру Беларусі, пачалі будаваць тут, практычна, сваю АЭС (непатрэбную і шкодную для Беларусі), пабудавалі тут свае хімзаводы, працягнулі лапы да Салігорскага калійнага камбіната, да МАЗу, загналі рэжым у шкодны для Беларусі Мытны зьвяз, заплянавалі на 2015 год загон краіны ў Эўра-Азіяцкі саюз, які пазбавіць Беларусь сувэрэнітэту (тады зноў адбудзецца зьмена фазаў). І вось сьвежае акупацыйнае дасягненьне Масквы ў фазе "санкцыі" – заплянавана пабудова новага расейскага газаправода праз нашу зямлю (ужо бяз згоды Беларусі).

Масква загрэбла столькі, што пара ёй пераходзіць да "дыялогу", яна будзе старацца зафіксаваць нарабаванае. Ужо спусьцілі з ланцугоў журналісцкую агентуру, выказваюцца эўрапалітыкі, загаманіла квазіапазыцыя ў Менску і ўсё тое, пра што я пісаў у папярэдняй заяве аб тэндэнцыі да легалізацыі рэжыму. Але, як кажуць, усе нашы беды не ў сіле ворагаў, а ў слабасьці нас самых. Таму галоўная наша задача ў супрацьстаяньні антыбеларускай палітыцы – гэта ёсьць мацаваньне нашага адраджэнцкага руху, выкананьне нашых асьветніцкіх і палітычных праграм (у тым ліку і апошняй "Глядзім у будучыню").

У дачыненьні да палітычнай тактыкі "санкцыі – дыялог – санкцыі" мы, як і раней, прытрымліваемся нашай адраджэнскай пазыцыі, якую я каротка нагадаю, назваўшы па пунктах.

1. Эканамічных санкцыяў для Беларусі не павінна быць.

Пры ўмовах, калі антыбеларускі рэжым Лукашэнкі знаходзіцца ў фармальна-залежным саюзе з пуцінскай Расеяй, якая праводзіць палітыку забору беларускай маёмасьці, увядзеньне эканамічных санкцыяў з боку Захаду супраць Беларусі ёсьць непрыхільным крокам да нашай антырэжымнай барацьбы, ўскладняе нам будучыя адносіны зь людзьмі, дарэчы ставіць пад сумнеў дзейнасьць Будапэшцкага Мэмарандуму 1994 года. (Зазначу, што на Мэмарандум 1994 г. спасылаецца і акупацыйны рэжым, пазыцыю якога крытыкуе ў гэтай справе Захад. Але аргумэнты абодвух бакоў слабыя, бо Расея першая парушае гэты Мэмарандум).

2. Пазытыўным было б такое рашэньне, калі б Захад пакінуў і ўзмацніў палітычныя санкцыі супраць антыбеларускага рэжыму, якія выяўляюцца ў забароне ўезду ў заходнія краіны асобам, прыналежным да незаконнага перасьледу беларусаў і грамадзянаў Беларусі па палітычных, вызнанёвых і нацыянальна-культурных матывах.

Дадам, што гэтакія санкцыі ёсьць адэкватным, непасрэдным і канкрэтным дзеяньнем, зьвернутым да канкрэтных асобаў з канкрэтным абвінавачваньнем. Яны зразумелыя людзям і самым парушальнікам.

Тым часам накладаньне эканамічных санкцыяў у вялікай сваёй частцы мае апасродкаваны характар у дачыненьні да шматлікіх пабочных асобаў, якія, практычна, ня маюць дачыненьняў да палітыкі антыбеларускай хунты. Фактычна тут мае месца прынцып закладнікаў, які не павінен выкарыстоўвацца ў міжнародных адносінах.

3. Паміж Захадам (Эўразьвяз) і антыбеларускім рэжымам могуць адбывацца "перамовы". Слова "даялог" павінна быць выключана тут з палітычнага лексікону. Тэрмін ёсьць неадэкватны. Для дыялогу няма зыходных дадзеных бакоў. Яны (дадзеныя) не карэлююцца. Дыялог адбываецца паміж партнёрамі. З тэрарыстамі вядуць перамовы.

4. У перамовах Захаду з антыбеларускім рэжымам павінна быць выключана магчымасьць легалізацыі рэжыму і яго структураў узамен за саступкі ў правах чалавека

і т.п. (Саступкі могуць быць вернуты рэжымам адным махам пасьля дасягненьня мэты). Таму кампэнсацыяй за саступкі павінны стаць пэўныя гандлёвыя паслабленьні, пэўныя прэфэрэнцыі, крэдыты, увядзеньне асабістых тэрмінаў для палітычных санкцый, мэтавая падаткавая мытная палітыка і г.д. Прынцып такі: узамен за саступкі рэжыму ў палітыцы на шляху дэмакратыі будзе спрыяньне яму ў эканоміцы і гандлі. Тут адыход ад прынцыпу закладнікаў. Біч зьмяняецца на моркву. Фактычна гэта будзе той жа працэс эканамічных санкцыяў, толькі вернуты з галавы на ногі і не за кошт нашага народа.

Паўтаруся, магчымасьць легалізацыі антынароднага рэжыма мусіць быць выключана з правілаў перамоваў. Але тэарэтычна яна можа існаваць пры адной умове:

а). Поўная зьмена рэжымнага выбарчага заканадаўства на дэмакратычнае.

б). Поўная зьмена ўсіх чальцоў і кіраўніцтва Цэнтральнай Выбарчай Камісіі і Акружных камісій па выбарах.

в). Правядзеньне дэмакратычных выбараў прэзыдэнта пры дэмакратычным фармаваньні акружных і ўчастковых выбарчых камісій, групаў назіральнікаў за выбарамі і няўдзеле Лукашэнкі ў гэтых выбарах. (Не бывае легітымных прэзыдэнтаў па 20 гадоў).

Зразумела, што пры ўладзе антыбеларускага рэжыму такая нармальная ўмова ня будзе выканана, але ў рэгламэнт перамоваў тое можа быць закладзена.

5. Прапанаваны склад перамоваў (эканоміка ў абмен на палітыку) можа наразіць Захад на пэўныя выдаткі. Але сродкі на гэтыя выдаткі можна лёгка пераарыентаваць. Трэба Захаду спыніць фінансаваць падстаўную апазыцыю і ўсіх адбельвальнікаў рэжыму. Як толькі спыніцца фінансаваньне, ад гэтых грантасмокаў і духу не застанецца каля палітыкі. Будзе зроблена тым самым вялікая паслуга нашай краіне – пазбаўленьне ад паразітаў, правакатараў, блытаньнікаў і канторскай агентуры ў Беларускім Руху, расчысьціцца дарога для новых людзей, сапраўдных змагароў за вольную, нармальную дэмакратычную Беларусь.

Павінен падкрэсьліць, што ўсё, пра што я тут (у гэтых пунктах) апісаў, ёсьць чужая палітыка, якая закранае нашыя карэнныя нацыянальныя інтарэсы. Перамовы (калі да іх дойдзе) пачнуцца з гандлю палітвязьнямі (такя створана штучная сытуацыя) у абмен на адмену санкцыяў на ўезд ў Эўразвяз для лукашыстаў (баш на баш). А ў гэты час (пакуль тая валтузьня), як і раней будзе адбывацца нішчэньне Беларусі, захоп маскоўцамі нашай маёмасьці, засяленьне кітайцаў, будаўніцтва АЭС, поўная ліквідацыя беларускай школы, пачатак ліквідацыі нацыянальнага тэатра і г.д.

Наш прынцып у дачыненьні да цяперашняга Захаду такі: “Падтрымлівайце, але не перашкаджайце”. У сваім доме мы мусім наводзіць парадак самы, цэнячы прыхільнасьць і разуменьне сяброў, суседзяў, усяго сьвету.

Мушу сказаць таксама, што гэтыя развагі, выкладзеныя па пунктах, ёсьць толькі развагі, выклад нашай фронтаўскай пазыцыі. Гэта не ўльтыматум, не прапановы, не прэтэнзіі. Мы не зьбіраемся нічога нікому на Захадзе прапаноўваць, бо маем вопыт і добра ведаем, што будзе (дакладней – што ня будзе). Мы больш зацікаўлены, каб пра гэта ведалі і разважалі нашыя беларусы. Нагадаю, што ў 1990-91 гг. увесь Захад, пачынаючы ад прэзыдэнта Буша-старэйшага, выказаўся супраць незалежнасьці Беларусі. Усе яны глядзелі на Гарбачова і жадалі захаваць СССР (“скопішча зла” па іхняй жа тэрміналогіі). Мы, сябры Народнага Фронту, ня бачылі тады ў нас (і дзякуй Богу!) ні воднай заходняй палітычнай фізіяноміі. Але нам (верце мне) былі “да лямпачкі” усе іхнія заходнія меркаваньні. Беларусь мусіла стаць незалежнай, а СССР і КПСС – сканаць. Мы верылі ў гэта, змагаліся, скарысталі гістарычны момант і перамаглі. Верма – пераможам і цяпер. Слава Беларусі!

*14-15 красавіка 2013 г.* Зянон Пазьняк

# 25 ГАДОЎ ЖАЛОБЫ І ВАЙНЫ

*3-га чэрвеня 2013 года,* споўнілася 25 гадоў, як былі адкрытыя Курапаты. У той жа год на Ленінградзкім тэлебачаньні паказалі маё інтэрв'ю пра адкрыцьцё гэтых могілак генацыду. Тады з Ленінграда мне прыслала ліст мой рэцэнзент па дысертацыі доктар мастацтвазнаўства Надзея Кузякіна, дзе пісала, што трывожыцца за мой лёс: "Понимаете ли Вы, какую страшную, злобную силу Вы зацепили?.."

Разумеў. Усё разумеў. Бяда толькі, што зачапіўшы, мы яе ня зьнішчылі. Грамадзтву хапіла жалю і ўтрапеньня, ды не хапіла моцы. Адна справа плакаць над магілай, іншая – забіць цмока. У выніку – лукашызм, эміграцыя, выжываньне ў чужыне і брудны сьцёк нянавісьці "зачэпленых", які не спыняецца ў мой бок ужо чвэрць стагоддзя і ня спыніцца ніколі, пакуль будзе існаваць "скопішча зла".

Курапаты сталі паваротам у маім лёсе і нечакана – паваротам у лёсе Айчыны.

З пачатку 70-х я ведаў пра гэтае месца. Шмат што было перадумана за доўгія гады. Настаў час – і ўсё адбылося. Як важна было ўмець чакаць.

Курапаты – найвялікшы ў сьвеце зборны могільнік генацыду. Верхняя лічба расстраляных і закопаных тут сягае чвэрці мільёна асобаў (250 тысяч). Генацыд тварылі расейскія бальшавікі. Расстрэльвалі энкавэдзісты (НКВД). Забівалі дзень і ноч з 1937-га па 23 чэрвеня 1941 года.

Асноўны сацыяльны пласт расстраляных – бедныя сяляне. Узрост, выяўлены раскопкамі, -- ад 18 да 60 гадоў. Сярод забітых шмат жанчын. Уразілі мяне жаночы туфлік з маленькай ножкі 35-га памеру, сіняя місачка, такая, якая была ў нас дома, і дзявочыя валасы, доўгія і сьветлыя, нібы лён.

І яшчэ мы дасталі зь ямы велізарную падэшву ад мужчынскага чаравіка (ці ж ні 49-га памеру). "Божа! – усклікнуў мой калега мастак Хведар Ладуцька, -- гэта ж быў волат, гігант, і нейкая маскоўская чэрнь, нейкі нікчэмны гэбоўскі карлік, курдупель з нагана яго забіў!" Гэтага не магу забыць.

Атакі на Курапаты ішлі патокамі, як прарыў каналізацыі. Людзі днём рабілі тут Мэмарыял памяці, ставілі крыжы. Нелюдзі па начах разбуралі Мэмарыял, ламалі крыжы. І мы ведаем, хто за гэтым ёсьць.

З 2012 года пачалася новая атака ўжо на Народны Мэмарыял Курапаты. Цяпер якраз адбываецца шкодная акцыя правакатараў пад выглядам "агульнанацыянальнай" талакі. У электронных СМІ дружна ахайваюць маё імя і сяброў КХП-БНФ, якія стварылі Народны Мэмарыял.

"Скажыце, -- задае пытаньне правакатар са СМІ, -- ці могуць быць Курапаты манаполіяй адной нейкай палітычнай ці грамадзкай структуры?" (Маецца на ўвазе манаполія на догляд і разбудову.)

-- Не! – дружна адказваюць яму.

І на такім узроўні далей уся прапаганда. На каго яна разьлічана?

Спадары правакатары, я вам адкажу, хоць у вас і не хапіла сьведамасьці спытаць пра гэта ў мяне.

"Могуць, панове, могуць! Могуць і павінен быць такі адзін "манапаліст". І ўсюды так ёсьць здаўна. За існаваньне магілы адказвае той, хто яе даглядае.

У чэшскай традыцыі (дзе знаходзяцца гэтыя разумныя СМІ) такое правіла ўведзена ў заканадаўства. Калі ёсьць магіла на могілках, то юрыдычным актам афармляецца адказная асоба, якая магілу даглядае, альбо плоціць грошы за дагляд. Калі ні дагляду, ні грошай ня будзе, магіла зьнішчаецца. Павінен быць адказны за магілы.

КХП-БНФ і "Хрысьціянская злучнасьць Курапаты" дабраахвотна ўзялі на сябе адказнасьць і абавязак даглядаць Курапаты, ставіць і рамантаваць крыжы, якія прыносяць людзі. І яны робяць усё з 2000 года. Тут пастаянны клопат гэтых людзей. Дзякуючы ім, найперш, Курапаты аб'яўлены гісторыка-культурнай каштоўнасьцю.

Гэтым людзям, адпаведна, давярае і навуковае кіраўніцтва Мэмарыялу. Яны заслугоўваюць павагі. Іх не абмінаюць, бо яны сочаць за магіламі.

Што вытвараюць правакатары і як яны сябе паводзяць – казаць тут ня буду. Ужо шмат сказана і паказана. Дадам толькі, што скажу больш, але гэта потым (у наступным артыкуле).

“Чаму сёньня ў Беларусі народная сьвятыня не аб’ядноўвае а разьядноўвае дэмакратычныя і ўвогуле актыўныя сілы?” – хітра задае наступнае пытаньне правакатар. Прысутныя пачынаюць нешта мямліць. Усе разам робяць выгляд, быццам не разумеюць, якая вайна, з кім і за што (не на жыцьцё, а на сьмерць) ідзе ў Курапатах. Яны думаюць ашукаць грамадзтва і кажуць: глядзіце, маўляў, “дэмакратычныя сілы” “не падзялілі Курапаты”.

Вось гэта і ёсьць тая тэхналёгія ілжывай прпаганды, пра што я пісаў раней. Вайна, спадары прапагандысты, ідзе ў Курапатах ужо 25 гадоў паміж беларускімі людзьмі з аднаго боку і з другога – з гэбэ ды нашчадкамі НКВД, спадкаемцамі тых, хто забіваў, хто хоча зьнішчыць улікі. І няважна, якую маску яны адзяваюць (дэмакратаў ці журналістаў) і каго яны выкарыстоўваюць. Мы іх ведаем. І прапагандысты (ад мікрафона і пяра) таксама ведаюць. Нікога ашукаць ўжо не ўдасца, нашчадкі забойцаў. Пакараньне чакае. Ня вечна будуць лгаць пра нашу кроў.

Прайшло 25 гадоў пасьля адкрыцьця Курапатаў. Вайна прадаўжаецца. Але з намі Бог.

*3-га чэрвеня 2013 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# НАШЧАДКІ ЗАБОЙЦАЎ ПЕРАВОДЗЯЦЬ СТРЭЛКІ

Пасьля адкрыцьця і афіцыйнага дасьледваньня Курапатаў (і потым афіцыйнага прызнаньня саветамі расстрэлаў НКВД у гэтым месцы) на працягу добрага дзясятка гадоў гэбісцкая прапаганда распаўсюджвала хлусьню, што там, маўляў, забівалі не беларусаў і не савецкія энкавэдзісты, а “немецко-фашистские захватчики” расстрэльвалі “евреев”. Гэбоўскую качку падтрымлівалі самы гэбісты і ветэраны НКВД (якія за саветамі па разнарадцы прыяжджалі падыхаць ў Беларусь). Габрэі добра ведаюць сваю гісторыю і галакост. Літаральна ніхто не купіўся на гэбоўскую правакацыю.

Але не здарма гэбісты ў сваіх вучэльнях вывучаюць практыку подласьці. Гнюснасьць – амаль прафэсія. Цяпер кантора выпрабоўвае іншую супольнасьць, якую зьбіраецца акалпачыць. Да Курапатаў пачалі прывязваць катынскіх ахвяр -- расстраляных польскіх афіцэраў. У мінулым годзе падпалкоўнікам Кузьняцовым і групай асобаў была спроба шумнай правакацыі ў Курапатах на гэтую тэму. Правакацыя правалілася, але пайшлі хвалі канторскай прапаганды (найперш ў Сеціве, дзе ўсё ананімна). І вось ў Курапатах ўжо пачалі зьяўляцца першыя ашуканыя палякі, якія прыехалі наведаць “магілы польскіх афіцэраў”.

Энкавэдзісты, трэба сказаць, зьвяртаюцца не толькі да псіхалогіі подласьці, але і да этнічнай мэнтальнасьці. Габрэяў на мякіне не купілі, дык вырашылі выпрабаваць польскі “пакутніцкі патрыятызм” і “міфалогію нацыянальнай ахвяронасьці”. Як кажуць, ня тлуста, але рэдзенькія вынікі ўжо спатыкаюцца. Нядаўна ў Курапатах бачылі польскую сямейную пару, якая прыехала ў Курапаты паглядзець на пахаваньні “ста тысячаў польскіх афіцэраў”. (Яны казалі, што пра гэта прачыталі ў Інтэрнэце).

Істотна, што гэта не кур’ёз даверлівых людзей, а вынік новай сістэмнай дэзінфармацыі і адносіцца да гэтага трэба адпаведным чынам. Тут інфармацыйная вайна.

Вынік мэтанакіраванай інфармацыі уплывае на розумы людзей так, як яна пададзена, калі няма іншай. Прыклад – Катынь. У трыццатых гадах у Катынскім лесе нкавэдзісты даўно расстрэльвалі людзей (“врагов народа”) і закопвалі ў ямы. Гэта яшчэ адны беларускія Курапаты пад Смаленскам. Хто пра гэта ведае? Каму балела гэтая праўда? Хто цікавіўся лёсам расстраляных “савецкіх” людзей? Бальшавікам, расейскім энкавэдзістам казаць пра гэта – сабе ж на шкоду. Палякам – дай Бог разабрацца са сваімі. Беларусам? Пра беларусаў увогуле мўчок. У 30-х гадах у БССР былі падрыхтаваныя дакуманты аб вяртаньні Смаленска, нашай усходняй сталіцы (дарэчы, бальшавікі аб’явілі ўтварэньне БССР якраз у Смаленску). Ініцыятары гэтага вяртаньня цяпер ляжаць хутчэй за ўсё ў Курапатах, а часткова, магчыма, у тым жа Катынскім лесе. (Між іншым, з прыходам гітлераўцаў увесь смаленскі НКВД перайшоў на службу да немцаў. Зь яго было ўтворана жудасная смаленская СД, якая ў час гітлерскай акупацыі зьверствавала ў Менску).

Новыя маніпуляцыі маніпулятараў на тэму Курапатаў скончыцца для канторы некарысна, бо ўсіх людзей у СССР растрэльвала гэтае антычалавечае ведамства па загаду Сталіна і расейскіх кіроўных камуністаў. І як бы не круціліся нашчадкі спраўцаў генацыду – праўда будзе для іх суровай.

*11 чэрвеня 2013 г.* Зянон Пазьняк

# НЯНАВІСЬЦЬ РАЗБУРАЛЬНІКАЎ

Нянавісьць – гэта ірацыянальная страсьць, якая пабуджае чалавека да варожасьці, агрэсіі і разбурэньня. Фармальна нянавісьць мае прычыну і пункт адліку. Але, тым ня менш, яна існуе сама па сабе ў душах некаторых людзей. І калі прычыны нянавісьці няма, то яна будзе шукаць прычыну і знойдзе яе, часам здавалася б цалкам неадэкватна.

Рацыё часьцей за ўсё не спыняе нянавісьці. У рацыё і нянавісьці розная прырода. Безадрасная нянавісьць вельмі небясьпечная, бо сьведчыць ужо аб псіхічным нездароўі чалавека. Яна можа знайсьці любы адрас, як ірацыянальная паталёгія, якая патрабуе выхаду. Калі ўявіць, што адначасна для аднаго адсотка насельніцтва Зямлі далі б магічны гузік, націснуўшы на які была б зьнішчана плянэта Зямля, то можна не сумнявацца – Зямля праіснавала б максімум адну секунду.

Асэнсаваная нянавісьць, экстрапаляваная на ідэалёгію, у аснове сваёй прыроды імкнецца да зьнішчэньня чалавека і разбурэньня чалавецтва.

На псіхалогіі нянавісьці пабудаваныя цэлыя сацыяльна-палітычныя сістэмы, у якіх нянавісьць уведзена ў дактрыну і зьяўляецца базавай асновай ідэалогіі.

Тыповым прыкладам такой сістэмы зьяўляецца СССР, які грунтаваўся на дактрыне камунізма і яго адгалінаваньнях (бальшавізму, марксізму, трацкізму, ленінізму і т. п.).

Асновай палітычнага дзеяньня камуністычнай дактрыны была нянавісьць людзей без прыватнай уласнасьці да тых, у каго такая ўласнасьць была, бедных да багатых, цёмных да адукаваных і г. д. Нянавісьць узбуджалася прапагандай і называлася “класавая барацьба”, у выніку якой немаёмныя класы павінны былі зьнішчыць маёмныя (забіць уласьнікаў, адабраць уласнасьць і падзяліць).

Псіхалогія бандытызму была ўзьведзена ў ранг псэўдатэорыі і аб’яўлена ў якасьці навукі цалкам рэспектабельнымі людзьмі, якія валодалі і адукацыяй, і прыватнай уласнасьцю з выкарыстаньнем наёмнай рабочай сілы.

Ва ўсіх дактрынах, пабудаваных на вынішчэньні культуры і людзей, нянавісьць выкарыстана як псіхалагічны фэнамэн усяленскага зла, як зьява трансцэндэнтная і абсалютная.

Назіраючы цяперашняе і аналізуючы мінулае, я прыходжу да несуцяшальнай высновы, што катэгорыя нянавісьці ёсьць тыповай ацэначнай, эмацыйнай і праграмуючай зьявай, якая характарызуе аблічча сучаснага сьвету ў палітыцы, ідэалогіі, мастацтве, культуры. Нянавісьць ёсьць цяпер асноўная пазыцыя гэтага часу.

***Прычына – збой у каштоўнасьцях у выніку павелічэньня ўплыву нізкіх групаў людзей, разьвіцьця індывідуалізму, прыняцьця матэрыялізму як базавай асновы жыцьця.***

Жыцьцёвы вопыт і аналіз дачыненьняў дае магчымасьць рабіць параўнаньні аб канцэнтрацыі гэтага псіхалагічнага фэнамэна і аб сувязі яго з сацыяльнай і нацыянальнай ідэалогіяй грамадзтва.

Псіхалагічная прырода нянавісьці, на мой погляд, больш характэрна для Азіі, але праяўляецца шырока там, дзе ўзьнікае таталітарная ідэалёгія маргінальных групаў, якія атрымліваюць доступ уплыву на палітыку і, што самае крайняе, -- калі загортваюць пад сябе дзяржаўную ўладу краіны ці цэлага арэалу – сістэмы краін.

У такіх выпадках ідэалогія ўлады абавязкова апэлюе да нізкіх інстынктаў чалавецтва і да нізкіх сацыяльных пластоў насельніцтва, люмпэнізуе прыроду людзей.

У старажытным сьвеце нянавісьць, як сістэму ваенна-дзяржаўнага існаваньня, найбольш канцэнтравана арганізавалі манголы. Дзяржава, якую яны стварылі на гэтай пасіянарнай аснове (дакладней, працяг яе) існуе, фактычна, па сёньняшні дзень і працягвае быць рэальнай пагрозай цывілізаванаму сьвету

Класіфікацыя Рональда Рэйгана Расеі як “скопішча зла” зыходзіць з разуменьня прыроды гэтага ваенна-дзяржаўнага фэнамэна. Нянавісьць тут – форма дзяржаўнай ідэалогіі і прынцып жыцьцёвага існаваньня.

Людзям і народам, якія жылі пад расейскай акупацыяй і ў сістэме ідэалагічнага ўплыву гэтай імпэрыі, словы Рэйгана былі цікавыя толькі ў тым сэнсе, што гэта першы чалавек на Захадзе, які зразумеў абсалютна відавочныя рэчы, і сказаў тое ўслых.

З расейскім фэнамэнам нянавісьці я пазнаёміўся даўно, назіраючы, як усталёўвалася ў нас іхная савецкая “ўласьць”. Але сутыкнуўся твар у твар як з штодзённай, штохвіліннай, фактычна, бясконцай сістэмна накіраванай агрэсіяй толькі тады, калі прышоў у палітыку і ачоліў рух, які пачаў змаганьне з савецкай акупацыяй і камуністычнай сістэмай.

Мне ўспомніліся думкі Аляксандра Цьвікевіча, якія ён выказаў у 1922 годзе на пахаваньні перад труной Алеся Бурбіса. Цьвікевіч казаў, што Бурбіс пражыў кароткае, але мужнае і вельмі цяжкае жыцьцё, бо быў беларусам-адраджэнцам, а гэта, як пасьвячэньне, якое наклікала шалёную, зьвярыную нянавісьць ворагаў Беларусі.

***Асаблівая прыкмета расейска-гэбоўскай нянавісьці – гэта фантастычная і неверагодна брудная ілжа, выказаная (напісаная) у азлобленай форме.*** Тады, за часы СССР, увесь друк і ўсе СМІ былі ў руках улады камуністаў. Але спэцыяльна для барацьбы з Народным Фронтам яны стварылі яшчэ спэцчасопіс, які называўся “Политический собеседник”. Гэта быў тыповы часопіс нянавісьці.

На пачатку палітычнай дзейнасьці я ўспрыняў першыя напады эмацыйна, як зьнявагу і паклёп, якому трэба даваць адпор, а паклёпнікаў караць. Але неўзабаве стала відавочна, што ідзе сістэмная вайна супраць асобы, вайна, якая ніколі ня спыніцца, якой ня трэба нават нічога чуць у адказ, бо гэта прапаганда, задача якой – стварэньне скрыўленага адмоўнага вобразу. Калі я гэта ўбачыў і зразумеў, адразу прышло “другое дыханьне” – эмацыйны спакой.

Цяпер я асабліва не стараўся нават аспрэчваць іхную ілжу і агрэсію. Маім адказам былі станоўчыя дзеяньні і станоўчыя справы, якія ішлі адна за адной і якія прымусілі нечысьць бегчы ўсьлед і аббрэхіваць кожны мой крок, не заўважаючы, як хутка яны ператвараюцца ў адыёзных фігур у вачах людзей.

За больш чым 20 гадоў у палітыцы я (на сваім прыкладзе назіраючы) добра вывучыў сістэму прапаганды расейскай нянавісьці і яе выкарыстаньне супраць маёй асобы. Лічу, што гэта цікавы і карысны вопыт, тым больш, што прапаганда нянавісьці не спыняецца і ня спыніцца ніколі, пакуль будзе існаваць гэта дзяржава і гэтая імпэрская псіхалогія, закладзеная заснавальнікамі.

## Прычыны нянавісьці

1. Пасьля XX і XXII зьездаў КПСС (1956 і 1961 гг.), на якіх была паднята заслона культу асобы Сталіна і аб’яўлены некаторыя факты, камуністам удалося на пэўны час даволі грунтоўна і прафэсійна ашукаць грамадзкасьць і лёгкаверны Захад.

Інтэрпрытацыя падзеяў была пераведзена ў паняцьце рэпрэсій унутры кампартыі, якія кампартыя сама раскрыла народу і асудзіла. Камуністам удалося схаваць галоўнае – генацыд народаў і цэлых нацый.

Адкрыцьцё і доказнае дасьледваньне Курапатаў, якое на фактах і, галоўнае, на ўліках пацьвердзіла генацыд беларусаў, было поўнай нечаканасьцю для КГБ і Крамля. Прытым яны пацярпелі паражэньне на ўсіх этапах барацьбы. Найбольш разумныя зь іх зразумелі, што гэта крах. Крах камунізму. Пытаньне толькі ў часе. У 1989 годзе я публічна па тэлебачаньні (жывы эфір) сказаў пра гэты хуткі крах і выказаў меркаваньне, што КПСС і СССР засталося яшчэ праіснаваць два гады. Потым – канец. І я не памыліўся. У 1991-м настаў ім «канец».

Вайну за Курапаты яны прайгралі. У 1990 годзе камуністы вымушаныя былі прызнаць злачынствы і расстрэлы НКВД.

Пасьля гэтага яны прайгралі ўжо саму праблему тэрора і генацыда ва ўсім СССР. Падняліся сілы супраціўленьня і сьведчаньня злачынстваў. Энкавэдзісцка-камуністычны міф пра рэпрэсіі, “скрыўленьні” лініі партыі” і т. п. – рухнулі з грукатам, а адчайны, панічны гэбоўскі путч 1991 года па ўратаваньні СССР (так званы ГКЧП) праваліўся. Савецкі Саюз здох так, такім чынам і тады, як мне прыходзілася перад гэтым казаць, нават ня думаючы пра прагноз. Але так яно і сталася.

Рацыянальна разумеючы сатанізм расейска-энкавэдзісцкай сістэмы, я выразна ўсьведамляў, што, зважаючы на прыроду гэтай сістэмы, мне трэба быць гатовым да помсты зь іхняга боку, бо “зьвер” ня здох. Мэтодыка яго помсты вядомая: забойства, ганебная сьмерць, ганебнае скрыўленьне вобразу (і ўсіх спраў), стварэньне забыцьця.

2. Наступная прычына нянавісьці – гэта камуна-энкавэдзісцкі крах савецкай антыбеларускай палітыкі пад ударамі Народнага Фронту. У 70-х гадах некаторыя гэбісты адкрыта выказваліся, што “ўсё, Беларусі больш няма і ніколі ўжо ня будзе”; “няма ўжо і беларусаў”, “няма мовы”, “няма нават думкі пра нацыянальную годнасьць”. Яны вальяжна радаваліся.

Сьведчу, што на той час ужо амаль абсалютна адсутнічалі нават адзінкавыя ўяўленьні пра магчымасьць незалежнасьці Беларусі. Пра гэта, практычна, ня думаў ужо амаль ніхто. Гэбісты тое ведалі. І гэта праўда. Яны былі задаволеныя сабой, адчувалі сябе гаспадарамі ў нашым доме і плявалі нам у твар.

І раптам (пасьля адкрыцьця Курапатаў) пачало ўсё пераварочвацца і валіцца. Яны моцна недаацанілі “задушаны” імі Беларускі народ. Беларусы загаварылі пра суверэнітэт і свабоду. Тады ЦК кампартыі Беларусі, абапіраючыся на верны КГБ, урачыста (і амаль публічна) запэўнілі Маскву, што Народнага Фронту ў Беларусі ніколі ня будзе.

Фронт узьнік у гэтым жа годзе. Прытым арганізацыя яго адбылася супэрлегітымным чынам, бо ў галасаваньні і выбарах Аргкамітэта БНФ фармальна (і нечакана для іх самых) удзельнічалі прадстаўнікі кампартыі, улады і пракуратуры. Яны аказаліся ў меншыні, а трапілі на ўстаноўчую канфэрэнцыю Фронта з прычыны сваёй недальнабачнасьці і прымітыўнага палітычнага думаньня, ня ведаючы, куды прышлі (бо было аб'яўлена толькі аб арганізацыі Мартыралога Беларусі). І ўсю гэтую “пастку” падстроіў ім гэты ўжо ўзьненавіджаны імі “курапацкі тып”, “нейкі археолаг” ды «мастацтвазнаўца». Яны потым ледзь ні па чарзе шыпелі мне: “Вы яшчо атвеціце.”

Далей было трыумфальнае шэсьце БНФ, раскрыцьцё праўды пра Чарнобыль і цьвік у труну ўсёй камуна-чэкісцкай палітыкі КГБ у БССР – аб’яўленьне Нзалежнасьці Беларусі 25 Жніўня 1991 года. (І тут зноў адзначылася гэтая ненавісная ім асоба.)

Чаму маё імя для іх гэтак паталягічна ненавіснае? Таму што ўсё ім было сказана адкрыта (інакш у Беларусі нельга было), хто ёсьць хто, хто што тварыў і што за тое ім павінна быць. Усе іхныя паражэньні на фоне адкрытай палітыкі прыводзілі іх у ціхі шал.

Гэта вылілася ў гістэрыку ў пачатку 1994 года, калі ельцынскія дэмакраты ўмацаваліся ва ўладзе ў Маскве і пачала ціха вяртацца зноў імпэрская палітыка і КГБ. І тады зьявіўся артыкул, ізноў жа, гэтай ненавіснай ім асобы: “О русском империлизме и его опасности”. ***Артыкул сарваў маску з намэнклятурнай ельцынскай дэмакратыі, і ўсе ўбачылі зноў валасатае імпэрскае маскоўскае мурло.***

Рэакцыя была падобнай на масавую гістэрыку опэрупаўнаважаных: захлёбваліся, пырскалі пенай. У Вярхоўным Савеце, пасьля гэнэральнай прапрацоўкі дэпутатаў, даюць слова Генэральнаму пракурору і той просіць зьняць з народнага дэпутата З. С. Пазьняка дэпутацкую недатыкальнасьць, каб узбудзіць крымінальную справу за артыкул аб рускім імпэрыялізме (такія былі норавы ў камуністаў). Галасаваньне. З 345 дэпутатаў – 110 “за”. І тут – правал канторы.

Па маім аналізе, менавіта ў гэты час Лубянка дала «адмашку» на варыянт “ганебная сьмерць”. Забіць плянавалася ў натоўпе, віну зваліць на “апазыцыю” ў БНФ. (Апазыцыі ў Фронце не было, але якраз у гэты час пачала ў БНФ кучкавацца агентура і

ляпіць апазыцыю.) Тое, што ў тую вэрсію забойства людзі не паверылі б, для Масквы ня мела значэньня.

Галоўнае, што "ненавіснага" не было б, а наконт забойства "яго" нібыта сябрамі Фронту, то Гёбельс навучыў – паўтаралі б кожны дзень, і дзесяцігоддзямі, пакуль усе ні сталі б верыць і самы паўтарацьь. Такая ёсьць тэхналёгія зла. "Мокрую" справу мог зрабіць "эскадрон сьмерці", які стварылі пры Лукашэнку (пра гэта мае сябры, фронтаўцы, былі папярэджаныя якраз функцыянерам беларускага КГБ; надрукавана).

26 сакавіка 1996 года мяне павінны былі "ўзяць". І тут поўнае фіяска. "Ненавісная" асоба зьнікла і праз чатыры дні аб'явілася на Ўкраіне. Дэпеша ў КГБ Украіны – "Выдаць!" Вячаслаў Чарнавіл кіраўнік Народнага руху Украіны (мой сьветлай памяці ўкраінскі сябра) ідзе да прэзыдэнта Кучмы, і з КГБ Украіны па тэлефоне ў Менск ідзе рэакцыя: "Пайшлі вы ..."

26 красавіка "ненавісная асоба" аб'яўляецца ў Менску на Чарнобыльскім Шляху. Спэцназ акружае сядзібу БНФ – штурм. "Ненавісная асоба" зьнікае, па памылцы хапаюць іншага.

Лукашэнка выклікае ўсіх адказных і робіць разнос. Нянавісьць робіцца некантралюемай, абмяркоўваюць, як расправіцца. Абмяркоўвалі так шырока, што дэпутат рускай думы камуніст-пракурор В. Ілюхін адкрыта выступіў і паведаміў наперад, што, маўляў, ЦРУ зьбіраецца забіць у Польшчы аднаго-двух лідэраў БНФ і зваліць віну на Лукашэнку. У выніку -- мая эміграцыя з Сяргеем Навумчыкам (выезд з Польшчы) і рашэньне аб азылі ў ЗША. Азыль ЗША абазначаў выбар Амэрыкі не ў карысьць Лукашэнкі. З Лукашэнкам – гістэрыка. М. Мясьніковіч выступае на прэс-канфэрэнцыі ў Маскве і кажа, што адбылася "уцечка інфармацыі" (намякаючы на Ілюхіна). Пазьней (пры Пуціне), «усёзнайка» і партыйны змагар Ілюхін раптам памрэ (нібыта застрэліцца) пры падазроных абставінах.

Інфармацыя пра наш з С. Навумчыкам азыль і абставіны прагрымела на ўвесь сьвет. План "ганебнага забойства" праваліўся цалкам.

У гэты пэрыяд быў забіты Георгій Чантурыя, зьнішчаны Абульфаз Эльчыбей, ліквідаваны Вячаслаў Чарнавіл. Сатанінская ЧЭКА распраўлялася зь лідэрамі народных франтоў тых краінаў, якія Масква яшчэ марыць захапіць ізноў.

Такім чынам, ваюючы зь "ненавіснай асобай", усясільная сатанінская арганізацыя – мела адны няўдачы ды фіяскі. Нянавісьць у іх ад гэтага стала амаль сакральнай. Іх ад майго імя "трясёт", іх "рвёт", "тошнит", "воротит" і г. д.

## Тэхналёгія нянавісьці

Вэрсія ганьбы і ганебна скрыўленага вобразу пачала распрацоўвацца з першых жа дзён утварэньня БНФ. Тут клясычная тэхналёгія НКВД.

Прапаганда скрыўленага вобразу ішла праз камуністычна-гэбоўскі друк і эфектыўную ў гэтым выпадку сістэму агентуры (распусканьне чутак). Істотную ролю тут ігралі агентурныя журналісты, якія абслугоўвалі рэжым.

Але, бадай, найбольш стабільную сістэму прапаганды нянавісьці ўяўлялі партыйныя і савецкія органы ўлады.

Псіхалагічны тэст на ўспрыняцьце і на пассіянарныя выкіды нянавісьці я меў часткова праз пошту "народа". Кожны дзень я атрымліваў у Вярхоўным Савеце па 10-12 лістоў. Палавіна іх – бессэнсоўныя і напісаныя дзеля выказваньня нянавісьці. Яны даволі аднастайныя, бо напісаныя адной групай людзей, расейскімі энкавэдзістамі-ветэранамі вайны і ваеннымі камуністычнымі пэнсіянерамі. Гэта якраз той паразітны пласт, які складаў пастаянны адсотак майго стабільна_"адмоўнага" электарату, і тая група, якой ненавіснае было існаваньне Беларусі, беларускай мовы і культуры.

Бальшыня гэтых лістоў ёсьць даволі натуральнае, непасрэднае выяўленьне стану адпаведнай чалавечай душы, выплеск злосьці, пажаданьні мне сьмерці, хваробаў, праклёнцьці, пагрозы і г. д. Любімыя словы "фашыст", "антысаветчык", «кат беларускага народа», "паліцай".

Такіх лістоў у мяне сабралася некалькі мяшкоў. Я іх ня выкінуў, бо лічу, што гэта матэрыял для вывучэньня псіхалогіі рускага камунізму і выяўленьня рускай нянавісьці.

Сэнс гэтага тупога пісаньня мне, магчыма, так і застаўся б да канца незразумелым, калі б я са сьмехам ня даў пачытаць адзін "шэдэўр" (дзе пракляцьці былі выпісаныя зь вялікім напалам цёмнай страсьці) нашай дэпутатцы з фракцыі БНФ Галіне Сямдзянавай, спадзеючыся на яе гумарыстычныя рэплікі. Вынік для мяне быў абсалютна нечаканым. Г. Сямдзянава пабялела, а шыя яе пакрылася "гусінай скурай".

-- Жах! – сказала яна, агаломшаная, -- гэта жах! Зянон Станіслававіч, выкіньце гэты ліст! Гэта жах!

"Вось табе і на, – падумаў я, -- аказваецца, тут псіхічная зброя, якая на мяне ня дзейнічае. Ну і добра – пішыце далей."

Аналізуючы выказваньні, друк, меркаваньні, пазьней – Інтэрнэт, я заўважыў, што стварэньне адмоўнага вобразу амаль не абапіралася на маю асобу, а будавалася па стэрэатыпах, разьлічаных на шырокі ахват усіх групаў насельніцтва, і вылучалася амбівалентнасьцю (найпершая прыкмета электаральнай тэхналёгіі). Распрацоўка ішла па наступных ярлыках:

**Палітычны і сацыяльны аспэкт –** антыкамуніст, будзе расстрэльваць камуністаў, агент ЦРУ, працуе за грошы Амэрыкі, фашыст, нацыст, паліцай, супрацоўнічаў зь немцамі, сын паліцая, дзед быў у дэфензіве, польскі стаўленьнік, адраджае Рэч Паспалітую, русафоб, супраць Расеі, супраць усяго рускага, выселіць рускіх зь Беларусі, увядзе Вунію, паляк, габрэй, маці габрэйка, антысеміт, "галавар" габрэйскай мафіі, дыктатар, такі ж, як Лукашэнка, кагэбіст, закончыў афіцэрскую школу ў Львове, прымусіць гаварыць па-беларуску, увядзе капіталізм, зробіць люстрацыю, "рвецца да ўлады", адбярэ пэнсіі, палітычны труп, фатограф, пісаў пра тэатр, пачне вайну і г. д.

**Маральна-асабовы аспэкт –** сквапны да грошай, абагачаецца, уцёк у Амэрыку на грошы Дзярждэпа, псіхічна ненармальны, злы, жорсткі, дурны, апантаны, закамплексаваны, баязьлівец, гультай, злапомны, гомасэксуаліст (жонка для прыкрыцьця), нарцысіст, прамяняў Беларусь на камфортнае існаваньне, прывёў да ўлады Лукашэнку, жыве на грошы ЦРУ і ФБР і г. д.

Гэта асноўнае, што паўтаралася ўжо 25 гадоў, увайшло ў мазгі пэўнай часткі людзей, і нават у розныя інтэрнэтныя «энцыкляпедыі» на розных мовах.

***Асобны філіял нянавісьці цяпер – гэта бесаўшчына ў Інтэрнэце***. Там, калі зьяўляецца маё імя, «канторшчыкі» і маскалі зьлятаюцца, як гракі ў сакавіку, і пачынаюць абплёўваць.

На пачатку тысячагоддзя асноўная канцэнтрацыя нянавісьці і бесаўскага гэб'я на працягу дзесяці гадоў знаходзілася на палітфоруме TUT.BY. Там было па некалькі матэрыялаў супраць мяне кожны дзень.

Я праверыў па IP – шмат якія бесы былі зь Менску і працавалі ў Сеціве з 9.00 да 18.00. (Гэта значыць сядзелі за клавіятурай ва ўстанове поўны рабочы дзень.)

Быў нават кур'ёзны выпадак. Адзін шпег так асьмялеў, што прышоў у Беларускую царкву ў Нью-Ёрку і папрасіўся сфатаграфавацца, як ён сказаў, са "знакамітым чалавекам". Няма праблем, хто цяпер ні фатаграфуецца – ва ўсіх тэлефоны. Памятаю, што тып быў "засьценчывы" і ўсё казаў, што саромеецца, бо ня можа па-беларуску. Жаданьне павыпендрывацца яго і падвяло. Тып зьмясьціў супольны здымак у Інтэрнэце. Па фота яго хутка ў Сеціве знайшлі, вылічылі і выявілі цэлы склад (дзясяткі) бесаўскіх артыкулаў-тэмаў, напісаных і зьмешчаных ім супраць маёй асобы (з ахайваньнем майго імя) на форуме TUT.BY пад псэўданімам "Дуглас". "Дуглас" аказаўся рэзідэнтам у Амэрыцы, жыў у Нью-Ёрку пад прозьвішчам Возгін. Зь ім спаткаліся каму трэба і інтэлігентна паразмаўлялі. З таго часу (а гэта ўжо гадоў 7-8) Дуглас з Інтэрнэту зьнік бяссьледна. Няўдзячная сабачая гэта праца.

Такім чынам, практычна, уся інспірацыя нянавісьці супраць беларускай нацыі, культуры і яе прадстаўнікоў (ды-й супраць ўсяго сьвету), вось ужо сотні гадоў,

зыходзіць з Расеі. Нават цяжка сказаць, калі той нянавісьці было менш калі больш. Гэта пэрманэнтная імпэрыялістычная зьява, якая не сьціхала ніколі. Але пры кожнай расейскай уладзе былі арганізацыі, асобы і выканаўцы, якія генэравалі нянавісьць і сацыяльнае зло. У XX стагоддзі і па сёньняшні дзень гэта савецкі КГБ (ФСБ, НКВД, ГПУ, МГБ, ЧК і іншыя назвы аднаго і таго ж.).

Усе факты і зьявы нянавісьці, пра якія я тут казаў, зыходзяць з аднаго кораня, з адной прычыны. ***Гэта ёсьць род палітычнай нянавісьці левага кшталту і пагрунтаванай на ёй інфармацыйнай вайны.*** Палітычная нянавісьць зразумелая, пазнавальная, мае массавае пашырэньне.

Побач зь ёй супольна ўжываецца распаўсюджаная ў савецкім грамадзтве ***сацыяльна-спажывецкая нянавісьць.*** Гэта ёсьць нянавісьць масавай сьвядомасьці. Яна ўзьнікае калі не спраўджваюцца нейкія індывідуальныя спажывецкія спадзяваньні на пэўныя эканамічныя, сацыяльныя, грамадзкія чаканьні і дзеяньні і пачынаюцца (як правіла неадэкватныя) пошукі вінаватых. (Тут і «халерныя бунты» ў Расеі, і «ворагі народа», і «жыды», і нават БНФ, які не забясьпечыў абывацелю «поўны спажывецкі камплект», і г. д.)

Але ў цяперашняй антыбеларускай рэчаіснасьці існуе на службе рэжыму яшчэ адзін від нянавісьці, які не заўсёды ідэнтыфікуецца, бо фармальна (як правіла) ставіцца крытычна да існуючай улады. Гэта так званая ***эгацэнтрычная нянавісьць,*** якая ёсьць ні чым іншым як паталагічнай формай інтэлігенцкага сальерызму. Паколькі гэта паталогія, то няма крытэрыяў, каб яе спыніць. Чалавек, апантаны эгацэнтрычнай нянавісьцю, ставіць сябе вышэй за ўсіх і лічыць сябе адзіным носьбітам ісьціны, самым разумным, жадае да сябе ўвагі, усхваленьня і пахвалы. Усялякае пасьпяховае дзеяньне каго-небудзь ці выбітная зьява без удзелу эгацэнтрычнай асобы (ці з другарадным яе ўдзелам) можа быць гэтай асобай пасьлядоўна (і нематывавана на першы погляд) ўзьненавіджана, нягледзячы нават на агульнасьць пазыцыяў. Менавіта з асяроддзя гэтай нянавісьці (а не з КГБ), зыходзіць выраз, што Незалежнасьць Беларусі звалілася зь неба, што Народны Фронт нічога не зрабіў, што Народны Фронт нічога ня значыў, што дэпутаты БНФ нічога не зрабілі, што Незалежнасьць прышла з потных рук камуністаў, што ў Фронце ўсе злаваліся і варагавалі з усімі, што Фронт нічога не разумеў, што Фронт увесь час памыляўся і г. д., альбо іншая аранжыроўка, што Фронт быў харошы, але лідар кепскі, што вы ўсім вінаваты Пазьняк і г. д.

Зацыкленасьць эгацэнтрычнай нянавісьці на БНФ тлумачыцца тым, што ў часы нацыянальнай рэвалюцыі, носьбіты эгацэнтрызму альбо трымаліся збоку на пазыцыях «разумнай непатрэбшчыны» (і цяпер ня могуць перажыць сваёй маргінальнасьці), альбо, будучы ў Фронце, не змаглі ўліцца ў калектыўную барацьбу БНФ з прычыны індывідуалісцкай няздольнасьці да агульнай калектыўнай партыйнай працы (вельмі, дарэчы, распаўсюджаны недахоп сярод людзей, асабліва інтэлігенцыі, -- няздольнасьць арганізавана калектыўна працаваць дзеля адной мэты, няўменьне падпарадкоўвацца агульным рашэньням).

Эгацэнтрычная нянавісьць часам больш шкодная, чым адкрытая гэбісцка-маскоўская, бо зьяўляецца па сутнасьці «ідэалагічнай анкалогіяй», гэта значыць зыходзіць з апазыцыйнага да рэжыму асяроддзя і здольная больш нашкодзіць нясьпеламу розуму, чым прафэсійная гэбоўская прапаганда.

У падрэжымнай Беларусі, ў абставінах ўнутраннай акупацыі і хамскага вынішчэньня ўсяго беларускага, ды на фоне лібэральнай ўсёдазволенасьці ў сьвеце, выявіліся пачварныя зьявы ўпадку чалавечай асобы, вызваленьня схаваных комплексаў нянявісьці да ўсяго чалавецтва праз сцьвярджэньне ўласнага эга. У паэзіі, у публіцыстыцы, у творчасьці зьявіліся людзі, якія прызнаюць сябе беларусамі, нават пішуць па-беларуску і, адначасна, карыстаючыся афіцыйным ганеньнем на беларускую культуру, гісторыю і нацыю цынічна, кашчунна, подла і зьдзекліва зневажаюць сьвятыя каштоўнасці нацыянальнай культуры, народнага духа і сам народ, які змушаны цяпер маўчаць.

Аднаго разу, будучы ў Празе, я спытаў Сяргея Абламейку, як бы зрэагавалі чэхі, калі б па радыё на ўсю Чэхію (ці нават на канцэртную залю) нехта прасьпяваў бы да іх: «Добрай раніцы, жлобская нацыя» альбо пачаў бы зьдзекліва перакручваць імя чэшскага Янкі Купалы і абплёўваць яго асобу, ці абзываць мярзотным чэшскі народ?. « Яго б забілі», -- адказаў Сяргей.

Адказ дакладны. Зразумелы для юрыспрудэнцыі. Ёсьць асаблівы від зьнявагі, які можа наклікаць забойства і нават массавую расправу – гэта кашчунства, зьдзек над святым. Для гэтых беларусаў з анкалагічнай сьвядомасьцю, якія вырабіліся ў ненармальных умовах, і якія зьдзекваюцца з святога, нічога сьвятога, акрамя свайго эгаізму (на якім яны хочуць публічна прагучэць) ўжо не існуе. Гэта ўжо ў поўным сэнсе вырадкі, якія пацяшаюцца над гаротным станам народа. Нават ворагі беларушчыны прытрымліваюцца нейкіх сваіх межаў нянавісьці. Гэтыя – на фоне нашай цяперашняй нацыянальнай слабасьці і няшчасьця не абмежаваныя нічым. Насьцярожвае таксама, што ўсю нечысьць падтрымліваюць і перакладаюць немцы, роля якіх у дачыненьнях да Беларусі добра вядомая.

Сацыяльнае дэвіянцтва эгацэнтрыстаў прафэсійна (і паіменна) прааналізаваў Пётра Садоўскі, адзначаючы такую тыповую родавую іхнюю якасьць як агрэсўнасьць. Цяпер гэтыя людзі перакладаюць свае зьнявагі беларушчыны на эўрапейскія мовы і абгаджваюць беларусаў у Эўропе. Тут нават лукашысцкі рэжым адстае.

Ну, і які ж вынік гэтай вялікай гэбоўскай маскоўскай нянавісьці, на якую патрацілі столькі сьліны, грошай, часу і славаблудзтва? Скажам проста -- адносна майго імя ён нікчэмны. Найвыжай 10-13 адсоткаў пэнсіянераў НКВД, ветэранаў камунізму, расейцаў, бюракратаў ды часова ачмураных – вось балянс бэтоннага нэгатыву. Тое ж самае, што і дваццаць гадоў таму. Дык яны і бяз гэтай прапаганды былі б супраць. У іх прырода такая. Але пакуль існуе антыбеларускі рэжым і фашызоідная Расея, нечысьць ніколі ня спыніцца, будзе травіць нянавісьцю наступныя пакаленьні. Таму ведаць пра яе паводзіны трэба, каб абмежаваць разбуральны уплыў і засьцерагчы людзей.

*25 чэрвеня 2013 г.* Зянон Пазьняк

# ПАЛІТЫКА АНТЫБЕЛАРУСКАГА РЭЖЫМУ Ў ДАЧЫНЕНЬНІ ДА ЭМІГРАЦЫІ

Пасьля ўпадку камунізму ў Эўропе палітычныя дачыненьні, тэхналёгіі, мэтады і зьмены прыярытэтаў настолькі ўскладніліся, што сьвет (як ужо было ў 1930-х) не пасьпявае за асэнсаваньнем падзей. Гэта небясьпечна, бо разьвязвае рукі заганным палітычным сілам.

Посткамуністычны стан у Эўропе характарызуецца пашырэньнем Эўразьвязу і прыходу да ўлады савецкага КГБ у двух краінах -- Беларусі і Расеі. Гэтая апошняя падзея вызначыла асаблівую палітыку ва Усходняй Эўропе і, што якраз істотна, яна засталася, практычна, незразумелай на Захадзе. Адзін амэрыканскі прэзыдэнт нават сказаў у 2004 годзе, што глянуў у вочы Пуціну і ўбачыў там душу рускага народа. Магчыма, ён быў недалёкі ад праўды, але меў на ўвазе зусім іншае.

Ідэалёгія абсалютнай улады КГБ у Расеі ёсьць рускі імпэрыялізм з усімі вынікаючымі адсюль абставінамі ў палітыцы. У Беларусі, дзе маскоўцам удалося паставіць свайго стаўленьніка і сканцэнтраваць уладу, гэтая палітыка набыла найбольш сістэмны і выніковы характар на ўзроўні сучасных паліттэхналёгій, распрацаваных у КГБ.

Мэта маскоўскай палітыкі банальная для Крамля – уключэньне Беларусі ў склад Расеі шляхам стварэньня палітычных, эканамічных і дыпляматычных абставінаў. Ажыцьцяўленьня мэты адбываецца паэтапна і цалкам сістэмна: захоп улады знутры легальным шляхам (з выкарыстаньнем “дэмакратыі”), ліквідацыя палітычнай альтэрнатывы, стварэньне сваёй апазыцыі, зьмена канстытуцыі і заканадаўства, стварэньне аўтарытарнай структуры ўлады, ліквідацыя мяжы з Расеяй, ліквідацыя нацыянальных структураў грамадзянскай супольнасьці, ліквідацыя беларускага радыё і тэлебачаньня, беларускіх выдавецтваў, часопісаў, газэтаў, творчых саюзаў, ліквідацыя беларускіх школаў, падручнікаў і беларускіх вучэльняў, і самае балючае – ліквідацыя беларускай вёскі – крыніцы беларускай мовы, традыцыяў і нацыянальнага сьветаўспрыманьня. Адбываецца падразаньне этнасу, -- працэс, які разьвіваецца.

За 19 гадоў унутранага акупацыйнага рэжыму і прымяненьня гэбісцкіх вынішчальных тэхналёгіяў разбураныя этнакультурныя асновы існаваньня беларускай нацыі.

Эфект каласальны па сваёй разбуральнай сіле і ў гэтым сэнсе перавышае вынішчальныя вынікі 73-х гадоў палітыкі савецкай акупацыі. Беларускую вёску саветы русіфікаваць і зьнішчыць не пасьпелі.

Сучасная расейская палітыка па задушэньні Беларусі, як і раней, шматканальная і распрацаваная ва ўсіх галінах: ад эканомікі і палітыкі да тэрміналёгіі і тапанімікі. Тут, у гэтай цывілізацыйнай вайне, -- усё палітыка, непалітыкі ў такіх дачыненьнях няма.

Але ёсьць некалькі прыярытэтаў, якія доўжацца ўжо сотні гадоў і асэнсаваны цяпер нашымі ворагамі ўжо на ўзроўні новых інфармацыйных тэхналёгіяў. Трансцэндэнтнай асновай гэтых прыярытэтаў ёсьць **русіфікацыя.** Другі прыярытэт, які выкарыстоўвалі ўжо саветы, -- **ліквідацыя нацыянальных каштоўнасьцяў** народа і падрыў духоўнай асновы беларускай нацыі.

Вынішчальная дзейнасьць па гэтых кірунках не спыняецца ніколі. Тут ёсьць аснова, якая паклікана забясьпечыць перамогу Маскве.

Як і пры Савецкім Саюзе, тэатр вынішчальнай палітыкі не абмежаваны межамі краіны, але ахоплівае ўвесь сьвет, дзе знаходзяцца арганізаваныя групы беларускай эміграцыі. Задача пастаўлена простая: узяць пад кантроль эміграцыю, узалежніць ад рэжыму асобных яе прадстаўнікоў і прадставіць яе як дыяспару, якую падтрымлівае рэжым і якая, адпаведна, супрацоўнічае з рэжымам.

Замежная палітыка рэжыму супраць Беларускай эміграцыі пачалася ў другой палове 90- гадоў, адразу як зьявіліся першыя палітуцекачы зь Беларусі, і міжнародная супольнасьць прызнала антыбеларускі рэжым як дыктатарскі і недэмакратычны.

Разбуральная выніковасьць рэжымнай палітыкі за мяжой несумненная (хоць і не абсалютная). Яе асягненьні зьяўляюцца фактам і пэрспэктыва далейшага ўплыву не зачынена.

Рэжым дзейнічае праз амбасады і легальную агентуру спэцслужбаў, якая існуе ў кожнай амбасадзе кожнай краіны. Функцыянеры амбасады прыкідваюцца прыхільнікамі беларушчыны і навязваюць кантакты з слабадумаючымі людзьмі зь беларускіх арганізацыяў. Прапануецца быццам бы падтрымка беларускай справы, сумесныя праекты, абяцаньні інвэстыцый. Беларус, які трапіў у такую распрацоўку, звычайна радуецца, што адчыняюцца добрыя пэрспэктывы ў матэрыяльным і беларускім пляне. Ён можа нават думаць, што гэта ён пачынае ўплываць на "несьвядомых" працаўнікоў амбасады, (не разумеючы, што становіцца агентам антыбеларускага рэжыму) і будзе пераконваць іншых людзей у арганізацыіісьці на супрацоўніцтва. Эфект, як правіла, быў не малы. Шмат беларусаў слаба арыентуецца ў палітыцы, і дапамаговыя грошы ім здаюцца рэальнай каштоўнасьцю.

Вынікам прымітыўнай атакі антыбеларускага рэжыму на беларускае замежжа стаў раскол усіх беларускіх культурніцкіх арганізацыяў у краінах былога СССР. Частка беларусаў пайшла на супрацоўніцтва з рэжымнай амбасадай, другая частка засталася на беларускіх адраджэнцкіх пазыцыях.

Практычна, рэжым фармальна як бы стварыў сабе падтрымку дыяспары, але становішча тут палавіністае, бо антырэжымныя арганізацыі таксама дзейнічаюць. Стан іх матэрыяльна цяжкі, але беларускі. Тут ёсьць і мова , і сымвалы, і пазыцыя, і ідэя. Але звужэньне беларускай адраджэнцкай сфэры відавочнае.

Трэба ўлічыць, што ініцыятыва застаецца ў руках рэжыму, асабліва маючы на ўвазе яго кантроль над так званай "апазыцыяй", шэраг асоб якіх у апошні час апынуліся на захадзе ў розных лабісцкіх арганізацыях, якія рэальна ўзьдзейнічаюць на эўрапалітыку і забясьпечваюць рэжыму магчымасьці для манэўру.

Фактам ёсьць тое, што дэмакратычная антылукашысцкая Эўропа церпіць фіяска за фіяскам, а падтрымка антыбеларускаму рэжыму ў асяроддзі эўрапрагматыкаў і карумпаваных групаў – узрастае. Сымптаматычным і паказальным прыкладам такога рэальнага становішча ёсьць афіцыйная забарона ўжываньня беларускага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга ў Быдгашчы, Кракаве (Польшча), Стакгольме (Швэцыя), напады, фізічная расправа і затрыманьні за Беларускі Сьцяг у Варшаве, афіцыйнае рашэньне аб забароне паказу Беларускага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга Міжнародным хакейным камітэтам і іншыя факты апошняга часу.

Сьцяг – гэта сымвалічная рэальнасьць. Гэта свабодная краіна, нацыя, ідэя. Эўрабюракратыя, верная сваёй псіхалёгіі падводных стандартаў, не клапоціцца за беларускую волю. Тут безумоўная (хоць, спадзяюся, і часовая) перамога антыбеларускага рэжыму.

У Злучаных Штатах Амэрыкі, дзе беларуская эміграцыя была найбольш моцнай, тактыка подкупу і заангажаваньня не ўжывалася (ды й матэрыяльны ўзровень людзей тут быў іншы, чым, скажам, у Вільні). Акцэнт быў зроблены на агентуру і правакаваньне расколаў праз царкву. Гэта стары савецкі падыход, дзе ўлічвалася, што грамадзкае існаваньне беларускай эміграцыі ў ЗША моцна завязана на Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную канфэсію.

Спарадычныя кантакты функцыянераў прадстаўніцтва рэжыму ў Нью-Ёрку і Вашынгтоне з асобнымі беларусамі часам адбываліся, але вынікаў не ўзьнікла ніякіх.

У апошні час, праўда, сытуацыя стала мяняцца. У гэтым годзе нечакана выявіліся сталыя кантакты і супрацоўніцтва аднаго з нядаўніх сяброў Галоўнай управы БАЗА з рэжымным прадстаўніцтвам у Нью-Ёрку. Справа ўжо зайшла настолькі далёка, што па даручэньні функцыянераў рэжыму ён сэпаратна пачаў рыхтаваць сустрэчу

прадстаўнікоў БАЗА зь міністрам Лукашэнкі кагэбістам Макеем, які знаходзіцца пад санкцыямі Эўразьвязу.

Прытым кіраўніцтву БАЗА з боку гэтай асобы быў выстаўлены ўльтыматум, што калі кіраўніцтва ня прыме рашэньня аб спатканьні зь міністрам рэжыму, то ён ад імя БАЗА спаткаецца зь ім сам.

Кіраўніцтва БАЗА прыпыніла гэту абсурдную ініцыятыву, і Макей у Нью-Ёрк не прыехаў.

Аналягічныя абставіны высьпяваюць і могуць узьнікнуць у Канадзе. Зьвязана гэта найперш са зьменамі ў эміграцыі. Старое ваеннае адраджэнскае пакаленьне ўжо, практычна, амаль адышло, а новае постсавецкае ня мае той моцы беларускай адраджэнскай базы ў сьвядомасьці і імунітэту супраць чужой разбуральнай ідэалёгіі і тэхналягічнай палітыкі. Таму ў пэрспэктыве ў Амэрыцы можа паўтарыцца тая самая постсавецкая мадэль расколу, якая адбылася ў Летуве, Латвіі, Эстоніі, Пецярбурзе, Маскве і іншых месцах былога СССР, населеных савецкімі людзьмі.

Я не люблю агучваць свае прагнозы, але сытуацыя разьвіваецца няўхільна, і хаця б умоўную прыкідку будучыні рабіць неабходна.

Я прааналізаваў у дынаміцы шэраг чыньнікаў за апошнія 15 гадоў: гісторыю і частотнасьць расколаў, прычыны канфліктаў, рух дэмаграфіі і зьмену пакаленьняў, шкалу каштоўнасьцяў, узровень адукацыі, удзел у палітыцы, кантакты зь Беларусяй, ступень інфармаванасьці пра Беларусь, храналёгію і прычыны матэрыяльных страт (будынкаў, установ, зямельных надзелаў, архіваў і г. д.), нацыянальную актыўнасьць асоб, колы энтузіястаў, тыпалёгію мэнтальнасьці, ацэнкі антыбеларускага рэжыму і ўзровень успрыняцьця існуючай “апазыцыі” ў Беларусі, адказы на пытаньне “што рабіць” і інш.

Высновы несуцяшальныя. Пры ўмове, што антыбеларускі рэжым праіснуе яшчэ дзесяць гадоў (што ня дай Божа) 9 шансаў з 10-ці гавораць пра тое, што беларуская эміграцыя ў ЗША  можа быць расколата па савецкай мадэлі. Пад пагрозай страты, адпаведна, могуць апынуцца апошнія будынкі і маёмасьць. Шанцаў такога не дапусьціць – 10 адсоткаў.

Прытым, як і паўсюдна ў чужым асяроддзі і пад акупацыяй, галоўным зьяўляецца мэнтальны чыньнік (здольнасьць да самаарганізацыі і барацьбы).

У беларусаў мэнтальны чыньнік, практычна, адмоўны і мераецца таксама ў прапорцыі 1 да 9-ці. Таму шмат што будзе залежыць ад зьбегу абставінаў і канцэнтрацыі на адзіным шансе (на 10-ці адсотках). Дарэчы, пра гэта заўсёды варта памятаць пры арганізацыйнай адраджэнскай працы – 0,1 тут павінна адлічвацца, як базавыя 100 адсоткаў.

Адзін раз у гісторыі скарыстаць шанец удалося эпахальна. Гэта 25 Жніўня 1991 года, калі 10 адсоткаў насельніцтва, якія не хацелі жыць у СССР, падтрымалі 10 адсоткаў фронтаўскіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня і здабылі незалежнасьць Беларусі, зрабілі вялікі гістарычны паварот у лёсе Айчыны. (Не забывайма, што лёс, ўладу, культуру і абарону Вялікага Княства трымала на сабе шляхта, якой таксама было 10 адсоткаў).

Тактычна, тут мусіць быць жорсткае стаўленьне да згодніцтва і пазбаўленьне ад калябаранцтва. Інакш адзіны шанец зьнікае (памятайма, што ён адзіны, а супраць – дзевяць).

Станоўчы чыньнік, які якраз найбольш істотны для амэрыка-канадыйскай эміграцыі – гэта існаваньне Рады БНР.

У становішчы агульнага нішчэньня беларускай нацыі вельмі важна, каб існавалі арганізацыі і асобы, якія трымаюць ідэалы барацьбы і будучыні Радзімы. Для шмат якіх беларусаў наяўнасьць ідэалаў (жывая рэальная наяўнасьць) патрэбная як сьцяг змаганьня і існаваньня, як прысутнасьць Бога для вернікаў. Ідэал ёсьць найвялікшы стымул перамогі і прышласьці Беларусі. Адзін да дзесяці, -- але ён здольны перамагчы.

*20. 06. 2013* Зянон Пазьняк

# ПАТРЭБНА МАБІЛІЗАЦЫЯ Ў АБАРОНУ КУРАПАТАЎ

Курапаты – помнік асобага кшталту. У зьнішчэньні яго і кантролю над ім зацікаўлена ФСБ-КГБ Расеі і палітычныя колы, якія гэтую кантору абслугоўваюць. Усе складанасьці, канфлікты, правакацыі і нішчэньні не абходзіліся без удзелу гэтай "канторы". Рана ці позна, шукаючы выхаду, рэстаран-бардэль, які будуюць пад Курапатамі, знайшоў бы туды дарогу.

У аўторак 4-га чэрвеня сябры КХП-БНФ устанавілі даўно замоўленыя памятныя знакі, якія разьмясьцілі па канцах ахоўнай зоны. Гэтая ідэя ажыцьцёўлена на навуковай аснове і ўзгоднена, як дзяржаўная справа. Толькі інвестыцыі ў яе ўкладзены ад абарончай арганізацыі і прыватнай асобы.

Мэмарыяльнымі знакамі сябры партыі займаліся амаль цэлы год. Завяршэньне справы прысьпела якраз у патрэбны час, калі ўжо стала зразумелай сутнасьць прафанатарскай ініцыятывы з так званай "агульнанацыянальнай талакой". Сэнс – зьмена межаў ахоўнай зоны. Я пра гэта ўжо пісаў у спэцыяльным матэрыяле.

Цяпер імпэт прафанатараў на гэтым накірунку затармозіцца. Але, не сумняваемся, кантора перакінецца на іншы плян. Мяркуючы па заявах, ім падкінута думка зрабіць з Курапатамі тое, што зрабілі камуністы зь лесам Ваньковіча, ператварыўшы яго ў так званы "парк Чалюскінцаў".

Гэты лес (і гэты "парк") ёсьць другія Курапаты ў Менску. Тут у 30-я гады і ў пачатку 40-х пастаянна расстрэльвалі людзей, прывозілі на машынах з турмы НКВД, расстрэльвалі і ськідвалі ў ямы.

Ужо ў 30-х частка тэрыторыі леса была выраўнена, прарэджана і ператворана ў паркавую зону. Магілы засыпаны, пляцоўка лесу зараўняная.

Расстрэльнае месца назвалі паркам Чалюскінцаў. Нагадаю, што гэта за назва.

У 1934 годзе ў Чукоцкім моры быў раздушаны ў ільдах карабель "Чалюскін". Рэйсам "Чалюскіна" ставілася задача асвоіць паўночна-ледавіты шлях за адну навігацыю. Задача не была выканана. Але па загаду Сталіна (каб скрыць правал) бальшавікі паднялі лямант на ўвесь СССР аб выратаваньні "герояў". Людзей з патанулага карабля перавезьлі на кантынент і ўсім (104 асобы) далі ордэны, мэдалі, званьні герояў. З правалу Сталін зьляпіў "посьпех".

Усё тлумачылася тым, што побач у фарватары за Чалюскіным плыў транспартны карабель з зэкамі ГУЛАГу, якіх везьлі распрацоўваць новыя руднікі. І на транспарце, і на Чалюскіне плыла адначасна і энкавэдзісцкая ахова зэкаў. Зэкі ў ільдах загінулі, а энкавэдзістаў, вучоных і маракоў выратавалі, арганізавалі шумнае шоу, і ўсіх зрабілі героямі. "Вся страна славила героев-челюскинцев".

Пачалі прысвойваць імя гэтага спэцкарабля калгасам, арганізацыям, вуліцам, паркам і г. д.

Ёсьць нейкая цёмная сымволіка ў тым, што расстрэльнаму месцу далі назву, зьвязаную з расейскімі энкавэдзістамі ў ролі "герояў". (Тое, што гэтая назва існуе ў Менску па сёньняшні дзень – прыкмета часу.)

У пачатку 90-х гадоў Народны Фронт паставіў у "парку" беларускі памятны крыж, праводзіў тут мэмарыяльныя памятныя мітынгі-рэквіемы. Я плянаваў у будучыні дасьледваць гэтую тэрыторыю на прадмет выяўленьня расстрэльных магілаў. Зазначу, што дасьледваньне гэтае вельмі цяжкае, бо правераных надзейных тэхналёгіяў па выяўленьні закапаных людзей не існуе. Без раскопак можна выявіць у зямлі мэталёвыя прадметы, будаўнічыя канструкцыі, але ня косьці. Тым ня менш, я б спрабаваў, паклаўшыся на археалягічную інтуіцыю. У гэтым лесе ("парку") могуць быць закапаныя адказы на шмат якія пытаньні (у тым ліку, магчыма, і на катыньскія). Цяпер дасьледваньне недаступнае і, практычна, немагчымае.

Яшчэ горш гэбісты зрабілі ў Лошыцы ў 1988 годзе, пасьля адкрыцьця Курапатаў, – засыпалі расстрэльны яр шматмэтровым пластом галечнага жвіру. У Лошыцы ў 1937 годзе расстралялі тысячы людзей.

Што датычыць леса Ваньковіча ("парку Чалюскінцаў") і акаляючых сьляпянскіх лясоў, то тут бальшавікі расстрэльвалі з 1917 года. І ня толькі бальшавікі, але і іншыя акупанты, што з 1917 па 1920 гг. пабывалі ў Менску.

У канцы 1920-х-пачатку 30-х гадоў энкавэдзісты зрабілі ў Сьляпянскім лесе свае сталыя "курапаты", дзе рэгулярна расстрэльвалі людзей, якіх прывозілі на машынах. У 1932 годзе, па сьведчаньні відавочцаў, там былі ўжо сотні агульных магіл, і над усім лесам стаяў ванітуючы трупны пах.

Уладзімер Дудзіцкі, які бачыў гэтае месца, гэтыя магілы і забойцаў, апынуўся за гэта сам у ГУЛАГу. Там у 1935 г. ён спаткаў зэка-сухотніка, "дахадзягу", былога малодшага лейтэнанта менскага НКВД. Перад сьмерцю гэты энкавэдзіст усё паўтараў: "Моцна пакараў мяне Бог за сьляпянскія душы... Ляжыць там ня менш дзесяці тысячаў".

У 1937 годзе энкавэдзісты "абарудавалі" яшчэ тры месцы масавых расстрэлаў ля Менска. Гэта Лошыца, вядомыя Курапаты і трэцяе -- побач, за шэсьць кілёмэтраў ад Сьляпянскага лесу, у лесе Ваньковіча ("парк Чалюскінцаў").

У "парку" расстрэльвалі рэгулярна, але толькі ноччу (магчыма таму, што месца было побач з горадам).

Я ўвесь час думаў: скончыцца Вярхоўны Савет – вазьмуся за дасьледваньне Сьляпянкі. Але Вярхоўны Савет скончыўся разам са свабодай. Пакуль што адзінае, што не змаглі зьнішчыць нашчадкі забойцаў – гэта Курапаты. За гэта, за абарону ад зьнішчэньня, і трывае вось ужо 25 гадоў пастаянная барацьба.

Нічога не змаглі зрабіць з Курапатамі, але падбіраюцца ўвесь час.

Дзеля абароны Курапатаў ахвяравалася цэлая партыя – КХП-БНФ. Таму могілкі існуюць, ператвораныя ў Народны Мэмарыял, месца забойства народа паступова сакралізуецца як сьвятое.

Зразумела, што гэта не засталося незаўважным для пэўных колаў улады ў Беларусі і Расеі. З 2012 года пачалася комплексная гэбоўская атака на Курапаты, з выкарыстаньнем новых ідэй, правераных дзеяньняў і падстаўных асобаў.

Пачалося з будаўніцтва за межамі ахоўнай зоны стандартнага сэрвіснага дарожнага цэнтра. Але ў нейкі час пад відам гэтага будаўніцтва вельмі хутка ўжо ў самой ахоўнай зоне імгненна вырасьлі, як грыбы, незаплянаваныя будынкі, якія аказаліся будучым рэстаранам з інтымнымі пакоямі (бардэлем) і зьняважлівай для беларусаў назвай "Бульбаш-хол". Высьветлена, што рэстаран тут незаконна будуюць маскоўцы. Мы падалі заяву ў пракуратуру. Будаўніцтва прыпынілі (ужо скора будзе год). Але нічога ня робіцца. Шукаюць, відаць, выхаду, каб захаваць незаконныя пабудовы. За гэты пэрыяд было сфабрыкавана шмат дэзінфармацыі.

Зьвяртае на сябе ўвагу вэрсія, выпушчаная ў апошні час, быццам бы рэальным заказчыкам рэстаран-бардэля, гаспадаром і інвэстарам, зьяўляецца вельмі высокапастаўленая асоба кіруючага рэжыму з асяроддзя ўзурпатара. Маскоўская фірма і маскоўскі інвэстар – гэта падстаўная мімікрыя.

Калі такое пацьвердзіцца, то, зразумела, што пракуратура нічога істотнага рабіць ня будзе. Але пры моцным націску грамадзкасьці сістэма можа даваць трэшчыны. Праўда, гледзячы на ўзровень і стан розумаў грамадзкасьці ў справе Курапатаў, на "моцны націск" надзеі невялікія, але ўсё ж існуюць.

Другім крылом наступу на Курапаты была правакацыя падпалкоўніка Кузьняцова з памятным слупком у знак вэрсіі пра нібыта "расстраляных тут польскіх афіцэрах". Гэтая правакацыя правалілася.

Наступны прыём – шумная рэкляма так званай "агульнанацыянальнай талакі", якая скончылася просекай з боку рэстарана-бардэля.

Цяпер выношваюцца пляны, пра якія я казаў у пачатку – у пэрспэктыве стварэньне парку "Чалюскін-2". Цяпер пакуль што толькі пушчана думка, народжаная ў рэжымнай уладзе, -- зрабіць з Курапатаў парк.

Рабіць эмацыйныя ацэнкі тут бессэнсоўна. Чыста рацыянальна, мяркую, прыдзецца аб’яўляць мабілізацыю людзей на абарону Курапатаў.

Група прафанатараў (Кузьняцоў, Раманоўскі,) тут цяпер мала значыць, але калі за нішчэньне Мэмарыялу і ператварэньне Курапатаў у парк бярэцца рэжымная ўлада, то гэта ўжо паважная небясьпека.

*24 чэрвеня 2013 г.* Зянон Пазьняк

# СЬВЕТЛЫ БЫКАЎ

***Да дня нараджэньня***
***і 10-годдзя сьмерці Васіля Быкава***

19 чэрвеня – сьветлы дзень. Мы звычайна ў гэты дзень ішлі да Васіля Быкава, віншавалі яго з Днём народзінаў. Я бачыў, што Быкаў і сам любіў такія спатканьні. Ён пачуваўся ў Фронце душэўна ўтульна. Атмасфэра ласкі і дабрыні, якая атуляла яго і якая ўвогуле была тады ў сядзібе БНФ, вельмі імпанавала яму. Усе жылі, як на крыльлях. Ужо была Незалежнасьць (наша мара і наша перамога), была беларуская школа, вольны друк, змагаліся за добрае будаўніцтва сваёй краіны.

Для многіх з нас гэта былі гады душэўнага шчасьця. Для Васіля Ўладзімеравіча, відаць, таксама. Калі ён бываў у нас у сядзібе, аблічча яго станавілася лагодным, а вочы сьвяціліся. Яму было добра.

У 1994 годзе яму споўнілася 70 гадоў. Грамадзкасьць і афіцыёз, і мы ў Фронце, рыхтаваліся кожны па-свойму тое адзначыць. Але Быкаў (які ўвогуле не любіў урачыстых афіцыёзаў) адмовіўся ад ушанаваньня свайго юбілею і ў Саюзе пісьменьнікаў, і ў іншых месцах. Ён сказаў, што будзе толькі ў Фронце, у сядзібе БНФ. І я разумеў, чаму ён так вырашыў.

Прышла моц людзей. Але не было ні адной чужой афіцыёзнай фізіяноміі, ніводнай фальшывай прамовы. Сабраўся цьвет нашай творчай нацыі, былі цёплыя позіркі і словы, простыя шчырыя дачыненьні і народныя сьпевы. Думаю, што было якраз тое, што трэба было гэтаму вялікаму чалавеку для добрасьці яго шчырай беларускай душы.

Праз 10 гадоў гэтыя ж самыя людзі праводзілі яго ў апошні шлях. Ужо перамяніўся сьвет. Цемра, хамства, гразь і нянавісьць віравалі вакол, імкнуліся зганьбіць ягоную сьмерць. Гэбоўскія бесы выскоквалі на дарогу, спрабавалі танцаваць перад яго трунoй. Эфір гэбісцкіх рацый поўніўся матам і подлымі камандамі на подлыя справы (гэта чулі сьведкі).

Нічога ня выйшла ў цемрашалаў. Абвалілася ў іх усё. Наша сіла мацнейшая. Сьветлым і магутным быў апошні шлях Васіля Быкава.

Быкаў мог дажыць да 90 гадоў. Ён мог яшчэ быць разам з намі. Мы вельмі перажывалі, што ён адышоў і ведаем ягоных скрытых забойцаў. І ўсё ж такі Боская воля лепшая, чым нашыя меркаваньні.

Дажываючы да 90, гэты вялікі чалавек вымушаны быў бы з году ў год адчуваць павелічэньне нянавісьці, брыдоты, ілжы вакол свайго сьветлага імя. Зьдзекваліся б зь яго старасьці так, як рабіў гэта адзін вусаты мярзотнік у час яго сьмерці, абплёўвалі б яго мінулае, яго творчасьць і славу. Гэта было б, бо такая прырода падлюг, што цяпер дасягнулі ўлады.

За сябе мне сказаць проста. За 25 гадоў у палітыцы, вакол майго арганізма ўжо даўно стварылася стальная браня. І няма на сьвеце такой ілжы з боку нізкіх, якая б мяне раніла ці выбіла б з раўнавагі. Не здарма яны захлёбваюцца – гэта ад бяссільля.

Не сумняваюся, што ўсё перамог бы і Быкаў, але... прапусьціўшы праз сэрца. Бо такая прырода сьветлых людзей.

Сьмерць Быкава выклікае адчуваньне трагедыі і горычы ня толькі таму, што ворагі прысьпешылі яго паміраньне і ён мог яшчэ жыць, але найперш таму, што сьветлы Быкаў пайшоў, а акупанцкая чэрнь засталася, віруе, кіруе, і ён ня ўбачыў яе канца.

Ён убачыць яе зь нябёс. Тут вельмі розныя сутнасьці. Нечысьці ў індывідуальным выяўленьні абавязкова прыходзіць натуральны канец. Нечысьць нічога не пакідае для будучыні.

Тым часам імя і творчасьць Быкава належаць вечнасьці, бо адлюстравалі яе ў вобразах, думках і хараcтве. Творчасьць Быкава – гэта сусьветны ўзровень, пазнаньне для ўсяго чалавецтва.

Гэта будзе ўсьвядомлена моцна, калі моцнай будзе Беларусь, тая сьветлая, культурная і магутная народная Беларусь, за якую змагаўся Народны Фронт.

***19. 06. 2013*** **Зянон Пазьняк**

# УНУТРАНЫ СЬВЕТ

Калі зыходзіць з палажэньня, што чалавек як разумная істота і дух Сусьвету быў адразу створаны Богам, ці (альбо) у выніку зпраграмаванага разьвіцьця матэрыі, то прыходзім да высновы, што, побач з мовай, найвялікшай якасьцю чалавека як фэнамэна ёсьць ягоная думка (здольнасьць думаць словамі) і ягоны ўнутраны сьвет – здольнасьць адчуваць Сусьвет як рэальнасьць і ўяўленьне.

Па велічыні ўнутранага сьвету мераецца маштаб і велічыня асобы. Па характару яго рэалізацыі вызначаецца якасьць чалавека.

Унутраны сьвет такім чынам ёсьць катэгорыя разьвіцьця, якая вызначае індывідуальнасьць асобы. Ускосна, па гістарычных зьвестках, можа скласьціся ўяўленьне, што старажытны сьвет быў менш індывідуальна разнастайны і маштаб чалавечага духа быў іншым, бо ўнутраны сьвет як якасьць, характарыстыка, адметнасьць і ўзровень асобы не вылучаўся тады ў ацэнку чалавека. Гэтай катэгорыі як бы не існавала. Мераліся толькі асабістыя якасьці характару, якія ўплывалі на дачыненьні: дабрыня, злосьць, чэснасьць, хітрасьць, хцівасьць, сьмеласьць, баязьлівасьць і г. д.

Тым часам глыбіня ўнутранага сьвету асобы і яе пасіянарнае выяўленьне былі, відаць, такія ж, як і цяпер, магчыма хіба больш выразна акрэсьленыя. Пра гэта выдатна сьведчаць егіпецкія пасьмертныя (“фаюмскія”) партрэты людзей, напісаныя дзьве тысячы гадоў таму.

Якраз у гэты час адбылася падзея, якая зьмяніла асобу чалавека і сьвет. Прышэсьце Хрыста ў гэтым сэнсе адметнае тым, што ўнутраны (а ня зьнешні) сьвет чалавека становіцца галоўнай (і трансцэндэнтнай) якаснай характарыстыкай асобы. Унутраны сьвет (а не зьнешнія паводзіны) зьяўляюцца сутнасьцю чалавека, і нічога няма таемнага, каб ня стала відочным. Разьвіцьцё асобы пераносіцца ўнутр чалавека, ва ўнутраны сьвет, які аб’яўляецца вечнай сутнасьцю асобы, сутнасьцю, што праяўляецца праз зьнешнія жыцьцёвыя ўчынкі, дзеяньні і дачыненьні і адначасна ствараецца, гартуецца праз жыцьцёвы шлях. Ідэалам асобы становіцца гармонія ўнутранага і зьнешняга сьвету чалавека, дзе прыярытэтам валодае ўнутраная яго частка.

Гэты ідэал асобы хрысьціянскай цывілізацыі існуе па сёньняшні дзень ужо незалежна ад веры ў Бога. Ён сфармаваны культурай, якая ўзьнікла на грунце хрысьціянства.

Але галоўнае якраз у тым, што пераасэнсаваньне чалавека як унутранай сутнасьці, якая ёсьць вечная, адбылося на аснове Веры, і гэтае ўсьведамленьне сваёй вечнасьці зрабіла яго свабодным. Бо можна забіць такога чалавека, але немагчыма зьнішчыць яго ўнутраны сьвет, пагрунтаваны ў Богу, калі толькі сам чалавек ня зробіць выбару. Нават калі гэта выбар паміж жыцьцём і сьмерцю. (Нагадаю, што свабода – гэта ёсьць магчымасьць выбару паміж дабром і злом.)

Тым часам ідэал сьвецкага чалавека, адметнага сваім унутраным сьветам (які кіруе паводзінамі асобы, але які базуецца толькі на культурнай традыцыі), такі ідэал ня ёсьць моцным і вытрывалым перад жыцьцёвымі абставінамі, бо тут страчаны якраз вечны сэнс, сэнс веры, згублены зьмест выбару. Пры вострым і некарысным зьбегу абставінаў можа адбыцца крушэньне ідэалаў унутранага сьвету такой асобы, што, дарэчы, даволі шырока адлюстравала эўрапейская сьвецкая літаратура (не адказваючы, вядома, на пытаньне аб прычынах крушэньня, бо яны, як правіла, былі незразумелыя аўтару твора).

Хрысьціянская цывілізацыя – гэта перш за ўсё асоба (новая асоба, якая ўзьнікла на руінах Рыму). Грунт цывілізацыі – хрысьціянская вера. Асоба бяз веры ня зможа доўга існаваць на хрысьціянскім культурным узроўні (рэпрадукавацца) толькі ў

традыцыі і па культурнай інэрцыі. Стан яе нестабільны. Тым больш, што ідзе пастаянная сьвецкая барацьба з хрысьціянствам (якая цягнецца яшчэ з часоў Рыму) і адраджае ўсе заганы чалавецтва, якімі хварэла яно ў той час.

***30 чэрвеня 2013 г.*** Зянон Пазьняк

# АДРАДЖЭНЬНЕ

Адраджэньнем называецца ўнівэрсальны палітычны накірунак акупаванай (прыгнечанай) нацыі (народа) у змаганьні за свабоду і незалежнасьць. Вылучаецца як шырокі грамадзка-культурны і палітычны рух, які ставіць задачу адрадзіць усё разбуранае акупантамі (прыгнятальнікамі), найперш вярнуць афіцыйнае ўжываньне нацыянальнай мовы, аднавіць нацыянальны тэатр, мастацтва, літаратуру, эканамічную і палітычную дзейнасьць і на гэтым грунце сьцьвердзіць нацыянальную ідэю як аб’яднаўчы чыньнік народа (нацыі) на шляху да стварэньня незалежнай дзяржавы

Адраджэньнем называецца ідэалёгія Беларускай нацыянальнай ідэі, пагрунтаваная на гісторыі і культуры Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) як старажытнай беларускай дзяржавы, на грунце якой мусіць быць пабудаваная новая незалежная Беларусь з перайманьнем ВКЛ. Ідэалёгіяй Адраджэньня кіраваліся Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) і Беларускі Народны Фронт (БНФ).

Адраджэньне – гэта мірны мэтад палітыкі, які прадугледжвае здабыцьцё свабоды шляхам кансалідацыі, ціску, пратэстаў і дамоўленасьці. Пры немагчымасьці дасягненьня мэты шляхам дамоўленасьці і пры збройных рэпрэсіях імпэрскага (акупацыйнага) боку рух Адраджэньне мог перарастаць ва ўзброеную барацьбу так, як здарылася тое, напрыклад, у 1917-20 гадах у Расейскай імпэрыі пры ўладзе бальшавікоў. Збройна мусілі змагацца ўвесь Каўказ, Эстонія, Беларусь, Украіна, Польшча. І толькі Фінляндыя вызвалілася шляхам дамовы (але мусіла ваяваць за незалежнасьць пазьней -- у 1939).

«Адраджэньнем» называўся Беларускі Народны Фронт, які ў 1991 годзе прывёў Беларусь да здабыцьця Незалежнасьці. Адраджэньнем можа называцца таксама чыста культурніцкі рух, які ўзьнікае ў залежнасьці ад абставінаў.

Імпэрскай захопніцкай альтэрнатывай нацыянальна-вызвольнай палітыцы Адраджэньня зьяўляецца палітыка “статус-кво”.

*Ліпень 2013 г.* Зянон Пазьняк

# БОГ

З усяго, што ёсьць у жыцьці найвялікшым дабром, ёсьць усьведамленьне таго, што існуе Бог – найвышэйшая, вечная, трансцэндэнтная стваральная сіла Сусьвету і ўсяго існага, якая аднавачасова была, ёсьць і будзе. Ужо само гэтае ўсьведамленьне па веры дае сэнс існаваньня тым, хто яго шукае і хто над ім задумваецца.

Разуменьне, што ёсьць Бог, робіць чалавека ўнутрана свабодным (бо ёсьць спадзяваньне на вышэйшую справядлівасьць) і маральна адказным за свае ўчынкі (бо ёсьць вера ў ацэнку жыцьця пасьля сьмерці).

Чалавек, які жыве бяз Бога, толькі рацыё і толькі зьнешнім матэрыяльным сьветам, будуе свае паводзіны, улічваючы законы, грамадзтва, традыцыі і культуру. Яму, аднак, лягчэй ігнараваць гэтыя чыньнікі, калі ёсьць магчымасьць і жаданьне пазьбегнуць адказнасьці, бо ўсьведамленьне адказнасьці перад Богам у такога чалавека адсутнічае. Але, калі можна парушыць сьвецкі (дзяржаўны) закон і пазьбегнуць пакараньня, то адказнасьці перад Богам пазьбегнуць немагчыма.

Адчуваньне вышэйшай стваральнай сілы і прыняцьце існаваньня Бога зьяўляецца адначасна маральным рэгулятарам у разьвіцьці асобы.

Адносіны да Бога і дачыненьні з Богам рэгулююцца рэлігійнай арганізацыяй (Касьцёлам, Царквой і г. д.), але кожны чалавек мае свой рахунак дачыненьняў з Тварцом усяго існага і будучы вольным, робіць сьведамы ці нясьведамы выбар.

Хрысьціянства пабудавана на дасканалай свабодзе выбару. Чалавек, які прымае Бога толькі ў традыцыі, але калі ён  прыглядаецца, думае, аналізуе, слухае сваё сэрца, імкнецца пазнаць сэнс існаваньня, такі чалавек можа адкрыць прысутнасьць Бога ў сваёй душы і глыбей усьвядоміць, што сапраўды існуе Бог, і гэты Бог – Ісус Хрыстос, і ўсё, што зьвязана зь ім, -- праўда.

Тут выбар свабоднай волі, якой Бог адчыніў дзьверы, калі ў іх стукаліся.

Але калі б існаваў рацыянальны, факталагічны доказ існаваньня Бога, калі б, скажам, Яго ўсе разам маглі хоць раз у жыцьці бачыць, і ўсе б бачылі і ведалі: вось гэта ёсьць Бог, -- то выбару ўжо няма. І веры няма. Ёсьць парадак, які, хочаш–ня хочаш, трэба ўспрымаць як рэальнасьць.

Такое становішча (калі вера замянялася б ведай) рэзка абмяжоўвала б духоўнае разьвіцьцё чалавека і прымітызавала б якасны падзел людзей.

Гістарызм існаваньня Ісуса Хрыста на Зямлі даказаны лепш, чым існаваньне самых рымскіх гісторыкаў, якія пра гэта пісалі, і імпэратараў разам узятых. Але доказнасьць Яго Боскай прыроды аспрэчваецца і, мяркую, ніколі ня будзе даказана бясспрэчна, як навуковы факт, бо ў гэтым няма патрэбы. Зьявы духоўнага кшталту ня могуць быць дакладна дасьледаваны ніякай навуковай мэтодыкай, бо яна абаперта на законах існаваньня фізічнага сьвету. Духоўны сьвет пазнаецца праз веру, дзеля ўмацаваньня якой існуюць яго прыкметы, знакі, зьявы і сымвалы быцьця.

Таму рацыянальная доказнасьць існаваньня Бога заўсёды адносная і можа паслужыць пункцірам Веры, але не яе аргумэнтам. Сцьвярджэньне “Веру, што ёсьць Бог” не патрабуе аргумэнтаў. Яно магутнае само па сабе, бо зьвязана з сэнсам існаваньня.

***2 ліпеня 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# ЛЮСТРАЦЫІ

Назіраньні за тым як ў так званых ДЭМ-СМІ часам абмяркоўваецца пытаньне люстрацыяў наводзіць мяне на думку, што зьмест паняцьця сьвядома скажаецца нейкімі актыўнымі ініцыятарамі, бо гаворка, як правіла, йдзе не пра люстрацыі, а пра сьледзтва ў пошуку палітычных злачынцаў ды іншадумцаў з мэтай расправы. Паколькі такая тэндэнцыя падмены паняцьця назіраецца ў беларускім кантэксьце паўсюдна, то зразумела, што мы маем справу з сьведамай прафанацыяй тых, хто не зацікаўлены ў будучай люстрацыі цяперашняга рэжыму з боку народа і народнай улады. Прыдумваюць страшылку з рагамі, якой імкнуцца напалохаць усё грамадства.

Тэрмін "люстрацыя" ў розных краінах і ў розны гістарычны час меў розны зьмест: ад магічнага сэнсу (адлюстраваньне нябачнага "таго сьвету" праз магічнае дзеяньне зь люстэркам) да сацыяльнага, юрыдычнага і палітычнага азначэньня.

У сучасным разуменьні пад люстрацыяй падразумеваецца ***выяўленьне ня выяўленай (схаванай) антынароднай альбо антыуладнай дзейнасьці і прыняцьце абмежавальных захадаў да асобы з палітычнымі мэтамі.***

Практычна, кожны антыдэмакратычны таталітарны і аўтакратычны рэжым (асабліва ідэалягічнага, акупацыйнага, мафійнага кшталту) праводзіць таемную ці адкрытую люстрацыю сваіх грамадзянаў, прымаючы адпаведныя абмежавальныя законы ў межах усёй дзяржавы ці на пэўных тэрыторыях. Напрыклад, у перадваенным СССР люстравалася сацыяльнае паходжаньне людзей. Асобы не рабоча-сялянскага паходжаньня былі абмежаваныя ў працы і кар'ерным росьце ў сфэры дзяржаўнай службы; дзеці асобаў, сасланых у ГУЛАГ ці расстраляных як "ворагі народа", ня мелі права вучыцца ва ўнівэрсітэтах. Людзі, якія верылі ў Бога і хадзілі ў касьцёл, царкву, малельны дом ("адпраўлялі культы"), ня мелі права працаваць у так званых "ідэалягічных інстытутах" (гісторыі, філясофіі, сацыялёгіі і г. д.).

У гітлераўскай Нямеччыне жорстка былі люстраваныя цыганы і габрэі (забарона на прафэсіі, гета, галакост). У санацыйнай перадваеннай Польшчы люстрацыям былі падвержаны беларусы па асобных прафэсіях. Напрыклад, беларус, які заканчваў духоўную сэмінарыю, ня мог атрымаць парафію ў Беларусі (толькі ў Польшчы). Іншыя прафэсіі для беларусаў тады лімітаваліся на тэрыторыі Беларусі. Люстрацыя вынікала з польскай акупацыйнай палітыкі асіміляцыі.

У цяперашняй падрэжымнай Рэспублiцы Беларусь, дзе праводзіцца акупацыйная антыбеларуская палітыка ў расейскіх інтарэсах, жорстка люструюцца асобы, якія знаходзяцца ў апазыцыйных партыях і асабліва тыя, якія былі прыцягнуты да судовай адказнасьці за выказваньні (дэманстрацыі, сьведчаньні, перакананьні) супраць рэжыму. Такія людзі ня могуць уладкавацца на працу, працоўныя кантракты зь імі скасоўваюць, студэнтаў выключаюць з унівэрсітэтаў, прадпрыймальніцкую дзейнасьць разбураюць і г. д. Трэба асабліва падкрэсьліць, што ў антыдэмакратычных краінах ёсьць прынятыя антыдэмакратычныя законы, якія абгрунтоўваюць люстрацыю грамадзянаў. Але часта люстрацыі адбываюцца тут незаконна альбо са спасылкай на юрыдычныя палажэньні вельмі агульнага кшталту, якія суды трактуюць па-свойму.

Пры зьмене ўлады і краху антыдэмакратычнага (антынароднага) рэжыму натуральна і абавязкова ўзьнікае пытаньне аб люстрацыях тых людзей, якія працавалі ў рэпрэсіўных ворганах рэжыму, таемна супрацоўнічалі зь імі, выконвалі антынародныя законы і загады рэжыму і займаліся перасьледам і рэпрэсіямі насельніцтва.

Менавіта пра гэты кшталт люстрацыяў чуваць шмат дыскусіяў, супярэчлівых выказваньняў і проста гістэрыкі, што гэта, маўляў, "немагчыма", што "складана", што "расколе грамадства" і т. п. (нават "паляваньне на ведзьмаў" успамінаюць). Па сутнасьці справы – усё гэта несур'ёзна. Дыскусіі і гістэрыка ў гэты час – вынік панікі і страху асобаў, якія сваёй дзейнасьцю таемна і яўна зьвязаныя з палітыкай рэжыму і ня ведаюць, як іхняя дзейнасьць будзе ацэнена, а некаторыя, адчуваючы віну, баяцца адказнасьці.

Практыка паказвае, што калі антынародныя рэжымы праводзяць люстрацыю грамадзянаў, то шкода для народу відавочная. А вось калі народ у абліччы сваёй народнай улады праводзіць люстрацыю таемнага апарату рэпрэсіўнага антынароднага рэжыму, то шкоды ні для насельніцтва, ні для грамадзтва нідзе не адзначана. Наадварот, люстрацыі спрыялі аздараўленьню грамадзтва.

Тут вельмі важна будзе вызначыць установы, арганізацыі і асабовую дзейнасьць, якія мусяць праходзіць люстрацыі. Татальная люстрацыя тут ня мае сэнсу, алеворганы рэпрэсій і перасьледу і ворганы палітыкі рэпрэсій і перасьледу мусяць прайсьці люстрацыю.

Падыход таксама можа быць розным: ад строгага да мяккага. Скажам, лібэральны мяккі падыход – гэта калі, напрыклад, асоба сама сьведчыць публічна пра сваю прыналежнасьць да той ці іншай рэпрэсіўнай структуры рэжыму. Тады асоба не нясе адказнасьці і пасьля праверкі можа займаць пасады ў вызначаных дзяржаўных установах (абмежаваньні адзначаюцца). Асоба, якая схавала сваю дзейнасьць, займаць пасады ў дзяржаўных інстытуцыях (і тым больш у ворганах улады) ня будзе. Прытым Камісія па люстрацыях можа не публікаваць сьпіс такіх людзей, альбо (як у Польшчы, напрыклад) ён будзе апублікаваны. Усё залежыць ад падыходу.

Зь люстрацыямі ня трэба блытаць прыцягненьні да адказнасьці функцыянераў рэжыму за крымінальныя злачынствы перад народам. У Беларусі за часы антынацыянальнай улады бясследна зьніклі людзі, было ўзарвана Менскае мэтро і пасьпешна пакараныя сьмерцю вызначаныя спраўцы злачынства, віна якіх да канца не рассьледвана; зафіксавана шмат неправамоцных судовых прысудаў і эканамічна-фінансавых злачынстваў, дзеяньняў на шкоду нацыі і дзяржаве, якія патрабуюць рассьледваньня і высьвятленьня ў іх ролі кіраўнікоў уладнага рэжыму. Вось гэтая праца па высьвятленьні праўды, справядлівасьці і вызначэньня пакараньня павінна папярэднічаць закону аб люстрацыях. Бо адчыніцца шмат што, і люстрацыі запатрабуе ўсё грамадзтва.

*12 ліпеня 2013 г.* Зянон Пазьняк

# “НЕПРАДРАШЭНСТВА”

У тэхналягічным аспэкце «непрадрашэнства» – гэта ёсьць мабілізацыя розных пратэстных сілаў толькі на бліжняй мэце (ад рускага тэрміна «не предрешать»). У палітычным аспэкце непрадрашэнства -- гэта тактычная імпэрская ідэалёгія, распрацаваная расейскімі дэмакратамі-шавіністамі яшчэ ў пэрыяд паміж 1-й і 2-й Сусьветнымі войнамі. Рускія эмігранты імкнуліся аб'яднаць усіх уцекачоў з СССР на барацьбу з бальшавізмам, не вызначаючы (не предрешая), што будзе пасьля перамогі. У той жа час погляды антыбальшавікоў-расейцаў і антыбальшавікоў украінцаў, беларусаў, грузінаў, армянаў, эстонцаў і г.д. на тое, што будзе з пасьлябальшавіцкім СССР, істотна розьніліся. “Не предрешая”, рускія “дэмакраты-эмігранты” хацелі загрэбсьці жар чужымі рукамі. Разам расправіцца з бальшавізмам, а потым ужо ў сваёй “единой и неделимой” разьбірацца з народамі. Уладзіўшы свае інтарэсы за кошт іншых, пра іншых можна было забыцца (бо “не предрешали”) і вярнуцца ў статус-кво. А статус-кво – гэта імпэрыя.

Гэтакую расейска-лубянскую тактыку добра разумелі ў Беларусі нацыянальныя палітыкі і ў прыватнасьці Беларускі Народны Фронт. За часы змаганьня з камунізмам расейска-лубянская агентура пранікала ў Фронт і імкнулася пераканаць усіх сесьці на непрадрашэнскага каня. Маўляў, найперш неабходна зваліць КПСС, а потым будзем гаварыць пра суверэнітэт, бо трэба, маўляў, усім аб'яднацца супраць таталітарызму і ня трэба “выпячивать сейчас белорусский язык”, “ради единства всех сил” і г.д.

Тады непрадрашэнства было адкінута франтаўцамі як шкодная ідэалёгія.

Дэмагогію непрадрашэнства шырока выкарыстоўвае агентура ў асяроддзі так званай "дэмапазыцыі". Яе трымаюць на ўзбраеньні, фактычна, ўсе квазібеларускія (а на справе антыбеларускія) "дэмсілы", канфармісты і асобы, якім не да спадобы адраджэньне жывой Беларусі.

Характэрныя выказваньні цяперашніх непрадрашэнцаў:

--" Мы за белорусский язык, но не надо выпячивать, сначала необходимо возродить экономику."

--“Мы злучыліся ўсе ў “пяцёрку плюс” (з камуністамі і агэпоўцамі, - З.П. ), каб разам сьκінуць Лукашэнку. Пераможам, а тады ўжо будзем разьбірацца колькі каму якой дэмакратыі трэба”.-- (В. Вячорка. 2006 г. Выступ ў Нью-Ёрку).

--“Спачатку трэба зрабіць дэмакратычную краіну, а потым ужо – добра заняцца беларускай матчынай мовай”, - (генэрал В. Фралоў. Радыё “Свабода”, - 9.09.2005).

--Няма розьніцы, якая мова, якая культура, галоўнае – дэмакратыя. Пакуль мы ня пусьцім дэмакратыю наперадзе мовы, мы зноў загінем”, - (С. Алексіевіч. Радыё “Свабода”, — 24.08.2005).

Падкрэсьліваю: супраць чаго б беларускага ні выступалі расейскія шавіністы, расейскія дэмакраты, агентура, лукашысты, што б яны ні абкідвалі балотам, галоўнай нянавісьцю, галоўным аб'ектам нападак для іх заўсёды была і ёсьць беларуская мова. Яны, нават самыя цёмныя, разумеюць і адчуваюць, што тут, у вялікай Беларускай мове, ёсьць корань культуры, магутнасьці і незьнішчальнасьці Беларускай нацыі. Адна з задач іхняга русіфікатарства і прапаганды нацыянальнага атупеньня заключаецца якраз у тым, каб беларусы, прапушчаныя праз русіфікатарскую школу, не разумелі гэтага.

Логіка і практыка паказваюць, што "не прадрашаючы" можна толькі зьмяніць адну акупацыйную ўладу на другую акупацыйную ўладу, як правіла, на яшчэ горшую.

*Ліпень 2013 г.* Зянон Пазьняк

# “СТАТУС-КВО”

“Статус-кво” – гэта ідэалёгія і палітыка імпэрскіх шавіністычных сіл, накіраваная на тое, каб лічыць разбураны імі сацыяльны (нацыянальны) аб’ект (сістэму аб’ектаў) новай базавай рэальнасьцю (статус-кво), пунктам адліку для выніковых высноў.

Палітыка “статус-кво” накіравана на замацаваньне вынікаў імпэрыялістычнага разбурэньня дзеля далейшай зьмены і ліквідацыі першапачатковай сутнасьці.

“Статус-кво” – гэта русіфікатарская мадыфікацыя прынцыпаў польскай “тлустай рысы” (“грубэй крэскі”) і заходняй “рэальполітык”. “Дэмакраты” ад “статус-кво” прапануюць зыходзіць з рэчаіснасьці, якая ўтварылася і існуе на сёньняшні дзень у Беларусі ў выніку двух стагоддзяў няволі і расейскай акупацыйнай палітыкі. Гэта значыць, прыняць за аснову, прыняць як зыходную пазыцыю ў нацыянальнай палітыцы вынікі разбурэньня, тое, што за XX-е стагоддзе акупанты з усходу і захаду (расейцы і немцы) зьнішчылі шэсьць мільёнаў беларусаў, тое, што расейцы расстралялі сотні беларускіх пісьменьнікаў (бо пісалі па-беларуску), спалілі беларускія кнігі, зачынілі беларускія школы, выгналі беларускую мову з унівэрсітэтаў, расстралялі і згнаілі ў турмах беларускую інтэлігенцыю, адміністрацыю, ліквідавалі эліту нацыі, разбурылі беларускую культуру і сьвятыні, помнікі і магілы, сфальсіфікавалі нацыянальную гісторыю і так напаілі безабаронны народ русіфікатарскім атрутным імпэрскім пойлам, што й “патомак яшчэ п'яны”; разбурылі храмы і замкі, і цэлыя гістарычныя гарады – і тое ўсё, значыцца, згодна «статус-кво» -- не ў рахубу. Будзем, маўляў, зыходзіць з рэчаіснасьці, якая існуе (якую стварылі акупанты і нішчыцелі Беларусі, будзем зыходзіць з руін). Будзем, маўляў, “дэмакратычнымі”.

Палітыка “статус-кво” рэгулярна выкарыстоўваецца рускім імпэрыялізмам пры злачыннай зьмене дэмаграфічнага альбо моўнага становішча народаў, служыць для замацаваньня русіфікацыі, акупацыі і этнацыду ў паняволеных краінах.

Савецкі камунізм, які зьнішчыў беларускую школу, забіў лепшых, прадстаўнікоў інтэлігенцыі, выгнаў беларускую мову з афіцыйнага ўжытку, прапаноўваў лічыць вынікі нацыянальнага разбурэньня аб’ектыўнай рэальнасьцю, асновай дзеля плянаваньня далейшай савецкай культурна-нацыянальнай палітыкі.

Акупацыйную палітыку статус-кво выкарыстоўвае таксама антыбеларускі рэжым Лукашэнкі і некаторыя палітыкі яго “дэмапазыцыі”. Яны надзяваюць маску прагматыкаў, зьвяртаюцца да “здаровага сэнсу” і апэлююць да нацыянальнай цемры людзей, якую акупанты насаджалі 200 гадоў.

“Дэмакратыя” на базе “статус-кво” ў акупанцкай інтэрпрэтацыі -- гэта адмаўленьне ад свабоды, ад справядлівасьці, ад змаганьня, ад нацыянальнага разьвіцьця, гэта легітымізацыя народнай сьмерці, замацаваньне гвалту і разбурэньня.

Альтэрнатывай імпэрскай палітыцы “статус-кво” ёсьць нацыянальна-вызвольная ідэалёгія – Адраджэньне.

***Ліпень 2013 г.*** ***Зянон Пазьняк***

# УНУТРАНАЯ АКУПАЦЫЯ

Унутраная акупацыя – гэта захоп улады ў краіне знутры пры дапамозе агентуры іншай дзяржавы, з выкарыстаньнем мэтадаў дэмакратыі альбо дыктатуры, ваенных ці пятай калёны, шляхам дэмакратычных выбараў альбо дзяржаўнага ці ваеннага перавароту.

Унутраныя акупацыя заўсёды мае працяг – гэта частка гібрыднай вайны.

Пры ўнутранай акупацыі выкарыстоўваюцца мясцовыя калабаранцкія (кампрадорскія) ўлады ў грамадзтве, устанаўліваецца аўтарытарны, карпаратыўны альбо дыктатарскі рэжым і праводзіцца антынацыянальная акупацыйная палітыка, накіраваная, як правіла, супраць свабоды чалавека, яго мовы, культуры і праяўленьня ўсіх галінаў нацыянальнага жыцьця, якія кансалідуюць народ.

Нецярпімасьць да нацыянальных і культурных інтарэсаў карэннага насельніцтва гэта ёсьць першасная характэрнасьць акупацыйнай палітыкі. У гэтым сэнсе акупацыйны рэжым не прытрымліваецца ніякіх законаў. І апэляцыі, і пратэсты – бессэнсоўныя. Ён нічога ня чуе і шукае толькі поваду для новых рэпрэсіяў.

Мэтад унутранай акупацыі дзеля ўстанаўленьня васальнага рэжыму ўлады выкарыстоўваецца імпэрскімі дзяржавамі і зьяўляецца праявай схаванай агрэсіі, паступовага падпарадкаваньня і захопу іншай краіны. Такая палітыка характэрная для Расеі, Кітая, Вялікабрытаніі і іншых старых і цяперашніх імпэрыяў.

Аўтарытарны дыктатарскі рэжым Лукашэнкі ў Беларусі – тыповы прыклад антынацыянальнай палітыкі ўнутранай акупацыі, інсьпіраваны і падтрыманы з Расеі.

***5 ліпеня 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# ВОЙСКА

Важнай адзнакай і гарантыяй суверэнітэту ёсьць войска. Краіна, якая мае магчымасьці стварыць вялікае, моцнае войска, мусіць абавязкова яго стварыць і пастаянна паляпшаць, удасканальваць і ўзмацняць. Грамадзтва і ўлада, якія не разумеюць выключнай ролі войска і не разьвіваюць яго з прычыны адсталасьці палітычнага думаньня, ці з-за памылковых меркаваньняў аб эканоміі дзяржаўных сродкаў, якія імкнуцца разьмеркаваць на іншыя больш прагматычныя мэты, у канцовым выпадку наражваюць сваю дзяржаву на палітычныя цяжкасьці і праблемы, якія ставяць пад пагрозу сувэрэнітэт, самастойнасьць у палітыцы і эканоміцы, ускладняюць магчымасьці вольнага разьвіцьця грамадзтва.

Бяз войска можа абыйсьціся якая-небудзь маленькая штучная краіна, што існуе па дамоўленасьці, але не краіна зь мільённым насельніцтвам, аб'ектыўна ўключаная ў геапалітычныя адносіны і суперніцтва палітычных, эканамічных, нацыянальных інтарэсаў. Моцнае войска ёсьць моцным гарантам суверэнітэту. Яно можа ніколі не выкарыстоўвацца, але **яно павінна быць моцным і пастаянна паляпшацца.**

Разумныя дзяржаўныя дзеячы і ўлада ведаюць і разумеюць, што пастаянная разбудова войска і ўдасканальваньне ўзбраеньня (свая ваенная прамысловасьць) ёсьць стымулам і чыньнікам навукова-тэхнічнага прагрэсу ў дзяржаве. **Нельга бязмозгла эканоміць на войску і ўзбраеньнях.** Вынікам неразуменьня такой сутнасьці спраў будзе ня толькі аслабленьне і пагроза суверэнітэту, але і навукова-тэхнічная адсталасьць краіны, залежнасьць ад чужых тэхналёгіяў.

Гэта вядома ня толькі вялікім краінам, але й невялікім, дзе ўрады рацыянальна думаюць пра незалежнасьць і будучыню дзяржавы (Ізраіль, Швайцарыя, Фінляндыя і інш.).

Цікава, што расейская агентура ў Беларусі пастаянна падкідвае «разбройныя» антывайсковыя думкі недалёкім людзям, маўляў, нашто «нам» войска, маўляў, на «нас» ніхто не зьбіраецца нападаць і г. д. Адначасна ідзе пастаянная дыскрэдытацыя і ахайваньне беларускага войска, якое пры антыбеларускім рэжыме зьменшана да мінімуму і сапраўды не ў найлепшым стане (але і не ў найгоршым, асабліва ў параўнаньні з суседзямі).

Моцная дзяржава з пэрспэктывай добрай будучыні павінна ў першую чаргу падтрымаць і забясьпечыць бездакорную сістэму разьвіцьця адукацыі, навукі, войска, медыцыны плюс гарантаваныя магчымасьці вольнай працы, прадпрыймальніцтва і творчасьці грамадзян.

***24 ліпеня 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# СТВАРЭНЬНЕ І ЗНАЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

***(Да 25-годдзя ўтварэньня)***

Беларускі Народны Фронт – гэта народны рух і палітычная арганізацыя адначасна, якая змагалася ў Беларусі з камунізмам за дэмакратыю і незалежнасьць краіны. Аргкамітэт Фронту быў утвораны 19 кастрычніка 1988 года. 23-24 чэрвеня 1989 года ў Вільні адбыўся Першы ўстаноўчы Зьезд БНФ. 25 жніўня 1991 года Народны Фронт дамогся рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і спыніў дзейнасьць КПСС-КПБ. Упершыню за 200 гадоў расейскай акупацыі Беларусь рэальна стала незалежнай дзяржавай. Камунізм як палітычная сістэма і ідэалёгія быў ліквідаваны. Але ўся структура дзяржаўнай улады засталася ў руках старой камуністычнай, і што істотна – прамаскоўскай каланіяльнай адміністрацыі. Гэта прадвызначыла далейшы ход падзей. Сілы былі несувымерныя, а грамадзкі ўздым пасьля фармальнай ліквідацыі КПСС пайшоў на спад.

Сітуацыя вымагае тлумачэньня для сучаснага малаінфармаванага чалавека, чаму ў 1991 годзе пасьля краху КПСС у Эстоніі, Латвіі і Летуве ўладу лёгка перанялі нацыянальныя сілы, а ў Беларусі і на Ўкраіне засталіся старыя каланіяльныя ўлады.

Адказ просты: таму што ў Прыбалтыйскіх савецкіх рэспубліках нацыянальныя сілы былі ва ўладзе пры камунізме, а ў Беларусі і на Ўкраіне – не.

У савецкай Беларусі нацыянальная адміністрацыя была вынішчана ў выніку рэпрэсіяў яшчэ ў 30-х гадах, усе беларускія школы ў гарадах зачыненыя, нацыянальная ідэя аб'яўлена буржуазнай і антысавецкай, а беларуская мова ў публічным ужываньні – праявай антысавецкага нацыяналізму.

У Беларусі не было нацыянал-камуністаў. На месца забітых прысылалі кадры з Расеі. Яны, плюс кіроўныя партызаны НКВД, якія вайной вынішчалі беларусаў, а пасьля вайны перанялі ўсю ўладу ў Беларусі, стварылі тут атмасфэру нянавісьці да ўсяго беларускага. Уся камуністычна-савецкая адміністрацыя ў БССР была антынацыянальнай.

Менавіта правячая камуністычная партыя БССР была першым і галоўным ворагам беларускай незалежнасьці, мовы і культуры. Менавіта зь мясцовай камуністычнай адміністрацыяй найперш змагаўся не на жыцьцё, а на сьмерць за незалежнасьць, дэмакратыю і суверэнітэт Беларусі Беларускі Народны Фронт.

Кіруючыя камуністычныя партыі Прыбалтыйскіх савецкіх рэспублік не выступалі супраць суверэнітэту сваіх краінаў, далі магчымасьць вольна дзейнічаць Народным Франтам і шмат у чым нават спрыялі іхняе дзейнасьці. Незалежнасьць там не зьяўлялася унутраннай грамадзкай праблемай, а толькі пытаньнем часу.

Для таго каб нацыя рэалізавалася цалкам як культурная і дзяржаўна-гістарычная агульнасьць людзей, патрэбны пэрыяд яе дзяржаўна-культурнага станаўленьня. Гэта ў сярэднім 20 гадоў – адно пакаленьне. Пэрыяд дзяржаўнага незалежнага станаўленьня мелі ўсе нацыі, якія стварыліся ў XIX-XX стагоддзях. 22 гады прыбалтыйскай нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці зрабілі гэтыя нацыі незьнішчальнымі. Сталінскія рэпрэсіі не падрэзалі іхняе нацыянальнае выжываньне, бо сьведамым быў ужо ня толькі нацыянальны авангард, але ўвесь народ, усё пакаленьне. Нацыянальнае прарастала натуральна нават у камуністычнай форме.

Беларусь ня мела пэрыяду незалежна-дзяржаўнага нацыянальнага станаўленьня. БНР была задушана ў зародку. Пад савецкай акупацыяй вырасла пакаленьне няпомнячых і няведаючых. І вось у такіх умовах нешматлікая

нацыянальная эліта – Беларускі Народны Фронт – распачала барацьбу з камунізмам за волю і незалежнасьць краіны.

(У ацэнках зазначу, чаму я лічу Лукашэнку самым вялікім палітычным злачынцам у Беларускай гісторыі. Ён сьведама скалечыў маладосьць нацыі, сьведама ня даў ёй нацыянальна-культурна рэалізавацца ў дзяржаве, вырасьці, стаць на ногі. Каб направіць калецтва, спатрэбіцца яшчэ мінімум адно пакаленьне ў вольнай нацыянальнай Беларусі, а ў рэчаіснасьці – два).

Стварэньне і дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту стала сапраўды ўнікальнай і адметнай старонкай у барацьбе за свабоду на ўсім абшары СССР.

Нагадаю становішча. У 1980-х гадах Савецкі Саюз зайшоў у фінансавы і эканамічны тупік. Крах быў непазьбежны. Ратуючыся, камуністы аб'явілі пра перабудову сістэмы, зьмякчылі цэнзуру і абвясьцілі галоснасьць, магчымасьць людзям удзельнічаць у выбарах. Грамадзтва прышло ў рух. У 1988 годзе ў Эстоніі ў асяроддзі нацыянальнай камуністычнай і творчай інтэлігенцыі ўзьнікла ідэя стварэньня Народнага Фронту – руху за дэмакратыю, свабоду і суверэнітэт.

Пасьля Эстоніі наступны Народны Фронт быў створаны ў Латвіі, потым у Летуве і, нарэшце, нечакана для Масквы і мясцовых камуністаў – у Беларусі.

Усе сілы каланіяльна-камуністычнай сістэмы ў Беларусі былі кінутыя на недапушчэньне зьяўленьня Народнага Фронту. Кіраўнікі КПБ урачыста паабяцалі ў Маскве, што ў Беларусі Народнага Фронту ня будзе. Выношваліся нават планы стварыць свой "народны фронт" зь ліку камуністаў, каб забегчы наперад і скампрамэтаваць ідэю.

Усё прышло ў рух пасьля адкрыцьця Курапатаў. Падзея перавярнула сьведамасьць грамадзтва, узьняла людзей да актыўнай пазыцыі. Беларускі народ засьведчыў, што ён духоўна жывы і яму не абыякавы лёс свайго мінулага і будучыні краіны.

Адкрыцьцё Курапатаў паўздзейнічала на становішча ва ўсім СССР. У Курапатах упершыню былі выяўлены рэальныя ўлікі генацыду беларускага народа, улікі, якія маглі стаць доказам у судзе над камунізмам. Камуністы ўспалашыліся, мабілізавалі свае сілы і… ўпершыню прайгралі. Нічога ім не дапамагло. Вымушаны былі прызнаць факт расстрэлаў нявінных людзей ворганамі НКВД. Гэта быў удар, ад якога КПСС ужо не паднялася, і першы цьвік у труну расейскага камунізму.

Пасьля адкрыцьця Курапатаў ідэя Народнага Фронту вісела ў паветры. Але арганізаваць яго фармальна было вельмі цяжка. Камуністы і агентура, як кажуць, сядзелі ў кожнага на карку. Небясьпеку ўяўлялі таксама розныя актыўныя балбатуны, якія пачалі зьбірацца ў розныя клубы, кшталту "Современник" і выступаць па-руску пра дэмакратыю ды эканоміку, абмяркоўваючы прачытанае ды пачутае, ды шкадуючы, што няма ў Беларусі яшчэ народнага фронта. Калі б такая дэмакратычна-касмапалітычная тусоўка выскачыла б, раптам, з заявай пра стварэньне народнага фронту, то ідэя была б спрафанаваная, а грамадзтва дэзарыентаванае.

Народны Фронт (як паказалі падзеі ў Прыбалтыцы) – гэта перш за ўсё нацыянальна-дэмакратычны рух за суверэнітэт і незалежнасьць краіны. Толькі на нацыянальнай ідэі можна было аб'яднаць нацыю на змаганьне за ідэалы свабоды і незалежнасьці. Любая прафанацыя (асабліва ў беларускіх умовах) магла б фатальна пашкодзіць справе.

Усё гэта змусіла прысьпешваць працу. Летам 1988 года ў Менску пад уплывам адкрыцьця Курапатаў была створана арганізацыйная група "Камітэт 58", якая пачала рыхтаваць дакуманты і канфэрэнцыю па стварэньні арганізацыі "Мартыралог Беларусі". Тут рыхтаваўся той траянскі конь, на якім можна было ўехаць у Беларускі Народны Фронт. У "Камітэце 58", аднак, пра гэта ня ведаў ніхто. Інакш ідэя магла б не ажыцьцявіцца.

У кастрычніку мы (арганізацыйная група «Камітэту-58) рэзка прысьпешылі скліканьне ўстаноўчай канфэрэнцыі Мартыралога, бо была засьцярога, каб камуністы не скарысталі маргінальных дэмакратаў і не справакавалі прафанацыі ідэі Фронту.

Камуністы былі супраць арганізацыі Мартыралога. Нас падтрымаў Саюз Кінематаграфістаў і дазволіў правесьці канфэрэнцыю ў Доме Кіно (будынак касьцёла сьвятых Сымона і Алены, так званы “Чырвоны Касьцёл”). На сход мы запрасілі прадстаўнікоў Менгарсавета, Пракуратуры БССР, Міністэрства Ўнутраных Справаў і іншыя ўлады. Усе яны прышлі, каб даць нам бой. І далі бой, але прайгралі, бо нас было больш. Людзі зьехаліся з усёй Беларусі і прагаласавалі за Мартыралог.

І тут камуністычныя ўлады трапілі ў фатальную пастку, што выклікала потым паніку ў шэрагах іхняга начальства. Пасьля таго, як мяне абралі на старшыню Мартыралога, я паставіў пытаньне аб стварэньні Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту і аб ператварэньні дэлегатаў канфэрэнцыі ў арганізацыйны сход па стварэньні БНФ. Заля ўзарвалася ад воплескаў і грому энтузіязма. Прытым кожны меў права галасаваць (у тым ліку і запрошаныя камуністычныя начальнікі). Трэба было бачыць іхнія фізіяноміі. Яны ў большасьці не галасавалі, альбо галасавалі супраць і такім чынам супраць волі ўдзельнічалі ў стварэньні БНФ. Начальства і агентуры было больш за сто асобаў. Але гэта менш 1/3 дэлегатаў, і камуністы не маглі ўжо сарваць стварэньне БНФ, а іхны ўдзел засьведчыў унікальны дэмакратызм сходу, калі ў стварэньні Фронту вымушана прынялі ўдзел фармальна нават яго ворагі камуністы (паўтаруся, хоць і самы таго не жадаючы).

Праз два тыдні, 30-га кастрычніка 1988 года, у час масавага сьвяткаваньня “Дзядоў”, камуністы вырашылі адпомсьціць Фронту за ганьбу і рагромнае паражэньне. Рыхтавалі крывавую лазьню кшталту Алма-Аты 1986 года з задумкай зваліць віну на Фронт і, абазваўшы ўсіх фронтаўцаў фашыстамі, расправіцца і разграміць народны рух. Тады ўпершыню ўлады выкарысталі сьлезацечны газ, зьбілі шмат людзей. Але мы разгадалі злавесную задумку камуністаў. Пра гэта намі было гучна аб’яўлена з просьбай не паддавацца на правакацыю. І ніхто не паддаўся. Творчая інтэлігенцыя пасьля гэтых падзей адвярнулася ад камуністаў. Правакацыя ганеба правалілася, а водгульле яе пракацілася па ўсім СССР і мела вырашальнае значэньне для далейшых падзей у Савецкім Саюзе.

30-га кастрычніка 1988 года Беларускі Народны Фронт засьведчыў для ўсёй савецкай імпэрыі, што грубую камуністычную сілу можна перамагчы розумам і вытрымкай. Гэтая маральна-палітычная перамога БНФ была вызначальнай. Фронт стаў пашырацца па ўсёй Беларусі хуткімі крокамі.

Калі б жа беларусы не зразумелі тады планаў правакатараў і ўвязаліся ў бойку (унутраным войскам, як потым высьветлілася, былі раздадзеныя баявыя патроны), то камуністы патапілі б Менск у крыві, і кроў палілася б па ўсёй савецкай імпэрыі.

26 лютага 1990 года Беларускі Народны Фронт зноў паказаў прыклад змаганьня ўсяму Савецкаму Саюзу. На плошчы Незалежнасьці (тады – Леніна) БНФ сабраў масавы мітынг, больш за сто тысячаў людзей. На мітынгу было прынята рашэньне ісьці да будынка тэлебачаньня, браць будынак і выступіць у адкрытым эфіры з крытыкай камуністаў і зваротам да народу падтрымліваць Народны Фронт. Усё так і было зроблена спакойна, без штурханьня і зьняваг. Тэлебачаньне і ахова проста капітулявалі перад народам. 15 хвілін мы казалі ў эфір тое, што лічылі патрэбным казаць.

Дзьве гадзіны пасьля нашага эфіру вісела на экране нерухомая застаўка. Потым яна адчынілася і на экране ўсе ўбачылі членаў бюро ЦК КПБ, сакратароў ЦК, міністраў і т.п. – усіх 11 асобаў, якія сядзелі з разгубленымі тварамі і мямлілі свой камуністычны “адлуп”.

У гэтым жа годзе 7-га лістапада Беларускі Народны Фронт арганізаваў і правёў першую ў СССР масавую антыкамуністычную дэманстрацыю. Трыццаць-сорак тысячаў дэманстрантаў ішлі па праспэкту і скандавалі “Далоў камунізм”, а на плошчы Леніна скінулі пад ногі помніка галоўнаму злачынцу атрыбуты ленінскага камунізма.

У камуністаў БССР пасьля гэтага была зацяжная гістэрыка, а ў маскоўскіх уладаў ціхі стаўбун. Камунізм трашчэў. Беларускі Народны Фронт быў на вастрыі змаганьня з камунізмам ва ўсім СССР.

У Прыбалтыцы ў гэты час адбываліся масавыя акцыі Народных Франтоў за сувэрэнітэт без канфліктаў і сутыкненьняў, а ў Беларусі – пік антыкамуністычнай барацьбы. Тут кожны з нас разумеў, што не ліквідаваўшы антыбеларускі прарасейскі камунізм, аб незалежнасьці Беларусі ня можа быць і гаворкі. Камунізм і правячыя тут камуністы былі галоўнымі ворагамі незалежнасьці Беларусі.

Беларускаму Народнаму Фронту ўдалося зрабіць у Беларусі амаль што немагчымае – ліквідаваць камунізм і дамагчыся незалежнасьці краіны. Таму я часта паўтараю, што **палітыка – гэта ёсьць мастацтва немагчымага.**

Тыя надзвычаныя хвалюючыя дні змаганьня, асабліва, калі ў жніўні 1991-га мы дасягнулі Незалежнасьці, нібы сёньня стаяць у маіх вачах. І спадзяюся, у памяці маіх сяброў, якія яшчэ засталіся жыць. Кожны з нас тады адчуў і перажыў хвіліны незвычайнага шчасьця, якое ні з чым нельга параўнаць. І напэўна шмат хто з нас сабе падумаў, што дзеля гэтага, дзеля шчасьця дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі варта было жыць на сьвеце, якім бы цяжкім не сталася тое жыцьцё.

Мінула 25 гадоў калі быў створаны Беларускі Народны Фронт і запаліўся агонь свабоды. Іскры гэтага агню гараць і сьвецяць па сёньняшні дзень. І настане новы дзень, і прыдзе такі вызначальны час, калі з іскры Адраджэньня зноў узгарыцца полымя Волі і зашугае да неба. Набліжайма гэты дзень.

Жыве Беларусь! Слава Айчыне!

*19 кастрычніка 2013 года.* Зянон Пазьняк

# ВЯРТАНЬНЕ МОВЫ І СВАБОДЫ

Мова ёсьць найвялікшае дасягненьне культуры. "На пачатку было слова." Мова – гэта чалавецтва. Нічога, што створана чалавецтвам, няма вышэй і важней за мову. Мова народа для кожнага народа мае такое ж значэньне, як фэнамэн мовы для ўсіх людзей.

Мова не належыць толькі таму пакаленьню, якое жыве. Яна дзеля мінулага і будучыні. Яна дзеля вечнасьці.

Мова ёсьць першасным і найвялікшым сродкам культуры. Нацыянальная родная мова ёсьць ключом для адкрыцьця генетычных магчымасьцяў асобы ў рэалізацыі яе інтэлектуальнага разьвіцьця. Гэта вядома было яшчэ ў XIX стагоддзі (рускі пэдагог К. Ушынскі) і пацьверджана сучаснай навукай, якая дасьледуе генэтыку і мазгі чалавека.

Найвялікшая небясьпека для народнай мовы – акупацыя і акупацыйная палітыка. Акупацыі бываюць розныя і маюць гістарычныя характарыстыкі.

Расейская акупацыя Вялікага Княства Літоўскага (Беларусі) – гэта была акупацыя на нацыянальную сьмерць, дзе галоўным накірункам маскоўскай палітыкі было вынішчэньне беларускай мовы. Ворагі лічылі, што вынішчэньне беларускай мовы адначасна з русіфікацыяй – гэта тое зьвяно, якое дазволіць ім разбурыць усю беларускую нацыянальную культуру і ліквідаваць народ, выкінуць яго з мапы Эўропы.

Разьлік расейцаў быў дакладным. Ёсьць некалькі складовых асноваў існаваньня нацыі, характэрных для ўсіх народаў і краін, – гэта мова, рэлігія, геаграфічнае палажэньне, гісторыя, этнічная супальнасьць, культура і г. д. Сярод названых асноваў у кожнай нацыі (у залежнасьці ад абставінаў) ёсьць прыярытэты, на якіх трымаюцца ўсе каштоўнасьці. Для габрэяў, напрыклад, гэта іхняя гісторыя і рэлігія, для ірландцаў каталіцызм, для большыні эўрпейцаў – нацыянальная мова.

Для Беларускай нацыі найважнейшым грунтам існаваньня і разьвіцьця зьўляецца беларуская мова плюс гісторыя. Ліквідацыя беларускай мовы для беларусаў абазначае нацыянальную сьмерць. Беларуская нацыя трымаецца на беларускай мове. Гэта цудоўна разумелі ўсе беларускія нацыянальныя дзеячы («Шануйце мову нашую, беларускую, каб ня ўмерлі» -- Ф. Багушэвіч) і дакладна асэнсавалі галоўныя ворагі і нішчыцелі беларускай нацыі – маскоўцы.

Задача нумар адзін усёй маскоўскай палітыкі на яе заходнім кірунку – ліквідацыя беларускай мовы і русіфікацыя. Без дасягненьня такой мэты Масква ніколі ня зможа перамагчы Беларусь. Расейскія палітыкі гэта ведаюць і дасягнулі ў Беларусі вялікіх разбуральных вынікаў, галоўным чынам, дзякуючы акупацыйнай палітыцы, выкарыстаньню палітычных стаўленьнікаў, эфектоўнай прапагандысцкай і ідэалагічнай апрацоўцы беларускіх эліт і усяго насельніцтва. Тое, што ў гэтым сьмяртэльным змаганьні ведаюць і разумеюць маскоўцы, ня бачыць і не разумее большыня беларускага грамадзтва. Адбылося глыбокае і змасаванае асьляпленьне праціўніка і спадзевы Масквы павялічыліся.

Усялякі зрух беларусаў у абароне беларускай мовы і беларускай адукацыі выклікае нэрвовую рэакцыю маскоўцаў, часам гістэрычную і на першы погляд неадэкватную. Сьведама ці ня сьведама яны трывожацца за лёс сваёй антыбеларускай палітыкі ў Беларусі і баяцца правалу палітычнай задачы нумар адзін. Істэрычныя паводзіны, неадэкватныя ўспышкі нянавісьці да беларускай мовы (якая ўжо ледзь дыхае) тлумачацца імпэрскай, антыбеларускай зададзенасьцю маскоўскай палітыкі і страхам за яе правал.

Дзеяньне маскоўскай палітыкі у Беларусі шляхам выкарыстаньня антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі нагадвае вайну акупацыйнай арміі, якая найперш страляе ідэалагічнымі патронамі ды палітычнымі кулямі, а потым ужо, не спатыкаючы супраціву, пачынае граміць дубінамі ды аглоблямі.

Сутнасьць такога становішча вобразна і адпаведна раскрыў адраджэнскі палітык Юры Адамавіч Беленькі, зьвяртаючыся да моладзі: ***«Моладзь, памятай: калі ты размаўляеш на расейскай, ты ў акупацыйнай арміі, якая страляе ў твой народ».***

Цікава, што гэты дакладны, палітычна выверанnetworkы лозунг зноў, як звычайна, па зацяганым маскоўскім шаблоне выклікаў чарговую штучную істэрыку агентуры і лукашыстаў. Гёбельс малее перад нэўрастэніяй «рэзідэнтаў» і «прапагандыстаў». Тут яны раскрываюцца вельмі выразна. Асноўны прыём – перакручваньне лёзунга і нападкі на свае ж выверты. Тыповы савецкі прапагандысцкі падыход і класічная гёбельсаўшчына. І так увесь час.

Што было разбурана і зьнішчана за 200 гадоў акупацыі і як нішчаць беларускую культуру і мову цяпер – вядома. Усё гэта будзе падлічана падрабязна і прад'яўлены рахунак нішчыцелям. Але ўжо цяпер трэба ставіць сабе пытаньне, якім чынам пасьля цёмнай навалы трэба будзе аднаўляць страчанае і як адрадзіць разбуранае?

У 2006 годзе на так званым "усебеларускім сходзе" начальнік антыбеларускага рэжыму выказаў у завуаляванай форме стратэгічную мэту маскоўскай акупацыйнай палітыкі ў Беларусі і ўскладзеную на яго разбуральную місію: **"Зрабіць так, каб нічога ўжо нельга было вярнуць назад".**

Гэта, між іншым, тэзіс расейскага НКВД, якім яны кіраваліся ў акупаванай Беларусі амаль усё ХХ-е стагоддзе. Цяпер паўтараюць тое самае.

* * *

Пасьля ліквідацыі рэжыму першае, што трэба будзе зрабіць беларусам – гэта адмяніць усе антыбеларускія і фальсіфікацыйныя, антызаконныя акты цёмнага рэжыму. Уводзіцца ў дзеяньне Канстытуцыя 1994 года. Аднаўляюцца дзяржаўны Сьцяг і Гэрб, зацьвярджаецца дзяржаўны гімн.

Канстытуцыя 1994 года стварае грунт для адраджэньня дзяржаўнай беларускай мовы і адукацыі. Доўгія гады цёмнага рэжыму і вынішчэньня мовы паказалі, аднак, што ня ўсё так дрэнна, бо беларускі народ прыхільны да сваёй дзяржавы, да Незалежнасьці і да сваёй мовы. Зыходзячы з гэтага, ёсьць магчымасьць праводзіць спакойную і лаяльную да цяжкага стану грамадства палітыку культурнага адраджэньня. Важна толькі, каб была беларуская дэмакратычная ўлада і, каб краінай кіравалі патрыёты Беларусі.

**Першае правіла.** Ня трэба ствараць ніякіх моўных абмежаваньняў для людзей у грамадстве, ня трэба вызначаць ніякіх тэрмінаў пераходу на мову. Усё адбудзецца паступовa пры культурніцкай і адукацыйнай падтрымцы беларускай дзяржавы і дзяржаўнай праграмы моўнага разьвіцьця. Тэрмін для авалоданьня дзяржаўнай мовай будзе вызначаны толькі для дзяржаўных служачых і чыноўнікаў.

Вопыт доўгіх гадоў антыбеларускага рэжыму паказаў, што галоўнае, каб не душылі, не плявалі ў твар, не зачынялі школы, не кідалі ОМОН на Беларускі ліцэй, каб далі магчымасьць вольна разьвівацца, вучыцца, гаварыць пра сваё і пра ўсё. А нармальная Беларуская дзяржава дасьць такую магчымасьць усім і падтрымае.

Трэба разумець, што расейская мова нам ня страшная, калі ня будзе палітыкі русіфікацыі. А яе пасьля цёмнага рэжыму ня будзе.

Трэба ўлічыць, што за гады цёмнага рэжыму цэлае пакаленьне людзей прайшло праз рускую школу, беларуская мова рэжымам нідзе не прызнавалася. Большая палова беларусаў, якія любяць сваю краіну і ведаюць, што іхняя мова беларуская, карыстаюцца і змушаны былі карыстацца толькі расейскай мовай. Беларускую мову антыбеларускі рэжым выціснуў амаль адусюль.

Як мусіла б выглядаць гэтае "першае правіла" на практыцы пры сапраўднай беларускай уладзе і ў дачыненьні з уладай?

Улада будзе карыстацца дзяржаўнай беларускай мовай і валодаць мовай міжнацыянальных зносінаў (гэта значыць рускай мовай згодна Канстытуцыі 1994 г.). Шмат хто з дзяржаўных чыноўнікаў беларускай мовай цяпер не валодае. Будуць

прапанаваныя бясплатныя курсы мовы. Веданьне (і ступень веданьня) дзяржаўнай мовы будзе ўведзена ў класнасьць чыноўнікаў і да зарплаты будзе дадавацца каэфіцыэнт. Прылежнасьць і навучаньне мусяць быць узнагароджаны.

Акрамя таго з гадамі будуць выходзіць зь беларускіх школаў і ўнівэрсітэтаў добра падрыхтаваныя, адукаваныя кадры, і чыноўнік, які не захацеў вучыцца, ня вытрымае ні конкурсу, ні канкурэнцыі. На працягу аднаго-двух пакаленьняў грамадзкая патрэба ў расейшчыне адпадзе сама сабой.

Грамадзянін Беларусі прыходзіць у дзяржаўную ўстанову, размаўляе і піша заявы (паданьні) і атрымлівае адказы на той мове, на якой яму зручна (гэта значыць на беларускай ці на рускай).

Тут не павінна ўзьнікаць ніякіх праблем для грамадзяніна. Трэба разумець становішча, якое будзе выпраўляцца паступова і натуральна, разам з ростам вольнага пакаленьня.

У сістэме адукацыі мусіць быць адноўлена беларуская лінейка адукацыі. Гэта значыць – беларуская школа, беларускі ўнівэрсітэт, плюс беларускія дашкольныя ўстановы. Тут ужо ёсьць вопыт 90-х і добрыя вынікі.

Будзе ўзвышана значэньне і роля настаўніка, істотна павялічана зарплата, выпраўлены савецкі і рэжымны (жаночы) перакос у фармаваньні школьных педагагічных кадраў. Спрыяльны падыход павінен быць ва ўсёй сістэме адукацыі, асабліва ў вышэйшай, якая (зразумела, па самой сытуацыі) павінна апярэдзіць школу і стаць беларускай па мове, па зьместу і па духу. Трэба ўсьведамляць, што імгненна тут нічога ня зробіцца. (У чэшскіх унівэрсытэтах яшчэ доўгі час пасьля аб’яўленьня незалежнасьці некаторыя лекцыі чыталіся па-нямецку.)

І ў нас, можа быць, што на пачатку некаторыя лекцыі, напэўна, будуць гучэць па-руску. Трэба ведаць, што гэта зусім не бяда, а пераходны пэрыяд.

Тут мусіць існаваць сістэма руху наперад. У пераходны пэрыяд (гэта значыць часова, на пэўны тэрмін) будзе грамадзкая дапамога, будуць створаныя грамадзкія фонды падтрымкі беларускай вышэйшай адукацыі, фондавыя даплаты педагогам за мову навучаньня. Наша вялікая мова заслугоўвае грунтоўнай кампэнсацыі за дзьвесьце гадоў нішчэньня, абплёўваньня, дыскрымінацыі, паніжэньня і забароны. Дэмагогія ворагаў чалавецтва аб «уціску» рускай мовы тут ня пройдзе. Беларусы натуральным чынам, законна і з поўным правам, ўсім грамадзтвам, карыстаючыся адначасна і рускай мовай, выправяць векавыя разбурэньні ворагаў нацыі і культуры, даўшы сваёй беларускай мове вольны шлях ў вольнае жыцьцё.

Самае галоўнае, на што я тут спадзяюся, што на старце (у атмасфэры дабразычлівасьці і даверу) кожны беларус, чыноўнік, пэдагог (беларускамоўны ці расейскамоўны) павінен адчуць сябе запатрабаваным для нацыі, для вялікай справы свабоды і нацыянальнага адраджэньня. Адным словам, мусіў бы стацца ўздым добрых справаў і сьветлага энтузіязму. А гэта вялікая стваральная сіла.

Велізарнае значэньне для адраджэньня дзяржаўнасьці беларускай мовы і для веданьня мовы ўсімі грамадзянамі Беларусі (у тым ліку і мігрантамі) ёсьць дзяржаўнае беларускае радыё і тэлебачаньне – тое, што ліквідаваў цёмны рэжым. Усё гэта будзе адноўлена адразу, гэтак жа, як і дзейнасьць забароненых і ліквідаваных беларускіх радыёстанцыяў і праграмаў.

Мяркую, што за сімвалічную аплату (а магчыма і бясплатна) будзе ажыцьцёўлена дзяржаўная мадэрнізаваная сістэма “Радыё ў кожны дом” (кшталту правадной сеткі але ў новых тэхналягічных лічбавых магчымасьцях), бо такая інфармацыйная прапанова зусім не састарэла і вельмі карысная для ўсьведамленьня і разьвіцьця перш за ўсё роднай мовы (пацьверджана практыкай).

Прыстойнае нацыянальнае тэлебачаньне і радыё, акрамя непасрэднага агучваньня мовы, павінны падняць яе прэстыж і значэньне для беларуса добрым ўзроўнем сваіх аўдыё і тэлепраграмаў.

З усіх грамадзкіх арганізацыяў моўнага ўплыву асобна стаіць пытаньне аб мове ў рэлігійных сьвятынях. Тут трэба разумець, што аддзяленьне царквы ад дзяржавы зусім не азначае аўтаномію царкоўнай арганізацыі і выхад яе з-пад закону, як некаторыя часам думаюць. **Аддзяленьне ад дзяржавы абазначае, што царква не трактуецца як дзяржаўны ворган,** не выкладаецца абавязковы Закон Божы ў школе (але можа быць як факультатыў), усе царкоўныя дакументы, выдадзеныя людзям (аб шлюбе, аб хрышчэньні і т. п.) не ацэньваюцца як афіцыйныя дакументы, ніякае дзеяньне царквы не ўплывае на юрыдычныя і грамадзянскія дачыненьні асобы. І ўсё на гэтым. **Царква падпарадкоўваецца ўсім законам, якія прынятыя ўладай.** Законапаслухмянасьць – гэта норма для ўсяго грамадзтва. Але калі ў царкоўных шапіках пачне прадавацца, напрыклад, чарнасоценная, руская фашыстоўская, антысеміцкая ці антыбеларуская літаратура, то гэта ўжо падходзіць пад парушэньне, якое адлюстравана ў праве і караецца паводле адпаведнага праўнага кодэксу.

Беларуская вольная дзяржава магла б, на маю думку, заключыць канкардат з усімі цэрквамі, дзе было б (сярод іншых) адзначана пытаньне аб дзяржаўнай мове ў сьвятынях і храмах, бо дзяржаве цяжка быць прыхільнай царкве, якая ігнаруе (і нават не шануе) беларускую дзяржаўную мову.

Павінен адзначыць, згодна нават практычных назіраньняў, што тыя пытаньні і тэмы, ад якіх ворагаў беларушчыны кідае ў немарасьць, істэрыку і шалёную злосьць, павінны стаць для нас прыярытэтам, першачарговай задачай аднаўленьня. А гэта Беларуская мова, Беларускі Сьцяг і гэрб Пагоня. З гэтых каштоўнасьцяў цёмны рэжым пачаў зьнішчэньне ўсяго беларускага. З гэтых каштоўнасьцяў (пасьля ліквідацыі рэжыму) трэба пачаць нашае нацыянальнае вяртаньне і адраджэньне сьветлай Беларусі.

***ліпень-лістапад 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# НЕ ЎСТУПАЙЦЕ Ў АКУПАЦЫЙНУЮ АРМІЮ! НЕ СТРАЛЯЙЦЕ Ў СЯБЕ!

Мы працягваем адзначаць Дзяды ў Лошыцы на месцы расстрэлаў нашых людзей савецкімі энкавэдзістамі. Такіх месцаў на Беларусі сотні. Гэта сьведчаньні пакутнага мартыралога народу і невыпадкова, што Дзяды сталі нашым сакральным сьвятам усёй нацыі.

Азірнемся ў нашу гісторыю. З Дзядоў выходзілі вялікія ідэі, вялікія творы і вялікія падзеі, якія ўплывалі на ўсю Беларусь і на ўсю былую Рэч Паспалітую. Успомнім Міцкевіча і ролю ягоных “Дзядоў”, успомнім Курапаты, успомнім 30 кастрычніка 1988 года, калі на першыя Дзяды, арганізаваныя Народным Фронтам, прышло насельніцтва, а вярнуўся народ.

На Дзядах, там, дзе людзі сутыкаюцца зь вечнасьцю, не гаворыцца пустых слоў. Перад Дзядамі можна быць толькі шчырым і казаць праўду, бо адтуль – зь вечнасьці – відаць усё.

Яна гаворыцца гэтая праўда ўвесь час. Гэта перш за ўсё праўда змаганьня за нашыя ідэалы, за беларускую волю і наша быцьцё.

Пасьля захопу Беларусі Масквой першым і галоўным пытаньнем расейскай імпэрскай палітыкі на акупаванай тэрыторыі стала задача ліквідацыі беларускай мовы. Гэтую задачу яны выконваюць ужо 200 гадоў. Успомнім забарону беларускай мовы рускім сэнатам, выказваньні Карнілава пра русіфікацыю школы (калі руская школа зможа больш, чым рускі штык), сэнтэнцыі Мураўёва аб абавязкавай ліквідацыі беларускай мовы, бо пакуль будзе існаваць гэтая мова, датуль будуць жыць ідэі “сэпаратызму” (гэта значыць, свабоды). Успомнім выказваньні і палітыку нядаўніх камуністычных бонзаў з Масквы, паслухаем, што кажуць і пішуць цяпер розныя “навальныя” і іншая маскоўская, імпэрская, гэбоўская драбязa. Усе ў адно. Яны могуць фальшыва і доўга казаць пра дэмакратыю, свабоду, правы чалавека і іншую дэмагогію. Але як толькі тэма вяртаецца да беларускай мовы, пачынаецца істэрыка нянавісьці, ідзе пена, яны становяцца самымі сабой. Бо падважваецца сутнасьць іхняй палітыкі ў Беларусі.

Чаму так адбываецца? Таму што галоўная тактыка Масквы ў іхнай вайне – гэта ёсьць тэхналёгія асьляпленьня праціўніка, якое адбываецца праз прапаганду, адукацыю і інфармацыю. Масква цудоўна разумее, што галоўнай асновай існаваньня беларускай нацыі ёсьць беларуская мова. Калі выбіць гэтае зьвяно ў культуры, беларуская нацыя зьнікае і захоп яе набытку робіцца голымі рукамі. Лукашэнку даюць крэдыты, падтрымліваюць і называюць “сваім сукіным сынам” толькі таму, што ён уясьніў сабе гэтае галоўнае пытаньне рускай палітыкі ў Беларусі і ажыцьцяўляе іхную палітыку. Прытым тое, што бачыць і разумее Масква, ужо (у выніку асьляпленьня) ня бачыць і не разумее бальшыня беларускага грамадзтва. І раптам зьяўляецца публічная асоба, якая публічна і адкрыта пра тое кажа. Прытым кажа так вобразна і так моцна, што яе пачынаюць слухаць і думаць над сэнсам слоў. І тады, падкрэсьліваю, і толькі тады, калі бачаць, што словы даходзяць, тады пачынаецца істэрыка акупантаў. Гэта істэрыка страху начнога злодзея, калі раптам уключылі сьвятло.

Менавіта якраз гэтакую рэакцыю начных злодзеяў мы назіраем цяпер пасьля пранікліваага выступу на Дзядах у Курапатах Юры Адамавіча Беленькага, які выдатна сфармуляваў сутнасьць расейскай імпэрскай палітыкі ў ёмістым і запамінальным лёзунгу. У лёзунгу, які мусіў бы цяпер запісаць сабе кожны беларус, бо ён зьвернуты да яго народнага сэрца. ***“Моладзь, памятай: калі ты размаўляеш на расейскай, ты ў акупанцкай арміі, якая страляе ў твой народ”.***

Сфармуляваньне такога дакладнага, ёмістага і вобразнага лёзунга ёсьць несумненным палітычным здабыткам. Гэтыя словы ўтрымліваюць глыбокі агульнанародны сэнс паводзінаў і супраціўленьня антыбеларускаму злу.

Беларусы, не зьнішчайце самы сябе. Супраціўляйцеся! Мала толькі прызнаваць і паважаць сваю мову. Трэба на ёй гаварыць, пісаць і чытаць. Беларуская мова ёсьць наша найвялікшая і першасная зброя ў барацьбе за нацыянальнае і культурнае існаваньне. Гэтай зброі нас увесь час імкнуліся пазбавіць непрыяцелі і чужаніцы і імкнуцца цяпер. Не ўступайце ў акупацыйную армію. Не страляйце ў сябе!

Дапамагайце сабе, любіце сваё, шануйце сваіх. Гэта так проста – прывядзіце сваіх дзяцей у беларускую школу. Яны стануць працягам вашых добрых намераў. Яны адродзяць нашу мову і дапамогуць вам. Там, дзе беларускую школу зачынілі, патрабуйце яе адчыніць.

Змагайцеся за сваё, разумеючы, што непрыяцель імкнецца задушыць вашу волю да супраціву. Не паддавайцеся! Ня трэба баяцца, бо цемру можа перамагчы толькі сьвятло.

Вось тут, пад гэтым засыпаным Лошыцкім ярам ляжаць расстраляныя тысячы беларусаў. Іх прывозілі на раніцы ледзь сьвет, часам у адкрытых грузавіках са зьвязанымі рукамі і тут забівалі. Я запісаў сьведку расстрэлаў, лошыцкую жыхарку Веру Шумскую. Яна казала мне, што гэта былі простыя беларусы, бедна апранутыя сяляне, ды рабочы народ. Пытаньне рытарычнае: за што і чаму забівалі гэты народ маскоўскія ворагі чалавецтва?

Шумская расказала мне, што каля энкавэдзістаў часта круціліся лошыцкія камсамольцы і лошыцкая шантрапа, і тыя, што былі ў даверы ў энкавэдзістаў, часам прысутнічалі пры расстрэлах і прасілі энкавэдзістых, каб далі пастраляць. Энкавэдзісты ім дазвалялі. За кожны стрэл валанцёрам расстрэлу свайго народа плацілі пяцьдзесят капеек.

Ізноў пытаньне рытарычнае: чаму энкавэдзісты давалі магчымасьць камсамольскай шантрапе пастраляць у людзей? На пытаньне пазьней адказаў нямецкі амбасадар у Беларусі немец Фрык, які выступаючы ў сьвятых Курапатах, заявіў, што беларусы тады, у 30-х гадах, забівалі самы сябе. Не Масква, маўляў, вінавата ў генацыдзе, не акупанты, а беларусы. Так казаў нашчадак тых, хто разам са Сталінам разьвязалі людабойства ў сьвеце. Вы памятаеце, мы, наша партыя, зьвярнуліся ў Бундэстаг, запатрабавалі тады ад МЗС Нямеччыны, каб адклікалі гэтага Фрыка зь Беларусі. І неўзабаве ён зьехаў.

Цяпер гэтыя Фрыкі, Вікі, Рабітцы, Рары, Уты, Бэніты, трасцы прыгрэлі ў Нямеччыне ўсялякіх вырадкаў зь Беларусі, якія плявузгаюць на Быкава, на Янку Купалу, на ўсё нашае сьвятое, абзываюць там нашу мову “вясковай”, неразьвітай, а вялікага Быкава “дзеравенскім”. Іх за тое немцы выстаўляюць на прэміі, даюць узнагароды, папулярызуюць, друкуюць і выдаюць. І толькі, відаць, мы, беларусы, пад ціскам акупацыйнай арміі не разумеем, што гэта за палітыка, адкуль яна расьце і дзе яе радавод.

Пара прачынацца. Пара расплюшчыць вочы на ўсход і на захад. Пара заняцца сабой і сваім домам. Пара па-сапраўднаму ўшанаваць і ўганараваць сваю беларускую мову. Пара па-сапраўднаму з адказнасьцю за ўвесь наш род разам падумаць пра нашу будучыню.

Віншую з беларускімі Дзядамі. Мы памятаем пра іх, пра іхныя жыцьці і сьмерці і ніколі таго не забудзем.

*10 лістапада 2013 г.* Зянон Пазьняк

# ЗЛАЧЫНСТВЫ АНТЫБЕЛАРУСКАГА РЭЖЫМУ

За апошні час адбылося шмат падзей, выказана шмат думак і ідэй, якія закранаюць асновы нашага народнага існаваньня.

Найперш спынюся на трагічнай падзеі апошняга часу – на забойстве турэмнымі службамі рэжыму маладога чалавека ў ізалятары часовага ўтрыманьня. Быў забіты 21-гадовы юнак Ігар Пцічкін, які не зрабіў ніякага злачынства, не займаўся палітыкай, не выступаў супраць вусатага рэжыму. Яго асудзілі на тры месяцы за парушэньне правілаў дарожнага руху – язду без правоў – і праз чатыры дні забілі ў СІЗА ў выніку жорсткасьці антычалавечай турэмнай сістэмы.

Антычалавечы рэжым цяпер хоча схаваць гэтае чарговае забойства чалавека і ўжывае рэпрэсіі супраць сваякоў, праваабаронцаў і сяброў забітага, якія пратэстуюць, патрабуюць рассьледваньня, суду і пакараньня забойцаў. Але замест пакараньня забойцаў, рэжым схапіў маці забітага і праваабаронцу і пачаў судзіць іх за патрабаваньні асудзіць злачынцаў.

Вось гэта і ёсьць антыбеларускі акупацыйны рэжым і акупацыйная палітыка, тыповыя адносіны да акупаванага насельніцтва. Беларус, беларускі чалавек для акупацыйнага рэжыму ёсьць ніхто і нішто. І няважна якога ўзроўню гэты беларус: ці ён просты чалавек Ігар Пцічкін, ці гэта вялікі пісьменьнік, знаны акадэмік, гонар нацыі. Для акупантаў не існуе гонару. Чужы гонар яны нішчаць. Ён для іх нішто. Так было арганізаванае рэжымам зьбіцьцё паважаных знакавых асобаў Беларусі – акадэміка Радзіма Гарэцкага, Адама Мальдзіса, Юрыя Хашчавацкага, Валерыя Мазынскага, Юрыя Беленькага, затачэньне ў турму мастака Аляксея Марачкіна, паэта Ўладзімера Някляева і інш. Грамадзтва анямела.

Антыбеларускі рэжым Лукашэнкі, будучы па сваёй прыродзе маскоўска-гэбісцкім, паўтарае тыповыя паводзіны гітлерскага акупацыйнага рэжыму на Беларусі. Акупаванае насельніцтва ў немцаў было непадзельным. Ніякія заслугі і ўзроўні акупаваных людзей для немцаў ня мелі значэньня. Усе былі “унтэрмэншы”. Для ўсіх аднолькавы рэжым, аднолькавая куля, пятля і газавая камэра. І калі сярод немцаў зьяўляўся які-небудзь наватар тыпу Вільгэльма Кубэ, які пачынаў цаніць культуру і прафэсіяналізм “недачалавекаў”, каб скарыстаць іх на службу Райху, то яго забівалі, як белую варону ў чорнай зграі.

Дакладна такая псіхалогія і справы ў антыбеларускім рэжыме пад кіраўніцтвам Лукашэнкі. Тут усе нармальныя людзі, што патрапілі ў лукашысцкія камэры, ёсьць палітычнымі пакутнікамі Беларусі. Бо яны “вінаватыя” у тым, што яны маладыя, як Ігар Пцічкін, што яны справядлівыя, як Мікола Аўтуховіч, што яны патрыятычныя, як Сяргей Каваленка, што яны звычайныя беларусы, якія маюць годнасьць і не схіляюцца перад паскудствам.

І такіх беларусаў шмат. Яны вырастаюць і ўздымаюць галаву. Ніколі ня будуць забытыя ахвяры і пакуты нашых простых людзей. Усё пераменіцца. І тады – забойцы і злачынцы будуць пакараныя і адкажуць за ўсё.

*17 лістапада 2013 г.* Зянон Пазьняк

# КАНЦЭРТ ДЛЯ АНАЛЬФАБЭТА З АРКЕСТРАМ

Антыбеларускі рэжым плянуе ліквідацыю беларускага нацыянальнага тэатра шляхам скасаваньня датацыяў і прапануе камэрцыйнае існаваньне. Дзяржаўныя нацыянальныя тэатры без датацыяў не існуюць. Тут намер хуткага разбурэньня беларускага тэатра з наступным абплёўваньнем і паклёпам, маўляў “сам памёр” (як казалі пасьля зьнішчэньня Васіля Быкава ці як з асаблівым цынізмам пра забойства Рамана Вайніцкага, маўляў “памёр, бо спынілася сэрца”).

Ня будзем казаць пра знаўцаў мастацтва. Кожнаму культурнаму чалавеку вядома, што мастацтва (і асабліва тэатр) патрабуе датацыі, матэрыяльнай падтрымкі. Само сябе мастацтва не акупае. Гэта сфэра культуры, якая патрэбная ўсяму грамадзтву, і грамадзтва ідзе на выдаткі дзеля культуры. Грамадзтва, якое не датуе культуру (альбо не разумее, што гэтак трэба рабіць), знаходзіцца на нізкім узроўні разьвіцьця.

Мастацтва спрыяе гуманітарнаму ўзвышэньню асобы і грамадзтва. Яно зьяўляецца люстэркам нацыі ў яе жыцьцёвых, духоўных, творчых і гістарычных памкненьнях.

Камэрцыйнае мастацтва (якое выжывае ў бізнэсе) належыць да мас-культуры і накіраванае на пазаэстэтычнае, неадэкватнае і спажывецкае задавальненьне, бытавых, псіхалагічных патрэбаў, комплексаў, неразьвітых і збочаных уяўленьяў людзей. Яно не імкнецца ўзвысіць людзей да высокіх ідэй, эстэтыкі і красы, а само апускаецца да ўзроўню спажыўца. Роля яго атупляючая, узьдзеяньне на культурны ўзровень грамадзтва – дэградуючае.

На гэтым я, перапрашаючы чытачоў, скончу тут пераказ школьных ведаў для тых, хто, магчыма, забыўся, і спынюся на небясьпечных ілюзіях, якія (па логіцы абсурду) пэрманэнтна жывуць у нашым грамадзтве.

Пачуўшы публічную дэманстрацыю неадукаванасьці публічнага чалавека, людзі пачынаюць сьмяяцца, думаючы, відаць, што асоба засаромеецца, выправіцца, і натуральны парадак рэчаў застанецца на месцы, бо інакш ня можа быць.

Тым часам “неадукаваная асоба” не саромеецца, не выпраўляецца, і натуральны парадак рэчаў замяняецца абсурдам. Тады людзі пачынаюць лавіць ротам паветра і хапацца за галаву, пакуль іншыя ня скажуць ім з гары, што абсурд якраз і ёсьць тым парадкам, які павінен быць.

Пра гэты “ілюзіён” мне прыходзіцца пісаць пастаянна вось ужо скора 20 гадоў, толькі ў іншай форме, ужываючы непрыемныя азначэньні, кшталту “тэхналёгія зла”, “лёгіка ўнутранай акупацыі”, “канцэпцыя ліквідацыі беларускай культуры”, “стратэгія вынішчэньня беларускай нацыі”, “тактыка антыбеларускай палітыкі”, “палітыка лінгвацыду” і г. д.

Ілюзіі не зьнікаюць. І мы разумеем, чаму. Таму паўтараць гэтую тэму трэба.

Нядаўна начальнік рэжыму, першы раз у жыцьці трапіўшы ў тэатр, у чарговы раз напалохаў культурную грамадзкасьць, заявіўшы, што перавядзе нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы на самаакупальнасьць. Маўляў, хай акторы, што заробяць, тое і падзеляць, а за начальнікам рэжыму застанецца толькі ідэалягічны кантроль.

Культурная эліта, ведаючы магчымасьці начальніка, перажыла сапраўдны стрэс. Кожны разумее, што гэта ёсьць ліквідацыя нацыянальнага тэатра. Але і на гэты раз бадай што ўсе зноў падумалі: такога ня можа быць. Не разумее начальнік – малапісьменны, некультурны – трэба яму растлумачыць. Некаторыя і пачалі тлумачыць, некаторыя сталі зьедліва крытыкаваць, іншыя – рагатаць. 19 гадоў – адна і

тая ж рэакцыя. Абсурд даўно стаў рэальнасьцю, а яны ўсё ня вераць, што такое можа быць.

Прычына ілюзіяў вядомая – яна ў штучнай затрымцы нацыянальнага разьвіцьця, у недасьпеласьці нацыянальнай сьведамасьці, калі грамадзтва, мову і культуру якога зьнішчаюць, не адчувае пагрозы сабе. Такое грамадзтва можа забіць нават малая варожая групоўка, захапіўшы ўладу, бо ніякія падзеі вынішчэньня не ўплываюць на адсутнасьць кансалідаванай сьведамасьці і не выклікаюць контрдзеяньня. Акупацыйны рэжым напоўніцу выкарыстоўвае такі стан людзей, актывізуе дзеяньні па нацыянальнаму атупленьню асобы ў грамадзтве. Разбурэньне робіцца сістэмна і пасьлядоўна, прытым не адразу, а пачаргова з паступовым насіленьнем і пранікненьнем ў дробныя справы, ва ўсю, яшчэ слаба сфармаваную макраструктуру нацыянальных дачыненьняў.

Так была ліквідавана беларуская школа і адукацыя. Так быў ліквідаваны Беларускі ліцэй імя Якуба Коласа, а памяшканьне забрана дзеля патрэбаў рэжыму. (Ніхто ня мог паверыць, што такое станецца. Абсурд. Навошта? Але такое сталася.)

Так быў ліквідаваны Літфонд і выкінуты на вуліцу знакаміты Саюз беларускіх пісьменьнікаў, а будынак забраны дзеля патрэбаў рэжыму. (Такога ніхто ня мог уявіць – сталася.) Так быў расколаты Саюз пісьменьнікаў. (Навошта? -- Сталася.) Так былі ліквідаваныя беларускія дзіцячыя часопісы -- знакамітая “Бярозка” і інш. (Навошта? – Сталася.) Так было ліквідаванае беларускае выдавецтва для моладзі “Юнацтва”. (Навошта? – Сталася.) Так была зьнішчана рэдакцыя Беларускай энцыкляпэдыі, разбурана акадэмічная сістэма Акадэміі Навук, ліквідаваны Інстытут Беларускай літаратуры. (Як такое можа быць? – Можа. Сталася.) Так былі ліквідаваныя беларускія радыёстанцыі і зьнішчана беларускае тэлебачаньне. (Сталася!) Так былі спаленыя беларускія падручнікі для школаў. (Ня можа быць? Аўтадафэ? – Можа. Сталася.) Так быў складзены чорны сьпіс забароненых беларускіх музычных ансамбляў, музыкаў і сьпевакоў, некаторых выштурхнулі за мяжу. (Нельга паверыць. Навошта? – Можна паверыць! Сталася.) Так выганяюць з Горадзенскага ўнівэрсітэту беларускую прафэсуру за напісаньне кнігі пра гісторыю Гародні. (Але ж тое незаконна, гэта ненармальнасьць! – Гэта рэальнасьць. Сталася.). Так задушылі беларускі часопіс “Архэ”. Як гэта? – А так гэта. Сталася!)

Зрэшты, каб пералічыць усе злачынствы антыбеларускага рэжыму перад беларускай культурай, мне спатрэбіліся б дзясяткі старонак тэксту. А калі да гэтага дадаць яшчэ палітыку, эканоміку, фінансавую і судовую сфэры, адносіны да людзей, -- то сотні старонак.

Сістэма вынішчэньня вялікага беларускага (ліцьвінскага) народа была распрацавана ў Расеі даўно і ўжывалася на практыцы. Апошнія лубянскія распрацоўкі зьнішчэньня беларускай нацыі былі зробленыя пры саветах у 1980-х гадах і пазьней перанятыя пры Ельцыне ў 1995 г. (Сакрэтныя тэксты, аднак, друкаваліся на Украіне і ў нас.)

Беларускі Народны Фронт быў знаёмы і з гэтымі маскоўскімі плянамі, і з падыходамі, і ведаў, як супрацьстаяць антыбеларускай палітыцы.

Самы галоўны тэзіс расейскай тэхналёгіі захопу, выкладзенай у 1980-х гадах, заключаўся ў абавязковым зьнішчэньні нацыянальных каштоўнасьцяў, ведаў і ўяўленьняў пра такія каштоўнасьці ў народа, які трапіў пад маскоўскую акупацыйную распрацоўку. Абавязкова мусіла быць ліквідавана нацыянальная мова (цераз асіміляцыйную адукацыю) і веды пра мінулае (найперш пра гісторыю). Народ, пазбаўлены сваёй мовы і ўяўленьня пра нацыянальныя каштоўнасьці, губляў здольнасьць да кансалідацыі, супраціўленьня і разьвіцьця. Ім можна было лёгка маніпуляваць і выкарыстаць для самаліквідацыі.

Ад ліпеня 1994 года пачалася інсьпіраваная з Масквы ўнутраная акупацыя Беларусі цераз унутраны легальны захоп улады з выкарыстаньнем выбарчых дэмакратычных працэдур. Пачалася антыбеларуская акупацыйная палітыка. Пра гэта мной ужо шмат сказана і напісана, пачынаючы з 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Паўтару

тут толькі адно важнае палажэньне, без усьведамленьня якога нашае грамадзтва ня здолее супраціўляцца катастрофе. Гэтае палажэньне – веданьне пра палітычную мэту антыбеларускай палітыкі акупацыйнага рэжыму і пра шлях яе дасягненьня.

Мэта – (канцовая мэта) уключэньне тэрыторыі Беларусі ў склад Расеі з поўнай (праз русіфікацыю) заменай карэннага насельніцтва. Шлях дасягненьня – пакрокавы наступ, які ніколі не спыняецца. Гэта тыповая расейская палітыка з дзяржаўным ведамствам агрэсіі, разьлічаная – на ўвесь час для дасягненьня мэты. Гэта абазначае, што такая палітыка ня спыніцца ніколі, пакуль ня будзе дасягнута канцовая мэта. (Каб разумець гэта -- памятаем запавет Каліноўскага.)

Крок за крокам ліквідуюцца беларускія асяродкі, газэты, выдавецтвы, арганізацыі, паступова, год за годам запаўняюцца агентурай установы, людзкія дачыненьні абстаўляюцца антычалавечым заканадаўствам, асобамі, функцыянерамі. Сёньня бураць адно, каб заўтра зваліць другое. Дзеля гэтага скарыстоўваюць ўнутраныя рэсурсы грамадзтва, што стварае ілюзію натуральнага існаваньня. Але потым ліквідуюць і гэтыя рэсурсы і заменяць чыньнікі ды структуры. Тут тыповая мэтадалёгія гэбізму – дзейнасьць супраць ворага за кошт рэсурсаў ворага. (Агентура ў псэўдаапазыцыі, напрыклад, дзейнічае і корміцца за кошт грантаў і грошай бесталковай Эўропы, а не за кошт рэжымнага бюджэту.) Крок за крокам абмяжоўваецца магчымасьць палітычнае дзейнасьці, арганізацыйнай справы, свабоды чалавека ў творчасьці, у прадпрыймальніцтве і гандлі і г. д. Антыбеларуская ўлада ўсё больш набліжаецца да этнічнай, канфэсійнай, вызнанёвай, адукацыйнай, сацыяльнай сутнасьці асобы, бо ў канцовай дыстанцыі ўсё, што ня роднаснае рэжыму і ягонай мэце, павінна зьнікнуць.

Калі цяпер так званым "беларускім" бізнэсмэнам, што суіснуюць з рэжымам, сказаць, што ў канцовым адрэзку вынішчэньня Беларусі яны будуць ліквідаваныя разам са сваім бізнэсам ня тое што па этнічнай, але нават па мясцовай (тэрытарыяльнай) прыкмеце, то яны б, пэўна, пасьмяяліся з разумным выглядам: маўляў, якая ерунда! ("Чушь!") Але гэтая "чушь" такога самага роду, як ліквідацыя Беларускага ліцэя імя Якуба Коласа, як "аграгарадкі", як аўтастрада праз Курапаты, як "лінія Сталіна" (якой не было), як камэрцыялізацыя нацыянальнага тэатра. Гэта "чушь", якая робіцца абсурднай рэальнасьцю рэжыма, дзе цемра і неадукаванасьць выкарыстоўваюцца як тактычны сродак нацыянальнага разбурэньня. (Цемры тут ужо ніхто не саромеецца. Яна легалізавана.)

"Тэатр – гэта нацыя", -- трапна сказаў расейскі драматург А. Астроўскі. Гісторыя ж (ня толькі беларуская) паказвае, што нацыя пачынаецца з тэатра. Нехта, відаць, расказаў пра гэта Лукашэнку, і над нацыянальным тэатрам навісла пагроза ліквідацыі.

Для правядзеньня акупацыйнай палітыкі Масква скарыстала тыпова падыходзячую кандыдатуру з комплексам антынацыянальнага беларусафобства мясцовага паходжаньня. Апошняя акалічнасьць выклікала спэцыфічнае вынішчэньне нацыянальнага грамадзтва, нешта кшталту палітычнай анкалёгіі, дзе самым сьмяртэльным ворагам чалавека становіцца яго ўласная ракавая клетка, якая перарадзілася.

Увогуле тая шкода, што натварыла гэтая істота для Беларускай нацыі і культуры, ня можа быць кампэнсавана ніякім судовым прысудам (хоць тысячу гадоў турмы). Але недзе ж (магчыма) вісіць тая кропля, што перапоўніць чашу цярпеньня.

*2013 г.* Зянон Пазьняк

# АБ ІНФАРМАЦЫІ

*(Прачытана на травеньскім Сойме*
*КХП – БНФ і БНФ “Адраджэньне”)*

***Колькасьць абразьлівай для Беларусі тэрміналогіі “беларускі рэжым”, “беларуская турма”, “беларуская ўлада” і г. д. у дэм. СМІ павялічылася, ужываецца толькі і выключна, і, нібы са смакам. Адэкватных назоваў няма. Гэта вельмі сымптаматычны доказ – які характарызуе шмат што. Гэта ж як трэба не шанаваць Беларусь, каб так сябе выяўляць!***

* * *

...У сувязі са зрухам у сьвядомасьці (які адбываецца) у людзей ўзьнікае патрэба ў праўдзівай інфармацыі. Яны зьвяртаюцца да сродкаў массавай інфармацыі, але трапляюць тут ў сфэру інфармацыйнай вайны, сутнасьць якой дрэнна ўсьведамляюць, адказаў на пытаньні не знаходзяць. Прытым друк, эфір і сеціва ня толькі напоўнены дэзінфармацыяй па галоўных каштоўнасных пытаньнях жыцьця і палітыкі, яны ўтопленыя яшчэ ў балоце ўсялякай лухты, якая падаецца штодзень пад выглядам інфармацыі і, практычна, нікому не патрэбная. Гэта ёсьць мэтад зыпаўненьня сьведамасьці людзей сурагатамі.

У сьвеце інфармацыйнай вайны сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі і зьвязаныя зь Беларусяй, рана ці позна, ускосна ці наўпрост прыдуць (хоць бы часткова) да прапаганды ўзурпатара ўлады. Гэта абумоўлена некалькімі чыньнікамі: **1)** асаблівым тыпам акупацыйнай улады (гэбізмам), дзе асноўнай палітычнай сілай гэтай улады зьяўляюцца спэцслужбы (дзяржбясьпека, сілавыя структуры, КГБ); **2)** канцэнтрацыяй сродкаў кантролю і рэсурсаў у руках рэжымнай улады; **3)** адсутнасьцю сродкаў масавай інфармацыі поўнасьцю незалежных ад антыбеларускага рэжыму (беларускія СМІ за мяжой залежныя ад рэжымнай улады, бо журналісты залежныя, плюс палітыка замежных інвестараў, ў якіх свае дачыненьні з рэжымам)

Любы сродак масавай інфармацыі падвержаны ў такіх умовах небясьпецы ўплыву, перакупу, падкупу, ціску і кантролю над адміністрацыяй і выканаўцамі.

На сёньняшні дзень няма беларускага радыё і тэлебачаньня, не існуе вялікіх беларускіх адраджэнцкіх газэт (тыпу “Свабода”, “Пагоня”), акрамя дробных сайтаў, нічога такога не існуе ў Інтэрнэце (ні воднага партала, ні воднай масава ўплывовай беларускай Старонкі).

Становішча сьведчыць аб пэрманэнтнай беларускай паразе ў інфармацыйнай вайне. Калі, напрыклад, прааналізаваць невялікі па інтэрнэтных мерках (10 тысяч наведваньняў), але істотны для Беларусі “сайт” радыё “Свабода” за апошнія паўгады-год і параўнаць, як было раней, то заўважым, што галоўнай інфармацыйнай фігурай, якая ідзе ў вялікім адрыве ад усіх і ўсяго астатняга ёсьць асоба ўзурпатара Лукашэнкі і яго сямейнікаў. Бывае, што ледзь ня кожны дзень некалькі інфармацый з рознымі партрэтамі нішчыцеля Беларусі вісіць на сайце, камэнтуецца па шмат разоў кожнае яго казаньне і выказваньне, меркаваньні па ўсіх тэмах, пішацца пра яго байстука і ягоных сыноў (напрыклад, што адзін зь іх, іграючы на курорце ў хакей, атрымаў траўму і два дні не гуляў і т. п.). Такая тэндэнцыйная і пустапарожняя тэматыка – прыкмета нядобрая і выбар тэматыкі сімптаматычны. Партрэты ўзурпатара і нягодніка вісяць у кожнай інтэрнэт-старонцы так званых “незалежных” СМІ.

Калі параўнаць частотнасьць тэматыкі пра ўзурпатара на “Свабодзе” і ў “Советской Белорусіі”, то Свабода мала саступае. Прытым матэрыялы тут у асноўным і амаль усе інфармацыйна-нэўтральныя ды яшчэ часам з тлумачэньем сатрапаўскай рацыі ды пазыцыі. Гэта парадаксальна, але факт. Канешне, радыё, напэўна ж, ня хоча папулярызаваць нішчыцеля і ўзурпатара. Тут няма сумненьняў. Але законы інфармацыі ніхто не адмяняў.

Гадоў 9-10 таму мне прыходзілася пісаць і выступаць з заклікам аб пашырэньні беларушчыны ў Сеціве шляхам стварэньня вялікай колькасьці дробных беларускіх

старонак, якія мусілі б перадрукоўваць асноўную беларускую адраджэнскую інфармацыю, бяручы яе адзін у аднаго.

Па такой схеме, калі яе разьвіць, можна ахапіць патрэбнай інфармацыяй вялікую колькасьць людзей. І ня так проста рэжыму гэтую справу заблакаваць, калі будуць дзейнічаць тысячы старонак.

Тады заклік падтрымалі некалькі асобаў, і, практычна, справа крыху зрушылася. Задача толькі ў тым (паўтаруся), каб асобныя беларускія старонкі ў Сеціве ня дзейнічалі аўтаномна, а пераймалі важную інфармацыю па схеме ланцуговай рэакцыі. Беларусы павінны навучыцца змагацца з акупацыяй у сфэры інфармацыі. Бо зразумела, што перамога ў інфармацыйнай вайне – гэта ўжо палова рэальнай перамогі. Пакуль што беларусы церпяць паразу. І гэта пры надзвычайных магчымасьцях, якія існуюць ў цяперашнім сьвеце.

Па ланцуговай схеме распаўсюджваўся “самвыдат” у 1960-80-х гадах. Кожны мог аддрукаваць чатыры закладкі на машынцы і распаўсюдзіць. Распаўсюджвалася хутка, чытала шмат людзей. Бо была зацікаўленасьць ў праўдзівай інфармацыі і прымітыўная мэтодыка дзейнічала эфектыўна. І гэта ўлічваючы, што почырк кожнай машынкі захоўваўся ў КГБ, а за чытаньне “самвыдата” магла быць савецкая псіхушка альбо турма.

Тым часам і цяпер мы пераконваемся ў даходлівасьці і доўгатрывалай дзейнасьці мэтадаў папяровай інфармацыі.

Існуе шмат нявыкарыстаных тэхнічных інфармацыйных магчымасьцяў. Імі павінны б былі займацца новыя людзі, калі сасьпее сьвядомасьць і воля (спачатку ў асобных людзей, а потым ва ўсім грамадзтве).

Як паказвае вопыт і дзейнасьць, вельмі важна, каб у грамадзтве было праўдзівае разуменьне асноўных пытаньняў жыцьця нацыі і таго, што рэальна адбываецца ў Беларусі, -- у чым тут сутнасьць палітыкі, канфлікту і змаганьня.

Інфармацыя аб рэжыме ўнутраннай акупацыі, аб яго сувязі з Масквой, аб маскоўскай праімпэрскай палітыцы пакрокавага захопу Беларусі і ўзаемадзеяньні з рэжымам Лукашэнкі, аб антыбеларускай унутраннай палітыцы рэжыму, аб ролі псэўдаапазыцыі і Эўропы ў гэтым працэсе – усё яно павінна распаўсюджвацца і (што важна) паўтарацца пастаянна ў асьветніцкіх ведах пра сучасную беларускую драму.

Тое што праўдзівы стан канфлікту ў Беларусі ня будуць адлюстроўваць існуючыя так званыя “дэмакратычныя” СМІ не падлягае нават абмеркаваньню. Гэта прыродны факт. Прывяду красамоўны прыклад. На мінулым Сойме я ў чарговы раз зьвярнуў увагу на неадэкватную палітычную тэрміналогію, тэндэнцыйна распаўсюджаную ў СМІ на Захадзе і сярод псэўдаапазыцыі, якая называе антыбеларускі рэжым “беларускім” рэжымам, яго разбуральную антынацыянальную палітыку – “беларускай палітыкай”, яго рэпрэсіўныя ўстановы ўлады – “беларускімі” ўладамі, ягоныя турэмныя засьценкі – “беларускай турмой” і г. д.

Матэрыял у чарговы раз быў даволі шырока зьмешчаны ў Сеціве. Тыя, каму трэба, прачыталі. Вынік вельмі красамоўны. Колькасьць абразьлівай для Беларусі тэрміналогіі “беларускі рэжым”, “беларуская турма”, “беларуская ўлада” і г. д. у дэм. СМІ павялічылася, ужываецца толькі і выключна, і, нібы са смакам. Адэкватных назоваў няма. Гэта вельмі сымптаматычны доказ – які характарызуе шмат што. Гэта ж як трэба не шанаваць Беларусь, каб так сябе выяўляць! Агентура ў СМІ аказваецца такая халуйская, такая адданая.

Пры савецкай акупацыі савецкая ўлада імкнулася дэманстраваць сябе ўладай. Была нават абмежаваная зваротная сувязь, калі ўлады вымушаныя былі рэагаваць на супольную рэакцыю людзей (подпісы, калектыўныя лісты і інш.).

Цяперашні антыбеларускі рэжым выяўляецца менавіта як рэжым акупацыйны, які ня лічыцца ні зь якой думкай людзей, вучоных, інтэлігенцыі і г. д. Зьбіраньне подпісаў і апэляцыя да нелегітымнай акупацыйнай ўлады супраць пабудовы АЭС ці вырубкі дрэваў – справа абсалютна бяссэнсоўная. Рэжым ня лічыцца абсалютна ні з кім і ні з чым. Людзі, беларусы для яго нішто. Зваротная сувязь нават не імітуецца (як

было ў камуністаў). Зьвяртацца да гэтай хунты – тое самае, што хадзіць на выбары да ўзурпатара. Цалкам марная справа.

Нашыя лёзунгі – “Байкот рэжыму!” “Народнае існаваньне!” (паралельнае) вынікаюць са становішча. У гэтай сувязі намер рэжыму ўвесьці расейскую ваеншчыну ў Беларусь і зрабіць расейскую ваенную базу пад Баранавічамі вымагае ад нас інфармацыі і звароту да свайго народа. Трэба разумець, што працягваецца чарговы, на гэты раз мілітарысцкі, этап палітычнай вайны супраць Беларусі, падрыхтоўка мілітарнай акупацыі. Не павінна быць чужых ваенных базаў на тэрыторыі Беларусі.

*12. 05. 2013* Зянон Пазьняк

# ЭТНАС І НАЦЫЯ

Разбураючы Беларусь, рускія за 200 гадоў акупацыі зьнішчылі (забілі) мільёны беларусаў, спалілі беларускія кнігі, ліквідавалі рэлігію, перарабілі і зьнішчылі тысячы храмаў, перабудавалі і панішчылі цэнтры гарадоў, фізічна ліквідавалі цэлыя саслоўі людзей, зрусіфікавалі школу, але так і не змаглі забіць этнас беларускага народа (нават камуністы).Найбліжэй падышоў да гэтага злачынства П. Машэраў, бадай, ці не найбольшы камуністычны русіфікатар і нішчыцель беларускай нацыі. (Даведка. *Пётр Машэраў, беларус па паходжаньні, сапраўднае прозьвішча Машэра (зьмяніў прозьвішча дзеля кар'еры), першы сакратар ЦК КПБ (КПСС). Удзельнік энкавэдзісцкай савецкай партызанкі на Беларусі. На пасадзе першага сакратара ЦК КПБ (КПСС) валодаў неабмежаванай уладай у Беларусі.*)

За Машэравым ужо лічылася татальная русіфікацыя беларускай школы і адукацыі, штучная (непатрэбная) меліарацыя (нішчэньне прыроды) і пачатак ліквідацыі беларускай вёскі. Пры Машэраве ўзьнік плян ліквідацыі беларускіх вёсак пад выглядам "беспэрспэктыўных". Па пляну 75% вёсак мусілі быць зьнішчаны (34 тысячы паселішчаў). Гэты антычалавечы плян разбурэньня беларускага этнасу ўжо пачалі ажыцьцяўляць, але неўзабаве Машэраў згінуў, плян забуксаваў, а праз нейкі час разваліўся СССР.

Антыбеларускую падрыўную працу Машэрава прадоўжыў А. Лукашэнка. Разбуральны вынік шызоіднага гэбізму аказаўся катастрафічным. За кароткі час (18 гадоў) антыбеларускага рэжыму ў значнай ступені русіфікавана, алкагалізавана, разбурана (“аграгарадкі”) і зьнішчана беларуская вёска. Пад пагрозай апынулася існаваньне беларускага этнаса. Амаль начыста адбітая памяць у пакаленьня. Нацыю нішчаць, а яна не разумее, што адбываецца.

## МОВА

Галоўнае пытаньне адраджэньня нацыяў у пэрыяд Вясны народаў Эўропы (у час крушэньня імпэрыяў) было пытаньне адраджэньня і грамадзкага сцьвярджэньня нацыянальнай мовы.

Галоўнае пытаньне палітыкі Расейскай імпэрыі на Захадзе (у Беларусі) -- ліквідацыя беларускай мовы.

Галоўнае пытаньне беларускага нацыянальнага адраджэньня -- грамадзкае і дзяржаўнае сцьвярджэньне беларускай мовы.

Усё, што ствараецца ў Беларусі (ці за яе межамі) не на беларускай мове (а гэта, як правіла, пры ўдзеле чужой агентуры КГБ) не зьяўляецца ні беларускай апазыцыяй, ні беларускім рухам, ні беларускім нацыянальным адраджэньнем. Выплюньце гэта, як сьліну. Наша гісторыя і наш вопыт даўно пацьвердзілі гэтую праўду.

"А мы вот по-русски, за Белоруссию, за ее историю и культуру. Разве это плохо?"

"Вы можаце быць за "Белоруссію" хоць па-руску, хоць па-кітайску, хоць па-японску, і гэта ня будзе "плохо". Але будучыні Беларусі ў гэтым няма."

## ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

Інтэлігентнасьць ёсьць набытая выхаваньнем і адукацыяй, і ёсьць прыроджаная. Гэта здольнасьць чалавека свае веды, вопыт, думкі і дзеяньні сувымяраць з карысьцю для нацыі, для культуры, для народа і грамадзтва. Інтэлігент -- гэта інтэлектуал, які дбае пра Бацькаўшчыну і народ, які спалучае свае інтарэсы і веды з інтарэсамі нацыі і грамадзтва і можа дзеля гэтага ахвяравацца іншымі клопатамі.

Наяўнасьць інтэлігенцыі -- гэта ёсьць наша грамадзкая перавага перад Захадам. (На Захадзе не існуе інтэлігенцыі і дружбы. Людзі жывуць інтарэсамі і цэняць індывідуалізм, забясьпечаны правам.) У цяжкі для нацыі час, калі нішчаць культуру і мову, на інтэлігенцыю кладзецца адказнасьць і абавязак нацыянальна-культурнай асьветы грамадзтва. Цяжкі час даўно настаў.

Што робіць, чым займаецца беларуская інтэлігенцыя, гледзячы на нішчэньне мовы і разбурэньне культуры?

Ня трэба плакаць і бяз сэнсу абурацца на хама. Ня дайце яму ўсіх зрабіць хамамі. Не станавіцеся такімі, як ён. Не гаварэце, як ён. Ня будзьце на яго падобнымі. Шануйце нашу беларускую мову, гаварэце, сьпявайце, павожайце, вучэце дзяцей па-беларуску, нясіце сьвятло Беларусі ў душы людзей і ў цэлы сьвет.

***9 студзеня 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# КАГЭБЭ

Думаючы пра вольную Беларусь, паўстае пытаньне, што рабіць з КГБ? Такое ж пытаньне ўзьнікала ў пачатку 90-х, калі ўжо разумелі, што ўпадзе і КПСС, і Савецкі Саюз. Тады казалі, што КГБ не рэфармуецца, яго трэба ліквідаваць. У Расеі, калі разваліўся СССР і спынілі дзейнасьць КПСС, КГБ, аднак, не ліквідавалі, але нібыта "рэфармавалі". Потым аказалася, што ўсё засталося, узмацнела, і нават стала неўзабаве ўладай у Расейскай Федэрацыі.

У Беларусі ўвогуле нічога не парушылі з КГБ, бо рэальна ўлада засталася савецкай. Зьніклі толькі камуністычныя структуры і шыльдачка КПСС-КПБ. З пачаткам лукашызму і ўсталяваньнем антыбеларускага рэжыму КГБ стаў асноўным чыньнікам улады гэтага рэжыму.

**Пра гэбізм. Этапы арганізацыі.**

Гэбізм як сістэма ўлады небясьпечная як для Беларусі, так і для Расеі. Пры гэбізме адбываецца глыбокая дэградацыя грамадзтва ва ўсіх аспэктах яго існаваньня, што ў выніку прыводзіць да няздольнасьці самаарганізавацца і адэкватна адказваць на цывілізацыйныя запатрабаваньні разьвіцьця.

У Беларусі форма гэбізму найцяжэйшая, бо цаляе ў істоту нацыянальна-культурнага існаваньня народа. І ў Расеі, і ў Беларусі дзейнасьць улады гэбізму выклікае гуманітарную катастрофу. Але ў Беларусі гэта ёсьць толькі форма катастрофы культурна-нацыянальнай, канцовым вынікам якой можа стаць нацыянальная і этнічная сьмерць.

Узаемадачыненьні паміж двума рэжымамі пабудаваныя на каляніяльным прынцыпе, што выяўлена і ў характары ўлады: карпаратыўны рэжым у Маскве (дзе дырыжоры за плячыма ўлады) і аўтарытарны ў Менску (якім лягчэй маніпуляваць з Крамля).

Каб убачыць сутнасьць і гнасеалогію гэбізму, зірнем у гісторыю ўтварэньня гэтай улады, у аснове якой КГБ.

Гэбэ бярэ пачатак са сьнежня 1917 года, калі пры бальшавіцкім самазваным урадзе была створана ВЧК (Всероссийская Чрезвычайная Комиссия). ВЧК атрымала надзвычайныя паўнамоцтвы расстрэльваць на месцы без суда "непрыяцельскіх агентаў, спэкулянтаў (г. зн. гандляроў), грамілаў, хуліганаў (sic!), супрацьрэвалюцыйных агітатараў, нямецкіх шпіёнаў" і г. д., практычна, усіх людзей. Банда ВЧК гэтым і займалася. Такое называлася ў бальшавікоў "правом непосредственной ликвидации". Летам 1919 года (згодна дэкрэту бальшавіцкага ўраду) такая мэтодыка забойства названа яшчэ "правом непосредственного расстрела" і "изъятием из общей подсудности". Згодна крытыкі тагачасных бальшавіцкіх кіраўнікоў Р. Пятроўскага і Л. Каменева  ВЧК уяўляла сабой "произвол организации, напичканой преступниками, садистами и разложившимися элементами люмпен-пролетариата".

У сьнежні 1918 года была выдадзена ленінская пастанова ЦК РКП(б) аб забароне любой крытыкі ў дачыненьні да "дзейнасьці" ВЧК.

ВЧК забіла сотні тысяч людзей і ў 1922 годзеператворана ў ГПУ ("Государственное политическое ўправление") пры НКВД РСФСР.

Дзейнасьць ГПУ і НКВД у 1920-1930-1940-х гадах дастаткова падрабязна апісана ў літаратуры і дакумантах. Гэта тэрор, генацыд, мільёны загубленых жыцьцяў, зьнішчэньне цэлых сацыяльных групаў і пластоў насельніцтва, ліквідацыя цэлых народаў, высяленьне (вываз) цэлых нацый з айчыннай зямлі і засяленьне іх тэрыторы рускімі.

Па ўзроўню злачынства, маштабу, жорсткасьці і арганізаванасьці генацыду, які тварылі расейскія бальшавікі, гэта была выключная па антычалавечнасьці і сатанізму зьява ў гісторыі чалавецтва.

У 1954 годзе, праз год пасьля сьмерці Сталіна, бальшавіцкая спэцлужба была названа КГБ (Комитет Государственной Безопасности). У 1959 годзе Прэзыдыюм ЦК КПСС зацьвердзіў "Положение о Комитете Государственной безопасности". Гэтаму дакуманту надалі максымальны ўзровень сакрэтнасьці.

Згодна таго Палажэньня (якое дзейнічала да канца СССР), КГБ быў аб'яўлены "палітычным органам", які ажыцьцяўляў мерапрыемствы ЦК КПСС і ўраду СССР. Пры гэтым непасрэднае кіраўніцтва і кантроль над КГБ ажыцьцяўляў ЦК КПСС. Гэта была яго запісаная прэрагатыва. Саўміну былі пакінутыя трэцеразрадныя функцыі, прытым нават у гэтым кожны дробязны крок Саўміна павінен быў быць узгоднены з ЦК КПСС.

У "Палажэньні" запісана, што "Камітэт дзяржбясьпекі працуе пад непасрэдным кіраўніцтвам і кантролем Цэнтральнага Камітэта КПСС". Фактычнае кіраўніцтва КГБ ажыцьцяўлялася вышэйшымі органамі кампартыі: ЦК КПСС і Палітбюро. КГБ, фактычна, быў выведзены з-пад кантролю савецкага ўраду. Прытым Палітбюро кіравала КГБ напрасткі праз старшыню КГБ і яго намесьнікаў.

ЦК КПСС меў права накласьці забарону на публікацыю загадаў старшыні КГБ. Нягледзячы на тое, што гэта супярэчыла Канстытуцыі і Палажэньню аб пракурорскім наглядзе, такое рабілася. Акрамя таго кагэбістам забаранялася зьбіраць кампрамэтуючыя матэрыялы на прадстаўнікоў кіроўнай камуністычнай партыйнай намэнклятуры. Структуры КГБ на месцах (вобласьць, раён, горад) падпарадкоўваліся толькі мясцовым партыйным камітэтамі і непасрэдна па субардынацыі – КГБ. Органы мясцовай ўлады ў разьлік ня браліся.

**КПСС-КГБ – адзіны орган нелегітымнай улады**

З усяго вышэй сказанага (і галоўнае – з практыкі функцыянаваньня СССР) вынікае вельмі важная выснова для разуменьня сучаснасьці і наступных падзей. КПСС і КГБ – гэта быў адзіны орган камуністычнай улады, камуністычнай дыктатуры і камуністычнай палітыкі ў СССР. Кіраўнікі КГБ часта пераходзілі на кіруючыя пасады ў КПСС і зноў вярталіся назад у кіраўніцтва КГБ. Уся кіруючая партыйная намэнклятура, пачынаючы ад загадчыкаў аддзелаў ЦК і абкамаў КПСС, мелі адначасна афіцэрскія званьні КГБ (якія з цягам часу падвышаліся). Тлумачылася гэта засьцярогамі на выпадак вайны, але ў рэальнасьці вынікала з адзінай структуры КПСС-КГБ, дзе КПСС мела кантрольныя функцыі, а КГБ – выканаўчыя. Ідэалёгіяй КГБ быў камунізм. Кожны гэбіст мусіў быць камуністам. Такая структура, заснаваная на адзінстве кантрольна-палітычнай і карна-рэпрэсіўнай функцыяў у адным органе дазволіла ажыцьцяўляць татальны і абсалютны кантроль над грамадзтвам. Функцыі дзяржаўнай улады ажыцьцяўляліся праз савецкія органы ўлады, якія таксама ствараліся і цалкам кантраляваліся КПСС-КГБ.

Сіла і небясьпека КГБ заключалася перш за ўсё ў яго неабмежаваных паўнамоцтвах, у таемным, схаваным спосабе дзейнасьці і ў фактычным вывядзеньні з-пад сфэры закону плюс санкцыянаванае права на палітычныя забойствы (на што на сёньняшні дзень, здаецца, ужо ня мае дазволу ні адна спэцслужба і ні адна разьведка ў цывілізаваным сьвеце).

Трэба яшчэ дадаць, што КГБ ніколі ня быў абцяжараны ніякай маральлю, ніякімі гуманістычнымі каштоўнасьцямі і, фактычна, ніякай адказнасьцю за любыя свае дзеяньні. Дзеяньні гэтай арганізацыі ў сэнсе гуманітарнай ацэнкі (асабліва ў 1920-1940 гг.) мелі выразна сатанінскі характар, якія цяжка было асэнсаваць на ўзроўні нармальнай чалавечай сьвядомасьці.

У савецкім грамадзтве КГБ прысутнічаў ўсюды, дзе прысутнічала КПСС, гэта значыць татальна. На ўсіх прадпрыемствах і ўстановах былі так званыя "першыя аддзелы" плюс сэксоты і агентура. (Сексот – значыць "секретный сотрудник".)

Інфільтрацыя грамадзтва агентурай і стукачамі дасягала фантастычных памераў. КГБ быў першасным чыньнікам страху ў савецкім грамадзтве.

Функцыянальная структура гэтага воргана даволі складаная, разгалінаваная і ўсеабдымная. Найбольш шчыльна КПСС-КГБ кантраляваў сродкі масавай інфармацыі, сістэму адукацыі і грамадзкія інстытуты ўплыву на людзей, найперш Рускую праваслаўную царкву, якая ад пачатку (ад стварэньня Сталіным Маскоўскага Патрыярхату ў 1943 г.) была створана як фактычны аадзел КПСС-КГБ.

**Небясьпека КГБ**

Найбольшую небясьпеку для людзей у СССР уяўлялі наступныя накірункі рэпрэсіяў КГБ:

-- барацьба з антысавецкімі элемэнтамі (**Трэцьцяе упраўленьне**. **Асобы аддзел**);

--барацьба з ідэалягічнымі дыверсіямі, антысавецкімі і рэлігійна-сэктанцкімі элемэнтамі (**Пятае ўпраўленьне**);

-- апэратыўна-пошукавая праца – вонкавае назіраньне (**Сёмае ўпраўленьне**);

-- перахоп і пэрлюстрацыя карэспандэнцыі (**Шосты аддзел**);

-- праслухоўваньне размоваў (**Дванаццаты аддзел**);

-- тайныя апэрацыі, дэзынфармацыя, "актыўныя мерапрыемствы" (**Пятае галоўнае ўпраўленьне – служба "А"**).

Але галоўнай задачай КПСС-КГБ у Беларусі, задачай, якая была схавана за ўсімі аддзеламі і фармулёўкамі, -- гэта была барацьба зь беларускімі нацыянальнымі ідэямі і нацыянальнымі каштоўнасьцямі, якія камуністы зашыфравалі пад агульную фармулёўку "беларускага буржуазнага нацыяналізму". У гэтай барацьбе і быў галоўны сэнс прысутнасьці КПСС-КГБ у Беларусі. У гэтым была тут галоўная місія расейскай рэпрэсіўнай сістэмы.

У дзеяньнях, якія я пералічыў, КПСС-КГБ быў поўнасьцю выведзены з-пад закона. КГБ мог самаісна, без санкцыі пракурора, кантраляваць паштовыя адпраўленьні людзей, праслухоўваць тэлефонныя размовы, рабіць арышты, затрыманьні, трымаць пад стражай асоб па падазрэньні і г. д.

Антыпраўным (і ў рэальнасьці антычалавечным) актам КПСС-КГБ зьяўляецца вярбоўка агентуры, якая ажыцьцяўляецца, як правіла, праз шантаж, запалохваньне, пагрозы і выкананьне пагроз. Падпалкоўнік КГБ Канстанцін Прэабражэнскі ўспамінае, што "Ад вярбоўкі часьцей за ўсё адмаўляліся дзеячы мастацтва, пісьменьнікі і, як ні дзіўна, ваенныя. Выпадкаў жа такога адмаўленьня ад журналістаў я ня ведаю ніводнага". *(Константин Преображенский. КГБ в русской эмиграции. – New York, Liberty, 2006, с.135).*

Асабліва ўзмацнела гэбоўскае прастытуяваньне журналістаў у такіх краінах, як Расея і Беларусь, пасьля распаду СССР і ўстанаўленьня ўлады гэбізму. Журналісты -- гэта ёсьць найбольш інфільтраваная агентурай група грамадзтва пасьля Рускай праваслаўнай царквы.

**Маскоўская Патрыярхія – аддзел КГБ**

Што датычыцца РПЦ, то яе духоўна-адміністрацыйная самастойнасьць была ліквідавана яшчэ царызмам і падпарадкавана самадзяржаўю ў XVIII стагоддзі за рускім царом Пятром І (Шалёным). РПЦ кіравалі чыноўнікі (Сінод), прызначаныя самадзяржаўем. Праваслаўе ў Расеі выконвала паліцэйска-асімілятарскія русіфікацыйныя функцыі. Повязі яе з імпэрскай палітыкай і з царскай тайнай паліцыяй былі відавочнымі. Гэта аблегчыла бальшавікам іхныя рэпрэсіі супраць РПЦ і фізічнае вынішчэньне сьвятароў.

Аднак у 1943 годзе, у разгар вайны, Сталін аднаўляе Маскоўскую Патрыярхію і ставіць яе на службу КПСС-КГБ. Кіруючыя асобы Патрыярхіі былі ня толькі вышэйшымі

афіцэрамі КГБ, але і членамі кампартыі. Арганізацыя Маскоўскай Патрыярхіі была пабудавана па прынцыпу сазлучаных сасудаў з КГБ. Падпалкоўнік КГБ К. Прэабражэнскі піша ў сувязі з гэтым, што “нікому ж ня прыйдзе ў галаву выяўляць агентаў КГБ у нашым МЗС, дзе ўсе агенты.” *(Тамсама, с. 39).* Тое ж пацьвярджае і генэрал КГБ А. Калугін.

Сістэма “сасудаў” РПЦ-КГБ працавала (і працуе цяпер) наступным чынам. Кіраўніцтва і ўвесь клір (епіскапы) Патрыярхату былі ўнесены ў намэнклятуру ЦК КПСС-КГБ (з усімі прывілеямі), а таму іх зацьвярджаў ідэалягічны аддзел ЦК. Дакуманты для важных кадравых прызначэньняў (любога кшталту) абавязкова падаваў КГБ. Даведку аб будучым епіскапе рыхтаваў Пяты аддзел і “разьведка” (калі кандыдат бываў за мяжой). Кожная з даведак заканчвалася фразай: “Супрацоўнічае з такога году...” Калі такой фразы не было, кандыдатуру не зацьвярджалі. Усе епіскапы РПЦ супрацоўнічалі (і супрацоўнічаюць цяпер) з КГБ. (Дадам, і бальшыня сьвятароў.)

Але хіратоніяй справа не закончвалася. Трэба было атрымаць рэгістрацыю ў якасьці епіскапа ў Савеце па справах рэлігіяў, які ўзначальваў, як правіла, вышэйшы афіцэр КГБ. Толькі пасьля канфедыцыйнай размовы з гэтым афіцэрам магчымая была рэгістрацыя. Па сёньняшні дзень усе япіскапы РПЦ застаюцца ў агентурнай сетцы.

Трэба ведаць, што храмы ў цяперашняй Расеі, -- гэта дзяржаўная ўласнасьць. Патрыярхат толькі атрымаў іх у бестэрміновае карыстаньне. Патрыярхат ня можа існаваць без дзяржаўнай падтрымкі нават цяпер, бо сапраўдных вернікаў у Расеі каля 2% (Глеб Якунін). Па іншых зьвестках – 1%. Астатнія ходзяць у царкву па аказіі ды вялікіх сьвятах.

Экзархат РПЦ у Менску выстараўся сабе магчымасьць гандляваць цыгарэтамі, гарэлкай ды іншымі таварамі. Але і гэта мала ратуе становішча (ня кажам ужо пра маральнасьць такога занятку). Гэбісцкі рэжым, аднак, ня можа пакінуць без падтрымкі “нашу православную организацию” (А. Лукашэнка).

Згодна гісторыі пранікненьня ў Беларусь, РПЦ зьяўляецца тут юрыдычна нелегальнай, чужой царквой (права быць ў Беларусі ў яе няма), але не менш важнай ёсць палітычная праблема РПЦ -- яе роля ў якасьці аддзелу КПСС-КГБ, палітычнай улады, якая праводзіла генацыд народаў, што былі пад акупацыяй СССР. Не сумняваюся, што ў вольнай Беларусі “православная организация” КГБ будзе ліквідаваная, уся яе агентура выяўленая. Будзе забясьпечана магчымасьць вяртаньня на Бацькаўшчыну для Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

У Савецкім Саюзе “сазлучанымі сасудамі” з КПСС-КГБ былі шмат якія арганізацыі і ведамствы. Гэтае палажэньне захавалася і цяпер у Расеі і Беларусі.

Ведаючы, што сабой уяўляў у Савецкім Саюзе двухгаловы Левіяфан КПСС-КГБ, можна глыбей зразумець характар распаду СССР і страты абрэвіятуры КПСС, і ўвогуле больш уважліва зірнуць на натуральны працэс ператварэньня двухгаловага Левіяфана ў двухгаловага арла.

Гаворачы пра камунізм як будучыню чалавецтва, камуністы (перш за ўсё КГБ) рыхтаваліся да розных паваротаў фартуны. Пачалося накапленьне і хаваньне сродкаў. У 1970 годзе КГБ таемна адчыніў (прыўлашчыў) свой банк у Аўстрыі (Вена. Райффайзэн банк). Банк існуе і сёньня, і ніхто там не шукае “золата партыі”, бо ніхто, акрамя КГБ, ня ведае, дзе яно асела.

### Гэбізм – абсалютная ўлада спэцслужбаў

Рэстаўрацыя ўлады КГБ без КПСС пачалася зь Беларусі і завяршылася дасягненьнем мэты ўжо ў 1994 годзе. Існаваў нават праект экспансіі ў Маскву з боку антыбеларускага рэжыму (Лукашэнка на поўным сур’ёзе зьбіраўся залезьці на крамлёўскі трон). Але генэральны плян КГБ быў іншым. На працягу 90-х гадоў КГБ стварыў сваё акружэньне вакол Ельцына і ўзяў пад шчыльны кантроль яго ўладу, расейскі бізнэс, фінансавыя плыні, сродкі масавай інфармацыі і крымінальны сьвет Расеі. У канцы 1999 года генэралы КГБ выправадзілі Ельцына з Крамля. Кіраўніцтва

перайшло да навасьпечанага прэм'ер-міністра, нікому невядомага правінцыйнага функцыянера КГБ, афіцэра сярэдняга зьвяна Ўладзімера Пуціна, якога адразу пачалі рыхтаваць да выбарчай кампаніі на прэзыдэнта Расеі.

Увесь далейшы сцэнар прыходу КГБ да абсалютнай улады ў Расеі быў ужо зразумелы да самых малых дэталяў. Тут узьнікала небясьпека ня толькі для Беларусі, але і для ўсяго сьвету, бо відавочна было, якая пачнецца палітыка.

Наша партыйная задача (КХП-БНФ) была папярэдзіць заходні сьвет (ягоны ўзровень нам ужо быў вядомы) і заручыцца пэўнай кансалідацыяй на выпадак небясьпекі для незалежнасьці Беларусі. Асобныя групы КХП-БНФ паехалі ў Парыж, Чэхію, Бэльгію. Я езьдзіў у Латвію і Польшчу. Усюды былі спатканьні на парляманцкім і ўрадавым узроўні. Потым у Вашынгтоне, куды я паехаў, было дамоўлена аб правядзеньні міжнароднай палітычнай канфэрэнцыі (якую мы ўжо рыхтавалі) на тэму аб небясьпецы гэбізму ва Ўсходняй Эўропе. Канфэрэнцыя мусіла быць у Вашынгтоне. Падрыхтоўка ішла поўным ходам, і раптам, без тлумачэньня прычын, была абарвана амэрыканскім бокам.

Прычыны сталі зразумелыя потым, пасьля выбараў у Расеі, калі да Пуціна ланцужком пацягнуліся заходнія лідары (Тоні Блэр і ўсе астатнія), каб выказаць сваю павагу і віншаваньні новаму гэбоўскаму прэзыдэнту РФ.

Мы лішні раз пераканаліся, што філісьцерства і чэмбэрленаўшчына ў заходняй палітыцы незьнішчальныя і што дачыненьні Эўропы зь Беларусяй будуць ня простыя.

Гэбізм – гэта абсалютная ўлада КГБ над грамадзтвам і краінай, дзе КГБ зьяўляецца адначасна і групай улады, і супэрпартыяй на дзяржаўным бюджэце з тайнай агентурай, палітыкай і кантролем над людзьмі. У чыстым выглядзе такой сістэмы не было ніколі нідзе. (Сістэма гітлераўскай Нямеччыны пераклікалася з сістэмай сталінізма і структурай КПСС-КГБ).

Сучасны гэбізм ня мае дэфінітыўна выробленай ідэалёгіі і гатовы ўжываць нават ідэалягічныя сурагаты, каб схаваць рэальны сэнс сваёй дзейнасьці (які і ёсьць яго ідэалёгіяй). Гэты сэнс – узбагачэньне палітычных групаў улады шляхам прыватызацыі дзяржавы, ўлады і эксплуатацыі чалавечых, эканамічных і прыродных рэсурсаў краіны. Палітыка гэбізму – рускі імпэрыялізм. Галоўны прынцып палітыкі – русіфікацыя.

Як у Расеі, так і ў Беларусі, улада гэбізму антынародная і прыводзіць да дэградацыі грамадзтва. Толькі ў Беларусі яна яшчэ ёсьць таксама выяўленьнем расейскай імпэрскай агрэсіўнасьці і праводзіць палітыку пасьлядоўнага антыбеларусізму ва ўсіх сфэрах культурна-нацыянальнага жыцьця.

Асаблівы накірунак гэбісцкага разбурэньня ў Беларусі (і за мяжой) – гэта зьнішчэньне беларускай грамадзянскай супольнасьці і элімінацыя актыўных стваральных асобаў гэтай супольнасьці. Па вялікаму кошту, вядзецца вайна супраць беларускага народа і ўсяго беларускага.

Выпрацаваны цэлы шэраг прыёмаў разбурэньня нацыянальнага грамадзтва і ўплыву на актыўных асобаў. Шырока распаўсюджаная практыка (перанятая НКВД яшчэ ад расейскай жандармэрыі) стварэньня падстаўных партый і палітычна-культурніцкіх арганізацый агентурай КГБ. У 90-х гадах, акрамя Фронта і БСДГ (якую стварыў Фронт), усе партыі ў Беларусі былі створаны пры ўдзеле агентуры.

Удзел гэтых партыяў у псэўдаапазыцыі – абгрунтаваная зьява.

Пасьля расколу БНФ пад уплыў агентуры масава патрапіла актыўная моладзь. Агентурай гэбэ былі створаныя цэлыя маладзёвыя арганізацыі (найбольш вядомая – "Зубр"), дзе практыкавалася эклектыка і псэўдакаштоўнасьці.

Шырока распаўсюджаны і распрацаваны гэбоўскі прыём пранікненьня, інфільтрацыі, ачольваньня і захопу ўжо існуючых арганізацыяў, альбо новых, ствараемых структур. Эфэкт ад гэтай разбуральнай працы ў грамадзкіх, культурніцкіх, рэлігійных і іншых непалітычных арганізацыях часам уражвае сваёй выніковасьцю і шакуе пры гэтым бездапаможнасьцю звыклых людзей.

НТС (Народно-трудовой союз) – вядомая руская антыбальшавіцкая белагвардзейская арганізацыя на Захадзе – была захоплена агентурай шляхам мэтадычнага пранікненьня ў яе структуры на працягу пэўнага часу і ператворана ў прасавецкую структуру.

Моцныя пазыцыі (ідэйныя, матэрыяльныя і арганізацыйныя) займала на Захадзе руская праваслаўная Зарубежная царква. Агентура была бясьсільнай. Але вось абваліўся СССР, адчыніліся памежныя шлюзы, праз якія на Захад масава хлынулі розныя людзі. 16 гадоў спатрэбілася гэбоўскай расейскай агентуры ў сутанах і без сутанаў, каб раздрабіць Зарубежную царкву знутры, перасварыць, перабраць ключавыя пазыцыі і фармальна (з захаваньнем аўтаноміі) далучыць “незыблемый оплот православия” да Маскоўскага Патрыярхату і РПЦ.

У Беларусі за 18 гадоў рэжыму працэс гэбізацыі (інфільтрацыі) асноўных грамадзкіх арганізацыяў даўно завершаны, прытым грамадзтва пра гэта часам нават не здагадваецца. (Цяпер актыўна адбываецца гэбоўская арганізацыйная дзейнасьць у эміграцыі, прытым лапідарнымі і грубымі мэтадамі.)

Каб разумець гэбізм знутры і бачыць вайну, якая вядзецца супраць беларускага грамадзтва, і, там больш ёй супрацьстаяць, трэба валодаць не бытавым узроўнем думаньня, а палітычным, не саўковай сьведамасьцю, а нацыянальнай. На жаль, маем, што маем.

Цяпер гэбісцкая агентура (асабліва на Захадзе) часам нават не хаваецца (гэтаму ёсьць прычыны). Ды і выявіць яе нескладана, дастаткова звычайнага палітычнага вопыту. К. Прэабражэнскі, напрыклад, гаворачы пра гэбісцкія прапагандысцкія (ці дэзінфармацыйныя) кампаніі на Захадзе, якія ажыцьцяўляюцца звычайна праз агентуру шляхам подкупаў журналістаў і цэлых газэт, адзначае як характэрную прыкмету агентурнай работы частую паўтараемасьць адных і тых жа формул і тэзісаў. Гёбельсаўшчына пазнаецца адразу. Тое ж і ва ўнутранным ужытку. Выявіць гаворачага (дыскутуючага) агента можна імгненна па тэставых палажэньнях і фразах, якія ён кажа (павінен казаць). Такіх тэстаў існуе цэлы набор (імі яго ўзброіла кантора). Часам цікава, нават камічна, назіраць, як такога стукача засылаюць праз уцякацтва на Захад, як ён “лажыцца на дно” і на некалькі гадоў зьнікае, апотым ціхенька ўсплывае дзе-небудзь на Белсаце ці радыё Свабода, ці ў якім-небудзь псэўда-беларускім псэўда-офісе “за дэмакратыю”, ці Белдоме ды піша заяву на паступленьне ў Раду БНР і г. д.

Цывілізаваны сьвет ўступае ў інфармацыйную эпоху. Роля і ўплыў прапаганды, інфармацыі і дэзінфармацыі ў гэты час узрастае шматкроць. Гэта зброя, за якую йдзе змаганьне палітычных сіл, ўлады і спэцслужбаў. Той, хто валодае манаполіяй на СМІ, той уплывае на працэсы, той здольны выйграць вайну, нават калі гэта вайна з уласным народам.

Для сярэднестатыстычнага інтэлектуала, які карыстаецца СМІ, магчыма цяжка было б пераварыць, калі б ён даведаўся, што сродкі масавай інфармацыі (акрамя Сеціва) у Беларусі і Расеі знаходзяцца пад кантролем гэбізму. Ня мае значэньня дэмакратычны антураж -- уся справа ў характары праектаў і функцыях, якія яны выконваюць.

Выяўляецца гэта не на падставе нейкіх “звестак”, але найперш на аснове аналізу з улікам палітычнага вопыту, таму што агентурная праца ў СМІ абявязкова праяўляецца праз мэтодыку і паўторы пэўных прапагандысцкіх (дэзінфармацыйных) палажэньняў. Агентура тут ніяк (ў прынцыпе) ня можа закамуфлявацца. Яна абавязкова будзе выяўлена тымі, хто адсочвае і прафэсійна аналізуе такія выкіды ў СМІ. Ёсьць людзі, напрыклад, якія на працягу дваццаці гадоў пастаянна “ўзьнікаюць” ў розных месцах (прытым розныя асобы, у тым ліку вядомыя) і кажуць, пішуць, прамаўляюць аднолькавыя  дэзінфармацыйныя нарыхтоўкі пра Беларускі Народны Фронт, Курапаты (сакральныя зьявы беларускага вызвольнага змаганьня), пра Незалежнасьць ды канкрэтныя падзеі. Яны паўтараюць нарыхтоўкі хлусьні (ці яе мадыфікацыі), нават тады, калі даўно вядома, што гэта дэзінфармацыя, прыкідваюцца

былымі ўдзельнікамі БНФ, плакальшчыкамі за Беларусь, маралізатарамі, нават даўнімі сябрамі, прыхільнікамі і пацярпелымі ад рэжыму, заклікаюць да адзінства “ўсіх сіл”, ўздымаюцца над полем бітвы і т. п. камуфляж, які не хавае сутнасьць, але толькі падкрэсьлівае мэтодыку.

Захад ня тое што недацэньвае магчымасьці рускага гэбізму, ён яго, як звычайна, не разумее і, больш таго не ў стане разумець. У Расеі створана ўлада спэцслужбаў, дзе ўсёй ўнутранай палітыкай займаецца ФСБ а ўсёй зьнешняй СВР (Служба Внешней Разведкі). У любых дачыненьнях расейцы ня могуць пазьбегнуць кантактаў (не абавязкова ўсьвядомленых) з гэтымі ворганамі з прычыны шырокай інфільтрацыі ў грамадзкія адносіны прадстаўнікоў гэтай арганізацыі і поўнага кантролю КГБ над грамадзтвам. Уплыў рускай агентуры, лабіяваньня, дыпляматыі значна павялічыўся на Захадзе пасьля распаду СССР. Рускі бізнэс на Захадзе цалкам падкантрольны спэцслужбам, але эўрапалітыкам з абмежаваным заходнім думаньнем зразумець такое цяжка (расейцы зь іх проста сьмяюцца). Уплыў гэбізму ў Эўразвязе відаць няўзброеным вокам для ўсіх. Вынікі часам проста ўражваюць. Беспакараны тэрарызм (Літвіненка, Яньдарбі), агентурны кантроль над першымі асобамі улады (Шродэр, Прунскене, Паксас), пранікненьне працягваецца на віду ў грамадзтва, якое там яшчэ менш разумее, што адбываецца, чым грамадзтва ў Беларусі.

**Бесаўшчына**

Са зьяўленьнем Інтэрнэту ўзьнікла цэлая прапагандысцкая сфэра дзейнасьці для спэцслужбаў. Створаныя старонкі, парталы, рэсурсы, якія на розныя лады вядуць падрыўную працу супраць Беларусі. Значныя гэбоўскія сілы кінутыя на “бесаўшчыну”.

Задача гэбоўскага “беса” (троля -- на заходні лад), які выступае пад псэўданімам, пісаць у камэнтарах, псаваць атмасфэру, гадзіць на ўсё беларускае, на вялікіх людзей Беларусі (на Быкава, Купалу, Каліноўскага, Скарыну...), ахайваць усё, ілгаць, хлусіць, ілгаць і зьневажаць, не нясучы ніякай адказнасьці.

Бесаўшчына – новая зьява ў нашым сацыяльным жыцьці. Зьявілася яна з разьвіцьцём Інтэрнэту. Гэта ананімна легалізаванае зло ў сутнасным (г. зн. прыроджаным) выглядзе. Раней такога не існавала. Бесаўшчына была, але яна не была легалізавана. Інтэрнэт легалізаваў бесаў. Вядзе бесаўшчыну і прафэсійна яе падтрымлівае агентура КГБ. Выступаць у ролі падонкаў ёсьць там самавыяўленьне і платная служба для некаторых асоб.

Што такое “бесаўшчына” ведае кожны, хто карыстаецца Сецівам. Прывяду усё ж характэрны прыклад – нэкралог, на сьмерць Сяргея Вітушкі -- сьціплага, светлага чалавека, які жыў для Беларусі. Ён памёр 1 ліпеня 2012 года. Назаўтра гэбоўскі бес на старонцы (http://sapiens.by/gosdep-brosil-agenta-umirat-v-vilnyuse) зьмясьціў нэкралог на сьмерць Сяргея. **“Госдеп бросил агента умирать в Вильнюсе.** *Сегодня утром в вильнюсской больнице скончался Сергей Витушко. Он был руководителем нелегальной минской организации “Толоки” – одной из первых полуподпольных преступных организаций во времена СССР. Он долго тяжело болел диабетом, и после эмиграции в “цивилизованные страны” потерял зрение и ногу. Под руководством Витушки “Талака” долго занималась преступной и антибелорусской деятельностью на деньги заграничных спонсоров. Ее активисты участвовали в многих несанкционированных мероприятиях, которые неоднократно пресекались правоохранительными органами: оскверняли могилы, поддерживали ультраправые молодежные движения, разрушали памятники советской эпохи.*

*Погибший преступник жил в Вильнюсе, работал в “белорусской” школе, приторговывал физиономией на радио и телевидении. Фанатизм Сергея победил здравый рассудок и потеряв зрение он организовывал “слепые экскурсии” для белорусов по временно оккупированной белорусской территории Вильно, а так же продолжал писать “творческие” произведения, о которых знали исключительно спонсоры*.”

Для бесаўшчыны не існуе крытэрыяў ні жыцьця, ні сьмерці – нічога чалавечага. У канстытуцыях шмат якіх краінаў (у тым ліку нават у савецкай) адзначана як крымінальнае злачынства прапаганда “нацыянальнай нянавісьці (розьні)”, “вайны” і іншых антычалавечых зьяваў. Разьвіцьцё электронных магчымасьцяў дзеля пашырэньня нянавісьці і зьяўленьня новых формаў зла вымушае даць ім кваліфікацыю і дэфініцыю у заканадаўстве. Тое чым займаецца КГБ па атручваньні чалавечага асяроддзя ў форме бесаўшчыны не мае ніякіх дачыненьняў да свабоды асобы і правоў чалавека. Гэта ёсьць злачынства супраць экалогіі міжлюдзкага існаваньня. Катэгорыя дакладна асэнсоўваецца і фармулюецца правам. У вольнай Беларусі гэбоўская бесаўшчына перастане існаваць (разам з КГБ).

**Пэрспэктывы вырашэньня праблемы**

Шкоду, разбурэньне і зло, якія прынёс чалавецтву і нашаму народу КГБ (і працягвае тое рабіць), цяжка апісаць і асэнсаваць. На гэтай рэпрэсіўнай і палітычнай структуры вісяць злачынствы супраць чалавецтва і супраць беларускага народа, нявінная кроў мільёнаў загубленых жыцьцяў, замучаных, закатаваных людзей, сьветачаў нацыі, мастацтва, літаратуры і ўсёй беларускай культуры. Гэта нельга забыць, гэтага нельга даравацць і пакінуць без пакараньня. Цяпер існуе гэбізм, улада нечысьці, і яны думаюць, што так будзе вечна. Але вечна так ня будзе.

Будзе сьветлая вольная Беларусь. Пытаньне часу. У мяне не ўзьнікае сумненьняў, што КГБ мусіць быць расфармаваны і ліквідаваны дазваньня.

Падыход да злачынцаў КГБ, якія нішчылі беларусаў, усё беларускае і зьдзекваліся зь людзей, павінен быць строгі. Судзіць іх мусіць асобны беларускі трыбунал. Зь бюджэту КГБ і з канфіскацыі катэджаў гэбоўскага начальства, пабудаваных на няшчасьці беларусаў, неабходна будзе выплаціць кампэнсацыю ўсім палітвязьням і ўсім несправядліва асуджаным людзям за часы подлай гэбісцкай улады.

Беларусы ўсіх іх памятаюць. Гэбізм мусіць быць асуджаны як антычалавечая зьява. Усялякае адбельваньне гэбізму і ўсхваленьне яго павінна перасьледвацца па закону.

Ня думаю, таксама, што будучая беларуская ўлада стане па-бальшавіцку часаць усіх гэбістаў пад адзін грэбень. Мяркую, што адказнасьць настане толькі пасьля доказу віны, будзе індывідуальны падыход на падставе закона і ўлік прафэсіяналізму, але тое, што ўся гэбоўская структура мусіць быць расфармавана і ліквідавана – тое не выклікае сумненьня.

Наступным крокам пасьля суду мусіла б быць люстрацыя. Люстрацыя патрэбная дзеля справядлівасьці і аздараўленьня грамадзтва. У Беларусі яна будзе неабходна (абавязкова) найперш, як мэтад пазбаўленьня ад расейскай агентуры ў КГБ і ў нашым грамадзтве (бо пасьля публічнага выяўленьня агентуры яна ўжо не агентура; маса людзей пазбавіцца залежнасьці ад чужой спэцслужбы).

У вольнай Беларусі будзе створана новая служба бясьпекі, залежная ад закону, падпарадкаваная ўраду і падсправаздачная парляманту. Яна ня будзе нішчыць грамадзян краіны і перасьледваць іх за думкі і палітычныя погляды, тым больш за беларускую культуру і размову па-беларуску.

На сёньняшні дзень істотна рэальна зразумець, што за сацыяльна-палітычная сістэма і што за тып улады ўтварыўся ў Беларусі і Расеі, якія між імі дачыненьні і залежнасьць, якая мэта гэтае ўлады. Залежнасьць антыбеларускага рэжыму ад Масквы ёсьць мэтанакіраваная і штучна створаная. Яна зьяўляецца адной з прычын таго, што рэжым праводзіць у Беларусі тыповую акупацыйную палітыку, якая рэалізуецца ў хамскай беларусафобнай форме. Масква знайшла адпаведнага сабе сатрапа і будзе старацца падтрымліваць яго пастаянна.

Гісторыя чытае беларусам жорсткую лекцыю аб тым, што можа стацца з грамадзтвам, якое траціць нацыянальны гонар і павагу да самага сябе – да мовы,

культуры, гісторыі. Гэта лекцыя, навука для людзей, якія думалі, што можна жыць толькі матэрыяльнымі інтарэсамі, існаваць індывідуальна, ня дбаючы пра калектыўную справу, дзяржаву, народ, культуру і нацыю.

Мы павінны, мусім асэнсоўваць гэты цяжкі час ужо цяпер, каб наблізіць будучыню, бо нельга нічога зрабіць, калі невядома, што ёсьць, што адбываецца і як з гэтым змагацца.

Час царызму і расейскай акупацыі быў для нас трагічным (пагібель паўстаньняў, вынішчэньне культуры). Час расейскага камунізму і савецкай акупацыі быў для нас апакаліптычным (генацыд, падзел краіны, мільёны забітых, выбіваньне эліты, адабраньне ў сялян зямлі, бязбожжа), цяперашні час цемры, час гэбізму застанецца ў нашай гісторыі (як я мяркую) часам ганьбы, часам ганебным. (Гэта калі вораг нікчэмны, а мы бясьсільныя. Цярпеньне ад нікчэмнасьці ёсьць ганебным.) Гэта страшней нават за апакаліпсіс і сьмерць.

Але час цемры таксама скончыцца. Мы мусім зразумець яго сэнс.

*18 студзень 2013 г.* Зянон Пазьняк

# ДЭМАКРАТЫЯ

Дэмакратыя – гэта форма ўлады, структуру якой фармуе ўвесь народ альбо асобная яго група шляхам выбараў альбо дэлегаваньня прадстаўнікоў.

Дэмакратычная форма ўлады спрыяе індывідуальнай рэалізацыі асобы і разьвіцьцю грамадзкай супольнасьці, прадугледжвае свабоду і вольнасьць грамадзяніна.

Дэмакратыя дала магчымасьць у некаторых краінах стварыць якаснае сацыяльнае забесьпячэньне і забясьпечаную старасьць, падтрымаць інвалідаў, адукацыю і творчасьць, яна стымулявала здаровую канкурэнцыю вытворчасьці і разьвіцьцё эфэктыўнай сельскай гаспадаркі.

Адначасна дэмакратычная форма ўлады спрыяе павелічэньню энтрапіі, разбурэньню грамадзкага парадку, прыводзіць да страты кантролю над антыграмадзкімі, дэградуючымі працэсамі, пры крызісных абставінах вядзе да аслабленьня і разбурэньня дзяржавы (Рэч Паспалітая, Вялікае Княства Літоўскае, Ноўгарад, Грэцыя, Рым).

Дэмакратыя ёсьць форма ўлады мірнага часу. Такая якасьць дэмакратыі ўлічана ў заканадаўстве бальшыні краінаў дэмакратычнага сьвету. На пэрыяд вайны шмат якія прынцыпы дэмакратыі перастаюць дзейнічаць. Паўната безагаворачнай ўлады (і, у прынцыпе, дыктатарскай) пераходзіць да прэзыдэнта ці прэм'ер-міністра, ці іншай уладнай асобы. Прадугледжана ваеннае становішча, дыктатарскія законы ваеннага часу і г. д.

Разуменьне такой неабходнасьці прышло не адразу нават ў Афінах (радзіме дэмакратыі). Беларусь (ВКЛ) і Польшча – найстарэйшыя дэмакратыі ў хрысьціянскім сьвеце -- дзьвесьце гадоў таму, фактычна, загінулі як дзяржавы ад сваёй неабмежаванай шляхецкай дэмакратыі. І часта было, што маскоўская арда ўжо тапталася па Вялікім Княстве, а войска ВКЛ чакала збору і паседжаньня Сойму дзяржавы, які мусіў прызначыць гэтмана польнага, гэтманаў правай і левай рукі. Я не кажу ўжо пра Liberum Veto ў Рэчы Паспалітай.

Дэмакратыя зьвязана з грамадзкімі ідэямі, з пануючай формай уласнасьці і формай грамадзкай вытворчасьці. Рынкавая эканоміка і дачыненьні найлепш рэалізуюцца ў палітычнай сістэме дэмакратыі. У сучасным сьвеце дэмакратычная форма ўлады адпавядае характару вытворчых адносін, але па сваёй анталагічнай сутнасьці – гэта шчарбатая («збочаная» па Арыстоцелю) сістэма кіраваньня, якая пры пэўных абставінах прыводзіць да ўпадку і дэзарганізацыі грамадзтва. Паводле У. Чэрчыля – гэта дрэнная форма, але лепшай не прыдумалі.

Вяршыні дэмакратыі пэрыяду капіталізма і нацыянальных дзяржаў – гэта **амэрыканская дэмакратыя**, заснаваная на ідэі асабістай свабоды асобы і на рынкавай эканоміцы, і **эўрапейская дэмакратыя**, заснаваная на ідэі народнай свабоды, роўнасьці, братэрства і на рынкавай эканоміцы.

У выбарчай сістэме ўсеагульнай дэмакратыі, якая не прадугледжвае абмежаваньняў і выбарчых цэнзаў, закладзена сістэмная магчымасьць маральнай дэградацыі грамадзтва і ўлады. Гэта ёсьць ахілесавая пята дэмакратыі і зьвязана яна з прынцыпамі дэмакратычнага змаганьня за ўладу ў час выбараў. Змагаючыся за галасы выбаршчыкаў, прэтэндэнты на ўладу (у залежнасьці ад асабістага ўзроўню і характару) могуць апэляваць да маргінальных і антыграмадзкіх групаў людзей, абяцаючы ім падтрымку, каб атрымаць галасы. Такім чынам у сістэме татальнай выбарнай дэмакратыі закладзены магчымасьці, якія легалізуюць дэструктыўныя, адсталыя, збочаныя, паразітныя і зусім нікчэмныя зьявы грамадзтва – адкіды разьвіцьця, уводзяць іх у сістэму ўлады, у інфармацыйныя інстытуты, якія ўплываюць на ўсё грамадзтва, у сістэму асьветы і інш., падтрымліваюць прыняцьцем дэструктыўных (часта антыграмадзкіх) законаў і палажэньняў.

Пачынаючы з 1960-х гадоў мінулага стагоддзя, і амэрыканская, і эўрапейская дэмакратыі зьмянілі ідэалёгію і ўступілі ў паласу сістэмнага і родавага крызісу як дэмакратыі левага лібэралізму альбо левалібэральныя дэмакратыі.

**Левалібэральная дэмакратыя** заснавана на касмапалітычнай ідэі прыярытэту правоў чалавека, на касмапалітычнай ідэі мультыкультурнага фармаваньня грамадзтва і на лібэральных прынцыпах эканомікі, якія прадугледжваюць прыярытэт эканомікі перад дзяржаўнай уладай.

Лібэральная дэмакратыя ў цэлым як крызісны этап дэмакратыі, павязаная з новымі формамі інфармацыі, выклікае каласальнае павелічэньне энтрапіі за кошт стварэньня сістэмы лібэральных антыкаштоўнасьцяў, галоўнымі зь якіх ёсьць антыхрысьціянства і рэлятывізм, які сьцірае межы паміж дабром і злом, зманам і ісьцінай, дэградацыяй і разьвіцьцём, прыродай і хімерай.

Левалібэральная дэмакратыя сфармавалася ў выніку спалучэньня маргінальных левых ідэй з прынцыпамі дэмакратыі і рынкавай эканомікі.

У левалібэральнай дэмакратыі эканамічным таварам становяцца не высокія таленты асобы, а нізкія заганы, злачынствы і збачэнствы, не хараство, а брыдота. Нават дурнота шырока прадаецца і набывае свой рынак. Назіраецца люмпэнізацыя насельніцтва. У выніку адбываецца рэзкі ўпадак культуры. Незапатрабаваным робіцца мастацтва, зьнікаюць яго віды, дэградуе мараль, прымітывізуецца асоба.

Усё гэта – складнікі глыбокага духоўнага крызісу, хуткага выхаду зь якога, практычна, не бывае, калі будзе пяройдзена мяжа невяртаньня. Становішча абцяжарана тым больш тлеючым глабальным крызісам насычэньня сусьветнага тапарнага рынку, выйсьця зь якога таксама яшчэ не відаць.

Павелічэньне энтрапіі правакуе сама рынкавая эканоміка, але пры левалібэралізме ідэалогія псэўдадэмакратыі разьвіваецца сама па сабе і ўплывае на паступовую дэзарганізацыю грамадзтва.

У апошнія 25 гадоў (з уваходам вытворчасьці ў электронную эру) істотным чыньнікам энтрапіі стала рэзкае павелічэньне хуткасьці перамен. Дынаміка вытворчасьці зраўнялася з пэрыядам засваеньня новых тэхналёгій і стала пераганяць спажывецкія магчымасьці. Тэндэнцыя разьвіваецца як усеагульны працэс.

У сфэры транспарту (лакамоцыі) рэзкае павелічэньне хуткасьці прывяло да новага (малакантралюемага) адчуваньня прасторы і часу. У сфэры інфармацыі вытворчасьць яе перадачы шматкроць перабольшыла магчымасьць успрыняцьця. У сацыяльна-культурнай сфэры (у выніку паскарэньня і сьцісканьня дэмаграфічнай дынамікі) разрыў паміж пакаленьнямі у межах адной сям'і дасягнуў крытычнай мяжы. Перадача культуры абцяжарваецца і, практычна, спыняецца нават ў дачыненьнях бацькоў і дзяцей. Траціцца адчуваньне (і разуменьне) гістарызму культуры. Усё паглынае цяпершчына, за якой чалавек ужо не пасьпявае. Такую дэмадынаміку як меру хуткасьці перамен трэба разглядаць як асобную катэгорыю працэсаў, выкліканых рынкавай эканомікай і кансумэнцкім, лібэральным спосабам спажываньня.

Далей аб пэрспэктыве сусьветнай дэмакратыі можна казаць толькі ўмоўна

Практычна, працэс спаўзаньня ў дэмакратычным сьвеце магло б спыніць духоўнае нацыянальнае адраджэньне як агульнацывілізацыйнае рушэньне. На сёньняшні дзень альтэрнатывай крызісу і рэгрэсу ёсьць толькі ідэя адраджэньня Хрысьціянства. Але гэта якраз тая ідэя, якую не шануе левалібэральная дэмакратыя.

Фармальна спаўзаньне да маральнай катастрофы магла б (мяркуючы тэарэтычна) часова прытармазіць (але не ўратаваць) такая хірургічная апэрацыя лібэральнай дэмакратыі, як шырока ўвасобленая дыктатура, дыктатарская сістэма ўлады. (Гэтым карыстаўся Рым, хоць тое яго і не ўратавала.) Зразумела, што сэнс тут у тым, каб пасьля дыктатуры і санацыі пачалося новае духоўнае дэмакратычнае адраджэньне, а не карупцыйная алігархія і ня люмпэнская ахлакратыя. Прытым трэба ўсьведамляць, што дыктатура ў такіх выпадках нясе з сабой абмежаваньне свабоды,

перасьлед, рэпрэсіі і сьмерць. Нармальнасьць дасягаецца часам вялікай, крывавай цаной (характэрны прыклад дыктатура Пінача ў Чылі). Гэта варыянт для Эўропы ўмоўны і не рэальны.

І трэці варыянт -- катастрафічны. Гэта глабальная вайна, па маштабу -- кшталту 2-й Сусьветнай. Магчымасьць такога варыянту павялічваецца якраз тады, калі пераход мяжы невяртаньня адбудзецца, і новы сусьветны тавар ня зьявіцца. Тады ўсе працэсы будуць "працаваць" на катастрофу. І яна мусіла б стаць.

Зразумела, што тут я выказваю толькі меркаваньні (спэкуляцыі), разглядаю варыянтнасьць. Але яна зыходзіць з відочных тэндэнцыяў структурнага разьвіцьця грамадзтва і падмацавана ўжо гістарычным вопытам людзей. Гэтага дастаткова, каб адысьці ад прапаганды і самарэклямы цяперашняга грамадзтва і паставіцца сур'ёзна да праблемаў і плыняў сучаснага сьвету. Асабліва дбаючы пра прышласьць нашай дарагой Беларусі.

*8 ліпеня 2013 г.* Зянон Пазьняк

# ДЭМАРАЛІЗАЦЫЯ ВЫТВОРЧАСЬЦІ

Лібэральная эканоміка, якая ляжыць у аснове лібэральнай дэмакратыі, і ўвогуле рынкавая таварная вытворчасьць, якая здольная каласальна разьвіць вытворчыя сілы, заснаваная аднак на заганным асэнсаваньні і выкарыстаньні працы. (Пераасэнсаваньне адбылося ў пэрыяд пратэстанцтва, калі праца стала ўжывацца не для задавальненьня патрэбаў, а дзеля нічым не абмежаванага ўзбагачэньня.)

Такое выкарыстаньне працы ў працэсе разьвіцьця грамадзтва прадугледжвае:

а) хуткае разьвіцьцё вытворчасьці;
б) хуткае насычэньне рынку;
в) канкурэнцыю;
г) манапалізацыю;
д) неабмежаваную эксплуатацыю працоўных людзей;
е) дэмаралізацыю вытворчасьці;
ж) карупцыю.

З палажэньнямі а, б, в, г, д чалавецтва, прайшоўшы праз войны, кроў, зьдзек і вынішчэньне, ужо больш-менш парадзіла. Палажэньні е і ж (яны ўзаемазьвязаныя) цяпер хутка пашыраюцца, і эфэктыўных мэтадаў змаганьня пакуль няма.

Дэмаралізацыя вытворчасьці абумоўлена асэнсаваньнем працы асобай з няўстойлівымі маральнымі каштоўнасьцямі і вынікае з сутнасьці рынка. Выяўляецца ў эканамічным пабуджэньні рабіць недабраякасныя тавары дзеля дасягненьня прыбытку і выжываньню ў канкурэнцыі. Рынак ужо ня ў стане кантраляваць гэты працэс. Асноўны цяжар кладзецца на дзяржаўныя і грамадзкія інстытуты. Адпаведна назіраецца рост карупцыі, якая прагрэсіруе разам з фальшывым таварным рынкам, які ў галіне сельгаспрадукцыі і медыцыны ўжо стварае паважную пагрозу людзям.

***Ліпень 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# ДЫКТАТУРА

Дыктатура – гэта абсалютная ўлада адной асобы альбо групы асобаў, якія абапіраюцца на права ўлады і самы гэтае права сцьвярджаюць і фармулююць у законах, дзеяньнях і распараджэньнях. Дыктатура – гэта ня выверт, ня збочанасьць палітыкі, а сістэма ўлады, легітымнай альбо нелегітымнай, якая мае выбраную апору ў грамадзтве і абслугоўвае сама сябе і пэўныя грамадзка-эканамічныя і палітычныя групы ўнутры краіны, альбо за яе межамі.

Дыктатура можа набываць санацыйныя функцыі. Яе зьяўленьне можа адбыцца ў любым месцы, дзе ёсьць крызіс улады, а грамадзтва перажывае эканамічныя цяжкасьці альбо заведзена ў тупік. Дыктатура тады выступае ў ролі выратавальніка народа і пэўны час можа такой нават здавацца (хоць і не абавязкова), бо дыктатура падтрымлівае сама сябе, і галоўны інстынкт дыктатуры -- захаваньне сваёй ўлады.

Фармаваньне дыктатуры ў сучасным сьвеце адбываецца, як правіла, з выкарыстаньнем мэханізму дэмакратыі, дзеля легітымізацыі аднаасобнай (альбо групавой) ўлады.

Дыктатура часта бывае партыйная, мафійная (карпаратыўная), нацыянальная, клерыкальная (тэакратычная), ваенная, паліцэйская, акупацыйная і інш. Пры гэтым яна, як правіла, аўтарытарная.

**Партыйная дыктатура** – гэта тады, калі ўладу ў краіне захоплівае адна партыя, якая зьнішчае ўсе астатнія партыі, а ўладу ў гэтай партыі захоплівае група партыі, якая вылучае дыктатара. Гэта схема камуна-фашысцкіх дыктатур.

**Мафійная дыктатура** – гэта калі абсалютную ўладу захоплівае мафійная (карпаратыўная) група, якая вылучае дыктатара. Такая дыктатура небясьпечная для народа і дзяржавы, паколькі выкарыстоўвае іх як прыватную ўласнасьць.

**Нацыянальная дыктатура** – гэта калі дыктатар і палітычная сіла, якая за ім стаіць, імкнуцца дзейнічаць у інтарэсах нацыі. На пэўным этапе ўлада нацыянальнай дыктатуры можа супадаць з інтарэсамі дзяржавы і народа (абарончая вайна, навядзеньне парадку пасьля грамадзкага развалу, рэформы і інш.).

У далейшым такая сістэма становіцца тормазам нацыянальнага разьвіцьця, бо не заснавана на свабодзе і не стымулюе свабоднае выяўленьне вытворчых і асобасных магчымасьцяў людзей.

У сучасным сьвеце і мафійная, і нацыянальная дыктатуры найбольш верагодныя і даўгавечныя ў рэсурсных краінах (прыклады: Расея, краіны Сярэдняй Азіі і Лацінскай Амэрыкі). Тут яны зьяўляюцца па сутнасьці **гібрыднымі** (нацыянальна-мафійнымі) рэжымамі (альбо становяцца імі ў працэсе функцыянаваньня).

Небясьпечная для людзей ёсьць **тэакратыя** (цяпер даволі рэдкая). Але найбольш разбуральная для дзяржавы, нацыі і людзей – гэта **акупацыйная дыктатура,** калі ўладу захоплівае асоба ці група асобаў, залежныя ад іншай дзяржавы, пры падтрымцы і пад ціскам улады гэтай дзяржавы, якая (маніпулюючы дыктатарам і дыктуючы палітыку) здабывае такім чынам свае мэты і ўплывы ў краіне, ня ўводзячы войска.

Існаваньне такой дыктатуры абазначае доўгатэрміновую падрыхтоўку інкарпарацыі шляхам падрыву і вынішчэньня нацыянальнай культуры і самасьвядомасьці падуладнага народа.

Акупацыйная дыктатура стварае рэжым унутранай акупацыі і поўнасьцю альбо часткова праводзіць акупацыйную палітыку ў краіне.

Характэрным прыкладам акупацыйнай дыктатуры зьяўляецца рэжым Лукашэнкі ў Рэспубліцы Беларусь. Акупацыйная ўнутранная палітыка тут праводзіцца найперш у сфэры свабодаў і правоў грамадзян і нацыянальных каштоўнасьцяў, якія мэтанакіравана і мэтадычна зьнішчаюцца. (Ліквідацыя беларускай школы, творчых саюзаў, беларускага друку, кнігавыданьня, беларускага радыё і тэлебачаньня, грамадзянскай супольнасьці, дэмакратычных выбараў, пасьлядоўнае нішчэньне

беларускай мовы і русіфікацыя, ліквідацыя нацыянальных сымвалаў дзяржавы, фальсіфікацыя нацыянальнай гісторыі, рэпрэсіі па рэлігійнай прыкмеце і г. д.)

Аднак па нашай класіфікацыі рэжым ў Беларусі ёсьць **гібрыдам** акупацыйнай і мафійнай дыктатур. Гэта найбольш злавесны вараянт, бо прыводзіць да духоўнага, культурнага і матэрыяльна-дэмаграфічнага выпусташэньня нацыі, фактычна, становіцца чыньнікам нацыянальнай пагібелі.

Акупацыйны рэжым выкарыстоўвае закон як сродак ўціску, рабаваньня і абмежаваньня, але не як сродак парадку і справядлівасьці і трактуе народ як акупаванае насельніцтва з правамі якога можна не лічыцца. Істотна таксама, што ў цяперашнім антыбеларускім рэжыме, практычна, адсутнічае вольная эканоміка, прыватная ўласнасьць, уласнасьць на зямлю і г. д. Дэмакратыя для людзей без уласнасьці – абстрактная катэгорыя.

Дэмакратычныя мэтады барацьбы за дэмакратыю ў акупацыйнай дыктатуры неэфэктыўныя і маюць мала сэнсу, таму што ўлада не выконвае свае законы, але выкарыстоўвае заканадаўства дзеля рэпрэсій. Пры акупацыйным рэжыме рэальных выбарчых дэмакратычных працэдураў няма (існуюць толькі імітацыі і прафанацыі працэдур). Таму акупацыйную дыктатуру можна абрынуць грамадзкай сілай (але не ўдзелам ў рэжымных сцэнарах, не гульнёй ў прафанацыі). Грамадзкая сіла першым чынам мусіла б імкнуцца ліквідаваць выбарчыя прафанацыі і рэпрэсіўнае заканадаўства.

Акупацыйная дыктатура ў Беларусі – зьява нетыповая для гэтай часткі сьвету, а для беларусаў, фактычна, трагічная. Рэальным вынікам яе можа стаць ліквідацыя дзяржавы і хуткае зьнішчэньне беларускай нацыі.

Абсалютная канцэнтрацыя ўсёй ўлады ў руках адной асобы абцяжарана поўнай залежнасьцю яе ад Масквы і шчыльным кантролем Крамля над аўтарытарнай палітыкай рэжыму. Злавеснасьць гэтай схемы ў тым, што ўвесь сэнс існаваньня ў ёй дыктатара – гэта любым спосабам захаваць уладу. І Масква тое разумее. Дзеля захаваньня ўлады Лукашэнка пойдзе на ўсё (тут паталогія), тым больш на нацыянальнае нішчэньне беларускага народа (што і адбываецца), які для яго чужы і не ўяўляе каштоўнасьці. Масква выкарыстоўвае становішча, каб ціснучы на Лукашэнку, і пагражаючы яму стратай ўлады, рабіць сваю акупацыйную палітыку ў Беларусі ягонымі рукамі.

У гэтай злавеснай схеме неверагодным здаецца, што адзін цёмны суб'ект можа нацыянальна зьнішчыць цэлы народ. Але гэта рэальнасьць, якая разгортваецца ва ўсіх на вачах.

Адначасна тут ёсьць і слабое зьвяно схемы. Яна развальваецца як толькі зьнікае аўтарытарны суб'ект улады. Магчымасьць прымяненьня дэмакратычных тэхналёгіяў для зьмены вярхоўнай улады ў Беларусі ліквідаваная. У такіх умовах, як выхад, можа ўзьнікнуць толькі радыкальнае рашэньне. Але легітымна і радыкальным чынам пазбавіцца ад дыктатара, улада якога пагражае нацыянальнаму існаваньню народа, можа толькі сам народ агульным рушэньнем і шляхам рэвалюцыі. Усе астатнія радыкальныя мэтады ёсьць крымінал, які можа толькі пагоршыць становішча.

Аднак які б не рабіць агляд магчымасьцяў выхаду народа з пасткі, у якую яго ўштурхнулі, рэальным застаецца статус-кво – штодзённае існаваньне антынацыянальнай акупацыйнай дыктатуры. У гэтым рэальным стане абавязкова павінна быць праца на будучыню – палітычныя, грамадзкія, асьветніцкія, прафэсійныя, культурніцкія, творчыя групы, асобы і арганізацыі, усьведамленыя адной Нацыянальнай (беларускай) ідэяй. Мусіць існаваць нават хоць малая грамадзянская супольнасьць і паралельны антыакупацыйны беларускі сьвет, дзе нацыянальнае асьветніцтва і ўжываньне нацыянальнай мовы ёсьць галоўнай прэрагатывай.

Гэта ўсё ёсьць найважнейшы чыньнік нацыянальнага існаваньня і нацыянальнай будучыні, бо пры дыктатуры (якая ёсьць закрытай сістэмай улады) не магчымыя дакладныя і адэкватныя прагнозы пераменаў. Яны, як правіла, адбываюцца

непадрыхтавана, часам спантанна і нават нечакана. Грамадзтва мусіць быць заўсёды структурна гатовым да зьмен, да ўключэньня ў падзеі, каб адна дыктатура не зьмянілася на іншую, каб грамадзтва магло выйсьці на шлях волі.

* * *

Пасьпяховае змаганьне супраць дыктатуры павінна грунтавацца на моцнай нацыянальнай ідэі. Сэнс ёсьць у барацьбе за нацыянальную свабоду і выратаваньне беларускай нацыі ад зьнішчэньня антынародным рэжымам. Тут **-- у нацыянальнай ідэі --** ёсьць грунт для канцэнтрацыі сілы, плошча апоры і барацьбы.

***9 ліпеня 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# ІНТЫМНЫ СЬВЕТ

*Свабода -- вялікая каштоўнасьць,*
*Якая неабходная чалавеку і ўсяму жывому.*
*Свабода -- гэта свая тэрыторыя, свая зямля, свой народ,*
*Свая праца, свая творчасьць і свой плён.*
*Найвялікшая свабода -- любоў.*
*І калі нічога няма,*
*Але ёсьць думка аб свабодзе, -- свабода жыве.*
*І толькі калі зьнікае думка,*
*Памірае свабода і застаецца раб.*

Чалавек мае моцныя прыродныя інстынкты, на якіх пабудаванае яго існаваньне. Гэта, перш за ўсё, інкстынкт жыцьця і інстынкт прадаўжэньня роду. Сюды ж – інстынкт мацярынства і бацькоўства. Інстынкты праяўляюцца незалежна ад волі чалавека і зьяўляюцца абавязкамі, накладзенымі на яго прыродай, альбо дакладней, Богам цераз праграму разьвіцьця.

У адрозьненьне ад жывёлы, чалавек мае свабодную волю, мае магчымасьць выбару і фармальна можа адмовіцца ад абавязку (інстынкту), але ён гэтага ня робіць, бо ажыцьцяўляць іх – добра. (Жыць добра нават калі вельмі цяжка.) Калі чалавек усё ж адмаўляецца ад абавязку, то гэта разглядаецца як гвалт над прыродай альбо як ненармальнасьць, альбо як злачынства перад Богам.

Чалавек валодае таксама набытымі інстынктамі, якія склаліся ў выніку культурнага разьвіцьця і зафіксаваныя, як звычкі, схільнасьці, манеры і т. п. рэглямэнтаваныя рэакцыі і паводзіны. Гэтыя інстынкты, аднак, могуць быць страчаны на працягу аднаго пакаленьня разам са зьменай культурных абставінаў. Тым ня менш ёсьць такія дачыненьні, якія разьвіліся на аснове прыродных схільнасьцяў да набытага інкстынту культуры, бо праяўляюцца паўсюдна на Зямлі, практычна ў любым чалавечым грамадзтве, якое стварыла культуру.

Гэта ёсьць дачыненьні, якія ўтвараюць **інтымны сьвет** чалавека. Інтымны сьвет асобы зьвязаны з палавой функцыяй і інстынктам працягу роду, датычыць кожнага чалавека, поўнасьцю рэалізуецца ва ўзаемадачыненьнях мужчыны і жанчыны ў форме сям'і.

Інтымны сьвет – гэта такая вобласьць існаваньня чалавека, якая датычыць толькі канкрэтных мужчыны і жанчыны. Ніхто ня мае права ўмешвацца ў гэты сьвет. Ён не дэманструецца прылюдна. Пра яго ня кажацца іншым, тым больш публічна. Спрацоўвае абарончае пачуцьцё сораму і набытае пачуцьцё самазахаваньня ўнутранай свабоды.

Інтымны сьвет ёсьць **вобласьць свабоды** кожнага канкрэтнага чалавека, прызнаная культурным грамадзтвам і ўсьвядомленая асобай, як таямніца, якая не раскрываецца іншым і зьнешняму сьвету, інакш яна перастае быць таямніцай і асоба траціць свабоду. Абарона таямніцы інтымнага сьвету ёсьць набытым **інстынктам культуры.**

Нават пры вельмі цяжкіх умовах жыцьця, калі адсутнічае сацыяльная пэрспэктыва і ўсялякая сацыяльная свабода, але калі не парушаны інтымны сьвет сям'і, людзі, нават самыя простыя, маюць радасьць і сэнс існаваньня. І жыцьцё не здаецца ім сумным і безнадзейным. Ім хапае той мінімальнай свабоды і падтрымкі, якія дае ім свой, да мінімуму абмежаваны свабодны сьвет. Гэта, дарэчы, разумелі яшчэ старажытныя японцы ды кітайцы, адлюстроўвалі тое ў сваіх творах і філасофскіх думках (Кан-Фу-Цы і інш.). Сьвет інтымнай свабоды, падтрыманы любовяй, можа стаць асновый шчасьця чалавека ў розных абставінах жыцьця.

Зламаньне таямніцы інтымнага сьвету (дэманстрацыя і спавешчаньне для ўсіх), які належыць толькі канкрэтным асобам – мужчыне і жанчыне – самымі гэтымі асобамі прыводзіць да дэградацыі дачыненьняў і дэмаралізацыі асобы.

Адмаўленьне ад інтымнай свабоды ёсьць актам бескультур'я і суправаджаецца, як правіла, бессаромнасьцю, цынізмам, распустай, жорсткасьцю, дэманстрацыяй

дурноты, непавагай да іншага чалавека і іншымі заганамі, якія нішчаць асобу і дух чалавека, прыносяць пакуты людзям.

У лібэральным грамадзтве, якое стварыла рынкі паскудзтва і чалавечых заган, разбурэньне інтымнага сьвету выяўляецца на публічным узроўні і падтрымліваецца living рознымі групамі, спасылыючыся на свабоду слова, “правы чалавека” і т. п.  Часам назіраецца адкрытае ўцяканьне ад інтымнай свабоды дзеля грошай ці задавальненьня схільнасьцяў сапсаванага розуму. У культурным грамадзтве інтымны сьвет чалавека (сям'і) павінен быць абаронены законам. Але трэба памятаць, што ў здаровай супольнасьці культурная традыцыя мацнейшая за закон.

*Ліпень 2013 г.* Зянон Пазьняк

# ЛАХМАНЫ

Люмпэн – гэта бедныя групы грамадзтва ў Рыме, якія ня мелі маёмасьці, уласнасьці, жыльля і, як правіла, нідзе не працавалі, папрашайнічалі, кралі, маглі напасьці на чалавека з-за адзежы ці яды, зьбіваліся ў кучы, бадзяліся па мільённым Рыме і галёкалі: “Хлеба і відовішчаў!”

Настроі і голад люмпэнаў вымушаныя былі ўлічваць правіцелі Рыма. Бальшавікі называлі люмпэн “дэклясаванымі элемэнтамі”.

Сацыяльны «люмпэн» (лацінскае “лахманы”) спараджае любое сацыяльнае грамадзтва, бо заўсёды ёсьць людзі няшчасныя, а яшчэ больш, якія ня хочуць працаваць, нічога рабіць, а толькі бадзяцца.

Люмпэн, аднак, хутчэй множыцца ў такіх грамадзтвах, дзе мала парадку і шмат уяўнай свабоды, а грамадзтва ня беднае. Люмпэн ні да чаго не прывязаны: ні да маёмасьці, ні да абавязкаў (якіх у яго няма), ні да перакананьняў. Тут вольная (на самай справе паразітная) сацыяльная вегетацыя.

У XX стагоддзі тэрмін “люмпэн” стаў пашырацца на іншыя групы насельніцтва, якія валодалі якасьцямі люмпэна. Пры саветах часам казалі “люмпэн-інтэлігенцыя”. Гэта пра тых людзей, якія, атрымаўшы вышэйшую адукацыю, ішлі працаваць на прымітыўную ручную працу, бо там больш плацілі. (Рабочы ў СССР атрымліваў у 2-3 разы большы заробак, чым інжэнер.) Але гэта быў вымушаны крок у выніку збочанай эканамічнай палітыкі. Асобную сацыяльную групу гэты пласт люмпэн-інтэлігенцыі не стварыў.

У канцы XX стагоддзя тэрмін “люмпэн” пераносіцца ў сьветапоглядную сфэру па аналёгіі прыкметаў з сацыяльным люмпэнам. Гэта значыць сацыяльнае “вегетаваньне”, адсутнасьць усялякіх духоўных, палітычных, нацыянальных і культурных інтарэсаў, акрамя мінімальнага дабрабыту і спадзяваньня на сацыяльную дапамогу дзяржавы. У дачыненьні да такіх людзей слова «люмпэн» (альбо «савецкі люмпен») пачынае ўжывацца ў пераносным сэнсе

У СССР «савецкі люмпэн» (люмпэн ў пераносным сэнсе) узьнік як вынік сацыяльна-эканамічнай палітыкі саветаў і таталітарызму камуна-партыйнай сістэмы. Савецкі люмпэн, як і ўсе ў СССР, ня меў прыватнай уласнасьці і задавольваўся мінімумам: дзяржаўная кватэра, дзяржаўная праца, зарплата, пасьля працы – вольны час выпіць гарэлкі, схадзіць на футбол і паглядзець тэлевізар. Больш не было ніякіх інтарэсаў, поглядаў, жаданьняў і магчымасьцяў. Гэта было добрае для іх прывычнае жыцьцё.

Асноўны лёзунг савецкага люмпэна: “Нікуды ня лезь і нічога не рабі!” Асноўнае пытаньне да дзяржавы, да начальства, палітыкаў: “А што вы нам дасьцё?”

Клясычных люмпэнаў у той час у СССР сталі называць “бамжамі” (гэта значыць “бяз месца жыхарства”). Гэтых лахманоў у СССР было няшмат. Але пасьля развалу СССР колькасьць іх ва ўсіх краінах нашмат павялічылася.

Лукашысцкі люмпэн у падрэжымнай Беларусі -- гэта працяг савецкага, толькі больш абмежаваны і запалоханы. Заходняя мадыфікацыя маладога люмпэна знаходзіць тут пэўнае ўвасабленьне ў “гопніках”, якія (у адрозьненьне ад амэрыканскіх масаў) менш крыклівыя, але, бадай, ці ня больш нематывавана агрэсіўныя.

Заўважана адчувальная люмпэнізацыя сьвядомасьці сярод маладога пакаленьня беларусаў, вырашчанага пры антыбеларускім рэжыме – катастрафічнае звужэньне ведаў, абвальны упадак этыкі і культуры, адсутнасьць ідэалаў, грамадзкіх і нацыянальных інтарэсаў, ня ведаюць сваёй мовы, духоўны вакуум. Характэрныя рысы – абыякавасьць да ўсяго акрамя сябе; пры гэтым не імкнуцца стаць дарослымі, пазьбягаюць адказнасьці, самасцьвярджэньне набывае інфантыльныя формы. Ўсё гэта першасныя вынікі рэжымнай палітыкі масавай дэнацыяналізацыі, закрыцьця сацыяльных пэрспэктыў. Нават па параўнаньні з савецкім ўзроўнем гэта крок ў бездань.

На Захадзе (асабліва ў ЗША) клясычны люмпэн дастаткова заўважны. Частка зь іх – гэта няшчасныя людзі, якія страцілі сацыяльную волю да жыцьця і апусьціліся, ня вытрымаўшы жорсткіх абставінаў капіталізму. Большая частка – гэта наркаманы, гультаі, бадзягі, жабракі.

На Захадзе таксама адбываецца фактычнае пераасэнсаваньне тэрміну “люмпэн” і перанос паняцьця ў сьветапоглядную і этычна-культурную сфэру. У гэтым сэнсе тут разьвіваецца каласальны і шырокі працэс люмпэнізацыі грамадзтва (найперш ў ЗША), які па маштабах, відаць, пераўзыходзіць усё, што адбывалася з масавай прымітывізацыяй людзей у сацыяльных сістэмах да гэтага часу.

Характэрнасьць масавага амэрыканскага люмпэну, якім перапоўненыя вялікія гарады, -- адмаўленьне ад прыстойнасьці, ад культурных і звычаёвых табу. Зьнешне яны імкнуцца быць падобнымі на клясычных “лахманоў” і апранаюцца падкрэсьлена абы як, носяць нейкія выпадковыя “шмоткі”, майкі, трусы, шлёпанцы, у якіх не выходзяць на вуліцу нармальныя і прыстойныя людзі. Кабеты ходзяць у ніжняй бялізьне, часта эпатажна паказваючы тлустыя вісячыя жываты, ягадзіцы і іншыя натуралістычныя часткі цела. (Трэба ўлічыць, што зьнешні выгляд, як правіла, выяўляе ўнутраны зьмест чалавека.) Гэтак яны дэманструюць сваё разуменьне свабоды і дачыненьні да сэксу, які ў ЗША (у адрозьненьне, напрыклад, ад Расеі) носіць рацыянальны характар. У сэнсе накірунку думак, грамадзтва заходніх лахманоў зацыклена на сэксе. Сродкі масавай інфармацыі, маскультура, таварны рынак і т.п. падтрымліваюць гэты “цыклоз”. Лахманоў ў Амэрыцы так шмат, што яны ўжо даўно не вылучаюцца з масы, і ніхто тут ўжо ні на каго не зьвяртае ўвагі, нават калі б хто ракам хадзіў. Гэта было б яго “правам чалавека”, абы закон не парушаў.

Акрамя крайняга духоўнага прымітывізму, амэрыканскі люмпэн у большай ступені, чым эўрапейскі, характарызуецца, практычна, поўнай адсутнасьцю веды пра акаляючы сьвет, геаграфію, гісторыю, ня кажучы ўжо пра космас. І нічым не цікавіцца. Тэлевізар тут не дапамагае, а наадварот, робіць зь люмпэна балваноў, бо на TV дэманструюцца ў асноўным тупыя забаўляльныя праграмы, якія “лахманы” толькі і глядзяць. Многія зь іх могуць зь цяжкасьцю лічыць толькі да ста (але ня больш), а пра табліцу множаньня нават не пытайце. Праз аднаго яны ходзяць са слухаўкамі на вушах, выдатна валодаюць сучаснымі мабільнымі тэлефонамі, “плеерамі” і іншымі электроннымі дрындушкамі.

Амэрыканскі люмпэн – гэта зьява, якая трапіла ў поле зроку беларускіх дасьледчыкаў (В. Зайка). Люмпэны ўжо сталі істотна ўплываць на грамадзтва.

Як і рымскі клясычны, і савецкі люмпэн, заходнія “лахманы” (якіх маса) – гэта вынік сацыяльна-эканамічнай і ідэалягічнай сістэмы, якая (у асноўным) альбо дае магчымасьць паразітаваць на сацыяльнай дапамозе дзяржавы і на падтрымцы іншых людзей, альбо атупляе чалавека кансумэнцкай ідэалёгіяй і прапагандай настолькі, што заганяе яго ў “вегетатыўнае” гета, у якім ён ізалюецца ад шырокага сьвету і жыве сваімі прымітыўнамі, часьцей за ўсё збочанымі, патрэбамі.

Увогуле духоўная люмпэнізацыя грамадзтва – гэта вялікая сацыяльная праблема. Вольная Беларусь атрымае яе ў спадчыну ўжо ад двух рэжымаў (савецкага і лукашысцкага). Мяркуючы пра будучыню краіны, трэба абавязкова ўлічваць гэты аспэкт грамадзтва, асабліва плянуючы сістэму нацыянальнай адукацыі, асьветы і выхаваньня.

***9 ліпеня 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# ЛІБЭРАЛІЗМ

Лібэралізм – гэта ідэалёгія бізнэсоўцаў, прадпрыймальнікаў, гандляроў, адвакатаў і ўсёй буржуазіі, якая зацікаўлена ў вольным рынку, гандлі і прадпрыймальніцтве без дыктату дзяржаўнай улады. Але паколькі без дзяржавы не абыдзешся, то дзяржава павінна быць на службе рынкавых і прыбытковых інтарэсаў. Гэтакая схема ў прынцыпе застаецца увесь час. Але тут існуе яшчэ трэцяя сіла – гэта ўвесь астатні народ. Узаемадачыненьні гэтых трох сілаў і спарадзілі ўсе множнасьці лібэралізму.

Галоўная сутнасьць лібэралізму – прыярытэт бізнэсу і эканамічных дачыненьняў перад дзяржавай. Палітычная сістэма, якая забясьпечвае сутнасьць лібэралізму, ёсьць дэмакратыя.

Палітычная ідэалёгія лібэралізму набывала розную афарбоўку ў залежнасьці ад таго, якія сілы далучаліся да сістэмы. У ХХ стагоддзі (асабліва пасьля 1-й і 2-й Сусьветных войнаў) у лібэральную дзяржаву з галавой увайшла эўрапейская сацыял-дэмакратыя, сацыялісты і інш. накірункі сацыялізму. Адсюль і ўся лібэральная левізна. Зьявіліся нават мадыфікацыі лібэральнай эканомікі па сацыял-дэмакратычных мадэлях (скандынаўскія краіны і інш.). Гэта значыць высокія падаткі і шырокая сістэма сацыяльнага забесьпячэньня пры дамінуючай прыватнай уласнасьці.

У палітычнай сфэры зьяўляюцца новыя каштоўнасьці (правы чалавека, прыярытэт этнічным мяншыням, непарушнасьць межаў, прыярытэт асобы перад дзяржавай і інш.). Адначасна махрова расьцьвітае палітычная і ідэалягічная дэмагогія, пачынаюцца бунты моладзі, разбураецца старая каляніяльная сістэма. Павялічваюцца ідэі інтэграцыі Эўропы, прымаюцца эміграцыйныя праграмы мультыкультуралізму. Старая Эўропа марыла аб таннай рабочай сіле з калоній і спадзявалася мець пад рукой свой дзяржаўны хатні каланіялізм.

З гэтага, аднак, нічога не атрымалася, акрамя ўзьнікненьня мільённых масаў экзатычнага люмпэну ў краінах Эўропы, які не інтэгруецца і ў прынцыпе не настроены на інтэграцыю, ствараючы ў Эўропе базы свайго традыцыйнага жыцьця і будучай экспансіі. Лявацка-лібэральныя ўлады пры гэтым імкнуцца скарыстаць ісламізацыю Эўропы для барацьбы са сваім адвечным ворагам – Хрысьціянствам, не праймаючыся (а магчыма і не ўсьведамляючы), што разам з Хрысьціянствам можа загінуць і Эўропа. Такая палітыка спарадзіла сацыяльныя і культурныя праблемы, якія пастаянна нарастаюць.

Крызіс лібэралізму быў яшчэ не заўважальны, пакуль існаваў СССР, які змушаў Захад да пэўнай абаронча мабілізацыі ва ўсіх сфэрах жыцьця.

Пасьля распаду СССР на нейкі момант стварылася ідэйна-палітычная пустата. Яна была хутка пераадолена ідэяй эўрапейскай інтэграцыі, якая мабілізавала Эўропу вакол адной справы.

Пасьля прыёму ў Эўразьвяз краінаў былой савецкай зоны з Усходняй Эўропы палітычны ўздым прыпыніўся і прыкметы ідэйна-палітычнага крызісу сталі бачны няўзброеным вокам. Неўзабаве таксама пачаўся глябальны эканамічна-фінансавы крызіс усёй сістэмы лібэралізму. Ён тлее і будзе паўтарацца.

Ідэйна-палітычны крызіс лібэралізму выкліканы чарговым пранікненьнем у яго сістэму ідэяў і асобаў сацыялістычнага і камуністычнага накірункаў. Да распаду СССР гэтыя ідэі і сілы працавалі ў асноўным на Савецкі Саюз і мелі адтуль датацыі. Пасьля распаду ўся тая публіка (разам з агентурай, са сваімі навыкамі і поглядамі) апынулася ў структурах Эўразьвязу і нават заняла там кіруючыя пасады. Левыя ідэі і людзі найбольш паўплывалі на прыняцьце лізбонскіх дакумантаў ды на ўсю бязбожную пазыцыю Эўразьвязу.

Увогуле палітычная мэтодыка Эўразьвязу пачала нечым нагадваць Савецкі Саюз. Сістэма класічнай дэмакратыі, заснаваная на законах, свабодзе асобы і выбарнасьці ўлады, пачала падмяняцца ідэалогіяй «лібэральных каштоўнасьцяў»,

якімі, у выніку пашырэньня каштоўнасных групаў, пачалі выматываць грамадзтва, імкнучыся прывесьці ўсіх пад адзіны назоўнік (тыповыя паняцьці і падыходы лявацтва).

Ажывіліся ўсе крайнія погляды лібэралізму, а дактрына правоў чалавека даведзена ўжо да абсурду. Амаль адкрыта дэманструецца непрыняцьце ўсялякіх нацыянальна-культурных ідэй, маніфэстуецца падтрымка палавых дэвіантаў, нехрысьціянскіх рэлігіяў і перасьлед хрысьціянства. (Апошняя пазыцыя вельмі вымоўная, што да ідэалёгіі і сутнасьці ўлады).

Левалібэральны ўхіл, які назіраецца ўжо больш за чвэрць стагоддзя ў Эўразьвязе, сьведчыць пра вельмі сумніўную дэмакратыю ў гэтай палітыцы. Фактычна, на нашых вачах адбываецца левалібэральны крызіс дэмакратыі, які павінен быў бы прывесьці да істотных зьменаў ва ўсёй сістэме дэмакратыі і эўрапейскага лібэралізму.

***9 ліпеня 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# СЯМ’Я

Прыступаючы да фармулёўкі дэфініцыі пра сям’ю, хацелася б мне напісаць пра сярэднявечную беларускую (ліцьвінскую) сям’ю ў Вялікім Княстве Літоўскім, асабліва пра сялянскую. Гэта была на той час увогуле адметная зьява ў хрысьціянскім сьвеце – школа дабрыні, працы, маральнасьці і выхаваньня. Пра беларускую сям’ю пакінулі запіскі шмат якія падарожнікі, пачынаючы з XVI стагоддзя, даючы ёй высокую ацэнку і не хаваючы ўражаньняў. Невыпадкова, што (пачынаючы са старажытнасьці і аж да канца XIX стагоддзя) існаваў звычай, калі беларускія паны, шляхта аддавалі сваіх дзяцей у сялянскія сем’і на дзядзькаваньне, каб навучыліся шанаваць працу людзей і традыцыі.

Але гэта тэма спэцыяльнага разгляду і не для нашага слоўнікавага азначэньня.

Сям’я і дзяржава гэта ёсьць найвышэйшыя цывілізацыйныя супольнасьці, створаныя людзьмі ў працэсе гістарычнага разьвіцьця чалавецтва.

Сям’я зьяўляецца інстытутам працягу роду чалавечага, крыніцай гарманічнага выхаваньня і разьвіцьця асобы, інструмэнтам натуральнай перадачы культуры.

Калі дзяржава – гэта форма цывілізацыі, то сям’я зьяўляецца яе асновай.

Сям’я гэта ёсьць маленькая царква з усімі падобнымі атрыбутамі: каханьнем паміж мужам і жонкай, любовяй, дабрынёй і пашанай паміж усімі сямейнікамі, павагай да старэйшых і да гаспадара сям’і, клопатам аб дзецях – замілаваньнем да малых і выхаваньнем падрастаючых і падлеткаў.

Сям’я трымалася традыцыяў і агульных маральных каштоўнасьцяў, якія перадаваліся з пакаленьня ў пакаленьне. Такой была беларуская сям’я, якую я памятаю ў дзяцінстве і маладосьці нават яшчэ за савецкім часам.

Мэнтальна і маральна беларуская нацыя ў часе акупацыяў і выпрабаваньняў трымалася на сям’і. Сям’я была ў той час інстытутам, важнейшым за дзяржаву. Бо дзяржава тады была не свая, чужая, нават варожая, а сям’я – свая.

Савецкі акупацыйны камунізм адабраў прыватную ўласнасьць і падарваў матэрыяльныя асновы сям’і сваім правілам “сацыялізму” “ад кожнага па здольнасьцях, кожнаму – па працы”. Кожны мог зарабіць толькі на сябе. Сям’я не прымалася пад увагу. Гэта адмоўна адбілася перш за ўсё на выхаваньні і на колькасьці дзяцей.

Другой прычынай дэфармацыі і зьмяншэньня сям’і (найперш у гарадах) была жорстка абмежаваная і строга рэглямэнтаваная палітыка жыльлёвага будаўніцтва. Людзям проста не было дзе жыць у рэпрадуктыўным узросьце.

Тым ня менш ні бальшавіцкая палітыка, ні сістэма прапаганды не былі накіраваныя на разбурэньне сям’і як інстытута супольнасьці. Наадварот, рабіліся касмэтычныя захады па яе нібыта ўмацаваньні. Камуністы не адмаўлялі каштоўнасьці сям’і (за выключэньнем першых гадоў савецкай улады і міжваенных вывертаў).

Тым часам левалібэральныя ідэі і праявы скасабочанай рэчаіснасьці як на Захадзе, так і ў Расеі і іншых краінах накіраваныя якраз на ліквідацыю інстытута сям’і і замену яе “свабоднымі партнёрскімі адносінамі” мужчыны і жанчыны, дзе зьместам “адносінаў” зьяўляецца не любоў і абавязкі перад дзецьмі, а палавы акт. Вакол палавога акту (“сэксу”) круціцца і ўся лібэральная гаворка пра дачыненьні “партнёраў”.

У барацьбе супраць хрысьціянскай сям’і створаныя нават сацыяльныя хімеры – рэгістрацыя сумеснага жыцьця палавых збачэнцаў аднаго полу (пэдэрастаў і лесбаў), якім прызначаны сацыяльныя льготы і выплаты (за кошт нармальных людзей) і правы на адаптацыю чужых дзяцей.

Мне прыходзілася ўжо ня раз зьвяртаць увагу на тое, што з усіх левардыкальных маргінальных ідэй і ідэалёгій пры ўвасабленьні іх у структуры грамадзтва і палітыку найбольш разбуральным для цывілізацыі (поруч з камунізмам) зьяўляецца левы лібэралізм. Камунізм абмяжоўвае, запалохвае і фізічна зьнішчае асобу (генацыд, тэрор). Лібэралізм разбурае саму Боскую, прыродную і культурную

сутнасьць чалавека,ператвараючы яго дух у неадэкватную люмпэнізаваную сьведамасьць, няздольную да стваральнага існаваньня.

У краінах з антынароднымі рэжымамі (Расея, Беларусь, Украіна і інш.) афіцыйна не падтрымліваюцца лібэральныя збачэнствы і прапаганда супраць прыроды чалавека (прымаюцца нават адпаведныя законы), аднак на справе (інфармацыя, Сеціва, маскультура, друк) гэтая прапаганда ня спынена, а так званая афіцыйная крытыка мае бессаромны характар, бо самы начальнікі рэжыму публічна дэманструюць сваю амаральнасьць, непавагу да сям'і і прыстойнасьці.

Гаворачы пра абарону і падтрымку сям'і, мы думаем адначасна і аб адраджэньні Беларусі. Інстытут сям'і – гэта наш вялікі гуманітарны і нацыянальны скарб, якасна роўнага якому не было ні ў Эўропе, ні ў Расеі. Адраджэньне, падтрымка і разьвіцьцё гэтага інстытуту ёсьць грамадзкая задача нацыі, яна ў інтарэсах людзей Беларусі.

Будучыня нашай краіны ня можа базавацца на паняцьцях заходняга індывідуалізму, на прымітыўнай дактрыне прыярытэту правоў чалавека і рэлятывісцкай аргумэнтацыі сумніўных каштоўнасьцяў, бо мы ёсьць іншымі, наш гістарычны дэмакратычны вопыт ёсьць старэйшы, а каштоўнасьці лепшыя ў чалавечым вымярэньні.

Найперш нагадаю, што не правы чалавека цяпер галоўныя для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо няма правоў чалавека пад акупацыяй (пад антыбеларускім рэжымам).

Дзеля гарманічнага разьвіцьця нашага грамадзтва патрэбнае забесьпячэньне яго галоўных каштоўнасьцяў, дасканала адлюстраванае ў заканадаўстве. У будучай сьветлай, нармальнай, дэмакратычнай Беларусі правы сям'і, правы народа (нацыі, дзяржавы) і правы чалавека будуць (не сумняваюся) грунтоўна забясьпечаны, распрацаваныя ўсе прыярытэты і парытэты дачыненьняў ў грамадзтве.

Праўнае вызначэньне правоў і абавязкаў на аснове вызначэньняў парытэту і прыярытэтаў павінна будзе зроблена ў дачыненьні трыяды: **дзяржава – сям'я – асоба**. Мы бачым у гэтым юрыдычным і сацыяльна-палітычным полі сям'ю як асноўную каштоўнасьць грамадзтва. У сямейных дачыненьнях прыярытэт мае сям'я. Дзяржава ня можа ўмешвацца ў сямейнае выхаваньне дзяцей. Па сям'і мусіць быць распрацавана новае асобнае заканадаўства, якое прадугледжвала б абарону сям'і, яе нармальнае функцыянаваньне і разьвіцьцё, яе правы, абавязкі і магчымасьці. Асноўныя сродкі будуць укладвацца не ў "спэцназ" і КГБ, а ў сям'ю і адукацыю. Будуць перагледжаны падаткі і стандарты будаўніцтва жыльля, сістэма адукацыі і дашкольнага выхаваньня з улікам магчымасьцяў і інтарэсаў сям'і, а таксама пэнсійнае заканадаўства (бо задача аднавіць вялікую, здаровую сям'ю, у якой робіцца ўсё лягчэй, асабліва выхаваньне дзяцей). Інтарэсы сям'і будуць улічаны ва ўсіх структурах грамадзтва: у медыцыне, на транспарце, у сістэме абслугоўваньня і адпачынку.

Мусіць быць створаны нацыянальны навукова-дасьледчы інстытут сям'і, сямейнай этыкі і выхаваньня. Прапаганда супраць існаваньня сям'і павінна разглядацца як крымінальнае злачынства, нароўні з пагрозай сьмерці асобе, дзеяньнямі на шкоду абараназдольнасьці краіны і т. п.

Узвышэньне і адраджэньне здаровай сям'і і падтрымка сямейных дачыненьняў адпавядае ўяўленьням беларуса аб шчасьці ў грамадзтве. Беларусы часта кажуць: "Шчасьце – гэта калі добра ажаніцца і жонка (муж) ды дзеці – харошыя".

Нашую сьветлую дарагую Бацькаўшчыну мусім будаваць дзеля шчасьця ўсіх людзей.

***3 ліпеня 2013 г.*** **Зянон Пазьняк**

# 2014

## СЛАВА УКРАІНЕ!

Падзеі на Ўкраіне абавязваюць мяне зрабіць гэтую заяву ў дачыненьні да Ўкраіны і Беларусі.

У Кіеве правячая прамаскоўская кліка перайшла рубікон вайны. Пачалі страляць у людзей на Майдане. 22 студзеня забілі пяць чалавек (сярод іх аднаго беларуса). Вяртаньня да мірнага супроцьстаяньня цяпер можа ня быць.

Цяпер калі ўкраінцы адступяць, -- Украіну патопяць ў рэпрэсіях, растопчуць супольнымі сіламі прамаскоўскай улады здрайцаў і пуцінскіх агентаў.

Калі ўкраінцы не адступяць, -- гэта будзе вайна з бандыцкім рэжымам і імпэрскай Масквой.

Масква зацікаўлена ў крывавым канфлікце на Ўкраіне. Тады ў Крамля зьяўляецца магчымасьць ўмяшацца са сваім войскам. Дзеля гэтага яна (нагадваючы пра 15 мільярдаў даляраў крэдыту) штурхае Януковіча да рэпрэсіяў, на расправу, і на карніцкае вырашэньне супроцьстаяньня, але патрабуе тактычна зацягваць час. У асяроддзе пратэстоўцаў Масква накіравала масу сваіх шпіёнаў, правакатараў і тэрарыстаў. Эўразьвяз абмяжоўваецца заявамі і “заклапочанасьцю”.

Лічу абавязковым паведаміць некалькі істотных высноў:

- Рэвалюцыя мусіць мець дакладную, зразумелую ўсім мэту і хутка наступаць.

Страта часу і абарона – сьмерць рэвалюцыі.

- Які б ня быў цяпер выбар украінцаў – ці мірная абарона і, вынікаючы зь яе разгром супраціву народа, ці наступ і верагодная за ім вайна, -- мы, беларусы, мусім сур’ёзна рыхтавацца да падобных пратэстных падзеяў у Беларусі, якія могуць пачацца праз пэўны час.

- Пры варыянце вайны нам, беларусам, неабходна дапамагаць украінцам і падтрымліваць украінскі народ усімі спосабамі ў тым ліку і ўдзелам дабраахвотнікаў, памятаючы, што лёс Беларусі вырашаецца таксама і на Ўкраіне.

- Пры ваенным канфлікце з крамлёўскай Расеяй ні ўкраінцам, ні беларусам ня трэба спадзявацца на Заходнюю Эўропу. Эўропа ня пойдзе супраць Расеі. Абапіраймася на сябе і на свой народ.

- Прадухіленьню маштабнага канфлікту на Ўкраіне мог бы паспрыяць загад аб арышце Януковіча (за ўжываньне зброі супраць народу) і хуткае выкананьне загаду.

Слава Украіне! Жыве Беларусь!

*23 студзеня 2014 г.* **Зянон Пазьняк**

# ВЯРТАЙМАСЯ!

Выказваецца шмат цікавых меркаваньняў, часта супярэчлівых і нават памылковых. Але ўсё гэта не бяда і не прычына для разчараваньня, бо нашыя людзі трапілі (дакладней, іх загналі) у такое становішча, калі, любячы сваю Бацькаўшчыну Беларусь, яны вымушаны нанова адкрываць самых сябе, і нават нанова вывучаць сваю родную мову. Няхай нас гэта не бянтэжыць. Вывучайма сябе. І ня трэба саромецца сваёй датыхчасовай моўнай няведы, бо найперш ня трэба саромецца сваёй любові да Радзімы, ведаючы, што такіх людзей шмат, і ўсе мы вернемся да роднай Беларусі. Наш кліч павінен быць такі: “Вяртаймася!”

Некалі, у 1960-70 гадах сярод казахскай інтэлігенцыі, адарванай ад роднай мовы русіфікацыяй у гарадах, узьнік такі ж покліч: “Вяртаймася!” Гарадзкія сыны казахаў пачалі вывучаць сваю ж мову, вяртацца ў свой народ.

У гэтыя гады, у задушлівы час брэжнеўшчыны, адзначалі ў Менску ў залі тэатра імя Янкі Купалы юбілей нашай знакамітай опэрнай артысткі Ларысы Пампееўны Александроўскай. Выступаюць госьці з усяго СССР. І вось выходзіць на сцэну малады казах і вітае артыстку... на казахскай мове. Доўга гаворыць. Поўная цішыня. А потым казах і кажа па-руску, што калі ён ехаў сюды, яму сябры наказалі: “Гавары на сваёй мове і цябе зразумеюць...”

Памятаю, што гэтае “і цябе зразумеюць” ударыла тады, як токам, і ўся паўнюсенькая афіцыйная заля савецкага мастацкага “істэблішмэнту” узарвалася апладысмэнтамі, устала і ўчыніла авацыю стоячы. Вось такая дзівосная амбівалентнасьць выявілася тады нечакана ў Менску. (Што датычыць Казахстана, то сорак адсоткаў казахаў у выніку русіфікацыі тады ўжо ня ведалі сваёй мовы.

Потым, у 1986 годзе, маладыя казахскія патрыёты зажадалі, каб першым сакратаром ЦК кампартыі Казахстана быў казах, а не расеяц, прысланы з Масквы (як звычайна вялося). Моладзь вышла на вуліцы Алма-Аты, мірна пайшлі да будынка ЦК (ніхто зь іх не выступаў супраць камунізму, ніхто не хуліганіў). І тут неспадзявана на іх накінуліся ўнутранныя войскі рэжыму і КГБ (ўлічыце, што гэта Азія), студэнтаў пабілі, пасеклі сапёрнымі рыдлёўкамі, пакалечылі, тры асобы былі забітыя (гэта па афіцыйных зьвестках на самай справе забітых было шмат), сотні людзей кінулі ў турму.

Вельмі важна было ведаць прыроду расейскага камунізму. Маладыя казахі тады, відаць, яшчэ цалкам таго ня ведалі. Але калі разумець усё глыбей, тады ня будзем зьдзіўляцца, чаму пры адным успамінаньні аб нашай Беларускай мове пачынаюць заходзіцца пенай з роту расейская гэбісцкая агентура і расейскія імпэрскія “дэмакраты”.

Будзьма патрыётамі сваёй Радзімы. Вяртаймася да нашых нацыянальных каштоўнасьцяў, без якіх мы ня зможам існаваць як нацыя і культурны народ. Гэта перш за ўсё – нашая вялікая Беларуская мова; гэта наша вялікая гісторыя, наша старажытная шляхецкая дэмакратыя, наша цывілізацыя ад мора да мора, нашыя сымвалы гэтай цывілізацыі – “Пагоня” і Сьцяг; наша воля, наша беларуская незалежнасьць, якую мы здабылі праз 200 гадоў змаганьня. Гэтыя каштоўнасьці ёсьць наш нацыянальны грунт. Тут мусіць быць адзінства, незалежна ад падзелаў. Калі па нацыянальнай аснове адзінства няма, то няма й салідарнасьці, а значыць няма сілы і складана нешта зьмяніць. Спрэчкі пры разыходжаньні па сутнасных пытаньнях нацыі бессэнсоўныя, бо тое ўжо ня ёсьць спрэчкі прыяцеляў і не дыскусіі сваіх. Асабліва калі ўлічыць, што за такімі пытаньнямі заўсёдыназіраюць і ўмешваюцца і Лубянка, і Крэмль, і Масква.

Патрыятызм правяраецца тады, калі ў палітычных праціўнікаў ёсьць агульныя нацыянальныя каштоўнасьці, якія яны здольныя абараняць разам, калі каштоўнасьці пад пагрозай. Калі такіх агульных нацыянальных каштоўнасьцяў не існуе, то няма і патрыятызму і ніякага адзінства. Ёсьць змаганьне паміж сабой (часам нават коштам нацыянальнай здрады).

Прыклады. У 90-х гадах у Балтыйскіх краінах і камуністы, і антыкамуністычныя народныя франты стаялі на пазыцыях незалежнасьці і прыярытэту нацыянальнай культуры. Гэтыя нацыі лёгка перамаглі, здабылі незалежнасьць і ўсталявалі нацыянальную дэмакратычную ўладу.

У гэты ж час камуністычная ўлада БССР (нашчадкі энкавэдзісцкай партызанкі) былі яра варожыя беларускай незалежнасьці, беларускай мове і культуры. Яны глядзелі на Маскву і падпарадкоўваліся Крамлю. Не існавала каштоўнасьцяў, на якіх можна было пабудаваць адзінства паміж Беларускім Народным Фронтам і камуністычнай уладай БССР супраць Масквы. Каштоўнасьці былі супроцьлеглыя. Камуністычная ўлада БССР адмаўляла Беларускую нацыянальную ідэю, стаяла на баку Масквы за захавньне СССР. Беларускі Народны Фронт грунтаваўся на Нацыянальнай ідэі, стаяў на пазыцыі нацыянальнай незалежнасьці, дэмакратыі і выступаў супраць захаваньня СССР. Прайграўшы Народнаму Фронту барацьбу за незалежнасьць, сэрвільная камуністычная намэнклятура БССР захавала (пры падтрымцы Масквы) уладу над Беларусяй.

Гэты стан чужой антынацыянальнай улады на Беларусі ўжо стаў пэрманэнтным. Нават у туркмэнбашы было нейкае сваё азіяцкае скручанае разуменьне каштоўнасьці туркменцкай нацыі. У гэтых жа цёмных шклоўскіх нашчадкаў НКВД няма нічога, акрамя паталёгіі ўлады і нянавісьці.

Беларускае адзінства магчыма толькі на Нацыянальнай ідэі, на беларускай культуры, на беларускай мове. Прытым нават тады, калі беларусы на ёй не размаўляюць (зь вядомых прычын), але паважаюць яе і ведаюць, што яна ёсьць іхняя мова, што яна ёсьць свая.

Вяртаймася!

Ня трэба баяцца памылак у мове і разважаньнях, бо задача – навучыцца, успомніць сябе, вярнуцца ў будучыню, якую хочуць для нас зачыніць. А тыя грамадзяне Беларусі, што не беларусы па паходжаньню, не глядзіце на Маскву, не прымайце гэтае збочанае статус-кво, што стварылі тут непрыяцелі Беларусі. Дапамагайце беларусам адрадзіцца і ў мове, і ў свабодзе (не перашкаджайце хаця б), бо гэта стане агульнай нашай свабодай. Шлях да яе – праз Беларускае Адраджэньне. Вяртаймася!

Для нас, для беларусаў, нацыянальная мова, як і для бальшыні эўрапейскіх нацый, ёсьць ключ да нацыянальнага адраджэньня, нацыянальнай каштоўнасьцю нумар адзін у існаваньні народа. Гэта ёсьць увогуле аксіёма, пацьверджаная эўрапейскай гісторыяй. Нішчыцелі мовы тым часам апраўдваюцца, што мова, маўляў, на іх думку, ня мае значэньня, нацыя, маўляў, можа існаваць і бяз мовы, і прыводзяць звычайна два выключэньні – Швайцарыю (якая ўвогуле ня нацыя, а дзяржава) і шматпакутную Ірляндыю (якая ў барацьбе з ангельцамі скансалідавалася на каталіцызме). Нават габрэяў прыводзяць у прыклад. Праўда, зусім няўдала, бо габрэям дапамог нацыянальна адрадзіцца магутны нацыянальны рух – сіянізм (нават іўрыт адрадзілі, які ўжо быў амаль мёртвым).

Бездапаможныя “аргуманты” нішчыцеляў мовы ня трэба ўвогуле прымаць пад увагу. Не марнуйма словы і час. Ня будуць беларусы ў сваіх ідэях і змаганьні ні кітайцамі, ні японцамі, ні ірлянцамі, ні габрэямі. Мы можам быць толькі самымі сабой – эўрапейскімі беларусамі, творцамі і нашчадкамі вялікай усходне-эўрапейскай культуры. Вяртаймася!

*20 студзеня 2014 г.* Зянон Пазьняк

# ГЛЯДЗІМ НАПЕРАД

*(Выступ на лютаўскім Сойме 2014 г. Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”)*

Падзеі апошняга часу ў Беларусі і ў сьвеце дазваляюць нам зьверыць нашыя партыйныя пазыцыі і пацьвердзіць іх абгрунтаванасьць. Цяпер ужо, практычна, няма патрэбы шмат тлумачыць пра неабходнасьць ігнараваньня псэўдавыбараў рэжыму. Людзі ў большасьці разумеюць, што выбараў няма і хадзіць на галасаваньне ды галасаваць – ня трэба, бо гэта поўны абсурд, калі нават галасоў ня лічаць. Тым ня менш мы зноў назіраем дзіўныя на першы погляд паводзіны штатных нібыта апазыцыйных структур. Не разумець цяпер, што ўдзел у псэўдавыбарах ёсьць падтрымка рэжыму – ужо немагчыма. Тым ня менш яны ўдзельнічаюць. Пры гэтым міліцыя (ціхуны, гэб’ё і інш.) перашкаджаюць ім праводзіць законную выбарчую агітацыю, хапаюць спадароў Лябедзек ды іншых тыпу “хрысьціянскіх дэмакратаў”, адвозяць у міліцыю, у суд, прысуджаюць штрафы і г.д. У пэўным сэнсе такая роля псэўдаапазыцыі, якая згадзілася быць “задніцай для біцьця”, якраз і адлюстроўвае сутнасьць рэжымных нібыта выбараў. Але па факту – гэта ёсьць ашуканства людзей, зацягваньне выбаршчыкаў у нячыстую справу ў якасьці статыстаў.

На сёньняшні дзень, калі справа з непадтрымкай выбараў рэжыму праясьнілася ўжо для бальшыні актыўных людзей, псэўдаапазыцыйныя структуры выконваюць ролю тыповых штрэйкбрэхераў. Хачу паўтарыць сваё ранейшае сцьвярджэньне, што як толькі пачнецца ў Беларусі новае народнае рушэньне, то гэтых штрэйкбрэхераў абавязкова трэба будзе зьмятаць у першую чаргу і ня даць ім прыліпнуць да народнага руху, бо яны здольныя толькі шкодзіць, калябараваць ды здраджваць. Украінскі вопыт таксама паказвае на неабходнасьць такога падыходу.

Зьнешне выглядае, што падзеі на Украіне не адбіліся на беларускім грамадзтве. Адбываецца працэс асэнсаваньня. Затое нэрвознасьць антыбеларускага рэжыму выяўляецца ў імкненьні запабегчы ўсялякай грамадзкай актыўнасьці ў Беларусі. Глыбока схаваная агентура актывізавалася, пачала публікаваць нібыта рацыянальныя аналітычныя артыкулы пра ўкраінскую рэвалюцыю. Яны пішуць, што народ там паўстаў супраць карупцыі і дрэнных умоваў жыцьця і г.д. “Аналітыка” выканана ў вядомым гэбісцкім стылі: маўляў, гэта ёсьць сацыяльная рэвалюцыя. Галоўнае для іх – адцягнуць думкі беларусаў ад нацыянальнай сутнасьці ўкраінскага змаганьня, ад агрэсіўнай палітыкі Масквы супраць Украіны.

Нэрвовасьць рэжымнай агентуры ў сувязі з рэвалюцыяй на Украіне добра відаць для тых, хто аналізуе агентурныя “пісаньні”, выступы і камэнтары. Даходзіць часам да поўных кур’ёзаў. Адну асобу панесла так, што яна на ўвесь сьвет абазвала беларусаў брыдкімі словамі, хамамі, прымітывамі, беларускую мову дрэннай, беднай, няразьвітай, непатрэбнай і прызналася ў нянавісьці ў стылі Алексіевіч. Словам, адыёзных тыпажоў большае. Нават спадарыню Процьку выцягнулі абараняць разанскага бацюшку, які пагражае нам атамнай вайной. Прытым у апошні час такія “самаспаленьні” йдуць адно за адным. Гэта добры знак. А беларусам трэба спакойна назапашваць сілы.

Украінскі вопыт паказвае, наколькі важна, каб у акупаваным грамадзтве альтэрнатывай рэжыму былі правыя патрыятычныя структуры і сілы. Яны заўсёды бяруць на сябе асноўны цяжар барацьбы.

Але перамагчы антынацыянальны рэжым можа толькі шырокі народны рух, арганізаваны ў масавае наступальнае супраціўленьне. Тым часам палітычныя партыі пры антынародным рэжыме могуць стацца часам перашкодай для адзінства народнага руху (што таксама часткова ілюструе становішча на Украіне).

Самы ж галоўны вопыт, які можна асэнсаваць з украінскай барацьбы – гэта класічны вопыт рэвалюцыі. Пра гэта ўжо пісалася. Рэвалюцыя мусіць хутка дзейнічаць (чыньнік часу) і наступаць. Абарона – сьмерць рэвалюцыі. Нельга стаяць на месцы.

Як і трэба было чакаць, на нашых вачах адбываецца здача Украіны Эўропай, якая імкнецца ўсяляк дамовіцца з Расеяй. Нядаўна эўракамісар Фюле агучыў у Эўрапарляманце тыповую для Эўропы філісьцерскую прапанову ўкраінцам. Маўляў, Эўрамайдан і “апазыцыйныя лідэры” павінны адмежавацца ад радыкальных элемэнтаў. Зважаючы на нікчэмную назіральніцкую пазыцыю Эўразьвязу ў дачыненьні да Украіны, такія сэнтэнцыі, што ўкраінцы яшчэ і “павінны”, выклікаюць толькі ўсьмешку. Але выказваньне вельмі вымоўнае, бо той, хто цікавіцца падзеямі ў Кіеве, ведае: Эўрамайдан трымаецца дзякуючы “Праваму сэктару” (“радыкальным элемэнтам” згодна лаянкі Фюле), а “лідэры апазыцыі” там нічога не вырашаюць. У гэтым сэнсе прапанова Фюле даволі непрыхільная і накіравана на раскол украінскага змаганьня. Мы бачым, як фразы эўрабюракратыі суадносяцца з антыўкраінскай прапагандай з боку Масквы.

Беларускае Адраджэньне ўжо даўно перажыло гэты этап эўрапейскага прагматызму і здрады, зь якой спатыкаецца і яшчэ ня раз сутыкнецца Украіна. Ніколі ня трэба забывацца, што ў 1980 – пачатку 90-х гадоў Заходняя Эўропа была супраць незалежнасьці Беларусі і Украіны. Наша незалежнасьць (і Беларусі, і Украіны) – гэта справа выключна нашай барацьбы, нашай палітыкі і нашых рук. Так павінна быць і далей. І так будзе.

Гістарычныя падзеі, якія адбываюцца на нашых абшарах, у каторы раз вяртаюць нас да сутнаснай ідэі нашага існаваньня ў гэтай частцы сьвету. Балта-Чарнаморская асацыяцыя краінаў ад мора да мора – гэта ёсьць вяртаньне да натуральнага парадку рэчаў, які забясьпечыць краінам Усходняй Эўропы найбольш аптымальнае культурнае, эканамічнае і дэмаграфічнае разьвіцьцё. Мы мусім разумець, што цяпер украінскае змаганьне – гэта і наша змаганьне. Украінская перамога стане нашай перамогай. Беларусам трэба рыхтавацца да барацьбы. Рэжымы тут падобныя, палітыка тут акупацыйная. І за адным і за другім сатрапам стаіць Масква.

Пачынаючы з 2004 года Украіна мела магчымасьць разьвіцьця сваёй нацыянальнай культуры, сьцьвярджэньня ўкраінскай мовы, самаўсьведамленьня нацыі. І хаця ўмовы не былі ідэальнымі, вынікі былі станоўчымі, узмацнела нацыянальная кансалідацыя і культурная ідэнтычнасьць. Украінцы сталі здольнымі салідарна змагацца разам за агульныя народныя ідэалы.

У Беларусі сытуацыя горшая з прычыны асаблівай антынацыянальнай палітыкі акупацыйнага рэжыму. Без нацыянальнай падрыхтоўкі грамадзтва і без падрыхтоўкі нацыянальнай альтэрнатывы выніковага змаганьня з рэжымам ня будзе. Наша Партыя і надалей павінна займацца такой падрыхтоўкай.

Мы разумеем, што існуе толькі адна нацыянальна-адраджэнская Партыя, якая праводзіць нацыянальную палітыку змаганьня з чужым рэжымам – гэта наша Партыя КХП-БНФ. Ва ўмовах антыдэмакратычнага аўтарытарнага кіраваньня, аднак, палітычныя партыі ня маюць вырашальнага значэньня, бо дзейнасьць іх абмежаваная. Галоўны ўпор трэба рабіць на стварэньне грунту для народнага руху супраць антынароднай дыктатуры. Мэтады могуць быць розныя ад палітычных да культурніцкіх, але ўсё павінна быць накіравана на адраджэньне скансалідаванай нацыі і на супраціўленьне антыбеларускай чужынскай палітыцы акупацыйнага рэжыму.

Жыве Беларусь! Жыве з Богам! Слава Айчыне!

*9 лютага 2014 г.* Зянон Пазьняк

# АЙЧЫННАЯ ВАЙНА
# -- ЗБРОЯ НАРОДУ

Тактыка цяперашняга Захаду адносна акупацыі Украіны Масквой была зразумелай адразу, і нават наперад. Але трэба было, каб мінула два тыдні бязвыніковай гаварыльні пра іхную "заклапочанасьць", каб адбылася фактычная анэксія Крыма, каб усім, хто ня ў стане быў разумець, усё стала зразумела. Заходнія палітыкі паводзяць сябе дакладна так, як некалі пры здачы Чэхаславаччыны Гітлеру. І таксама, як той Чэмбэрлен, яны задаволеныя сабой.

Зразумела, што цяперашнія чэмбэрлены вырашылі ўлагодзіць Пуціна (як гэта знаёма!): аддаць яму Крым і абараніць Украіну. Адным словам, і козы жывыя, і ваўкі наеліся. Яны думаюць, што Пуцін супакоіцца на дасягнутым, і тады яны загоняць яго ў "дыялог" з украінцамі, палохаючы санкцыямі. І будуць гаварыць, гаварыць... Гэта іхняя тыповая філісьцерская манера паводзінаў у палітыцы. Яны заўсёды "заклапочаныя"... сваім камфортам.

Калі б такое здарылася, як яны думаюць, то трэба было б адразу распускаць АБСЭ, як поўную непатрэбшчыну ў новай геапалітычнай рэальнасьці. Трэба б было здаць у архіў Гэльсінскія пагадненьні і шэраг іншых актаў, на якіх грунтуецца цяперашні цывілізаваны сьвет у міжнародных адносінах. Зрэшты, такое, відаць, здарыцца, бо ўжо, фактычна, здарылася. Перадзел сьвету пачынаецца.

Першымі зрэагавалі кітайцы, і ўжо падрыхтавалі праект закона аб сібірскіх тэрыторыях і кітайскім грамадзянстве за межамі Кітая. Мяркую, што самы час беларусам падумаць пра вяртаньне сваіх тэрыторыяў і сталіц. Стары часовы парадак у Эўропе бурыцца. Арда, якая ўтварылася на вялікай крыві, ня можа зьнікнуць бяссьледна, але толькі праз вялікую кроў. Каб гэтага ня здарылася, трэба, вобразна кажучы, даць па Ардзе, пакуль яна яшчэ не паднялася. Гэта адзіны мэтад у размове з Ардой. І адзіная мова, якую яна разумее. Уся бяда ў тым, што няма каму ёй даць у сьвеце, дзе сілай кіруюць бязвольныя палітыкі з філісьцерскімі мазгамі.

Нікчэмнасьць іхных паводзінаў яшчэ і ў тым, што анэксіяй Крыма справа не абмяжуецца. Барацьба вядзецца за Украіну. Гэтая апэрацыя плянавалася Масквой даўно. Іншага шанцу для яе ажыцьцяўленьня ў Крамля ўжо ня будзе. Гэта шанец для Масквы апошні, і назад у іх дарогі няма. І пуціністы тое разумеюць.

Украінцам трэба спадзявацца, перш за ўсё, на самых сябе. Армія слабая. Улада нікчэмная. Моцны толькі народ. Трэба раздаць зброю народу, узброіць яго. Калі не раздадуць, то украінцам трэба ўзброіцца самым, забраць зброю і не палохацца пакутаў і ахвяр. Гэта ёсьць для іх Айчынная вайна. Вораг ужо абʼявіў, што будзе засяляць украінцамі ўсходнюю Сібір. Арду пераможа ня армія, яе пераможа толькі Украінскі Народ.

Такая самая збройная матрыца супраціўленьня павінна быць і для Беларусі, захоп якой ўжо падрыхтаваны Лубянкай знутры. Ключавыя пазыцыі ў краіне абстаўлены расейцамі і расейскімі цітушкамі. Мяжа адчынена. Расейскія ваенныя базы ўведзены ў Беларусь. Авіяцыя перакінута на беларускую тэрыторыю. Чорнай расейскай прапагандай нашпігаваны сеціва і эфір. Увесь час нішчаць ўсё беларускае.

Усё гэта сьведама зроблена праз здрадніка і вырадка народа, якога не павінна насіць беларуская зямля. Яшчэ дзесяць гадоў таму рэжым адабраў ўсю паляўнічую зброю ў беларусаў, а беларуса Аўтуховіча за знойдзеныя ў яго чатыры паляўнічыя патроны кінулі на доўгі час і на зьдзек ў турму. Гэта частка плану расейска-гэбоўскай палітыкі па раззбраеньню народа і падрыхтоўка захопу Беларусі.

Ужо гадзіньнік празваніў на Айчыннай вежы. Рыхтуймася да сур'ёзных падзей, бо яны ўжо пачаліся. Ганьба – не наш шлях. Наш шлях – гонар і барацьба.

Слава Украіне! Жыве Беларусь!

*10 сакавіка 2014.* Зянон Пазьняк

# ЦІ БУДУЦЬ ПАМІРАЦЬ ЗА РЭЖЫМ?

Нядаўна ўступіў у дзеяньне лукашысцкі закон аб беларусах замежжа. Адказным за яго ажыцьцяўленьне і датрыманьне празначана Міністэрства замежных спраў (гэта значыць – міністар спадар-гэбіст Макей). Да гэтага часу і без такога закону рэжымнае гэбэ праз рэжымныя амбасады рабіла сваю чорную справу па захопу і разбурэньні беларускіх арганізацыяў за мяжой, якія паўсюдна ўзьнiклі ў 90-х гадах. Тэхналёгія была простай. У асяроддзі беларускай арганізацыі агентура шукала няўстойлівых людзей. Іх запрашалі ў амбасаду, вялі нібыта патрыятычныя размовы пра агульныя беларускія інтарэсы, пра агульную зацікаўленасьць у культуры, пра кансалідацыю высілкаў, бо, маўляў, “Беларусь у нас адна”. Прапаноўвалі агульныя пляны працы на культурнай глебе, абяцалі фінансаваньне, намякалі на асабістыя грашовыя выгады. Пры падатлівасьці на ўгаворы такі “кліент” раптам рабіўся актыўным і пачынаў прапаноўваць розныя сумніўныя ініцыятывы ў беларускай арганізацыі. Заўсёды знаходзіліся шчырыя прастакі, якія яго падтрымлівалі. Іншыя, натуральна, -- не падтрымлівалі. Пры напорыстай актыўнасьці “кліента” (кліентаў) узьнікаў канфлікт, потым склокі, накіраваныя на захоп арганізацыі ініцыятыўнай групай, і (у выпадку захопу) заканамерны раскол арганізацыі на дзьве часткі, зь якіх адна заставалася на беларускіх адраджэнскіх пазыцыях, другая пачынала супрацоўнічаць з лукашысцкай амбасадай, атрымліваць адтуль падтрымку і грошы, удзельнічаць у мерапрыемствах рэжыму, карыстацца чырвона-зялёным сьцягам, гэрбам “капуста”, падтрымліваць лукашысцкія выбары, маўчаць пра палітвязьняў, пра зьнішчэньне беларускіх школаў і г. д.

У канцы 90-х – пачатку 2000-х такая “апэрацыя” адбылася ва ўсіх беларускіх арганізацыях на абшарах былога СССР. Беларускія арганізацыі раскалолі ўсюды: і ў Расеі, і ў Прыбалтыцы, і ва Украіне, і ў Малдове – усюды. Разьбілі напалам нават такую моцную структуру, як ТБК у Вільні. Усюды ўжывалася апісаная вышэй мэтода. Не атрымалася толькі ў Амэрыцы, у Канадзе ды ў Вялікабрытаніі.

У ЗША на падбой былі кінутыя істотныя сілы з Масквы. Нічога не ўдалося. Бясслаўна праваліліся ўсе атакі і знаныя ўжо тут квазі-епіскап Салагуб, маскоўскі шпіён Чудзін-Васілеўскі, дзяк Якунін, квазі-епіскап Касьцюк etc. (Небарака Чудзін-Васілеўскі, праваліўшыся, ад растройства нават напісаў у Інтэрнэце злосную сагу аб сваёй барацьбе зь беларусамі пад загалоўкам “10 лет в тылу врага”.)

Зьяўленьне Макея ў замежнай палітыцы таксама не прайшло незаўважна. Зноў пачалі ўзьнікаць у Нью-Ёрку “актыўныя суб’екты”, пранікаць у беларускія арганізацыі, выступаць з пустапарожнімі ініцыятывамі, ствараць склокі ў калектыве, рыхтаваць каманды ды рэйдарскія захопы арганізацыяў. Камічна ўжо выглядае гэтая зацяганая партытура з выканаўцамі-актывістамі.

Ня так даўно знайшоўся такі чарговы “кліент” у Брукліне. Пабываў у рэжымным дып. Прадстаўніцтве пры ААН і аб’явіў, што стварыў каманду маладзёнаў ды зьбіраецца ачоліць гарадзкі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), а ранейшае кіраўніцтва – ськівуць. У выніку 1-га чэрвеня адбыўся выбарчы сход БАЗА, на якім за стварэньне склокаў, за супрацоўніцтва з лукашысцкімі структурамі, за нечыстаплотнасьць у грашовых дачыненьнях маладзёны і сябры арганізацыі выключылі зь яе актыўнага “кліента”. Тут беларусы адрэагавалі рашуча, як украінцы: прагаласавалі і -- пайшоў прэч. Мусяць жа засвойвацца і гісторыя, і вопыт.

Цяпер, дарэчы, розных тыпчыкаў, аматараў за падачкі аб’яднацца вакол Лукашэнкі пад чырвона-зялёнай меткай зьявілася шмат дзе. Рэжым думае такім чынам узбудзіць у гопнікаў свой зялёны застабільны патрыятызм. Тут і хакей скарысталі.

Але марная справа. Ня будуць гопнікі паміраць за вусатага кліента Масквы.

*3 чэрвеня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ПАГРОЗА НАРОДАМ АД ІМПЭРЫІ ЗЛА

*(Ліст на сакавіцкі 2014 г. Сойм КХП-БНФ і БНФ "Адраджэньне")*

Гэты мой ліст аб галоўным – аб акупацыі часткі Украіны расейцамі. Падзеі датычаць таксама і нас. Мяркую, што так трэба і ўспрымаць: вайна пуцінскай Масквы супраць Украіны – гэта ёсьць таксама і вайна супраць Беларусі.

Маскоўска-гэбоўскі спрут атрымаў моцны ўдар на Майдане, падрэзалі яго шчупальцы на Украіне. Ён адчуў пачатак свайго канца і прысьпешыў планы вайны, аб якой мы, праз наш партыйны друк, папярэджвалі пастаянна ўжо некалькі гадоў запар.

Пуцінская Расея пачала рыхтавацца да вайны адразу пасьля 2008 года. Пасьля таго, як міжнародная супольнасьць зьмірылася з акупацыяй часткі Грузіі. Пуціністы зразумелі, што ўсё можна. Тыя заявы, дзеяньні і ваенныя вучэньні, якія рабіла потым пуцінская Масква, паказвалі, што распрацоўваюцца планы супраць Беларусі, Польшчы, Украіны, Малдовы.

План супраць Украіны распрацаваны па традыцыйнай энкавэдзісцка-нямецкай схеме, якую Масква выкарыстоўвала яшчэ з 17-га стагоддзя для захопу чужых тэрыторыяў. Потым схему пераняў Гітлер (захоп Чэхаславаччыны і Польшчы) і працягвалі бальшавікі.

Апошняе прымяненьне маскоўскага стандартнага плану акупацыі адбылося ў Асэціі ў 2008 годзе. Маштаб падрыхтоўкі нападу на Украіну ўражвае. Такое ня робіцца за месяц-два. Падрыхтоўка вялася доўгі час. Мабілізавалі ня толькі свае расейскія спэцслужбы, войска, палітыкаў, журналістаў, але і ўвесь свой вялікі расейскі крымінальны сьвет. Прытым прапагандысцкая апрацоўка расейскага грамадзтва вялася цягам амаль што паўгода і дасягнула цудаў хлусьні, вывертаў і інфармацыйнай подласьці, перад якой ведамства Гёбэльса выглядае школьніцтвам.

І тым ня менш план не спрацаваў (як, відаць, спадзяваліся) у самым пачатку. Украінцы, зыходзячы са слабасьці свайго войска і негатовасьці да вайны, не адказалі ніводным стрэлам. Акупацыя працягваецца, расейскія войскі захапілі ўжо ўвесь Крым, а ўкраінцы не страляюць і… інфармацыйна выйграюць, бо перацягнулі на свой бок усю міжнародную супольнасьць. Але калі адбываецца акупацыя, гэтага міжнароднага меркаваньня вельмі мала. Павінен быць збройны супраціў супраць агрэсіі.

На двары 21-е стагоддзе, а гэбоўская Расея яшчэ ў сярэднявеччы. Вобраз "кацапа", апісаны Салжаніцыным, выявіўся тут ва ўвесь рост.

І хоць стрэлы яшчэ не гучаць, мы разумеем, што адносіцца да маскоўскага вайсковага нападу на Украіну трэба вельмі сур'ёзна. Гэта акупацыя. Гэбоўскі спрут усьведамляе, што калі ён ня зьнішчыць і ня высмакча Украіну, то яму канец. (Расейцы пасьпяшаліся нават аб'явіць, што будуць высяляць украінцаў у Сібір і на Далёкі Усход. Ну чым ня план Бормана!) Расейскі гэбізм яшчэ жыве ў сьвеце 30-х гадоў мінулага стагоддзя.

У гэтым становішчы, калі ня будзе жорсткіх дзеяньняў па спыненьні акупантаў з боку міжнароднай супольнасьці, вайна на зьнішчэньне і ліквідацыю дзяржавы Украіна будзе працягвацца. Зрэшты, будзе працягвацца, нават нягледзячы на жорсткія меры Захаду. Гэбізм не адступіцца, бо справа йдзе аб яго імпэрыялістычным і крымінальным існаваньні. Прытым (чаго ніяк ня могуць умясьціць лібэралістычныя галовы), калі паўстане магчымасьць нанесьці эфэктыўны атамны ўдар, Пуцін зробіць тое не задумваючыся.

Найбольшае, на што здолелі заходнія гора-аналітыкі, гэта палічыць Пуціна неадэкватным, вар'ятам і шызафрэнікам. Такая характарыстыка сьведчыць аб разумовай абмежаванасьці аналітыкаў, якія ня ў стане растлумачыць зьявы, што выходзяць за межы іхных стэрэатыпаў. Пуцін – гэта тып расейца-гэбіста, цыніка і бандзёра, які ня спыняецца ні перад чым дзеля дасягненьня мэты. Чалавечае жыцьцё

для яго ня мае ніякага значэньня. Школу захапілі ў Беслане чачэнцы. Не здаюцца? Загад Пуціна: страляць з танкаў. Забілі 700 дзяцей. І хоць бы што, і Гаага па ім ня плача. Тэатр на Дуброўцы захапілі чачэнцы ў Маскве. Не здаюцца? Ах так! Загад Пуціна: пусьціць баявы газ. Умярцьвілі 131 закладніка, гледачоў тэатра, і пайшлі на абед.

Гэта гэбоўская парыя, а не звыклы чалавек. А падрывы дамоў зь людзьмі, а забойства Літвіненкі, Яндарбіева, Ганны Паліткоўскай! І пасьля гэтага адзін заходні прэзыдэнт глянуў у алавянныя вочы спадара Пуціна і сказаў, што “убачыў там душу рускага народа”. Зрэшты, магчыма, спадар Буш фармальна меў рацыю! Нешта ён там убачыў. Напад пуцінскай ваеншчыны на Украіну ў каторы ўжо раз выявіў глыбокую шчарбатасьць, ксэнафабізм і калецтва рускага грамадзтва, грамадзтва без інтэлігенцыі, бяз гуманістычных людзей, грамадзтва вычварных халопаў, дзе пісьменьнікі і людзі мастацтва не зьяўляюцца сумленьнем краіны і падтрымліваюць любога дыктатара, любы гвалт над свабодай народаў. Так было заўсёды, пачынаючы ад часоў Арды і рускіх цароў, так і цяпер, калі шэрага гэбоўскага забойцу з крымінальнай лексікай узьвялічылі да стану народнага героя і выставілі на Нобэлеўскую прэмію міру.

“Скопішча зла” не распадаецца само праз сябе. Яго можна толькі ліквідаваць. І над гэтым усім нармальным народам трэба глыбока задумацца. На ўсходзе Эўропы вырас новы Гітлер, з фашызаваным грамадзтвам, якое не паважае ні адзін народ на сьвеце, якім кіруюць гэбісты і крымінальнікі, што ненавідзяць усё чалавецтва, якія не адчуваюць ніякай адказнасьці за лёсы людзей на Зямлі, у тым ліку і за лёсы людзей сваёй  жа імпэрыяістычнай дзяржавы.

Напад пуцінскай ваеншчыны на Украіну ставіць перад усімі народамі, пацярпелымі ад маскоўскага монстра, катэгарычнае пытаньне аб ліквідацыі імпэрыі “скопішча зла” у інтарэсах усяго чалавецтва. Пакуль яна будзе існаваць – ня будзе міру на Зямлі. Мне ўжо прыходзілася пісаць, што дзеяньні супраць гэбоўскіх акупантаў Украіны павінны быць перанесены ў вялікі інтэрнацыянальны і ксэнафабічны горад Маскву. Для украінцаў гэта айчынная вайна і змагацца трэба будзе па вялікай шкале. Тым больш, што на справе гэта і нашая беларуская вайна, і грузінская, і ўвогуле – каўказкая і татарская, і башкірская, і якуцкая, і ўвогуле сібірская. Гэбоўскі монстр павінен быць зьнішчаны і асуджаны за злачынствы супраць чалавецтва. Якраз гэтак і павінны разьвівацца падзеі. Імпэрскіх монстраў трэба супольна зьнішчаць знутры ў іхным логаве. Там іхняя атамная зброя ня мае значэньня.

Наша партыйная палітыка ва ўсіх дачыненьнях павінна зараз улічваць чыньнік пуцінскай агрэсіі на Украіну, чыньнік вайны. Гэта прычына, якая павінна вызначаць нашыя паводзіны і ўсяго нашага грамадзтва.

Лукашысцкі рэжым насуперак Канстытуцыі і інтарэсам Беларусі ўпусьціў пуцінскую ваеншчыну ў Беларусь, паставіў яе над беларусамі, заключыў антызаконныя антынацыянальныя пагадненьні. Пры пэўных абставінах антыбеларускі рэжым накіруе беларускіх вайскоўцаў на вайну ва Украіну. Беларусы, салдаты і афіцэры, памятайце, што ўкраінцы нашы браты па волі. Страляць ва ўкраінцаў – гэта тое самае, што страляць у сябе. Нельга ўдзельнічаць у братазабойчай вайне на баку ўсходніх гэбоўскіх варвараў. Калі вас усё ж прымусам закінуць ва Украіну, не ваюйце з украінцамі. Не пакрыйце сябе ганьбай. Кожны можа зрабіць выбар, каб змагацца разам супраць пуцінскіх агрэсараў. Разам мы пераможам расейска-гэбоўскага спрута. Будуць вольнымі Беларусь і Украіна. Хто пачаў братазабойчую вайну, той ад яе і згіне.

Беларусы мусяць мець кантроль над сваім чыгуначным, дарожным і водным транспартам, каб недапусьціць перавозкі расейскай зброі, тэхнікі і жывой сілы на Украіну праз нашу тэрыторыю. Патрабаваць такое ад вырадка няма сэнсу. Людзям трэба будзе самым ўсё браць у свае рукі і кантраляваць дарогі. Беларусы павінны сачыць, каб зь дзьвюх расейскіх ваенных базаў у Лідзе і Баранавічах, якія дапусьціў здраднік народа, не падымаўся ў паветра ні адзін расейскі самалёт. Усё гэта магчыма для грамадзтва, якое здольнае самаарганізоўвацца. Небясьпека вайны прымусіць да

самаарганізацыі. Інакш людзей затопчуць, як траву. Калі вайна, то трэба будзе ваяваць, а не гнюсавіць “абы вайны не было”. Расея – гэта вайна.

З пачаткам расейскай вайны важнейшым і першачарговым пытаньнем для беларускага грамадзтва ёсьць тэрміновая неабходнасьць аднаўленьня мяжы з Расеяй і строгі памежны кантроль уезду ў Беларусь. Зразумела, што рэжым здраднікаў Беларусі на гэта ня пойдзе. Але пры ўмове грамадзкай актыўнасьці і павелічэньні самаарганізацыі народа людзі маглі б самы браць пад кантроль памежныя пераходы. Гэта, аднак, магчыма пры адпаведных умовах, пра якія я тут не кажу з-за пэўных абставінаў, якія цяпер ёсьць у Беларусі.

Напад пуцiністаў на Украіну яскрава высьветліў нават для шэраговага абываценя, што натварыў у Беларусі здраднік нацыі, якога зямля наша насіць не павінна. Фактычна мы ўжо ёсьць у акупацыйным мяшку, які засталося толькі завязаць, калі (ня дай Божа!) зьнішчылі б Украіну.

Але перамены будуць. Рыхтуймася да іх сур’ёзна. Скопішча зла не павінна існаваць. Час расплаты і краху шалёнай Арды настане.

*9 сакавіка 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# АСАБЛІВАСЬЦІ РУСКАЙ ГІБРЫДНАЙ ВАЙНЫ

Пуцінскі гэбізм ужо два месяцы вядзе вайну супраць Украіны. Гэта тыповая руская вайна, тактыка якой зыходзіць яшчэ ад Арды (адрываньне кавалкаў). Тактыка аформілася як ваенна-дыпляматычная сістэма ўжо ў XVIII стагоддзі за часы нямецка-расейскай царыцы Кацярыны II. Такім мэтадам адбываліся разборы Вялікага Княства Літоўскага і ўсёй Рэчы Паспалітай. Цяперашні захоп Украіны пуцінскай Расеяй робіцца дакладна па той жа разборнай расейска-нямецкай схеме. Аналёгія пуцінска-гітлераўскай мэтодыкі вырастае з аднаго кораня (гэтак жа, як і фашызм нямецкай і рускай мадыфікацыі).

Мэтадалёгія агрэсіі “кавалкавага” тыпу накіраваная (і можа выкарыстоўвацца) перш за ўсё супраць грамадзтваў, павязаных супольнымі кшталтамі (найперш па мове, рэлігіі і радзей па ідэалёгіі і этналёгіі). Супольны кшталт дае магчымасьць агрэсару лёгка праводзіць агрэсію знутры, ствараючы сэпаратысцкія, дыверсійныя, сэктанцкія, канфэдэратыўныя і таму падобныя ўнутраныя групы, арыентаваныя на краіну агрэсара.

Разбор Рэчы Паспалітай – тут ужо клясыка такой агрэсіўнай мэтадалёгіі. Гэтак жа, дарэчы, як і гітлераўскія аншлюсы і анэксіі, якія па фармальных прыкметах паходзяць адтуль жа, з XVIII стагоддзя. Павелічэньне “жыцьцёвай прасторы” (гітлераўскі тэрмін) абапіралася найперш на моўны і этнічны чыньнік. Нямецкая мова ў тыя часы – гэта ўся спадчына прускай і аўстрыйскай імпэрыяў. Тут найперш Аўстрыя, Чэхаславаччына (адпаведна Судэты). Гэтыя тэрыторыі былі забраныя Гітлерам, практычна, без супраціўленьня з выкарыстаньнем шпіёнаў, дыверсантаў, стварэньнем “сэпаратыстаў” плюс ідэалагічных прыхільнікаў фашызму (па аналогіі саветы выкарыстоўвалі камуністаў).

Другі прыём, які адначасна і эфэктыўна практыкавалі ў агрэсіі гітлераўская Нямеччына і савецкая Расея, -- гэта хлусьня, татальная дэзынфармацыя і прапаганда. Прытым заўважу, што калі для немцаў-гітлерцаў хлусьня была рацыянальнай тэхналёгіяй (па прыродзе сваёй немцы ня хлусяць), то для рускіх хлусьня -- гэта арганічная мэнтальная якасьць, над якой нават часам здуменна задумваліся і ламалі галаву рускія пісьменьнікі. (“Отчего врёт русский человек!” -- усклікаў І. Тургенеў.)

У першай палове XX стагоддзя французская каляніяльная імпэрыя была наймацнейшай дзяржавай з магутным і шматлікім войскам, ваеннымі ўмацаваньнямі, эканомікай і г. д. Гітлер захапіў яе хутка і без вялікіх стратаў, бо вайну з Францыяй найперш выйграў Ёзаф Гёбельс. Гэта была інфармацыйная вайна. На Францыю вяшчалі сотні нямецкіх радыёстанцый (на французскай мове). Дэзынфармацыя была настолькі эфэктыўнай і татальнай, што выклікала псіхалагічную паніку ўсёй французскай нацыі, калі Гітлер ударыў на краіну. Грамадзтва было ня ў стане прадумана супраціўляцца, а ўрад і камандаваньне ня змаглі падняць баявы дух арміі, ня здолелі хутка мабілізаваць і адпраўляць патрэбныя вайсковыя часткі насустрач акупантам (чыгунка была паралізавана ўцекачамі). Праз месяц Францыя здалася.

Нагадаю асноўнае правіла гёбэльсаўскай прапаганды, якое цалкам перанята цяпер рускім гэбізмам: **прапаганда зьвернута да масаў, а не да інтэлігенцыі, таму яе ўзровень павінен арыентавацца на самых абмежаваных сярод тых, на каго яна павінна ўзьдзейнічаць**. **Прапаганда не павінна быць аб’ектыўнай, мусіць зьвяртацца да пачуцьцяў, а не да розуму.** Псіхозная ўзьдзеяньне на масы і ўзровень гэбісцка-гёбэльсаўскай прапаганды ў Расеі мы цяпер якраз назіраем.

Я ўжо пісаў, што тэхналёгія пуцінскага захопу Украіны распрацаваная гэбістамі для так званых “брацкіх народаў”. Гэта значыць для тых, дзе ўдалося ўкараніць рускую мову і стварыць фармальна падобнае асяроддзе для масавай засылкі пераапранутых

дыверсантаў, спэцслужбаў, рускіх крымінальнікаў, гопнікаў і т. п., дзе можна было разыграць сцэнар грамадзкага канфлікту, сэпаратызму, пратэсту і нават (пераапрануўшы войска) захапіць частку краіны альбо цэлую краіну знутры.

Там, дзе грамадзкага асяроддзя рускай мовы ня створана, там акупантаў і дыверсантаў было б адразу відаць як чужакоў, і "брацкі" сцэнар быў бы немагчымы. У такім ("ня брацкім") выпадку за часы СССР расейцы выкарыстоўвалі камуністычныя партыі ў іншых краінах, якія яны фінансавалі з Масквы і дапамагалі арганізоўваць. Камуністы, ачмураныя ідэалёгіяй "пралетарыяту" і "інтэрнацыянальным абавязкам", заўсёды выступалі ў ролі нацыянальных здраднікаў і "пятай калёны", якая адчыняла дзьверы акупантам. Гэтак была захоплена Прыбалтыка, пазьней, пасьля 2-й Сусьветнай вайны, краіны Цэнтральнай Эўропы, якія былі далучаныя да савецкага "сацыялістычнага лагеру". (За царамі "брацкі" сцэнар выкарыстоўвалі для абароны "праваслаўя", якое нібыта недзе там прыцясьнялі.)

Рускі фашызм натуральна разьвіваўся з рускай гісторыі і гэтак жа натуральна злучыўся потым зь нямецкім. У сярэднявеччы самай магутнай дзяржавай ва Ўсходняй Эўропе, якая стрымлівала Арду і Маскву, была наша старажытная краіна Вялікае Княства Літоўскае. Яно ж было і рэлігійным цэнтрам і прыцягальным аб'яднаўчым культурным цэнтрам у гэтай частцы сьвету. Улічваючы стрымліваючы чыньнік ВКЛ, пэрманэнтная агрэсія маскоўскай Арды на захад заканамерна мусіла б прывесьці да маскоўска-нямецкага саюзу супраць ВКЛ (што і сталася). Расейскія цары нават мэнтальна былі гатовыя да такога супрацоўніцтва зь немцамі супраць нас. (У свой час маскоўскі цар Іван IV Жахлівы на сцьвярджэньне замежнікаў, што ён цар "рускі", адказаў, што рускія – гэта халопы, а ён, маскоўскі цар, нямецкага роду.)

Ужо адзначана, што фашызм – гэта ідэалёгія маргінальнай групы, якая захоплівае абсалютную ўладу ў дзяржаве і імкнецца ўплываць на ўвесь сьвет. Фашызм, заснаваны на агрэсіі, на праве сілы і непрызнаньні правоў іншых, акрамя права сваёй групы ўлады. Тыповы фашызм – гэта нацызм (нацыянал-сацыялізм) у Нямеччыне і бальшавізм у Расеі (сацыял-фашызм). Тут фашызм меў толькі розныя ідэалягічныя апоры ў групах грамадзтва, будучы па сутнасьці адной і той жа зьявай.

Перараджэньне рускага сацыял-фашызму ў імпэрскі нацыянал-фашызм адбылося за апошнія 10-15 гадоў на нашых вачах пад эгідай абсалютнай улады савецкага КГБ. КГБ у сымбіёзе з рускай праваслаўнай царквой (РПЦ) стаў той групай фашысцкай улады, якая прышла на зьмену КПСС. Сацыял-фашысцкая ідэалёгія камунізма заменена нацыянал-фашысцкай ідэалёгіяй "русский мир", дзе ідэалагічным чыньнікам агрэсіі зьяўляецца руская мова.

На парцягу ўсяго свайго палітычнага жыцьця я пастаянна зьвяртаю ўвагу на тое, што, пачынаючы з XX стагоддзя, галоўным чыньнікам рускай імпэрскай палітыкі агрэсіі становіцца ўжо не "православие", а руская мова. Бальшавікі, якія былі нацэлены на заваёву ўсяго чалавецтва і пабудову камунізму ва ўсім сьвеце, аб'явілі аб адзінай сусьветнай мове, якой, на іхную думку, павінна была стаць руская мова, хоць адкрыта яны пра тое не казалі, але ўсё дзеля таго рабілі.

"Русский мир" – гэта мадыфікацыя бальшавіцкай імпэрскай ідэалёгіі ў галіне мовы, стварэньне падставаў для агрэсіі, акупацыі і захопу. **Руская мова ў імпэрскай палітыцы Расеі зьяўляецца чыньнікам імпэрскай агрэсіі.** Найбольш вымоўна такая палітыка відаць цяпер у Беларусі, ва Украіне, у Латвіі і Эстоніі.

На колькі глыбока дэзарганізаваная і разваленая дзяржава Украіна, паказала цяпер вайна і напад Расеі. Украіна прадэманстравала і паказвае небясьпечную няздольнасьць арганізаваць і аказаць супраціўленьне агрэсару. Ганебная здача Крыма ўражвае ня менш, чым бяскроўны ўнутраны захоп Беларусі і адкрытая сістэмнае зьнішчэньне беларускай нацыі пры зьнешнім існаваньні суверэннай дзяржавы. Фатальная эфэктыўнасьць разбуральнай дзейнасьці рускіх спэцслужбаў не паддаецца часам адэкватнаму асэнсаваньню, як не маглі асэнсаваць французы сваё ганебнае паражэньне ў 1940-м годзе і крах перад значна слабейшай арміяй фашысцкай

Нямеччыны. Фашызм грозны сваім таталітарызмам, прапагандысцкай хлусьнёй і таемнай вайной разьведкі (унутранай і зьнешняй). Тут відаць **мэтадалёгія фэнамэнальнага сацыяльнага зла, заснаванага на нянавісьці, на прэпараваным інтэлекце і нізкіх інстынктах**. Эўропа нават не ўяўляе, у якой ступені яна знаходзіцца цяпер пад уплывам рускіх спэцслужбаў і агентуры. Гаварыць на Захадзе пра гэта бессэнсоўна. Гэта тое самае, што казаць сьляпому пра захад сонца, альбо абалваненаму рускай прапагандай беларусу пра небясьпеку з Расеі.

**Расея (маскоўцы) – гэта цывілізацыйная праблема.** І найперш тут праблема для Эўропы, якая няздольная яе вырашыць з прычыны сваёй адкрытай дэмакратыі і эканамічнага прагматызму, які ня ў стане асэнсаваць кансалідуючыю сілу эгалітарнай нянавісьці, бо яна не ўкладваецца ў эўрапейскія матэрыяльныя паняцьці здаровага сэнсу. Сэнс тым часам бывае розны.

У 1968 годзе, калі саветы напалі на савецкую Чэхаславакію, я спытаў аднаго расейскага спэцыяліста, прысланага ў Беларусь будаваць “камунізм”, навошта яны, камуністы, напалі на сацыялістычную краіну? Адказ быў такі: “Зажрались. Трамваи у них бесплатные.” “Умом” Расею зразумець усё ж такі можна, калі ня быць эгацэнтрыстам. **Эгалітарная мэнтальнасьць ёсьць сутнасьцю расейскай масавай псіхалогіі,** якая выяўляецца ў сацыяльных паводзінах і грамадзкіх формах. У гэтым і прырода рускай агрэсіі (яднаньне на нянавісьці да лепшага). У гэтым вечная варожасьць да Захаду, да Амэрыкі, тым больш да тых, што збавіліся ад расейскага акупацыйнага кантролю і сталі жыць лепей.

У гэтым таксама характэрнасьць рускага капіталізма і эканамічнай канкурэнцыі (не ўдасканальваць сваю ватворчасьць, не разьвівацца, а разбурыць канкурэнта, альбо наняць кілера і забіць). У гэтым жа сэнс заснаванага на нянавісьці да багатых (“адабраць і падзяліць”) бальшавіцкага перавароту ў 1917 годзе. У гэтым сэнс дзеяньняў і псіхозу цяперашняга рускага імпэрскага нацыянал-фашызму.

У гэтым цяпер і зьмест рускай эгалітарнай нянавісьці да ўкраінцаў. Тыя, што захацелі нацыянальна разьвівацца, жыць лепш і арыентуюцца на дэмакратычную Эўропу, тыя, згодна рускага паняцьця, ёсьць “фашысты” (дарэчы тут геніальнае прадбачаньне Чэрчыля, што фашысты будуць называць сваіх праціўнікаў “фашыстамі” – ўсё па Гёбэльсу). А вось тыя, што, маўляў, будуць разам з “намі”, рускімі, у нашай маскоўскай гразі, на нашым маскоўскім узроўні (але як «меншыя браты»), тыя -- “украінцы”; “мы любім украінскі народ”, фальшыва кажуць тады рускія фашысты. І тут жа адначасна тыпова фашысцкае імпэрскае сцьвярджэньне: “Украіна – гэта не дзяржава, украінцы – ня нацыя і не народ. Няма ніякіх украінцаў, гэта рускія, якіх перарабілі на ўкраінцаў аўстрыякі, і якія, маўляў, прыдумалі ўкраінскую мову. Няма Украіны, ёсьць Маларасія” і т. п.

Ня варта тут зьдзіўляцца і нават рацыянальна крытыкаваць такія шызоідныя заявы. Трэба ведаць, што **эгалітарызм заснаваны не на лёгіцы, а на пачуцьцях, якія ў масавай сьвядомасьці амбівалентныя, бо пакліканы ў любой сытуацыі апраўдваць сваё нізкае “эго” (раўнаньне па нізкім узроўні).**

Для беларусаў як людзей эўрапейскай мэнтальнасьці наперадзе можна чакаць адкрытай канфрантацыі з рускім фашызмам (прытым незалежна ад мовы, крытэр будзе антыфашысцкі, антыімпэрскі). І тут беларусы паспытаюць на сабе ўсю вычварную тэрміналёгію, якую чулі ў адрас украінцаў. Стануць яны для маскоўцаў і “нацыстамі”, і “фашыстамі”, і “бульбашамі”, і “русафобамі”, і “польскай гнідай”, і “агентамі Дзярждэпа”, і “халуямі сусьветнай жыда-масонскай закулісы”, якія “предали трудолюбивый белорусский народ”. І гэты “народ”, маўляў, ім трэба прыехаць на танках “спасать”.

Мэтанакіраваны развал Украіны Расеяй пачаўся яшчэ ў 90-х гадах. Тады (пасьля ўнутранага захопу ўлады ў Беларусі) расейская дэзарганізацыя ўкраінскай дзяржавы з апорай на камуністаў пачала набываць сістэмныя формы. У 1999 годзе была зроблена ключавая дыверсія, якая мела фатальныя вынікі для ўкраінскай нацыі.

Быў забіты ***Вячаслаў Чарнавіл***. Нацыя засталася без альтэрнатыўнага нацыянальнага лідэра. З 2000-га года пачалася ў Расеі эра абсалютнай улады гэбізму. Украіну напоўнілі масы маскоўскай агентуры, якая займала вызначальныя пазыцыі ў дзяржаўных структурах краіны, спрыяла карупцыі і дэзарганізацыі. За часы ўлады наўпроставага стаўленьніка Крамля прэзыдэнта Януковіча поўнасьцю была развалена ўкраінская армія, інфільтравана служба бясьпекі, дэзарганізавана міліцыя і сілы ўнутранай бясьпекі (акрамя спэцаддзелаў, якія павінны былі ахоўваць уладу прэзыдэнта).

Сёньняшняя бездапаможнасьць Украіны перад расейскай дыверсійнай вайной тлумачыцца трыма прычынамі. Найперш – дэзарганізацыяй і некіруемасьцю краіны ў выніку шматгадовай антыўкраінскай дзейнасьці рускіх спэцслужбаў разьведкі. Улада ў дзяржаве няздольная, мэханізм яе ўплыву паралізаваны. Любы план антытэрарыстычнай акцыі супраць дыверсантаў тут жа становіцца вядомы гэтым дыверсантам, якія ўжо чакаюць на месцы і захопліваюць у палон украінскіх афіцэраў СБУ альбо забіваюць іх, бяруць у палон украінскія танкавыя калёны, функцыянераў улады і г. д., займаюць горад за горадам сіламі ў некалькі дзясяткаў дыверсантаў. Паўсюдна відаць здрада ва ўкраінскіх структурах, бяздзейнасьць Кіева і актыўнасьць рускай разьведкі. Ініцыятыва знаходзіцца ў руках дыверсантаў.

Адзначу такі вымоўны выпадак, які здарыўся ў апошнія дні красавіка. Расея пачала ўжо рыхтаваць дыверсійныя закалаты ў паўднёвых абласьцях Украіны. З Сімфэропаля ў Адэсу былі сфармаваныя два цягнікі рускіх дыверсантаў і цітушак (па 400 асобаў у цягніку). Саставы спакойна пераехалі мяжу. Аказваецца, што ва ўмовах дыверсійнай вайны ўкраінскія ўлады нават не перапынілі рух пасажырскіх цягнікоў з захопленага Крыма. Больш таго, начальнік Украінскай памежнай службы даў загад прапусьціць гэтыя цягнікі без памежнага кантролю. Гледзячы на ўсё гэта, цалкам верагодна, што 800 ўзброеных гопнікаў ды цітушак пад кіраўніцтвам афіцэраў рускага ГРУ будзе дастаткова, каб захапіць у такіх умовах мільённую Адэсу, пачаць закалаты і бойкі на вуліцах і аб’явіць яе рускім горадам ці “Адэскай рэспублікай”.

Украінцаў шкадуе ўвесь сьвет, але некаторыя, гледзячы на пасіўнасьць кіраўніцтва і не разумеючы прычын, ужо пачынаюць сьмяяцца (не без удзелу рускай прапаганды, вядома).

Другая прычына – слабасьць і няздольнасьць у гэтых умовах часовага кіраўніцтва Украіны. Ёсьць важкія аб’ектыўныя прычыны бездапаможнасьці ўлады, але палітычная логіка бязьлітасная і магчымасьць у будучыні пайсьці пад трыбунал за бяздарную здачу Крыма і за дапушчэньне дыверсантаў на Паўднёвы ўсход Украіны для гэтага кіраўніцтва цалкам мажлівая.

Нарэшце, трэцяя прычына, якая не ляжыць на паверхні, але тлумачыць паводзіны часовага кіраўніцтва Украіны, -- гэта патрабаваньні і ціск Эўразьвязу, які ведае свае інтарэсы і хоча іх захаваць коштам Украіны (тут той жа прынцып: “ніхто ня хоча паміраць за Гданьск”). Таму, маўляў, ня робім рэзкіх рухаў. Захад, маўляў, пакарае Расею санкцыямі. Санкцыі фашысцкую Расею ня спыняць (калі не ўмяшаецца Амэрыка), а толькі кансалідуюць рускі люмпен на нянавісьці вакол Пуціна, прысьпешаць і інтэнсіфікуюць дыверсійныя дзеяньні супроць Украіны. Але галоўнае -- тут ёсьць чыньнік вызначальнага часу памерам у адзін месяц (прэзыдэнцкія выбары ва Украіне). Санкцыі ж разьлічаны на доўгі пэрыяд, на гады. Для Украіны вельмі важна пасьпяхова правесьці свае выбары.

Бяздарнасьць і карысьлівасьць Захаду тут зь яго “санкцыямі” як заўсёды ўражвае (Захад нават крэдыты Украіне не скасаваў, як некалі змагарнай Польшчы). І ўсё гэта на фоне афіцыйных заяваў прэзыдэнта Абамы, што Амэрыка ні пры якіх умовах не прадугледжвае свой ваенны сцэнар ва Ўкраіне (ня ведаю ці падзякваў яму за гэта Пуцін, але казалі доўга сьмяяўся).

Часовая ўлада Украіны трапіла ў залежнасьць ад гэтай заходняй прагматыкі, нават вымушана душыць свой Правы сэктар, бо таго патрабуе лібэральны Захад, які баіцца ўсялякай нацыянальнай дэмакратычнай незалежнай сілы, арыентаванай на

свой народ. У Беларусі гэтую заходнюю нацыянальна разбуральную палітыку мы ўжо перажылі ў канцы 90-х і добра ведаем, што яно такое.

Сітуацыя ва Украіне абавязвае нас, беларусаў, рабіць высновы, ставіць пытаньне як нам дзейнічаць, калі масковец палезе ў нашу краіну. А гэта верагодна. Ён ужо тут, але сьцішыўся. І мы ведаем, у якіх гарнізонах, затаіўшыся ён сядзіць.

Першае правіла, пацьверджанае ўсёй чалавечай гісторыяй і законам: як толькі вораг, варожае войска, дыверсанты, цітушкі, рускія гопнікі са зброяй палезуць на нашу тэрыторыю, **трэба біць адразу па лычу, без папярэджаньня і на паражэньне.** Перамагае толькі той, хто за сябе змагаецца. Трэба ведаць, што нават параза, але з гонарам -- гэта палова будучай перамогі. Параза з ганьбай – гэта вечная параза.

Антыбеларускі рэжым ня стане змагацца з акупантамі Ён стаўленьнік акупантаў. Розныя там словы сатрапа – гэта так, для страсеньня паветра. Усё робіцца наадварот, на шкоду нацыі. Але народ павінен супраціўляцца. Таму ўжо цяпер трэба да таго рыхтавацца ініцыятыўным людзям. Потым – як знойдзеш. Акупанты павінны нарвацца на супраціў і панесьці страты. Моладзь – рыхтуйся!

Другое правіла кардынальнае. Як бы ні выстаўляў сябе сатрап у канфліктнай сытуацыі – абаронцам суверэнітэту ці міратворцам – ён ёсьць халуйскай прычынай усіх нашых нацыянальных бедаў, здраднікам, які нішчыць нашу мову, культуру, школу і адукацыю, які здаў рускім эканамічным разбойнікам нашу нацыянальную маёмасьць, які адчыніў мяжу расейскім імпэрцам, які прывёў чужынцаў, ворагаў, іхнюю агентуру, самалёты і войскі ў нашу Беларусь. Яго ўлада нелегітымная. **Ніякай падтрымкі яму ня можа быць у ваенны час. Затрыманьне, палон, суд і кара -- вось яго дарога.** Абарона Беларусі – справа ўсяго народа, бо змаганьне будзе са сьмяртэльным ворагам за нашае нацыянальнае існаваньне.

*30 красавіка 2014 г.* Зянон Пазьняк

# ДА ГІСТОРЫІ МАСКОЎСКАЙ АФЁРЫ

У ліпені 1999 года мусіў скончыцца першы прэзыдэнцкі тэрмін Лукашэнкі. Тым часам рэжым не зьбіраўся праводзіць выбары. Улада стала рабіць адлік не ад ліпеня 1994-га, а ад лістапада 1996-га – часу дзяржаўнага перавароту Лукашэнкі і ўсталяваньня новай рэжымнай Канстытуцыі. Выбары перанесьлі на 2001 год.

Народны Фронт і іншыя дэмакратычныя арганізацыі лічылі, што трэба арганізаваць і правесьці законныя выбары ў 1999 годзе, магчыма нават альтэрнатыўныя на грамадзкіх пачатках, паколькі ўлада ўхілілася. Гэтая праца вымагала вялікай падрыхтоўкі. Яна пачалася.

Рэжым адрэагаваў хутка, стварыў “Рэспубліканскі штаб пры Мінюсьце для юрыдычнай ацэнкі дзеяньняў лідэраў радыкальнай апазыцыі па падрыхтоўцы альтэрнатыўных выбараў Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь”. Даручэньні атрымалі КГБ і пракуратура.

У пачатку 1999 года ідэя альтэрнатыўных выбараў прэзыдэнта была актыўна падхоплена выхадцамі з асяроддзя Лукашэнкі, што рассварыліся са сваім уладным працадаўцам. Прыхільнікамі альтэрнатыўных выбараў сталі Віктар Ганчар (Старшыня ЦВК), былы прэм’ер Міхаіл Чыгір, спадары Лябедзька, Сініцын і іншыя, што ў 1994-м вялі Лукашэнку да ўлады. Пачаўся мэдыйны вэрхал, заклікі да “аб’яднаньня ўсіх дэмакратычных сіл” і таму падобныя канторскія “штучкі”.

Прытым стаўку рабілі на Міхаіла Чыгіра – былога прэм’ера, абсалютна шэрую бяскрылую фігуру з адрынутага асяроддзя Лукашэнкі.

Іхныя дзеяньні мелі фармальную падставу, але рэальна ня мелі ні грамадзкага забесьпячэньня, ні палітычных пэрспектыў. Тым ня менш мэдыйны ўздым працягваўся. Бесперапынна мільгалі прозьвішчы Чыгіра і Ганчара. Ўсё выглядала настолькі штучна, што вушы расейскай агентуры не відаць былі хіба што сьляпому. Праўда, сьляпых тады ў беларускім палітычным полі існавала маса, але ўзьнікала пытаньне – навошта тая авантура робіцца.

Канчаткова ўсё стала зразумела пасьля двух візытаў да мяне ў Варшаву спадароў Ганчара і Чыгіра. Яны прасілі мяне ўдзельнічаць у выбарах у якасьці кандыдата, бо ў іх для ажыцьцяўленьня выбараў няма структураў і людзей, і без ўдзелу Народнага Фронту правесьці такія выбары немагчыма. Пры гэтым яны казалі, што выбары робяцца пад Чыгіра, бо за ім, маўляў, Масква і (быццам бы) саўковы электарат Беларусі. Прастата і наіўнасьць гэтых энтузіястаў, зьмяшаная з палітычнай нечыстаплотнасьцю, зьдзіўляе мяне па сёньняшні дзень.

Тым часам яны ўжо вялі перамовы з нашымі фронтаўскімі нізавымі структурамі, прапануючы грошы і супольную перамогу “над дыктатарам”. У Фронт паплылі людзі з падазронай актыўнасьцю, якіх мы ніколі ня бачылі. Узьніклі спрэчкі і падзел пазыцыяў у Руху.

Зразумела, што пачалася генэральная атака на Фронт з прымяненьнем маскоўскіх грошай. Вынікам атакі павінна было стацца зьнішчэньне народнага руху БНФ і зганьбаваньне майго імя. У іншым выпадку – раскол Фронта.

Бальшыня з маіх шасьці намесьнікаў (з тых, якія не былі ў парляманце і ня мелі парляманцкага вопыту палітычнай барацьбы) падтрымалі авантуру, прыяжджалі да мяне, сур’ёзна ўгаворвалі балатавацца на кандыдата ў прэзыдэнты і меркавалі, што цалкам магчыма ажыцьцявіць такія выбары ў абход аўтарытарнай улады “ўсім разам” і нават пры пасіўным электараце. “І з лукашысцкай публікай?” – задаваў я скептычнае пытаньне, маючы на ўвазе Ганчара і кампанію. “Яна ўжо не лукашысцкая,” – быў адказ.

Я адчуваў, што будучы за мяжой і ня маючы непасрэдных кантактаў зь людзьмі і з сябрамі Фронту, я гэтую атаку (падмацаваную грашыма, якая йшла поўным ходам) проста так ужо не адкіну. Мы маглі страціць Рух. Трэба было прымаць вымушанае рашэньне і ўключацца ў абсурдныя падзеі па чужым сцэнары, каб мець кантроль над

Фронтам і дзейнічаць па абставінах. Мая адмова ў той сытуацыі магла б прывесьці да агентурнага захопу Фронту, варожымі сіламі, якія б мелі разьвязаныя рукі.

Зразумела было таксама, што выканаўцы авантурнага праекту будуць займацца махінацыямі і фальсіфікацыямі, бо рэальна альтэрнатыўныя выбары ў тых абставінах правесьці ўжо было немагчыма.

Пагадзіўшыся на ўдзел ў выбарах, я выставіў Ганчару адну ўмову: выбары мусяць адбывацца згодна з Канстытуцыяй і строга па закону аб выбарах. Ганчар урачыста і зь лёгкасьцю пагадзіўся.

У працэсе, калі пачаліся шырокія парушэньні закона, галасаваньне на працягу дзесяці дзён з абходам кватэраў, падробка пратаколаў галасаваньня і татальная фальсіфікацыя галасаваньня, я афіцыйна пісьмова папярэдзіў В. Ганчара аб парушэньнях закона і недатрыманьні ўмовы. Ганчар адказаў высакамерна (праектанты, відаць, ужо палічылі, што справа зроблена). Тут, дарэчы, відаць тыповы почырк Лубянкі: зрабіць выбары ці рэфэрэндум, ці іншае што любым спосабам, не звяртаючы ўвагі ні на правілы, ні на законы, ні на здаровы сэнс, ні на ахвяры, ні на сьведкаў, ні на палітыкаў (дакладна, як цяпер у акаупаваным Крыме). А потым за подлую працу прызнаньня афёры возьмуцца хлусьня, масавая дэзінфармацыя, прадажныя СМІ, лжывая дыпляматыя, etc. Такой заўсёды была руская імпэрская і захопніцкая палітыка.

Тым часам агентурная журналістыка, сканцэнтраваная ў так званых “дэмСМІ” (асабліва на радыё “Свабода”), рэгулярна давала бравурную інфармацыю аб нібыта мільёнах прагаласаваных, у той час, калі на справе ў большасьці не былі створаныя нават участковыя камісіі, а выбарчыя бюлетэні ў колькасьці ўсяго па 500 штук на кожны раён (дзе па 50-60 тысячаў выбаршчыкаў) завезьлі толькі за тры дні да заканчэньня дзесяцідзённага галасаваньня. Ва ўсёй Беларусі прагаласавала ад сілы ўсяго некалькі дзясяткаў тысячаў выбаршчыкаў. Тым часам у ЦВК Ганчару пачалі прысылаць падпісаныя некаторымі даверанымі старшынямі камісіяў чыстыя і незапоўненыя блянкі пратаколаў галасаваньня, якія пасьля атрыманьня адвольна запаўняліся членамі ЦВК . Прытым некаторыя фальсіфікаты перахапіла лукашысцкая міліцыя. (Чым не ўліка ў плянуемай крымінальнай справе па апаганьваньні БНФ!) У давяршэньне да ўсёй гэтай дурной выбарчай прафанацыі “дэмСМІ” пачалі даваць інфармацыю з ЦВК, што наперадзе быццам бы йдзе кандыдат Пазьняк, які нібыта апярэджвае кандыдыта Чыгіра на мільён галасоў. Тупасьць і нахабства гэтай афёры зьдзіўлялі і абуралі да неверагоднасьці.

За тры дні да сканчэньня прафанацыі выбараў я абзваніў па тэлефоне структуры Народнага Фронту з прапановай выходзіць з ганебных выбараў, а сам напісаў заяву Ганчару, што адмаўляюся ад удзелу ў выбарах і здымаю сваю кандыдатуру. Пераважная бальшыня фронтаўскіх структураў выйшла з выбарчай авантуры. Афёра абвалілася, хаця вынікі яе былі ўсё ж вельмі дэструктыўнымі для БНФ і ў цэлым для Беларусі.

Праз некалькі гадоў пасьля падзеяў я двойчы меў размову на гэтую тэму са старшынёй Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня Сымонам Шарэцкім. Усплылі канкрэтныя факты.

Напачатку Масква прапанавала паўдзельнічаць у альтэрнатыўных выбарах у якасьці кандыдата якраз Сымону Шарэцкаму, паабяцаўшы фінансаваньне і выставіўшы свае ўмовы. (Прапанова была на ўзроўні віцэ-прэм’ера Расеі спадара Чубайса.) Шарэцкі адмовіўся і расказаў пра тое Ганчару. Ганчар паехаў у Маскву і прапанаваў свае паслугі, якія былі прынятыя. Так зьявіўся “Праект Чыгір”, пра які я пісаў у пачатку 1999 года. Згодна праекту, Масква з падачы Ганчара прапанавала на кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі ў альтэрнатыўных выбарах Міхаіла Чыгіра.

Авантурызм у характары Ганчара мне быў добра вядомы, але ягонае нізкае шулерства ў тых псэўдавыбарчых дачыненьнях, выяўленае на ўзроўні маскоўскай палітбратвы, зьдзівіла тады шмат каго з нас, фронтаўцаў. Я ня думаю, што Ганчар адкрыта пайшоў на супрацоўніцтва з расейскай “канторай”, але тое, што ён даў сябе выкарыстаць, гэта несумненна. Маючы задаткі прыстойнага чалавека, ён самахоць

уваліўся ў расейскую палітычную гразь (гэтак жа як раней у кампанію з Лукашэнкам), заблытаўся ў маскоўскіх сетках, перабольшыў свае здольнасьці і скончыў фатальна, магчыма так і не зразумеўшы, якое подлае гэтае канторскае зьвяр'ё і якую шкоду зрабіў ён для Беларусі.

Падсумоўваючы гэтую кароткую інфармацыю (падрабязна яна апісаная мной у кнізе "Цяжкі час", том 2, стар. 126-140), мушу паўтарыць, што пасьля 1994 і 1996 гадоў гэта была найбольш маштабная апэрацыя Лубянкі па развалу Беларускага Народнага Фронту, якая разьвівалася тады сумесна з палітычнай дыверсіяй Ганса Георга Віка, суправаджалася ахвярамі, пасадкамі ў турму і вымушанай эміграцыяй беларусаў. Справа зьнікненьня Ганчара засталася нераскрытай, а па факту сьмерці Генадзя Карпенкі справа нават не была ўзбуджана. Хаця тут выразна прасочваецца гэбоўскі сьлед.

Перад сьмерцю, у канцы сакавіка, Карпенка прыязджаў да мяне ў Варшаву і, абураны дзеяньнямі Ганчара-Чыгіра, прапанаваў мне супрацоўніцтва. Мы дамовіліся, што 31 сакавіка ён прыедзе ў сядзібу БНФ у Менску на сустрэчу з кіраўніцтвам Народнага Фронту, дзе будзе заключана афіцыйнае пагадненьне аб супрацоўніцтве, прынята дэкларацыя і пададзена ў сродкі масавай інфармацыі. 31-га сакавіка Карпенка не прыехаў. У той дзень пры вельмі падазроных абставінах і прысутнасьці падазроных людзей (пра што ведае яго бліжэйшае асяроддзе) у Карпенкі быў справакаваны інсульт, і 6-га красавіка ён памёр. (Дарэчы, кожны палітык ведае, што стан здароўя – гэта важная інфармацыя для варожай разьведкі. У Амэрыцы зьвесткі пра стан здароўя людзей пад аховай закона.)

Разбуральная апэрацыя з выкарыстаньнем "альтэрнатыўных выбараў", задуманая Масквой і падтрыманая яе агентурай у Беларусі, у цэлым правалілася, але засталася да канца не раскрытай, і нават шмат кім незразуметай, бо адбывалася ў грамадзтве асьлепленым антыбеларускай прапагандай і савецкай сьведамасьцю. Цяпер, калі рускі гэбізм, пераацаніўшы ўласныя сілы, адкрыта паказаў усяму сьвету свае воўчыя клыкі, напаўшы на Ўкраіну, і калі яго сатанінская хлусьня дала збой, ня лішняе было б зноў нагадаць тыя падзеі з гісторыі ўнутранай акупацыі Беларусі і гэбісцкай агрэсіі Расеі, перад якой апынулася сёньня Ўкраіна. Антыгэбісцкі, антырасейскі фронт пашыраецца, і настане час, калі рускі гэбоўскі спрут, гэтае імпэрскае скопішча зла захлынецца сваёй ядавітай сьлінай і патоне ва ўласнай крыві.

*8 красавіка 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# МАДЫФІКАЦЫЯ ФАШЫЗМУ

*(Ліст на красавіцкі 1914 г. Сойм КХП—БНФ)*

Падзеі, якія адбываюцца ва Ўкраіне і ў Беларусі вымагаюць асэнсаваньня зьяў. У нас, беларусаў, павінен быць зразумелы адказ на пытаньні "што рабіць?" і як сябе паводзіць, як ацэньваць зьявы. Агентура і "псэўды" ўжо даўно пачалі лямант у падтрымку Лукашэнкі ў выпадку расейскага нападу. (Сымптаматычная ўсё ж такая рэакцыя). Але мы ведаем ад каго ў першую чаргу трэба пазбавіцца і хто ёсьць галоўнай небясьпекай для суверэнітэту, незалежнасьці і народнай свабоды. Зараз адбываецца інфармацыйная вайна. Беларусь існуе ў інфармацыйным полі Расеі. Тут вялікая небясьпека ад уплыву яе ілжывай прапаганды. Нам трэба супрацьставіць гэтаму ўсе нашыя сродкі (у тымліку індывідуальныя, гуманістычныя). Цяпер абсалютна зразумела, што ў вайне за Украіну пераможа той, хто выйграе інфармацыйную вайну. Прапаную тут свае развагі па надзённых пытаньнях.

### Гісторыя агрэсіўнай мэнтальнасьці

Па вялікаму кошту гісторыя расейскай агрэсіі і разбою пачынаецца ад Бату-хана і ўтварэньня мангольскай Арды. Дакладней, пасьля таго, як Арда аслабла, падзялілася, і Масковія паступова пераняла ўладу ў вялікай дзяржаве. Псіхалёгія вандроўнікаў была сутнасьцю дзяржаўнай палітыкі: захопы, разбой, агрэсія, вынішчэньне, існаваньне за кошт нарабаванага. На зьмену ханам прышлі цары і пераўзышлі ўсіх па жорсткасьці і самадурству. Бліжэйшы да нашага часу рускі цар Мікалай I так і казаў: "Расея ёсьць ваенная дзяржава" і, верны салдафонскаму духу, спаў пад шынялём, нават не разуваючыся.

Але я не пра гэтую гісторыю. Сутнасьць палітыкі Маскоўшчыны і псіхалёгія "маскаля-кацапа" (у вобразным выяўленьні самых расейцаў) была добра вядомая ўсім нацыянальным палітыкам і людзям, якія сутыкаліся з расейцамі ў іхным асяроддзі. Расейская палітыка і расейская ўлада ва ўсе часы стоадсоткава адпавядала расейскай мэнтальнасьці. Дачыненьні паміж маскоўскай уладай і дэмасам (грамадзтвам) пабудаваныя на прынцыпе рабства, дзе ўлада кіруе, душыць і зьневажае, а грамадзтва падтрымлівае ўладу за права душыць і зьневажаць іншых, што зьяўляецца для нявольніцкай псіхалёгіі сурагатам свабоды (нявольніцкай свабоды). Валоданьне нявольніцкай свабодай спараджае татальную псіхалёгію нянавісьці і ідэалёгію агрэсіі. За ўсё жыцьцё, часта сутыкаючыся з расейцамі і назіраючы адносіны з іншымі, я ні разу (!) ня чуў ад расейцаў, каб яны з павагай і пашанай адазваліся б пра любы іншы народ на плянэце акрамя рускага. Ацэнкі толькі нэгатыўныя, грэблівыя, насьмешлівыя, хамскія, злосныя, гістэрычныя, ненавісныя, паблажлівыя, ёрніцкія, хлусьлівыя, зайздросныя і т. п., але ніколі не станоўчыя, не пахвальныя, не паважлівыя. Тое ж самае – ў рускай літаратуры,аднабока імпэрскай, не гуманнай, бяз сьветлых вобразаў і ідэй.

Гэта глыбока ксэнафабічная псіхалёгія, якая вылучае толькі сябе ў чужым для яе сьвеце. Астатнія – гэта прадмет неўспрыняцьця альбо нянавісьці – "чуркі", "хахлы", "бульбашы", "лабусы", "жыдава", "пшэкі", "туркі", "піндосы" і г. д. Агрэсія, хамства і гістэрыка – асноўны тып паводзінаў рускага індывідыума ў неаднародным грамадзтве. Пры пэўных абставінах гістэрыка набывае масавыя формы і ўяўляе сабой нешта па-

азіяцку ўнікальнае, параўнальнае хіба з паводзінамі цяперашняга паўночна-карэйскага грамадзтва.

Сымптаматычна, што масавы імпэрскі псіхоз расейцаў узьнікаў не ў часы войнаў, але ў часы душэньня паўстаньняў за волю, незалежнасьць і свабоду. Спрацоўвала псіхалёгія раба – нянавісьць да нярабскай свабоды. Усе задушэньні паўстаньняў у XIX стагоддзі на тэрыторыі Беларусі і Польшчы выклікалі паталягічны імпэрскі псіхоз рускага грамадзтва, уключаючы нізы і вярхі, рэлігію і імпэрскую літаратуру. Усе гэтыя пушкіны, цютчавы, лермантавы, някрасавы і т. п. наперабой плявалі на Беларусь і Польшчу, "возвелічівая" рускую агрэсію і мярзотнікаў, якія за ёй стаялі.

Асабліва вызначыліся 1830-31 і 1863-64 гады. Пасьля здушэньня паўстаньня Кастуся Каліноўскага ў Расеі тварылася нешта неверагоднае. Псіхоз ад шчасьця і імпэрскіх пачуцьцяў быў такі, што здавалася, быццам тая Расея звар'яцела. Адзіны напалову рускі, які падтрымаў вызвольнае паўстаньне, быў Герцан. Тады ён назваў тую імпэрскую псіхапатыю "русским патриотическим сифилисом". Пасьля такога азначэньня так званая "передовая русская інтэллигенция" перастала чытаць ягоны "Колакал", дзе тое было напісана.

Нічога ні пад сонцам, ні пад месяцам, ні пад "красной звездой" не мяняецца ў маскоўскай Ардзе. У 1922 годзе Карней Чукоўскі ў брашуры "Паэт і палач", дарэчы, выразна апісаў той стан ашалелай Расеі пасьля задушэньня паўстаньня Каліноўскага. Пачытаеш – і бачыш, што адзін да аднаго цяперашняе клінічнае вар'яцтва маскоўцаў супраць Украіны з нагоды акупацыі і анэксіі Крыма.

Такое пассіянарнае задавальненьне рускіх ад усьведамленьня разбуральнай і прыгнятальнай ролі Расеі тлумачыцца ня толькі рэліктавымі эмоцыямі сярэднявечча, але вынікае яшчэ і з таго, што Расея не адбылася як нацыя. Па вялікаму кошту гэта не нацыя а імпэрыя – асаблівая агрэсіўная агульнасьць людзей (якую адзначаў, дарэчы, часта цытаваны ў савецкай Расеі Карл Маркс). Імпэрыя валодае не нацыянальнай, а імпэрскай сьведамасьцю. Яе разьвіцьцё мае экстэнсіўны характар, накіраванае ўшырыню, характарызуецца не адмежаваньнем ад культурна чужога (як у нацыі), а паглынаньнем яго. Імпэрыя ня мае суцэльных этнічных межаў і зьяўляецца шматковай краінай. Ў гэтым яе слабасьць (ахілесавая пята) і зона распаду, які імпэрыя стараецца прадухіліць жорсткай ўнутраннай палітыкай, што ўплывае на псіхалогію і характар насельнікаў. Імпэрыя – характэрны тып дзяржаўнай арганізацыі сярэднявечча. Нацыі, што ўтвараліся пры распадзе імпэрыяў, -- гэта новы больш дасканалы від натуральнай арганізацыі грамадзтва. Нацыі выявіліся як больш жыцьцёздольныя і жыцьцёдайныя агульнасьці людзей, якія адрадзілі і ўдасканалілі тып дэмакратычнага грамадзтва і індывідуальную свабоду асобы.

Бяда расейцаў, што яны затрымаліся на ўзроўні імпэрыі прытым азіяцкага кшталту, дзе адсутнічалі такія каштоўнасьці, ў герархічнай (імпэрскай) абароне асобы, якія былі, скажам ў імпэрскіх брытанцаў, рымлян і нават у туркаў-асманаў. Найвялікшы недахоп расейскага імпэрскага грамадзтва гэта неабмежаванае бяспраўе рускага чалавека. Яно было заўсёды і як вынік спараджала халуйства ды крымінальшчыну. Пуцінскі гэбісцкі рэжым ўзмацніў гэтыя недахопы, давёўшы часам іх да абсурду.

### Імпэрскі фашызм

Тое, што мы бачым цяпер у пуцінскай Расеі, -- гэта тыповае выяўленьне шавіністычна-імпэрскага фашызма. Пасьля паўраспаду савецкай імпэрыі (1991г.) адбылося перараджэньне сацыял-імпэрскага фашызма (якім быў савецкі сацыялізм-камунізм) у нацыянал-імпэрскі фашызм. Ад самага пачатку гэтых накірункаў сацыялізму розьніца паміж імі палягала толькі ў апорных групах грамадзтва. Нацыянал-сацыялізм (скарочана "нацызм") абапіраўся на выключнае права пануючай нацыі. Сацыял-камунізм – на выключнае права пластоў грамадзтва, пазбаўленых прыватннай

уласнасьці. У астатнім – поўнае супадзеньне мэтадаў і задач, толькі з мадыфікацыямі па родавых прыкметах.

На пачатку ўзьнікненьня і разьвіцьця двух фашызоідных сістэмаў сацыялізма паміж імі было брацкае супрацоўніцтва. Але паколькі і адна, і другая сістэма імкнуліся да сусьветнага панаваньня, то сутыкненьне паміж імі было непазьбежным.

У Другой Сусьветнай вайне сьвет зьнішчыў адну частку антычалавечай сістэмы – гітлераўскі фашызм і нямецкі мілітарызм. З другой часткай (сацыялізм і савецкі імпэрыялізм) пачалася халодная вайна. Пасьля перамогі вольнага сьвету ў халоднай вайне сістэма сацыялізму (сацыял-фашызма) распалася. Аднак засталася дзяржаўная імпэрская аснова і рэпрэсіўны апарат сістэмы: НКВД-КГБ. Такое становішча рана ці позна мусіла б прывесьці да дыктатуры, да аднаўленьня палітыкі імпэрыялізму і агрэсіі.

Пра небясьпеку такой зьявы я пісаў на працягу ўсіх 90-х гадоў (галоўная праца – "О русском империализме и его опасности"). Гром грымнуў у 2000-м годзе. Абсалютную ўладу ў Расеі пераняў КГБ. У той жа год зімой я паехаў ў Вашынгтон, а сябры нашай партыі (КХП-БНФ) – у Парыж, Вільню, Рыгу, Брусэль. Ставілася задача папярэдзіць сьвет аб небясьпецы, склікаць міжнарожную канфэрэнцыю палітыкаў на ўзроўні партыяў, дэпутатаў парлямантаў і членаў урадаў, зьвярнуць увагу на небясьпеку для ўсяго сьвету і прыняць плян супольных дзеяньняў. Небясьпека – гэта падрыхтоўка агрэсіі, перамена межаў, перапарадкаваньне грашовых плыняў, падпарадкаваньне дзяржаўнай мафіі і спэцслужбам усіх сфэраў дзейнасьці (найперш эканомікі і фінансаў), рост і каардынацыя сусьветнага тэрарызму, пранікненьне ў заходнюю палітычную сістэму, лякальныя войны і ў выніку – перадзел сьвету і небясьпека новай усеагульнай вайны.

У Вашынгтоне знайшліся палітыкі, якія разумелі, у якім кірунку пойдзе разьвіцьцё Расеі. Дамовіліся аб падрыхтоўцы міжнароднай канфэрэнцыі. Я выехаў у Эўропу і Прыбалтыку. У цэлым усюды была падтрымка. Але потым збой адбыўся якраз у ЗША. Вашынгтон ухіліўся ад гэтай ініцыятывы. Вышэйшыя палітычныя сфэры захаду стаялі на іншых пазыцыях. Неўзабаве ў Маскву да ручкі Пуціна паехаў прэм'ер Вялікабрытаніі Тоні Блэр і іншыя лідары. Пазьней прэзыдэнт ЗША Буш убачыць у рыбіных вачах Пуціна "душу рускага народа". Захад сваёй палітыкай фактычна выгадаваў новы рускі фашызм і яшчэ не разумее, што адбылося.

## Планы агрэсіі

Новая палітыка пуцінскага гэбізму пачалася з першых жа дзён улады. Ужо ў 2002 годзе ён загаварыў пра анэксію Беларусі (пра далучэньне да Расеі шасьцю абласьцямі). Адначасна з унутраным захопам улады і пераразьмеркаваньнем маёмасьці ствараліся далейшыя пляны ўнутранай акупацыі Беларусі, захопу Украіны, Грузіі, Малдовы, Польшчы, Прыбалтыкі, Фінляндыі і наступнага падпарадкаваньня цэнтральнай Эўропы. (У Беларусі і ў Польшчы тое разумелі адзінкі. У заходняй Эўропе – ніхто.)

Паўраспад савецкай расейскай імпэрыі ў 1991 годзе прывёў да ліквідацыі КПСС і камуністычнай ідэалёгіі. Але імпэрыялістычная дзяржава дзеля ўтрымальня рэжыму ўлады не магла заставацца без ідэалёгіі. Дрэйф гэбоўскай Расеі да шавінізму быў заканамерны і ўсьвядомлены. Імпэрскі нацыянал-фашызм фармаваўся адкрыта, на вачах усяго сьвету, які рабіў выгляд, што нічога не заўважае.

Фашызм мае родавыя прыкметы, па якіх пазнаецца. Гэта ідэалёгія групавой улады, заснаваная на агрэсіі, на праве сілы і непрызнаньні правоў іншых, акрамя права сваёй групы ўлады. Для апраўданьня агрэсіі фашызм выкарыстоўвае ідэалягічныя вэрсіі. Напрыклад, неабходнасьць жыцьцёвай прасторы (гітлерызм). "Нямеччына ўсюды і паўсюль." "Нямеччына над усім." ("Deutschland über alles"). Альбо – "русский мир". Гэта, фактычна, абазначае права на агрэсію, на далучэньне ўсіх тэрыторыяў, дзе гавораць па-руску. (Адсюль галоўны тэзіс расейскай палітыкі – русіфікацыя і

разбурэньне нярускіх моваў.) Выкарыстоўваюцца вэрсіі генетычнай, культурнай альбо расавай выключнасьці і паніжэньне іншых ("унтэрмэншаў", "чурак", "чучмэкаў" і г. д.). Гаворыцца пра "дух Нібэлюнгаў" і вышэйшасьць "арыяў" ці, пра "богоизбранность Росии" і "мессианство русских для всего человечества" і г.д.

## Мэтамарфозы фашызму

Пераход да імпэрскага нацыянал-фашызму ў форме пуцінскага гэбізму адбыўся натуральна і заканамерна, з выкарыстаньнем гістарычных напрацовак, для інтэграцыі і асэнсаваньня якіх хапіла КГБ і Пуціна. Менавіта палітыка пуцінскага гэбізму арганізавала імпэрскі нацыянал-фашызм у Расеі. КГБ для кантролю над грамадзтвам стварыў мноства радыкальных праімпэрскіх прарасейскіх арганізацыяў, фінансаваў іх, арганізаваў (па прыкладу лукашызма) псэўда-апазыцыйныя структуры, разьвіваў ура-патрыятычныя настроі, дзе культывавалася расейская выключнасьць, мэтадычна ствараўся вобраз ворага ў абліччы Амэрыкі, НАТО, падступнага Захаду, гатовага нашкодзіць Расеі. Негалосна падтрымліваліся расісцкія настроі і дзеяньні. Пры гэтым рэжым Пуціна афіцыйна выступаў супраць фашызму і экстрэмізму, але фашыстамі і фашызмам у расейскім разуменьні называліся ўсе нярускія нацыянальныя рухі і людзі, што выступалі супраць расейскага імпэрыялізму, агрэсіі і несвабоды. Тут усё сьведама, па-гэбоўску было перавернута з ног на галаву. І збыліся словы Чэрчыля, калі рэальныя фашысты пачалі казаць, што змагаюцца супраць фашызму і ненавідзяць "фашызм", пад якім разумеюць тых, хто змагаўся за незалежнасьць, свабоду і дэмакратыю супраць імпэрскай Расеі. "Фашыстамі" аб'яўлялі цэлыя нацыі: эстонцы – гэта "фашысты", "они против Росии", украинцы – "они все фашисты-бэндэровцы", БНФ – "фашисты", "они за белорусский язык" і г. д.

Усё гэта замбавалася на ірацыянальным узроўні, зьвярталіся да людзкой неадукаванасьці і нізкіх інстынктаў. У давяршэньне гэбізм сканцэнтраваў усе сродкі інфармацыі ў сваіх руках і арганізаваў такую сістэму інфармацыйна-прапагандысцкай ілжы, хлусьні, інсінуацыяў, якая можа быць толькі ў Расеі. Перад ёй нават гёбельсаўшчына малее.

Фашызацыя грамадзтва Расеі адбывалася татальна і хуткімі тэмпамі, а інфармацыя пра гэта аб'яўлялася "антырасейскімі правакацыямі", "русафобіяй" і т. п. Усё трывала да таго часу, пакуль пуцінскі гэбізм ні напаў на Украіну, ні захапіў Крым і ня выявіў сваю сутнасьць у агрэсіўных дзеяньнях, ацэначна зразумелых ва ўсім сьвеце як агрэсія, напад, анэксія, вайна. Сьвет ачнуўся ад ілюзіяў, але, як мне здаецца, яшчэ не ўсьвядоміў, што адбываецца.

Сістэмы бясьпекі ў Эўропе, заснаванай на аснове дамоўленасьцяў і непарушнасьці межаў, больш не існуе. Галоўны фігурант гэтых дамоўленасьцяў Расея – краіна з самым вялікім патэнцыялам ядзернай зброі -- паламала ўвесь парадак міжнародных абставінаў, з цяжкасьцямі дасягнуты пасьля 2-й Сусьветнай вайны. Гарантыі і мэмарандумы вялікіх краін ператварыліся ў пустыя паперкі і нічога ня значаць. Сытуацыя вярнулася ў 30-я гады мінулага стагоддзя, і Захад у гэта яшчэ ніяк ня можа паверыць. На працягу шэрагу гадоў усе папярэджаньні беларусаў, палякаў, прыбалтаў аб агрэсіўнай сутнасьці Расеі, аб гэбізме ў Расеі як новай формы фашызма, аб падрыхтоўцы Расеі да вайны, -- на ўсё гэта Захад не зьвяртаў увагі, ён, бачыце, спадзяваўся на "дэмакратыю" ў гэбоўскай імпэрскай краіне, даваў ёй мільярды крэдытаў.

Гэты Захад апраўдываў прарасейскую ўнутранную акупацыю Беларусі і вуснамі сумнавядомага Ганса Віка штурхаў нашу краіну да анэксіі, казаў, што злучэньне аўтарытарнай Беларусі з "дэмакратычнай" Расеяй прывядзе Беларусь да дэмакратыі. Яны як зомбі паўтаралі заклінаньні аб "дэмакратычнай" Расеі (там, дзе дэмакратыі ніколі не было і ня можа быць, пакуль гэты монстр не распадзецца). Сапраўды, паўтараюцца 30-я гады, калі Эўропа сама выкарміла Гітлера і разьвязала яму рукі для агрэсіі. Рускі гэбізм таксама сфармаваўся і акрэп пры спрыяньні Захаду. Адсюль

вынікае, што і на гэты раз яны знойдуць між сабой паразуменьне, аж пакуль Расея ні пачне новую сусьветную вайну.

Гісторыя канстатуецца, але, на жаль, не засвойваецца, бо ў палітыцы існуюць іншыя тэндэнцыі – вярнуцца ў гісторыю і ўвайсьці двойчы ў тую ж ваду. Тое, што робіць цяпер Пуцін і кампанія – гэта не псіхічны зрыў, не скорапальная авантура, а цалкам сьведамае дзеяньне, нечаканае для Захаду, які ад прыроды ня ў стане зразумець сутнасьці рускіх гэбоўскіх мазгоў. (У гэтым, дарэчы, адзіная перавага Расеі перад Захадам. Расея разумее Захад дасканальна, а Захад Расею – не.) Калі б расейцы былі ў квяцістых халатах, у чалмах, з барадамі па пояс – тады было б ўсё зразумела. Але вось яны на фатаграфіі ў эўракасьцюмчыках, у джынсах, пры гальштуках стаяць рашучым натоўпам пад вялікім лёзунгам з нагоды анэксіі Крыму, на якім напісана: “Мы против свободы”. Гэта тое, пра што я пісаў у пачатку. Яны супраць свабоды заходняй і за свабоду рускую, гэта значыць за свабоду рабскую, за свабоду ненавідзець усіх, хто ня зь імі і хто не такія, як яны.

Некаторыя заходнія асобы пішуць наконт паталёгіі крымскага псіхозу ў Расеі. Маўляў, Пуцін падставіў Расею пад санкцыі, а Крым пад дэградацыю і выміраньне. У выніку настане ацьверазеньне, і настроі ў расейцаў зьменяцца. Тут чарговая ілюзія заходніх уяўленьняў. Расейцы -- гэта ня немцы, што ўжо скора семдзесят гадоў каюцца пасьля вайны і адчуваюць сваю віну за злачынствы Гітлера. Расейцам такія пачуцьці віны і пакаяньне ў прынцыпе не вядомыя. У гісторыі Расеі такіх выпадкаў не было. Яны ня каяліся ні перад чачэнцамі, ні перад крымскімі татарамі, ні за Курапаты, ні за Галадамор украінцаў – увогуле, яны ніколі і ні за што не каяліся, бо ў іх іншая маральна-гістарычная ўстаноўка ў сьвядомасьці – як у цара Хамурапі, як у Чынгіз-хана, і забойствы (тым больш масавыя “ў імя Расеі”) – гэта, па-іхняму, “гераізм”, “доблесть” правления, оружия и твердой руки”. Яны гэтым ганарацца. (Пачытайце выказваньні рускіх генэралаў апошняй Чачэнскай вайны.) «Ваше сиятельство, не щадите виновных!» -- шыпеў на паўстанцаў Каліноўскага рускі паэт М. Някрасаў, зьвяртаючыся да Мураўёва-Вешальніка. (Гэта той самы Някрасаў, што вывеў карыкатурны вобраз беларуса ў вершы “Железная дорога”)

Калі ў выніку авантурнай палітыкі Пуціна пасьля нападу на Украіну рускім стане жыць горш, калі пачнецца, напрыклад, эканамічны абвал, то будзе ня так як думаюць на Захадзе, а так як адбываецца ў Расеі: псіхоз імпэрскага шавінізму пяройдзе ў амок шавінізму (все гады, бей, круши!). І ня Пуцін стане ў іх вінаваты, а ўвесь сьвет, Амэрыка, НАТО, піндосы, “предатели” і г. д. Будзем да гэтага гатовыя. Небясьпека толькі ў тым, што калі амок захопіць самога Пуціна і яго ідэалягічнае ўпраўленьне тыпу разанскага епіскапа “Краніка”, то паміраць могуць “з музыкай” пад акампанэмэнт атамных выбухаў.

## Цяжкі час Украіны

Мушу паўтарыцца яшчэ раз, што напад на Украіну рыхтаваўся ад самага пачатку заступленьня Пуціна на вяршыню расейскай улады. Сістэмна гэта рыхтавалася за часы прэзыдэнта Януковіча. Тады ў структуры ўкраінскай улады і ўвогуле грамадзтва Масква ўсяліла тысячы сваіх агентаў, задача якіх была дэзарганізаваць украінскую дзяржаву (падрыхтаваць яе для лёгкага захопу).

Украінскую армію, напрыклад, разваліді цалкам. Цяпер, калі пачаўся другі этап падрыхтоўкі ўварваньня, у паўднёва-усходнія гарады заслалі са зброяй сотні рускіх дыверсантаў і тысячы сабатажнікаў пад выглядам турыстаў. Яны вытвараюць там, што хочуць, а ўкраінская дзяржава ня ў стане ні перакрыць мяжу, ні абараніць гарады ад нашэсьця. Добрая палова ўкраінскай міліцыі падкуплена расейскай агентурай. Міліцыя бяздзейнічае. Уся расейская ФСБ кінута зараз на ўсход і поўдзень Украіны дзеля падрыхтоўкі правакацыяў і стварэньня ўмоваў для ўварваньня.

Ужо даўно адбываецца расейская акупацыя, ідзе сучасная вайна на тэрыторыі Украіны, новымі расейскімі мэтадамі, ўзброеныя да зубоў сучаснай зброяй рускія

вайсковыя аддзелы ГРУ захопліваюць украінскія гарады, на вайсковых рускіх машынах падвозяць падмацаваньні -- зброю і жывую сілу (і як гэта яны праязджаюць праз дзяржаўную мяжу?), а часовая кіеўская ўлада ня ведае што рабіць. (У сучаснай жа вайне няма франтоў і акопаў). Расейскія фашысты жаруць Украіну па частках, як зграя ваўкоў, загнаўшы лася, рвуць кавалкі яго па-жывому, а бапцісцкае кіраўніцтва у Кіеве, відаць, вырашае, якую шчаку яшчэ падставіць расейскім жывадзёрам. Сапраўды становішча Ўкраіны проста трагічнае. Новая ўлада не дае магчымасьці іншым краінам дапамагчы Украіне, бо Украіна не супраціўляецца.

Справа ня ў Крыме, не ў паўднёвых і ўсходніх вобласьцях Украіны. Справа ва ўсёй Украіне, якая па плянах Пуціна (пра што ён раней прагаварыўся) павінна быць ліквідавана як дзяржава. Захоп па кавалачках – гэта тактыка і адцягваючы манэўр, бо галоўны ўдар і галоўная правакацыя рыхтуецца ў Кіеве. Шмат будзе залежыць ад таго, як украінцы ўмацуюць Кіеў і засьцерагуць урадавыя будынкі.

Пуцін мог бы адкласьці шырокае ўварваньне, калі б былі гарантыі перамогі на выбарах 25 траўня кандыдата на прэзыдэнта Украіны выгаднага Маскве (як мяркуюць многія украінцы – Юліі Цімашэнкі). Калі гарантыяў ня будзе, маскоўцы пастараюцца сарваць выбары. Маштабнае ваеннае ўварваньне на Украіну – адзін з мэтадаў.

Складанасьць на Украіне ў тым, што акрамя агульнага дзяржаўнага развалу, тут прызначана (што для ўсіх відавочна) безаблічнае і нерашучае часовае кіраўніцтва дзяржавы. Дрэнна таксама, што яно вымушана ва ўсім цяпер слухаць бесталковую Эўропу. Вынік гэтай залежнасьці – перасьлед і абмежаваньне дзейнасьці Правага сэктару – структуры, якая вынесла ўкраінскую рэвалюцыю на сваіх плячах. Тут відаць тыповая падвойная “палітычка” лібэральнага Захаду: прасоўваць свае паняцьці пра дэмакратыю і зьнішчаць нацыянальна-дэмакратычныя сілы, якія праводзяць моцную незалежную палітыку.

Такі сцэнар яны ажыцьцявілі ў Беларусі ў 90-х гадах, калі кінулі вялікія грошы і кадры на раскол Народнага Фронту і подкуп дэмакратычных маргіналаў, зь якіх клеілі потым “дэмакратычную апазыцыю”. Супольнымі сіламі з рэжымам Лукашэнкі і з Масквой гэтыя заходнія “дабрадзеі” грунтоўна панішчылі тады ў Беларусі беларускую нацыянальную палітыку. Цяпер яны пачалі гэтым займацца ўжо на Украіне.

## Праблемы ў Беларусі

Калі рускую акупацыю ня спыняць на Украіне, то агрэсія будзе распаўсюджвацца далей. Але ўжо цяпер Масква, практычна, уцягнула антыбеларускі рэжым у падрыхтоўку ўдара па Украіне. Расейцы перакінулі 24 свае самалёты на стратэгічны беларускі аэрадром у Бабруйску, нават не паставіўшы ў вядомасьць свайго сатрапа. Гэтым засьведчана (хто яшчэ не зразумеў), што суверэнітэту ад Расеі ўжо няма. Зрэшты, яго няма ўжо з 1996 года, калі вырадак насуперак Канстытуцыі ліквідаваў мяжу з Расеяй.

Мяркуецца, што Расея сьцягвае свае войскі ў акупаваную Беларусь для ўдару па Кіеву. У апошні час у Менску сталі заўважаць дзіўных ваенных у пагонах, але без ніякіх вайсковых адзнак. Яны гавораць па-руску. Але чыё гэта войска – сказаць цяжка. Магчыма, нават беларускае. Калі так, то гэта трывожны сімптом, які сьведчыць, што маскоўскі гэбізм намераны сур’ёзна ўцягнуць антыбеларускі рэжым у канфлікт і запляміць нашых людзей у братазабойчай вайне.

Подласьць Масквы нямераная. Яна ведае нашыя цёплыя адносіны да ўкраінцаў, а ўкраінцаў да беларусаў. Украінцы – гэта нашыя сапраўдныя браты. Мы гаворым кожны на сваёй мове і разумеем адзін аднаго. Перакладчыкаў нам ня трэба. І тут гэбоўскай Маскве трэба пасеяць сваю нянавісьць. Такога нельга дапусьціць, бо ўкраінская вайна з акупанцкай Расеяй – гэта і нашая вайна з акупанцкай Масквой. Беларускія жаўнеры павінны быць гатовыя павярнуць зброю супраць расейскіх акупантаў, а ў выпадку прымусу перастраляць акупанцкіх афіцэраў (а такія ёсьць) і ваяваць на баку ўкраінцаў за нашу і іхнюю свабоду. Калі рускія фашысты думаюць, што

возьмуць Беларусь голыма рукамі – яны моцна памыляюцца. Зараз не да сантымэнтаў і не да пустых размоў.

Усе ўжо ўбачылі агрэсіўнае валасатае мурло рускага кагэбізму. Гэтае мурло не разумее ніякай чалавечай мовы, акрамя мовы дубіны і кулі. Таму гаварыць зь імі можна толькі на гэтай іхняй мове. Інакш ня дойдзе. Перамагае той, хто змагаецца. Дапамагаюць таму, хто супраціўляецца. Настае вызначальная пара. Трэба быць да яе гатовымі.

*13. 04. 2014 г.* Зянон Пазьняк

# ПРОЙДЗЕНЫ ШЛЯХ, НОВАЯ ПЭРСПЭКТЫВА

*(Даклад на X Зьезьдзе КХП-БНФ і XII Зьезьдзе БНФ “Адраджэньне”)*

Напачатку схематычна пра агульнавядомае, каб ўвайсьці ў тэму.

Непрыяцелямі беларускай свабоды і дзяржаўнай незалежнасьці былі Масква і КПСС у форме СССР ды мясцовая камуністычная кіруючая намэнклятура (КПБ). У канцы 80-х антыбеларускім сілам супроцьстаяў Беларускі Народны Фронт і ўсё тое грамадзтва, якое не падтрымлівала камуністаў і КПСС.

Захад і ЗША стаялі супраць беларускай незалежнасьці і свабоды. Але гэтая пазыцыя Захаду актыўна не выяўлялася і на вынік змаганьня, практычна, не ўплывала.

Незалежнасьць Беларусі была дасягнута ў 1991 годзе насуперак волі Захаду, Савецкі Саюз ліквідаваны. Адметнасьцю сталася тое, што ўся ўлада ў незалежнай Беларусі засталася ў ідэйна прамаскоўскай і палітычна антыбеларускай савецкай намэнклятуры (фактычна, савецкай каляніяльнай адміністрацыі). У сярэдзіне 90-х гэта прывяло да рэстаўрацыі савецкай прамаскоўскай улады (без партыі улады) і да стварэньня антыбеларускага аўтарытарнага рэжыму ўнутранай акупацыі.

Ускладнілася як унутранае, так і зьнешняе становішча барацьбы за вольную Беларусь. У беларускіх падзеях пачаў удзельнічаць Захад (Заходняя Эўропа) з сваёй тыповай палітыкай падвойных стандартаў і эгаістычнага прагматызму.

Стратэгічна Заходняя Эўропа паказвае зацікаўленасьць у разьвіцьці незалежнай Беларусі, але вынікова спрыяе зьнішчэньню беларускай нацыянальнай культуры, мовы, перашкаджае разьвіцьцю вызвольных нацыянальна-дэмакратычных працэсаў у Беларусі. Ва ўдзельнай вазе гэтай падвойнай палітыкі Заходняй Эўропы пераважваюць тэндэнцыі, небясьпечныя для нашай нацыі, культуры і свабоды. Нэгатыўныя тэндэнцыі спараджаюцца левымі сіламі Эўразьвязу. З гэтай прычыны пазыцыі настолькі закасьнелыя, адназначныя і некрытычныя, што, практычна, выключаюць спадзяваньні беларусаў на Заходнюю Эўропу. У змаганьні з антыбеларускім рэжымам і імпэрыялістычнай Масквой беларусы могуць ставіць толькі на самых сябе. Гэта правіла, якое трэба як найхутчэй засвоіць. Тым больш, што ўся наша тысячагадовая гісторыя дачыненьняў з Заходняй Эўропай і Масквой усё тое вымоўна пацьвярджае.

У выніку супольнай дзейнасьці структураў левай Заходняй Эўропы, нямецкай выведкі (Ганс Вік) і рэжымнага КГБ істотна зьмянілася ўнутраная палітычная раскладка ў Беларусі.

Тактыка Масквы і рэжымнага КГБ у барацьбе зь беларускім Адраджэньнем і БНФ была ранейшай, як і за саветамі, -- душыць і разбураць, плюс прапаганда ахайваньня ўсяго беларускага. Стаўку рабілі на агентуру і на стварэньне сваіх псэўдапатрыяў, арганізацыяў і групаў. Альтэрнатыўная ідэя (акрамя ідэі падтрымкі рэжыму) тут адсутнічала.

Тактыка Эўропы (найперш немцаў) заключалася ў спробе ўкараніць у беларускае грамадзтва новую альтэрнатыўную аб’яднаўчую ідэю (насуперак Нацыянальнай ідэі) – ідэю лева-лібэральнай дэмакратыі, сутнасьцю якой павінны стаць правы чалавека ў інтэрпрэтацыі заходніх лібэралаў. Стаўка рабілася на грошы, на перакуп існуючых дэмпартый і іншых арганізацыяў і групаў, кантралюемых КГБ. **Заходняя Эўропа стварала ў Беларусі сваё лібэральнае касмапалітычнае лобі і ўсе высілкі накіравала на разбурэньне Беларускага нацыянальнага Адраджэньня, на зьмену кіраўніцтва і раскол БНФ.** Гэтакая дзейнасьць заканамерна прывяла немцаў і іншых пасланьнікаў Эўразьвязу да супрацоўніцтва з антыбеларускім рэжымам і з КГБ.

Як гэта ні ганебна, але грошы аказаліся настолькі магутнай і эфэктыўнай зброяй супроць маральна неакрэплай беларускай эліты, што разбуральныя пляны эўрапалітыкі неўзабаве рэалізаваліся ў маразматычнай форме. Быў паралізаваны нацыянальна-адраджэнскі рух, расколаты БНФ і скампанавана псэўдаапазыцыя (на дэмакратычнай ідэі і лібэральных псэўдакаштоўнасьцях), якая заняла паліцу рапалавіненага Народнага Фронту.

Маразматычнасьць выніку гэтай палітыкі выявілася ў поўнай дэвальвацыі і прафанацыі прапанаванай Захадам дэмакратычнай ідэі. У рэальнасьці галоўнай ідэяй штучнага ўтварэньня стала "халява", халяўныя грошы Захаду пад любую заказаную адтуль нібыта дэмакратычную дзейнасьць. Утварыўся цэлы пласт імітатараў, каста халяўшчыкаў, выгадная антыбеларускаму рэжыму, бо **яна не нясе ў сабе нацыянальнай палітыкі; выступае пад назвай "апазыцыя" і легітымізуе антынародны рэжым, заганяючы людзей на фальшывыя выбары, якія выбарамі не зьяўляюцца.**

Змагаючыся з антыбеларускім рэжымам, беларускі адраджэнскі рух і наша партыя (КХП-БНФ) мусяць улічваць такую падступную палітыку Захаду і імітацыйную дзейнасьць ягонай "апазыцыі". У паліталагічным сэнсе такая арыентацыя Захаду ў Беларусі і інсьпіраванай ім "апазыцыі" ёсьць поўны палітычны тупік без прасьвету і пэрспэктывы. Бо ў час пагрозы для нацыі, у час антынацыянальнай чужой акупацыйнай палітыкі ніякая ідэя ня можа аб'яднаць нацыю, акрамя НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ідэі. Дэмакратычная ідэя ў такіх абставінах ня можа злучыць нацыю з прычыны сваёй вузкай палітычнай накіраванасьці і ніколі нідзе нікога не аб'яднала. **Спачатку ідзе нацыя, а потым дэмакратыя.**

Экспарт левалібэральнай касмапалітычнай Эўропы ў ідэалёгію беларускай барацьбы аказаўся надзвычай шкодным. Гэта шлях вечнага паражэньня і маргінэсу. Тым больш, што ў эўраінтэграцыі ён выяўляецца як шлях антынацыянальны. Эўрадэмакратыя ў гэтым сэнсе тут ні на шмат адрозьніваецца ад так званай "рускай дэмакратыі", якая ёсьць эўфемізмам вялікадзяржаўнасьці і сінонімам русіфікацыі.

Такім чынам, пачынаючы з 2000-х гадоў, у беларускай палітыцы зьявілася фальшывае паразітычнае ўтварэньне, сутнасьцю якога зьяўляецца **імітацыя палітычнага змаганьня дзеля забесьпячэньня прыватных матэрыяльных інтарэсаў «змагароў» і вымогаў эўрапалітыкі.** Ідэалёгіяй гэтага ўтварэньня ёсьць палітычная дэмагогія аб дэмакратыі.

За больш чым 13 гадоў існаваньня гэтага лобі яно ўдзельнічала ў шмат якіх палітычных мерапрыемствах, але нідзе ніколі ня мела і не дасягнула ніякага посьпеху, ніякага (нават мінімальнага) пазытыву, ніякай перамогі. Наадварот, усё, да чаго датыкалася гэтая "квазі-апазыцыя", было разбурана, спрафанавана і цярпела няўдачу.

**Прафанацыя, тактыка паражэнства і аб'ектыўнае спрыяньне антынароднаму рэжыму ёсьць галоўнай характарыстыкай дзейнасьці "квазі-апазыцыі".** Зьява гэтая пагрунтаваная не на змагарнай ідэі, але існуе, пакуль працягваецца заходняе (альбо маскоўскае) яе фінансаваньне.

Псэўдаапазыцыя ёсьць заўважальнай перашкодай у дэмакратычным працэсе і нацыянальнай палітыцы. У змаганьні з рэжымам трэба ўлічваць яе прысутнасьць і ліквідаваць пры першай магчымасьці.

Найбольшая яе шкода ў тым, што непрыяцелі Беларусі зьмясьцілі яе ў нішу палітычнай альтэрнатывы антыбеларускаму рэжыму, у той час, як вікаўская "апазыцыя" такой альтэрнатывай не зьяўляецца па самой сваёй прыродзе, бо не грунтуецца на нацыянальнай ідэі. Усё гэта (падтрыманае прапагандай у СМІ) заблытвае грамадзтва і электарат насельніцтва. Праект квазі-апазыцыі, распрацаваны нямецкімі і гэбоўскімі прафэсіяналамі, аказаўся адчувальна шкодным для беларускага змаганьня і адраджэньня беларускага народнага антырэжымнага руху.

Зразумела, што ў акупацыйнай сістэме рэжымнай палітыкі, дзе перасьледуецца ўсё беларускае, дзе праводзіцца палітыка этнацыду і нацыянальнага разбурэньня, у сістэме, дзе законы антынацыянальныя і нормы права не выконваюцца, у такой сістэме дзейнасьць беларускай партыі, практычна, паралізаваная.

Стандартныя палітычныя дзеяньні (напрыклад, выбары) у прынцыпе бессэнсоўныя з-за поўнай немагчымасьці іх рэалізацыі па прычыне рэпрэсіўнай рэжымнай палітыкі. Тое ж самае адносіцца і да іншых відаў дзейнасьці.

У антыдэмакратычным, антынацыянальным рэжыме ўлады дзейнасьць беларускай партыі мусіць быць скарэктавана на вынік, на ідэю і неабходнасьць. Інакш партыйная праца можа ператварыцца ў сізіфаву працу, вынік якой – нуль, а сілы патрачаны. Што датычыць рэжымных выбараў, напрыклад (дзе нават галасы ня лічаць), то квазі-апазыцыя, прымаючы ўдзел у галасаваньні, якраз такой сізіфавай працай і займаецца. Але тут іншая матывацыя – выкарыстаньне грошай заходняга спонсара, выдзеленых на выбары.

Мы даўно прааналізавалі становішча і прышлі да высновы, што ўдзельнічаць у фальшывых выбарах нельга, галасаваньне трэба байкатаваць, не ствараць рэжыму фармальнай падтрымкі.

Спатрэбілася амаль дзесяць гадоў нашай пасьлядоўнай партыйнай працы, каб у грамадзтве зразумелі тое. Нават пасіўны байкот (непрыход на галасаваньне большай паловы выбаршчыкаў) поўнасьцю агаляе рэальнае становішча і робіць праблематычнай усю сістэму фальсіфікацыяў, адпрацаваную рэжымам. Тут істотна таксама тое, што пры байкоце выбараў фальсіфікацыю немагчыма схаваць ад грамадзтва. Выбаршчыкі ўсё бачаць на ўласныя вочы. Тут і тлумачэньняў ня трэба, людзі самы пераконваюцца ў ашуканцтве. Нелегітымнасьць такіх выбараў бачна няўзброеным вокам. Іх немагчыма прызнаць за нармальныя выбары.

Пачынаючы з так званых “палатачных” выбараў 2008 года, большая палова выбаршчыкаў перастала хадзіць на рэжымныя выбары. Рэжым правіс. Аргумэнтацыя яго стала зусім нікчэмнай. Ужываць рэпрэсіі, запалохваньні людзей і адміністрацыйны загон людзей на галасаваньне станавілася ўсё цяжэй, прапаганда за выбары ў гэтым становішчы была не дзеяздольнай. У выніку рэжым пайшоў на беспрэцэдэнтнае і, фактычна, антыканстытуцыйнае рашэньне – заканадаўча забараніў прапаганду байкоту выбараў, прыраўняўшы выбарчую агітацыю за байкот да злачынства і палітычнага правапарушэньня.

Наступным крокам рэжыму ў абароне фальсіфікацыі і ў барацьбе з байкотам стала ліквідацыя ў выбарчым заканадаўстве мяжы ўдзелу (фрэквэнцыі) выбаршчыкаў у галасаваньні (акрамя выбараў прэзыдэнта).

З папраўкі ў выбарчае заканадаўства рэжыму выразна вынікае, што выбаршчыкі для фальш-машыны непатрэбныя. Выбары цяпер могуць адбыцца і без народа. Дастаткова, каб прагаласаваў адзін чалавек (скажам, старшыня ўчастковай выбарчай камісіі), і выбары будуць лічыцца законнымі і паўнавартаснымі.

Рэжымныя функцыянеры, відаць, яшчэ не зразумелі, што яны зрабілі небясьпечны для іх крок у дэвальвацыі ўлады і аддзяленьні яе ад народа. Але варыянтаў у рэжыма ўжо не застаецца.

Пастаяннай перашкодай у ажыцьцяўленьні байкоту выбараў увесь час была квазі-апазыцыя. Нават цяпер, калі ўдзел у выбарах неабавязковы, а агітацыя за байкот забаронена, знайшліся традыцыйныя энтузіясты гульні з рэжымам у “дэмакратычныя” выбары.

Прапануючы байкот фальшывых выбараў, мы падкрэсьлівалі, што гэта не аднаразовае дзеяньне няўдзелу ў выбарах, а прынцып палітыкі, накіраванай на аддзяленьне народа ад легітэмізацыі злачыннай рэжымнай улады. Байкот падразумявае актыўнае агітацыйнае дзеяньне з крытыкай рэжыму, плюс нацыянальнае асьветніцтва і стварэньне паралельнага апазыцыйнага да ўлады асяроддзя ўсёй грамадзкай супольнасьці.

Павінна было б стацца такое асяроддзе, якое было б здольнае на падтрымку змаганьня і перамены. Стан грамадзкага нерухомага балота, які падтрымлівае і стварае антыбеларускі рэжым, -- гэта вечнае рабства і вечны тупік. Падрыхтоўка актыўнай нацыянальнай супольнасьці грамадзтва ёсьць абавязковай працай для адраджэнскай палітычнай арганізацыі ва ўмовах акупацыйнага этнацыду і нацыянальнага разбурэньня. Без стварэньня такой нацыянальнай асновы немагчымыя ніякія перамены, ніякая рэвалюцыя і ніякія вольныя ідэі ў нявольным грамадзтве.

Нацыянальна-дэмакратычнае асьветніцтва, абарона мовы, зьберажэньне сакральных месц нашай культуры стала адным з важных і пастаянных накірункаў у нашых дзеяньнях ва ўмовах цяжкага часу.

Мы знаходзімся ў абставінах, калі, на жаль, не пра ўсё можна казаць і ня ўсе справы называць сваімі імёнамі. Таму я скажу тут толькі пра відавочныя вынікі нашай партыйнай адраджэнскай дзейнасьці ў вобласьці ацэнкі палітычных працэсаў і нацыянальнай ідэалёгіі.

Непрыяцелі Беларусі дзеля апраўданьня сваіх пазыцыяў ствараюць і тыражыюць свае канцэпцыі палітычных падзеяў, ацэнак дзеяньняў і гісторыі. Тыражуемую хлусьню нельга недаацэньваць. Яна ўплывае на сьведамасьць людзей. Чалавек губляе арыентацыю ў палітыцы і падзеях, папросту сьлепне, схільны на неадэкватныя паводзіны і амбівалентныя меркаваньні, не заўважаючы, што становіцца прадуктам інфармацыйнага зацямненьня і палітычнай маніпуляцыі. Рэжымныя і так званыя “дэмакратычныя” СМІ спрыяюць дэзарыентацыі сьвядомасьці. І тым ня менш мы бачым вынікі нашай працы і сілу нашай праўды. Цяперашні перадавы беларускі сьвет (і ня толькі у Беларусі, але і за мяжой) апэруе нашымі ацэначнымі катэгорыямі, распрацоўкамі і аналітыкай сучасных палітычных працэсаў і падзей. Гэта надзвычай важны аспэкт барацьбы. Грамадзтва атрымлівае компас, па якім можа вызначыць сваё становішча і рухацца да мэты.

Усьведамленьне праўды людзьмі ідзе, на жаль, зь вялікім спазьненьнем па прычыне заганных стэрэатыпаў сьвядомасьці, выхаваных пэрманэнтнай інфармацыйнай хлусьнёй, але, урэшце праўду ўспрымаюць, бо  яна пацьвярджаецца практыкай.

Акрамя ўсьведамленьня канцэпцыіі байкоту, надзвычай важным для нашага саветызаванага грамадзяніна было зразуменьне расейскай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі, канкрэтна – пазыцыі рускага імпэрыялізму і яго небясьпекі. Гэтую нязьменна актуальную тэму мы востра паднялі яшчэ ў 90-х гадах і тлумачылі ўвесь час. Цяпер разбуральную агрэсіўную ролю Расеі і рускага імпэрыялізму разумее ўжо, фактычна, бальшыня беларусаў. Рэчаіснасьць усё пацьвердзіла. Іншым людзям цяпер было б можа нават цяжка паверыць, што тады нават сьведамыя, адукаваныя вядомыя асобы ўпадалі ў гістэрыку, не пагаджаючыся і не разумеючы відавочнай небясьпекі з боку Расеі. Час (удакладняю: страчаны час) усё расставіў на месца. Але тады, у 90-х, на ініцыятара інфармацыі аб гэтай праўдзе рэжым намэнклятуры ўзбудзіў дзьве крымінальныя справы за крытыку рускай палітыкі. Адна з гэтых справаў (што ўжо выглядае камічна) трывае па сёньняшні дзень.

У канцы 90-х (пачатку афармленьня нашай народнай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ) намі была скрупулёзна прааналізавана палітыка антыбеларускага рэжыму як палітыка ўнутранай акупацыі краіны з кантрольнай функцыяй Масквы. Цяпер ацэначная катэгорыя рэжыму ўнутранай акупацыі, прапанаваная нашай партыяй, стала агульным месцам у разважаньнях палітыкаў, прыхільных да беларускай справы. Больш таго, азначэньнем антынароднага прамаскоўскага рэжыму тэрмінам “унутраная акупацыя” карыстаюцца ў іншых краінах, дзе існуе падобны рэжым улады (скажам, украінскія паўстанцы на Майдане і, як ні дзіўна, нават некаторыя публіцысты ў дачыненьні да пуцінскай Расеі).

Тое ж самае адносіцца да разуменьня тэрміну “гэбізм” у дачыненьні да сацыяльна-палітынай сістэмы цяперашняй улады ў Беларусі і Расеі. Расейцы пераняялі ад нас гэты тэрмін, аналіз і азначэньне сістэмы і называюць яе па-свойму: “чэкізм”.

Адметна важнай зьяўляецца тэарэтычная роля нашай партыі ў ацэнцы геапалітычных дачыненьняў Беларусі з Заходняй Эўропай, а таксама наша ацэнка і пазыцыя ў дачыненьні да эўрапейскай дэмакратыі, да левалібэральнага крызісу эўрадэмакратыі, яе палітыкі падвойных стандартаў і ў цэлым вызначэньня падвойнай ролі Эўропы (салідарнай і нацыянальна разбуральнай) у дачыненьні да Беларусі. Наша праца спрыяла таму, што шмат якія беларусы зьнялі праэўрапэйскія ружовыя акуляры і сталі рэальна глядзець на рэчы і дачыненьні. Наш дэвіз: ***“Сваё будуем самы”***. Тым больш, што дэмакратычная традыцыя ў нас старэйшая, чым ў Заходняй Эўропе.

Важным аспэктам у нашай палітыцы зьяўляецца дакладнае раскрыцьцё новай нямецка-гэбісцкай тэхналёгіі “падстаўной апазыцыі”. Гэта дало магчымасьць правільна ацэньваць палітычную рэчаіснасьць і пазьбегнуць памылак. Паступова сутнасьць гэтай шкоднай тэхналёгіі становіцца зразумелай шырэйшым пластам актыўных людзей, якія ўжо самы здольныя пазьбягаць дэзынфармацыі і рэальна арыентавацца ў абставінах.

Ня буду далей пералічваць усе ідэалягічна-палітычныя пытаньні, распрацаваныя нашай партыяй, зьвярну толькі ўвагу на іхную важнасьць і відавочную выніковасьць, бо яны заснаваныя на праўдзе і адпаведнасьці.

Адной з грунтоўных пляцовак дзейнасьці Партыі ва ўмовах бясправўя і антыкультурнай палітыкі ёсьць якраз зьберажэньне гістарычнай культуры, сакральных датаў і месцаў нацыянальнай гісторыі. Перш за ўсё, месцаў памяці герояў і расейска-бальшавіцкага генацыду. Тут найважнейшым ёсьць ***Народны Мэмарыял Курапаты***.

У 2011-12 гадах тут, у Курапатах, Партыя зноў узяла на сябе асноўную працу па адбіцьці чарговай канторска-варожай атакі на Народны Мэмарыял. У межах рэжыму ў той час была створана цэлая група правакатараў, якая імкнулася фальсіфікацыйнымі дзеяньнямі і мерапрыемствамі пасеяць спробу пераасэнсаваньня сакральнай сутнасьці Курапатаў. На гэты раз (поўнасьцю праваліўшыся) адчапіліся ад габрэяў і сталі ўжо казаць, што ў Курапатах пахаваныя польскія афіцэры.

Спрабавалі нават нейкі савецкі знак там паставіць на сьвятой зямлі. Вельмі маштабна была задумана правакацыя з прыцягненьнем прадажных журналістаў, псэўдаапазыцыі, запісных стукачоў і дыпляматычнага корпусу. Тым ня менш, афёра правалілася, як і шмат што, якое заснаванае на хлусьні.

У гэты ж час у ахоўнай зоне Курапатаў ашуканцкім шляхам маскоўцы пачалі будаваць рэстаран з закамуфляваным бардэлем. Спатрэбілася вельмі шмат працы і высілкаў нашай Партыі, каб гэтую авантуру затармазіць. Афёра з рэстаранам у ахоўнай зоне курапацкіх магіл аказалася настолькі непад’ёмнай для рэжымных уладаў, што наводзіць нас на думку аб спэцзадуме гэтай будоўлі і аб магчымай карупцыі, якая хаваецца за такім будаўніцтвам.

У мінулым годзе наша партыйная Курапацкая камісія ўзмацніла азнакаваньне Курапатаў, укапаўшы па пэрымэтру Курапацкага лесу пяць вялікіх камянёў з тэкстамі і паставіўшы пяць вялікіх жалезных крыжоў.

Мэмарыяльная дзейнасьць вядзецца таксама ў Столінскім, Пінскім, Ігуменскім, Слуцкім, Віцебскім і іншых раёнах краіны. У мінулым годзе запачаткаваная вельмі важная праграма “Глядзім у будучыню” (аўтар Сяргей Папкоў) аб адраджэньні і захаваньні беларускай моўнай адукацыі.

Да гэтай жа дзейнасьці Партыі трэба залічыць арганізацыю і адзначэньне на грамадзкім узроўні важных гістарычных дат, юбілеяў і сьвятаў, у тым ліку 20-годдзе Незалежнасьці Беларусі, 25-годдзе стварэньня БНФ, 25-годдзе адкрыцьця Курапатаў і інш.

За справаздачны пэрыяд маладымі прыхільнікамі Партыі была створана і пачала функцыянаваць маладзёвая старонка патрыятычнай моладзі “Народная

Перамога”. Гэта ёсьць вынік станоўчага партыйнага ўплыву. Беларуская прысутнасьць у Інтэрнэце павінна пашырацца.

З свайго боку я таксама за гэты час аддаваў шмат увагі Інтэрнэту. У прыватнасьці, падтрымліваў зьяўленьне новага беларускага рэсурсу “Інтэрпаліт – Адраджэньне”, пабудаванага па прынцыпе сацыяльна-палітычнай сеткі, задача якога зьбіраць беларускіх адраджэнцаў, фармаваць нацыянальную эліту і распаўсюджваць беларускую інфармацыю.

За пэрыяд са жніўня 2011 года мной выдадзены тры вялікія кніжкі (у тым ліку “Сэсія Незалежнасьці” са стэнаграмай нечарговай 5-й Сэсіі Вярхоўнага Савета). Выдадзены яшчэ дзьве брашуры і два часопісы “Беларускія Ведамасьці”.

Мушу адзначыць, што ўся патрыятычная праца, пра якую я тут пішу, вядзецца ў вельмі цяжкіх умовах. Але ўся Беларусь пастаўлена цяпер у цяжкія ўмовы.

Дамоклавым мячом вісіць над нацыяй праблема Чарнобыля. Цяпер гэтае пытаньне злавесна ўскладнілася ў сувязі з чарговай разбуральнай задумай Масквы пабудаваць у Беларусі (каля Астраўца) рукамі беларусаў, за зьвязваючы расейскі крэдыт новую АЭС па расейскай тэхналёгіі (якая нідзе не была рэалізавана), прытым паскоранымі тэмпамі без праекта, без экспэртызы і без адпаведных дазвольных дакумантаў з абавязковай прывязкай у будучыні да расейскай сыравіны і акрамя таго на геалагічным разломе ў самай сэйсмічнай зоне Беларусі. Што б тут ні плянавала мафія, што б цяпер ні казалі, але выглядае, што тут сьведама задумана і рыхтуецца фізічная сьмерць беларускага насельніцтва на фоне наперад аплочанай катастрофы. Усе пратэстныя акцыі супраць пабудовы Астравецкай атамнай труны, ўсе спробы абараніцца натыкаюцца на рэпрэсіі,  бяспраўе, цынічную сваволю ўлады і яе агентуры ў грамадзтве. Шырокі антыатамны рух так і не ўтварыўся. Мяркую, што наша задача -- спрыяць утварэньню такога антыядзернага руху.

Цяпер набліжаецца час, калі палітычныя ўмовы мусяць зьмяніцца. Добрым прыкладам для Беларусі стала рэвалюцыя ва Ўкраіне. Зразумела, што ў нас рэвалюцыйныя падзеі будуць разгортвацца па-іншаму. Ніякая сіла не ўратуе антыбеларускі рэжым. Да барацьбы трэба сур’ёзна рыхтавацца. Адлік часу пачаўся.

Гэбоўскі спрут, які распаўсюдзіў свае шчупальцы на ўсю Усходнюю Эўропу, атрымаў ва Украіне моцны і нечаканы ўдар. Гэты ўдар рэальна пагражаў далейшаму існаваньню ўлады імпэрскага страшыдла, бо стымуляваў бы вызвольныя рухі ў Расеі (асабліва на Каўказе) і псіхалагічна аслабіў бы яе моц у геапалітычнай пэрспэктыве. Ардынскія агрэсіўныя паводзіны Масквы ў такой сытуацыі можна было лёгка спрагназаваць і прадбачыць.

23-га студзеня я пісаў у сваім звароце “Слава Украіне”, што ёсьць толькі два варыянты для ўкраінскай рэвалюцыі: альбо мірная абарона Майдану і вынікаючы зь яе разгром супраціву народа, ці другі варыянт – наступальная перамога, якая выкліча агрэсію Масквы і вайну з крамлёўскай Расеяй (у якой украінцы мусяць абаперціся найперш на самых сябе). Крамлёўская акупацыя Украіны тут была відавочнай. На жаль, украінцы ня здолелі тое ні прадбачыць, ні прыслухацца, ні падрыхтавацца. Напад на Украіну і акупацыя Крыма застала ўкраінцаў цалкам не гатовымі да вайны, а ўвесь пагрузлы ў ілюзіях дэмакратычны сьвет быў засьпеты ўрасплох. На Вялікай рускай раўніне на віду ўсяго самазаспакоенага сьвету, як атрутны грыб вырас **звычайны рускі імпэрскі фашызм, які абапіраецца на гэбісцкую ўладу, псіхапатычнае грамадзтва і збочаны да непазнавальнасьці праваслаўны фундамэнталізм.**

Тут ізноў мушу зьвярнуць увагу сяброў Зьезду, што да дакладнасьці нашага партыйнага аналізу і разуменьня палітычнага становішча. Цягам двух апошніх гадоў на нашых Інтэрнэт-старонках неаднаразова зьяўляліся матэрыялы аб падрыхтоўцы Расеі да вайны. У Партыі бачылі і добра разумелі сутнасьць пуцінскай палітыкі.

Цяпер вайна ўжо даўно точыцца, паўзе па тыповым гэбісцка-расейскім сцэнары з выкарыстаньнем спэцслужбаў, дыверсантаў, пятай калёны і шалёнай татальнай дэзінфармацыі насельніцтва, якая дае плады найперш у Расеі і Беларусі. Нічога нельга параўнаць з рускай хлусьнёй. Гэта зьява сапраўды сатанінская з разбуральным грамадзкім вынікам.

Тэхналёгія гэтай вайны распрацавана гэбістамі спэцыяльна для так званых "брацкіх народаў". Гэта значыць для тых, дзе ўдалося ўкараніць рускую мову. Укараненьне рускай мовы ў іншыя краіны зьяўляецца ў гэтым выпадку гэбоўскай падрыхтоўкай, ваеннай стратэгіяй, якая дае магчымасьці потым выкарыстоўваць пераапранутых вайсковых дыверсантаў, засылаць масы рускіх гопнікаў, разьведчыкаў і крымінальнікаў пад выглядам мясцовых сэпаратыстаў, пратэстоўцаў, фэдэралістаў і т. п., паколькі ня будзе фармальнага моўнага адрозьненьня ад мясцовага насельніцтва краіны на якую напалі. Скажам для Польшчы, Венгрыі ці Румыніі такі сцэнар ўжо не падыходзіць. Рускую мову там укараніць не ўдалося, чужых адразу бачна. Тым часам для Латвіі такі план унутраннага захопу цалкам верагодны. (Дарэчы, ў Прыбалтыцы гэта разумеюць, але для эўрапалітыкаў тут вышэйшая матэматыка не для зразуменьня.) Агрэсіўная вайсковая тэхналёгія "брацкай дружбы" вынікае і карэлюецца з класічнай фашысцкай ідэалёгіяй "русскій мір", распрацаванай гэбоўска-праваслаўнымі стратэгамі агрэсіі.

Канцовая мэта пуцінскай антыўкраінскай вайны – зьнішчыць дзяржаўнасьць Украіны. Потым (калі б Крамлю ўдалося ліквідаваць Украіну) узьнікнуць іншыя войны, і перш за ўсё – супраць Беларусі (дзе шмат што ўжо падрыхтавана – заслана маса агентуры, ліквідавана мяжа з Расеяй, ўкарэнена руская мова ў мясцовае насельніцтва і інш).

Пасьля расейскага нападу на Украіну становішча ў сьвеце кардынальна перамянілася. Міжнародныя пагадненьні, дамовы, гарантыі ўжо нічога ня значаць. Той, пасьляваенны, з цяжкасьцю выбудаваны сьвет спакою і міру, непарушнасьць межаў і міжнародная салідарнасьць больш не існуюць. Расея зьнішчыла гэты крохкі парадак. Сьвет вяртаецца ў 30-я гады мінулага стагоддзя і не дае веры, ня можа яшчэ гэтага сабе ўсьвядоміць.

Каб захаваць сваю краіну і нацыянальнае быцьцё, беларусы павінны рыхтавацца да вайны сур'ёзна, нястомна і пасьлядоўна. Неабходна зрабіць разумныя высновы з ваенных дзеяньняў ва Украіне і быць гатовым_да барацьбы з ворагам жорсткім, подлым і падступным. Беларусам трэба ўсьведамляць: пакуль існуе маскоўская гэбісцкая імпэрыя, збавіцца ад антынароднага рэжыму ў Беларусі будзе ня проста.

Цяпер імпэрыя ўступае на дарогу да свайго канца. У інтарэсах усяго чалавецтва трэба яго прысьпешыць. Краіна-агрэсар, краіна-падпальшчыца войнаў між народамі і на ўсёй плянэце павінна зьнікнуць з мапы Зямлі, каб людзі на ўсім сьвеце ўздыхнулі свабодна (у тым ліку і на абшарах Расеі).

Самае небясьпечнае, што адбылося ў гэтай узброенай атамнай зброяй краіне (як ўжо адзначана), гэта перараджэньне савецкага сацыял-фашызму (сацыялізму) у традыцыйны імпэрскі нацыянал-фашызм з ідэалягічнай роляй рускай праваслаўнай царквы (РПЦ), якая ўведзена пуцінскай уладай ў ранг наддзяржаўнай структуры. Спалучэньне гэбізму, праваслаўя і імпэрскага нацыянал-фашызму – вельмі злавесная камбінацыя ў такой агрэсыўнай краіне, як Расея.

Сімптаматычна, што дэмагагічная прапаганда "русского мира", ужытая маскоўцамі супраць украінцаў, пачала бумерангам вяртацца ў імпэрыю на рэальнай аснове. Маецца на ўвазе спробы вярнуць беларускую Смаленшчыну ў Беларусь. Праўда, матывацыя смаленскіх людзей толькі сацыяльнага кшталту. Адміністрацыя ў Смаленскай вобласьці пастаралася спрафанаваць яе да абсурду. Але пройдзе час, і смаляне, і бранскія беларусы ўспомняць, што яны ёсьць беларусы аж да Вязьмы і што мова іхняя карэнная – беларуская. Пры немінучым краху фашысцкай Расеі ўвесь

акупаваны масквой смаленскі беларускі ўсход узьяднаецца, нарэшце, са спрадвечнай роднай Літвой-Беларусяй. І гэта будзе. Масква яшчэ ў 1937 годзе павінна была вярнуць нам нашы акупаваныя смаленскія землі. Беларусы гэта памятаюць і ніколі не забываюць.

Тым часам небясьпека, якая навісла над Украінай, вайна ўкраінцаў за сваю дзяржаву і свабоду павінна ўспррымацца беларусамі таксама як пачатак нашай вайны з Расеяй, бо зразумелы яе працяг супраць Беларусі. Беларусы павінны падтрымліваць украінцаў у іх змаганьні і дапамагаць у барацьбе.

Нельга дапусьціць, каб антыбеларускі рэжым уцягнуў нашае войска на баку Расеі ў вайну супроць братоў-украінцаў. Гэтаму трэба супрацьдзейнічаць усімі сіламі грамадзтва. У выпадку, калі беларускіх вайскоўцаў здраднік Беларусі і расейцы прымусяць ступіць на Украіну, беларуская зброя павінна быць павернута супраць рускіх агрэсараў. Беларусы павінны змагацца разам з украінцамі супраць рускага фашызма. Крах рускага фашызму непазьбежны, і зь ім абваліцца антыбеларускі рэжым.

Агрэсія Расеі супраць Беларусі верагодная. Цяпер агентура і розныя апазыцыйныя цітушкі пачынаюць ўжо нясьмелы лямант за яднаньне беларусаў вакол вырадка народа. Плянуюць нават супольны “марш” з рэжымам па праспэкту Скарыны да плошчы Незалежнасьці. Тым часам гісторыя і практыка змаганьня паказала, што вырадкаў і здраднікаў нацыі трэба біць і зьнішчаць разам з агрэсарам. Прытым вырадкаў і здраднікаў, як паказвае гістарычны вопыт нашых паўстаньняў, зьнішчалі першымі.

Пасьля палітычных зьмен беларусы, гэтак жа як і ўкраінцы, павінны будуць адразу вярнуць дзеяньне Канстытуцыі 1994 года, арыштаваць злачынца і аддаць яго пад суд. Рэформы павінны будуць пачацца адразу. Будуць зьнятыя зь людзей і бізнэсаў бязглуздыя падаткі і абмежаваньні, ліквідаванае антынароднае заканадаўства, КГБ і ўсе антыканстытуцыйныя рэпрэсіўныя структуры, створаныя рэжымам. Пра першачарговыя дзеяньні па аднаўленьні нармальнасьці ў краіне мы ўжо добра ведаем, ня раз пра гэта пісалі і казалі. Самае галоўнае напачатку – расчысьціць дарогу і ступіць на гэты неабходны і добры шлях.

*27 красавіка 2014 г, Менск* *Зянон ПАЗЬНЯК*

# ЗАЎТРА БЫЛО ЎЧОРА

Нападзеньне пуцінскай Расеі на Украіну раптам прасьвятліла розум некаторым беларускім інтэлігентам-дэмакратам. Яны зьдзіўлена сталі круціць шыяй, азіраючыся па баках і разгублена лямантуючы: "А я-яй, аказваецца Расея агрэсар, імпэрыяліст, фашыст, а я-яй, як гэта сталася... на Украіну... неверагодна..." і г.д. Усё гэта выглядае крыху камічна, як чалавек, які прачнуўся на пажары. Але мне ня сьмешна. Гром грымнуў -- мужык перажагнаўся. І тое добра.

Прырода такой хваробы (зацямненьне розуму) -- клясычная і добра вядомая. Гэта нацыянальная сьлепата і несьвядомасьць самых сябе плюс замбаваньне варожай прапагандай, пачынаючы ад дзіцячага садка і антынацыянальнай школы. Зомбі жывуць у нерэальным сьвеце, якога няма, які не існуе, і гатовыя патрашыць рэальных людзей за іх рэальнасьць. Вось у гэтым небясьпека ад зомбі. Ён не бывае пасыўным. Зомбі -- гэта агрэсія супраць рэальнасьці.

Руская прапаганда, апраўдваючы агрэсію, выдае манбланы фантастычнай і тупой ілжы супраць украінцаў, разьлічанай на самую прымітыўную сьвядомасьць і нізкія інстынкты людзей.

Варожая пазыцыя расейцаў супраць украінцаў і беларусаў была ўвесь час, адразу як толькі ў канцы XVIII стагоддзя масква з Эўропай падзялілі Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітую. Пазыцыя выяўлялася ў гнюсных сэнтэнцыях рускіх чыноўнікаў і цароў, у подлай імпэрскай літаратуры ад Дзяржавіна да Някрасава.

Аналізуючы цяперашняе расейскае грамадзтва, рускую палітыку і прапаганду пуцінскага гэбізму, заўважаем наколькі дакладна і адэкватна ўкладваецца ўсё ў клясычную сістэму імпэрскага нацыянал-фашызму. Новае тут толькі энкавэдзісцка-праваслаўны ўхіл і тэрмін "праваслаўны фашызм", які хутка распаўсюджваецца (і ня толькі ў межах РПЦ).

Агульнае, што яднае ўсе фашызмы, -- гэта антычалавечая ськіраванасьць, агрэсія і імкненьне аўтарытарна перабудаваць сьвет пад ідэалягічную дактрыну ўлады. Вялікую ролю іграе інфармацыйная вайна.

Як і гёбельсаўская нямецкая, так і гэбісцкая прапаганда рускіх вылучаецца надзвычайнай тупасьцю ў хлусьні, цынізмам і нахабствам ілжывых сцьвярджэньняў. Тут тыповы для фашызму разьлік на самыя прымітыўныя інстынкты, на культурна неразьвітыя групы людзей. Чаго вартая толькі іхняя "ідэалёгія" разбурэньня ўкраінскай дзяржавы. Рускія дамарослыя "тэарэтыкі" "православного" і пуцінскага фашызма на поўным сур’ёзе пачалі хорам і крыкам сцьвярджаць, што ні ўкраінскай нацыі, ні народа, ні ўкраінскай мовы не існуе ў прырдзе. Украінскі народ, маўляў, прыдумалі на Захадзе і найперш аўстрыякі, каб зьнішчыць Расею. Захад і аўстрыякі прыдумалі таксама украінскую мову і адарвалі такім чынам цэлы кавалак Расеі, накінуўшы рускім украінскую мову і перарабіўшы рускіх на ўкраінцаў. Гэтая білібeрда для дэбілаў паўтараецца з дня ў дзень, запаланіла Інтэрнэт і TV, выступаюць рускія нібыта "вучоныя", вяшчаюць і ківаюць галовамі ў такт шызоіднай прапагандзе.

Фашысты паўсюдна ведаюць, што рэальна адукаваных людзей няшмат, а абываценяў (“з адукацыяй”) маса і калі кожны дзень для масы масава і афіцыйна пароць лухту, то маса ў яе паверыць. Рыхтавалася такая гёбэльсаўшчына даўно, яшчэ ў 90-х гадах. Ўжо тады нянавісьць да украінцаў і беларусаў пачала расьпіраць некаторых так званых "рускіх дэмакратаў" ад лексічна скрыўленых рускіх генэралаў да пісьменьніка Салжаніцына (які аказаўся асобай недалёкай).

Што характэрна -- рускі імпэрскі фашызм выявіўся дакладна па схеме Чэрчыля. Пуцінскія фашысты ў сваёй прапагандзе называюць нацыянальна-дэмакратычныя рухі народаў і заходнюю дэмакратыю "фашызмам" і брэшуць, што яны змагаюцца супраць гэтага "фашызма". У выніку такой прапагандысцкай бязглузьдзіцы мы зьяўляемся сьведкамі поўнай кашы ў галаве фашызаванага рускага абываціеля, для якога

"фашыстам" горшым за Гітлера стаўся цяпер Стэпан Бэндэра, якога, дарэчы, гітлерцы, за нелаяльнасьць да фашыстаў кінулі ў канцлягер Заксэнгаўзен і трымалі там з 1941 па 1944 год.(Праўда, для зомбі гэта ня мае ніякага значэньня.)

Ёсьць тым часам адна заканамернасьць: кожная адкінутая грамадзтвам збанкрутаваная дзяржаўная ідэалёгія (нават у свой час самая магутная) пры рэстаўрацыі яе зноў да сістэмнага сацыяльна-палітычнага жыцьця паўтараецца як разбуральны фарс і крывавая трагікамэдыя. Ад гэтага яна ня робіцца менш небясьпечнай, але будучыні ў яе няма.

Мяркую, што варта было б напісаць як гэбісцкая палітыка пачыналася за часы СССР (бо адсюль вырастае фашысцкі рэванш). Але пра тое ўжо мной шмат гаворана і напісана ў 90-х. Тым больш, што сёньня ўжо груба ў лоб за сымвалічнай нашай мяжой раве рэальны самаісна сам даўно сьпечаны рускі фашызм. Бяда толькі, што цяперака за доўгі час антыбеларускага рэжыму ў новым прапагандысцкім рабстве вырасла новае пакаленьне сьляпых, якім збольшага ніякая інфармацыя не дапаможа, калі пуста ў душы.

Пакапаўшыся ў мінулым раней гавораным, я выбраў даўняе інтэрв'ю пра той час (і пра сёньняшні дзень), якое я даваў маладому журналісту Аляксандру Лукашуку для рускамоўнай газэты "Знамя юности" і якое было надрукаванае (З.Ю. адмовілася) ў "Народнай Газэце" ў нумары за 23-30 кастрычніка 1990 года. **Ніжэй прапаную вытрымкі (сканы) з таго тэксту пра дачыненьні з Расеяй.**

*23.04.2014.* Зянон Пазьняк

**– Вы надеетесь, что радикальные предложения оппозиции получат необходимую поддержку депутатов? Каковы прогнозы, имеется ли реальная альтернатива сползанию в пропасть?**

– Правительство и комиссии Верховного Совета сейчас начали готовить свои законопроекты. Естественно, что за свои проекты они и будут голосовать. Что касается наших предложений, то радикализм как термин, применительный к закону, здесь неудачен. Мы исходим прежде всего из объективных закономерностей развития экономики и общества в демократической свободной Беларуси, а не из искусственных мертвых идеологических и политических схем, в которых уничтожали нашу жизнь.

Мои прогнозы на результаты внеочередной сессии неутешительные. Документы будут приняты с разной степенью эклектики. Этого в нашем положении допускать нельзя. Однако теперешнее реакционное большинство в Верховном Совете может допустить.

Что касается альтернативы продолжающейся политике – она есть по всем направлениям. Но главное – определить основное звено, за которым путь к спасению, где необходимо сконцентрировать усилия. Таким звеном является государственная независимость Беларуси. Станем независимым, свободным демократическим государством – будем жить, расти и развиваться. Не достигнем независимости и свободы – потеряем страну и погибнем как народ. Погибать будем долго и мучительно, переживая бескультурье, нищету и унижение, деградируя в сме-

шанное, больное, колониально-эксплуатируемое население, в зону экологических отбросов, вредной промышленности и радиологических экспериментов. А ведь независимое государство – высшее проявление исторической культуры нации, результат исторического развития народа, обеспечивающий ему перспективу и оптимальные условия существования.

Я считаю и говорил об этом неоднократно, что каким бы ни был Советский Союз, покуда он существует, выйти из него одной республике, практически, невозможно. Белорусский Народный Фронт давно предлагает коллективные действия. Наши предложения поддержаны демократическими движениями Латвии, Летувы, Украины, Эстонии.

26 апреля 1990 г. В Минске, по инициативе БНФ, состоялась рабочая встреча на уровне депутатов Верховных Советов и представителей народных фронтов Беларуси, Летувы, Украины, т.е. стран бывшего Великого Княжества Литовского. Рассматривался вопрос о заключении в будущем ***политического Балтийско-Черноморского союза восточноевропейских государств Украины, Беларуси, Летувы, Латвии, Эстонии***. Такое содружество должно будет поменять ситуацию в Европе и гарантировать суверенитет каждой из пяти республик. Во-первых, мы можем иметь свой общий рынок. Пусть несовершенный, но достаточный, чтобы не только противостоять возможной безрассудной экономической блокаде с востока и нажиму с запада, но и самим выставлять условия в ответ. Мы будем иметь возможность избежать шантажа со стороны СССР, его манипуляций с ценами на нефть, на ресурсы и т.п., ибо все торговые поставки через наши территории и пространства ему придется оплачивать.

Мы не сможем сразу войти на равных в европейские ры-

придется оплачивать.

Мы не сможем сразу войти на равных в европейские рыночные отношения. Но содружество пяти республик даст стартовую возможность каждой из них для последовательного внутреннего развития, шанс не попасть в экономическую зависимость от Западной Европы и от СССР.

Заключение Балтийско-Черноморского Союза государств даст возможность игнорировать поползновения Горбачева и правительства СССР к принудительному заключению нового кабального союзного договора, направленного на продление жизни умирающей империи и обанкротившейся советской власти.

Политический союз пяти восточноевропейских республик обусловлен также исторически и геополитически. 500 лет совместной истории Беларуси, Летувы и Украины в Великом Княжестве, тесные взаимоотношения с инфлянтами, Ригой, эстонцами – это времена золотого века наших народов. Эта полтысяча лет говорит нам гораздо больше, чем 200 лет имперской неволи.

**– Какие в таком случае будут отношения с Россией?**

– На мой взгляд, появление политического содружества пяти восточноевропейских независимых республик будет полезно для демократизации России. Лично я, однако, на 99 процентов сомневаюсь в том, что Россия станет демократической страной. По своей структуре, историческим традициям и ментальным комплексам – это типичная империя восточного образца, наследовавшая суть и методы Золотой Орды. Эта страна не должна оставаться монополистом в жизненно важных областях международных и межгосударственных отношений. Иначе она реализуется как империя, направит свои преимущества не на внутреннее развитие своей нации и государства, а на внешнее, т.е. на агрессию, на укрепление монополии. Последнему

состоянию государства соответствует и определенный тоталитарный характер власти. России необходимо создать цивилизованное ограничение, то есть такое состояние, которое, закрывая ей путь к агрессии, вынудит обратиться к внутренней жизни и ресурсам своего общества, заставит развивать нормальные европейские взаимоотношения с другими странами и народами. И с этой точки зрения Балтийско-Черноморское политическое содружество государств могло бы сыграть очень положительную для развития русского общества роль.

**– Совершенно иную модель предлагает в своей недавней работе Александр Исаевич Солженицын.**

– Мне иногда любопытно наблюдать весь этот советский политический театр маразма. Вещают экстрасенсы, колдуны, гадалки, астрологи, писатели, инопланетяне, индийские старцы на санскрите (или от их имени) и все – о России. Планеты предсказывают ее вечность, неделимость и, естественно, погибель тем республикам, которые стремятся к независимости. Надо же, Беларусь приняла Декларацию о суверенитете – хорошо, да не в том созвездии, не к добру и т.д., этакая распутинщина. Реанимируются обветшалые имперские идеи и неумные, еще при жизни забытые „авторитеты". Все это уже было в начале века во время распада старой российской империи, и все это возвращается сейчас как кошмар – во время распада империи коммунистической. Статью Солженицына я ставлю в один ряд с этими явлениями.

И вовсе не потому, что ее появление точно совпадает с требованием чрезвычайных полномочий для М. Горбачева и автомобильной аварией Б. Ельцына (тут уж планеты ни при чем). И не потому, что автор этой статьи обнаружил плохое знание истории России и незнание истории Беларуси. А. Солженицын поднял из научного небытия старый имперский хлам, исторически несостоятельный и оскорбительный для белорусов и украинцев тезис о единой и неделимой России, отказывая белорусам и украинцам в государственной независимости.

Отношение к украинцам и белорусам, высказанное А. Сол-

симости.

Отношение к украинцам и белорусам, высказанное А. Солженицыным, совпадает с позицией русских черносотенцев начала века и официозной царской политикой, против которой боролась тогда вся демократическая Россия. Царизм и черносотенцы разделяли все население империи на две категории – русские и инородцы. Среди „русских" выделялись „истинно-русские" или „великоросы" и просто „русские", куда зачисляли белорусов и „молоросов" (т.е. украинцев). На основании таких взглядов, которые вытекали из имперской ассимиляционной политики России, белорусов и „малоросов" не называли отдельными народами, не считали нациями. Поэтому против них царизм проводил особые действия – запрещались белорусский и украинский языки, национальные школы, театр, униатская религия, разрушалась национальная архитектура и храмы, даже название Беларусь было запрещено к употреблению специальным указом русского сената. По отношению к „братским" народам царизм проводил жесточайшую и подлейшую политику этноцида, культурного подавления и русификации. В то же время „инородцы", поскольку они признавались не русскими, имели свои национальные школы (татары, грузины, армяне, евреи и т. д. имели их тысячи), национальные театры, пользовались своими храмами и религией на своем языке и т.д. Вот ведь в чем заковыка – никто так не обескровил белорусскую и украинскую культуру, никто так не испоганил ее и не разрушил, никто так гнусно и жестоко

не издевался, как „братский" русский чиновник и „братский" русский царизм.

Кстати, объясню господину Солженицыну, почему проводилась такая политика. Царизм пуще смерти боялся восстановления Великого Княжества Литовского, в основании которого, как известно всем, кто знает историю, был белорусский народ, белорусская культура и белорусский язык. Великое Княжество, заключившее в XVI веке союз с Польшей, было мощнейшим государством на востоке Европы и, пока оно существовало, российская агрессия имела пределы. Разрушение Великого Княжества Литовского стало историческим смыслом русской политики на несколько столетий. Она осуществилась в конце XVIII века, когда три империи разорвали на части народы ВКЛ. Вот тогда в составе России и настала для белорусов черная ночь.

И теперь писатель А. Солженицын мечтает о новой России с инкорпорацией белорусов и украинцев, без взбунтовавшихся на окраинах „инородцев". Как будто не ясно, какой вариант империи получится из этой давно похороненой идеи, где нам, белорусам, без поддержки „инородцев" уготовлена полная народная, национальная, духовная да и физическая смерть.

Так же, как монархические историки и черносотенцы, писатель считает украинцев, белорусов и русских (московцев) русскими. На этом, собственно, и зиждется концепция. Как плохо все-таки – не знать истории и всего того, что следует знать, пускаясь в рассуждения о будущем трех весьма разных народов, близких по языку, но принадлежащих к разным расам, разным культурам, разным системам ценностей, разным историческим судьбам.

Досадно также, что писатель не воздерживается от оскорбительных выражений, особенно в адрес украинцев („суетно-социалистическая Рада", „карпатороссы", „при австрийской

подтравке" был „выращен искаженный украинский ненародный язык", „малые народы" и вся „дробность" и т.д.).

„Крымским татарам, разумеется, – пишет автор, – надо открыть полный возврат в Крым. Но при плотности населения XXI века Крым вместителен для 8-10 миллионов населения – и стотысячный татарский народ не может себе требовать владения им". Логика, скажем, прямо примечательная: выходит, если в XXI веке на территории крымских татар может вместиться 8-10 миллионов человек, то нечего татарам – жертвам жесточайшего и беспримерного коммунистического геноцида – требовать возвращения своей отнятой, украденной родины.

Если бы это написал партийный функционер. Но, к сожалению, так пишет популярный писатель.

Полно по тексту таких странных, откровенно реакционных и поверхностных суждений. Некоторые удивляются, что это написал А. Солженицын, о котором сложилось мнение как о последовательном демократе, борце с коммунистической тиранией и тоталитаризмом. К сожалению, те, кто прошли через ГУЛАГ, по-разному и кождый по-своему осознали глубину смертельной опасности для человечества империалистического коммунизма. Одни перед смертью в ужасе кричали „да здравствует Сталин", другие – проклятья, третьи, как А. Солженицын, уцелев, раскрыли панораму, анатомию преступной идеологии и власти, ее деяний, но, видно, так и не поняли сути этого вселенского зла, его традиций, опору на социальные структуры и исторические предрассудки. Достойно иронии то, что А. Солженицын, выступая против коммунистической империи зла, сам оказался пленником российского имперского сознания. Поэтому позиция его в этой статье до неприличия фальшива и неверна.

Впрочем, не только у него. В разговоре с российскими радикалами, интеллектуалами, либералами, демократами и т.п.

можно всегда наслушаться весьма умных и крайне демократических суждений. Тогда я всегда стараюсь узнать их мнение о будущем демократическом и геополитическом устройстве России, Беларуси, Советского Союза и всего здесь сущего. И вот тут начинаются странные вещи. Как в статье А. Солженицына, а то и похуже. Меня всегда настораживало это отчетливое преобладание имперского сознания над национальным в головах русской демократической интеллигенции. Признание безоговорочного (а не как у А. Солженицына) права на национальное самоопределение есть первая заповедь демократизма. Но демократов среди русских „демократов" в России я встречал редко, а среди писателей не вижу ни одного.

Мне, как человеку другой культуры, многое чуждо, неприемлимо и неприятно в творчестве русских писателей и поэтов, обожаемых в России, начиная от Державина и до сегодняшних ниспровергателей. Это прежде всего – нравственная раздвоенность личности писателей и комплекс какого-то чванливого азиатского шовинизма и неуважения к другим народам. Вся русская литература пропитана этой болезнью. Однако я принимаю эту литературу такой, какой она есть, как объективную реальность, со спокойствием и уважением, наблюдая, не вмешиваясь и не осуждая. Но только до тех пор, пока, во-первых, ее нам не начинают навязывать и, во-вторых, пока эти писатели не начинают заниматься политикой. Ибо, как правило, получается что-то нелепое. Романтическая беллетристика с приблизительными представлениями о явлениях и политика, за которой судьбы людей и народов, – суть занятия несовместимые и не надо их путать.

# ЯК КЕБІЧ «УРАТАВАЎ» БЕЛАРУСЬ АД БЕЛАРУСАЎ

Трапілася мне ў Сеціве інтэрв'ю Вячаслава Кебіча пад назвай: *"Двацццаць год пасьля. Кебіч: -- Калі чалавек доўга знаходзіцца пры ўладзе, яго перастаюць любіць".*

Пачытаў я і вярнуўся паглядзець на дату публікацыі – травень 2014. Неверагодна. А чаму не 1984? Як жа патыхнула з тэксту Савецкім Саюзам. Хоць ты сябе ўшчыкні – такая рэальнасьць. Мы думаем, як хутка зьмяняецца сьвет! А вось аказваецца, ня так ужо ён і зьмяняецца. Нездарма Ленін ляжыць у сваім маўзалеі.

-- Чаму ёсьць бедныя? – задае сабе сакрамэнтальнае пытаньне спадар Кебіч, і адказвае, -- таму, што ёсьць багатыя.

-- Журналіст: -- Дык што вы прапануеце – выдаліць багатых?

-- Кебіч: -- Дакладна!.. У Савецкім Саюзе не было ні багатых, ні бедных.

Адным словам, "Учение Маркса всесильно, потому что оно верно", як казаў жыхар маўзалею. І ашчасьлівіць чалавецтва проста: адабраць ад багатых і падзяліць паміж беднымі. І шчасьце было б вечным, каб ні БНФ (што пэрсаніфікавана вымаўлялася так: "Всё бы было хорошо, если бы ни Пазьняк".)

-- Тое, чым я ганаруся за сваю бытнасьць, -- кажа спадар Кебіч, -- дык гэта тым, ... што ня даў Беларускаму Народнаму Фронту разваліць дзяржаву. Як можна адносіцца да Пазьняка? – даверліва ўсклікае прэм'ер, -- які казаў: "Вы, не, ты, Вячаслаў Францавіч, першым будзеш вісець на тэлеграфным слупе!"

Наконт "слупа", то тут, як з "бэндэраўцамі" ды "фашыстамі", існуе ўстойлівы інфармацыйны кагэбісцкі фальклёр шырокага ўжываньня на пэўныя выпадкі жыцьця. Першы палітданос на мяне, студэнта, быў напісаны ў рэктарат інстытута адной рускай выкладчыцай ("ненавидящей националистов"), калі мне было 19 гадоў. Там якраз і фігуравалі "коммунисты на столбах". У прынцыпе, шмат якія з тых бальшавікоў-камуністаў вартыя былі б і больш суровага пакараньня, але я ніколі нічога падобнага не казаў ні пра якія "слупы" ні раней, ні потым. Не прыходзіла ў галаву, ды і выхаваньне не дазваляла.

У 1989 годзе, калі мяне выбралі старшынёй БНФ, лёзунг пра "камуністаў на слупах" стаў клясыкай камуністычнай прапаганды (пры гэтым дадавалі, што "будет еще и расстреливать", паколькі ён (гэта значыць я) служыў у нямецкай паліцыі "в годы войны".) Потым, з крахам КПСС лёзунг стаў не актуальным. Але вось спадар Кебіч (які ў думках яшчэ ўвесь там) абнавіў гэтую інтэлектуальную прапаганду.

А ўвогуле, у адрозьненьне ад іншых нудных грабакапальшчыкаў Беларусі, Вячаслава Кебіча часам карысна чытаць, асабліва яго шчыраваньні пад добрым настроем. Ну хто б з нас тады калі падумаў, што прэм'ер Кебіч ёсьць заслужаны афіцэр КГБ? Пры ўсіх нашых ведах пра гэтую публіку, такое нікому з нас у дэпутацкай Апазыцыі БНФ не прыйшло ў галаву. Мы думалі, ну чаму ён такі непатрыятычны? А куфрык, аказваецца, проста адчыняўся – КГБ. У сваёй кніжцы ўспамінаў "Искушение властью" прэм'ер раптам узяў і выклаў усю праўду пра свой гэбізм, ды яшчэ і з падрабязнасьцямі пра права нашэньня мундзіра і т. п. ( "Праз шмат гадоў, у 1984-м, калі я ўжо быў другім сакратаром Менскага абкаму партыі, мне давялося апошні раз прыгадаць пра сваю прафесію разьведчыка...сапраўдны характар гэтай місіі ня ведаў ніхто нават у ЦК КПБ. Заданьне я выканаў. Больш падрабязна ў дэталі гэтай апэрацыі паглыбляцца ня буду.." ("Искушение властью ", с. 267-268). Як кажуць – ад сябе не ўцячэш.

Ну, дык і як жа прэм'ер Кебіч выратаваў "государство" ад БНФ? Як ня даў яго "разваліць"? Ва ўспамінах "Искушение властью" В. Кебіч так піша пра выбары прэзыдэнта ў 1994 годзе: "Мы выступали с Александром Лукашенко с одинаковых политических позиций." Галоўнае (сцьвярджаў Кебіч), што не дапусьцілі за ўлады З.

Пазьняка. І рэзюмэ: “Чей вклад в общую победу над кандидатами от БНФ мой, или Александра Лукашенко, оказался весомее, пусть рассудит время” (с. 434)

У апошнім інтэрв'ю В. Кебіч усё тое пацьвярджае і дадае, што такой сваёй працай ён “ганарыцца”.

Сяргей Навумчык у сваіх артыкулах некалькі разоў пісаў, што пасьля першага тура выбараў ён як прадстаўнік Фронта і ўдзельнік маёй кандыдацкай каманды зьвяртаўся да спадара Кебіча з прапановай зьняцца з выбараў і выбіць з выбарчай кампаніі стаўленьніка Масквы Лукашэнку (Вядома што масы людзей галасавалі б за Лукашэнку, толькі дзеля таго, каб супраць Кебіча. Быў нават пушчаны лёзунг: “абы ня Кебіч”. Адсутнасьць Кебіча ў 2-м туры змяніла б сытуацыю не на карысьць Лукашэнкі.) Кебіч адказаў Навумчыку: “Будзем думаць”. Але зразумела, што ён на зьняцеце з выбараў не пайшоў бы, бо што Лукашэнка, што Кебіч – адна масьць. Хоць рэальныя магчымасьці законна перакуліць выбары і не прапусьціць Лукашэнку ў Кебіча былі. Нам трэба было, аднак, праверыць і выявіць яго пазыцыю.

У інтэрв'ю В. Кебіч красамоўна пра гэты эпізод распавёў, выявіўшы прычыны сваіх паводзінаў: “Я ведаў, хто пераможа. Але калі б я зьняўся, то былі б паўторныя выбары, новыя кандыдаты і новая прэзыдэнцкая гонка... Я ведаў патэнцыяльных кандыдатаў, якіх не хацеў бы бачыць у ролі прэзыдэнта. Адзін з гэтых кандыдатаў – Пазьняк.”

Вельмі шчырае прызнаньне. Толькі, як мне здаецца, ведаючы Кебіча, крыху хітраватае. Паўторныя выбары далі б Кебічу яшчэ тры месяцы часу і выгадную позу. Маўляў, я вырашыў не перашкаджаць і даў магчымасьць людзям свабодна выбраць папулярнага кандыдата, а яго ня выбралі. Цяпер мушу ўсьвядоміць свой памылковы крок і вярнуцца ў выбары з усёй адказнасьцю за лёс дзяржавы. Шансы працягваць барацьбу ў Кебіча былі і не малыя (і група Лукашэнкі таго вельмі баялася). Але Кебіч адмовіўся ад барацьбы. Чаму адмовіўся? Асьцерагаўся Пазьняка (як ён кажа)? Магчыма. Аднак галоўная прычына ў той сытуацыі была іншая (і ў гэтым інтэрв'ю яна відаць). Масква (Лубянка) не хацела страціць Лукашэнку (бо справа ўжо была “в шляпе”) і Кебічу сказалі, як сябе паводзіць. Вось у гэтым і прычына.

Тут важны момант, дзеля чаго я ўласна і вырашыў напісаць гэтую рэпліку. Ва ўводзінах да інтэрв'ю журналіст паведамляе: “Вячаслаў Кебіч быў галоўным апанэнтам Аляксандра Лукашэнкі на першых прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі 20 гадоў таму.” І гэта напісана (гэтая нарыхтоўка) нягледзячы на тое, што нават у самым інтэрв'ю В. Кебіч пасьлядоўна такое сцьверджаньне абвяргае.

Ня быў ён апанэнтам Лукашэнкі. Гэта саюзьнікі, а не апанэнты. (Панове, вы што, ня чуеце, што кажа Кебіч?)

Драма прэзыдэнцкіх выбараў 1994 года, калі, фактычна, вырашалася нацыянальная будучыня Беларусі, была ў тым, што гэтую будучыню прадстаўляў толькі кандыдат ад Народнага Фронту, а ўсе астатнія пяць кандыдатаў, -- гэта стары саўковы каляніяльны сьвет, гнілая альтэрнатыва новаму сьвету і яго апанэнты. За трыма зь іх (Лукашэнка, Кебіч, Шушкевіч) непасрэдна стаялі КГБ, Масква і Лубянка. Лукашэнка і Кебіч тут разыгрывалі канфлікт і ішлі тандэмам супраць “националистических сил”, Шушкевіч выконваў ролю блытаніка па адцягваньні галасоў ад кандыдата БНФ. Дадам яшчэ, што кандыдат Фронта мог кардынальна перамагчы, прайшоўшы ў другі тур галасаваньня (пра гэта ўжо шмат напісана). Рэальна ён прайшоў у другі тур. Але вось тут спрацавала тое (адміністрацыйны рэсурс), што дае магчымасьць спадару Кебічу загадкава прамаўляць: “Чей вклад в общую победу над БНФ ... оказался весомее, мой или Александра Лукашенко,.. рассудит время”.

Увогуле, усё, што трэба па сутнасьці, В. Кебіч сказаў сам. І тое, што ён вышэйшы афіцэр КГБ, і тое, што яны разам з Лукашэнкам рабілі агульную справу супраць кандыдата БНФ, і тое, што ўсёй гэтай подлай антыбеларускай працай кіравала Масква (дакладней, спэцслужбы Расеі), і тое, што Кебіч гэтай Маскве падпарадкоўваўся. Вось, напрыклад, цытата з інтэрв'ю. В. Кебіч кажа: “А з-за чаго я прайграў, я вам ужо казаў. Хаця была яшчэ адна прычына: Расея паставіла пад сумніў

маё прэзыдэнцтва толькі таму, што мяне пачалі запрашаць у іншыя краіны. Я аб’ехаў паўсьвета... Атачэньне Ельцына падумала: “А раптам я адарву Беларусь ад Расеі.” І гэта было важным момантам.”

З такім савецкім багажом сэрвільных разважаньняў, наслухаўшыся расейскай тэлевізійнай гёбельсаўшчыны, спадар Кебіч яшчэ нешта прарочыць журналістам пра цяперашнюю Украіну.

Здрадніцкая, антынацыянальная палітыка Кебіча ў 90-х гадах добра вядомая і добра расьпісаная ня толькі намі, дэпутатамі Фронта. Ніякай розьніцы паміж прамаскоўскай гэбоўска-намэнклятурнай палітыкай Кебіча і антыбеларускай палітыкай Лукашэнкі няма. Цяперашняя антынацыянальная палітыка зьяўляецца працягам папярэдняй каланіяльнай палітыкі, з папраўкай на амбіцыі, узрост і гульні на каньках.

*20 траўня 2014 г.* *Зянон ПАЗЬНЯК*

# ПАТРЭБНА АНТЫІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЯ АНТЫПУЦІНСКАЯ КААЛІЦЫЯ

(***Выступ на травеньскім 1914 г. Сойме КХП БНФ і ВНФ “Адраджэньне”)***

## Увядзеньне ў тэму

Не стамляюся паўтараць, што расейска-украінская вайна – гэта таксама і нашая беларуская вайна з Расеяй. У нас з украінцамі адзін вечны вораг, што вісіць над нашай цывілізацыяй ужо скора 800 гадоў і прынёс нямераныя няшчасьці нашым людзям. Гэты ворагам ад пачатку была Арда -- пазьнейшая імпэрыялістычная Расея.

Вайна абвастрыла важныя для нас вобласьці жыцьця, якія мы мусім абавязкова прымаць пад увагу і абавязкова вырашыць, што рабіць, чаго б гэта нам ні каштавала. Першае – гэта навочнае сьведчаньне небясьпечнасьці і эфэктыўнасьці інфармацыйнай вайны, заснаванай на прапагандзе і на вялікай хлусьні. Зразумелая прычына гэтай разбуральнай эфэктыўнасьці. Інфармацыя на вялікай хлусьні вылучаецца агрэсіяй і па сваім узроўні накіравана на масы шэраговых людзей, на нізкую сьвядомасьць, для якой характэрнае ёсьць міфалагічнае ўспрыняцьце. У выніку адбываецца замбаваньне масаў людзей. І чым больш неверагодная хлусьня, тым больш эфэктыўнае замбаваньне. Крытычны розум адключаецца, і контрпрапаганда ня дзейнічае, праўда не ўспрымаецца.

Падрэжымная Беларусь цалкам знаходзіцца ў інфармацыйным полі расейска-фашыстоўскіх імпэрыялістычных сродкаў масавай інфармацыі (найперш тэлебачаньня).

Тым часам інфармацыя, заснаваная на праўдзе, даходзіць, як правіла, да людзей, якія знаходзяцца на больш высокім аналітычным і крытычным узроўні сьвядомасьці.

Пры распаўсюджаньні інфармацыі праўды таксама магчымыя шырокія вынікі ўспрыняцьця ў грамадзтве, але істотна тое, што тут адбываецца якасны адбор інфармацыйных спажыўцоў, сярод якіх фармуецца, як правіла, дзейсная эліта грамадзтва.

Ёсьць сэнс і неабходнасьць насуперак расейскай гёбэльсаўскай інфармацыі хлусьні супрацьпаставіць ёй контрінфармацыю праўды, легіёнам цемры і зла супроцьставіць ваяроў сьвятла і дабра. Перамога над хлусьнёй абавязкова будзе, бо па прыродзе сваёй праўда – гэта верх, ілжа – гэта дно. Нельга дапускаць, каб дно рабілася верхам.

На сёньняшні дзень масавай беларускай контрінфармацыі мы амаль што ня маем. Наша інфармацыя кропкавая і лакальная. Арганізацыя антырасейскай, антыпуцінскай кааліцыі (пра што будзе сказана ў гэтым паведамленьні) першым чынам, на мой погляд, мусіла б вырашыць гэтую інфармацыйную задачу ў барацьбе чалавецтва супраць пуцінскага рускага фашызму.

х х х

Ідзе вайна Расеі з Украінай. Гінуць людзі. Расея акупавала Крым, які быў здадзены бяз бою пры фактычным спрыяньні кіеўскага кіраўніцтва. Ідзе вялае збройнае змаганьне за Данбас. Рускімі ваенізаванымі аддзеламі разьведкі рыхтуецца па чарзе захоп усіх вобласьцяў Украіны, правакуецца грамадзянскае супроцьстаяньне. Украінская ўлада дэманструе безініцыятыўнасьць і бездапаможнасьць, войска – не

жадае сур'ёзна ваяваць. Ініцыятыва ў руках добра ўзброеных рускіх дыверсантаў. Іх ужо тысячы баевікоў на тэрыторыі паўднёва-усходніх вобласьцяў Украіны. Дыверсанты паступова захопліваюць уладу знутры.

Руская фашыстоўская прапаганда ў СМІ поўнасьцю дамінуе на тэрыторыі Расеі, Беларусі, часткова на Украіне і ў астатняй Эўропе. Абсяг яе пашыраецца. Літаральна нядаўна (у пачатку траўня) ў дадатак да прапагандысцкай машыны Масква стварыла спэцыяльнае войска для "інфармацыйных апэрацыяў". Захад не ўсьведамляе небясьпекі, не рыхтуецца да вайны і не зьбіраецца ваяваць.

Гэта наш агульны пабежны штрыхавы погляд на становішча. Напад пуцінскай Расеі на Украіну і ваеннныя дзеяньні на яе тэрыторыі вымагаюць ад нас высноваў пра будучыню Беларусі. Мы павінны адказаць сабе на некалькі важных пытаньняў.

Але найперш, у сувязі з разьвіцьцём падзей, -- **паўтор пройдзенага**, асэнсаванага беларусамі 15-20 гадоў таму. Мы зыходзілі з наступных ацэнак:

**1.** З канца 90-х – пачатку 2000-х у Расеі ўсталявана абсалютная ўлада савецкага КГБ. Тып улады – карпаратыўная дыктатура гэбізму. Ідэалёгія – нацыянальна-этнічны рускі імпэрыялізм. Палітыка – імпэрыялістычны рэваншызм, унутраны кантроль над грамадзтвам і зьнешняя агрэсія.

**2. Тыпы вайны,** якую вядзе посткамуністычная гэбісцкая Расея:

**а)** унутраная акупацыя – тэхналягічная вайна;
**б)** унутраная акупацыя – гібрыдная вайна;
**в)** зьнешняя агрэсія – збройная вайна.

Трэба разумець, што ўсе тры тыпы вайны, якую вядзе Расея супраць суседніх народаў, -- гэта адзіны працэс, які перацякае ў розныя формы і ў канцовым варыянце завяршаецца збройным уварваньнем, акупацыяй і анэксіяй тэрыторыяў.

Поўнасьцю ўсе тры фазы вайны мы назіралі ў Малдове і на Каўказе. Дзьве першыя фазы бачым супраць Украіны. Першую фазу назіраем супраць Беларусі, часткова Латвіі і Эстоніі.

**3. Мэта вайны --** захоп тэрыторыяў, якія ўваходзілі ў СССР і кантраляваліся савецкай палітыкай; дамінаваньне ў Эўропе і ў пэрспэктыве – у сьвеце.

У сувязі з апошняй пазыцыяй пуцінская Расея стварыла сабе галоўнага ворага з Злучаных Штатаў Амэрыкі, разумеючы слабасьць, палітычную інфантыльнасьць і безыдэйнасьць Эўропы.

**4. Прычыны агрэсіўнай палітыкі Расеі.** Прычыны зыходзяць з імпэрскай сутнасьці дзяржавы і грамадзтва. Расейскае грамадзтва, руския, ня ёсьць нацыяй. Гэтая супольнасьць ёсьць імпэрыя з адметным агрэсіўным сьветапоглядам і эгалітарнай псіхалогіяй, якая сфармавалася даўно, яшчэ за часы мангольскай Арды, адкуль бярэ пачатак Расея і расейская ваенная дзяржаўнасьць, заснаваная на агрэсіі і нянавісьці. І якая б ні была ўлада ў Крамлі (царская, камуністычная, дэмакратычная, сямейная, крымінальная, гэбоўская, генэральская, народная і etc.) – яна заўсёды будзе праводзіць агрэсіўную імпэрскую зьнешнюю палітыку і ўнутранае душэньне людзей.

**5. Унутраная акупацыя – тэхналягічная вайна.** Пра гэта за апошнія 20 гадоў мне ўжо шмат прыходзілася пісаць. Сутнасьць тэхналягічнага тыпу ўнутранай акупацыі – захоп улады і ключавых пазыцыяў у атакаванай дзяржаве пры дапамозе агентуры спэцслужбаў і шляхам агентурнага выкарыстаньня існуючых формаў дзяржаўнага заканадаўства і структураў улады а таксама інфармацыі, прапаганды, падкантрольных арганізацыяў і асобаў плюс чыньнік подкупу і грошай. Абавязковая ўмова – наяўнасьць і стварэньне групаў насельніцтва, якія размаўляюць на мове агрэсара.

Мэта ўнутранай акупацыі падрыхтоўчая: выкарыстаньне дзяржаўнай улады і дзяржаўнай палітыкі захопленай краіны дзеля падрыхтоўкі яе да анэксіі, стварэньне ўмоваў для гібрыднай і збройнай вайны.

Галоўнымі чыньнікамі палітыкі тэхналягічнага мэтаду ўнутранай акупацыі ёсьць ліквідацыя нацыянальнай мовы, укараненьне мовы акупанта, разбурэньне нацыі, грамадзянскай супольнасьці і аслабленьне дзяржаўных інстытутаў сусерэнітэту краіны

(найперш – войска), зьнішчэньне ў людзей волі да кансалідацыі і да супраціўленьня, уключэньне апанаванага грамадзтва ў інфармацыйную прастору краіны-акупанта.

Першымі ахвярамі тэхналягічнага падыходу з боку Расеі сталі Беларусь і Украіна, дзе спрыяльныя ўмовы для ўнутраннай акупацыі (моўная русіфікацыя насельніцтва) былі закладзеныя яшчэ за часы СССР. Беларусь цяпер ужо грунтоўна паралізаваная і падрыхтаваная акупацыйным рэжымам да паражэньня ў гібрыднай вайне, вынікам якой (калі ня будзе вострага супраціўленьня беларусаў) можа стаць анэксія краіны.

Унутраная акупацыя і развал Украіны праведзены Масквой грунтоўна і вынікова праз сваіх стаўленьнікаў ва ўладзе, але не даведзены да канца з прычыны ўкраінскай нацыянальнай рэвалюцыі (Майдану), якая стала пагрозай для ўсёй гэбоўскай сістэмы Расеі. У выніку Масква груба прысьпешыла дыверсійную вайну супраць Украіны, нясучы адчувальныя ганебныя страты ў міжнародных дачыненьнях.

**6. Дыверсійная альбо гібрыдная вайна.** Гэта вайна з выкарыстаньнем дыверсантаў і ўзброеных аддзелаў спэцслужбаў разьведкі на тэрыторыі краіны нападу з апорай на пятую калёну і з выкарыстаньнем групаў мясцовага насельніцтва пад выглядам этнічнага, палітычнага ці рэлігійнага змаганьня “сэпаратыстаў”, “незалежнікаў”, “аўтанамістаў”, “фэдэралістаў”, “праваслаўных”, і т. п., стварэньне жывых шчытоў з цывільных людзей і інш. Дыверсанты пры падтрымцы пятай калёны захопліваюць будынкі ўлады і кантралююць адміністрацыі, ствараюць свае квазіўладныя структуры, рыхтуюць фармальныя акты і акцыі па далучэньні акупаванай тэрыторыі да краіны-агрэсара.

**7. Асаблівасьці становішча.** У той час, калі Эўропа (найперш немцы) актыўна спрыялі здачы Беларусі пад Расею, зьнішчэньню беларускай нацыянальнай палітыкі, нацыянальна-дэмакратычнага руху і, фактычна, далі магчымасьць выкарміцца антыбеларускаму рэжыму Лукашэнкі, напад Масквы на Украіну напалохаў заходняга палітычнага філісьцера. Эўропа адчула небясьпеку свайму камфортнаму існаваньню. Адзінай зброяй Эўропы (у ваенных дачыненьнях яна амаль што нуль) ёсьць эканамічныя санкцыі супраць Расеі. Гэта станоўчы момант для Украіны. (У Беларусі, напрыклад, дэмакратычны Захад, замест таго, каб пакараць санкцыямі Расею, імкнуўся пакараць рэжым у Менску і звязаныя зь ім вытворчыя прадпрыемствы, б’ючы, фактычна, па працоўных людзях і мацуючы кантроль Масквы над Беларусяй).

Тым часам Эўропа яшчэ не ўсьведамляе фашысцкай сутнасьці рускага гэбізму і фашызацыі рускага імпэрскага грамадзтва, якое атрымала на ўзбраеньне клясычна фашысцкую ідэалогію “русского мира”. Па гэтай канцэпцыі Расея можа ўжо арганізаваць маштабныя рускія закалоты з патрабаваньнем асаблівых свабодаў ў Лёндане, Бэрліне і іншых сталіцах Эўропы. Заходнікі не ўяўляюць, з кім маюць справу.

Слабасьць Украіны і Эўропы перад расейскай дыверсійнай вайной у тым, што няма міжнародных законаў па супрацьдзеяньні гібрыднай вайне, якая хаваецца за сэпаратызм, за мясцовыя групы насельніцтва, за права на самавызначэньне, права выбару, правы меншасьцяў і т. п. азначэньні, напладжаныя дэмакратычнымі рэжымамі. Краіна, на якую напалі знутры, ня мае права (згодна недасканалага заканадаўства) ужываць войска, танкі, авіяцыю супраць такой закамуфляванай вайсковай агрэсіі, ня можа мець перавагі перад добра падрыхтаванымі і ўзброенымі дыверсантамі. Што мы і назіраем у Данбасе.

Павінна быць заканадаўчая ініцыятыва ў міжнародным маштабе аб унутранай акупацыі і гібрыднай вайне, таксама аб лакальных атамных ударах (якія магчымыя і няма за гэта мэханізму адказнасьці і пакараньня). Усё мусіць быць кваліфікавана як злачынства, вызначана адказнасьць, дзеяньні, санкцыі.

**8. Мова.** Для Эўропы нацыянальная мова – гэта галоўны сродак культуры і камунікацыі. Для рускага імпэрыялізму – гэта першы і галоўны сродак захопніцкай імпэрскай палітыкі. (Нюанс яшчэ ў тым, што інфантыльная Эўропа таго не разумее.) Вось сьвежы прыклад. 11 траўня рускія дыверсанты ГРУ (з апорай на арганізаваную імі пятую калёну) правялі пад люфамі аўтаматаў фарсавы нібыта рэфэрэндум у Данецку.

12-га траўня яны прынялі заяву аб “суверэнітэце” Данецка, дзе напісалі, што Данецкі рэгіён заўсёды быў *часткай “русского мира”, “незалежна ад этнічнай прыналежнасьці жыхароў”* (гэта значыць, што жыхары, і найперш ўкраінцы, гаварылі на рускай мове, -- *З.П.*) і таму “суверэнны” Данецк зьвяртаецца да Расейскай фэдэрацыі з просьбай аб уваходжаньні ў склад РФ. Вось такая квазіпалітыка гібрыднай вайны.

Цікава, што да расейскага нападу на Украіну такія простыя рэчы, як агрэсіўная функцыя рускай мовы ў рускай палітыцы, былі не зразумелыя для некаторых украінскіх інтэлігентаў. Яны, як і ў Беларусі, жылі яшчэ савецкай дэмагогіяй пра “дружбу народаў”, што “дело не в языке” і т. п. Цяпер справа мяняецца. Людзі расплюшчваюць вочы. Нядаўна такі ўкраінскі музыкант ад сучаснай мас-культуры Алег Скрыпка ў выніку стрэсу ад нечаканай для яго вайны раптам стаў відушчым і сказаў літаральна наступнае: “Вайны можна б было пазьбегнуць. Калі б мы ўсе разам былі ўкраінцамі, ведалі б мову, уласную гісторыю, слухалі добрую музыку, хадзілі б на ўкраінскія канцэрты, чыталі б украінскія кнігі – немагчыма было б стварыць пятую калёну і абапірацца на рускамоўных людзей, каб зьнішчыць краіну і забіваць патрыётаў на вуліцах.

Трэба было стаць культурнымі людзьмі, якія ведаюць сваю мову і не прыкрываюць уласную ляноту і непісьменнасьць фальшывай талерантнасьцю да мовы. Свая мова вывучаецца хутка.

Была б Украіна ўкраінская, як Францыя французская ці як Чэхія чэшская, -- гэтых праблемаў бы не было.”

У беларусаў, на жаль, такога прасьвятленьня розуму яшчэ неназіраецца, хаця (будзем справядлівымі) беларускі музыка Сяргей Міхалок ужо палову свайго добрага слова таксама сказаў.

**9. Высновы на будучыню.**

Горкая навука Украіны падказвае нам, беларусам, што мы павінны рабіць, каб не дапусьціць агрэсіі Расеі, а ў выпадку агрэсіі -- каб перамагчы ворага і адстаяць незалежнасьць дзяржавы.

**9.1.** Першае -- трэба ўсьвядоміць, што беларуская мова ў гэтай вайне з Расеяй ёсьць зброяй нашай свабоды і незалежнасьці. У мінулым годзе на сьвята Дзядоў у Курапатах Юры Адамавіч Беленькі, зьвяртаючыся да моладзі, выразна і лёзунгава сфармуляваў сутнасьць зьявы: ***«Моладзь, памятай: калі ты размаўляеш на расейскай, ты ў акупацыйнай арміі, якая страляе ў твой народ»***. Не страляйма ў сябе ў той час, калі вораг страляе ў нас. Беларуская мова супроцьстаіць агрэсіўнай фашысцкай дактрыне “русского мира”, ёсьць закладам, які ліквідуе ўмовы рускай агрэсіі і вайны.

Побач з мовай важнейшым стратэгічным чыньнікам нашай свабоды і незалежнасьці ёсьць наша гісторыя, найперш гісторыя Вялікага Княства Літоўскага – нашай старажытнай дзяржавы і нашага старажытнага народнага імя. Трэба ведаць свае нацыянальныя гістарычныя карані. Трэба шанаваць сваю гістарычную культуру. Трэба ведаць гісторыю Беларусі.

**9.2.** Расея, расейскі імпэрыялізм ёсьць галоўнай прычынай усіх нашых народных гістарычных няшчасьцяў, вынішчэньняў, рабункаў, сьмерцяў і пакут. Расея ёсьць наш натуральны, брутальны, сьмяртэльтны вораг, які не прызнае нашага існаваньня і ў пэрспэктыве бачыць нашу нацыянальную сьмерць. (Дарэчы, антыбеларускі рэжым запрасіў у Менск на чэмпіянат па хакеі ў траўні гэтага года расейскіх гасьцей-заўзятараў. Расейцы прыехалі, як звычайна, панапіваліся да сьвінячага стану і крычалі “сьмерць Беларусі”.) З расейцамі нельга сябраваць, іх нікуды нельга пускаць.

**9.3.** Той сьвет, які існаваў да сакавіка 2014 года, да нападу Расеі на Украіну, той сьвет больш не існуе. Беларусы мусяць рыхтавацца да вайны, ствараць групы па некалькі чалавек, назапашваць зброю, рыштунак і выбухоўку. Беларуская армія, кіруемая рускімі і прарускімі афіцэрамі, ня будзе абараняць Беларусь і беларускі народ. Але ў арміі шмат жаўнераў-беларусаў, якія могуць завалодаць зброяй і выступіць у абарону Беларусі, а з рускімі афіцэрамі абыйсьціся па законах ваеннага часу.

Дарэчы, акупацыйны рэжым, баючыся беларускага супраціўленьня, ужо наперад прымае прэвентыўныя захады, каб пазбавіць людзей зброі. 24-га красавіка гэтага года ўзурпатар падпісаў Указ № 185 дзе прапанавана беларусам да 1-га ліпеня зарэгістраваць “незаконна прыхаваную зброю”. Потым гэтую зброю (зрабіўшы характарыстычную экспэртызу), маўляў, вернуць уладальнікам.

Зразумела, што катэгарычна (!) нельга рэгістраваць і паказваць ім зброю. Нельга дурным чынам дабраахвотна падставіць сябе пад рэпрэсіі. З пачаткам ваенных дзеяньняў ўсе, хто цяпер наіўна праз “экспэртызу” зарэгіструе сваю зброю ў рэжыма, будуць гэтым рэжымам арыштаваныя, альбо кінутыя ў турму (як Аўтуховіч), альбо забітыя. Зброя павінна застацца ў беларусаў. Яна будзе гарантыяй бясьпекі і барацьбы.

**9.4.** У выпадку ўваходжаньня рускіх са зброяй на нашу тэрыторыю нельга адносіцца да ворага цярпіма, лаяльна і абыякава, і тым больш – нельга не супраціўляцца (як украінцы ў Крыме). Ворагаў, што са зброяй на нашай зямлі, трэба забіваць без папярэджаньня ўсюды і заўсёды, любымі спосабамі. З ворагамі, што прышлі са зброяй, каб нас забіць, не дыскутуюць, не размаўляюць – іх зьнішчаюць. Неабходна разумець, што для нас, беларусаў, гэта айчынная вайна, якая пачалася з 1994 года.

**9.5.** Трэба зыходзіць з таго, што акупацыйны рэжым здасьць Беларусь. Барацьбу з ворагам мусіць узяць на свае плечы сам беларускі народ. Ліквідацыя рэжыму Лукашэнкі будзе часткай агульнай барацьбы з акупантам.

Вельмі важна выявіць усюды рускую гэбоўскую агентуру, каб ажыцьцявіць (гледзячы па абставінах) яе арышт, дэпартацыю альбо суд і ўвязьненьне.

Рэальныя абставіны могуць узьнікнуць розныя. Але аб’ектыўныя задачы існуюць такія, пра якія мы тут гаворым. Калі мы іх не ажыцьцёвім, то страцім будучыню.

**9.6.** Мы мусім ўсьведамляць, што адстаяць свабоду і незалежнасьць і перамагчы рускі фашызм мы здолеем найперш тады, калі пераможам ў інфармацыйнай вайне. Тым часам інфармацыя выніковая тады, калі мае масавы характар і звяртаецца да шэраговых пластоў насельніцтва (асабліва ў пэрыяд айчыннай вайны). Зразумела, якія цяжкасьці стаяць перад беларусамі. Але ўсё магчыма (нават масавае беларускае тэлебачаньне і радыё), калі паставіць мэту, дзейнічаць салідарна і быць кемлівымі. Тым часам выкарыстаць наяўныя сеціўныя электронныя магчымасьці сувязі, якімі карыстаецца маладзейшая частка грамадства, трэба напоўніцу.

**9.7.** Нарэшце, важнейшае пытаньне, якое павінны ўсьвядоміць мы, беларусы, украінцы, Эўропа – усе людзі:

Ад расейскага імпэрыял-фашызма нельга абараніцца і потым мірна зь ім суіснаваць. Руская падрыўная праца і пляны захопу ня спыняцца ніколі. Рана ці позна імпэрская агрэсія Расеі будзе паўторана ў шырокіх і пачварных маштабах. Расея ёсьць падпальшчыца дзьвух крывавых сусьветных войнаў і пагражае падпаліць трэцюю. Калі Эўропа хоча міру, рускі імпэрыялізм мусіць быць разбураны, імпэрыя ліквідавана. Зразумела, што ні Амэрыка, ні Эўропа (з прычыны свайго філісьцерства і прагматызму) ня будуць спрыяць дэзінтэграцыі агрэсіўнай штучнай і шматковай расейскай дзяржавы, пабудаванай на гвалце і нянавісьці. У ліквідацыі расейскай пагрозы народам павінны быць зацікаўлены самы гэтыя загрожаныя народы, перш за ўсё – Беларусь, Украіна, Польшча, Малдова, краіны Каўказу і Закаўказьзя, краіны Прыбалтыкі і ўсе постсавецкія дзяржавы Сярэдняй Азіі.

Цяпер, калі ідэалагічна сфармаваўся новы рускі імпэрскі фашызм і пачаў агрэсію супраць Украіны, ствараючы чарговую крыніцу напружанасьці ў сьвеце, паўстае пытаньне аб арганізацыі блоку краінаў антырасейскай антыпуцінскай кааліцыі. Рэальна гэта тыя незалежныя краіны постсавецкай гісторыі, якія тут вышэй пералічаны. У будучыні сюды могуць далучыцца Турцыя, краіны Цэнтральнай Эўропы плюс Фінляндыя. Рускі імпэрскі фашызм мусіць быць ліквідаваны. Імпэрыялізм мусіць быць скончаны. Руская агрэсія павінна быць спынена.

Зразумела, што кааліцыя на ўзроўні ўрадаў пералічаных краінаў – гэта доўгі і праблемны працэс. Але пачынаць дзейнічаць можна ўжо сёньня на грунце грамадзка-палітычных структураў і асобаў з мэтай стварэньня Міжнароднага Кангрэсу арганізацыяў антыфашысцкай антырасейскай антыпуцінскай кааліцыі. Наколькі супрацоўніцтва стане рэальным на ўзроўні ўрадаў і дзяржаваў – пакажа будучыня.

*17 траўня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# КАНФАРМІЗМ

У Беларускім Інтэрнэце ёсьць некалькі больш-менш вядомых Старонак на беларускай і беларускай і рускай мовах. Аўдыторыя і прагляды іх ў апошні час зьмяншаюцца адваротна прапарцыянальна павелічэньню іхнай канфармісцкай і часам адкрыта калябаранцкай інфармацыйнай пазыцыі адносна антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі.

Галоўным тэкставым, візуальна-ілюстрацыйным і, фактычна, станоўчым інфармацыйным героем іхных навінаў, рэпартажаў і ўсяго кантэнту (прытым без крытычных ацэнак нелегальнага "правіцеля" і адносінаў да яго) зьяўляецца нішчыцель беларускай нацыі маскоўскі сатрап Лукашэнка. Сур'ёзна камэнтуецца (як палітычная зьява) усё ягонае пустое і лжывае славаблуддзе, на якое нават Масква не зьвяртае ўвагі, разумеючы пустапарожнасьць і ведаючы поўную залежнасьць гэтага здрадніцкага балбатуна ад пуцінскай палітыкі. Такія нібыта "дэмакратычныя" сайты часам ўжо няхочацца адчыняць. Лепш глядзець "Савбелію" -- менш раздражняе.

Самая рэсурсна і штатна магутная Старонка "радыё Свабода" зьехала да 350 наведвальнікаў у дзень, да 1000 праглядаў і да двух тысячаў усёй актыўнай аўдыторыі. Камэнтароў пад матэр'яламі там, практычна, ўжо няма (проста няма каму пісаць), хоць і цэнзуры няма. Часам толькі пару заблудных троляў што-небудзь цяўкне супраць Беларусі (а Свабода зьмесьціць).

Тым часам такая, фактычна, вузка кланавая, але пасьлядоўна антылукашысцкая, антырэжымная Старонка як "Хартыя-97, з жорсткай цэнзурай (што ў сытуацыі інфармацыйнай вайны абсалютна апраўдана) вырасла на вачах. Тут 28 тысячаў наведнікаў, 150 тысячаў праглядаў і 95 тысячаў актыўнай аўдыторыі.

Напісаць гэтую рэпліку мяне вымусіла, прабачце, ўжо проста гнюсная вёрстка галоўнай старонкі сёньняшняга дня (23-06-2014) Сайта "радыё Свабода", дзе нікчэмны "косназязычны" калгасны сатрап, які публічна зьдзекваўся над творчасьцю і сьмерцю вялікага Быкава, гэты сатрап пададзены на фота побач ў параўнаньні з фотавыявай Быкава ў спэцыяльна падабраным ракурсе і кампазыцыі і прыпадобнены да генія нацыі. (Тут падаю копію гэтай вёрсткі). А побач славаблудны хвалебны матэрыял пра Лукашэнку і ягоную беларусафобную "пачку" (каманду), якую склалі "экспэрты Свабоды" як паплечнікаў ўхваленага імі здрадніка нацыі .

Цытую Свабоду: "сьпіс з 20 асобаў, якія на працягу ўсяго пэрыяду станаўленьня лукашэнкаўскай улады былі побач зь ім і шмат у чым вызначылі далейшае разьвіцьцё Беларусі". Тое, што зрабіла "пачка" зь Беларусяй -- гэта ў "экспэртаў Свабоды" ёсьць "разьвіцьцё". І, дадам, што падсумуюць гэтае "разьвіцьцё" "зялёныя чалавечкі". Чакаць нядоўга. Як гэта ўсё ганебна!

Апошнім часам да мяне зьвярталіся маладыя людзі з гарачымі галовамі (не хаваю -- сябры нашай Партыі) з просьбай дазволіць ім напісаць куды трэба, каб разагналі, як яны кажуць, "гэтае кубло". Я катэгарычна не дазволіў і не дазволю рабіць шкоднае глупства. Але пішу тут пра гэта, каб паказаць, якія эмоцыі ў моладзі выклікаюць цяпер (калі сфармаваўся на ўсходзе агрэсіўны фашызм) падобныя калабаранцкія зьявы ў інфармацыі.

Калісьці, гадоў дванаццаць таму, калі толькі пачынаўся сьлізкі дрэйф "Свабоды" і адыход ад Адраджэньня, я, занепакоены, напісаў пра гэта рэзкую крытычную заметку ў нашым адраджэнскім друку. Ох, якое ж было абурэньне кіраўніцтва. Якая нянавісьць. Паведамілі нават ў амэрыканскую ахову будынку Свабоды ў Празе, каб не прапусьцілі мяне ў будынак, калі я раптам туды зьяўлюся. Гэта ж якая пыха! Пазьняка ня пусьцім! Ну, гэта праява, скажам так, адміністрацыйнага дзяцінства, якая, аднак паказвае, што крытыка выклікала далёка ня тыя думкі на якія была накіравана.

Тады яшчэ жывы быў Быкаў і я гаварыў зь ім пра тэндэнцыі (тады якраз выкінулі выяву Пагоні з тытула сайта Свабоды), намякаў, каб Пісьменьнік неяк адзначыў гэтыя трывожныя тэндэнцыі (ці сказаў бы кіраўніцтву). На што мудры Быкаў, які выдатна

разьбіраўся ў людзях, сказаў мне, што ягонае ўмяшаньне нічога ня выкліча акрамя нянавісьці і закрыцьця дарогі для публікацыі.

Я не надта гэтаму тады паверыў. Усё ж такі тут Быкаў, сумленьне нацыі. Але потым я падумаў, што Пісьменьнік меў рацыю. І справа не ў канкрэтных асобах. Проста непазнавальна на нашых вачах зьмяніўся сьвет. Іншыя адносіны, іншыя дачыненьні, іншыя каштоўнасьці, ніякіх ідэалаў. Праўда, я гэты сьвет (што на Захадзе, што на Ўсходзе) не прымаю і нянавісьць яго мяне не палохае. Ёсьць іншы сьвет -- сьвет разумнай, годнай, вернай, сьветлай Беларусі. І дзеля будучыні, гэтага беларускага сьвету, варта змагацца і жыць.

*23 чэрвеня 2014 г.* Зянон Пазьняк

# НАВІНЫ
# АНТЫБЕЛАРУСКАЙ ПРАПАГАНДЫ

Цяпер, пасьля нападу Расеі на Украіну, усе ўбачылі, што такое ёсьць рускае гёбельс-тэлебачаньне і ўвогуле – уся расейская ілжывая журналістыка. Праўда, некаторым беларусам і цяпер яшчэ цяжка паверыць, што так можна ілгаць -- настолькі наіўнымі ёсьць нашыя даверлівыя людзі.

Да расейска-украінскай вайны руская прапаганда і антыбеларускі рэжым у Беларусі галоўны націск рабілі на ліквідацыю і ахайваньне беларускай мовы. Тут створана цэлая сістэма зьнішчэньня (ліквідацыя беларускай школы, беларускіх падручнікаў, кнігавыдавецтваў, дзіцячых часопісаў, радыё, тэлебачаньня, шыльдаў і г. д.). Паверх гэтага ўсяго разбурэньня мовы і беларускай культуры ішла акупацыйная ідэалёгія, сутнасьць якой – "статус-кво". Гэта значыць заклік прыняць за аснову, за норму вынікі нацыянальнага разбурэньня і на гэтым будаваць высновы, статыстыку і акупацыйную псэўда-тэорыю аб заканамернасьці "паміраньня" беларускай нацыі. Цэнтральным гваздом гэтай ілжы (згодна з фашызацыяй "русского мира") зьяўляецца сцьвярджэньне, што нацыянальная мова для нацыі неабавязковая, нацыя можа існаваць і без нацыянальнай мовы і карыстацца мовай калянізатараў. Каляніяльная гісторыя Афрыкі, маўляў, таму доказ.

Як кажуць, доказ то доказ, але тубыльныя плямёны Афрыкі ня мелі пад сабой Вялікага Княства Літоўскага, шляхецкай дэмакратыі, магдэбурыі, дасканалага права, кнігадрукаваньня, не ўплывалі на ўсю Эўропу і ня білі варварскую маскву на палях бясконцай вайны. Таму галоўны клопат акупантаў -- каб зьнішчыць усё тое ў фактах і ў памяці беларусаў. Інакш афрыканскую мэтадалёгію да мазгоў не прышчэпіш. Таму і нішчаць.

Напад на Украіну трохі зьбянтэжыў антыбеларускіх ідэолагаў і трактавальшчыкаў нацыі бяз мовы. Але вось нядаўна знайшлі выхад. Зьявілася новая качка антыбеларускай акупацыйнай "тэорыі". Пачалі пісаць у стылі вульгарнага "статус-кво", што беларуская нацыя – гэта, аказваецца, "палітычная нацыя". Гэта значыць такая нацыя, якая заснавана не на нацыянальнай мове, не на народнай гісторыі і культуры, а аб'яднаная вакол дзяржавы. Ну, а паколькі "дзяржава" ў цяперашнім акупацыйным калгасе вядома ёсьць "хто", то зразумела, і кім створана такая "палітнацыя". Вельмі добра "прыехалі" "тэарэтыкі". Якраз туды, куды ім трэба. Проста бездакорна. Вышэй за чучхэ.

Дыскутаваць з гэтакім ня трэба і ніхто ня будзе. Усяму ёсьць мяжа. Сытуацыя такая, што гадаў трэба пляжыць. Залезьлі ўжо беларусам ў вантробы.

Маладая беларуская жанчына вышла з 6-гадовым сыночкам у цэнтар сталіцы і падняла лёзунг на акупанцкай мове "палітнацыі" (гэта зн. па-руску): "Сьмерць крамлёўскім акупантам!" Вядома, жанчыну арыштавалі, а ўсе рэжымныя структуркі (тыпу так званых "праваабаронцаў", псэўдаапазыцыі, прэтэндэнтаў на ўдзел у фальшывых выбарах і т. п.) тут жа адвярнуліся ад яе (але нізасьць!).

Незалежна ад матывыў, якімі кіравалася жанчына, лёзунг яе вечна актуальны і самы што ні ёсьць надзённы. Канец крамлёўскім акупантам абазначаў бы канец войнам, гвалту, брыдоце русіфікацыі і паскудству рускай антыкультуры. Людзі ўздыхнулі б свабодна. Вось да гэтага трэба імкнуцца. Пачварны зьвер мусіць здохнуць ў сваім логаве.  За Беларусь і за Украіну будзе крамлёўскім адплата. І ніякая "палітнацыя" іх не ўратуе.

*12 чэрвеня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ГІСТАРЫЧНАЕ НЯШЧАСЬЦЕ І ДАРОГА НАПЕРАД

Апошнім часам пайшла паласа лукашысцкіх “юбілееў”: то 20-гадовая дата першага тура выбараў у 1994 годзе, то 20-гадовая дата другога тура, то юбілей, калі сатрап, насуперак Закону, уламаўся ў кабінэт былой Камісіі Вярхоўнага Савета і яму міліцыянэры спэцкалі касьцюм, то юбілей нейкай пачварнай фразы, якую сатрап збрахаў 20 гадоў таму, то (наперадзе) 20-гадовы юбілей прэзыдэнцкай прысягі і г. д.

Пра ўсё гэта ня ведалі б і ня ўспомнілі б, калі б ні так званыя “дэмСМІ”, якія на ўсе лады асьвятляюць гэтыя 20-гадовыя “юбілеі” ды ўзахлёб распавядаюць яшчэ і пра дэталі. Здаецца, што для гэтай дэмжурпублікі насарогі канчаткова сталі добра пахнуць. Ім і ў галаву не прыходзіць, што не бывае 20-гадовай улады прэзыдэнта, як і не бывае вечных прэзыдэнтаў. Тады гэта ўжо не прэзыдэнты. А тут яшчэ і розныя 20-гадовыя “юбілеі” гэтага здрадніка нацыі дэманструюць.

Гэта сапраўды няшчасьце, што мы ў гэты цяжкі час фактычна ня маем дэмакратычных беларускіх сродкаў масавай інфармацыі. Чытаем згоднікаў і канфармістаў. Эрозія інтэлекту і разбэшчаньне грамадзтва расейскай агентурай у нас на парадак горш, чым ва Украіне. Складваецца ўражаньне, што ніхто нічога ня ведае пра тое, што адбывалася ўсяго 20 гадоў таму, ня памятае, не арыентуецца, не разумее, дзе жыве, у якім грамадзтве і ў якай краіне.

Нядаўна я праслухаў у эфіры гутарку за круглым сталом у Празе якраз на тэму юбілеяў нягодніка і вырадка, які пры дапамозе Масквы зглуміў беларускую нацыю, спляжыў беларускую школу, навуку, мову, культуру, абпляваў лепшых людзей Беларусі, пазабіваў палітыкаў, здушыў моладзь, здаў нацыянальную маёмасьць ворагам, упусьціў расейскую ваеншчыну ў Беларусь. Пра гэта, вядома, ні слова ў “юбілейнай” тэме. Расказвалі беларусам, як праходзілі выбары ў 1994 годзе, ды што несьлі з сабой у галаве ды за душой кандыдаты на прэзыдэнта, і што б было, калі б прэзыдэнтам стаў іншы. Але Лукашэнка, маўляў, вырваўся наперад і нечакана ўсіх перамог. Нават Шушкевіч там у іх фігуруе як нейкая самастойная асоба. Той самы Шушкевіч, які пару год таму, калі рыхтавалася пуцінская апэрацыя па захопу Беларусі, выступіў публічна з заявай, каб увялі ў Беларусь расейскія войскі. Кіеўскі Майдан нечакана зблытаў Пуціну ўсе карты, і пуціністы тэрмінова пачалі захоп з Украіны. (Словаблудзтва Шушкевіча павісла ў паветры.)

У 1994 годзе не было аморфнай сытуацыі, дзе шэсьць кандыдатаў нібы та ішлі самастойна шасьцю калёнамі, як гэта хоча прадставіць руская лубянская агентура і як словаахотліва паўтараюць цяперашнія “дэмсмі”. У 1994 годзе быў жорсткі падзел і барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць паміж дзьвума сіламі: з аднаго боку Беларускі Народны Фронт і яго кандыдат, з другога боку – Масква, Лубянка і ўся камуна-савецкакя намэнклятура ў Беларусі. Яны ведалі, што перамога БНФ будзе абазначаць канец маскоўскай уладзе ў Беларусі. Яны разумелі, што будзе рэалізаваны Балта-Чарнаморскі Энэргетычны Калектар (праектныя распрацоўкі калектара па ініцыятыве БНФ тады якраз пачаліся). Яны адчувалі і непакоіліся разам зь немцамі, што калі прэзыдэнтам у Беларусі стане кандыдат БНФ, то (зыходзячы з палітычнай канцэпцыі Фронта) рэальна може ўтварыцца трэцяя геапалітычная сіла ў Эўропе (так і было б), якая злучыла б Беларусь, Украіну, Малдову, Прыбалтыку і Польшчу. А гэта – 110-115 мільёнаў насельніцтва, агульны рынак, усе рэсурсы, тэхналёгіі і разьвязка ўсіх гандлёвых шляхоў плюс супольная гісторыя і ідэёва блізкая культура. Тым часам і Турцыя, і Грузія таксама і, магчыма, нават Фінляндыя далучыліся б да нас, а не да Эўразьвязу, і Амэрыка падтрымала б (і мы ведаем, чаму).

Новая Ўсходняя Эўропа (Балта-Чарнаморская супольнасьць) – гэта была б сьвежая сіла, якая стымулявала б Адраджэньне ўсёй Эўропы -- Эўропы

дэмакратычных айчынаў без нямецкага і рускага фашызму, без заходняга лявацкага лібэралізму і яго антычалавечага, антымаральнага паскудзтва.

Новая Ўсходняя Эўропа абазначала б канец імпэрыялізму фашысцкай Расеі. Нам, фронтаўцам, ад пачатку было зразумела тое, што цяпер мусілі б усьвядоміць усе беларусы і ўкраінцы, і Каўказ. Ніколі ня будзе нам ні міру, ні свабоды, ні вольнага жыцьця, пакуль існуе ў любой форме ўлады такая імпэрская краіна, як Расея. Фашысцкая Расея павінна быць разбурана, як быў разбураны Трэці Райх. Такой імпэрыі не павінна існаваць. Гэтая арда вось ужо скора 800 гадоў ёсьць пастаянны падпальшчык вайны, пагроза чалавецтву і язва на целе народаў. Расейскі імпэрыялізм, і тым больш рускі цяперашні фашызм, павінны быць зьнішчаны гэтак жа, як пасьля 1946 года і Нюрнбэрга быў зьнішчаны нямецкі мілітарызм. Толькі тады настане спакой і мір у Эўропе.

Удакладняю, што размова ідзе аб ліквідацыі агрэсіўнай імпэрыялістычнай дзяржаўнай сістэмы, небясьпечнай для чалавецтва, а не аб рэпрэсіях насельніцтва. Народы Расеі мусілі б атрымаць нацыянальную свабоду на сваёй тэрыторыі (у тым ліку і рускія на сваёй тэрыторыі).

У 1994 годзе сілы Масквы супраць БНФ на выбарах ў Беларусі прадстаўлялі два кандыдаты – Кебіч і Лукашэнка, якія пікіраваліся паміж сабой, але дзейнічалі сумесна супраць БНФ. (Афіцэр гэбэ Кебіч пазьней гэта нават афіцыйна пацьвердзіў). Астатнія кандыдаты (Новікаў, Дубко, Шушкевіч) электаральна спрыялі Кебічу і Лукашэнку ў палітычным падзеле. Шушкевіча, напрыклад, увялі ў кампанію даволі позна па прапанове М. Статкевіча і пры падтрымцы А. Трусава, выкарыстаўшы сацыял-дэмакратаў. Задача яго была элемэнтарная: адрываць галасы ад кандыдата БНФ.

У гэтай барацьбе супраць БНФ Маскве дапамагалі таксама немцы (друкавалі агітпрадукцыю для Лукашэнкі). Тым ня менш Масква трывожылася. На Горадзеншчыне (ведаю зь першых рук) спэцыяльна драматызавалі становішча па формуле “альбо-альбо”. У сэнсе, што “калі прыдзе Пазьняк, -- усім канец”. Казалі, што трэба легчы касьцьмі, але не дапусьціць яго да прэзыдэнцтва. Выбары трактавалі як выбар лёсу, а маёй маці былыя намэнклятурныя камуністы намякалі, што мяне чакае сьмерць.

І гэта праўда. Такая задумка ў іх была. Але ім усё ж пашанцавала, бо ў выпадку перамогі Фронта стрэліць бы яны не пасьпелі. Прышлося б трымаць адказ за свае антынародныя дзеяньні ўлучна з злачынствам Чарнобыля. Бюракратычнай валтузьні, “бадзягі” і польскіх “грубых крэсак” не было б. БНФ рэальна вярнуў бы людзям іхныя разрабаваныя намэнклятурай ашчадныя зьберажэньні, даў бы рэальную свабоду ў працы, дзейнасьці і перамяшчэньні. Беларусам вярнулі б зямлю. Усё было б добра і разумна, як і павінна было быць у беларусаў.

А была б народная ўлада ў Беларусі, то і ў Расеі сталася б інакш, і ва Украіне, і не захапіў бы КГБ уладу ў Маскве, і шмат што іншае было б – ня стану пералічваць.

У 1994 годзе плян Масквы ўдаўся нечакана для многіх беларусаў. Была задзейнічана тыповая бальшавіцка-гэбоўская тэхналёгія: стаўка на прапаганду хлусьні, на палітычна неадукаваных людзей, на нізкія пласты грамадзтва і, адпаведна, -- на самыя прымітыўныя матэрыяльныя інтарэсы і самыя мінімальныя матэрыяльныя запатрабаваньні, вырашчаныя ў падсавецкай рэчаіснасьці. Зканамічны крызіс, створаны ў Беларусі Масквой, апора на КГБ, на савецкую намэнклятуру і на татальнага саўка забясьпечыла Крамлю рэалізацыю пляна і потым – фактычную ўладу над Беларусьсю. (Аналягічную апору на саўка, дарэчы, мы бачым і ў самой Расеі, асабліва цяпер, у час ваеннай агрэсіі супраць Украіны.) На саўку, на КГБ і на Маскве трымаецца і рэжым Лукашэнкі.

Адэкватна адлюстраваць той заломны час 1994 года можна толькі, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, бо тады вырашаліся лёс і будучыня беларускай нацыі, якой імкнуліся распарадзіцца антыбеларускія групы ў маскоўскую карысьць. Ім у каторы раз тое ўдалося, выкарыстаўшы сістэму антынароднай улады і апэлюючы да грамадзкай цемры і палітычнай нясьпеласьці насельніцтва. Але сутнасьць лёсавызначальных

падзей (па азначэньні) ня могуць перадаць ворагі нацыі. Карціна, напісаная імі, у прынцыпе ня можа быць адэкватнай. Рэальную гісторыю беларускай барацьбы здольныя адлюстраваць беларусы, якія змагаліся з гэтымі ворагамі сьвятла і народа, яго мовы і будучыні. На сёньняшні дзень я бачу толькі працы Сяргея Навумчыка, ў якіх з палітычным разуменьнем і веданьнем апісаны той час.

20 гадоў унутранай акупацыі і руска-лукашысцкага маразму ў Беларусі адбіліся крайне разбуральна і адмоўна на жыцьці нацыі. Гэтая галоўная шкода заключаецца ў стварэньні сістэмы дэфармацыі і рэпрадукаваньня мэнтальнага і сацыяльнага тыпу саўка, які стаўся дамінуючай групай грамадзтва ў падрэжымнай Беларусі. У сацыяльна-культурным сэнсе гэта дэградацыя і разбурэньне грамадзкай пэрспэктывы. Савок цяперашні – гэта ўжо ня толькі адсталыя пласты грамадзтва. Рэпрадукаваны савок стаў вялікім, ён насяляе ўжо рэжымныя і дэмакратычныя СМІ, уладу, маладзёвыя структуры, гандаль, сродкі інфармацыі, якія славаблудзяць аб “юбілеях” і датах дыктатуры і г. д.

Нагадаю нашае традыцыйнае фронтаўскае правіла аб неабходнасьці стварэньня новага чалавека, новага думаньня ў барацьбе з акупацыйнай дыктатурай, саўковай коснасьцю, абыякавасьцю і здрадай. Тады, у 1994-м, гэтых новых людзей было яшчэ недастаткова. Занадта мала часу адпусьціла беларусам гісторыя. Але і цяпер, нягледзячы на маразматычную саўковасьць навокал, шлях да свабоды застаецца той жа – праз новага вольнага беларуса, які шануе свой гонар, Бацькаўшчыну, мову і народ і гатовы змагацца за нашу дзяржаву, культуру і волю.

***1 ліпеня 2014 г.*** Зянон ПАЗЬНЯК

# КАРОТКІ АГЛЯД СТАНОВІШЧА

***(Выступ на ліпеньскмі 2014 г. Сойме Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ і Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”)***

Расейска-украінская вайна разгараецца. Кожны дзень праз адкрытую мяжу на тэрыторыю Украіны з Расеі пераязджаюць ужо дзясяткі найноўшых танкаў і іншай бронетэхнікі, дзясяткі грузавікоў з жывой сілай. Расейцы сістэматычна страляюць па ўкраінцах з ракетнай сістэмы “Град”, якая наносіць велізарныя разбурэньні. Расьце колькасьць ахвяраў з абодвух бакоў. Але ўкраінскае войска паступова арганізуецца, набірае сілы і наносіць штораз мацнейшыя ўдары па акупантах. Крымінальнікі, мабілізаваныя рускімі дыверсантамі, пачынаюць кідаць зброю і разьбягаюцца. Рускія імкнуцца папоўніць шэрагі дызертыраў новымі дыверсантамі з Расеі. Тэрарысты з Данецку абстрэльваюць зь мінамётаў расейскую тэрыторыю, каб абвінаваціўшы ў гэтым украінцаў, даць Пуціну повад увесьці на Ўкраіну новыя рэгулярныя рускія войскі.

Прыкладна месяц таму па планах Пуціна павінна было адбыцца ўварваньне расейскага рэгулярнага войска ва Украіну і пачацца дэманстратыўная поўнамаштабная вайна з паходам на Кіеў. Тым часам Рада Бясьпекі Расеі не падтрымала ўварваньне. Пры ўсім прапагандысцкім словаблудзтве і ўсхваленьні асобы Пуціна, ня трэба забывацца, што руская гэбісцкая дыктатура – гэта не аўтарытарная, а карпаратыўная ўлада, і людзі, якія паставілі на Пуціна, адэкватна разумеюць пасрэднасьць яго асобы. Яны (тыя людзі) і вызначаюць рэальную палітыку Расеі ў вайне супраць усяго сьвету.

Цяпер робіцца стаўка на ператварэньне Данбаса ў гарачую кропку, ва ўкраінскі “сэктар Газа”, у тэрарыстычную язву, якую будзе збройна і палітычна падсілкоўваць Расея і адначасна выступаць за перамовы і спыненьне агню. Крамлю хочацца прадставіць усяму сьвету акупацыю Данбаса як унутраны канфлікт ва Украіне, дзе агрэсар Пуцін імкнецца сыграць ролю міратворца.

Увесь час адбываецца моцная расейская дыпляматычная і рэсурсная апрацоўка заходне-эўрапейскай палітбюракратыі аб “спыненьні агню” і перамовах з дыверсантамі. Час ад часу нейкая эўраасоба (напрыклад, міністар МЗС Нямеччыны Ф. Штайнмаер) пачынае агітаваць за перамовы ўкраінцаў з тэрарыстамі. Клясычны прыклад чарговая змова Пуціна з Меркель, пасьля якой фраў выступіла за наўпроставыя перамовы Кіева з тэрарыстамі ў фармаце відэаканферэнцыі (у гэтым, дарэчы, ўсе немцы, ўся нямецкая палітыка).

Зазначу, што калі і на гэты раз прэзыдэнт Парашэнка пагадзіўся б на аднабаковае спыненьне агню і перамовы з бандытамі, то гэта ўжо было б фатальнай памылкай.

Расея ўзмоцнена рыхтуецца да вайны, і пазыцыя ейнай Рады Бясьпекі выклікана якраз прычынай недастатковай падрыхтаванасьці “пытаньня” аб уварваньні на Ўкраіну, а не прынцыповай нязгодай. Зараз адбываецца накапленьне расейскай ваеннай сілы ў Крыме і падрыхтоўка да адкрыцьця “другога фронта” на поўдні Украіны.

Руская агрэсія супраць Украіны і мабілізацыя ўкраінцаў на адпор агрэсару ўстрасянула ўсю гніль у Беларусі. Агентура (асабліва ў так званых “дэмСМІ”) амаль не хаваючыся стала сьпяваць хвалу Лукашэнку. Фатаграфіі яго ў розных позах не зыходзяць з так званых “дэмстаронак” у Інтэрнэце і з “дэмакратычных” газэт. “Беларусь адбылася”, лукашысцкая нацыя “ўтварылася”, -- пішуць безадказныя людзі. Адзін нават дапісаўся, што каб не паталагічнае хапаньне Лукашэнкі за ўладу, то незалежнай Беларусі ўжо не было б. (Тут, як у тым рускім анэкдоце “харашо, што папка п’ёт -- бутылкі с мамкой сдадім, на хлеб і хватает”.) Зноў зьявіліся штатныя кандыдаты на прэзыдэнта ў выбарах 2015 года. Сярод іх нават такі цьвёрды гэбоўскі дуб, як генэрал Фралоў і іншыя сябры Расеі.

Занепакоілася Лубянка, як бы падзеі ва Украіне ні абудзілі Беларусь. Зьявіўся шэраг прэвентыўных артыкулаў, напісаных з мэтай заблытаць людзей. Напрыклад, загаловак аднаго зь іх: “Праўда ці мова?” І выснова такая, што праўда важней за мову.

Тэхналёгія вядомая, лёгіка дзіцячая (некарэктны выбар прыярытэту сярод базавых каштоўнасьцяў, напрыклад, пытаньне дзіцяці: хто лепш -- тата ці мама). Але ж яно дзейнічае на слабыя розумы. Інакш бы не пісалася. Увогуле, практыка інфармацыйнага ўплыву сьведчыць, што няма такога глупства, якое, выказанае публічна, ні знайшло б пасьлядоўнікаў. Руская гёбельсаўшчына пра Украіну і хлусьня, якая цяпер штохвілінна трансьлюецца праз расейскае тэлебачаньне, -- гэтае правіла ўвесь час пацьвярджае.

Тое, што зьяўляюцца беларускія дабраахвотнікі і людзі гатовыя ваяваць на баку Украіны супраць рускай агрэсіі і фашызму, лічу добрай прыкметай і вынікам станоўчай палітычнай працы, якую трэба працягваць.

У рэчышчы падрыхтоўкі да вайны вельмі важна ўскрываць тэхналёгію і лжывую сутнасьць рускай інфармацыі пра Украіну і Беларусь і паведамляць тое грамадзтву. Істотна таксама тлумачыць сутнасьць рускага фашызму і яго агрэсіўнай канцэпцыі “русский мир”. Вельмі важна цяпер дапамагчы людзям усьвядоміць неабходнасьць дзяржаўнасьці і навучаньня беларускай мовы. Беларуская мова -- гэта эфэктыўны і надзейны базавы мэтад спыніць рускі фашызм і маскоўскую агрэсію на Беларусь. Падрыхтоўка да збройнага змаганьня супраць рэальна магчымай расейскай агрэсіі на Беларусь застаецца найважнейшай задачай нашай грамадзка-палітычнай працы.

Прапаную некалькі кароткіх артыкулаў па адзначаных тэмах, напісаных у форме асьветніцкай улёткі.

*Ліпень 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

**1**

## ШУКАЙМА ПРАЎДЫ

***(Аб інфармацыі)***

У Беларусі і вакол нашай краіны адбываюцца кардынальныя падзеі, якія зьмяняюць сьвет і парадак, што існаваў дагэтуль. Але шмат людзей у Беларусі (калі ня большасьць) ня ведаюць, што робіцца, і больш таго, маюць скрыўленыя неадэкватныя ўяўленьні пра вайну і расейскую агрэсію супраць Украіны, пра пэрспэктыву Беларусі. Прычына такога становішча -- у інфармацыйнай вайне, якую вядзе Расея супраць Украіны, і у знаходжаньні нашага насельніцтва ў расейскім тэлевізійным інфармацыйным полі гэтай вайны. Самае кепскае тут – гэта адсутнасьць беларускага нацыянальнага тэлебачаньня і масавага альтэрнатыўнага беларускага тэлевізійнага спавешчаньня. Тое тэлебачаньне, што пад лукашызмам, паўтарае зьмест і мэтады расейскай дэзінфармацыі.

Вынік гэтай разбуральнай дэзінфармацыі мы ўжо назіраем: раскол грамадзтва, раскол у сем’ях, уцягваньне беларусаў у агрэсыўную палітыку пуцінскай Расеі. Людзі атрымліваюць з расейскага тэлебачаньня крайне ілжывую інфармацыю пра ўкраінцаў і ваенныя дзеяньні на Украіне.

Расейская прапаганда заўсёды была ілжывай і палягала на цынічнай хлусьні. Але тое, што вяшчаюць цяпер афіцыйныя расейскія тэле і радыёканалы, пераўзыходзіць па ўзроўню нізасьці і неадэкватнасьці ўсю хлусьню, якая была дагэтуль і ў Савецкім Саюзе, і ў гітлераўскай Нямеччыне. Прытым груба зьневажаюць украінскі народ, яго гісторыю, мову, культуру, вялікіх людзей Украіны.

Беларускае грамадзтва не павінна заставацца інфармацыйна асьлепленым і жыць у сьлепаце. Гэта вядзе да вялікіх няшчасьцяў. Трэба ратавацца ад чужога ўплыву і рускай хлусьні.

У гэтым становішчы самы радыкальны і эфэктыўны сродак паратунку – перастаць глядзець усе расейскія каналы і каналы рэжымнага лукашысцкага тэлебачаньня ў Беларусі. Адключыць іх. Там няма інфармацыі. Там сістэма ілжы, замбаваньня і абалваньваньня чалавека.

Адэкватную інфармацыю можна знайсьці ў Інтэрнэце на беларускіх неафіцыйных старонках, а таксама на беларускім тэлевізійным канале Белсат, што перадае з Польшчы. Украінцы не вядуць інфармацыйнай вайны, займаюць пазыцыю інфармацыйнай абароны, таму шмат што можна даведацца з украінскіх тэлеканалаў там, дзе ў Беларусі ёсьць магчымасьць прымаць сігналы ўкраінскага тэлебачаньня.

Беларусы, вырывайцеся з палону расейскай ілжы. Адчыняйце вочы на сапраўдныя падзеі і сапраўдны сьвет. Клапаціцеся пра будучыню нашай роднай Беларусі.

*14 ліпеня 2014 г.*

***Ініцыятыва "Беларуская Салідарнасьць"***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

**2**

# ПРА "РУССКИЙ МИР" І ФАШЫЗМ

Задаткі фашызму існавалі ў маскоўскім грамадзтве здаўна, яшчэ ад часоў Арды і Маскоўскага княства. Гэта ўвогуле родавая прыкмета расейцаў. Цяга да агрэсіі, масавага вынішчэньня людзей і да таталітарнага сьветапогляду была ад пачатку. Найбольш яскрава і разбуральна яна выявілася ў ХХ-м стагоддзі з усталяваньнем камуністычнага рэжыму СССР і камуна-фашысцкай ідэалёгіі "пабудовы камунізму". У паднявольных краінах (асабліва ў Беларусі і Украіне) пад гэтую марку камунізму зьнішчылі дзясяткі мільёнаў нявінных людзей.

Фашысцкая ідэалёгія агрэсіі рускага камунізму і планы вынішчальнай перабудовы чалавецтва грунтавалася на класавым ідэале пралетарыята (рабочых людзей без маёмасьці і ўласнасьці). Астатнія маёмныя станы павінны былі быць зьнішчаны фізічна альбо сацыяльна (у выніку пазбаўленьня ад маёмасьці).

Канцэпцыя агрэсіі і вынішчальнай перабудовы сьвету паводле нямецкага гітлерскага фашызму грунтавалася на расавым ідэале арыйскай (нямецкай) расы, перад якой іншыя расы мусілі быць альбо зьнішчаны, альбо ўведзены ў стан нявольнікаў.

Да апошняга часу фашызм ва ўсім сьвеце (там, дзе ён узьнікаў) паслугоўваўся адной з гэтых дзьвюх фашысцкіх канцэпцыяў.

Пасьля краху рускага камунізму і пасьля частковага паўраспаду савецкай імпэрыі абсалютную ўладу ў Расеі ў 2000-м годзе забірае КГБ. Адбываецца фармаваньне новага рускага фашызму ўжо не на класавай, а на шавіністычна-імпэрскай аснове. Канцэпцыя агрэсіі і падпарадкаваньня сьвету тут палягае не на класавай, не на нацыянальна-расавай ідэях, а на нацыянальна-моўнай падставе. Класавая і расавая ідэалёгія фашызму папоўніліся яшчэ адной таталітарнай ідэалёгіяй, імя якой – "русский язык". Гэтая ідэалёгія аформлена ў фашысцкай канцэпцыі "русский мир", распрацаванай ў КГБ пад дахам праваслаўнай арганізацыі РПЦ (Русской Православной Церкви).

Сутнасьць гэтай канцэпцыі – апраўданьне імпэрскай тэрытарыяльнай агрэсіі на падставе рускай мовы. Пуцінская Расея лічыць, што ва ўсіх месцах у сьвеце, дзе ёсьць людзі, якія размаўляюць па-руску (гэта не абавязкова этнічна рускія), яна можа ўвесьці туды сваё войска дзеля абароны рускамоўных інтарэсаў.

Такая мэтадалёгія ня ёсьць для Расеі новай. У XVII-XIX стагоддзях рускія цары, напрыклад, выкарыстоўвалі дзеля агрэсіі і анэксіі тэрыторыяў жупел праваслаўя, якое яны быццам бы павінны былі "абараняць". Гітлераўцы ў 30-х гадах дзеле анэксіі Судэцкай вобласьці і Аўстрыі абапіраліся на чыньнік этнічны. Тут жа навіна ў тым, што цяперашняя канцэпцыця рускага гэбізму, плянуючы экспансію, спрабуе абапірацца на "русский язык" як на асобны фэнамэн агрэсіі, незалежна ад этнічнага паходжаньня людзей. Гэта (як лічаць, відаць, у Крамлі) дае шырокія магчымасьці для ваеннага

ўмяшаньня ў розных пунктах розных тэрыторыяў, каб нібыта абараняць рускамоўных людзей, якіх нібыта перасьледуюць і г. д.

Адсюль зразумела, чаму галоўным накірункам крамлёўскай палітыкі (і раней у СССР, і цяпер, у дачыненьнях з суседнімі краінамі) ёсьць русіфікацыя і любымі спосабамі насаджэньне рускай мовы (паралельна са зьнішчэньнем нацыянальнай мовы карэннага народа). У гэтай сувязі цалкам зразумелая палітыка прамаскоўскага лукашызму па зьнішчэньні беларускай мовы, беларускай школы, беларускага друку і нацыянальнай асьветы ў Беларусі. Тут мэтанакіраваная падрыхтоўка да анэксіі цэлай краіны ў адпаведны час і адпаведны момант. У гэтым якраз і ёсьць найвялікшая здрада і найвялікшае злачынства Лукашэнкі перад беларускай нацыяй. За 20 гадоў лукашызму разбурана вельмі шмат, падарваныя этнакультурныя асновы нацыі і страчаны гістарычны час. Аслабленая беларуская нацыя апынулася, практычна, у адзіночку, тварам у твар з новым агрэсіўным рускім фашызмам, які ўжо пачаў збройную вайну супраць Украіны.

Тым часам у беларусаў ёсьць магутная і пераможная зброя, перад якой антыбеларуская палітыка Крамля -- бясьсільная. Гэтая зброя – Беларуская мова, вялікая мова вялікай культуры і магутнай краіны – Вялікага Княства Літоўскага,-- мова дзяржаўнай эліты і міжнароднай дыпламатыі.

Перад рэальнай фашысцкай пагрозай з усходу трэба вяртацца да беларускай мовы, гаварыць на ёй, пісаць і чытаць, вучыць дзяцей. Яшчэ ня позна. Яшчэ ня позна скарыстаць наймагутнейшую сілу нацыі, каб зьберагчы дзяржаву, культуру, незалежнасьць і свабоду.

*14 ліпеня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

**3**

## БІЦЬ ФАШЫСТАЎ-МАСКАВІТАЎ

Назіраючы расейскую палітыку за апошнія 20 гадоў, фашызацыю ўлады і грамадзтва, мы прыходзім да высновы, што вайна з рускім фашызмам, практычна, непазьбежная. Нападзеньне на Украіну, анэксія Крыма, дыверсійная гібрыдная вайна на паўднёвым усходзе Украіны – усё паказвае на тое, што Расея пачала сваю тыповую мангалоідную палітыку агрэсіі і захопу чужых зямель. Ужо прыдуманыя так званыя "ворагі" Расеі, працуе фантастычная па ілжывасьці сістэма дэзінфармацыі, падрыхтаванае акупацыйнае войска і ўзбраеньні.

Для масавай рускай сьвядомасьці заходні сьвет аб'явілі ворагам нумар №1, які, маўляў, падступна хоча зьнішчыць Расею, навязаць свае збочаныя паняцьці і стварыць грамадзтва "піндосаў" (гэта значыць палавых збачэнцаў).

 Іронія ў тым, што крамлёўскія прапагандысты дакладна намацалі балявую кропку лібэральнай цывілізацыі Захаду (зразумелую для масавай сьведамасьці расейцаў) і ставяць гэбоўскую Расею ў пазыцыю збавіцеля чалавецтва ад "ружова-блакітнай чумы", "сусьветнага таемнага ўраду", "жыда-масонскай фінансавай змовы" і т. п.

Як і ў 40-х гг. мінулага стагоддзя, народы апынуліся паміж вельмі абмежаваным выбарам паводзін. Агрэсія пуцінскай Расеі нясе страту незалежнасьці, нацыянальнай тоеснасьці і свабоды. Збліжэньне з Захадам пагражае маральнай карозіяй грамадзтва, небясьпечнае стратай традыцыйных народных, рэлігійных каштоўнасьцяў і маральным разбурэньнем асобы.

Тым ня менш дэмакратыя, апора на законы і супраца з Захадам даюць большыя магчымасьці манэўру і разьвіцьця, чым расейская акупацыя, пасьля якой усялякае нацыянальнае разьвіцьцё будзе ўвогуле спынена і нацыя вынішчана. Але ў любым выпадку апора павінна быць на свой народ, на сваю дзяржаву, на нацыянальныя інтарэсы, мову і народныя каштоўнасьці.

Сітуацыя паварочваецца цяпер для беларусаў практычным бокам. Трэба рэальна рыхтавацца да вайны, бо Расея рыхтуецца. Беларускім інтэлектуалам трэба ўсё рабіць, каб зьменшыць уплыў рускай фашысцкай прапаганды і дэзінфармацыі. Усім здольным змагацца трэба назапашваць зброю, рыштунак і выбухоўку. Групы – ня больш 3-х чалавек (ідэальна – 2-х). Ніякіх дзеяньняў. Быць гатовымі на пэўны час. І трэцяя задача – трэба дапамагаць украінцам у іх змаганьні і барацьбе з рускімі акупантамі за свабоду і незалежнасьць Украіны. Трэба ўспрымаць гэта як наш беларускі салідарны абавязак. У нас з украінцамі адзін вораг і адна пагроза з Усходу.

Канкрэтна – трэба ехаць на Украіну, фармаваць беларускія дабраахвотныя баявыя групы, уступаць ва ўкраінскія няўрадавыя ваенныя аб’яднаньні (“Данбас”, “Азоў”, “Айдар”) і біць фашысцкага акупанта-маскаля, пакуль ён не сканае на пакутнай зямлі Украіны.

Жыве Беларусь! Слава Украіне!

*14 ліпеня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ЗМАГАЙМАСЯ ЗА БУДУЧЫНЮ І БЕЛАРУСЬ!

Наша свабода будзе залежыць ад нашага супраціўленьня агрэсарам. Верагоднасьць захопу і рускай агрэсіі вялікая, і да вайны трэба быць гатовымі, рыхтавацца ўжо цяпер тым, хто здольны гэта разумець і каму дарагая Бацькаўшчына і свабода.

На жаль, поўная непадрыхтаванасьць Украіны да вайны з рускім фашызмам і жыцьцё ў палоне "брацкіх" ілюзіяў дорага ім каштавала. Нам трэба дапамагаць Украіне ў іхняй барацьбе. У нас агульная справа і агульны вораг.

Наш голас да беларусаў пра падрыхтоўку і салідарнасьць з Украінай пачуты, нягледзячы на шаленства расейскай дэзінфармацыі і хлусьні. Беларусы ўжо ваююць разам з украінцамі за свабоду Украіны супраць пуцінскай агрэсіі. Падрабязнасьцяў мы не даем, але за беларусаў ганарымся. Асабліва ўлічваючы безразьдзельнае панаваньне расейскай гёбэльсаўшчыны ў інфармацыйнай прасторы Беларусі і яе атрутны ўплыў на сьвядомасьць людзей.

Нашыя звароты да беларусаў аб падрыхтоўцы да адпору лубянская агентура, вядома ж, заўважыла і адрэагавала ў Сеціве на шэрагу рэсурсаў прытым даволі стрымана і асьцярожна, бадай, акрамя аднаго рэсурса – воргана ТБМ "Новы час", дзе інфармацыя пададзена ў старых правінцыйных традыцыях стылю камуна-савецкай агентуры, падлаваценька, з падтэксьцікам і прыхаваным абсьмейваньнем. Але гэта глупства -- галоўнае ў канцы. А ў канцы – характэрная рэжымная пагроза. Цытата*: "заклік Пазьняка і сьледаваньне яму можа быць падставай для крымінальнага перасьледу па шмат якіх артыкулах айчыннага Крымінальнага кодэкса."*

Матэрыял не падпісаны, значыць – рэдакцыйны. І хто ж гэта беларусаў палохае "айчынным" лукашысцкм кодэксам? Спускаемся ўніз... Ба! Знаёмыя асобы! Галоўны рэдактар -- Аляксей Кароль. Нават адзначыўся. Прыгразіў беларусам, маўляў, глядзіце, супраць Масквы – ні-ні! (Ну, але гэта мы так, дзеля сьмеху працытавалі, бо і злое, і камічнае ходзяць побач.)

Гісторыя са зьбіцьцём рускімі малазійскага пасажырскага самалёта над Данбасам 17 ліпеня гэтага года сьведчыць ізноў, што Крэмль плянуе для Ўкраіны доўгую крывавую вайну пад фальшывай лічынай "міратворца". Схему крамлёўскіх паводзінаў тут апісваць я ня стаў бы. Разьвіцьцё падзей будзе залежыць ад цьвёрдасьці Парашэнкі, якога Эўропа, зразумела, пачне схіляць да замірэньня і перамоваў з расейскімі бандытамі. Але выглядае, што ў выпадку правалу палітыкі фальшывага "міратворства" Масква можа пачаць татальнае ваеннае ўварваньне і "навядзеньня рускага парадку" ва Украіне ў "інтарэсах усяго сьвету" пад крымінальны лямант "трымай злодзея!" Да гэтага Масква рыхтуецца.

У пуціністаў ёсьць вялікі вопыт пад Смаленскам (2010 г.), калі "заклапочаная" заходняя Эўропа (схавана радуючыся) спусьціла ў пясок пуцінскую расправу з польскім урадавым самалётам, зь нелюбімым у Эўропе прэзыдэнтам Качынскім на борце. Руская гёбельсаўшчына на гэты раз яшчэ сябе таксама пакажа.

Тым больш нам, беларусам, трэба цяпер думаць пра сваю Беларусь. Пасьля рускага нападу на Украіну становішча рэзка і кардынальна зьмянілася, дзейнічаюць іншыя заканамернасьці і іншая лёгіка дачыненьняў. Гэта лёгіка ваеннага часу, якая вымагае хуткіх, рашучых і адэкватных паводзінаў. Ня трэба ніякіх заклінаньняў, бо тут ужо іншая мова і іншая справядлівасьць. Прамаўляюць прагматычны інтэрас, маніякальнасьць, зброя і збройная сіла. (Ня трэба забывацца, што з нападам Расеі на Украіну лукашысцкі рэжым аўтаматычна апынуўся на баку Расеі, а значыць – на баку вайны. Балбатня Лукашэнкі тут ня мае значэньня.)

Беларусь за 20 гадоў унутранай акупацыі і антыбеларускай палітыкі рэжыму фармальна ўжо падрыхтавалі да анэксіі. На чарзе цяпер важны для Масквы этап --

інфармацыйная апрацоўка дэнацыяналізаванага беларускага насельніцтва, якую якраз расейцы пачалі праводзіць праз абплёўваньне Украіны ва ўсіх сваіх сродках масавай інфармацыі.

Гістарычная практыка паказвае, што ператварыць любую нацыю на пэўны час у натоўп сацыяльных ідыётаў зь неадэкватным успрыняцьцем рэчаіснасьці праз дастасаваньне гёбельсаўскай інфармацыйнай палітыкі – для выканаўцаў яе ёсьць справа нескладаная і дасягальная. Тым больш, што супраць такога злачынства да гэтага часу не існуе ніякага нацыянальнага і міжнароднага заканадаўства. Пасьля татальнай апрацоўкі інфармацыйнай хлусьнёй вынікі замбаваньня насельніцтва выкарыстоўваць будзе ўжо чужая акупацыйная збройная сіла, якая ўрываецца ў краіну і (як правіла) перамагае без супраціву.

Аднак пры аказаньні супраціву (асабліва патрыятычнага супраціву), вынікі інфармацыйнага замбаваньня натоўпу могуць рассыпацца ўшчэнт, зьехаць на нуль, і вельмі хутка. Натоўп зьнікае перад альтэрнатывай, абапертай на сілу.

Вось на гэтым і палягае абавязковая арганізацыя супраціўленьня агрэсіі і варожаму наступу. ***Толькі змагаючыся, можна перамагчы.***

Маскоўскі вораг не павінен застаць беларусаў непадрыхтаванымі, з голымі рукамі і бяздумнымі галовамі. Вораг рыхтуецца. Яго агрэсія тут толькі пытаньне часу, моманту і абставінаў.

Найцяжэй, вядома, людзям пачаць цяпер думаць на ўмовах пагрозы вайны і ваенннага часу. Але ранейшы час скончыўся. Новы час вымагае іншых дзеяньняў. Гэтыя дзеяньні напачатку такія: ваенная салідарнасьць з Украінай і ўдзел беларускіх дабраахвотнікаў у баях з акупантамі. У Беларусі: структураваньне па два-тры чалавекі, назапашваньне зброі, выбухоўкі, амуніцыі, ваеннай інфармацыі. Ніякіх дзеяньняў заўчаснага супраціву. Ніякіх павелічэньняў груп. Аўтаномны рэжым. Ніякіх пошукаў кантактаў паміж групамі. Усё гэта можа стацца пазьней.

Трэба ўсьведамляць яшчэ наступнае. Лукашысцкі рэжым не пакінуў абсалютна ніякіх законных і легальных магчымасьцяў зьмены ўлады. Нацыя загнаная ў кут. Беларусы гэта ўжо разумеюць і перасталі хадзіць на рэжымныя выбары, якіх рэальна не існуе.

У такім стане ёсьць тры варыянты існаваньня і перамен. Першы (самы любімы для запалоханага насельніцтва) – нічога не рабіць, скуголіць і хваліць узурпатара. Другі – фізічная ліквідацыя сатрапа. І трэці – рэвалюцыя. Зразумела, што законным і эфэктоўным можа стаць толькі трэці варыянт.

Але ёсьць вышэйшая гістарычная заканамернасьць, пацьверджаная практыкай. Вызваліцца з-пад імпэрскай акупацыі і залежнасьці можна толькі тады, калі нацыянальная рэвалюцыя супадае з агульнай барацьбой супраць імпэрыі і ў выніку – з распадам імпэрскай сістэмы (1917 год і 1991 год – вымоўныя прыклады). Цяпер якраз настае такі пераменны час, які нам, беларусам ні завошта нельга страціць.

Лубяншчына ўжо замітусілася ў сваіх камэнтарах пра беларускія ініцыятывы супраціўленьня. Выцягнулі на паверхню сваю заляжалую канторскую гразь (усялякія “нісэпі”) і гэтак, нібыта “зь веданьнем справы”, вяшчаюць. Вы толькі паслухайце гэтых мудрацоў: *“Распространяемые в Минске листовки с призывами вооружаться и быть готовыми к "отражению российской агрессии" не найдут массового отклика у белорусов, заявили эксперты."* (Народная Воля). А чаму «ня знойдуць»? Бо як сьведчыць іхны «нісэпі» большая палова беларусаў верыць рускаму «гёбэлс-тэлебачаньню» і падтрымлівае Расею. *«С учетом этих настроений призывать белорусов готовиться к военному противостоянию с российской стороной бессмысленно,»* -- вяшчае іншы «спэц».

Выказваньні вымоўныя, тыповыя для непрыяцелеў Беларусі. Яны разумеюць, што наш зварот не накіраваны на «масавы водгук» (як яны пішуць), але выкарыстоўваюць яго як нагоду, каб сказаць сваё лубянскае, што *«противостояние с российской стороной бессмысленно».*

Аднак працытаваў я тут гэтую філісьцерскую канторскую «мудрасьць» яшчэ з іншай нагоды. Гэтакая пазыцыя -- праява тыповай рабскай псіхалогіі (адмаўленьне ад змаганьня з-за непераадольных перашкод). І гэтае рабскае думаньне пад выглядам здаровага сэнсу невыпадкова навязваецца грамадзтву, каб пазбавіць людзей волі да барацьбы. У змагарнай палітыцы такога падыходу не існуе (інакш гэта было б не змаганьне, а прафанацыя). Тут так: Ёсьць мэта барацьбы. Пагаджаемся, што яна мусіць быць дасягнута. Усё. Пачынаем змагацца. Урэшце перамагаем. Вызначальным ёсьць рашэньне аб змаганьні, а не акалічнасьці.

У 1988 быў магутны Савецкі Саюз, маналітная КПСС з КГБ, сатанінскі культ Леніна, стоадсоткавы савок, шматмільённая акупацыйная армія, ніякой свабоды, крызіс сістэмы. Наша беларуская мэта была такая: адраджэньне нацыі, свабода, незалежная Беларусь без камуністаў, дэмакратыя, гроб для СССР. Пагаджаемся. Ствараем Народны Фронт. Пачынаем змагацца пад лямант і масавы хор: адшчапенцы, маргіналы, фашысты, нацысты, агенты ЦРУ, «народ протів», «оторвалісь от реалій» і г. д. Праз тры гады -- перамога. І гэта магутны гістарычны факт.

Пераможная палітыка – гэта мастацтва немагчымага. Памятайма вялікія словы перамоганоснага Давыда Гарадзенскага перад выправай на магутнага ворага: «Нас мала – літасьці не чакайце.»

Вось ў гэтым (у пасьлядоўнай дарозе да мэты) сутнасьць палітычнага змаганьня. Яно можа стаць пераможным праз год, праз тры гады, праз трыццаць гадоў, праз трыста гадоў! Але настане, будзе пакуль змагаемся. Моц, колькасьць і сіла праціўніка, які пагражае нам нацыянальнай сьмерцю, не можа ўплываць на рашэньне аб барацьбе зь ім. Пытаньне толькі адно: змагаемся ці не змагаемся? Руская фашысцкая прапаганда імкнецца паралізаваць у народаў волю да супраціўленьня, прышчапіць людзям думаньне і псіхалогію раба. Наш зварот да вольных людзей, бо вольным патрэбная воля і яны вызначаюць будучыню нацыі. Нявольнікі могуць выклікаць толькі яе няволю.

Але Беларусь будзе вольнай вялікай і магутнай краінай, родным, любімым домам для ўсіх яе сыноў і дачок, бо вольныя людзі ёсьць і колькасьць іх будзе павялічвацца ў барацьбе з Масквой.

Фашысцкая імпэрская Расея мусіць сканаць, разваліцца на часткі. На абломках гэтай пачвары будуць вольныя краіны, якія пабудуюць свае вольныя незалежныя дзяржавы.

*24 ліпеня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ГАЛОЎНАЯ ЗБРОЯ РУСКАГА ФАШЫЗМУ – ШТО ГЭТА ТАКОЕ?

Уставай, краіна родная,
Уставай на сьмертны бой!
З рашыскай сілай цёмнаю,
З крамлёўскаю ардой!
*(Перыфраза савецкай песьні)*

Беларускім нацыянальным палітыкам, адраджэнцам і нацыянальным дэмакратам фашысцкая сутнасьць расейцаў і Расейскай імпэрыі была вядомая даўно: і ў XX-м стагоддзі, і ў XIX-м, і раней. Недаацэнена было, магчыма, толькі ўзьдзеяньне рускай прапаганды, якая цалкам асаблівага кшталту і незразумелая эўрапейскаму чалавеку, ягонаму розуму і мэнтальнасьці, бо заснавана на характарыстычнай хлусьні, якая зьяўляецца ў расейцаў нормай і сьветапоглядам. Беларускі чалавек не жыве падвойнай сьвядомасьцю і ўспрымае сьвет цэльна і адзінарна, як разумнае стварэньне. Бінарная сьвядомасьць расейцаў рацыянальна не абгрунтаваная, але вынікае, як мне здаецца, зь векавога рабства, прыніжэньня і нявольніцтва. Рускі хлусіць проста так, ад крывой душы.

Наконт рускай прапаганды мне ўспамінаецца адзін выпадак, пра які мне расказаў Антон Шукелойць. Летам 1944 года саветы занялі Ліду. Сабралі мітынг. На табурэтку стаў палітрук і сказаў: “Товарищи! Война приближается к концу. Гитлер убит. Советские войска взяли Берлин. Враг уничтожен. Вопросы есть? Митинг окончен.”

“Паруччык Дуб”, альбо п’яны – першае, што прыходзіць у галаву. Але потым разумееш: тут вышэйшы рускі прапагандысцкі пілатаж. На такое здольныя толькі расейцы, у душы якіх натуральна і нязмушана жыве асаблівы сьвет ілжы як спосаб паводзінаў і прынцып існаваньня.

Руская прапаганда, заснаваная на хлусьні, сапраўды была недаацэненая беларусамі, тым больш, што разбуральны замбуючы вынік яе ўзьдзеяньня на масы людзей -- відавочны. Людзі пасьля рускай прапаганды рабіліся як сьляпыя і блукалі ў поцемках. Савецкая акупацыя гэта наглядна прадэманстравала. Беларусы прымалі за “сваіх” народных мучыцеляў і чужакоў, забойцаў, ворагаў чалавецтва, адвечных магільшчыкаў Беларусі. Сцьвярджэньне, што ў 1944 годзе прагналі немцаў і на Беларусь прышлі “нашы” можна пачуць яшчэ і цяпер, нават ад маладзейшых людзей. Я не кажу ўжо пра так званых савецкіх “партызанаў”, нішчыцеляў Беларусі. (Па справаздачах і зьвестках маскоўскага энкавэдзісцкага штабу партызанскага руху вядома, што з усіх забітых партызанамі ў вайну толькі 10 адсоткаў былі немцы. Астатнія – беларускія сяляне, настаўнікі, дзеячы культуры, інтэлегенцыя, работнікі, сьвятары, моладзь і іншыя.) Пасьля вайны партызаны-энкавэдзісты загарнулі ў БССР усю ўладу. Разбурэньне нацыі працягвалася ўсе пасьляваенныя гады, пакуль кіравалі тыя партызанскія янычары.

Камуна-фашызм быў формай рускага імпэрыялізма. У 90-х гг., у час крызісу імпэрскай сістэмы і разбурэньня камунізму паўстала неабходнасьць дэмантажу савецкіх стэрэатыпаў у масавай сьвядомасьці і ў галовах людзей, найперш рэлігійнага культу Леніна і накінутага паняцьця аб дамінацыі Масквы ў беларускай гісторыі і жыцьці.

Характэрна, што тады расейская рэакцыя на крытыку Леніна і на крытыку рускага імпэрыялізма (які ў той час якраз убіраўся ў дэмакратычныя драпіроўкі) насіла агрэсіўны і звыклы ірацыянальны характар, пагрунтаваны на нянавісьці. Сёньняшнія падзеі -- напад Расеі на Украіну, захоп Крыму і фэнамэнальная па абсурду і хлусьні

прапаганда супраць Украіны – усё гэта сарвала маску з Расеі, адчыніла вочы асобным людзям (нават выклікала ў некаторых стан нэрвовага стрэсу), але ў цэлым, нажаль, амаль не зьмяніла масавай міфалагічнай сьвядомасьці бальшыні насельніцтва Беларусі. Не гаворым ужо пра Расею, дзе фашызацыя масаў адбываецца ў містычнай форме.

Прычына зразумелая – татальнае ўздзеяньне рускай ілжывай тэлепрапаганды і адсутнасьць (дакладней, недаступнасьць) альтэрнатыўнай інфармацыі. Яно ўсё відавочна. І на гэтым тут пакуль паставім кропку.

Пытаньне ў іншым, на якое яшчэ няма яснага дакладнага адказу. Што гэта за зьява ўзьнікла ў Расеі? У чым яе сутнасьць? І чаго можна спадзявацца ад яе суседзям і ўсяму сьвету? Як зь ёй змагацца?

У 20-30-я гады сьвет не зразумеў камуна-фашызму – новай сацыяльна-палітычнай зьявы ў Эўропе і Азіі. Разуменьне прыйшло потым, пасьля крывавай Сусьветнай вайны, спаленых паселішчаў, разбураных гарадоў і дзясяткаў мільёнаў забітых людзей.

Тое, што адбываецца цяпер у Расеі (улічваючы сумны гістарычны вопыт чалавецтва), патрабуе хуткага і дакладнага асэнсаваньня. Яно неабходнае дзеля таго, каб ведаць, чаго спадзявацца і як можна прадухіліць фатальныя наступствы. Пытаньне патрабуе калектыўнага абмеркаваньня на ўзроўні беларускіх нацыянальных эліт.

Першае, што адзначаюць у нас і ва ўсім сьвеце, і нават у асобных меркаваньнях з Расеі, -- гэта незвычайны сатанінскі характар расейскай прапагандысцкай ілжы, якая гучыць з газэт, з эфіру і экранаў несьціхана, на працягу сутак, з дня ў дзень. Практычна, усе называюць гэтую зьяву “гёбельсаўшчынай” і адзначаюць, што па ўзроўні амаральнасьці, хлусьні і абсурду нічога падобнага на сьвеце яшчэ не было. Нямецкая гёбельсаўшчына мела рацыянальнае абмежаваньне. Рускі прапагандысцкі сатанізм такіх абмежаваньняў ня мае. Тут відавочная тэхналёгія, пабудаваная на ірацыянальным, якая мае аглушальны масавы псіхапатычны эфэкт у пуцінскай Расеі.

Карціны масавай тэлевізійнай веры расейцаў выклікаюць здумленьне рацыянальнай часткі сьвету, узьнікае адчуваньне нерэальнасьці таго, што адбываецца. Напрыклад, сцьвярджэньне аб злым Захадзе, дзе ў Брусэлі нібыта ловяць украінскіх дзяўчат, забіваюць іх, робяць зь іхнага мяса кансэрвы і пускаюць у продаж. Масы гэтаму вераць.

Ці тэле-інфармацыя пра тое, што ўкраінскія войскоўцы выразаюць ў забітых, раненых і палонных расейцаў ворганы цела і прадаюць нямецкім мэдыкам для апэрацыяў па перасадцы ворганаў.

Пасьля такой “інфармацыі” палонныя расейцы адмаўляюцца браць ежу (бо, маўляў, атруцяць) і ня хочуць мыцца пад душам, бо, маўляў, украінцы пусьцяць серную кіслату замест вады, каб умярцьвіць іх і выразаць ворганы.

Стоадсоткавая агрэсіўная вера рускага натоўпу ў маскоўскую макабарычную тэле-качку аб тым, што ўкраінскія салдаты ў горадзе Славянску публічна перад народам прыбілі цьвікамі да дошкі трохгадовае дзіця, і калі яно сканала, прывязалі да танка яго матку і цягалі яе за танкам па кругу вакол плошчы, а яна плакала і пакутвала. Гэтыя прыдумкі з вобласьці хворай псіхікі – публічна вяшчаюцца рашыстамі па тэлебачаньні і ўзбуджаюць рускі натоўп, які апантана верыць.

Прапагандысцкая зьява, якую мы назіраем у Расеі, патрабуе ўважлівага разгляду. Гэта ня толькі гёбельсаўшчына і ня толькі ідэалёгія. Мы бачым яе антычалавечы характар, пагрозу сьвету, але ня абазначылі яшчэ дакладна яе сутнасьць. Тым часам практыка паказвае, што няма такога глупства, абсурду і хлусьні, якія, прапушчаныя праз інфармацыйныя каналы Расеі, не знайшлі б татальнай масавай і псіхапатычнай падтрымкі рускіх, і ніякія рацыянальныя, лагічныя і відавочныя довады, факты і аргумэнты тут ня маюць значэньня. Рацыё, логіка і рэчаіснасьць тут бясьсільныя. Яны адключаныя. Руская народная маса_гэтай рэальнасьці ва ўпор ня бачыць. У яе сьвядомасьці існуе толькі “рэчаіснасьць”, укладзеная праз тэлебачаньне,

сродкі масавай інфармацыі і вобраз Пуціна, які цяпер непагрэшны і ўспрымаецца на веру як жывое боства.

У такім стане народнай сьвядомасьці любыя дзеяньні "непагрэшнага" лідэра, накіраваныя супраць ворагаў, знойдуць масавую падтрымку. І калі такіх дзеяньняў акажацца недастаткова, то маса запатрабуе большых. Ня лідар прыме рашэньне аб атамным удары, а натоўп стане патрабаваць рашучасьці, кшталту "укрыжуй іх, укрыжуй!"

Рускаму натоўпу Крэмль прапанаваў сэнс існаваньня. (Яны, такія нікчэмныя, стануць такімі вялікімі, іх будуць баяцца.) Можна нішчыць усё, ведаючы, што ня будзе пакараньня. Сама Масква, сам Крэмль, само дзяржаўнае тэлебачаньне кажа, што Украіна – не дзяржава, а ўкраінцы не народ, што ўкраінскай мовы не існуе, што украінцы – гэта "бандыты", "бэндэраўцы", "фашысты", "прадаліся Захаду" і ўсе беды Расеі ад украінцаў, што іх трэба забіваць, а Украіна – маскоўская зямля. Нянавісьць ёсьць зьмест і ляйтматыў маскоўскай прапаганды. Тое, што мы чуем і бачым у Расеі, -- гэта масавы рускі амок. Думаю, што тут не метафара, але факт, які здаецца неверагодным.

Абмеркаваньне гэтага фэнамэнальнага пытаньня зь беларускімі інтэлектуаламі выяўляе даволі ўзгодненае адзінства поглядаў і ацэнак зьявы, якія можна падсумаваць у некалькіх пунктах.

**1.** У татальнай інфармацыйнай вайне з Захадам гэбісцкая Расея выкарыстоўвае найперш тэлебачаньне і ірацыянальныя тэхналёгіі на падставе ідэалёгіі рускага імпэрыялізму і поглядаў антызаходняга фашызму ("русский мир").

**2.** Галоўным тэхналягічным прыёмам зьяўляецца хлусьня, даведзеная да абсурду і пазбаўленая рацыянальнага абгрунтаваньня з мэтай узьдзейнічаць на пачуцьці і эмацыйную падсьвядомасьць.

**3.** У ірацыянальных ацэнках і канкрэтнай форме ствараецца вобраз экзыстэнцыянальнага ворага. Гэта – Захад, НАТО і ЗША. (Гэта значыць, вечнага ворага, які мусіць быць толькі зьнішчаны.) Барацьба супраць экзыстэнцыянальнага ворага вымагае ўжываць ўсе і любыя сродкі змаганьня і пазбаўляе людзей ад індывідуальнай адказнасьці за свае дзеяньні. (Нездарма Захад фігуруе ў рашыстаў як калектыўны д'ябал. Супраць яго можна ўсё, усё дазволена, бо барацьба за існаваньне.)

**4.** Вынікам перамогі над сілай і над сьветам экзыстэнцыянальнага ворага павінна б было стаць становішча вышэйшага задавальненьня ад дамінаваньня над гэтым сьветам і ўсьведамленьне свабоды ад абавязку.

**5.** Вышэйпрыведзеныя палажэньні паказваюць, што чалавецтва мае справу ў Расеі ня толькі з інфармацыйнай тэхналёгіяй, не з рацыянальнай гёбельсаўшынай, а хутчэй – з арганізацыяй сьвядомасьці і псіхікі па прынцыпу веры рэлігійнай сэкты, дзе Пуцін – гэта непамыльнае боства, а тэлебачаньне, гэта літургія веры зь вяшчаньнем прапаведнікаў і казнадзеяў (журналістаў і камэнтатараў). Рацыянальныя ўспрыняцьце і лагічная сьвядомасьць тут ня існуюць, крытыцызм і сумненьні выключаюцца.

Паўтаруся, што дакладнае, адэкватнае вызначэньне зьявы надзвычай неабходнае, каб ведаць, як зь ёй змагацца. Мяркую, што для беларускіх інтэлектуалаў тут ёсьць кавалак працы

Зразумела, што мы маем справу са ***злачынствам супраць чалавецтва***, якое не адлюстравана ў міжнародным і нацыянальным заканадаўстве. Трэба вызначыцца, якая вобласьць права павінна такое злачынства разглядаць, якога характару мусіць быць закон. Ці гэта будзе кваліфікацыя злачынства паводле нянавісьці, ці паводле паклёпу з разбуральнымі вынікамі, што прыводзяць да агрэсіі, страты маёмасьці і сьмерці людзей, ці паводле парушэньня журналісцкіх абавязкаў і журналісцкай этыкі, ці нават па кваліфікацыі дзейнасьці рэлігійнай дэструктыўнай сэкты (пра што ўжо пісалася

ў Сеціве). Сутнасьць злачынства павінна быць абазначана дакладна, бо прадугледжвае дакладнае вызначэньне суда.

Рашызм (рускі фашызм) – зьява гістарычна ня новая. Тут можна ўбачыць нават мадыфікацыі некаторых паняцьцяў даўняй Арды. Але ніколі гэтая палітыка не была ўзброена такім магутным сродкам псіхічнага ўзьдзеяньня і прапаганды, як масавае і масава даступнае тэлебачаньне.

На сёньняшні дзень рашызм, яшчэ не зрабіўшы ніводнага стрэлу ў беларусаў, але маючы сваё тэлевяшчаньне ў нашай краіне, ужо ўплывае на палову Беларусі. Псіхіка вялікай часткі дэнацыяналізаваных беларусаў “паплыла” перад літургічнай дэзынфармацыяй рашызму праз рускае тэлебачаньне. Звычайныя людзі пачынаюць сябе паводзіць неадэкватна, не як разумныя беларусы, а як рускі натоўп, трацяць рэальную апору і зямлю пад нагамі і, здаецца, зноў здольныя ажыцьцявіць масавы нацыянальны суіцыд, як гэта здарылася летам 1994 года. Гэта фэнамэнальная зьява. Ніколі яшчэ хлусьня не была такой разбуральнай. Дваццаць гадоў антынацыянальнага рэжыму не мінаюць бяссьледна.

Пры захаваньні ўлады антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі спыніць уплыў рашызму ў краіне немагчыма, бо рэжым зьяўляецца яго правадніком. Рэальна неабходна цяпер штодзённа рыхтавацца да збройнага супраціўленьня будучай агрэсіі з усходу (і абавязкова збройнага -- пра гэта я ўвесь час кажу і пішу). Толькі тады ёсьць шанец на ацаленьне і перамены.

Пры ажыцьцяўленьні перамен і пасьля ліквідацыі рэжыму неабходна будзе адразу адключыць усе каналы рускага тэлебачаньня. І тут жа ствараць (адраджаць) Беларускае нацыянальнае вяшчаньне.

Неабходна будзе прыняць антыфашысцкія законы і сістэматызаваць антыфашысцкае заканадаўства, асабліва зьвярнуць увагу на злачынствы на глебе нянавісьці.

Ва ўсіх акупацыйных канцэпцыях Расеі (апошняя ельцынская канцэпцыя была прынята ў 1995 г.) вялікая ўвага надаецца так званым “культурным кантактам”, якія зьяўляюцца важным аспэктам імпэрскай палітыкі і выконваюць дэструктыўную антынацыянальную ролю. Вопыт і пазыцыя Грузіі паказалі, што культурныя (на самой справе антыкультурныя) сувязі з фашысцкай Расеяй мусяць быць абавязкова спыненыя.

Павінна быць вернута беларуская нацыянальная адукацыя і асьвета з усталяваньнем элітных адукацыйных ліцэяў і калегіумаў, мусіць быць забясьпечана свабода слова і інфармацыі, прыняты заканадаўчы кодэкс журналіста, дзе будзе прадугледжана рэглямэнтаваная крымінальная адказнасьць за пашырэньне заведамай хлусьні з мэтай узбуджэньня нянавісьці і забарона на прафэсію за супрацоўніцтва журналістаў са спэцслужбамі і разьведкай. Павінна быць уведзена крымінальная адказнасьць за выкарыстаньне камуна-фашысцкай сымволікі і праслаўленьне камуна-фашысцкіх злачынцаў.

На сёньняшні дзень трэба разумець, што ***ня будзе ні вольнай Беларусі, ні вольнай Украіны (а ў суме – ні вольнай Эўропы), пакуль будзе існаваць рашызм і Расея як імпэрыялістычнае ўтварэньне***. Толькі ліквідацыя рускага фашызму, рускага імпэрыялізму і дэзінтэграцыя Расеі адчыняць шлях да пераменаў, волі і нацыянальнай свабоды народаў.

*1 жніўня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# МІФ АБ “РУСКІМ НАРОДЗЕ”

Для сучасных людзей скончыўся гэты міф банальна. Пасьля рускай агрэсіі супраць Украіны і пасьля захопу Крыма нават сьляпыя, нарэшце, убачылі, што нешта тут ня тое з гэтым так званым “народам”. Усюды відаць натоўп агрэсіўных, злосных, лянівых, узбуджаных людзей. Яны ў эўрапейскай адзежы, але мэнтальна – на ўзроўні свайго мангольскага сярэднявечча. Глядзіш на іх, слухаеш, і здаецца, як бы і ні было эўрапейскай цывілізацыі, і дух Эўропы нават не зачапіў іхнага існаваньня.

І што цікава, расейцы, якія жывуць на Захадзе і глядзяць рускае тэлебачаньне, – такія самыя. Увогуле, я заўважыў, што на Захадзе цывілізацыя на расейцаў ня дзейнічае. Уплывае на карэйцаў, японцаў, нават кітайцаў. А на расейцаў – не (“каким ты был, таким ты и остался”).

Расейская царская ідэалёгія, потым савецкая руская прапаганда ўсяляк ляпілі гэты міф, ствараючы ў галовах людзей фантом арганізаванага сьвядомага народа, які быццам бы ёсьць сацыятворнай сілай грамадзтва, які па-брацку адносіцца да ўсіх народаў на грунце дружбы і ўзаемадапамогі. Прапаганда трубіла пра гэта на кожным кроку, усюды і для ўсіх, пачынаючы са школьнай парты. Масы абывацелў прымалі словаблудзтва за чыстую манету, нягледзячы на ўражлівую неадпаведнасьць рэальнасьці, дзе не было ніякай павагі да чалавека, і ніякай павагі да іншых народаў, і ніякай сацыятворчасьці з боку рускіх, акрамя дзяржаўнага тэрору ды ўціску, дзяржаўнага зладзейства ды хлусьні, п’янства ды крыміналу, ды гультайства, ды безадказных адносінаў да працы. Існаваў відавочны расейскі падвойны стандарт і фальшывыя дачыненьні.

І вось уся гэтая прапагандысцкая бурбалка пра “рускі народ” у чарговы раз лопнула. Д’ябал выскачыў са скуры. Усе зноў убачылі (як раней у бальшавіках) дзікі апантаны ашчэр шалёнага натоўпу са шклянымі вачыма і перакошаным нянавісьцю аблічам. Гэта нянавісьць да ўсяго сьвету, якую стагоддзямі, пачынаючы ад мангольскага існаваньня, вырошчвала ў натоўпе маскоўская ўлада і пазьней руская імпэрская літаратура, школа і рускае паліцэйскае (гэбоўскае) праваслаўе.

Высновы, якія я тут падкрэсьліваю, даўно вядомыя ў беларускай інтэлектуальнай думцы і ў нацыянальнай палітыцы. Мне прыходзілася пра гэта падрабязна пісаць яшчэ ў пачатку сямідзесятых у беларускім “Самвыдаце” (Гэнрых Ракутовіч).

Калі тэзісна (з таго, што дасьледвана), то адзначу наступнае палажэньне. Не існуе ў прыродзе “руская нацыя” (ці, як расейцы гэта называюць, “рускі народ”). Грамадзкае дэмаграфічнае ўтварэньне, якое ёсьць у Расеі і якое карыстаецца рускай мовай, зьяўляецца не нацыянальным, а імпэрскім утварэньнем. Імпэрыя як грамадзкі мэнтальны фэнамэн і пераходная агульнасьць людзей (пераходная да нацыі) выступала ў гісторыі даўно і зьвязана з цэнтралізаванай імпэрскай сістэмай улады і імпэрскай дзяржавы, пагрунтаванай на адзінай ідэалёгіі і на шматлікіх этнасах, народах і этнічных групах насельніцтва.

Імпэрыі, як правіла, распадаюцца ў выніку ўнутранай барацьбы народаў і зьбегу ўнутраных і зьнешніх абставінаў. У працэсе змаганьня і распаду адбываецца сутыкненьне паміж імпэрскай ідэалёгіяй, з аднаго боку, і этнічнай ці нацыянальнай – з другога. Працэс распаду і паўраспаду імпэрыяў у новай Эўропе заняў больш за дзьвесьце гадоў (Атаманская імпэрыя, Аўстрыйская, Пруская, Расейская, каляніяльная Брытанская, Югаслаўская), спарадзіў дзьве сусьветныя вайны і шмат лакальных і каланіяльных крывавых войнаў, якія характарызаваліся злачынствамі супраць чалавецтва. Доўга і пакутліва распадалася старажытная Рымская імпэрыя, якая пакінула пасьля сябе ўзоры імпэрскай культуры, але не захавала нават імпэрскага этнаса і імпэрскай мовы (лаціна засталася мёртвай мовай без этнічнага носьбіта, які быў раздушаны і праглынуты імпэрыяй). Тыя ж самыя працэсы распаду (страта імпэрскай мовы), характэрныя для Атаманскай імпэрыі, і ў будучыні пагражаюць

Расейскай (руская мова, хутчэй за ўсё, стане мёртвай мовай), якая вось ужо сто гадоў перажывае працэс імпэрскага паўраспаду.

Распад Расеі непазьбежны з прычыны якраз існаваньня агрэсыўнай імпэрскай рускай мэнтальнасьці і глыбокай дэградацыі рускага этнаса. Сёньняшні стан расейскай імпэрскай субагульнасьці паказвае, што распад можа быць крывавым, зь верагодным уплывам на Эўропу і ўвесь сьвет.

І яшчэ некалькі слоў аб імпэрскай агульнасьці, што да характарыстыкі яе сутнасьці. Імпэрыя (як сацыяльна-дзяржаўная і мэнтальная агульнасьць людзей) па прыродзе сваёй (у адрозьненьне ад нацыі) настроена не на ўнутранае, а на зьнешняе, экстэнсіўнае разьвіцьцё, не на аддзяленьне і суверэнітэт культуры, а на паглынаньне іншароднага не на самаарганізацыю, а на пашырэньне. У выніку такой арыентацыі імпэрыя задушвае ўнутраныя культурныя сілы, традыцыі, этнасы і народы, у тым ліку і свой уласны. Вынік такога існаваньня імпэрскага грамадзтва залежыць ад таго, на якім этапе пачынаецца распад. Чым раней, тым лепш.

Я пераказаў некаторыя ўжо напісаныя мной раней палажэньні аб Расеі і аб імпэрскай супольнасьці, улічваючы цяперашнюю сытуацыю і магчымасьць зразуменьня праблемы па-за межамі прапаганды. Гэта істотна, бо падзеі, якія пачаліся ў нас ва Ўсходняй Эўропе ў сувязі з рускай агрэсіяй супраць Украіны вельмі важна адэкватна і адпаведна ацэньваць і разумець.

Нядаўна я прачытаў інтэрв'ю Юры Хашчавацкага. Пытаньне:

-- Як Пуціну ўдалося за такі кароткі тэрмін «правесьці Лабатамію» ўсёй краіны, пазбавіць здольнасьці думаць такую вялізную колькасьць людзей?

-- Жахліва! Калі ў свой час Зянон Пазьняк казаў, што Беларусь -- гэта мадэль, выпрабавальны палігон для Расеі, я сьмяяўся, думаў, што ён вар'ят. Але Зянон меў рацыю.

Гэтую цытату з інтэрв'ю я прадэманстраваў як прыклад значэньня тымчасовасьці ў палітыцы. Праца “Палігон” была напісана мной і агучана ў Вашынгтоне ў 1997 годзе. Тады сама ішла прапаганда пра так званую “дэмакратычную Расею” і іншыя прыдумкі, якія падтрымлівала Амэрыка. Грамадзтва, не зьвязанае з нацыянальнай палітыкай, жыло пад уплывам тагачаснай тэлевізійнай наркаты і нямецка-расейскай дэмагогіі пра “дэмакратыю” ў Расеі. Звычайныя беларускія людзі, інтэлектуалы, грамадзтва не маглі тады адэкватна ўспрыняць рэчаіснасьць, бо ня ўлучаныя былі ў нацыянальную палітыку, а тэлекарцінка была іншай, чым рэальнасьць (трэба ведаць псіхалагічны парадокс – людзі вераць тэлебачаньню, а не рэальнасьці).

Цяпер руская тэлекарцінка зьмянілася. Абплёўваюць украінцаў. Дэманструюць пад лёзунгам “Нам не надо свабоды” і абзываюць дэмакратыю “фашызмам”. Шавіністычны чад і абсурд зашкальвае. І вось тут у людзей ёсьць магчымасьць параўнаць з рэальным жыцьцём карцінкі, якія зьмяняліся, і “карцінкі з карцінкамі”. Цяпер руская рэальнасьць ужо вылазіць на экран з рускім крыкам, рыкам, матам і скрыўленым ад нянавісьці ротам. Цяпер людзям можна глядзець і шмат што ўбачыць. Толькі нельга зноў памыліцца.

Рускія -- гэта не народ у класічным сацыяльна-этнічным і культурным разуменьні, спадарства, у канфліктным стане гэта ашалелы, бяздумны імпэрскі натоўп, лахманы духа, пачынаючы ад бамжа і зэка і канчаючы акадэмікам і дзеячом мастацтва (500 рускіх дзеячоў імпэрскага мастацтва і культуры – амаль уся культурная верхавіна імпэрыі -- падтрымалі пуцінскую агрэсію супраць Украіны і бруднае зьневажэньне украінскага народа). 87 адсоткаў ухваляюць варварскую палітыку Пуціна і ганарацца агрэсіяй. Гэтае грамадзтва ня ёсьць нацыяй. Тут люмпэнская імпэрская супольнасьць раскрываецца цяпер ў складаных абставінах, якіх розумам не асэнсоўвае. Гэта “талібы”, якім хочацца ўсё крушыць. Тут на іх ня дзейнічае ні лёгіка, ні крытэрыі культуры, ні здаровы сэнс. Санкцыі іх толькі мацней узлуюць і згуртуюць у нянавісьці. Яны думаюць ірацыянальнальна, кіруюцца іншымі катэгорыямі ўспрыняцьця. Ў іх крымінальная шкала каштоўнасьцяў. (Статыстычны факт – 30 адсоткаў расейскага насельніцтва праходзіць праз адсідку ў турме.)

Мне ўспамінаецца выпадак за часы Гарбачова, апісаны адным з расейцаў. Будучы недзе на поўдні СССР, Гарбачоў са сьвітай выйшаў “у народ” (тады ён практыкаваў такія жэсты), убачыў пакамечанага тыпа ў ватніку і кажа: “Ну, вот, давайте у народа и спросим. Ну, вот, как вы относитесь к перестройке, что надо нам сделать?” А той падумаў і, заплятаючыся языком, кажа: “Я думаю, прежде всего, нам надо забрать Дарданеллы”. У гэтым, як кажуць, уся Расея.

Павінен сказаць, што ў расейскім грамадзтве заўсёды знаходзіліся адзіночкі, якія крытычна ўспрымалі расейскую рэчаіснасьць і разумелі імпэрскую сьвядомасьць рускага натоўпу. Нядаўна адзін такі рускі грамадзянін былы дэпутат Думы Канстанцін Баравой выказаўся, што за ўсё тое, што зараз робіць Расея супраць Украіны, вінаваты і нясе адказнасьць, перш за ўсё, так званы “рускі народ” – сацыяльна зьдзічэлы натоўп, які спарадзіў Пуціна. Ніякіх паразуменьняў рускіх з украінцамі пасьля ўсяго, што ўжо натварылі расейцы на Украіне, ня будзе і быць ня можа (лічыць Баравой). Рускі натоўп, на думку Баравога, мусіць толькі каяцца і прасіць прабачэньня ва ўкраінцаў за пакаленьні наперад. “На колени, твари!”—усклікае былы дэпутат рускай дзяржаўнай Думы. Тут таксама покліч роспачы і злосьці толькі з адваротнага боку.

Мы, беларусы, у большасьці разумеем паталёгію нашага вечнага ворага. Але ці разумее тое астатні сьвет – сумняваюся. І ў гэтым якраз ёсьць небясьпека. Сьвет кажа расейцам пра дэмакратыю ды законы, а Расея – пра “бэндэраўцаў” і Дарданэлы.

Мушу паўтарыць тое, што кажу ўвесь час. Толькі жорсткая салідарная пазыцыя сьвету і сіла можа спыніць маскоўскую арду. Усё астатняе (дыпляматыя, бяззубыя санкцыі) – гэта ілюзіі, якія могуць дорага каштаваць народам і людзям.

Мы, беларусы, павінны казаць і думаць пра мір, але рыхтавацца да вайны, якая залежыць не ад нас. У самым факце нашага беларускага супраціўленьня акупантам будзе закладзена магчымасьць перамогі і вольнай будучыні. Пра гэта я ўжо пісаў і паўтараю зноў і ўвесь час: патрэбна зброя, збор інфармацыі, структурызацыя плюс асьветніцкая і агітацыйная прапаганда за вольную Беларусь, плюс салідарнасьць з Украінай. Трэба быць гатовымі да барацьбы за волю, Айчыну і свабоду.

*17 жніўня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ВЫСНОВЫ
# АБ РУСКАЙ АГРЭСІІ

Мы перажываем пераломны час, калі пасьляваенны парадак у Эўропе разбураны і працягвае разбурацца далей. Гэты працэс павінен прывесьці да пераменаў. Прытым, як паказвае становішча, не абавязкова ў лепшы бок. На мой погляд, захавальныя шанцы Захаду і агрэсіўныя шанцы гэбісцкай Расеі, фактычна, ураўняныя. Перамога можа быць і з аднаго, і з другога боку, улічваючы, што гэбісцкая Расея можа пайсьці на адчайны авантурны крок, якога Захад не чакае і не гатовы супроцьстаяць.

Расея выступіла ў спрыяльным для сябе часе, калі Амэрыка слабая і ня здольная на дзеяньні з вялым прэзідэнтам. Такой слабіны і бездапаможнасьці Амэрыка яшчэ ня мела ніколі. Эўропу можна не прымаць пад увагу. Філісьцерства – яе родавая пячатка. У выпадку абвастрэньня яна здасьць усіх і ўсё, як некалі ўсё здала Гітлеру. Хранічна не разумеючы Расею (гэта ўжо хвароба), зўрачыноўнікі нават не спадзяваліся, што Пуцін нападзе на Украіну.

Але Украіна пачала супраціўляцца. І гэта дае надзею на перамогу. Гэта адзіна правільная лінія паводзінаў. З нападнікамі і акупантамі трэба ваяваць.

Пяць месяцаў ідзе вайна і дзевяць месяцаў, як пачалася Украінская рэвалюцыя. Назіраньні за падзеямі прасьвятлілі шмат якія пытаньні, важныя для нас, беларусаў, бо верагоднасьць нашага збройнага сутыкненьня з фашысцкай Расеяй ня выключана.

Пачну з галоўнага – з войска. Некалі, у 90-х, калі мы, фронтаўскія дэпутаты, змагаліся ў Вярхоўным Савеце за стварэньне беларускага войска, мы зыходзілі зь неабходнасьці мець разгорнутую ўкамплектаваную армію, здольную на працяглую абарону і эфэктыўныя дзеяньні. Колькасьць такога войска – 110-120 тысячаў. Вялікія планы былі на камплектацыю войска ўсімі відамі зброі, ў тым ліку бронетэхнікай, авіяцыяй, ракетамі, СПА і г. д. Мы разумелі, што войска ёсьць важнейшы чыньнік суверэнітэту, і тут эканоміць нельга. Тым больш, што абараняць краіну рана ці позна прыдзецца.

Камуністы былі супраць стварэньня беларускага войска, а ў грамадзтве пашыралі інфантыльныя пацыфісцкія настроі. Зь вялікімі цяжкасьцямі войска ўсё ж удалося стварыць. (Напачатку гэта была савецкая армія, забраная потым пад юрысдыкцыю Беларусі.) Але працэс вайсковага будаўніцтва паволі пачаўся.

І тут камуністы і руская агентура выставілі іншую канцэпцыю, што, маўляў, для Беларусі нармальнае ўкамплектованае войска зь цяжкімі ўзбраеньнямі непатрэбнае. Маўляў, ужо ня той час. Галоўнае – нешматлікія, добра навучаныя мабільныя сілы. У сучаснай вайне, маўляў, танкі – ужо ўчарашні дзень. Для Беларусі, маўляў, хопіць 50-60 тысячаў ваяроў такога мабільнага войска і г. д.

Гэта відавочная памылка, якую падтрымлівалі антыбеларускія сілы.

Найперш незабывайма, што войны бываюць розныя. Ня можна рыхтаваць войска на нейкі адзін тып канфлікту. Дыверсійная гібрыдная вайна і выбарачная расейская акупацыя Украіны ўжо наглядна паказалі першаступенную ролю ўкамплектаванай шматлікай арміі, і перш за ўсё – танкаў (якія ўжо некаторыя “спэцы” гатовыя былі сьпісаць з патрэбаў сучаснай вайны). Танкі, артылерыя і матарызаваныя сілы іграюць галоўную ролю ў цяперашняй руска-украінскай вайне. І гэта трэба ўлічыць. Рана сьпісьваць танкі. Трэба іх удасканальваць.

Вайна на Украіне паказала надзвычайную ролю вайсковай разьведкі і дакладнасьць авіяцыі нават перад нескладанымі сродкамі СПА. І, нарэшце, агульнае пытаньне – **патрыятычны дух, дысцыпліна і арганізацыя арміі**. Тут якраз была найвялікшая праблема ўкраінскага войска ў пачатку акупацыі. Тут, а ня ў тым, што не было паліва, каб заправіць танкі.

Самую важную выснову, якую мы павінны зрабіць з гэтай нечаканай для некаторых вайны, гэта тое, што ў цяперашнім сьвеце, каб захаваць незалежнасьць і свабоду падчас расейскай агрэсіі і акупацыі, існуе толькі адзін спосаб і адзін шлях – **збройнае супраціўленьне**. Прытым любымі сіламі і ў любой сытуацыі. Барацьбу трэба разглядаць як ***Айчынную вайну*** (што атпавядае сапраўднасьці). Збройнае супраціўленьне мосьціць шлях нацыі да перамогі, а для ўсяго сьвету дае магчымасьць дапамагаць ахвяры агрэсіі.

Падкрэсьліваем, гэта галоўнае зразуменьне, якое добра было б цяпер усьвядоміць беларускаму грамадзтву. Інакш народ паўторыць лёс Аўстрыіі і Чэхаславаччыны 30-х гг. Правільная мадэль паводзінаў на той час была толькі ў Фінляндыі (тры мільёны насельніцтва). І Фінляндыя адстаяла сваю незалежнасьць, паклаўшы на сьмерць амаль паўмільёна савецкіх агрэсараў у фінскіх сьнягах.

Наступная выснова. Беларуская ваеннная дактрына мусіць быць ськіварана на ўсход і на захад. Але прыярытэт – на ўсходні кірунак. Руская агрэсія на Украіну паказала, што геній фэльдмаршала Густава Манэргейма актуальны і цяпер. З усходу па ўсім пэрымэтры з Расеяй **мусіць быць створаная глыбокая сістэма ўмацаваньняў** (і ня трэба ківаць, што тут учарашні дзень учарашняй вайны, Украіна паказала, што гэта дзень і сёняшні, і заўтрашні.

Наступнае. Павінна быць створана і ажыцьцёўлена **канцэпцыя беларускай патрыятычнай арміі** з высокай роляй рэзэрвістаў і сістэмай прафэсійнага навучаньня.

Усе ваенныя дамовы і блокі з Расеяй, заключаныя нелегітымным антыбеларускім рэжымам і падпісанымі нелегітымным Лукашэнкам, прызнаюцца **несапраўднымі** і спыняюць сваё дзеяньне.

Акрамя таго. Беларусь павінна імкнуцца стаць па-за блокавым ваенным саюзьнікам Амэрыкі і супрацоўнічаць з ЗША ў вайсковай сфэры.

Далей. Найвялікшай ваеннай і экзыстэнцыяльнай небясьпекай для нацыі трэба прызнаць **ірацыянальныя мэтады інфармацыйнай вайны**, пагрунтаванай на хлусьні і тэхналёгіях ірацыянальнага ўзьдзеяньня на псіхіку людзей пры дапамозе электронных сродкаў масавай інфармацыі.

Дзеля вядзеньня псіхічнага замбаваньня і інфармацыйнага ашуканцтва людзей расейцы стварылі ў гэтым годзе пры сваім войску цэлы вайсковы аддзел, які будзе прафэсійна займацца ўсімі відамі хлусьні і прапаганды. Асаблівай часткай гэтага чартоўскага аддзела стала падрыхтоўка прафэсійных бесаў (троляў), задача якіх – гадзіць у Інтэрнэце ў камэнтарах да розных тэмаў. Дзейнасьць гэтага аддзела, відаць, распаўсюджана на ўсю Эўропу, бо заўважана, што ў польскім Інтэрнэце, і нават у чэшскім, павялічылася колькасьць камэнтароў выразна гэбісцкага кшталту, накіраваных супраць Украіны.

Дзеля засьцярогі ад гэтай зброі прапагандысцкай хлусьні, якая ў цэлым і ў асобных выпадках выяўляецца як **злачынства супраць чалавецтва,** неабходныя наступныя захады:

**--** стварэньне нацыянальнага заканадаўства аб інфармацыйным злачынстве (аб выкарыстаньні ірацыянальных тэхналёгіяў масавага ўзьдзеяньня на падсьведамасьць і псіхіку людзей);

**--** стварэньне міжнароднага заканадаўства аб злачынствах супраць чалавецтва на глебе маніпулятыўнай масавай дэзінфармацыі;

**--** адключэньне ўсіх каналаў расейскага тэлебачаньня і расейскага тэлевяшчаньня на Беларусь;

**--** стварэньне (адраджэньне) беларускай нацыянальнай сістэмы тэле і радыё вяшчаньня на беларускай мове плюс адмысловае радыёвяшчаньне на замежжа на рускай мове (на ўсход), на ангельскай і польскай мовах (на захад);

**--** абмежаваньне і разрыў культурных кантактаў з Расеяй, паколькі ў рускіх планах пашырэньня тэрыторыі і расейскага дамінаваньня ў Эўропе (дактрына Ельцына 1995 г.) культурныя сувязі разглядаюцца як сродкі ўплыву і праваднікі расейскіх імпэрскіх ідэй;

**--** разрыў спартыўных кантактаў у пэрыяд інфармацыйнай агрэсіі Расеі (паколькі такія кантакты робяцца небясьпечнымі для грамадзтва і людзей).

Змаганьне ўкраінцаў з рускай агрэсіяй пацьвердзіла, што заходняя Эўропа ёсьць хісткім і няпэўным саюзьнікам у справе барацьбы за свабоду і дэмакратыю.

Ваенная сытуацыя таксама паказала, што Украіна і Беларусь павінны быць найбліжэйшымі саюзьнікамі перад абліччам рускага імпэрыялізму. Да гэтага тандэму аб'ектыўна прыхіляюцца балтыйскія краіны, Малдова і Грузія. Пасьля распаду Расеі і пасьля частковага распаду Эўразьвязу (выкліканага распадам Расеі) гэтыя краіны могуць запачаткаваць тое, пра што мы ўжо нагадваем чвэрць стагоддзя – новую Усходнюю Эўропу альбо Балта-Чарнаморскую Супольнасьць (асацыяцыю краін). Пра ролю гэтага геапалітычнага ўтварэньня ў Эўропе і ў сьвеце я ўжо шмат пісаў. Таму на гэтым спынюся, адзначыўшы, што магчымасьць БЧС зноў можа стаць актуальнай, усьведамляючы працэсы, якія цяпер адбываюцца.

Нарэшце, агульную выснову, якую трэба зрабіць, назіраючы падзеі і вынікі падзеяў, гэта тое, я б сказаў, катэгарычнае ўсьведамленьне, што **Украіне і ўкраінцам трэба дапамагаць у іхняй справядлівай барацьбе з рускай агрэсіяй і рускім фашызмам**. Прытым гэта тычыцца ня толькі нас, беларусаў, але і ўсёй Эўропы, бо рускі фашызм – пагроза для ўсіх.

Падкрэсьлю яшчэ раз, што тыя магчымасьці і задачы, якія я тут апісаў, цалкам ажыцьцявіць можна б было толькі ў вольнай Беларусі. Тым часам ліквідацыя антыбеларускага рэжыму рэальна верагоднай была б разам з ліквідацыяй пуцінскай Расеі, ці хаця б пуцінскай гэбоўскай улады ў Расеі і разам з дэзыінтэграцыяй гэтай штучнай імпэрскай дзяржавы. Дзеля гэтага трэба аб'яднаць усе намаганьні Беларусі, Украіны, Азіі і Эўропы і змагацца, колькі б часу тое змаганьне ні заняло. Перамога над агрэсіўнай імпэрыяй зла жыцьцёва важная дзеля міру і шчасьця ў вольных краінах і ва ўсім сьвеце.

*5 жніўня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# РУСКІ ФАШЫЗМ – ПАГРОЗА СЬВЕТУ

Гісторыя зьяўленьня фашызму паўтараецца да дробязяў. У Расеі аднаўленьне і фармаваньне фашысцкай сістэмы ідзе па апрабаванай (класічнай) схеме. Там ў наяўнасьці ўжо ўсе родавыя прыкметы фашызму: маргіналізм ідэалогіі, ўшчымленная мэнтальнасьць абыватэляў, агрэсіўнасьць, імпэрскія мэты, дэклярацыі аб ратаваньні і пераробцы чалавецтва, стаўка на сілу, салідарызацыя на нянавісьці да навакольнага сьвету і ўсіх народаў, адмаўленьне ад свабоды, месіянскае ўспрыняцьце сваёй імпэрскай выключнасьці, геапалітычная палітыка агрэсіі і вайны за передзел сьвету.

Напад на Ўкраіну, анэксія Крыма, захоп Данбаса азначае пачатак новай актыўнай фазы фашызму ў Расеі. Паламаны міжнародны парадак бясьпекі, які трываў дагэтуль. Расея адкрыта выяўляе варожасьць да сістэмы Заходняга сьвету. Агучвае мэты барацьбы зь ім аж да ўжываньня атамнай зброі. Руская агрэсія мае зьмест і набывае формы цывілізацыйнай вайны.

У камуна-фашысцкіх сістэмах цэнтральную ролю, якая вызначае палітыку, мае ідэалогія. Ідэалогіяй цяперашняга фашысцкага рэжыму ў Расеі ёсьць канцэпцыя "Русский мир" (рускі сьвет). Згодна з гэтай канцэпцыяй "русский мир" ёсьць ўсюды там, дзе гучыць руская мова. Адпаведна Расея прад'яўляе права на гэтае месца і тэрыторыю.

Такая ідэалогія натуральна вырасла з усёй папярэдняй рускай імпэрскай палітыкі. Ў цяперашнім выглядзе яна пачала фармавацца яшчэ ў 90-х гадах ў асяроддзі КГБ і праваслаўнага аддзелу КГБ (Рускай Праваслаўнай Царквы).

Ідэалогія "Русский мир" спэцыяльна створана пад магчымасьць апраўданьня расейскай агрэсіі ў любым месцы сьвету, дзе ёсьць асяроддзе, што гаворыць па-руску (незалежна ад этнічнага паходжаньня). Зьмест ідэалогіі і тэхналогія агрэсіі тыпова рускія. Ствараецца прапагандысцкі міф аб уціску рускай мовы (альбо "рускіх") ў якім-небудзь месцы Эўропы (сьвету), і гэта быццам бы дае права Крамлю ўвесьці туды войска дзеля нібыта "абароны" "русского мира". Фашысты зрабілі рускую мову галоўным чыньнікам агрэсіі і акупацыі тэрыторыяў. Мяркую што высновы з гэтага вольныя народы зробяць непасрэдныя і канкрэтныя. "Русский мир" больш ня пройдзе, пятай калоны ня будзе.

Зафіксавана ў інфармацыі і ў парламанцкіх дакумантах, што ў першай палове 90-х сістэматычныя кантакты з рускімі фашыстамі меў дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Аляксандар Лукашэнка. Ён неаднаразова езьдзіў у Маскву ў рускую Думу, у ФСБ і прыняў пазыцыю "русского мира" як ідэалогію ўлады . Масква, ФСБ і КГБ забясьпечылі яму апэратыўную падтрымку на прэзыдэнцкіх выбарах у 1994 годзе.

Пасьля прыходу Лкуашэнкі да ўлады ідэалогія "русский мир" стала афіцыйнай палітыкай прамаскоўскай улады ў Беларусі і галоўным ідэалагічным чыньнікам унутраннай акупацыі краіны. За кароткі час былі ліквідаваныя нацыянальныя законы, беларуская Канстытуцыя 1994 года, зачыненыя беларускія школы, беларускае радыё і тэлебачаньне, беларускія кнігавыдавецтвы і часопісы, распачата жорсткая рэпрэсіўная палітыка супраць усяго беларускага і адначасна паўсюднае насаджэньне рускай мовы нахабна, з нахрапам і зьнявагай беларусаў.

Палітыка вынішчэньня ўсяго беларускага і насаджэньне "русского мира" працягваецца ўжо 20 гадоў. Вынікі жахлівыя. Заадно са зьнішчэньнем беларускай мовы і засільлем рускага "языка" адбывалася абсаджэньне расейскімі кадрамі, службістамі і шпіёнамі асноўных дзяржаўных пасадаў у краіне. Дваццаць гадоў ідзе непрыкрытая рэпрэсіўная падрыхтоўка да анэксіі Беларусі.

Галоўным выканаўцам гэтай палітыкі і галоўным злачынцам перад нацыяй зьяўляецца Аляксандар Лукашэнка. Шкоду для Беларускай нацыі, якую ён ужо пасьпеў зрабіць, немагчыма ні з чым параўнаць. Не было ў гісторыі Беларусі большага

злачынцы перад нацыяй і краінай, чым гэтая адыёзная фігура, што засела на вяршыні ненароднай улады.

Пакараньне такой фігуры непазьбежнае як непазьбежным павінна стацца адраджэньне Беларусі і зьяўленьне супраціву палітыцы рускага фашызму.

На сёньняшні дзень, калі фашысцкая Расея адкрыта ступіла на шлях разьвязваньня вялікай вайны за перадзел сьвету, абапіраючыся на ксэнафобію і русізм, кожнаму беларусу трэба задумацца пра галоўнае -- пра важнасьць сваёй роднай беларускай мовы і культуры ў справе захаваньня нашай дзяржавы, незалежнасьці і свабоды. Беларуская мова і культура -- гэта ёсьць аснова нашага нацыянальнага існавньня і галоўная зброя нашай свабоды.

Супраць рускага фашызму кожны народ мае найперш магутную абарону ў сваёй мове і культуры. І толькі потым уступае ў рахунак войска і вайсковая зброя.

Мы, беларусы, мусім рыхтавацца да вайны з маскоўскім фашызмам па галоўных накірунках абароны: ўмацоўваць і пашыраць нашу беларускую мову і культуру і рыхтавацца да збройнага адпору крамлёўскаму ворагу.

Халодная вайна супраць існаваньня незалежнай Беларусі вядзецца ўжо дваццаць гадоў. Але цяпер, калі Масква напала на Украіну, расейская агрэсія наблізілася да нашых сьцен. Зброя супраціву павінна быць у нашых руках.

Слава Айчыне! Жыве Беларусь!

*20 верасьня 2014 г.* Зянон Пазьняк

# РЫХТУЙМАСЯ ДА АБАРОНЫ АЙЧЫНЫ

***(Выступ на верасьнёўскім 2014 г. Сойме КХП – БНФ і БНФ «Адраджэньне»)***

Зьменны сьвет і перамены ў міжнародных прынцыпах прымушаюць нас думаць, казаць і пісаць пра галоўнае: пра расейскую агрэсію супраць Украіны, пра вайну, пра выяўленьне фашызму ў Расеі, пра рэшту сьвету і наш нацыянальны лёс.

Верагоднасьць пашырэньня рускай агрэсіі, вайны і анэксіі Беларусі настолькі вялікая, што неабходнасьць канкрэтных дзеяньняў, запатрабаваных яшчэ ўчора, сёньня павінна стаць прыярытэтам у нашым падыходзе да практычных справаў. І ў асьветніцкай, і ў мэмарыяльнай, і ў сацыяльна-культурнай, і ў прапагандысцка-інфармацыйнай працы трэба ўлічваць гэты прыярытэт і неабходнасьць падрыхтоўкі да абароны нацыі і дзяржавы.

Як заўсёды, у абставінах пагрозы міру, незалежнасьці і свабодзе, важна рэальна бачыць становішча і рэальны накірунак падзей. Цяперашняя, на мой погляд, пасьпешная аналітыка (што ў Беларусі, што ў Расеі, што на Захадзе) перамешана з палітыкай і прапагандай, і таму разыходжаньні вельмі вялікія. Але амаль усе крытыкі зыходзяцца на тым, што Пуцін заганяе сябе ў тупік, што заходнія санкцыі яго задушаць, што яны вымусяць яго рабіць зваротны ход, бо Расея ня вытрымае, эканоміка яе зваліцца ў яму, і вось тады Захад дацісьне і Пуціна, і Расею. Але Захад мусіць быць рашучым і жорсткім у сваіх санкцыях і падыходах.

Сапраўды, калі б у пэрыяд захопу Крыма ўкраінцы аказалі б супраціўленьне, а Захад праявіў бы рашучасьць, жорсткі падыход і пасьлядоўнасьць, то інвазія ў Данбас магла б і не адбыцца. Цяпер вайна ідзе поўным ходам, і дыпламатыяй ды санкцыямі яе ня спыніш.

Літаральна ва ўсіх даступных мне крытычных аналізах выяўлена перакананьне, што ў далейшым канфлікце з Захадам расейская палітыка – гэта авантура, якая прывядзе да паражэньня і распаду Расеі. Пры гэтым параўноўваюцца эканамічныя, фінансавыя і дэмаграфічныя рэсурсы абодвух бакоў, якія ўражліва не ў карысьць Расеі. І таму мала хто верыць (хоць і шмат пішуць), што пуцінская Расея пойдзе далёка ў сваёй агрэсіі і тым больш, што яна на гэтым можа нешта зыскаць, акрамя ізаляцыі і паразы.

Усе такія меркаваньні разумныя, бо заснаваныя на логіцы, на рацыё і рэальнасьці. І якраз таму (у дадзеным выпадку) яны памылковыя. Расея не жыве ні па розуму, ні па логіцы, ні па рэальнасьці. Яна існуе па хаценьню, яе дзеяньні ірацыянальныя. Галодны расеяц будзе думаць не аб тым, як паесьці, а аб тым, каб забраць Дарданэлы і ўсім даць па гарбе, каб баяліся, бо ўсе вінаватыя, што ён галодны. Эўрапейскім розумам Расею не зразумееш. Але беларусы, украінцы, палякі, што жылі пад расейскай акупацыяй, азіяцкі характар Масквы ведаюць. І яго трэба ўлічваць пры ацэнцы рускай агрэсіі і ваеннных падзей.

Ні Пуцін, ні расейскі натоўп ня зробяць зваротны ход, не адступяцца ад агрэсіі. Вайна будзе працягвацца, і пры пэўных абставінах – аж да трэцяй Сусьветнай, выйграць якую Расея мае большыя шансы, чым Захад, зыходзячы з тых прычын, якія я тут адзначыў, тым больш, што (у адрозьненьні ад Захаду) каштоўнасьць чалавечага жыцьця ня мае ў расейцаў ніякай цаны.

Палітычная сістэма Расеі (карпаратыўная дыктатура КГБ з моцнымі функцыямі прэзыдэнта) лепш прыстасавана да вайны, чым заходняя. Асабліва маючы на ўвазе бюракратычную сістэму ўлады Эўразьвязу з закамуфляванай функцыяй «лібэрум вето» па асноўных пытаньнях палітыкі і няздольнасьць у ваеннай вобласьці.

На Захадзе цяпер няма валявых палітычных лідэраў, здольных да рашучых дзеяньняў і да прыняцьця адказных рашэньняў у экстрымальных умовах. Тым часам у любых агрэсіўных дзеяньнях Пуціна (калі яны яму спатрэбяцца) можна не сумнявацца. Уся гісторыя злачынстваў гэтай асобы (пачынаючы ад падрыву дамоў зь людзьмі ў Маскве і Валгадонску) вымоўна ягоныя мэтады пацьвярджае.

Ваенная дактрына Расеі, прынятая пры Пуціне, прадугледжвае выкарыстаньне атамнай зброі «пры пагрозе бясьпецы Расеі». Пачынаючы з руска-грузінскай вайны, пастаянна гучаць рускія намёкі і пагрозы аб атамнай бамбардоўцы. Крэмль прывучае Захад да магчымасьці ўжываньня Расеяй тактычнай атамнай зброі і кропкавых ядзерных udараў і ўпэўнены, што адэкватнага адказу ня будзе. (Яго сапраўды, хутчэй за ўсё, ня будзе.)

У выпадку стратэгічнага канфлікту Расея сапраўды мае зброю, супраць якой Захаду цяжка справіцца. Расея сапраўды можа ператварыць Амэрыку ў «радыёактыўны попел», хоць і сама застанецца пустыняй. З гледзішча заходніх рацыё і логікі, такое не павінна адбыцца, бо бессэнсоўна, бо гэта самагубства. З гледзішча Пуціна, «Матросава», «Мачылава» ды розных матросаў-жалезьнякоў (у стане афэкту) – гэта геройства.

Для рускіх падпальшчыкаў вайны цяпер скляліся спрыяльныя міжнародныя абставіны, найперш у сувязі з палітычным аслабленьнем Амэрыкі і войнамі на Блізкім Усходзе (якія Расея падтрымлівае). Калі Амэрыка не праявіць рашучасьці, хуткіх і моцных эканамічных і палітычных дзеяньняў, то Крэмль дацісьне Эўразьвяз, і Эўропа «заклапочана» здасьць Украіну. І тады ... і тады пачнуцца працэсы распаду Эўразьвяза, дзе руская агентура, дыпламатыя і вывезеныя на Захад рускія грошы спрацуюць на поўніцу. Дадам, што Эўразьвяз як штучная бюракратычная і дэмакратычная сістэма ў большай ступені падвержаны распаду ў крызісных умовах, чым дыктатарская Расея. Не забывайма таксама, што ў краінах Эўразьвязу і левыя цемрашалы, і правыя шавіністы, экстрэмісты, фашысты падтрымліваюць Пуціна і ягоную палітыку супраць Украіны, а фірмы занепакоены убыткамі.

Мае разважаньні тут дзеля таго, каб астудзіць гарачую веру некаторых прыхільнікаў эўрадэмакратыі ў магутнасьць НАТО і моц Эўразьвязу. Ня раіў бы недаацэньваць сацыяльна адсталую, п'яную, «нямытую» і звар'яцелую Расею зь ядзерным арсэналам у кішэні.

Неверагодная прапагандысцкая хлусьня расейцаў, паталагічная ілжа, жорсткасьць, нянавісьць і подласьць у палітыцы і ў вайне супраць Украіны скаланулі ўвесь разумны і нармальны сьвет, усіх людзей добрай волі. У некаторых усё перакульваецца ў галаве, іншыя ня могуць паверыць, што такое магло стацца і г. д. Маральная нізасьць Пуціна пакаробіла ілюзіі і ўяўленьні пра рускую палітыку і яе дзеячоў. Але калі без эмоцыяў -- то што «ў хімічным асадку»? А тое, што пасьля няўдалага бліц-крыгу ў Данбасе, Расея хутка зьмяніла тактыку і крок за крокам (і ў ваеннай сфэры, і ў прапагандзе, і ў палітыцы, і ў дыпламатыі), хлусячы цынічна і нахабна, пaступова заваёўвае пазыцыі і ідзе да сваёй агрэсіўнай мэты, памалу выйграючы і ціснучы на ўсіх. Так званае менскае «перамір'е» добры таму прыклад. Ужо мала ўспамінаюць і пра нядаўна зьбіты «Боінг 777» (Расея ж не Лівія).

Нельга недаацэньваць палітыку зла на той падставе, што зло подлае, нікчэмнае, гадкае, амаральнае, бессаромнае і г. д. Ад сваёй подласьці і амаральнасьці зло ня здохне, бо гэта і ёсьць яго страшная зброя. Расея ўвесь час праводзіць азіяцкую палітыку стэпу і вандроўнай арды, не нясучы ніякай адказнасьці перад чалавецтвам і не праймаючыся нічыім лёсам. Ёсьць Расея і ёсьць сьвет вакол яе, які, згодна рускіх уяўленьняў, ёй варожы і чужы. І сэнс яе існаваньня -- у змаганьні з гэтым чужым сьветам ворагаў і басурманаў, што хочуць яе пагубіць. Ідэалёгія Чынгіз-хана трывае па сёньняшні дзень.

Зьмест падзей і ход вайны на Украіне паказваюць, што нацыянальная будучыня Украіны, Беларусі, Усходняй Эўропы і статус усёй Эўропы залежыць цяпер ад Украіны, ад яе перамогі над рускім агрэсарам. І самае істотнае ў тым, што рэальна Украіна перад пачварнай сілай Расеі мусіць спадзявацца найперш на саму сябе. Ад яе супраціўленьня залежыць і падтрымка.

Калі б пуцінскі фашызм растаптаў Украіну, то наступнай ахвярай станем мы, беларусы. Наша салідарнасьць з Украінай – гэта наша жыцьцёвая неабходнасьць. Акрамя падтрымкі Украіны словамі, тэкстамі і акцыямі патрэбная рэальная збройная

салідарнасьць і дапамога. На дзяржаўным узроўні такое немагчымае, паколькі Беларуская дзяржава захоплена прамаскоўскай антыбеларускай уладай. Але дапамагаць Украіне можна дабраахвотным удзелам беларусаў на баку ўкраінцаў у барацьбе супраць рускіх нападнікаў і акупантаў. Ужо дзясяткі нашых землякоў змагаюцца на фронце за вольную Украіну. Але гэта мала. Беларусам трэба сфармаваць цэлыя батальёны дабраахвотнікаў і стаць плячо ў плячо разам з украінцамі «за вашу і нашу свабоду». Гэта трэба рабіць неадкладна. Гэта наша агульная справа.

У падрыхтоўцы да абароны Беларусі застаюцца тыя ж задачы, што і раней: структураваньне па дзьве-тры асобы, назапашваньне зброі і выбухоўкі, рыштунку, амуніцыі. Да пары – адсутнасьць дзеяньняў і гарызантальных сувязяў, катэгарычнае пазьбяганьне заўчаснай арганізацыйнай фармалізацыі і інфармацыі. Прапаганда па ланцуговай схеме. Таксама фіксацыя агентуры і ворагаў Беларусі.

Трэба брацца за працу ўсім патрыётам і сьведамым грамадзянам краіны. Што будзе зроблена, тое не змарнуецца, калі прыйдзе час.

Па апытаньнях вядома, што змагацца са зброяй у руках за Беларусь на сёньняшні дзень гатовыя паўтара мільёны чалавек. Рэальна гэта будзе ў разоў 20 меней, але і гэта – вялікая сіла (75 тысяч). Глядзем сьмела ў будучыню. Імпэрыя зла мусіць зламаць саба карак і клыкі на Украіне. Дапаможам Украіне, навучымся біць ворага і разумна перамагаць без артылерыі, авіяцыі і танкаў, бо гэта магчыма. Памятайма, што цяпер самы паскудны лозунг – гэта рабскі покліч беларускіх саўкоў: «Абы вайны не было». Вайна ўжо пачалася на Украіне, і меркаваньні саўкоў там нікога не цікавілі. Будзьма салідарныя з Украінай і рыхтуймася да абароны нашай Беларускай Айчыны.

Жыве Беларусь! Вечна жыве! Славе Айчыне!

*14 верасьня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# СЛАВА ВОРШЫ! СЛАВА ГЕРОЯМ!

Споўнілася **пяцісот гадоў пераможнай гістарычнай бітве пад Воршай**, якая адбылася **8 верасьня 1514 года паміж войскам Вялікага Княства Літоўскага** і маскоўскай ардой. Ліцьвіны-беларусы ў тыя часы шмат разоў перамагалі маскоўска-ардынскія войскі. Гэта было правіла ў нашых продкаў – перамога меншай сілаю за кошт сьмеласьці і ўменьня. Але бітва пад Воршай мацней за ўсе іншыя запомнілася ў гісторыі нашай краіны. Тады, у жніўні 1514 года, маскоўцы толькі што захапілі ў нас Смаленск. Іхняе войска амаль у тры разы пераўзыходзіла па колькасьці войска Вялікага Княства Літоўскага. Яны былі ўпэўненыя ў перамозе, бахваліліся між сабой і хваліліся, як яны, перамогшы, захопяць усю Літву.

Вынік жа бітвы стаўся такі, што маскалі былі разьбітыя ўшчэнт і страцілі забітымі палову свайго войска (40 тысяч), а ўся камандная маскоўская верхавіна трапіла ў палон.

Перамога пад Воршай над Масква-Ардой прыпыніла наступ з Усходу, затармазіла і адклала на доўгі час змову Заходняй Эўропы з Масковіяй супраць Вялікага Княства, падняла аўтарытэт нашай краіны ў тагачасным сьвеце.

З канца 1980-х беларускія адраджэнцы-фронтаўцы аднавілі легальнае сьвяткаваньне Дня Вайсковай Славы. Гэты дзень стаў стымулам і надзеяй на стварэньне сапраўднага патрыятычнага беларускага войска – абаронцаў Айчыны. Толькі патрыятычнае войска здольнае абараніць Бацькаўшчыну ад чужога нашэсьця.

Напад маскоўскай арды на рэвалюцыйную Украіну ў лютым гэтага года зноў у каторы раз пацьвердзіў гістарычную праўду і паказаў нязьменную агрэсіўную азіяцкую сутнасьць Маскоўшчыны, якая не зьмяняецца і застаецца заўсёднай пагрозай суседзям, мірнаму жыцьцю і ўсяму чалавечтву.

Уся гісторыя арды і маскоўскай агрэсіі ад сярэднявечча і да сёньняшняга дня паказвае, што на Ўсходзе існуе пэрманэнтнае «скопішча зла», якое мэнтальна не зьмяняецца з цягам гісторыі, зьяўляецца вогнішчам пастаяннага ўнутранага і зьнешняга разбою, ёсьць небясьпекай для культуры і цывілізацыі Эўропы, стала прычынай дзьвух крывавых сусьветных войнаў і плянуе трэцюю, ужо адкрыта пагражаючы сьвету атамнай зброяй.

У Сярэднявеччы наша краіна на працягу амаль пяцісот гадоў, сьцякаючы крывёй, бараніла эўрапейскую цывілізацыю ад усходніх варвараў. Наша краіна – **Вялікае Княства Літоўскае** – была адзінай дэмакратычнай дзяржавай у сярэднявечным сьвеце. Зразумела, што ўдзячнасьці ад заходняй Эўропы мы ня мелі ніякай. А ў выніку мы атрымалі нож у плечы ды змову з Масквой супраць ВКЛ гэтай самай нямецкай Эўропы.

Такая ж палітыка працягвалася і супраць незалежнай Беларусі ў канцы 90-х , калі немцы разам з прамаскоўскім рэжымам і КГБ пад шырмай Менскай місіі АБСЭ разбурылі ў Беларусі нацыянальныя сілы беларускага Адраджэньня і планавалі аддаць Беларусь Маскве.

Падобнае узаемадзеяньне назіралася супраць Украіны, захоп якой, практычна, рыхтавала пуцінская зграя разам з Эўразьвязам. У сакавіку **2000-га года** я надрукаваў матэрыял у **«Беларускіх Ведамасьцях»** (№ 2(25) «Як Эўропа Заходняя здае Эўропу Ўсходнюю», дзе звяртаўся да беларускіх элітаў, мяркуючы, што яны «маюць прыблізныя ўяўленьні пра Заходні сьвет». Там прыводіцца цытата з «Rzeczpospolita» (2000, 28. 03) наступнага зьместу: «Мішэль Эмэрсон, які да нядаўнега часу быў амбасадарам эўрапейскага зьвязу ў Маскве, а цяпер незалежны экспэрт прэстыжнага брусэльскага інстытуту TPCS, лічыць, што краіны Эўразьвязу захаваюць прыхільныя адносіны да Пуціна, бо мяркуюць, што толькі ён можа вярнуць стабільнасьць Расеі. Асяроддзе былога КГБ – гэта адзіная сіла, якая да гэтага здольная. Гэта ня ёсьць людзі, якія асабліва зацікаўленыя ў дэмакратыі. Але шмат хто зь іх – кампэтэнтныя... Пуцін выкарыстае цяжкую эканамічную сытуацыю на Украіне, каб падпарадкаваць сабе

гэтую краіну (хоць бы, напрыклад, праз замену запазычанасьці перад Расеяй на акцыі ўкраінскіх прадпрыемстваў). Эўрапейскі Зьвяз хутчэй за ўсё ня будзе пярэчыць гэтым імкненьням.»

Дадам. Тыя, хто схільныя былі прадаць Украіну, тыя ж тады здавалі і Беларусь. А ўвогуле, яны здольныя здаць усё, нават самых сябе. ХХ-е стагоддзе (асабліва разьвязваньне 2-й Сусьветнай вайны) гэта пацьвярджае.

Гісторыя сьведчыць, што, на жаль, у барацьбе са «скопішчам зла» на Усходзе мы можам спадзявацца толькі на самых сябе і, як ні дзіўна, -- у гэтым якраз аснова нашай перамогі, якая ёсьць нічым іншым, як цяперашняй нашай бітвай пад Воршай. Для Украіны гэтая бітва ўжо пачалася ў рэальным часе і ў ваенным выяўленьні. Для нас, беларусаў, -- галоўнае выпрабаваньне наперадзе. Рыхтуймася да яго, вастрэм зброю і розум, дапамагайма Украіне, памятаючы пра веліч Аршанскай перамогі ў мінулым і лёсавызначальнасьць нашай бітвы цяпер і ў будучыні.

Жыве Беларусь! Слава Воршы! Слава героям!

*8 верасьня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# НАША ЖЫЦЬЦЁВАЯ АБАРОНА

(*Выступ на кастрычніцкім 2014 г. Сойме КХП-БНФ і БНФ "Адраджэньне")*

Галоўнае пытаньне зараз у нашай частцы сьвету і галоўная пагроза нам, беларусам, -- гэта руская агрэсія, рускі фашызм і дыверсійная гібрыдная вайна маскоўцаў супраць Украіны. Пры любым зыходзе гэтай вайны агрэсія можа мець працяг супраць Беларусі.

Лепшага для сябе васала, чым Лукашэнка ("нашага сукінага сына", як кажуць расейцы) яны ня знойдуць. Рэдкасная істота. І тым ня менш пэўным маскоўскім палітэксцэнтрыкам гэтая істота ўжо "изрядно" надакучыла. Ім хочацца яшчэ лепшага, каб усё рабіў, як гэты, але менш балбатаў, ды не мельцяшыў у вачах.

Рацыянальнага тут мала, бо перад кожнымі нібыта выбарамі ў Беларусі Масква заўсёды запускала ва ўжытак такую дэзу. Тым ня менш прыслухацца варта, каб шмат якім беларусам, якімі зацікавілася палітыка, адказаць на істотнае для іх пытаньне: як адносіцца да Лукашэнкі, калі Расея пачне новы захоп Беларусі, а Лукашэнка стане гэтаму супраціўляцца? Супраціўляцца, вядома, ён ня будзе. Але людзі схільныя да фантазіі.

У палітычным плане тут стандартная, зразумелая і простая сытуацыя. Лукашэнка і Масква для Беларусі – гэта адна сатана. Беларускае нацыянальнае супраціўленьне павінна выступіць супраць гэтых абодвух галоў трохгаловага зьмея. (Трэцяя галава гада – гэта нямецкая Эўропа. Але беларусам, на жаль, тое зразумець пакуль цяжка, хоць уся наша гісторыя і сучаснасьць пра гэта крычаць).

Калі беларускае супраціўленьне выступае супраць Лука-Масквы, то яно заяўляе пра сябе як змагарная альтэрнатыва акупацыі і анэксіі. Адчыняецца сэнс і пэрспэктыва змаганьня дзеля перамогі і свабоды.

Калі супраціўленьня агрэсіі ня будзе, то анэксію зробяць па аўстрыйскім варыянце 1938 года з рускай дэзынфармацыяй усяму сьвету, што адбылося "далучэньне" па волі народа.

І трэці (чыста тэарэтычны) варыянт, які не ўзьнікне, але пра які гавораць. Гэта калі грамадзтва паспрабуюць падзяліць паміж акупацыйнай Масквой і маскоўскім васалам Лукашэнкам, які нібыта ўспрацівіцца Маскве. Рэальна такое з вобласьці палітфантастыкі, бо супярэчыць прыродзе рэчаў. Але (заўважце) менавіта гэты варыянт цяпер інтэнсіўна распрацоўвае агентура, пачынаючы ад так званых "дэмСМІ" да Мілінкевіча і іншых канторскіх палітыкаў. Яны заклікаюць падтрымаць злачынцу нацыі Лукашэнку ў яго нібыта супраціўленьні Расеі і гуртавацца вакол нішчыцеля Беларусі, бо ён, маўляў, ужо гарант суверэнітэту і гатовы ваяваць з Масквой.

Чаму такое чуецца? Найперш гэта мэтад дэзынфармацыі і маскоўскай прапагандысцкай вайны, каб недапусьціць нацыянальнай альтэрнатывы і супраціўленьня магчымаму рускаму ўмяшальніцтву і агрэсіі. Тут імкнуцца паказаць беларусам фальшывую сытуацыю і хлусьлівыя арыентыры. Зь іншага боку ўся канторская раць і ўся прадажная публіка вакол яе, якая корміцца ападкамі чужой геапалітыкі і паразітуе на няшчасьці нацыі, уся гэтая кампанія нюхам адчула рэальны (а не дэмагагічны) паварот у палітыцы Эўразьвязу ў дачыненьні да акупацыйнага рэжыму ў Беларусі, і адпаведна карэктуе свае паводзіны.

Некалі, у 90-х, яны (эўрапалітыкі) доўга круцілі катрынку аб "дэмакратычнай" Расеі, імкнуліся "дэмакратызаваць" Беларусь, загнаўшы яе ў нібыта "дэмакратычную" Расею, папалілі мноства сваіх агентаў, пачынаючы ад Ганса Віка, Адрыяна Севярына да розных нямецкіх палітычных дам. Потым настала чарга дэмагогіі пра так званыя "правы чалавека" ды пра "каштоўнасьці дэмакратыі". Заходнія бюракраты спарадзілі ў Беларусі на гэтых фішках плойму псэўдапалітычных паразітаў. Нарэшце цяпер яны ўжо скінулі маску і сказалі проста: "беларусы, падтрымлівайце (sic!) прэзыдэнта Лукашэнку". Ён ужо ў іх і "прэзыдэнтам" стаў. Такая эвалюцыя дэмагогіі. Але сутнасьць не зьмянілася.

Нагадаю, што пра падтрымку “прэзыдэнта” сказала нядаўна публічна афіцыйная прадстаўніца Эўразьвязу ў Беларусі Майра Мора. У вэрбальнай палітыцы – гэта сэнсацыя, скандал, бомба для СМІ, дыпляматычная галаваломка для палітыкаў Эўропы. А тым часам – тут поўнае маўчаньне. Ніхто з палітыкаў Эўразьвязу нават не скамэнтаваў гэтыя словы афіцыйнай асобы. Чаму? Таму што гэта пазыцыя. Так ім патрэбна.

Цікавыя і паводзіны так званай “дэмжурналістыкі”. Ніхто ня ўзяў інтэрв’ю, ніхто ня задаў гэтай афіцыйнай спадарыні патрэбнага пытаньня. Некаторыя паспрабавалі нават патлумачыць, што, маўляў агаварылася мадам, звычайнае жаночае глупства, маўляў, бывае. Бывае, але такіх не трымаюць на палітычнай службе.

Усё паказвае, якая сапраўдная цана дэмагогіі эўрапейскіх філісьцераў пра дэмакратыю, правы чалавека і ўсялякія сумніўныя “каштоўнасьці”, калі запахне смаленым і пагрозай прыбыткам. Але мы ведаем, што ёсьць сутнасьці большыя, чым дэмакратыя, і важнейшыя, чым мір. Гэта найперш свабода і гонар нацыі. Мір у рабстве – гэта павольная ганебная сьмерць. Настаў час калі тое трэба нарэшце зразумець прывыклым жыць у няволі.

Лукашэнка зьяўляецца найвялікшым злачынцам перад беларускай нацыяй. Ён прадаўся Маскве яшчэ ў 90-х і цягам 20 гадоў падрыхтоўваў анэксію Беларусі, нішчыў беларускую мову, беларускую культуру, беларускую школу, уводзіў у нашу краіну анкалогію “русского мира”. Апошнія ягоныя злачынствы – падпісаньне і ратыфікацыя дамовы пра Эўразійскі саюз і перасяленьне данецкіх саўкоў і тэрарыстаў у Беларусь. Мы не прызнаем гэтыя здрадніцкія выверты нелегітымнай улады і разумеем, якая вялікая шкода з боку рэжыму зроблена беларусам.

Аднак час мяняецца, бо зьмяняюцца палітычныя ўмовы існаваньня ў сьвеце. Цяпер само жыцьцё зноў ставіць перад народам галоўны лёзунг беларускага Адраджэньня – адраджэньне беларускага сьвету, сьвету волі і сьвятла, мовы і культуры. Крамлёўскай цемры, бескультур’ю, п’янству, хамству і Ардзе мусіць быць пастаўлены натуральны заслон – наша мова і наша культура, наш сьветлы сьвет. Гэта наша жыцьцёвая абарона, прытым непераможная.

*12 кастрычніка 2014 г.* Зянон Пазьняк

# НЕ ЗАБІВАЙЦЕ САМЫХ СЯБЕ

Дзень Дзядоў, Дзень Памяці нашых продкаў, Дзень Задушны.

У гэты сьвяты Дзень у гэтым трагічным і сьвятым месцы – у Курапатах – мы зьвяртаемся ў нашай памяці да ўсіх тых нашых продкаў, што загінулі за Беларусь, за наш народ, за нашу будучыню. У гэты Дзень мы адчуваем адзінства душ тых, што жывуць, і тых, што былі забітыя тут у часы расейска-савецкага генацыду. Слава героям і вечная памяць расстраляным людзям!

Усе нашыя ахвяры – гэта вынік бясконцай вайны з варварскім усходам. Гэтая вайна не сьціхае ні на адзін дзень. Вядзецца яна ня толькі зброяй фізічнга зьнішчэньня, але і мэтадамі ўнутранай акупацыі, захопу эканомікі, разбурэньня культуры, зьнішчэньня нацыянальнай мовы і этнічнай вёскі народа.

На першым месцы ў імпэрскай агрэсіі Масквы стаіць палітыка вынішчэньня беларускай мовы і навязваньне людзям “русского языка”. У гэтым галоўная сутнасьць маскоўскай акупацыйнай вайны. Навязаўшы свой “язык”, яны навязваюць сваё права на акупацыю краіны пад выглядам абароны гэтага “языка” і “русскоязычных”. Вось дзе сутнасьць палітыкі маскоўскага імпэрыялізму. У гэтым зьмест ідэалогіі рускага фашызму, сфармуляванай у іхнай фашысцкай канцэпцыі “русский мир”.

Сёлета яны напалі на Украіну, захапілі Крым і Данбас. Вы толькі паслухайце, што кажуць пра Украіну і ўкраінскі народ гэтыя ашалелыя варвары, якія кіруюць Расеяй – якое дзікунства! Яны ж неадэкватныя! Крычаць, што Україна – гэта не краіна, што ўкраінскай мовы няма, што ўкраінскага народу не існуе. Яны пачалі страляць і забіваць украінцаў.

Людзі часам ужо забываюць, што такое фашызм. Ім цяжка даць веры таму, што творыцца супраць розуму і чалавецтва. Але ж яно творыцца. Творыцца, гэтак жа, як тварылася тут, у Курапатах 80 гадоў таму. Як творыцца і цяпер вакол Курапатаў, дзе маскоўцы будуюць катэджы, рэстаран ды бардэль. Такое адбываецца па ўсёй Беларусі, дзе антыбеларуская ўлада нішчыць мову, волю, свабоду і будучыню нацыі.

Вайна, якая вядзецца супраць беларусаў, мае на мэце вынішчэньне нацыі праз адабраньне мовы і русіфікацыю культуры. Масква знайшла халопаў ва ўладзе, якія праводзяць тут яе акупацыйную палітыку.

Гістарычны вопыт паказаў, што па сваіх разбуральных выніках вайна супраць нацыянальнай мовы ёсьць самая катастрафічная для нацыі, бо пазбаўляе яе аргумантаў і волі да супраціўленьня, а разьвіцьцё нацыянальнай культуры спыняецца.

Але супраць зброі “языка” акупантаў мы, беларусы, маем сваю зброю. Гэта наша вялікая Беларуская мова. Шануйма нашу беларускую мову, адраджайма яе, гаварэм і пішам на мове, вучым на ёй нашых дзяцей.

На мінулыя Дзяды тут у Курапатах Юры Адамавіч Беленькі, ацэньваючы маскоўскую моўную вайну супраць беларусаў, сфармуляваў яе зьмест у ёмістым вызначэньні, зьвяртаючыся да моладзі: **“Моладзь, памятай: калі ты размаўляеш на расейскай, ты ў акупацыйнай арміі, якая страляе ў твой народ”.**

Тады агентура і маскоўская бесаўшчына аж захлынуліся ад нянавісьці і дэмагогіі. Цяпер яны абплёўваюць тут Украіну, баючыся і маючы на ўвазе беларусаў.

Тым беларусам, якія яшчэ не зразумелі, што адбываецца і што абазначаюць гэтыя словы, зьвернутыя да моладзі, тым людзям я, тут у Курапатах перад магіламі расстралянага народа, параіў бы перапісаць гэтыя словы дзесяць разоў, павешаць на покуці над ложкам і дзесяць разоў кожны дзень перад сном і нараніцы, устаўшы, паўтараць, як “Ойча наш”, пакуль ня дойдзе да сьвядомасьці.

Мы, цяперашнія беларусы, павінны паводзіць сябе і жыць так, каб не зьявіліся новыя Курапаты на нашай зямлі, каб людзі не ператварыліся ў ворагаў самым сябе, у чмыроў і янычараў сваёй Айчыны. Айчына ў нас адна. Яна вечная. І памятайма, што пакаленьні беларусаў, якія мы цяпер успамінаем, аддалі за яе свае жыцьці і кроў.

Жыве Беларусь і будзе жыць!

Слава продкам! Слава Айчыне!

*2 лістапада 2014 г.* Зянон Пазьняк

# ВЫПРАБАВАНЬНІ ЧАСУ

*(Выступ перад аўдыторыяй)*

Пачаўся чарговы напад службаў антыбеларускага рэжыму на нашу Кансэрватыўна-Хрысьціянскую Партыю -- БНФ і яе кіраўніцтва. Фактычна, ідзе наглядная дэманстрацыя акупацыйнай палітыкі – прыдумляюць што трапіцца ў галаву, складаюць пратаколы, паперы і цягнуць у суд. Яны ўжо не маскуюцца нават. Адкрыта выконваюць чужыя загады. І гэта відаць. Заўтра, 17-га лістапада зьбіраюцца “судзіць” Юры Адамавіча Беленькага, які быццам бы не забясьпечыў парадку на Дзядах, якія прайшлі 2-га лістапада выдатна і арганізавана. Напісалі аж тры пратаколы на адну асобу. Складваецца ўражаньне, што загад гэтым рабам прыслалі з Масквы.

Спадара Беленькага заманілі ў міліцыю яшчэ ў сераду 12-га лістапада і зьбіраліся ў гэты ж дзень і суд правесьці. Але ж не атрымалася. (Інструкцыі, магчыма, яшчэ не дайшлі). Тым часам мы, у Партыі, да самай пятніцы 14 лістапада не давалі ніякага паведамленьня ў друк. Хацелі паглядзець, каб вылезла “служба інфармацыі” (ніхто ж пра дзеяньні рэжыму супраць Беленькага яшчэ ня ведаў). І “служба” вылезла, як Піліп з канапляў, ужо ў той жа дзень у сацыяльных сетках, а назаўтра, 13-га лістапада, -- у адкрытым Сеціве. Зьявілася раптам інфармацыя супраць Беленькага і нашай Партыі. Як кажуць расейцы, “здравствуйте, мы вас ждали”.

Прытым гэтыя дамарошчаныя навучыліся так брава ілгаць, ну, як Пуцін усяроўна. “Вось я слухаю выступы Юрася Беленькага пра беларускую мову, -- піша вальяжна інфарматар, -- Нібыта ўсё па сутнасьці кажа чалавек, але далучацца да яго ні ў Курапатах, ні ў Лошыцы – ня хочацца”.

І дзе ж гэта інфарматар (С. Дубавец) слухаў гэтыя выступы Ю. Беленькага? Ні ў Курапатах, ні ў Лошыцы на Дзяды ён не прысутнічаў. Ні ў Курапатах, ні ў Лошыцы ніхто з журналістаў (акрамя міліцыі і КГБ) ня вёў запісаў. (Журналісты дэманстрацыйна выключылі дыктафоны і відэакамэры перад выступамі, выконваючы, відаць, нейкі загад). Нідзе не зьявілася і не існуе запісаў тых выступаў у Сеціве, а інфарматар “слухаў”. І дзе ж гэта ён “слухаў”? Такія вось справы.

Але гэта дробязі. Усю мясцовую багему мы даўно ведаем. Больш сур’ёзна тое, што гэтая атака на беларускую партыю ёсьць толькі частка агульнага наступу Масквы на беларушчыну ва ўсім сьвеце. Наступ стаў адчувальны таксама і за мяжой у эміграцыі і дыяспары. Тут каардынацыя падрыву працы і арганізацыяў ідзе праз лукашысцкія амбасады і засланую агентуру. Масква рыхтуецца супраць Беларусі. Павінны рыхтавацца і мы, беларусы, супраць Масквы. У той час, калі маскоўскі вораг ужо напаў на Украіну, калі ідзе вайна і падрыхтоўка да перадзелу сьвету, усхліпы саўкоў тыпу “абы вайны не было” ды “неяк жа ж будзе” павінны ацэньвацца як антынацыянальныя настроі, якія, дарэчы, у нас актыўна падтрымлівае руская агентура.

Два важныя дзеяньні зараз абавязваюць вольнае беларускае грамадзтва і вольных людзей Беларусі – падтрымка Украіны ў абарончай вайне супраць Расеі і падрыхтоўка беларусаў да адпору маскоўскім акупантам, разумеючы, што гэта будзе напачатку партызанская вайна, і што лукашысцкая сілавая машына будзе на баку акупантаў.

Ва ўмовах рускай інфармацыйнай гёбэльсаўшчыны, якая абрынулася на Беларусь, простаму чалавеку цяжка разабрацца, дзе рэчаіснасьць, а дзе хлусьня. Але няма сэнсу капацца ў дробязях і ў маскоўскай гразі. Важна разумець сутнасьць, якая сьведчыць, што адбылася рэзкая перамена прынцыпаў палітычных адносін у сьвеце. Сістэма міжнароднай бясьпекі, створаная пасьля 2-й Сусьветнай вайны, больш не існуе, міжнародныя дакуманты ў гэтай галіне ператварыліся ў пустыя паперы. Дэмакратыя, якая для Захаду была сродкам геапалітыкі, а для прафанаў самамэтай, перастала быць прапагандысцкім прыярытэтам і саступіла месца інтарэсам, якія сарамліва хаваюць, але ўсе паводле іх дзейнічаюць. А гэта павялічвае шансы выжываньня для палітычных пачвараў тыпу Пуціна і Лукашэнкі.

Цяперашні антыбеларускі рэжым у асобе яго ўзурпатара Лукашэнкі зьяўляецца саюзьнікам, сатэлітам і васалам пуцінскай Расеі. Уцягваньне антыбеларускага рэжыму ў брудную маскоўскую вайну супраць Украіны ёсьць толькі пытаньне часу (і, магчыма, ня вельмі далёкага). Прытым гэта будуць рабіць паступова. Нашу нацыю (як і ўкраінцаў) чакаюць цяжкія выпрабаваньні. Рыхтуймася і будзьма гатовыя даць адпор.

У сувязі з выклікам часу павінна ўзрастаць адказнасьць і роля ўсіх беларускіх арганізацыяў у сьвеце, і ўвогуле – кожнага беларуса. Нацыянальная пазыцыя, беларуская мова і культура – становяцца актыўнай зброяй абароны нацыі і чыньнікам нацыянальнага супраціўленьня супраць фашызму "русского мира", анэксіі і акупацыі Беларусі. Беларусы павінны быць здольнымі разумна, моцна і скансалідавана адказаць на выпрабаваньне моманту. Інтэлектуальная, духоўная, моўная, культурная і вогнепальная зброя павінна быць у беларускіх руках. Трэба як найхутчэй усё гэта разумець, а зразумеўшы, – дзейнічаць па ўсіх пазыцыях.

Цяпер разьвялося шмат гадальнікаў, аналітыкаў ды прагназістаў, якія дураць людзей і прадказваюць будучыню ў залежнасьці ад палітычнай арыентацыі. Трэба разумець, аднак, што будучыні ніхто ня ведае, акрамя Пана Бога. Існуюць толькі зьявы, якіх можна спадзявацца. Калі Лукашэнка ёсьць васалам Крамля і цалкам залежны ад Масквы, то можна спадзявацца, што Масква яго прымусіць уступіць у вайну з Украінай. А калі б ён пачаў непадпарадкоўвацца, то яго б пачалі душыць і прымушаць. А калі б ён раптам "даў бы ў хамут" і заартачыўся, то арганізавалі б адхіленьне ад улады альбо забілі б (у маскалёў тут проста). І Лукашэнка тое ведае. А калі б ён паслаў войска на Украіну і даў бы загад страляць у братоў-украінцаў, то забіць яго ўжо мусілі б самы беларусы. Мяркую, што і гэта ён разумее. Маскоўскі "свой сукін сын" ужо амаль дагуляўся. Хай пагуляе яшчэ далей. Беларусь жыла і будзе жыць.

Слава Айчыне!

*16 лістапада 2014 г.* Зянон Пазьняк

# НІШТО НЕ ЎРАТУЕ ГЭБОЎСКІ РЭЖЫМ

Пачаліся рэпрэсіі супраць нашай партыі КХП-БНФ і яе кіраўніцтва. Маскве перашкаджае ўсё беларускае. Зьнішчэньне культуры народаў – галоўны зьмест маскоўскай палітыкі. І тое, што рэжым раптам прыдумаў тры суды супраць дэпутата Незалежнасьці Юры Адамавіча Беленькага сьведчыць аб узмацненьні ўплыву рускай рэзыдэнтуры ў Беларусі. Цалкам верагодна, што ўказаньне прышло з Крамля.

У цэлым мы назіраем пагаршэньне становішча і ўзмацненьне тыпова акупацыйнай палітыкі супраць беларусаў. Гэта выклікана шэрагам прычын, сярод якіх пэрманэнтна дзейнічае асноўная – вынішчэньне беларускай нацыі маскоўцамі ніколі не спыняецца на нейкім этапе (напрыклад, на этапе ліквідацыі інтэлігенцыі, ці закрыцьця беларускіх школаў, ці забароны нацыянальнай творчасьці, літаратуры і т.п.). Маскоўскае вынішчэньне абавязкава будзе працягвацца да апошняга беларуса, на этнічным, сацыяльным і нават маргінальным узроўні. Калі з Масквой не змагацца, то не перажыве ніхто. Гэта я нагадваю ўвесь час, для тых, хто за тысячу гадоў яшчэ не зразумелі, што такое маскоўшчына і што такое яе арда (маскоўская ўлада і дзяржава).

Другія прычыны выкліканыя новымі абставінамі – ваеннай агрэсіяй Расеі і яе вайной супраць Украіны і пераменай у сувязі з гэтым пазыцыі Захаду ў дачыненьні да антыбеларускага рэжыму ў Беларусі.

Для людзей, якія мелі ілюзіі адносна Захаду, цікава будзе цяпер паназіраць, як “апошні дыктатар у Эўропе” пачынае для іх добра пахнуць, як яны падаюць яму ручку стрымана ўсьміхаючыся. Геапалітычны, эканамічны інтэрас штурхае іх на такія паводзіны. Правы чалавека і ўся дэмакратычная дэмагогія адышлі на другі план і ўвогуле зьніклі з фразеалогіі.

Для Масквы і яе сатрапіі ў Беларусі такі паварот Захаду стаў сігналам, што можна цяпер беларусаў душыць ні на што не зважаючы, Захад будзе маўчаць. Так яно і адбываецца.

Рэпрэсіі ўзмацніліся ня толькі супраць КХП-БНФ але й супраць усёй ужо моцна панішчанай грамадзянскай супольнасьці Беларусі, супраць асобаў, якія нейкім чынам вылучаюцца ў грамадзтве. Цяпер стала звычайным, калі некалькі дзясяткаў гэбістаў атачаюць які-небудзь офісны будынак, кнігарню ці выдавецтва, зачыняюць хады-выхады і пачынаюць татальны ператрус усяго, нічога ня кажучы і не тлумачачы і, адпаведна, не паказваючы ніякіх дазволаў і дакумантаў. Гэта тыповыя паводзіны акупацыйных ворганаў у акупаванай краіне. Ворганы ўлады павінны б паводзіць сябе інакш, вытрымліваць пэўныя фармальнасьці, прапісаныя ў законе. Маўчаньне Захаду, як бачым, тут жа скарыстала антыбеларуская ўлада.

Аднак адчайныя спробы ацалець і тая неацэнная паслуга Маскве, якую зрабіў антыбеларускі рэжым (разам з рускай дыпляматыяй), зацягнуўшы Кіеў і Данбас на мірныя перамовы ў Менск, наўрад ці паспрыяюць яго захаваньню, калі пачне развальвацца пуцінская ўлада ў Маскве. Крэмль стварыў такую сістэму лучнасьці зь Менскай сатрапіяй, што ўпадак рэжыму Пуціна і абвал Расеі пацягне за сабой і абвал улады сатрапіі.

Гэта назіраецца ўжо цяпер у сувязі з санкцыямі супраць Крамля, у сувязі з абясцэньваньнем рускага рубля і зьніжэньнем цаны на нафту.

Тут, дарэчы, прапаную ўспомніць, што калі (падкрэсьліваю) “асабіста” Лукашэнка прадаваў Беларусь і ўцягваў яе ў Мытны саюз з Расеяй, а потым і ў Эўра-Азіяцкі Саюз, то шмат шуму рабілі вакол мытнай пошліны за нафту, якую хацела забраць сабе Расея. Нарэшце ўсё заціхла, Масква нібыта пагадзілася, сатрап прадаўся, усё падпісаў. А цяпер выявілася, што 1,5 мільярда даляраў пошліны за нафту ў беларускі бюджэт павінны былі ісьці толькі пры ўмове, калі сусьветная цана на нафту будзе вышэй за 70 даляраў за барэль (так яны дамовіліся). Цяпер цана стала ніжэй 70 даляраў і будзе яшчэ зьніжацца мінімум паўгода-год (а то і больш). Пры гэтым сатрап прывязаў нашу краіну да расейскага рубля (гандлёвыя разьлікі адбываюцца ў

рускіх рублях). Цяпер маскоўскі рубель абваліўся напалову і падае далей. А гэта значыць, што палова працы беларусаў растрачана ў пустую. Сатрапія Лукашэнкі, прывязаная да пуцінскай шыбеніцы, грунтоўна йдзе на дно “вместе с Россией”.

Тым часам рэжымная прапаганда разгарнула актыўную дэмагогію па ўратаваньні рэжыму. Асноўны тэзіс: што, маўляў, рэжым паступова дэмакратызуецца (і гэта на фоне цяперашніх “зачыстак” і антыбеларускіх рэпрэсіяў), што Лукашэнка гатовы супрацьстаяць Крамлю, змагацца за сувэрэнітэт, павярнуцца да Захаду тварам, што ён гатовы нават цярпець беларускую мову і літаратуру і г.д. А таму, маўляў, трэба ўсім беларускім сілам злучыцца вакол рэжыму Лукашэнкі, каб разам супрацьстаяць Маскве.

Тут старая гэбоўская дэмагогія, агучаная напачатку яшчэ Мілінкевічам і цяпер цэлым хорам агентуры ў друку і ў розных арганізацыях.

Агентурны наступ і лабіяваньне рэжыму ў сэнсе яго нібыта “дэмакратычнай” трансфармацыі асабліва шырока йдзе на Захадзе ў англамоўным друку. (Можна паглядзець, напрыклад, нядаўні артыкул Я. Балажа ў інтэрнэт-выданьнях Карнэгі-фонда і інш.). Тут мушу зрабіць патрэбную заўвагу. Прозьвішча Балажа малавядомае нават сярод прафэсійных грантасмокаў. Сярод беларускіх палітыкаў у эміграцыі гэтую асобу фіксуюць як тыповага канторшчыка і лабіста з заданьнем. Ён працуе якраз на антыбеларускі рэжым. Сімптаматычна, што лабісцкі артыкул Балаша тут жа пачалі распаўсюджваць агентурныя каналы інфармацыі, а такая “рэзыдэнцыя дэмакратыі”, як “Говправду” пераклала дэзінфармацыю Балажа на рускую мову і дэманструюць “русскому миру” як узор для чытаньня.

Гэта я падаю тут для выяўленьня карціны, што разгортваецца. Больш дробныя лабісты ад лукашызму за мяжой пішуць опусы, разьлічаныя на беларускую дыяспару і эміграцыю. Мутная хваля інсьпіраваная ў асноўным лукашысцкімі амбасадамі і прадстаўніцтвамі, ды асобамі вакол амбасадаў. Гэтую хвалю нельга параўнаць па маштабу з расейскай дэзінфармацыяй, але наяўнасьць яе фіксуецца і шкоднасьць яе таксама, асабліва ўлічваючы лянівасьць і наіўнасьць некаторых заходніх палітыкаў ды журналістаў, гатовых такія опусы цытаваць.

Адлюстраваньнем нэрвознасьці рэжыму ў гэтых абставінах зьяўляюцца напалову ўжо камічныя заявы як самаспаленьне гэбоўскай аматарскай агентуры, “цітушак”, ці “чмыроў” па-беларуску (па прозьвішчу аднаго зь іх). Нават некаторыя прэтэндэнты на выбарчага кандыдата ў прэзыдэнты папаліліся, увайшоўшы ў раж нянавісьці да ўсяго беларускага. Гэта паталогія – нянавісьць да свайго, мэнтальная ракавая хвароба, але таксама й аблічча смуродлівага часу, які стварае свой вобраз адэптаў і тыпажоў. Словам, зьявіліся нэўрастэнічныя заявы нянавісьці да беларускай мовы, беларусаў і Беларусі, хоць тая Беларусь ужо ледзь дыхае.

На мой погляд, тут сьведчаньне рэакцыі на магчымае высьпяваньне новага беларускага адраджэньня. Прэвентыўная рэакцыя на магчымасьць. Першымі рэагуюць бесы. Пацьвярджэньнем таму ёсьць цяперашняя кампанія ў расейскай гёбэльс-інфармацыі. Руская агентура ў СМІ пачала раптам дружна пісаць пра беларускі нацыяналізм, які заяўляе пра сябе. На самай справе мы ж ведаем, што нічога такога не існуе. Зьявіўся ў асобных людзей інтэрас да беларускай культуры, цікавасьць да беларускай мовы. Гэтыя паведамленьні трапляюць у друк, у Сеціва. І хоць адгалосак гэтых фактаў танейшы за камарыны піск, Масква заёрзала. Ёй страшна, каб раптам тут чаго не пачалося. Таму адразу лямант з Масквы: “нацыяналізм”, нацыяналізм”, “нацызм”, ату іх, “будьте бдительны” і г.д. Гэта па той жа схеме, што ва Украіне: “бэндэраўцы” і “фашысты”, якія напалі на Расею.

Новыя абставіны, безумоўна, трэба ўлічваць і выпрацоўваць адпаведную тактыку супраціўленьня. Нельга ствараць сабе папяровых тыграў, але, зыходзячы з рэчаіснасьці, трэба мець на ўвазе некалькі чыньнікаў. Найперш трэба разумець, што рэжым будзе павялічваць рэпрэсіі супраць усяго грамадзтва і найперш супраць творчых, палітычных і культурных беларускіх асяродкаў. Рэжым ня будзе зважаць на законы.

Трэба мець на ўвазе вялікую верагоднасьць вайны і ўцягваньня Беларусі ў вайну праз залежнасьць рэжыму ад Масквы. І, нарэшце, вельмі важнае. Трэба ўлічваць сур'ёзную верагоднасьць краху пуцінскай улады ў Маскве праз сілавое вырашэньне і, адпаведна, адчайныя спробы сатрапіі ў Беларусі захавацца пры ўладзе. Гэты час не павінны быць змарнаваны. Рэжым у Маскве і ў Менску – гэта адзін цмок з дзьвюма галовамі.

Я ўжо казаў ня раз, што ў гэтых абставінах самаўпраўства і беззаконьня беларусам трэба пакуль што рыхтавацца да вайны на неарганізацыйным узроўні. Два-тры чалавекі без наладжваньня сувязяў; накапленьне зброі, выбухоўкі, амуніцыі, рыштунку, гаручай сумесі і г.д. Адкінуць усе пацыфісцкія забабоны. За свабоду і незалежнасьць з такім шалёным ворагам, як Расея, трэба будзе змагацца не на жыцьцё, а на сьмерць і плаціць крывёй. Паглядзіце на Украіну і ня майма ілюзіяў. Калі настане час, арганізацыя адзінак адбудзецца хутка. Цяпер стварайма будучую сілу Беларусі.

Ад арышту і перасьледу цяпер не застрахаваны ніхто, бо законы ў такіх выпадках ня дзейнічаюць. І тым ня менш нашыя беларускія арганізацыі павінны зьвярнуць увагу на скрупулёзнае забесьпячэньне ў дакумэнтаванай форме ўсіх фармальнасьцяў дзеяньня з уладамі. Гэтым можна ўскладніць уладам рэпрэсіі і аблегчыць потым магчымасьць абароны. Акрамя таго беззаконьне акупацыйнай улады ў гэтым выпадку будзе дакумэнтальна засьведчана.

Будзем спакойныя ў барацьбе. Будучыня – наша.

Жыве Беларусь! Слава Айчыне!

*14 сьнежня 2014 г.* Зянон Пазьняк

# 2015

# НАПЕРАДЗЕ ЯШЧЭ АДЗІН ГОД АНТЫБЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫКІ

Новы год -- час калі можна азірнуцца назад і падсумаваць мінулае. Для шмат каго 2014 год -- час абсурду і нечаканасьцяў, якіх звычайны чалавек не спадзяваўся. Для нас, беларусаў, гэта перш за ўсё год страт. Адышлі ў іншы сьвет вялікія беларусы -- Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін. Бяз іх стала душэўна цяжэй. Працягвалася зьневажэньне і нішчэньне ўсяго беларускага, працягвалася акупацыйная ўлада і палітыка. Але побач, ва Украіне, адбылася ўкраінская рэвалюцыя і Беларусь стала арэнай расейскай інфармацыйнай вайны, збольшага не ўсьведамляючы, што вайна тут ужо не за Украіну, а за Беларусь.

27 сьнежня правіцель Беларусі нечакана зьмяніў урад -- прэм'ера, міністраў, кіраўніцтва Нацыянальнага банку, кіраўнікоў вобласьцяў і інш. Людзі, якія шмат ведаюць і разьбіраюцца, глядзяць на гэта, як на фантастыку. Ну хто б калі зь іх думаў, што прыйдзецца жыць у сістэме, калі калгасьнік Лукашэнка, малакультурны, узбуджаны чалавек, будзе 20 гадоў аднаасобна кіраваць краінай і ў любы момант, калі ўздумаецца, зьмяняць урад, здымаць і прызначаць абласных і раённых начальнікаў, іхных намесьнікаў, рэктараў унівэрсітэтаў, прэзыдэнтаў Акадэміі навук, кіраўнікоў заводаў, спорту, эканомікі, культуры, словам, усё і ўсяго. Можа гэта нейкі дурны сон? Нічога падобнага і блізка не маглі рабіць ні Брэжнеў, ні Хрушчоў, ніхто з камуністычных заправілаў. Ды і самых іх маглі зьмяніць рашэньнем Палітбюро ЦК КПСС. Тут жа ўлада не зьмяняльная і мэханізму зьмены няма, абсалютызм даведзены да фантастычнага, казачнага маразму, у які нельга паверыць, але гэта рэальнасьць, на вяршыні якой сядзіць ўзьвінчаны Лукашэнка і гаворыць бесперастанку.

Перадоленьне гітлерызму было станоўчым для немцаў і ўсёй адроджанай Эўропы. Тым часам перадоленьне сталінізму для імпэрскай Расеі сталася фатальнай настальгіяй па насільлю і рабстве і цяпер расейцы задаволены Пуціным і КГБ. Які вопыт ці які сіндром перажыве Беларусь пасьля акупацыйнага лукашызму -- усё будзе залежыць ад колькасьці вольных людзей, якіх пакуль што меншасьць. Але яны – соль грамадзтва.

У 2014 годзе некаторыя беларусы, што жылі ў флёры прапаганды, глядзелі тэлевізар і чыталі рэжымныя газэты, атрымалі магчымасьць убачыць рэальны сьвет, такі, які ён ёсьць вакол нас і якім заўсёды быў. Гэта здарылася пасьля нападу Расеі на Украіну, захопу Крыма і Данбаса. Але на справе тое ўбачылі ізноў жа толькі вольныя людзі, бо толькі яны здольныя бачыць рэальнасьць. Гэта паказвае на тое, пра што ўвесь час гаворыцца -- адной інфармацыі мала, патрэбна асьвета.

Вынікі 20-гадовага лукашысцкага вынішчэньня беларускай нацыі ўжо шмат ў чым пераўзыходзяць разбурэньні бальшавіцкай акупацыі. Тое што Беларусь яшчэ жыве і стараецца захаваць рэшткі культуры -- гэта перш за ўсё, дзякуючы толькі асобным беларусам, здольным супраціўляцца абставінам, і другое -- дзякуючы таму агульнаму стану, які называецца дзяржаўная незалежнасьць, якая выпрацоўвае новы тып вольнага думаньня людзей (чаго не было пры маскоўска-савецкім заборы).

У канцы сьнежня 2014-га расейцы прынялі новую агрэсіўную выенную дактрыну, згодна зь якой Расея можа ўводзіць войскі ў тыя краіны, дзе будуць грамадзяне Расеі, якія пажаляцца, што іх там прыцясьняюць. Тут характэрнае дапаўненьне да фашысцкай канцэпцыі "русскій мір", узьведзенае ў закон. Такое заканадаўства фармальна пацьвярджае, што сьвет мае справу з агрэсіўнай дзяржавай. Кампанія антыбеларускага словаблудзтва, што пачалася цяпер ў Расеі, паказвае на пэўныя намеры Масквы.

Цікава, што на працгу дваццаці гадоў унутраннай акупацыі краіны, калі ўзьнікалі геапалітычныя абвастрэньні, то некаторыя маскоўскія дэсідэнты браліся аналізаваць апісваць і нават прадказваць справы ў Беларусі. І ўсе, літаральна ўсе, іхныя апісаньні (зрэшты, як і заходнія) дэманстравалі неразуменьне таго, што адбываецца ў Беларусі.

Напярэдадні Новага году за гэтую тэму ўзяўся добры знаўца пуцінскай Расеі і пранікнёны рускі палітычны публіцыст Андрэй Іларыёнаў. Вынік марны, а разважаньні такія далёкія ад сутнасьці справы і разуменьня лукашызму, што пачынаеш задумвацца, чаму яны, расейцы, ўсе такія аднолькавыя ў падыходзе да нашых праблем. Тым больш, што шмат ўжо напісана і ўсё на паверхні.

Тлумачыцца гэта, відаць, тым, што расейцы ня ёсьць носьбітамі нацыянальнай сьвядомасьці. Імпэрскае ўспрыняцьце дачыненьняў падсьведама штурхае іх на адмаўленьне некарыснай для іх нацыянальнай тэмы, на маскаваньне нацыянальнага канфлікту з рускай імпэрскай агрэсіяй. Гэтыя маскоўскія дэсідэнты падспудна ніколі ня супраць, калі русіфікацыя адбываецца "ціхай сапай" ў мірным рэжыме. Вайна прымушае іх рабіць выбар, але толькі самотныя адзінкі робяць яго не на карысьць імпэрыі. Які выбар зробіць Іларыёнаў, калі Пуцін нападзе на Беларусь, мы пакуль што ня ведаем. Вопыт паказвае, што ў дачыненьні да Беларусі кожны масковец ёсьць імпэрыяліст незалежна ад таго пра што ён кажа -- пра "русскій мір" ці пра дэмакратыю. Рэчаіснасьць апошніх дваццаці трох гадоў пасьля распаду СССР стоадсоткава тое пацьвярджае. Выключэньняў няма.

Трэба ўлічыць, што Беларусь на сёньняшні дзень пры здрадлівай дапамозе Лукашэнкі ўжо, фактычна, ёсьць сістэмна акупаваная расейскімі спэцслужбамі і ваеншчынай. І здраднік народа працягвае дзейнічаць. Практычна, на ўсіх аэрадромах Беларусі ўжо ёсьць рускія самалёты, разьмешчаныя эскадрыльлі і заселеныя рускія ваенныя лётчыкі. Нават у Лідзе, пра якую прапаганда рэжыму пускала людзям пыл у вочы, што там нібыта расейскіх самалётаў і лётчыкаў няма (але яны ёсьць, акупанты разьмешчаны ў гасьцініцы "Ліда"). Беларусь ціха напаўняюць расейскай ваеншчынай (схема захопу Крыма).

У гэты ж час антыбеларускі рэжым ладзіць розныя шоў з тасаваньнем кадраў ды мафійныя разборкі з экспартам і гандлем. На ўсіх дарогах Беларусі з кожным днём павялічваецца кантроль і назіраньне за машынамі і людзьмі, пашыраецца памежная зона з Украінай, стукацтва становіцца тут прафэсіяй халопаў. У такім становішчы ўжо сёньня неабходныя адпаведныя дзеяньні з боку беларусаў і актыўныя людзі павінны да іх рыхтавацца.

Руская прапаганда і агентура ў журналістыцы з усіх сілаў стараюцца ўвесьці ў сьведамасьць людзей, што сатрап у свсаіх спрэчках з Масквой быццам бы бароніць інтарэсы і суверэнітэт Беларусі (Іларыёнаў якраз патрапіў на гэтую вудачку). Мярзотнасьць такой прапаганды відавочная і ўплывае яна на апалітычных людзей. Сутыкненьні Лукашэнкі з Масквой -- гэта калгасныя спрэчкі за грошы і майно. Яны ня маюць дачыненьня да суверэнітэту і нацыянальных інтарэсаў Беларусі. Суверэнітэт і нацыянальныя пэрспэктывы краіны гэтым жа самым сатрапам і ўсёй сістэмай рэжыму

зьнішчаюцца, глумяцца, гнобяцца, здаюцца кожны дзень і падарваныя ад самага пачатку ўсталяваньня акупацыйнай палітыкі. Каб тое бачыць, дастаткова толькі падняць галаву і паглядзець.

Пасьля нападу Масквы на Украіну ілюзорная сістэма эўрапэйскай бясьпекі, пабудаваная на дамовах і паперках, а не на суадносінах эканамічнай і ваеннай сілы, перастала існаваць.

Нечаканасьцю для расейцаў (ды-й для ўсіх) сталі патрыятычная самаарганізацыя і супраціў украінцаў перад рускай агрэсіяй і перад пагрозай страты дзяржавы і незалежнасьці Украіны. Нечаканасьцю для расейцаў стала таксама эфэктыўнасьць міжнародных санкцыяў супраць Расеі і пасьпяховасьць міжнароднай палітыкі ў галіне здабычы і гандлю нафтай. Выглядае дзіўным авантурызмам, што краіна, само эканамічнае існаваньне якой пагрунтавана не на прамысловай вытворчасьці і тэхналогіях, а на здабычы і прадажы нафты і газу, стала нападаць на суседзяў і пагражаць вайной Злучаным Штатам Амэрыкі і усяму сьвету. Такая неадэкватная палітыка падобная на паранойю, бо элемэнтарна зразумела, што паніжэньне цаны на нафту паваліць "сыравінную" Расею і ўмацуе прамысловую эканоміку ЗША.

Крах Пуціна і яго лейтэнанцкай стратэгіі вельмі верагодныя (калі хіба Расею зноў не ўратуе Амэрыка і недальнабачная Эўропа). Ў вайне супраць Украіны Пуцін залез у тупік. Шырокі ваенны наступ, які рускія ўвесь час рыхтуюць, робіцца ўсё больш небясьпечным для Масквы ў плане міжнародных антырасейскіх захадаў. Час працуе не на Маскву (калі толькі ўкраінцы не паедуць на перамовы ў Менск і зразумеюць, якая пастка там на іх пастаўлена).

З другога боку тупік Пуціна ва Украіне аслабляе ў расейцаў эйфарыю "крымнашу". А гэта шкодна для рускай улады, якая шукае "посьпеху" і чарговага "крымнашу", бо люмпэн штурхае яе ў плечы.

Што самае небясьпечнае тут, гэта тое, што чарговым "крымнашам" можа стацца Беларусь. Пры дапамрозе Лукашэнкі Масква ўжо шмат падрыхтавала ў Беларусі для анэксіі краіны. Расстаўлены расейскія кадры, захоплена кіраўніцтва войскам, КГБ, важнымі ўстановамі, грамадзтва інфільтравана рускай агентурай, у інфармацыі непадзельнае панаваньне рускай гёбэльсаўшчыны, ёсьць рускія ваенныя базы ў Беларусі, рускія самалёты і г. д. І самае галоўнае -- пункт нумар адзін усёй захопніцкай палітыкі рускага фашызму -- ліквідавана беларуская мова ў афіцыйным ужытку, у навучаньні і ўведзена расейская.

Прыкладна месяц таму пачалася ўжо папярэдняя гёбэльс-падрыхтоўка. Маскоўцы пачалі пісаць і нават ствараць прапагандысцкія фільмы пра быццам бы нацыяналізм у Беларусі, пра русафобію (хаця ніхто іх тут не баіцца), пра заходнюю арыентацыю, пра падтрымку беларусамі ўкраінцаў, пра бел-бандэраўцаў, пра супрацу з гітлераўцамі і г.д. -- увесь набор і ўся лухта, якая нацягваецца дзеля псіхалагічнай апрацоўкі расейскага люмпэна. Навошта тое робіцца можна здагадацца. Расейская палітыка -- зьява вядомая: хлусьня, прапаганда, агрэсія, вайна і зноў хлусьня. Пры захопе Беларусі эйфарыя "крымнашу" мусіла б сягаць у зэніт (120 адсоткаў Пуціну).

Што датычыць узбаламучанага Лукашэнкі, то адзін з варыянтаў апублікаваў нядаўна былы пуцінскі дарадца Глеб Паўлоўскі. Лукашэнку маскоўцы быццам бы зьбіраюцца аб'явіць фашыстам і белбурнацам. (Зразумела, каб можна было прыехаць на танках ратаваць беларускі народ, «каторый издревле нам родной»). Гэта выглядае камічна, але ў Расеі ўжо амаль ўсё камічна, толькі ніхто не сьмяецца. Словам, выпушчана чарговая пуцінская камэдыя-страшылка для свайго васала (каб баяўся), якая сьведчыць, што робіцца ў рускіх галовах. Зразумела, што пасьля захопу Беларусі (калі б тое расейцам удалося) "свой сукін сын" ім ўжо ня будзе патрэбны. Такая дарожка ўсіх здраднікў-прадажнікаў была здаўна ў мангольскай ардзе. (Дарэчы, месца пад сонцам у Беларусі здрадніку, які прадаў краіну, таксама не было б. Фінал аднолькавы.)

Тым часам сэнс рускага словаблудзтва і зьмест расейскіх авантураў мы добра ведаем і разумеем, што за гэтым стаіць. Беларусы мусяць быць збройна падрыхтаваныя да захопніцкага варыянту і спробы анэксіі нашай краіны з боку Расеі. Ў 2002 годзе Пуцін казаў пра тое адкрыта.

Дзьве галоўныя задачы цяпер у беларускім змаганьні перад абліччам магчымай агрэсіі з усходу. Першая -- гэта нацыянальная самаасьвета і паўсюднае сцьвярджэньне беларускай мовы. Мова самая галоўная сіла нацыі. Яна падняла Украіну. Украіна ўжо будзе вялікай і сапраўднай дзяржавай.

Другое -- гэта падрыхтоўка збройнага супраціўленьня расейскаму захопу і агрэсіі. Пакуль што мусіць быць неарганізацыйная структурызацыя грамадзтва (2-3 асобы), накапленьне зброі і інфармацыі пра праціўніка. Бо калі палезе Масква (а яна ўжо лезе), то змагацца з агрэсіяй (гэтак жа, як і ва Украіне) прыдзецца самаму беларускаму народу, кожнаму беларусу і грамадзяніну незалежна ад паходжаньня.

Будзе цяжка. Але істотнае ў тым, што калі маскаль наедзе, то якраз у Беларусі маскоўская арда як імпэрыя знойдзе свой канец. Тут яна спыніць сваё існаваньне (у 90-х ужо адзін раз званочак празваніў). Канец змаганьня з таёжнай імпэрыяй будзе там , адкуль яно пачалося.

Жыве Беларусь! Слава Айчыне!

*1 студзеня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# НОВЫЯ ЎМОВЫ – НОВЫЯ ВЫЗВАНЬНІ

***(Зацемкі аб падзеях)***

З першага студзеня пачала дзейнічаць незаконная дамова аб так званым Эўра-Азіяцкім саюзе. Тое, што напісана, людзі, як бачым, успрымаюць слаба (альбо зусім не ўспрымаюць) Даходзіць толькі тое, што адбіваецца на ўласнай скуры. І таму чакаюцца цяжкія зьявы, якія, як заўсёды, будуць для насельніцтва навіной. Хоць усё было зразумела яшчэ пяць гадоў таму. Эканамічнай неабходнасьці ў такім саюзе няма. Нармальна ён ня зможа існаваць. Але гэтага ад яго і не патрабуецца. Гэта ёсьць маскоўская ідэя, форма, пры дапамозе якой можна зьнішчыць Беларусь і пачаць аднаўленьне бальшавіцкай расейскай імпэрыі. Беларусы мусяць рыхтавацца і да дэвальвацыі, і да зьбядненьня і да нашэсьця варвараў і да страты маёмасьці. У канцы застанецца толькі адна пастаянная каштоўнасьць у нашага насельніцтва – нязьменнае начальства.

Гэтая іронія, аднак, далёка ня сьмешная. Першыя аб'явы пачаліся з галоўнага – з забароны беларускай мовы. Для насельніцтва гэта не каштоўнасьць, але найвялікшая каштоўнасьць для Масквы. Калі 20 гадоў таму Масква прыглядалася і выбірала сатрапа для Беларусі, то сьпіс прадажы Беларусі быў складзены па пунктах. Першыя тры вядомыя – гэта руская мова (і ніякай беларускай) другі – гарантыі бясплатнага транзыту з Калінінградзкай вобласьці. Трэці – ваенная прысутнасьць Расеі і расейскай зброі ў Беларусі. Пункты чатыры-сто можна не пералічваць, дастаткова паглядзець, што адбываецца.

Чарговая прадажа Беларусі ў Эўразійскі саюз адбывалася таемна, без ніякага абмеркаваньня, як і ўсё, што перад гэтым рабілася. Галоўная прычына такой зачыненасьці тое, што ўсе маніпуляцыі з краінай супярэчылі законам і канстытуцыі, нават той, што прынята акупацыйным рэжымам.

700 старонак эўразійскай лухты, падпісанай сатрапам, ня ёсьць легальным законам для беларусаў, але рэжым нішчэньня будзе дзейнічаць да таго часу, пакуль усё будзе заставацца так, як ёсьць.

Правілы гандлю ў гэтым новым авантурызме абавязваюць назвы ўсіх тавараў і ўсю дакумэнтацыю весьці на рускай мове. А калі нехта апамятаецца і скажа пра канстытуцыю, то яму маскаль або ягоны агент у Беларусі растлумачыць, што сувэрэнітэт канстытуцыі больш ня дзейнічае, бо дамова аб эўразійскай авантуры першасная і сувэрэнітэт дамовы вышэйшы за канстытуцыю ў Беларусі.

Збываюцца планы мярзотніка аб вяртаньні СССР. З такім насельніцтвам і з такім начальствам можна горы перавярнуць.

На гэтым спынім нашу іронію. Магчымасьці змаганьня ёсьць і для беларускага слабога бізнэсу і для бяспраўных гандляроў, але гэта ўжо барацьба па іншых, больш жорсткіх правілах рабства.

Маскоўцы пакінулі агаворку, што побач з рускай мовай на этыкетцы (пры жаданьні) можа быць зьмешчаны надпіс па-беларуску. Што гэта значыць, ведаем. Таму, паважаныя беларусы, рыхтуйцеся даказваць кожнаму чыноўніцкаму лапцю і выслухваць хамскія заўвагі – "зачэм этат беларускі язык".

* * *

Наша ўвага па-ранейшаму прыцягнута да Украіны. Сябры нашай партыі, якія былі цяпер на Украіне, сьведчаць, што Украіну не пазнаць. Народ згуртаваўся, падняў

галаву, поўны энэргіі і рашучасьці біць маскаля і змагацца за Украіну. І ўсё зрабіла ўкраінская мова – найвялікшая сіла нацыі.

Правакацыі рускіх дывэрсантаў і рускага ўзброенага зброду на Данбасе не спыняюцца. Кожны дзень бесперастанку абстрэльваюць пазыцыі ўкраінцаў. Пуцін пастаянна сьцягвае войска ў Крым і на мяжу з Данбасам. Зразумела, што Масква будзе ствараць і правакаваць выпадкі, каб гэтае сваё войска скарыстаць супраць Украіны.

* * *

У міжнародным плане адзін такі выпадак Маскве ўдаўся і напэўна яна пастараецца яго скарыстаць. Некалькі дзён таму мусульманскія тэрарысты расстралялі ў Парыжы рэдакцыю французкага брутальнага сатырычнага часопіса, якая зьмяшчала карыкатуры на ісламістаў і па ўсходняй тэматыцы. Працягваецца вялікі скандал, узьнікаюь новыя выпадкі тэрарызму ў Парыжы. На некалькі дзён сьвет забыўся пра Пуціна і Украіну.

Цалкам верагодна, што Крэмль пастараецца скарыстаць канфлікт у Францыі і выклікаць новыя асяродкі напружанасьці ў Эўропе. Гэта ў яго магчымасьцях. Ніколі яшчэ Расея ня мела кіраўніка, які валодаючы абсалютнай уладай у дзяржаве, меў бы ў сваім падпарадкаваньні наймагутнейшыя разьведкі ў сьвеце, нічым не абмежаваныя ў сваіх дзеяньнях. Прытым закаранелая яшчэ ад часоў Андропава база гэтых разьведак разьмешчана на Блізкім Усходзе, у Афрыцы і ў Эўропе (у месцах, адкуль цячэ пастаянная эміграцыя ў Эўропу). Таго, што адбылося ў Парыжы, трэба было чакаць. Развал Эўразьвязу, пагружэньне яго ў хаос, страляніна і канфлікты ёсьць стратэгічная задача рускага гэбізму і пуцінскай палітыкі. Пра гэта пішуць і кажуць нават самы расейцы. Прытым такое цалкам рэальна. Эўропа ніколі не вылучалася палітычным розумам. Але тое, што робіцца там цяпер пад уладай левых лібэралаў, іакш, як сацыяльным ідыятызмам не назавеш. Уражаньне, што Эўропай кіруюць людзі бяз волі і без мазгоў. Дзесяць гадоў таму ў Даніі ўжо быў прэцэдэнт тэрарызму ў сувязі з карыкатурамі на Магамэта. Ніякіх высноваў з тае пары ня зроблена. І з той прычыны, што іх няма каму рабіць. Палітыкі з інфантыльнымі мазгамі не ў стане думаць пра лёсы цывілізацыі.

Тым часам дзесяць гадоў таму нашыя сябры КХП-БНФ прасачылі сувязі дацкіх карыкатурыстаў з Масквой і матэр’ялы пра гэта надрукавалі на сайце КХП-БНФ (зараз тая вэрсія не існуе) і на старонцы “Беларуская Салідарнасьць”. Мяркую, што маскоўскі сьлед у парыжскім забойстве таксама рана ці позна будзе выяўлены.

Францыя цяпер часова ўнутрана салідарызуецца. (Праўда ўлады не захацелі разам дэманстраваць з «ліпэнаўцамі», якія цяпер -- сіла. Крохкая «салідарнасьць».) Асноўнае маніфэставаньне адбываецца ў падтрымку правоў на свабоду слова і супраць тэрарызму. Гэта выглядае вельмі сымптаматычна. Французы выступаюць за свабоду слова ў сваёй краіне перад мусульманамі, якія іх адстрэльваюць. Як кажуць, усё, нібы па Фрэйду. Выглядае, што французы адчулі сябе меншасьцю ў сваёй краіне і гэтага яшчэ пакуль што не разумеюць. Дзіўна ўсё. Відаць, гадоў праз 15 у Французкім халіфаце будзе поўны парадак. І ніякіх маніфэстацый.

Палітыка лева-лібэральных разбуральнікаў Эўропы ніколі ня скончыцца, пакуль яны будуць пры ўладзе. Тут больш чым палітыка. Асноўная задача гэтай палітычнай чэрні – зьнішчыць Хрысьціянства і хрысьціянскую культуру, якія перашкаджаюць ім маральна разбэшчваць людзей і сьцьвярджацца ў сьвеце са сваімі ўяўленьнямі пра жыцьцё. У зьнішчэньні Хрысьціянства, яны выкарыстоўваюць ня толькі збочаныя паняцьці пра дэмакратыю, але і мусульман. Мусульмане – гэта іхняя зброя супраць Хрысьціянства. Расейскі КГБ гэта даўно і выдатна зразумеў. Правакацыі ўзьнікаюць раз за разам. І надалей ў Эўропе будуць рабіць карыкатуры на Магамэта і Хрыста, даказваючы дурным розумам свабоду слова. (Дарэчы вобраз Хрыста на Захадзе зьневажаюць пастаянна ў карыкатурах, тэатры і кіно, лібэральная чэрнь ёрнічае і хіхікае, нават збачэнцам Госпада выстаўлялі, а замест апосталаў – 12 педэрастаў. Але з Магамэтам так ня пройдзе). Рускім застаецца толькі падштурхнуць. Хаця заканадаўча

паставіць на месца мусульманскіх мігрантаў – элемэнтарна, як двойчы два. Толькі, відаць, нічога ня будзе, пакуль за справу ня возьмецца французкі народ. А ён ня возьмецца, бо яго ўжо, практычна няма. Замест яго дэмакратыя і мульцікуьтураня супольнасьць.

Замяшаньні ў Францыі – гэта дрэнная прыкмета, асабліва калі ўлічыць магчымы працяг. Падзеі не на карысьць Беларусі, бо спрыяюць Расеі. Мы павінны глядзець, аднак, на тэатр нашых дзеяньняў. Лёс Эўропы залежыць цяпер не ад Францыі, а ад Украіны і ад таго, што будзе зь Беларусяй. Пра гэта мусіць быць наш клопат і наша справа, якая крок за крокам павінна даваць плён, дзеля нашай нацыі і будучыні..

*11 студзеня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# СКРЫНКА ПАНДОРЫ

Мне запомніліся словы з аднаго апокрыфа, якія я ў маладосьці прачытаў, цікавячыся эсхаталогіяй: “І адчыняцца новыя віды грахоў”. Уявіць, што гэта абазначае і што настане, было немагчыма, пакуль я ўжо ў другой палове жыцьця па волі лёсу ні апынуўся на Захадзе і ня ўбачыў тое, пра што, відаць, пісалася ў апокрыфе.

Зьдзіўляла ня тое, што распаўсюджанасьць адхіленьняў, ненармальнасьці і садоміі існуе ў гэтых грамадствах, але тое, што палавыя збачэнствы і дэвіантныя адносіны (якія ў бальшыні сваёй небясьпечныя для іншых людзей) тут легалізаваныя, афіцыяналеныя і знаходзяцца ўжо пад аховай дзяржавы (зацьверджаныя заканадаўствам). Больш таго, у асобных галінах дачыненьняў (напрыклад, прыём на працу) дэвіантам, фактычна, прыярытэт, а збочанае сужыцьцё такіх суб’ектаў аднаго полу афіцыйна прызнана нормай, названа нават “сям’ёй”, і ім прызначаны сацыяльныя льготы і “правы”.

Сьвятары некаторых тупіковых цэркваў “вянчаюць” гэты антыпрыродны, антысацыяльны, неадэкватны “саюз” у выглядзе царкоўнага шлюбу. Прытым уся гэтая маральна апушчаная публіка ўжо робіцца агрэсіўнай, імкнецца павучаць нармальных людзей.

Тут зразумела, што грамадзтва (якое ўступіла ў стадыю маральнага рэгрэсу) ня мае будучыні. Адбываецца глыбіннае і штодзённае разбурэньне культуры на ўсіх узроўнях быцьця. Садомія – толькі частка гэтага працэсу.

Дасьледваньні чалавечага грамадства на першапачатковых стадыях разьвіцьця (напрыклад, неандэртальцаў) даюць рацыянальны адказ пра мэханізм, які выклікаў разьвіцьцё культуры і вычляненьне чалавека з прыроднага (стыхійнага) існаваньня. Гэты мэханізм ёсьць самаабмежаваньне, стрымліваньне сябе дзеля супольных (паляўнічых) мэтаў, паляўнічай магіі, спробы адкласьці прадукт харчаваньня на будучыню і т. п. Там, дзе пачынаецца ўсьвядомленае абмежаваньне сваёй прыроднай стыхіі дзеля дасягненьня пэўнай мэты, якая ўжо стане прадуктам волі і рук індывідума, там ужо пачынаецца культура і вылучэньне індывіда з прыроды.

Грамадзка-псіхалагічная культура чалавека ад самага пачатку трымаецца на сістэме пэўных абмежавальных правілаў і табу (успрынятых у межах традыцыі і ў межах сьведамага асэнсаваньня). Калі ліквідаваць табу і абмежаваньні, культура пачынае разбурацца, бо пустаты не ўзьнікне, на месца правіла культуры прыходзіць дзікасьць (стыхія). Для чалавека вельмі важна зь дзяцінства ведаць, што такое добра, а што дрэнна.

Лявацкая ідэалёгія, дзе б яна ні праяўлялася (у мастацтве, літаратуры, творчасьці, палітыцы) якраз і накіравана на “рэвалюцыйнае” зьнішчэньне ўсялякіх табу. Эпатаж робіцца стылем паводзінаў, пранікае ў моду, у палітыку, у мастацтва і штодзённае жыцьцё. Узьнікае асяроддзе, здольнае да легалізацыі чалавечых заганаў.

Магчымасьць прызнаньня права на зло і прыняцьце збачэнства за норму закладзена ў сістэмных недахопах дэмакратыі, у прыватнасьці, у выбарчай сістэме, калі ў пагоні за галасамі кандыдат сьведама йдзе на ўсхваленьне і падтрымку маргінальных групаў.

Істотнай прычынай таксама (бадай што найважнейшай) зьяўляецца тут лявацкае разуменьне катэгорыі свабоды ў дачыненьні да аднабока ўспрынятых “правоў чалавека”, якія падаюцца тут як паняцьці абсалютнага прыярытэту асобы, якая абапіраецца на свабоду, якая ў сваю чаргу зьяўляецца абсалютным правам чалавека. У выніку ўсё, што зробіць, створыць, наробіць свабодны чалавек, зьяўляецца яго правам. Зафіксаваныя нават выпадкі ў Нью-Ёрку (якія трапілі ў друк), калі група зладзеяў, якіх злавілі ў краме ў час крадзяжу, крычалі паліцыі, якая іх затрымала, што тут расавая дыскрымінацыя і што паліцыя парушае іх чалавечыя правы.

Падтрыманьню права дрэннага, збочанага, малога, прымітыўнага спрыяе таксама лявацкая лібэральная праграма мультыкультуралізму (прыярытэт

нацыянальным мяншыням) і лібэральная этычная формула паліткарэктнасьці (неназываньне рэчаў сваімі імёнамі дзеля грамадзкага спакою). Усё гэта ўводзіцца ў заканадаўства. У выніку сацыяльна-культурнае жыцьцё на Захадзе ў краінах, дзе запанавалі левалібэральныя ўлады і паняцьці, усё больш перапаўняецца абсурдам сацыяльна-праўных і этычных дачыненьняў. Уражаньне, што здаровая частка грамадзтва разгубілася і ня ведае, што з гэтым усім рабіць, паводзіць сябе па тыповай канфармісцкай схеме ціхай капітуляцыі перад агрэсіўнай маргінальнай дурнотай і расперазаным злом.

Рэальна людзі адчуваюць ужо сілу гэтага зла. І сіла яго ня толькі ў падтрымцы лібэральнай дзяржавы. Назіраецца сістэмная салідарная праца маргінальнага сьвету па захопе ключавых пазыцыяў і радыкальнага перайначаньня каштоўнасьцяў хрысьціянскай цывілізацыі.

Найбольш адчувальны прарыў маргіналізму і дэманстрацыі збачэнства адбыўся ў выніку пранікненьня дэвіянтных пазыцыяў у бізнэс. Створаны велізарны рынак чалавечых заганаў, распусты і проста брыдоты. Дэвіянтныя дачыненьні знайшлі там сваё месца, адпаведна зьявілася лобі заганнасьці ва ўладзе, сродках масавай інфармацыі і маскультуры.

У рэальным жыцьці людзей з паталягічнымі палавымі адхіленьнямі яшчэ ня шмат. Але ў заходніх СМІ, мастацтве, інфармацыі, паведамленьнях і г. д. падтрымліваецца як бы пастаянная прысутнасьць такой зьявы ў грамадзтве, штучна павялічваецца яе ўдзельная вага. Рэкляма і прапаганда, на жаль, дае вынікі.

Бадай што найбольш гнюснай, цынічнай і бессаромнай масавай зьявай у лібэральным грамадзтве ёсьць так званыя “парады каханьня”. Гэта бізнэсовае мерапрыемства – адкрытая рэкляма і наўпроставая дэманстрацыя д’ябальшчыны – цёмнай збочанай маргінальнай масы, салідарнай на грунце палавых інстынктаў. Дэвіянтаў зьбіраюць са ўсяго сьвету сотні тысячаў у адно месца, каб прадэманстраваць іх вялікую прысутнасьць.

Адначасна гэта дэманстрацыя матэрыяльнасьці (рэальнага напаўненьня) лібэральнай ідэалёгіі. Лабісты гэтай “ідэалёгіі” ў медыцыне, філасофіі, публіцыстыцы, міжнародных арганізацыях стварылі масу псэўданавуковых міфаў, каб апраўдаць легальнае існаваньне і грамадзкае разьвіцьцё дэвіянтных групаў. Ідэалагічная сутнасьць усіх гэтых лабісцкіх дзеяньняў, “дасьледваньняў” і апісаньняў ёсьць антыхрысьціянства. Дарэчы, сымволіка і вобраз д’ябла ў гэтага роду асобаў найбольш папулярныя.

Хачу падкрэсьліць, што ацэньваць збачэнства па старых мерках як цёмнае падполье, якое хаваецца, ужо нельга. Яго цяпер ня толькі выцягнулі наверх, але афармілі ў прыдуманую ідэалёгію, якая мае свае разбуральныя мэты.

Зафіксавана некалькі дзясяткаў палавых збачэнстваў. Усе яны небясьпечныя для псіхікі, здароўя, маральнасьці асобы і ў цэлым – жыцьця іншых людзей, бо бальшыня адхіленьняў патрабуе партнёра. Пры легалізацыі гэтай псіха-фізічнай сацыяльнай хваробы (і тым больш пры падтрымцы лібэральнай дзяржавы) зло пачынае няўхільна распаўсюджвацца. Асобныя збачэнствы настолькі небясьпечныя для грамадзтва, што прыводзяць да цяжкіх крымінальных злачынстваў, якія шмат дзе караюцца сьмерцю.

Трэба ўлічыць, што калі маргінальная дэвіянтная група легалізуецца і павялічваецца ў колькасьці, яе паводзіны зьмяняюцца на больш дэманстратыўныя і агрэсіўныя. У групы ўзьнікае імкненьне павялічваць сваё кола дачыненьняў. Вядомыя выпадкі, калі гомасэксуалісты прыдумвалі этап пасьвячэньня ў пэдэрасты і гвалцілі малалетак. Потым міліцыя фіксавала нематываванае самагубства падлеткаў. Гвалт малалетак – адна з прычын павелічэньня колькасьці пэдэрастаў у грамадзтве.

Дасьледчыкі, якія аналізавалі люмпэнізацыю лібэральнага грамадзтва (Віталь Зайка, напрыклад) адзначалі поўную немагчымасьць праводзіць зьместоўную рацыянальную дыскусію з лобі гэтай групы людзей. Іхны мэтад пераканаваньня апанэнта

– гэта мэтад зграі, якая ня слухае і ня чуе, і мае толькі адну задачу: любымі спосабамі калектыўным чынам задушыць апанэнта, псіхічна яго дэмаралізаваць, абазваць, наклеіць ярлыкі і г. д. Хрысьціянства ў іх абзываецца “фашызмам”, сям’я – адсталасьцю і т. п.

Дарэчы, тут (у такога роду захаваньні) тыповыя паводзіны люмпэнізаванага лявацтва, яскрава прадэманстраваныя яшчэ савецкай уладай у СССР, асабліва ў часы Пралеткульта, станаўленьня “камсамоліі” і пэрыяду генацыду 30-х гадоў.

Калі б уявіць, што такая сьветапоглядная група сканцэнтравала б у сваіх руках усю ўладу (а гэта ў прынцыпе магчыма, камунізм і фашызм таксама разьвіліся з маргінальных зьяў), то вынікі для людзей былі б цяжкія. Маргіналізм, які выплывае на паверхню і дасягае ўлады, расьце з аднаго антыхрысьціянскага кораня. Левы лібэралізм цалкам укладваецца ў гэтую гнасеалагічную схему і мае ў сабе ўсе прыкметы нецярпімасьці і таталітарнай ідэалёгіі.

Інтарэсы дэвіянтных групаў і ідэалёгіі левага лібэралізму супадаюць. Асновай унутранага жыцьця і паводзінаў чалавека яны лічаць палавы інстынкт, імкненьне да палавога акту (сэксу). Ідэалы тут адсутнічаюць. На гэтай падставе адбываецца катастрафічнае і прыніжальнае пераасэнсаваньне ролі жанчыны ў грамадзтве. Вобраз жанчыны-маці і тэма сям’і тут не гучаць. Жанчына трактуецца  найперш як аб’ект сэксу. Прыдуманая і адпаведная сэксуальная тэрміналогія для ацэнкі жанчыны. Яна вольная, самастойная і незалежная, можа сама выбіраць сэкс-партнёраў і г. д. (пра шлюб гаворка не вядзецца). На такой пазыцыі канцэнтруюцца і заходнія фэміністкі, якія прыўнесьлі сюды яшчэ элемент палавой нянавісьці да мужчыны і жаданьне дамінацыі сэксуальна вольнай жанчыны.

Тут паўтару некалькі аксіём. Чалавек трыадзіны: Чалавек-мужчына, чалавек-жанчына і чалавек-дзіця. Мараль (гносэалёгія маралі) утвараецца ў выніку ўзаемадачыненьняў мужчыны і жанчыны. Гэтыя дачыненьні стаяць над ўсімі падзеламі ў грамадзтве і ствараюць гармонію працягу роду, якая рэалізуецца ў сям'і. Якая б ні была тая гармонія – аўтарытарная, функцыянальная, матрыярхальная, патрыярхальная – яна заўсёды была адзінствам людзей, базавалася на прыродных повязях адзінай існасьці чалавека ў працягу роду.

Лева-сацыялістычны маргіналізм прыўнёс сапраўды сатанінскае разбуральнае паняцьце ў гэтыя базавыя дачыненьні людзей. Левакі пчалі разглядаць і прапагандаваць чалавечы пол як ідэалёгію. Аля вядома, што там дзе ідэалёгія, -- там барацьба (рывалізацыя) і як спадарожны вынік барацьбы – нянавісьць між людзьмі. Так зьявілася маргінальная ідэалёгія «гендэр», заснаваная на палавым падзеле і (у рэальнасьці) на палавой нянавісьці. Дэкларацыйны зьмест гендэрных паняцьцяў адносны. Разбуральная сутнасьць -- відавочная. І ўсё яно карэлюецца зь іншымі лева-лібэральнымі замахамі на адзінства чалавечай супольнасьці.

Увесь гэты камплект перакручаных паняцьцяў цалкам імпартаваны ў мас-культуру, эстраду, тэлебачаньне, кіно, дзе ерась вытварае ўсё, што хоча, дзе вядомыя гістарычныя асобы, вялікія людзі (нават Ісус Хрыстос і апосталы) пагалоўна паказваюцца як пэдэрасты і сэксуалісты, дзе кабеты страляюць з мушкетаў, сякуць мячамі, махаюць кулакамі і лупяць “праклятых мужчын”, а першыя пакутнікі-хрысьціяне прадстаўленыя як злыя агрэсіўныя варвары, якія нішчылі «сьветлае» антычнае грамадзтва.

Нядаўна фэміністкі ў Эўрапарляманце патрабавалі, каб ўся сусьветная літаратура, дзе мужчына моцны, мужны і змагарны, а жанчына жаноцкая і клапатлівая, каб уся  старая літаратура была забароненая. Патрабуюць таксама забараніць ўсю існуючую дзіцячую літаратуру, бо яна парушае правы гомасэксуалістаў. Таму дэвіянты пішуць сваю дзіцячую «літаратуру, дзе няма «таты» і «мамы», дзяўчынак і хлопчыкаў, дзе ўсе сярэдняга роду і г. д. (Заўважу, што палавая дэзыарыентацыя асобы – гэта стан для прышчапленьня гомасэксуалізму і разьвіцьця іншых адкіленьняў ў тым ліку імпатэнцаі ў мужчын.)

Усё гэта ўжо вядома і ўсе нармальныя людзі пасьміхаюцца ды лічаць, што гэта кур'ёз. Але гэта не кур'ёз. Гэта збочаная, атрутная, поўная маргінальнай нянавісьці да здаровага чалавецтва рэальнасьць. У некаторых краінах, калі ўлічыць існуючую там інфармацыйную, заканадаўчую і псіхалагічную абстаноўку, так званыя «сэкс-мяншынствы» ўжо не мяншынствы, а псіхалагічная бальшыня. Якраз нармальныя людзі ператвараюцца цяпер там у выдрэсіраваныя мяншынствы, цішэйшыя за траву. Сацыялагічныя дасьледваньні ў Нарвэгіі, напрыклад (няхай сабе і з ўдзелам дэвіянтаў) паказваюць, што калі сытуацыя будзе разьвівацца нязьменна, як цяпер, то да 2050 года Нарвэгія на дзевяноста адсоткаў насельніцтва будзе складацца з рознага роду гомасэксуалістаў. Гэта, выглядае, праўда, сацыялагічнай прапагандай, фалсіфікатам, але тэндэнцыя, абазначэньне таго, да чаго імкнецца лібэральная публіка, наглядна відаць Аналагічная сытуацыя ў іншых заходніх краінах Эўразьвязу. Садом і Гамора – гэта не біблейская міфалогія, як думаюць левакі, а біблейская рэчаіснасьць, якую самы лявацкія блытанікі цяпер у рэальнасьці ствараюць.

Грамадзтва (заходняе і ня толькі заходняе) павінна б прызнацца, што яго ўжо асядлалі, і ніхто з гэтым нічога ня можа і ня хоча рабіць, бо тут бізнэс, які прыносіць барышы, зь якога кормяцца нават заканадаўцы, але які нішчыць душу маладога пакаленьня.

Дарэчы, у лібэральнай “сэксуалізаванай” ідэалёгіі страчана месца для дзіцяці ў сям'і. Бо сям'я дэвіянтам не патрэбная. Ідзе зьнішчэньне сям'і. Гэтым на Захадзе займаецца так званая «ювенальная юстыцыя» і вытворныя ад яе розныя структуры сацыяльнай апекі, якія шмат дзе ператварыліся ў карумпаваныя крымінальна-бюракратычныя структуры, з некантралюемымі паўнамоцтвамі, што разглядаюць дзяцей як тавар і працуюць на рынак такога тавару. Ювэнальная юстыцыя як плод лібэралізму пабудавана на заганнай канцэпцыі правоў дзіцяці (хаця зразумела было, што суб'ектам права зьяўляюцца бацькі, а не дзеці).

Ювенальнае заканадаўства дае магчымасьць лёгка адбіраць дзяцей ад бацькоў (на заўсёды) па прыдуманых пустых і абсурдных абвінавачаньнях і без бацькоўскай згоды і веданьня перадаваць дзяцей ў прытулкі ці так званым «прыёмным» асобам (тым жа дэвіянтам). У скандынаўскіх краінах, напрыклад, і для «прыёмных асобаў», і для сацыяльных выкрадальнікаў дзяцей гэта надзвычай выгадная матэрыяльная справа. Лібэральная дзяржава дае на такое разбурэньне сям'і вялікія грошы. Прыёмная асоба, атрымаўшы дзіця, можа ўжо нават не працаваць. Грошай хопіць.

Трэба яшчэ ўлічваць, што ў гэтых краінах цярпіма адносяцца да пэдафіліі (месцамі яна амаль што легалізавана), таму прыёмныя асобы лёгка абменьваюцца вопытам гомо-сэксуалізацыі чужых дзяцей (і дзецьмі таксама), а дэвіянты ў парлямантах заклікаюць да суцэльнай гомасэксуалізацыі чалавецтва. Гэта своеасаблівыя «жырыноўскія», але іх тут успрымаюць сур'ёзна, бо вынікі іхных выказваньняў ёсьць рэальнай палітыкай.

Бацькі ў нармальных сем'ях, практычна, ня маюць ўжо ніякіх правоў на сваіх дзяцей перад структурамі сацыяльнай апекі, перад ювэнальнай юстыцыяй і лібэральнай дзяржавай. Дзеці, фактычна, разглядаюцца як тавар, які зьяўляецца ўласнасьцю дзяржавы. У чатырох скандынаўскіх краінах (з насельніцтвам ад чатырох да васьмі мільёнаў) кожны год адбіраюць ад бацькоў і перадаюць прыёмным асобам 6-8 тысяч дзяцей. Статыстыка: за пэрыяд лібэральнай нэасацыялізацыі дзяцей ў Швэцыі адабрана ад бацькоў 300 тысяч дзяцей, у Нарвэгіі – 250 тысяч, у Фінляндыі 200 тысяч (столькі ж у Даніі). Фактычна, скрадзена цэлае пакаленьне, разгромлена маса сем'яў. Ёсьць пратэсты, дэманстрацыі бацькоў, але яны даюць мала вынікаў, бо нічога не зьмяняецца сістэмна і па сутнасьці.

Больш канструктыўныя пратэсты там, дзе яшчэ цепліцца хрысьціянская вера.

У Нямеччыне, напрыклад, разгортваецца супраціўленьне эвангельскіх хрысьціян супраць «дзяржаўнага навучаньня». Яны ня хочуць, каб іхных дзяцей вучылі сэксуальнай усёдазволенасьці і лявацкай ідэалогіі. Нямецкія сем'і ствараюць свае сямейныя школы і навучаюць дзяцей дома. Улады жорстка перасьледуюць гэтых

людзей. Хапаюць іхных дзяцей і вывозяць ў невядомым накірунку, накладаюць на бацькоў велізарныя штрафы, заводзяць на іх судовыя справы, натраўліваюць паліцыю. Некаторыя нямецкія сем'і спрабавалі схавацца ў Францыі. Але дарэмна. Францыя ўжо даўно бязбожная краіна. (Дадам, што ў Нямеччыне Касьцёл абкладзены велізарнымі падаткамі. Тысячы касьцёлаў пазачыняныя, касьцельныя будынкі прыстасоўваюць пад іншыя мэты.)

Літаральна некалькі гадоў таму колькасна вялікія нямецкія сем'і (дзе шмат дзяцей) пачалі ўцякаць ад перасьледу ў Амэрыку. Там яны знаходзяць абарону. Амэрыка некалі (ў свае лепшыя часы) зрабіла вельмі разумную справу – не ратыфікавала Канвенцыю ААН аб правах дзіцяці (надзвычай недасканалы і сумніўны дакумант, дарэчы, базавая аснова для разбурэньня сям'і). Але амэрыканскія левыя, што заселі ў судах, імкнуцца дэпартаваць немцаў. У канфлікт умяшаўся нават прэзыдэнт Амэрыкі Абама (прытым на баку лібэралаў, за дэпартацыю ўцекачоў). Барацьба за дзяцей працягваецца ўжо ў ЗША.

Справа ў тым, што ў 1938 годзе Адольф Гітлер ліквідаваў усе льготы дамашняга навучаньня. Усе нямецкія дзеці па яго распараджэньні павінны былі ўступаць у Гітлерюгенд і вучыцца толькі ў дзяржаўнай (фашысцкай) школе. Гэты закон аб дзяржаўнай адукацыі дзейнічае ў Нямеччыне цяпер і лібэральныя левакі ўхапіліся за яго ў сваіх інтарэсах.

Майкл Фаррыс заснавальнік амэрыканскай адвакацкай арганізацыі па абароне правоў бацькоў (HSLDA) у сувязі з гэтым зазначыў, што «Нямеччына зьяўляецца ўдзельнікам шматлікіх дагавораў аб правах чалавека , якія прызнаюць права бацькоў, каб іх дзеці маглі атрымліваць адукацыю ў адпаведнасьці з рэлігійнымі перакананьнямі бацькоў. Права на хатняе навучаньне зьяўляецца адным з правоў чалавека. Нямеччына груба парушае гэтыя правы нямецкай сям'і» (ў дужках заўважу, што лібэральнай Нямеччыне начхаць, што там кажа ім амэрыканец пра правы чалавека, Гітлер важнейшы).

Ў лібэральных школах Эўропы ідзе адкрытае сэксуальнае разбэшчваньне дзяцей пад выглядам сумніўнага сэксуальнага навучаньня (якое, дарэчы, дзецям непатрэбнае, яно прыходзіць з узростам). Асабліва небясьпечнае штурханьне дзяцей да мастурбацыі – асновы пазьнейшай эратычнай неадэкватнасьці, дэградацыі і псіхічных комплексаў. Гэта ў поўным сэнсе легалізаванае злачынства перад чалавечай асобай.

Зараз у лібэральнай лявацкай хроніцы падзей, у інфармацыі поўна агрэсіўных выказваньняў (як правіла дэпутатаў парлямантаў) аб легалізацыі інцэста. Прытам прапануецца тых, хто будзе супраць інцэста («інцэстафобаў») заканадаўча строга караць (ужо і ярлык прыгатаваны). (Я ўжо казаў пра агрэсіўную маргінальную нецярпімасьць левакоў як псіхалагічную аснову фашызма.)

У лявацкіх парлямантах (прытым нават у ЗША) дыскутуюць праблему легалізацыі і заканадаўчай абароненасьці нэкрафіліі, заафіліі, пэдафіліі (хаця пэдафілію ўжо ўскосным чынам амаль што легалізавалі праз агульныя расьцягнутыя фармулёўкі)

У XXI стагоддзі ня толькі маргіналізм, але ўсё планетарнае зло атрымала магутную тэхналагічную магчымасьць глабальнай кансалідацыі (чаго раней не было) і маніфэстацыі пра сваё існаваньне. Гэтая зброя – Інтэрнэт. Менавіта цяпер адчынілася скрынка Пандоры, і пачвары сталі распаўзацца па ўсёй Зямлі.

Апошнім часам у краінах былой савецкай зоны (Украіна, Расея і інш.) прынятыя патрэбныя законы, якія абмяжоўваюць пашырэньне дэвіантных групаў і забараняюць прапаганду гомасэксуалізма. Наўрад ці зьявіцца такі закон у падрэжымнай Беларусі. Ды калі б і зьявіўся, толку было б мала, бо сам рэжым амаральны.

Зразумела, што для здаровага грамадзтва патрэбныя здаровыя законы, якія б абаранялі маральнае здароўе людзей. Канцэпцыі такіх законаў трэба ствараць цяпер,

не чакаючы канца рэжыму, які можа зацягнуцца, і не чакаючы наступу садоміі з Захаду і Усходу.

Відавочна, што ў законе павінна быць адлюстравана неабходнасьць стрымліваньня, абмежаваньня, прадухіленьня і пакараньня за злачынствы супраць прыроды чалавека і традыцыяў маралі, прынятай у грамадзтве.

Патрабаваньне: усе палажэньні мусяць быць канкрэтна названыя і сфармуляваныя. Не павінна быць агульных фармулёвак.

Дэфініцыі мусяць быць дакладнымі, у якіх выключаны магчымасьці падвойнага ці шырокага прачытаньня.

У гэты ж закон трэба ўключыць адназначнае палажэньне (артыкул) аб забароне ўсялякай папулярызацыі, рэклямы, агітацыі і прапаганды гомасэксуалізма, лезбійства, пэдафіліі, садызму і г. д. (пералічыць канкрэтна збачэнствы, небясьпечныя і шкодныя для людзей).

Лабізм збачэнстваў хутка пашыраецца. Выяўляецца цёмная стратэгія па захопу ключавых пазыцыяў. Беларуская дэмакратычная ўлада не павінна будзе прымаць пад увагу ніякія тэндэнцыйныя экспэртызы медыцынскіх і навуковых арганізацыяў у лібэральным сьвеце, якія прымаюць рашэньні шляхам галасаваньня (САЗ і інш.). Навука ня робіцца шляхам падняцьця рук. Галасуе толькі парлямант.

У законе аб дэвіантах і збачэнстве мусіць быць адзначана, што сама дэвіацыя не зьяўляецца злачынствам, але толькі дзеяньні, якія прынесьлі шкоду людзям і грамадзтву на аснове дэвіацыі.

Дэвіянт сам па сабе таксама не зьяўляецца злачынцам, але як асоба са збочанымі палавымі схільнасьцямі ён належыць да патэнцыяльнай групы рызыкі злачынства. Першая частка дэфініцыі прадухіляе спакусу для міліцыі і службы бясьпекі выкарыстаць такога чалавека шляхам запалохваньня ў якасьці агента.

Другая частка павінна ўплываць на допуск да працы і прафэсіі. Пэдафілам і пэдэрастам, напрыклад, павінна быць заканадаўча забаронена працаваць у школе, дзіцячых садках, летніках моладзі, скаўцкіх групах і г. д. – усюды, дзе ёсьць непаўналетнія дзеці.

Улік дэвіантных асоб будзе весьціся, але закон мусіў бы забараняць разгалошаньне зьвестак; перасьлед толькі за дэвіянцтва мусіць быць забаронены і караны. Закон не павінен выключаць такіх асобаў з грамадзтва, але рэглямэнтаваць іх паводзіны так, каб прадухіліць небясьпеку для іншых людзей і парушэньне чалавечага права на маральнае здароўе. Гэта значыць першым чынам павінна быць забаронена прапаганда, папулярызацыя, рэклама і навязваньне інфармацыі пра асобаў з палавымі адхіленьнямі і паталогіяй.

У юрыдычнае азначэньне павінна быць ўведзена таксама кваліфікацыя такога злачынства (якое ўзьнікла на лібэральным Захадзе) як прапаганда і распаўсюджваньне палавой нянавісьці (нянавісьць па палавой прыкмеце да папуляцыі іншага полу; тут асобны від агрэсіўнай мізантропіі). Гэтае адхіленьне павінна ацэньвацца ў беларускім дэмакратычным заканадаўстве гэтак жа, як прапаганда ксэнафобіі, міжнацыянальнай нянавісьці і розьні.

Увогуле абарона права нармальных людзей на маральнае і псіхічнае здароўе ад агрэсіі збочанасьці і паскудзства павінна разглядацца як асноўнае права чалавека, як міжнародная праблема, народжаная “дэвіянтнай” левалібэральнай уладай на Захадзе.

Трэба асабліва адзначыць, што ўсе шматтысячныя пратэсты нармальных людзей на Захадзе супраць збочанасьці левай улады і выступленьні за нармальнасьць жыцьця абсалютна там не прымаюцца пад увагу, быццам гэта і ня людзі вышлі на вуліцы. Чатырыста тысяч асобаў зьбіраюцца з пратэстам супраць ненармальнасьці пад сьценамі парляманту (Іспанія), а ён усяроўна галасуе за гомасэксуальныя саюзы і за «правы» дэвіянтаў. Ну, дакладна, як антыбеларускі рэжым Лукашэнкі ў Менску: нуль увагі, толькі што АМОНа няма і палкамі не малоцяць па галовах жанчын. Праўда, каб у Менску выйшла чатырыста тысячаў, то ад рэжыма засталася б толькі пара (разам з

АМОН-ам), а ў левай Эўропе – хоць бы што. І народ цывілізаваны, не кідае ні цэглай, ні кменем”.

Агрэсія дэвіантаў, якія адчулі падтрымку левалібэральных уладаў, нарастае з кожным днём. За сорак апошніх гадоў маральнага маразму адхіленьні ад нормы занялі, фактычна, зыходныя пазыцыі ў заходняй літаратуры і сродках масавай інфармацыі, у заходнім мастацтве (якое ператварылася ў клааку), у маскультуры і кіно (у Галівудзе, які ўжо амаль поўнасьцю пад кантролем збачэнцаў, створаная нават так званая «гомасэксуальная мафія»), уплыў дэвіянцтва распаўсюджаны на цэлыя сэгменты бізнэсу, адчувальны ў шэрагу міжнародных арганізацыяў.

Капітуляцыя народаў перад паскудзтвам зьдзіўляе і нават шакуе. Адзін пажылы амэрыканскі беларус сказаў мне, гледзячы на ўсё, што адбываецца: «Ведаеш, я не хацеў бы жыць у такім сьвеце». Выказваньне прадчувальна прарочае, бо ў сьвеце, які можа стацца, нармальным людзям ня будзе куды падзецца.

І ўсё ж, у чым прычына, што ў культурных, але бязбожных асобаў аказаўся слабы імунітэт на ненармальнасьць і палавую паталогію людзкіх дачыненьняў? На мой погляд прычынай тут ёсьць унутраннае (можа нават падсьведамае) ***імкненьне многіх людзей мець права на распусту.*** Жывучы ва ўстаноўленай добрай традыцыі, людзі падпарадкоўваліся прынятым нормам маралі, законам, і здароваму сэнсу, прымаючы ўсё як разумнае і належнае, хоць у думках (шмат хто) і ў жаданьнях сваіх былі не пазбаўленыя спакус і распусных фантазій. Калі яны ажыцьцяўлялі свае распусныя жаданьні, то разумелі, што гэта адыход ад прынятых маральных паводзінаў. Нягледзячы на такія адступленьні (колькі б іх не было), ў грамадзтве захоўвалася маральна-ацэначная норма паводзінаў, якая ўплывала на духоўнае здароўе грамадзтва і на выхаваньне маладых грамадзян.

Левалібэралізм таемнае жаданьне распусты аб'явіў правам чалавека, пастулатам яго свабоды, адмяніў маральнае табу. Нічога дзіўнага, што такая пазыцыя знайшла прыхільнікаў.

У 2001 годзе рэспэктабельная нью-ёрская штодзённая газэта «Новое русское слово» *(НРС, -- 2001, 12 сакавіка)* падводзіла вынікі мінулага стагоддзя і пісала пра ўступленьне ў трэцяе тысячагоддзе. Цытуецца адыёзная фігура расейскага палавога разбэшчваньня людзей акадэмік Расейскай Акадэміі адукацыі Ігар Кон, які сказаў, што «галоўным дасягненьнем мінулага стагоддзя» ёсьць (працытую нават па-расейску) «отодвигание репродуктивной функции секса на последний план. Теперь человечество, занимаясь сексом, думает не о детях, а об удовольствии».

У асобаў тыпу Кона сваё збочанае разуменьне жыцьця. Але самае сумнае ў тым, што ў вызначэньні тэндэнцыі рэгрэсу (для Кона – прагрэсу) расейскі «растлитель» не памыліўся. Якраз у гэтым накірунку і скочваецца дэградацыя сацыяльна-палавых дачыненьняў людзей. Кожнаму гэта бачна няўзброеным вокам.

Газэта цытуе яшчэ аднаго гэтакага ж -- маскоўскага прафэсара з МГУ, які тут жа сцьвярджае, што расейскія жанчыны адстаюць у разьвіцьці ад «замежных сяброўак», бо аж «шэсьць адсоткаў масквічак ва ўзросьце да 35 гадоў застаюцца дзяўчынамі. А, напрыклад, у Стакгольме такіх у шэсьць разоў менш», -- паведамляе прафэсар. Распуснасьць, нячыстасьць маладых жанчын – гэта для яго добра.

Такія прафэсары за часы камунізму былі членамі КПСС, славілі Леніна і пісалі супраць гнілога Захаду. Пасьля ліквідацыі КПСС сталі пісаць «за» гнілы Захад. Але ў сутнасьці нічога не зьмянілася, бо агульны антыхрысьціянскі, антычалавечы накірунак застаўся. Для такіх асобаў быццам і цывілізацыі не было, і двух тысячагоддзяў Хрысьціянства, і духоўнага разьвіцьця культуры і вопыту чалавецтва. У іх іншае жыцьцё, іншыя задачы.

Ізноў жа гэта ня толькі выверты, але і вынік дуалізму чалавечай прыроды, глыбока закарэненай ў ёй магчымасьці дабра і зла. Лявацкая разумовая агрэсія і

лібэральная ідэалогія даюць выхад якраз схільнасьцям і інстынктам, накіраваным на разбурэньне маральнай асобы, створанай хрысьціянскай культурай.

Франтальная левая атака на хрысьціянскага чалавека пачалася з самага пачатку XX-га стагоддзя са зьяўленьнем у палітыцы камуністычнай дактрыны і трывала, практычна, ўсё стагоддзе. Пры гэтым на Захадзе назіралася тэндэнцыя легалізаваць ня толькі гомасэксуалістаў, але і пэдафілаў.

На пачатку 2000-х выявілася, напрыклад, што лявацкі эўрадэпутат у Эўрапарляманце ад партыі «эялёных» Даніэль Кон-Бендзіт у 70-х гадах быў пэдафілам і сам тады пра тое напісаў у сваёй кнізе. Ён так напісаў, бо не баяўся. Тады ўжо ў Эўропе спрабавалі адносіцца да пэдафілаў амаль што цярпіма («правы» ж чалавека).

У друку прыводзяцца факты *(НРС, -- 2001, 12 сакавіка),* калі ў 1977 годзе ў шэрагу выданьняў сацыялістычнай арыентацыі была надрукаваная пэтыцыя ў абарону трох арыштаваных пэдафілаў. Яе падпісалі левыя французкія грамадзкія дзеячы, філосафы, літаратары: Луі Арагон, Андрэ Глюксман, Жак Дэрыда, Жан-Поль Сартр, Ален Роб-Грыйе, Сымона дэ Бавуар... (Гэта якраз тыя імёны, якія можна было называць у СССР.)

Легалізаваць пэдафілаў левакам тады не ўдалося. Але з пэдэрастамі яны проста селі на галаву чалавецтву.

Людзі, відаць, яшчэ недаацэньваюць небясьпекі, якая згушчаецца над грамадзтвам. Заходжу ў кнігарню ў Варшаве. Цэлая палічка «тамоў» нейкай мадам рускага паходжаньня. Піша пра ўсіх вядомых людзей чалавецтва, пачынаючы ад фараонаў, з «указаньнямі» на іх разнабаковае дэвіянцтва. Па гэтых апісаньнях, дык нармальных людзей ў гісторыі ўвогуле не было. Усе то пэдалы, то садысты, то пэдафілы, то нэкрафілы, то скаталожцы і г. д. Фальшыўкі, але маскультура патрабуе смажанага. Тут такі бізнэс, дзе грошы ня пахнуць... Але пра што пішацца, што фальсіфікуецца, што прапагандуецца, на якую тэму. І стараюцца гэтыя выдумкі ўціснуць у гісторыю для падтрыманьня і апраўданьня легальнага існаваньня дэвіянтаў.

Ведаю толькі адзін выпадак, калі вядомы латышскі сэксолаг і гіпнолаг, аўтар шматлікіх кніг Яніс Заліціс, відаць, абурыўся лухтой і аргумэнтавана прафэсійна даказаў, што Пётр Чайкоўскі ня быў гомасэксуалістам, як пастаянна пішуць розныя выдумшчыкі ды іншыя ерэтыкі Спарты і Лесбаса дзеля падтрыманьня сваіх адхіленьняў.

Агрэсія дэвіянтаў і нахабства павялічваецца з кожным годам у краінах, дзе такога ніхто ня мог уявіць. У самалёце бяру лібэральную польскую газэту (за 24 ліпеня 2013 г.). Некалькі матэрыялаў пра гомасэксуалістаў (няма больш важных пытаньняў). Словы вынесеныя ў загаловак: «Мы ў XXI стагоддзі і мусім ахоўваць усе меншасьці». «Палітыка супрацьдзеяньня неталеранцыі павінна быць цалкавітай». Лібэральная журналістка нападае на міністра, чаму той не ахоўвае «сэксменшасьці». Міністар апраўдваецца і ... просіць прабачэньня, калі дзе быў няўважлівы да збочаных. Чаму ў школах ня вучаць пра гомасэксуалістаў? -- насядае журналістка. Міністар жаласна апраўдваецца. Чаму ў падручніках для школаў няма пра «сэксменшасьці» і г. д. (Дэвіянты рвуцца ў школы.) Ляйтматыў газэтнай агрэсіі, каб дамагчыся, што за выказваньні супраць гомасэксуалістаў трэба караць, лічыць гэта злачынствам і ўключыць у карны кодэкс. Трэба, маўляў ураўняць правы нацыянальных мяншыняў і гомасэксуалістаў і г. д. (У Іспаніі левы парлямант пару гадоў таму побач з правамі чалавека прызнаў правы шымпанзэ.) Міністар блытаецца, палохаецца, кажа што будзе старацца... Гэта неверагодна ў каталіцкай Польшчы, але факт.

Тут мушу ізноў у каторы раз падкрэсьліць, што небясьпека ідэалагічнага таталітарызму і масавых вынішчэньняў людзей (на гэтай аснове) вырастае з маргіналізму. У адрозненьне ад сэкты ці гета (якія самаіізалююцца ад грамадзтва) маргінальная ідэйная група накіравана на перабудову грамадзтва і на зьмяненьне

(паляпшэньне) чалавецтва, мэтадамі вядомымі толькі ёй. Пры гэтым выяўляецца псіхалагічны комплекс зашчэмленага непрызнаньня, які пераходзіць у помсту, агрэсію і нянавісьць. Калі такая група нейкім чынам прабіваецца і захоплівае ўладу – вынікам будзе таталітарны рэжым, рэпрэсіі і сацыяльная катастрофа.

У Эўропе XVIII-XIX стагоддзяў было поўна ўсялякіх маргінальных групаў, рэвалюцыянераў, містыкаў, масонаў ды іншых паляпшальнікаў грамадзтва. Рэальна ў выніку неверагоднага зьбегу абставінаў да ўлады прабілася толькі адна – камуністы (бальшавікі). Вынік вядомы.

У 30-х гадах XX-га стагоддзя, таксама пры неверагодным зьбегу абставінаў, у Нямеччыне да ўлады прывялі (аформленую ў партыю) маргінальную групоўку (якая б ніколі не загарнула ўлады дэмакратычным шляхам). Вынік таксама вядомы.

Да гэтай жа катэгорыі маргіналаў належылі «чырвоныя кхмеры» ў Камбоджы (вынік жахлівы), Талібан на Усходзе і некаторыя іншыя групоўкі, якія яшчэ не праявіліся.

На сёньняшні дзень найбольш агрэсіўнай, пасьпяховай і разгалінаванай маргінальнай групай, якая мае стратэгію і тактыку змаганьня, падтрымку з боку бізнэсу і распусна думаючых людзей ёсьць шырокая катэгорыя дэвіантаў (сярод якіх верхаводзяць лесбы і гомасэксуалісты). Катэгорыя пашыраецца і ня толькі на Захадзе, дзякуючы прапагандзе па тэлебачаньні, доступу ў школы, выступам псэўда-спэцыялістаў і псэўдавучоных. Дэвіацыя расьце колькасна. Уплыў агрэсіі дэвіантаў на ўсе сфэры жыцьця лібэральнага сьвету (акрамя каталіцызму, зь якім яны змагаюцца) заўважны і непрапарцыянальны, прысутнасьць ў СМІ і прапагандзе – гіпертрафаваная. Яны (яшчэ пакуль колькасна нязначныя) пасьпелі ўжо падпарадкаваць свайму ўплыву пэўныя ключавыя пазыцыі ў грамадзтве, акрамя ўлады. Але гэта можа стацца справай не такога ўжо і далёкага часу.

Відаць, што грамадзтва ў цэлым і шмат якія людзі абсалютна не разумеюць, што іх можа чакаць, бо яны яшчэ ніколі не былі пад уладай Садома й Гаморы. Калі б такое сталася, то чырвоны ды карычневы фашызм пэўна мог бы здавацца ім раем перад фашызмам садомскім, бо сама Апраметная, Пекла і цемра ідуць за ім.

Дарэчы, каб убачыць ужо цяпер, што гэта такое можна паглядзець відэазапіс, зроблены у час нападу тысячаў паўголых збачэнцаў (пэдэрастаў і лесбаў) на каталіцкі храм у Аргентыне. (Інтэрнэт-адрас на <ютубе> : http://www.youtube.com/watch?v=ZKVTj0TUnHk ). Маладыя каталікі сталі сьцяной перад касьцёлам і гаварылі малітву, а ашалелыя збачэнцы з перакошанымі ад нянавісьці тварамі, нападалі на іх плявалі ў твар, пэцкалі іхныя абліччы і адзеньне фарбай, пісалі лёзунгі «Хрыстос – гей», кідаліся прадметамі, завывалі і ўлюлюкалі, дэманстравалі лесбійскія палавыя акты, Трэба бачыць гэтую аўтэнтычную сатанінскую вакханалію, каб уявіць магчымы правобраз будучыні. Але яна ўжо існуе паміж людзей і адкрыта дэманструе сваю грэблівасьць і нянавісьць да чалавецтва.

**Нянавісьць да чалавецтва** ёсьць галоўнай рысай дэвіанцкай псіхалогіі і дэвіанцкіх паводзінаў. Прытым трэба ўлічваць злую псіхіку маргіналізму. Калі іх толькі малая група, -- гэта адзін тып паводзінаў (часам цалкам адэкватны). Калі збачэнцаў цэлы натоўп – гэта іншы тып агрэсіўнага захаваньня (можна бачыць на відэа) і прырода сатанізму адчыняецца сама сабой.

Эфэктам колькасьці (прынцыпам зграі, шабашу) карыстаюцца цяпер палавыя дэвіанты ва ўсім сьвеце і зьбіраюцца сусьветным натоўпам ў адпаведных месцах. Пад касьцёл ў Аргентыне зьехаліся збачэнцы з усёй Аргентыны і Лацінскай Амэрыкі. Складваецца ўражаньне вялікай масы і цёмнай сілы. У масе выяўляецца адэкватная сатанінская прырода зьявы (на відэа можна ўбачыць нават вальпургіевае вогнішча, кружэньні вакол яго і завываньні).

Дастаткова каму-небудзь зь вядомых людзей у лібэральным сьвеце выказацца крытычна пра легалізацыю збочанасьці, як адразу ўзьнікае і пачынае выконвацца мэтодыка зграі -- сусьветны вэрхал збачэнцаў. Выступоўцу супроць ненармальнасьці пачынаюць атакаваць адпаведна настроеныя ўзбуджаныя журналісты, выскокваюць на

трыбуну пэдэрасты ў парлямантах, ў Эўраструктурах, ў сродках масавай інфармацыі, ў розных лібэральных арганізацыях. Аргумэнтаў апанэнта ніхто ня слухае, стаіць гучны галас пакрыўджаных, абураных і агрэсіўных, ствараецца ўражаньне шырокай грамадзкай думкі. А на самай справе – гэта вынік маргінальнай салідарнасьці -- традыцыйнай тактыкі зла, пранікненьня яго ў грамадзкія, уладныя, інфармацыйныя і іншыя ключавыя структуры, выкарыстаньня іх і стварэньня неадэкватнай масавай грамадзкай рэакцыі на фоне пасіўнасьці і канфармізму насельніцтва, якое лічыць, што легалізацыя збачэнцаў не пагражае іхным сацыяльным інтарэсам, то і праймацца няма чаго.

Але праймацца ёсьць чым. Як кажацца, ужо няўзброеным вокам відаць, што ідзе дрэсіроўка грамадзтва. Нармальныя людзі шмат дзе на Захадзе ўжо заікнуцца баяцца пра гомасэксуалістаў ды агрэсію дэвіантаў, каб не пасыпаўся на іх ліберальны «гевалт».

Таталірызацыю маргіналізма чалавецтва (зь вялікімі стратамі) перажывала ня раз. Часта людзі (асабліва на Захадзе) забываюцца пра гісторыю і не разумеюць, што такое ўлада, калі яна пераймае форму маргінальнай ідэалогіі. Хоць такое было і зусім нядаўна. Дэмакратыя ператвараецца ў тыранію і вельмі невялікая колькасьць асобаў (а то і адна асоба) пачынаюць самаісна вырашаць парадак жыцьця (альбо лёсы і жыцьці людзей). Гэтакае пераўтварэньне можа адбывацца, напрыклад, праз падмену сутнасьці дэмакратыі прыдуманымі «дэмакратычнымі каштоўнасьцямі», куды звальваюць разам з прынцыпамі дэмакратыі ўсялякія ідэалагічныя выверты і сацыяльныя адхіленьні. Тым часам ***дэмакратыя – гэта не каштоўнасьці, а форма ўлады.*** Каштоўнасьці -- сфэра ідэалогіі і культуры.

Тое, што прапаганда гомасэксуалізму зьяўляецца ня толькі ўнутранай, але і зьнешняй палітыкай лібэралізму – гэта відавочны факт. Фонды і арганізацыі Захаду дапамагаюць стварэньню гомасэксуальных суполак у іншых, яшчэ маральна здаровых краінах, даюць суполкам грошы, патрабуюць выпускаць (і аплочваюць) часопісы гамасэксуальнага накірунку (напрыклад, у Менску), патрабуюць рабіць “парады”, даюць грошы на рэкляму і г. д. – усё пад выглядам дапамогі “дэмакратыі”. Дэвіянты, зьбіўшыся ў арганізацыі, ўжо ўмешваюцца ў палітыку іншых краінаў, імкнуцца арганізаваць байкоты, дэманстрацыі нянавісьці, кампаніі нападак і г.д. Назіраецца павелічэньне дэвіантнай агрэсіі разам з павелічэньнем колькасьці збочаных людзей. Таксама назіраецца тэндэнцыя стварэньня на Зямлі лакальных зонаў, дзе б збачэнцы ўяўлялі большасьць насельніцтва (у гісторыі чалавецтва такое ўжо было ў паганскай цывілізацыі).

Нядаўна (жнівень 2013) прэзыдэнт ЗША Абама зрабіў фэнамэнальную заяву ў эфіры тэлеканала NBC. Ён ў завуаляванай форме выступіў супраць расейскага закона аб забароне прапаганды гомасэксуалізма і заявіў, што ЗША ня сьцерпяць парушэньняў правоў гомасэксуалістаў на Алімпійскіх гульнях у Сочы.

Нават цяжка паверыць, што такое было сказана. Справа ня ў тым, што на тэрыторыі Расеі дзейнічаюць законы Расеі, а не ЗША. У пуцінскай Расеі шмат беззаконьня, ў турму садзяць людзей па палітычных матывах, забіваюць праваабаронцаў і журналістаў, забіваюць нязгодных сьвятароў, пашыраюцца фашыстоўскія арганізацыі – ўсё гэта для палітыкаў тыпу Абамы, аказваецца, не істотна, а вось збочанасьць, ненармальнасьць, адкіды прыроды – гэта галоўнае, гэта добра, тут робяцца заявы на вышэйшым узроўні.

На парадку дня сапраўды стаіць задача міжнароднага змаганьня супраць збачэнскай нянавісьці да чалавецтва (супраць мізантропіі маргіналаў, ўзьнятых на шчыт). Ўзьнікае **задача барацьбы за маральную нармальнасьць грамадзтва, за права на нармальнасьць, супраць засьмечваньня жыцьця дэвіантнымі адносінамі ды яшчэ і аплатай збачэнства за кошт нармальных людзей.** На мой погляд, неабходнасьць такога міжнароднага антылібэральнага руху выяўляецца ўсё больш і часьцей. Народы мусяць бараніць хрысьціянскія (і ўвогуле рэлігійныя)

каштоўнасьці, традыцыі і маральнае здароўе сваіх грамадзян, асабліва зразумеўшы, што з такой лявацкай ідэалёгіяй няма ніякай будучыні, акрамя катасрофы. Легалізацыя дэвіанцтва рэалізуецца, як ўсьвядомленае глабальнае зло, якое адкрыла ахілесавую пяту бязбожнага чалавека (распусныя ўяўленьні аб сэксуальнай свабодзе) і вядзе яго да гуманітарнага выраджэньня.

Мяркую, што мусіць быць створаная **дэклярацыя аб абароне прыроды чалавека** і прынятая на міжнародным узроўні як каштоўнасная арыентацыя для распрацовак нацыянальнага заканадаўства. Перш за ўсё яе павінны б прыняць рэсурсныя краіны і палажэньне аб ахове прыроды чалавека уключыць у сваю палітыку і патрабаваньні іх выконваць найперш ў тых краінах, дзе пошасьць легалізавана. Адпаведна павінна быць распрацавана сістэма санкцый і абмежаваньняў па аналагічнай схеме, па якой лібэралізм распаўсюджвае свае антыкаштоўнасьці.

Трэба ўлічыць, што легалізацыя амаральшчыны, сацыяльнага дна, адхіленьняў ад нармальнасьці і ўцэлым чалавечага зла – гэта сістэмная зьява ў левалібэральным сьвеце. Яна зыходзіць з разбуральнай псіхалогіі левізны, якая заўсёды расчышчала дарогу, бязбожніцтву, сатанізму, разбурэньню асноў і культурных табу. Левізна інтэрнацыянальная і касмапалітычная. Сумяшчэньне лявацтва з маёмнай алігархіяй – гэта выверт сучаснай лібэральнай сістэмы, дзе ўжо выбудаваны цэлы ланцуг разбурэньня нацыяў, культуры і паразітнага абагачэньня. Легалізацыя палавога дэвіанцтва, свабода абортаў, адмена сьмяротнага пакараньня для паталагічных забойцаў і злачынцаў супраць чалавецтва, антыхрысьціянства, дэградацыя сям'і і разбурэньне маральнай сістэмы выхаваньня дзяцей, катастрафічнае разбурэньне мастацтва, праз ліквідацыю эстэтыкі і г. д. -- ўсё гэта сістэмна павязана адзінай стратэгіяй зла, ўсё гэта вынік левалібэральнай палітыкі (у якой зацікаўлена алігархія, бо лягчэй эксплуатаваць натоўп), усё гэта вынік лявацкага сьветапогляду і рэлятывісцкага разуменьня жыцьця.

У апошні час ў некаторых заходніх краінах назіраецца пэўнае працьверазеньне ў грамадзтве і адварочваньне ад палітыкі левакоў, перастаюць таксама зьвяртаць увагу на піяр і правакацыі збачэнцаў (яны праста шмат каму ужо надакучылі сваім ненатуральным вэрхалам і прысутнасьцю ў мэдыях). Але гэта ніякі не паварот да нармальнасьці, толькі спад цікавасьці да вычварэнскай моды. Усе зыходныя пазыцыі засталіся, якія пагражаюць прарасьці новым сацыльным вычварэнствам.

Само па сабе гэтае цёмнае наваджэньне, гэтае зьмярканьне Захаду не міне, ня зьнікне і ня пройдзе. Мусіць быць здаровая ініцыятыва. Ініцыятыва зьверху, зьнізу і з вонку, якая прымусіць лібэральны Эўразьвяз паважаць дэмакратыю (а не антыкаштоўнасьці дэмакратыі), шанаваць нацыянальныя традыцыі і культуру народаў, прыроду і правы нармальнага чалавека, здаровае разьвіцьцё грамадзтва. Мусіць адбыцца **санацыя Эўропы ад левалібэральнай дэвіянтнай чумы.** Пакуль гэта яшчэ магчыма коштам здаровых рэсурсаў эўрапейскага грамадзтва і шляхам выкарыстаньня здаровых асноваў дэмакратыі.

Тое, пра што я тут пішу, ня ёсьць перабольшаньнем. Тут няма завышанай ацэнкі зьявы і, тым больш, няма ніякага эмацыйнага ўспрыняцьця. Дастаткова элемэнтарнага рацыянальна-лагічнага аналізу з апорай на факты да на сацыялогію і гісторыю нашай цывілізацыі, каб ўсё выразна ўбачыць што адбываецца, як бы дзіўна яно не выглядала. Настаў час абараняць культурнае здароўе народаў, гуманітарныя і маральныя каштоўнасьці хрысьціянскіх краін. І гэта не фраза. Ўсё ужо зразумела. Патрэбныя дзеяньні. Яны павінны пачацца.

Для нас, беларусаў, якраз вельмі важна, каб была нармальная Эўропа, Эўропа хрысьціянаў, Эўропа сяброў, а не збачэнцаў, не мянялаў, якія гэтак жа, як цяпер антынароднаму рэжыму, будуць ставіць потым беларускай дэмакратыі свае збочаныя ўмовы. (Мы бачым, што робіцца ва Ўсходняй Эўропе.)

На Захадзе ёсьць вялікія станоўчыя і незадзейнічаныя сілы. Прыдзе час, і яны прачнуцца.

*Ліпень-сьнежань 2013 г. жнівень 2015 г.* Зянон Пазьняк

# СЛОВЫ І РЭАЛЬНАСЬЦЬ

***(Выступ на лютаўскім 2015 г. Сойме КХП-БНФ і БНФ “Адраджэньне”)***

Псіхалогія чалавека выяўляецца часта даволі парадаксальна: колькі б яму ні хлусілі нахабна ў вочы і, нават, са зьдзекам, ён заўсёды будзе ўсяму верыць, калі хлусьня адпавядае ягонаму хаценьню і ягоным інтарэсам. 20 гадоў хлусіць Лукашэнка. Хлестакоўшчына ў квадраце. Чаго толькі ён ні нагаварыў, ні нахлусіў. І ўсяроўна вераць. Рацыё, вопыт, розум – тут адключаныя. Хоць відаць, што дзеяньні хлуса супрацьлеглыя таму, што ён кажа. І тым ня менш мяркуюць не па справах, а па словах. Прытым зьяўляецца цэлая група гаваруноў, якія з розных бакоў сур’ёзна аналізуюць і паўтараюць словы махляра. Гэтак хлусьня робіцца ўсямоцнай і людзі пачынаюць жыць па хлусьні.

Праводзячы акупацыйную палітыку, антыбеларускі рэжым запланавана разбурыў беларускую школу, асьвету, адукацыю, ліквідаваў навучаньне і выкладаньне па-беларуску, зьневажаў вялікую Беларускую мову – мову слаўнай гісторыі, разумных людзей навукі, мастацтва і культуры. І вось нядаўна, у 20-х днях студзеня гэтага года, Лукашэнка выдае фразу для яго нехарактэрную і ў прынцыпе немагчымую аб патрэбе пашаны да беларускай мовы і культуры. Тут жа выступае міністар адукацыі і кажа, што трэба вярнуць выкладаньне асобных прадметаў у школе па-беларуску. Загаманіла група гаваруноў і аматараў быць ашуканымі. І паехала...

Натуральна, што паводле сказанага нічога ня робіцца і нічога ніхто ва ўладзе не зьбіраўся рабіць дзеля абароны мовы. Наадварот, узмацніліся рэпрэсіі, ліквідуюць беларускае навучаньне там, дзе яно яшчэ ліпела. Тым часам нават сур’ёзныя людзі пачынаюць разважаць, што вось, маўляў, цяпер гэтая хамская ўлада нацыянальнага вынішчэньня ім беларускую мову і школу верне.

Ня буду рабіць ніякіх ацэнак дурноце (яна вечная). Мушу толькі напісаць пару слоў пра рэальнасьць і рэальны сьвет.

Таго постсавецкага сьвету ілюзорнай дэмакратыі, бясьпекі і гарантаванага міру больш не існуе. Працягваецца руская агрэсія супраць Украіны, вайна стукае ў нашы дзьверы.

Нечаканыя выказваньні беларусажэрцы і начальніка рэжыму ды яго міністра пра каштоўнасьць беларускай мовы і школы (і пры гэтым без аніякіх рэальных спраў) – гэта, аказваецца, банальная ў інфармацыйнай вайне падача на млын рускай прапаганды і дубаломнай гёбэльсаўшчыны. І разьлічана яна не на беларусаў, але на рускі плебс у Расеі, ужо абалванены “крымнашам” і тэлехлусьнёй. Руская прапаганда адразу, тут жа пачала ствараць для расейцаў вобраз “беларускага фашызму”, які, маўляў, забараняе рускую мову, які будзе “выганяць рускіх”, які “скінуў маску” і пагражае “рускаму миру” і “святой Руси” і г.д. Усё знаёма. Усё пайшло, як па ўкраінскім сцэнары перад уварваньнем у Крым. Плянуючы інвазію, Масква мусіла ствараць вобраз украінскага ворага ў галовах расейскіх абывацеляў і толькі тады рушыць на захоп Украіны. Так зьявіліся “укры”, “украінцы-фашысты”, “бэндэраўцы”, “уціск рускіх”, “прымус” да ўкраінскай мовы, “легіёны НАТО” у Данбасе і г.д. Але была фармальная прычына для крамлёўскай прапаганды – кіеўскі Майдан.

У Беларусі такой прычыны няма. Няма ніякай прычыны. Тут – цішыня, бо, практычна, ужо задушана, зьнішчана і разбурана амаль усё, што магло б мець свой голас. Поваду для рускага ўварваньня не існуе. У такіх абставінах агрэсія выглядала б непераканаўчай, неабгрунтаванай для свайго расейскага насельніцтва. Рускім патрэбны быў повад, каб пачаць антыбеларускую прапаганду і падрыхтоўку ў мазгах расейскага люмпэна. Повад агучыў Лукашэнка зь міністрам. Атрымаўшы “пас”, руская прапаганда адразу запрацавала.

Праз тыдзень (29 студзеня) правакатар сабраў вялікае шоў з журналістамі і панёс сваё звыклае і адваротнае пра “рускіх на чамаданах”, пра “агалцелых” нацыяналістаў, пра “сьвятую Расею”, пра тое, які ён “рускі” (нагадаю, што ўкраінцам ён

ужо казаў, што ён украінец, габрэям, што мае габрэйскія ўплывы, а беларусам, што ён "факцічэскі" беларус, но "русский со знаком качества"), сказаў пра дрэнную беларускую мову, няздольную да фізыкі, філасофіі, хіміі, паўтараў іншую слоўную гапату.

Такім чынам крамлёўскія і менскія гопнікі ва ўладзе думаюць, што яны пачалі артылерыйскую падрыхтоўку і татальны рускі наступ спраць Беларусі. Наступ, вядома, будзе працягвацца. І калі дасьць вынікі (перш за ўсё ў Расеі), тады настане другі этап (які будзе залежаць, аднак, ад падзеяў ва Украіне).

Ёсьць зьявы ў працэсах, якія вызначаюцца адпаведна (адпаведным чынам). Гэта трэба мець на ўвазе. І пра тое зноў варта нагадаць.

Ніякая палітыка і ніякія захады ня спыняць Пуціна і Расею, акрамя сілы.

Калі пасьля захопу Крыма Захад прымусіць Украіну саступіць Данбас (каб супакоіць агрэсара) – наступнай рускай ахвярай стане Кіеў. Пуцінскай пачцы патрэбны не Данбас і не прыдуманая "наваросія", а Украіна. Бо без Украіны не адбудзецца "эўразійскага саюзу" – ідэі-фікс рускага гэбізму на шляху аднаўленьня былой расейскай імпэрыі.

Рускае войска (на якое выдаецца цяпер 25 адсоткаў бюджэту) ужо на сёньняшні дзень можа весьці некалькі гібрыдных войнаў адначасна (трымаць некалькі франтоў). Так званыя мірныя перамовы па Данбасу выгадныя толькі Расеі. Далейшае зацягваньне зь ліквідацыяй расейскага тэрарызму ў Данбасе (няпродаж зброі ўкраінцам) і палоханьне Расеі санкцыямі прывядзе не да перамогі Захаду, а да яго палітычнай паразы і да павелічэньня ахвяр і кровапраліцьця ва Украіне. Адкрыцьцё 2-га "беларускага фронту" цалкам верагоднае насуперак усялякім "разумным аналізам". А калі выбухне неабходнасьць, то будзе яшчэ і 3-ці Фронт на Каўказе. Расеі на ўсё хопіць. Успомнім 1918-20 гг. – пэрыяд інтэрвэнцыі і грамадзянскай вайны. Там, у Расеі, ніхто цяпер не замахнецца і не разгоніць гэбоўскую пачку Пуціна, як не разагналі раней бальшавіцкую пачку Леніна. Расея – гэта татальная ваенная дзяржава з масавай мэсіянскай сьвядомасьцю. У час вайны там заўсёды "партия и народ едины". І толькі параза ў вайне дэзарганізуе гэтае "адзінства" і прыводзіць да выступу супраць улады (што і здарылася ў 1905 і ў 1917 гг.). Параза ў Данбасе скончыла б з Пуціным і з гэбісцкім Пуцінізмам. Але замест рэальнай дапамогі Украіне, эўрачэмбэрлены хочуць улагодзіць тэрарыста і дамовіцца з гвалтаўнікам.

Лукашэнка ня выступіць супраць Масквы. Пры ўзмацненьні агрэсіі ён падтрымае Расею. Па яе жаданьні ён прапануе беларускую тэрыторыю і беларускае войска для наступу на Кіеў.

У выніку магчымага наступу Расеі на Беларусь Лукашэнка ня будзе адстойваць сувэрэнітэт і тэрыторыю краіны, калі гэта загрозіць ягонай уладзе. Ён ніколі не падтрымае (ня блытаць са словаблудзтвам) беларускую мову, Беларускі Сьцяг, Беларускі гэрб "Пагоню", беларускую нацыянальную культуру і беларускую свабоду.

Пра Захад. Дбаючы пра свае геапалітычныя інтарэсы і палітычны камфорт, Захад (гэта значыць Эўропа і ЗША) здольны цяпер падтрымаць Лукашэнку, заплюшчыўшы вочы на зьнішчэньне нашых нацыянальных каштоўнасьцяў, нашай мовы і на свае расхваленыя "правы чалавека". Ён схільны дазволіць рэжыму наша поўнае нацыянальна-культурнае разбурэньне ўзамен за супрацоўніцтва. Гэты "Захад" быў такім заўсёды і такім заўсёды будзе. У адрозьненьне ад Расеі, ён ня ёсьць нашым ворагам. Але ён прыяцель самому сабе.

У папярэднім допісе я ўжо пісаў пра руска-лукашысцкую лабістыку і агентуру ў Амэрыцы і Эўропе (адзначана прозьвішча такога Балажа і інш.). Апошнія дакуманты, выяўленыя праз "вікілікс", якія трапілі ў друк, дакумэнтальна пацьвярджаюць змову адміністрацыі Абамы з лукашысцкімі інтарэсамі і асобамі. Амэрыка таемна схільная падтрымліваць рэжым Лукашэнкі, зыходзячы з геапалітычных меркаваньняў.

Прычын таемнага павароту абамаўскай Амэрыкі да лукашызма некалькі. Найперш, гэта, практычна, поўны параліч беларускай ідэйна-палітычнай эміграцыі і спыненьне рэгулярных кантактаў з амэрыканскімі палітычнымі ўстановамі (а тыя

кантакты, якія выпадкова адбываюцца з боку інфантыльных асобаў, нясуць больш шкоды, чым карысьці).

Другая прычына – гэта выразная, адкрытая падтрымка геапалітысчнага словаблудзтва рэжыму з боку лукашысцкай квазіапазыцыі (Мілінкевіч, Някляеў і інш.) і, адпаведна, зьмена іхняй фразеалогіі на Захадзе.

Трэцяя прычына – гэта актывізацыя лабісцкай і дыпляматычнай дзейнасьці самога рэжыму. Актыўная роля тут належыць Уладзімеру Макею. Гэтая адкрытая і таемная дыпляматыя пасьлядоўна вядзецца з 2009 года (пасьля Расейска-Грузінскай вайны) і пранікла нават у асяроддзе цяперашняй беларускай эміграцыі, знаходзячы там спрыяльныя абставіны сярод часткі прафанскай публікі, гатовай супрацоўнічаць з антыбеларускім рэжымам нібыта ў галіне культуры перад пагрозай з усходу.

Гэта вельмі трывожныя сімптомы, бо адміністрацыя ЗША цяпер слухае, чуе і ўспрымае ў асноўным ворагаў Беларусі (і яшчэ так званых "шчырых ідыётаў"). Па вопыту ведаю, што вынікі для Беларусі ад усяго гэтага могуць стацца вельмі дрэнныя. Антыбеларускі рэжым гатовы прыняць некаторыя амэрыканскія патрабаваньні, але пры адной непарушнай умове: Амэрыка мусіць заплюшчыць вочы на зьнішчэньне беларускай мовы, культуры і на рэпрэсіі супраць носьбітаў беларускай культуры і свабоды. Формула такая: "прымайце нас такімі, якія мы ёсьць" (а ў дужках: інакш пойдзем пад Расею). Дарэчы, у Крамлі для маскоўцаў намёкі гучаць адваротныя. У выніку – усё б'е толькі па беларусах і па Беларусі. З боку Захаду тут звыклая здрада тым беларусам, хто ў Захад па-дзіцячаму верылі. У той час калі верыць трэба ў сябе і шанаваць сваё.

На сёньняшні дзень натуральным нашым саюзьнікам перад пагрозай з усходу зьяўляецца Украіна. Трэба дапамагаць украінцам у іх абароне ад рускай агрэсіі. Тым часам Масква рыхтуе варыянт уцягваньня Беларусі ў вайну супраць Украіны на баку Расеі. Распрацоўваецца план выкарыстаньня беларускага войска ў якасьці "міратворчага" у Данбасе. Ідэя не стасуецца з міжнародным заканадаўствам (Расея і лукашысцкі рэжым саюзьнікі па ваенным блоку). Калі б Захад згадзіўся на такую авантуру, то гэта абазначала б поўную здраду адносна Украіны. Тады Украіна як дзяржава і сябра ААН мусіла б выконваць умовы міру з рускімі тэрарыстамі, а тэрарысты, якія нічога не прадстаўляюць у міжнародным плане, маглі б расстрэльваць украінцаў з расейскай зброі, не нясучы ніякай адказнасьці. Прытым скончылася б усё расстрэлам беларускага нібыта міратворчага войска з абодвух бакоў канфлікту.

Мушу зноў паўтарыць, што калі беларускіх вайскоўцаў нейкім спосабам завязуць, загоняць, перакінуць са зброяй на тэрыторыю Украіны, то трэба памятаць: гэта незаконна, нельга страляць у братоў-украінцаў. Трэба пераходзіць са зброяй групамі, цэлымі часткамі і па-адзіночку на бок украінцаў і дапамагаць ім абараняць Украіну ад агрэсіі маскоўскага тэрарыстычнага войска. Бо гэта ёсьць барацьба за ўкраінскую і беларускую волю.

*8 лютага 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ДА ПЫТАНЬНЯ ПРА ФАШЫЗМ

Мы пеpажываем час, калі будучыня Беларусі становіцца ўсё больш залежнай ад разьвіцьця зьнешніх падзей. Але сутнасьць яе вызначаецца ўсё ж нашым унутраным беларускім існаваньнем. Тое, што было вядома і 10, і 20, і 25 гадоў таму пра Расею як падпальшчыцу вайны, цяпер, у сувязі з агрэсіяй Масквы супраць Украіны, стала вядома і праявілася для шырокага насельніцтва ў Беларусі і ва ўсім сьвеце. І гэта нягледзячы на абсалютна сатанінскую прапаганду, якую вядзе Расея супраць Украіны, Беларусі і супраць усяго Захаду.

Пакуль што не існуе міжнароднага заканадаўства, якое прызнавала б дэзінфармацыйную вайну злачынствам супраць чалавецтва. Але неабходнасьць у такім заканадаўстве відавочная. І спарадзіў такую неабходнасьць не Гёбэльс і ня Трэці Райх, а Пуцін і расейскі імпэрыялізм.

Найперш, расейская дэзінфармацыя – гэта ёсьць маштабнае пашырэньне міжнароднай нянавісьці, пазбаўленьне адэкватнага ўспрыняцьця рэчаіснасьці і дэзарганізацыя інтэлекту вялікіх масаў людзей. Расейскае грамадзтва, зацыкленае прапагандай на нянавісьці, жыве ў нерэальным сьвеце, створаным рэжымнымі СМІ, і ўспрымае рэчаіснасьць як другасную і нерэальную зьяву. Такі стан ёсьць адным са складнікаў паталогіі зомбі. Давядзеньне да псіхапатычнага стану ёсьць злачынства супраць людзей. Такое можа рабіць толькі злачынная ўлада. Тым больш, што накіраванасьць ілжывай крамлёўскай прапаганды з’арыентавана найперш супраць уласнага грамадзтва.

Хлусьня ў Расеі ёсьць мэханізмам, інтэгральнай часткай крамлёўскай палітыкі. На гэтым мэханізме будуюцца ўсе асноўныя падзеі і планы Крамля, усе вэрсіі забойстваў, вайны і дыпляматыі.

Апошняе палітычнае забойства апазыцыйнага палітыка Барыса Нямцова ў Маскве наскрозь пранізана гэтай тэхналогіяй асаблівай кагэбоўскай рускай хлусьні (перад якой топчацца ў разгубленасьці рацыянальны Захад).

Адразу кідаецца ў вочы, што тут ня проста забойства, а палітычная спэцапэрацыя. Каб Нямцова хацелі проста забіць, то зрабілі б тое інакш, прасьцей, не пад мурамі Крамля і бяз сьведкаў. Тут (можна не сумнявацца) цяперашнія ўлады Расеі забойцаў ня знойдуць (і тым больш заказчыкаў), але, магчыма, апэратыўна іх прыдумаюць і падставяць. Тыя нават прызнаюцца ў забойстве. «Працэс пайшоў».

Гэта вядомая тэхналогія расейскай гэбоўскай дрэні была напоўніцу скарыстаная ў Беларусі пры так званым рассьледваньні крывавага тэракту ў Менскім мэтро 11 красавіка 2011 года, калі абвінавацілі і расстралялі сумніўных выканаўцаў, вінаватасьць якіх засталася пад пытаньнем.

Гісторыя рускіх забойстваў паказвае, што калі зьдзяйсьняюць такую палітычную апэрацыю, то праз агентуру (рознымі спосабамі) адразу агучваецца фальшывая вэрсія і матывацыя забойства, якую КГБ прыдумаў і хацеў бы раскручваць.

Вэрсія, якую адразу пусьціла агентура ў Маскве, -- гэта тое, што Нямцова забілі ўкраінцы (украінскія спэцслужбы), каб скампрамэтаваць Пуціна, маўляў, зваліць віну на яго.

Гэтакія паводзіны традыцыйна характэрныя для рускіх гэбоўскіх палітзабойцаў і, дарэчы, дакладна супадаюць з вэрсіяй, калі планавалі маё забойства ў 1996 годзе. Але тады здарылася непрадбачанае. На сэсіі рускай Думы нечакана выступіў старшыня Камітэту Дзярждумы па бясьпецы камуніст Віктар Ілюхін і паведаміў, што ў Польшчу перакінута 18 афіцэраў ЦРУ ЗША, якія павінны забіць аднаго ці двух лідараў БНФ, што там знаходзяцца (мелася на ўвазе мяне і Сяргея Навумчыка), а забойства зьвярнуць на Лукашэнку, каб скампрамэтаваць прэзыдэнта Беларусі і “друга” Масквы. Паведамленьне шырока разышлося ў СМІ. Мы праверылі факты па сваіх каналах і

тэрмінова пакінулі Польшчу. Гэбэ сапраўды плянаваў супраць нас нешта нядобрае ў Польшчы, але плян разваліўся пасьля нашага выезду ў ЗША.

Тут дадам, што камуніст Ілюхін (былы пракурор) быў даволі скандальнай, склочнай і балбатлівай асобай. Ён публічна па чарзе абвінавачваў Гарбачова, Ельцына і Пуціна ў здрадзе радзіме, выступіў галоўным абвінаваўцам супраць Пуціна і 2 сакавіка 2011 года накіраваў абвінавачваньне ў сьледчы аддзел ФСБ і прэзыдэнту Мядзьведзеву. У выніку праз два тыдні (19 сакавіка 2011 года) яго знайшлі мёртвым у загарадным доме пад Масквой. Як пішуць у такіх выпадках, сьмерць наступіла пры загадкавых абставінах. Хаця зразумела, што нічога загадкавага там не было. Але ніхто сур'ёзна не разьбіраўся ў таямніцах Крамлёўскага двара.

Забойства Нямцова яшчэ раз высьветліла крымінальную сутнасьць расейскага фашызму, што б яны там цяпер ні прыдумвалі. Не атрымаецца ашукаць увесь сьвет, які яны ненавідзяць. Дарэчы, якраз актуальнымі робяцца словы Чэрчыля, які пасьля сканчэньня 2-й сусьветнай вайны заўважыў, што будучыя фашысты будуць на словах выступаць супраць фашызму, карыстацца нібыта антыфашысцкай фразеалогіяй. Дакладна такое мы цяпер бачым і чуем. Расейскі фашызм абзывае ўвесь сьвет фашыстамі: украінцы ў іх – гэта фашысты, украінская ўлада – гэта “фашысцкая хунта”, Эўразьвяз – гэта “эўрафашызм”, НАТО – гэта агрэсіўны “фашысцкі” блок. Ёсьць у іхным разуменьні амэрыканскі “фашызм”, эстонскі, прыбалтыйскі і нават “беларускі”. Гэта ўжо вышэйшы пілатаж імпэрскай жоўці і злабы, бо больш антыфашысцкага народа, чым беларусы, наўрад ці знойдзецца. Словам, вакол адны “фашысты” і “ворагі” Расеі.

Тут адметная характэрнастць якраз рускага імпэрскага фашызму. Для фашысцкай улады, каб утрымацца і кіраваць грамадзтвам, патрэбная ідэалогія абложанай крэпасьці і варожага сьвету, які намерваецца гэтую рускую крэпасьць разбурыць. Выключныя абставіны апраўдваюць выключныя дзеяньні.

Ёсьць шмат розных дэфініцый і азначэньняў фашызму. Але, на мой погляд, трэба зьвярнуць увагу перш за ўсё на сутнасныя адметнасьці гэтай зьявы, якія ўсюды аднолькавыя і ўсюды ёсьць. Гэта тое, што адрозьнівае фашызм ад іншага роду дыктатур і іншай рэпрэсіўнай улады.

**Фашызм – гэта зьява XX-га стагоддзя. Яго карэньні (гнасеалогія) вырастаюць з агрэсіўнага маргіналізму. Таталітарная ідэалогія фашызма заснавана на паняцьцях і імпэратыве зьмяненьня (паляпшэньня) усяго чалавецтва прымусовымі мэтадамі. Мэханізмам для ажыцьцяўленьня гэтай ідэалогіі зьяўляецца абсалютная ўлада і таталітарная ваенная дзяржава.**

XX-е стагоддзе спрадзіла некалькі відаў фашызму і адну сусьветную вайну паміж гэтымі відамі. Найперш гэта так званы нямецкі “нацыянал-сацыялізм” (скарочана “нацызм”), заснаваны на паняцьцях перавагі “арыйскай” расы і прымусовай сэлекцыі чалавецтва (зьнішчэньне “непаўнавартасных” людзей і народаў), вынікам чаго павінна было стацца паляпшэньне чалавечай прыроды, расавая ўніфікацыя насельніцтва Зямлі і вырошчваньне звышчалавека (мутацыя выбраных людзей, якія павінны кіраваць народамі і чалавецтвам).

Другі від фашызму, які ўзьнік адначасна і, практычна, сумесна зь нямецкім нацызмам – гэта так званы рускі (савецкі) “камунізм” (пазьнейшае азначэньне – “камуна-фашызм”). Камунізм заснаваны на паняцьцях пабудовы грамадзтва калектыўнай уласнасьці і калектыўнага спажываньня, якое ствараецца прымусовымі мэтадамі, шляхам забароны прыватнай уласнасьці, ліквідацыі (зьнішчэньні) яе маёмнікаў і сацыяльнай сэлекцыі людзей у дачыненьні да сацыяльнага паходжаньня, адносінаў да ўласнасьці і ідэалогіі камунізму. У выніку на аснове ніжніх сацыяльных немаёмасных (але працаздольных) пластоў грамадзтва (так званага «пралетарыяту») павінен быў быць усталяваны “камунізм” ва ўсім сьвеце з адзінай мовай, прымусовай працай, пралетарскай культурай і грамадзтвам роўных людзей.

Улады фашызму ў XX стагоддзі каштавалі народам дзясяткі мільёнаў страчаных жыцьцяў, адзначыліся войнамі, рэпрэсіямі, разбурэньнем культуры, матэрыяльных каштоўнасьцяў, зламаньнем лёсаў людзей.

XXI стагоддзе ахарактарызавалася зьяўленьнем новага віду фашызму – гэбізму ў Расеі (улады КГБ – выканаўчай рэпрэсіўнай сілы былога рускага савецкага камунізму). Гэбізм на сёньняшні дзень сфармаваў імпэрскую фашысцкую ідэалогію (“русский мир”), вызначыў мэты (пашырэньне “русского мира”), абазначыў ворагаў (Эўропа, Захад, “англа-саксонскі сьвет”) і прыступіў да ажыцьцяўленьня глабальнай мэты праз агрэсію і падрыхтоўку вайны.

Рускі фашызм (гэбізм) заснаваны на падобным сіндроме, як і нямецкі “нацызм” у 20-х гадах мінулага стагоддзя – на пачуцьцях гістарычнай паразы (паўраспад СССР), на імкненьні аднавіць імпэрскую “справядлівасьць”.

Агрэсіўным рухавіком рускай імпэрскай крыўды ёсьць міфалогія імпэрскай перавагі, пагрунтаваная не на арыйскай дактрыне, як у немцаў, а на месіянскім уяўленьні пра ратавальную ролю Расеі ў гісторыі чалавецтва. Маўляў, не за свае інтарэсы ваюе Расея ў Грузіі, ва Украіне, а з агрэсіяй Захаду (НАТО, ЗША і г.д.), каб выратаваць народы ад заходняй (“фашысцкай”) чумы і ўратаваць чалавецтва. А таму Расея мае права пасылаць войскі туды, дзе гучыць руская мова, якая ёсьць самая вялікая і дасканалая ў сьвеце (яны так і думаюць). І тым больш, маўляў, Расея мае права першай ўжыць атамную зброю. Такое палажэньне (пра першы атамны ўдар) ўведзена ў новую (2014 года) ваенную дактрыну Расеі. Гэтым перакрэсьлены амаль семдзесят гадоў гісторыі змаганьня за мір і ўсталяваньне спакою ў Эўропе. Засьцерагальнік вайны (неужываньне атамнай зброі першым) спушчаны.

Пасьля 2-й Сусьветнай вайны людзі зразумелі, што для ўсталяваньня міру ў Эўропе неабходна беззваротна зьнішчыць нямецкі мілітарызм, ліквідаваць машыну і магчымасьць нямецкага ўзбраеньня. Гэтая мэта была дасягнута.

У дачыненьні да Расеі галоўнай пагрозай міру і крыніцай вайны ёсьць не мілітарызм, а сама імпэрыя, сама геапалітычная сістэма Расеі, пабудаваная па схемах XIX стагоддзя.  Імпэрыя (яе форма, структура, мэханізм) павінна быць ліквідавана. Гэта неабходнасьць дзеля міру ў Эўропе. Складанасьць, аднак, у тым, што распад такой сістэмы магчымы цяпер толькі ў выніку вайны, якой акрамя Расеі ніхто ня хоча. Але гэтага якраз і дастаткова, каб вайна была. І яна ўжо, фактычна, пачата пасьля нападу Расеі на Ўкраіну.

Якая б цяпер з розных бакоў ні чулася дэмагогія ў сьвеце, мы – беларусы – павінны падтрымліваць Украіну і зыходзіць з горшага сцэнару -- рэальна рыхтавацца да абароны сваёй Айчыны. Тады выстаім і пераможам.

*8 сакавіка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ДОБРАЯ І ПАТРЭБНАЯ КНІГА

Калі азірнуцца на 20-гадовую бытнасьць антыбеларускга рэжыму і прыглядзецца да яго ўнутраннай акупацыйнай палітыкі, то заўважым, што найбольш узьненавіджаным пэрыядам беларускага змаганьня для яго кантралёраў і выканаўцаў зьяўляецца не аб'яўленьне незалежнасьці БНР, не 20-я гады, не Слуцкая збройная абарона і нават не пэрыяд нямецкай акупацыі і ўздым белурскага Адраджэньня ў 1941-44 гг., а 90-я гады, дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту і яго дэпутатаў у Вярхоўным Савеце, калі была здабыта рэальная незалежнасьць і створана рэальная беларуская дзяржава – падзея найвялікшай гістарычнай важнасьці для ўсіх беларусаў. Тут рэжым пасьлядоўна выконвае абмежавальныя і зьнішчальныя ўстаноўкі з Масквы, а маскоўскія прапагандысты расейскай імпэрыі «русского мира» упадаюць у гістэрыку – так ім усё тое ненавісна. Арганізаваныя цэлыя арміі троляў, бесаў, дрэняў, якія нястомна цьвеляць, гадзяць, лаюцца ў Сеціве на БНФ, на 91-ы год, на Беларускую Незалежнасьць і барацьбу. Цэлыя групы псэўдапубліцыстаў, псэўдафілосафаў, псэўдааналітыкаў ды розных «дзеячоў» самазакахана і фальшыва, з «разумным» выглядам разважаюць, як, маўляў, не па-іхняму, дрэнна рабіў БНФ, як «няправільна» змагаўся за волю (пра якую яны тады ня думалі) і як не зрабіў ім ўсяго таго, чаго ім цяпер захацелася. Самаеды і самаедцы кулачкамі б'юць сябе ў грудзі

Маскве хацелася б усё перакруціць, затаптаць і замаўчаць, бо тут, у сутыкненьні з Народным Фронтам у 90-х, была яе гістарычная імпэрская параза. Рэванш узяты, але ня поўны і з песьні слова ня выкінеш. Дык шалеюць ворагі Беларусі. Таму кнігі, напісаныя ведаючымі людзьмі пра беларускую нацыянальную рэвалюцыю і Адраджэньне ў 90-х гадах – гэтыя кнігі ў Беларусь амаль не трапляюць. Іх адбіраюць на мяжы нават у падарункавым варыянце ў адным экзэмпляры. Гэта я добра ведаю па сваім выдавецкім вопыце. Тым больш лічу станоўчым фактам, што кніга Сяргея Навумчыка пра 1994 год (якая так і называецца – «1994 год») і якая нядаўна вышла з друку, будзе прадстаўлена на прэзэнтацыі ў Менску.

Тэкст гэтай кнігі я ўжо чытаў па частках, якія пэрыядычна зьмяшчаліся ў Сеціве.

Сяргей Навумчык не называе сябе гісторыкам, хаця, фактычна, апісвае гісторыю таго пераломнага часу. Яго вялікая перавага перад бальшынёй гісторыкаў у тым, што ён як парляманцкі палітык Фронту ведае і разумее прадмет палітыкі як зьяву, удзельнікам якой ён быў. Гэта тая асаблівасьць, якой гісторыкі, як правіла, не валодаюць. Удакладню канкрэтна. Каб напісаць гісторыю палітычнай зьявы, трэба ведаць ня толькі факты, але найперш валодаць палітычным думаньнем (і дадатна, калі яшчэ і практыкай).

З гэтага пункту гледжаньня, тэкст Сяргея Навумчыка напісаны ў форме ўспамінаў з апорай на дакуманты і факты, мае большую каштоўнасьць для гісторыі, чым міфалёгія іншых гісторыкаў, заблытаных супярэчлівымі фактамі і незразумелымі для іх падзеямі.

Віншую Сяргея Навыумчыка з выхадам добрай і карыснай для Беларусі кнігі. Пра той час трэба пісаць па гадах. Наперадзе 1992-гі, 1993-ці, 1995-ы і 1996-ы. Кожны гэты год быў варты дзесяцігоддзям. Кожны пакінуў свой сьлед у гісторыі і лёсе Беларусі.

*21 сакавіка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА БАЙКОТ

Пра байкот антыбеларускай улады, пра яе псэўдавыбары, пра кансалідацыю грамадзтва супраць антынацыянальнага рэжыму мы кажам ужо доўгі час (і змагаемся за гэта амаль 15 гадоў).

Пачынаючы з 2008 году (пачатак сусьветнага фінансавага крызісу і напад Расеі на Грузію) выявіліся масавыя вынікі нашай фронтаўскай палітыкі – людзі ў большасьці перасталі хадзіць на выбары (наведваньне – у межах 30-40 адсоткаў). Гэта сталася найперш наступствам расчараваньня і абурэньня людзей прымусам і фальсіфікацыямі галасаваньня. Але тут зроблены першы стыхійны крок. Наступны крок байкоту – кансалідацыя супраць рэжыму і стварэньне паралельнага існаваньня. Гэты крок расьцягнуўся надоўга (аж да сёньня), бо ў рэальнасьці – наша грамадзтва сьпее разам з падзеямі.

Другой прычынай затарможанасьці пераменаў ёсьць шкодніцкая палітыка Захаду (падтрымка апазыцыйнай "халявы") і меры рэжыму супраць байкоту (заканадаўчыя і рэпрэсіўныя).

Такім чынам у квазі-апазыцыі адбыўся раскол. Больш здаровыя сілы падтрымліваюць байкот. Частка, арыентаваная на заходнюю "халяву" і зьвязаная з структурамі і флюідамі рэжыму, агітуе за ўдзел у рэжымным спэктаклі "выбараў".

У гэтай часцы «квазі» існуюць таксама два падыходы. Адзін – адкрыта халяўны і халуйскі з фактычным падтрыманьнем рэжыму і з дэмагогіяй пра Лукашэнку як "абаронцу" суверэнітэту, якога, маўляў, трэба падтрымліваць у ягоных сварках з Масквой. І другі падыход – наіўна правінцыйны, з патрыятычным пераканаsuccessive, што нацыянальныя сілы павінны ўдзельнічаць у выбарах, каб засьведчыць людзям пра сваё існаваньне і даносіць да іх свае думкі і праўду, скарыстаўшы выбарчую агітацыю.

Тут цяжка сказаць, ці людзі прыкідваюцца, ці шчыра вераць у тое, што кажуць і, адпаведна, выбудоўваюць патрыятычную логіку. Але аб'ектыўна, па сутнасьці такой пазыцыі і яе наступстваў – гэта патрыятычны канфармізм, бо дае рэжыму магчымасьць правесьці бачнасьць выбараў з нібыта дэмакратычным напаўненьнем і працягваць сваю ўладу да бясконцасьці.

У палітычным сэнсе такая пазыцыя ёсьць адмаўленьнем ад рэальнай барацьбы і падыгрываньнем рэжыму. Незаконнай ўладзе такая пазыцыя не пагражае, бо выйграць фальшывыя выбары немагчыма.

Што датычыць "данясеньня да народа думак", то думкі трэба даносіць задоўга да выбараў. На выбарах ужо змагаюцца за ўладу, а выбаршчыкі павінны выбраць сваіх прадстаўнікоў ва ўладу, а не выслухоўваць думкі "гаваруноў" і памылкова меркаваць, што яны ўдзельнічаюць у выбарах, а не ў прафанацыі выбараў.

Прапановай выслухоўваць «думкі» хочуць заманіць людзей на выбарчыя ўчасткі, каб іх скарыстала машына фальсіфікацыі, а рэжым выставіў сябе дэмакратычным, "белым і пушыстым", за якога, маўляў, прагаласавала 87 адсоткаў выбаршчыкаў. Вось палітычны вынік патрыятычнага канфармізму. Такі ж самы, што ў халуёў і ў "халявы".

Выбарчыя ўчасткі мусяць быць пустымі. Хай рэжым гуляе ў "выбары" сам з сабой. Хай сабе хлусіць (як Пуцін пра вайну) пра "ўсенародную падтрымку". Але выбарчыя ўчасткі мусяць быць пустымі, і ўсе гэта ўбачаць. Пазбаўленьне фармальнай падтрымкі для фальшывых выбараў з боку людзей мае вялікае значэньне ў барацьбе з рэжымам.

Наша фронтаўская пазыцыя байкоту накіравана на адрыў народа ад падтрымкі антынароднага рэжыму, на адрыў людзей ад страху і нацэлена на рэвалюцыю супраць рэжыму, на стварэньне антырэжымнай народнай сілы. Толькі так (гэта значыць – барацьбой) можна ліквідаваць гэты антыбеларускі акупацыйны рэжым, а ня бавіцца ў іхныя "выбары" і "рэфэрэндумы" для нявольнікаў. Першы крок – ня ўдзельнічаць у

рэжымных мерапрыемствах і фальшывых выбарах, не падтрымліваць антыбеларускую акупацыйную палітыку.

Другі крок – робім сваё. Без рэжыма робім беларускае сваё! Гэта дасьць вынікі. Грамадзтва пераменіцца. Яно ўжо пачало мяняцца. Нельга сядаць з антынацыянальным «рэжымам» за адзін стол, бо скарыстаюць, ашукаюць, выплюнуць і абвінавацяць. Нельга братацца з нягоднікамі і здрадай. Рыхтуймася да абароны Айчыны ад акупацыйнай палітыкі рэжыму Лукашэнкі і ад ваеннай акупацыі Масквы, якая ўжо пачалася супраць Украіны. Рыхтуймася. Нашы ворагі рыхтаваліся 20 гадоў і цяпер адкрыта гавораць пра акупацыю ды расчляненьне Беларусі (дакладней таго, што ад яе засталося, бо амаль палова нашай беларускай тэрыторыі існуе за межамі дзяржавы і найбольш у Расеі). Апошні гэбоўска-лубянскі выбарчы спэктакль Лукашэнкі мусіў бы быць правалены, а яго ўлада зьмецена з твару краіны.

*17 сакавіка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ВЯЛІКАЯ ПЕРАМОГА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

Брудная інфармацыйная вайна, пачатая рускім фашызмам, залазіць ва ўсе поры грамадзтва ня толькі ў Беларусі і ва Украіне, але і ва ўсім сьвеце, які аказаўся безабаронным перад чарговым вымётам рускага сатанізму.

У Беларусі галоўныя накірункі рускай прапаганды нацэленыя на ачарненьне і абліваньне хлусьнёй вялікай справы Незалежнасьці краіны і дзейнасьці нацыянальнага авангарду – Беларускага Народнага Фронту – у 90-х гадах, калі Незалежнасьць была здабытая.

Выхад кнігі Сяргея Навумчыка пра 1994 год выклікаў чарговую порцыю злосьці і брахні ворагаў Беларусі. Асабліва нізкі ўзровень мы тут не камэнтуем. На больш інтэлектуальным узроўні непрыяцелі Беларусі робяць выгляд, напрыклад, што яны, маўляў, “за”, адзначаюць заслугі БНФ, але задаюцца нібы та пытаньнем, чаму, маўляў, “Беларускае Адраджэньне” і Народны Фронт “пацярпелі паражэньне” ў 90-х. У прапагандзе гэтакая падача нібыта пытаньня ёсьць форма сцьвярджэньня, што было, быццам бы, “паражэньне”.

Ня так даўно мяне зьдзівіў адзін шчыры інтэлектуал-беларус, які, відаць, начытаўся троляў, глыбокадумна задаўся сабе пытаньнем і напісаў: “Чаму пацярпела паразу нацыянальная ідэя?” І гэта на поўным сур’ёзе.

Часам хочацца проста заплакаць, чытаючы такіх шчырых беларускіх інтэлектуалаў, якія глядзяць перад сабой блакітнымі вачыма і такім ясным незамутненым позіркам.

Коратка нагадваю праўду і сутнасьць. У пачатку 1990-х адбылася найвялікшая падзея ў палітычнай гісторыі Беларусі за апошнія 200 гадоў – дасягнута рэальная (а не дэкляратыўная) перамога Беларускай Нацыянальнай Ідэі. Гэта выявілася ў здабыцьці дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі і стварэньні рэальнай, прызнанай ва ўсім сьвеце Беларускай Дзяржавы з усімі атрыбутамі дзяржаўнасьці і суверэнітэту краіны.

Нацыянальная ідэя – гэта ідэя нацыянальнага руху, які ставіць задачу стварэньня незалежнай нацыянальнай дзяржавы. Гэтая ідэя была дасягнута і ажыцьцёўлена ў 1991 годзе. І, паўтаруся, гэтае дзеяньне ёсьць найвялікшай падзеяй у нашай новай і найноўшай гісторыі. Гэта лёсавызначальная перамога беларускага нацыянальнага Адраджэньня.

Беларускі Народны Фронт у канцы 1980-х гадоў, уступаючы ў змаганьне з камунізмам і савецкай акупацыяй, ставіў наступныя стратэгічныя мэты руху, адлюстраваныя ў яго праграме, у рашэньнях Зьездаў і ў палітыцы:

**1.** Ліквідацыя камунізму і КПСС;

**2.** Здабыцьцё незалежнасьці Беларусі;

**3.** Сцьвярджэньне праўды пра Чарнобыль і стварэньне ахоўнага заканадаўства ад чарнобыльскай радыяцыі.

Усе тры мэты былі дасягнуты, усе тры праграмныя стратэгічныя задачы выкананыя (дадам, у неверагодных умовах, будучы меншасьцю ў парляманце).

Тут вялікая палітычная перамога Беларускага Народнага Фронту і Беларускага Адраджэньня. Дасягненьне дзяржаўнай Незалежнасьці ёсьць больш важным, чым дасягненьне ўлады, бо дзяржаўная Незалежнасьць захоўвае пэрспэктыву краіны нават пры антынароднай уладзе.

*30 сакавіка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ЧАМУ НЕ РАЗУМЕЮЦЬ РАСЕЮ ЗАХОДНІМ РОЗУМАМ

Адзін эўрапеец дасьціпна сказаў, што каб рускія хадзілі ў халатах ды чалмах, тады ўсё было б зразумела. А пакольні яны апранаюцца, як ў Эўропе (у штаны, касьцюмы ды павязваюць гальштукі), то зразумець іх цяжка.

Нешта ў гэтым жарціку ёсьць. Пэўна, ня толькі з самадуру рускі цар Пётра Шалёны адразаў супляменьнікам бароды, апранаў у штаны, панчохі ды камзолы, прымушаў піць каву, а служылыя людзі па загаду цара палкамі заганялі маскалёў у тэатр («приобщали к искусству»), які прывезьлі ў Масковію беларускія тэатральныя трупы.

Гадоў праз дзьвесьце, калі Маскву ў Эўропе ўжо не маглі зразумець «умом», па-эўрапейску адукаваныя маскоўцы напішуць панегірыкі Пётру Шалёнаму, які, маўляў, варварскімі мэтадамі «внедрял на Руси европейскую культуру». Што з гэтага потым атрымалася, бачым: масковец застаўся маскоўцам (ці ў касьцюме ён, ці ў ваце) -- у яго ўсе «дураки», «чурки», «урки» ды «чухонцы», тут жа «рыса аседласьці» для жыдоў, «Россию взглядом не обнять» і камунізм, і «перамаць», галадамор і п'янь у законе, і Курапаты, і ГУЛАГ, і КаГэБэ «ўстае з каленяў», і «русский, бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин», і Сталін «геній усіх народаў», і Пуцін «геній чалавецтва», і навакол «враги», усе нас хочуць «уничтожить», і т. п.

Не старайцеся ўсё гэта рацыянальна растлумачыць. Тут няма логікі. Зьява існуе, факты ёсьць, а разумнага, лагічнага тлумачэньня няма. Адукаваныя ў Эўропе расейцы тое разумелі і пісалі, што «умом Россию не понять». Яе трэба ацэньваць не па касьцюму. Тады ня будзе замарочак з розумам.

Жыцьцёвы факт расказаў мне ў Варшаве чачэнскі ўцякач Ахмет (60 гадоў). Вайна. Сядзяць рускія салдаты ў яго двары вакол стала, гуляюць у карты. Ўсё спакойна. Абмяркоўваюць пытаньні картачнай гульні. Руціна. І тут Вася гэтак спакойна ні з таго ні з сяго («может от скуки») кажа з блатным пранонсам: «Да ладна, ребят', чё там». Вымае гранату, вытузвае чаку і кідае на стол. Усе ўзрываюцца разам з Васем. (Хочацца сказаць: «Как это по-русски».)

Для зразуменьня гэтай рускай сцэны можна падключыць усю заходнюю юрыспрудэнцыю па факту крымінальнага дзеяньня, якое прывяло да сьмерці і калецтва людзей. І нічога тая юрыспрудэнцыя тут не зразумее, бо ёй незнаёмы такі псіхалагічны стан, як «бесшабашная удаль русского человека», ня раз апісаная ў рускай імпэрскай літаратуры. Не спрабуйце растлумачыць гэты факт заходнімі рацыянальнымі меркамі, дзе жыцьцё чалавека ўспрымаецца як абсалютная каштоўнасьць і адпраўны пункт разумнай логікі і сэнсу паводзінаў індывідуума. Крымінальнае ўспрыняцьце сьвету (альбо канкрэтна – рускае ўспрыняцьце) базуецца не на логіцы і не на рацыё, а на пачуцьцях, эмоцыях, паняцьцях, уяўленьнях, імпульсах узбуджэньня, і заснавана на поўным ігнараваньні ўсялякіх абавязкаў перад іншымі людзьмі, усялякіх правілаў і законаў, нават прыродных. На гэтых падставах адбываецца і самасцьвярджэньне расейца ў грамадзтве.

Тут тыповая міфалагічная сьвядомасьць, якая зыходзіць з эгацэнтрычных паняцьцяў свайго эго і няздольная лагічна растлумачыць невядомае, заканамерна прыходзіць да містычнага ўспрыняцьця зьявы (сьвету) як варожай для яго, расейца, дзейнасьці.

Увесь гэты, фактычна, яшчэ дакультурны пласт сьвядомасьці карэлюецца з ідэалогіяй і азіяцкім усьведамленьнем імпэрыі як ваенна-сацыяльнай дзяржавы. Расейцы па сваёй сацыяльна-палітычнай мэнтальнасьці не зьяўляюцца нацыяй, адпаведна, яны не валодаюць нацыянальнай сьведамасьцю. Расейская сьведамасьць – гэта сьведамасьць імпэрскай супольнасьці, якая так і называецца – імпэрыя. Кансалідацыя насельніцтва імпэрыі адбываецца не на традыцыі і культуры, а на

дзяржаве і дзяржаўнай уладзе, дзе важнейшым элемэнтам палітычнага існаваньня ёсьць армія, а важнейшым спосабам экспансіі – імпэрская мова (у гэтым апошнім ёсьць асаблівасьць расейскай імпэрыі). Кодэкс імпэрскага гонару расейца абсалютна рэліктавы (сягае яшчэ да мангольскага існаваньня), менавіта: нас шмат, наша тэрыторыя самая вялікая, мы самыя моцныя, нас усе баяцца.

Аналіз асаблівасьцяў рускага імпэрскага соцыюма не выходзіў бы за рамкі акадэмічнага дасьледваньня, калі б ня атамная зброя, якой імпэрыя валодае.

Уся небясьпека ў тым (і гэтага зноў жа, не разумее рацыянальны Захад), што рашэньне аб прымяненьні ядзернага ўдару можа прымацца ў Расеі па тыпалогіі паводзінаў рускіх карцёжнікаў у чачэнскім двары. У кожным расейцы, у яго мангольскай пяце, сядзіць шахідзкая псіхалогія ў рускай мадэфікацыі, якая гучыць (прашу прабачэньня за аўтэнтык) прыблізна так: «а хрен с ним». І ня трэба гэтаму ніякага лагічнага абгрунтаваньня, «просто рожа мне твоя американская не нравится». Пра вынікі сваіх дзеяньняў узбуджаны расеец ніколі ня думае (тым больш, падшыты імпэрскай ідэалогіяй).

І справа ня ў тым, што сацыяльна адсталай краінай з імпэрскімі комплексамі і ядзернай бомбай кіруюць маёры КГБ і трымаюць там абсалютнкю ўладу. Яны ўжо задзейнічалі зброю, страшнейшую за атамную – гэта замбуючая функцыя масавага тэлебачаньня, здольнасьць генэрыраваньня хлусьні ў сьмяртэльных памерах (адбываецца дысфункцыя мазгоў, зьмяненьне сьвядомасьці масаў людзей). Вынік дысфункцыі – успрыняцьце сьвету ў катэгорыях нянавісьці. Бальшыня расейцаў прагне ядзернай вайны. Іншыя прагнуць Сталіна, Савецкага Саюзу і г. д.

Такім чынам, хоць і цяжка, але Захаду ўсё ж трэба зразумець Расею розумам. Прытым так, як разумеюць усе людзі існаваньне іншых істотаў жывога сьвету. Менавіта іншых. Ня трэба абзаходніваць рускае думаньне і паводзіны (хоць яны і ў касьцюмах эўрапейцаў), а потым бясконца зьдзіўляцца абсурду. Ня трэба іх ацэньваць па правілах заходняй логікі, прагматызму, здаровага сэнсу і рацыянальнасьці. Яны іншыя. Ім часта, напрыклад, хочацца нагадзіць у сьвятым месцы. Не пытайце іх, навошта. Яны самы ня ведаюць (хоць ўсё тут мае псіхалагічнае тлумачэньне). Проста не пускайце іх у сьвятыні. Не зьдзіўляйцеся, калі маёр Пуцін (рэальна ён былы маёр, нават не падпалкоўнік) глядзіць вам у вочы і спакойна «врёт». Не спадзявайцеся, што дакажаце яму яго хлусьню на фактах. Ён скажа, што «врёте» вы (і «народ поверит»). Расею трэба разумець не заходнім, а рускім розумам. А рускім розумам – абазначае: паказаць сілу, каб ня лезьлі. А калі палезуць – даць, каб спыніліся. Гэта яны разумеюць, і толькі гэта (жорсткія, моцныя, хуткія і рашучыя дзеяньні ва ўсіх сфэрах). Прыпыненьне злачынства і адчыненыя дзьверы – з рэчамі на выхад. Калі гэтага не рабіць цяпер (маецца на ўвазе спыненьне агрэсіі супраць Украіны), то праз год-паўтара ўзьнікнуць праблемы нашмат большыя.

Увогуле, я гляджу на будучыню Ўсходняй Эўропы аптымістычна. Толькі не хацелася б за гэты аптымізм плаціць неадэкватна вялікую цану, калі ўсё можна зрабіць добра і своечасова.

*7 красавіка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ ПА ГІСТОРЫІ ІГНАРАВАНЬНЯ РЭЖЫМНЫХ ВЫБАРАЎ

Байкот фальшывых выбараў – гэта зьява, якая фармальна адносіцца да выбарчага працэсу, але па сутнасьці – гэта першапачатковая зброя барацьбы з антыбеларускім акупацыйным рэжымам. Прапановы байкоту рэжымных выбараў былі з майго боку яшчэ ў 1998 годзе. Тым часам наша фронтаўская (КХП – БНФ) палітыка байкоту сфармавалася пасьля 2001 года. Да гэтага ў 2000 годзе ў Менску мы правялі байкот выбараў у «палатку». Амаль на палове выбарчых участкаў у горадзе байкот меў посьпех і выклікаў паніку ў верхавіне рэжыму.

Тады была вельмі сурёзная барацьба. Масква і немцы (Ганс Вік і кампанія) хацелі легітымізаваць лукашысцкую «палатку» і гналі сваю яшчэ слаба сфармаваную квазі-апвзіцыю на выбары (дарэчы частка яе супраціўлялася гэтаму загону і падтрымлівала байкот). Кіраўнік рабочай групы АБСЭ ў Беларусі Адрыян Севярын (тып зь бегаючымі вочкамі і тварам прыроджанага жуліка, пазьней, будучы ў Эўрапарляманце, трапіў пад суд за прыняцьце хабару ў сто тысячаў даляраў) спэцыяльна езьдзіў у Маскву і сустракаўся са старшынёй Дзяржаўнай Думы Расеі камуністам Генадзем Селязьнёвым, вёў размовы пра сумесныя дзеяньні Расеі і АБСЭ ў Беларусі па ўцягненьні беларускіх палітычных партыяў у выбары, якія рыхтаваў антыбеларускі рэжым.

Сойм КХП – БНФ і БНФ «Адраджэньне» 10-га чэрвеня 2000 года прыняў адмысловую заяву «Пра няўдзел у выбарах», дзе дадзена ацэнка падзей. Мы патрабавалі, каб АБСЭ не прысылала сваіх назіральнікаў на выбары і праігнаравала імітацыю выбараў у прафанацыю «парляманта» (разумеючы таксама, што АБСЭ тут магла падыграць рэжыму). Тым ня менш перад самымі выбарамі немцы пад кіраўніцтвам левага «друга» Беларусі дэпутата Бундэстагу фраў Шроттэр вырашылі зрабіць нечаканы дэсант у Менск ў якасьці назіральнікаў і ў апошні момант прыслалі факс, каб іх сустрэлі, у канцылярыю Вярхоўнага Савета, старшыні Вярхоўнага Савета «Шушкевічу» (так яны напісалі), хоць ён старшынёй ня быў. (Яны нават тут дрэнна арыентаваліся.) Сапраўдны старшыня падпольнага Вярхоўнага Савета Сымон Шарэцкі, зьбянтэжаны гэтакім абуральным няведаньнем, хто ёсьць хто, пераслаў той факс мне. Хітрун ведаў што будзе. У нямецкую групе АБСЭ на імя фраў Шроттэр пайшоў факс ад майго імя, каб яны ня ехалі, бо ў час байкоту іх ніхто не чакае. (Дарэчы, немцы, быццам бы ўсё ж прыяжджалі, але іх сапраўды ніхто не чакаў). А ўрэшце тыя недэмакратычныя, правальныя і месцамі байкатаваныя выбары ў «палатку» не прызнала і АБСЭ (вымушана была не парызнаць).

Тым ня менш мы выпрабоўвалі тады таксама іншыя падыходы, разумеючы стан грамадзтва. Мая заяўка на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах 2001 года была прадыктавана спробай легальна (без арышту і пасадкі) прыехаць у Беларусь, легальна ўключыцца ў выбарчы працэс і перакуліць рэжымныя пляны з нібыта «апазыцыйным» кандыдытам былым членам Бюро ЦК КПБ У. Ганчарыкам і іншымі падстаўнымі. Мне неабходная была статусная прысутнасьць. У такім разе (я так думаў) шмат што магло атрымацца. Але такой прысутнасьці вырваць у рэжыма не ўдалося.

У 2006 годзе на прэзыдэнцкія выбары мы прапанавалі мэтад «народнага галасаваньня». «Народнае галасаваньне» зыходзіла з пазыцыі байкоту фальшывых выбараў. Гэта быў камбінацыйны плян нібыта паралельных выбараў, нібыта фармальнага ўдзелу, але фактычнага няўдзелу выбаршчыкаў у фальшывым галасаваньні, калі выбаршчык забіраў з сабой (адымаў) афіцыйны выбарчы бюлетэнь (як доказ голасу), а ў скрыню апускаў «народны бюлетэнь». Машына фальсіфікацыі ў

такім разе не магла фальсіфікаваць, яна глухла, а доказы галасоў заставаліся ў народа. І ўсё законна. Мы прыдумалі мэтад кантролю над самой фальсіфікацыйнай машынай.

Для руху гэтай ідэі павінна зноў жа быць мая статусная прысутнасьць на выбарах. Натуральна, што рэжым імкнуўся не дапусьціць такога павароту падзеяў. Супраць «народнага галасаваньня» выступіла таксама падстаўная апазыц-камарыльля (Мілінкевіч і інш.). Чым усё скончылася – вядома (сілавым умяшаньнем рэжыму, фабрыкацыямі, рэпрэсіўнымі паводзінамі ЦВК і «попагапонствам» падстаўных дзеячоў).

2006 год яскрава паказаў, што ў выбарах пры антынацыянальным акупацыйным рэжыме павінен быць толькі жорсткі наўпроставы байкот (дэманстратыўны няўдзел у галасаваньні). Усялякія кантактныя манэўры байкоту з выбарчай сістэмай таксама немагчымыя (спыняюцца банальнымі рэпрэсіямі, адміністрацыйным супрацьдзеяньнем і сілай).

На гэтай пазыцыі (выпрабаванай на практыцы) мы стаім ўвесь час. Але, паўтаруся, сэнс байкоту як грамадзкай барацьбы праявіцца толькі тады, калі створыцца паралельнае існаваньне грамадзтва, адрыў яго ад рэжымнай улады і кансалідацыя ў змаганьні з рэжымам на каштоўнасьцях нацыі, свабоды і дэмакратыі.

Такое ня робіцца за адзін раз. Патрабуецца доўгая змагарная і асьветніцкая праца ўвесь час (а ня толькі калі выбары). Пазбавіцца ад паразітнага рэжыму антынацыянальнай улады немагчыма без апоры на сілу народнага асяроддзя і грамадзкіх настрояў. Трэба ўвесь час спрыяць стварэньню такога пратэстнага асяроддзя пагрунтаванага на нацыянальным адзінстве і справядлівых ідэях. Трэба ўвесь час спрыяць высьпяваньню палітычных абставінаў для барацьбы з рэжымам. Тады надыйдзе час пераменаў, які (што важна) нельга страціць, як здарылася гэта, напрыклад, восеньню 1996 года (калі ў адпаведным месцы, у адпаведны час апынуліся неадпаведныя людзі). Але гэта ўжо крыху іншае пытаньне і іншая вобласьць палітыкі.

*6 красавіка 2015 г.* Зянон Пазьняк

# ПАГРОЗА АГРЭСІІ

Калі прасачыць па гадах рэакцыю нездаволеных людзей на антыбеларускія законы і вывіхі рэжыму, то ўжо дваццаць гадоў чуем абурэньне ў бок антыбеларускай улады з адстоенымі выразамі і ўжываньнем словаў «ідыятызм», «дэбілізм», «абсурд», «дурнота», «тупізм», «цемрашальства» і г. д. Сэнс у гэтым, безумоўна, ёсьць, але ён ня толькі ў гэтым. Маса такіх абураных людзей нязьменна (вось ужо дваццаць гадоў), відаць, перакананая, што ўсё тут ад чалавечай дрэннасьці, хцівасьці, неадукаванасьці і калгаснай «бязмозгласьці». Словам, чуюцца абсалютна апалітычныя бытавыя вызначэньні, якія ў палітычным зьмесьце не адпавядаюць сапраўднасьці і выклікаюць ня меншае зьдзіўленьне, чым той названы «ідыятызм» антыбеларускай улады.

На самой справе дзеяньні гэтай улады палітычна лагічныя, рацыянальныя, спланаваныя, прадуманыя і пасьлядоўныя – накіраваныя на агульную ліквідацыю беларускай нацыі, культуры і ў пэрспэктыве -- дзяржавы.

У сваіх дзеяньнях рэжым знаходзіцца на больш высокім палітычным узроўні, чым раззлаваныя бытавыя крытыканы ягонага быццам бы «ідыятызму» па той простай прычыне, што рэжым лёгка дасягае сваіх палітычных мэтаў, а абураныя ягоныя апанэнты таго нават не разумеюць.

Некаторым людзям увесь час здаецца, што рэжым прымітыўны і неразумны (тым больш, што «Скарына жыў у Піцеры»). Так, прымітыўны тыпаж, але, як кажуць у народзе, «дурны-дурны, а скваркі любіць», траву ня есьць, ілбом грушу не трасе. Прычына такой зьявы простая. Гэтыя крытыкі далёкія ад успрыняцьця нацыянальнай ідэі і ад разуменьня нацыянальнай палітыкі.

У нашым беларускім адраджэнскім друку дастаткова падрабязна і па этапах расьпісана злачынная дзейнасьць антыбеларускага рэжыму па разбурэньні беларускай нацыі і культуры. Адзначу асноўныя разбуральныя пункты гэтай дзейнасьці.

1. Ліквідацыя беларускіх дзяржаўных нацыянальных сімвалаў – Бел-Чырвона-Белага Сьцяга і гэрба «Пагоня».
2. Ліквідацыя (фактычная) дзяржаўнасьці беларускай мовы.
3. Ліквідацыя дэмакратычнай Канстытуцыі.
4. Ліквідацыя выбранага і незалежнага парляманту.
5. Ліквідацыя мяжы з Расеяй.
6. Ліквідацыя нафтавай энергетычнай асновы беларускай гаспадаркі і перавод на расейскі газ.
7. Ліiквідацыя беларускамоўнай адукацыі.
8. Ліквідацыя масавай беларускамоўнай электроннай інфармацыі (тэлебачаньне, радыё).
9. Ліквідацыя беларускамоўнага дашкольнага выхаваньня (дзіцячых садкоў).
10. Сістэмная мэтадычная ліквідацыя беларускай школы ў гарадах і мястэчках.
11. Ліквідацыя (закрыцьцё) беларускіх пачатковых васьмігадовых і сярэдніх школ у вёсках.
12. Ліквідацыя бібліятэк у сельскай мясцовасьці і правінцыйных гарадах.
13. Ліквідацыя кнігарняў у сельскай мясцовасьці і ў правінцыі.
14. Ліквідацыя катэдраў беларускай мовы ва ўнівэрсітэтах.
15. Ліквідацыя літфонду Саюза пісьменьнікаў Беларусі.
16. Ліквідацыя беларускіх выдавецтваў для моладзі і юнацтва і беларускіх часопісаў для дзяцей.
17. Ліквідацыя беларускага скаўцкага руху.
18. Сістэмная (паступовая) ліквідацыя беларускай гуманітарнай фундамэнтальнай навукі.
19. Сістэмная (паступовая) ліквідацыя беларускіх музэяў беларускай культуры і літаратуры.
20. Ліквідацыя беларускага анімацыйнага кіно.

21. Ліквідацыя выбарнасьці і вольнага разьвіцьця белароускай акадэмічнай навукі.
22. Ліквідацыя адзінага Саюза пісьменьнікаў Беларусі і маёмасных правоў Саюза пісьменьнікаў (адабраньне нерухомай маёмасьці).
23. Ліквідацыя беларускіх студэнцкіх арганізацыяў.
24. Сістэмная (мэтадычная) ліквідацыя вольнага беларускага бізнэсу і індывідуальнага прадпрыймальніцтва.
25. Ліквідацыя дэмакратычнага выбарчага заканадаўства.
26. Ліквідацыя роўнасьці хрысьціянскіх канфэсій перад Законам і наданьне прыярытэту РПЦ у Беларусі.
27. Ліквідацыя права выбару людзей на ўдзел і няўдзел у выбарах.
28. Ліквідацыя права беларусаў на вольны выбар працы ў дзяржаўных галінах вытворчасьці.
29. Ліквідацыя заканадаўства пра Чарнобыльскую катастрофу і пацярпелых ад Чарнобыля.
30. Ліквідацыя права беларусаў на вольнае карыстаньне з вынікаў сваёй працы (прымусовая праца).
31. Палітычны кантроль над беларусамі шляхам увядзеньня палітычнай сістэмы нагляду ў вытворчасьці і па месцы працы (інстытут рэжымных ідэолагаў і выкарыстаньне кантрактнай схемы абавязкаў).
32. Ліквідацыя маёмасных правоў народа шляхам маніпуляцыйнай адмены прыватызацыйных чэкаў «маёмасьць» (абрабаваньне народа).
33. Палітычны кантроль над беларусамі шляхам наданьня неабмежаванай улады КГБ над людзьмі.
34. Палітычны кантроль над судамі шляхам палітычнага падпарадкаваньня судоў вышэйшай выканаўчай уладзе.
35. Палітычны кантроль вышэйшай улады над усёй выканаўчай уладай у краіне шляхам стварэньня сістэмы ўладнай вертыкалі.
36. Здача Маскве кантролю над уладай, мяжой, войскам, сілавымі структурамі шляхам заключэньня нелігітымных дамоваў, стварэньня псэўдасаюзаў і наддзяржаўных органаў; удзел у рускіх ваенных структурах.
37. Здача кіраўніцтва войскам, сілавых і абаронных галін функцыянерам Расеі.
38. Здача газатранспартнай, нафтавай і прадуктовай транзытнай сістэмы камунікацый ва ўласнасьць і ў дармовае карыстаньне Расеі зь вялікімі стратамі для Беларусі.
39. Здача ваенных аб'ектаў, аэрадромаў і базаў у бясплатнае карыстаньне Расеі зь вялікімі стратамі для Беларусі.
40. Сьвядомае стварэньне рабаўніцкай нэакаланіяльнай залежнасьці эканомікі ад палітыкі Расеі. Баланс убыткаў і стратаў Беларусі ў карысьць Расеі ў некалькі разоў перавышае крэдыты і прэфэрэнцыі з Расеі.

Стварэньне нэакаланіяльнай рабаўнічай сістэмы стала магчымым у выніку правядзеньня антыбеларускай палітыкі ўнутранай акупацыі (апісанай мной у папярэдніх пунктах) шляхам падаўленьня (у выніку нацыянальнай дэфармацыі) волі народа да супраціўленьня і шляхам здрадніцкага прыняцьця кіруючым рэжымам у Беларусі сістэмы рускага палітычнага шантажу як прынцыпу дачыненьняў паміж дзяржавамі.

Палітычны шантаж Расеі супраць Беларусі заснаваны на дзьвюх апорах: на манаполіі на нафту і газ, і на вайсковай пагрозе сілы, узброенай атамнай бомбай.

З усіх краінаў, якія вызваліліся ад імпэрыі ў 1990-х гадах пасьля паўраспаду Савецкага Саюза, Беларусь па сваім эканамічным патэнцыяле, у эканамічным, рэсурсным, ідэйным і палітычным плане мела найбольшыя магчымасьці супрацьстаяць нэакаляніяльнай палітыцы Масквы і хутка ўключыцца ў агульнасусьветную сістэму дачыненьняў як вольная, заможная і ўплывовая краіна. Не хапала тут толькі аднаго чыньніка, які, аднак, вырашыў усё і зганьбіў краіну перад усім сьветам. Гэты чыньнік –

нізкая нацыянальна-ідэалагічнае разьвіцьцё насельніцтва (папулярна – нізкі ўзровень нацыянальнай сьведамасьці грамадзтва).

Масква, маючы вопыт разбурэньня культурных народаў, цудоўна разумее прыярытэт сьведамаснага чыньніка над эканомікай, ідэі – перад матэрыяльным інтэрасам, і першым чынам ударыла па нацыянальных сымвалах, па беларускай мове, школе,культуры і г. д., а ў выніку – загарнула пад сябе беларускую эканоміку, працу і палітыку.

Для ажыцьцяўленьня нэакаляніяльнай ідэі Маскве патрэбна была ў Беларусі адпаведная сістэма кіраваньня, якая гарантавала б ёй пранікненьне ў краіну і татальны ўплыў. Такой сістэмай у грамадзтве зь нізкім ідэйна-нацыянальным узроўнем сьведамасьці зьяўляецца моцная (а дакладней абсалютная) прэзыдэнцкая ўлада, цераз якую Крамлю было найпрасьцей зайсьці ў чужую краіну.

Чатыры гады дэпутацкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце змагалася за парляманцкую рэспубліку супраць усталяваньня прэзыдэнцкай улады ў краіне (дарэчы, пры поўным неразуменьні і адстароненасьці мясцовай дэнацыяналізаванай інтэлігенцыі, якая ніяк ня цяміла, пра што спрэчка). Перамагла Масква, гэта значыць, яе каляніяльная адміністрацыя ў Беларусі, прытым нахабна падкідваючы нагамі беларускія законы, разумеючы, што ў тым калгасе, дзе ня бачылі розьніцы паміж лічбамі **1** і **360** (адзін прэзыдэнт і 360 дэпутатаў парляманту) можна было рабіць усё, што заўгодна.

Патлумачу яшчэ: Маскве тады было лягчэй знайсьці, аплаціць і падтрымаць аднаго свайго стаўленьніка, чым цэлы парлямант і сотні дэпутатаў. Масква зацікаўлена ў абсалютнай уладзе такога свайго стаўленьніка ў Беларусі і незацікаўлена ў дэмакратыі. А цяпер ўспомнім тую праклятую нямецкую палітыку Эўразьвязу (зь якой мы змагаліся ад пачатку) ў другой палове 90-х і ў пачатку нулявых гадаоў па далучэньні Беларусі да нібыта «дэмакратычнай» Расеі ў імя «дэмакратыі». (Немцы тут «апазыцыю» нават сваю стварылі за «дэмакратыю» сумесна з КГБ.) Успомніце антынацыянальных клікуш (тыпу С. Алексіевіч), іхны лямант: «если мы не пустим демакратию впереди белорусского языка, мы погибнем». І сапраўды, калі ня пусьцім, – то цемрашалам ад «дэмакратыі» будзе гамон разам з фашызмам і «русским миром.

Палітычнага «драня» на ролю сатрапа Масква знайшла заранёў і купіла цалкам, потым, прыгаворваючы, што ён «сукін сын», але, маўляў, «наш сукін сын».

Тыя некалькі дзясяткаў пунктаў, якія я запісаў вышэй, – гэта самыя агульныя палажэньні, па якіх Крэмль выкарыстоўвае рэжым Лукашэнкі ў разбурэньні беларускай нацыі. Калі будзе суд над злачынцамі, то такіх палажэньняў назавецца некалькі сотняў (плюс прыналежнасьць да забойства людзей), якія пацягнуць да крымінальнай і гістарычнай адказнасьці перад народам.

Якая ж канцовая мэта такой рускай палітыкі, рэалізаванай у Беларусі за апошнія дваццаць гадоў? Тут можна перафразаваць яшчэ царскае выказваньне 200-гадовай даўніны: зьнішчыць так, «каб нішто і ніколі, і нікому ўжо не нагадвала пра існаваньне Вялікага Княства Літоўскага». Вялікае Княства цяпер – гэта Беларусь. Маскоўскае пажаданьне застаецца ў сіле, і фразеалогія іхняя тая ж самая, толькі з папраўкай на Беларусь.

Калі канкрэтна (а рускі фашызм цяпер цынічна шчыры), то ў будучыні Беларусі і беларусаў, па планах Крамля, не павінна быць. Шляхам стварэньня адпаведнай сітуацыі карэннае насельніцтва Беларусі (найперш рабочая і інтэлектуальная сіла) павінна быць высмактанае ў Расею. Нязгоднае, бунтарскае, празаходняе, прабеларускае і іншае дзейснае насельніцтва мусіць быць выштурхнута за межы краіны, рассыпана па ўсім сьвеце.

Замена насельніцтва не павінна быць эквівалентнай (інакш можа ўзьнікнуць сэпаратызм). Тэрыторыя Беларусі мусіць стацца ваенным плацдармам Расеі, мілітарным балконам (базай зь ядзернай зброяй), які навісае над Эўропай. Тут жа будуць зьвезеныя і складзеныя ядзерныя і хімічныя адыходы. Сюды ж, у Беларусь,

будзе ськідвацца састарэлае і крымінальнае насельніцтва з усёй Расеі, каб запабегчы любому эканамічнаму самаразьвіцьцю тэрыторыі і папярэдзіць спакусы для распарушаных па ўсім сьвеце беларусаў вярнуцца на родную зямлю продкаў.

Лукашысцкі рэжым адпрацоўвае на гэты план ужо дваццаць гадоў, а руская агентура пад відам апазыцыі да яго пасьпяхова стварае яму непалітычнае ўспрыняцьце дурня, прымітыва, калгасьніка і т. п., цераз слова паўтараючы, што трэба, маўляў, «свальвать из этой дэбильной страны» і г. д. Дастаткова пачытаць некаторыя іхныя рэсурсы ў Інтэрнэце – і там усё відаць (усё па праграме выштурхоўваньня).

Вось, напрыклад, зусім нядаўна адзін такі важны эканаміст гэтак піша: *«Дармаеды сыдуць у партызаны. Людзі раззлаваліся і затаілі камень за пазухай (гэта пра дэкрэт № 3, – з.п.). Краіна немаленькая, лясоў шмат. Прыйдзе падатковая - а муж у партызанах. Колькі яны будуць хадзіць па кватэрах-хатах? Ёсць добрая магчымасць прымаць расейскае грамадзянства. Расея мае патрэбу ў працоўнай сіле, могуць і спрасціць працэдуру прыняцця грамадзянства для беларусаў", - прапаноўвае Леанід Заіка свае варыянты барацьбы з незаконным дэкрэтам».* http://www.charter97.org/be/news/2015/4/15/147726/»

Тут проста «класіка» жанру. Словам, вядомы прыём: можна гаварыць пра што хочаш, і нават вельмі рэвалюцыйна, але між іншым -- пра «добрыя магчымасьці» абязлюдніць і русіфікаваць Беларусь. (прытым гэтак удаваць, нібыта тут не палітыкан, а «эканаміст» выказваецца.) Як кажуць палякі, «д'ябэл тквi в шчэгулах» (чорт выяўляецца ў дробязях).

Расейскую палітыку, якая б яна ні была, ніколі нельга недаацэньваць. Расея – гэта скопішча зла, але ня скопішча дурняў (як па майму вопыту, дык дурняў больш на Захадзе). Расейская імпэрская палітыка грунтуецца на агрэсіі і нянавісьці. Гэта імпэратывы, якія мабілізуюць прыродную волю і базавыя жывёльныя інстынкты, зь якіх вынікае незвычайная жорсткасьць, поўная непавага да чалавечага жыцьця і цалкавітая адсутнасьць маральных абавязкаў. Абвостраная воля стымулюе і абвостраны розум вайны.

Псіхалагічны тып імпэрскага расейца ў стане канфлікту завостраны на тым, каб забіць, зьнішчыць, сцьвердзіць сябе над забітым ворагам (тыпалогія яшчэ мангольскага пэрыяду).

Псіхалагічны тып цывілізаванага заходніка ў стане канфлікту завостраны на тым, каб пазьбегнуць канфлікту (беларус цалкам укладваецца ў гэты тыпаж), адмовіцца ад барацьбы шляхам паразуменьня, кампрамісу, часам любым спосабам, і нават за кошт іншых. І толькі калі вычарпаныя магчымасьці (альбо, што часьцей, калі вораг ужо напаў) – тады дзеяньне.

Гэтыя разважаньні я тут напісаў толькі дзеля таго, каб нагадаць (у тым ліку і самаму сабе), што ў 2008 годзе, калі пачаўся сусьветны крызіс, тады агрэсіўная абвостранасьць розуму крамлёўскіх расейцаў (хоць Пуцін сам па сабе чалавек недалёкі) дазволіла ім дакладна зразумець, што справа, якой яны займаюцца ва ўладзе, коціцца ў бездань, і часу засталося няшмат. Рашэньне бало прынята чыста рускае. Напалі на Грузію (патрэбна была малая пераможная вайна, каб умацавацца ва ўладзе). Пачалі рыхтавацца да агрэсіі на Украіну, планаваць уваходжаньне ў Беларусь, у Прыбалтыку, рабіць правакацыі ў Эўразьвязе і рыхтаваць яго падзел, інспіраваць тэракты і г. д.

Эўропа (дакладна згодна свайму псіхатыпу) нібыта не заўважыла расейска-грузінскай вайны. Рэакцыя была вялай, хоць сьвет якраз тады зьмяніўся, былі растаптаны і перакулены існуючыя ппрынцыпы міжнародных дачыненьняў, і гэтая зьмена, фактычна, адбылося ў 2008 годзе. Ялцінскі пасьляваенны парадак зьнік. Але толькі калі Расея захапіла Крым і пайшла вайной на Украіну, толькі тут ужо зьявіліся больш сур'ёзныя ацэнкі. Аднак палітыка тая ж самая – пазьбегнуць барацьбы шляхам размоваў, кампрамісаў і здачай чужых інтарэсаў. І так будзе, відаць, аж пакуль Масква ня стане пад Бэрлінам і Парыжам.

У дачыненьні да Беларусі, наколькі мне вядома з аналізу пабочных крыніц, існуе некалькі варыянтаў новага маскоўскага захопу. Няма сэнсу іх агучваць, бо ўсё можа зьмяніцца. Важна толькі ведаць, чаго больш за ўсё Крэмль баіцца (і тое можа паблытаць усе расейскія планы) -- гэта збройнага супраціўленьня беларусаў у любой форме. Калі будзе збройны беларускі супраціў агрэсіі, Масква можа страціць усё сваё пачынаньне, нават калі гэты супраціў яна задушыць і ліквідуе. Чаму страціць – зразумела. Я пра гэта ўжо ня раз пісаў і казаў.

Менавіта пасьля агрэсіі супраць Грузіі (з 2008 года) Расея пачала канкрэтна рыхтаваць умовы для гібрыднай акупацыі Беларусі. (Мы, фронтаўцы, тады гэта ня раз адзначалі.)

Ужо ў 2009 годзе адбываюцца ў Беларусі вельмі своесаблівыя руска-лукашысцкія вайсковыя вучэньні, дзе рэальна адпрацоўвалася тактыка вайны з «партызанамі», «дыверсантамі» і мірным насельніцтвам. Дакладней, вучыліся, як ваяваць зь беларусамі. І з чаго б гэта тады? Украіна цяпер дала адказ.

У той час на беларускіх аэрадромах разьмясьцілі рускія самалёты, быў прыняты таксама шэраг «абсурдных» («абсурдных» па характарыстыцы апазыцыйнай агентуры, а ў сапраўднасьці антынародных) пастановаў, дэкрэтаў і распараджэньняў. Некаторым дэкрэтам спрабавалі супраціўляцца прафсаюзы, прадпрыймальнікі, гандляры. Ніхто рэальна нічога не разумеў па сутнасьці, хоць год за годам увесь час было адно і тое ж. І нават супраціў такім дэкрэтам арганізоўвала агентура. Сапраўды, усё выглядае, як абсурд. Але ўсё яно выглядае так толькі для прастакоў і для так званых «аналітыкаў». На самой справе тут – тэхналогія. Яна простая, як жэрдка, і даведзеная ў Беларусі амаль да аўтаматызму.

З 2014 года, пасьля рэвалюцыі ва Украіне, антыбеларускі рэжым (фактычна, руская агентура ў Беларусі) інтэнсіўна і пасьлядоўна стаў ствараць умовы, якія забясьпечылі б тут посьпех маскоўскай гібрыднай акупацыі (калі б узьнікла такая патрэба).

24 красавіка 2014 года быў прыняты дэкрэт аб здачы ўсялякай зброі насельніцтвам Беларусі. Прытым дэкляравалася, што пасьля тэхнічнай экспэртызы і ўзяцьця на ўлік, зброю вернуць уласьнікам. І што вы думаеце? Панесьлі. Паверылі. Адзін шчыры беларус нават ручны кулямёт Дзехцярова прынёс здаваць.

Другім законам з гэтай сэрыі стала забарона фатаграфаваць будынкі, установы, музэі, райвыканкамы, кінатэатры, банкі і г. д. Міліцыя пачала хапаць людзей. А агентура гуляе ў апазыцыю, крычыць «ідыёты», «дурні», «бюракраты» і г. д., хаця зразумела, што тут ня дурні і не ідыёты. Тут дакладная акупацыйная палітыка, якая імкнецца заранёў перашкодзіць магчымым мэтанакіраваным канструктыўным дзеяньнем узбунтаваных супраць рэжыму людзей (калі б такое сталася).

Потым зьявілася распараджэньне пра сьмецьце, якое недобрасумленныя людзі вывозяць у лес. Прынята рашэньне, што ў лясах, ля дарог і ва ўсялякіх сьцішаных месцах разьмесьцяць камэры відэа-назіраньня. Будуць быццам бы назіраць за сьметнікам.

Такое нават камэнтаваць ня хочацца. Узровень прапаршчыкаў, што зьбіраюцца ваяваць з партызанамі, якіх яшчэ няма.

Руская разьведка, якая дзейнічае ў падрэжымнай Беларусі, фактычна, легальна, ажывіла цяпер дзейнасьць усялякіх, наштампаваных ёй, экзатычных антыбеларускіх арганізацыяў моладзі, розных «казакаў», «патрыётаў Расеі», усялякіх «дамоў» ды «родзінаў». Ганяюць нашых дзяцей па лясах ды па выганах, вучаць страляць (як акажацца потым – у сваіх бацькоў). Распаўсюджваюць па беларускіх дарогах расейскія сьцяжкі ды каларадзкія стужкі, плянуюць мотапраезды рускіх фашыстаў па Беларусі і г. д. Падрыхтоўка ідзе поўным ходам. І гэта толькі тое, што бачна з першага погляду.

У апошнія дні асобным нумарам гэтай праграмы праходзіць Дэкрэт №3 аб абкладаньні грашовымі паборамі (падаткамі) беспрацоўных і аб адміністрацыйным арышце тых, хто не працуе і ня будзе мець, чым плаціць за тое, што не працуе. Акупанты падлічылі, што не працуюць і жывуць з уласных, раней заробленых грошай,

недзе два адсоткі беларусаў. Гэта разрозьненныя несабраныя ў адну сацыяльную групу людзі. Яны ў прынцыпе незалежныя ад рэжыму, таму трэба ад іх пазбавіцца, бо небясьпечна: іх жа больш чатырохсот тысячаў. Знайшлі спосаб, як іх «законна» абрабаваць. Прытым самы ж рэжымшчыкі падказваюць выйсьце: ня будзеце плаціць, дык зьязджайце зь Беларусі.

Вельмі пасьлядоўная прадуманая антынародная палітыка. «Прымітывы», «дурні» «зламалі пяць артыкулаў Канстытуцыі», – гавораць пра дэкрэт № 3, каму трэба і каму ня трэба. Ня дурні, не дэбілы і не ідыёты (паўтаруся яшчэ раз), а ворагі Беларусі, з халодным разьлікам, з разуменьнем, што робяць, і з поўнай грэблівасьцю да людзей, якія дваццаць гадоў сьведама нічога не разумеюць. Не разумеюць – і ўсё тут. Зручна не разумець. Подпісы пачалі зьбіраць супраць абсурднага закону. Вядома, зьбіраньне подпісаў, гэта таксама мэтад кансалідацыі людзей. Але становішча складваецца такое, што ўжо ня подпісы, а зброю трэба зьбіраць беларусам, патроны ды стрэльбы, алей ды бензін, ды шкляную тару (танкі прыдзецца здабываць у баі).

Цяпер трэба нам, беларусам, зразумець, што ўжо ня ўдасца не змагацца і быць свабоднымі. Ня ўдасца змагацца і не загінуць.

Бог у вялікай Ласцы сваёй даў беларусам льготу – здабыць Незалежнасьць і шчасьце без крыві. У 1991 годзе, калі вызваляліся ад СССР, у Беларусі не загінуў ні адзін чалавек. Усе ж іншыя народы заплацілі (і плоцяць) жыцьцямі і крывёй.

Але не падзяквалі беларусы Богу. Абплявалі сваіх змагароў і Ласку Яго Госпаднюю кінулі сьвіньням пад ногі, прагнучы хлеба, але не свабоды. Прыпавесьць старая, як сьвет: ня будзе ні волі, ні хлеба.

Цяпер жа, каб вярнуць свабоду, і нават хлеб, прыдзецца заплаціць вялікай, вельмі вялікай крывёй. Альбо рабствам, калі не захочам крывёй плаціць.

Веру, аднак, што жыве і будзе жыць Беларусь.

Слава Украіне і героям, якія ахвяруюцца за свабоду!

*19 красавіка 2015 г.* Зянон Пазьняк

# ШТО СТАІЦЬ ЗА ПУЦІНСКАЙ ПРАВАКАЦЫЯЙ

Правакацыя рускіх спэцслужбаў (матацыклетнай групы) удалася ў Беларусі, як кажуць, на 200 адсоткаў. Здабыты патрэбны для іх вынік.

Паколькі я перад правакацыяй шмат пра тое пісаў, і нават зрабіў асобны відэа-зварот да разумных беларусаў, дзе растлумачыў сутнасьць расейскіх планаў і чаму неабходны супраціў гэтым планам, то цяпер я мушу напісаць гэтую рэпліку і паўтарыць некаторыя заўвагі.

Масква даўно плануе рэальны захоп Беларусі (і ня толькі Беларусі). Канкрэтыка па нашай краіне пачала распрацоўвацца маскоўцамі ў 2014-м годзе (адразу пасьля інвазіі ў Крым і агрэсіі на Украіну). Варыянты захопу тут ужо не істотныя (мы пра іх дакладна ня ведаем). Але ведаем іншае. Адзінае, чаго крамлёўцы пабойваюцца і што пакуль стрымлівае іхныя планы, гэта пытаньне, ці будзе супраціўленьне беларусаў і ў якой форме. (Я ведаю, што супраціўленьне будзе. Але тут важна, каб тое ведалі яны).

25-га красавіка маскоўцы, скарыстаўшы адкрытасьць мяжы зь Беларусяй (адсутнасьць абароненай мяжы – гэта частковая і вельмі істотная страта суверэнітэту краіны), выправілі ў Беларусь банду разьведчыкаў на матацыклах, якіх курыруе асабіста Пуцін. (Там не маладзёны, але афіцэры ва ўзросьце 40-50 гадоў.)

Праграма групы была вельмі важнай у прапагандысцкім і разьведчыцкім сэнсе і накіравана ў асноўным супраць Эўразьвязу. У Беларусі мусіў быць тэставаны чыньнік магчымасьці і наяўнасьці супраціўленьня.

Вынікі тэставаньня сталі нечаканымі, відаць, нават для самых правакатараў. Іх сустракалі ў Беларусі вялікія групы арганізаваных людзей разам з кіраўнікамі раёнаў і вобласьцяў пад савецкімі сьцягамі, з рускімі песьнямі і абдымкамі, кветкамі і радаснымі ўсьмешкамі. А да Менска, на савецкі курган вайны, іх урачыста суправаджала міліцыя ДАІ, прыехаў старэйшы сын Лукашэнкі (рэальна – другая асоба ў сатрапіі), прысутнічалі прадстаўнікі адміністрацыі правіцеля. Гучэла савецкая музыка, здымалі кінаапэратары, бралі інтэрв'ю журналісты.

26-га красавіка, у 29-ю гадавіну Чарнобыльскай катастрофы ўсе газэты і рэсурсы рэжымнага, прарэжымнага, квазідэмакратычнага і канфармісцкага кшталту зьмясьцілі вялікія ўрачыстыя інфармацыі пра гэтую (увогуле нікчэмную) падзею, нібы пра прыезд вышэйшай урадавай дэлегацыі (чым таксама моцна зьдзівілі правакатараў).

Найбольш поўна, усебакова і падрабязна паказала гэтую акцыю Беларуская рэдакцыя радыё “Свабода”. Яна зьмясьціла шырокія, пазытыўныя, ледзь што не ўзьнёслыя, рэпартажы з мноствам здымкаў і відэаматэрыялаў, пад яркімі загалоўкамі і з мноствам інтэрв'ю, дзе рускія матацыклісты гавораць проста ў камэру і грэбліва называюць беларусаў “уродамі” (“в семье не без уродов, как говорят в русском народе” – выказваньне маскоўца «матацыкліста»).

На сайце радыё “Свабода” звычайна камэнтароў на матэр'ялы амаль што няма, але тут адна асоба ўсё ж знайшлася і напісала па-руску свой камэнтар, які “Свабода” з гатоўнасьцю памясьціла. А камэнтар такі:

“*Alexandra Krasovskaya:*

Бравые русские мужчины прибыли в Беларусь, мы вам благодарны за память к нашей Великой Победе, УРА!! Ждали вас и рады вашему приезду. Пусть это станет доброй традицией каждый год, да что там, заходите в любое время, всегда встретим как самых близких друзей-родню.”

Кжнаму зразумела, што тут праграмны рускі троль (нават, відаць, робат), але рэдакцыя ахвотна тое публікуе. Маўляў, «дэмакратыя», «свабода слова». Пад час правакацыі і ва ўмовах рускай дэзінфармацыйнай вайны і вось такое яно на гэтым рэсурсе.

Увогуле сеанс самаабплёўваньня, самаедства і паталёгіі мэнтальнасьці ва ўсіх падрэжымных і пазарэжымных СМІ адбыўся ўзорна. У прапагандзе і ў інфармацыйнай вайне стымуляцыя такой зьявы (самаабплёўваньня) прадыктавана задачай пазбаўленьня народа (палітычнага праціўніка) волі да супраціўленьня. Адраджэнцы-франтаўцы ня раз пра гэтую рускую мэтадалёгію казалі і пісалі, цытавалі дакуманты рускіх спэцслужбаў у іхным змаганьні зь беларусамі. Гэтая мэтода даўно і татальна ўжываецца ў Беларусі чужой агентурай (і найбольш агентамі ўплыву ў СМІ).

Разбуральныя вынікі такога мэтаду відавочныя. У прынцыпе, простымі прыёмамі можна зламаць хрыбет цэлай нацыі (асабліва калі пазбавіць яе сваёй мовы і гісторыі). Практычна, усе СМІ ў Беларусі (і нават некаторыя за мяжой, якія фінансуюцца не з бюджэту рэжымнай улады) працуюць у згаданым агентурным рэчышчы парадыгмы самаедзтва і самаабплёўваньня народа. Гэтая эфэктыўная мэтадалогія Лубянкі і Крамля ўжо глыбока ўкарэнена ў сьвядомасьць цэлых групаў беларускага грамадзтва і жыве на міфалагічным узроўні (як “крымнаш” у расейцаў), фармуецца ў падсьведамасьці як комплекс непаўнавартасьці.

Якія вынікі могуць быць пасьля правакацыі рускіх «матацыклістаў» у Беларусі? У прынцыпе, такія самыя, як і пасьля тэставаньня Крыма (якое рабіла гэтая ж «матацыклетная» група). Захоп Беларусі пры пэўных абставінах прадугледжаны. Дакладнага тэрміну мы ня ведаем, але разумеем, што верагоднасьць рашэньня аб захопе стала амаль што безальтэрнатыўнай, улічваючы, што ў змаганьні з Захадам гэта ёсьць стратэгічна выгадны для Масквы крок. Асабліва пасьля рашэньня аб прадажы ракет С-300 Ірану. (Я ўжо пісаў, што ў выніку перадачы гэтых ракет Ірану і увогуле пуцінская палітыка з Іранам можа прывесьці да таго, што ўсяму сьвету будзе не да Украіны і не да Беларусі.) Расея рэальна здольная цяпер на авантуры і магла б паставіць Эўропу на калені. Праўда, ўтрымаць становішча ёй будзе не пад сілу, таму ўсё пад пытаньнем.

Не пад пытаньнем толькі тое, што Захад пры любых абставінах здасьць Беларусь спакойна, дэмакратычна і цынічна, не зьвяртаючы ўвагі на Будапэшцкі мэмарандум 1994 года, на свае гарантыі і абавязкі, паводле якіх Беларусь адмовілася ад ядзернай зброі ўзамен за гарантыі бясьпекі з боку вялікіх дзяржаваў. Здасьць, гэтак жа сама як, фактычна, здаў Украіну, таксама ўдзельніцу Будапэшцкага мэмарандуму. Падпісваць дагаворы з Захадам тое самае, што і з Масквой. Для іх яны пустыя паперкі. Маем гісторыю і наступаем на гістарычныя граблі.

Думаючы як выбрацца з прамаскоўскай нядолі і з-пад антынароднага рэжыму, нам трэба цяпер усімі сіламі падтрымліваць вольную Украіну і яе змаганьне з Масквой, памятаючы, што Украіна і Беларусь, гэта даўняе Вялікае Княства Літоўскае, гэта Усходняя Эўропа, веліч і магутнасьць якой некалі сумесна зьнішчылі ардынская Расея і нямецкая Эўропа Заходняя. (Мог кардынальна дапамагчы нам Напалеон, але не скарыстаў шанц, не хапіла стратэгічнага думаньня.) З тых часоў мала што перамянілася. Наша будучыня не з ворагамі, а з сябрамі. Наша будучыня – Эўропа Ўсходняя, якую мы называем Балтыйска-Чарнаморская Супольнасьць краін.

У цэлым тое, што Масква можа спакойна, не спаткаўшы супраціву, зайсьці ў Беларусь, як у Крым, -- гэта ўсё ж ілюзія (нягледзячы на спэктаклі з сустрэчай матацыклаў). Супраціўленьне будзе. Але дрэнна тое, што пасьля матацыклетнай правакацыі, якая ў цэлым яшчэ не закончана, будуць драчыць Эўропу. Нам жа, беларусам, безумоўна, лепш, каб Масква нічога не пачынала.

І цяпер – чаму маё папярэджаньне і мой заклік, які пачулі тысячы людзей, не спрацавалі. На мой погляд, па банальнай, чыста беларускай прычыне. Беларусы недаацанілі сур’ёзнасьць становішча і сутнасьці правакацыі. Пэрформэнсы ды інсталяцыі, якія сталі рабіць, тут непатрэбныя. Ёсьць шмат спосабаў супраціўленьня і мэтадаў перашкодзіць правакацыі, нават калі банду спатыкае адміністрацыя правіцеля і суправаджае міліцыя ДАІ.

Патрэбна было, як мінімум, сур'ёзнае *ўсьведамленьне неабходнасьці супрацiву.* Потым – *“мазгавы штурм”* задачы, далей – адпаведнае *рашэньне* і адпаведнае *выкананьне.* І зусім не абавязкова, каб некага потым судзілі ды садзілі. Дзеля гэтага даў людзям Бог рашучасьць у справе і розум у галаве.

У Народным Фронце шмат было падобных сітуацый. У 1995 годзе, напрыклад, калі лукашысты штурхалі незаконны рэфэрэндум (пра беларускую мову, дзяржаўныя сымвалы і г. д.) становішча склалася крытычнае і было ўжо амаль безнадзейным. Увесь намэнклятурны Вярхоўны Савет гатоў быў прыняць патрабаваньні новай хунты. Ніякія аргуманты, ніякія законы тут ужо не прымаліся пад увагу. Вечарам, 10 красавіка 1995 года, пасьля завяршэньня вячэрняга паседжаньня сэсіі Вярхоўнага Савета мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, сабраліся ў пакоі Апазыцыі, і я кажу сябрам, што «заўтра вырашаецца лёс будучыні Беларусі. Вярхоўны Савет зацьвердзіць патрабаваньні хунты пра незаконны рэфэрэндум. Трэба гэтага не дапусьціць. І таму замыкаем дзьверы, і ніхто адсюль ня выйдзе, пакуль не прыдумаем, што рабіць. Калі будзем доўга думаць, то будзем тут начаваць. Пачынаем думаць.”

І прыдумалі. І потым выканалі. І Вярхоўны Савет 11-га красавіка, у час галадоўкі дэпутатаў БНФ ў залі парляманту, заваліў тады ўсе асноўныя незаконныя пытаньні лукашысцкага рэфэрэндуму.

У ажыцьцяўленьні ўсялякай неабходнасьці (ці то на вайне, ці то ў палітыцы, ці то ў звыклых жыцьцёвых абставінах) ёсьць дзьве стадыі ажыцьцяўленьня. Першая стадыя: “Трэба!” Пасьля ўсьведамленьня, што “трэба” – другая стадыя: “Робім!” Калі вырашана, што «робім», тады ўжо робім, думаем, як рабіць, шукаем мэтады, спрабуем і рана ці позна – дасягаем выніку. Калі ж на другой стадыі пачынаюць казаць, што трэба, але “вораг моцны”, што “яго мільён”, што “ў яго лепшая зброя”, што “вада халодная”, што “няма чаго есьці” і г. д., што “нічога не атрымаецца і ня трэба рабіць”, «бо будзе горай», тады далей ужо можна не гаварыць і лепш разыйсьціся.. Нічога сапраўды ня будзе, бо калі прынята рашэньне “робім”, то ўсё астатняе мусіць таму падпарадкавацца.

Дакладна так і са свабодай. Першае пытаньне. Ці патрэбна нам свабода? Калі патрэбна, тады пачынаем змагацца за свабоду. І ня мае значэньне колькі мільёнаў войска ў тырына. Нічога ня мае значэньня. Толькі барацьба. І толькі тады можна перамагчы.

З вопыту скажу, што беларусы найбольш адмаўляюцца перад другой стадыяй (знакаміты спадзеў на «добрага дзядзьку»). Украінцы адмаўляюцца значна менш, а расейцы ўвогуле (і як правіла) могуць пачаць спачатку рабіць, а потым будуць думаць (у іх гэта называецца “лиха беда начало”).

Як бы там ні было, правакацыя пуцінскіх матацыклістаў адбылася бесперашкодна. Яна будзе яшчэ парцягвацца (можа й ня раз). Але для нас гэта ўжо мае другаснае значэньне, бо правакацыйны вынік у Беларусі расейцамі дасягнуты. Трэба беларусам зьбіраць зброю, гуртавацца, рыхтавацца да абароны Айчыны і да вайны, якая цяпер наблізілася.

*27 красавіка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ВІЛЕНСКІ ФЭЛЬЕТОН

***(З нагоды 20-х угодкаў галадоўкі дэпутатаў Апазыцыіі БНФ і «разбойнай ночы»)***

Украінская армія патрабуе дапамогі зброяй. Гэта рэальны шлях, каб Украіна магла абараніцца і адкінуць ворага. Захад (найперш Эўропа) ня хоча прадаць зброю Украіне. На Захадзе баяцца, што Расея зазлуецца і яшчэ больш палезе на Украіну, і тады Эўропе прыдзецца дапамагаць украінцам шмат і ўвесь час. Эўрапейцы баяцца, што іх уцягнуць у вайну і пазбавяць камфорту. Што рабіць, яны ня ведаюць. Але зразумела, што калі пагроза вайны павялічыцца, то Украінай яны гатовыя ахвяравацца, каб залагодзіць Пуціна. (Яны думаюць, што яго можна залагодзіць.)

Гэтакае маразматычнае філісьцерства нядаўна з правінцыйнай лапідарнасьцю агучыў былы міністар Замежных справаў Летувы спадар Ушчацкі (Ушчацкас), які атрымаў пасаду ў Эўразьвязе (і не абы якую – амбасадара ЭЗ у Расеі). Ён сказаў, што ЗША занепакоены, «якія будуць наступствы, калі будзе прадстаўлена вайсковая дапамога, ваенная тэхніка; якім можа быць адказ Расеі». «Трэба шукаць пункты судакрананьня, – кажа сп. Ушчацкас, – як мы можам («мы» – гэта Эўразьвяз) пры дапамозе перамоваў з Расеяй спыніць эскалацыю канфлікта». А ў канцы гэты чыноўнік з усходу выдаў сакрамэнтальнае эўразьвязаўскае: «Мы ня пойдзем ваяваць і паміраць за Украіну, і мы ня пойдзем мяняць Расею».

Цынізм зашкальвае. Чэмбэрлены адпачываюць. Гэта ж трэба, якім эўрапейцам стаў спадар Ушчацкас, як скокнуў. Пуцін яшчэ і пальцам не кіўнуў, а ён ужо гатовы Украіну прадаць, І паміраць за яе ня будзе. (Былі некалі нават больш разумныя, што не хацелі паміраць за Гданьск, дык сапраўды, памерлі з камфортам ва ўласным доме пад бомбамі.)

Хітраватая Эўропка заўсёды выбірае нейкую маленькую краінку, тыпу Даніі ці Летувы, каб агучыць сваё самае скрытае. Вось Ушчацкас як умеў, так і агучыў.

Але я зьвяртаю на гэта ўвагу з другой нагоды. Надыходзіць 20-я гадавіна «разбойнай ночы». У 1995 годзе, у ноч з 11 на 12 красавіка, пасьля першага ўдалага эфэкту ад галадоўкі дэпутатаў Апазыцыіі БНФ у Вярхоўным Савеце (правалiліся на галасаваньні антынародныя незаконныя пытаньні, якія выносіў на рэфэрэндум новы рэжым) у парлямант былі ўведзены войскі, батальён спэцназу і гэбоўская група Альфа, якія зьбілі дэпутатаў і вынесьлі іх з залі Вярхоўнага Савета.

Разбоем па патрабаваньні Масквы кіраваў асабіста Лукашэнка. За гэта яму павінен быў быць гарантаваны стоадсоткавы імпічмант і турма. Ужо на раніцы, у 8 гадзін, Гэнэральны пракурор Васіль Шаладонаў узбудзіў крымінальную справу па факту зьбіцьця дэпутатаў і ўводу войска ў будынак парляманту. Рэжымныя функцыянеры забегалі, як пацукі, усіх палохаючы, хлусячы і пагражаючы. На раніцы вывелі ўнутраныя войскі на плошчу Незалежнасьці і акружылі Вярхоўны Савет. Дэпутатаў Апазыцыіі БНФ не прапускалі ў залю паседжаньняў. Усё гэта ўжо ня раз падрабязна апісана.

Некаторыя людзі, якія думалі катэгорыямі дэмакратычнай краіны, меркавалі, што «ўсё!» -- антынацыянальнаму рэжыму канец, зараз абурыцца і падымецца ўвесь 10-мільённы беларускі народ і ўвесь сьвет, злачынцаў чакае турма.

Першай салідарна адрэагавала Польшча. Сэйм Польшчы выказаў падтрымку беларускай дэмакратыі. Ужо назаўтра да нас прыехала трохасабовая дэлегацыя польскага Сэйму начале з Багданам Барусэвічам.

Але потым аказалася, што Польшча – адзіная краіна, якая падтрымала Беларусь і асудзіла спробу правальнага путчу Лукашэнкі.

Маўчаў 10-мільённы беларускі савецкі народ, радасна паціралі ручкі камуністы і ветэраны НКВД.

На спатканьнях зь людзьмі мы казалі: «Дарагія землякі, сёньня спэцвойскі рэжыму ўварваліся ў парлямант і зьбілі нас, вашых дэпутатаў. Вы змаўчалі. І рэжым зразумеў, што так можна. Заўтра ўварвуцца ў вашыя дамы і пацягнуць вас за нішто, і будуць біць вас на вуліцах і ў пастарунках за Беларусь, як рабоў, ачмураныя хлусьнёй рэжымныя вырадкі. Зьбіцьцё вашых дэпутатаў – гэта тэст на вашу няволю». Людзі маўчалі.

Інфармацыя пра зьбіцьцё дэпутатаў ужо на раніцы была паслана ў эўрапейскія парляманты і сродкі масавай інфармацыі. У адказ палітыкі выяўлялі «заклапочанасьць», газэты пісалі.

Але найбольш нас уразіў летувіскі Сэйм у Вільні. Там абмяркоўвалі надзвычайныя падзеі ў Менску і рашылі ўстрымацца ад падтрымкі законнасьці і дэмакратыі, каб не псаваць адносіны з новым рэжымам і каб не раззлаваць Лукашэнку. За асуджэньне путчу і зьбіцьця ў Менску дэпутатаў парляманту пры галасаваньні выказалася толькі трох летувіскіх дэпутатаў Сэйму.

Мне ўспамінаюцца 1990-1991 гады, калі прыходзілася колькі разоў падтрымліваць летувісаў на паваротных этапах іхняй гісторыі, нават сядзець, па просьбе Ляндсбэргіса, у яго кабінэце ў Сэйме ў якасьці сьведкі, калі з хвіліны на хвіліну чакалі ўварваньня савецкіх танкаў.

Калі 13-га студзеня 1991 года па загаду Крамля ўзброеныя сілы СССР пачалі штурм віленскай тэлевежы, мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, імгненна арганізавалі палітычную падтрымку Летуве ў Вярхоўным Савеце. Была прынята палітычная заява, дзе быў выказаны «рашучы пратэст» супраць палітыкі Гарбачова ў дачыненьні да краінаў Прыбалтыкі. Мы змусілі Вярхоўны Савет нават утварыць афіцыйную дэлегацыю Вярхоўнага Савета БССР і паслаць яе ў Вільню. Тым часам па маёй прапанове была створана яшчэ адна дэлегацыя ад Апазыцыі БНФ, якая тут жа выехала ў Вільню. Там нашыя дэпутаты БНФ (С. Навумчык, В. Голубеў, І. Пырх, Б. Гюнтар) выступілі ў Сэйме, начавалі ў абложаным будынку парляманту, вялі перамовы (І. Пырх) з Ляндсбэргісам аб зброі і г. д.

Успамінаюцца таксама надзвычайныя падзеі 1990 года. 11 сакавіка Летува абвясьціла аднаўленьне незалежнай дзяржаўнасьці. Масква абурылася, і 29 сакавіка 1990 года Прэзыдыюм Вярхоўнага Савета БССР (за подпісам М. Дземянцея) запатрабаваў ад ЛССР вярнуць Беларусі Вільню і прылеглыя беларускія тэрыторыі.

У Вільні шок. З Саюдзіса пастаянна званілі ў БНФ, прасілі прыехаць дапамагчы ўладзіць пытаньне. Мы цудоўна разумелі, што гэта несур'ёзная маскоўская гульня, што М. Дземянцей  круглая пешка і што Крэмль хоча зьнішчыць БНФ і ўмацаваць у Вільні камуністаў.

Трэцяга красавіка ў адмысловым паведамленьні БНФ ацаніў намеры Масквы і выступ Дземянцея як «палітычны шантаж». Ня больш. Ніхто сур'ёзна заявы Дземянцея не ўспрымаў. Такія, як Дземянцей, ніколі ня будуць змагацца за вяртаньне Вільні. Яны (камуна-расейскае кіраўніцтва БССР) не пярэчылі Сталіну і здалі Вільню, растаптаўшы волю віленчукоў (70-тысячны мітынг аб далучэньні да Беларусі), гатовыя былі прадаць Маскве ўсю Беларусь і сто разоў самы прадацца.

14 красавіка БНФ накіраваў дэлегацыю ў Вільню, дзе мы супакоілі напалоханых саюдзістаў і прынялі сумесную заяву дэпутатаў Сэйму ад Саюдзіса і дэлегацыі БНФ. Згодна гэтай заявы ў Вільні павінны былі зьявіцца і беларускае радыё, і тэлебачаньне, і беларуская школа, і інш. Пакуль там ва ўладзе быў Саюдзіс усё гэта больш-менш выконвалася. Потым да ўлады прышлі людзі з кароткай памяцьцю і, ужо будучы ў эміграцыі, я ўвесь час меў праблемы з уязнымі візамі ў Вільню.

Нягледзячы на тое, у 2009 годзе, напрыклад, дэлегацыя кіраўніцтва КХП – БНФ мела вельмі прыстойныя палітычныя перамовы са старшынёй Камісіі Сэйма Летувы па Замежных справах, з намесьнікам міністра Замежных спраў і іншымі прыстойнымі спадарамі. Шмат аб чым добрым дамовіліся, але выканалі ўсё нашы прыяцелі на адзін адсотак.

Вышэйшы пілатаж сучаснай мэнтальнасьці адбыўся восеньню 2010 года. Зь беларускай здымачнай групай я выехаў зь Вільні ў Дзявенішкі і аказалася, што забыўся ўзяць з сабой патрэбны дакумант (пасьведчаньне асобы) неабходны ў памежнай зоне. Заехалі ў памежны атрад. Там мяне памяталі яшчэ з часоў Саюдзісу, папілі кавы, пагаварылі, успомнілі былыя гады і зьбіраліся расставацца без складаньня фармальнасьцяў. Але старэйшы кажа, што па інструкцыі варта ўсё ж праінфармаваць у гару (гэта значыць туды, нашым знаёмцам, дзе мы год таму міла перамаўляліся). Пасьля званка да нашых партнёраў па перамовах старэйшы вярнуўся зьбянтэжаны да крайнасьці і ў вочы не глядзіць. Прышлося мне званіць у Вільню і прасіць, каб сябры прывезьлі мой дакумант асобы. Прывезьлі. Нумар яго запісалі ў патрэбную графу і мы, страціўшы амаль дзьве гадзіны часу, ад'ехалі, суправаджаемыя словамі прабачэньня памежнікаў. Прытым па інструкцыі «мудрых кялбоў» зь Вільні зь мяне яшчэ належыла б сарваць тры тысячы літаў (1000 даляраў), але памежнікі так засаромеліся, што і гаворкі пра тое не пачыналі.

З гэтай асаблівасьці летувіскай палітбюракратыі я заўсёды толькі пасьмейваюся, ведаючы іхнюю натуру. Але кожны год, бываючы на Віленшчыне, бачу, што ўсё тут ціхенька робіцца так, каб беларусы на сваёй карэннай зямлі ня мелі ніякіх пэрспэктываў. Дарэчы, новыя ўлады паперараблялі татальна ўсе гістарычныя тапонімы і гідронімы на Віленшчыне, нейкае варварства адбываецца (ёсьць жа правілы, прынятыя ў цывілізаванай навуцы). Асабліва бянтэжыць становішча з зямлёй. Даўно пад прыкрыцьцем Эўразьвязу ціхенька йдзе палітыка выштурхоўваньня карэннага насельніцтва Віленшчыны за межы краю. Ўзамен зьяўляюцца перасяленцы. Не кажу ўжо пра тое, што дваццаць гадоў назіраю ад Друскенік да Вільні і далей, як вокам абняць, абшары зарослай бур'яном зьдзічэлай зямлі, якую ніхто не апрацоўвае (бо ўжо няма каму – зьехалі). Такога я нават на цяперашняй Смаленшчыне ня бачыў.

Над ўсім гэтым ужо даўно варта задумацца. А тут яшчэ гэты «мудры келб» Ушчацкас са сваімі прапановамі не дапамагаць зброяй Украіне. Прытым якая там ад Летувы дапамога (яны і зброі ня маюць). Гэта тут спадар Ушчацкас удае ролю важнага эўрачыноўніка. Ён, бачыце, ужо клапоціцца пра Эўропу.

Гледзячы на ўсё такое словаблудзтва, часам думаеш, а ці трэба было ўвогуле нам падтрымліваць такіх няверных сяброў? Нават камуністы (Бразаўскас) паспрыялі нам у 1989 годзе (1-ы Зьезд БНФ у Вільні і інш.). Гэтыя ж ніколі рэальна не падтрымалі Беларускі Народны Фронт, нават калі маскоўска-лукашысцкія гарылы зьбівалі нас у парляманце.

А наперадзе цяпер можа быць шмат падзей. Вось, напрыклад, Захад возьме паслухае «мудрага кялба» зь Вільні і не дапаможа зброяй Украіне. Масква зьнішчыць украінскую армію і забярэ Кіеў (у іх жа і тактычная атамная зброя ёсьць, якая прадаецца ў «ваенторгу»). Тады адразу ўзьнікне пытаньне пра калідор да Калінінграда (Кралеўца). І што нам рабіць? Зноў падтрымаць «мудрых кялбоў» зь іхнай хутаранскай сьведамасьцю? А можа хай маскоўцы робяць сабе той калінінградзкі калідор разам з Лукашэнкам (беларусы ж у Кралеўцы здаўна жывуць). Галоўнае, каб Пуціна не раззлаваць.

Зрабіўшы калідор і не раззлаваўшыся, Пуцін можа гэтак міратворна глянуць на Лукашэнку і вымавіць:

«Слушай, Саша, а не пора ли возвратить Вильню, а? Давай вперёд, мы поддержим, шарахнем и дело с концом.»

«Толька умесьце, Вова, из любви к России, толька умесьце», – адкажа Саша.

І што нам тады, беларусам, рабіць? Зноў ехаць у Вільню і супакойваць перапалоханых «мудрых кялбоў». Ці можа махнуць рукой і сказаць: «Гары яно ўсё гарам! Абое рабое. Як будзе, так і будзе. Мы ж эўрапейцы. Ня стане Эўропа паміраць за Вільню. Ды й Вільня наша. А то яшчэ разззлуем Пуціна».

*10 красавіка 2015 г.* Зянон Пазьняк

# ХАМ: «Я ўсім заходнікам, амэрыканцам кажу: «Мужыкі..."

### *(Нататкі пра антыбеларускі рэжым)*

29-га красавіка беларусы выслухалі па тэлебачаньні чарговую порцыю хамства і цемрашальства ад правіцеля рэжыму. Ён выступаў. Але за хамскай формай нявыхаванасьці і неадукаванасьці прасочваецца і хамская палітыка.

Назіраючы за антынароднымі ініцыятывамі рэжыму ў галіне заканадаўства, у сфэры сацыяльнай і нацыянальнай палітыкі, заўважаем характэрную тэндэнцыю разьвіцьця па паўночна-карэйскім узоры. Прычынай такога павелічэньня цемрашальства ёсьць найперш усьведамленьне правіцеля, што Захад гатовы супрацоўнічаць з рэжымам і заплюшчыць вочы на ўсе яго злачынствы дзеля геапалітычных меркаваньняў. Яны (на Захадзе) думаюць такім чынам адцягнуць правіцеля рэжыму далей ад Расеі і ад расейскай агрэсіі супраць Украіны. Некалі яшчэ нават Сталін казаў: «Вельмі добра, што ў Эўропе дурні». Для маскоўцаў гэта было добра.

Тым часам, чым большыя саступкі зробіць Захад рэжыму, тым большы ўціск будзе ў Беларусі на народ, на беларускую мову і культуру, на культурных беларускіх людзей.

Справа ня ў тым, што эўрапалітыкі таго не разумеюць (хоць яны і не разумеюць), справа ў тым, што эўрапейскаму філісьцеру нашыя нацыянальныя праблемы не абходзяць. Ім лепш, каб у Беларусі была аморфная кіруемая маса, а ня моцная культурная нацыя. Уся справа толькі ў тым, каб на гэтую дэммасу ўплывалі яны.

Нам трэба ведаць, што ў выпадку адкрытай акупацыі з боку Расеі ці гібрыднай вайны па мадэлі анэксіі Крыма, Эўропа выкажа заклапочанасьць і асуджэньне Расеі (можа ўжыць эканамічныя санкцыі), але ня стане рэальна дапамагаць і падтрымліваць збройна нашу барацьбу (такое відаць цяпер у дачыненьні да Украіны). Эўропа ня хоча клопатаў і ваеннных расходаў, таму будзе дамаўляцца з Пуціным.

Лічу, што нам, беларусам, трэба тое ведаць і сур'ёзна рыхтавацца да барацьбы з пуцінскім фашызмам, які мы пераможам разам з украінцамі. Трэба падтрымліваць украінцаў і дапамагаць Украіне.

Пры ўпамінаньні пра беларускую пэрспэктыву, як у Паўночнай Карэі, ніхто зь беларусаў, зразумела, у тое не паверыць, бо мы ж эўрапейцы, іншы народ. І дарма. Вельмі нават дарэмна. Мы ведаем у Эўропе адзін надзвычай культурны народ, які пры гітлераўскім фашызме за вельмі кароткі час ператварыўся ў агалцелую масу агрэсіўных прымітываў. А што мы назіраем цяпер у пуцінскай фашысцкай Расеі? Тую ж агалцелую дэградацыю, толькі ў дзікунскай і крымінальнай форме. Культура чалавека – гэта вельмі тонкі пласт сацыяльнай сьвядомасьці, які лёгка разбурыць і цяжка направіць. Дык прыгледзімся да сябе, што адбылося з грамадзтвам за дваццаць гадоў нацыянальнага вынішчэньня і існаваньня пад русіфікацыяй ды хамскай ўладай.

Цяпер уся сістэма хамскага антыбеларускага рэжыму працуе па паўночна-карэйскім узоры (законы пра «дармаедаў», пра падаткі зь беспрацоўных, пра падаткі і паборы з бытавых міжлюдзкіх пазык, з працоўных сямейных узаемадапамог, рыхтуецца падаткавы пабор на бязьдзетных і г. д.)

Сістэма рэжымнай улады даўно цалкам гатовая для выкананьня любога абсурду. Сэлекцыя адбылася. Праблема толькі ў народзе, які можа не паслухацца. Але ўлічым, што прынамсі палове нацыі хрыбет ужо зламалі, і яна гатовая падпарадкоўвацца і ўгінацца перад масквой. Аднак і гэта яшчэ ня самае кепскае. Сатрапія ў Беларусі адметная тым, што пры ўсіх агульных падыходах і атрыбутах зьнішчэньня, уціску і разбурэньня, яна ёсьць адзіная ў сваім родзе за ўсю гісторыю

чалавецтва. Яна сьведама антынацыянальная, яе палітыка, палітычная ідэалогія і практыка накіравана на вынішчэньне беларускай нацыі, на сьціраньне беларусаў з твару зямлі, з дэмаграфіі, гісторыіі і культуры. Праводзіцца палітыка этнацыду, лінгвацыду і ўнутранай акупацыі ў інтарэсах чужой імпэрскай дзяржавы.

«Мы -- «русский мир», – паўтарае кіруючы хам платформу рускага фашызму, і ўся заля функцыянераў сістэмы ўспрымае гэта воплескамі.

Калі працягнуць паўночнакарэйскую сістэму да лагічнага выніку, то ўбачым, што любое яе завяршэньне пакідае пэрспэктыву карэйскаму народу, які скруцілі і зрабілі рабом, але ў яго ёсьць працяг, і магчымасьць адраджэньня, бо ён ёсьць, бо існуе карэйская мова, культура, гісторыя, этнас, і растаптаны народ Паўночнай Карэі яшчэ можа падняцца і адрадзіцца ў сваёй іпастасі.

Калі працягнуць да лагічнага завяршэньня сістэму антыбеларускай сатрапіі, то ў канцы мы ўбачым сьмерць нацыі, небыцьцё, неіснаваньне. У гэтым уся розьніца.

Страшны, антычалавечы паўночнакарэйскі камуністычны рэжым – гэта ёсьць «карэйскі» рэжым. Азіяцкі рэжым туркменбашы – гэта быў тыранічны «туркменскі» рэжым. «Дзевяностававасьміадсоткавы» жорсткі назарбаеўскі рэжым – гэта ёсць «казахскі» рэжым. (Тое самае можна сказаць пра ўсіх Кадафі ды Хусэйнаў, ды Чавэсаў, ды Кастра). Ніводзін з гэтых жорсткіх рэжымаў, ідучы па трупах дзеля ўлады і грошай, не капаў магілу нацыі. І толькі антыбеларускі акупацыйны рэжым «хама» капае магілу нацыі і рыхтуе беларусам нацыянальную сьмерць. Вось дзе сутнасьць, якая патрабуе выбару сьведамага ці нясьведамага ад кожнага беларуса.

За ўсю нашу гісторыю не было большага злачынцы перад беларускай нацыяй, чым гэты расперазаны хам. Няма такой кары, якую ён мусіць атрымаць, хіба што вечнае гарэньне ў Пекле, але людзі таго не вырашаюць.

Якія б выпрабаваньні ні чакалі яшчэ беларусаў (нават вайна), трэба добра ўсьведамляць, што пакуль будзе існаваць хамскі рэжым з хамам ва ўладзе, датуль будзе праводзіцца акупацыйная палітыка вынішчэньня беларускай нацыі. Гэтае сцьвярджэньне ёсьць як бы агульнае месца ў разуменьні становішча ў Беларусі, але абставіны могуць зьмяніцца, і нельга быць непадрыхтаванымі да перамен, і нельга ніколі пра тое забыць.

*1 траўня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# ПРЫГОДЫ САЎКА Ў АМЭРЫЦЫ

9-га траўня пуцінскія імпэрцы наладзілі ў Маскве масавы пэрформэнс апантанасьці з нагоды 70-й гадавіны перамогі над гітлераўскай Нямеччынай ў 2-й Сусьветнай вайне. Рускае гёбельс-тэлебачаньне дастае ўсіх усюды і вар'ятаў яго рэтрансляцыі хапае па ўсім сьвеце. Але тут, у ЗША, гэта зьява глыбока маргінальная. І толькі мы, беларусы і ўкраінцы, яе заўважаем, разумеючы сутнасьць.

Што зьдзіўляе ў Амэрыцы, гэта бесперашкоднае прыстанішча мноства расейска-камуністычных фунуцыянераў Савецкай арміі і НКВД, спраўцаў СМЕРШу і карных атрадаў КГБ. Зьехаўшы ў сталым ўзросьце ў Амэрыку пад парасонам габрэйскай эміграцыі з СССР, яны жывуць тут доўга на поўным утрыманьні ("довольствии") амэрыканскай дзяржавы. Гэта значыць маюць дармовыя пэнсіі (не прапрацываўшы ні аднаго дня ў Амэрыцы). Ім выдзяляюць добрыя кватэры, за якія яны плоцяць адну дзясятую вартасьці кватэрнага рэнту (так званая 8-я праграма). Яны карыстаюцца тут прадуктовымі талонамі на яду (аплочанае дзяржавай харчаваньне), маюць бясплатна ўсе неабходныя медыцынскія страхоўкі, якімі пакрываецца ўсё лячэньне (вельмі дарагое ў Амэрыцы), маюць бясплатнае атрыманьне ўсіх неабходных лякарстваў і ўсяго медыцынскага рыштунку (сотні прадметаў ад калясак, ложка, бялізны, абутку, медыцынскіх прыбораў да драўлянай качарэжкі). Ім выдзяляецца (пры неабходнасьці) аплочаная дзяржавай сядзелка (home attendant), якая глядзіць за імі, варыць абеды, прыбірае, прысутнічае ў доме, суправаджае такога кліента на шпацыр альбо па магазінах. Адзін-два разы ў месяц да іх наведваецца медсястра, якая пытае пра здароўе, і лекар па нагах, які абразае пазногці (апэрацыя абрэзкі пазногцяў -- 150 даляраў для страхавай кампаніі). Пазногці на руках абразае іншы лекар (ён ня мае права абразаці пазногці на нагах – падсудная справа) ). Пяць разоў на тыдзень падыходзіць аўтобус і іх адвозяць у садок для пэнсіянэраў. Там іх забаўляюць "лекары-зацейнікі". Ім паказваюць канцэрты, яны слухаюць музыку, танцуюць, купаюцца ў басэйне і г. д. Потым іх адвозяць дадому.

Увогуле Амэрыка ўнікальная краіна па сацыяльным забесьпячэньні бедных людзей. Паразітаў на ёй столькі, што не перастаеш зьдзіўляцца, як яна ўвогуле да гэтага часу існуе і ня валіцца.

Але зьдзіўленьне маё ня ў тым. Усе гэтыя камуністы-энкавэдзісты-забойцы і "будаўнікі камунізму" атрымалі тут, у Амэрыцы, на халяву,  нечакана для сябе той біялагічны рай, пра які ўвесь час гаварылі і абяцалі ў СССР, калі ўсе, маўляў, стануць жыць пры камунізме. Цяпер гэтыя ўтрыманцы Амэрыкі глядзяць тут рускае тэлебачаньне і ... клянуць "проклятую" Амэрыку (кусаюць руку даючую). Праўда, ужо сілы ня тыя (скляроз, печань, дрыжэньне рук і т.п.). Ня чуваць, каб нехта зь іх казаў словы ўдзячнасьці гэтай краіне. Расейскі савок лічыць, што так і трэба -- ўсе ўсюды ўсё павінны яму даваць. Пры гэтым некаторыя выхваляюцца: "Мы боролись с национализмом, ликвидировали бандэровские банды", "депортирровали татар из Крыма -- предателей народа", " иба Крым наш" і г.д. --  увесь тэленабор.

Амэрыка жыве па законах, якія сама стварае. Калі б гэта былі не гэбоўскія ветэраны генацыду і вайны, а нямецкія гестапаўцы і ветэраны СС, то ім тут хуценька знайшлі б месца. Нават не дэпартавалі б (дарэчы, ніхто з злосных гэбоўскіх старцаў ня хоча вяртацца ў Расею), а сядзелі б яны ў турме пажыцьцёва, а некаторыя і ў электрычным крэсьле. Ветэраны ж НКВД сядзяць на шыі "праклятых капіталістаў".

А ўсё таму, што не было міжнароднага трыбуналу і асуджэньня рускіх злачынстваў камунізму і вайны. Нюрнбэргскі працэс прызнаў вінаватым нямецкі фашызм за злачынствы супраць чалавецтва і няўхільнасьць пакараньня бяз тэрміну даўнасьці. Было створана міжнароднае заканадаўства, якое дапамагло вылавіць гітлерскіх спраўцаў па ўсім сьвеце. Рускі камунізм і СССР, як ўдзельнік антыгітлераўскай кааліцыі, выступаў у якасьці пераможцы і абвінаваўцы. (Адзін бандыт

абвінавачваў іншага бандыта за злачынствы і за вайну, якую яны падрыхтавалі і разьвязалі разам.)

У вайне паміж двума родамі фашызму цывілізаваны сьвет мусіў выбраць нейкі адзін бок, каб спыніць сусьветную вайну, якую разьвязалі нацызм з камунізмам, і ліквідаваць адно зло (адно з двух). Гэтак і атрымалася. Але рускі камунізм апынуўся на баку пераможцаў. На гэтым савецкія камуністы пабудавалі ўсю сваю пасьляваенную палітычную ідэалогію па ўтрыманьні ўлады над народамі, прыватызаваўшы сабе перамогу над нямецкім фашызмам і ператварыўшы яе ў свайго роду палітычную рэлігію дзеля аббалваньваньня грамадзтва.

Нажаль такія ёсьць перэпетыі злачыннай палітыкі, дзе пераможцаў ня судзяць і энкавэдзісцкія савецкія доўгажыхары-ветэраны, абвешаныя мэдалямі, яшчэ сноўдаюцца ў Нью-Ёрку, гатовыя (каб маглі) сесьці на галаву Амэрыцы. І нічога з гэтым нельга зрабіць. Няма міжнародных (і нават нацыянальных) законаў, каб зь імі разабрацца, судзіць, пакараць, дэпартаваць. Амэрыка пераварыць ўсё.

*13 траўня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# ШТО АДБЫВАЕЦЦА І ШТО МОЖА БЫЦЬ

Лічу, што разуменьне таго, што стаіць за гэтымі пытаньнямі, вельмі важным. Яно дае магчымасьць ставіць задачы дзеля будучыні.

## СЬВЕТ

Сьвет павольна ўступае ў зацяжны сістэмны крызіс: фінансавы, эканамічны, энэргетычны, ідэйна-палітычны. Называюць розныя лакальныя прычыны крызісу (які пачаўся ў 2008 годзе) – ад правалу амэрыканскай іпатэкі да выемкі даляравай масы з банкаў ЗША і канцэнтрацыі яе ў іншым месцы (пра што кіраўнік фэдэральнай фінансавай сістэмы ЗША некалі сказаў, што "яны памыліліся").

Але агульная прычына крызісу (на мой погляд) -- перанасычэньне сусьветнага рынку таварамі, стагнацыя таварных дачыненьняў і адсутнасьць новых віду тавараў (як гэта адбылося, напрыклад, у 1930-40-х гг.). І толькі сусьветная вайна, а потым (галоўнае) зьяўленьне і разьвіцьцё новай хімічнай вытворчасьці (і адпаведна -- новых відаў тавараў) вывела чалавецтва зь вялікай дэпрэсіі і эканамічнага крызісу.

На сёньняшні дзень такога новага віду тавараў яшчэ няма, але, відаць, ўжо на падыходзе, бо вельмі вялікую ролю ў эканоміцы сталі адыгрываць інавацыі і тэхналёгіі. Гэта відавочны шлях да прадухіленьня будучага глабальнага энэргетычнага крызісу і новы мэтад вырашэньня энэргетычных праблем, якія цесна павязаныя з палітыкай і падзеламі ў сьвеце.

Асноўнымі крыніцамі сусьветнай энэргіі зьяўляюцца нафта і газ. Знаходжаньне новых крыніц энэргіі і новых тэхналёгіяў здабычы нафты і газу прывядзе, напэўна, да рэзкага зьніжэньня цаны на прыродную нафту, і можа мець катастрафічныя вынікі для краінаў, якія пабудавалі сваю эканоміку на здабычы нафты і газу. Гэта найперш -- краіны Блізкага Усходу, Паўночнай Афрыкі і арабскага сьвету, а таксама Расея, Іран, Туркменістан і інш.

Вынікам рэзкай перамены можа стаць зьбядненьне краінаў-экспарцёраў нафты і, магчыма, нават разбурэньне гэтых дзяржаў, што можа выклікаць лакальныя войны (нават з ужываньнем ядзернай зброі).

Цалкам магчымым стане, напрыклад, ваенны канфлікт паміж шыіцкім Іранам і суніцкай Саудаўскай Арабіяй, альбо вайна Ірана з Ізраілем (пры інсьпірацыі Расеі), а таксама новыя ваенныя агрэсіі Расеі.

Ніводная з краін, што маюць рэсурсна прывязаныя эканомікі і існуюць з продажы нафты і газу ня здолее хутка перабудавацца на прадуктыўнае стварэньне інавацыяў і тэхналёгіяў, бо гэта вымагае часу, высокага разьвіцьця фундамэнтальнай навукі, наяўнасьці інтэлектуальнай і тэхнічнай эліты і карэннай перабудовы вытворчасьці.

Для гэтых краін час працуе супраць іх, бо няўхільна разьвіваецца здабыча нафты і газу са сланцавых радовішчаў. Новыя тэхналёгіі ўжо дазваляюць прамысловую здабычу нафты са сланцаў, і яна ўжо пачалася ў Амэрыцы, нягледзячы на экалагічную шкоднасьць для людзей і прыроды. Запасы сланцаў нямераныя ў ЗША, у Польшчы і іншых краінах. Ізраіль увесь разьмешчаны на залежах сланцаў.

Вядома, справа тут ня простая. Пакуль што на гэтым полі мэтанакіравана (хоць і з пабочнымі выдаткамі) працуюць толькі Злучаныя Штаты. На сёньня сэнс сланцавай здабычы нафты ў ЗША ёсьць толькі тады, калі сусьветная цана яе будзе вышэй за 60-65 даляраў. З другога боку, нізкая цана на імпартуемую нафту выгадная амэрыканскай эканоміцы -- яна тады ажывае (што мы зараз і бачым).

У гэтай сытуацыі краіны-экспарцёры нафты ўжо нясуць страты, але баяцца зьмяншаць здабычу і павялічваць цану нафты, каб ня страціць рынкі. Тым больш, што пасьля адмены санкцыяў на рынак зноў выходзіць Іран (другая краіна пасьля Саудаўскай Арабіі па здабычы нафты ў сьвеце). Скептыкі (і канкурэнты) нэгатыўна адно-

сяцца да сланцавай пэрспэктывы  на рынку нафты (занадта дарага і экалагічна шкодна). Але навука і тэхналёгіі не стаяць на месцы і праца тут робіцца. Спакуса вялікая.

Новая энэргетычная рэвалюцыя, калі яна завершыцца посьпехам, будзе выгадная, найперш, Ізраілю і ЗША, бо навука, эканоміка і вытворчасьць гэтых краін разьвіваюцца на ўзроўні 21-га стагоддзя і пастаўлены на галоўны рэсурс -- на інтэлект чалавека (адпаведна, на інавацыі і тэхналёгіі). Гэтага няма ў арабскіх краінах, разбагацелых на нафтадалярах. Зьбядненьне арабскіх краін паспрыяе дамінацыі Ізраілю ў рэгіёне.

Энэргетычная рэвалюцыя будзе адбывацца балесна для людзей і народаў таксама з прычыны агульнага ідэйна-палітычнага крызісу лібэральнай дэмакратыі. «Эміграцыйнае нашэсьце» на Эўропу павялічыцца. Тым часам у Эўропе на грунце некантралюемага індывідуалізму, гіпертрафіраваных паняцьцяў пра свабоду і ўсеагульнай выбарнай сістэмы адбываецца падмена высокіх каштоўнасьцяў існаваньня фальшывымі і прымітыўнымі патрэбнасьцямі (выхад на паверхню жыцьця нізкіх сацыяльных і амаральных асоб), назіраецца карпаратыўнае зрошчваньне бізнэсу з палітыкай і  пераасэнсаваньне палітычнай дзейнасьці, якая разглядаецца як прыватная ўласнасьць. Заўважаны паўсюдны рост карупцыі, цывілізацыйных супярэчнасьцяў і перакосаў у сацыяльных ацэнках людзей.

У выніку лібэральнай заідэалагізацыі і арыентацыі на прымітыўныя і нізкія інтарэсы дэмакратычнае грамадзтва траціць адчуваньне здаровага сэнсу, губляе маральны, гуманітарны, а ўрэшце і прававы кантроль над самым сабой (над інстытутамі сям'і, выхаваньня дзяцей, свабоды слова, сацыяльных дачыненьняў і г.д.).

Усё гэта, плюс прагматычная спэцыялізацыя і ськіраванасьць навукі на разьвіцьцё тэхнічнага прагрэсу, звузіла яе гуманітарную сфэру і абнізіла ўзровень эліты грамадзтва, адчыніла магчымасьці для маргіналізацыі думаньня аднабока адукаваных людзей, да распаўсюджваньня псэўданавукі, якая зрошчваецца з афёрным бізнэсам, робіцца часткай масавай культуры і крайне адмоўна ўплывае на сьведамасьць, уяўленьні пра сьвет і жыцьцё сярэднестатыстычных пластоў насельніцтва.

Прыкладаў адсталых уяўленьняў жыхароў "інфармацыйнай цывілізацыі" (на самай справе "дэзінфармацыйнай") -- безьліч. За апошні час найбольш уражвае афёра 2012 года, пушчаная ў сьвет журналістамі, пра канец сьвета ў 2012 годзе па календары гістарычнага народа майя. Маса сярэднестатычных людзей паверыла гэтаму глупству. На Захадзе сярод часткі насельніцтва быў псіхоз. Распрадавалі маёмасьць, уцякалі ў горы і т. п. Словам, -- жывое сярэднявечча.

Навука звычайна ня ўмешваецца і не камэнтуе ўсялякую масавую міфалагічную фантастыку, таблоідныя «прароцтвы» ды плёткі, таму што безнадзейна. Маса не валодае здаровым сэнсам і навуковым поглядам на сьвет (гэта не закладваецца ў сучаснай заходняй прагматычнай школе). Маса жыве міфалагічнай сьвядомасьцю і ўяўленьнямі пра схаваныя (сакрэтныя) таямніцы ды гатовыя веды, пра якія раптам можна даведацца (пачуць), не трацячы высілкаў на працу і адукацыю.

Тым часам маргіналізм, псэўданавука і гуманітарная абмежаванасьць асобы далёка не бяскрыўдная зьява, але шкодная для грамадзтва, асабліва для такога грамадзтва, якое йдзе па шляху навукова-тэхнічнага прагрэсу. Урэшце можа стацца, што гэты прагрэс ня будзе каму рэалізоўваць і ажыцьцяўляць.

Іронія яшчэ ў тым (а можа і не іронія, а трагедыя), што гуманітарная навука (якую ня любяць бізнэс і ўлада) аргумэнтавана даказвае, што навукова-тэхнічны "прагрэс" і цывілізацыя такога прагрэсу -- гэта ёсьць тупіковая галіна разьвіцьця. Але выхаду і іншага шляху пакуль што ніхто ня бачыць. Ёсьць шмат матэрыялістаў і талковых людзей, што сьвята вераць у гэты  шлях і абстрактнае разьвіцьцё чалавецтва па дарозе навукова-тэхнічнага прагрэсу. І толькі рэальныя крызісы грамадзтва вяртаюць накірунак думак у канкрэтную рэчаіснасьць, да чалавека як меры ўсяго, да нацыі як асновы дзяржавы, да культуры як сфэры сучаснасьці і меры будучыні. Вяртаюць, але ня кожнага.

# ДАЛЁКІ ПОГЛЯД

Гэтая тэма ня мае непасрэднага дачыненьня да таго, пра што я пішу, і як бы ні на што не ўплывае. Але я мяркую, што абавязкова варта яе тут пазначыць, разважаючы пра існаваньне чалавека.  Тэма ўсё ж даволі распаўсюджана ў грамадзтве, у якім людзі ўсё больш і больш адчуваюць тупіковасьць планетарнага разьвіцьця і шукаюць выйсьця. Разважаньні адцягненыя і агульныя. Таму без канкрэтызацыі назаву толькі некаторыя  аспэкты ў гэтай тэме.

Візію далёкай будучыні чалавецтва, асэнсаванай у ідэалёгіі, гістарычна ажыцьцяўлялі тры сістэмныя падыходы думаньня і тры арганізаваныя сілы грамадзтва (чалавецтва) -- гэта Хрысьціянства, нямецкі нацыянал-сацыялізм і расейскі камунізм-бальшавізм. І нацызм, і камунізм у ідэёва-эсхаталагічным плане ўяўлялі сабой левы (лявацкі) сурагат цёмнай сацыяльнай рэлігіі, замешанай на антыхрысьціянстве. Фактычна, у 20-м стагоддзі адбыўся зьнішчальны паход супраць хрысьціянскай эсхаталагічнай візіі чалавецтва. Гэтая гісторыя дае прастор для духоўных разважаньняў, якія могуць удасканаліць веды, але яны ўжо не ўплываюць на рэальнае грамадзкае жыцьцё.

Сучасная дэмакратычная (рынкава-спажывецкая) цывілізацыя будуе сваё бачаньне пэрспэктывы чалавецтва на двух падыходах, якія вынікаюць з прагрэсу: на цывілізацыйнай і экалагічнай катастрофе і на выхадзе чалавецтва ў космас, на перасяленьні яго на другія планеты.

Першы падыход цалкам рэалістычны, бо ў гісторыі Зямлі і чалавецтва ўжо былі і цывілізацыйныя, і экалагічныя катастрофы, якія прыводзілі да кардынальных зьменаў у прыродзе і ў грамадзтве. Але гэта ніякі ня вынік разьвіцьця, а толькі прадбачаньне краху цывілізацыі ў выніку бесталковага існаваньня. Улічыць трэба палітычныя падзелы ў сьвеце, агрэсіўнасьць асобных краінаў і наяўнасьць зброі планетарнага зьнішчэньня.

Другі падыход і намеры касьмічнага перасяленьня людзей на іншыя планеты, практычна, роўны нулю і ў рэальнасьці немагчымы. І зьвязана гэта не з неабходнасьцю авалоданьня новай магутнай і лёгка здабываемай энэргіяй, не з вырашэньнем праблемы кіраваньня гравітацыяй, магнітным полем, атмасфэрным ціскам, здабыцьцём кіслароду, вады, глебы і г. д., а з магчымасьцю кіраваньня прасторай і часам, бо час зямны (час зямной цывілізацыі) і час касьмічны -- несумяшчальныя па маштабу і па існаваньні ў прасторы.

Гэтая розьніца вырастае з павелічэньнем хуткасьці (якая для фізічнага цела ня можа быць большай за хуткасьць сьвятла). Нават калі б дзе-небудзь і былі б у космасе адначасна дзьве падобныя планеты Зямля, насельнікі іх рэальна ніколі не маглі б сустрэцца ў фізічным плане, бо працягласьць арганічнага жыцьця планеты (не кажу ўжо пра разумную цывілізацыю і пра працягласьць жыцьця чалавека) у параўнаньні з прасторай і часам космасу -- гэта адно імгненьне. Верагоднасьць зьяўленьня  яшчэ адной разумнай цывілізацыі, тым больш двух і ў аднам часе (які фізічна непераадольны) настолькі малая, што цікава толькі для матэматычных аблічэньняў. Будаваць жа меркаваньні на верагоднасьці ксталту ў мінус 725-й ступені няма сэнсу, бо яе ня будзе.

Чалавек у фізічным плане і ў фізічным сьвеце у прынцыпе ня можа даляцець да іншых галактык і нават асвоіць тую, дзе ён знаходзіцца. У навуцы гэта вядома (пра тое пісаў, напрыклад, яшчэ 70-х гг. мінулага стагоддзя савецкі астраном акадэмік Т. А. Агекян).

Лагічны аналіз фактаў і якасьцяў фізічнага космасу ў дачыненьні да эвалюцыйнага разьвіцьця арганічнай матэрыі (улічваючы і разьвіцьцё разумнай цывілізацыі) прыводзіць да даволі добра даказваемай думкі, што ў сістэме фізічнага сусьвету (космасу) эвалюцыі розуму як касьмічнай зьявы не адбывавецца (немагчымае па прыродзе самога фізічнага космасу). Гэта зьява касьмічна (фізічна) лакальная, якая мае свой пачатак і канец. Адным з аргумэнтаў тых, хто прытрымліваюцца такога погляду, ёсьць пустата, цішыня і мёртвае грабавое маўчаньне Космасу, які існуе вечна, мільярды сьвятло-гадоў.

Чалавек валодае фізічным целам і жыве ў канечным фізічным сьвеце (свеце Ньютана, Айнштайна-Бора-Гайзэнбэрга), дзе ёсьць межы формаў, колькасьцяў, хуткасьцяў і пераменнага часу. Гэта дало магчымасьць навуцы зразумець і даказаць пра немагчымасьць стварэньня фізічнага Пэрпетуум Мобіле ў фізічным сьвеце і пра немагчымасьць фізічнага перасяленьня фізічнага чалавецтва ў фізічным космасе. (Хаця, паўтаруся, тэарэтычная верагоднасьць ў мінусовай ступені з трымя нулямі тут застаецца.)

Сэнс вечнага існаваньня чалавецтва, пераадоленьне фізічнай прасторы і часу, магчыма (верагодна) ня ў зьнешнім, а ва ўнутранным вектары разьвіцьця. Калі дапусьціць існаваньне побач з фізічным іншага вымярэньня і іншага сьвету, то перайсьці з фізічнага сьвету ў іншае вымярэньне і іншы сьвет тэарэтычна магчыма толькі пазбавіўшыся ад фізічнага цела (гэта значыць, праз сьмерць), калі лічыць пры гэтым, што паралельна з фізічным целам чалавек мае іншую духоўную сутнасьць (гэта значыць душу), якая можа існаваць у іншым вымярэньні, прасторы і часе.

Калі гэта дапусьціць, тады трэба адчыніць хрысьціянскае Эвангельле і чытаць далей. Там усё напісана. Тады стане зразумела, што дзеля жыцьця ў вечным космасе мала валодаць ведамі і быць адукаваным, трэба быць маральна абавязаным, жыць па сумленьню, па справядлівасьці і любові. Калі параўнаць лапідарна, то гэта -- як працаваць на атамнай электрастанцыі: мала ведаць, трэба выконваць і быць адказным. Калі п'янь і безадказнасьць -- тады Чарнобыльская катастрофа.

З высокім разьвіцьцём навукова-тэхнічнага прагрэсу (на чым стаіць цяперашняя цывілізацыя) і з выхадам на касьмічныя тэхналёгіі шматкроць ўзрастаюць патрабаваньні ня толькі да інтэлектуальных, але найперш да маральных якасьцяў чалавека. У Хрысьціянстве гэты тэзіс ёсьць галоўным. Аналагічны падыход (хоць і не галоўны, галоўным была ўлада) назіраўся і ў «сатанінскіх» нэацывілізацыйных ідэалагічных рэжымах. Ў гітлерцаў рабілася ніцшэанская стаўка на новую асобу «звышчалавека» (нямецкі «Лебэнсборн» пачынаў ужо нават генетычную сэлекцыю людзей дзеля вырошчваньня «звышчалавека»). Яшчэ большую увагу надавалі стварэньню новай камуністычнай асобы камуністы ў СССР. Без стварэньня новага камуністычнага чалавека камунізм немагчымы, лічылі яго ідэолагі (Хрушчоў нават «маральны кодэкс будаўніка камунізму» прыдумаў).

Калі зірнуць з гледзішча фармаваньня маральнай асобы на цяперашняе грамадзтва дэмакратыі і прагрэсу (якое апынулася ў палоне левага лібералізму), то мусім канстатаваць тут поўную адсутнасьць агульных маральных ідэалаў (і ідэалаў увогуле як сутнасьці). Ўсё заменена «каштоўнасьцямі», зь якіх галоўнымі ёсьць свабода і індывідуалізм («правы чалавека»). Стварылася база для разгортваньня маральнай энтрапаіі і спрыяльныя магчымасьці для самасцьвярджэньня нізкіх людзей.

І вось тут перад чаканьнем новых віткоў тэхнічнага прагрэсу і разважаньнямі пра касьмічны шлях паўстае галоўнае (на маю думку) пытаньне любой эсхаталогіі і разуменьне таго, што азначаюць для чалавека і чалавецтва высокая маральнасьць асобы, добрасьць, адказнасьць, любоў і справядлівасьць. Толькі валодаючы гэтымі якасьцямі чалавек (грамадзтва добрых людзей) можа станоўча ўладарыць над стыхіямі (і, дарэчы, кіраваць прагрэсам, які не прыводзіць да катастрофы).

Трэба канстатаваць, што цывілізацыя прагрэсу (маецца на ўвазе прынцып прагрэсіўнага навукова-тэхнічнага разьвіцьця чалавецтва), якая адыйшла ад веры ў Бога, ня мае пэрспэктыўнай візіі будучыні. Чалавецтва жыве сучаснасьцю. І пра сучаснасьць ёсьць гэтае наша паведамленьне, памятаючы, аднак, што будучыня будзе.

## БЕЛАРУСЬ

Улічваючы сусьветныя тэндэнцыі, паглядзім, па якой схеме дзейнічае антыбеларускі рэжым, кіруемы акупацыйнай палітыкай Масквы, і што адбылося з грамадзтвам за 20 гадоў прамаскоўскай унутранай акупацыі, першасная мэта якой -- зрусіфікаваць Беларусь, зьнішчыць этнічныя, духоўныя, культурныя і інтэлектуальныя асновы нацыі.

Тым часам, нягледзячы ні на што, беларуская нацыя жыве. Яна існуе, бо ня можа цемра зьнішчыць сьвятло. Але спынена разьвіцьцё грамадзтва. Моцна разбураныя этнічныя асновы, інтэлектуальны ўзровень пакаленьня апушчаны на цэлы парадак ніжэй і застаўся ў 20-м стагоддзі.

Гэта было дасягнута рэжымам найперш шляхам ліквідацыі нацыянальнай адукацыі на беларускай мове і наступнае -- мэтанакіраваным абніжэньнем узроўню адукацыі, праграмаў навучаньня і выкладаньня з арыентацыяй на ўчарашні дзень індустрыяльнага грамадзтва і адсталыя дачыненьні. Зацьверджана сістэма адукацыі, якая прынцыпова не адпавядае вымогам грамадзтва 21-га стагоддзя. Быў узяты курс на інтэлектуальную адсталасьць, адбылося зьмяншэньне гуманітарных навук і якасьці гуманітарнага навучаньня, што ізноў жа вынікала з дзеяньняў, накіраваных на дэградацыю эліты, бо менавіта гуманітарныя ідэі і веды ствараюць інтэлігенцыю і эліту нацыі. Да гэтага ж працэсу спрычыняецца і паступовая ліквідацыя фундамэнтальнай навукі.

Некаторыя беларусы ў выніку прыстасаваньня да несвабоды, магчыма, ужо нават забыліся, як яшчэ ў пачатку антыбеларускага рэжыму і акупацыйнай палітыкі было забаронена ўжываньне ў назвах словаў «нацыянальны», «народны», словаў «Беларусь», «беларускі», звароты «спадарыня» і «спадар», як спальваліся беларускія падручнікі для школаў, зачыняліся беларускія дзіцячыя часопісы і выдавецтвы, беларускае радыё і тэлебачаньне, як нішчылі беларускую мову, як зачынялі беларускія школы, як «амоны» кідаліся на гук беларускай мовы і хапалі людзей, цягнулі ў суд і судзілі за тое, што «нецэнзурна выражался», як кідаліся і рвалі Беларускі сьцяг і білі кулаком ў твар беларускай жанчыне (такога не было ад пачатку нашага народнага існаваньня – у Беларусі быў культ жанчыны, культ маці; нават за саветамі ніколі ні адзін «мент» не ўдарыў жанчыну). Але ў рускіх дзікуноў і ў зрусіфікаваных выродкаў такой мяжы не было, яны парушылі спрадвечныя табу ў беларускай культуры.

<u>Прыкметы агульнага ўпадку:</u>

а) Пануе катастрафічная палітычная бязграматнасьць і непісьменнасьць насельніцтва (якім лёгка маніпуляваць);

б) Адчуваньне несправядлівасьці не нараджае волі да супраціўленьня;

в) Не зьяўляюцца больш у грамадзтве нацыянальныя мудрацы і аўтарытэты, вялікія паэты і пісьменьнікі -- сумленьне і розум нацыі, якія былі нават за савецкай акупацыяй. Вялікія людзі 60-х адышлі, і засталася пустка. Няма больш такіх асобаў. Не запатрабаваныя. Не вырастаюць;

г) Зьнешняя ацэнка нацыі з боку іншых народаў такая: беларусы ня любяць сваю краіну; не гавораць на сваёй мове.

Усё гэта -- парадыгма выміраньня і сьмерці. Яна ня ёсьць, аднак, абсалютнай, не зьяўляецца цалкам іманэнтным працэсам. Гэта зьява тыповая, калі інспіраваная зьнешнімі чыньнікамі чужой палітыкі абмежаваньня і прымусу з зададзенымі мэтамі.

Такая акалічнасьць ёсьць найважнейшы чыньнік, які трэба ўлічваць пры любым аналізе. Інакш высновы будуць памылковымі альбо антынацыянальна-прапагандысцкімі (гэта калі чыньнік чужой палітыкі не заўважаецца намерана);

д) У краіне разбурана існаваўшая стагоддзямі пры ВКЛ, пагрунтаваная на законах прыватная ўласнасьць на зямлю. На сёньняшні дзень беларускі чалавек рэальна адлучаны ад зямлі і ад сродкаў вытворчасьці;

е) Беларускае грамадзтва рэальна адлучана ад выбару ўлады і ад кантролю над дзяржаўнай уладай (бо ўся выбарчая сістэма прыватызаваная рэжымам і знаходзіцца пад аднаасобным кантролем дыктатуры). У выніку нацыя адмежавана ад палітыкі і ад

уплыву на сваю будучыню, якая праектуецца ў такім выпадку чужымі сіламі і якія, на-супеперак рэальным нацыянальным задачам, прапануюць фантомы і каланіяльныя хімеры змаганьня -- тыпу "правоў чалавека" і пытаньня, да каго далучыцца: да Захаду ці Ўсходу.

***(Зацемка да слова***: Якія могуць быць «правы чалавека» пад унутранай акупацыяй, калі чужая палітыка антынацыянальнай ўлады нішчыць нацыю!? Няхай бы хто Гітлеру, прад'явіў свае правы чалавека! І якіх такіх «правоў» дамагліся імітатары палітыкі ад гэтай здрадлівай антынароднай улады за 20 гадоў рэжыму? Не правоў трэба ў ворагаў прасіць, а ліквідаваць антыбеларускі рэжым. Усе сродкі прыдатныя. Былі б змагары.)

ж) У Беларусі мэтанакіравана пакінута неканкурэнтная ў цяпершчыне эканоміка ўчарашняга дня індустрыяльнага грамадзтва,势 планаемая з дзяржаўнага бюджэту і кантралюемая акупацыйным рэжымам. Энэргетычнае забесьпячэньне эканомікі штучна прывязана толькі да рэсурсаў чужой дзяржавы (Расеі);

з) Спынена разьвіцьцё энэргетыкі на ўнутраных магчымасьцяг краіны (якія здольныя даваць поўнае забесьпячэньне энэргетычных патрэбаў Беларусі і прадаваць энэргію на экспарт). Будуецца атамная электрастанцыя па праекту і на прынцыпах учарашняга дня, на чужым паліве, на чужой абслузе і на чужых крэдытах, палова энэргіі якой будзе забірацца чужой краінай (Расеяй). Пры гэтым АЭС, практычна, для Беларусі непатрэбная, стратная і экалягічна небясьпечная. Гэта тыповы прыклад мафійнага акупацыйнага праекта, нерэнтабельнага і шкоднага будаўніцтва.

***(Тут зраблю асаблівую дэгрэсію.*** Пытаньне: чаму з усіх пляцовак пад разьмяшчэньне АЭС ў Беларусі была выбраная самая горшая і станцыю пачалі будаваць пад Астраўцом у жыцьцёва важным цэнтры і ў сэйсмічнай зоне на стыку геалагічных платформаў (якраз там, дзе сто гадоў таму адбыўся землятрус у 7 балаў)? Чым растлумачыць такі будаўнічы абсурд?

Ведаючы расейцаў, іхняе агрэсіўнае крымінальнае думаньне і крамлёўскую палітыку, можна зрабіць дапушчэньне, што такое рашэньне магло быць накінута маскоўцамі, зыходзячы з пэрспэктывы магчымай вайны. АЭС паміж Менскам і Вільняй – гэта ядзерны аб'ект, кантралюемы Расеяй, які можа быць скарыстаны шалёнай імпэрыяй ў ваенных інтарэсах Крамля (ня кажам ужо пра прывязку яго функцыяваньня да расейскага атамнага монстра і сыравіны)

і) Структура газапровадаў і прадуктапровадаў захоплена пры дапамозе мафійнага рэжыму чужой дзяржавай (Расеяй). Тое ж адносіцца і да ваенных аэрадромаў (куды перакінутыя расейскія ваенныя самалёты), і да расейскіх вайсковых баз. Ні за базы, ні за зямлю пад газапровадамі, ні за карыстаньне сістэмай прадуктапровадаў, ні за транспартны транзыт Расея ня плоціць Беларусі. Краіна нясе велізарныя страты. Пры гэтым прапаганда рэжыму бясконца трубіць, што Расея падтрымлівае Беларусь праз сістэму крэдытаў і зьніжэньня цаны на нафту. Хаця на самой справе ідзе расейскае рабаваньне Беларусі. Дзейнічаюць мафійныя схемы і распродаж нацыянальных багацьцяў краіны;

к) Ліквідавана мяжа Беларусі з Расеяй;

л) Беларусь (насуперак Канстытуцыі, законам і волі народа) уцягнута ў ваенныя дамовы і блокі з Расеяй і ў эканамічныя структуры, нявыгадныя беларускім нацыянальным інтарэсам;

м) Адсутнасьць мяжы з агрэсіўнай краінай, прысутнасьць чужога войска на тэрыторыі Беларусі плюс штучна створаная рэсурсная залежнасьць ад нафты і газу з Расеі сьведчыць, што Беларусь у выніку палітыкі антыбеларускай улады страціла вялікую частку свайго суверэнітэту.

Так у цэлым выглядаюць агульная карціна і вынікі нацыянальнага вынішчэньня за 20 гадоў антыбеларускага акупацыйнага рэжыму.

## МАГЧЫМАЕ І ПАТРЭБНАЕ

Погляд на 20-гадовае разбурэньне нацыі, асабліва з улікам таго, што ўсё працягваецца, можа выклікаць у людзей, якія разьбіраюцца ў працэсах, стан глыбокай трывогі. Яна апраўданая. Але яшчэ ня ўсё так кепска, бо ў любых абставінах існуе пляцоўка для змаганьня і магчымасьць перамогі. Такая ёсьць прырода чалавечага грамадзтва.

Тут вельмі важна вызначыць прыярытэты і парадак задач (чарговасьць) барацьбы.

Самыя цяжкія страты, якія панесла нацыя за 20 гадоў рэжыму, гэта абніжэньне адукацыйнага і інтэлектуальнага ўзроўню людзей, заўважнае неаднаўленьне нацыянальнай эліты, культурных і духоўных аўтарытэтаў грамадзтва, палітычная бязграматнасьць, зьніжэньне волі да барацьбы, зьніжэньне патрэбнасьці свабоды, нізкі ўзровень патрыятызму, нацыянальнай сьведамасьці і гонару. Гэта ўсё складнікі, якіх у грамадзтве ўжо адчувальна не хапае і якія неабходныя для ліквідацыі антынароднага рэжыму і ўсталяваньня нацыянальнай улады.

Без ліквідацыі антыбеларускага рэжыму ніякія іншыя праблемы вырашыць немагчыма.

Прыярытэтам ёсьць пазбаўленьне ад антынацыянальнай улады. Дзеля гэтага павінны быць нацыянальная ідэя і людзі ідэі, здольныя арганізавацца для барацьбы.

Наступнае – павінна існаваць актыўнае асяроддзе падтрымкі. Калі яго няма, то трэба яго ствараць. Без асяроддзя падтрымкі эфэктыўнае змаганьне немагчымае. Таму нацыянальная асьвета грамадзтва ёсьць абавязковая ўмова змаганьня. Асьвета мусіць адбывацца ўвесь час, пакуль ні дасьць грамадзкага выніку і ні зьявіцца гатоўнасьць людзей змагацца і падтрымліваць змаганьне за свабоду.

Усе іншыя схемы ва ўмовах антыбеларускага рэжыму будуць альбо абстрактным папулізмам і на справе падпяваньнем рэжыму (напрыклад, хаджэньне на фальшывыя выбары), альбо варожай прапагандай. Наяўнасьць у грамадзтве групаў падтрымкі беларускага Адраджэньня дасьць магчымасьць распачаць рэальнае нацыянальнае змаганьне за вольную Беларусь і свабоду.

Нацыянальная ідэя мусіць мець каардынуючую арганізацыйную структуру. Групы падтрымкі і грамадзтва павінны быць праінфармаваныя пра планы і праекты ўладкаваньня ўлады, працы, культуры і эканомікі ў будучай вольнай Беларусі. Такія планы і праекты мусяць быць падрыхтаваныя.

Парадак пераменаў:

Пасьля ліквідацыі рэжыму Беларусь адразу павінна вярнуць дзеяньне Канстытуцыі 1994 года. Рашэньнем суду адмяняюцца вынікі незаконнага рэфэрэндуму 1995 года, вяртаецца дзяржаўны Беларускі Бел-Чырвона-Белы сьцяг і гэрб “Пагоня”. Узбуджаецца крымінальная справа супраць спраўцаў незаконнага рэфэрэндуму 1995 года (які меў значэньне дзяржаўнага перавароту).

Праводзяцца выбары парляманта па Канстытуцыі і выбарчым законе 1994 г. Рыхтуецца канстытуцыйная рэформа і заканадаўства аб выбарах. Беларусь становіцца парляманцкай рэспублікай. Павялічаны аднапалатны парлямант з новым акруговым партыйна-мажарытарным прадстаўніцтвам і вялікай колькасцю дэпутатаў (330-340 парлямантароў) фармуе выканаўчую ўладу начале з прэм’ер-міністрам і выбірае прэзыдэнта – галаву дзяржавы з прадстаўнічымі правамі і некаторымі кантрольнымі функцыямі. (Пазьней, пры аднаўленьні грамадзянскай супольнасьці і стабілізацыі грамадзтва, магчымы таксама варыянт усеагульных выбараў прэзыдэнта з пашырэньнем некаторых прэзыдэнцкіх правоў і наданьнем яму права абмежаванага вета).

***Тлумачэньне.*** Вяртаньне да шматасабовага парляманту (у БССР у Вярхоўным Савеце па Канстытуцыі было 360 дэпутатаў) выклікана цяперашняй мізэрнасьцю і малалікасьцю палітычнага класу ў Беларусі з прычыны абмежавальнай і рэпрэсіўнай палітыкі антыбеларускага рэжыму. Шматасабовы парлямант – гэта магчымасьць у такім становішчы мець у яго складзе большую колькасьць інтэлектуальных дзеяздольных дэпутатаў плюс больш надзейнае запабяганьне ад уплыву чужой дзяржавы на фармаваньне прадстаўнічай ўлады краіны. Аднапалатны парлямант будзе мець вялікую вагу ў парляманцкай Беларусі, таму перш за ўсё ён мусіць мець шырокае прадстаўніцтва, што павінна па вызначэньні зьмяншаць таксама рызыку памылак у прыняцьці парляманцкіх рашэньняў.

Рыхтуецца тэрытарыяльна-адміністрацыйная рэформа ўлады па беларускім узоры. Ствараецца ўрадавы Камітэт па выхаду краіны з развалу пасьля ўладараньня антынароднага рэжыму.

Адмяняюцца ўсе дэкрэты і законы антыбеларускай улады, якія прыніжалі чалавечую годнасьць (аб так званых “дармаедах”, аб гандлёвых сэртыфікатах індывідуальных прадпрыймальнікаў і т. п.), ліквідуецца інстытут “ідэёлагаў” на прадпрыемствах, пераглядаецца кантрактная сістэма працауладкаваньня, аб’яўляецца амністыя, пераглядаюцца ўсе справы палітвязьняў, рыхтуецца рэформа судовай сістэмы. Вяртаюцца законы 90-х гадоў аб міліцыі і аб рэлігіі, вяртаецца вольны статус Акадэміі Навук. Аднаўляюцца навукова-дасьледчыя гуманітарныя інстытуты, ліквідаваныя рэжымам.

Аднаўляецца свабода друку і слова, спыняецца перасьлед друку па палітычных матывах. Аднаўляецца свабода мітынгаў і дэманстрацыяў.

Зачыняюцца антыбеларускія, антыдзяржаўныя арганізацыі, інспіраваныя агентурай, разьведкай і палітычнай дзейнасьцю чужой дзяржавы.

Распараджэньнем Ураду адмяняецца і спыняецца будаўніцтва Астравецкай атамнай электрастанцыі. Ўзбуджаецца крымінальная справа і сьледзтва па афёры Астравецкай АЭС. Прымаецца навая праграма разьвіцьця энэргетыкі. Разьвіваецца энэргетыка на ўнутранных рэсурсах (асабліва ветравая, хімічная і гідраэнергетыка малых рэк, зьвязаная з рэанімацыяй прыроды).

Пераглядаюцца ўсе міжнародныя антызаконныя дамовы антыбеларускага рэжыму. Вяртаецца дзяржаўная мяжа, памежны і мытны кантроль з Расеяй (вядома, у выпадку існаваньня расейскай дзяржавы).

Ствараецца нацыянальнае заканадаўства аб уласнасьці на зямлю, якое будзе складацца з двух этапаў.

Першы этап -- прыняцьце заканадаўства аб прыватызацыі зямлі; вызначэньне кандыдатаў на прыватызацыю і падрыхтоўка сялянскіх кадраў (у тым ліку за мяжой) па авалоданьню тэхналёгіямі і гаспадараньнем на зямлі. Права на прыватызацыю зямлі набываюць грамадзяне Беларусі – тыя, хто абрабляе і абрабляў зямлю, хто працуе і працаваў (чые дзяды і бацькі працавалі) на зямлі. Ствараюцца ўмовы для дзейнасьці сямейных фермаў. На пачатковых этапах часова (на пэўны тэрмін) ўводзяцца мінімальныя падаткі (альбо зусім адмяняюцца) на сельгаспрадукцыю.

Другі этап -- стварэньне заканадаўства па арганізацыі рынка зямлі ( купля і продаж толькі для грамадзянаў Беларусі і арэнда, магчымая для замежных аграспэцыялістаў). Будуць дазволены розныя формы ўласнасьці на зямлю.

У сістэме вышэйшай школы ствараецца механізм, які будзе забясьпечваць фармаваньне інтэлектуальнай і гуманітарнай эліты нацыі. Ствараецца нацыянальны гуманітарны ўнівэрсітэт, а таксама шэраг ліцэяў і калегіюмаў на высокім беларускім узроўні адукацыі.

Рыхтуецца адукацыйная праграма і сістэма нацыянальнай адукацыі на ўзроўні патрабаваньняў 21-га стагоддзя.

Аднаўляюцца зачыненыя беларускія школы ў сельскай мясцовасьці. Вяртаецца беларуская школа і адукацыя ва ўсёй краіне.

Рэарганізуецца і пашыраецца сістэма дашкольнага дагляду і здаровага дашкольнага выхаваньня дзяцей па правілах гуманізму і нацыянальнай выхаваўчай культуры.

На базе Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства адукацыі ствараецца Патранажная служба маладой сям'і ў выглядзе Інстытута Маладой сям'і, які рыхтуе патранажных сясьцёр і дабрадзеяў маладой сям'і. Патранажная служба (пры згодзе сям'і) мэтадалагічна дапамагае маладым сем'ям у праблемах здароўя і сямейнага выхаваньня дзяцей дашкольнага ўзросту.

***Заўвага:*** Маладая сям'я – гэта тая сям'я (незалежна ад узросту бацькоў), дзе ёсьць дзеці да сямігадовага ўзросту.

***Растлумачэньне:*** Патранажныя сёстры і дабрадзеі маладой сям'і, згодна правілаў, вызначаных інструкцыяй, дапамагаюць парадамі і падтрымкай у вырашэньні праблемаў здароўя, дogляду і выхаваньня дзяцей.

Пэрыяд разьвіцьця чалавека да 7-гадовага ўзросту ёсьць важным у разьвіцьці фізіялагічных, пачуцьцёвых (мэнтальных), інтэлектуальных і моўных здольнасьцяў асобы. Мова ў гэты раньні пэрыяд фармаваньня розуму чалавека ёсьць генетычна абумоўленым інтэлектуальным рэсурсам. Парадыгма інтэлекту і мовы фармуецца ў гэты пэрыяд. Для аптымальнага фармаваньня інтэлекту вельмі важна, каб дзіця пачынала разьвівацца ў той мове, на якой спрадвеку размаўлялі яго продкі (гэта значыць на яго нацыянальнай мове). Авалоданьне іншымі мовамі – гэта ўжо другаснае пытаньне. Такі падыход належыцца да ўсіх грамадзянаў Беларусі з ўлікам асаблівасьцяў культуры сям'і.

Тым часам беларуская нацыя ў выніку акупацыяў і разбуральных дзеяньняў акупантаў над чалавечай асобай атрымала ў спадчыну дэструктыўны чужы груз грамадзкіх наступстваў, пераадолець якія неабходна ўсяму грамадзтву, пачынаючы ад нараджэньня чалавека на сьвет. Тут патрэбная грамадзкая ўзаемадапамога, частку якой павінна забясьпечыць патранажная служба маладой сям'і.

Падрыхтоўка кадраў і навучаньне:

Кваліфікацыя і падрыхтоўка кадраў адбываецца па двух профільных накірунках. Першы накірунак – у аснове курс медсястры з профільным вывучэньнем асноваў медыцыны, беларускай мовы, пэдагогікі і псіхалогіі. Другі накірунак – курс настаўніка малодшых класаў з профільным вывучэньнем асноваў пэдагогікі, беларускай мовы, медыцыны і псіхалогіі.

Падрыхтаваныя кадры могуць працаваць у патранажнай, медыцынскай і школьна-адукацыйнай сістэме, а таксама сумяшчаць гэтыя працы.

Прымаецца закон аб крымінальнай адказнасьці за збочанае разбэшчваньне дзяцей і моладзі пад выглядам палавой асьветы і адукацыі.

Вяртаецца беларускае радыё і тэлебачаньне. Вяртаюцца офісы, сядзібы і маёмасьць творчым саюзам.

Робяцца захады па манэтарным умацаваньні існуючых беларускіх грошай. Падрыхтоўваецца рэформа грашовай сістэмы і ўвядзеньне нацыянальнай валюты – беларускага талера. Праводзяцца сістэмныя і мэтадычныя захады па павелічэньні залатога запасу Беларусі. Арганізоўваецца канцэсійная здабыча золата за мяжой і дасьледваньні ў Беларусі.

Праводзіцца рэформа войска і ўзброеных сіл, якія разглядаюцца як важная гарантыя суверэнітэту краіны. Кантрактная сістэма ў войску для афіцэраў і прапаршчыкаў. Войска фармуецца па ўсеагульным прызыўным прынцыпе. Ствараецца войска рэзэрвы. Фармуюцца ваенізаваныя аддзелы грамадзянскай абароны і альтэрнатыўная служба дзеля асобных грамадзян. Закладваецца нацыянальная

ваенна-прамысловая вытворчасьць. Ствараецца навукова-дасьледчы інстытут абароннай вытворчасьці.

Ствараецца камбінаваная прыватна-дзяржаўная сістэма медыцыны. Арганізуецца дзяржаўны фонд медыцыны. Уводзіцца сістэма прагрэсіўнай аплаты работнікаў дзяржаўнай аховы здароўя. Ўводзіцца класнасьць медсёстраў (і медбратоў) у залежнасьці ад стажу і кваліфікацыі. Ўсё гэта павінна павысіць узровень, прэстыжнасьць дзяржаўнай медыцыны, падвышэньню кваліфікацыі кадраў.

Медыцына, адукацыя, абарона краіны ёсьць дзяржаўная справа. Будуць існаваць таксама прыватныя навучальныя ўстановы з асобным статусам і пад асобным дзяржаўным законам, а таксама прыватная медыцынская практыка і шпіталі.

Прымаецца закон аб прыярытэце і ахове сям'і, шлюбу (саюзу мужчыны і жанчыны), мацярынства, аб абароне сям'і ад пасягальніцтва чыноўнікаў і ўмешваньня ў сямейныя справы з боку ідэалёгіі і арганізацыяў. Пацьвярджаецца выключнае права бацькоў на выхаваньне дзяцей. Ніхто ня мае права супраць волі сям'і ўмешвацца ў сямейныя справы людзей, калі яны ня носяць антызаконнага зьместу. Кантакты школы і сям'і ў навучаньні дзяцей маюць пэдагагічны характар. За крымінальныя і антыграмадзкія паводзіны дзяцей нясуць адказнасьць бацькі. Пазбаўленьне бацькоўства адбываецца толькі калі бацькі адмаўляюцца ад догляду за дзецьмі і тое пагражае жыцьцю і здароўю дзіцяці. Наўмыснае калецтва і пашкоджаньне здароўя дзіцяці бацькамі цягне за сабой крымінальную адказнасьць. Бацькі павінны клапаціцца пра сваіх дзяцей. Дзеці павінны клапаціцца пра сваіх бацькоў, супрацоўнічаць у гэтым з органамі сацыяльнага забесьпячэньня і медыцыны. Дзяржава спрыяе ўмацаваньню сям'і праз сістэму льгот, выплат, узнагарод, маральнай падтрымкі ўзорных сем'яў

Прымаецца закон аб абароне прыроды чалавека. Прапаганда збочаных адносін, накіраваная на разбэшчваньне і супраць натуральнай прыроды чалавека, караецца па закону.

Прымаецца закон аб адказнасьці за дзеяньні і прапаганду сацыяльнай, нацыянальнай, расавай і палавой нянавісьці. Дзеяньні і прапаганда нянавісьці супраць іншых нацыяў, расаў, групаў насельніцтва, супраць мужчыны ці жанчыны караюцца па закону.

Адбываецца паэтапны працэс раздзяржаўленьня эканомікі. Першы этап на вызначаны тэрмін – 50 на 50 (палова прыватная, палова дзяржаўная). Прымаецца сістэма процідзеяньня стварэньню алігархічнага капіталу і сацыяльнай касты алігархаў.

Ствараецца нацыянальная праграма па адраджэньні і разьвіцьці беларускай вёскі. Спыняецца зьнішчэньне паселішчаў пад відам стварэньня так званых “агра-гарадкоў”.

Лясы, насельнікі лясоў, лясная флора і фаўна, прыродныя вадаёмы, рэкі і насельнікі рэк і вадаёмаў, нетры зямлі, паветранная прастора – зьяўляюцца дзяржаўнай уласнасьцю і не падлягаюць прыватызацыі. Грамадзяне Беларусі могуць вольна карыстацца лясамі, вадаёмамі, прыродным асяроддзем у межах прынятага заканадаўства.

У адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформе прадугледжана рэанімацыя сацыяльна-урбаністычных функцыяў мястэчак, аднаўленьне сістэмы мясцовых дарог, стварэньне сродкаў камунікацыяў і сувязі. Ніхто ня будзе мець права зганяць чалавека з абжытага месца.

Прапануецца кардынальная рэформа самакіраваньня з адпаведнай сістэмай падаткаў і фармаваньня бюджэту. Дзеля аптымальнага функцыяваньня сістэмы самакіраваньня, дзеля зьмяншэньня цэнтралізацыі, адміністрацыйнай і бюджэтнай нагрузкі прапануецца скараціць колькасьць раёнаў у двая (пакінуць 60 паветаў, дзе будзе 270 старостваў) і стварыць 16 ваяводзтваў (вобласьцяў) плюс асобная адміністрацыйная адзінка – сталічнае места Менск.

У гэтай сістэме даходна-расходны бюджэт фармуюць цэнтральныя ворганы, паветы і гарады. Ваяводзтва, староства і гарадзкі раён фармуюць толькі расходныя бюджэты.

Ствараецца праграма, навукова-дасьледчы інстытут і міжведамасная вытворчая арганізацыя па аднаўленьні і рэанімацыі беларускіх рэк, вадаёмаў і прыроднага асяроддзя.

Вяртаецца чарнобыльскае заканадаўства 90-х гадоў, льготы ліквідатарам, забясьпячэньне і падтрымка людзей ў зонах малой радыяцыі. Спыняецца сельгасвытворчасьць на радыяцыйна забруджаных землях, ўведзеная антыбеларускім рэжымам. Праводзіцца комплекснае дасьледваньне радыяцыйна забруджаных тэрыторыяў, інфармацыя даводзіцца да насельніцтва.

Па Канстытуцыі дзяржаўная мова – беларуская. Руская мова ёсьць мова міжнацыянальных зносінаў. Кожны дзяржаўны служачы павінен будзе ведаць дзьве мовы (беларускую і рускую). Ад гэтага будзе залежыць класнасьць чыноўніка (адпаведна – прафэсійная прыгоднасьць і зарплата). Кожны беларус, што гаворыць па-руску, будзе адчуваць сябе камфортна ў дачыненьнях з дзяржаўнымі ўстановамі, паколькі ня будзе ўзьнікаць моўных праблемаў. Установы працуюць на дзяржаўнай беларускай мове, але інфармацыя і камунікацыя (пісьмовая і вусная) будзе на той мове, на якой патрабуе чалавек. Такі падыход будзе ўвесь час. Ніякія тэрміны не ўстанаўліваюцца, пакуль рэальна ня зьменіцца моўнае становішча ў карысьць беларушчыны.

Тым часам дзяржаўная палітыка, школа, ВНУ, радыё, тэлебачаньне, кіно, мастацкая літаратура, увесь дзяржаўны апарат улады будуць накіраваны на адраджэньне беларускай мовы. Зь цягам новых пакаленьняў беларуская мова стане сацыяльна прэстыжнай і сацыяльна неабходнай. І ўсё само сабой вернецца ў беларускае нацыянальнае рэчышча, нікому пры гэтым у рэальных дачыненьнях ня робячы перашкоды.

Ствараецца Інстытут Нацыянальнай памяці, які падрыхтоўвае і праводзіць люстрацыю. Люструюцца асобы, што супрацоўнічалі з КГБ антыбеларускага рэжыму і палітычнымі арганізацыямі чужой дзяржавы, на шкоду Беларусі. Пры дабраахвотным публічным прызнаньні санкцыі супраць асобы не ўжываюцца. Пры адсутнасьці дабраахвотнага публічнага прызнаньня спіс люстрацыі публікуе ІНП, а на асобу накладваецца карантын альбо поўная забарона на працу ў адпаведных установах.

***<u>Заўвага:</u>*** Выяўленьне злачынства да люстрацыі не адносіцца. Злачыннымі парушэньнямі займаецца пракуратура і ворганы рассьледваньня.

Ствараецца Служба Бясьпекі Беларусі на правах Міністэрства, падпарадкаваная парляманту.

Ствараецца Беларускае Бюро Рассьледваньняў, падпарадкаванае парляманту, якое займецца рассьледваньнем злачынстваў камуністычнага і антыбеларускага рэжымаў.

Дзяржаўныя прыярытэты цягам пакаленьня (пэрыяд – дваццаць гадоў) мусяць быць такія:

1. адукацыя, асьвета; фундамэнтальная навука, інфармацыйныя тэхналёгіі;
2. абарона, войска, абарончая прамысловасьць;
3. медыцына;
4. культура;
5. Прадпрыймальніцтва, сельская гаспадарка, вёска.

Эканоміка, фінансы, прамысловасьць, транспарт, праца, будаўніцтва, гандаль, сацыяльнае забесьпячэньне, экспарт, падатковае заканадаўства і т. п. – гэта тое асноўнае, чым займаецца кожная дзяржаўная ўлада. Гэта пастаянная матэрыя яе дзейнасьці.

Тым часам пяць прыярытэтаў, выдзеленых мной і разьмеркаваных па важнасьці, -- гэта тое абавязковае і неабходнае, якое будзе патрэбнае беларусам дзеля няўхільнага адраджэньня нацыі, улучэньня яе ў патрэбы сучаснасьці і стварэньне гарантыяў трываласьці існаваньня.

Асабліва важныя першыя два пункты – адукацыя-асьвета... і абарона-войска... На гэтыя галіны мусіць вядзяляцца максімальнае фінансаваньне з бюджэту. Час будзе вымагаць ад нас зьвяртаць вялікую ўвагу на абарону і яшчэ большую на адукацыю. Потым гэтыя прыярытэты могуць зьменшыцца, але не зьмяніцца. І гэта на даўжэйшы пэрыяд.

Наша геапалітычная пазыцыя мусіць палягаць на стварэньні Балта-Чарнаморскай супольнасьці (у аснове Беларусь, Украіна) і адраджэньні Ўсходняй Эўропы на базе былога Вялікага Княства Літоўскага і новых прыхільных краін.

Каланіяльная распрацоўка ворагаў Беларусі (маўляў, да каго далучацца: да Эўразіі ці да Заходняй Эўропы) ня будзе ні ўжывацца, ні разглядацца, ні паўтарацца, але ўспрымацца як антыбеларуская прапаганда.

Беларусь выходзіць з ваенных блокаў і дамоваў з Расеяй і супрацоўнічае з НАТО (у пэрспэктыве ўступае ў альянс).

Беларусам трэба цьвёрда разумець і ў геапалітыцы заходзіць з таго, што пакуль існуе Расея-імпэрыя і ў сітуацыі, якая склалася тут даўно, ніякіх буферных, і тым больш нэўтральных, краінаў паміж Расеяй і Заходняй Эўропай існаваць не павінна (і ў рэальнасьці ня будзе). Наша (фронтаўская) заява ў 90-х гадах пра нэўтралітэт краіны мела чыста тактычны характар, каб запабегчы ўцягваньню Беларусі ў ваенныя дамовы з Расеяй. Пра гэта мы потым напісалі і тое адразу разумелі ўсе, хто ў гэтым разьбіраўся.

Цяпер, калі па здрадзе рэжыму, Беларусь уцягваюць ў расейскія ваенныя інтарэсы, пытаньне нэўтралітэту стала неактуальным, але можа яшчэ выкарыстоўвацца як сродак дыпламатыі. Польшча і Прыбалтыка, тое зразумеўшы, адразу далучыліся да НАТО. Такі шлях у пэрспэктыве чакае і Беларусь. Але ён, ізноў жа, нічога сур'ёзна не гарантуе пакуль існуе Расейская імпэрыя.

І вось тут вельмі важнае. Беларусь (у першую чаргу), потым Украіна, Прыбалтыка, Малдова, Грузія аб'ектыўна (з разьліку самазахаваньня) павінны быць зацікаўлены ў ліквідацыі расейскай імпэрыі і дэзынтэграцыі Расеі. Гэта для іх пытаньне жыцьця альбо сьмерці, свабоды альбо несвабоды. І гэта павінна стаць часткай працы іхняй дыпламатыі, разьведкі і міжнароднай палітыкі. Альянс ад Балтыкі да Чорнага мора наканаваны ня толькі дыверсіфікацыяй рынку энэргарэсурсаў, але натуральнай геапалітыкай выжываньня.

Беларусь мусіць супрацоўнічаць з Эўразьвязам (краінамі Эўразьвязу), але не павінна імкнуцца стаць краінай Эўразьвязу з прычыны ідэалагічнай нецярпімасьці, левізны і агрэсіўнай бязбожнасьці гэтага ўтварэньня (абсурднай адмовы ад Хрысьціянства), адсутнасьці ідэалаў, фальшывасьці палітычных пастулатаў і

збочанасьці ідэалёгіі, якую яны хочуць накінуць іншым краінам і прыняцьце якой зьяўляецца ўмовай прысутнасьці ў іхнай супольнасьці.

Увогуле Эўразьвяз – гэта праект цывілізацыйна дэструктыўны, які, зыходзячы з памылковых уяўленьняў, прывёў у Эўропу палітычна нематываваную масавую эміграцыю з сваіх былых калоній – дэзынтэграваную Азію і Афрыку, адчыніў дзьверы ўсходняму тэрарызму, абнізіў духоўны і культурны ўзровень Эўропы; гэта саюз бюракратыі, які перажывае сістэмны крызіс, і распад яго верагодны.

Неакрэсьленымі застаюцца дачыненьні з Расеяй, бо невядома, ці будзе ў бліжэйшы час існаваць такая дзяржава. Магчыма, будзе, і дачыненьні зь ёй стануць найбольш праблемнымі і небясьпечнымі з прычыны найперш той палітыкі і таго становішча, якое пакіне пасьля сябе антыбеларускі рэжым. Але ў выпадку агрэсіўнай пазыцыі Масквы ўсе пэрспэктывы для Расеі ў Беларусі зачыняцца.

Няўхільная рэформа энэргетыкі з апорай на мясцовыя крыніцы энэргіі і шырокая дыверсіфікацыя рэсурсаў стане для Беларусі першаснай жыцьцёвай неабходнасьцю. Мы маем таксама шмат іншых рычагоў, каб спыніць расейскі нафта-газавы шантаж. Але тут нам будзе патрэбна міжнародная падтрымка і моцнае беларускае войска, бо калі Маскве захочацца “крымнашу” ў Беларусі, то каб яна таго асьцерагалася.

Рэчаіснасьць сёньняшняга дня вымагае ад беларусаў рэальнай (схаванай ад рэжыму) псіхалагічнай, **арганізацыйнай і збройнай падрыхтоўкі** да абароны Беларусі і рэальнай дапамогі ваярам Украіны. Успрымайма змаганьне ўкраінцаў з маскоўскім агрэсарам як наша змаганьне, бо так яно і ёсьць. Чым хутчэй будуць выкінуты маскоўцы з Украіны, тым бліжэй будзе тут наша воля і беларуская наша перамога.

*20 траўня 2015 г.* Зянон Пазьняк

**Post Scryptum.** Тэзісы апошняга разьдзелу артыкула – гэта ёсьць папярэдні накід на падставе даўніх напрацовак Ценявога Кабінэту дэпутацкай Апазыцыі БНФ (дзеля цяперашняга яго працягу). Тэкст друкуецца пакуль што на ўзроўні намераў і ідэй, бо вымагае азнаямленьня зацікаўленых людзей, абмеркаваньня і прапаноў.

На жаль, наяўнасьць антыбеларускага рэжыму і рэпрэсіяў не дазваляе адкрыта абмяркоўваць шмат якія праблемы (асабліва пэрсанальныя). Усё чакае свайго часу, які будзе.

**PPS.** Ідэі гэтага тэксту былі пакладзеныя ў распрацоўку Народнай Праграмы Вольная Беларусь, якая была падрыхтавана і створана ў 2017 годзе

# «ПАРАЗА ЧАЛАВЕЦТВА»

У 2008 годзе ў Ірляндыі адбыўся рэфэрэндум аб Лізбонскім трактаце (гэта дакумант, прапанаваны замест Канстытуцыі Эўразьвязу з адмаўленьнем ад Бога і Хрысьціянства). Лібэральныя эўрачыноўнікі паціралі ручкі. Яны лічылі, што Эўропа ўжо ў мяшку. Але Ірляндыя прагаласавала супраць. У Эўразьвязе – разгубленасьць і шок, крах эўрапалітыкі.

Толькі маніпулятарам не прывыкаць. Вырашылі націснуць на Ірляндыю і змусіць ірляндцаў правесьці паўторны рэфэрэндум. Тактыка запалохваньня і пагроз межавалася з абяцаньнямі паважаць ірляндцкія звычаі, сям'ю, сямейныя каштоўнасьці, выхаваньне дзяцей, нацыянальныя традыцыі; паабяцалі, што Эўразьвяз ня будзе ўмешвацца ў прыватнае і сямейнае жыцьцё ірляндцаў, у гадаваньне і адукацыю дзяцей і г. д. Паабяцалі грошай, гандлёвыя прэфэрэнцыі, крэдыты і інш.

Ірляндцы кляўнулі і паплаціліся. Па ступені ілжывасьці эўралібэралы саступаюць толькі расейскім імпэрцам (па подласьці – нікому). Паўторны ірляндцкі рэфэрэндум па Лізбонскім трактаце адбыўся ў 2009 годзе. Прагаласавалі (ці зманіпулявалі) за трактат. Пасьля чаго ўсе наступныя гады з боку Эўразьвязу адбываўся пасьлядоўны і змасаваны наступ дэвіанцкай палітыкі на ірляндзкае каталіцкае грамадзтва. Ніхто і не зьбіраўся шанаваць ірляндзкую сям'ю, права на выхаваньне дзяцей і, тым больш, ірляндзкі Касьцёл.

Мэнтальны крах кансумэнцкага (спажывецкага) ірляндзкага грамадзтва, якое стала лепш матэрыяльна забясьпечаным, адбываўся так хутка, што нават цяжка было паверыць у рэальнасьць пераменаў у гэтай каталіцкай краіне, якая яшчэ нядаўна так змагалася за сваю незалежнасьць. Тое ж і ў Паўночнай Ірляндыі.

Вось тыповы выпадак перамен. У сакавіку 2015 года ўласьнік пякарні ў Паўночнай Ірляндыі верны католік адмовіўся выпякаць торт педэрасту, які замовіў надпіс на торце ў падтрымку аднаполых «шлюбаў», бо аднаполае сужыцельства не легалізаванае ў Паўночнай Ірляндыі. Пазыцыя пекара законная. Тым ня менш дэвіянт падаў у суд на пекара, і суд несправядліва засудзіў яго на 500 фунтаў штрафу за «дыскрымінацыю» педэрастаў. Тут жа выступае іншы скрыты дэвіант ва ўрадзе і кажа, што гэта «добры вынік для роўнасьці». Мы бачым, што там суд, фактычна, такі самы, як і ў Лукашэнкі, толькі з іншай падкладкай. Але справа ня ў гэтым.

Уражвае, як хутка можа разбурыцца культура, якое крохкае яе існаваньне. Хаця здаўна вядома, якія стараньні, якія высілкі павінна рабіць грамадзтва і дзяржава дзеля падтрыманьня культуры, здароўя і жыцьцядзейнасьці чалавецтва.

У сярэдзіне XIX стагоддзя Брытанская імпэрыя, якая мэтадычна нішчыла ірляндцаў, вывезла прадукты харчаваньня з вострава і выклікала штучны неўраджай бульбы, асноўнай сельскагаспадарчай культуры ірляндцаў. Пачаўся жахлівы голад. Памерла каля двух мільёнаў ірляндцаў. (У рускіх бальшавікоў, што пры саветах зрабілі галадамор ва Украіне, былі дасьведчаныя папярэднікі.) Каля чатырох мільёнаў ірляндцаў эміґравалі ў Амэрыку і Аўстралію. З васьмі мільёнаў насельніцтва Ірляндыі ў 1845 годзе на выспе (пасьля галадамору) засталося крыху больш двух мільёнаў людзей. (Заўважу, што па сёньняшні дзень Ірляндыя не аднавіла былую колькасьць насельніцтва. Цяпер на выспе жыве чатыры з паловай мільёны ірляндцаў.)

Дэмаграфічная катастрофа ірляндцаў у XIX стагоддзі паставіла пад сумненьне далейшае існаваньне гэтага народа, тым больш, што брытанскія каланізатары разбуральна нішчылі ірлянцкую мову. (Тут заўважу, што пасьля нашай дэмаграфічнай катастрофы ў сярэдзіне 17-га стагоддзя, калі маскавіты ў часы «Патопу» вымардавалі палову насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага (Беларусі), мы, фактычна, ня можам падняцца як нацыя ва ўвесь рост па сёньняшні дзень.)

І ўсё ж здарыўся амаль цуд. Ірлянцы выстаялі, аб'ядналіся, перамаглі і стварылі вольную Ірляндзкую незалежную дзяржаву. Аб'яднаў ірляндцаў, дапамог змагацца і выстаяць – каталіцызм, ірляндцкі Касьцёл. Калі б ні Касьцёл, які адыграў

нацыятворную ролю, альбо калі б ірляндцы былі б адной канфэсіі з ангельцамі, то чалавецтва ўжо, напэўна, нават забылася пра існаваньне такога народа, як ірляндцы. Усе былі б ангельцамі.

Практычна, да самага канца XX стагоддзя ірляндзкі Касьцёл трымаў і жывіў адзінства, культуру і чалавечнасьць ірляндзкай нацыі, пакуль ні распаўсюдзілася па Эўропе левалібэральная ерась, ні запаланіла Эўразьвяз. Ерась пачала нішчыць і кампрамэтаваць хрысьціянскі Касьцёл, прапагандуючы ўсёдазволенасьць і свабоду вычварэнцтва, сцьвярджаючы права людзей на паскудзтва і раўняючы цноту з брыдотай, абгаворваючы дзе толькі магчыма заганныя паводзіны каталіцкіх ксяндзоў. Спажывецтва, задавальненьні і грошы зрабілі тое, што стагоддзямі ня здолелі зрабіць ангельскія каланізатары.

23-га траўня 2015 года Эўразьвяз дамогся правядзеньня ў Ірляндыі чарговага рэфэрэндуму. На гэты раз – пра зацьвярджэньне законам дэвіянтнага сужыцельства асобаў аднаго полу на правах шлюбу (так званы «гомасэксуальны шлюб»).

Ірляндзкі народ, ачмураны ў большасьці лібэральнай гёбэльсаўшчынай, на гэты раз прагаласаваў за прапанову збачэнцаў.

Лібэральныя сродкі інфармацыі ў Эўропе зьмясьцілі фотарэпартажы, на якіх шчасьлівы ірляндзкі народ віватуе і радуецца перамозе гомасэксуалістаў. А на фоне вясёлага шчасьлівага натоўпу крыўляецца, круціцца, узьвіваецца і пераможна трыумфуе дэвіянцкая асоба жаночага полу з незьнікальнай пячаткай распусты на твары і абліччам ведзьмы, разьняволенай і свабоднай. («Крымнаш», відаць, крычала тая ведзьма.) Вельмі сымвалічная фатаграфія.

Прадстаўнік Ватыкану назваў падзею ў Ірляндыі «паразай чалавецтва». Перапоўненая нянавісьцю ад зласьлівага шчасьця дэпутатка-фэміністка ў Варшаве з задавальненьнем назвала тое «паразай Касьцёла».

Маюць рацыю і Ватыкан, і яго ворагі. Толькі найбольшую паразу тут пацярпеў ірляндзкі народ. Яна для яго горшая за галадамор. Ад яе ён можа ўжо не падняцца. Нават калі разваліцца Эўразьвяз. Толькі ці разумеюць яны тое?

У артыкуле «Скрынка Пандоры» я ўжо адзначаў, што з усіх таталітарных ідэалёгіяў, якія вырасьлі з маргіналізму, левалібэралізм ёсьць самай небясьпечнай для існаваньня чалавецтва, бо нішчыць адначасна і грамадзтва, і асобу знутры. Разбэшчанасьць левалібэралізму направе, практычна, не падлягае.

У чарговы раз хачу сказаць пра асэнсаваную разумную неабходнасьць міжнароднага процідзеяньня левалібэралізму. Калі такога разумнага міжнароднага руху ня ўдасца арганізаваць, то чалавецтва ўрэшце (Эўропа, прынамсі) дачакаецца новых гунаў і новых манголаў, якія зьмятуць усё, не разьбіраючыся, на сваім шляху. Гэты сцэнар, на жаль, найбольш верагодны. Мне здаецца нават, што ён пачынаецца.

Беларусам, ўкраінцам грузінам – ўвогуле ўсім народам Усходняй Эўропы, якія змагаюцца з расейскай агрэсіяй і з расейскай імпэрскай палітыкай, -- трэба ўжо цяпер правільна выбудоўваць дачыненьні з Эўразьвязам, спыняць усялякія спробы Захаду экспартаваць сюды антычалавечае паскудства пад выглядам «правоў чалавека», «дэмакратыі», «свабоды» і т. п. (бо на справе гэта толькі нажыўкі, Траянскі конь, каб уехаць да нас са сваімі хваробамі, што называюцца ў іх «каштоўнасьцямі»).

Сумны лёс і цывілізацыйная параза народа Ірляндыі хай будзе для ўсіх людзей добрай волі паважнай засьцярогай і папярэджаньнем пра неабходнасьць абароны суверэнітэту краіны, нацыі, Веры ў Бога, Хрысьціянства, сям'і, дзяцей, мовы, традыцыяў, гісторыі, культуры і ўсяго таго, што мы называем Беларускім сьвятлом у душы.

*19 чэрвеня 2015 г.*

# Post scriptum

Далей прапаную
некалькі тэмаў, датычных да зьместу вышэйпададзенага тэксту.

**Маргіналізм і вычварэнцтва**

Людзі, якія жывуць духоўнымі інтарэсамі і маюць духоўны вопыт, разумеюць і бачаць тактыку і кансалідаваныя праявы зла. Звычайна на індывідуальным узроўні зло праяўляецца нясьведама і стыхійна, але па фіксуемых правілах і заканамернасьцях.

З узростам, ад назіраньня за тым, як растуць дзеці і зьмяняюцца людзі, прыходзіць мудрасьць, і кожны чалавек сам арыентуецца ў дачыненьнях дабра і зла.

Арганізаваная тэхналёгія зла як усьвядомленая існасьць вынікае ў грамадзтве, як правіла, з агрэсіўнага маргіналізму, вылучаецца актыўнай пасіянарнасьцю і надзвычайнай салідарнасьцю ў дачыненьнях, асабліва калі маргінальная група разьвівае свой сьветапогляд у ідэалёгію зьмяненьня чалавецтва. Ідэалёгія зьмяненьня сьвету будуецца на маргінальнай нянавісьці і зьнішчэньні перашкод, бо вынікае з комплексу незаўважанай, ігнараванай меншасьці. Таму агрэсіўны маргіналізм заўсёды левы (разбуральны, нязгодны). У прынцыпе, любыя праявы агрэсіўнага маргіналізму ёсьць патэнцыяльна небясьпечныя для грамадзтва (нават калі гэта разбуральныя праявы прыхільнікаў абароны жывёл, ідэйнага вегетарыянства, паганства ці рэанімацыі гістарычнай манархіі і таму падобныя зьявы ідэйнай ускраіны). Маргіналізм – гэта заўсёды псэўданавука.

У сусьветным грамадзтве, якое перажывае крызісы, можа стварыцца такое становішча і ўзьнікнуць такія абставіны, калі нейкая агрэсіўная маргінальная група набывае ўплыў, пачынае шырэй самасцьвярджацца, у тым ліку і ўдзелам ва ўладзе і ў грамадзянскай супольнасьці, часам абапіраючыся на ідэалёгію. Дэмакратыя адчыняе такія магчымасьці. Трэба разумець парадокс, што таталітарызм і ўсе віды фашызма вынікаюць якраз з дэмакратыі, якая аслабляе дзяржаўную ўладу (гэтыя дзяржаваразбуральныя якасьці дэмакратыі аналітычна адзначыў яшчэ Арыстоцель). У гісторыі дастаткова прыкладаў, калі краіны у выніку складаных абставінаў ня здолелі выйсьці з крызісу дэмакратыі і страцілі сваю дзяржаўнасьць. Найбліжэйшы прыклад – наша гісторыя (Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітая).

У дэмакратычнай сістэме ўсе праявы агрэсіўнага маргіналізму могуць быць небясьпечнымі для людзей, незалежна ад таго, моцная ці слабая дэмакратыя ў дзяржаве.

Успомнім 90-я гады, так званае «Белае брацтва», створанае на Ўкраіне гэбоўскай агентурай Марыяй Цвігун і палкоўнікам КГБ Юрыем Крываногавым. Як дэпутату парляманта мне прышлося ўдзельнічаць у барацьбе супраць гэтай пошасьці, якая пашыралася і ў Беларусі. «Белае брацтва» загубіла лёсы мноства маладых людзей. Замбуючая гэбоўская тэхналёгія была мацнейшай за «крымнаш». Некаторыя маладзёны (псіхічныя рабы і зомбі «Белага брацтва») потым амаль не паддаваліся рэабілітацыі. Удар па псіхіцы быў такі моцны, што рабіў іх мэнтальнымі калекамі (людзі аказаліся псіхічна вырванымі з рэальнай рэчаіснасьці жыцьця). І калі б гэтую каманду ні арыштавалі ў Кіеве і ні пасадзілі ў турму, то шкоды было б яшчэ больш. Яны б залезьлі і ва ўладу. (Дарэчы, Цвігун з Данецка. Зьнешне яе часам можна пераблытаць зь Юліяй Цімашэнка. Пасьля турмы дзейнічае ў Маскве, выступае пад імем Вікторыя Прэабражэнская, падтрымлівае «русскій мір», «навароссію», Пуціна і Януковіча.)

Найбольш катастрафічныя вынікі прарыву агрэсіўных маргіналаў і маргінальных ідэй былі ў ХХ стагоддзі. Тут найперш – камунізм (бальшавізм) і нацыянал-сацыялізм (нацызм, фашызм). Гэтых «неадэкватных» і маргінальных «паляпшальнікаў чалавецтва» напачатку ніхто сур'ёзна не ўспрымаў, а скончылася ўсё Сусьветнай вайной, газавымі печамі, генацыдам, ГУЛАГам, Курапатамі і дзясяткамі мільёнаў загубленых жыцьцяў.

Гнасеалогія гэтых зьяў выяўлена на раньнім маргінальным этапе як калектыўная закамплексаванасьць сацыяльнай непаўнавартаснасьцю, і выхад зь яе – праз нянавісьць да ўяўных ворагаў і вінавайцаў калектыўнага комплексу (камунізм), альбо

калектыўная закамплексаванасьць нацыянальным прыніжэньнем і выхад зь яго праз нянавісьць да ўяўных ворагаў і праз уяўнае ўзвышэньне над усім сьветам.

У аснове агрэсіі маргіналізму заўсёды ляжыць адчуваньне (комплекс) калектыўнага прыніжэньня і комплекс узвышэньня (як альтэрнатыва выхаду з комплексу), узьнікае вобраз ворага-вінавайцы і імпэратыўнае адчуваньне нянавісьці.

Маргінальны сьветапогляд заўсёды ўспрымае сам сябе носьбітам абсалютнай ісьціны. Увесь астатні сьвет, адпаведна на іх думку, альбо не дарос да маргінальнай сьведамасьці, альбо памыляецца, заблудзіў, блукае ў цемнаце. Жаданьне выправіць і палепшыць чалавецтва згодна сваіх уяўленьняў заўсёды дрэмле ў агрэсіўным маргіналізме. Уласна якраз гэтым і выклікана яго агрэсіўнасьць.

Адэпты такога становішча (скажам, сярод ідэйных вегатарыянцаў) лічаць усіх астатніх людзей, якія ўжываюць мяса, пажыральнікамі трупаў, недаразьвітымі суб'ектамі, якія не разумеюць, што робяць.

Прадстаўнікі агрэсіўнай («ідэйнай») галіны аматараў аховы жывёл тое ж самае думаюць пра мясаедаў, толькі ўжо як пра забойцаў жывёл. Некаторыя зь іх, паляпшаючы людзкі род, абліваюць жанчын у норкавых футрах, чырвонай фарбай, кіслатой, ці нават мачой, помсьцячы за «забойства» жывёл (хаця прычым тут носьбіты футры). Пры гэтым яны часта ня супраць паесьці смажанай цяляціны, альбо гускі зь яблыкамі і пашпацыраваць у скураных туфлях (вядома ж бо гума і ўсялякі там «поліхлорвінілі» для ног ня здарова). Ды-й фарбай абліваюць толькі жанчын, бо, зразумела, ад мужчыны можна і па пысе схапіць.

Вядома, ні агрэсіўныя вегетарыянцы, ні агрэсіўныя ахоўнікі жывёл, ні розныя там паганцы, друіды, крывічы, пасьлядоўнікі Ярылы ды Пяруна і т. п. ніколі сьвет пад сябе ня зьменяць, бо ідэёвая і салідарная сацыяльная база ў іх вельмі вузкая і не закранае масавай нянавісьці. Гэта вечны маргіналізм. Другая справа – сацыяльная нянавісьць бедных да багатых, экспрапрыяцыя багацьця ды спадзяваньні на камунізм, дзе ўсім усё будзе.

Альбо ілюзія, што, калі немцы будуць існаваць па ўсім сьвеце, калі яны будуць звышлюдзьмі і іншых непаўнавартасных людзей ня будзе. І так добра стане ў гэтым адзіным нямецкім дасканалым сьвеце дасканалых звышлюдзей.

Маргіналізм такога сацыяльнага і нацыянальнага накірунку ад пачатку быў небясьпечны, бо прадугледжваў шырокую грамадзкую базу, і ў выпадку зьбегу абставінаў мог выйсьці з маргінальнай абалонкі, здабыць уладу над грамадзтвам і пачаць яго прыстасоўваць пад свае ўяўленьні.

Пэўны замах на раскол чалавецтва мае маргіналізм жаночага кшталту (агрэсіўныя накірункі фэмінізму), заснаваны на палавой нянавісьці. Але ў рэальнасьці дрэйф гэтай галіны, наканавана кіруецца ў апэндыкс, у левае вычварэнства, у злучэньне з дэвіянцтвам.

Уважлівы аналіз зьявы палавога сацыяльнага вычварэнства (улічваючы маральна-этычныя і праўныя перамены ў дэмакратычным сьвеце) прыводзіць нас да высновы аб вялікай і рэальнай небясьпецы для цывілізацыі, калі не задзейнічаць адпаведныя меры. Тэарытычна тут выводзіцца магчымасьць усталяваньня сістэмы біафашызму, якога яшчэ ня ведаў сьвет. Зачаткі яго пункцірам можна заўважыць ужо сёньня. (У гісторыі тэрор вычварэнцаў выразна праявіўся ўжо ў эпоху Французкай рэвалюцыі і ў час бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расеі.)

Пра гэта, практычна, ніхто ня піша, і я мяркую, можа нават ня думае пад уплывам памылковых уяўленьняў, навязаных лібэральнай прапагандай. Прапаганда грунтуецца на фальшывых сцьвярджэньнях, што гомасэксуалізм – гэта не збачэнства, не хвароба, не загана і не распуста, а прыродная зьява. Кожны год, маўляў, у грамадзтве нараджаецца пэўны адсотак людзей, схільных да гомасэксуальных сувязяў. А таму гэта, маўляў, нармальна.

**Апошнія дасьледваньні Інстытута Гэллапа, праведзеныя па ўсёй Амэрыцы (красавік 2015, 50 штатаў, больш 80 тысяч асоб) паказалі, што амаль 0,5% амэрыканцаў залічваюць сябе да людзей, якія знаходзяцца ў аднаполым**

**партнёрстве. Іншыя дасьледваньні гэтага Інстытута падвышаюць агульную цяперашнюю колькасьць дэвіянтаў ЗША да 3% насельніцтва. Дакладных лічбаў ніхто не называе, бо сюды падключана прапаганда гомасэксуалізма. Але зразумела адно – колькасьць іх у Амэрыцы павялічваецца і ня толькі на паперы.**

Тым часам калі ў чалавека інстынкт працягу роду збочаны на неадэкватныя паводзіны, то гэта ня толькі ня ёсьць нармальна, але і супярэчыць прыродзе. Вымоўна тое, што ў розных месцах і ў залежнасьці ад асяроддзя (цяпер гэта добра бачна) адсотак гомасэскуалістаў у амэрыканскім грамадзтве павялічваецца ў шмат разоў. Чым больш збачэнцаў навокал, тым больш вырастае іх агульная колькасьць. Збочаная распуста множыцца ад наяўнасьці распуснага асяроддзя, а не ад нараджэньня. Фактычна (і гэта пацьвярджаецца логікай, рэчаіснасьцю і падтрымліваецца гісторыяй) гомасэксуалістамі (асабліва пры гомафашысцкай уладзе, якая ў прынцыпе магчымая) можа стаць большасьць распуснага грамадзтва.

У спэцыяльных дасьледваньнях на прыкладах паказана і апісана, якім чынам можа ўзьнікнуць неадэкватная палавая арыентацыя ў падлеткаў у час гарманальнага пасьпяваньня ( і нараджэньне з дэфэктам тут ні пры чым). Прытым неадэкватнасьць можа праявіцца па-рознаму (нават да неадушаўлённых прадметаў). Вельмі важна тут правільнае выхаваньне дзяцей, здаровая абстаноўка, увага і кантроль бацькоў, прышчапленьне абавязкаў працы, пашырэньне жыцьцёвых інтарэсаў падлетккаў. Гомасэксуалізм і палавая неадэкватнасьць – гэта нэрвова-псіхічная хвароба (палавая функцыя – гэта, перш за ўсё, псіхіка, тут узьнікаюць прабоі і тут яе трэба лячыць). Так лічыць бальшыня псіхіятраў ва ўсім сьвеце.

У 1992 годзе у выніку беспрэцэдэнтнага палітычнага ціску лібэральнага лобі СААЗ прагаласавала за выключэньне педэрасьціі з сьпісу псіхіятрычных дыягназаў (што само па сабе абсурдна, такія пытаньні не вырашаюцца галасаваньнем дзеячоў і не зьяўляюцца законам для навукі). Праз пяць гадоў пасьля абсурднага рашэньня СААЗ Амэрыканская Псіхіятрычная Асацыяцыя са свайго боку зноў пацьвердзіла хваробу гомасэксуалізма як зьяву псіхічнага расстройства (70% псіхіятраў). Але гэта ўжо нічога не вырашае. Рашэньне СААЗ забараняе псіхіятрам і нэўрапатолагам лячыць педэрасьцію. Гомасэксуалізм вольна крочыць па планэце.

## Тактыка дэвіянтаў

Усё стала адбывацца вельмі хутка і на нашых вачах. Легалізацыя збочанай распусты ў заходніх дэмакратычных краінах паказала зьяву, у якую некаторым цяжка паверыць, але фактам ёсьць тое, што адбываецца вельмі ўпорыстае, пасьлядоўнае і салідарнае заваяваньне дэмакартычнага сьвету агрэсіўным вычварэнствам. Справа ідзе зусім не аб абароне правоў дэвіянтаў (ім насуперак прыроды дадзены ўжо ўсе правы), справа йдзе аб зьмяненьні балансу ў сьвеце на карысьць зла і аб ліквідацыі маральнай і жыцьцёвай прасторы хрысьціянскай цывілізацыі. Прытым адбываецца ўсё гэта ўсьвядомлена, з разуменьнем працэсаў і сутнасьці барацьбы. Гомасэксуалізм пераўвасобіўся ў ідэалёгію. Фармальная прыналежнасьць да жаночага полу сярод гэтай групы збачэнцаў ператвараецца таксама ў палавую ідэалёгію, якая змагаецца з супроцьлеглым полам за … ліквідацыю пола і паняцьця полаў, сям'і, бацькоўства і мацярынства. (Некаторыя краіны Эўразьвязу ўжо нават антысямейныя законы прынялі, забаранілі маму называць мамай, а тату татам.) У паняцьцевай сістэме збачэнцаў прысутнічае ***асэнсаваны сатанізм*** (гэта значыць нянавісьць да чалавечага і чалавецтва), на падставе неабмежаванай волі індывідыюма і поўнай свабоды ад абавязкаў і ад якога-небудзь парадку альбо табу.

У мяне складваецца ўражаньне, што ў цяперашнім сьвеце нават адукаваныя людзі, якія падвержаныя левай прапагандзе, не разумеюць, што адчыняецца перад імі і з чым маюць справу.

Маргінальная група дэвіянтаў на планеце невялікая, нават мізэрная, але пашыраецца ўвесь час і распаўсюджана па ўсім заходнім сьвеце. Створана ўражаньне

цераз сродкі масавай інфармацыі, праз палітычную і грамадзкую практыку, што быццам бы іх поўна, што яны ўсюды і што іхныя клопаты і праблемы ёсьць галоўным зьместам дэмакратыі, датычаць усяго грамадзтва і кожнага чалавека. Практычна, не адбываецца ніводнага палітычнага сходу, ніводнай прэсавай канфэрэнцыі (ці «он-лайну»), каб ня выскачыў які-небудзь журналіст-педэраст і ня выгукнуў пытаньне эпохі: «А як вы адносіцеся да гомасэксуалістаў?»

Маргінальны сьветапогляд дэвіянтаў і салідарная ідэалёгія гэтай групы маргіналаў фармуецца на тых жа псіхічных падставах і паталёгіі, што і пазыцыя агрэсіўных вегетарыянцаў, фашыстаў-камуністаў, паганцаў, чакальнікаў «канца сьвету» і г. д. Гэта значыць на падсьведамым пачуцьці прыніжанасьці, непаўнавартаснасьці, нянавісьці і помсты ўсяму сьвету.

Формула «хто быў нікім, той стане ўсім» (словы камуністычнага гімну) у камуністычным зьмесьце – гэта формула рэвалюцыі, насільля і гвалту, дарога «з гразі ў князі», калі дно мусіла б стаць верхам (усё ўжо пацьверджана гісторыяй).

Тым часам дакладна гэтая ж самая формула можа мець эвангельскі зьмест, калі падразумявае дарогу эвалюцыі, духоўнага ўдасканаленьня, жыцьця па запаведзях і ў выніку – дасягненьне справядлівасьці індывідуальнага духа (мэнтальнасьці).

Дарога зла традыцыйна выкарыстоўвае падмену паняцьцяў, часта ў ідэнтычных фармулёўках, і, што сымптаматычна, – гэтая падмена заўсёды напоўнена антыхрысьціянскім зьместам на базе рафінаванага рэлятывізму, але ў канцовым выніку – наўпроставым адмаўленьнем Бога.

З маргіналізму любой масьці, зь ерасяў і сэктаў, зь беднасьці і прыніжанасьці, з пыхлівай непрызнанасьці, з прэтэнзіяў слабасьці і распуснай волі ніколі ня вырасла, не самасьцьвердзілася і ня выйшла нічога добрага.

Дэмакратыя і свабода ствараюць найлепшыя ўмовы для рэалізацыі адрынутага, адкінутага і непрызнанага. Бо натуральны адбор непоўнавартасны ў сьвеце, дзе ўладараць грошы і поўная свабода інфармацыі. Адбор будзе зроблены тымі, хто завалодае гэтымі сродкамі.

Тактыка дэвіянтаў якраз і ўлічвае вызначальныя якасьці дэмакратычнага сьвету. Салідарная база ў соцыюме ў іх нешматлікая (ня масавая), але моцная (фактычна, абсалютная), бо заснавана на канкрэтным азначэньні кожнай дэвіянцкай асобы, якія знаходзяцца ва ўсіх сфэрах грамадзтва. Гэта каласальна павялічвае ўплыў малых групаў пры ўзгодненай палітыцы і не патрабуе спэцыяльных сацыяльных сувязяў і знаёмстваў паміж асобамі (салідарнасьць па вызначэньні, як у габрэйскім сьвеце).

Стратэгічная задача – павелічэньне колькасьці дэвіянтаў і павелічэньне ўплыву. З гэтай мэтай прапагандуецца ідэалёгія роўнасьці з нармальнымі людзьмі. У гэтым сэнсе заходняе грамадзтва, практычна, ужо акалпачанае і разважае ўсьлед за вычварэнцамі пра нібыта натуральны падзел людзей на гомасэксуальных і гетэрасэксуальных. (Адзначу, што гэтая фальшывасьць ёсьць фундамэнтальная разбуральная заваёва вычварэнцаў.)

Дэвіянты цалкам уключаныя ў палітычнае існаваньне і ідэалёгію лева-лібэральных сіл, забясьпечваюць ім пэўны адсотак галасоў на выбарах узамен за далейшыя льготы, магчымасьці і папулярызацыю гомасэксуалістаў. Фактычна, адбылося палітычнае зьліцьцё вычварэнцтва і партыяў левага накірунку. З гэтага часу гомасэксуалісты і лесбы праніклі ва ўладу, займаюць пасады міністраў, амбасадараў і нават прэм'ер-міністраў, уладкоўваюць публічныя так званыя гомасэксуальныя «шлюбы» на вышэйшым урадавым узроўні, пад звон бакалаў і воплескі акалпачанай публікі. (Гэта ўжо не Оруэл зь яго раманам, а нешта за межамі Оруэла.)

Вычварэнцтва на нашых вачах робіцца арганізаванай палітычнай сілай, прысутнасьць яе ва ўладзе заходніх краін павялічваецца з кожным годам. (Нагадаю, што камунізм і фашызм таксама нарадзілася ў Заходняй Эўропе як прадукты крызісу і паразы дэмакратыі.)

Тактыка вычварэнства ва ўсім сьвеце прасочваецца зараз наглядна і рацыянальна. Назаву яе па этапах і пунктах.

**1**. Пранікненьне ў друк і сродкі масавай інфармацыі.

**2**. Пранікненьне ў мастацтва, перш за ўсё, у кіно, тэатр, на тэлебачаньне. Стварэньне сцэнароў і сюжэтаў з удзелам гомасэксуалістаў.

**3**. Стварэньне правакацыяў і скандалаў з мэтай прыцягненьня ўвагі. Нарыклад, напісаньне сюжэту, сцэнара ці п'есы і пастаноўка яе ў тэатры з гомасэксуальнай абразай Хрыста, апосталаў, сьвятых і вядомых гістарычных асобаў.

**4**. Напісаньне псэўдадасьледваньняў і псэўдаінфармацыі пра вядомых гістарычных асобаў, якіх фальшыва аб'яўляюць гомасэксуалістамі, спадзеючыся такім чынам атрымаць падтрымку гісторыі.

**5**. Стварэньне формы знакавых паводзінаў, якія маніфэстуюць прысутнасьць дэвіантаў. Напрыклад, фатаграфіі, рэкляма, плакаты асобаў, якія паказваюць язык. Гэта знак, метка дэвіанта (сымволіка знака -- зьдзек з Боскага парадку, зь нядобрых «гетэрасэксуалаў», асацыяцыя з адпаведным сэксуальным збачэнствам.) З гэтай жа мэтай выцягваюць выпадковыя (на самай справе камічныя) фатаграфіі вядомых асоб, напрыклад, фота Айнштайна, які паказвае язык. Хоць Айнштайн і ня быў збачэнцам.

**6**. Пранікненьне ў любыя грамадзкія арганізацыі і імкнеьне ачоліць іх.

**7**. Пранікненьне ў міжнародныя арганізацыі тыпу ЮНІСЕФ, СААЗ, «Міжнародная амністыя» і іншыя (асабліва датычныя да спраў моладзі і дзяцей).

**8**. Пранікненьне ў палітычныя арганізацыі і ў органы ўлады.

**9**. Пранікненьне ў вытворчыя цэнтры масавай культуры, інфармацыі і мастацтва. (Так быў захоплены, практычна, цалкам амэрыканскі Галівуд, кадравую, фінансавую і творчую палітыку якога вызначае гомасэксуальнае лобі.)

**10**. Пранікненьне ў бізнэс, ператварэньне гомасэксуальных знакаў, дачыненьняў, адносін і праблем у прадмет бізнэсу і распаўсюджаньне ў якасьці тавараў.

**11**. Пастаянная маніфэстацыя ўвагі да сэксу і сэксуальных дачыненьняў людзей, асабліва ў збочаных выяўленьнях (гэта выклікае маніякальную псіхічную залежнасьць людзей ад сэксу). Падтрымка ўсіх формаў збочанасьці і вычварэнцтва. Падтрымка легалізацыі наркотыкаў.

**12**. Стварэньне масавых сусьветных маніфэстацыяў збачэнцаў і дэвіянцкіх асоб у форме карнавалаў і бізнэс-праектаў. Першы карнавал вычварэнцтва як бізнэс-мерапрыемства адбыўся гадоў 15 таму ў Бэрліне і аказаўся выгаднай бізнэс-справай. Міжнародныя масавыя карнавалы пакліканыя акрамя ўсяго ствараць ілюзію, што дэвіантаў вельмі шмат і што яны ўжо – міжнародная сіла.

**13**. Канцэнтрацыя дэвіантаў у асобных мясцовасьцях і гарадах з мэтай стварэньня асяроддзя дзеля хутчэйшага павелічэньня колькасьці сэксуальна збочаных людзей. Такая мэтанакіраваная канцэнтрацыя, напрыклад, назіраецца ў ЗША ў штаце Каліфорнія, у гарадах Лос Анжэлес, Сан-Францыска, у Фэдэральнай акрузе Калюмбія (Вашынгтон).

**14**. Пранікненьне ў мэдыцынскую навуку і міжнародныя арганізацыі аховы здароўя (напрыклад, СААЗ). Стварэньне ўплыву на медыцынскую навуку і на асобаў з арганізацыяў аховы здароўя.

**15**. Арганізацыя пастаяннай прысутнасьці ў СМІ. Тэма гомасэксуалізму мусіць гучэць увесь час.

**16**. Стварэньне сеткі маргінальных арганізацыяў дэвіантаў пад living рознымі назвамі і тэматыкай.

**17**. Ажыцьцяўленьне правіла *няўхільнага рэагаваньня* (таксама перанятае з практыкі габрэяў). Правіла заключаецца ў абавязковасьці інфармацыйнай абвінаваўчай рэакцыі на кожны, нават самы дробны, пусьцяковы і нікчэмны факт, які можна расцаніць як непавагу да збачэнцаў. Гэты факт павінен быць раздзьмуты, выклікаць масавае абурэньне і патрабаваньне пакараньня для вінавайцаў (часьцей за ўсё ўяўных).

Напрыклад. У час абстрэлу пазыцыяў Талібана ў Аўганістане амэрыканскія артылерысты напісалі дзеля жарту на ракеце адпаведнае пажаданьне ворагу з называньнем фаласа і пальнулі па Кабулу.

Нейкім чынам гэты жарцік стаў вядомы вычварэнцам у ЗША. Лесбы з адной арганізацыі напісалі скаргу амэрыканскаму камандаваньню, што гэта, маўляў, «гамафобія» і непавага да «геяў» і запатрабавалі прабачэньняў перад педэрастамі. Падняўся вэрхал у жоўтым друку, пачалі выказвацца «палітыкі». У выніку такога «гевалту» на пустым месцы камандваньне «вэрбальна» пакарала салдат, і яны папрасілі прабачэньня ў лесбаў і педэрастаў.

Правіла няўхільнага рэагаваньня – гэта ёсьць *мэтад дрэсіроўкі натоўпу*, які дзейнічае эфэктыўна там, дзе ёсьць дурныя законы і сістэма, здольная іх выконваць. Такіх оруэлаўскіх фактаў цяпер шмат. Дрэсіроўка абывацеля з боку збачэнцаў ідзе поўным ходам.

На фота №3 мы бачым такую выдрэсіраваную пару добрапрыстойных ірляндзкіх каталікаў (і можа нават гэта той пекар з жонкай, якога ўжо навучылі выпякаць торт педэрастам). Яны адчулі ход гісторыі, зразумелі, як трэба сябе паводзіць і экзальтавана радуюцца перамозе гомасэксуалістаў, распусту якіх будуць аплочваць сваімі падаткамі (Айман дэ Валера, відаць, перавярнуўся ў труне).

Такім чынам, аналізуючы становішча ў Эўропе і ЗША, мы бачым, што адсоткава мізэрная (пакуль што) супольнасьць дэвіянтаў, выкарыстоўваючы магчымасьці дэмакратыі, дамаглася непрапарцыянальна каласальных посьпехаў, пераваг і нават перамог у традыцыйна каталіцкіх краінах, зьяўляючыся тым часам закаранелымі ворагамі Хрысьціянства.

Рацыянальная тактыка гэтай салідарна павязанай збочанай групы людзей накіраваная на дамінацыю ў грамадзтве і ўражвае сваімі вынікамі. Прычына гэтага, на мой погляд (тут паўтаруся), закладзена у базавай аснове групы, ва ўлучэньні яе ў левыя партыі і ў прысутнасьці на розных ўзроўнях дэмакратычнага грамадзтва (у тым ліку на ўзроўні інфармацыі і ўлады).

Тыя зьмяненьні сацыяльных структур, ідэалогіі, шкалы каштоўнасьцяў, якія адбыліся за апошнія дваццаць гадоў на маіх вачах у Эўропе і ў Амэрыцы, – ўражваюць. Некаторыя ўспрымаюць гэта як пачатак Апакаліпсы.

Некалькі гадоў таму прэзыдэнт Абама (які падтрымлівае збачэнцаў і спрыяе гомасэксуалістам) адмяніў забарону гомасэксуалістам на службу ў войску (практычна, пачалася прапаганда педэрасьціі ў амэрыканскай арміі). Ў войску адбыліся рэзкія перамены і зьявіліся праблемы, якія ніхто зь генэралаў ня ведае як вырашыць, калі не адмяніць гомасэксуальны закон.

* * *

Тут я вымушаны закрануць вельмі важную тэму, якую я апісаў яшчэ год таму, але адмовіўся публікаваць, зыходзячы з пэўных тактычных меркаваньняў. Цяпер пра гэта нам, беларусам, і жыхарам Усходняй Эўропы трэба ўжо казаць, бо канца вайны Масквы з Украінай ня бачна. Да таго ж, ведаючы Эўропу, можна дапусьціць, што Эўразьвяз ціха здасьць Украіну і ціха падтрымае Маскву. Як кажуць «мы гэта ўжо праходзілі».

Другую Сусьветную вайну разьвязалі левыя сілы, якія (кожная па-свойму) карысталіся ідэалёгіяй сацыялізму. Ні адна ні другая левая сіла не адлюстроўвала сфэру дабра. Вайна пачалася паміж антычалавечымі групамі зла за валоданьне сьветам (плянэтай). Людзі добрай волі і іншыя краіны былі вымушана ўцягнуты ў сусьветную бойню.

Сытуацыя, якая выявілася ў 2014 годзе пасьля агрэсіі Расеі на Ўкраіну, паўтарае схему падзелаў, аналагічна як было тое перад Другой Сусьветнай вайной. З аднаго боку імпэрская гэбісцкая Расея з замбаваным насельніцтвам і фашысцкай ідэалогіяй «русский мир», з другога – дэмакратычны Захад (Эўразьвяз і ЗША), апанаваны левалібэральнай палітычнай і ідэалагічнай (у пэрспэктыве біафашысцкай) ерасьсю.

Ні адна пазыцыя рэальна не адлюстроўвае сілы дабра. Фашысцкая пазыцыя «русского мира» – гэта тыповая агрэсіўная схема міжнародных дачыненьняў тыпу

мінулавечнага нямецкага «нацызму» з звужанай грамадзка-сацыяльнай базай (рэальна не планетарнага маштабу, але якую рускія імпэрыялісты імкнуцца штучна пашырыць).

Левалібэральны Захад – гэта схема міжнароднага эканамічна-палітычнага суіснаваньня з агрэсіўнай пазыцыяй экспансіі леваліберальнай ідэалогіі антычалавечых антыкаштоўнасьцяў, якая абапіраецца на дэвіанцкую базу ўсяго сьвету і спрыяе яе легалізацыі.

Прывяду толькі адзін факт з тысячаў. У 2013 годзе Дзяржсакратар Джон Керы выступіў перад супрацоўнікамі Дзярждэпартамэнту ЗША і сказаў пра асаблівую ролю Дзярждэпа ў падтрымцы гомасэксуалізма ва ўсім сьвеце, назваў гэты накірунак «самым сэрцам» палітыкі ЗША і галоўным пунктам высілкаў Адміністрацыі Абамы ў міжнароднай палітыцы». Керы спаслаўся пры гэтым на Абаму, якога працытываў. Абама: "барацьба за спыненьне дыскрымінацыі ў дачыненьні да лесбіянак, геяў, бісэксуалаў і транссэксуалаў зьяўляецца глабальнай праблемай і той, якая займае цэнтральнае месца ў прыхільнасці Злучаных Штатаў ў справе падтрымкі правоў чалавека." http://www.state.gov/secretary/remarks/2013/06/210411.htm

Адкрыта і зразумела. У ідэалогіі «Правы чалавека» цэнтральным месцам ёсьць інтарэсы лесбаў і педэрастаў. У палітыцы прэзыдэнта Абамы – гэта «сэрца палітыкі».

Канфлікт Расеі з Захадам, які пачаўся нападам на Ўкраіну, абумоўлены імпэрскімі інтарэсамі Расеі. Але ***на узроўні масавых мэнтальных дачыненьняў людзей,*** як ў Расеі, так і на Захадзе, галоўным разыходжаньнем і галоўным выбарам у канфлікце ёсьць якраз маральная і цывілізацыйная праблема – праблема штучнага стварэньня дамінацыі лесбаў і педэрастаў над грамадзтвам, палітычным экспартам збачэнства па ўсім сьвеце і ўсяго, што з гэтага вынікае. Гэтая праблема ня ёсьць толькі тэмай прапаганды. Тут чалавечы выбар сьвету, у якім людзі хацелі б жыць, выбар, які робіцца незалежна ад прапаганды (хоць прапаганда і існуе).

У гэтым жа накірунку (накірунку выбару сьвета) ўплывае на расейскія масы і руская гёбельс-прапаганда. Галоўнае абзываньне ўкраінскіх ваяроў і лаянка з боку расейцаў ў Данбасе – гэта «піндосы» і «педэрасты». Маўляў рускія ваююць за «руский мир» супраць «хахлоў-піндосаў». Ў «рускім сьвеце» – такія ацэнкі Захаду, НАТО і ўкраінцаў ёсьць массавым паняцьцем.

Падтрымка Пуціну і расейскай агрэсіі на Захадзе даволі заўважная і вынікае зь некалькіх прычынаў: дзеяньняў рускай агентуры, ўплыву рускай гёбельс-прапаганды, подкупу заходніх палітыкаў рускімі грашыма. Акрамя таго ў палітыцы некаторых правых партыяў Захаду падтрымка Пуціну выводзіцца з масавай сьвядомасьці заходніх людзей (тое, пра што мы тут гаворым) – з непрыняцьця палітычна-біялагічнага збачэнскага маразму левалібэралаў зь іх «правамі гомасэксуалістаў», разбурэньнем сям'і і разбэшчваньнем дзяцей. Такіх людзей на Захадзе ёсьць яшчэ больш паловы, і амаль палова з гэтай паловы схільная пдтрымліваць Пуціна і Расею ў яе агрэсіі супраць Украіны і лібэральнага Захаду. Мы маем на ўвазе не «ліпэнаўцаў» (іх Масква купіла за 9 мільёнаў даляраў), а звычайных заходніх абывацеляў, якія захавалі чалавечае аблічча і маральную годнасьць хрысьціянскіх людзей (пры поўным палітычным інфантылізме, што да ацэнкі Расеі). Дастаткова паглядзець камэнтары некаторых заходніх (амэрыканскіх) «сайтаў» і там (нават адкінуўшы палову тэкстаў на троляў) мы знойдзем мноства выказваньняў такога кшталту:

«Каб адбіць гей-прапаганду, што паглынае ўвесь сьвет, патрэбна моцная і зьяднаная нацыя! Падтрымліваю і зычу Пуціну ўсяго найлепшага. Калі б я толькі мог чым-небудзь дапамагчы...»

«Жадаю, каб нашыя лідары і наша краіна прынялі тыя ж законы, што і Расея, каб абараніць нашых дзяцей ад хваробы гомасэксуалізма, што распаўсюдзілася па ўсім сьвеце!»

«Дзьве рэчы адыгралі значную ролю ў зьнішчэньні нашай некалі вялікай нацыі… Прапаганда фэмінізма і гомасэксуалізма.»

«Расея мае рацыю: гомасэксуалісты хочуць толькі распускаць свае брудныя рукі на юных і нявінных дзяцей. Яны хочуць зрабіць гомасэксуалістамі ўсё насельніцтва Зямлі, і адзіны спосаб таго дасягнуць – разбэсьціць нявінныя розумы дзяцей. ЗША ужо здаліся, дазволіўшы геям вучыць гомасэксуальным паводзінам у сярэдніх школах, і бойскаўты Амэрыкі сталі рассаднікамі гомасэксуалістаў. Расея мае рацыю, што адносіцца да гомасэксуалізма як да хваробы.»

«Мяркую, што гомасэксуалісты (у ЗША пад кіраўніцтвам Абамы) самы сабе шкодзяць тым, што робяцца занадта агрэсіўнымі. Яны змагаюцца не за свае правы, а за тое, каб заваяваць увесь сьвет і ўсіх зрабіць гомасэксуалістамі. Тады чалавецтва вымра.»

«У Злучаных Штатах бацькі ўжо даўно адмовіліся абараняць сваіх дзяцей. Адбываецца ўсёмагчымае прыніжэньне дзяцей. Людзі ў ЗША вар'яты, яны скора дазволяць займацца сэксам са сваімі сабакамі.»

Тут сэнс ня толькі ў думках, якія выказваюць амэрыканцы, а ў тым, што такіх камэнтароў поўна. Гэта я прыводжу іх для ілюстрацыі становішча (якое ня простае). З другога боку – тут тупіковая рэчаіснасьць. Калі адно палітычнае зло змагаецца з другім палітычным злом, то ў народа няма выбару і людзі бывае выбіраюць, тое, што ім бязвыхадна часткова падыходзіць (альбо больш бясьпечнае), часам не задумваючыся, што з таго можа стацца ў канцы. Так выбіралі некалі нязгодныя людзі ў часы 2-й Сусьветнай вайны паміж Сталінам і Гітлерам. Потым яны амаль усе былі зьнішчаныя пераможцамі (і ня важна, зь якога боку зла).

Але былі  і такія, што змагаліся супраць адных і другіх. Такой была пазыцыя у часы 2-й Сусьветнай вайны ў палякаў, украінцаў і ў беларусаў (класіка гэтакіх паводзінаў – дзейнасьць нацыянальнага героя Ўкраіны Стэпана Бэндэры). Такая пазыцыя мусіць быць у нас, беларусаў, і цяпер. Няма ў нас спадзяваньняў на сапраўды ўжо гнілы  Захад, ня можам мы ўспрымаць ягоныя разбуральныя лявацкія антыкаштоўнасьці, і няма ў нас супольных справаў  на агрэсіўным, імпэрскім і разбуральным рускім Ўсходзе. Наша надзея, наша будучыня і наш рай – тут, на роднай зямлі, ў вольнай Беларусі.

* * *

Калі разважаць пра цяперашні Эўразьвяз і ўвесь заходні сьвет мэтадам оруэлаўскай логікі (якая тут якраз падыходзіць), то карціна абсурдная. Для мяне відавочна, што калі ў тым грамадзтве ацэнка дэвіантаў ня зьменіцца, то цалкам магчымая ня толькі дамінацыя, але і ўлада, і дзяржава, і грамадзтва збачэнцаў. Садом і Гамора верагодныя. Такім мог бы стаць апошні этап чарговага краху эўрапейскай цывілізацыі.

Выхады з сістэмнага крызісу і нават з цывілізацыйнага краху чалавечая гісторыя даўно знайшла і адпрацавала. Тут два галоўныя падыходы: альбо унутраныя перамены ў сістэме і адраджэньне пэрспэктывы (нармальнасьці), альбо дыктатура, якая жорсткай палітыкай рэпрэсіяў і фізічнага вынішчэньня вяртае грамадзтва на зыходныя пазыцыі і потым (як правіла) сама можа стаць ахвярай гэтага адроджанага грамадзтва з усімі ацэнкамі сваіх «антылюдзкіх» злачынстваў і морду «супраць чалавецтва» і з адпаведным пакараньнем злачынца-дыктатара (які на справе гістарычна ўратаваў сістэму). Ў гісторыі – клясычны прыклад – гэта перамены ў Рымскай імпэрыі. У сучасным сьвеце найбольш вымоўны прыклад – дыктатура Піначэта ў Чылі.

Завяршаючы гэтую эсхаталагічную ўстаўку, мушу сказаць, што, як на мой погляд, ні першага ні другога выйсьця з левалібэральнай сістэмы дэмакратыі на

сёньняшні дзень не праглядаецца. Адбыліся ўжо занадта істотныя разбурэньні базавых асноў культуры ў сьведамасьці пакаленьняў, што прывяло да нэгатыўнага адбору у папуляцыі цэлых нацыяў і найперш адбілася на эліце. Ў Эўропе ужо даўно не існуе вялікіх мудрых палітыкаў, вялікіх філосафаў, пісьменьнікаў, мудрацоў, уладароў дум чалавечых, нават мастакоў. Наверх ўсплыла драбяза, бюракратыя, прадажнасьць, збочанасьць, дылетанства, геданізм і пустата.

Тым ня менш Захад яшчэ валодае вялікім творчым і духоўным патэнцыялам і пра «канец гісторыі» (як мяркуюць некаторыя) гаварыць рана. Сёньня (ды і заўсёды) яшчэ трэба змагацца за добрае, сьветлае, чыстае.

Кончанае грамадзтва (якое не паддаецца ні разьвіцьцю ні рэабілітацыі) – гэта імпэрская Расея. Нэгатыўны генетычны адбор там адбываўся на працягу усёй гісторыі і ў 1917 годзе прывёў да захопу ўлады і поўнай перамогі чэрні, крыміналу, бандытаў і дурняў, якія фізічна вычысьцілі (забілі) усё, што заставалася яшчэ сумленным і адукаваным у расейскім грамадзтве. Далейшае разьвіцьцё насельніцтва расейскага «скопішча зла» магчыма хіба што праз дэзінтэграцыю імпэрыі (да чаго ў Расеі ніхто не гатовы). Цяпер гэтая цёмная хворая імпэрыя, апраўдваючы агрэсію, хоча выставіць сябе выратавальніцай чалавецтва.

Абсурд ідэалогіі «правоў чалавека» і падзей на Захадзе асабліва вымоўны з таго гледзішча, што пытаньне з дэвіантамі ў цэлым магло быць вырашана ў грамадзтве значна лягчэй, чым, скажам, з алкаголікамі (хаця хвароба алкагалізму лічыцца невылечнай) ці з іншымі хваробамі «сораму» (сіфіліс і т.п.). Выключэньне педэрасьціі з сфэры медыцынскіх дыягназаў лабіяванымі чыноўнікамі СААЗ прывяло да таго, што медыцынскія дасьледваньні ў гэтай галіне амаль не праводзяцца, а лячэньне забараняецца (супярэчыць закону). Чаму так сталася, мы ўжо ведаем. У лёсы гэтых людзей умяшалася палітыка. Левалібэральная чэрнь выкарыстала дэвіантаў у палітычных інтарэсах, выпусьціўшы джына з бутэлькі як прыладу ў змаганьні з Хрысьціянствам і традыцыйным парадкам, напрацаваным чалавецтвам.

Разглядаючы гэтую тэму, трэба разумець, што з палавымі вычварэнцамі, гэтак жа сама, як з бандытамі, тэрарыстамі ці замбаванымі сэктантамі, немагчымыя ніякія рацыянальныя дыскусіі і абмеркаваньні. Гэта бессэнсоўны варыянт паводзінаў. Тут патрэбныя толькі канкрэтныя дзеяньні і прыняцьце адпаведных захадаў.

Для змаганьня з міжнароднай пошасьцю мусіць быць міжнародны рух, аб'яднаньне хрысьціянскіх высілкаў. Такі рух мусіў бы ўзьнікнуць даўно, але цяпер, пасьля катастрофы ў Ірляндыі, гэта стала ўжо неабходнасьцю.

Наступнай ахвярай намечана Польшча. На працягу шэрагу гадоў я назіраю як паступова крок за крокам праштурхоўваюцца брудныя пляны супраць гэтай каталіцкай краіны. За апошнія некалькі гадоў (асабліва пасьля гібелі прэзыдэнта Леха Качынскага і польскай нацыянальнай палітычнай эліты ў 2010 годзе) польскае грамадзтва пачало паддавацца наступу дэвіантаў і збочанай палітыкі Эўразьвязу. Нават моладзь апусьціла рукі. Ў 2012 годзе група палякаў вышла ў Вроцлаве на дэманстрацыю з плякатамі кшталту: «Педэраст – гэта гучыць ганарова», «Я ганаруся, што ёсьць мамай гея», «Я ганаруся, што ёсьць мамай лесбы». Такая вось польская рэальнасьць (фота 4).

Першае патрабаваньне – павінна быць спынена прапаганда, рэкляма і папулярызацыя гомасэксуалізму, дэвіянцтва, і дэвіянцкіх дачыненьняў у Эўропе і Амэрыцы.

Другое – мусіць быць адменена рашэньне СААЗ 1992 года і распачаты сур'ёзныя медыцынскія дасьледваньні і лячэньне гомасэксуальных адхіленьняў псіхікі і арганізма чалавека.

Гэтыя пытаньні трэба будзе ставіць таксама перад заходнімі прадстаўнікамі Эўразьвязу, якія часам прыяжджаюць ў Беларусь, каб спаткацца з адміністрацыяй узурпатара ўлады і з апазыцыяй, якую яны ўтрымліваюць. Грубае парушэньне правоў

хрысьціянаў у Эўразвязе (як з тым ірляндзкім пекарам) і навязваньне там для бальшыні нармальных людзей збочаных уяўленьняў дэвіантаў і сэксуальна хворых асоб ня можа ня выклікаць непакою тут у нас, у яшчэ адносна здаровай частцы Эўропы (якую нішчыць прарасейскі антыбеларускі рэжым). Практычна, мы ня маем яшчэ ніякай сілы і спосабу, каб уздзейнічаць у гэтым на палітыку і ўлады моцных краінаў Эўропы, але мы маем там аднадумцаў у грамадзтве, і іх трэба падтрымаць.

Мусіць быць спынены экспарт збачэнстваў і вычварэнскіх дачыненьняў з боку Эўразьвязу ў іншыя краіны і тым больш фінансаваньне гомасэксуалізму за мяжой.

Іншыя краіны мусілі б прыняць прэвентыўныя законы, запабягаючыя распаўсюджаньню дэвіанцкай распусты і заганных адносін.

У пэрспэктыве мусіць быць перагледжана ўсё заканадаўства ў краінах Эўразьвязу адносна гомасэксуальных адносінаў на падставе агульначалавечай нормы, якая сьведчыць, што легалізацыя палавога збачэнства гомасэксуалізма ня мае ніякіх адносінаў да дэмакратыі і правоў чалавека.

Людзям добрай волі ў Эўропе трэба брацца за працу. Змаганьне здаровых людзей і здаровых сіл дасьць здаровыя вынікі.

*26. 06. 2015 г.* Зянон Пазьняк

# «РУСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ» НА СЛУЖБЕ РАСЕЙСКАЙ ІМПЭРЫІ

Што такое руская імпэрская «дэмакратыя» – усім добра вядома. Асабліва тым, хто пажыў пры «савецкай дэмакратыі», якой тады было «таржаство» (савецкая тэрміналёгія). Тым ня менш, слоўца «дэмакратыя» час ад часу пачынае круціцца на вуснах расейцаў, нездаволеных уладай альбо царом. Калі ж часам па віне нездаволеных адбываецца нібыта дэмакратычная перамена ў гэтай уладзе, тады настае вэрхал, дэмагогія, ляцяць галовы, ліецца кроў, крадуць, страляюць, і ўрэшце ўсё вяртаецца да новай тыраніі, маразму і новага цара.

Гісторыя так званай «рускай дэмакратыі» пачалася з 1825 года, калі група вайсковых афіцэраў-масонаў хацелі ўстанавіць «дэмакратыю» у Расеі шляхам вайсковага перавароту. На шчасьце для расейцаў, з гэтага нічога ня выйшла, і імпэрскае балота пратрывала бяз зьменаў яшчэ амаль сто гадоў.

У 1917-м нездаволеныя царом зноў захацелі ўстанавіць «рускую дэмакратыю». На гэты раз удалося. Перабілі некалькі мільёнаў людзей, некалькі мільёнаў вымарылі голадам, забілі цара і ўсю яго сям'ю, і ўсё, што можна, раскралі пад верхавенствам новага цара-плебея Леніна.

Пасьля Леніна атрымалі за цара крымінальніка Іосіфа Сталіна. Гэты перабіў ужо некалькі дзясяткаў мільёнаў людзей, і дзясяткі мільёнаў замарыў голадам.

Пасьля Сталіна зьмянілася яшчэ некалькі цароў і царкоў, якія ціснулі, душылі, шмат гаварылі, вялі войны. У выніку расейцы зноў захацелі «рускай дэмакратыі» (гэта значыць «дэмакратыі» з захаваньнем імпэрыі). У Маскве зноў зьявілася шмат дэмакратычных гаваруноў, якія адмовіліся ад недэмакратычнай улады камуністычных цароў і падтрымалі новага цара Ельцына. Пры ім «дэмакраты» разбагацелі, атрымалі ўладу і капіталы і пачалі вольна красьці.

Гэта не спадабалася «блюсьціцелям дэмакратыі» ў Расеі – КГБ і кагэбістам (бо ім не даставалася ні ўлады, ні дзяльбы маёмасьці). Яны ськінулі цара Ельцына і паставілі на царства маёра Пуціна. Пры ім «руская дэмакратыя» дасягнула дасканаласьці. Расквітнелі ўсе тры чыньнікі новай «рускай дэмакратыі»: імпэрыялізм, кагэбізм і праваслаўе. Усё стала, як заўсёды: цар аўтарытарны, патрыярх у партупеі (пад сутанай), Расея ваюе, кілеры страляюць , багацеюць алігахі, крадуць «дэмакраты» і ахоўнікі дэмакратыі, п'юць расейцы, ненавідзяць «врагов» і мараць «всех проучить».

І ўлада не падвяла народных спадзяваньняў. Цар Пуцін адным махам, без адзінага стрэлу захапіў і «адцяпаў» ад Украіны Крым. Расея звар'яцела ад шчасьця, а веліч Пуціна дасягнула нябёс. «Пуцін – Хрыстос!» – віватуе праваслаўная імпэрыя. «Пуцін – прэзыдэнт сьвету!» – крычыць ашчасьліўлены народ і патрабуе аб'явіць вайну гэтаму варожаму для яго сьвету.

І ўся так званая «руская дэмакратыя», гэтыя Навальны, Хадаркоўскі, Латыніна, «цяпкіна-ляпкіна» (ня кажам ужо пра Кабзона і пра сотні дзеячоў, навукі, мастацтва і культуры) ківаюць галовамі і паўтараюць «Крым рускі, Крым рускі» і што Украіне яго ня вернуць і г. д.

Толькі неўзабаве нешта стала ў цара Пуціна ня так рабіцца ў вайне супраць сьвету. І на Украіне завяз, і ворагі ад «зайздрасьці» загубіць Расею намераныя, і есьці народу хочацца (закусваць). І тут ізноў задумаліся «блюсьціцелі» (расейская тэрміналогія) і трымальнікі «рускай дэмакратыі»…

* * *

На гэтым стары фэльетон пра «рускую дэмакратыю» канчаецца. Пачынаецца новы і чарговы. Але пра гэта – сур'ёзна.

Зараз шмат каму робіцца зразумела, што пуцінская палітыка завязла і няўхільна заходзіць у тупік. Ідуць адчайныя спробы Крамля ўгаварыць Захад прызнаць анэксію Крыма і пагадзіцца на аўтаномнае статус-кво частак Луганскай і Данецкай вобласьцяў

Украіны, занятых рускімі наёмнікамі і рускім войскам. У замен Пуцін абяцае не ўжываць вайсковай сілы супраць Украіны. Маўляў, усё, мы на гэтым спыняемся (абяцаюць Захаду). Памірымся, і будзем надалей супрацоўнічаць ды гандляваць. Эўропа і ня супраць пагадзіцца на такую зьдзелку. Але яна разумее, што на тое ніколі не пагодзіцца ўкраінскі народ, і таму наўрад ці дасьць Пуціну сябе ашукаць.

Сытуацыя, як у шахматах. І можна было б яе наперад разьлічыць, калі б было вядома, што зробіць цар. А паколькі таго ніхто ня ведае, акрамя самога цара (які, відаць, таксама толкам таго ня ведае), то пэрспэктыва выхаду з тупіка ў гэтай гэбоўскай аўтарытарнай сістэме ёсьць толькі адна – дзяржаўны пераварот і адкіданьне Пуціна з дарогі. Калі гэтага не адбудзецца і калі  Захад пры гэтым пачне ужываць больш жорсткія меры санкцыі супраць Расеі (у рэальнасьці малаверагодна), то працэс мог бы ськіравацца да ўпадку і чарговага поўраспаду імпэрыі. І вось тут яе зноў будзе ратаваць «руская дэмакратыя».

Агентурная «дэмакратыя» (альбо «кіруемая дэмакратыя») ствараецца гэбісцкім рэжымам рэальна дзеля аховы сваёй улады (так у Беларусі і гэтак у Расеі). Рэжым можа трымаць гэтакіх сваіх «апанэнтаў» нават у турме. Але калі ўзьнікне сытуацыя па зьмене ўлады, то ім дадуць магчымасьць выканаць належную дэмакратычна-рэвалюцыйную функцыю, стаць нават «сьцягамі пераменаў». На момант яны атрымаюць нават месцы ва ўладзе, крыху разбагацеюць, а затым усё вернецца на кругі свае. Гэта значыць: ізноў будзе дэмагогія, хлусьня, карупцыя, крадзёж, карпарацыя, аўтарытарызм, імпэрыялізм, чарговы цар і вайна.

Такая ёсьць гісторыя Расеі, якая асабліва вымоўная за апошнія 200 гадоў яе палітыкі. Існуе адна фармальная і галоўная прычына такой зьявы: гэта дзяржава і грамадзтва-імпэрыя  плюс азіяцкая імпэрская сьвядомасьць імпэрыі. Пакуль руская імпэрыя ня будзе разбурана і Расея не дэзінтэгравана, датуль яна будзе няшчасьцем для народаў, якія яе насяляюць, і праблемай для чалавецтва.

* * *

Тым часам мы назіраем, як крывавая гісторыя рускай імпэрыі цыклічна круціцца перад нашымі вачыма. Зьявіліся прыкметы чарговай «дэмакратычнай рэвалюцыі» ў Расеі, якую, відаць, пачалі ўжо рыхтаваць. 27-га лютага гэтага года забілі рускага палітыка Б. Нямцова. Зроблена так, каб усім было зразумела, што ўсе ніткі і ўсе падазрэньні ў арганізацыі забойства вядуць у Крэмль. А ў працэсе сьледзтва пачаліся падкопы пад галоўную збройную (і асабістую) апору Пуціна – кадыраўскую Чачэнію.

Невядомая, аднак, матывацыя забойства. Навошта было Пуціну дэманстратыўна забіваць Нямцова? Можа, каб па-паханску паказаць, хто ў зоне гаспадар і напалохаць іншых? Магчыма. Бо ўсё тут адпавядае натуры Пуціна. Але ў выніку для Пуціна адны мінусы. Да таго ж рэальна Нямцоў – ня тая асоба, якой Пуціну трэба было баяцца. Нямцоў фігура, вядомая ў палітыцы, але роля яго там была даволі ардынарнай. Лубянка раскруціла  (для народа) такога бізнэсоўца-камбінатара («цёмнага коніка») Навальнага, але не Нямцова. Ягоны даклад пра ваенныя дзеяньні расейскіх войскаў у Данбасе і Крыме (чаго нібыта збаяўся Пуцін) у сапраўднасьці нічога новага не адчыняе. Усё, што там напісана, было ўжо вядома, і цяпер ужо вядома значна больш. Навошта было Пуціну забіваць Нямцова? Якая палітычная матывацыя такога злачыннага кроку?

Тым часам адразу пасьля забойства палітыка на паверхні зьяўляецца, практычна, маргінальная цяпер партыя пад назвай «РПР – Парнас» (там якраз і сядзеў Нямцоў) і пачынае рух па выкрыцьцю праўды пра забойства і прапаганду дакладу Нямцова па ўсёй Расеі і па ўсім сьвеце. Выявіліся актывісты партыі, якія ў цэлым робяць добрую і патрэбную справу. Асабліва цытуюць у сродках масавай інфармацыі словы актывіста гэтага руху Ільлі Яшына, які прапанаваў вырашэньне праблемы анэксаванага Крыма. Маўляў, трэба, каб паўвостравам адначасна валодалі і Расея, і Украіна, каб суверэнітэт Расеі і Украіны аднолькава распаўсюджваўся на Крым. З гэтай імпэрскай (і даволі тупой) ідэяй дэмакрат Ільля Яшын выступаў нават у Кіеве. І яго,

здаецца, за гэта адтуль ня вытурылі, бо ён жа прээнтаваў там даклад Нямцова, карысны для Украіны.

Пасьля Кіева «дэмакраты» з партыі «РПР – Парнас» апынуліся ўжо ў Нью-Ёрку, каб выступіць перад украінскай эміграцыяй. Гэтая акалічнасьць здалася мне вартай таго, каб на іх паглядзець і паслухаць. Ільля Яшын аказаўся рухавым неахайна апранутым (як і трэба сапраўднаму «дэмакрату») маладым чалавекам. У яго выступе не было нічога новага. Вядомыя факты і банальныя сэнтэнцыі пра «рускі народ» і дэмакратыю. Але дзясяткі разоў ляйтматывам было паўторана, што ўсё зло і няшчасьце Расеі ад Пуціна. Што ён (гэты Пуцін) вядзе Расею ў бездань, што ён напаў на брацкую Украіну і зганьбіў рускі народ і г. д. Усё змаганьне мусіць быць супраць Пуціна. Пазбавіўшыся Пуціна, Расея ўздыхне свабодна, і дэмакратыя ўрэшце рэшт пераможа.

У гэты ж час, калі адбываецца такога роду прапаганда дакладу Нямцова і выказваюцца прапановы аб падвойным валоданьні Крымам, кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Пуціна генэрал-палкоўнік КГБ Сяргей Іваноў выступае зь дзіўнай заявай на ангельскпай мове, запісанай на відэа і распаўсюджанай у англамоўных СМІ. Сутнасьць выступу Іванова ў тым, што Расею, маўляў, абвінавачваюць у карупцыі ўладных структур, у злоўжываньні ўладай, у хабарніцтве палітыкаў і г. д., але, маўляў, гэта ня так, і ён, Іваноў, не такі, хабараў не бярэ, і супраць яго такіх падазрэньняў ня можа быць.

Выступ Іванова выглядае на асьцярожную прээнтацыю сваёй асобы перад Захадам. На Захадзе чамусьці пра такія прэзэнтаваныя яго якасьці ўсе павінны ведаць. (Між іншым ў гэты ж час прэм'ер-міністар Канады зрабіў заяву, што з Расеяй ня можа быць сур'ёзных дачыненьняў, пакуль яе прэзыдэнтам зьяўляецца Пуцін.)

Увогуле, цалкам магчыма, што існуе сувязь паміж незразумелым забойствам Нямцова, «дэмакратычнай» прапагандай яго дакладу чарговымі рускімі «дэмакратамі» (з імпэрскімі інвэктывамі), падкопамі пад Кадырава  і самапрэзэнтацыяй Сяргея Іванова. Ніякіх высноваў яшчэ нельга зрабіць. Але можна канстатаваць, што пачаліся зрухі і шавяленьне, якое можа прывесьці да чарговай барацьбы чарговай «рускай дэмакратыі» за чарговую «рускую дэмакратыю», якая скончыцца чарговай карупцыяй, абагачэньнем, маразмам і чарговым царом, які пачне ваяваць за адзіную Расею, за «русский мир», за «скрепы» ды ўставаньне з каленяў.

Нам, беларусам, відаць,  зноў прыдзецца ўсё гэта назіраць. Але тады мы мусім не змарнаваць час, пазбавіцца ад акупацыйнага антыбеларускага рэжыму, умацаваць сваю незалежнасьць, суверэнітэт і народную беларускую ўладу.

Падсумоўваючы апісаньне так званай «рускай дэмакратыі», адзначу наступнае. Элемэнтарнае дэмакратычнае думаньне вымагае выступаць супраць агрэсіі і вайны, супраць захопу чужых тэрыторыяў. Калі б у Расеі зьявіліся дэмакраты, яны павінны б былі засьведчыць сваю пазыцыю спраць нападзеньня на Украіну, супраць анэксіі Крыму і захопу Данбасу. Яны  павінны б былі пасьлядоўна выказаць патрабаваньні вываду з Украіны ўсіх расейскіх войскаў, усіх засланых расейскіх узброеных грамадзян і (sic!) усёй расейскай зброі і збройнай тэхнікі з тэрыторыі Данбаса і Крыма. Крым і Данбас мусяць быць безагаворачна вернутыя Украіне. За разбурэньне, зьнішчэньне і захоп маёмасьці ўкраінцаў, за нанесеную шкоду Ўкраіне Расея мусіць выплаціць Украіне рэпарацыі і кампэнсаваць страты. Рускія тэрарыстычная злачынцы, што арганізавалі бойню ў Данбасе, павінны пайсьці пад суд.

Такіх дэмакратаў і такіх патрабаваньняў у Расеі не існуе (і не існавала ніколі). Замест гэтага мы чуем толькі галасы (справядлівыя, вядома) з непрыняцьцем і крытыкай Пуціна (якія, гэтыя галасы, ўжо асядлала, між іншым, унутранная гэбоўская апазыцыя супраць Пуціна), чуем (ізноў жа справядлівае) абурэньне яго хлусьнёй і подлымі дзеяньнямі супраць украінцаў. Але як толькі пытаньне датычыць захопленых тэрыторыяў Крыма і Данбаса, пачынаецца цёмнае імпэрскае мармытаньне, што будучыня Данбаса пад пытаньнем, што Крым ўжо застанецца ў Расеі, што яго ўжо ня вернуць і нават зусім дзіцячае – давайце, маўляў, валодаць Крымам разам (рускія і

ўкраінцы) пад двума кіраваньнямі і двума суверэнітэтамі (вось узровень думаньня рускіх імпэрскіх нібы-дэмакратаў).

Мы, беларусы, ведаючы расейцаў і імпэрскую гісторыю Расеі, не павінны мець адносна іх ніякіх ілюзіяў, што б яны там ні казалі і ў чым бы сябе ні пераконвалі. Расейская імпэрыя мусіць быць разбурана і дэзынтэгравана. Толькі тады можна будзе казаць пра дэмакратыю і толькі тады, магчыма, зьявяцца на яе тэрыторыі дэмакратычныя ідэі і пасьлядоўнікі.

Тым часам нам, беларусам, цяпер (у гэтым становішчы) нават такія абкарнаныя імкненьні так званай «рускай дэмакратыі» трэба тактычна збольшага падтрымліваць (памятаючы, аднак, пра іх імпэрскую сутнасьць). Зараз вельмі важна, каб спынілася вайна супраць Ўкраіны і каб адбыліся любыя перамены ў Расеі, каб узьнікла любая барацьба за ўладу (а змагацца там хутчэй за ўсё будуць Лубянка з Лубянкай). Вельмі важна, каб хоць некалькі месяцаў (як гэта здарылася ў 1991 годзе) Расея была б занята сама сабой (каб ёй было «не да жыру – быць бы жыву»). Тады для беларусаў узьнікнуць рэальныя шансы расправіцца з антыбеларускім акупацыйным рэжымам і нават разьвеяць яго попел па ветры. І гэта павінна стацца ўжо назаўсёды, каб ніколі маскаль не пляваў нам ў твар.

*2-5 чэрвеня 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# "ТАЛЕРАНТНАСЬЦІ" НЕ ЧАКАЙЦЕ

Працягваецца мэтадычная гэбісцкая прфанацыя Курапатаў. Некалькі гадоў таму грамадзкасьць вывела на чыстую ваду палітрука падпалкоўніка Кузьняцова, калі ён намерваўся бяздоказна ўмясьціць туды расстраляных "польскіх афіцэраў". Нічога не атрымалася тады ў прафанатараў, нягледзячы на вялікі лямант тут і ў жоўтым польскім сеціве. Цяпер, аказваецца, "энтузіясты" маскоўскага "Мэмарыялу" (як яны сябе называюць) узяліся за прыбалтаў. Ставяць у Курапатах мэмарыяльныя знакі ў памяць расстраляных асобаў з прыбалтыйскіх краін і запрашаюць прадстаўнікоў пасольстваў прыбалтыйскіх краін на мерапрыемства. Падставай для гэтага паслужыла для палітрука яма раскапаная "чорнымі (крымінальнымі) капальнікамі". «Вакол раскапанай яміны былі знойдзеныя чалавечыя косткі і рэшткі адзеньня ды абутку. Вывучэньне гэтых рэчаў паказала, што яны былі зробленыя ў прыбалтыйскіх краінах," -- паведаміў ён прадстаўнікам пасольства.

Дылетанства з нахабствам "блізьняцы-брацьці". Студэнты археалогіі ведаюць, што знойдзеныя рэчы, вырабленыя ў нейкай краіне, не абавязкова сьведчаць, што яны належылі прадстаўнікам гэтай краіны. Тут магчымае толькі дапушчэньне.

У 1988 годзе групай археолагаў Інстытута гісторыі Акадэміі навук пад маім кіраўніцтвам (пры удзеле Пракуратуры БССР і Міністэрства Ўнутраных Справаў) было зроблена археалагічнае дасьледваньне Курапатаў. Вынікі дасьледваньня адлюстраваны ў навуковай археалагічнай справаздачы (надрукавана ў Беларусі і за мяжой). Знойдзены рэчы вырабленыя ў Беларусі (Віцебск), Польшчы (Варшава, Вільня) Расеі (Растоў на Доне, Масква), Латвіі (Рыга). На некаторых рэчах фірмовыя надпісы па-польску, па-руску, па-ангельску, па-француэку, па-латыску. Ўсё гэта гаворыць дакладна пра месцы вырабу прадметаў (тавараў) і ў сумяшчэньні з аналізам іншых знаходак, прадметаў, рэчаў і сытуацыяў паказвае на тое, што ў асобных магілах пэрыяду 1939-1941 гадоў былі расстраляныя і закапаныя людзі з Заходняй Беларусі, узьяднанай у 1939 годзе з БССР. Навукоўцы дапускаюць магчымасьць, што тут маглі быць пахаваныя таксама і людзі з Прыбалтыкі (Латвія). Але пераканаўчых доказаў у карысьць такога дапушчэньня малавата. (Вельмі важнай была б тут апора на дакументы.)

Гэбоўская псэўданавука, каб заблытаць і закапаць нашы адкрыцьці і вынікі нашых дасьледваньняў навыдавала шэраг макулатуры пра Курапаты, ў тым ліку пераклалі яе

і па-польску (быў такі Гарэлік) паколькі адкрывальнік Курапатаў (аўтар гэтых радкоў) жыве цяпер у Варшаве. Сымптаматычна, што як і падпалкоўнік Кузьняцоў, ніхто зь іх не спаслаўся ніколі на навуковую археалагічную справаздачу аб дасьледваньні Курапатаў. Спасылаюцца на "яміну", выкапаную "чорнымі капальнікамі" (якіх, дарэчы, трэба было арыштаваць і судзіць). Прытым, пішучы свае кручаныя вэрсіі пра Курапаты, гэбоўскія майстры тэхналагічнай лухты ўмудраюцца нават не пазначыць імя адкрывальніка і дасьледчыка Курапатаў. Вышэйшы пілатаж. Кісялёўшчына ў натуры. Рускае TV.

Прафанатары часта прыкрываюцца прыналежнасьцю да маскоўскага Мэмарыялу (які, дарэчы, даўно фінансуецца Крамлём). Маўляў яны беларуская філія маскоўскага Мэмарыялу. Але я паглядзеў арганізацыйныя справы маскоўскага Мэмарыялу. Ніякай "беларускай "філіі" там не зарэгістравана.

Тое што ў курапацкіх магілах пэрыяду 1939-1941 гг. побач зь беларускімі сялянамі рабочымі і інтэлігенцыяй пахаваны таксама палякі не выклікае сумненньняў, зыходзячы з аналізу усёй сукупнасьці фактаў, адносна габрэяў ёсьць канкрэтныя зьвесткі. Напэўна павінны быць і выхадцы з Прыбалтыкі (прынамсі з Латвіі), але навуковых доказаў гэтага дапушчэньня сабрана недастаткова. Патрэбныя дукументы і безумоўныя сьведчаньні. Навуковы мэтад, як вядома, пачынаецца з сумненьня. Але для прафанатараў яно нічога не значыць. Сутнасьць жа гэбоўскай папулістыкі пра Курапаты, тварэньне антыбеларускіх міфаў і фальшывых легенд вакол гэтага

сакральнага месца мы ведаем. Чулі ўжо ня раз. Ім важна насьлядзіць, абнізіць ўзровень падыходу, наблытаць, накруціць, каб ў людзей была каша ў галаве, І яна ўжо ёсьць. Сустракалі тут ужо палякаў, якія начыталіся фейкавых рэсурсаў і пісаньняў Кузьняцова і прыехалі сюды аддаць гонар "ахвярам Катыні".

Вядома, Беларусь пад дваццацігадовым прэсам акупацыйнага рэжыма цяпер аслабела. Калі б такія ліпавыя "мэмарыяльшчыкі" зьявіліся б, напрыклад, у Быкаўні пад Кіевам і пачалі б вяшчаць свае выдумкі пра "польскіх афіцэраў" і ставіць знакі па недаказаных фактах (зыходзячы толькі зь меркаваньняў), то вядама, што было б. Зь іх толькі б пер'е паляцела і больш іх там ня бачылі б. Але ня доўга ўжо такое працягнецца. Канец будзе і праклятай Расеі і праклятаму гэбаўю. І тут ужо "талерантнасьці" не чакайце.

*17 чэрвеня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# АБОРТ

Праблема абортаў (штучнага прыпыненьня цяжарнасьці) была ўвесь час, ад пачатку існаваньня цывілізацыі і культурнага чалавецтва. Ва ўсе часы, ва ўсіх краінах яна была вырашана па-рознаму, падыходы (сістэма дазволаў і забаронаў) зьмяняліся даволі часта. Усюды гэтае пытаньне было зьвязана з рэлігіяй, ідэалогіяй, сацыяльным станам грамадзтва, дэмаграфіяй, эканамічнымі і палітычнымі запатрабаваньнямі. Гітлерызм, напрыклад, прадпісваў абавязковую падтрымку абортаў на акупаваных тэрыторыях і забарону медыцынскай дапамогі акупаванаму насельніцтву (палітыка на вымiраньне), а цяперашні Кітай дае поўную свабоду абартацыі з мэтай абмежаваньня росту насельніцтва (палітыка дэмаграфічнага абмежаваньня). Палітыка перанаселеных Кітая і Індыі ў галіне абартацыі зьвязана якраз з чыньнікам дэмаграфіі. (На сёньняшні дзень, дарэчы, такая палітыка стварыла сур'ёзныя сацыяльныя і крымінальныя праблемы ў гэтых краінах.)

Бальшыня краінаў плянэты (акрамя некалькіх, дзе аборты забароненыя цалкам і без выключэньняў) ажыцьцяўляюць узважаны падыход – аборты забароненыя, але пералічваецца цэлы шэраг медыцынскіх, сацыяльных, юрыдычных, крымінальных і іншых чыньнікаў, калі аборт неабходны альбо дазволены.

Акрамя перанаселеных тэрыторыяў, аборт дазволены ў краінах так званай "белай" зоны. Гэта Эўропа, Канада, ЗША і Расея. І гэта нягледзячы на тое, што прырост насельніцтва тут мінімальны, а то і адмоўны (Беларусь, Расея), а культура гэтых краінаў -- хрысьціянская. Тым ня менш за апошнія 20 гадоў (пасьля краху СССР і пашырэньня Эўразьвязу) менавіта тут даволі штучна (на першы погляд, нават неадэкватна) узьнялося пытаньне пра "свабоду" і "забарону" абортаў. Гэтае пытаньне ўлады Эўразьвязу і Амэрыкі зрабілі міжнароднай палітыкай, яно штучна і правакацыйна, зь вялікай дозай дэмагогіі пастаўлена на катурны і, што зусім ненармальна, -- раскалола цэлыя грамадзтвы (Польшча, ЗША; на падыходзе Ірляндыя, Венгрыя, Славаччына, і нават Вялікабрытанія).

У чым прычына ўспышкі такога гістэрычнага стану ў лібэральнай палітыцы? (Прытым побач з гэтым мусуюць такое даўно зразумелае пытаньне, якое таксама штучна ўведзена ў палітыку, як забарона сьмяротнага пакараньня для ўсіх забойцаў і нішчыцеляў чалавецтва.)

Прычына – у самой антыхрысьціянскай ідэалёгіі лявацкага лібэралізму, накіраванай (сьведама і нясьведама) на разбурэньне вобразу чалавека, створанага хрысьціянскай эпохай і вывядзеньне новай лібэральнай асобы, пагрунтаванай на свабодзе выбару, на антычных прынцыпах маралі і тэхналёгіях кансумэнцкага сьвету. Фактычна – гэта вяртаньне ў тыл, тое самае, што было ў позьнім сярэднявеччы ў часы "рэнесансу" (адсунутага ў бок контаррэфармацыяй). Сутнасьць канфлікту тая ж самая – вяртаньне да вобразу асобы і да свабоды антычнасьці (да таго, на чым зайшоў у тупік і ад чаго зьнік старажытны сьвет).

Дарэчы, аборты ў антычнасьці былі звыклай зьявай. Навароджанага не лічылі чалавекам, пакуль ні адбываўся адпаведны паганскі абрад. У Спарце дэфектных і слабых немаўлят маглі проста ськінуць у бездань.

Штуршком да лібэральнай агрэсіі ў гэтым пытаньні, якая не спыняецца па сёньняшні дзень, паслужыла прыняцьце больш адэкватных і строгіх законаў аб абортах у краінах савецкай зоны пасьля распаду СССР, дзе ў апошні час, як вядома, была поўная свабода абортаў. У практыку пачалі вяртацца хрысьціянскія прынцыпы ў ацэнцы жыцьця чалавека. Гэта і выклікала нэрвовую рэакцыю ў заходніх лібэральных колах.

У польскі порт Гданьск нейкая лібэральная краіна прыслала нават спэцыяльны карабель з медпэрсаналам, які аб'явіў, каб польскія жанчыны ішлі да іх рабіць бясплатныя аборты. Праз нейкі час правакацыйны карабель адправілі. І добра яшчэ,

што абураныя палякі яго не патапілі, а то было б шкода людзей на борце, ачмураных дэмагогіяй.

Жыцьцёвы вопыт паказвае, што тут не павінна быць крайнасьцяў. Калі ненармальнае разьвіцьцё плоду, напрыклад, пагражае жыцьцю жанчыны, то які павінен быць выбар? І хто яго зробіць? Бескампрамісны закон? Тады гэта забойства жанчыны.

Вольная свабода абортаў тым часам часьцей за ўсё прыводзіць людзей да выпраўленьня сваіх памылак коштам жыцьця ненароджаных дзяцей. Гэта значыць – да забойства ненароджаных.

Лібэральныя прыхільнікі вольнага жыцьця і безадказнасьці за зьнішчэньне плоду сканцэнтраваліся на жаданьні даказаць, што плод ня ёсьць чалавекам, ці што пакуль ні сфармуецца нэрвовая сістэма, плод (эмбрыён) – не чалавек і г. д. Спрэчка, пачатая дзеля таго, каб лічыць, што аборт – не забойства (раз плод не чалавек). Аргумэнты гэтага боку вельмі слабыя, разбаўленыя непрыкрытай дэмагогіяй і сафістыкай.

Вельмі даўно, яшчэ старажытныя кітайцы ведалі, што ёсьць пачатак чалавека. Гэты пачатак ёсьць злучэньне пляменьніка і яйкаклеткі і ўтварэньне эмбрыёна. Як толькі яны злучацца, пачынае разьвівацца праграма, ствараецца чалавек. Гэткага погляду прытрымліваецца і Хрысьціянства.

Практыка, дарэчы, выявіла выпадкі ў медыцынскай навуцы, калі прыхільнікі аборту пад уплывам сваіх жа дасьледваньняў плоду зьмянялі свае погляды на супрацьлеглыя. Такое асабліва было зьвязана, калі даказалі, што плод на раньніх этапах адмоўна рэагуе на механічныя інструмэнты медыцынскай працэдуры аборту (стараецца як бы ўхіліцца і адчувае боль, у ім адбываюцца панічныя зьмены, фіксаваныя прыборамі , ён як бы нячутна крычыць і г. д.).

Але гэта выпадкі ў навуцы. У палітыцы і ідэалогіі такіх выпадкаў не зафіксавана. Прыхільнікі свабоды абортаў з той катэгорыі асоб, якія дэмагагічна абапіраюцца тут на прынцыпы свабоды і правы чалавека. Маўляў, нараджае жанчына, і гэта яе права распараджацца – нараджаць ці не. З гледзішча прыроды, такое гучыць дзіка, бо прырода не забівае сама сябе. У нараджэньні – сэнс працягу жыцьця. З пункту гледжаньня хрысьціянскай маралі і натуральнага права, усё якраз у тым, што такога права (не нараджаць) цяжарная кабета ня мае. Цяжарнай жанчыне належыць толькі абавязак (наканаваны прыродай) рэалізаваць права таго, хто хоча нарадзіцца, бо ён у яе ўлоньні абараніць сваё гэтае права ня можа. Вось гэта і ёсьць яго права ненароджанага чалавека, за якое адказная яго маці.

Тут мушу адзначыць, што нецяжарная жанчына (у адрозьненьне ад цяжарнай) мае права выбару – нараджаць ці не нараджаць. Але гэтае права рэалізуецца перад зачацьцем. Яно падтрымана прыродай (прыроджаная інтымная сарамлівасьць жанчыны), маральлю і юрыдычнай практыкай народаў (асабліва ў Хрысьціянстве і ў Ісламе). Жанчына вырашае ўступаць у палавы кантакт ці не. І калі гэтае яе права ігнаруецца і палавы кантакт навязваецца сілай (гвалт), тады гэта паўсюдна лічыцца найвялікшым злачынствам і ў некаторых месцах (пры абцяжарваючых абставінах злачынства -- забойстве) караецца нават сьмерцю.

Дык чаму ў лібэральным сьвеце тут ўсё пастаўлена з ног на галаву? Таму што такая ёсьць ідэалогія лявацкага лібэралізму зь яго антымаральным, антычалавечым паняцьцем свабоды. Лібэралізм культывуе сэксуальна вольную жанчыну (чытай распусную), вызваляе яе ад маральных і рэпрадуктыўных абавязкаў. А паколькі вынікам такіх «вольных» паводзінаў можа стаць цяжарнасьць, то і тут унушаюць людзям, што кабета вольная – можа не нараджаць, выкінуць ненароджанага чалавека ў сьметнік, зьліць ў каналізацыю. Паўтаруся: вольная яна была перад зачацьцем. Калі зачацьце наступіла (па згодзе кабеты), тут ў яе застаецца толькі абавязак нарадзіць, рэалізаваць права новага чалавека на нараджэньне.

Для лібэральнай дэмагогіі вельмі характэрна перакручваць законы прыроды, абавязак прыроды падаваць як вольнае права, збочанасьць разьвіцьця лічыць за множнасьць відаў прыроды, у крымінальным забойстве абараняць жыцьцё злачынцы,

спасылаючыся на запаведзь “не забівай” (хаця забіў і парушыў запаведзь якраз злачынца) і г. д. Стаўленьне зьявы з ног на галаву – характэрны прыём гёбельсаўшчыны і гэбізму. Тут сістэма лібэральных паводзінаў цалкам карэлюецца.

Слухаючы ўзбуджаную прапаганду свабоды абортаў, зьвяртаем увагу на паводзіны такіх людзей. Звычайна яны ня чуюць ніякіх аргумантаў насуперак сваёй пазыцыі. Такія паводзіны якраз характэрны для псіхалогіі лібэральнага люмпэна (псіхалогіі зграі). Тут часам выяўляецца ня толькі ўжо звыклая для фэміністак хваравітая нянавісьць да супроцьлеглага полу, але і родавая нянавісьць лявацтва да ўсяго Хрысьціянства, да ўсялякай сьвятасьці і традыцыяў прыстойнасьці. Нядаўна ў Польшчы адна такая азлобленая на ўвесь сьвет асоба заявіла, што зробіць аборт на Вігілію Нараджэньня Хрыстова (і, як быццам, тое зрабіла). Усё гэта пацьвярджае, што справа ня толькі ў абортах (як, зрэшты, і ня толькі ў гомасэксуалізме і іншым дэвіянцтве), але ў выкарыстаньні магчымасьці расперазанай маніфэстацыі зла.

Але тут усё ж трэба мець на ўвазе і крымінальны аспэкт. У апошні час у Расеі і на Захадзе выяўлены групы людзей, якія гандлююць ствalовымі клеткамі чалавечых эмбрыёнаў. Зь іх робяць лекавы матэрыял для амаладжэньня арганізму. Мафія такога роду зацікаўлена ў стабільных абортах, а сацыяльна не ўладкаваныя жанчыны вымушаныя часам пагаджацца быць “інкубатарамі” дзеля злачыннага бізнэсу. Вялікія грошы ў сучасным сьвеце ляжаць у аснове вялікіх злачынстваў. Грошы мафіі сталі ўплываць на палітыку. Недаацэньваць крымінальны аспэкт у гэтым пытаньні было б няправільна.

Нядаўна ў ЗША (2015 г.), дзе забаронены гандаль чалавечымі ворганамі цела, выявіліся жахлівыя факты гандлярства гэтымі ворганамі, якія здабывалі ў дзяцей забітых праз аборт. Займаецца гэтым крыміналам ўсёамэрыканская арганізацыя Planned Parenthood Federation of America, якая зьяўляецца часткай міжнароднай арганізацыі International Planned Parenthood Federation. Гандляроў ( канкрэтна гандлярак) ворганамі забітых немаўлят запісалі схаванай камэрай на відэа ў рэстаране ў час абеду, дзе яны расказваюць пра продаж печані, сэрца, нырак і лёгкіх забітых немаўлят, і пры гэтым жуюць, папіваюць віно і накладваюць салату сабе ў талерку. На іншых відэа можна пабачыць іншых асоб гэтай праабортнай арганізацыі, якія апраўдваюцца прагматычным падыходам да справы (не прападаць жа дабру). Сухія, паджарыя, тыпова заходнія старэючыя дамы з адбіткам парокаў і нянавісьці на твары глядзяць ў камэру незамутненым позіркам, фармулюючы фразы. Уражаньне, што яны абсалютна не разумеюць сутнасьці таго, пра што цынічна гавораць. Гэта ўжо нейкі новы залюстраны, сатанінскі тып «чалавечага матэр'ялу.»

Людзі Амэрыкі і кангрэсмэны ставяць пытаньне аб прыцягненьні гандляроў да суду. Справа ўскладняецца, аднак тым, што прэзыдэнт ЗША, які актыўна падтрымлівае і прапагандуе гомасэксуалістаў, збачэнцаў і дэвіянтаў, захоўвае маўчаньне, а яго адміністрацыя кажа, што не згаджаецца з патрабаваньнямі пра суд над Planned Parenthood.

Калі агулам з улікам гісторыі праанaлізаваць нават невялікую частку матэрыялаў па праблеме абортаў, то становяцца відавочным дзьве высновы, якія можна зрабіць. Найперш, што гэта вельмі сур’ёзнае, глыбокае і складанае пытаньне, якое датычыць кожнага чалавека (кожнага, бо яно заўсёды пытаньне дваіх, але абавязак – на адным).

Другое – гэта тое, што праўда пасярэдзіне і заключаецца ў тым (фармулёўка істотная), што **аборты мусяць быць забароненыя** з заканадаўчым абазначэньнем усіх тых выключэньняў, калі яны могуць быць дазволеныя. Улічваючы складанасьці сучаснага жыцьця, сьпіс выключэньняў мусіць быць дастаткова поўным, канкрэтызаваным і абгрунтаваным, вымагае сур’ёзнай і дакладнай юрыдычнай працы, бо справа ідзе, як я лічу, аб пытаньні важнейшым, чым сьмерць – аб нараджэньні новага чалавека.

*5 ліпеня 2013 г., жнівень 2015 г.* Зянон Пазьняк

# КРАЯВІД ПЕРАД НІЗІНАЙ

***(Пасьляслоўе да арт. «Параза чалавецтва»)***

Як і 20, і 30 гадоў таму, перад нашым народам і перад сьветам стаяць, практычна, тыя ж самыя праблемы дабра і справядлівасьці, брыдоты і несвабоды, радасьці супольнага нацыянальнага жыцьця і змаганьня з акупацыяй. Праблемы стаяць, але амаль зьнікла іх разуменьне патрэбаў для нацыі і чалавецтва. Гэта вельмі дзіўная, невядомая раней рэчаіснасьць. У аснове яе – іншы чалавек.

На Захадзе ён быў і раней, чалавек-індывідуаліст, законапаслухмяны, індывідуальна актыўны, але без ідэалаў і без духоўнага жыцьця, чалавек, ня здольны ахвяравацца сабой і сваім дзеля Айчыны. У нас жа ён пасіўна вырас, абыякавы да ўсяго, пры антынацыянальным, фактычна, савецкім рэжыме, які заняў ужо цэлае пакаленьне часу.

26-га чэрвеня 2015 года, праз месяц пасьля паразы Ірляндыі, адбылася эпахальная перамога палавых дэвіянтаў у Злучаных Штатах Амэрыкі. Гэта знакавая падзея ўпадку, вынікі яе яшчэ наперадзе.

Вярхоўны суд ЗША, шляхам сваістага прачытаньня Канстытуцыі, прысвоіў сабе права (як сцьвярджаюць юрысты) вырашаць пытаньні, якія належаць да юрысдыкцыі і кампетэнцыі штатаў. Суд прызнаў права дэвіянтаў аднаго полу заключаць між сабой так званыя "гомасэксуальныя шлюбы" дзеля задавальненьня неадэкватнай палавой рэакцыі (неадэкватнага сэксу). Гэтакі "шлюб", пасьля рашэньня суда, прыроўніваецца да натуральнага шлюбу людзей, тых людзей рознага полу, якія ствараюць сям'ю і патомства, забясьпечваюць дэмаграфічнае разьвіцьцё чалавецтва. Гомасэксуальны аднаполы "шлюб" будзе мець усе правы, беніфіты, льготы, сацыяльнае забесьпячэньне і г. д. Мне часам здаецца, што амэрыканцы яшчэ не разумеюць, што яны нарабілі. Дэвіянты атрымалі шырокае поле для агрэсіі, наступу і дрэсіроўкі насельніцтва.

(Тут яшчэ некалькі ўдакладненьняў. З усіх галінаў улады ў ЗША суд мае ці не найбольшую вагу. Вярхоўны суд на сёньняшні дзень часам выглядае такім палітычным міні-парлямантам. Рашэньне аб гомасэксуалістах прымалі дзевяць суддзяў – чатыры лібэралы і пяць кансэрватараў. Напярэдадні рашэньня ішла вялікая барацьба вакол ды наўкола суда. У выніку вырашыла ўсё тое, што адзін кансэрватар-каталік (старшыня суду) перайшоў на пазыцыю лібэралаў і прагаласаваў за гомасэксуалістаў. Ўсё гэта падаецца левалібэральным лобі як сьведчаньне і трыумф дэмакратыі і свабоды. Дадам, што суддзі Вярхоўнага суду прызначаюцца Прэзыдэнтам і зацьвярджаюцца Сэнатам. Новы суддзя ў Вярхоўны суд прызначаецца кожныя 22 месяцы. Прэзыдэнт Абама назваў рашэньне Вярхоўнага суда аб гомасэксуалістах «вялікім крокам па дарозе роўнасьці і вялікай перамогай Амэрыкі».

Перавышэньне паўнамоцтваў Вярхоўным судом у прыняцьці рашэньня аб гомасэксуалістах абурыла многіх палітыкаў і кангрэсмэнаў, якія не першы раз адзначаюць неапраўданую перавагу судоў над усімі галінамі ўлады ЗША. Адзін зь іх (кангрэсмэн Хакабі) выказаўся дакладна і канкрэтна: **« Адзіным зыходам, які можа стацца яшчэ горшым за гэтае зласьлівае рашэньне, была б здача ўлады Прэзыдэнта і Кангрэса (двух роўнавялікіх галін улады) перад аблiччам гэтага бескантрольнага акта неканстытуцыйнай юрыдычнай тыраніі».**

У Амэрыцы ёсьць шмат праблемаў і супярэчнасьцяў, але я не даю тут нічаму ніякіх ацэнак. Амэрыканскія праблемы вырашаюць амэрыканцы. Хоць мы разумеем, што часта амэрыканскія падзеі ўплываюць і б'юць па ўсім сьвеце.)

Усялякае непрызнаньне збочанага шлюбу, усялякая крытыка яго можа быць цяпер расцэнена як дыскрымінацыя збачэнцаў і парушэньне закона. Будуць позвы ў суд за самыя бяскрыўдныя словы непрызнаньня ці іроніі ў бок гомасэксуальна

спараных асоб. (Трэба ведаць Амэрыку і сутнасьць вычварэнства.) Дзеці з нармальных сем'яў пойдуць у школу і панясуць туды нармальнае ўяўленьне пра тату, маму і сям'ю. Яны будуць падвержаны нападкам, абсьмейваньню, абструкцыі, даведаюцца, што іхныя бацькі – адсталыя ідыёты. У сям'ю прыйдзе прадстаўнік ювэнальнай юстыцыі ці ЮНІСЭФ, каб "пераканацца", што ў нармальнай сям'і "ненармальная абстаноўка" і падрыхтаваць рашэньне аб адабраньні дзяцей. (Дарэчы, такую мэтодыку расправы зь людзьмі пасьлядоўна выкарыстоўвае антыбеларускі рэпрэсіўны рэжым у Беларусі супраць сацыяльна актыўных асоб, патрыётаў і іншадумцаў. Рэпрэсіўная ўлада апэратыўна ацаніла перавагі лібэральнага заканадаўчага збачэнства ў сваёй унутранай сацыяльнай палітыцы.)

Такое ж становішча можа ўзьнікнуць у каталіцкіх і рэлігійных школах. Іхныя каштоўнасьці па закону будуць прызнаныя дыскрымінацыйнымі. Адпаведна, гэтыя школы будуць пазбаўлены дзяржаўных субсідый і паступова будуць ліквідаваныя, бо выжыць без дзяржаўнай падтрымкі ня змогуць.

Аналагічная сытуацыя можа стацца з касьцёлам, з праваслаўнай і некаторымі пратэстанцкімі цэрквамі, якія ў Амэрыцы вызваленыя ад падаткаў. Хрысьціянская ідэалёгія адносна шлюбу будзе ўжо супярэчыць закону. Адпаведна Касьцёл і традыцыйныя цэрквы будуць пазбаўлены вызваленьня ад падаткаў (такі закон), а пры факце адмовы сьвятара "вянчаць" перад алтаром педэрастаў, супраць сьвятара будзе ўзбуджана судовая справа. Гэта ўжо ня надпіс на ірляндзкім торце (дзе, дарэчы, пекар закону не парушыў) – сьвятара пасадзяць.

Можна прадбачыць, якімі стануць вынікі гэтага фантастычнага рашэньня Вярхоўнага суда. Некаторыя штаты (напрыклад, Тэхас) ужо заявілі, што ня будуць выконваць рашэньня Вярхоўнага суду, бо яно перавысіла яго паўнамоцтвы. Але гэта толькі словы. Выконваць будуць.

Значная частка раскольных пратэстанцкіх цэркваў, розныя сэкты і іншыя некананічныя ўтварэньні ўжо праз пару дзён пасьля рашэньня Вярхоўнага суда сабраліся на сходы і пастанавілі асьвячаць гомасэксуальныя "шлюбы" ў сваіх цэрквах. Найбольш радыкальна дзейнічае тут Епіскапальная царква ЗША (ерытычны адломак Англіканскай царквы). Яшчэ ў 2003 годзе там выбралі на епіскапа адкрытага педэраста, а ў 2010 годзе (таксама на епіскапа) выбралі кабету -- адкрытую лесбу. У Амэрыцы шмат аналягічных царкоўных квазіхрысьціянскіх утварэньняў, якія практыкуюць ерась і з задавальненьнем успрынялі рашэньне Вярхоўнага суда.

Зразумела, што змасаванай атакі дэвіянтаў тут цяпер не атрымаецца (іх яшчэ ня шмат), але выбарачная мэтадычная атака на Хрысьціянства, маючы ў руках антыхрысьціянскі закон, будзе разгортвацца ўвесь час.

Ужо 27 чэрвеня адбыліся парады вычварэнцаў у розных частках плянэты. Па Нью-Ёрку лёталі афраамэрыканцы і масава раздавалі гомасэксуальныя сьцяжкі (тыпу, як раздаюць сьцяжкі "каларадаў" у Маскве і на акупаваных тэрыторыях). Белы Дом – рэзыдэнцыя Прэзыдэнта ЗША і, фактычна, сакральны сымвал Амэрыкі, асьветлены (па загаду Абамы) гомасэксуальнымі колерамі вясёлкі (як сказалі б цяпер – гэта такі ідэалагічны «мэсідж»). У друку шмат лібэралістычных артыкулаў, дзе пішацца, як цяпер будзе добра ў Амэрыцы. Адна газэта, на поўным сур'ёзе напісала, што надта добра таксама будзе «шлюбаразводным адвакатам. Уяўляеце колькі ў пэрспэктыве ім прыбавіцца працы?» (Ізноў жа, трэба ведаць Амэрыку. У грамадзтве матэрыяльнае пануе над гуманітарным – усё вымяраецца грашыма.)

Хрысьціянства і нармальныя людзі перад абліччам прынятага судовага рашэньня засталіся юрыдычна безабароннымі. Зразумела, што дэвіянты пастараюцца тое скарыстаць, і, дзе магчыма, нішчыць і руйнаваць усё добрае, што яшчэ засталося і існуе ў Амэрыцы. Вернікі і законапаслухмяныя людзі будуць паступова ссунутыя на ўзбочыну грамадзтва. Шмат, відаць, будзе залежыць ад новых выбараў прэзыдэнта ЗША. Калі зноў стане стаўленік левых, якія цяпер несусьветна крыклівыя, то становішча яшчэ больш абвострыцца.

Наступны этап, які рыхтуецца, – гэта легалізацыя педафіліі (такія спробы ўжо былі ў Эўропе; гл. "Скрынка пандоры"), а таксама інцэсту (тут пакуль што існуе толькі прапаганда).

Усялякія маргінальныя атакі лібэральных прафанаў, дэвіантаў і невукаў на філалогію, тэрміналогію, тапаніміку, лексіку, гісторыю, мастацтва, сацыяльную этыку, сям'ю і т. п. успрымаюцца вучонымі, спэцыялістамі, адукаванымі людзьмі як дзікунскія выхадкі дурняў і неадукаваных асобаў і не камэнтуюцца. Гэта правільна – навука не камэнтуе невуцтва. Але ацэнка зьявы павінна быць. (Дэвіанты патрабуюць, напрыклад, выкінуць з мовы словы «бацька», «маці», «сям'я», словы, якія заканчваюцца на «ман» у ангельскай і нямецкай мовах і т. п. выказваюць іншыя шызоідныя меркаваньні, якія амаль сто гадоў таму ўжо дэманстравалі бальшавікі.) Відаць, бальшавізм, бальшавіцкая цемра ў Расеі і нацызм ў Нямеччыне некаторых вучоных нічаму не навучылі. А тым часам «дзікунскія выхадкі» паступова ператвараюцца ў законы дэмакратычных краін і прафаны тлумачаць адукаваным вучоным, што гэта трыумф дэмакратыі.

Цяпер левалібэралы з дэвіантамі распачалі напад на амэрыканскую гісторыю пэрыяду Грамадзянскай вайны. Патрабуюць выдаленьня з амэрыканскіх музэяў сымволікі, імёнаў і партрэтаў асобаў, якія прадстаўлялі Канфэдэратыўныя Штаты Амэрыкі, дамагаюцца перайменаваньня вуліц, названых імёнамі гэтых вядомых людзей. Пачалася кампанія ачарненьня канфэдэратыўных патрыётаў амэрыканскай гісторыі (Робэрта Лі, Джэфэрсона Дэвіса і інш.), а таксама героя часоў змаганьня за незалежнасьць Аляксандра Гамільтона.

Як паведамляюць ў друку, дыскрэдытыцыя асобы Гамільтона (ягоны партрэт, дарэчы, на дзесяцідаляравай купюры Амэрыкі) з боку адкрытых лявацкіх троляў зьвязаны з планамі левых зьмясьціць на амэрыканскіх грашах партрэт гомасэксуальнай асобы (і абавязкова жанчыны-лесбы). Рыхтуюць месца. Сымвалічнае значэньне такога дзеяньня зразумелае. Гэта вельмі важны акт. Стратэгія дэвіантаў па перарабленьні сьвету па сваёй падобнасьці йдзе і вырашаецца крок за крокам з галасам, вэрхалам і падтрымкай з боку «карысных ідыётаў», і на вачах усяго грамадзтва, якое ў большасьці так і не разумее, што гэта робіцца.

Але людзі, якія жывуць духоўным жыцьцём, разумеюць, што адбываецца ў сьвеце. Зрэшты, для тых, хто здольны бачыць, усё зразумела само сабой: калі па рэлігійнай тэрміналёгіі, то йдзе паскарэньне і насіленьне працэсу прышэсьця Антыхрыста (падрыхтоўка абставінаў). Калі бяз містыкі – паскараецца рух спаўзаньня ў катастрофу.

Я нездарма ўспомніў у пачатку артыкула пра "новага" чалавека. Ён ужо ёсьць. Ён існуе. Безь яго працэсы духоўнага развалу чалавецтва і дэградацыі асобы проста не адбыліся б, дрэнь ня мела б падтрымкі. Галоўныя каштоўнасьці гэтага чалавека – грошы, задавальненьні і "пафігізм" (жаргон; гэта значыць паталагічная абыякавасьць да ўсяго, што не датычыць індывідуальнага эга).

Часам важныя, на мой погляд, тэксты, я рассылаю знаёмым беларусам. Як правіла, яны прысылаюць мне свае меркаваньні. Гэта істотна. "Паразу чалавецтва" я разаслаў па адрасах дзесьці каля 70-ці асобаў. Унікальны выпадак: адазваўся … толькі адзін беларус зь Нью-Ёрку, праваслаўны вернік, трое дзетак яго выхаваныя ў хрысьціянскай сям'і, пайшлі ў амэрыканскую школу -- і ён ужо страціў іх. Лявацкая школа ім так прамыла мазгі, што яны (яшчэ дзеці-падлеткі) крычаць за любоў да гомасэксуалістаў ды за свабоду адносінаў і выступаюць супраць бацькоў. (Я, праўда, лічу, што ў гэтым канкрэтным выпадку ёсьць і недагляд бацькоў.)

Савецкая школа выхоўвала паўлікаў марозавых, амэрыканская – мэнтальных калек без абавязкаў (як кажуць, свабода ёсьць, а абавязкаў няма).

Можна абазначыць тры прычыны замбаванага маўчаньня людзей на паўсюднае шэсьце сатанізму ў сьвеце:

**1.** "Новы чалавек", пазбаўлены духоўнай існасьці і маральнага вопыту, не разумее, што адбываецца. Калі што і разумее, то перамагае "пафігізм". (Гэта той тып

асобы, для якой відавочная ісьціна даходзіць праз 20 гадоў існаваньня. І, як правіла, позна, бо збочаны лібэралізм ня менш небясьпечнае зло, чым рускі імпэрыялізм.)

**2.** Нармальны чалавек у выніку лібэральнай дрэсіроўкі баіцца падаць голас пратэсту, каб не наразіць сябе на агрэсію і непрыемнасьці з боку дэвіантаў. (Гэта вельмі распаўсюджаны псіхалагічны стэрэатып паводзінаў.)

**3.** «Новы чалавек» знаходзіцца пад уплывам лева-лібэральных ідэй, лічыць усе формы легалізацыі збачэнства праяўленьнем свабоды і правам чалавечай асобы -- правам на ўсё.

Два гады таму я размаўляў з адным пажылым амэрыканскім беларусам пра разбуральныя працэсы і руйнаваньне маральных асноў у грамадзтве ЗША. А ў канцы ён мне раптам кажа: "Ведаеш, я не хацеў бы жыць у такім сьвеце. Мы пражылі вайну, рускі генацыд, але тады варта было жыць. Цяпер – не." Мяне ўразілі гэтыя словы. Наколькі тут дакладнае адчуваньне сутнасьці таго, што насоўваецца на чалавецтва.

**Аднаполае дэвіянцтва – гэта ёсьць тупіковая збочанасьць асобы, якая ўзьнікае як гарманальна-псіхічнае адхіленьне і пашыраецца як распуста і вычварэнства.** Калі б на гэтым акрэсьленьні ўсё спынялася (як было да гэтага часу), то такая зьява не стала б цяпер праблемай чалавечага грамадзтва.

Але самае галоўнае ў тым, што **дэвіянцтва злучылася зь левалібэральнай палітыкай, ператварылася ў ідэалогію, якая грунтуецца на нянавісьці і нецярпімасьці да ўсяго астатняга сьвету, які дэвіянты хацелі б перарабіць па свайму вобразу, сутнасьці і падабенству.** Пра гэта шмат хто зь іх кажа і адкрыта піша, і дзеля таго робіць сваю справу.

Тым часам пад уплывам лібэралістычнай і ўвогуле лявацкай (разбуральнай) прапаганды людзі трацяць здаровы сэнс і рэалістычнае ўспрыняцьце жыцьця. Здаецца, што рэальна ўжо вельмі мала людзей бачаць рэчаіснасьць такой, якой яна ёсьць на самай справе. Тэлебачаньне, левалібэральная інфармацыя і прапаганда перакруцілі мазгі і засланілі розум. Некаторыя наіўна думаюць, што збачэнства – гэта, маўляў, лакальная зьява, дэвіянтаў няшмат, вялікай шкоды ня робяць, хай яны там сабе жывуць як хочуць.

Каб жа гэта было так! Такія «талеранты-дабракі» не ўсьведамляюць зьместу левалібэральнай ідэалогіі дэвіянтаў, паводле якой ім мала толькі «жыць як хочуць», ім трэба каб усе жылі так як яны.

Адбылася ін'екцыя сьлепаты, і для многіх людзей сьвятло патухла. Па сутнасьці поглядаў і мадэлі паводзінаў дэвіянцкі левалібэралізм найбліжэй стаіць да мэнтальнасьці і дачыненьняў камунізму. Гэтая зьва, якая вышла з падпольля, ужо ня будзе стаяць на месцы. І найгорай тое, што ініцыятыва, агрэсія, атакуючая тактыка і ўлада ў дэмакратыі тут поўнасьцю на баку дэвіянтаў. Хрысьціянскі і ўвесь нармальны сьвет амаль не супраціўляецца наступу, не праяўляе ні энэргіі, ні ініцыятывы. Ён пасіўна супрацьстаіць і вяла рэагуе там, дзе ўжо патрэбна аб'яднаньне высілкаў у барацьбе са злом.

Беларусь вось ужо 20 гадоў церпіць страшэнны, ганебны, цяжкі час сваёй гісторыі. Цягнецца антыбеларускі рэжым і акупацыйная палітыка. Зьнішчаюць нацыянальную культуру, мову, гісторыю, кнігі і друк, школу і розум, усё чыстае, добрае, беларускае, сьветлае. Поўны параліч волі да супраціўленьня. Дзесяць тысяч паломнікаў перад касьцёлам у Будславе. Падышлі «міліцаі» рэжыму (ОМОН) схапілі і арыштавалі двух беларусаў, бацьку і сына, за надпіс «Беларусь» на іхным адзеньні. І ніхто не ўступіўся. Вось у гэтым сутнасьць. Дзесяць тысяч. І ніхто не ўступіўся.

І цяпер можа ўзьнікнуць пытаньне. Навошта аўтар удзяляе столькі ўвагі нейкім гомасэксуалістам, якія існуюць там недзе ў сьвеце, калі ў нас цяпер такая нацыянальная бяда, іншыя праблемы, іншыя задачы. Пытаньне рытарычнае і адказ вядомы. Тое цёмнае, што пачынаецца ў сьвеце, можа прыйсьці і да нас. І мы, беларусы, павінны разумець і ведаць тое, што можа прыйсці, каб не прыйшло.

Чым раней пачнецца асэнсаванае міжнароднае змаганьне зь левалібэральным сатанізмам і яго дэвіянцтвам, тым большы шанец, што будзе спынены вялікі развал і цывілізацыйнае разбурэньне хрысьціянскага грамадзтва. Тут цяжкая задача і вялікая справа, дзеля якой варта ахвяравацца розумам і часам, бо лёс кожнай нацыі, кожнай культуры, кожнага народа залежны ад выніку гэтага сусьветнага змаганьня.

*30 чэрвеня, 5 ліпеня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# ПАДЗЕІ І ІХ ЗНАЧЭНЬНЕ

*(Выступ на ліпеньскім 2015 г. Сойме КХП -- БНФ і БНФ "Адраджэньне")*

5 ліпеня адбыўся рэфэрэндум у Грэцыі (2015 г.). Грэкі адкінулі кабальныя прапановы Эўразьвязу і агалілі тым самым шкілет узаемадачыненьняў Грэцыі з Эўрапейскім Зьвязам. Тут вельмі вымоўная ілюстрацыя да таго, чаму нельга Беларусі, пры любой зьмене ўлады, уступаць у Эўразьвяз. Цяпер усё стала бачна нават для тых, хто не хацеў таго бачыць, думаючы любымі шляхамі адкарастацца ад Расеі і ўскочыць з агня ў полымя. Гэтым панікёрам мы зноў можам сказаць: пакіньце і забудзіце гэтыя рабскія, несамастойныя думкі. Забудзьце назаўсёды і вызваляйцеся ад халопства, ад гэтага каланіяльнага думаньня куды вамісьці – ў які лагер, на ўсход ці на захад! Продкі пераварочваюцца ў трунах! Беларусь павінна быць вольнай, моцнай і незалежнай краінай, адраджаць сябе і адзінства Ўсходная Эўропы ад Балтыкі да Чорнага мора. Такі наш шлях.

Эўразьвяз ня ёсьць вольным саюзам вольных краін. Па сваім характары ён блізкі да СССР і рэальна абмяжоўвае суверэнітэт краінаў-удзельнікаў гэтага саюзу. У аснове Эўразьвязу эканамічныя інтарэсы адной моцнай краіны -- Нямеччыны, якая штучна падтрымлівае вось Бэрлін-Парыж (мы якраз зьяўляемся сьведкамі дэфармацыі восі Бэрлін-Парыж-Масква, створанай пры Пуціне). Прытым немцы падтрымліваюць Парыж не таму, што Францыя таксама эканамічна магутная, а зыходзячы, перш за ўсё, з палітычных меркаваньняў. Французы (як выказаўся адзін крытыкан) -- гэта вядомыя бузацёры, франдзёры і разбуральнікі ў Эўропе з неадэкватным уяўленьнем пра сваю веліч. Разумным немцам з такімі лепш дружыць, спакайней будзе. У гэтым жарце нешта ёсьць..

Важныя пытаньні ў Эўразьвязе найперш абмяркоўваюць, прапаноўваюць і вырашаюць -- Бэрлін і Парыж, Мэркель і Оланд. Яны і ў Маскву едуць раптоўна з Пуціным дамаўляцца ад імя Эўразьвязу, і наконт лёсу Грэцыі яны ўдваіх спатыкаюцца, і накоонт Украіны. Польшча, Італія, Швэцыя і т. п. нават ня ведаюць, пра што яны там дамаўляюцца. Тут рэальнае адлюстраваньне сілы і становішча ў Эўразьвязе. І галоўнае -- на гэтым будуецца, з гэтага зыходзіць эканамічная палітыка ў дачыненьні да іншых удзельнікаў Уніі.

Новаўступіўшым краінам выстаўляюцца патрабаваньні аб перабудове іхняй эканомікі і гаспадаркі ў дапасаваньні да Эўразьвязу. Рэальна -- чытай да эканомікі Нямеччыны і часткова Францыі. Дзеля гэтага новым краінам даюць вялікія шчодрыя крэдыты.

Разгледзем станоўчы варыянт. Дапусьцім, нейкай краіне перабудова ўдалася. Жыцьцё палепшылася, набудавалі дарог і мастоў, пайшлі замежныя інвэстыцыі, як грыбы, растуць банкі і супэрмаркеты, рэстараны і крамы. Жыхары едуць на замежныя курорты і г. д.

Толькі раптам мясцовыя пачынаюць заўважаць, што ўсе банкі -- з замежным капіталам (нямецкім ды французкім), што ўсе гіпер-супер крамы -- замежныя (французкія), што рэсурсы апынуліся ў замежных лапах, нацыянальная індустрыя зьнікла (маўляў, учарашні дзень, састарэла), але на вуліцах коціцца ўсё замежнае. Мясцоваму чалавеку добра, але нешта трывожна. Гэтае "трывожна" ёсьць неўсьвядомленае адчуваньне залежнасьці, несамастойнасьці, абмежаванасьці рашэньняў і адсутнасьці выхаду (якога пакуль што ніхто не шукае). Адбываецца пакрокавая страта суверэнітэту.

Усьлед за банкамі і супермаркетамі ідуць і плывуць у краіну эўралібэральныя антыкаштоўнасьці, якія брусэльскія чыноўнікі патрабуюць (і ўрады абавязаныя) укараняць і насаджаць на нацыянальнай тэрыторыі. Гэта забарона сьмяротнага

пакараньня для ўсіх відаў, маштабаў і ўзроўняў злачынстваў, гэта вольныя аборты без абмежаваньняў, гэта свабода і прапаганда ўсіх збачэнстваў і вычварэнстваў гомасэксуалізму ды прызнаньне іх за норму і г. д. -- цэлы ланцуг маральнай дэградацыі чалавека. Усе зьмены, перамены аплочваюцца, супраціўленьне -- падкупляецца і г. д.

Свабода чалавека -- гэта ёсьць ідэалёгія Эўразьвязу. Усе гэта прымаюць. Тут усе пагаджаюцца. Тым часам свабода дрэні і ўраўненьне зла з дабром ёсьць асаблівасьцю такой ідэалёгіі. У канцовым выпадку асаблівае і асобнае становіцца галоўным і грамадства, якое прыняло такую лявацкую ідэалёгію, будзе зашмаргнута.

На прыкладзе Грэцыі мы бачым іншы выпадак. Перабудова пад Эўразьвяз (пад немцаў) не атрымалася. Грэкам па патрабаваньні брусэльскай бюракратыі прышлося зьнішчыць свае традыцыйныя промыслы і вытворчасьці, сваю традыцыйную гаспадарку. А на новае яны не перайшлі, бо гэта ня іхняе, непрывычнае, не сваё (ды-й «халявы» звалілася шмат). Велізарныя крэдыты, прызначаныя на ломку старой грэцкай гаспадаркі, выклікалі велізарную карупцыю і велізарную "халяву" (дармаўшчыну). Грэкі разбурылі, паводле эўрапатрабаваньняў, усё сваё старое, але ня здолелі зрабіць новае. І цяпер аказваецца, што нават да драхмы вярнуцца адразу яны ня змогуць, бо калі пераходзілі на эўра, тады зьнішчылі ўсе машыны, што друкавалі і выраблялі драхму.

Нямецкі палітычны абывацель вінаваціць ва ўсім грэкаў, маўляў, халяўшчыкі, і самы вінаватыя. Але крытэр тут вельмі просты. Да Эўразьвязу і да эўра грэкі жылі нядрэнна, і хлеба ў немцаў не прасілі. А вось у Эўразьвязе ні немцам не ўдалося аблапошыць грэкаў, ні грэкам за нямецкія крэдыты не ўдалося падняцца. Словам, грэчаская трагедыя. Але для нас, беларусаў, гэта папераджальная карцінка ня йсьці, куды ня трэба.

* * *

Асаблівая падзея, да якой сьвет адносіцца лёгкадумна, адбылася ў Амэрыцы 26 чэрвеня. Вярхоўны Суд ЗША легалізаваў аднаполае сужыцельства дэвіянтаў у якасьці "гомасэксуальнага шлюбу". Сужыцельства збачэнцаў дзеля неадэкватных палавых дачыненьняў будзе лічыцца законным інстытутам шлюбу з усімі сацыяльнымі выплатамі і адносінамі.

Як і параза Ірляндыі, гэтая падзея ў ЗША зьяўляецца знакавай у агульнай сістэме маральнага ўпадку былой хрысьціянскай цывілізацыі. Падзеі ў ЗША звычайна адгукаюцца ва ўсім сьвеце. Агрэсія і пашырэньне дэвіянтаў, інтэграцыя іх у грамадзтва і ва ўладу ёсьць цывілізацыйна небясьпечным працэсам, які рухаецца ў канцовым разьвіцьці ў бок біафашызму.

На Захадзе ў выніку дэзінфармацыі і лібэральнай прапаганды людзі не адчуваюць небясьпекі гэтай зьявы для грамадзтва, сям'і, дзяцей і асобы, паводзяць сябе інфантыльна і лёгкадумна, хаця дэвіянты адкрыта не хаваюць сваіх разбуральных намераў.

Для таго, каб убачыць пачварнасьць і зразумець сэнс зьявы (які ляжыць на паверхні), трэба, відаць, быць чалавекам Усходняй Эўропы. Гледзячы на тое, што адбываецца на Захадзе, ня выключана, што Беларусь (асабліва дэмакратычная Беларусь) сутыкнецца з імпартам брыдоты ў нашу краіну. Тут адных заканадаўчых рашэньняў і жорсткіх захадаў будзе недастаткова. Вычварэнцтва і легалізацыя дэвіянцтва ёсьць часткай агрэсіўнай ідэалёгіі ўсіх левых рухаў, партыяў і арганізацыяў, часткай разбуральнай дактрыны супраць хрысьціянскага сьвету. Таму з гэтай зьявай неабходна запачаткаваць антывычварэнцкае грамадзкае змаганьне, спачатку на лакальным, а потым на міжнародным узроўні.

Нядаўнія падзеі ў Кіеве (парад гомасэксуалістаў), у Польшчы, у краінах Эўразьвязу выразна ілюструюць, што ў ідэалягічнага гомасэксуаліста няма айчыны. На першым месцы ў іх гомасэксуальны інтэрас, які праяўляецца як інтэрас інтэрнацыянальны.

Перш за ўсё па ўсім сьвеце павінна быць забаронена прапаганда, рэкляма і інфармармацыя гомасэксуалізма, педафіліі, парнаграфіі. Прапаганда такіх зьяваў ёсьць грубым парушэньнем правоў чалавека (права на здаровы натуральны вобраз жыцьця), павінна разглядацца як замах на прыроду чалавека, карацца па закону і прыроўнівацца да прапаганды фашызму, камунізму, вайны, расавай, нацыянальнай і палавой нянавісьці.

*12 ліпеня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# МЯЖА ЧАЛАВЕЦТВА

*(Выступ на жнівеньскім 2015 г. Сойме КХП -- БНФ і БНФ Адраджэньне)*

Мы бачым, што рэжым бессаромна разыгрывае бяздарны фарс з сваёй чарговай незаконнай выбарчай кампаніі. Усё адбудзецца як заўсёды. Актыўнае грамадзтва ўжо ў значнай частцы сваёй зразумела бяссэнсоўнасьць ўдзелу ў выбарчых спэктаклях і галасаваць ня пойдзе. Будуць праблемы для рэжыму ўжо нават з масавым прывозам і загонам выбаршчыкаў на ўчасткі. Сёлета рэжым настолькі расперазаны ў сваіх дзеяньнях, што можа хоць на галаву стаць – магымы любы маразм. Але гэта ўжо ня пройдзе незаўважным.

Праблемы пачнуцца пасьля спэктакля. Яны ў эканамічнай і фінансавай сфэры. На мой погляд сытуацыю можна спрагназаваць і быць падрыхтаванымі да падзей. Мяркую, што мы вернемся да гэтай тэмы ў верасьні, калі становішча набудзе больш канкрэтныя абрысы і, магчыма, скрануцца зь мёртвай кропкі ваенныя падзеі ва Украіне.

Цяпер, пакуль часовае зацішша, нам (нашаму грамадзтву) вельмі важна асэнсаваць стандартныя палажэньні цяперашніх дачыненьняў у сьвеце, якія шмат дзе даўно вядомыя, але актуальнасьць вымагае іх паўтарэньня. І для беларускага, і для Заходняга грамадзтва актуальна цяпер асэнсаваць ролю Расеі ў сусьветнай палітыцы і асабліва ў дачыненьні да Беларусі. Гістарычная Беларуска-Расейская вайна, якая доўжыцца стагоддзі, перайшла (як лічаць некаторыя нашыя ворагі) у стадыю дабіваньня Беларусі. Мы так ня лічым, хоць разумеем цяжкі стан у які загнана наша краіна. Змаганьне працягваецца. І у канечным выніку разгромлена будзе Масква. Цяпер трэба больш уважліва прыглядзецца да Расеі. Ворага трэба вывучыць, ведаць і адэкватна яго ўспрымаць.

* * *

Нядаўна, размаўляючы пра варварства і ілжу рускіх у тэлебачаньні супраць украінцаў, я пачуў пытаньне: „А ці зьяўляюцца рускія людзьмі?“ Пытаньне грэблівае, злое і выглядае неадэкватным па сутнасьці.

Гісторыя, аднак, засьведчыла ня раз, што людзі (прытым у вялікіх маштабах) часам у пэўных абставінах губляюць важныя чалавечыя якасьці, якбы «перастаюць быць людзьмі». Гэта адлюстравана ў мове, у лексіцы, тэрміналогіі, юрыспрудэнцыі. У мове зьяўляюцца словы кшталту „нелюдзь“, у ацэначных вызначэньнях – тэрміны, кшталту „антычалавечнасьць“, „антычалавечыя дзеяньні“, „антычалавечая ідэалогія“, „антычалавечыя погляды“, у юрыспрыдэнцыі – „злачынствы супроць чалавецтва“, у псіхалёгіі здаўна вядомыя такія зьявы, як „мізантропія“, „чалавеканенавісьніцтва“.

Такое разыходжаньне адбываецца з прычыны living розлнай (дакладней, падвойнай) шкалы ацэнак чалавецтва – анталагічнай і гуманістычнай. Па анталагічнай шкале навукова вызначаецца ўсё аб'ектыўнае, што вылучае чалавецтва ў прыродзе. Па гуманістычнай шкале адзначаецца ўсё фэнамэнальнае, тое, што ўзвышае чалавецтва над астатнім жывым сьветам і лучыць яго ў фэнамэнальным існаваньні.

Галоўная якасьць гэтай шкалы чалавецтва – тварэньне дабра, спрыяньне чалавека чалавеку і чалавецтву. Тут існуюць табу, якія не дазваляюць перакрочыць сфэру дабра і пераступіць мяжу зла.

Катэгорыя чалавечнасьці базуецца якраз на такой шкале, і менавіта разбурэньне гэтай шкалы прыводзіць да ацэнкі такіх разбуральных дзеяньняў як нялюдзкіх, антылюдзкіх і злачынных супраць чалавецтва, а асобы, якія гэтак робяць, набываюць ацэнку „нелюдзяў“.

У рэлігійнай традыцыі культуры „нелюдзь“ як асоба разбураючая чалавека і носьбіт зла набывае пэрсаніфікацыю абсалютнага зла ў вобразах „бесаў“, „троляў“, „дэманаў“ і т. п. – гэта значыць такой эманацыі, якая па прыродзе сваёй антычалавечая і запачаткавана ня можа рабіць дабра, а толькі зло.

Тут адзначу, што рэлігійнае адчуваньне (і створаныя на гэтай аснове сістэмы рэлігіі) таксама адносяцца да фэнамэнальнай шкалы чалавецтва.

Чалавечая гісторыя змаганьня – гэта ня толькі барацьба інтарэсаў ды барацьба за выжываньне. Тут вельмі шмат таго, што мы называем змаганьнем дабра са злом (гэта значыць чалавечага і антычалавечага), якое ўвасабляецца ў розных сістэмах і дачыненьнях.

Найбольш маштабна яно выявілася не ў так званых «рэлігійных войнах», а якраз у антырэлігійных, антыхрысьціянскіх сістэмах, бо зло адмаўляе ўвогуле фэнамэнальнае вымярэньне чалавецтва. Выразныя прыклады такой зьявы ў апошнім стагоддзі – гэта рускі камунізм і нямецкі фашызм (тут, па сутнасьці, адна прырода, толькі ў розным выяўленьні).

Дзеля лепшага разуменьня гэтага прыкладу мушу нагадаць пра аспэкт пакаяньня. Прызнаньне сваіх памылак, сваёй віны і пакаяньне за зробленае зло – гэта ёсьць якасьць, характэрная для хрысьціянскай асобы чалавека. У некаторых сістэмах рэлігіі такіх паводзінаў не існуе, іх нават не разумеюць (дакладней, разумеюць па-свойму). Прызнаньне сваіх памылак і сваёй віны, пакаяньне і, адпаведна, дараваньне іншым іхных памылак і віны, практычна, поўнасьцю адсутнічала (і адсутнічае) у варварскіх грамадзтвах і цалкам не існуе ў мэнтальнасьці варварскай асобы, тым больш у катэгорыі «нелюдзі».

Тое, што нямецкае грамадзтва пакаялася за злачынствы фашызму, узяло на сябе грахі нацызму, панесла пакараньне і расплацілася за пакуты людзей, сьведчыць пра яго хрысьціянскую якасьць, высокі цывілізацыйны ўзровень і высокасьць фэнамэнальнай шкалы чалавечнасьці.

Зьвяртаючыся да рускага камунізму, мы бачым цалкам адваротную карціну. Тут адбылося частковае раскрыцьцё злачынстваў супраць народаў і супраць чалавецтва і частковае асуджэньне гэтых злачынстваў, але цалкам адсутнічае пакаяньне ў зробленым і рахунак сумленьня.

Там (у Расеі) татальна, масава гэтага нават не разумеюць, і ні адна руская асоба ніколі не паставіла пытаньня пакаяньня перад рускім грамадзтвам. Наадварот, са злачынстваў супраць чалавецтва зроблены прадмет грамадзкага (імпэрскага) гонару і славы.

І цалкам заканамерна, што тое, што ў выніку пакаяньня адкінулі немцы (ідэалёгію нацызма) цяпер пераняло рускае імпэрскае грамадзтва начале з Пуціным. Тут выявілася гнасеаалагічная прырода нялюдзкай зьявы. Гэта ўсё ёсьць факт і рэальнасьць, якую ўсе назіраюць.

Дык як жа да гэтай рэальнасьці адносіцца? І галоўнае: як яе ацэньваць? Як ацэньваць расейскую гісторыю і расейскае грамадзтва?

Калі пацікавіцца, што думаюць пра расейцаў цывілізаваныя народы, то выяўляецца жахлівая карціна рэйгенаўскага «скопішча зла». Нядаўна ў Кітаі зьявілася брашура «Працінаючы поглядам Расею», дзе сабраныя выказваньні кітайцаў пра рускіх. Аб адсутнасьці паняцьця пакаяньня ў рускіх тут сказана вельмі пранікліва і характэрна. Цытата: **«Сораму ў рускіх людзей няма ні кроплі. Самае дзіўнае заключаецца ў тым, што яны ніколі не адчуваюць сораму, што б яны не рабілі. Наадварот яны заўсёды знаходзяць усяму апраўданьне».**

І далей: **«Маральнасьць у рускіх – перакулена: з аднаго боку – усходняя пакорнасьць і рабалюбства, з другога – распуснасьць і распеазанасьць; грубасьць яны прымаюць за геройства, расхлябанасьць і хаос – за дэмакратыю, лакейства – за цноту».**

Зьвернемся да рускай імпэрскай літаратуры. Зазначу, што гэтая літаратура ёсьць люстраное выяўленьне нялюдзкага грамадзтва. Яе асаблівасьць – амбівалентнасьць вобразаў і выказваньняў. Антычалавечнасьць як сутнасьць гэтай літаратуры можа адначасна суседнічаць з крытыкай антычалавечнасьці.

Цытата з «Хаджы Мурата» Л. Талстога:

**"Садо, у которого останавливался Хаджи-Мурат, уходил с семьей в горы, когда русские подходили к аулу. Вернувшись в свой аул, Садо нашел свою саклю разрушенной: крыша была провалена, и дверь и столбы галерейки сожжены, и внутренность огажена. Сын же его, тот красивый, с блестящими глазами мальчик, который восторженно смотрел на Хаджи-Мурата, был привезен мертвым к мечети на покрытой буркой лошади. Он был проткнут штыком в спину. Благообразная женщина, служившая, во время его посещения, Хаджи-Мурату, теперь, в разорванной на груди рубахе, открывавшей ее старые, обвисшие груди, с распущенными волосами, стояла над сыном и царапала себе в кровь лицо и не переставая выла. Садо с киркой и лопатой ушел с родными копать могилу сыну. Старик дед сидел у стены развалившейся сакли и, строгая палочку, тупо смотрел перед собой. Он только что вернулся с своего пчельника. Бывшие там два стожка сена были сожжены; были поломаны и обожжены посаженные стариком и выхоженные абрикосовые и вишневые деревья и, главное, сожжены все ульи с пчелами. Вой женщин слышался во всех домах и на площади, куда были привезены еще два тела. Малые дети ревели вместе с матерями. Ревела и голодная скотина, которой нечего было дать. Взрослые дети не играли, а испуганными глазами смотрели на старших.**

**Фонтан был загажен, очевидно нарочно, так что воды нельзя было брать из него. Так же была загажена и мечеть, и мулла с муталимами очищал ее.**

**Старики хозяева собрались на площади и, сидя на корточках, обсуждали свое положение. О ненависти к русским никто и не говорил. Чувство, которое испытывали все чеченцы от мала до велика, было сильнее ненависти. Это была не ненависть, а непризнание этих русских собак людьми и такое отвращение, гадливость и недоумение перед нелепой жестокостью этих существ, что желание истребления их, как желание истребления крыс, ядовитых пауков и волков, было таким же естественным чувством, как чувство самосохранения."**

Падмечана дакладна. Рускія варвары, якія праводзілі генацыд паўночнакаўказкіх народаў на працягу амаль усяго 19-га стагоддзя, зрабілі столькі дзікага, чорнага, подлага і антылюдзкага зла гэтым народам, што для іх лічыць рускіх людзьмі было немагчыма. Яны не засьведчылі нічога чалавечага. На пачатку 19-га стагоддзя чачэнцаў і адыгаў (чаркесаў) было больш за два мільёны чалавек. Чаркескае насельніцтва рускія мэтанакіравана і пасьлядоўна вымардавалі амаль усё. Рэшткі разьбегліся па ўсім сьвеце. Чачэнскае насельніцтва пабілі і замардавалі больш за палову. З двух мільёнаў чачэнскіх людзей засталося ў другой палове 19-га стагоддзя каля паўмільёна.

Тое ж назіраецца і ў 1990-х гг., калі пуцінская арда душыла незалежнасьць Ічкерыі. З амаль мільённага насельніцтва Ічкерыі рускія забілі 250 тысяч чалавек плюс пяцьдзесят тысячаў чачэнскіх дзяцей. Прытым рускія генэралы (імёны вядомыя), што тварылі гэтае злачынства супраць чалавецтва, патрабавалі больш сродкаў і войска, каб забіць увесь чачэнскі народ, і такім чынам вырашыць праблему Чачэніі. Ім не ўдалося тое зрабіць не таму, што яны адступіліся, а таму, што гераічныя чачэнцы сваім супрацівам не далі ім тое выканаць.

Пачынаючы ад Чынгіз-хана і ад утварэньня – Арды – Паўночнага ўлуса ў Вялікай Мангольскай імпэрыі (і потым на яго месцы -- Маскоўскай дзяржавы), задачы і мэтады маскоўцаў не зьмяніліся: нападаць, рабаваць, забіваць, выразаць усіх, засяляць выразаныя землі крымінальным насельніцтвам і далей ізноў нападаць, забіваць, рабаваць, ілгаць.

Маскоўская Арда (Расея) зь яе комплексам нелюдзяў была (і застаецца) пастаяннай пагрозай для цывілізацыі і культуры. Былі забітыя і перасталі існаваць цэлыя народы (прытым ня ў выніку вайны, а з прычыны генацыду). Рэшткі некаторых народаў, напрыклад, абхазаў, чачэнцаў, інгушоў, часткова крымскіх татараў, у канцы

20-га стагоддзя пачалі аднаўляцца, адраджаць сваё насельніцтва і культуру. Цяпер іх існаваньню зноў пагражае Расея.

Для ўсходне-эўрапейскай цывілізацыі першым разбуральным ударам у сярэднявеччы з боку Маскоўскай арды было цалкавітае вымардаваньне і зьнішчэньне ў 15-м стагоддзі абшырнай Ноўгарадзкай дзяржавы і ноўгарадзкага народа (ноўгарадзкай вечавай дэмакратыі). Гэта была, дарэчы, вельмі самабытная культура, па мове і традыцыях блізкая да беларускай (канкрэтна, да полацка-крывіцкага арыяла).

У 17-м стагоддзі ў Маскоўскай Ардзе быў распрацаваны грандыёзны і авантурны план разбурэньня і зьнішчэньня Вялікага Княства Літоўскага. Згодна гэтага плана, беларускія гарады мусілі быць разбураныя, а ўсё насельніцтва забітае. Вайну маскоўцы прайгралі, але пасьпелі выбіць 51 адсотак насельніцтва старажытнай Беларусі (ВКЛ) і, фактычна, забраць пад свой уплыў у 1654 годзе Украіну. Гэта быў фатальны ўдар па Вялікім Княстве, які ня ўкладваецца ў рацыянальнае абгрунтаваньне тагачаснай вайны. У Эўропе такіх войнаў не вялося (ваявалі арміі і войска з войскам, а не з цывільным насельніцтвам).

Далейшая гісторыя 18-га, 19-га, 20-га стагоддзяў – гэта быў працяг той варварскай вайны рознымі мэтадамі, але звышзадача заставалася адна і тая ж – разбурэньне і вынішчэньне беларускай культуры ВКЛ і вымардаваньне насельніцтва (адпаведна, фальсіфікацыя гісторыі, хлусьня, імпэрская прапаганда, культываваньне заганаў і нянавісьці і галоўнае – разбурэньне культуры і русіфікацыя краіны).

Калі ўзяць аловак і спакойна падсумаваць, што было з намі пасьля таго, як Расея і немцы падзялілі Рэч Паспалітую і Вялікае Княства Літоўскае, то можна толькі зьдзівіцца, як мы ўвогуле яшчэ існуем, і нават адрадзілі нашу дзяржаўную незалежнасьць. Мільёны беларусаў былі забітыя, зьнішчыны, вывезеныя ў Сібір, у стэп, згноеныя ў расейскіх турмах. Прытым зьнішчалі лепшых адукаваных, таленавітых, працавітых людзей.

Пасьлядоўна, мэтанакіравана ва ўсіх галінах жыцьця, ва ўсіх закаморках існаваньня, ад побыту да культуры, ад эканомікі да палітыкі, з боку Расеі ішлі ў Беларусь нянавісьць, гразь, непрызнаньне, ахайваньне, абплёўваньне і вынішчэньне ўсяго, літаральна ўсяго беларускага. Рэпрэсіі чаргаваліся з генацыдам, рабаўніцтва з адабраньнем маёмасьці, фальсіфікацыя, хлусьня ішлі разам з русіфікацыяй, імпэрскія звычкі – разам з п'янствам і матам, і паўсюдна бесканечная ілжа, агромністая, пачварная, руская. Адтуль не прабілася нічога сьветлага, нічога паважанага, ні калівa (бо яго там не было, а калі дзе ўзьнікала, то яны самы яго зьнішчалі).

Там не было ніколі ні сказана ні напісана, нават не прашаптана ніводнага слова пашаны да іншых народаў, не прабілася ніводнага голасу. А калі хто сумняваўся, яго там ізноў жа ліквідавалі. Успрыняцьце ўсяго сьвету як варожага асяроддзя, імкненьне абгадзіць, абпляваць усе народы і ўвесь сьвет і разбурыць яго вынікае з расейскай мэнтальнасьці і цяпер выразна праявілася ў дачыненьні да Украінскай рэвалюцыі і свабоды. Рускія ва ўвесь голас наперабой крычаць (і друк, і палітыкі, і прадстаўнікі ўлады і, практычна, увесь расейскі соцыум), што вялікі ўкраінскі народ – гэта не народ, што ўкраінцы ня людзі, а фашысты, што ўкраінскай нацыі няма, што ўкраінскай мовы не існуе (гэтак жа яны ілгалі раней і лгуць цяпер пра Беларусь, пасьлядоўна зьневажаючы нашу нацыю, культуру і наш народ, і ня толькі наш народ – усе народы вакол Расеі, асабліва суседзяў). Яны не называюць іх нават сваімі імёнамі, але прыдуманымі зьняважлівымі клічкамі.

Людзі, якія жывуць пад уплывам выхаваньня, і якім цяжка ўкладваецца ў галаве рэчаіснасьць, могуць запярэчыць, што цяперашняе шавіністычнае вар'яцтва і неадэкватнасьць расейскага грамадзтва ўзбуджана рускім тэлебачаньнем, ілжывай гёбэльсаўскага кшталту прапагандай, дзікай інфармацыйнай агрэсіяй. Маўляў, рускае грамадзтва стала ахвярай ілжывай рускай інфармацыйнай палітыкі, а на самой справе грамадзтва нармальнае.

Гэта прымітыўная і кардынальная памылка, абумоўленая фальшывай пазыцыяй, альбо, магчыма, выклікана жаданьнем самазаспакаеньня, замест таго, каб

глянуць праўдзе ў вочы. Такой жа дзікай нянавісьцю, неадэкватнасьцю і фанатычнай верай ў хлусьню расейскае грамадзтва характарызавалася заўсёды на працягу ўсёй сваёй гісторыі. Гісторыкі, што чытаюць гістарычныя тэксты, крыніцы і дакумэнты тое добра ведаюць.

З пазьнейшых сьведчаньняў раіў бы пачытаць вядомую, выдадзеную ў 1923 годзе, дасьледчыцкую працу Карнея Чукоўскага **«Поэт и палач»** (раздзелы 3-6). Чытач убачыць, што цяперашняя ўспышка рускага імпэрскага ідыятызму, падтрыманая тэлебачаньнем, нават ня йдзе ў параўнаньне з тым «патрыятычным сіфілісам» (выказваньне А. Герцана), які буяў у Расеі ў XIX стагоддзі, за часы задушэньня паўстаньня Кастуся Каліноўскага ў Беларусі і замахаў на цара Аляксандра 2-га. Той шабаш таксама не ўкладваўся ў галаву іншым людзям. Але ў Расеі варварскае дзікунства было ўвесь час.

Дык што гэта такое ёсьць за «Чудище обло, озорно, огромно, стозевно

и лаяй»? Што гэта за «скопішча зла» і як да яго адносіцца? Яны самы часам бачаць сваю антычалавечую пачварнасьць, называюць яе, але ня робяць з гэтага абсалютна ніякіх пазытыўных высноў.

Некалькі рускіх самакрытычных цытатаў:

**М. Ю. Лермонтов: "Прощай, немытая Россия, Страна рабов, страна господ..."**

**А. С. Пушкин: "О, как груб наш русский язык!"**

**Л. Н. Толстой: "Московия -- Русь тайги, монгольская, дикая, звериная."**

**Ф. М. Достоевский: "Народ, который блуждает по Европе и ищет, что можно разрушить, уничтожить только ради развлечения."**

**М. Н. Булгаков: "Не народ, а скотина, хам, дикая орда душегубов и злодеев."**

**А. М. Горький: "Наиважнейшею приметою удачи русского народа есть его садистская жестокость."**

**С. Т. Аксаков: "О, как тяжко жить в России, в этом смердючем центре физического и морального разврата, подлости, вранья и злодейства."**

**И. С. Тургенев: "Русский есть наибольший и наинаглейший лгун во всем свете."**

**И. С. Шмелев: "Народ, что ненавидит волю, обожает рабство, любит цепи на своих руках и ногах, грязный физически и морально, готовый в любой момент угнетать все."**

Тут ізноў падкрэсьлю: чытаючы гэтыя выказваньні, трэба разумець, што напісаны яны ў большасьці махровымі імпэрцамі, прадстаўнікамі рускай імпэрскай літаратуры. У іншым месцы яны пішуць адваротнае і пра Расею, якую „умом нельзя понять», і пра «русский язык», які нібыта «великий и могучий», і пра «русский народ», які нібыта некалі «всем покажет» і т. п.

Увогуле, амбівалентнасьць – гэта прыкмета нізкай сьвядомасьці і не свабоднага, залежнага духа. Гэта прыкмета закамуфляванага ў падсьвядомасьці нявольніцтва, яго адначасна пратэстнага і сэрвільнага выяўленьня. Літаратура, якая абслугоўвала імпэрыю, выяўляла часта нездаволенасьць імпэрскім насельніцтвам, якое было занадта «скотским» і не адпавядала высокім імпэрскім імкненьням імпэрскіх пісьменьнікаў (якія яны выклалі ў іншых выказваньнях). Сутнасьць, аднак, была тая, якая адпавядала рэчаіснасьці – рускаму імпэрскаму разбою, агрэсіі, жорсткасьці, хамству і дзікасьці імпэрскага насельніцтва Маскоўшчыны.

Рэальнасьць, гісторыя і сукупнасьць фактаў рэальнасьці паказваюць цалкам адназначна, што ў фэнамэнальным сэнсе і ў фэнамэнальнай сістэме каардынат узьнікае пытаньне: а ці ёсьць рускія цывілізаванымі людзьмі? Рэчаіснасьць сьведчыць, што тут тыповыя мэнтальныя варвары з псіхічным імпэратывам стэпавых вандроўнікаў, з навукова-тэхнічным прагрэсам, ракетамі ў космасе і атамнай зброяй ў загашніку. У фэнамэнальным сэнсе яны цалкам выпадаюць з хрысьціянскай цывілізацыі чалавецтва.

Чачэнцы і іншыя народы, якіх рускія вынішчалі на сьмерць, убачылі і зразумелі тое даўно, і адносіны да рускіх як да нелюдзяў склаліся самы сабой. Тут, вядома, трэба

ўлічваць яшчэ чыньнік ісламу, рэлігійнае ўспрыняцьце «няверных», але чыньнік генацыду ёсьць вызначальны і рэакцыя адэкватная.

У хрысьціянскай Беларусі, насельніцтва якой маскоўцы мэтанакіравана вынішчалі сотні гадоў і якая цяпер, страціўшы нават сталіцу, скурчылася, як шагрэневая скура, да шасьці вобласьцяў і дзесяці мільёнаў насельніцтва, у гэтай хрысьціянскай Беларусі ўсьведамленьне сьмяртэльнай пагрозы прыходзіць павольна, альбо не прыходзіць зусім з-за неадэкватнай ацэнкі небясьпекі. І ў гэтым хаваецца нацыянальная сьмерць.

Неадэкватнасьць ацэнак Расеі, расейцаў і рускай агрэсіі характэрна ня толькі для Беларусі, але ў рознай ступені і для Украіны, і для Грузіі, і для Малдовы, і асабліва для Заходняга сьвету. Тут ніхто да канца не разумее, зь якой зьявай яны маюць справу, бо па фармальных, зьнешніх прыкметах рускія – нібы эўрапейцы, а па сутнасьці -- варвары і хрысьціянскаму чалавеку тое цяжка ўсьвядоміць. І тым ня менш, зразумець неабходна («понять умом»), каб пазьбегнуць паразы ў аднабаковай вайне супраць чалавецтва, якая доўжыцца сотні гадоў.

*9 жніўня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# СПЭКТАКЛІ ПАГАРЭЛАГА ТЭАТРА

У суботу 22-га жніўня адразу пасьля завяршэньня збору подпісаў за кандыдытаў у прэзыдэнты антыбеларускі рэжым выпусьціў з турмы палітычных вязьняў.

Падзея мае два вымярэньні: гуманістычны і палітычны. У гуманістычным сэнсе гэта радасная падзея. Скончыліся пакуты людзей, пасаджаных у вастрог за перакананьні ў якасьці закладнікаў палітычнага гандлю. Віншую іх на свабодзе.

У палітычным сэнсе -- гэта цынічная і беспардонная маніпуляцыя рэжыму Лукашэнкі, разьлічаная на прызнаньне легітымнасьці выбараў (ці хаця б частковай легітымнасьці) з боку Захаду. Цынікі на Захадзе добра ведаюць, што гэта маніпуляцыя, але ім трэба (на тое яны і цынікі) любы повад, каб прызнаць рэжымныя выбары. Яны зробяць выгляд, што вераць чэсна і бесперашкодна ў "шчырасьць " дзеяньняў антыбеларускага рэжыму.

За дваццаць гадоў ўнутраннай акупацыі яно ўжо стала казкай пра белага бычка. Пры цяперашнім узроўні аббалваньваньня "падданых" і двулічнасьці заходніх палітыкаў гэтая казка можа стаць вечным дзеяньнем, пэрпэтуум мобіле нізкай палітыкі.

Галоўная небясьпека для беларусаў ад такога палітычнага "пэрпэтуум мобіле" пры вечным наступаньні на граблі -- поўнае вынішчэньне рэжымам рэшткаў беларускай культуры і свабоды пры поўным маўчаньні і згодзе Захаду.

* * *

Становішча злавеснае якраз гатоўнасьцю некаторых палітычных структур на Захадзе ўспрыняць любую падставу і імітацыю антыбеларускага рэжыму дзеля рэалізацыі сваёй (як яны часам думаюць) рэалістычнай палітыкі. У перакладзе на нармальнае ўспрыняцьце -- палітыкі ашуканства беларускага народа.

Імітацыя выбараў правальваецца. Бальшыня актыўных нерэжымных сілаў адмовіліся ўдзельнічаць у розыгрышы. Рэжым, ужо не хаваючыся, кінуў у гэты спэктакль свае асноўныя агентурныя "апазыцыйныя" сілы -- "Говправду" і псэўда-БНФ Янукевіча, а ролю для псэўдаапанэнта і спарынг-партнёра Лукашэнкі даручылі нікому невядомай спадарыні зь незьнікальным адбіткам асаблівасьцяў ворганаў бясьпекі ў паводзінах і на абліччы

У канцовым выпадку спадарыні зь "ніадкуль" выдзеляць 3-4 адсоткі галасоў, чаго будзе дастаткова, каб яе запрашалі на Захад як кандыдата ў прэзыдэнты ад "апазыцыі", дзе спадарыня будзе расказваць як важна для "апазыцыі" прыняць статус-кво ўлады, чырвона-зялёны сьцяг, гэрб "капусту", расейскую мову ў дзяржаве і г. д. Якраз дзеля такой "апазыцыйнай" ролі і рыхтуюць спэцслужбы гэтую "мадам". Прытым менавіта "мадам", а не "мсьё", бо "мсьё" ўжо там, на Захадзе, надакучылі.

Такі прымітыўны спэктакль пагарэлага тэатра мы зноў назіраем тут ужо дваццаць гадоў для публікі з разьзяўленым ротам і каштоўнасьцямі дэмакратыі ў пячонках. У тым ліку і ў жанры палітвязьняў.

*23 жніўня 2015 г.* *Зянон Пазьняк*

# ГЭТА СЛОВА САКРАЛЬНАЕ.

## АБ НЕКАТОРЫХ АСПЭКТАХ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ І ПАРАЗЫ РУСКАЙ ПАЛІТЫКІ

Даўно заўважана, што нашы адвечныя ворагі на ўсходзе вельмі нэрвова ўспрымаюць усялякае ўспамінаньне пра нашу гістарычную дзяржаўную спадчыну – Вялікае Княства Літоўскае. Некаторыя маскоўцы ведаюць, што рэальна яны нічога ня могуць супрацьпаставіць усяму таму, што зьвязана з ВКЛ і Беларусяй.

Гісторыя Расеі пабудавана на міфалогіі, сьведама прыдуманай яшчэ рускім гісторыкам татарынам Карамзіным па заказу цара. Істотны аспэкт гэтай міфалогіі – адсяканьне Масквы ад гісторыі мангольскай Арды. Створаны міф, які гістарычна мусіў бы набліжаць Маскоўшчыну да Эўропы і падмацоўваць экспансію на Вільню, Кіеў, Полацак ды Смаленск. Міфалогія служыла расейцам дзеля апраўданьня агрэсіі. Але цяпер (калі адрадзіліся незалежныя Беларусь і Украіна) пачаўся крызіс рускай гістарычнай міфалогіі. У пэрспэктыве яе чакае поўны крах. Рэальная гісторыя Масквы-Арды будзе напісана беларусамі і ўкраінцамі, будучымі ўплывовымі краінамі Эўропы, новым цэнтрам усходне-эўрапейскай геапалітычнай сілы. Гісторыя рухаецца так, што маскоўскай імпэрыі на ўсходзе ўжо ня будзе.

У пачатку 90-х гадоў, працуючы ў Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета над новай беларускай Канстытуцыяй парляманцкай рэспублікі, мы, дэпутаты Народнага Фронту, прапанавалі адлюстраваць ў прэамбуле дзяржаўна-гістарычную пераемнасьць Беларусі ад Вялікага Княства Літоўскага. Гэтае сцьверджаньне мусіла б быць у Канстытуцыі Беларусі як падстава для гістарычных дасьледваньняў, асьветы і адукацыі пакаленьняў, а ў пэрспэктыве – дзеля дапаўненьня поўнага назову краіны і сувязі з гісторыяй ВКЛ. Гэта ўсё было рэальна і магчыма, як і геапалітычнае адраджэньне Ўсходняй Эўропы ад Балтыкі да Чорнага мора (БЧС – Балта-Чарнаморская Супольнасьць).

Ворагі Беларусі першыя зразумелі, наколькі гэта моцная і небясьпечная для іх ідэя. У пачатку 90-х камуністы і каланіяльная намэнклатура ў Вярхоўным Савеце дружна завалілі нашу прэамбулу Канстытуцыі, а Заходняя Эўропа потым, як і ў XVIII стагоддзі, здрадзіла Беларусі і Украіне і падтрымала Расею. Цяпер Эўропа пажынае плады сваёй эгаістычнай палітыкі і, дарэчы, нават у гэтых абставінах, перад аблічам адкрытай агрэсіі Расеі супраць Украіны і пагрозы вялікай вайны, ня ў стане зрабіць адэкватныя высновы. Палітыка эгаістычнага прагматызму не мяняецца

Дэзінфармацыйная руская гёбельсаўшчына, што ваюе супраць Украіны і Беларусі, ніколі не прапускае геапалітычна-гістарычны аспэкт нашай краіны. Прапаганда, аднак, тут у расейцаў не на вышыні, адбываецца на нізкім узроўні. Спрабуюць выкарыстаць некаторых беларускіх маргіналаў, што па-юнацку мараць пра адраджэньне Вялікай Літвы. Тролінг заўсёды пазнаецца элемэнтарна: ён замешаны на нянавісьці да Беларусі. Маўляў, назву “Беларусь” накінула руская царыца, трэба ад яе адмовіцца, бо Беларусь – гэта Літва, а беларусаў не існуе, гэта выдумка і фантом, беларусы – гэта ліцьвіны. Усё трэба мяняць, адкінуць, каб адчапіцца ад рускіх, ад граматычнага кораня “рус” і г. д. Пра беларусаў выказваюцца непаважліва. Такія разважаньні, вядома, невялікая знаходка для рускай прапагады, але Лубянка не гнушаецца нічым. Па нянавісьці да Беларусі тутжа і выяўляюцца гэтыя агентурныя «патрыёты».

Некалі ў 90-х, ужо ў незалежнай Беларусі, Масква пачала раскручваць такога Шэляговіча, які заяўляў, што палешукі – гэта асобны народ “яцьвягі”, якія некалі непадалёк жылі, што Палесьсе гэта “Етвызь” (і слова прыдумалі), якое павінна мець дзяржаўную аўтаномію. Пачалі нават шукаць яцьвяжскую мову, нават нейкі масковец-вучоны тады аб’явіўся (праўда, потым недзе зьнік), спэц па “яцьвягах” і палешуках. У Шэляговіча зьявіліся маскоўскія грошы, часопіс заснаваў. Потым грошы скончыліся, і

Етвызь зьнікла. Шэляговіч перасяліўся ў Расею. Але галоўная прычына ў тым, што Масква знайшла тады Лукашэнку, і патрэба ў яцьвягах адпала.

Гэты, па нацыянальнасьці быў «калгасьнікам» і сказаў Маскве так, як ёй было трэба: “Мы русские со знаком качества”. Да слова сказаць, ён пабываў ужо і напалову ўкраінцам, і беларусам, і крыху габрэем, і “братам” азэрбайджанцаў (і невядома яшчэ, што ён казаў кітайцам). А тут на падходзе “крывічы”, “радзімічы”, “драўляне”, “дрыгвічы”, “паляне”, “дулебы” і ўсялякая «дзяволтва».

Разумнаму чалавеку над гэтакай іроніяй можна пасьмяяцца, але ня надта. Руская лубянская гёбельсаўшчына здольная на ўсё, ня толькі на “ліцьвінаў” ды “яцьвягаў”, але і на “гудасаў”, і на “пэркунасаў”, і на “Магілёўскую рэспубліку”. Тут дадам (гэта не анэкдот), што некалькі гадоў таму Шэляговіч аб'явіўся ў Калінінградзе і там таксама знайшоў «Етвызь». Цяпер ён называе зьніклых яцьвягаў Калінінградзкай вобласьці непасрэднымі прадстаўнікамі «русского мира» і заснавальнікамі старажытнай Русі. Разгортваецца «дзейнасьць». Скора Крэмль пакажа гэтым немцам дзе быў «русскій мир» ў Прусіі. Мала не здасца. Такія кадры працуюць.

Адзін з прыёмаў цяперашняй рускай фашыстоўскай прапаганды і дэзінфармацыйнай вайны – унесьці “замутненьне” ў сьвядомасьць самаідэнтыфікацыі на ніжэйшых, менш адукаванах пластах грамадзтва ў Беларусі і ва Украіне і стварыць тут часовыя сацыяльныя апоры для акупацыі і гібрыднай вайны. Любая нагода, любая ідэя, нават самая абсурдная (а па правілах гёбельсаўшчыны, тым лепш, калі абсурдная) становіцца прыдатнай для рускай дэзінфармацыі, калі яна накіравана на падважваньне і раскол беларускай і ўкраінскай нацыянальнай ідэнтычнасьці.

Беларускае нацыянальнае Адраджэньне сінтэзавала і абагуліла ў сабе усю нашу дзяржаўную гісторыю, пачынаючы ад Полацка, абапіралася на існаваньне Вялікага Княства Літоўскага, зь якога выводзіла гістарычнае абгрунтаваньне беларускай Незалежнасьці. Тэрмін «Беларусь» («беларускі») як тэрмін нацыянальна-этнічны і новы **стаў унівэрсальным для будучай дзяржавы,** якая базавалася на адзінстве мовы, культуры і гісторыі. Тэрмін «Літва» («ліцьвінскі») ў якасьці этнічнага не распаўсюдзіўся ў нацыянальным значэньні і, адпаведна, ня выліўся ў нацыянальную ідэю. Ліцьвінства – гэтая ідэя гістарычная і павінна быць адлюстравана ў поўнай назве беларускай дзяржавы. Гэта рашэньне будучыні, будучых разумных беларусаў.

**Гістарычным фактам ёсьць тое, што існуе беларуская нацыя і незалежная дзяржава «Беларусь» (Рэспубліка Беларусь), якая ўзьнікла ў выніку зьяўленьня Беларускай нацыянальнай ідэі.**

Па вялікаму кошту, у вольнай Беларусі, пры разумнай палітыцы будзе ўсё магчыма: і сэнсоўнае пашырэньне назвы краіны (адлюстраваньне гістарызму), і гістарычная пераемнасьць культуры, і нават вяртаньне Вялікага Князя і Караля ў дзяржаўна-палітычную структуру краіны, калі б ў гэтым, напрыклад, была патрэба дзеля нашых нацыянальных інтарэсаў (прыклады такія ў цяперашняй Эўропе ёсьць).

Наша краіна зь вялікім мінулым. Гістарычна наша дзяржава ёсьць Вялікае Княства Літоўскае -- Беларусь. І такое ў пэрспэктыве, зноў паўтаруся, мусіла б быць адлюстравана ў назве дзяржавы. Пра гэта мне даводзілася часта пісаць яшчэ дзесяць гадоў таму. Але каб скампрамэтаваць любую добрую думку, любую няпростую справу, дастаткова часам выпусьціць наперад пару маргіналаў і загадаць Богу маліцца. Яны лоб разаб’юць.

Для тых, хто любіць агульна паразважаць пра этнагенэз і авантуры, заўважу, што Расея гэта ж не Аўстрыйская імпэрыя Габсбургаў, якая ня тое што не прыгнятала захопленыя народы, але падтрымлівала іхную культуру, рэлігію, храмы і народнае існаваньне. Тым часам Расея – гэта была турма народаў, што вырасла з мангольскай Арды, скопішча зла, жорсткая, бесчалавечная азіятчына, дзе не паважалі ні чалавека, ні народ, дзе зьневажалі, глумілі і нішчылі ўсіх і ўсё, нават самых сябе.

Для нашага гістарычнага народа вельмі важна і ганарова, што ва ўмовах асаблівай расейскай акупацыі, татальнай забароны ўсяго, непрызнаньня і вынішчэньня

народных вярхоў, ён стварыў нацыю, аб'яднаўся пад новым імем, якое імпэрыя не змагла зьнішчыць. Наша народная дзея ў тых умовах – гэта ня проста моцна. Гэта магутна. Беларусь – гэта добра гучыць. Уся наша нацыянальная гнасеалогія, увесь Полацкі пэрыяд лагічна і этымалагічна зразумелыя кожнаму, ёсьць нашыя. Скарына – наш. І ўсё, што напісана ў старажытнасьці па-старабалгарску і старабеларуску "рускімі літарамі", – наша. І Каложа – наша, і летапісы нашыя, бо яны нашыя, і Полацкая крывіцкая Русь – наша, а не іншая, і Мэтрыка Вялікага Княства Літоўскага ў мове беларускай – вялікая наша, і Вялікае наша Княства Літоўскае ёсьць наша, бо "наша" (гэтак жа і пісалася), бо там мова, пісьмо, культура, князі, зямля, народ і палітыка – наша. Мы – Вільня – былі кансалідуючым цэнтрам усходняга славянства, які ўсю гісторыю хацела зьнішчыць Масква. Усё тое што было гістарычна злучыла сабой Беларусь.

Падкрэсьлю яшчэ раз – істотна, што гэта быў новы нацыянальна-этнічны **безальтэрнатыўны** тэрмін. Менавіта таму ў ім была закладзена агульная кансалідацыйная база для новай нацыянальнай гісторыі народа. Пэўная абстрактнасьць гэтага тэрміну спрыяла лаяльнаму успрыняцьцю новай назвы. За ёй нікога нельга было ўбачыць акрамя сябе (пры адпаведных высілках, вядома). У 1840 годзе маскаўцы зразумелі, які можа быць паварот, спахапіліся і забаранілі назву Беларусь. Але ўжо было позна, **ідэя (нацыянальная ідэя)** выбілася на паверхню і стала жыць.

У атручаным чэраве сьмяртэльнай імпэрыі, дзе ўсё мусіла згінуць і памерці, наш народ стварыў новую беларускую нацыю. Беларуская нацыя стварыла новую вялікую беларускую літаратуру ў беларускай мове і нацыянальны тэатр, нарадзіла сотні пісьменьнікаў і паэтаў. Іх забівалі, нішчылі літаратуру, расстрэльвалі ў Курапатах. Мільёны беларусаў забілі, выселілі, згнаілі ў ГУЛАГу, палілі беларускія кнігі, узрывалі храмы, абкрадалі культуру, абзывалі беларусаў хамамі, быдлам, "врагами" ды мужыкамі, абувалі ў лапці нашу веліч, забаранялі мову, плявалі ў душу... І нічога не дапамагло варварам пад скіпетрам імпэрыі. Беларусь жыве і будзе жыць. Вось што такое Беларусь! **Яна гістарычна адбылася.** Гэтае слова сакральнае для кожнага беларуса, як і Літва, як Вялікае Княства Літоўскае. **Трэба берагчы тое, што здабылі, тое, што ёсьць і шанаваць тое, што было.**

У змаганьні зь Літвой-Беларусяй маскоўцы гістарычна перахітрылі самы сябе. Мы памятаем і Грунвальд, і Воршу. Мы маем цяпер незалежную беларускую дзяржаву -- насьледніцу Вялікага Княства Літоўскага. Засталася толькі справа за народнай уладай вольнага народа, які вырастае. І тады менавіта гэты народ загоніць апошні цьвік у труну праклятай усходняй імпэрыі. Так будзе, бо так мусіць быць. Уся нашая гісторыя існаваньня складвалася без альтэрнатывы і, фактычна, бяз выбару: альбо мы, альбо яны, альбо здрада – альбо барацьба. Цяпер надыходзіць наш час. Ён ужо пад дзьвярыма.

Але, як заўсёды, шмат што, і галоўнае, і амаль усё -- залежыць ад нас самых.

*31 сакавіка; 13 верасьня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# СЛАВА ВОРШЫ!

Сёньня спаўняецца 501 год з таго часу, калі нашыя слаўныя рыцыры Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы разьбілі і зьнішчылі пад Воршай захопніцкае войска маскоўцаў. Гэтая перамога была важнай тады для нашай краіны і нашай гісторыі, бо яна на доўгі час спыніла пэрманэнтную агрэсію маскоўскай арды. Гэтая бітва ўвайшла ў гісторыю Эўропы і ў падручнікі па ваеннай справе як прыклад вайсковага майстэрства, бо беларускае войска было меншае амаль ў тры разы за маскоўскае, але ўшчэнт разьбіла васьмітысячнае збройнае скопішча маскоўцаў. Палова агрэсараў была зьнішчана, рэшта трапіла ў палон.

У наш цяжкі час, калі маскоўскі агрэсар напаў на Ўкраіну і рыхтуе захоп Беларусі, мы, беларусы, павінны асабліва памятаць подзьвіг нашых продкаў пад Воршай 8-га верасьня1514-га года. Нам і цяпер прыдзецца перамагаць маскоўскую авантуру меншымі сіламі. Таму рыхтуймася да абароны і барацьбы. Змагацца супраць агрэсара мы мусім такім жа чынам, як і агрэсар супраць нас. Гэта значыць, сілаю зброі.

Цяпер сыны Беларусі змагаюцца сумесна з украінцамі супраць маскоўскага войска і маскоўскай агрэсіі ў захопленым Данбасе. Хто здольны супраціўляцца ворагам і хто разумее чаму трэба супраціўляцца, хай едзе і дапамагае ўкраінцам, нягледзячы на цяжкасьці і абыякавасьць іхнай карумпаванай бюракратыі. Там павінна ваваца і нашае беларускае войска, якое зьмяце антыбеларускі акупацыйны рэжым разам зь яго ўблюдкамі, зь ягонай "апазыцыяй" і халуямі.

Недалёкі той час, калі ў шэрагах украінскіх змагароў зьявіцца свой Касьцюшка, які аб'яднае войска, ліквідуе карупцыйна-алігархічны рэжым і выкіне маскоўскіх акупантаў з украінскай зямлі

Перамога пад Воршай у 1514 годзе -- гэта была перамога нашай агульнай дзяржавы над агульным ворагам. Цяпер наша Ворша наперадзе. Будучыня Беларусі і Ўкраіны будзе добрай і сьветлай і ворагі чалавецтва лягуць у руінах.

Жыве Беларусь! Слава Украіне! Вечная слава палеглым за нашу і вашу свабоду -- беларускім героям Міхасю Жызьнеўскаму і Алесю Чаркашыну!

*8 верасьня 2015 г.* *Зянон Пазьняк.*

# КАБ ЛІКВІДАВАЦЬ АНТЫБЕЛАРУСКІ РЭЖЫМ, ТРЭБА НАЗАПАСІЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ СІЛУ

Асаблівасьцю палітыкі агрэсіўнай расейскай дзяржавы зьяўляецца ілжывая прапаганда, інфармацыйная вайна і выкарыстаньне маніпуляцыйных тэхналёгіяў. Гэтая апошняя зьява небясьпечная для грамадзтва тым, што, выкарыстоўваючы найперш расейскае тэлебачаньне, непрыяцелі Беларусі імкнуцца ашукаць беларускіх людзей. І гэта ім часта ўдаецца. Тады людзі незаўважаюць, прымяненьня супраць іх варожых маніпуляцыйных тэхналёгіяў. Асабліва такое назіраецца ў час выбарчых кампаніяў.

Выбарчая кампанія 2010 года ў Беларусі характэрызавалася, напрыклад, грандыёзнай правакацыяй у Менску. Спантанную дэманстрацыю пратэсту ачолілі функцыянеры спэцслужбаў, правакатары і безадказныя асобы, якія ноччу павялі масы людзей да Дому Ураду, дзе і была падрыхтавана правакацыя. Галоўнымі выканаўцамі гэтых маніпуляцый, на якіх ляжыць адказнасьць за наступствы правакацыі ёсьць два чалавекі: Андрэй Саньнікаў і Мікола Статкевіч.

Правакацыя мела катастрафічныя вынікі для Беларусі. Практычна, была зьнішчана і разгромлена ўся актыўная беларуская грамадзянская супольнасьць.

Непрыяцелі Беларусі з-за ўсходняй мяжы маюць доўгі вопыт палітычных маніпуляцыяў, дыверсіяў і закалатаў супраць народаў. Там заўсёды рыхтуюць шматварыянтны план на выпадак непрадбачанай зьмены абставінаў. Прыкметы такога падыходу мы назіраем і цяпер.

Асноўны тэхналягічны накірунак, які выкарыстоўвае рэжым у цяперашняй выбарчай кампаніі, -- гэта імітацыя пэрсанальнай альтэрнатывы Лукашэнку на выбарах. Ролю псэўдаальтэрнатывы выконвае Тацьцяна Караткевіч. Мэта гэтай тэхналёгіі -- з'агітаваць людзей на галасаваньне, завабіць іх на выбарчыя ўчасткі і не дапусьціць байкоту галасаваньня, бо ў выпадку байкоту і непрыходу людзей на галасаваньне фальсіфікацыя выбараў стане ўсім відаць. Рэжым баіцца нагляднага сьведчаньня пра ягонае ашуканцтва.

Адначасна рыхтуецца варыянт непрадбачаных абставінаў -- дзеяньні, кшталту 2010 года, якія могуць стаць чарговай правакацыяй на вынішчэньне нацыянальных сілаў і грамадзянскай супольнасьці, якая крыху акрыяла пасьля разгрому 2010 года. З гэтай мэтай выгадна для рэжыму выпушчаны з турмы Мікола Статкевіч, сьцягнуты ў Менск Вячаслаў Сіўчык, і нават Алесь Міхалевіч ды іншыя майстры завесьці любую справу ў тупік. Гэтым яны ўжо пачалі займацца.

Тым часам маскоўская агентура пастаянна прагаворваецца (нават на лукашысцкім тэлебачаньні), што асноўныя падзеі пачнуцца пасьля выбараў. Такое можа быць блефам, які сьведчыць аднак пра намеры.

Беларусам, якія ўжо набылі сумны вопыт ад папярэдніх правакацыяў (асабліва ў 2006 і 2010 гадах, ад "пляскањня ў ладкі" і т. п.) варта быць абачлівымі ў адносінах з пэўнымі асобамі і з пэўнымі дзеяньнямі. Неабходна ствараць і зьберагаць сілы для барацьбы, але не пускаць іх пад разгром у самым зародку. З акупацыйным рэжымам змагаюцца сілай, а не дэманстрацыяй пазыцыі.

Зьбірайма сілы. Беражэм людзей. Пашыраем нацыянальныя ідэі вольнай Беларусі. Не паддаемся на правакацыі. Падрыхтаваўшы сілу і грунт, наблізім патрэбны час.

*4 кастрычніка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# НІХТО -- НА ФАЛЬШЫВЫЯ ВЫБАРЫ!

Бальшыня беларусаў даўно зразумела, што выбараў няма, бо вынікі галасаваньня вызначаюцца не галасамі, а пратаколамі адміністрацыі, якія спускаюць у выбарчыя камісіі для выкананьня. На такіх фальшывых псэўдавыбарах выйграе толькі кандыдат рэжыму. Ніхто іншы у прынцыпе выйграць ня можа.

Ісьці галасаваць на ашуканцкія псэўдавыбары ганебна і нельга, бо гэта значыць падтрымліваць ашуканцтва з боку рэжыму. Ня трэба галасаваць! Мусяць быць пустыя выбарчыя ўчасткі. Тады, калі рэжым сфальсіфікуе галасаваньне, усім будзе відаць яго ашуканцтва, бо галасаваньня не было.

Вось гэтага байкоту найбольш баіцца рэжым і Масква, якая за ім стаіць. Масква зацікаўлена, каб сьвет прызнаў фальшывыя выбары ў Беларусі за сапраўдныя. Гэтым самым маскоўцы легалізавалі б лукашысцкі рэжым і дапамаглі б сабе ўзаконіць незаконныя дамовы з рэжымам Лукашэнкі і планы анэксіі Беларусі.

У Маскве прыдумалі мэтад супраць байкоту выбараў. Гэты спосаб прадугледжвае стварэньне ілюзіі пэрсанальнай альтэрнатывы Лукашэнку з мэтай зацягнуць лёгкаверных людзей, якія расчараваліся ў рэжыме, на выбарчыя ўчасткі.

Калі на ранейшых выбарах не было рэальнай пагрозы байкоту, тады рэжым дапускаў да галасаваньня мноства фіктыўных кандыдатаў ад псэўдаапазыцыі. Цяпер жа, акрамя двух дзяжурных праўладных дзівакоў (Гайдукевіча і Улаховіча), рэальна прысутнічае толькі адна асоба, якая нібыта супроцьстаіць Лукашэнку. Гэтая асоба -- нікому раней не вядомая Тацьцяна Караткевіч. Зь яе і лепяць псэўдаальтэрнатыву Лукашэнку, каб заахвоціць крытычна настроеных да рэжыму людзей прыйсьці на галасаваньне.

Гэтая кандыдат разумее сама і кажа ўсім, што выбары яна ня выйграе (бо выйграць фальшывыя выбары немагчыма). Але ў кожным выступе яна абяцае ўсяго нязбыўнага ўсім групам насельніцтва і шматкроць навязьліва і пастаянна запрашае людзей прыйсьці галасаваць за яе на выбарчыя ўчасткі. У гэтым і ёсьць асноўная роля Тацьцяны Караткевіч -- роля галоўнага зазывалы на галасаваньне, а значыць рэальна -- тут дзейнасьць на карысьць Лукашэнкі.

Усё тут разьлічана на простых людзей, якія хочуць пераменаў, на спадзяваньні, што людзі слаба разьбіраюцца ў тым, што адбываецца, і зь лепшымі намерамі пойдуць галасаваць ды ў дваццаты раз наступяць на адны і тыя ж граблі.

На фальшывае галасаваньне нельга хадзіць. Нельга слухаць зазывалаў рэжыму. Беларусам трэба жыць сваім розумам. Нельга дапамагаць узаконьваць нелегальны рэжым, які незаконна кіруе ўжо 21 год і загнаў краіну ў палітычны і эканамічны тупік.

НІХТО -- на фальшывыя выбары.

*4 кастрычніка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ШТО ТАКОЕ БАЙКОТ

У каторы раз мушу сказаць, наколькі важна адпаведна і рэалістычна ацэньваць сістэму і непрыяцеля, супраць якога ідзе грамадзкае змаганьне.

Аўтарытарная антыдэмакратычная сістэма стварае антыдэмакратычнае заканадаўства і рэпрэсуе людзей, як правіла, пасьля факту парушэньня гэтага антынароднага заканадаўства.

Аўтарытарная акупацыйная сістэма (такая, якая сфармавана ў Беларусі ў выніку ўнутранай прамаскоўскай акупацыі) стварае сваё акупацыйнае заканадаўства і рэпрэсуе людзей прэвентыўна перад магчымым парушэньнем гэтага звыродлівага заканадаўства. Гэта ёсьць характэрная акупацыйная палітыка, стан вайны супраць беларускай нацыі і яе насельніцтва, бо рэпрэсуюць нязгодных, якія яшчэ нават не парушылі акупацыйныя законы сістэмы.

Такое становішча (калі супраць палітычных апанэнтаў ніякія законы ня маюць значэньня і не прымаюцца рэжымам пад увагу) вымагае адпаведных спосабаў барацьбы з сістэмай, якія дазваляюць захоўваць і пашыраць нацыянальную, дэмакратычную і інтэлектуальную сілу народа, зьберагчы людзей ад рэпрэсіяў. Такім спосабам, прапанаваным і ўведзеным ў дзеяньне нашай народнай партыяй Народнага Фронту, зьяўляецца БАЙКОТ.

Байкот -- гэта няўдзел у рэжымных мерапрыемствах і дзеяньнях акупацыйнай улады, пачынаючы ад фальшывых выбараў і канчаючы афіцыйнымі сьвятамі і рознымі кампаніямі, ініцыятывамі ды зборкамі. Байкот рэжыму -- гэта перш за ўсё стварэньне альтэрнатыўнай, паралельнай, незалежнай ад улады міжлюдзкай сістэмы беларускага існаваньня. Тут і альтэрнатыўнае нацыянальнае навучаньне дзяцей, і супольнасьць беларускіх сем'яў, і альтэрнатыўная навука, пратэстнае мастацтва, салідарная праца, рэлігія, і нават сістэма абслугі і спажываньня -- цэлы пласт беларускага жыцьця, які самакіроўна можа разьвівацца, байкатуючы афіцыйны рэжым і яго палітыку. Ідэалёгіяй байкоту зьяўляецца беларускае нацыянальнае асьветніцтва людзей, якое разьвіваецца насуперак антыбеларускай палітыцы ўлады.

Супраць палітыкі байкоту, (якую ад пачатку стагоддзя дэкляравала наша народная партыя Народнага Фронту КХП -- БНФ) яра выступіў лукашысцкі рэжым, і асабліва яго псэўдаапазыцыя. Тым часам цяпер у сувязі з падтрымкай ідэі байкоту фальшывых выбараў у грамадзтве і ў сувязі са спыненьнем фінансаваньня псэўдаапазыцыі з Захаду і Усходу, яна раскалолася на дробныя кавалкі і ў бальшыні стала падтрымліваць байкот фальшывых выбараў.

У плане ацэнкі цяперашняга становішча тут факт станоўчы, але для псэўдаапазыцыі тымчасовы, бо байкот, палітыка байкоту -- гэта ня толькі байкот выбарчага фарса, але байкот усёй антыбеларускай сістэмы акупацыйнай улады. Гэта абавязковае пазытыўнае дзеяньне па стварэньні паралельнага нацыянальнага існаваньня, пашырэньні нацыянальнай асьветы і ўзаемадапамогі беларускіх людзей.

Жыве Беларусь! Слава Айчыне!

*4 кастрычніка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# АКТЫВІЗАЦЫЯ РЭАКЦЫІ

*(Выступ на лістападаўскім 2015 г. Сойме КХП-БНФ і БНФ “Адраджэньне”)*

Зноў пачаўся пэрыяд, калі ў нашым прыдушаным апатычным грамадзтве стала адчувацца неўсьвядомленае чаканьне пераменаў. Гэта зусім не азначае, што такія палітычныя перамены пачнуцца, бо ў краіне няма моцнай арганізаванай сілы, здольнай на салідарнае рушэньне. Але аб’ектыўна мусіла б зьявіцца запатрабаваньне. Гэтая магчымасьць павінна таксама ўлічвацца. Як на мой погляд, яна ўлічваецца найперш тымі, хто працягвае нашае нацыянальнае зьнішчэньне.

Ганебна, але ў палітычным балоце, якое стварыў акупацыйны рэжым разам з сваёй агентурнай апазыцыяй, зноў відаць імкненьне Масквы сфармаваць тут у нас сваю новую кіруемую квазіапазыцыю і выпрабоўваць свае падстаўныя альтэрнатывы.

Пакуль ідуць экспэрымэнты з правакатарамі і падсаднымі качкамі, мы павінны ведаць найперш тое – чыя гэта праца і для чаго яна робіцца. Дэкарацыі пацешныя, але Масква ніколі не гнушалася выкарыстоўваць такое ў сваіх авантурах. Іншая справа наколькі цяпер тое можа быць сур’ёзна? Мяркую, што гэта варыянт на непрадбачаныя абставіны, якія могуць узьнікнуць у выніку пагаршэньня эканамічнага стану грамадзтва.

Такое заўважыў не адзін я, але і іншыя людзі, і яны нават выказаліся публічна. Цікава тут тое, што калі б “непрадбачаныя абставіны” ўзьніклі, то Масква (згодна яе прыроды) захоча ўплываць на працэсы ў сваіх інтарэсах і магла б падтрымаць ужо не свайго “сукінага сына”, а свайго новага часовага стаўленьніка, каб рукамі беларусаў на хвалі пратэсту самым расправіцца з “сукіным сынам” і ўзьнесьці наверх новага прамаскоўскага дзеяча пад выглядам нібыта беларускай альтэрнатывы рэжыму (якога да таго ж падтрымае Захад). Такіх асобаў мы ўжо ад нядаўна бачым. Яны ўпарта сьвецяцца.

Таму я ўвесь час паўтараю, што гэтую агентурную псэўдаапазыцыю трэба будзе зносіць разам з рэжымам.

І цяпер чаго чакаць ад Захаду. Уся наша гісторыя і сучаснасьць паказваюць: акрамя падлянкі – нічога чакаць ня трэба. Дзейнічае жорсткае правіла – як толькі Захад ідзе на супрацоўніцтва з антыбеларускім рэжымам і сьведчыць сваю гатовасьць заплюшчыць вочы, рэжым адразу выкарыстоўвае момант і ўзмацняе ціск і разбурэньне беларускай культуры і каштоўнасьцяў нацыі. (Нядаўна нават зьнішчылі ўвесь наклад пасьмяротнай кнігі беларускага аўтара). Заходнія палітчыноўнікі тое ведаюць нават з заплюшчанымі вачыма. Але ўсё што робіцца творчым геніем беларускай нацыі, усё што зьяўляецца базавай каштоўнасьцю нашай нацыі – усё гэта ня ёсьць каштоўным для эўралібэралаў. Мы гэта ведаем. Таму яны будуць казаць пра дэмакратыю і пра некаторыя правы некаторых чалавекаў і адначасна гладзіць па шэрсьці Лукашэнку, азіраючыся на Маскву.

Тэракты ў Парыжы, якія адбыліся ў гэтую пятніцу (13 лістапада), нічога ня зьменяць, бо каб нешта зьмянілася, ім трэба прызнаць памылкай сваю палітыку адносна мігрантаў з Азіі і Афрыкі, а таксама двухаблічнасьць у дачыненьні да Украіны, што церпіць ад расейскай агрэсіі. Гэтага яны ня зробяць. Таму пуцінізм у націску на Эўропу пакуль што будзе выйграваць. Глядзіш, Масква яшчэ прылучыцца да «барацьбы з тэрарызмам» разам з Захадам, як некалі, зьнішчаючы вольную Чачэнію. А Захад можа тады з Расеі і санкцыі зьняць і пра Ўкраіну забыцца.

У сувязі з паваротам Эўразьвязу да Лукашэнкі ўзмацнілася ня толькі пазыцыя разбурэньня беларускіх каштоўнасьцяў нацыі і культуры, але і тэндэнцыя фальсіфікацыяў зьяваў, гісторыі і фактаў, устаноўка на татальнае замоўчваньне праўды.

Улічваючы абставіны, я хачу парушыць вельмі важную тэму выжываньня беларусаў. Акупацыйны рэжым абстаўляе вынішчэньне нашай нацыі так, каб беларус

не выжываў, каб ня змог бы выжыць у сваёй краіне і ўцякаў бы зь яе ратавацца ў іншыя краіны. Сродкі выжываньня зводзяцца да мінімуму. Пару гадоў таму (я пра гэта пісаў) была праведзена рэжымная апэрацыя з “афрыканскай сьвіной чумой”. Мэта апэрацыі – падрыў прыватнай сьвінагадоўлі і прыватнай гаспадаркі ў Беларусі. Беларус пры гэтым рэжыме не мае права на прыватнае валоданьне зямлёй. Зямля ва ўласнасьці рэжыма. І тым ня менш селянін выжываў, у значнай ступені дзякуючы сьвінагадоўлі. Пры савецкай акупацыі беларус яшчэ мог трымаць і адну карову. Цяпер пагалоўе кароў у вёсцы зьведзена да мінімуму. Моладзь зьязджае ўвесь час у гарады, пакідаючы на самоту хату бацькоў, альбо прадаючы яе за бясцэн каму-небудзь (найперш расейцам з РФ).

У апошні час у асяроддзі навапрыбылай гарадзкой эміграцыі зь вёсак, што аселі ў гарадах, зьявіліся сантымэнтальныя ноткі і настальгія па роднай пакінутай, запрададзенай альбо зглумленай бацькоўскай хаце. Гэта вельмі шчымлівае і моцнае пачуцьцё, здольнае апанаваць усю істоту. Але справа не ў сантымэнтах. Ня ўсе перад перасяленьнем у горад прадалі бацькаўшчыну іншым людзям, маскалям ды прыблудам. Шмат хто проста кінулі бацькавыя дамы стаяць без дагляду, не аформіўшы дакументы аб уласнасьці. Рэжымныя ўлады (асабліва, па маіх зьвестках, на Палесьсі) разглядаюць іх як “пакінутыя”, падганяюць экскаватар, капаюць яму, зсоўваюць булдоэерам дом у яму і засыпаюць. Дзялянку выкарыстоўваюць дзеля сваёй забудовы альбо прадаюць на цёмным рынку за цёмныя грошы (ізноў жа прыбышам альбо маскоўцам). Людзі, якія зьехалі і былі неразважнымі, цяпер разумеюць, што іх пазбавілі бацькаўшчыны. Ні зямлі, ні хаты яны больш ня маюць. Іхнія карэньні вырваныя. Тут запраграмаваная палітыка акупацыйнага рэжыму.

І цяпер аб несантымэнтальных рэчах. Канец рэжыму (а ён настане) можа быць не безбалесным. Верагодны і эканамічны абвал, і дэфолт, і іншае сацыяльнае ўстрасеньне. Тысячы людзей могуць апынуцца на вуліцах. Ня стане ня толькі працы, але ня будзе чаго есьці. Зьнікне ўсялякая пэрспэктыва выжыць у горадзе. І тады надзейным прыстанішчам можа стаць толькі бацькаўскі дом і той лапік зямлі вакол яго, куды можна вярнуцца, пачаць апрацоўваць гэты лапік зямлі, завесьці гаспадарку і выжыць у ліхалецьце разам з сям’ёй. Наша пакутная гісторыя тое ілюструе.

Ворагі чалавецтва прааналізавалі прычыны выжываньня беларуса і робяць усё, каб выбіць зямлю з-пад яго ног. Дастаткова нават павярхоўна глянуць на сацыяльна-эканамічную палітыку рэжыму ў дачыненьні да працы, да прыватнага гандлю, прадпраймальніцтва, забудовы, жывёлагадоўлі, выездаў за мяжу і т.п., каб убачыць абсурдную тэндэнцыю, накіраваную на шкоду людзям, якія вечна зьдзіўляюцца і вечна не разумеюць, што іх вынішчаюць на іхняй зямлі.

Высновай гэтых разваг будзе мой зварот да беларусаў, што пераехалі і пераяжджаюць у гарады. Не прадавайце сваю вясковую бацькаўшчыну! Беражыце бацькаўскі дом! Ён яшчэ можа стаць для вас прытулкам і паратункам у вашым жыцьці. Памятайма, тыя, хто прадалі матчыну мову, стварылі няшчасьце для ўсёй Беларусі. Тыя, хто прадаюць бацькаўскі дом, могуць кінуць сябе ў няволю.

Справа захопу нашай маёмасьці, нашай зямлі прыбышамі і маскоўцамі пашыраецца. Антыбеларускі рэжым, які ініцыяваў такі працэс, гэтаму пастаянна спрыяе, пасяляючы ўсё новых ворагаў і чужых людзей на зямлі Беларусі. Гэта адбываецца таксама ў рэчышчы маскоўскай палітыкі падрыхтоўкі тут новай гібрыднай вайны.

Мяркую, што беларусам-адраджэнцам трэба ўзяць гэта пытаньне ў палітычна-асьветніцкую распрацоўку, сабраць факты і прыклады акупацыйнай замены насельніцтва і захопу ўласнасьці. Трэба спыніць антынародны працэс. Патрабуецца праца рукамі. А ідэя ў нас адна – нацыянальна-культурнае і матэрыяльнае адраджэньне нацыі і абарона Беларусі.

*15.11.2015* Зянон ПАЗЬНЯК

# АНТЫБЕЛАРУСКІ РЭЖЫМ АРЫШТАВАЎ КНІГУ ПРА КУРАПАТЫ

У кастрычніку на Берасьцейскай мытні арыштавалі кнігу Зянона Пазьняка і Валеры Буйвала "Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял" і кнігу Зянона Пазьняка "Добрая Фатаграфія". Задэкляраваныя кнігі (2 экз.) адабралі ў спадара Аляксандра Чахольскага, адказнага сакратара Управы КХП -- БНФ, і накіравалі на рэжымную экспэртызу. Праз месяц спадар Чахольскі атрымлівае з Берасьцейскай мытні ліст на рускай мове наступнага зьместу:

"Направляю на Ваш адрес копию заявления Брестской таможни в суд Московского р-на г. Бреста о признании інформационной продукции -- книг "Добрая Фатаграфия" в количестве 2-х штук, "Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял" в количестве 2-х штук, экстрэмисцкими материалами.

Заместитель Начальника таможни
по правоохранительной работе И. Ю. Рудаков"

Гэты "дакумант эпохі" гучыць, як сказалі б маскоўцы, "пахлешчэ", чым "Скарына ў Піцеры". Кнігу, якая распавядае пра злачынствы супраць чалавецтва, зьдзейсненыя маскоўскімі тэрарыстамі-бальшавікамі, кнігу пра тысячы і мільёны забітых людзей, расстраляных вылюдкамі расейскага камунізму, гэтую кнігу нашчадкі злачынцаў задумалі абазваць «экстрэмісцкім матэр'ялам».

Антыбеларускія ўлады -- нашчадкі палітыкі савецкага НКВД -- імкнуцца забараніць для чытаньня кнігу пра сусьветна вядомыя Курапаты, у якой зьмешчаны знакаміты артыкул аўтара "Курапаты -- дарога сьмерці", надрукаваны ў 1988 годзе, які скалануў усю Беларусь і перакладзены на замежныя мовы. Тут зьмешчана таксама, раней выдадзеная (і на розных мовах) справаздача аўтара аб яго археалагічных раскопках Курапатаў у 1988 г., фатаграфіі рэштказ расстраляных людзей, малюнкі, рысункі, профілі раскопаў і інш.

Калі хто скажа, што "экспэртыза" мытні пра Курапаты -- гэта чарговая праява адсталасьці і дурноты хамскай ўлады, той скажа толькі палову праўды. Гэта ёсьць перш за ўсё праява акупацыйнай палітыкі антыбеларускага рэжыму па ліквідацыі беларускай культуры. Гэта тая антынацыянальная прамаскоўская палітыка, якая існуе ўвесь час і ўзмацняецца з кожным годам.

Кан'юнктура ў сьвеце складваецца цяпер такім чынам (адмена санкцыяў Эўразьвязу, улагоджваньне Лукашэнкі, вайна Эўропы з тэрарызмам гешэфты Парыжа з Пуціным і т. п.), што акупацыйны рэжым стаў дзейнічаць супраць беларусаў яшчэ больш нахабна, карыстаецца момантам, што Захад гатовы заплюшчыць вочы.

Прапрацоўваюцца магчымасьці, каб назваць экстрэмісцкай літаратурай беларускую клясыку, перш за ўсё творы Васіля Быкава, Алаізы Пашкевіч (Цёткі), Янкі Купалы, Якуба Коласа, Францішка Багушэвіча, Ларысы Геніюш.

Рэжымным ідыётам (а дакладней -- рускай агентуры ў сістэме рэжыму, кіруемай з Масквы) прыйшла ў галаву прыемная думка скарыстаць супраць беларускай культуры заходні перапалох і панічны эўрапейскі страх перад "экстрэмізмам". Галоўнае, каб было слоўца "экстрэмізм", якое яны сталі выкарыстоўваць як ярлык супраць зьяваў беларускай культуры, якую хацелі б зьнішчыць і забараніць. Гэта чарговы акупанцкі «хапальны» эўфемізм, кшталту "трацкізм" ці "нецэнзурна выражался".

У кагосьці можа ўзьнікнуць недаўменьне, а прычым тут да "экстрэмізма" эсэ пра сусьветную фатаграфію? А вось і вельмі нават прытым. Найперш кніга напісана па-беларуску. І другое -- прозьвішча аўтара ім не падабаецца.

Палітычныя высновы з гэтага зроблены даўно, яшчэ дваццаць гадоў таму. Ідзе вайна супраць Беларусі, штодзень і штогод, супраць нашай нацыі і свабоды. Ёсьць прычыны, чаму яна доўжыцца так шмат часу і зьбірае сваё разбуральнае жніва. Але варвары ня ведаюць і не разумеюць (бо ня дадзена) галоўнага -- перамога будзе за беларускім народам.

*24 лістапада 2015 г.* Зянон Пазьняк

# НЕ ПРАДАВАЙЦЕ БАЦЬКОЎСКІ ДОМ

***Зварот да вясковых людзей, што пераехалі жыць у горад)***

Ворагі Беларусі прааналізавалі прычыны выжываньня беларуса і робяць так, каб выбіць зямлю з-пад яго ног. Дастаткова нават павярхоўна глянуць на сацыяльна-эканамічную палітыку антыбеларускага рэжыму ў дачыненьні да працы, да прыватнага гандлю, прадпраймальніцтва, забудовы, жывёлагадоўлі, выездаў за мяжу і т.п., каб убачыць абсурдную тэндэнцыю, накіраваную на шкоду людзям, якія вечна зьдзіўляюцца і вечна не разумеюць таго, што іх вынішчаюць на іхняй зямлі.

Высновай гэтых разваг будзе мой зварот да беларусаў, што пераехалі і пераяжджаюць у гарады. Не прадавайце сваю вясковую бацькаўшчыну! Беражыце бацькаўскі дом! Ён яшчэ можа стаць для вас прытулкам і паратункам у вашым жыцьці. Памятайма, тыя, хто прадалі матчыну мову, стварылі няшчасьце для ўсёй Беларусі. Тыя, хто прадаюць бацькаўскі дом, могуць кінуць сябе ў няволю.

Справа захопу нашай маёмасьці, нашай зямлі прыбышамі і маскоўцамі пашыраецца. Антыбеларускі рэжым, які ініцыяваў такі працэс, гэтаму пастаянна спрыяе, пасяляючы ўсё новых ворагаў і чужых людзей на зямлі Беларусі. Гэта адбываецца таксама ў рэчышчы маскоўскай палітыкі падрыхтоўкі тут новай гібрыднай вайны.

Не аддавайма радзіму ў чужыя рукі. Шануем месца сваё на зямлі. Беражэм дом бацькоў. Глядзім у будучыню.

Канец рэжыму (а ён настане) можа быць не безбалесным. Верагодны і эканамічны абвал, і дэфолт, і іншае сацыяльнае ўстрасеньне. Для працоўных людзей будзе цяжка існаваць у горадзе. І тады прыстанішчам для некаторых беларусаў можа стаць бацькаўскі дом у вёсцы, куды можна вярнуцца, і выжыць у ліхалецьце разам з сям’ёй. Наша пакутная гісторыя тое ілюструе.

Але гэта толькі магчымы і часовы цэнар. Галоўнае ж тое, што пасьля ліквідацыі рэжыму ўжо ў вольнай Беларусі ўзьнікнуць новыя добрыя ўмовы для чалавека. Адбудзецца прыватызацыя зямлі і кожны грамадзянін Беларусі будзе яе мець ва ўласнасьці. Узьнікне рынак зямлі і тыя, хто захавалі сваю маёмасьць і дом і захочуць вярнуцца на зямлю ды заняцца сельскай гаспадаркай (а гэта будзе выгадна), тыя будуць мець лепшыя магчымасьці (не кажам ўжо пра станоўчыя псіхалагічныя моманты). Ня трэба сьпяшацца пазбывацца нерухомасьці (асабліва там, дзе карэньні чалавека). Аказваецца, што чужакам з-за мяжы яна якраз і патрэбная. Яны купляюць яе за бясцэн і ўжываюцца туды са сваім жыцьцём. Бацькаўшчына беларусаў робіцца чужой.

Але не павінна так быць. Маючы мінулае, памятайма пра будучыню.

Слава Айчыне!

*Лістапад 2015* Зянон Пазьняк

# ПРЭЗЭНТАЦЫЯ НОВЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

Мной надрукавана факсімільнае выданьне 1-й часткі вядомай працы Аўгена Калубовіча **"Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства". -- Мюнхен, Лёндан, 1974-1975.** Факсімільная кніга выйшла ў лістападзе ў выданьні "Беларускіх Ведамасьцяў". 7-га лістапада адбылася яе прэзэнтацыя ў Вільні.

У пачатку года невялікім накладам (выданьне "Беларускіх Ведамасьцяў") выйшаў зборнік вершаў **"Вершы для цябе"**, пасьвечаны каханьню і пачуцьцям. Прэзэнтацыі не рабілася.

Ніжэй зьмяшчаю прадмову да факсімільнага выданьня кнігі Аўгена Калубовіча.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КНІГА ЗАБЯСЬПЕЧВАЕ НАРОДУ ВЕЧНАСЬЦЬ

***(Прадмова выдаўца факсіміле)***

Аўген Калубовіч (Каханоўскі) -- вядомы беларускі грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, гісторык і публіцыст -- нарадзіўся ў 1910 годзе ў мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага павету Магілёўскай вобласьці. У 1930 годзе асуджаны на тры гады сталінскага канцлягеру за беларускі патрыятызм. Вярнуўшыся з канцлягеру, працаваў настаўнікам. У гады Другой Сусьветнай вайны быў у Менску, уваходзіў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, удзельнічаў у Другім Усебеларускім Кангрэсе (1944 г.). Пасьля вайны -- у эміграцыі. Быў прэм'ерам ураду БНР, выдаваў беларускія часопісы, займаўся літаратурай і навукова-дасьледчыцкай дзейнасьцю, друкаваў кнігі. Памёр у 1987 годзе, пахаваны ў Кліўлендзе (ЗША).

*"Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства"* -- гэта адна з найлепшых кніжак Аўгена Калубовіча. Кніга выдадзена ў 2-х частках. Шануючы каштоўнасьць яе для нашай гісторыі, мы друкуем тут і прапануем чытачу факсімільнае выданьне 1-й часткі.

Гэта адна з тых кніжак, якія выварочваюць душу ад крыўды на жорсткасьць гісторыі, прымушаюць моцна біцца сэрца, і попел пакаленьняў стукае ў скронь. Сухой мовай фактаў, скрупулёзна і педантычна паказана, як пасьлядоўна і мэтадычна нішчылі вялікую беларускую кніжную культуру варвары, войны, акупацыі, ворагі і беспамяцтва.

У гісторыі культуры ёсьць некалькі знакавых эпахальных падзей, якія ў корані зьмянялі ход разьвіцьця чалавецтва, ствараючы агульную базу для новай культуры і новай асобы. Такімі эпахальнымі падзеямі ў гісторыі цывілізацыі былі пераход да земляробства і аседлага вобразу жыцьця, зьяўленьне гарадоў і зьяўленьне друкаванай кнігі. Кніга -- найвялікшы чыньнік культуры і гісторыі чалавецтва, кожнай нацыі і народа. Кніга, як і мова, якая ў кнізе рэалізавана, забясьпечвае народу вечнасьць.

Беларусь -- гэта гістарычная краіна вялікай кніжнай культуры. Адсюль пайшла першая друкаваная кніга ва Ўсходняй Эўропе. Адсюль ішла культура і асьвета далей на Ўсход, у дзікія стэпы і варварскія гарады. Тут стварылася велізарная кніжная спадчына, бібліятэкі і зборы кніг, якія год за годам пасьля ўпадку беларускай дзяржаўнай сілы нішчыла варожая антыкультурная стыхія, варварства, дзікае забыцьцё.

І ўсё ж Беларусь жыве. Гэта таксама цуд, як цудам ёсьць гісторыя яе культуры.

*Лістапад, 2015 год, Варшава* **Зянон Пазьняк**

# СЛАВА СЛУЦКІМ ВАЯРАМ!

95-я гадавіна Слуцкага збройнага чыну – збройнага змаганьня нашых продкаў з маскоўска-бальшавіцкай навалай. Кожныя ўгодкі гэтай барацьбы прыносяць нам новыя думкі і шырэйшае асэнсаваньне той падзеі, асабліва ў сувязі яе з сучаснасьцю. Бо зьвер ня здох, не сядзіць у сваім маскоўскім логаве, але тэрарызуе народы, падпальвае новую сусьветную вайну.

Раней некаторыя нядобразычліўцы і павярхоўна думаючыя людзі часам пісалі, што быццам бы случакам дапамагалі палякі, ці, што быццам бы гэтая барацьба мела нейкі сацыяльны характар. Усё гэта прыдумкі не сваіх людзей, якія ўжо цяпер паўтараюцца толькі ў асяроддзі нішчыцеляў Беларусі.

У чым жа асаблівая гістарычная каштоўнасьць Слуцкага збройнага чыну і чаму мы так памятаем гэтую падзею і штогод адзначаем?

У лістападзе 1920 года слуцкія народныя паўстанцы выступілі супраць маскоўскіх бальшавікоў ня толькі ў абарону сваёй тутэйшай зямлі, маёмасьці і волі, але ў абарону ўсёй Беларускай Народнай Рэспублікі "у яе этнаграфічных межах". Так было адлюстравана ў лёзунгах случакоў. Яны змагаліся за сваю будучую дзяржаву БНР без маскалёў, бальшавікоў і польскіх паноў, ваявалі ў яе абарону і гэта шматкроць пацьверджана фактамі. Хоць з другога бок яны віталі "сястру Польшчу" і яе змаганьне з Масквой.

Менавіта тут, у слуцкім змаганьні нарадзіўся наш нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Яго напісаў удзельнік паўстаньня Макар Касьцевіч (псэўданім Макар Краўцоў). Прыйдзе сьветлы час і наш нацыянальны гімн загучыць на вуліцах і плошчах беларускай сталіцы.

Беларускі адраджэнскі рух існаваў на Случчыне здаўна. Яшчэ ў верасьні 1917 года ў Слуцку была адчынена і працавала Беларуская гімназія, быў моцны беларускі эсэраўскі рух. А ў 1918 годзе, за часы БНР, там арганізаваўся Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны, які ствараў па вёсках і мястэчках мясцовыя рады (кшталту мясцовага самакіраваньня).

У канцы 1918-га на Случчыну прышлі чарговыя акупанты – маскоўскія бальшавікі. Тады ў 1919-м случакі паднялі антымаскоўскае паўстаньне. Бальшавікі здушылі яго. А ў красавіку-травені 1919-га маскалёў прагналі польскія войскі Пілсудскага.

У 1920-м палякі заключылі з маскоўцамі мір і пачалі дзяліць Беларусь. І вось тут якраз падняўся на барацьбу за Бацькаўшчыну народ Случчыны. Случчыну намервалася забраць Масква, сюды рухалася вялікая бальшавіцкая арда, цэлая 16-я армія. І тады 14-15 лістапада 1920 года сабраўся беларускі зьезд прадстаўнікоў Слуцка і Случчыны. Найбольшую ролю тут адыгрывалі беларускія эсэры. Было вырашана стварыць войска і ўступіць у барацьбу з маскоўскімі бальшавікамі.

За некалькі дзён сабралася 10 тысяч дабраахвотнікаў. Бацькі пасылалі сваіх дзяцей змагацца за Беларусь. Уздым быў надзвычайны. Калі б у случакоў была зброя, то можна было сабраць войска і ў 50 тысячаў. Але паколькі зброі і амуніцыі не ставала, то прышлося дабраахвотнікаў распусьціць. Сфармавалі толькі два палкі: 1-шы Слуцкі і 2-гі Грозаўскі, дзе жаўнеры мелі адну вінтоўку на дваіх, а то і на траіх.

Тым ня менш на пачатку дзеяньні палкоў былі пасьпяховымі, бальшавікоў выбілі з шмат якіх вёсак і мястэчак. Асноўныя баі ішлі вакол Вызны, Семежава,

Грозава, Цімкавічаў. Тады маскоўцы кінулі сюды падмацаваньньне, новыя дывізіі кітайцаў і манголаў. Бо рускія не надта хацелі ваяваць за бальшавікоў, дызэртыравалі, некаторыя пераходзілі на бок случакоў, здаваліся ў палон. Характэрна, што беларускія жаўнеры ня зьверствавалі над палоннымі. Аднойчы случакі захапілі ў палон 300 маскоўскіх салдат. Ад іх адабралі зброю і адпусьцілі дахаты.

Асноўнай прычынай таго, што слуцкае паўстаньне не перамагло арду, гісторыкі лічаць ня столькі агромністую колькасную перавагу бальшавіцкага войска, колькі адсутнасьць належнай зброі і амуніцыі ў случакоў. Да сярэдзіны сьнежня слуцкае войска ўжо, фактычна, ня мела чым страляць, скончыліся патроны. Яно й ня дзіва, ніякай дапамогі (матэрыяльнай, фінансавай, збройнай) ні адкуль і ні ад каго не было. Насельніцтва падтрымлівала сваё войска харчамі і адзеньнем. Але гэтага было мала ў змаганьні з цэлымі рэгулярнымі арміямі захопнікаў.

У канцы сьнежня паўстанцы перайшлі праз раку Лань у зону, акупаваную палякамі, там раззброіліся і былі інтэрнаваны ў розныя месцы. Тым часам атрад у 400 паўстанцаў застаўся на Случчыне дзеля партызанскай барацьбы.

Такім чынам, другая асаблівая гістарычная каштоўнасьць памяці пра слуцкае змаганьня ў надзвычай яркім прыкладзе народнага рушэньня, уздыму, салідарнасьці і ахвярнасьці ў справе абароны Бацькаўшчыны і змаганьня за сваю свабоду супраць захопнікаў і акупантаў.

Гэты прыклад асабліва каштоўны для беларусаў цяпер, калі новая маскоўская арда напала на Украіну, палезла ў Сірыю, праводзіць тэракты па ўсім сьвеце і рыхтуецца захапіць Беларусь.

Будзьма ж вартыя нашых змагарных продкаў. Рыхтуймася абараняць Беларусь ад варвараў, каб не апынуліся мы бяз зброі, як некалі слуцкія паўстанцы. Вучэмся на памылках людзей і прадоўжым іх гонар і дасягненьні. Будзьма гатовыя абараняць Беларусь, як некалі былі гатовыя случакі. Мы маем прыклады і апору ў нашай гісторыі. Ня пройдзе Арда на нашай зямлі. Слава слуцкім ваярам!

*29 лістапада 2015 г.* Зянон Пазьняк

# СЛОВА НА ДЗЯДЫ 2015 года

Дзень памяці продкаў – вялікае і сьветлае беларускае сьвята Дзяды. Але вось ужо шмат год яно напоўнена жалем і скрухай. Асабліва тут, у Курапатах. Гэта адтаго, што наша гісторыя патрапіла ў зону сьмерці – у зону рускага камуна-фашызму. І мы перш за ўсё ўсьведамляем і памятаем пра мільёны ахвяр, якіх вылюдкі чалавецтва забілі толькі за тое, што яны былі беларусамі.

Тут, у Курапатах расстраляна і засыпана ў ямах чвэрць мільёна ахвяр. Гэта найвялікшы могільнік масавага зьнішчэньня людзей у сьвеце. Маскоўскія варвары не панесьлі дагэтуль ніякай кары і працягваюць забіваць людзей у Сірыі, ва Украіне і хлусіць.

Цяпер яны абплёўваюць і нішчаць народ Украіны, агрэсію супраць якога рыхтавалі дзесяць гадоў.

Тое самае яны рыхтуюць супраць нас, -- беларусаў, -- ужо дваццаць гадоў, разбураючы нашую культуру, школу і мову, душачы наш народ, рабуючы нашу працу, народнае багацьце і спосаб жыцьця.

Мы мусім гэта бачыць і ведаць, каб даць адпор. Мы мусім рыхтавацца да бітвы за волю і незалежнасьць. Хоць можа каму здаецца, што нас маскоўскі фашызм абміне. Дай Божа, каб абмінуў. Але не было такога. Таму – будзьма гатовы!

Яны забівалі заўсёды лепшых людзей. Яны зьнішчалі генафонд нацыі, нашу інтэлігенцыю, спэцыялістаў, сьвятароў, працавітых і адукаваных людзей, паэтаў і мастакоў, музыкантаў і пісьменьнікаў, мудрацоў і разумных. Ва ўсе часы і заўсёды так рабіла маскоўская чэрнь. У ноч на 29-ты кастрычнік 1937 года яны расстралялі і закапалі тут больш за сто беларускіх пісьменьнікаў, літаратараў, вялікіх людзей нацыі. Археолагаў, мастацтвазнаўцаў, вучоных мовазнаўцаў, гісторыкаў – забілі да аднаго чалавека. Расстралялі дзьве траціны ўсіх беларускіх пісьменьнікаў. Маскоўскія камуна-фашысты і пуціноіды трыццатых гадоў расстрэльвалі тут беларусаў кожны дзень і кожную ноч. Адна каманда бандытаў з наганамі зьмяняла другую. І так па канвэеры з 1937 года па 23 чэрвеня 1941-га. Немцы ўжо скінулі бомбы на Менск, а маскоўцы ў Курапатах яшчэ расстрэльвалі беларусаў.

А потым энкавэдзісцкія вылюдкі атрымалі заданьне падпаліць наш горад. Не немцы спалілі Менск, а маскоўскія энкавэдзісты ў чэрвені 1941-га. Не немцы разбамбілі Менск, а маскоўская авіяцыя, якая кідала бомбы на жылыя кварталы ў 1942-1943 гадах і разбурыла нашу сталіцу ўшчэнт у ліпені 1944-га, калі ўжо немцаў у горадзе не было.

Маскоўскія вылюдкі Сталіна выкарысталі вайну, каб зьнішчыць Беларусь і паболей беларусаў. Шмат хто з тых, хто забіваў у Курапатах, апынуліся ў савецкіх партызанах і забівалі беларусаў там. А, напрыклад, увесь склад Смаленскага НКВД перайшоў на бок немцаў і сфармаваўся ў нямецкую фашысцкую СД (Sicherheitsdienst), якая была пераведзена ў Менск і лютавала тут над беларусамі страшней за немцаў.

Нямецкія фашысты забівалі тых, хто супраць фашыстаў. Рускія камуна-фашысты забівалі тых, хто беларусы. І ў першую чаргу лепшых людзей. Вось тут у гэтым страшным лесе і ляжыць забіты цьвет нашай нацыі.

Ці можам мы гэта забыць?

Закон вайны вымагае помсты. Закон жыцьця вымагае памяці і адраджэньня. Наша памяць… Вось яна ў гэтых крыжах. Нашае адраджэньне… У нас самых. У нашых душах. Толькі трэба яго несьці на сьвет цэлы. Бо трэба хаця б зраўняцца з Дзядамі. Нас тут тысячы жывых людзей. А іх расстраляных перад намі – 250 тысячаў забітых.

Калі б гэтыя людзі ўсталі з магіл і рушылі ў горад – назаўтра мы б жылі ўжо ў іншай краіне. Вось што такое дзяды, братове. Хто мае вушы, хай чуе. Хто мае розум, хай разумее. Яны ня ўстануць. Устаць могуць толькі жывыя.

Сьвяткуйма наша сьветлае сьвята ДЗЯДЫ! У ім стаілася, ёсьць, існуе вялікая сіла. Няхай жа яна вымкне, узьнікне, рэалізуецца і дапаможа нашым людзям здабыць сваё супольнае народнае шчасьце.

Слава Айчыне! Жыве Беларусь!

*1 лістапада 2015 г.* Зянон Пазьняк

# АБ ПАДЗЕЯХ

*(Выступ на сьнежаньскім Сойме КХП-БНФ і БНФ “Адраджэньне”)*

Час даволі трывожны. Чакаюць эканамічнага абвалу. Існуе пагроза вайны. На першы погляд здаецца нядобрым, што не зьяўляецца здаровая альтэрнатыва нармальных людзей, для якіх вольная Беларусь – перадусім. Але адчуваецца, што такія людзі ўжо ёсьць. Яны зьяўляюцца, ды не настаў іх час. І важна, каб яны не паддаліся на агітацыю правакатараў і на прапановы бяз мэты натоўпам бадзяцца па вуліцах ды сьведчыць пазыцыю. Беларусы ўжо гэта праходзілі.

Час унутранага сасьпяваньня і кансалідацыі вельмі адказны. Тым больш, што ня толькі ўнутраная, але і міжнародная абстаноўка паказвае на магчымасьць раптоўнага павароту і раптоўнага разьвіцьця падзей. З адраджэнскага боку праводзіцца пэўная сур’ёзная праца на пераменную пэрпэктыву, але аб’яўлена яна будзе толькі пасьля завяршэньня.

Тым часам найважнейшым пытаньнем застаецца прыход у адраджэнскую палітыку новых энэргічных і разумных людзей. Гэты працэс нам вельмі ўскладняе адсутнасьць сталага месца, куды б маглі прыходзіць энтузіясты. Тым ня менш мы разумеем, што цяпер такая ёсьць рэальнасьць і трэба выкарыстоўваць іншыя магчымасьці. Практыка паказвае, што пры ініцыятыўным, пасьлядоўным падыходзе нават за мяжой (дзе магчымасьці вельмі вузкія) можна здабываць станоўчыя вынікі. Можна і ў Беларусі. Нельга спасьняцца.

Агентурная апазыцыя, мы бачым, рэзка размежавалася. Ад грантавай масы аддзялілася лубянская лінія Дзімітрыева-Караткевіч і шчыльна дрэйфуе ў бок супрацоўніцтва з антыбеларускім рэжымам, прымаючы ўсё ягонае ўладкаванае палітычнае статус-кво. Ствараецца такая квазіапазыцыйная паралель праўладнай “Белай Русі”.

Але малаверагодна, каб Лукашэнка прапусьціў іх у “палатку”. “Палатка” не для таго створана, каб там нехта выступаў. Рэжым нават ад заангажаваных паслуг Абрамавай адмовіўся.

Шкоднасьць “дзьмітраўшчыны” ў тым, што яны мельцяшацца і блытаюць людзей. У гэтым, дарэчы, іхняя галоўная паслуга рэжыму (будуць заганяць беларусаў на фальшывыя выбары).

Асобная тэма (новая старая тэма) – гэта «ўзбуджальная» дзейнасьць Міколы Статкевіча. Сутнасьць ягонай асобы даўно вядомая кожнаму фронтаўцу. З правакацыяў, аднак, нічога не атрымаецца. Беларусы паразумнелі. Хаця ўся трольная агентура ў Сеціве аж пеніцца, каб зрабіць з Міколы чарговую зорку “псэўдаапазыцыі”.

Калі пачнуцца сур’ёзныя падзеі, то засьвечаныя правакатары будуць проста элімінаваныя з працэсу на маргінэс разам з усімі дзяжурнымі ганебнай “апазыцыі”. За доўгі час паказальнага існаваньня яны ўсім вядомыя.

### Узмацньне антыбеларускай палітыкі

Курс Эўразьвязу на адкрытае супрацоўніцтва з антыдэмакратычным рэжымам Лукашэнкі імгненна скарэктаваў акупацыйную палітыку ўлады. Усё больш і больш пачынаюць душыць беларушчыну адкрыта, цынічна з выкарыстаньнем грубай антыбеларускай рыторыкі. Нядаўна маю мастацтвазнаўчую кнігу “Беларуская фатаграфія” акупацыйныя структуры назвалі “экстрэмісцкай”. Нават кнігу пра Курапаты ўжо хочуць аб’явіць “экстрэмісцкай”. Суд выкарыстоўваюць, каб падвесьці пад акупацыйны закон і панішчыць.

Апошняя падзея акупацыйнай рэчаіснасьці з гэтага шумавіньня – у Магілёве ачапілі раён спэцназам і адчынілі помнік магілёўскім энкавэдзістам.

Дзеля даведкі зазначу, што ў Магілёве ў 30-х гадах дзейнічала і зьвярэла самае жудаснае ў Беларусі НКВД. Пра гэта я пісаў у артыкуле “Курапаты – дарога сьмерці” і ў

кнізе пра Курапаты, якую рэжым назваў цяпер “экстрэмісцкай”. Садыстка Байкова, якая “з выдумкай” катавала голых вязьняў, працавала якраз у гэтым магілёўскім НКВД.

Пад Магілёвам у лесе было месца, куды энкавэдзісты звозілі арыштаваных і расстрэльвалі ў ямах (Магілёўскія Курапаты). Я зьбіраў зьвесткі пра месцазнаходжаньне гэтых магілёўскіх Курапатаў, плянуючы знайсьці і дасьледваць. Але адыход у актыўную палітыку прыпыніў мае намеры.

Характэрна, што калі цяпер адчынялі помнік тым магілёўскім катам, то кагэбісты мала таго, што ачапілі раён, але не дазвалялі фатаграфаваць нават журналістам і хавалі твары. Разумеюць подлыя натуры, што робяць і што за тое можа быць. І будзе.

### Экспансія з Масквы

Са зьменай пазыцыі Заходняй Эўропы адносна рэжыма Лукашэнкі зьвязана і нахабнае насіленьне Масквы з мэтай стварыць свае ваенныя базы ў Беларусі. Чаго толькі ні пішуць “экспэрты” пра прычыну гэтай маскоўскай агрэсіі – і “пагроза для НАТО” і “падтрымка калінінградзкага анклава”, і “пагроза Балтыі”, і ўсё гэта “супраць Украіны”, і інш. Ня пішуць толькі пра самае галоўнае – ваенныя базы патрэбныя тут Маскве, каб гарантавана захапіць і зьнішчыць Беларусь. Гэта акт акупацыі пад выглядам нейкай “пагрозы” і нейкай “патрэбы”. Масква выкарыстоўвае момант, чарговае глупства ў эўрапалітыцы. Становішча паказвае, што часам нават прасьцейшыя рэчы ў геапалітыцы для абстрактных экспэртаў аказваюцца недаступнымі, бо нацыянальная палітыка разумеецца і робіцца не абстрактнымі, а нацыянальнымі асобамі.

Вядома, супраць такой агрэсіўнасьці Масквы патрэбныя і пратэсты і пратэстная актыўнасьць грамадзтва. Але рэальна важна глядзець глыбей і далей. Рыхтуймася да барацьбы з усходнім ворагам. Ня майма ілюзіяў. Трэба гуртавацца і рыхтавацца, і запасацца ўсім, што неабходна для змаганьня са злачыннымі ворагамі чалавецтва. Вайна, разьвязаная пуцінскай Расеяй, ня скончылася, яна пашыраецца і будзе мець фінал, да якога мы – беларусы – калі хочам застацца беларусамі, павінны быць добра падрыхтаванымі.

### Навіны культуры

У апошні час журналістамі так званых “дэмСМІ” узмоцнена раскручвалася тэма нобэлеўскай прэміі С. Алексіевіч. Задавалі дзясяткі наіўных пытаньняў, агучвалі чаканьні і нават прэтэнзіі да набілянта, якія сьведчылі пра поўную адарванасьць гэтых людзей ад рэальнасьці.

Як і павінна было быць, свой шанц рэабілітавацца перад беларусамі Алексіевіч не скарыстала. Яна проста не зразумела, што ад яе патрабуецца і адкрыта прызналася ў сваім неразуменьні. Гэта ў яе ад прыроды. Яшчэ ў школе яна ніяк не магла зразумець, што такое вобраз народа. Недаходзіла, як ёй настаўнікі ні тлумачылі. Прыкмета, дарэчы, характэрнай саветызаванасьці інтэлекту.

У нобэлеўскіх прамовах Алексіевіч паказала сябе як тыповы савецкі чалавек з тыповым інтэлігенцка-савецкім успрыняцьцем сьвету. (У СССР быў нават такі тэрмін “савецкая інтэлігенцыя”). Яе прамовы месцамі ёсьць класіка саветызаванага выяўленьня, плюс характэрнае для яе дэкадэнцкае (упадніцкае) успрыняцьце сьвету і бачаньне яго ў чорных танах.

Усё гэта было вядома раней. Алексіевіч сама сябе называла савецкім чалавекам, які няведае хто ён, бо нарадзілася на Украіне, жыве ў Беларусі, а любіць Расею. (Дарэчы, зноў жа класічны тэст на «саўка». Лукашэнка таксама ня ведае хто ён, бо, як ён кажа, нарадзіўся блізка ад расейскай мяжы і г.д. – глядзець цытатнік У. Падгола).

**Валер Сядоў**: «Для таго, каб ён жыў у нармальнай краіне, мне трэба „памерці“. Трэба выкласьціся і нешта зрабіць. А вось яна дылема — вось жонка, вось сын. Пойдзеш — і нават з грузчыкаў звольняць, а пасадзяць — хто іх будзе карміць? У першую чаргу я баюся за жонку, за сына, таму што ўжо на працу немагчыма ўладкавацца. Я нават не хачу казаць, дзе я працую грузчыкам. Бізнэс пару гадоў таму я спрабаваў арганізаваць, у выканкаме наўпрост сказалі: спачатку прынялі дакумэнты, я аплаціў нават, але мне там дзяўчынка проста памахала галавою — ідзі, маўляў. Таму паехаў у Расею. Ён хоча аднаго — выціснуць, каб я выехаў. Не, я ня выеду!

Вось пры камуністах я галадаў. Але калі зараз мяне возьмуць у турму, я галадаць ня буду.Таму што гэты рэжым ня варты таго, каб я галадаў».

**Аляксандра Дынько**

*Крыніца:* http://www.svaboda.org/content/transcript/9504708.html

# ЧЭРНЬ БЯСЬСІЛЬНАЯ ПЕРАД ПАЭТАМ

Суд, які прыдумаў Лукашэнка над людзьмі, што 19 –га сьнежня мінулага года прышлі на плошчу Незалежнасьці ў Менску, ёсьць адкрыты зьдзек над беларусамі. Тут (у гэтым судзе) выявілася сублімацыя нянавісьці ўзурпатара да вольнай Беларусі і вольнай нацыі, да беларускай мовы і культуры.

Беларусы, міжвольныя ахвяры паранойнай помсты, якіх кінулі за краты, павінны б разумець, што галоўны сэнс іхняй абароны – гэта ёсьць абарона Беларусі, і ніякія довады асабістай недатычнасьці да абвінавачваньня ня будуць прынятыя пад увагу ворагам нацыі.

Здаецца шмат хто гэта ўжо зразумеў. Але адкрыта, наўпрост і на ўвесь голас сказаў у сваёй прамове на судзе Уладзімер Някляеў. У беларускай традыцыі і культуры голас паэта мусіць быць голасам праўды і справядлівасьці і Бацькаўшчына – перадусім. Някляеў пацьвердзіў высокую годнасьць беларускага паэта і грамадзяніна.

Сэнс несправядлівага суду цемры ня ў тым, каб пасадзіць паэта на 5- 7- 15 гадоў у турму, а ў тым, каб яго прынізіць, псіхічна стаптаць, прымусіць яго дрыжэць, круціцца, прасіць (прасіць самога Сатану) і гэтым прынізіць увесь беларускі народ, бо паэт, які піша пра свой народ, -- ёсьць яго прадстаўнік.

Чэрнь ўжо прайграла свой цёмны працэс, бо не зваявала ні розум, ні волю, ні гонар паэта. Прыйдзе час і на лаве падсудных апынуцца цёмныя спраўцы нішчэньня нашай Айчыны і адкажуць за ўсё.

Жыве Беларусь!

Зянон Пазьняк

*12 траўня 2011 г.*

# ХОРАША ПРА БЕЛАРУСЬ

Вялікая задача і місія беларускай інтэлігенцыі ёсьць гістарычнае асьветніцтва народа. Нацыянальная асьвета найперш павінна быць ськівавана на верхнія адукаваныя актыўныя пласты грамадзтва і на моладзь. Асабліва такое асьветніцтва патрэбнае ў краіне, дзе акупацыйным рэжымам і антынацыянальнай уладай зьнішчаныя нацыянальная школа, нацыянальнае радыё і тэлебачаньне, нацыянальныя кнігі і вольны друк.

Але разам з тым ёсьць яшчэ адна вобласьць дзейнасьці, якая мае вялікае значэньне ў міжнародным статусе і палітыцы дзяржавы. Гэта інфармаваньне міжнароднай супольнасьці, іншых краінаў і народаў аб нашай гісторыі і культуры, аб нашым гістарычным месцы ў сістэме сусьветнага культурнага разьвіцьця.

Гэтакай працай павінна займацца ня толькі эміграцыя, але і беларусы ў Бацькаўшчыне, асабліва злучаныя ў розныя нацыянальныя арганізацыі, фонды, партыі і таварыствы, нягледзячы на цяжкі стан, этнацыд і перасьлед за слова.

Перада мной кніжка (255 старонак фармату А-5) ***Валеры Буйвала*** **“La Belarus. Un paese nel centro  dell’ Europa” (“Беларусь – краіна ў цэнтры Эўропы”)**, якая толькі што выдадзеная ў Італіі ўнівэрсітэтам у Пэруджы. У кнізе з навуковых беларускіх пазыцыяў асьветлены важныя этапы нашага гістарычнага разьвіцьця і культурныя дасягненьні. Тут распавядаецца італьянцам пра беларускую тэрыторыю і народ, пра прыняцьце Хрысьціянства і змаганьне з ворагамі, пра Люблінскую Вунію і Патоп XVII-га стагоддзя (“Вялікую катастрофу”), пра імпэрскую палітыку Маскоўшчыны і змаганьне з агрэсыўным Усходам; асьветлены таксама час нашай найноўшай гісторыі XX-га стагоддзя (найперш – 90-я гады), дзейнасьць Народнага Фронту, здабыцьцё незалежнасьці і змаганьне за пабудову Беларускай незалежнай дзяржавы.

Як мастацтвазнавец і гісторык мастацтва Валеры Буйвал зь веданьнем расказаў у кнізе пра эстэтычную сутнасьць і дасягненьні беларускага мастацтва, найбольш спасылаючыся на культуру Рэнесансу і Барока, калі быў сапраўдны росквіт (залаты час) беларускага мастацкага духу.

З вопыту дачыненьняў мы ведаем, што італьянцы пасьлядоўна прыхільныя справе нашай беларускай незалежнасьці і свабоды (і ўвогуле прыхільныя да нас, беларусаў). Мяркую, што кніжка Валеры Буйвала ўмацуе іх у іхнай прыхільнасьці (дарэчы, узаемнай) і паспрыяе нашым добрым стасункам у сьвеце.

*20 ліпеня 2011 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# Пазьняк: “Калі стварылі ўправу каля Акадэміі міліцыі, гэта была наша міліцыя"

**Еўрарадыё: Як так атрымалася, што ўправа БНФ мела дастаткова дзіўнае суседства з Акадэміяй міліцыі?**

**Пазьняк:** “Тут нічога дзіўнага няма. Тады, у 92-м годзе, калі нашая дзяржава рабіла першыя незалежныя крокі, калі стваралася нашае войска, нашыя амбасады, нашыя грошы, нашыя дзяржаўныя структуры — гэта была нашая міліцыя. Міліцыя так сябе не паводзіла, як паводзіць цяпер... Нават пры саветах не было такога, каб міліцыянер мог ударыць жанчыну. Гэтага не было ў прыродзе — у яго не магла падняцца рука... Таму тады гэта ня мела ніякага значэньня, на гэтае суседства ніхто не зьвяртаў увагі, наадварот, гэта нават было і добра, калі ў выпадку чаго, дык мая міліцыя мяне беражэ”.

http://euroradio.fm/report/paznyak-kali-zyavilasya-wprava-kalya-akademii-militsyi-geta-byla-nashaya-milits-39940

# Зянон Пазьняк: "Ёсьць дзяржава значыць, ёсьць і будучыня"

З нагоды гадавіны незалежнасьці да суайчыньнікаў зьвярнуўся Зянон Пазьняк, былы старшыня апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня.

"25 Жніўня 1991 года на нечарговай 5-й Сэсіі Вярхоўнага Савету БССР пасьля доўгіх дыскусіяў і змаганьня дэпутатаў Апазыцыі БНФ з камуністычнай бальшынёй Вярхоўнага Савету была прыпыненая дзейнасьць КПБ (КПСС) у Беларусі і аднагалосна аб'яўлена незалежнасьць краіны шляхам наданьня Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнага закону" – піша Зянон Пазняк.

"200 гадоў пакаленьні беларусаў праз ахвяры, паўстаньні, турмы і вынішчэньні ішлі да гэтага дня. І вось ён настаў. Перад нацыяй адчыніліся сьветлыя пэрспэктывы сацыяльна-культурнага разьвіцьця. У сярэдзіне 90-х гадоў гэтыя пэрспэктывы былі спыненыя з прычыны ўнутранай акупацыі краіны і падтрымкі Масквой аднаасобнай улады антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі, – піша Пазьняк. – Аднак, які б цяжкі час мы цяпер ні перажывалі, нашая Незалежнасьць ёсьць! Ёсьць дзяржава, ёсьць свой народны дом, а значыць ёсьць і будучыня, якая залежыць ад таго, як пакіруемся мы ў сваім доме, які мы навядзем у доме парадак. Гэта значыць, што наша народная будучыня залежыць найперш ад нас самых. Такія магчымасьці дае нам наша незалежнасьць".

"Шануйма яе, як бацьку з маткай, як каханую жонку і родных дзяцей! Дбайма пра гонар і веліч нашай дарагой Бацькаўшчыны Беларусі. Абараняйма яе ад страты і няволі, трымайма яе ў сэрцы", – завяршае сваё віншаваньне Зянон Пазьняк.

25.08.2011
http://www.svaboda.org/content/article/24307515.html

# Пазьняк: У палітыцы прастытутак хапае

**Зянон Пазьняк за "круглы стол" з Лукашэнкам не сядзе.**
*Аўтар: Вольга Міцкевіч 30.08.2011*

**Еўрарадыё: А ці варта пагаджацца на такую прапанову іншым прадстаўнікам апазіцыі?**

**Пазняк:** Тыя, каго вы называеце апазіцыяй, тыя пагодзяцца, на што хочаш. Бо гэты рэжым, як правіла, для дасягнення сваіх мэтаў выкарыстоўвае палітычную прастытуцыю. Самы такі блізкі выпадак — гэта снежань 2010 года. Тады ўсё грамадства было падрыхтавана да байкоту, байкот бы быў, людзі не хацелі ісці на выбары, мы гадамі працавалі над гэтым. І рэжым бы павіс у паветры. І вось тады рэжым звярнуўся да гэтай апазіцыі, знайшлі 9 чалавек, прыпісалі ім там нават подпісы, далі ім магчымасць свабодна агітаваць, нават далі магчымасць выступаць на тэлебачанні, крытыкаваць, аблайваць Лукашэнку.

У выніку, людзі падумалі, што нешта мяняецца, што пачалася лібералізацыя, што можна ісці на выбары. Паверылі заклікам — і пайшлі на выбары. А толькі гэта і трэба было, каб людзі былі на ўчастках. У выніку, Лукашэнка набірае свае 80%, бо галасы ніхто не лічыць, важна, каб людзі былі на ўчастках. А гэтую так званую апазіцыю пасля выкарыстання, кідае за краты і будзе выкарыстоўваць як разменную манету ў далейшых сваіх дзеяннях.

Цяпер пачынаецца чарговая падзея. Рэжыму трэба атрымаць крэдыт, бо Расея яго моцна ўзяла за горла, і тут узнікла магчымасць атрымаць 8 мільёнаў [долараў] ад МВФ, але трэба даць нейкія доказы, што ён ідзе насустрач. Вось такая прапанова, я цытую: “Усім разумным людзям садзіцца за стол і аценіць, хто чаго варты і хто што можа зрабіць для эфектыўнага паляпшэння сітуацыі ў краіне”. Гэта пра тое, што ён нарабіў. Ён хоча запрасіць людзей, калі такія знойдуцца, каб з ім селі вырашаць, што ён натварыў і дапамаглі яму выбрацца.

**Еўрарадыё: А ці знойдуцца такія асобы сярод дэмакратычнай супольнасці?**

**Пазняк:** Знойдуцца! У палітыцы прастытутак хапае... Ён жа практычна канкрэтна ні да каго не звярнуўся, а ўжо з’явіліся прапановы. Ужо будуць вырашаць. Ён натварыў такіх спраў і хоча запрасіць людзей...

**Еўрарадыё**: **Адбылася нарада дэмакратычнай супольнасці, на якой абмяркоўвалася агульная стратэгія ў сувязі з тым, што такая прапанова, нібыта, паступіла...**

**Пазняк**: Усе іхныя зборыкі, якія былі і ёсць, і будуць, не маюць ніякага значэння для Беларусі... Як толькі дадуць крэдыт, Лукашэнка ўсіх разгоніць і абвінаваціць у поўнай беспадстаўнасці іх меркаванняў.

**Еўрарадыё: У Польшчы некалі таксама адбыўся круглы стол, на якім генерал Ярузэльскі адмовіўся ад улады. Ці можна нешта такое падобнае спрагназаваць ў Беларусі?**

**Пазняк**: Тут іншая сітуацыя. У Польшчы была барацьба. Масавы рух “Салідарнасць”, дзе было 10 мільёнаў людзей. І Ярузэльскаму не было куды падзецца. Яны ратавалі сваю скуру і ішлі за стол, каб неяк ацалець. “Салідарнасць” — гэта была вялікая палітычная народная сіла.

Тут жа, пры рэжыме, няма ніякай сілы, тут ёсць некалькі нікчэмных людзей... як кажуць людзі, для біцця. І тут зноў іх знаходзяць, каб запхнуць гэтыя дзіры... Калі разбураўся Савецкі Саюз у 80-х гадах, калі з’явіўся Беларускі Народны Фронт, то КПСС (КПБ) выступала з прапановамі Фронту: “Давайце вось зараз сядзем разам. Вырашым пытанне, як нам рухаць перабудову”. І ўявіце сабе, калі б з Фронту, які ўжо быў сілай, нехта пайшоў бы і сеў бы з камуністамі за адзін стол. Усе б пабачылі: “А! Дык яны разам!” Таму з імі ніхто не пайшоў сядаць, з імі пачалі ваяваць. У выніку Фронт застаўся, а КПСС знікла.

**Еўрарадыё: Дык што атрымліваецца, з дыктатурай нельга размаўляць, з ёй можна толькі змагацца?**

**Пазняк:** Канкрэтна з гэтым рэжымам не можа быць ніякіх перамоваў. Ён нелегітымны ўжо 17 гадоў. Гэты чалавек праводзіць антынацыянальную, антыбеларускую палітыку. За ім стаяць зніклыя людзі. З ім не можна ні аб чым гаварыць — ён павінны сысці. І толькі на гэтым трэба будаваць палітыку.

http://euroradio.fm/report/paznyak-u-palitytsy-prastytutak-khapae-51184

# Зянон Пазняк: Такія заявы робяць бандыты зь вялікай дарогі

**Беларуская ўлада ператвараецца ў рабаўніка насельніцтва -- лічыць старшыня Кансерватыўна-хрысціянскай партыі Зянон Пазняк. Так палітык ацаніў заявы Аляксандра Лукашэнкі падчас нарады па сацыяльна-эканамічных пытаннях.**

За словамі аб тым, што прыватны бізнэс падчас крызісу павінен падзяліцца з дзяржавай сваімі звышпрыбыткамі, якія быццам будуць накіраваныя на сацыяльную падрымку насельніцтва, стаіць жаданне адабраць не належачыя дзяржаве сродкі. І ў першую чаргу на сваю карысць, а не на карысць народа, - лічыць **Зянон Пазняк**.

*- 17 гадоў рабуюць гэтую краіну, 17 гадоў нішчылі гэтую нацыю, але ўсё гэта неяк прыкрывалася рознымі фразачкамі. А вось цяпер сказана ўсё адкрыта – так гавораць бандыты з вялікай дарогі. Гэта заява аб рабаўніцтве. Калі так будзе працягвацца, гэтая ўлада ператворыцца ў адкрытага рабаўніка насельніцтва з бандыцкімі метадамі. Бандыцкая заява ўжо зроблена.*

Па словах Зянона Пазняка, ні пра якое заканадаўства, ні пра якую этыку і мараль тут гаварыць не прыходзіцца. Па сутнасці, гэта ўльтыматум беларускаму народу, -- лічыць палітык.

*31-08-2011.* Генадзь Барбарыч, *Радыё Рацыя.*

# МАЎКЛІВЫЯ ПРАТЭСТЫ

У чэрвені-ліпені ў Менску і іншых гарадах Беларусі адбываліся пратэстныя гуртаваньні людзей на вуліцах. Пры гэтым усе пляскалі ў ладкі. Задума даволі правакацыйная. Але над гэтым не задумваліся

Самы па сабе такія гуртаваньні (без глыбокага сэнсу, ідэі і канцэпцыі) пэрспэктывы ня мелі. Тым часам яны маглі б паспрыяць пратэстнай салідарнасьці, заснаванай на непрыняцьці асобы, палітыкі і ўлады Лукашэнкі, і потым маглі б разьвіцца ў нешта іншае, больш асэнсаванае.

Нічога гэтага не адбылося ад пачатку (ад закладаньня сумніўнай зьявы). Аднак нечакана для многіх эфэкт аказаўся вельмі вымоўным. Гуртаваньне людзей, пратэстнае плясканьне ў ладкі выклікала нетыповую, характэрна-паранойную рэакцыю рэжыму.

Рэжым прылюдна, так бы мовячы, распрануўся перад агаломшаным грамадзтвам, паказаў груба і адкрыта сваю акупацыйную сутнасьць. Пераапранутыя ў цывільнае банды спэцслужбаў хапалі беларусаў на вуліцы, кідалі ў “хапуны” і за краты ўсіх, без разбору, суправаджаючы свае зьнявагі і дзеяньні рускай лаянкай.

Такое захаваньне і адносігы да насельніцтва – тыповыя якраз для акупацыйных рэжымаў, якія праводзяць экзэкуцыі і палітыку этнацыду.

Ужо пятнаццаць гадоў, як мы, фронтаўцы, аналізуем і распавядаем пра этнацыд і пра існуючы ў Беларусі рэжым унутранай акупацыі краіны. Для некаторых, што дэманстратыўна дыстансаваліся ад палітыкі, і казалі, што палітыка іх не цікавіць, гэтае азначэньне (аб унутранай акупацыі) было нейкай абстракцыяй. І вось тут яны пазнаёміліся раптам з праявамі зьявы, канкрэтна і брутальна. Палітыка сама

зацікавілася імі. Сумна казаць, але рэжымны бандытызм аказаўся даволі эфэктоўным штуршком для росту сьведамасьці людзей (тое, чаму не вучыла жыцьцё, -- навучыла біцьцё).

Зь беларусамі так абыходзіцца нельга. Але акупацыйны рэжым ня можа быць іншым. Маўклівыя сацыяльныя пратэсты і рэпрэсіўныя дзеяньні рэжыму дапамаглі шмат каму зь беларусаў тое ўбачыць і зразумець.

*4 жніўня 2011 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# Пазьняк прадставіў у Празе новае выданьне

**У Празе адбылася прэзэнтацыя новай кнігі, выдадзенай Зянонам Пазьняком – "Сэсія Незалежнасьці". Прэзэнтацыя адбылася ў вялікай ў залі клюбу "Krásný ztráty", на сустрэчу прыйшлі некалькі дзясяткаў беларусаў, якія жывуць у Чэхіі.**

Як паведаміў Пазьняк, выдавецкую дзейнасьць ён лічыць важнай часткай сваёй палітычнай дзейнасьці.

Прадстаўляючы новую кнігу, Пазьняк сказаў, што ў ёй адлюстравана вызначальная ў найноўшай гісторыі Беларусі падзея – пятая надзвычайная сэсія Вярхоўнага Савету 24-25 жніўня 1991 г., якая надала Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статус канстытуцыйнай сілы. У кнізе зьмешчана поўная стэнаграма сэсіі, якая, заўважыў Пазьняк, сёньня практычна недаступная нават для для дасьледчыкаў.

"Давялося зьбіраць гэтую стэнаграму па частках, аднак у выніку яна прадстаўленая тут цалкам. Чытаецца сёньня як вострасюжэтны раман, – сказаў Пазьняк. – Ёсьць выказваньне, што "палітыка – гэта мастацтва магчымага". Падаецца, што майстэрства палітыка якраз у іншым: каб зьдзейсьніць немагчымае. Тое, што адбылося 20 гадоў таму, калі невялікімі сіламі ўдалося здабыць Незалежнасьць (мы фактычна прымусілі камуністаў галасаваць за нашыя прапановы), сёньня ўспрымаецца як цуд. Але гэта была прадуманая, распрацаваная і выверaная палітычная тактыка".

29.08.2011. Радыё Свабода
http://www.svaboda.org/content/article/24311636.html

# "ГАНІ БЫКОЎ! ВЯРНЕЦЦА ДОЛЯ!"

З усіх ціскаў і зьняваг асобы, на якія прышлося мне наглядзецца за сваё жыцьцё, ці ні найбольшую агіду выклікае хамскі зьдзек цёмных людзей з творчага чалавека, з таленту мастака. Талент – гэта дар Божы, а мастак ёсьць падарунак народу і ўсім людзям; такое трэба цаніць, і нават аберагаць.

Тыя, хто праводзілі антынародную палітыку, генацыд, этнацыд, тыя ў першую чаргу стараліся заткнуць рот (вочы, вушы, душу) людзям таленавітым, творчым і адукаваным, а то і зьнішчыць іх фізычна.

Напісаць гэтыя радкі мяне вымусіла сітуацыя, якая ўзьнікла вакол асобы вядомага музыкі і выканаўцы ***Сяргея Міхалка***. Што здарылася, чаму раптам музычны гурт “Ляпісаў”, які буфонна плаваў недзе далёка за абсягам беларускай культуры, апынуўся ў чорным сьпісе антыбеларускага рэжыму, а ягоным кіраўніком зацікавілася рэпрэсіўная пракуратура?

Прычына ляжыць на паверхні. Гурт стаў выходзіць на дарогу сур’ёзнага нацыянальнага мастацтва і за апошні год стварыў шэраг высокакласных твораў, а ягоны кіраўнік Сяргей Міхалок, які раней пацяшаў публіку сваімі анархічна-бурлескнымі маналогамі, выявіў цяпер неардынарныя якасьці асобы і творчага патрыятычнага (беларускага) думаньня. І гэта, відаць, сур’ёзна. І гэта, відаць, зразумелі дарадцы цемры, што сядзяць у Менску.

Пра апошнія творчыя здабыткі гэтай музычнай групы і новы паварот у творчасьці, спадзяюся, нехта напіша. Я не прыхільнік і не аматар такой музыкі (року). Але творчы ўзьлёт не залежыць ад жанру, стылю і накірунку. Ён узьдзейнічае ўнівэрсальна.

Гэтая ўнівэрсальнасьць у мастацтве дасягаецца тады, калі яно ў эстэтычнай форме выяўляе перажываньні чалавечага духу на прыкладзе чалавечага лёсу. І вышэйшай ступені такой формулы адпавядаюць творы, дзе праз лёсы чалавечыя выяўляюцца лёсы народныя.

У творчасьці спадара Міхалка ўжо ёсьць твор, які набліжаецца да такіх азначэньняў. Гэта знакамітая ўжо песьня і кампазыцыя “Грай!”.

Сацыяльна-метафізычная сутнасьць таго, што адбываецца ў Беларусі, выяўлена мовай мастацтва ёмка, вобразна і дакладна:

“Напіліся быкі,
Скачуць па краіне,
Топчуць ручнікі,
Капытамі ў гліне.
Скачуць па дварах,
Адчыняюць хаты.
Хто не пахаваўся –
Будзе вінаваты.”

Тут выкарыстана зразумелая беларусу (і клясычная ў літаратуры) народная алегорыя цёмнай разбуральнай сілы ў вобразе чарады агрэсіўных жывёлін. У 50-х гадах мінулага стагоддзя такую фабулу і алегорыю ў тэатры дасканала скарыстаў Эжэн Іянэску (яго знакамітая п’еса “Насарог”). У Міхалка -- па Айчыне скачуць “шэрыя быкі”.

.

“Ім ня трэба сонца,
Цемры ім багата.
Ім вясны ня трэба.
Ім – зімы паболей,
Каб ты, хлопец, спаў быў
На пячы ў няволі.”

Па прынцыпах клясычнай эстэтыкі ў гэтым творы гарманічна дапасаваныя ўсе складнікі: вобразная ідэалёгія (зьмест) і сюжэт (тэкст), музыка і аранжыроўка, кампазыцыя, стыль і выкананьне (у тым ліку і гучаньне інструмэнтаў – сінтэзацыя дуды).

Добра ўплывае на ўспрыняцьце моцная аптымістычная энэргетыка сьпяваньня і энэргічны рытм, дзе кульмінацыяй зьяўляецца рэфрэн:

“Грай!
Сьпявай дружна

Песьні райскай волі.
Грай! Грай!
Гані быкоў – вярнецца доля!”

На гэтым моцным апошнім радку песьня, як бы трохі нечакана, абрываецца, і мэлёдыя заканчваецца доўгай кодай з гучаньнем дуды (відаць, праз сурдзінку). Выдатная акцэнтацыя і завяршэньне.

Спадар Міхалок стварыў твор, які ўвойдзе ў скарбонку беларускай сучаснай музыкі. Тым часам рэальныя (палітычныя) “шэрыя быкі”, што топчуць Радзіму, адчулі ягоны беларускі патэнцыял і заблякавалі выступы мастака ў Беларусі, фактычна, выкінулі яго з Айчыны на творчае паміраньне. А ён узьняўся -- і засьпяваў беларускім голасам.

Шлях беларускага нацыянальнага мастацтва, на які ступае спадар Міхалок, вядзе да вяршынь і творчага ўзьлёту. Ён (гэты біты шлях) ужо шматкроць адмераны і пройдзены іншымі. Але ток яго не пасыпаны ружамі. Гэта надзвычай цяжкі шлях у нашых умовах. Мастак, магчыма, нават не ўяўляе, якія пачвары – нянавісьць і здрада – вылезуць на яго, калі ён пойдзе па гэтай дарозе.

Ня буду тут выказваць сваіх меркаваньняў. Думаю, яны непатрэбныя, тым больш, што спадар Міхалок добра разумее, што ў змаганьні з “шэрымі быкамі” – усё ёсьць палітыка: і мова, і песьня, і мараль, і адзеньне, і думкі, і словы, і нават простая прыналежнасьць да добрага свайго народу – усё стала палітыкай.

Гэта ня мы -- гэта “быкі” так думаюць. Зь імі немагчыма дыскутаваць, бо яны не гавораць, не разумеюць па-чалавечаму.

Нельга даказваць гонару свайго на зборышчы дрэняў. Той, хто ігнараваў гэта, -- рабіў фатальную памылку.

Мастацтва – гэта харaство. Але для цемры, што нішчыць сьвятло, -- гэта палітыка. Стаць апалітычным тут ня ўдасца. У такіх абставінах у беларускага мастацтва ёсьць толькі два шляхі. Першы – лёгкі, але нікчэмны: адмовіцца ад роднай мовы, забыцца пра годнасьць, гонар, талент і прызначэньне – сьпяваць “слушай батьку”.

Другі шлях – годны, але цяжкі: змагацца, зьберагчы свой талент і пакліканьне, вярнуцца ў пачатак, ушанаваць свой народ, яго мову і праўду, і калі паўстане выбар – лепей стацца выгнаньнікам, чым зрабіцца “насарогам”, “быком” і -- страціць душу. Творца мусіць застацца творцам і чалавекам сваёй зямлі. “Гані быкоў! Вярнецца доля!”

У гэтым сэнсе спадар Міхалок -- татуяваны анархіст, увесь ў наколках, што ўдаваў з сябе блазна, -- чалавек зь нялёгкім мінулым, які ўзьняўся, адбіўся ад самага дна, які зьбярог свой розум, талент, сумленьне і гонар, ён якраз аказаўся больш надзейнай і вартай павагі асобай, чым тыя, што былі на Парнасе і -- спусьціліся ў стойла “быкоў”.

Якраз ён можа стварыць (і ўжо стварае) новы, надзённы, сучасны і змагарны беларускі рок. І гэта справядліва. Палітыка – дык палітыка!

Ва ўсіх беларусаў цяпер адна перашкода – цемра, здрада і нянавісьць у адной асобе, што засела на троне. І жыць так далей, цярпець -- стае немагчыма.

*18 кастрычніка 2011 г.*

http://www.svaboda.org/content/article/24367199.html

# АБ СУПРОЦЬДЗЕЯНЬНІ АНТЫБЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫЦЫ

***(зварот)***

Падпісаньне ў Маскве чарговых пагадненьняў з Расеяй аб “Эўра-Азіяцкай эканамічнай інтэграцыі”, і дагавору аб “Эўразійскай эканамічнай камісіі”, якая паклікана ствараць “Эўразійскі эканамічны саюз Расеі, Казахстана і Беларусі”, – усё гэта ня можа быць прызнана беларускім народам і міжнароднай супольнасьцю ў якасьці праўных дакумантаў. Пуцінская Расея ў каторы раз плянуе пашырэньне сваёй імпэрыі коштам Беларусі.

Зь беларускага боку дакуманты былі падпісаны кіраўніком улады, якая ні ў якой форме не кантралюецца народам Беларусі і не выяўляе яго інтарэсаў. Гэтая ўлада ў асобе А. Лукашэнкі зьяўляецца нелігетымнай і незаконнай, не прызнаная беларусамі і міжнароднай супольнасьцю. Міжнародныя дакуманты, падпісаныя такой уладай, не павінны мець праўнай сілы.

Самавольныя дзеяньні Лукашэнкі, накіраваныя на падрыў суверэнітэту Беларусі, такія, як ліквідацыя дзяржаўнай мяжы з Расеяй, заключэньне дамовы аб так званай “саюзнай дзяржаве”, падпісаньне пагадненьня аб мытным саюзе з Расеяй і Казахстанам, цяпер – падпісаньне дакумантаў аб Эўразійскай эканамічнай інтэграцыі, плянаваньне ўвядзеньня расейскіх грошай і расейскіх атамных ракет у Беларусь – усё гэта ёсьць чыннасьці дзяржаўнай здрады, якія супярэчаць Канстытуцыі і маюць адпаведную праўную кваліфікацыю.

Прычына такіх паводзінаў Лукашэнкі – імкненьне схавацца ад адказнасьці за развал нацыянальнай эканомікі, фінансаў, адукацыі і культуры, страх страціць уладу і спадзяваньне скарыстаць чужую вайсковую сілу ў змаганьні супроць народа.

Мы заклікаем беларускае грамадзтва і міжнародную супольнасьць не прызнаваць за законныя і сапраўдныя пагадненьні, падпісаныя нелегітымным кіраўніком улады ў Беларусі. Мы зьвяртаемся да ўсіх грамадзянаў Беларусі, да ўсіх арганізацыяў і ўстановаў супроцьдзейнічаць гэтай антынацыянальнай палітыцы ўсімі магчымымі законнымі спосабамі.

Мы заклікаем рыхтавацца да грамадзкіх пераменаў, вынікам якіх стане новае нацыянальна адданае дэмакратычнае кіраўніцтва Беларусі і новы вольны незалежны шлях у культурным і эканамічным разьвіцьці нашай краіны.

*23 лістапада 2011 г.*

***Кіраўніцтва Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ***

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Юры БЕЛЕНЬКІ***
***Сяргей ПАПКОЎ***

# Рэжым баіцца кніг Зянона Пазьняка

17 лістапада сёлета на беларуска-летувіскай мяжы “ворганамі” РБ былі канфіскаваны некалькі асобнікаў кніг аўтарства Зянона Пазьняка, прысьвечаныя сучасным падзеям беларускай гісторыі: “Цяжкі час” і “Дэпутаты незалежнасьці” Зянон Пазьняк пракамэнтаваў канфіскацыю ў СМІ: “Гэбісты будуць першымі чытачамі”. Так яно і сталася.

25 лістапада выканаўца абавязкаў у Беларусі старшыні Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Юры Беленькі патэлефанаваў на

Смаргонскую мытню, дзе адбылася канфіскацыя. Справа ў тым, што ён і намесьнік старшыні Фронту і Партыі Сяргей Папкоў везьлі з Вільні гэтыя кнігі, падпісаныя аўтарам у падарунак. Сп. Беленькі пацікавіўся, чаму ім не вяртаюць падпісаныя для іх кнігі. Праз некалькі хвілінаў слухаўку ўзяў малады супрацоўнік і паведаміў, што па рашэньні начальства аддзела па барацьбе з кантрабандай кнігі былі перададзены ў КГБ на экспэртызу. “Што за экспэртыза?” – спытаў сп. Беленькі. “На прадмет наяўнасьці ў кнігах экстрэмісцкіх заклікаў. Экспэртыза працягнецца 20 дзён”. – адказаў службовец. Сп. Беленькі папрасіў прадставіцца яго і даведаўся, што размаўляў з інспэктарам аддзела па барацьбе з кантрабандай Дашчынскім Дзімітрыем Тадэвушавічам.

Такім чынам, экспэртызы, праведзенай інспэктарам Дашчынскім Д.Т. і ягоным смаргонскім начальствам аказалася недастаткова. Кнігі паслалі ў КГБ, будуць чытаць іх там на працягу трох тыдняў. Мяркуем, што паведамленьне пра “сэнсацыйнае затрыманьне” на мяжы і “вешчдокі” КГБ РБ паслаў у Маскву, да свайго сапраўднага вышэйшага кіраўніцтва. Там таксама будуць “чытаць” (пры дапамозе “экспэртаў-перакладчыкаў”). Кантора працуе, усе пры справе.

Беларусы, даведаўшыся пра арышт кніг Зянона Пазьняка 17 лістапада, павінны б былі зрабіць адну істотную выснову ў сьвятле цяперашніх падзеяў у краіне. Антыбеларускі рэжым не баіцца сваіх “спарынг-кандыдатаў”, якія заклікаюць насельніцтва ісьці на фальшывыя выбары і нават прызнаюцца, што на іх “пераможа” Лукашэнка. Рэжым і Масква (якая як кіравала так і кіруе гэтым рэжымам), баяцца асобы Зянона Пазьняка. Баяцца Народнага Байкоту, да якога заклікае Зянон Пазьняк і ягоныя аднадумцы. Рэжым баіцца творчасьці і кніг гэтага чалавека, бо ён кажа і піша праўду. Далейшы лёс кніг яшчэ раз пацьвярджае слушнасьць гэтай высновы.

*2011 г.* Валеры Буйвал

# ВЫШЭЙШАЯ МЕРА ПАКАРАНЬНЯ

***(Інфармацыйная заява)***

25 лістапада адбылася катастрафічная падзея для будучыні Беларусі і вялікае дзяржаўнае злачынства. Лукашэнка, ня маючы на гэта права і нават не інфармуючы народ, прадаў Расеі (фактычна, здаў) галоўную энэргетычную сістэму Беларусі – Белтрансгаз, найважнейшы стратэгічны інтэрас краіны.

Каб ашукаць простых людзей, ён і агентура з Масквы крычаць, што расейцам здалі непатрэбную іржавую трубу. Але гэта не “труба”, а энэргетычная інфраструктура, якая абслугоўвае 86 адсоткаў усёй эканамічнай вытворчасьці Беларусі і бытавую сфэру. Хто валодае Белтрансгазам, той валодае краінай. Беларусь кінута ў поўную энэргетычную залежнасьць ад Масквы і ня зможа цяпер праводзіць сваю энэргетычную палітыку (купляць іншы газ, ажыцьцяўляць Балта-Чарнаморскія праекты і г. д.). Стратэгічныя аб’екты ніколі не прадаюцца.

Чаму Лукашэнка зрабіў такое злачынства і як яно называецца?

Ён зрабіў гэта, каб уратаваць сваю скуру, бо фінансы і гаспадарка даведзены ім да ўпадку і загнаныя ў тупік. Ён абрабаваў народ, залез ў даўгі і цяпер пачаў распрадаваць нашу дзяржаву, каб утрымацца ва ўладзе. Гэта называецца на мове Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь – здрада дзяржаве (арт. 356, ч. 1,2) і караецца альбо ад 10 да 25 гадоў турмы, альбо вышэйшай мерай пакараньня – сьмерцю.

Акрамя таго, Лукашэнка абакраў беларускіх людзей і прадаў крадзеную прыватную маёмасьць, а маскоўцы за бясцэнь крадзенае купілі. Згодна Закона аб

прыватызацыі (1992 г.) і Пастановы ВС аб разьдзяржаўленьні і прыватызацыі (1993 г.) палова дзяржаўнай маёмасьці (50%) належыць грамадзянам Беларусі паводле прыватызацыйных чэкаў. Улада павінна была стварыць механізм для канкрэтнай перадачы гэтай уласнасьці людзям. Такі механізм пачаў стварацца ў пачатку 90-х. Але Лукашэнка, дайшоўшы да ўлады, усё ліквідаваў і ў 1997 годзе, насуперак Канстытуцыі, праз неканстытуцыйную папраўку ў Закон Аб уласнасьці ( Закон прыняты ў 1990 г. пад ціскам Апазыцаі БНФ) і праз нелегітымную "палату" незаконна перадаў права распараджацца народнай доляй маёмасьці Саўміну.

(У Законе Аб уласнасьці было напісана, што Саўмін распараджаецца "ад імя ўласьнікаў", гэта значыць, што бяз згоды людзей урад ня можа прадаць іхнюю уласнасьць. У 1997 годзе Лукашэнка гэтыя словы незаконна выкінуў.)

Цяпер у Маскве скарысталі тую бомбу запаволенага дзеяньня і зрабілі прадуманы манэўр. Беларусаў абакралі двойчы: адзін раз намінальна ў 1997 і другі раз рэальна – 25 лістапада 2011 г.

Скупшчыкі крадзенага – маскоўцы – разумеюць, што робяць і чым займаюцца, але яны павінны ведаць, што крадзенае ў выніку зьдзелкі з нелегітымнай асобай прыдзецца вярнуць па суду і па закону.

Злачынствы здрады дзяржаве і страты нацыянальнай маёмасьці павінен разглядаць па закону (арт. 88 Канстытуцыі) Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь. Зьвярнуцца з іскам у Вярхоўны Суд па гэтых пытаньнях можа кожны грамадзянін краіны, група грамадзянаў і арганізацыі.

У выпадку, калі Суд парушыць Закон і ня прыме іск да вытворчасьці ці дэмагагічна адмовіцца займацца справай, у народа, згодна Канстытуцыі (арт. 3) застаецца права самаму вырашыць гэтае пытаньне любым спосабам. Можа быць створаны Народны суд (у Беларусі ці за мяжой), які разгледзіць і прыме рашэньні, згодна артыкулаў Канстытуцыі і Крымінальнага Кодэксу, уключна з вышэйшай мерай пакараньня.

*11 сьнежня 2011,* **_Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай_**
*г. Менск* **_Партыі -- БНФ_**

# "НАМ ВАЖНЫ НАШ НАРОД, А НЯ ЗАХАД І НЕ МАСКВА"

*(Інтэрв'ю зь Зянонам Пазьняком)*

Падпісаныя ў Маскве пагадненьні аб канчатковай перадачы Расеі "Белтрансгазу" камэнтуе старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі -- БНФ Зянон Пазьняк.

**Навумчык:** -- Здаецца, у 1997-м годзе Вы ўпершыню заявілі пра намер Расеі ўзяць пад кантроль беларускую маёмасьць -- прадпрыемствы і транспартную інфраструктуру. Памятаю, што шмат кім гэта ўспрымалася ня проста крытычна, але іранічна, і лейтматывам такога стаўленьня была фраза "Ды каму патрэбна нешта ў Беларусі?". Аказалася -- патрэбна, і вось сёньня "Газпром" робіцца цяпер ужо поўным, на 100 адсоткаў, уладальнікам "Белтрансгазу". Што будзе наступным?

**Пазьняк:** -- Ня мае значэньня, што будзе наступным. Істотна тое, што наступнае -- будзе. Тут трэба ўлічваць задачу Масквы, стратэгію, разьлічаную на пэўны час. Расейскай -- па пляне Масквы -- павінна стаць уся беларуская маёмасьць і

нерухомасьць, перш за ўсё -- зямля. Расейскай павінна стаць нашая інфраструктура і наша рабочая сіла. На пераходны пэрыяд захоўваецца фікцыя асобнай дзяржавы з сатрапам на чале, на якога будзе сьцідвацца адказнасьць. Сатрапія спатрэбіцца найперш для таго, каб вынішчыць нацыянальна-этнічныя асновы беларускага народа і зьмяніць насельніцтва. Пасьля гэтага адпадае неабходнасьць назвы "Беларусь" і наяўнасьці асобнага дзяржаўнага ўтварэньня. На гэтым этапе павінен стацца фінал гістарычнай вайны і рэальны канец Вялікага Княства Літоўскага.

Наступнай "распрацоўкай" стане Польшча.

Усю гэтую палітыку, якая робіцца на нашых вачах, апантана падтрымлівае расейскае грамадзтва і так званы рускі народ, які сам знаходзіцца на стадыі выміраньня.

Што да "Газпрому" і "Белтрансгазу", дык расейцы разумеюць, што гэтая зьдзелка -- незаконная. Спадзяваньні толькі на зьнішчэньне Беларусі. Калі ж Беларусь застанецца, вызваліцца ад рэжыму і адродзіцца, -- "Белтрансгаз" (і ня толькі "Белтрансгаз") будзе вернуты беларускаму народу. Дакладней, Беларусь па праву сама забярэ сваё.

**Навумчык:** -- Выказваюцца меркаваньні, што ствараемы па ініцыятыве Пуціна так званы "Эўразійскі саюз" мае ў значнай ступені прапагандысцкі характар, з улікам хуткіх прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі і настальгіі значнай часткі расейскага электарату па СССР. Як вы ацэньваеце пэрспэктывы такога ўтварэньня?

**Пазьняк**: -- Расейская палітыка -- экстэнсіўная, агрэсіўная і імпэрская. Яна канкрэтная. У ёй ніколі не было нічога пустога, прапагандысцкага. Прапаганда выкарыстоўваецца дзеля сцьвярджэньня канкрэтнай мэты. І калі гэтая канкрэтная мэта распрацоўваецца, расейцы пускаюць слых, што гэта, маўляў, несур'ёзна, што гэта "піярскі" ход і г. д. Гэта ўсё -- прапаганда дзеля адводу вачэй, а на самой справе ўсё ня так. Такім чынам дасягаецца мэта. Эўразійскі саюз -- чарговая авантура, узьніклая ў крамлёўскіх мазгах. Яна гэткая ж канкрэтная, як авантура аўганскай вайны, інвазіі ў Чэхаславаччыну, нападу на Грузію ці павароту ўстыч сібірскіх рэк.

Ня трэба ацэньваць расейскую палітыку з пункту гледжаньня рацыянальнай нармальнасьці. Ці ненармальнасьці. Ня трэба імкнуцца зразумець Расею розумам. Трэба ведаць адно: што гэтую авантуру яна будзе ажыцьцяўляць. Сам працэс ажыцьцяўленьня такога расейскага прадукту палітыкі будзе дрэнным для ўсіх. Нават калі авантура праваліцца.

Калі ж уявіць, што новы "саюз" яны зробяць, дык гэта стане канцом толькі для Беларусі. Казахстану расейская палітыка ні па чым -- яны самы рэсурсная краіна, а Назарбаеў ня нішчыць сваю нацыю, культуру, мову і вандроўную гісторыю. (У дужках заўважу, што ў гэтым сэнсе пастухі авечак і вандроўнікі ў стэпах маюць лепшую пэрспэктыву, чым па-чужому адукаваныя спадкаемцы вялікай цывілізацыі -- Вялікага Княства Літоўскага.)

**Навумчык:** -- Год таму ў сваім відэаблёгу расейскі прэзыдэнт Мядзьведзеў абураўся паводзінамі Лукашэнкі і казаў пра парушэньні правоў чалавека ў Беларусі, адзначыўшы, між іншым, што Крамлю не абыякавы і лёс зьніклых палітыкаў. Пасьля гэтага былі падзеі 19 сьнежня, масавыя зьбіцьці і масавыя арышты, суды і прысуды, апошні, толькі што -- праваабаронцу Бяляцкаму. Мы ведаем рэзка нэгатыўную рэакцыю міжнароднай супольнасьці. Чаму маўчыць Масква?

**Пазьняк:** -- Масква маўчыць таму, што і 19 сьнежня, і здача Бяляцкага -- гэта ёсьць справа яе рук.

Эўропа перад расейскай палітыкай выглядае ня проста дурной, але -- вельмі дурной. Але не, папраўлюся так: невылечна дурной. Яна ніколі не паразумнее. Гэта маё цьвёрдае перакананьне, абапертае на фактах.

Мядзьведзеў дазволіў сабе сказаць пра правы чалавека ў Беларусі, таму што Крэмль праводзіў у мінулым годзе кампанію дыскрыдытацыі Лукашэнкі ў Расеі, на расейскім палітычным рынку. Гэта рабілася адначасна з адсяканьнем Лукашэнкі ад Захаду і папярэднічала авантуры 19-га сьнежня, якая заранёў рыхтавалася, пра гэта

вядома было ўжо ў жніўні. Таму разам з называньнем яго "хросным бацькам" пагаварылі і пра правы чалавека. Заўсёды знойдуцца людзі, якія ў такое паверацьь.

**Навумчык:** -- Вернемся да мінулых прэзыдэнцкіх выбараў. Год таму Вы заклікалі да байкоту і казалі, што ўдзел у выбарах будзе "на руку" Лукашэнку і Маскве. Сёньня Вы застаецеся пры сваім меркаваньні, ці ўсё ж бачыце ва ўдзеле у тых выбарах нейкія станоўчыя бакі?

**Пазьняк:** -- Якая б ні адбывалася падзея, у ёй заўсёды (пры жаданьні) можна знайсьці і дрэнныя, і добрыя бакі. Але тут сутнасьць у тым, што добра было б, каб такой падзеі ўвогуле не адбылося. Тая канцэпцыя змаганьня, якую прапаную я, дае ініцыятыву ў рукі грамадзтва і абсякае, падвешвае рэжым.

Тое, што зрабілі так званыя кандыдаты ў прэзыдэнты, дзевяць асобаў, дало магчымасьць Лукашэнку легітымна сфальсыфікаваць выбары і незаконна ўтрымацца ва ўладзе. А Маскве -- справакаваць пабоішча 19-га сьнежня, прытым рукамі свайго сатрапа. І потым інсьпіраваць разгром нацыянальнай грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Вось вынік палітычнай дурноты так званых кандыдатаў у прэзыдэнты, якія самы ж сталі першымі ахвярамі гэтага разгрому. Пра ўмоўна-станоўчыя бакі такой палітыкі ў народзе кажуць: "Ня варта аўчынка выдзелкі".

Усе выгады атрымала Масква. Перш чым загнаць сатрапа ў Азію, ёй трэба было задушыць беларускія сілы, каб паралізаваць нацыянальнае супраціўленьне і расчысьціць дарогу для бесканфліктнага захопу Беларусі, гэта значыць -- уцягнуць нашу краіну ў сваю імпэрыю шляхам палітычных маніпуляцыяў і эканамічнай вайны. Пры тым усё гэта, паўтараю, робіцца рукамі Лукашэнкі, які, хапаючыся за ўладу, вядзе сваю рэпрэсіўную вайну зь беларускім народам.

Тут яшчэ дадам, што ўсё гэта неаднаразова было сказана і паўторана задоўга да выбараў 2010 году. На жаль, нацыянальна сьляпыя -- ня бачаць, нацыянальна глухія -- ня чуюць. Нездарма мы ўвесь час гаворым пра нацыянальную асьвету грамадзтва.

**Навумчык:** -- Ці застаецца ў Захада шанец павялічыць уплыў на Лукашэнку і ў чым, на Вашу думку, ён палягае?

**Пазьняк:** -- Ніякага шанцу ў Захада няма. Бо ён яго ніколі сур'ёзна не шукаў і не шукае. Захад заклапочаны дачыненьнем з Расеяй. Зразумейма, нарэшце: "Ніхто ня стане паміраць за Гданьск". Трэба любіць сваё і сябе, і за гэта стаяць. У 1991 годзе ня толькі Масква -- увесь Захад быў супраць нашай Незалежнасьці. Тым ня менш, мы, Народны Фронт, шчыра кажучы, чхалі на іхныя меркаваньні. Мы абаперліся на свой народ і здабылі Незалежнасьць, якую Захад вымушаны быў прызнаць. Так робіцца нацыянальная палітыка. Для нас важны наш народ, а ня Захад і не Масква.

**Навумчык:** -- У гэты момант і ў кароткатэрміновай пэрспэктыве -- ці можа беларускае грамадзтва супрацьстаяць больш шчыльнаму ўцягваньню Беларусі ў арбіту інтарэсаў Масквы?

**Пазьняк:** -- Можа. Можа, але для гэтага трэба выканаць толькі адну задачу. Лукашэнка не павінен быць ва ўладзе. Ён не павінен быць катэгарычна, безумоўна і канчаткова. Калі гэтая задача ня будзе ажыцьцёўлена, тады будзе выканана задача Масквы, пра якую я казаў у пачатку. Трэцяга шляху, як некаторыя думаюць, ня будзе. Яго не існуе.

**Навумчык:** -- А які шлях адхіленьня Лукашэнкі ад улады?

**Пазьняк:** -- Зараз народ стаіць перад альтэрнатывай: альбо ён сваю свабоду і Незалежнасьць абароніць, альбо пляны Масквы могуць быць выкананыя. І ён (народ) іх страціць. Ключ да ўсяго -- улада Лукашэнкі. Таму ўсе спосабы -- а спосабы ёсьць законныя -- усе спосабы прыдатныя. Дык вось, законныя спосабы дае сама Канстытуцыя. І гэтым шляхам трэба ісьці.

*2011 г.* ***(Інтэрв'ю Сяргея Навумчыка, радыё Свабода)***

# 2012

# УСЕ НА БАРАЦЬБУ З АНТЫНАРОДНЫМ РЭЖЫМАМ!

*(З выступу на студзеньскім 2012 г. Сойме БНФ і Протыі БНФ)*

...Шмат хто зьвязвае з гэтым годам вялікія надзеі на перамены ва ўладзе і палітыцы. Глыбокіх падставаў дзеля гэтага пакуль што няма. Але могуць быць, бо зрухі ёсьць. У век паскудных тэхналёгіяў само праз сябе мала што адбываецца без кантролю ўлады над працэсамі. Але для нас важна адно (як найпярвейшая запаведзь) – ***усялякія перамены, якія будуць рабіцца бяз нас, абернуцца супраць нас.*** Перамены павінны рыхтаваць мы, беларусы, і канкрэтна – беларускія нацыянальныя сілы.

Ніякіх ілюзіяў ня трэба мець наконт дэманстрацыяў у Маскве. Яны там не выступаюць супраць сістэмы гэбізму, а толькі супраць Пуціна. Там усё скончыцца пшыкам, бо відаць як кіруе Лубянка. Нават калі заменяць Пуціна – гэбізм застаецца.

Расейская амбасада ў Менску зараз паводзіць сябе дакладна як у канцы XVIII-га стагоддзя калі імпэрыя рыхтавала захоп Вялікага Княства і дыпляматыя дзейнічала як рэзыдэнцыя і штаб падрыхтоўкі акупацыі. Рускі пасол Сурыкаў выступіў з недапушчальнымі агрэсіўнымі заявамі супроць беларускіх інтарэсаў і павінен быць выдалены з нашай краіны. Агрэсія крамлёўшчыны нзіраецца па ўсёй Беларусі.

Цяпер у Віцебску лукашысты схапілі і катуюць у турме чарговага беларуса – нашага мужнага сябра Партыі Сяргея Каваленку. Акупацыйны рэжым даўно ўжо перастаў маскавацца і вядзе адкрытую антыбеларускую вайну супраць нас на вынішчэньне краіны.

Мы зараз стараемся інфармаваць грамадзкасьць аб тым, што адбываецца, каб арганізаваць падтрымку Сяргею Каваленку. Людзі павінны ведаць пра ўсё, што робіць акупацыйны рэжым з нашым патрыётам, бо рэжым скончыцца і тады на месцы патрыётаў сядуць іхныя мучыцелі.

Прапаную Сойму прыняць заяву аб зьдзеках карнай сістэмы рэжыму над Сяргеем Каваленкам. (Праект падрыхтаваны.)

Бліжэйшая наша праца – пытаньне з крымінальнай прадажай  Белтрансгазу. Справу трэба давесьці да суду і на гэтай падставе ставіць пытаньне аб крымінальнай і палітычнай адказнасьці Лукашэнкі за зробленае злачынства.

Трэба ўзьняць пытаньне аб выдаленьні дзяржаўных ідэолагаў (фактычна КГБ) з установаў і прадпрыемстваў.

І наступнае: выбары ў палату, намечаныя рэжымам, трэба байкатаваць у кантэксьце агульнага байкоту рэжымнай улады і палітыкі.

По гэтых накірунках мы мусім зрабіць распрацоўкі канкрэтных дзеяньняў.

Жыве Беларусь!

*5 студзеня 2012 г.*

**Зянон Пазьняк**
Старшыня БНФ і КХП – БНФ

# Пазьняк: Скончыцца тым, што Лукашэнка здасьць усё

***Канфлікт паміж афіцыйным Менскам і Эўразьвязам камэнтуе старшыня КХП-БНФ Зянон Пазьняк. (вытрымкі)***

**Пазьняк:** Тое, што адбываецца канфлікт з пасламі, з Эўразьвязам, дыпляматычная вайна -- гэта ўсё доўжыцца ўжо 17 гадоў. Тым больш што вядома, чым гэтая мышыная валтузьня скончыцца. А скончыцца яна поўнай перамогай Лукашэнкі і Масквы. Гэта прадумана вельмі рацыянальна, халаднакроўна, і ўся ініцыятыва ў руках Лукашэнкі і Масквы. Прытым не таму, што яны такія разумныя, а таму, што Захад у сваёй палітыцы абсалютна тупы. Гэта -- тупая палітыка. Яна ня мае ніякіх аргумэнтаў, ніякіх рычагоў узьдзеяньня на Маскву і на Лукашэнку. Уся ініцыятыва зараз у руках Масквы і Лукашэнкі. Яны дыктуюць музыку, і яны пішуць сцэнар.

Гэтыя заходнія палітыкі ня маюць уяўленьня пра тое, што адбываецца ў Беларусі. У іх лібэральны склад думаньня. Яны так навучылі сваю апазыцыю ў Беларусі. Яны думаюць, што ў Беларусі змагаюцца за дэмакратыю ў іхным разуменьні.

У Беларусі трэба змагацца -- за Беларусь, за нацыянальны сьцяг свабоды, за кансалідацыю беларускай ідэі, супраць гэтага рэжыму. Вось супраць чаго трэба змагацца, а не ісьці на "выбары". Трэба байкатаваць гэты рэжым татальна.

**Навумчык:** На Ваш погляд, які аптымальны альгарытм паводзінаў у дачыненьні да Лукашэнкі, да афіцыйнага Менску мог бы быць з боку Брусэлю ці, шырэй, Захаду?

**Пазьняк:** З боку Брусэлю і з боку Захаду няма ніякага аптымальнага альгарытму. У іх проста няма дакладнай сыстэмнай палітыкі адносна гэтага рэжыму. Яны яго называюць, як і іхняя апазыцыя, -- "беларускім рэжымам". Ім ужо сто разоў сказана, паказана як і гэтай апазыцыі, -- яны ўсё роўна яго называюць "беларускім рэжымам". Чым растлумачыць такое захаваньне? Які гэта "беларускі рэжым"? Гэта антыбеларускі рэжым, які праводзіць этнацыд беларускага народа. І трэба называць рэчы сваімі імёнамі. І калі называць рэчы сваімі імёнамі, тады робіцца зразумелай сутнасьць барацьбы.

Але Захад ніколі гэтага не назаве. Яму перашкаджае іхняе лібэральнае думаньне. Бо тады трэба зусім другую палітыку праводзіць, зусім другія сілы ўключаць, зусім другую ідэалёгію. І мець нейкую канцэпцыю адносна Беларусі. Таму яны будуць жаваць гэтую жвачку, наконт "дэмакратыі ў Беларусі", і называць антыбеларускі рэжым Лукашэнкі "беларускім". Такое ўжо немагчыма цярпець, таму што гэта зьнявага, так ня можна ставіцца да народа. Народ нішчаць, зьнішчаюць ягонае школьніцтва, культуру, мову, абплёўваюць, хваляць Гітлера -- а яны яго называюць "беларускім рэжымам". Што гэта за палітыка і што гэта за палітыкі? Яны што, сьляпыя? У якіх яны акулярах існуюць? Таму ніякага адказу эфэктыўнага з боку Брусэлю ня будзе. Пацьвярджаю, што Ініцыятыва сёньня ў руках Масквы і Лукашэнкі, і гэтая ініцыятыва будзе ўвесь час. Сіметрычнага адказу з Брусэлю ня будзе, бо яго не існуе.

**Навумчык:** Сёньня Ўладзімер Пуцін заявіў, што гэты канфлікт не перашкодзіць інтэграцыйным працэсам паміж Беларусьсю і Расеяй. Таксама, мы бачым у апошнія тыдні такія крокі з боку афіцыйнага Менску, якія можна ацаніць як яшчэ больш шчыльнае прывязваньне Беларусі да Масквы -- ну хаця б фактычны пераход сістэмы супрацьпаветранай абароны пад кантроль расейскага генштабу. На Вашую думку, да якіх межаў у тым, што Вы называеце здачай сувэрэнітэту, можа пайсьці Лукашэнка? Ці ёсьць нейкая мяжа, перад якой ён можа спыніцца? Ці няма мяжы і ён ня спыніцца?

**Пазьняк:** Для яго няма мяжы, калі справа будзе ісьці аб яго ўладзе і аб яго існаваньні. Што датычна фразы Пуціна, што гэта не перашкодзіць інтэграцыі, дык гэта -- дыпляматычная фраза, якая паказвае, што -- вось, Лукашэнка, мы павінны зараз цясьней аб'яднацца, ня толькі войска, мы павінны і грошы мець агульныя, мы павінны і прадпрыемствы мець агульныя, і гэтак далей. Яны пра гэта і дамовіліся, магчыма, нават стварыўшы графік гэтай палітыкі. Таму фраза Пуцінаі празрыста паказвае, у чым сутнасьць дамовы Лукашэнкі і Масквы і ў чым сутнасьць гэтай палітыкі з амбасадарамі Эўразьвязу, якая толькі што пачалася.

Паўтараю, што ніякіх дамоваў сілаў супраціву з рэжымам Лукашэнкі ня можа быць. Ніякага становішча, якое можна было б палепшыць, дэмакратызаваць -- не існуе. Гэта антыбеларускі, антыдэмакратычны рэжым, які працуе ў інтарэсах сваёй улады, выкарыстоўваючы інтарэсы чужой дзяржавы. І чужая дзяржава зьяўляецца значна мацнейшай і ў палітычным, і ў эканамічным сэнсе, і ўрэшце скончыцца тым, што ён здасьць усё. І застанецца як пацук, загнаны ў кут. Паўтараю, ён вельмі небясьпечны для існаваньня нашай нацыі. Трэба думаць - як ліквідаваць гэты рэжым, як аб'яднаць нацыю на барацьбу з рэжымам, а не за "дэмакратыю ў рэжыме". Ня будзе дэмакратыі ў рэжыме, бо ў прынцыпе яна там ня можа быць.

Сяргей Навумчык
*29.02.2012 . http://www.svaboda.org/content/article/24500576.html*

# Spójrzenie o tożsamości w polityce

Tozsamosc narodowa i jej zadowolenie (w powiazaniu z interesam ekonomicznym i kulturowym) jest zrudlem i bodzcem stwozenia panstwa niepodleglego. Tozsamosc narodowa w znacznym stopniu wyznacza system polityczny, ma wplyw na gospodarke, kulture i zachowanie spoleczne. Glownym dobrom tozsamosci narodowej bialorusinow zawsze jest: jezyk narodowy, panstwo niepodlegle, kultura historyczna i wolnosc spoleczna. Bialorusin jest indywidualista, ale walczy (kiedy walczy) nie tyle o swoje prawo indywidualne, ile o sprawiedliwosc i porzadek spoleczny.

W XIX stoleciu (po utracie niepodleglosci Wielkiego Ksiestwa Litewskiego w koncu XVIII st.) tozsamosc narodowa polegala na tradycjach spolecznych, jezykowych i kulturowych, przywiazaniu do ziemi i terytoryum, na pamieci o wolnosci Wielkiego Ksiestwa Litewskiego (WKL) i Unii Greko-Katolickiej (unici -- 80% ludu na Bialorusi w XVIII st.). Wspomnienie o Wielkim Ksiestwe bylo glownym bodzcem walki o wolnosc i niepodleglosc od Rosji. Idea: wrocic so bylo, wrocic co odebrano, wrocic co swoje.

W koncu XIX st. (po niepowodzeniu wyprawy Napoleona i po nieudanym szeregu powstan za odrodzenie WKL) hasla sie zmienili wraz z formowaniem nowej nacji z nowym nazwiskiem – Bialorus. Idea narodowa w czolowcy narodowej (szlachta, inteligencja) teraz brzmiala – "Bialorus"; powstala apelacja do prostych ludzi, dazenie do stworzenia nowego panstwa niepodleglego, gdzie glownym atutem i dobrom konsolidujoncym stal jezyk bialoruski, a Wielkie Ksiestwo przekształcilo sie w grunt przyszlego panstwa narodowego, niepodleglosci, rozwoju kultury narodowej, ukorzenienia prawa na niepodlegle istnienie Bialorusi.

Ciekawa rzecz, ze imperium rosyjskie odrazu uswiadomilo sobie ogromna moc jezyka bialoruskiego w konsolidacji narodu po upadku Wielkiego Ksiestwa Litewskiego.

Juz w pierwszej trzeci stulecia okupacji byli zamkniete klasztory bazyljanckie i zniszczone nauczanie po bialorusku, spalono ksiazki bialoruskie; po zniesieniu Unii Greko-Katolickiej jezyk bialoruski byl zabroniony razem (sic!) z nowa nazwa "Bialorus" (rosporzadzenie rosyjskiego Senatu). A po porazcy powstania Kalinowskiego (styczniowego) glowny niszczy-

знойдзеце). Сапраўды, ну хто ж гэта будзе капаць яму да двух мэтраў у глыб, калі нічога няма. Але я ўжо ведаў і капаў.

Калі ў 1988 г. пачаліся раскопкі, сабралася вельмі шмат людзей, (нават маскоўскае тэлебачаньне ў першы дзень). Пачынаем капаць. Адзін мэтар, паўтары – ідзе толькі пясочак. Чыста – нічога няма. У гэтым пясочку я ўжо знайшоў фалангу чалавечага пальца. (А яна ж ня можа апынуцца там выпадкова. Зразумела, што гэта была магіла, яе раскапалі, фаланга выскачыла, засталася.) Значыць, павінна быць нешта на нізе, як правіла. Проста ў канцы 40-х гг. замятальшчыкі сьлядоў не дакапалі да канца (лічылі ўжо гэта непатрэбным, маўляў, хто там будзе капаць да 2-х мэтраў).

І вось дакапваем да 2-х мэтраў – і пайшоў пласт: чарапы зь дзіркамі ад куль у патыліцы. Зачышчаем – і ўсё відаць. Прысутныя начальнікі ўлады падыйшлі да ямы і моўчкі глядзяць. Твары іхныя асунуліся. На машыны – і паехалі.

Я думаю, -- падсумаваў Зянон Пазьняк, -- кроў людзкая не вадзіца. Курапаты – гэта такая зьява, што Бог не дазволіў, каб такое злачынства ды не раскрылася і пайшло ў пясок. І тут яны ашукаліся. Яны загналі самы сябеў кут. Дакумэнтацыя раскопак была з усіх бакоў (пракуратуры, МУС, Акадэміі, і камуністы прысутнічалі). І які рабіць задні ход? Немагчыма. Але ўсяроўна яны не хацелі ніяк прызнаваць, што ў Курапатах расстрэльваў НКВД. А вымушаныя былі гэта зрабіць.”

Як вядома, наступ на Курапаты на гэтым ня скончыўся. Пачалі прыдумваць розныя небыліцы: казалі, што ў Курапатах расстрэльвалі немцы, што там расстрэльвалі габрэяў. Дайшло да таго (кажа аўтар), што паўторна рабілі раскопкі, але ўсё пацьвердзілася. Тады вырашылі (ужо пры Лукашэнку) пракласьці праз Курапаты аўтастраду. Была вялікая барацьба (пра гэта можна прачытаць ў кніжцы).

Пазьней (зазначыў З. Пазьняк) вырашылі пабудаваць “горад сонца” – катэджы каля самага Курапацкага лесу, дзе павінны былі жыць багатыя людзі са сваімі грашыма, распустай, дзеткамі і сабакамі, і яны будуць усе ў тым “лесе”, зразумела, бегаць ды гуляць. І тут навалу ўдалося адпрэчыць. Усім гэтым – абаронай Курапатаў і стварэньнем Народнага Мэмарыялу – ужо дванаццаць гадоў займаецца Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ.

А некалькі гадоў таму непадалёк ад ахоўнай зоны Курапатаў пачалі будаваць цэнтар абслугі бензакалонкі (сэрвісны цэнтар). Там крамы і г. д. Адна асоба купіла невялічкі кавалачак зямлі і там павінна была пабудуваць гэты цэнтар. Праз нейкі час высьвятляецца, што там сапраўды нешта будуецца. Аказваецца -- будуецца рэстаран, які называецца “Бульбаш-хол”. Рэстаран з інтымнымі пакоямі. Будуюць яго нейкія рускія інвэстары з Расеі, якія нібыта адкупілі той кавалак зямлі пад сэрвіс-цэнтар. Астатнюю плошчу разам з ахоўнай зонай Курапатаў загарнулі так сабе.

Сябры КХП-БНФ высьветлілі (зрабіўшы абмеры), грубыя парушэньні межаў ахоўнай зоны Курапатаў, -- паведаміў Зянон Пазьняк. -- І ўвогуле, зямля гэта ня куплена – значыць захоплена. Цяпер гэтым займаецца пракуратура. Калі пракуратура будзе глыбока капаць – нешта высьветліцца, хоць я сумняваюся, бо тут замешана ўлада, няма сумненьня.

Наступная атака на Курапаты (для гэтага КГБ пастаянна рыхтуе свае кадры) пачалася ў мінулым годзе. Яны цяпер дзейнічаюць нібыта праз рускае таварыства Мэмарыял, утворанае ў 1989 г. як дэмакратычнае, антытаталітарнае, якое займалася пытаньнямі сталінскіх рэпрэсіяў. Цяпер гэтае таварыства знаходзіцца пад уплывам КГБ-ФСБ і фінансуецца з Крамля. У Менску ўтворана (але не зарэгістравана) быццам бы філія гэтага таварыства. Людзі з нібыта “філіі” дадумаліся да такой правакацыі: паставіць у Курапатах помнік польскім афіцэрам, расстраляным у Беларусі. Шукаецца нібыта частка Катынскага сьпісу (частка польскіх афіцэраў, якія, як мяркуецца, былі, магчыма, расстраляныя ў Беларусі). І гэта прытым, што раскопкі ў Курапатах паказалі: расстраляных польскіх афіцэраў там нязнойдзена. Яны могуць быць, але на сёньняшні дзень не выяўлена ні дакумантаў, ні археалагічных фактаў.

Навошта ўзьнікла такая ініцыятыва расейцаў? Чаго яны лезуць у Курапаты? Зразумела, што гэта правакацыя. Калі б ўзьнік ў Курапатах такі знак, то ўзьнікла б і

прывязка падзеі, сапраўднасьць якой не даказана. Несумненна, што гэта выклікала б канфлікт паміж палякамі і беларусамі (кантора ў гэты час пацірала б ручкі). І робіць гэта ўсё (гэтую правакацыю) нібыта расейскі Мэмарыял (падпалкоўнік Кузьняцоў, які займаецца рэпрэсіямі). Магчыма таксама, што тут увогуле хочуць сьціраваць грамадзкую думку на фальшывы шлях адносна сапраўднага месца расстрэлаў польскіх вайскоўцаў.

Цалкам магчыма, што тых афіцэраў расстралялі ў іншым месцы, а тут хацелі б паставіць фальшывы помнік. Правакацыя прадаўжаецца па сёньняшні дзень. Фактычна, ужо адбываецца канфлікт, ён ужо выкліканы. І усё гэта раскрывае эпіграф да кнігі: людзі, якія не разумеюць, у чым сутнасьць барацьбы за Курапаты, не разумеюць нічога.”

* * *

Наступная кніга, якую прадставіў для сваіх чытачоў Зянон Пазьняк -- ***“Добрая фатаграфія”***. Яна мастацтвазнаўчага кшталту і раскрывае сутнасьць фатаграфіі як мастацтва.

У гэтым пляне Зянон Пазьняк і тут зьяўляецца першапраходцам, бо такой кніжкі -- аб мастацтве фатаграфіі -- на Беларусі яшчэ не было. Яна ў пэўным сэнсе першая ў Беларусі. Пра фатаграфію як мастацтва расказана  даступнай мовай.

Кніга складаецца з шэрагу мастацтвазнаўчых эссэ, напісаных пра сусьветную фатаграфію, але выбар адвольны, суб’ектыўны, тое, што аўтар палічыў патрэбным даць у гэтую кнігу, што яго зацікавіла і чым ён хацеў падзяліцца з чытачамі.

У кнізе прадстаўлены і сусьветныя вядомыя фатографы, і аматары. Часам аўтар не зважае на невысокую тэхнічную якасьць фатаграфіі, калі яна адлюстроўвае вялікую эмацыйную сілу. У сваіх эсэ аўтар тлумачыць, чаму гэта так адбываецца.

“На Беларусі шмат добрых фатографаў, цікавая гісторыя фатаграфіі, пачынаючы ад Яна Булгака, Адамовіча, яшчэ з XIX-га стагоддзя. Тым ня менш, на вялікі жаль, на Беларусі да сёньняшняга дня не было ні аднаго фатаграфічнага часопіса – такі парадокс, -- зазначыў аўтар. -- Я цікавіўся гісторыяй фатаграфіі, цікавіўся Булгакам і сядзеў у архівах у Вільні, праглядзеў усе часопісы (якія было магчыма) і быў вельмі зьдзіўлены тым, што ў перадваеннай Польшчы (з 1920-га па 1939 год) я налічыў 15 часопісаў па фатаграфіі. Я знайшоў цэлую віленскую школу, і ня толькі пад уплывам Булгака. Вельмі шмат найцікавейшых фатаграфіяў.

У нас жа (у БССР) не было ні творчага саюзу фатографаў, ні часопіса, і гэтыя ўсе дасягненьні беларускай фатаграфіі ніяк не абагульненыя, не зафіксаваныя, не прааналізаваныя. Таму задача перад мастацтвазнаўцамі-беларусамі стаіць вялікая – усё гэта некалі падняць.”

У сваёй кнізе Зянон Пазьняк засяродзіў ўвагу на такой важнай адметнасьці фатаграфіі, як магія спыненага часу. “Я лічу (са мной могуць не згаджацца), што фатаграфія ёсьць найвялікшае мастацтва ў сістэме ўсіх мастацтваў, -- падкрэсьліў аўтар. -- Яна  можа тое, што ня можа ні адно мастацтва.”

У пацьвярджэньне сваіх слоў, аўтар спаслаўся на прыведзеныя ў кнізе факты, якая ёсьць сувязь фатаграфіі з часам і сувязь з прасторай. З. Пазьняк сцьвярджае, што мастацкае ўзьдзеяньне і эстэтычная моц фатаграфіі вырастаюць разам з часам. “Паспрабуйце паглядзець тыя фатаграфіі, на якіх адлюстраваны некаторыя вашы блізкія людзі, сябры, якія ўжо не жывуць. Паглядзіце тыя фатаграфіі (звычайныя, аматарскія), якія зроблены 30-40 ггадоў таму. І вы заўважыце, што вы глядзіце на іх зусім па-другому, што ў вас у душы нараджаецца трымценьне. Фатаграфія (чым далей яна аддаляецца ад часоў, калі яна была зроблена) раскрываецца перад намі духоўна, выклікае ў нас пачуцьці, эмоцыі. У гэтым яе мастацкая сутнасьць.”

Аўтар выданьня шмат распавядае пра гэтую сутнасьць фатаграфіі. Ён тлумачыць, чаму так адбываецца, у чым прырода магіі фатаграфіі і што гэта за мастацтва – фатаграфія.

Прынцып кнігі такі: эссэ і адна-дзьве-тры фатаграфіі, якія ілюструюць пэўную ідэю. Як зазначыў аўтар, праца аказалася вельмі працаёмкай, прышлося шукаць, рабіць шмат рэпрадукцый, але кніжка ёсьць і яна аддадзена на суд чытачу.

Трэцяе выданьне, якое ажыцьцявіў Зянон Пазьняк, гэта невялікчкая брашура ***“Менскі Гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі. 1990-1991 гг.”***, напісаная дэпутатам Менгарсавета XXI скліканьня ад Беларускага Народнага Фронту Галінай Пазьняк.

“Менскі гарсавет дастаткова важная адміністрацыйная адзінка ў Беларусі, і там было дастаткова дэмакратычных людзей, фронтаўцаў, і шмат падзей было зьвязана з гэтай барацьбой за незалежнасьць Беларусі, барацьбой з камунізмам. Было прынята шмат адпаведных пастаноў, якія нараджаліся ў выніку барацьбы. Таму гэтая гісторыя не павінна зьнікнуць, мусіць быць адлюстравана.

Добра, што гэтая брашура напісаная, і я лічу (зазначыў Зянон Пазьняк), яна надзвычай важная для нашай культуры. Хаця б тое, што Менскі гарсавет з ініцыятывы дэпутатаў БНФ яшчэ 5 верасьня 1991 г. першы прыняў рашэньне аб беларускім Бел-Чырвона-Белым Сьцягу над Гарсаветам. Дзяржаўны сьцяг быў прыняты 19 верасьня, а 5 верасьня Менскі Гарсавет ужо прыняў сваё рашэньне, што разам з існуючым сьцягам БССР над будынкам Гарсавета ўсталёўваецца нацыянальны БелЧырвона-Белы Сьцяг. І гэта адзіны мясцовы Савет, які прыняў такое рашэньне, што сталася вынікам велізарнай барацьбы фронтаўцаў з камуністычнай намэнклятурай. Наколькі гэта важна было для людзей, якія выходзяць на плошчу – убачыць, што там разьвіваецца нацыянальны Сьцяг.

У тым жа 91-м годзе Менгарсаветам было прынята рашэньне аб Магдэбурскім гэрбе, які вярнуўся ў Менск, таксама было прынята рашэньне (яно дзейнічае і па сёньняшні дзень) аб дэмантажу помніка Леніну і аб стварэньні архітэктурнай кампазыцыі, якая адпавядае нашай гісторыі часу. Гэта зрабіў Менскі гарсавет пад уплывам дэпутатаў Народнага Фронту, і гэта гісторыя змаганьня, якую трэба ведаць і шанаваць.”

* * *

Пасьля прадстаўленьня кніг пачалася гаворка і адказы на пытаньні пра сучаснае становішча ў Беларусі, аб стварэньні Вызвольнага Руху.

“Трэба рабіць тое, што рабіў і робіць Фронт, -- падсумаваў Зянон Пазьняк. -- Найперш трэба дапамагаць грамадзтву ў нацыянальнай асьвеце. Ад беларусаў адабралі і школу, і гісторыю, і інфармацыю. І што ж, яны вырастуць такія, ж цёмныя, як Лукашэнка? Гэтага ня можна дапусьціць. Таму задача інтэлігенцыі, партыі, грамадзкіх рухаў – асьвячаць свой народ, дапамагчы яму ў нацыянальнай асьвеце, казаць, што такое ёсьць нашая мова, што ёсьць дэмакратыя, што такое культура, чаму гэта патрэбна, чаму ня трэба баяцца.

Палітычныя партыі павінны ўзяць на сябе такую асьветніцкую нагрузку, бо гэта ёсьць ужо палітыка. І пакуль мы гэтага ня зробім, нічога станоўчага ня будзе.

Трэба рыхтаваць сваё нацыянальнае асяроддзе. Так рабілася паўсюдна ў Эўропе, Вясна народаў пачыналася з гэтага.

Усё ў нашых руках. За работу. І калі нехта думае, што вынік будзе адразу – памыляецца. Ня будзе выніку, пакуль ня будзе пераломў ў грамадзтве.

Уявіце, што ў 1970-х гг. выйшаў бы чалавек на вуліцу і сказаў бы аб злачынствах камунізма, аб Курапатах. Што зь ім было б? Падумалі б, што гэта вар’ят.  А ў 1989 годзе – пра гэта ўжо гаварылі ўсюды (і на кухнях, і на мітынгах, і на плошчах). Бо грамадзтва пасьпела, а для таго, каб яно пасьпела, трэба працаваць гадамі. (У час галоснасьці колькі было літаратуры, выступаў, лістовак выпушчана, і ўсе ўсё чыталі.)

Надзея ёсьць, але яна вымагае працы. Ніякая ідэя, самая выдатная, нічога ня вырашыць, калі не дапамагчы грамадзтву яе зразумець і за яе стаяць.

У заключэньне імпрэзы сьвятар айцец Леанід падзякваў першаадкрывальніка Курапатаў Зянона Пазьняка за ягоную вялікую працу ў палітычнай і навукова-асьветніцкай сфэрах беларускага жыцьця. Як адзін з удзельнікаў барацьбы за

Курапаты, айцец Леанід асьвячаў курапацкія крыжы. У сваім слове сьвятар падкрэсьліў, што Народны Мэмарыял Курапаты -- гэта мэмарыял усяго насельніцтва Беларусі. "Курапаты – агульнае найменьне ўсё новых і новых знаходак пахаваньняў вакол кожнага абласнога і раённага цэнтра Усходняй і Цэнтральнай Беларусі. Амаль пад кожным райцэнтрам былі такія катоўні, дзе праводзілі маскалі-бальшавікі генацыд нашай нацыі."

На заканчэньне айцец Леанід прачытаў малітву, якую так і назваў – малітва Курапацкая.

*2012 г.* ***Запісала Марыля Якушэвіч***

# 2013

# Зянон Пазьняк: Чарнобыль за намі, Чарнобыль перад намі

Сёлета 27-я гадавіна Чарнобыльскай катастрофы. Тады, у 80-х і 90-х гадах, нам, фронтаўцам, удалося зрабіць шмат, зьняць завесу злачыннай сакрэтнасьці і ўзьняць чарнобыльскае пытаньне на дзяржаўны і нацыянальны ўзровень, удалося вывесьці грамадзтва на шлях выратаваньня ад радыяцыі.

Цяпер, калі на нашу зямлю апусьцілася цемра, гэты шлях затаптаны, грамадзтва адкінута на ўзровень 1988 года, і людзі (чаго раней не было) пагаджаюцца са сьмерцю, якую ім ужо падрыхтавалі ворагі Беларусі.

Прычына – акупацыйная палітыка ўладнага рэжыму. Нешматлікасьць беларускай адраджэнскай эліты і нікчэмнасьць здэнацыяналізаванай інтэлігенцыі далі магчымасьць разьвівацца антыбеларускай палітыцы, спраектаванай у Маскве. Працяг Чарнобыля нам рыхтуюць у Астраўцы. Цяпер асноўная беларуская сіла барацьбы з Чарнобылем павінна быць накіравана на Астравец. Тыя, хто будуюць там атамную станцыю, тыя яе і ўзарвуць. Астраўца нацыя ўжо не перажыве. Будзе зьнішчана нават Вільня. Толькі круглыя дурні і самагубцы, якія не разумеюць што такое Расея і атамная электрастанцыя, могуць супакойвацца тады, калі ўсёй нацыі рыхтуюць атамную катастрофу.

Мы ўсё разумеем. Заўважце, што за апошнія восем гадоў акупацыйныя антыбеларускія ўлады не далі нашай Партыі ніводнага дазволу (акрамя "Дзядоў") на адзначэньне знакавых падзей беларускай гісторыі. Гэта сымптаматычна. І мы ведаем чаму яны так робяць. Таму мацуйма нашы сілы і дзейнічаем паралельна.

Усім нам зразумела, што каб збавіцца ад Чарнобылю, ёсьць толькі адзін шлях – ліквідацыя антыбеларускага рэжыму. Гэтаму пасьвечана наша дзейнасьць і наша змаганьне. Слава Беларусі!

*26 красавіка 2013 г.* Зянон Пазьняк

# 25 гадоў пасьля адкрыцьця генацыду Курапатаў

***Адкрыцьцё Курапатаў было абнародавана 3 чэрвеня 1988 года пасьля археалягічных раскопак, гістарычных і сацыяльных дасьледваньняў аўтара гэтых радкоў. Артыкул быў надрукаваны ў газэце "Літаратура і Мастацтва", падпісаны З. Пазьняком і Я. Шмыгалёвым.***

Ужо 25 гадоў ідзе барацьба за існаваньне Курапатаў. Гэтая барацьба, не на жыцьцё, а на сьмерць паміж жывой Беларусяй і пераемнікамі савецкага НКВД. Тут, пад Менскам, найбольшыя, рэальна існуючыя могілкі генацыду ў сьвеце. Тут адкрытая праўда і выяўлены ўлікі злачынства страшнай цёмнай сілы, імя якой рускі НКВД-КГБ – сілы, якая трымае цяпер абсалютную ўладу ў Расеі і Беларусі. Усё, што адбывалася і адбываецца ў Курапатах пазначана знакам гэтага сьмяртэльнага змаганьня. Ужо паздыхалі забойцы і выдыхаюць апошнія крывавыя пэнсійныя гэбісцкія ўпыры, а вайна працягваецца. І будзе працягвацца пакуль будзе стаяць Расея і яе НКВД – гэтае скопішча ўсяленскага зла. Калі людзі таго не разумеюць, яны не разумеюць нічога. Ім лепш нічога не казаць пра Курапаты (тым больш пісаць).

Апошняя значная атака на Курапаты была ў мінулым годзе (правакацыя падпалкоўніка Кузьняцова). Вызначыўся шэраг асобаў, якія назваліся арганізацыяй маскоўскага Мэмарыяла (цяпер ён на ўтрыманьні Крамля). На самай справе групы такой ў Мемарыяле не зарэгістравана. Група ёсьць сама па сабе і створана нядаўна. Некаторыя асобы з гэтай групы прадстаўлены як вязьні Гулага (Рамановіч). На самай справе сп. Рамановіч вязьнем Гулага не зьяўляецца.

У траўні гэтыя людзі, удзельнікі мінулагодняй правакацыі, аб'явілі, што яны будуць ладзіць агульнанацыянальны суботнік у Курапатах. Ня маючы даверу да гэтых асобаў я лістоўна папрасіў сяброў КХП—БНФ і "Хрысьціянскай злучнасьці Курапаты", якія будуюць і даглядаюць Народны Мэмарыял, каб яны арганізавалі назіраньне за тым, што там будзе рабіцца, узгадніўшы тое з навуковым кіраўніком Народнага Мэмарыялу. Істотна, каб Мэмарыялу не была нанесена шкода.

Шкода не быля нанесена, дзякуючы нашым назіраньням (Нашы людзі працавалі як звычайна, рабілі руцінную працу). Вось уся сутнасьць і ўсе падзеі.

Тым часам на радыё Свабода зьяўляецца матэрыял "Не падзялілі Курапаты". Анонс, зроблены па ўсіх тэхналягічных правілах дэзінфармацыі, якую мы часта назіраем ў змаганьні з канторскім рэжымам за Курапаты.

Тое, што журналісты ў масе сваёй не разумеюць, што адбываецца ў Беларусі, не арыентуюцца ў падзеях – гэта, як кажуць аб'ектыўная рэальнасьць. Тое што вялікая частка іх заангажавана ў той жа КГБ – таксама рэальнасьць – рэальнасьць акупацыйнага маразму. Непакоіць іншае. За 19 гадоў антынацыянальнага акупацыйнага рэжыму не зьявілася ні воднай асобы ні воднага журналісцкага імя, ні воднага пяра, якое б годна адлюстроўвала трагедыю Беларусі, якое б было на слыху, якое б чыталі, якое б чакалі. Шэрасьць беспрасьветная, без палёту і праўды, драбната, канфармізм і пустата на фоне рэальнай пагібелі Беларусі.

Трагедыя нацыі ўзбуджае сілы і талент у творцаў, пішуць крывёй сэрцаў. Ствараюць вялікія творы. Расея, стоўчаная пуцінскім гэбізмам, сьпітая, крывывая. Але там была Ганна Паліткоўская. Забілі. Лісьцеў – забілі. Шчакаціхін – забілі. Калі што станоўчае зьяўляецца ў расейцаў – яны яго тут жа зьнішчаюць

Праз 25 гадоў пасьля адкрыцьця генацыду Курапатаў мы адчуваем вялікую сілу. І з намі Бог.

Камуністычны Нюрнберг яшчэ наперадзе. Курапаты паслужаць таму, каб нашчадкі зьверстваў і антычалавечых ідэй не схаваліся ад пакараньня.

*30 траўня 2013 г.* Зянон Пазьняк

**P.S.**
*Ніжэй зьмяшчаем ліст, які спадар Юры Адамавіч Беленькі накіраваў на радыё Свабода*

29 траўня, сёлета, я даў згоду на запрашэньне РС "Свабода" прыняць удзел у перадачы "Свабода без гальштукаў". Як было паведамлена журналістам "Свабоды" Вячаславам Ракіцкім, будзе абмярковацца тэма добраўпарадкваньня Курапатаў.
Анонс дадзенай перадачы, які зьявіўся на старонцы "Свабоды" выклікаў у мяне, мякка кажучы, пачуцьцё неразуменьня. Саму назву анонса" Не падзялілі Курапаты" інакш як правакацыйнай я назваць не магу. У

тэксце анонса гаворыцца пра нібыта ”рэзкую крытыку з боку КХП-БНФ, сябры якой шмат гадоў даглядаюць урочышча”. Задаецца правакацыйнага кшталту рытарычнае пытаньне: ”Ці могуць быць Курапаты манаполіяй нейкай палітычнай ці грамадзкай структуры?”

Паважаныя свабодаўцы, я з павагай стаўлюся да вашай працы дзеля Беларусі, я неаднаразова прымаў удзел у вашых перадачах. Але ў дадзеным выпадку, калі яшчэ напярэдадні перадачы даюцца непраўдзівыя ацэнкі, выдуманныя неіснуючыя праблемы і робяцца высновы відавочна недобразычлівага кшталту, я не магу прыняць ўдзел у гэтай перадачы.

*29.05. 2013 г.* Юры Беленькі

# ШКОДНІЦТВА Ў КУРАПАТАХ

У Курапацкім лесе з боку незаконна пабудаванага рэстарана высякалі просеку, каб можна было зьмяніць межы ахоўнай зоны і праз круцельства і махінацыі паспрабаваць вывесьці з-пад адказнасьці парушальнікаў закона.

лісьце “Аб шанаваньні Курапатаў” (21. 05. 2013) да кіраўніцтва і сяброў КХП-БНФ і Хрысьціянскай Злучнасьці Курапаты я выказаў сумненьні ў рэальнай сутнасьці заклікаў арганізаваць агульнанацыянальную талаку ў Курапатах з боку людзей, якія ўжо ня раз адзначыліся ў правакацыях супраць Народнага Мэмарыяла. Я прасіў сяброў Партыі ўважліва назіраць за паводзінамі гэтых асоб, каб яны не зрабілі шкоды мэмарыяльнаму помніку, бо ініцыятывы такіх асобаў не бываюць шчырымі і маюць падвойны сэнс.

Так яно і аказалася. Доглядам, зборам і вывазам сьмецьця гэтыя людзі не займаліся, а сканцэнтраваліся на высечцы просекі на ўскрайку Курапацкага лесу, што з боку рэстарана ў ахоўнай зоне, будаўніцтва якога прыпынена пракуратурай. Уласьнікі рэстарана спрабавалі яшчэ раней спакусіць каго-небудзь з “грамадзкасьці” living рознымі прапановамі, кшталту прыняць удзел у дабраўпарадкаваньні помніка (прафінансаваць) і іншым. Відаць, вынікам такой актыўнасьці “рэстарана” стала ідэя, якая зьявілася ў афіцыйных колах, -- “удакладніць” (чытай “зьмяніць”) межы ахоўнай зоны помніка. (Тым часам межы ёсьць і даўно ўстаноўлены). Узьнікла адпаведнае “даручэньне”, зьявіўся архітэктар, які пачаў ужо працу над заданьнем.

У гэты ж час зьяўляецца ініцыятыва вядомых асобаў аб “агульнанацыянальнай талацэ” ў Курапатах. І сапраўды пасьля 25 траўня некалькі дзён падрад прыходзіла ў Курапаты група маладых мужчын. На ўскрайку лесу ад рэстарана яны высеклі кусты і маладыя дрэвы просекай 20 мэтраў у шырыню і 200 мэтраў у даўжыню, пакінуўшы рэдкія дрэвы з боку поля (там, дзе рэстаран). Ніякім доглядам тэрыторыі яны не займаліся. Пасьля іх засталіся груды сьмецьця. Вывазам жа кустоўя і зсечаных маладых дрэваў вымушаныя былі заняцца лесьнікі зь Лясной гаспадаркі Зеленгаса. Працаўнікі гэтай гаспадаркі былі вельмі абураныя, убачыўшы, што тут наварочана і колькі загінула дрэў. (За зсяканьне дрэў у лесе ўстаноўлена строгая адказнасьць і штрафы.)

Наконт штрафаў і адказнасьці -- тут справа лесьнікоў (яны, дарэчы, ужо забаранілі высечку і мяркуюць паставіць на просецы шлагбаўм).

Нас цікавіць, навошта “ініцыятары” пад выглядам “талакі” зрабілі высечку на ўскрайку лесу з боку рэстаран-бардэля?

Адказ відавочны: каб зьмяніць мяжу Курапацкага лесу, адсунуць яе яшчэ на мэтраў 30-40 далей ад рэстарана, каб потым, у выніку існуючага “даручэньня”, можна было “ўдакладніць” мяжу ахоўнай зоны так, каб рэстаран-бардэль апынуўся па-за яе межамі, і такім чынам па-ашуканцку паспрабаваць зьняць судовую адказнасьць за яго незаконнае будаўніцтва.

У плане юрыдычным, аднак, гэтая маніпуляцыя ніяк не ўратуе парушальнікаў закона (які ня мае зваротнай сілы), бо рэстаран незаконна пабудавалі ў існуючай ахоўнай зоне Курапатаў. Закон дзейнічае. Значыцца, спадзяюцца на круцельства.

У справе аховы помнікаў я ўдзельнічаю з сярэдзіны 1960-х гадоў і шмат наглядзеўся на гэтакія фокусы бюракратыі і парушальнікаў. Прыцягнуць іх да суду за саветамі было, практычна, немагчыма. Цяпер, на жаль, амаль нічога не зьмянілася. Стала нават горш (там, дзе ўплываюць грошы).

У справе Курапатаў працягваецца вайна паміж расейскім ФСБ-КГБ-НКВД (якія зацікаўлены ліквідаваць улікі генацыду і дзейнічае схавана) і беларускімі людзьмі, якія клапоцяцца за існаваньне і зьберажэньне помніка. Тут, ў гэтай вайне, вылазяць на паверхню і дасьледчыкі-палітрукі, і ліпавыя вязьні Гулагу, і ліпавыя “дэмакраты”, і проста недалёкія людзі, якіх лёгка настроіць. Спробы ўплываць на падзеі ў Курапатах з боку антынароднай канторы не спыняюцца. Але марныя гэта спробы, бо ўсё будзе выведзена на чыстую ваду, на сьвятло, і ад адказнасьці (ад маральнай адказнасьці, найперш) ніхто не схаваецца.

*6 чэрвеня 2013 г.* ЗЯНОН ПАЗЬНЯК

# АБ АНТЫКАНСТЫТУЦЫЙНЫМ РАШЭНЬНІ ПРА РАЗЬМЯШЧЭНЬНЕ РАСЕЙСКАЙ ВАЕННАЙ БАЗЫ Ў БЕЛАРУСІ

**(Заява)**

Змова А. Лукашэнкі і кіраўніцтва Расеі аб стварэньні ў Беларусі пад Баранавічамі расейскай ваеннай базы зьнішчальнай і стратэгічнай авіяцыі супярэчыць карэнным нацыянальным інтарэсам беларускага народа, зьяўляецца антыканстытуцыйным рашэньнем, адчыняе дарогу да ваеннай акупацыі Беларусі.

Кіраўніцтва ўлады, якое прымае такое антынацыянальнае рашэньне, нясе адказнасьць перад народам Беларусі па самым высокім кошце. Чужыя ваенныя базы не павінны існаваць на тэрыторыі нашай Айчыны.

*12 траўня 2013 г.*
г. Менск.

**Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі -- БНФ**

## *Ліст С. Навумчыку*

Дарагі Сяргей.

Прачытаў твой артыкул пра канторскі праект "памылкі" (Свабода,15-07-2013). Артыкул велмі добры, але шкода што ты не адзначыў істотную рэч: Гістарычная і ў поўным сэнсе ўнікальная перамога 25-га жніўня 1991 года стала магчымай у выніку перш за ўсё таго, што мы, Фракцыя БНФ, не зрабілі ў тых складаных умовах ніякіх палітычных памылак , маючы 8 адсоткаў рэальных галасоў, змаглі дамінаваць у парляманце і вырваць Незалежнасьць Беларусі. Любая памылка ў тых умовах магла стаць фатальнай.

Пасьля 1994 года, калі ўладу забралі антыбеларускія сілы, ніякія выбары і рэфэрэндумы ўжо выйграць было не магчыма. Новая ўлада перастала выконваць законы. Стаўка была на сілу, фальсіфікацыю і ашуканства. Узьнікла новая рэальнасьць улады, якая

існуе па сёньняшні дзень. Тут выбараў няма. Пра якія "памылкі" тут яшчэ можна казаць? Такой катэгорыі як "памылкі" ў такіх умовах увогуле не існуе.

У 1995 годзе, пры тых дзікіх абставінах лукашысцкіх выбараў, у Вярхоўны Савет цудам праваліся чатыры дэпутаты ад БНФ -- Юры Беленькі, Валянцін Голубеў, Генадзь Грушавы, Зянон Пазьняк. Прытым, калі мяне не прапусьцілі адразу (выкінуўшы 500 галасоў), то перамогу астатніх вымушаны былі зафіксаваць афіцыйна і толькі потым па загаду зь верху выкінулі з дэпутатаў Ю. Беленькага і В. Голубева (нават не праймаючыся якім-небудзь праўным абгрунтаваньнем). Калі б нас у 13-м вярхоўным Савеце было 4-х, то імпічмент 1996-года адбыўся б і Шарэцкі з Чарнамырдзіным і іншымі маскоўцамі шмат бы не цалаваўся.

У гэтай штучнай тэме так званых "памылак" трэба разумець яе канторскую распрацоўку. Пра гэта я пісаў і гэта адзначаў ня раз ў сваіх выданьнях. Масква і Лубянка ў 80-х і пачатку 90-х гадоў пацярпела ад БНФ некалькі ганебных паразаў там дзе ў іх была поўная ўпэўненасьць і ўся сіла (Гэта найперш Незалежнасьць Беларусі і Курапаты). Пасьля мабілізацыі ўсіх сваіх сілаў і забраньня ўлады ў Беларусі, яны пры дапамозе немцаў змаглі разбурыць Фронт і стараюцца цяпер зьнішчыць яго палітычны і гістарычны аўтарытэт шляхам прапаганды вобразу нікчэмнасьці, распаўсюджваюць чуткі, што, маўляў, не рэжым вінаваты, які дзейнічае бандыцкімі мэтадамі пры дапамозе Масквы, а БНФ, які тут, маўляў, нарабіў "памылак" (пры гэтым выказваюць розную лухту, маўляў, каб Фронт не памыляўся, дык рэжыму не было б. Не рэжым вінаваты, што нішчыць беларусаў, а беларусы, бо церпяць, што іх нішчаць і г. д.). Гэтай прымітыўнай псіхалагічнай маніпуляцыі хапае для пэўнай часткі людзей. Тым часам агентура пастаянна і ўпарта агучвае такі прыём на ўсіх ўзроўнях. Калі нехта (хто дзякуючы нам ёсьць цяпер грамадзянінам Беларусі) піша пытаньне: "Скажіте, какіе ошібкі совершал БНФ?", то для мяне гэта першы тэст на сексота і агентуру. І яшчэ не было выпадку, каб я тут памыліўся.

Агульная наша бяда -- адсутнасьць цяпер ва ўмовах антыбеларускай палітыкі сьпелага нацыянальнага палітычнага класу. Гэта адна з прычынаў жывучасьці рознай прапагандысцкай ды канторскай паліт-лухты. Можа нават большая прычына, чым адсутнасьць у краіне свабодных беларускіх сродкаў масавай інфармацыі. Хаця гэта ўзаемазьвязана.

*15-07-2013 г.* Зянон Пазьняк

# Прадмова да рэсурса <Interpalit-Adradžeńnie>

Беларусь перажывае вельмі цяжкі час духоўнага і этнічнага разбурэньня. Гэты час, калі ўладарыць цемра і чужая ўлада.

Маштаб нацыянальнага вынішчэньня каласальны: разбурана і споена алькаголем беларуская вёска, задушана беларускае кнігадрукаваньне, музыка, фундамэнтальная і гуманітарная навука, ліквідаваны вольны беларускі друк, нацыянальнае радыё і тэлебачаньне, практычна, ліквідавана беларуская школа, зьнішчана ўся лінейка беларускай адукацыі, узровень якой катастрафічна абніжаны. Ужо на сёньня антыбеларускі рэжым выпусьціў у сьвет пакаленьне, ня здольнае ўспрыняць тэхналягічныя, гуманітарныя і эканамічныя выклікі XXI стагоддзя. Узровень застаўся ў індустрыяльна-калгасным грамадзтве. А гэта – адсталасьць і крах, бо сьвет стаў іншым. Цемра чужой улады небясьпечна затармазіла беларускае нацыянальнае разьвіцьцё, ахаяўшы і абпляваўшы ўсё сьвятое, разумнае, сьветлае, добрае, вечнае.

Наша задача – зьберагчы ўсё беларускае ад зьнішчэньня, а што разбурана – адрадзіць. Дзеля гэтага найперш трэба зьбіраць здаровыя беларускія сілы, гуртаваць беларускі інтэлект, адукацыю, здаровы розум і здаровы дух. Такія людзі павінны быць

разам. Неабходна ведаць карціну страты і паказаць магчымасьці направы. Павінны быць ідэі адраджэньня і пабудовы сьветлай Беларусі. Трэба прапанаваць канцэпцыі адраджэньня страчанага, пэрспэктыву рэальнай і ідэальнай Беларусі. Будзем разам думаць пра лёс Бацькаўшчыны і набліжаць яе будучыню. Беларусь перадусім. Перш за ўсё – для Беларусі, бо яна ў бядзе і патрабуе нашага розуму і нашых сэрцаў.

Верма ў сьветлыя дні. Памятайма, што мы можам дапамагчы Бацькаўшчыне.
Бярэмся – і будзе вынік. Ёсьць шмат шляхоў, як пазбавіцца ад цемры і акупацыйнай улады, ёсьць шмат спосабаў, як адрадзіць краіну і пабудаваць вялікую Беларусь! Ёсьць вельмі шмат працы, але вельмі мала працаўнікоў.

Станьма імі і пачнем працаваць дзеля будучыні нашай Айчыны.

*02. 07. 2013* Зянон ПАЗЬНЯК

# 2014

# ПАДТРЫМАЕМ УКРАІНУ

Месяц таму, 23 студзеня, на рэсурсе "Інтэрпаліт-Адраджэньне" (і на іншых старонках) мне прыходзілася пісаць ў звароце "Слава Ўкраіне!", што ва ўкраінскай рэвалюцыі ёсьць толькі два варыянты разьвіцьця падзеяў: мірны пратэст на Майдане і (вынікаючы адсюль) разгром рэвалюцыі, альбо другі варыянт – наступ і барацьба, і вынікаючая адсюль агрэсія Расеі супраць Украіны.

Падзеі пайшлі па другім варыянце. Па варыянце акупацыі.

У час вострых грамадзка-сацыяльных канфліктаў, людзі, як правіла, на жаль, не заўсёды кіруюцца рацыё і не схільныя нешта пралічваць наперад. Асобы, якія разумеюць, павінны б у гэты час кіраваць працэсамі. Але кіруюць тыя, якія ёсьць, альбо тыя, якіх запатрабаваў час. На жаль, новае кіраўніцтва Украіны, як мне здаецца, крыху недаацэньвае пуцінскую пагрозу ліквідаваць дзяржаўнасьць Украіны (Пуцін раней пра тое казаў прэзыдэнту ЗША). Ім гэта, відаць, здаецца несур'ёзным. Хаця гэта якраз сур'ёзнае, а спадзяваньні на Эўропу (Эўразьвяз) – во гэта ўжо ёсьць несур'ёзна.

Пачалася расейская агрэсія на Украіну, пачалася клясычная расейская акупацыя, як у Прыбалтыцы ў 1939-40-х, як у Чэхаславаччыне, як у Аўганістане. Стандартная акупацыйная расейская тактыка. Але складваецца ўражаньне, што ва ўкраінскім кіраўніцтве яшчэ ня ўсе ўсьведамляюць, што пачалася вайна за Ўкраіну і трэба сур'ёзна і хутка рыхтавацца да барацьбы самым, а не спадзявацца на прадажную Эўропу і на міжнародную супольнасьць.

Стрыманасьць новага кіраўніцтва Украіны перад чужынскай агрэсіяй мае, праўда, сваю логіку і абгрунтаваньне. Абставіны наўкола склаліся некарысныя для Украіны. Эўразьвяз слабы і нікчэмны. У вайсковым пляне – гэта мізэр, які ніколі ня стане "паміраць за Гданьск" (гэта значыць за Крым). У Амэрыцы, на жаль, Абама. А ўкраінская армія ня тое, што слабая, яна нябоездольная, і грошай у дзяржаўнай скарбніцы няма. Але ёсьць самае галоўнае -- моцны ўкраінскі народ, які здольны з голымі рукамі пайсьці на расейскія куляметы. Таму ўрэшце рэшт перамога мусіць быць за Украінай.

Гледзячы на тое, што вытварае цяпер у дачыненьні да Ўкраіны ашалелая пуцінская хунта, якая наплявала на ўсе міжнародныя правілы, прынцыпы і пагадненьні, мне ўспамінаецца Рональд Рэйген зь ягоным дакладным вызначэньнем імпэрыялістычнай Расеі як "скопішча зла" і небясьпекі для ўсяго сьвету. Вось і цяпер, халодным бандыцкім розумам ацаніўшы часовую дзяржаўную і вайсковую слабасьць Украіны і нікчэмнасьць Эўропы, гэбоўская Расея ў сваім выпрацаваным акупацыйным стылі напала на Ўкраіну. Вось вам і XXI стагоддзе, і ўся дэмагогія. Вось вам і "брацкі" народ. Гуманістычна яны існуюць яшчэ ў сярэднявеччы.

У сваім звароце я пісаў, што пры варыянце вайны нам, беларусам, неабходна дапамагаць украінцам і падтрымліваць украінскі народ усімі спосабамі. Ваенныя дзеяньні могуць быць перанесены (і ўжо цалкам апраўдана) на тэрыторыю агрэсара, канкрэтна ў Маскву, дзе мільёны нярускіх людзей патэнцыйна маглі б выступіць супраць пуцінскай гэбісцкай хунты і ськінуць яе крывавы крамлёўскі трон, пакуль хунта злачынцаў не абпырскала крывёй народы. Падтрымаем крымскіх татар і іхняе права жыць на сваёй ўласнай спрадвечнай зямлі! Падтрымаем вольную Украіну! Прывітаем Расею бяз Пуціна!

Жыве Беларусь! Слава Украіне!

*28. 02. 2014* Зянон ПАЗЬНЯК

# РЭПРЭСІІ І РАСПРАВА

Кіруючы рэжым сфабрыкаваў у лістападзе тры судовыя справы супраць Юры Адамавіча Беленькага і тым самым супраць Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі -- БНФ. Цынічны характар фабрыкацыі паказвае, што сьпешна выконваецца палітычны загад, які паходзіць, магчыма, з-за межаў Беларусі.

Сутнасьць справы. У пачатку лістапада КХП--БНФ традыцыйна адзначала Дзяды. 2-га лістапада – мэмарыяльнае шэсьце ў Курапаты і мэмарыяльны мітынг ў Курапатах і 9-га лістапада – мэмарыяльнае шэсьце ў Лошыцу. Колькасьць удзельнікаў у межах 1000 асобаў у Курапатах і ў межах 50-ці асобаў у Лошыцы. Мэмарыяльныя мерапрыемствы афіцыйна дазволеныя ўладамі, зь якімі пад відэазапіс удакладнены ўсе аспэкты мерапрыемстваў, і якія бездакорна выкананыя арганізатарам.

Бездакорнасьць пацьвярджаецца адсутнасьцю заўваг з боку назіральных ворганаў парадку у тым ліку і праваабарончых арганізацыяў. Жалобнае шэсьце і адзначэньне памяці ў Курапатах адбыліся традыцыйна. Парадак, чысьціню і нават медыцынскае абслугоўваньне (яно не спатрэбілася) як заўсёды забясьпечыў арганізатар па дамоўленасьці з уладай (што зафіксавана на відэазапісе Менгарвыканкама). Арганізатарам зьяўлялася КХП--БНФ. Адказны за мерапрыемства Юры Беленькі.

12-га лістапада Юры Беленькага па павестцы выклікалі ў міліцыю. На яго склалі адразу тры пратаколы. Абвінавачваньне -- незаключэньне дамовы з уладамі аб забесьпячэньні парадку, медслужбы і пажарнай аховы мерапрыемства і, адпаведна -- неаплата гэтага. І гэта нягледзячы на тое, што Менгарвыканкамам нават не было прынята рашэньня аб аплаце.

Далей усё ідзе па натоптанай яшчэ ў 30-х гадах (і праторанай цяпер існуючым рэжымам) дарожцы. Ніякія довады, улікі, факты, сьведчаньні, доказы, неадпаведнасьць абвінавачаньня закону не прымаюцца пад увагу. Рэжымны суд прымае зададзенае абвінавачаньне і робіць зададзены прысуд, разумеючы незаконнасьць, але не вагаючыся і не чырванеючы. Такая ёсьць схема рэпрэсіяў з выкарыстаньнем фармальна-судовай машыны. Асуджалі нават глуханямых за "выкрыкі супраць прэзыдэнта".

Адпаведна суд Першамайскага раёна г. Менска, які адбыўся 17 лістапада над Юры Беленькім, праігнараваў факт, што Гарвыканкам не прыняў афіцыйнага рашэньня аб аплаце за ахову парадку, медыцыну і іншае, але дамовіўся з адказным за мерапрыемства, што арганізатар забясьпечаць тое сваімі сіламі. Гэта адлюстравана на відэазапісе Менгарвыканкама, які быў прадэманстраваны суду. Тым ня менш у пастанове суда адсутнічае нават упамінаньне пра відэазапіс. Суд нібы не заўважыў што ва ўсёй сфабрыкаванай справе цалкам адсутнічае склад парушэньня. (Нагадаем яшчэ раз, што Юры Беленькі ёсьць толькі адказны за мерапрыемства, арганізатарам

зьяўляецца КХП--БНФ.) Тым ня менш суд (суддзя Анастася Папко) прысудзіў спадару Беленькаму "як арганізатару" штраф у суме трох мільёнаў рублёў (каля 300 даляраў).

Наступны заплянаваны суд Ленінскага раёна адбыўся 28-га лістапада (за шэсьце ў Лошыцу) па той жа схеме і прысудзіў спадару Беленькаму (суддзя Марына Запасьнік) штраф у 4,5 мільёна рублёў (стаўка расьце).

Чарговы суд расправы згодна пляну рэжыма чакаецца 3-га сьнежня. Прыдумаць нічога не змаглі, таму судзіць Юры Адамавіча зьбіраюцца паўторна за адно і тое ж мерапрыемства -- Дзяды 2-га лістапада, -- падзяліўшы яго на дзьве часткі: мэмарыяльнае шэсьце па Менску і мэмарыяльны мітынг ў Курапатах якія фармальна на тэрыторыі Менскага раёна.

Казаць пра тое, што гэта ўсё незаконна, што за адно і тое ж мерапрыемства ня судзяць двойчы, казаць такое ў гэтай зоне -- няма сэнсу, бо тут машына, якая працуе бяз уліку заканадаўства і права.

На гэтых прыкладах зноў зьвяртаем увагу, што такое можа адбывацца толькі тады, калі грамадзтва існуе пад уладай акупацыйнай палітыкі, калі права ня дзейнічае, а бачнасьць судовай сістэмы выкарыстоўваецца для рэпрэсіяў супраць ідэалагічных, палітычных, культурных і этнічных апанэнтаў.

Нам стаў вядомы ўжо ўвесь план палітычнага перасьледу супраць нашай Партыі і яе кіраўніцтва. На трэцім незаконным судзе над Юры Беленькім задуманы прысуд з заключэньнем яго пад арышт на нявызначаны тэрмін. Гэта зноў жа будзе незаконна, бо на папярэднія прысуды пададзеныя касацыйныя скаргі. Але на тое загадана не зьвяртаць увагі. Пасьля праштампоўкі касацыйнага суду (якому загадана пакінуць прысуды) рэжым узбуджае крымінальную справу (па суме папярэдніх судоў) і заключае спадара Беленькага ў турму на максімальны тэрмін, у працягу якога лідэра Партыі павінны будуць старацца зламаць, зьнішчыць псіхічна і фізічна.

Рэжым і яго сюзэрэны ў Маскве ведаюць пра палітычны вопыт, адукацыю, інтэлект і прафэсійнае разуменьне працэсаў спадаром Беленькім і рэпрэсіі супраць яго (а ў 2000 годзе спроба забойства) невыпадковыя. Юры Беленькі зьяўляецца дэпутатам Незалежнасьці.

Паралельна пачынаецца цынічная атака на Кансэрватыўна-Хрысьціянскую Партыю -- БНФ. Планы ўнікальныя. "Вяршыня нізасьці". У бліжэйшы час Партыі выставяць рахункі за жалобныя шэсьці на Дзяды ў межах аднаго мільярда рублёў. Лік ідзе на сотні мільёнаў. Разьлік, што Партыя не аплоціць і тады ўлады яе забароняць. Партыя сапраўды нічога ня будзе плаціць, ня будзе прызнаваць вымагальніцтва і рабаўніцтва (нават калі б мела грошы).

Падсумоўваючы інфармацыю аб гнюснасьці, якая творыцца і плянуецца, мы, кіраўніцтва КХП--БНФ, ад імя Партыі заяўляем, што мы не баімся ніякіх псэўда-судоў і ніякой рэпрэсіўнай камэдыі, якую разыгрываюць перад намі. Мы ведаем, што гэтаму чэкісцкаму рэжыму ў Менску і Маскве засталося нядоўга быць. Яны самы наблізяць свой канец. Забарона беларускай Партыі і заключэньне ў турму Юры Адамавіча Беленькага гэты рэжым ужо не ўратуе. Мы верым у наш народ і сьветлую будучыню Беларусі. Слава Радзіме.

*1 сьнежня 2014 г.*

**Зянон Пазьняк**
старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі -- БНФ
ад імя ўсяго Кіраўніцтва
КХП—БНФ

# УКРАІНСКАЕ ЗМАГАНЬНЕ ЗА ВОЛЬНУЮ УКРАІНУ

Як яны ўсе падобныя, гэтыя монстры савецкага кагэбізму – Пуцін, Лукашэнка, Януковіч! І ўсюды адзін маскоўскі лубянскі почарк утрыманьня ўлады: забіваць і душыць.

Януковіч перайшоў мяжу невяртаньня, паказаў сябе хітрай, але бязмозглай істотай, цалкам чужым для ўкраінскай нацыі чалавекам, залежным ад Пуціна.

Не было абставінаў і не было фармальнай прычыны (для злачынцаў істотнай) аддаваць загад на забойства дэманстрантаў. Ён жа паслухаў Пуціна і загад аддаў. Наперадзе яго чакае суд і трыбунал, а па закону рэвалюцыі ўкраінцы могуць цяпер абыходзіцца зь ім як з забойцам. Ён тое ведае, але забіваць ўсяроўна гатовы. Гэта тыповы бальшавік.

Гледзячы на ўкраінскую барацьбу з чужародным прамаскоўскім рэжымам, усклікаем: “Варты гонару і пашаны змагарны ўкраінскі народ!” Ён паказвае прыклад салідарнасьці, стойкасьці, самаарганізаванасьці і адвагі ў змаганьні за вольную Украіну, справядлівую ўладу і сьветлую ўкраінскую будучыню.

Мы падтрымліваем украінскую рэвалюцыю і рыхтуймася да сваёй. Вырадкі цемры, здраднікі і ворагі чалавецтва ўжо не схаваюцца. Рука адплаты і караючы меч нацыі дастане іх і на дне марскім.

Украінская рэвалюцыя расставіла кропкі над “і” і паказала тым, хто яшчэ ў нечым сумняваўся, што такое прамаскоўскі рэжым, расейскі гэбізм і гнілая эўрапейская палітыка.

Калі лілася ўкраінская кроў, вышэйшыя чыны Эўразьвязу абмяжоўваліся “заклапочанасьцю” і “шкадаваньнем”, раілі апазыцыі адмежавацца ад “радыкалаў”, выказвалі іншую палітычную тупасьць на карысьць Масквы. Спадарыня Мэркель назвала падзеі на Украіне “агіднымі” і “непрыймальнымі” і ўступіла ў перамовы з Пуціным, які сказаў ёй, каб не ўжывала адмоўных ацэнак да дзеяньняў украінскіх уладаў супраць дэманстрантаў, заклікаў яе падтрымаць Януковіча ў барацьбе з “экстрэмістамі-тэрарыстамі”. Пасьля гэтага яны яшчэ разам выказаліся за тэрміновыя меры па “нармалізацыі” становішча на Украіне. Злавесная прыкмета – гэтае іхняе “ўзаемаразуменьне”.

Цікавыя рэчы пачалі адбывацца ў гэты час у Беларусі. Амбасадар Ізраілю спадар Шагал назваў беларускіх палітвязьняў крымінальнымі злачынцамі. (Прытым Ізраіль не дэзавуяваў такое выказваньне.) У гэты ж час 18-га лютага, якраз тады, калі рэжым Януковіча распачаў збройны наступ на Майдан і забойствы ўкраінцаў, у Менск напоўтаемна прыязджае дэлегацыя Эўразьвязу для перамоваў з рэжымам на ўмовах Лукашэнкі. Размова ішла пра заходнія інвэстыцыі, эканамічнае супрацоўніцтва і фінансавыя ўліваньні ў рэжым. Ні пра якую дэмакратыю, “палітвязьняў” і “правы чалавека” гаворка больш не вялася.

Існуе фота, дзе можна бачыць гэты папярэдні эўрадэсант да “апошняга дыктатара Эўропы”. У цэнтры з чорнай гаспадарчай сумкай у руках стаіць эўразьвязаўская чыноўніца Майра Мойра (прадстаўніца Эўразьвязу ў Беларусі), побач містэр Шубель і дробная лукашысцкая “чынава”: Царык, Палагін, Шаўцоў і інш.

Мае камэнтары тут, думаю, непатрэбныя, бо мне ўвесь час прыходзіцца пастаянна казаць пра падвойнасьць стандартаў эўразьвязаўскай бюракратыі і пра арыентацыю яе на супрацоўніцтва з антыбеларускім рэжымам. Супрацоўніцтва з дыктатарамі – гэта ўвогуле прыродная якасьць эўрапейскай палітыкі. Яны абгрунтоўваюць такую пазыцыю імкненьнем улагодзіць і перавыхаваць дыктатара, паўплываць і накіраваць яго на шлях дэмакратыі. Так эўрапалітыкі абыходзіліся зь Гітлерам, Леніным, Мусаліні, Сталінам, так цяпер гуляюць з Пуціным, Януковічам Лукашэнкам. Неразумнасьць такой палітыкі карэніцца на генетычным філістэрскім

узроўні. Ім бескарысна нешта тлумачыць. Трэба проста ведаць іх прыроду і рабіць адэкватныя высновы. Найгорай тут – мець ілюзіі.

Ня лішне нагадаць, што нашу магутную дзяржаву – Вялікае Княства Літоўскае – разбурылі ў 18-м стагоддзі супольна разам азіяцкая Расея і нямецкая Эўропа, і з таго часу ў геапалітыцы ў прынцыпе нічога не зьмянілася. Адраджэньне Ўсходняй Эўропы ў 90-х гадах, нашу Балта-Чарнаморскую ідэю яны нішчылі таксама супольнымі намаганьнямі.

Украінскае змаганьне добра праілюстравала сутнасьць дачыненьняў народа менавіта з прамаскоўскай крымінальнай дыктатурай. Размаўляць зь ёй і прымусіць прымаць рашэньні можна толькі з пазыцыі рэальнай сілы. Прытым ніколі нельга верыць ніякім гарантыям, рашэньням, словам ды абяцаньням узурпатараў (сатрапаў, дыктатараў) і аслабляць сілавы ціск. Як толькі ўзьнікне паслабленьне, адразу будзе нанесены варожы ўдар у плечы народу і адкінуты абяцаньні. Тут ня дзейнічаюць чалавечыя правілы. Тут ардынская азіятчына ў поўным сэнсе слова.

20-га лютага ўвесь сьвет убачыў, як снайперы стралялі па безабаронных людзях на Майдане і забілі каля ста чалавек. Гэта забойцы і бандыты на службе антыўкраінскага рэжыму. У той жа дзень высьветлілася, што сярод бэркутаўскіх забойцаў ёсьць асобы з расейскага ОМОНу (і гэта пры шчыльнай мяжы з Расеяй). Вось дзе сапраўдная прычына нечуваных зьверстваў супраць украінцаў. Забіваюць украінцаў ворагі Украіны. Страляюць у жанчын, у сясьцёр міласэрдзя.

Украінская рэчаіснасьць паказвае, што беларуская рэвалюцыя мусіць адбывацца інакш. Адкрытая мяжа на ўсходзе, якую ліквідаваў злачынца, -- гэта шлюз для рускіх бандаў. Таму падыход у ліквідацыі антыбеларускага рэжыму мусіць быць іншым (асабліва ў тэрмінах).

Беларусам трэба рыхтавацца да барацьбыі. Яна будзе. Яна павінна быць, бо прамаскоўскія акупацыйныя рэжымы самы не зыходзяць. Трэба быць сур’ёзна падрыхтаваным да змаганьня ў любы час.

Падтрымаем Украіну! Цяпер на Украіне гартуецца воля вольнай Усходняй Эўропы.

*20 лютага 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ХАЛОПЫ

Дзеячы рускай культуры і мастацтва (86 асобаў) напісалі халопскі ліст у падтрымку вайны, агрэсіі Пуціна і акупацыі Ўкраіны. Гэты матар’ял сьведчыць аб хваравітай фашызацыі рускага грамадзтва, высьвятляе антыгуманную, антычалавечую сутнасьць імпэрыялістычнай рускай культуры, якая існуе на паслугах імпэрскай ідэалогіі і вычварнага абскурантызма. Такая ж самая сэрвільная, рабская публіка ад расейскай культуры ў 1863 годзе сотнямі вернападданых лістоў “от всея Россіі” вітала Мураўёва-Вешальніка, з заклікамі і ўміленьнем, патрабуючы вешаць і забіваць паўстанцаў Кастуся Каліноўскага. А расейскі паэт Някрасаў (шанаваны потым бальшавікамі) напісаў цэлую хвалебную оду гэтаму ланцуговаму царскаму кату: “Бокал заздравный подымая, сто тысяч лет Тебе – Ура!” – пісаў той паэтычны халоп і параўноўваў Вешальніка з Архангелам “Гавріілам”. Мінаюць стагоддзі, але нічога не зьмяняецца ў нявольніцкай мэнтальнасьці службістаў імпэрскай культуры. Гэты ліст добра высьвечвае, сытуацыю ў шчарбатым вычварэнскім грамадзтве, дзе гвалт, крымінал і фашызм ды такія, як Пуцін, ёсьць звычайным яго параджэньнем.

*11 сакавіка 2014.* Зянон Пазьняк

Крыніца:
http://www.mkrf.ru/press-tsentr/novosti/ministerstvo/deyateli-kultury-rossii-v-podderzhku-pozitsii-prezidenta-po-ukraine-i-krymu

# ПОЛЫМЯ ВОЛІ

96-я гадавіна абвяшчэньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі!

“Няхай жыве магутны сьмелы наш Беларускі волны дух!”

25 Сакавіка 1918 года нашыя слаўныя продкі запалілі полымя беларускай волі і народнага ўваскрасеньня. Гэтае полымя незгасальнае гарыць у нашых сэрцах і саграваае пакаленьні беларусаў. Той першы моцны крок, зроблены ў 1918 годзе шляхам абвяшчэньня Незалежнасьці БНР, прывёў нарэшце да 25-га Жніўня 1991 года і да стварэньня незалежнай Беларускай дзяржавы.

У гэтыя трывожныя дні калі над Эўропай зноў навіс фашысцкі цень рускага гэбізму, народаненавісьніцтва і агрэсіі, мы мусім з глыбокай пашанай і роздумам ацаніць нашае мінулае, нашае змаганьне супраць рускай арды і ворагаў чалавецтва, мы мусім памятаць нашыя велізарныя ахвяры, пакладзеныя на алтар волі і незалежнасьці і быць гатовымі да абароны нашага народнага нацыянальнага існаваньня.

Жаве Беларусь! Слава героям!

*Сакавік. 2014 г.*

**Зянон Пазьняк**
Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай
Партыі -- БНФ і БНФ "Адраджэньне"

# «СТАЦЬ КАЛЕКТЫЎНЫМ ПАЗЬНЯКОМ»

*(развагі зьбянтэжаных беларусаў)*

Неяк мы спрачаліся з прыяцелем, які на жыцьцё зарабляе ў Маскве. З аднаго боку, ён падтрымлівае беларускую нацыянальную ідэю, зь іншага – вінавацiў мяне ў празьмернай нацыяналістычнай зацятасьці. Маўляў, «надуманыя ўсе гэтыя закідоны да расейскай імпэрскасьці», што гэта «нашы беларускія правінцыйныя комплексы».

Апошнія дні назіраю актыўнасьць прыяцеля ў фэйсбуку, і бачу, што ён адкрыў свой асабісты інфармацыйны фронт змаганьня з імпэрскай навалай. Напісаў мне: «Цяпер мы з табою ў адным атрадзе».

«Ты нават у перадавым атрадзе», – падумаў я. Бо першы шок у мяне быў ад самога факту магчымасьці паўнамаштабнай вайны, а не ад таго, што яе можа пачаць менавіта Расея.

У маім юнацтве на пачатку 1990-х Зянон Пазьняк, як самы вядомы сьпікер нацыянальна арыентаванай часткі грамадзтва, усё вельмі папулярна тлумачыў пра імпэрскасьць Расеі на мітынгах, у СМІ і пры мікрафоне ў Вярхоўным Савеце.

Святлана Нілла – «Больш маладое пакаленьне, у тым ліку і я, ня верылі ва ўсюдыісную «руку Масквы», не дапускалі, што Расея можа ўвесьці войскі ў

эўрапейскую дзяржаву. Сучасны сьвет, час, прагрэс. Бла-бла-бла... Таму і заявы Зянона Пазьняка пра корань усяго зла ўспрымалі як трызьненьне паважанага, але зьлёгку ад'ехаўшага дзядзькі. І вось...»

Vadzim Prakopcyk – «Галоўнае ня тое, што яго не ўспрымалі, галоўнае, што ўспрымаеце цяпер, Сьвятлана».

Вядомы юрыст Ekaterina Zabello піша пра сваё адкрыцьцё, пасьля размоваў са знаёмцамі з Расеі пра інтэрвэнцыю ва Ўкраіну:

– «Дыскурс пра братні народ прымусіў думаць, што мы прыкладна ў адной сыстэме каардынатаў жывем, ад яе і адштурхоўваемся – а вось не. Яны іншыя, як іншыя японцы, кітайцы і г.д., дзе многія меркаваньні, правілы і традыцыі падаюцца пачварнымі для эўрапейцаў. … Разуменьне (расейцаў – С.К.) выключанае. Што з гэтым рабіць, я ня ведаю».

Актывіст-эколяг Tatyana Novikova – «Каб Вялікі і Пачварны Пуцін ня ўвёў свае войскі ў Беларусь вызваляць мяне – рускамоўную і этнічна рускую, пачынаю размаўляць і пісаць па-беларуску!»

***

Памятаю, як упершыню па-беларуску загаварыў мой стрыечны брат. Мы паехалі ў Коўна ў 1991 годзе празь некалькі месяцаў пасьля крывавых падзеяў у Вільні, калі савецкія вайсковыя забілі мірных дэманстрантаў за незалежнасьць Літвы. Брат гаварыў па-беларуску, каб яго не прынялі за акупанта.

А я прыгадаў гісторыі, якія шматкроць чуў і чытаў пра беларусаў, што за мяжой прадстаўляюцца расейцамі – так прасьцей: ня трэба доўга тлумачыць, дзе тая новая анікому невядомая Беларусь.

А вось ужо першыя ластаўкі з Эўропы з Гішпаніі пра расейскіх турыстаў:

– «З гучным сьмехам рассаджваюцца за столікі, і вяльможна з ноткай пыхі клічуць афіцыянта. Падыходзіць сталы спадар, кажа па-ангельску, што ён гаспадар гэтай установы, а ягоная кавярня захопнікаў не абслугоўвае. Расейцы пад аплядысмэнты іншых сыходзяць з кавярні».

***

Шкада, вядома, калі пад каток антыімпэрскай хвалі будуць трапляць расейцы з адэкватнымі поглядамі. Чыста па чалавечы нават шкада тых, хто падтрымлівае вайну, бо ведаеш, чым гэта можа скончыцца для ўсіх, у тым ліку для самых ваяўнічых.

Але сёньня для Беларусі самае галоўнае – гэта барацьба не з расейцамі-імпэрцамі, а змаганьне, якое адбываецца ў галовах саміх беларусаў.

Вось дзьве навіны аднаго дня:

«Цэнтральны беларускі тэлеканал пачаў цыкл перадач пра нашу барацьбу з Расейскай імпэрыяй. «Зваротны адлік. 1863-ці. Пад ударам Імпэрыі», пра паўстаньне Кастуся Каліноўскага».

«У Горадні школьнікаў пасьвяцілі ў казакі. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел генэральны консул Расейскай Фэдэрацыі ў Берасьці Нікіта Маткоўскі, прадстаўнікі

Беларускага саюзу афіцэраў і саюзу вайсковых маракоў, аблвыканкаму, аблваенкамату і духавенства».

То бок, калі на дзяржаўным канале вядзецца пра змаганьне з Расейскай імпэрыяй у мінулым, то ў Горадні пасьвяцілі ў тыя самыя казакі, якія сярод іншага душылі паўстаньне Каліноўскага.

Два кірункі асэнсаваньня сябе як народа. Мы адрозныя, маем сваё, не прымаем навязанае. І – робімся часткай таго, што ў свой час гвалтам прыйшло з усходу.

Dzmitry Hurnievic – «Ледзь ня кожны трэці член беларускай Рады Бясьпекі – не зьяўляецца ўраджэнцам Беларусі. Нацыянальнасьць гэтых людзей ня мае значэньня, але іх сьветапогляд, культура, якую яны ўвабралі ў сябе, паняцьце Радзімы і патрыятызму сфармаваліся па-за межамі Беларусі. … Яны кіруюць 1) Распрацоўкай і рэалізацыяй вайсковай дактрыны; 2) Вайскова-тэхнічнымі распрацоўкамі Беларусі; 3) Сістэмай грамадзянскай абароны Беларусі; 4) Падтрыманьнем правапарадку; 5) Вядуць справаводзтва кіраўніка краіны. Таму для мяне ня будзе дзіўным, калі кіраўнік суседняй «брацкай» дзяржавы будзе ведаць пра пляны абароны Беларусі больш, чым сам кіраўнік Беларусі».

Пакуль мы можам толькі здагадвацца пра бліжэйшыя пляны Крамля адносна Беларусі. Ці ўсплывуць беларускія «казакі» ў адзін момант на пляцах краіны з расейскімі сьцягамі і просьбай абараніць іх ад «уціску беларускіх нацыяналістаў»? Ці проста далей будуць множыцца падобныя выхаваўчыя ініцыятывы як, напрыклад, «Першая ў Беларусі дзетсадаўская кадэцкая група»?

Калі размаўляеш зь людзьмі на вуліцы пра ўкраінскія падзеі, вельмі добра бачна, хто атрымлівае інфармацыю праз расейскія СМІ, а хто – не. Першыя эмацыйна паўтараюць прапагандысцкія штампы пра «захоп Украіны бандай фашыстаў-бандэраўцаў», другія камэнтуюць спакойна і адасоблена. Першых болей.

Гэта значыць, што афіцыйныя беларускія СМІ прайграюць расейскім. Адпаведна, калі ў Маскве вырашаць «мачыць» афіцыйны Менск, Расея будзе мець вялікую колькасьць даверлівых ляяльных спажыўцоў інфармацыі.

І тут узьнікае парадаксальная сытуацыя. Улада дваццаць гадоў прыцiскала беларускую нацыянальную, грамадзянскую і палітычную самасьвядомасьць, і сваімі рукамі заганяла Беларусь у «кіпцюры дружбы» з Расеяй. А сёньня мусіць падумаць пра сваю пэрсанальную бясьпеку, на пачатку інфармацыйную. Прапанаваць сваю ідэйную карціну.

Тэзіс пра «братэрства» з Расеяй выглядае тым больш сумнеўным, чым больш павялічваецца верагоднасьць паўнамаштабнай вайны. Мантра «абы не было вайны» матэрыялізуецца на вачох, і «братэрскасьць» яе не перашыбе. Прынамсі, для большасьці.

Гістарычныя адсылкі да Вялікай Айчыннай вайны таксама прайграюць, бо тэма манапалізаваная Расеяй, і эксплюатуецца ёю на сто працэнтаў.

Ізноў, як дваццаць і болей гадоў таму нацыянальна арыентаваная частка беларускага грамадзтва мусіць зьвяртацца да суайчыньнікаў са словамі пра сапраўдную незалежнасьць, пра расейскую імпэрскую пагрозу, і пра неабходнасьць будаваць сваю супольную краіну.

Толькі цяпер да такіх словаў многія будуць ставіцца без іроніі ці абыякавасьці.

«Пасьля пэўнага часу робіцца зразумелым, што Зянон Пазьняк зь ягоным разуменьнем сітуацыі і маштабах зьявіўся папросту ня ў той час, і ня ў тым месцы. Тое, што ён тады рабіў, пісаў і гаварыў – гэта было навырост. А новых Пазьнякоў няма», – выказалася адна мая знаёмая, маючы на ўвазе Пазьняка-палітыка.

Магчыма, сёньня зацікаўленыя ў беларускай будучыні краіны мусяць самі стаць калектыўным Пазьняком.

*11.03.2014*
Радыё Свабода .
http://www.svaboda.org/content/article/25293312.htm

# Пазьняк: Беленькага зьбіраюцца арыштаваць, а партыю зьнішчыць

**Лідэр КХП-БНФ заяўляе пра перасьлед кіраўніцтва партыі.**
**Юры Беленькага будуць судзіць трэці раз.**

Старшыня Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянона Пазьняк паведаміў Польскаму радыё, што 3-га сьнежня чакаецца чарговы суд над Юрасём Беленькім. Намесьніка Пазьняка зьбіраюцца паўторна судзіць за адно й тое ж мерапрыемства - Дзяды 2-га лістапада, - падзяліўшы яго на дзьве часткі: мэмарыяльнае шэсьце па Менску й мэмарыяльны мітынг ў Курапатах, якія фармальна на тэрыторыі Менскага раёна.

У прэс-рэлізе Зянон Пазьняк паведамляе, што яго партыйцам стаў вядомы ўвесь плян палітычнага перасьледу супраць КХП-БНФ і яе кіраўніцтва.

**З. Пазьняк:** На трэцім незаконным судзе над Юрасём Беленькім задуманы прысуд з заключэньнем яго пад арышт на нявызначаны тэрмін. Гэта зноў жа будзе незаконна, бо на папярэднія прысуды пададзеныя касацыйныя скаргі. Але на тое загадана не зьвяртаць увагі. Пасьля праштампоўкі касацыйнага суду (якому загадана пакінуць прысуды) рэжым узбуджае крымінальную справу (па суме папярэдніх судоў) і заключае спадара Беленькага ў турму на максымальны тэрмін, у працягу якога лідэра партыі павінны будуць старацца зламаць, зьнішчыць псіхічна й фізычна.

Паралельна, як паведамляе Зянон Пазьняк, пачынаецца цынічная атака на Кансэрватыўна-Хрысьціянскую Партыю - БНФ.

“У бліжэйшы час партыі выставяць рахункі за жалобныя шэсьці на Дзяды ў межах аднаго мільярда рублёў. Лік ідзе на сотні мільёнаў. Разьлік, што Партыя не аплоціць і тады ўлады яе забароняць. Партыя сапраўды нічога ня будзе плаціць, ня будзе прызнаваць вымагальніцтва й рабаўніцтва (нават калі б мела грошы)” – піша палітык.

Намесьнік старшыні КХП — БНФ Юрась Беленькі 28 лістапада быў аштрафаваны судом Ленінскага раёна Менска на 30 базавых велічыняў (4,5 млн. рублёў).

Яго прызналі вінаватым у парушэньні арганізацыі й правядзеньня масавых мерапрыемстваў (артыкул 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэньнях),

якое было дапушчанае пры правядзеньні акцыі 9 лістапада ў Менску, прымеркаванай да дня памінаньня продкаў Дзяды.

Рашэньне суда Беленькі назваў абсурдным, таму што ніякія заўвагі з боку міліцыі падчас акцыі не выказваліся.

Раней, 17 лістапада, Беленькага судзілі яшчэ за адну акцыю, прымеркаваную да Дзядоў, якая прайшла ў Менску 2 лістапада. Судом Першамайскага раёна Менска паводле аналягічнага абвінавачаньня ён быў аштрафаваны на 20 базавых велічыняў (3 млн. рублёў).

“На гэтых прыкладах зноў зьвяртаем увагу, што такое можа адбывацца толькі тады, калі грамадзтва існуе пад уладай акупацыйнай палітыкі, калі права ня дзейнічае, а бачнасьць судовай сістэмы выкарыстоўваецца для рэпрэсіяў супраць ідэалагічных, палітычных, культурных і этнічных апанэнтаў” – гаворыцца ў прэс-рэлізе ад старшыні КХП-БНФ Зянона Пазьняка.

*01.12.2014*
http://radyjo.net/4/88/Artykul/189009
http://radyjo.net/4/88/Artykul/189009#sthash.1TginkTc.dpuf

# ХАРАСТВО ЗЯМЛІ ЯК ПРЫСУТНАСЬЦЬ БОГА

*(Прэзэнтацыя новай кнігі ЗЯНОНА “ТЭРРА ДЭЙ”)*

Што мяне зьдзіўляе ў Зяноне Пазьняку, гэта тое, што, шчыльна займаючыся палітыкай, кіруючы Партыяй, пастаянна пішучы на палітычныя тэмы і займаючыся найвялікшай для эмігрантаў праблемай жыцьцёвага выжываньня, ён за дзесяць гадоў выдаў больш за 20 вялікіх кніг. Прытым на розныя тэмы. Прытым ўсе свае кнігі ад пачатку да канца робіць і афармляе сам. Тут і паліталёгія, і гісторыя, і публіцыстыка, мастацтвазнаўства, вершы, апавяданьні, фатаграфіі, нават паэма. Ведаю толькі, што ён навучыўся пісаць у самалёце, ў мэтро і нават у міжгароднім аўтобусе, а паэму Вялікае Княства пісаў між іншым і ў машыне па дарозе куды-небудзь. Ён можа пісаць вершы, слухаючы субяседніка, не выходзячы з настрою і ўстаўляючы рэплікі. Кожны год нешта зьяўляецца з друку. Вось і ў пачатку гэтага 2014 года выйшла яго новая кніга.

У нядзелю 2-га лютага ў беларускім саборы сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку адбылася прэзэнтацыя гэтай новай кнігі ЗЯНОНА, якая называецца **“Тэрра Дэй”** (Зямля Бога). Аўтар, прадстаўляючы кнігу, засяродзіўся на яе галоўнай фатаграфічна-паэтычнай частцы і прачытаў цэлую лекцыю пра мастацтва кнігі, паэзію, фатаграфію і літаратуру з паказам ілюстрацыяў праз дыяпраектар на экран. Новая кніга ЗЯНОНА – гэта сінтэтычны твор зь вершаў, фатаграфіяў, апавяданьняў, эсэ, успамінаў, паліталягічных артыкулаў і сэнтэнцыяў. Твор падзелены на тры творчыя тэмы: ***“Фатаграфіі і вершы”***, ***“Апавяданьні”*** і ***“Народная філасофія”***. Асноўная тэма, якая займае дзьве трацiны аб’ёму кнігі – гэта “Фатаграфіі і вершы”. “Крэда гэтай тэмы, -- сказаў аўтар, -- сфармулявана як імкненьне адлюстраваць прысутнасьць Боскага Духу ва ўсіх зьявах, рэчах, карцінах і вобразах Зямлі і зямнога жыцьця.”

І сапраўды, ілюстрацыі некаторых разьдзелаў гэтай тэмы, якія паказаў аўтар, пакідаюць незабыўнае ўражаньне. Асабліва запомніліся **“Воблакі”** (“Боскае неба”), **“Сьвятло Месяца”**, **“Птушкі”**, **“Акіян-мора”**, **“Партрэт”**, **“Віленшчына прыўкрасная”** і інш. Нецікавых здымкаў у кнізе няма. Кожны зь іх зьдзіўляе

майстэрствам здымкі і хараством. Асабліва ўражваюць кніжныя развароты, якія зроблены канцэптуальна і ілюструюць мастацкае майстэрства аўтара.

Той, хто пасьпеў ужо прачытаць гэтую кнігу, аднагалосна выказаліся і пра апавяданьні ЗЯНОНА (жанр, у якім раней аўтар не выступаў). Асабліва адзначаюць апавяданьні **“Васількі”, “Палкоўніца”, “Геранім”, “Свае”, “Ліцьвінская кроў”, “Лявон”** і інш.

Паліталагічныя артыкулы (якія былі напісаны аўтарам спэцыяльна для гэтай кнігі), асьвятляюць мноства праблемаў нашага грамадзтва і цывілізацыі -- ад беларускага Адраджэньня да пытаньня аб абортах, люмпэнах (лахманах), і люстрацыях.

Пасьля лекцыі аўтара і адказу на пытаньні яшчэ былі размовы і абмен думкамі аб філасофска-эстэтычным значэньні хвалі як асновы фізічнага сьвету, аб катэгорыі пустаты (верш “Пустата”), аб вечнасьці быцьця, аб высокім і нізкім у мастацтве, аб “трацінах” ЗЯНОНА (трохрадкоўях на аснове хоку) і іншым.

Размаўлялі таксама аб транслітэрацыі назвы кнігі “ТЭРРА ДЭЙ” з лацінскага выразу “TERRA DEI” на кірылічнае напісаньне. Аўтар падрабязна распавёў: “Транслітэрацыя на беларускія літары тут ня мусіць быць капіяваньнем лацінскіх літар і павінна адбывацца па фанэтычным прынцыпе (па рэальным гучаньні), бо галосная “э” знаходзіцца пад націскам. У гэтым выпадку наступная галосная “і” скарачаецца і гучыць як “й”. Каб чулася доўгае “і”, трэба “і” паставіць пад націскам: “Дэ-**і**” (як, напрыклад, у абрэвіятуры ДА**І** – дарожная аўтаінспэкцыя). Такая ёсьць прырода нашай мовы і моўнага апарату. Зацягваньне ненаціскнога “й” будзе абазначаць нішто іншае, як дадаваньне доўгай фанэмы “і” – “Дэй-і”. Таму рэальна ў малітвах заўсёды гучыць “й” (напрыклад, “Матэр Дэй”, “Агнус Дэй”) і г. д. Гэтыя якасьці, аднак, не абавязкова захоўваюцца пры расьпевах (прасьпяваць можна любую галосную). Але сьпевы – гэта ўжо іншыя правілы. Фармальнае капіяваньне лацінскіх літар пры транслітэрацыі на кірыліцу прыводзіць да ўтварэньня такіх слоў, як Лейпцыг, Гейнэ, Міоры і т. п. (транслітэрацыя па гучаньні павінна быць: Ляйпцыг, Гайнэ, Мёры). Транслітэрацыя ў мовах з лацінскім напісаньнем, практычна, ня робіцца”.

А ўвогуле, паэт ЗЯНОН ці ня першы, які зрабіў такую транслітэрацыю лацінскага слова “Dei” у беларускім напісаньні яшчэ ў сваёй паэме “Вялікае Княства”.

Зянон Пазьняк выдаў некалькі кніг паэзіі і фатаграфіі, у якіх ён злучыў гэтыя два віды мастацтва. Як падкрэсьліў аўтар, у кнігах **“Глёрыя Патрыя”**, **“Дарога”**, **“Вялікае Княства”** падыход быў такі: “І фатаграфіі, і вершы карэспандуюць паміж сабой, яны высьвятляюць адну тэму. Чытаючы верш, мы ўспрымаем вобразы ў вершаваных катэгорыях і адначасна бачым праекцыю пэўных карцін, асацыяцыяў у фатаграфіях. Прыярытэтам у гэтай тэме быў верш. Фатаграфіі як бы ішлі другім плянам. (Яны раўназначныя, але прыярытэтам былі вершы.) У кнізе **“Тэрра Дэй”** прыярытэт дадзены фатаграфіі. Фатаграфія – сутнасьць, а верш – паглыбленьне фатаграфічнай тэмы праз асацыяцыю. Сьвет, у якім мы жывём, зямля, неба – усё, што мы бачым, чуем, адчуваем, спажываем пачуцьцямі -- ўсё пранізана Боскім Духам, -- кажа аўтар. -- Для мастака вельмі важна у вершах і фатаграфіях выявіць гэты Дух і ўмець Яго паказаць так, каб адчулі іншыя”.

Кніга – сама па сабе, яе выгляд, унутранная і зьнешняя форма -- гэта твор, які мае пэўную задуму і пэўную эстэтычную задачу, яна ёсьць твор мастацтва. Каб патлумачыць свой падыход, у сваім выступе аўтар пачаў з вокладкі, якая, як правіла, павінна выяўляць альбо галоўную ідэю кнігі, альбо галоўную яе тэму. “Нават калі няма ілюстрацыяў, -- разважаў Зянон Пазьняк, -- фарматам, колерам, падборам шрыфтоў мастак стараецца выявіць ідэю. (Дарэчы, кожны шрыфт – гэта графічны мастацкі вобраз, ён мае свае эмоцыі, сваю эстэтыку, ён таксама кладзецца на стылістыку кніжнага вобраза.) Мастак, калі выбірае той ці іншы шрыфт, думае пра ідэю, якую хоча выявіць. Таму падбор шрыфту, велічыня шрыфта, яго кампазыцыя, загалоўкі, ілюстрацыі – гэта ўсё працуе на ідэю, якую ставіць мастак, што стварае (афармляе) кнігу.”

“Тэрра Дэй” задумана аўтарам як цэльны твор кніжнага мастацтва. “Гэта ня значыць, што зьмест існуе асобна, а сама кніга, якую мы гартаем, гэта нешта іншае, -- кажа аўтар. -- І зьмест, і яго падача, і тая форма, у якой ён існуе, павінны быць адзінымі. Я паставіў задачу адлюстраваць на вокладцы ідэю Боскага Духа на Зямлі ў тых вобразах, якія я хачу паказаць, таму вырашыў, што на вокладцы будзе франтон Віленскай катэдры (скульптурная фігура, якая была зьнішчана за бальшавікамі і якую потым аднавілі).

У гэтай фігуры павінна быць пэўная містыка, адчуваньне прышэсьця Духа сусьвету, прышэсьце Дыханьня космасу. Я так гэта ўяўляю. Здымак франтона з скульптурай весьніка Хрысьціянства (весьнік тут як алегарычная фігура) быў адмыслова тэхнічна апрацаваны, каб дасягнуць адпаведнага вобразу і выявіць тую ідэю, пра якую я кажу.

Чорны фон, які мы бачым, сам па сабе настройвае да містычнага ўспрыняцьця, да адчуваньня бясконцасьці. І гэтая фігура з крыжам, як быццам выйшла адтуль, з касьмічнай пустаты. Такое адчуваньне рацыянальна асэнсавана, але падсьведама яно выклікаецца цераз эстэтычную форму ў кожнага чалавека, які здольны ўспрымаць хараство, і псіхалагічна адчуваць вобразы, бо спажываючы мастацтва, мы ўспрымаем яго ня толькі эстэтычна, але і псіхалагічна.”

Аўтар гэтаксама зьвярнуў увагу і на адваротны (тыльны) бок вокладкі, які таксама працуе на галоўную ідэю: “Мы бачым разрыў у воблаках, адкуль ідзе прамень, і ўзьнікае асацыяцыя – быццам адтуль, з глыбіні неба ідзе нейкае загадкавае сьвятло. Алегорыя тут зразумелая, яна навеяна літаратурай. Мы разумеем, што значыць гэтае сьвятло, якое выходзіць “адтуль”. Тут таксама намёк на прысутнасьць Духа, на наяўнасьць Бога”.

Асноўная частка кнігі – фатаграфічная і паэтычная -- складаецца з 23-х тэм. Тэмы такога кшталту: **“Кветкі і дрэвы”, “Птушкі”, “Быцьцё”, “Айчына”, “Віленшчына прыўкрасная”, “Людзі, гарады, тыпажы”** і інш.

-- Адлюстроўваючы нейкі прадмет, -- кажа аўтар, -- які мы бачылі ня раз (напрыклад, яблык ці гарбуз) мы можам яго сфатаграфаваць -- і гэта будзе рэпрадукцыя. Мастак жа павінен зрабіць адкрыцьцё, выявіць гэту рэч у сабе, паказаць яе эстэтыку. Рэч будзе пазнавальнай і адначасна тут будзе нешта іншае -- тое, што ўбачыў і выявіў мастак, знаёмае і асаблівае. У гэтым творчасьць як адкрыцьцё рэчаіснасьці.

Як пастаянна падкрэсьліваў аўтар, тэмы яго кнігі вельмі простыя але паказаны праз мастацкае ўспрыняцьце.

Кожны разварот (гэта разгортка кнігі, дзьве старонкі) уяўляе сабой мастацкую кампазыцыю, асобны твор, які трэба было скампанаваць такім чынам, каб фатаграфіі каардынаваліся паміж сабой па стылю, па зьместу, каб дапаўнялі адна другую, каб агульная карціна была сугучнай з сэнсам вершаў.

Пачынаецца кніга з тэмы **“Кветкі і дрэвы”**.

-- Чалавек, -- кажа Зянон Пазьняк, -- думае, што кветкі такія яркія, каляровыя, дастаткова іх зьняць, і будзе хораша. На справе гэта ня так проста. Часта атрымліваецца не творчасьць, а звыклая “батаніка”. Кветкі ня так лёгка здымаць, як здаецца.

Верш, які ў кнізе ідзе першым, павінен даць тлумачэньне ўсяму сэнсу працы мастака. Верш, якім пачынаецца кніга, вельмі просты, называецца **“Боскасьць”:**

Хараство Зямлі,
З чым цябе параўнаць?
А ні з чым,
Бо нават самае багатае ўяўлнньне
Не сягае вышэй
за зямную красу.

Над гэтым варта задумацца, -- заўважае аўтар, -- і калі задумаемся, прыдзем да высновы: ніхто нічога лепш ня зробіць за тое, што існуе на Зямлі, бо Зямля

пабудавана па прынцыпу хараства. І нічога чалавек ня можа ўявіць харашэйшага (як бы ён ні напружваўся і не стараўся). Зямная прырода ёсьць сама сутнасьць Зямлі, яна -- цуд, зьява, дасканалая і найпрыгажэйшая. Яна дае адказы на шмат якія пытаньні, схіляе да філасофскага раздумленьня.

Далей гаворка пайшла наступным чынам:

-- Тэмы якія раскрываюцца ў такіх карцінах (разваротах), маюць свой пачатак, сваю разгортку, сваю кульмінацыю і завяршэньне. Мастак, які робіць кнігу, павінен аб гэтым думаць. Чытач можа пра гэта і ня ведаць, ён проста ўспрымае.

Наступная тэма, на якую зьвярнуў увагу аўтар, гэта тэма **“Акіян-мора”**. Прадэманстраваўшы першы разварот (увядзеньне ў тэму) і верш, які адкрывае гэту тэму (**“Вакно”)**, паэт ЗЯНОН разважае:

-- Мы перажываем стрэсы, часам з-за дробязяў, і тады нам здаецца, што сьвет зышоўся клінам на нашых перажываньнях. Але дастаткова глянуць на неба, на шырокі акіян, убачыць стыхію сусьвету, і тыя стрэсы, дробязныя перажываньні ўбачацца нам зусім нікчэмнымі. Гэта важная тэма паэзіі, тэма, якая падмацавана фатаграфіяй, адчыняе сэнс таго, на што мы глядзім.

Здымак выклікае шчымленьне, настальгію, тут адлюстраваны жоўтыя воблакі і сіні акіян. Ён не адпавядае матэрыяльнай рэпрадукцыі прыроды. Тое, на што мастак-фатограф глядзіць, выклікае ў яго ідэальны вобраз. Але як гэты ідэальны вобраз адлюстраваць?

Мастак, які малюе пэнзлем, можа выявіць гэта фарбамі, а фатограф адлюструе тады, калі умее ўплываць на карціну (каб перапрацаваць сюжэт). Вось тое, што зроблена, тут выяўлена ў сэцэсійных фарбах, -- тлумачыць аўтар. -- Гэта прыжоўчаныя трошкі воблакі, сіняя вада, лазуровае неба. Усё гэта мы пазнаём, але адначасна тут трошкі як бы ня той сьвет, як бы ня тымі фарбамі зроблены, бо гэта ідэальнае адчуваньне таго аўтарскага пачуцьця, якое ўвасоблена ў ідэальную выяву.

Так гэтая карціна накладваецца на сэнс таго верша, які адкрывае рубрыку. Яно ўсё прадумана, тут няма выпадковасьці.

Аўтар паказаў яшчэ некалькі здымкаў з гэтай сэрыі.

-- У кантравым сьвятле акіян блішчыць (фота **“Срэбныя хвалі”**). Каб адлюстраваць гэта па-мастацку, я перавёў здымак хваль ў ідэальнае поле, якое ў прыродзе як бы не рэальнае, і мы такога відовішча матэрыяльна як бы ня ўбачым (на фота акіян нібы напоўнены расплаўленым срэбрам, ды яшчэ нібы пры месячным сьвятле), але мы пагаджаемся, што гэта тое яно самае, што ёсьць. Тут умоўнасьць мастацтва, якая дае магчымасьць адлюстраваць ідэальны вобраз (гэта значыць ідэальнае эстэтычнае бачаньне сюжэта).

На іншым развароце бачым два скардынаваныя па колеру сюжэты акіяна з яхтамі і ветразямі ў далечыні. Гэтыя фатаграфічныя творы па падачы колеру і прыёму адлюстраваньня падобныя на акварэль (кажа аўтар). Цёплая сінь нябёсаў прыгожа глядзіцца. Камэртон ўзьнёсласьці даюць белыя ветразі. Гэта таксама выявы у сэцэсійных колерах. Яны выклікаюць адчуваньне спакойнага радаснага летняга цяпла. Тут такое псіхалагічна-эстэтычнае ўзьдзеяньне. Твор мастацтва успрымаецца эстэтычна і псіхалагічна. Баланс эстэтычнага і псіхалагічнага вельмі важны ў адэкватным успрыняцьці мастацтва.

У прыродзе часам бываюць такія зьявы, -- кажа спадар Зянон, -- якія існуюць некалькі хвілінаў а то й імгненьні, але яны дзівосныя. Чалавек раптам адчувае сябе часткай гэтай прыроды. Зьмяняецца рэакцыя яго душы на ўспрыняцьце. Калі хто ўважліва назіраў прыроду, то ён бачыў такія зьявы. Вось тады мы, здаецца, і адчуваем прысутнасьць Бога. Мастак тое бачыць, і паўстае задача, як гэтае ідэальнае ўспрыняцьце выявіць і данесьці вобразна да гледача.

Ёсьць рэчы зусім стандартныя, якія бачылі ўсе людзі. Але мастак паказвае гэтую зьяву так, як ён асабіста яе бачыць, прытым імкнецца раскрыць яе сутнасьць.

Хто ня бачыў хвалі? Усе бачылі, -- працягвае аўтар. -- Мільёны людзей іх фатаграфавалі. Але мастак сваёй стылістыкай, сваім вобразам можа паказаць хвалю

так, што яе фтаграфія стане эстэтычным адкрыцьцём. Я паставіў задачу адлюстраваць прыбой. Гэта можна зрабіць па-рознаму: можна так, што ўсё пазнаецца, а можна зрабіць нейкі маленькі паварот, выявіць яго няўлоўнае імгненьне.

Вось гэта прыбой (паказвае фота). Ён трошкі адыходзіць ад пэўнай класікі. Здымкаў прыбоя -- мноства, але гэты прыбой – гэта, так бы мовячы, мой прыбой, маё выяўленьне яго эстэтыкі, ягонай "рэчы ў сабе".

Яшчэ адзін здымак з гэтай тэмы -- **"Белая ноч над залівам"**.

-- У Нью-Ёрку не бывае белых начэй, -- нагадвае аўтар, -- але здымаючы вечарам, я адчуў, што можна прапрацаваць здымак так, што эфэкт белай ночы будзе. Для мастака-фатографа тэхнічныя асаблівасьці фатаграфічнага матэр'ялу (фізічнай асновы – эмульсіі, піксэляў) могуць быць сродкам эстэтычнай выразнасьці здымка. Скажам, у эмульсійнай фатаграфіі так званае "зерне" – гэта недахоп. Але зерне можа стаць і выяўленчым сродкам фатаграфічнай карціны (сюжэта). Фатографы гэта выкарыстоўвалі. Так і тут, у лічбавай фатаграфіі, якасьці і "недахопы" піксэляў можна выкарыстаць ў эстэтычным сэнсе, дзеля стварэньня характэрнай выявы і выразнасьці фатаграфіі.

Акрамя "Белай ночы" (працягвае аўтар) прыкладам такога падыходу можа быць здымак з сэрыі **"Пірс"**. Калі ня ведаць, то можна падумаць, што гэта акварэль. Але тут якраз фатаграфія, дзе выкарыстана характэрная расплывістасьць піксэляў. Калі ствараеш карціну-разварот з двух здымкаў, -- падкрэсьліў спадар Зянон, -- рэзаніруе адна і другая фатаграфіі, узьнікае рэзананс ідэі (аднаго і другога вобразу); кожны ж паасобку -- глядзіцца інакш. Трэба збалансаваць ўсё і па колеру, і па танальнасьці, і па маштабу, і па тэме, і па характары, і па ідэі выявы разварота. Акрамя таго павінна быць тэматычная і ідэёвая асацыяцыя зь вершамі на гэтых старонках.

Разважаючы пра паэзію, мастацтвазнаўца заўважыў, што ёсьць такія аб'екты, зьявы, якія заўсёды зьяўляюцца тэмай высокай паэзіі. Гэта воблакі, неба, месяц, вецер, марскія хвалі. Паэты заўсёды прысьвячалі ім шмат вершаў, таму што у гэтых названых аб'ектах і зьявах адчуваецца стыхія, у іх адлюстравана веліч космасу. Паэт гэта адчувае, ён імкнецца адлюстрваць высокія пачуцьці і зьвяртаецца да высокіх вобразаў.

Зыходзячы з такога разуменьня, аўтар зьвяртае ўвагу на тэму **"Воблакі"**. "Колькі б мы ні глядзелі на неба, -- кажа паэт, -- яно ніколі не бывае аднолькавым. Воблакі заўсёды мяняюцца, заўсёды рухаюцца. Можна стварыць і адлюстраваць мільёны вобразаў і карцін (і ў гэтых карцінах воблакаў выявіцца і стылістыка творчасьці, і дух прыроды). Мастакі заўсёды карысталіся асаблівым адлюстраваньнем неба, (напрыклад, Рушчыц, Несьцераў, Рэрых, шмат хто). Неба нясе вялікую эмацыйную, вобразную і духоўную нагрузку.

Першы здымак воблачнага неба -- гэта беларуская зямля (яна зараз на тэрыторыі Польшчы: Падляшша, Сакольшчына). Тут мы адчуваем сьвежы вецер і азон пералётных дажджоў (апісвае настраёвазьць карціны мастак). Гэта звычайны натуральны здымак без апрацоўкі, зьняты так, як ёсьць у прыродзе. Тут кадр, як кажуць фатографы, з настроем, для душы, дзеля эстэтыкі.

Наступны разварот – **"Боскае неба"**. Гэтае неба зроблена ў сацэсійных колерах. Але яно натуральна такое было, я толькі трошачкі ўзмацніў колеры. У гэтых воблаках чуецца Боская музыка. Прытым карціны воблакаў, якія здымаеш, класіфікуюцца па пэўных стылях. Вось тут якраз – адчуваньне гатычнага вобразу, ўзнёслай готыкі, хоць у кампазыцыі няма вертыкальных лініяў. Такія здымкі можна паказваць пад музыку. Але калі глядзець аднаму, у цішыні, то вы пачуеце, што гэта музыка гучыць сама па сабе, бо воблакі музыкальныя.

У здымку **"Сьвінцовае неба"** іншы вобраз, неба, драматычнае. Але яно ня душыць, не выклікае пачуцьця жаху, бо тут мы бачым і магутнае сьвятло (у разрывах). Неба, што на здымку, абсалютна натуральнае, толькі трошачкі вобразна ўзмоцнена. Але калі параўнаць з папярэднім фота, то якая розьніца, які музычны кантраст. Такое

неба ўплывае на нашы пачуцьці і гальванізуе пачуцьцё красы. Гэта Бог стварыў, мы толькі павінны тое ўбачыць.

Вось наступны здымак, дзе неба іншае. Я трошкі апрацаваў карціну, каб выявіць аптымістычную гатычную музыку. І яна тут ёсьць. Гэта наша, зямное неба. Гэта частка фатаграфічнай сымфоніі, калі гаварыць музычнымі тэрмінамі.

Апошні ў гэтай тэме, чорна-белы здымак нябёсаў. Тут барокка. Там, над акіянам – суцэльны хмарны дзень, суцэльная воблачнасьць, ніякіх прасьветаў. Мы бачым тое збоку. Зьняты воблачны разрэз ад акіяна і да вяршыні. Тут выява, нібы арганная музыка. Воблакі заўсёды гучаць.

Наступны выразны цыкл фотамастака-паэта – гэта **"Сьвятло Месяца"**.

-- На першым развароце палавінка Месяца і марская ракавіна на пяску, нібы фантастычнае касьмічнае цела завісла ў прасторы. Дзьве формы кантрастуюць і дапаўняюць адна другую (тлумачыў аўтар). Вершык дае намёк на повязь рэчаў: *"нават на дне марскім месячка ёсьць".*

Другі разварот накіраваны на разгортку тэмы. Тут мы бачым тое ж гучаньне. Месяц і асьветленае месяцам дрэва, і вершы, якія ілюструюць месячную ноч. Яна звыклая, такая, да якой мы правыклі. Тут жа трохрадкоўі на старонцы (траціны) – уводзіць нас у гэтую тэму.

Ці бачылі вы,
Як з-за хмар
Выплывае над морам
лíпеньскі Месяц?

Альбо:

Вецер сьвішча
Пад пірсам прыбой.
Як зграі варон
набягаюць на Месяц
чорныя хмары

І далей ідзе кульмінацыя тэмы Месяца. На развароце поўня Месяца і прыбой, што разьбіваецца аб скалы -- стыхія, якая каардынуецца ў падсьведамасьці з фактурай, падобнай на месячную пароду. Усё разам дае магчымасьць цераз пачуцьцёвасьць, цераз эстэтычнае ўспрыняцьце зразумець ідэю аўтара. І верш, які тут ёсьць, гучыць так:

Месяц абуджае пачуцьці таемнай прысутнасьці.
А яркае сонца – не.
Сьвятло Месяца ўцягвае,
А сонца – грэе.
Месяц – містыка. Сонца – рэальнасьць.

Сапраўды, месячнае сьвятло, месячная ноч узбуджае містычныя адчуваньні. І немагчыма адарваць погляд ад Месяца.

Наступная разгортка -- і мы пераходзім у тэму мэдыятацыі. Але напачатку верш:

Хмара сплыла
І выглянуў Месяц.
Адбітак ад рамы вакна
На стале
Павольна спаўзае на край.

Карціна, якая ствараецца вершам, адносіцца да наступнага развароту (мэдыятацыі Месяца). Месяц у вакне (поўня), пусты пакой, і месячны сьвет, які прабіваецца праз рамы.

Аўтар тлумачыць: "У гэтым развароце (медыятацыя "Месячная ноч"), я наблізіў месяц у вакно. Ён пазнавальны. Такі, якім мы прывыклі яго бачыць, хоць маштаб павялічаны ці не ў 20 разоў. Гэта не "астраномія", ня нейкая зьява невядомая. Ўсё ў межах рэальнасьці. Я не выпадкова сказаў, што тут фатаграфічная сімфонія, бо заканчваецца яна клясычным скерцо. Такім месяц, як на апошнім развароце, не бывае на паўночных шыротах (хіба на экватары). Ён тут – перавернуты, і называецца **"Перавернуты Месяц"**. Гэта трошкі так па-дзіцячаму, трошкі гумарыстычна, бо "скерцо". Да гэтай выявы прыстасаваныя і пэўныя вершы. Скажам, дзіцячы вершык **"Месячка"**, які пабудаваны на рытме і рыфме, але апошні радок адмыслова выпадае і

з рыфмы і з рытма, бо ён (гэты радок) акцэнтуецца. Другі верш – працяг гэтага ўспрыняцьця *(“Месяц-месячка Ты наш прыгожы...”)*”.

Яшчэ адна тэма, якая адлюстроўвае трансцэндэнтнае адчуваньне прыроды (прысутнасьць Бога) – гэта тэма **“Птушкі”**. Раскрываючы мастацкі падыход да яе, аўтар адзначае: “Адкрываецца тэма разваротам – “**Чайка”,** якая зьнята ў палёце кампактным стужкавым фотаапаратам і невялікім шырокакутным аб’ектывам з адлегласьці менш, чым адзін мэтр (адсюль своеасаблівы “эфэкт даступнасьці”).

У пэўнай ступені гэта выяўленчае адкрыцьцё. Звычайная чайка, нібы ляціць побач. З такога эстэтычнага акцэнта пачынаецца тэма птушак.

Наступны разварот, -- гэта той жа выяўленчы падыход і той жа эфэкт. Узьлёт галуба зьняты кампактам, шырокакутным аб’ектывам з адлегласьці 50 сантымэтраў. А побач здымак вялікага каменнага крылатага анёла. Візуальная карэляцыя кампазыцыі выяваў дзівосная, выклікае нечаканае адчуваньне і раздумленьне, -- тлумачыць аўтар. Фармальная сутнасьць кампазыцыі скааардынавана таксама ў вершы, які тут разьмешчаны.

--Будзьце, як птушкі нябесныя, --
Сказаў Гасподзь.
І падумаў я:
Вольны той, хто лятае.
І Анёл -- вольны.

У гэтай жа тэме зьмешчаны верш пра вольнасьць птушак. Такім чынам абыгрываецца гэты асобны мастацкі матыў тэмы.

Наступны разварот напоўнены і вершамі, і выявамі птушак. Гэта карціна, якую трэба было скампанаваць адпаведна зь вершамі (кажа аўтар). Зьмест вершаў павінны адпавядаць кампазыцыі і выяўленчай карціне развароту. Прытым нават ў дэталях. Напрыклад, чытаем верш **“Ікар”:**

Хлопчык пайшоў да сонца.
Ішоў-ішоў,
А яно ўсё далёка.
І тады думае:
Эх, быў бы я птушкай!

На старонцы зьмешчана чайка, якая сіліцца ўзьляцець (тлумачыць мастак), яна нібы імкнецца вырвацца зь белага фона старонкі. Я яе абрэзаў (скадраваў зьнізу) спэцыяльна, каб быў эфэкт ўздыму і карэляцыя са зьместам верша.

Чытаем далей верш **“Лёт”:**

Калі я ляжаў і глядзеў у неба,
Прасьвісталі ў паветры імкліва
Дзікія гусі”.

Гэта траціна, нешта накшталт хоку. Вось тут жа фатаграфія – імкліва лятуць дзікія гусі. Гэты палёт гусей -- дзівосная зьява ў прыродзе. І менавіта гэты момант зафіксаваны. Адбываецца поўная эстэтычная карэляцыя (гэта ўсё ў тым жа адным развароце). У выніку чытач, які чытае і глядзіць кампазыцыю, успрымае карціну так, як хоча мастак, не заўважаючы, якім чынам падрыхтавана ягонае ўспрыманьне.

Апошні верш, які як бы тлумачыць гэтую ўсю карціну, называецца **“Фатаграфую птушак”**. Далей, гартаючы кнігу, мы бачым чайку і галуба, знятых наўпрост, і радкі:

Птушка ў фас,
Дык нейкі дух містычны,
Нават галуб, як сакол.

-- У чым тут справа і нечаканасьць выявы? – пытаецца аўтар і адказвае: -- Вельмі мала хто бачыць птушак у фас, таму што птушка на чалавека заўсёды глядзіць бокам. Яна ня можа глядзець проста. Паварот птушынай галавы адбываецца за долю сэкунды. Чалавек бачыць паварот, але ён ня можа яго фізіялагічна зафіксаваць ва ўяўленьні (вельмі хуткія рухі). І таму вобраз чайкі ў фас (даволі сьвірэпая фізіяномія) спачатку здумляе (бо мы яе такой ніколі ня бачым, дакладней, бачым, але не фіксуем). Тым часам фатаграфія можа тое зафіксаваць.

Ёсьць такі разварот, дзе аўтар зрабіў партрэты птушак -- **“Галуб” і “Галубка”.** Сумясьціўшы іх разам, мастак дамогся прыгожага адзінства выявы, вобразы нібы гучаць ва ўнісон.

-- Вось разварот ***“Чайкі”,*** -- прадаўжае апавяданьне аўтар. -- Унізе чайка нізка ляціць, уверсе -- высока. Але яны незвычайныя. Мы прывыклі бачыць іншых чаек, белых лагодных, нібы галубы. І літаратура іх паэтызуе.

На фатаграфіях ЗЯНОНА чайкі -- ня толькі прыгожыя птушкі, але даволі драпежныя істоты, палёт іх бывае злавесным і нават жудасным (для шмат каго гэта нечаканае адкрыцьцё). У гэтай тэме ёсьць верш які адлюстроўвае драпежную сутнасьць птушкі.

Усе кажуць, сьпяваюць, пяюць:
“Чайка” ды “чайка” –
Птушка нябесная,
Мара ўзьнёслая...
З гледзішча рыбы, аднак, --
Жудасьць драпежная
Гэтая чайка!
Бандзюга марскі
Ды ляцячая сьмерць.
Але ж рыба маўчыць.

На адным з разваротаў чайка зьнятая ў кантравым сьвятле на фоне воблакаў. Мы бачым яе цёмную птушыную тушу ў імклівай дынаміцы. Птушка выглядае як лятучы сьвірэпы яшчар, гэта такое змрочнае відовішча. На іншым развароце чайка пікіруе на рыбу. Выгляд яе драпежны і злавесны. Ёсьць яшчэ сэрыя такіх здымкаў.

Гледзячы на гэтыя мастацкія фота, мы разумеем, што нават самыя простыя рэчы і зьявы, калі да іх прыгледзецца глыбей, могуць стаць чыньнікамі эстэтычных адкрыцьцяў, і набыць пазнавальны зьмест.

Яшчэ адна тэма – **“Бог”** (сэрыя вершаў і здымкаў). Адзін з цэнтральных разваротаў -- фота скульптуры багамольца каля касьцёла Францішканаў у Мангэттане і здымак галоўнага нэфу ў Саборы сьвятога Патрыка. Тут галоўны твор (зьняты надзвычай выразна) – гэта багамолец. Здымак нэфа адыгрывае больш кампазыцыйную функцыю, адцяняе галоўнае фота.

У цыкле **“Быцьцё”** вершы, разважаньні, сэнтэнцыі і думкі. Адна зь іх гучыць так (сэнтэнцыя-верш у адзін радок): ***“Хваля ёсьць форма і формула хараства”***. “На мой погляд, -- кажа доктар Пазьняк, -- тут выяўлена аб’ектыўная матэрыяльная аснова ўсяленскага фэнамэна прыгожага. Калі вы задумаецеся над гэтым глыбей, -- тлумачыць мастацтвазнаўца, -- то пераканаецеся, што ўсё прыгожае, што мы бачым і чуем, мае форму альбо аснову хвалі. Хараство ёсьць функцыя ісьціны. Ісьціна заўсёды прыгожая. Галоўная сутнасьць ісьціны – вечнасьць. Шлях да яе – стварэньне. І ўсё гэта выяўляецца ў кэтэгорыі прыгожага. Тым часам разбурэньне і сьмерць -- увасабленьне катэгорыі агіднага”.

Сказанае паэтам ЗЯНОНАМ, на справе ёсьць вельмі глыбокая рэч. Гэтае яго разважаньне пра хвалю ёсьць (як ён лічыць) адкрыцьцём фізічнай тэхналёгіі эстэтыкі. Для ілюстрацыі эстэтычнай ідэі верша аўтар стварыў такі асацыятыўны разварот з двух здымкаў. На першым фотаграма лініяў жаночага торсу (зробленая ў 1965 г.) На другім – зняты выраб беларускага мастацкага шкла з той жа пары *(“Фантастычны кот*”). І лініі, і танальнасьць фатаграфіяў надзвычай яскрава карэлююцца па форме, гучаць ва ўнісон на падставе выразнай хвалевай кампазыцыі. Прыклад амаль лапідарны, але прыгожы і вельмі даходлівы. Улічым, што жаночая форма цела, дзе дасканала ўвасоблена ідэя і форма хвалі, ёсьць (на думку паэта) эталонам прыроднага хараства на Зямлі.

Вельмі кранаючы цыкл **“Засьнежаныя вёскі”**. Аўтар кажа, што гэта яго здымкі 1995 года, тое што ўдалося ўратаваць: “Для многіх з нас гэтыя засьнежаныя хаты, гэтыя вёскі – настальгічна дарагія, заўважае паэт. -- Гэта вельмі прыгожы вобраз Беларусі. І вершы тут таксама каардынуюцца з фатаграфіямі. *(“Сярод лясоў*

*засьнежаныя хаты. Як гэта прыгожа!..."*) Звыклае хараство, але апынуўшыся на чужыне, мы глядзім на яго са шчымленьнем душы."

-- У фатаграфіі самая важная тэма – людзі, -- кажа мастак. – З фотажанраў тут найперш партрэт і рэпартаж. Людзей Нью-Ёрка здымаць ня проста, -- заўважае аўтар. -- Ёсьць вялікая спакуса захапіцца зьнешнімі праявамі, бо тут вялікая разнастайнасьць тыпажоў з усяе плянэты, поўна экзотаў, арыгіналаў, бамжоў, дзівакоў, экстравагантных тыпаў і т.п. Станоўчых высокіх вобразаў тут адшукаць няпроста, бездухоўнасьць і фізіялагічныя адчуваньні на тварах – тыповы выгляд нью-ёрскага натоўпу. Некалі ў фотакнізе вершаў "Дарога" я адлюстраваў гэтую вулічную якасьць Нью-Ёрка. Чым, дарэчы, выклікаў схаванае незадавальненьне некаторых асіміляваных беларусаў з амэрыканскімі поглядамі і саўковай мэнтальнасьцю (цікавы фэнамэн, дарэчы, -- амэрыканскі савок).

Тым ня менш па ўзроўню гуманнасьці, неагрэсіўнасьці і поўнай адсутнасьці ксэнафобіі нью-ёрскі натоўп выгадна вылучаецца на фоне тлуму такіх усходнеэўрапэйскіх сталіц як, скажам Прага, Варшава, Бэрлін (не кажу ўжо, вядома, пра Маскву – там ўвогуле не Эўропа). Цікава, што за 18 гадоў у эміграцыі мне ніхто, нідзе, ніколі ні разу (!) ў Нью-Ёрку не нагрубіў, не нахаміў, не сказаў няветлівага слова, хаця якраз на глебе фатаграфіі, я часта трапляў у розныя гісторыі (у тым ліку і з паліцыяй). Але гэта тэхнічнае адступленьне ад тэмы.

Станоўчыя вобразы (ў нашым беларускім разуменьні) у Нью-Ёрку можна знайсьці, як і ўсюды. Іншая справа наколькі яны будуць тыповыя для гэтага соцыума. Тыпізацыя – важная катэгорыя ў сур'ёзным мастацтве.

Далей аўтар паказаў некалькі фатаграфіяў людзей з нью-ёрскіх вуліцаў. Запомніліся **"Замілаваньне на бруклінскай эвэню"** і здымак **"Юначка прыехала ў горад Нью-Ёрк".** Дзяўчына разгубленая і спалоханая. Яна першыя дні ў гэтым вялікім горадзе, у які прыехала, відаць, аднекуль з Сярэдняй Азіі вучыцца ці працаваць. Тыповая карціна і добра адлюстраваны псіхалагічны вобраз юначкі. Тут жа партрэты беларускіх людзей: Аляксандра Міцкевіча, дзеда Ваяводы з Браслава, маці Міхася Чарняўскага Марылі, паэта Максіма Танка і іншыя.

Наступны разьдзел кнігі – гэта **апавяданьні**.

-- Бальшыня зь іх, -- кажа аўтар, -- заснаваныя на зьявах, якія былі ў жыцьці. Але падыход такі: паказаць звыклыя вобразы беларусаў, простых людзей і іхныя лёсы ў пэўных абставінах. Я пісаў пра тое, -- прадаўжае аўтар, -- пра што добра ведаю, і пра людзей, якіх ведаю. Ёсьць апавяданьні, якія я прыдумаў, але тыя жыцьцёвыя абставіны, якія былі ў жыцьці і спатыкаліся мне, далі магчымасьць стварыць пэўны сюжэт на аснове гэтага вопыту (скажам **"Васількі"**). Некаторыя **("Казурка"**) узяты з пэўных перажытых абставінаў. Але падыход такі – з пункту гледжаньня народнага ўспрыняцьця вобраза простага беларуса. Для мяне важным было адлюстраваньне тых міжлюдзкіх зьяваў, якім часам мы і не прыдаём значэньня. Мастак жа мае магчымасьць зьвярнуць увагу і паказаць, якое багатае жыцьцё, бо іншы чалавек яго можа часам прамінуць не задумаўшыся.

Апавяданьні пабудаваныя на вобразах і тыпажах простых беларусаў яшчэ той, савецкай эпохі. Але вобразы ў апавяданьнях тыповыя і трансцэндэнтныя, яны і цяпер такія.

Трэцяя тэма, якая адлюстравана ў гэтай кніжцы, -- гэта публіцыстычныя, палітычныя артыкулы. Яны напісаны спэцыяльна для кнігі. "Гэты разьдзел, -- кажа аўтар, -- я назваў **"Народная філасофія"**. Названы ён у двукосьсі, таму што тэксты ня маюць дачыненьня да акадэмічнай філасофіі. Двукосьсе паказвае, што аўтар стараецца даваць ацэнку такім складаным зьявам, пра якія піша, з пункту гледжаньня народнай псіхалогіі, народнай філасофіі і народнага асэнсаваньня. Нашыя людзі (тыя што пражылі доўгі час на сьвеце і не скончалі ўнівэрсітэтаў), калі зь імі пагаварыць па любых пытаньнях жыцьця, маюць сваю думку, і часам выказваюць сваімі словамі такія мудрыя і глыбокія разважаньні, да якіх і акадэмічны філёсаф не дадумаецца ці іншы які

афіцыйна адукаваны мудрэц (апосталы, дарэчы, былі простымі рыбакамі але, маючы разуменьне ад Духа Сьвятога, затыкалі за пояс антычных філосафаў.)

Нават у тэкстах, якія зьяўляюцца палітычнымі, публіцыстычнымі, я таксама зыходзіў з пазыцыі каштоўнасьці любога чалавека, з пазыцыі каштоўнасьці чалавечага вопыту. Бо сам узрост, само разьвіцьцё чалавека ёсьць ягоны ўнівэрсітэт. Жыцьцё – гэта Боская школа чалавека, калі ён умее прыглядацца і аналізаваць, калі ўмее прыслухацца да сваёй душы."

Кніга аб'ёмная, вялікая, вялікага фармату (A4) і размова атрымалася вялікая.

"Гэтую кніжку я задумаў даўно як праграмную працу. І я вельмі ўдзячны Богу, што мне ўдалося яе зрабіць і выдаць. Беларусь жыве і будзе жыць і справа дзеля яе праслаўленьня й дабра не загіне", -- сказаў у заключэньне Зянон Пазьняк.

*25 траўня 2014 г.* Марыля Якушэвіч

# ШПАЦЫР ПА ЗАМАРОЖАНЫМ МЕНСКУ

9-га траўня адбылася адметная падзея ў беларускім Сеціве. Журналіст Валеры Каліноўскі хадзіў па Менску, размаўляў зь людзьмі на розныя тэмы, а апэратар здымаў на відэа і перадаваў у эфір усе ягоныя размовы і перамяшчэньні ў рэальным часе, паказваючы пэрспэктывы і панарамы горада. Эфэкт прысутнасьці для гледача сапраўды адбыўся. Ніякія відэа-рэпартажы, інтэрв'ю, здымкі схаванай камэрай, відэа-сюжэты, апытанкі і т.п. і блізка не даюць такога адчуваньня тымчасовасьці прасторы, месца і атмасфэры, як гэтае фіксаванае камэрай хаджэньне і гаварэньне ў рэальным часе. Кажу гэта як чалавек, які добра ведае Менск і менчан, бо "схадзіў" яго сотні разоў, днём і ноччу, уздоўж і ўпоперак, гаворачы зь людзьмі, тады, пры саветах, калі я змагаўся за стары горад і яго існаваньне. (Дадам, што ў Траецкім прадмесьці і ў Верхнім горадзе я пабываў у той час у кожнай кватэры і ў кожнай сям'і, ведаў, дзе хто жыве, і там ведалі мяне.)

Дык вось, у гэтым хаджэньні Валеры Каліноўскага я той даўні Менск пазнаў і ўвачавідкі адчуў яго знаёмае дыханьне. Ён не зьмяніўся ні на ёту (толькі замест асфальту на ходніках паклалі бэтонную костку). Дзівосная машына часу. Я зноў у 70-дзесятых, якія тады так залезьлі ўсім нам пад скуру, што хоць крычы. Фантастычна. Тыя ж людзі. Тыя ж піянэры (хлопчыкі і дзяўчынкі) у ваенізаванай форме стаяць каля савецкага "вечнага агню", ходзяць качыным крокам, зьмяняюць пацешны "каравул". Тыя ж пэнсіянеркі-бабуленцыі, якія па-руску пераказваюць прапагандысцкім тонам усё, што пачулі і ўбачылі ў тэлевізары, тыя ж добрыя шчырыя беларусы, што азіраюцца на жонак, падбіраюць словы, каб не сказаць лішняга, якія, жывучы пад чужой прапагандай, нічога ніколі толкам ня ведаюць, што робіцца ў сьвеце, тыя ж мілыя дзяўчаткі, якія ведаюць яшчэ менш.

У панарамах відаць, што зьявіліся новыя будынкі. Але лепш бы яны не зьяўляліся. Нейкая азіятчына, бяз густу і архітэктурнай культуры. Вось палац правіцеля, які нагадвае вялікі правінцыйны аўтавакзал у кітайскім стылі. Пра традыцыі беларускай архітэктуры ўвогуле маўчым. Адчуваецца, што ўсё зроблена якраз насуперак традыцыі. Узвышаецца нейкі кічавы гмах у дварах Верхняга горада, дахі храмаў і іншых старажытных помнікаў архітэктуры, дзе павінна быць традыцыйная чырвоная дахоўка, пакрытыя бляхай і пафарбаваныя ў ... мыльна-зялёны колер (гэта ўжо забівае проста напавал).

У 1978-79 гг., калі мы з Валянцінам Собалем пачалі ўпершыню археалагічныя раскопкі Верхняга горада, тады адкрылі падмуркі разбураных расейцамі помнікаў архітэктуры: кляштара і касьцёла Бенедыктынак, рэшткі Менскай ратушы, гандлёвых

крамаў, Сьвятадухаўскай царквы, пазьней – Даміниканскага касьцёла і інш. Памятаю, у час раскопак Менскай ратушы я казаў школьнікам, што працавалі на раскопках: "Пройдзе час, і ўсё гэта (і Ратуша, і Сьвятадухаўка, і крамы) адновяць, і вы будзеце жыць у адбудаваным гістарычным Менску". Парадаксальна, але ў цяперашнім асяроддзі псаваньня і разбурэньня, што назіраецца ў Менску, названыя помнікі архітэктуры якраз і аднавілі. Праўда, ня лепшым чынам, але ўсё ж такі.

Разам з Валеры Каліноўскім і камэрай мы віртуальна праходзім па былой Даміниканскай паўз гэтыя адновы гісторыі, выходзім на плошчу Верхняга горада і тут нас чакае наймацнейшы ўдар. На месцы дома нумар 19/23 на плошчы Свабоды (XVIII-XIX ст.), за які мы ў 70-80-х змагаліся гадамі і перамаглі (узялі пад дзяржаўную ахову і закансэрвавалі будынак), цяпер тут – пустка. Будынак не існуе. Яго зьнесьлі. І плошча зьнікла. Разваліласся. Дом закрываў пустую пэрспэктыву і "трымаў" плошчу Свабоды ў гэтай частцы забудовы. Цяпер тут дзіра, адкрытая прастора, адчыненая на пустое месца зьнішчанага ўжо Менскага замчышча, на Татарскія агароды і пойму Сьвіслачы. Тады, у 70-х, нават самы тупы архітэктар разумеў, што зьнесьці гэты будынак – значыць архітэктурна разваліць плошчу. Цяпер, пры прадажным антынацыянальным рэжыме, знайшліся, відаць, стымулы, мацнейшыя, чым тупасьць.

Рэстаўравалі некаторыя каштоўныя будынкі ў цэнтры, але згарманізаванага выгляду плошчы Свабоды ўжо няма. Разбурыўшы дом № 19/23, замкнутую прастору плошчы разламалі, прытым абсалютна без патрэбы. Зрабілі правал. Як гэта ўсё знаёма.

У відэакадрах адчуваецца атмасфэра Менска 70-х гадоў. Бо горад, ягоны дух – гэта перш за ўсё людзі, іхныя паводзіны, інфраструктура грамадзтва. Віртуальна ідучы ўсьлед за журналістам, бачачы ягоных субяседнікаў і панарамы мясьцін, мне цікава было назіраць таксама за фонам відэакадра, за людзьмі ў пэрспэктыве, на другім і трэцім планах. "Дзіўна, міліцыі не відаць", -- кажа журналіст Каліноўскі (у гэты дзень якраз пачынаўся ў горадзе чэмпіянат сьвету па хакеі). Але на іншых планах відэараду я бачу шмат тыповых фігур у цывільным, якія здаецца усім сваім выглядам хочуць засьведчыць, што яны тут не абы хто, а "мянты" і "гэбэ". Вось некалькі разоў прамільгнуў у кадры характэрны тыпаж сямідзясятых – сэксот, так званая "наружка". Назіраю з цікавасьцю, бо па вопыту ведаю, што калі будзе толькі круціцца, -- значыць свабодна ідзеш. Калі падыйдзе правакаваць – заграбуць.

Тыпаж улучыў момант і падышоў да Каліноўскага з правакацыйнымі прэтэнзіямі (ну проста клясычны тып рускага стукача -- глядзеце і запамінайце). Журналіст вельмі акуратна ад тыпа пазбавіўся, магчыма яшчэ не разумеючы, што ягоная песенька сьпета – забяруць.

Але забралі Каліноўскага толькі праз гадзіну-паўтары (тактыка!). Журналіст (як ён сам зразумеў) дапусьціў памылку, зьвярнуўся да "мянта" у цывільным з заўвагай, што каля мэтро, дзе прадажа сьпіртнога забаронена, прадаюць алькаголь. Мент жа разумее, што прадаваць алькаголь "не паложана", але калі не "абрашчаются", значыцца і не прадаюць. А тут во, "абрацілся". "А прайдзёмце ка в машыну", -- кажуць журналісту. Пад'язджае міліцэйскі цывілізаўны "хапунок". "Ну, во, -- кажа разгублена Каліноўскі, залазячы ў "ментоўку", -- сам і напрасіўся". На гэтым – "канец фільма".

У заключэньне скажу, што трохгадзіннае падарожжа па гістарычна замарожаным Менску атрымалася ў спадара журналіста надзвычай цікавым, і я б параіў яму захаваць гэты відэазапіс надоўга. Яго можна будзе выкарыстоўваць у будучыні як нагляднны вучэбны дапаможнік для старэйшых клясаў сярэдняй школы і студэнтаў унівэрсітэта па спэцыяльнасьці "культура і сацыяльная псіхалогія Менска ў час антыбеларускага рэжыму і расейскай унутранай акупацыі".

*10 траўня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# У Л Ё Т К І

**Паважаныя сябры, зараз, калі пуцінская гёбэльсаўшчына вядзе татальную інфармацыйна-прапагандысцкую вайну супраць Украіны, Беларусі і ўсяго сьвету, неабходна супраціўляцца расейскай хлусьні ўсімі сродкамі і мэтадамі.**

**Пры адсутнасьці масавых беларускіх СМІ важкае значэньне набывае папяровы інфармацыйны распаўсюд. Інфармацыя на папяровых носьбітах больш сацыяльна мабільная і доўгатрывалая. Трэба выкарыстоўваць яе. Улёткі, якія разьмешчаныя ніжэй, можна раздрукаваць (хто разумее і можа) і адрасна распаўсюдзіць. Ня трэба думаць, што гэта дробная справа. Супраціўляйцеся. Жыве Беларусь!**

**.....**

## РЫХТУЙМАСЯ
## ДА БАРАЦЬБЫ З АКУПАНТАМ

Той сьвет, які існаваў да сакавіка 2014 года, да нападу Расеі на Украіну, той сьвет больш не існуе. Беларусы мусяць рыхтавацца да вайны, ствараць групы па некалькі чалавек, назапашваць зброю, рыштунак і выбухоўку. Беларуская армія, кіруемая рускімі і прарускімі афіцэрамі, ня будзе абараняць Беларусь і беларускі народ. Але ў арміі шмат жаўнераў-беларусаў, якія могуць завалодаць зброяй і выступіць у абарону Беларусі, а з рускімі афіцэрамі абыйсьціся па законах ваеннага часу.

Дарэчы, акупацыйны рэжым, баючыся беларускага супраціўленьня, ужо наперад прымае прэвентыўныя захады, каб пазбавіць людзей зброі. 24-га красавіка гэтага года ўзурпатар падпісаў Указ № 185 дзе прапанавана беларусам да 1-га ліпеня зарэгістраваць “незаконна прыхаваную зброю”. Потым гэтую зброю (зрабіўшы характарыстычную экспэртызу), маўляў, вернуць уладальнікам.

Зразумела, што катэгарычна (!) нельга рэгістраваць і паказваць ім зброю. Нельга дурным чынам дабраахвотна падставіць сябе пад рэпрэсіі. З пачаткам ваенных дзеяньняў ўсе, хто цяпер наіўна праз “экспэртызу” зарэгіструе сваю зброю ў рэжыма, будуць гэтым рэжымам арыштаваныя, альбо кінутыя ў турму (як Аўтуховіч), альбо забітыя. Зброя павінна застацца ў беларусаў. Яна будзе гарантыяй бясьпекі і барацьбы.

*17 траўня 2014 г.* Зянон Пазьняк

## Аб антыімпэрыялістычнай
## антыпуцінскай кааліцыі

Ад расейскага імпэрыял-фашызма нельга абараніцца і потым мірна зь ім суіснаваць. Руская падрыўная праца і пляны захопу ня спыняцца ніколі. Рана ці позна імпэрская агрэсія Расеі будзе паўторана ў шырокіх і пачварных маштабах. Расея ёсьць падпальшчыца дзьвух крывавых сусьветных войнаў і пагражае падпаліць трэцюю. Калі Эўропа хоча міру, рускі імпэрыялізм мусіць быць разбураны, імпэрыя ліквідавана. Зразумела, што ні Амэрыка, ні Эўропа (з прычыны свайго філісьцерства і прагматызму)

ня будуць спрыяць дэзінтэграцыі агрэсіўнай штучнай і шматковай расейскай дзяржавы, пабудаванай на гвалце і нянавісьці. У ліквідацыі расейскай пагрозы народам павінны быць зацікаўлены самы гэтыя загрожаныя народы, перш за ўсё – Беларусь, Украіна, Польшча, Малдова, краіны Каўказу і Закаўказьзя, краіны Прыбалтыкі і ўсе постсавецкія дзяржавы Сярэдняй Азіі.

Цяпер, калі ідэалагічна сфармаваўся новы рускі імпэрскі фашызм і пачаў агрэсію супраць Украіны, ствараючы чарговую крыніцу напружанасьці ў сьвеце, паўстае пытаньне аб арганізацыі блоку краінаў антырасейскай антыпуцінскай кааліцыі. Рэальна гэта тыя незалежныя краіны постсавецкай гісторыі, якія тут вышэй пералічаны. У будучыні сюды могуць далучыцца Турцыя, краіны Цэнтральнай Эўропы плюс Фінляндыя. Рускі імпэрскі фашызм мусіць быць ліквідаваны. Імпэрыялізм мусіць быць скончаны. Руская агрэсія павінна быць спынена.

Зразумела, што кааліцыя на ўзроўні ўрадаў пералічаных краінаў – гэта доўгі і праблемны працэс. Але пачынаць дзейнічаць можна ўжо сёньня на грунце грамадзка-палітычных структураў і асобаў з мэтай стварэньня Міжнароднага Кангрэсу арганізацыяў антыфашысцкай антырасейскай антыпуцінскай кааліцыі. Наколькі супрацоўніцтва стане рэальным на ўзроўні ўрадаў і дзяржаваў – пакажа будучыня.

*17 траўня 2014 г.* Зянон Пазьняк

## Асаблівасьці становішча

У той час, калі Эўропа (найперш немцы) актыўна спрыялі здачы Беларусі пад Расею, зьнішчэньню беларускай нацыянальнай палітыкі, нацыянальна-дэмакратычнага руху і, фактычна, далі магчымасьць выкарміцца антыбеларускаму рэжыму Лукашэнкі, напад Масквы на Украіну напалохаў заходняга палітычнага філісьцера. Эўропа адчула небясьпеку свайму камфортнаму існаваньню. Адзінай зброяй Эўропы (у ваенных дачыненьнях яна амаль што нуль) ёсьць эканамічныя санкцыі супраць Расеі. Гэта станоўчы момант для Украіны. (У Беларусі, напрыклад, дэмакратычны Захад, замест таго, каб пакараць санкцыямі Расею, імкнуўся пакараць рэжым у Менску і звязаныя зь ім вытворчыя прадпрыемствы, б'ючы, фактычна, па працоўных людзях і мацуючы кантроль Масквы над Беларусяй).

Тым часам Эўропа яшчэ не ўсьведамляе фашысцкай сутнасьці рускага гэбізму і фашызацыі рускага імпэрскага грамадзтва, якое атрымала на ўзбраеньне клясычна фашысцкую ідэалогію "русского мира". Па гэтай канцэпцыі Расея можа ўжо арганізаваць маштабныя рускія закалоты з патрабаваньнем асаблівых свабодаў ў Лёндане, Бэрліне і іншых сталіцах Эўропы. Заходнікі не ўяўляюць, з кім маюць справу.

Слабасьць Украіны і Эўропы перад расейскай дыверсійнай вайной у тым, што няма міжнародных законаў па супрацьдзеяньні гібрыднай вайне, якая хаваецца за сэпаратызм, за мясцовыя групы насельніцтва, за права на самавызначэньне, права выбару, правы меншасьцяў і т. п. азначэньні, наплоджаныя дэмакратычнымі рэжымамі. Краіна, на якую напалі знутры, ня мае права (згодна недасканалага заканадаўства) ужываць войска, танкі, авіяцыю супраць такой закамуфляванай вайсковай агрэсіі, ня можа мець перавагі перад добра падрыхтаванымі і ўзброенымі дыверсантамі. Што мы і назіраем у Данбасе.

Павінна быць заканадаўчая ініцыятыва ў міжнародным маштабе аб унутранай акупацыі і гібрыднай вайне, таксама аб лакальных атамных ударах (якія магчымыя і няма за гэта мэханізму адказнасьці і пакараньня). Усё мусіць быць кваліфікавана як злачынства, вызначана адказнасьць, дзеяньні, санкцыі.

*17 траўня 2014 г.* Зянон Пазьняк

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА – ЗБРОЯ СВАБОДЫ

Для Эўропы нацыянальная мова – гэта галоўны сродак культуры і камунікацыі. Для рускага імпэрыялізму – гэта першы і галоўны сродак захопніцкай імпэрскай палітыкі. (Нюанс яшчэ ў тым, што інфантыльная Эўропа таго не разумее.) Вось сьвежы прыклад. 11 траўня рускія дыверсанты ГРУ (з апорай на арганізаваную імі пятую калёну) правялі пад люфамі аўтаматаў фарсавы нібыта рэфэрэндум у Данецку. 12-га траўня яны прынялі заяву аб "суверэнітэце" Данецка, дзе напісалі, што Данецкі рэгіён заўсёды быў *часткай "русского мира", "незалежна ад этнічнай прыналежнасьці жыхароў"* (гэта значыць, што жыхары, і найперш ўкраінцы, гаварылі на рускай мове, -- *З.П.*) і таму "суверэнны" Данецк зьвяртаецца да Расейскай фэдэрацыі з просьбай аб уваходжаньні ў склад РФ. Вось такая квазіпалітыка гібрыднай вайны.

Цікава, што да расейскага нападу на Украіну такія простыя рэчы, як агрэсіўная функцыя рускай мовы ў рускай палітыцы, былі не зразумелыя для некаторых украінскіх інтэлігентаў. Яны, як і ў Беларусі, жылі яшчэ савецкай дэмагогіяй пра "дружбу народаў", што "дело не в языке" і т. п. Цяпер справа мяняецца. Людзі расплюшчваюць вочы. Нядаўна такі ўкраінскі музыкант ад сучаснай мас-культуры Алег Скрыпка ў выніку стрэсу ад нечаканай для яго вайны раптам стаў відушчым і сказаў літаральна наступнае: "Вайны можна б было пазьбегнуць. Калі б мы ўсе разам былі ўкраінцамі, ведалі б мову, уласную гісторыю, слухалі добрую музыку, хадзілі б на ўкраінскія канцэрты, чыталі б украінскія кнігі – немагчыма было б стварыць пятую калёну і абапірацца на рускамоўных людзей, каб зьнішчыць краіну і забіваць патрыётаў на вуліцах.

Трэба было стаць культурнымі людзьмі, якія ведаюць сваю мову і не прыкрываюць уласную ляноту і непісьменнасьць фальшывай талерантнасьцю да мовы. Па сабе ведаю: мова вывучаецца за два месяцы.

Была б Украіна ўкраінская, як Францыя французская ці як Чэхія чэшская, -- гэтых праблемаў бы не было."

Горкая навука Украіны падказвае нам, беларусам, што мы павінны рабіць, каб не дапусьціць агрэсіі Расеі, а ў выпадку агрэсіі -- каб перамагчы ворага і адстаяць незалежнасьць дзяржавы.

Першае -- трэба ўсьвядоміць, што беларуская мова ў гэтай вайне з Расеяй ёсьць зброяй нашай свабоды і незалежнасьці. У мінулым годзе на сьвята Дзядоў у Курапатах Юры Адамавіч Беленькі, зьвяртаючыся да моладзі, выразна і лёзунгава сфармуляваў сутнасьць зьявы: ***«Моладзь, памятай: калі ты размаўляеш на расейскай, ты ў акупацыйнай арміі, якая страляе ў твой народ»***. Не страляйма ў сябе ў той час, калі вораг страляе ў нас. Беларуская мова супроцьстаіць агрэсіўнай фашысцкай дактрыне "русского мира", ёсьць закладам, які ліквідуе ўмовы рускай агрэсіі і вайны.

Побач з мовай важнейшым стратэгічным чыньнікам нашай свабоды і незалежнасьці ёсьць наша гісторыя, найперш гісторыя Вялікага Княства Літоўскага – нашай старажытнай дзяржавы і нашага старажытнага народнага імя. Трэба ведаць свае нацыянальныя гістарычныя карані. Трэба шанаваць сваю гістарычную культуру. Трэба ведаць гісторыю Беларусі.

*17 траўня 2014 г.* Зянон Пазьняк

## Расейскі імпэрыялізм – вораг Беларусі

Расея, расейскі імпэрыялізм ёсьць галоўнай прычынай усіх нашых народных гістарычных беларускіх няшчасьцяў, вынішчэньняў, рабункаў, сьмерцяў і пакут. Расея ёсьць наш натуральны, брутальны, сьмяртэльтны вораг, які не прызнае нашага існаваньня і ў пэрспэктыве бачыць нашу нацыянальную сьмерць. (Дарэчы, антыбеларускі рэжым запрасіў у Менск на чэмпіянат па хакеі ў траўні гэтага года расейскіх гасьцей-заўзятараў. Расейцы прыехалі, як звычайна, панапіваліся да сьвінячага стану і крычалі “сьмерць Беларусі”.) З расейцамі нельга сябраваць, іх нікуды нельга пускаць.

У выпадку ўваходжаньня рускіх са зброяй на нашу тэрыторыю нельга адносіцца да ворага цярпіма, лаяльна і абыякава, і тым больш – нельга не супраціўляцца (як украінцы ў Крыме). Ворагаў, што са зброяй на нашай зямлі, трэба забіваць без папярэджаньня ўсюды і заўсёды, любымі спосабамі. З ворагамі, што прышлі са зброяй, каб нас забіць, не дыскутуюць, не размаўляюць – іх зьнішчаюць. Неабходна разумець, што для нас, беларусаў, гэта айчынная вайна, якая пачалася з 1994 года.

Трэба зыходзіць з таго, што акупацыйны рэжым здасьць Беларусь. Барацьбу з ворагам мусіць узяць на свае плечы сам беларускі народ. Ліквідацыя рэжыму Лукашэнкі будзе часткай агульнай барацьбы з акупантам.

*17 траўня 2014 г.* Зянон Пазьняк

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРАЎДЫ І ПРАПАГАНДА ХЛУСЬНІ

Расейска-украінская вайна – гэта таксама і нашая беларуская вайна з Расеяй. У нас з украінцамі адзін вечны вораг, што вісіць над нашай цывілізацыяй ужо скора 800 гадоў і прынёс нямераныя няшчасьці нашым людзям. Гэты ворагам ад пачатку была Арда -- пазьнейшая імпэрыялістычная Расея.

Вайна абвастрыла важныя для нас вобласьці жыцьця, якія мы мусім абавязкова прымаць пад увагу і абавязкова вырашаць, што рабіць, чаго б гэта нам ні каштавала. Першае – гэта навочнае сьведчаньне небясьпечнасьці і эфэктыўнасьці інфармацыйнай вайны, заснаванай на прапагандзе і на вялікай хлусьні. Зразумелая прычына гэтай разбуральнай эфэктыўнасьці. Інфармацыя на вялікай хлусьні вылучаецца агрэсіяй і па сваім узроўні накіравана на масы шэраговых людзей, на нізкую сьвядомасьць, для якой характэрнае ёсьць міфалагічнае ўспрыняцьце. У выніку адбываецца замбаваньне масаў людзей. І чым больш неверагодная хлусьня, тым больш эфэктыўнае замбаваньне. Крытычны розум адключаецца, і контрпрапаганда ня дзейнічае, праўда не ўспрымаецца.

Акупаваная падрэжымная Беларусь цалкам знаходзіцца ў інфармацыйным полі расейска-фашыстоўскіх імпэрыялістычных сродкаў масавай інфармацыі (найперш тэлебачаньня).

Тым часам інфармацыя, заснаваная на праўдзе, даходзіць, як правіла, да людзей, якія знаходзяцца на больш высокім аналітычным і крытычным узроўні сьвядомасьці.

Пры распаўсюджаньні інфармацыі праўды таксама магчымыя шырокія вынікі ўспрыняцьця ў грамадзтве, але істотна тое, што тут адбываецца якасны адбор інфармацыйных спажыўцоў, сярод якіх фармуецца, як правіла, дзейсная эліта грамадзтва.

Ёсьць сэнс і неабходнасьць насуперак расейскай гёбэльсаўскай інфармацыі хлусьні супрацьпаставіць ёй контрінфармацыю праўды, легіёнам цемры і зла

супроцьставіць ваяроў сьвятла і дабра. Перамога над хлусьнёй абавязкова будзе, бо па прыродзе сваёй праўда – гэта верх, ілжа – гэта дно. Нельга дапускаць, каб дно рабілася верхам.

На сёньняшні дзень масавай беларускай контрінфармацыі мы амаль што ня маем. Наша інфармацыя кропкавая і лакальная. Арганізацыя антырасейскай, антыпуцінскай кааліцыі першым чынам, на мой погляд, мусіла б вырашыць гэтую інфармацыйную задачу ў барацьбе чалавецтва супраць пуцінскага рускага фашызму.

*17 траўня 2014 г.* Зянон Пазьняк

# ЗАЦЕМКА АБ СТРАТАХ

Калі памёр Быкаў, зьявілася адчуваньне, што памерла Беларуская літаратура. Але хутчэй за ўсё, гэта было толькі прадчуваньне, пакуль былі Барадулін і Бураўкін. Цяпер іх няма, і адчуваньне стала рэальным. Няма ўжо слупоў беларушчыны, няма на што абаперціся, пачуць слова бяз фальшу, бяз хітрасьці. Засталіся, вядома, людзі розныя, прыстойныя і таленавітыя, моцныя паэты. Але на паверхні, як мне здаецца, плавае безадказная актыўная грамада, эгацэнтрычная і самазакаханая, якая спаборнічае, хто больш брудна плюне ў Беларусь, хто больш цынічна зьняважыць памяць ахвярнай БНР, абплюе гонар вялікіх беларускіх Паэтаў і вялікіх людзей. Яны (некаторыя) пішуць яшчэ па-беларуску, але будучыні ў такой “беларускай літаратуры” ужо няма: на нянавісьці не вырастае мастацтва. Яны абсадзілі нешматлікія ўжо беларускія літаратурныя ініцыятывы. А гэта азначае, што калі будзе нешта расьці беларускае, чыстае, добрае, сьветлае, то толькі на ўзьбярэжжы, здалёк ад дрэннага паху, памятаючы, што літаратура гэта ёсьць вобразнае адлюстраваньне лёсаў чалавечых – лёсаў народных, выяўленых у характве.

*25 чэрвеня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# Пазьняк распаўсюджвае ў Беларусі ўлёткі з заклікамі назапашваць зброю і ехаць ваяваць ва Ўкраіну

*16.07.2014. аўтар Радыё Свабода*

**«Так, гэта робіць Зянон Пазьняк, — пацьвердзіў Радыё Свабода намесьнік старшыні КХП-БНФ Юры Беленькі.**

У Менску па паштовых скрынях невядомыя распаўсюджваюць улёткі ад імя Зянона Пазьняка з заклікам рыхтавацца да партызанскай вайны з Расеяй.

Адна з улётак апынулася ў распараджэньні сайта «Беларускі партызан».

Лідэр КХП-БНФ Зянон Пазьняк заклікае беларусаў яднацца ў невялікія групы па 2-3 чалавекі, шукаць зброю і рыхтавацца да супраціву Расеі, якая пагражае нацыянальнай бясьпецы і незалежнасьці Беларусі.

«Так, гэта робіць Зянон Пазьняк, — пацьвердзіў Радыё Свабода намесьнік старшыні КХП-БНФ Юры Беленькі. — Якімі мэханізмамі распаўсюду ён валодае, цяжка сказаць. Ён працуе ня толькі з партыяй, але і зь іншымі структурамі, якія могуць распаўсюджваць зварот зь яго подпісам. Партыя КХП-БНФ гэтым не займаецца. Зянон Пазьняк — нацыянальны лідэр, зь якім працуюць розныя структуры».

Таксама ва ўлётцы сказана, што расейска-ўкраінская вайна — гэта і беларуская вайна. Лідэр КХП-БНФ заклікае беларусаў дапамагаць украінцам, ехаць добраахвотнікамі і ўступаць у батальёны.

Раней МУС Беларусі распаўсюдзіла заяву, у якой папярэдзіла беларусаў аб крымінальнай адказнасьці за ўдзел у баявых дзеяньнях у суседняй краіне.


http://www.svaboda.org/content/article/25458770.html

# Забыты фотаальбом Зянона Пазьняка

***44 гады таму ў свет выйшаў альбом «Браслаўшчына», які падрыхтаваў малады фатограф Зянон Пазьняк.***

Выданне 1970 года накладам у 16 500 асобнікаў сёння можа лічыцца рарытэтным. Вядомы фотамастак Георгій Ліхтаровіч, які пазнаёміўся з будучым палітыкам годам раней, адзначыў, што, на яго думку, Зянон Пазьняк на той час быў самым таленавітым беларускім фатографам.

«Салідарнасць» прапануе ўвазе чытачоў частку здымкаў з альбома «Браслаўшчына».

**– З Зянонам Пазьняком вы былі знаёмыя перш за ўсё як з фатографам?**

**Георгі Ліхтаровіч** – Так. Зноў жа 1969 год. Ён быў аспірантам у Інстытуце мастацтвазнаўства. А паколькі ён быў фатографам, то і не абмінуў дзверы з надпісам «фоталабараторыя», і пастукаўся да мяне з нейкімі патрэбамі.

На мой погляд, Зянон быў самым таленавітым фатографам на той час. Каб зразумець гэта, дастаткова пагартаць яго фотаальбом «Браслаўшчына» 1970 года. Калі я гартаў тое, што выйшла ў яго за мяжой, то зразумеў, што ён змог вывезці адсюль далёка не ўсё. Ён не мае ў архіве тых здымкаў, што я бачыў на выставах у 70-х. Шкада, бо здымкі былі моцнымі.

На жаль, і ў мяне шмат не захавалася. Рыхтаваў выставу і аддаў усё лабаранту, каб ён зрабіў кантрольныя адбіткі. Прыходжу праз два тыдні і бачу, што ён не ведае, куды вочы падзець. Аказалася, у лабараторыі прабіла трубу з гарачай вадой і ўсе мае негатывы (адборныя!) ляснуліся. Вось так.

**– Якім Зянон быў у маладосці?**

– У нармальнай размове ён вельмі мяккі чалавек. Вельмі разважлівы і, я б сказаў, месцамі нават няўпэўнены. Але гэта ў прыватных размовах, і калі ён яшчэ не выпрацаваў свайго пункту гледжання. Жорсткасць у голасе з’явілася ў яго значна пазней, калі ён пачаў займацца палітыкай. І гэта трошачкі напускное, мне здаецца. Калі

сустракаеш агрэсіўна паслухмяную большасць, там сам па сабе голас павінен стаць жорсткім, інакш з імі немагчыма размаўляць. Да таго ж яны інакш не разумеюць.

Калі пачынаеш мякка з імі размаўляць, яны ўспрымаюць гэта як тваю слабасць. Вось як Шушкевіча зжэрлі. Як толькі ён пачаў з імі згоду шукаць, зграя адчула: важак слабы, можна зжэрці. І зжэрлі.

*20.07.2014.* **Руслан Гарбачоў**

# МАСТАЦТВА СЬВЯТЛА

У жыцьці мне здаралася спатыкаць добрых людзей, не беларусаў, але шчырых прыхільнікаў (мілашаў) беларушчыны. У той час, калі саветы зьдзекваліся з усяго беларускага і душылі нашу мову, чужыя людзі, іншаземцы – былі ў захапленьні ад нашага народа, вывучалі і шанавалі нашу незвычайна прыгожую мову, якая для іх была нібы музыка.

Памятаю, даўно ў Рызе зайшоў я ў Акадэмію Навук, а доктар навук вядомая літаратуразнаўца Мірдза Абала вочы ў гару ўздымае і гэтак у захапленьні па-беларуску кажа: “Ах-ах, бяру адпачынак і еду ў Беларусь у вёскі, на Гарадзеншчыну. Ах, люблю! Мову паслухаю, зь людзьмі пагавару”. А карэнны жэмайт мой знаёмец летувіс з Каўнаса Ёзас Рыбікаўскас так палюбіў нашу мову, што стаў нават па-беларуску вершы пісаць.

Шмат было такіх мілашаў-палякаў. І гэта нягледзячы на моцны шавіністычны антыбеларускі струмень у старой польскай палітыцы. Калі ў пачатку ХХ-га стагоддзя Людамір Рагоўскі (кракаўскі паляк) пасьвяціўся беларушчыне, то потым “эндэкі” не маглі яму даравацьь ні “Беларускай сюіты”, ні гімна “А хто там ідзе”, ні працы ў беларускім тэатры. Яго цкавалі, і калі кампазытар у 20-х гадах захварэў на сухоты, то застаўся ў адзіноце і без падтрымкі. Да гонару беларусаў, урад БССР (той, якога яшчэ не разбамбіў Сталін) выдзеліў Рагоўскаму грашовую дапамогу і субсідыю на лячэньне.

Цяпер, ужо пасьля камунізму, мая жонка Галіна Фёдараўна некалькі сэмэстраў выкладала беларускую мову ў Варшаўскім унівэрсітэце (студэнты самы сабе выбіралі мову, якую зьбіраліся вывучаць). На канікулы яны ехалі пасьля навучаньня ў Беларусь у вёскі, часта – на Палесьсе. Потым прыязджалі і ўсклікалі па-беларуску: “Ах-ах, які народ, якая мова! Jaki dobry naród, jaki piękny język!

Выпадкі захапленьня нашай мовай і праявы сантыментаў да Беларусі я спатыкаў часта. Добрыя людзі з-за мяжы ўмеюць дакладна адчуць шчырую сутнасьць нашага народа. Яна ім падабаецца. Часам, магчыма, таму, што знаходзяць у нас тое, што страцілі ўжо ў сябе дома.

З заходніх людзей мы знаходзім найбольшае разуменьне і падтрымку, як ні дзіўна, у амэрыканцаў. Я кажу “як ні дзіўна”, бо вельмі ж ужо розныя грамадзтвы і тыпы мэнтальнасьці. Але сантымэнты тут, на мой погляд, ня толькі ад таго, што некаторыя зь іх яшчэ знаходзяць у Беларусі тое, што ўжо затаптана ў ЗША. У Амэрыцы жыве разуменьне і адчуваньне вялікай каштоўнасьці нацыянальнай свабоды. У Амэрыцы гэта шануецца, і нацыянальныя пачуцьці таксама. Вось тут шмат якія амэрыканцы здольныя ўбачыць нашу бяду, а мы ў гэтым станоўча ўспрымаем амэрыканцаў.

Нядаўна я пазнаёміўся з такім прыхільным амэрыканцам. Гэта вядомы ўжо беларусам **Джан Канстадтэр**, шчыры фотааматар і творчы фотамастак. (Фатаграфіі Канстадтэра можна паглядзець на ягонай старонцы http://radzimaphoto.com/ ). У нядзелю, 3 жніўня, у беларускім саборы сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку адчынілася выстава фатаграфіяў Джана Канстадтэра. Ён здымае ўжо шмат гадоў

людзей у Беларусі, найбольш – на Палесьсі. Характэрнасьць яго творчасьці – станоўчыя вобразы, сьветлы быт людзей і сьветлая вера. Гэта сьвядомая эстэтычная канцэпцыя Джана, і зыходзіць яна, як я зразумеў, з сьветлых адносінаў і пашаны да нашых людзей. Гэта вельмі кранае. З другога боку гэта правільна і разумна.

Жывучы ў сваім космасе, мы, беларусы, як бы не заўважаем звычайнага і не зьвяртаем увагі на тое, што нам звыкла. Чалавеку з-за мяжы тое, што нам звычайна і штодзённа, -- здаецца навіной і нашай сутнасьцю. Ён стараецца адлюстраваць гэта ў творчасьці і як бы адчыняе нам нас самых. Але для гэтага патрэбны сьветлы талент (сьветлы геній) і здольнасьць любіць людзей. Прынамсі, паважаць іх. Такі ёсьць Джан Канстадтэр у сваёй беларускай творчасьці. Бальшыня яго фота на выставе – гэта беларусы, зьнятыя ў цэрквах, у працы і ў побыце, жыхары Століншчыны (вёскі Рубель, Аздамічы, Альшаны і іншыя). Дарэчы, я там неаднаразова бываў у 60-х гадах і пазнаю на фота той нязьменны дух.

Джан тонка разумее беларусаў. Калі першы раз падыходзіш, скажам, да незнаёмай бабулі (кажа фотамастак) і пачынаеш гаварыць (а Джан добра ўмее размаўляць па-беларуску), то ніякія твае лёзунгі, думкі, ідэі, ацэнкі і г. д. ня маюць уплыву і значэньня. Бабуля глядзіць, слухае і вырашае адзінае пытаньне: хто перад ёй – сумленны чалавек ці махляр. І калі яна тое вырашыла, тады адпаведным чынам і вядзецца размова.

Часам нешта ўражвае амэрыканца, а для беларуса нават незразумелая прырода яго зьдзіўленьня. У Джана ёсьць вядомая фатаграфія “Маруся і яе дочкі”. На фота тры прыгожыя беларускі, якія, я б сказаў, ствараюць атмасфэру прыгожых душаў і добрага беларускага побыту (фатограф усё гэта добра выявіў у фатаграфіі.) У гэты час (распавядае мастак) якраз падыходзяць два падлеткі гадоў 15-16-ці. Адзін зь іх – сын жанчыны, субяседніцы Джана. Яна і кажа сыну гэтак сабе ціха і спакойна, што яму трэба пайсьці і зрабіць тое і тое. Сын усё кінуў і моўчкі пайшоў рабіць тое, што сказала маці.

Ну што можа быць больш звыклага ў нас, у Беларус,і і хто на тое будзе зьвяртаць увагу? Тым часам Джан уражаны. Ён пытае ў кабеты, а чаму сын пайшоў рабіць тое, што яна сказала? “Мусіць”, -- адказала жанчына і далей гаворыць сабе пра іншае. І мастак распавядае нам, як гэта добра ды хораша.

Тут павінен патлумачыць беларусам, якія, напэўна ж, не разумеюць, у чым справа. Амэрыканцы ў сем’ях сваіх дзяцей, як правіла, не выхоўваюць, не прывучаюць і не прымушаюць. Бацькі ў асноўным занятыя самы сабой. У амэрыканцаў часта звыклая справа, што дзеці нічога ня ўмеюць рабіць, не дапамагаюць бацькам і г. д. Адпаведна, асабліва ў падлеткавым і юнацкім узросьце, дзеці бацькоў часта ня слухаюць, часам нават і не паважаюць. Такое становішча цяпер пашыраецца, амэрыканская сям’я перажывае крызіс. (Пра прычыны і праблемы крызісу я тут не кажу.)

І вось амэрыканец, ведаючы сваё грамадзтва, прыязджае ў Беларусь, у веруючую Століншчыну і бачыць гарманічныя сем’і, разумны быт, дзе людзі яшчэ не забыліся Запаведзі і, вядома ж, асноўную Хрысьціянскую Запаведзь культуры: “Шануй бацьку свайго і маці сваю”. І амэрыканца яно ўражвае. Удакладню: сьветлага, добрага амэрыканца. Разбэшчанаму чалавеку ўсё прыстойнае – праціўна і незразумела. Ён схільны пасьмяяцца над цнотай і сьвятым. Ды і не паедзе такі ў царкву ці на поле, дзе полюць буракі. А вось Джан паехаў і адчыніў для сябе цэлы сьвет, які стаў часткай яго творчага духа, а можа нават і жыцьця. “Вось-вось, -- кажа Джан, -- ад’язджаю ў Беларусь на жнівень. Вельмі творчы месяц, поўна царкоўных сьвятаў ды збор ураджаю. Ёсьць што здымаць. Ёсьць што пабачыць”.

“Ю вэлкам!” І, як кажуць фотамастакі, -- “добрага сонца!”.

*8 жніўня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ВОСЬ ТАБЕ І НА...

Усе беларусы добрай волі шчыра перажываюць і падтрымліваюць Украіну ў яе барацьбе з рускай агрэсіяй і з рускім фашызмам, пішуць пра гэта і кажуць. На наш заклік ехаць на Украіну і дапамагаць братам-украінцам граміць маскоўскага ворага, рускіх дыверсантаў і тэрарыстаў адклікнуліся многія беларусы. Шмат хто паехалі і змагаюцца там.

І вось у гэты час (у пачатку жніўня) украінская тэлежурналістка Тацьцяна Даніленка публічна пакрыўдзілася на беларускіх саўкоў, выслухаўшы іхны пераказ навінаў рускага Гёбэльс-тэлебачаньня. Яна напісала, што беларусы "злыя саўкі, запалітызаваныя даікоткі", якія падтрымліваюць Пуціна і г. д.

Саўковасьць – гэта распаўсюджаная мэнтальная хвароба. Але ўсё ж ніводзін беларускі журналіст-савок, які езьдзіў у Данбас і слухаў размовы данбасскіх украінцаў (а іх там амаль 70 адсоткаў) пра "кіеўскую хунту", украінскіх "фашыстаў-бэндэраўцаў", "майданутых" і т. п. набор – ніводзін не абазваў украінцаў "злымі саўкамі", "замбаванымі" і г. д. Не абазваў, таму што кожнаму зразумела, што ідзе вайна, збройная і інфармацыйная, і што ў выніку погляды людзей падзеленыя гэтак жа, як і падзеленыя яны ў Беларусі. І таму падвесьці ўсіх пад агульны назоўнік – немагчыма. Трэба стрымлівацца, дарагія дзяўчаты, думаць, што пішацца і не паддавацца на крыўдлівыя эмоцыі. Саўкоў мора, але народ ацэньваецца па лепшых прадстаўніках.

*16 жніўня 2014 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# Зянон Пазьняк: "Грамадзтва павінна жыць сваім паралельным жыцьцём і кансалідавацца"

*(Інтэрв'ю беларускага нацыянальнага лідэра Зянона Пазьняка "Радыё Рацыі")*
*кастрычнік 2014*

**РР:** Зянон Станіслава, прыкладна год застаецца да чарговых прэзідэнцкіх выбараў. Якімі яны бачацца вам?

**Зянон Пазьняк:** Выбары будуць такімі, якімі былі і ўсе гэтыя 20 гадоў.

**РР:** Калі дзеянні ўладаў прадказальныя ўжо сёння, то апазіцыя яшчэ пакуль не вызначыла свой фармат удзелу ў кампаніі….

**Зянон Пазьняк:** Усім зразумела, што апазіцыя – гэта частка рэжыму, таму тут таксама не будзе ніякай непрадказальнасці.

**РР:** Ці чулі вы пра "план Някляева", калі адзіным кандыдатам прапануецца вылучыць палітвязня Мікалая Статкевіча? І як вы да гэтага ставіцеся?

**Зянон Пазьняк:** Гэта такія забаўкі, якія не маюць ніякіх адносінаў да рэальнай палітыкі.

**РР:** Калі выбары прадказальныя і для ўлады, і для апазіцыі, то што рабіць апошнім у такой сітуацыі?

**Зянон Пазьняк:** У мяне няма ніякай падставы казаць ім, што рабіць. Чым хутчэй яны разбягуцца, тым лепей, таму што за ўсе гэтыя гады (пачынаючы з 2000-га году) ад іх адна шкода для Беларусі.

**РР:** Апазіцыя да гэтага часу не вызначылася з адзіным кандыдатам. Ці патрэбен такі чалавек падчас выбараў?

**Зянон Пазьняк:** Гэта не мае ніякага значэння – ці яны пойдуць на выбары з "адзіным", ці з дзевяццю кандыдатамі. Калі яны не выберуць, то рэжым выбярэ, як у мінулы раз. Усім жа вядома, што многія на мінулых выбарах нават неабходную колькасць подпісаў не сабралі, а іх усё роўна зарэгістравалі. Таму, калі яны не разбяруцца паміж сабой, то гэтую функцыю возьме на сябе рэжым і прызначыць сабе спарынг-партнёраў.

**РР:** Як бы вы дзейнічалі, калі б вырашылі балатавацца на пасаду прэзідэнта краіны?

**Зянон Пазьняк:** У такой сітуацыі ніякага ўдзелу ў гэтай камедыі грамадства прымаць не павінна. Гэта і ёсць пазіцыя непрызнання рэжыму. Не трэба прызнаваць іхні фальш, выбары, ашуканства. Грамадства павінна жыць сваім паралельным жыццём і кансалідавацца, каб потым гэты рэжым скінуць. Кансалідацыя ідзе стыхійна, павольна, але яна ідзе.

**РР:** Аднак некаторыя лідары апазіцыі кажуць, што сядзець склаўшы рукі – таксама не выхад са становішча…

**Зянон Пазьняк:** Канешне, тады ніхто грошы не дасць, калі будуць сядзець склаўшы рукі. Ім трэба займацца імітацыяй, каб далі халяву. У Беларусі выраслі мутанты ад палітыкі, якія імітуюць быццам бы палітычную работу, але ніхто з іх не імкнецца да ўлады. І нават, калі б далі ўладу, то яны не ведалі б, што з ёй рабіць. Ды ніхто з іх і ня здольны да кіравання краінай. Не ўсе нават мову беларускую ведаюць.

**РР:** Ці верыце вы, што на фоне падзей ва Украіне рэйтынг беларускай улады расце ў вачах беларускага электарата?

**Зянон Пазьняк:** Што зараз расце, дык гэта расейская прапаганда. Вось гэта і зьяўляецца галоўным палітычным чыннікам вайны. Таму што Расея вядзе вайну не толькі з Украінай, але і з Беларуссю. На Украіне гэта геапалітычная вайна, дзе ваююць зброяй. На Беларусі не менш страшная вайна – анталагічная. Калі забіраюць людскую свядомасць, замбіруюць і знішчаюць асобу. І афіцыйнай альтэрнатывы гэтай прапагандзе ў Беларусі няма і не можа быць, таму што Масква і беларуская ўлада – гэта адно і тое. Беларусы знаходзяцца пад значным уплывам прапаганды, і многія думаюць, што ва Украіне ваюе НАТА, амерыканцы, якія прыдумалі Майдан. Такая прапаганда ўжо была ў гісторыі. Таму сёння галоўны чыннік для Беларусі – інфармацыйная вайна. І вынікам гэтай вайны становіцца тое, што людзі паводзяць сябе неадэкватна. Зараз знішчаецца беларуская нацыя і яе суверэнітэт. Вось Беларусь загналі ў Еўразійскі саюз. Рэжым Лукашэнкі робіць тое, што скажа Масква…

**Кастусь Заблоцкі***, Беларускае Радыё Рацыя*
Крыніца: http://www.racyja.com/palityka/zyanon-paznyak-u-belarusi-vyrasli-pali/

# ПЕРАМОГА БУДЗЕ ЗА НАМІ

Ля былога Лошыцкага яру  стаіць Крыж, пастаўлены фронтаўцамі у памяць ахвяраў бальшавіцкага генацыду. Тут у 1937 годзе ворагі чалавецтва расстралялі і закапалі ў яры тысячы беларусаў.  Кажучы пра бальшавіцкі тэрор і забойствы, мы разумеем, што карэньні злачынстваў былі ня толькі ў бальшавізме. Яны сягалі глыбей.

Гадоў пятнаццаць таму я прысьвяціў гэтаму пытаньню асобную працу “Камунізм як форма рускага імпэрыялізму”. Гэта быў злавесны сымбіёз, калі крымінальная мэнтальнасьць расейцаў знайшла сабе для самарэалізацыі крымінальную ідэалогію немцаў. Ва ўсякім разе камунізм (як і ў цэлым -- фашызм) пайшоў адтуль, зь Нямеччыны. У Расеі ён рэалізаваўся ў канкрэтным злачынным варыянце.

Да апошняга часу такая ацэнка рускага камунізму магла здавацца некаторым людзям толькі лагічным заключэньнем, бо фактура рэчаіснасьці часта была схаваная за бальшавіцкай фразэалогіяй. Але рэальная сутнасьць вымардаваньня беларусаў і ўкраінцаў – гэта быў расейскі ксэнафабічны генацыд. Ён быў на паверхні, нягледзячы на камуністычную фразэалогію, якой карысталіся рускія забойцы.

Цяпер жа, калі ідэалагічна сфармаваўся рускі імпэрыял-фашызм, і Расея напала на Украіну, -- усе эўфэмізмы ўжо адкінутыя і людзі ўбачылі скручаную ў нянавісьці аўтэнтычную морду маскоўскага фашызма, расізма і злабы на ўвесь сьвет. Людзі бачаць гэта і назіраюць на канкрэтных асобах рускіх тэрарыстаў і бандытаў у акупаваным Данбасе, дзякуючы дакумэнтальным відэазапісам. Гэта тыя ж бандыцкія маскі рускіх хамаў і забойцаў, якія я і маё пакаленьне бачылі 60 і больш гадоў таму пры арганізацыі калгасаў, пры зьдзеку над сялянамі, на камуністычных партыйных мерапрыемствах. Тая ж банда дрэняў, падонкаў, сволачаў, ілгуноў і падлюг, што і тады, толькі цяпер без камуністычных лёзунгаў і тэрміналогіі, той жа хамскі “русскі язык”, нсычананы матам і брыдотнымі словамі. Цяпер мы бачым гэтую арду забойцаў у натуральным выглядзе, голымі, без камуністычнага адзеньня і ідэалагічнага прыкрыцьця.

Тут, бадай што, галоўны  пазнавальны для грамадзтва вывад, які наглядна выявіла руская агрэсія супраць Украіны і рускае ганьбаваньне ўсяго сьвету. Людзі ўбачылі маскоўскую арду ў яе натуральным выглядзе без прыдуманых ідэйных парасонаў і слоўнага зацямненьня. Вось яны гэтыя перакошаныя морды на ўвесь экран. Д’ябал ськінуў маску і зноў пагражае ўсяму сьвету.

Але гэтым разам перамога будзе за вольнай Украінай і вольнай Беларусяй. Стоячы пад гэтым Лошыцкім Крыжам у памяць беларускіх пакутнікаў, забітых маскоўцамі ў гэтым месцы, усьвядомім сабе, што мы, беларусы, мусім сур’ёзна рыхтавацца да супраціўленьня пуцінскай маскоўскай ардзе. Сьветлая будучыня незалежнай Беларусі будзе наша. Верма ў сьветлую прышласьць роднай Беларусі!

Слава Айчыне! Жыве Беларусь!

*9 лістапада 2014 г.* Зянон Пазьняк

# АЙЧЫНА ВЕЧНАЯ

У чацьвер 18-га сьнежня ў Collegium Civitas (Палац Культуры і Навукі ў Варшаве) адбылася прэзэнтацыя новай кнігі Зянона (Зянона Пазьняка) ,,Ojczyzna wieczna”. Гэта пераклады ягоных вершаў з кнігі «Дарога» (2007), зробленыя польскай паэтэсай Ірэнай Грынцэвіч. Тут каля ста фатаграфіяў аўтара (кніга – сымбіёз фатаграфіяў і вершаў) і 650 вершаваных перакладаў па-польску, плюс яшчэ каля 50-ці перакладаў, зьмешчаных у дадатку. Там пераклады Адама Паморскага, Рамуальда Мячкоўскага, Чэслава Сэнюха, апублікаваныя ў пэрыядычных выданьнях. Зьмешчаныя таксама пераклады, зробленыя

Дарыя Фэрціліа па-італьянску з кнігі артыкулаў і вершаў З. Пазьняка, выдадзеных у Італіі. На вечарыне прысутнічалі ў асноўным студэнты-каліноўцы і беларусы Варшавы.

Адзначана, што пераклады Ірэны Грынцэвіч дакладныя і максымальна набліжаныя да арыгіналу з разуменьнем духа і кантэксту творчасьці аўтара.

Зянон Пазьняк чытаў свае вершы па-польску і па-беларуску, адказваў на пытаньні слухачоў па праблемах літаратуры і палітыкі.

Пазьняк лічыць, што паэзія, літаратурная творчасьць сістэмна не сумяшчальныя з палітыкай, хаця магчымыя. Уся праблема ўпіраецца, практычна, у вольны час, неабходны для творчасьці, бо палітыка забірае чалавека цалкам. Творы, якія піша палітык Пазьняк і паэт Зянон, створаны ў выхапленым часе ад сну, ад жыцьцёвых практычных клопатаў, скарыстаны ў паездках, у самалёце, ў дарозе і па дарозе. Гэта, як бы не сістэмны працэс, але, як ня дзіўна, тут і ёсьць тое сваістае ўладкаваньне, якое дае штуршок аўтаномнай сьвядомасьці, нацэленай на творчасьць у прапанаваных абставінах.

Аўтар сцьвярджае, што нацыянальны палітык-паэт ў Беларусі і ўвогуле ва Ўсходняй Эўропе – ўсюды, дзе сягае руская шпіёнская сетка, руская гёбэльсаўшчына, «пятая калона» і дзікая маскоўская прапаганда -- наражвае сябе сваёй творчасьцю на дадатковую нянавісьць і абылганьне. Нават геній літаратуры ўсіх часоў, калі б такі зьявіўся ў палітыцы ў Беларусі і ва Ўкраіне, кажа Пазьняк, будзе абплёваны ардой на усходзе і ейнай агентурай у нашых дзяржавах, творчасьць і асоба яго будуць перакручаны, згаджаны, збэшчаны, затаптаны а імя сплюгаўлена і абылгана. Мы ж памятаем як гэтая нелюдзь плюгавіла імя вялікага Быкава. Гэта будзе ўвесь час, лічыць Пазьняк, пакуль існуе антычалавечая імпэрская палітыка і руская арда на ўсходзе, што вядзе вайну супраць культуры нашай ліцьвінска-беларускай цывілізацыі.

У заключэньне Зянон Пазьняк чытаў свае вершы 80-х гадоў з кнігі «Глёрыя Патрыя», якія за часы СССР былі напісаны ім «у шуфляду» і выдадзеная толькі ў 2000 годзе. Цікава, што яго патрыятычны верш таго часу «На Грунвальд» фронтаўскія барды сьпявалі на мітынгах і пікетах пад гітару і агітавалі змагацца за Беларусь.

*19 сьнежня 2014 г.* Генадзь Кулеш

# СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН

У лістападзе-сьнежні 1920 года слуцкія беларускія дабраахвотныя вайсковыя аддзелы, сфармаваныя з сялян, выступілі ў абарону Беларусі супраць наступаючай Чырвонай арміі бальшавікоў і цэлы месяц трымалі гераічную абарону перад расейскай армадай.

Гэтая падзея мусіць быць заўсёды ў нашых сэрцах. Яна ёсьць значнай сама па сабе зваім зьместам барацьбы за волю і незалежнасьць Айчыны. Але сёньня, калі цёмныя сілы агрэсіўнай Расеі напалі на вольную Украіну і над Беларусяй згушчаецца небясьпека агрэсіі і мацнее пагроза нашай дзяржаўнай незалежнасьці з боку імпэрыялістычнай Расеі, барацьба слуцкіх змагароў зьяўляецца для нас найперш прыкладам у дзеяньнях па абароне Радзімы. Памятайма заўсёды пра гэты высакародны чын барацьбы і будзьма гатовыя да збройнага змаганьня за нашу вольную Бацькаўшчыну Беларусь.

*27 лістапада 2014 г.* Зянон Пазьняк

# 2015

ЛЁТКА

# ШАНУЙМА МОВУ, СЯБЕ І КРАІНУ

З першага студзеня 2015 года ў Беларусі пачалі дзейнічаць правілы Эўра-Азіяцкага саюзу, незаконна падпісанага нелегітымным правіцелем Лукашэнкам. Для беларусаў чакаецца пагаршэньне па ўсіх пазыцыях, спад рубля, дэвальвацыя, згортваньне гандлю.

Галоўная задача гэтай новай "эўраазіятчыны" для Масквы -- пашырыць імпэрыю за кошт Беларусі, за кошт нашай тэрыторыі. Асноўны палітычны мэтад -- пашырэньне зоны рускага "языка" і ліквідацыя беларускай мовы. Такім чынам, паводле маскоўскай стратэгіі, ствараецца прычына для прэтэнзіяў на краіну і на акупацыю нашай зямлі.

Маскоўцы ды іхняя агентура ў Беларусі, абапіраючыся на правілы эўразійскага саюзу, будуць патрабаваць, каб маркіроўка, назва і тэксты ўсіх беларускіх тавараў былі напісаныя па-руску. Ня слухайце іх і не рабеце так, як яны хочуць. Іхныя прэтэнзіі супярэчаць Беларускай Канстытуцыі. Акрамя таго ў тых правілах запісана, што адначасна з рускім языком можа ўжывацца беларуская мова. Пішыце ўсё па-беларуску (а побач унізе можна напісаць па-руску).

Незабывайма пра сябе і пра нашу мову. Гэта мова ўсіх нас, беларусаў. Гэта нашая мова, нават калі хто з-за пэўных прычынаў на ёй не гаворыць. Ў ёй грунт нашага нацыянальнага існаваньня. Не паддавайцеся маскоўскаму хамству і нахабству на нашай роднай зямлі.

Слава Айчыне!

Ініцыятыва "Беларуская Салідарнасьць"
11 студзеня 2015 г.

# НАДО УВАЖАТЬ МОВУ, СТРАНУ И СЕБЯ

С первого января 2015 года в Беларуси начали действовать правила Евразийского союза, незаконно подписанного нелегитимным правителем Лукашенко. В Беларуси ожидается ухудшение по всем позициям, снижение рубля, девальвация, свёртывание торговли.

Главная задача этой новой "евроазиатчины" для Москвы -- расширить империю ценой Беларуси, за счёт нашей территории. Основной политический метод -- расширение зоны русского языка и ликвидация беларускай мовы. Таким образом, согласно московской стратегии, создаётся причина для претензий на страну и на оккупацию нашей земли.

Московцы и их агентура в Беларуси, обращаясь к правилам Евразийского союза, будут требовать, чтобы маркировка, названия и тексты всех беларуских товаров были написаны по-русски.

Не слушайте их и не делайте так, как они хотят. Их претензии противоречат Беларуской Конституции. Кроме того в тех правилах записано, што одновременно с русским языком может употребляться беларуская мова. Пишите всё па-беларуски (а рядом внизу можно написать по-русски).

Не будем забывать о себе и о нашей мове. Это мова всех нас, беларусов. Это наша мова, даже если кто из-за определенных причин на ей не говорит. В ней основа нашего национального существования. Не поддавайтесь московскому хамству и наглости на нашей родной земле.

Слава Беларуси!

Інициатива "Беларуская Салідарнасьць"
11 января 2015 г.

# ПАКАРАНЬНЕ ЗА БЛЮЗЬНЕРСТВА

У Інтэрнэце выяўлена чарговая порцыя блюзьнерства над беларускімі нацыянальнымі каштоўнасьцямі. На гэты раз узяліся за эталон Дзяржаўнага Гэрба Рэспублікі Беларусь *"Пагоня"*. Мэтанакіраванасьць мярзоты відавочная, бо блюзьнерыць ня ўвогуле над *Пагоняй,* а менавіта над Дзяржаўным гэрбам (над эталонам), які падлягае канстытуцыйнай ахове Закона гэтак жа, як і Дзяржаўны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг. Зьневажэньне дзяржаўных сымвалаў караецца Законам. Зьневажальнікі ведаюць, што беларускія дзяржаўныя сымвалы адменены антыбеларускім рэжымам і афіцыйнага пакараньня ім ня будзе. Тым ня менш яны і іхняе "прыкрыцьцё" ўзьнялі фальшывы шум і ўдаюць, што яны, маўляў, творча экспэрэмэнтуюць з Пагоняй. Яны ўсюды кажуць нібыта толькі пра Пагоню (якой ёсьць сотні выяваў), але не пра афіцыйны дзяржаўны гэрб Беларусі, зь якога рэальна зьдзекваюцца. Падкрэсьліваю: зьдзек з боку блюзьнерцаў зафіксаваны толькі над эталонам Дзяржаўнага Гэрба *Пагоня* Рэспублікі Беларусь.

Чаму яны гэтак крывяць душой і хочуць заблытаць людзей? Па той прычыне, што разумеюць, што робяць. За зьдзек зь гістарычнай *Пагоні* юрыдычнага пакараньня ня будзе (не прапісана ў Законе). Тут можа ўзьнікнуць толькі маральнае асуджэньне. Але за псаваньне эталона Дзяржаўнага Гэрба Беларусі *Пагоня* мусіць быць судовае пакараньне. Гэтае пакараньне, на жаль, залежыць ад тэрміну даўнасьці і ад улады, якая ў Беларусі. Ціцянкоў за зьнявагу Беларускага сьцяга ў 1995 годзе ўжо за даўнасьцю злачынства наўрад ці панясе судовую кару ў вольнай Беларусі. Але маральнасьць яго перакрэсьленая ім самым. Беларусы яму не даруюць.

Сьвятакрадзтва і кашчунства не забываюцца. Людзі хутчэй могуць забыцца на кражу ў асабліва буйных памерах, але на кашчунства і сьвятакрдзтва – ніколі. Такая зьява асабліва прапісана ў законах, таму што абраза сумленьня можа мець рэзкую ірацыянальную рэакцыю ў адказ.

Я ўжо пісаў пра тлумачэньне аднаго чэшскага беларуса на пытаньне, што зрабілі б чэхі з сьпеваком, калі б пачулі публічна песеньку, зьвернутую да чэхаў: "Добрай раніцы, жлобская нацыя!" Адказ быў такі: "Яго б забілі." Беларусы, відаць бы, такога не забілі, нават калі б мелі ўзровень нацыянальнай годнасьці нароўні з чэхамі. Але ня думаю, што блюзьнерцам было б утульна ў нармальнай Беларусі.

Некаторыя людзі, што слаба разумеюць, могуць сказаць: “А што тут такога, і навошта такія строгія законы? Іншыя ж паробкі з гэрбам зусім бяскрыўдныя, нават прыгожыя (дзяўчына замест рыцара на кані).”

Ёсьць, вядома, тут пэўны лагічны погляд. Але мэта, якая ставіцца рэжысёрамі ёрніцтва над дзяржаўным сымвалам, -- гэта **дэсакралізацыя яго, выхаваньне непавагі,** банальнай звычайнасьці і лёгкадумных адносінаў бяскрыўднымі мэтадамі. Таму закон аб дзяржаўных сымвалах ёсьць такі канкрэтны, такі падрабязны і такі абавязковы.

Вопыт 90-х гадоў паказвае, што калі зло не караць, яно робіцца нормай. Было ўжо ў гэтай вайне з нашымі сымваламі ўсё: і бусьлік замест Пагоні, і джынсавая парцянка замест Бел-Чырвона-Белага сьцяга.

Некалі Аляксандар Ліцьвіненка, калі даведаўся, што ва ўмовах акупацыйнай палітыкі, забароны беларускіх дзяржаўных сымвалаў, у абставінах зьнявагі і нацыянальнага вынішчэньня Беларусі беларуская «оппозіція» падняла джынсавую парцянку замест нацыянальнага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, ён назваў беларусаў «націей болванов». Ліцьвіненка, відаць, не зразумеў (хоць сам гэбіст), што тут за «оппозіція». Але з песьні слова ня выкінеш. Мілінкевіч тады ўсім «джынсу» на шыю павязаў (замовіў на эўры). І насілі, выстройваліся перад камэрамі, фатаграфаваліся. Як бы па-бытавому і ня дурныя людзі.

Тым часам норма беларускага жыцьця ёсьць пашана да сьвятога, да людзей, да бацькоў, да сям’і, да духоўных і матэрыяльных здабыткаў чалавека.

У дадатку даю спасылкі на законы, якія аб’ектыўна (маральна) дзейнічаюць і будуць рэальна адноўлены пасьля ліквідацыі антыбеларускага рэжыму ў Беларусі і рускага фашызму ў Маскве.

**Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб зацьвярджэньні эталона Дзяржаўнага Гэрба Рэспублікі Беларусь і Палажэньне аб Дзяржаўным Гэрбе Рэспублікі Беларусь.** Прынята 10 сьнежня 1991 г.

**П.5.** Асобы, вінаватыя ў зганьбаваньні Дзяржаўнага Гэрба Рэспублікі Беларусь, нясуць адказнасьць у адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 сакавіка 1992 года №144, г. Менск.**

**Пытаньні вырабу і выкарыстаньне выявы Дзяржаўнага Гэрба Рэспублікі Беларусь. Дадатак 1, п. 3:** “Пры вырабе выявы Дзяржаўнага Гэрба Рэспублікі Беларусь ці яго тыражаваньні неабходна забясьпечыць умовы, якія не дапускалі б непаважлівых да яго адносін”.

Такое ёсьць заканадаўства, прынятае ў Незалежнай Беларусі, якое будзе адноўлена дэмакратычнай уладай.

*31 сакавіка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# Пра фантазіі зь мінулага

***Гэтую зацемку я напісаў, прачытаўшы матэрыял на старонцы радыё Свабода. Але паколькі на Свабоду слаць няма сэнсу, то я зьмяшчаю матэр'ял там, дзе можна яго зьмясьціць, бо лічу яго інфармацыйна патрэбным. Зянон Пазьняк.***

Сучасьнікі-паэты 60-х пачалі "ўспамінаць" Менск тае пары.
Лепш бы яны не ўспаміналі. "Духоўным цэнтрам " Менска адзін паэт нафантазаваў кандытарскаю з расейскай назвай "Лакомка". Фантазёра паправіў больш абазнаны (бо старэйшы) спадар Ваганаў, які назваў кульмінацыяй гуляк і бадзяг па праспэкту кавярню "Вясна". І гэта праўда. Туды (у правую залю) набівалася часам даволі піжонская публіка і аматары папіць кавы зь бідона ды крытычна пабалбатаць. Ніякім "духоўным цэнтрам" тое

месца не было. Тут быў "прахаднік". Мы называлі гэтых стыляг і валасацікаў -- "сьліна", самазакаханцы, якія ня здольныя ні на што як толькі пустапарожна разумненька балбатаць на акупанцкай мове.

Духоўнымі цэнтрамі беларускага Адраджэньня на той час былі Беларускі Дзяржаўны Тэатральна-мастацкі Інстытут (БДТМІ), інтэрнаты Акадэміі Навук БССР (дзе зьбіраліся акадэмічныя асяродкі з асьпірантаў і "мэнээсаў") і майстэрні мастакоў, якія таксама выйшлі з БДТМІ. Дзьве такая майстэрні сталі асяродкамі, дзе пісаўся беларускі самвыдат, вялася культурніцкая праца і каваўся будучы Народны Фронт. Гэта майстэрня Яўгена Куліка ў цэнтры праспэкта ("Паддашак" насупраць цэнтральнай кнігарні) і майстэрня Віктара Маркаўца па вуліцы Дзімітрава, 7 (былая сінагога). Ў майстэрні Маркаўца пазьней, у 1989-90 гг. адбываліся напоўлегальна паседжаньні Сойму Беларускага Народнага Фронту. (Невыпадкова лукашысты зьнесьлі гэты дом). Ў канцы 60-х -- пачатку 70-х адбыўся савецкі пагром гэтых беларускіх цэнтраў (асабліва ў БДТМІ і АН БССР). Многія навукоўцы, мастакі, студэнты і патрыёты былі рэпрасаваныя, апынуліся на вуліцы без магчымасьці ўладкавацца на працу. Мікола Прашковіч (выдатны навуковец і патрыёт) нявытрымаў допытаў у КГБ і здаў шмат каго з акадэмічнага асяродка, а потым, не перажыўшы ганьбы, памёр. Аднаго зь лідэраў Адраджэньня ў БДТМІ мастака Лявона Баразну ў выніку дзейнасьці КГБ забілі ў цэнтры Менска ў 1972 годзе.

Вечная памяць і слава змагарам за волю Айчыны!

*21 верасьня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# ЗАЎВАГІ ПРА ЎЛАДУ І БАЙКОТ

Пасьля дасягненьня Незалежнасьці паўсталі новыя задачы: заваяваньне ўлады дэмакратычным мэтадам, шляхам выбараў новага парляманту. На гэтым этапе мэтады змаганьня ўпрасьціліся з усіх бакоў. Пытаньне колькаснай мабілізацыі, валоданьне выканаўчай уладай і сродкамі масавай інфармацыі сталі вызначальнымі, а пытаньне тактыкі (моцны бок БНФ) сталі другаснымі.

Але ў парляманцкіх выбарах і ў парляманцкай рэспубліцы заставаўся рэальны шанц, што новыя людзі ў новым парляманце мелі б там большасьць (такая прырода парляманцкіх выбараў). Гэты шанц быў рэальным у пачатку 1992 года, калі Фронт выйшаў на рэфэрэндум аб выбарах і ўладзе. Гэты адзіны на той час з цяжкасьцю здабыты шанц быў зьнішчаны намэнклятурай у кастрычніку 1992 года шляхам грубага адыходу ад Закону. Істотную адмоўную (і, я б сказаў, рашаючую здрадніцкую) ролю ў гэтым адыграў С. Шушкевіч.

Наступны ўдар па Фронту быў нанесены ўвядзеньнем (ізноў жа з парушэньнямі закону) прэзыдэнцкай сістэмы кіраваньня ў Беларусі. Тактыка тут ужо не спрацоўвала. Патрэбна была сіла і колькасьць.

У змаганьні за ўладу ў 1994 г. у незалежнай Беларусі Фронт на тым этапе яе не дасягнуў па простай, банальнай прычыне. Уся сіла, улада і ўвесь мэханізм сілы (адміністрацыя, СМІ і г. д.) быў на баку савецкай каляніяльнай прамаскоўскай намэнклятуры, а грамадзтва ў большасьці засталося савецкім.

Гэтае становішча закансэрвавана антыбеларускім рэжымам па сёньняшні дзень, і на яго фоне створана адміністрацыйная фальсіфікацыйная машына выбараў. Перамагчы яе немагчыма, бо няма выбарчага мэханізму ўплыву на яе. Кантролю народа над выбарамі не існуе. Адміністрацыйны альбо сілавы рэжым уключаецца ў любы момант, закон і права ня дзейнічаюць.

У такім становішчы трэба ствараць народную альтэрнатыву рэжыму шляхам асьветы, прапаганды і дзеяньняў, адрываць людзей ад падтрымкі ўлады, ствараць

паралельнае існаваньне грамадзтва, рыхтаваць людзей да грамадзкай атакі на рэжым, да ціску, да рашучых дзеяньняў дзеля пераменаў. І першае дзеяньне пасыўнага пратэсту – не хадзіць на фальшывыя выбары, байкатаваць выбарчую імітацыю рэжыму. Антыбеларускаму рэжыму патрэбныя выбаршчыкі ў галасаваньні на выбарчых участках, каб схаваць фальсіфікацыю і выдаваць яе за дэмакратычныя выбары. Як людзі прагаласуюць – няважна, фальш-машына палічыць па-свойму.

Вось чаму мы, народная партыя Народнага Фронту, заклікаем да байкоту псэўдавыбараў, у якіх народ бясьсільны. Антынацыянальная дыктатура не перамагаецца на дыктатарскіх выбарах. Дыктатура, узурпацыя ўлады, акупацыя і здрада перамагаюцца ў народнай барацьбе, у разьдзяленьні паміж народам і антынароднай уладай. Калі мы ня дойдзем да народнай барацьбы, то працягнем шлях у Паўночную Карэю. Будзем плаціць штраф за сваё беспрацоўе і маўчаць, калі нас будуць зьневажаць.

*30 сакавіка 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# НАШ БЕЛАРУСКІ ВОЛЬНЫ ДУХ.

## Беларускім дабраахвотнікам ваярам за вольную Украіну супраць расейскай агрэсіі

Дарагія сябры, вітаю Вас на фронце барацьбы за волю і незалежнасьць Украіны! Ваша справа ганаровая, справядлівая і шляхетная. Шляхетная, бо трэба дапамагаць братам у бядзе, і калі вайна, то не шкадуючы жыцьця свайго.

Украінцы ёсьць нашы першыя сябры. Нас лучыць барацьба за незалежнасьць і свабоду супраць агульнага ворага -- імпэрскай Масквы, насьледніцы Арды, якая пагражае нашаму нацыянальнаму існаваньню.

Нас лучыць гісторыя Вялікага Княства Літоўскага і агульныя інтарэсы ад Балтыйскага да Чорнага мора.

Нас лучыць наша моўнае і культурнае ўзаемаразуменьне і ўзаемная павага. Мы разумеем адзін аднаго, размаўляючы кожны на сваёй мове. Гэта ёсьць наша вялікая брацкая каштоўнасьць.

Наша краіна Беларусь ужо дваццаць гадоў выжывае пад унутраннай акупацыяй прамаскоўскіх стаўленьнікаў. Захоп Беларусі маскоўскай агентурай адбыўся яшчэ ў 90-я гады. І ўвесь гэты час рэжым антынацыянальнай улады начале са здраднікам нацыі нішчыў нашу культуру, мову, гісторыю, уклад жыцьця і зьневажаў народ, не даючы яму нармальна жыць, працаваць і карыстацца вынікамі сваёй працы.

Пакуль будзе існаваць гэты антыбеларускі рэжым, пакуль на вяршыні ўлады будзе сядзець прадажны хам і пакуль масковец будзе беспакарана арудаваць у нашых межах, датуль ня будзе шчасьця Беларусі. Пасьля агрэсіі Расеі супраць Украіны мірных спадзяваньняў на выжываньне не засталося.

Толькі зброя і супраціў спыняць агрэсара.

Беларусы, што ваююць ва Украіне, памятайма, што перамога Украіны -- гэта будзе і наша перамога. Гартуйма нашу збройную сілу! Ваш ваярскі досьвед спатрэбіцца Беларусі, калі настане час яе абараняць. Вы на правільным шляху,

па якім ішлі нашы героі Андрэй Касьцюшка, Кастусь Каліноўскі Станіслаў Булак-Балаховіч, Міхась Жызьнеўскі.

Шануйма наш ваярскі гонар і абавязкі. Шануйма наш Бел-Чырвона-Белы сьцяг і гэрб Пагоню. Шануйма наш ваярскі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Сьпявайма яго разам з украінскім гімнам.

Хай ніхто і нішто, і ніколі ня спыніць наш Беларускі вольны дух!

Жыве Беларусь! Слава Украіне!

*8 траўня 2015 года.* Зянон Пазьняк

# ПЕРАВАРОТ

Травеньскі рэфэрэндум 1995-га года, які насуперак закону праводзіў новы рэжым антыбеларускай улады, я прыроўніваю да дзяржаўнага перавароту, які меў (і працягвае мець) катастрафічныя разбуральныя наступствы для Беларускай нацыі. Ад самага пачатку ён быў абстаўлены як дзяржаўны пераварот, з увядзеньнем спэцвойска ў парлямант, зьбіваньнем дэпутатаў Апазыцыі БНФ, захопам парляманцкіх будынкаў, парляманцкіх газэт і ўсяго друку, растаптаньнем законнай волі парляманту і з апорай антызаконных дзеяньняў на чужую краіну (Расею).

Гэты рэфэрэндум як незаконны і зманіпуляваны і яго палажэньні будуць адмененыя сапраўднай беларускай уладай, а спраўцы яго будуць злоўленыя і пойдуць пад суд.

*13-05-2015* Зянон Пазьняк

# НАБЛІЖЭНЬНЕ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

27-га ліпеня 1990 года, 25 гадоў таму Вярхоўным Саветам БССР была прынята Дэклярацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Яна стала важным крокам на шляху да Незалежнасьці. Сам па сабе гэты дакумант, практычна, нічога не зьмяняў ў юрыдычным пляне і ў дачыненьнях з СССР, бо не было зацьверджана вяршэнства законаў Беларусі над законамі СССР. Але ў пляне парапагандова-палітычным ён меў велізварнае значэньне, бо ўвёў у сьвядомасьць беларускага савецкага грамадзтва ідэю аб незалежнасьці Беларусі, якая рэальна пачала асэнсоўвацца і існаваць сваім палітычным жыцьцём.

Другі аспэкт значнасьці -- гэта тое, што Дэклярацыя дала падставу і апору для дэпутатаў БНФ прапанаваць Вярхоўнаму Савету пакет заканадаўчых праектаў для незалежнай Беларусі. Гэтыя прапановы з цяжкасьцямі і ў змаганьні ажыцьцяўляліся дзеля вольнай будучыні краіны.

Трэці аспэкт значэньня Дэклярацыі -- гэта тое, што наяўнасьць такога дакумента істотна ўпрасьціла дасягненьне Незалежнасьці краіны ў жніўні 1991 года пасьля паразы камуністычнага путчу ў Маскве. Пытаньне ўжо стаяла адназначна, зразумела і канкрэтна: трэба было надаць Дэклярацыі статус канстытуцыйнага закона. За ажыцьцяўленьне гэтай задачы два дні (24 і 25 жніўня) вялася цяжкая барацьба ў Вярхоўным Савеце, якая скончылася поўнай перамогай БНФ над камуністамі.

25 Жніўня 1991 года Беларусь стала незалежнай. Гэта найвялікшая падзея і найвялікшы Дзень нашай гісторыі за 200 гадоў беларускага існаваньня і барацьбы з Расейскай імпэрыяй. Дэклярацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, прынятая 27-га ліпеня 1990-га года аблегчыла беларусам шлях да вялікай жнівеньскай гістарычнай перамогі.

*27 ліпеня 2015 г.* Зянон Пазьняк

## У Аргкамітэт VI Міжнароднага Кангрэсу Беларусістаў

Паважаным
Міхаілу Касьцюку -- старшыні МАБ, Адаму Мальдзісу -- ганароваму старшыні МАБ,
Ірыне Багдановіч -- старшыні Рэспубліканскага аддзяленьня МАБ,
Сяргею Гараніну, Герд Генчэль, Сяргею Запрудзкаму, Ігару Капылову,
Юры Лабынцаву, Вользе Міцкевіч, Паўлу Навойчыку, Рыгору Піўтараку,
Мікалаю Прыгодзічу, Вячаславу Рагойшу, Ірыне Савіцкай, Міхалу Саевічу,
Марыне Сьвістуновай, Алесю Сушу, Генадзю Цыхуну, Сяргею Важніку,
Фёдару Шаўко

Зянон Пазьняк
24 траўня 2015 г.

Глыбокапаважаныя спадарыні і спадары. Віншую Вас з арганізацыяй VI Міжнароднага Кангрэсу Беларусістаў! Дзейнасьць такога Кангрэсу ёсьць пашанай і падтрымкай нашай нацыі і культуры ў цяжкі для беларусаў час, у час, калі публічна гучаць зьняважлівыя, ёрніцкія, брыдкія словы ў адрас вялікіх беларусаў і сакральных імёнаў нацыі і культуры. У цёмным часе (ведаючы беспакаранасьць) знайшліся людзі, здольныя зьдзеквацца зь вялікага трагічнага Купалы, з Быкава і Коласа, Дуніна-Марцінкевіча, Багдановіча і Багушэвіча. Безадказныя людзі зьняважылі, здаецца, ужо ўвесь беларускі пантэон, застаўся толькі вялікі Скарына.

Просьба да Вас усіх: ня дайце падставы абгаворваць і прыніжаць вялікае імя беларускага кнігадрукара і асьветніка. Ня стаўце ў парадак дня Кангрэсу і не абмяркоўвайце неабдуманую публічную прапанову спадара Адама Мальдзіса аб царкоўнай кананізацыі Францішка Скарыны.

Скарына не асоба для царкоўнай кананізацыі, а сьвецкі навуковы кангрэс ня месца для такога абмеркаваньня. Ня дайце цёмным сілам падымаць беларусаў на сьмех і выкарыстоўваць неабдуманую прапанову ў антыбеларускіх інтарэсах.

Зычу спадару Мальдзісу хутчэйшага выздараўленьня, а таксама наступнага пераасэнсаваньня сваёй пасьпешнай прапановы.

Мае найлепшыя зычэньні ўсім удзельнікам VI Кангрэсу Беларусістаў.

Зянон ПАЗЬНЯК

# ТРОЛІНГ НА «СВАБОДЗЕ»

У Фэйсбуку я прачытаў цікавы допіс Сяргея Навумчыка па поваду бесаўскай выхадкі супрацоўніка радыё Свабода С. Дубаўца на радыё "Свабода" ("Клікуша"). Цытую Post Scriptum Навумчыка:

**"P.S. Як мне было аднойчы сказана: "Пазьняка трэба "апусьціць", а цябе і тваіх калег па тагачаснай апазыцыі мы чапаць ня будзем, наадварот, узвысім". Не, хлопцы, не па адрасе зьвярнуліся."**

Вельмі сымптаматычныя зьвесткі. Руская гёбэльс-прапаганда трымае ў Піцеры цэлы шматпавярховы дом, дзе кругласутачна за грошы працуе шматлікая армія троляў, бесаў, ілгуноў і маральных падонкаў, пішуць і распаўсюджваюць па Сеціве брыдоту і хлусьню.

Вядома, у мясцовых майстраў подлых спраў ня тыя маштабы, як у расейцаў. Але вельмі цікава, што гнюсны тролінг, накіраваны супраць мяне, атабарыўся на радыё "Свабода". І ўжо вельмі экзатычна, што знайшліся ініцыятары, якія хацелі нават завербаваць на брудную працу майго палітычнага паплечніка Сяргея Навумчыка.

Вось якія справы адчыняюцца ў рэжымным балоце.

*26 ліпеня 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ – 25 ЖНІЎНЯ -- ВЯЛІКАЯ ПЕРАМОГА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

Найвялікшае нацыянальнае сьвята беларускага народа -- Дзень Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. 25-га Жніўня 1991 года Вярхоўны Савет БССР надаў Дэклярацыі аб суверэнітэце Беларусі статус Канстытуцыйнай сілы, прыняў шэраг заканадаўчых актаў, якія замацоўвалі незалежнасьць краіны.

25-ы Жнівень стаўся пачаткам стварэньня новай незалежнай Беларускай дзяржавы, якая стала называцца Рэспубліка Беларусь, прыняла ў якасьці дзяржаўных сымвалаў гістарычны гэрб "Пагоня" і Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, прыняла Канстытуцыю незалежнай дзяржавы, дзе зацьверджаны ўсе чыньнікі суверэнітэту і незалежнасьці краіны, пэрспэктывы нацыянальна-культурнага разьвіцьця.

Рэспубліка Беларусь стала паўнавартасным удзельнікам міжнароднай супольнасьці, прызнаная ўсім сьветам.

Стварэньне незалежнай дзяржавы -- гэта ёсьць вялікая перамога Нацыянальнай Беларускай ідэі. Наступнае разьвіцьцё гэтай дзяржавы -- паўнавартаснае выяўленьне і абарона нацыянальна-культурных інтарэсаў нацыі цераз нацыянальную ўладу і нацыянальную палітыку. Гэты этап будзе зьвязаны зь ліквідацыяй улады ўнутранай прамаскоўскай акупацыі краіны.

Нацыянальная ідэя прайшла тры дзяржаватворныя этапы. 25 Сакавіка 1918 года была аб'яўлена незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. 1-га студзеня 1919 года, пасьля расейскай акупацыі і, фактычна, ліквідацыі БНР, акупанты (пры ўдзеле беларускіх нацыянал-камуністаў) стварылі марыянеткавую залежную Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку, якая мела пэўныя фармальныя адзнакі суверэнітэту. 27 ліпеня 1990 года была прынята Дэклярацыя (аб'яўленьне) аб суверэнітэце БССР. Гэта быў фармальны акт, які яшчэ не ствараў Незалежнасьці краіны. І, нарэшце, 25 Жніўня 1991 года адбыўся магутны гістарычны зрух -- была дасягнута рэальная незалежнасьць і пабудавана рэальная незалежная дзяржава, прызнаная ўсімі ва ўсім сьвеце.

Асаблівасьць існаваньня гэтай цяперашняй нашай дзяржавы ў тым, што яна падверглася ўнутранай прарасейскай акупацыі праз унутраныя мэханізмы краіны.

Вынікам гэтай акупацыі, ажыцьцёўленай у 1994 годзе, стала антыбеларуская ўлада і антыбеларуская ўнутраная палітыка.

Пасьля ліквідацыі антыбеларускага рэжыму ўнутранай акупацыі зьявяцца магчымасьці завершыць будаўніцтва нацыянальна-дэмакратычнай дзяржавы на аснове нацыянальнай улады і нацыянальна-культурных інтарэсаў народа.

*25 Жніўня 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# ДЗЕНЬ СЬЦЯГА І ПАГОНІ

19-ы верасень вялікі дзень для кожнага беларуса.19 верасьня 1991 года Вярхоўны Савет незалежнай Беларусі даў новую назву дзяржаы -- Рэспубліка Беларусь, зацьвердзіў нацыянальна-гістарычныя сымвалы -- Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня ў якасьці дзяржаўных сымвалаў краіны. Тады гэта было вельмі моцнае змаганьне дэпутатаў Народнага Фронту і ўсёй перадавой Беларусі з камуністычнай рэакцыяй. Ўрэшце рэшт дзьве трацiны дэпутатаў Вярхоўнага Савета прагаласавалі за будучыню, і з таго часу наша дзяржава ёсьць Рэспубліка Беларусь (кароткая назва Беларусь), а нашыя дзяржаўныя сымвалы ёсьць Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня.

Незаконны рэфэрэндум 1995 года, незаконна праштурхнуты і сфальшаваны антыбеларускім рэжымам пасьля ўвядзеньня войска ў парлямант і зьбіцьця дэпутатаў ад БНФ, ня мае тут ніякага юрыдычнага значэньня. Ён юрыдычна нікчэмны. У рэальнасьці сымваламі Беларускай дзяржавы зьяўляюцца сымвалы, зацьверджаныя 19 верасьня 1991 года.

Пасьля ліквідацыі антыбеларускага рэжыму яны будуць аўтаматычна вернутыя на дзяржаўны пасад, у прадстаўнічы ўжытак нашай краіны і нашага грамадзтва.

Важнае, што павінна быць зроблена (і што не пасьпелі зрабіць у 1991-м), гэта тое, што 19-ы верасень мусіць быць аб'яўлены дзяржаўным сьвятам і выхадным днём. Гэта будзе Сьвята Дзяржаўнага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга і гэрба "Пагоня". Уяўляю, што па сваім характве яно будзе адным з прыгажэйшых нашых дзяржаўных сьвятаў.

Пачынайма сьвяткаваць яго сёньня. Жыве Беларусь!

*19 верасьня 2015 года* Зянон Пазьняк

# І гісторыя, і дух часу

"Дзевяноста пяты" Сяргея Навумчыка -- гэта кніга з сэрыі гісторыі нацыянальнага Адраджэньня 90-х гадоў пра Беларускую нацыянальную рэвалюцыю і барацьбу Беларускага народа і яго выразьніка Народнага Фронту за Незалежнасьць і стварэньне дэмакратычнай беларускай дзяржавы Рэспублікі Беларусь. Гэта якраз тая тэматыка, якая ненавісная антыбеларускаму рэжыму і ягонай падстаўной "апазыцыі".

Рэжым і ўсе варожыя вольнай Беларусі сілы імкнуцца замаўчаць, перакруціць і сфальсіфікаваць падзеі нацыянальнай рэвалюцыі, затаптаць тыя гераічныя дні 90-х гадоў. Кніга "Дзевяноста пяты" пасьвечана якраз апісаньню наступу рэакцыі на заваёвы Беларускага Адраджэньня. Яна напісаная дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня, адным з каардынатараў дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Аўтар быў сьведкам і ўдзельнікам тых падзей.

Гэта каштоўнае, дакладнае дасьледваньне па найноўшай гісторыі змаганьня за незалежную Беларусь пагрунтована на дакумантах, на летапісе друку, на ўспамінах і архіўных матэр'ялах і на вопыце ўласнага ўдзелу ў палітычным працэсе той пары.

Тут пагаджаюся з думкай спадара Алега Трусава, што аўтар гэтай сэрыі кніг пра 90-я гады Сяргей Навумчык зьяўляецца, фактычна, першым палітычным гісторыкам той адраджэнскай пары. Асаблівай каштоўнасьцю кнігі зьяўляецца тое, што яна адлюстроўвае дух таго часу сваістае адчуваньне падзей, часам апісаных скрупулёзна да найменшых дэталяў. Мая падтрымка Сяргею Навумчыку і добрыя зычэньні.

*9 верасьня 2015 г.* Зянон Пазьняк

# РЭПЛІКА аб выбарах 2015 года

Супраць беларускай нацыі ідзе пэрманэнтная вайна з боку нашых ворагаў. Гэтая вайна ўключае ўсе сфэры жыцьця, ад палітыкі да адзеньня і кулінарыі. Маладым беларускім адраджэнцам важна ведаць мэтодыку ворагаў.

Цяпер адбываецца традыцыйны выбарчы фарс. Што тут галоўнае для рэжыма?

1). Фармальна забясьпечыць, арганізаваць і выканаць перамогу Лукашэнкі на выбарах, захаваць яго уладу.

2). Арганізаваць фармальную бачнасьць дэмакратычных справядлівых выбараў, каб дамагчыся міжнароднага прызнаньня выбараў і легітымізаваць рэжым.

Якія існуюць перашкоды для рэжыма дзеля дасягненьня гэтых мэтаў?

Па пункту 1) перашкодаў няма. Машына фальсіфікацыі адладжана. Гарантавана «перамагае» толькі Лукашэнка.

Па пункту 2) узьніклі дзьве праблемы. Першая праблема -- гэта забесьпячэньне прысутнасьці ў выбарах некалькіх кандыдатур на пасаду прэзыдэнта, імітаваць суперніцтва і спаборніцтва ў выбарчай кампаніі.

Гэтую праблему рэжым лёгка вырашае праз спарынг-партнёраў.

Другая праблема -- верагоднасьць байкоту, непрыход людзей на галасаваньне. Сфальсіфікаваць галасаваньне пры пустых выбарчых участках цяжка, бо ўсё відавочна. Таму рэжымная ўлада баіцца байкоту.

Праблему колькасьці прагаласаваных выбаршчыкаў рэжым вырашае шляхам антыдэмакратычнага і бескантрольнага так званага "папярэдняга галасаваньня", ціску на людзей і прывозам іх на выбарчыя ўчасткі. З другога боку, вырашэньню праблемы прыходу на галасаваньне спрыяла агітацыя за выбары прадстаўнікоў псэўдаапазыцыі, якія ў іх удзельнічалі.

На сёньняшні дзень існуе моцная тэндэнцыя байкоту выбараў і рэжым, адчуўшы настрой грамадзтва, разыгрывае рацыянальны план па ліквідацыі байкоту і прывабліваньні людзей на выбарчыя ўчасткі. Ён стварае прывабную ілюзію альтэрнатывы, зрабіўшы стаўку на Тацьцяну Караткевіч, прыгожую маладую і раней невядомую жанчыну, разумеючы, што масы палітычна неабазнаных людзей, якія чакаюць замены Лукашэнку, могуць на тое купіцца.

Дзеля ажыцьцяўленьня гэтай мэты з выбарчага марафону былі выдаленыя (розным спосабам) усе так званыя "апазыцыянеры" і пакінуты толькі два кур'ёзныя дзівакі (Улаховіч і Гайдукевіч), якія мусяць выгадна адцяняць Тацьцяну Караткевіч.

Першы тэлевізійны выступ Т. Караткевіч, сацыялістычны па зьместу і папулісцкі па сутнасьці, быў выраблена разьлічаны на саветызаваныя масы і на шырокі спэктар абываценля. Ён паказаў, што задума альтэрнатывы можа мець шансы супраць байкоту.

Абывацель, што расчараваўся ў Лукашэнку, рэагуе ірацыянальна, ён можа пайсьці галасаваць за Т. Караткевіч і гэтым абнізіць акцыю байкота. Тут галоўнае для рэжыма, каб людзі прыйшлі на выбарчыя ўчасткі і прагаласавалі. Ня важна, за каго. Машына фальсіфікацыі ўсё аформіць, як трэба для ўлады.

Вось у гэтым галоўная функцыя ўдзелу ў выбарах Тацьцяны Караткевіч і ўсё тлумачэньне таго, чаму яна ні завошта ня будзе здымацца з выбараў, разумеючы, што выбараў няма, і што яна ў прынцыпе ня можа выйграць ў гэтым спэктаклі, разьлічаным на працяг улады Лукашэнкі. Вось ў гэтым адказ, чаму яна не выступае з пазыцыяў кандыдата на прэзыдэнта нацыі, але толькі з агульных (савецкіх) электаральных меркаваньняў.

Кандыдат на прэзыдэнта нацыі мусіць найперш выступаць на нацыянальнай мове. Гэта ў палітыцы элемэнтарна, калі ставіць непасрэдныя задачы стаць такім прэзыдэнтам. Калі ставіць задачы пабочныя, то тады будзе тое, што мы чулі. Зрэшты, у другім яе выступе, зыходзячы з тэхналёгіі і мэтаў такога дапаможнага выбарчага плана, мусіла б прагучэць беларуская мова, што магло б пагнаць на галасаваньне яшчэ пэўны адсотак наіўных беларусаў. Магчыма, што так будзе і зроблена (хаця і не абавязкова).

Дадам яшчэ, што ролю "падсадной качкі" (паляўнічы тэрмін) нельга недаацэньваць. Яна можа нарабіць шкоды больш, чым уся псэўдаапазыцыя за 15 гадоў свайго паразітнага існаваньня.

Найперш трэба ўсьведамляць, што ў легітымізацыі рэжыма Лукашэнкі больш за ўсё зацікаўлена Масква. Легітымнасьць рэжыму дазволіла б Маскве правесьці фармальна нібыта чыста і юрыдычна нібыта абгрунтавана паўзучую акупацыю Беларусі і дэмагагічна зацьвердзіць незаконныя рашэньні і ўсё тое рабаўніцтва нашай краіны, якое было зроблена імі за 21 год супрацоўніцтва з антыбеларускім рэжымам Лукашэнкі.

Праект з Т. Караткевіч -- гэта перш за ўсё праект ФСБ Расеі. Ён, між іншым, выразна пазнаецца па рэакцыі і адносінах да гэтага кандыдата з боку рускай агентуры ў Беларусі, ад Ярмошынай да Дзімітрыева.

Цяжка вызначыць, ці ўсё гэта цалкам усьведамляе сама кандыдат, але па ўсім відаць, што яна ёсьць вырабленым выканаўцам плану дэзарганізацыі байкоту выбараў і легалізацыі рэжыму Лукашэнкі.

Пасьля выбараў, калі б план Масквы ўдаўся і легітымізацыя рэжыму адбылася, Караткевіч маглі б прапанаваць пасаду ў сістэме ўлады. У выпадку правалу маскоўскага плана яна можа заняць месца Мілінкевіча на Захадзе ў якасьці даверанага прадстаўніка так званай "апазыцыі" (хаця – малаверагодна, бо занадта гэбоўскія вушы тырчаць) .

Тацьцяна Караткевіч аб'ектыўна выконвае вельмі ганебную ролю, якая можа скончыцца для яе маральным крахам асобы. Можа стацца якраз тое, што адбылося зь Някляевым, які трапіў у сеткі "Говправды", быў зьбіты гарыламі рэжыму, здраджаны паплечнікамі-агентурай, увязьнены ў турму, пасьля чаго зноў купіўся на абяцаньні здраднікаў і агентуры і не зрабіў з усяго належных высноваў. У выніку ён быў выкінуты на палітычны сьметнік, і яго запозьненае ўскліканьне "што я мог супраць спэцслужбаў" выклікае толькі іронію і горкі сьмех.

Як змагацца супраць гэтай антынароднай камбінацыі на выбарах? Часу мала, і адзіная рэальная магчымасьць -- гэта распаўсюд праўдзівай інфармацыі, агітацыя за няўдзел у галасаваньні, прапаганда беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў, Беларускай Нацыянальнай ідэі, выкрыцьцё варожай ролі пуцінскай Расеі і яе агентуры, пікеты, улёткі, абход людзей і г. д.

Народная партыя і тыя здаровыя палітычныя сілы і асобы, што захаваліся ў грамадзтве, мусілі б гэтым неадкладна заняцца.

*20 верасьня 2015 г.* Зянон ПАЗЬНЯК

# Victory for freedom, liberty and free nations

Ladies and gentlemen, free people in free countries, those freed from communism and the Soviet empire, and above all, Belarusians and Ukrainians!

For 24 years we have had our own independent states, but the fight is not over. The fight is not over as long as there is an aggressive Russia and Russian imperialism, which threatens us and the world with a new war.

The methods of Russian penetration into other countries, Russian preparation for occupation of those countries and for war is an activity of Russian special services, of Russian intelligence, which includes preparation of anti-national centers and training of agents in other countries and an establishment of military bases on territories of those countries. Using these methods, Russia prepared and fought wars against Moldova, Chechnya, Georgia, Ukraine, previously against the Baltic countries, all with an aim of occupying these countries.

With such methods Putin's Russia is preparing to seize and an annex Belarus. Here Moscow is creating a "fifth column" and contrary to the laws of Belarus and the will of the Belarusian people it imposes upon Belarus it's military bases for Russian strategic nuclear bombers. Putin's Moscow and it's puppet Lukashenka, are going behind the backs of the people to install such base near Baranavicy. From here, Moscow will threaten both Poland and Ukraine.

We, free Belarusians, are saying: "Moscow get out of Belarus!" "Remove your military bases from Belarus! ". They are a threat to peace in Europe. They are a threat to safety and to independence of Belarus.

Lukashenka, just as Yanukovych in Ukraine, is Moscow's puppet and a traitor to the Belarusian nation. He created an anti-Belarusian and an anti-democratic regime and illegally is holding on to power for 21 years. On orders from Moscow, he is destroying Belarusian culture, history, it's language, the rights and freedoms of Belarusian people and is decimating the civil society of the country. Thousands of people are in prison illegally including those for political reasons, others were physically eliminated. Lukashenka bears responsibility for crimes against the people and is subject to prosecution. Lukashenka is a traitor to the Belarusian nation.

Now he is coming to the United Nations and will speak there. Don't listen to him, he is a liar. Do not listen to the one who must be prosecuted. Delegates of nations, turn away from him, ignore him! Do not shake his hand! Leave the hall! Support free Belarus! Lukashenka, just as that Moscow's KGB officer Putin, will meet his fate, revenge and the punishment by the people.

No matter how difficult it is for free Belarusians under the yoke of an anti Belarusian regime, no matter how difficult it is for free Ukrainians who are fighting against Moscow's aggression, yet, in this fight, victorious will be freedom, liberty and free nations.

Support the struggle for freedom and independence in Belarus! Support the fight of Ukraine against Moscow's aggression!

Long live Belarus!
Glory to Ukraine!

New York, September 27, 2015.

**Zianon Paźniak,**
Chairman of the Conservative-Christian Party – BNF
and of the Belarusian People's Front "Revival"

# «НЯХАЙ ТВАЁ ЖЫЦЬЦЁ БУДЗЕ ВАРТЫМ ЯГОНАЙ СЬМЕРЦІ»

«Няхай тваё жыцьцё будзе вартым ягонай сьмерці», — знакаміты партрэт Кастуся Каліноўскага з такім надпісам 21-гадовы Зянон Пазьняк падарыў Уладзімеру Караткевічу 26 лістапада 1965 году. Караткевічу ў той дзень споўнілася 35. Ужо напісаныя «Дзікае паляваньне Караля Стаха» і «Каласы пад сярпом тваім».

«Гэта быў яго дзень нараджэньня, — згадвае Зянон Пазьняк. — Мы зь ім пазнаёміліся ў 64-м і неяк зблізіліся. Я вырашыў яму зрабіць падарунак. Зрабіў вялікі партрэт Каліноўскага. Той здымак з Каліноўскім, які ходзіць у інтэрнэце, — гэта мой здымак. Я тады зрабіў дзясяткі экзэмпляраў і распаўсюдзіў паміж сваіх знаёмых. Бо тады гэта была праблема. Такога здымка не было, я яго знайшоў. І якраз гэты здымак, якога Караткевіч ніколі, я думаю, ня бачыў, яму вырашыў падараваць. Зрабіў вялікі партрэт і на хаду пэндзлікам напісаў.

Яго гэта ўразіла. Я памятаю, што Валодзя прачытаў і ўвесь страпянуўся, сьцяўся і кажа: „Дзякуй, дарагі! Дзякуй!“. Аж зашаптаў. Яго праняло тое, што я там напісаў».

Зянон Пазьняк згадвае пэрыяд сярэдзіны 60-х як пэрыяд «узьнёслага рамантызму».

«Для Караткевіча, для нас зь Лявонам Баразном, Мішы Чарняўскага, яшчэ людзей. Караткевіч надрукаваў „Дзікае паляваньне караля Стаха“ ў 1964-м, мы яго ўсе пачыталі, пазнаёміліся зь ім. Шмат цікавых гісторый ёсьць. Ноччу былі ў Батанічным садзе, праз плот пералезьлі, зіма была... шмат было рамантычных гісторый.

Вялікія былі надзеі на Караткевіча. Мы нават гаварылі між сабой, каб яго неяк аберагаць, каб яго не зьвялі. Як КДБ працуе, мы тады ведалі тое, што цяпер яшчэ ня ведаюць. Караткевіч, мне здаецца, таксама вельмі рамантычна адносіўся ў той пэрыяд да сваёй творчасьці, да свайго жыцьця.

Гэты пэрыяд пакінуў эмацыйны адбітак у маёй душы. Думаю, каб жыў бы Караткевіч, сказаў бы тое самае. 60-я гады былі вельмі ўзьнёслыя, нягледзячы на ўсе цяжкасьці, якія былі пад Саветамі».

Надпіс на партрэце, безь якога цяжка ўявіць сабе кабінэт знакамітага пісьменьніка, знайшлі зусім нядаўна — пры падрыхтоўцы да друку дзёньніка Караткевіча.

«Для сям’і было адкрыцьцё, што на адвароце быў надпіс, — распавядае Ціхан Чарнякевіч. — Гэта мэмарыяльны кабінэт, дзе нічога не чапаецца ніколі. Яны там выпадкова перавярнулі гэты партрэт, а там — каліграфія Зянона Станіслававіча. Ён у дзёньніку таксама згадваецца як малады здольны хлапец. Цікава, што Караткевіч яго ўжо тады вельмі адзначыў як здольнага цікавага чалавека».

Крыніца: http://www.svaboda.org/content/article/27316923.html

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: НАЦЫЯ ПАВІННА БЫЦЬ КУЛЬТУРНА АДЗІНАЙ

Якія дзеячы беларускай культуры спачываюць на польскай зямлі? Чые імёны былі незаслужана забытыя ў Беларусі і павінныя быць вернутыя ў школьныя падручнікі? Чаму патрыётам павінен быць і сьлесар і прафэсар? Пра гэта распавядае Зянон Пазьняк. У Дзень усіх сьвятых палітык з групай беларусаў наведаў галоўны нэкропаль польскай сталіцы – Паванзкоўскія могілкі.

На Дзяды больш за паўсотні беларусаў наведалі магілы ўраджэнцаў беларускай зямлі, якія знайшлі вечны спакой у Варшаве. Яны запалілі зьнічы на магілах нявесты Кастуся Каліноўскага Марыі Ямант, пачынальніка беларускай і польскай фатаграфіі Яна Булгака, вялікага кампазытара Станіслава Манюшкі.

***-- Імёны пісьменьнікаў Адама Плуга й Вінцэнта Каратынскага, ці пахаванага ў Вільні паэта Ўладзіслава Сыракомлі ведае кожны польскі школьнік. Але мала хто памятае, што гэтыя людзі выхаваліся ў беларускай культуры, пражылі ў Беларусі большую частку свайго жыцьця й пісалі частку твораў па-беларуску. Манюшка й Булгак пісалі па-польску, але палякамі сябе не лічылі*** *– падкрэсьлівае Зянон Пазьняк.*

**З. Пазьняк:** Яны самі сябе не лічылі палякамі. Паводле паходжаньня, этнічнай культуры яны беларусы. А паводле палітычнага самавызначэньня яны былі «краёўцамі» – патрыётамі Вялікага Княства Літоўскага. Такім быў мастак Фердынанд Рушчыц. Такім быў Ян Булгак. Яны ведалі беларускую мову, але гаварылі па-польску, пісалі па-польску, лічылі, што супольная дзяржава Рэч Паспалітая – гэта добрая справа й яе трэба адрадзіць. Людзі, якія называлі сябе краёўцамі, патрыётамі Літвы, безумоўна, адносяцца як да здабыткаў нашай,так і да здабыткаў польскай культуры.

***-- Чаму ж Адам Плуг і Вінцэнт Каратынскі, якія ведалі й любілі беларускую мову, напісалі на ёй толькі адзінкавыя творы?***

**З. Пазьняк:** Для гэтага павінна быць асяродзьдзе. Гуртку ў два-тры чалавек замала. А для літаратуры яшчэ павінен быць рынак. Каб быў беларускі літаратурны рынак, каб было асяродзьдзе, то Міцкевіч бы пісаў па-беларуску. Ян Чачот яго да гэтага намаўляў. Уладзіслаў Сыракомля меў шмат дзяцей і жыў з таго, што ён пісаў. Яму далі замову напісаць нарыс пра Менск па-польску. Ён яго напісаў, атрымаў за гэта грошы. А беларускага рынку не было. Па-беларуску ён пісаў толькі для душы. А вось Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч ахвяраваў свае сродкі. Ён за ўласны кошт выдаў паэму «Сялянка». Ён сачыў за тым, як яна прадаецца. Марцінкевіч пераадолеў тую мяжу, якую не змаглі перайсьці Адам Плуг ці Ўладзіслаў Сыракомля. Хоць у літаратурным пляне яны стаялі вельмі высока – можа нават Плуг стаяў вышэй за Марцінкевіча.

***-- Творы Сыракомлі, Плуга ці аўтара знакамітай аповесьці «Знахар» Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча павінныя быць перакладзеныя на беларукую мову, вернутыя ў беларускую культуру*** *– лічыць Зянон Пазьняк.*

**З. Пазьняк:** Абавязкова трэба перакласьці Адама Плуга. Трэба перакласьці Далэнгу-Мастовіча, яго «Кар'еру Нікадэма Дызмы», «Знахара», «Дзёньнік пані Ганкі». Гэтыя працы павінен весьці дзяржаўны інстытут перакладу. І ў першую чаргу павінныя быць перакладзеныя творы польска-беларускіх аўтараў: яшчэ ня поўнасьцю перакладзеныя Міцкевіч, Чачот... Гэта праца для цэлага аддзела.

Беларусы наведалі таксама й магілу Махала Федароўскага ***– паляка, які зрабіў неацэнны ўклад у беларускую культуру. Ён склаў 8-томную этнаграфічную энцыкляпэдыю «Люд беларускі на Русі Літоўскай» – кнігу, якая стала асновай для беларускай этнаграфіі і фальклярыстыкі. Федароўскі паказаў цэласнасьць і ўзаемасувязь народнай культуры, якая спалучае розныя пласты грамадзтва*** *– зазначыў Зянон Пазьняк.*

***Трагедыя беларусаў заключаецца ў тым, што на працягу дзесяцігодзьдзяў улады Расейскай імпэрыі ды СССР настройвалі просты люд супраць нацыянальнай інтэлігенцыі. На Ўкраіне міна, закладзеная яшчэ ў савецкія часы, прывяла да трагедыі. Прадухіліць яе паўтарэньне ў Беларусі можа толькі правільная нацыянальная адукацыя*** *– заявіў палітык.*

**З. Пазьняк:** У такое становішча патрапілі ня толькі мы, але й Украіна, Малдова. Большасьць эўрапейскіх народаў у гэтым пляне іншыя. Ляжыць пад плотам нейкі, напрыклад, румын. Падымі яго – на якой мове ён будзе гаварыць? На румынскай! Ён разумее, што ён румын. Калі будзе вайна й яго забяруць у войска, ён будзе бараніць Румынію...

Калі ж нізы не атрымалі нацыянальнай адукацыі, ня ведаюць гісторыі, ня маюць памяці й іх настройваюць супраць уласнага народу – тады такі чалавек зь нізоў робіцца магільшчыкам сваёй нацыі. Так было ў трыццатых гадах. Беларусаў выкарыстоўвалі, каб вынішчыць беларускую інтэлігенцыю. Прымушалі іх пісаць даносы... Гэтыя

даносчыкі, запалоханыя старшыні калгасаў не атрымалі адукацыі, яны ўжо не былі чальцамі сваёй нацыі ў культурным пляне, хоць этнічна яны былі беларусамі. Яны сталі вінцікамі акупацыйнай дзяржавы. Акупацыйная асымілятарская палітыка прыводзіць да сацыяльна-нацыянальнай дэзінтэграцыі грамадзтва.

Таму я кажу, што нацыя павінна быць адзінай – ад апошняга бамжа да акадэміка, кардынала й пісьменьніка. Але забясьпечыць гэта можа толькі нацыянальная дзяржава. Мы дасягнулі незалежнасьці, але ўлады здабыць не змаглі, таму, што нам не было на каго абаперціся. Якім чынам цяперашнія ўлады зьнішчаюць беларускія школы, беларускую культуру? Пры дапамозе людзей, якія кажуць: «Зачэм мне этат беларускій язык? Зачэм я буду пасылаць рэбёнка в беларускую школу? А патом как?» Вось на што робіцца стаўка! На разбалянсаваньне нацыі. А нацыя павінна быць культурна адзінай – ад нізу да верху.

І асабліва гэтае правіла праяўляецца, калі пачынаецца выпрабаваньне вайной. Ва Ўкраіне – хто пайшоў ваяваць у першую чаргу? Журналісты, нават пісьменьнікі, інтэлігенцыя! А людзі зь нізоў, якія былі ўжо дэнацыяналізаваныя, сталі «цітушкамі». А гэта ж тыя самыя ўкраінцы. Але іх выкарыстоўвалі для зьнішчэньня Ўкраіны! Гэта вынік разбалянсаваньня нацыі.

У нацыі павінна быць так, каб кожны знайшоў сваё месца. Напрыклад, нехта можа быць Васем-выпівохам, але ў часы небясьпекі ён становіцца патрыётам і гатовы пакласьці жыцьцё за сваю Бацькаўшчыну. У нацыі не павінна быць лішніх людзей. Кожны чалавек мае сваю каштоўнасьць. І так да людзей трэба адносіцца.

*Размаўляў Аляксандар Папко*
Дзяды ў Варшаве, 1 лістапада 2015 г.
Крыніца: http://radyjo.net/4/91/Artykul/227615

# Пазьняк: ніводная кніга ня ўзрушыла мяне так, як гэтая Кніга Аўгена Калубовіча.

*Зянон Пазьняк перавыдаў за ўласны кошт кнігу Аўгена Калубовіча “Мова ў гісторыі беларускага пісьменства”. Паводле палітыка й мастацтвазнаўцы, ніводная кніга дагэтуль не ўзрушыла яго, як гэта. Арыгінальнае выданьне пабачыла сьвет у Лёндане ў палове 1970-ых гадоў. У кнізе беларускі дасьледчык распавядае пра багацьце беларускіх бібліятэк і архіваў, пачынаючы ад 12 ст. і пра незваротную страту многіх бясцэнных помнікаў беларускай культуры.*

**З. Пазьняк:** Калі пачынаеш гэта чытаць, колькі было бібліятэк, колькі было кніжных збораў, то ўражаньне незвычайнае – іх былі сотні ў Вялікім княстве. У кляштарах, у замках, у школах, у магістратах. Прыводзяцца канкрэтныя лічбы. У 17 ст. у бібліятэцы Радзівілаў у Нясьвіжы было звыш 20 тысяч кніг і рукапісаў. У 15-16 стст. у вялікакняскай бібліятэцы было 4 тысячы. Да канца стагодзьдзя іх было ўжо некалькі дзясяткаў тысяч. Полацкая езуіцкая акадэмія, аршанская. Кнігі былі ў асноўным па-беларуску, на лаціне, на грэчаскай мове, на стараславянскай. Кнігі былі з усяго сьвету, але ў асноўным выданьня беларускага. Вельмі шмат было рукапісаў.

“Гэта адна з тых кніжак, якія вываротваюць душу ад крыўды на жорсткасьць гісторыі, прымушаюць моцна біцца сэрца, і попел пакаленьняў стукае ў скронь, - піша

Зянон Пазьняк у прадмове да кнігі "Мова ў гісторыі беларускага пісьменства". - Сухой мовай фактаў, скрупулёзна і пэдантычна паказана, як пасьлядоўна й мэтадычна нішчылі вялікую беларускую кніжную культуру варвары, войны, акупацыі, ворагі й беспамяцтва".

Апісаньне Калубовічам архіваў неверагоднае. Ён апісвае падрабязна, як у канцы 15 ст. пачала ствараца Літоўская мэтрыка. Яшчэ перад гэтым быў вялікакняскі архіў, яшчэ з 1380 года. Апісваюцца архівы, якія былі ва ўсіх кляштарах, духоўных акадэміях, якія былі ў езуіцкіх вучэльнях, у калегіюмах, у магістратах, у павятовых і гродзкіх судах, у замкавых судах. Гэта тысячы архіваў. І Калубовіч падае ўсе архівы, дзе яны былі, і дзе яны цяпер. Гэтае апісаньне займае дых.

**З. Пазьняк:** Але самае спрашнае – гэта вывазы й нішчэньне помнікаў пісьменства. У асноўным зьнішчалі маскоўцы. У 1708 годзе цар Пётр І Шалёны загадаў спаліць усе архівы Віцебска й Магілёва. Гэтыя архівы вывозіліся па загадзе Кацярыны. Калубовіч падрабязна апісвае як была вывезеная Літоўская мэтрыка. Спачатку ў Пецярбург, потым палову адправілі ў Маскву. Калі захапілі нашу тэрыторыю: архівы перадавалі на макулатуру – на пуды. Нашыя кнігі й архівы сталі асновай рускіх музэяў: пецярбургскіх і маскоўскіх. Быў такі расейскі фальклярыст Бяссонаў, які загадваў Віленскай геаграфічнай камісіяй. Дык вось, у той бібляітэцы было вялікакняскіх кніг – больш за 60 тысяч. Немагчыма спакойна чытаць пра тое, як гэта нішчылася. Проста баліць сэрца.

З сучасных беларускіх земляў вывозіліся цэлыя зборы й архівы. Па загадзе патрыярха Нікана пад Ноўгарад у 1656 годзе быў вывезены збор Куцейнаўскага кляштара. У 1654 годзе быў вывезены Баркулабаўскі летапіс і архіў Галоўнага трыбунала ў Наваградку. У Пецярбург у 1772 годзе была вывезеная ўся бібліятэка Радзівілаў. У гэты ж час Кацярына загада вывезьці з царкоўных і прыватных бібліятэк радаслоўныя самых славутых шляхецкіх родаў. Гаворка пра, прынамсі, 200 летапісаў. Яны трапілі ў Эрмітаж. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай архівы ВКЛ былі падзеленыя паміж Масквой і Пецярбургам, некалькі тысяч кніг і дакумэнтаў трапілі і ў Прусію. Архіў зачыненага Віленскага ўнівэрсытэта ў 1832 г. быў вывезены ў Міністэрства народнай асьветы ў Пецярбург. Пасля закрыцьця Полацкай езуіцкай калегіі каля 180 тысяч кніг і 106 тысячаў рукапісаў былі вывезеныя ў Расею. Такі ж лёс спаткаў бібліятэку Сапегаў у Дзярэчыне, бібліятэку Храптовічаў у Шчорсах, Сапегаў, збор Бабpоўскага і шмат іншых. Пасьля ліквідацыі вуніяцкай царквы праваслаўны мітрапаліт Сямашка загадаў спаліць у печках архіў і бібліятэку ў Жыровічах. Афіцыйна гаворыцца пра звыш 2 тыс. кніг.

Ужо ў савецкія часы ў кацельні аддзела культуры Стаўпецкага райвыканкама быў спалены архіў Караля Станіслава Радзівіла. Пералік зьнішчэньняў у Калубовіча займае палову кнігі й падмацаваны спасылкамі на гістарычныя крыніцы.

*"Кніга Калубовіча важная для ўсьведамленьня вялікасьці нашай культуры", - гаворыць Пазьняк. - "Прачытаўшы яе, думаеш – Божа, як мы яшчэ жывем, як нацыя. Як мы засталіся жывыя?*

**З. Пазьняк:** Гэтае зьнішчэньне працягвалася й бальшавікамі. Я сам быў сьведкам, як у 1970-ыя гады, па загадзе Машэрава, вынішчаліся так званыя жалезныя фонды ў бібліятэках. То бок малачытабэльная літаратура, якая ляжала незапатрабаванай, ці якая была ў 2-3 асобніках, яе здавалі ў макулатуру. Я ўжо быў навуковым супрацоўнікам. Іду ў акадэмічную бібліятэку, пазнаёміўся там з супрацоўніцай. Яна была сэрбка. І яна разумела, што адбываецца. Яна паклікала мяне й кажа: - Паглядзіце, якія кнігі адклалі ў здачу ў макулатуру. І яна прапанавала аддаць мне іх. Я забраў. Гэта былі рукапісы магістрата Магілёва 18 ст, арыгінальнае выданьне

Фрынаса, масу рукапісных кніг, але ўжо перавыдадзеных кніг, геаграфічнай камісіі. Кнігі 17 ст. Гэта выкідалі ў акадэмічнай бібліятэцы. Гэтыя кнігі цяпер у мяне.

*Паводле Пазьняка, неабхода спрабаваць вярнуць помнікі беларускага пісьменства ў Беларусь. Ён узгадвае, як 15 гадоў таму былы дырэктар менскага Музэя гісторыі й этнаграфіі Антон Шукелойць, распавёў пра вываз багатага збору музэя ў Нямеччыну ў 1944 годзе.*

**З. Пазьняк:** Экспазыцыя была вывезеная ў мястэчка Гёхштат (Höchstadt). Я знайшоў здымак палацу й надрукаваў у кнізе “Гутаркі з Антонам Шукелойцем”. Але ці дабраўся туды нехта зь беларусаў? А можа нашыя скарбы яшчэ ўсё там? Калі не там, то дзе?

***(19.12.2015. Польскае Радыё (Беларуская Рэдакцыя.) ў Польшчы)***
***Інтэрв'ю: Дзьмітры Гурневіч***
***http://radyjo.net/4/91/Artykul/233630***

Аўген Калубовіч (Каханоўскі) —беларускі грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, гісторык і публіцыст — нарадзіўся ў 1910 годзе ў мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага павету Магілёўскай вобласьці. У 1930 годзе асуджаны на тры гады сталінскага канцлягеру за беларускі патрыятызм. Вярнуўшыся з канцлягеру, працаваў настаўнікам. У гады Другой Сусьветнай вайны быў у Менску, уваходзіў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, удзельнічаў у Другім Усебеларускім Кангрэсе (1944 г.). Пасьля вайны — у эміграцыі. Быў прэм’ерам ураду БНР, выдаваў беларускія часопісы, займаўся літаратурай і навукова-дасьледчыцкай дзейнасьцю, друкаваў кнігі. Памёр у 1987 годзе, пахаваны ў Кліўлендзе (ЗША).
- See more at: http://radyjo.net/4/91/Artykul/233630#sthash.3gxtUULc.dpuf

# З НЕЗАБЫЎНАГА

**НАПАД**
**11-12 красавіка 1995 года.**

Спачатку зайшлі ўзброеныя людзі з аўтаматамі ў камуфляжы і міліцыяыя і сталі ланцугом уздоўж сьцен па пэрыметру залі. Потым адначасна адчыніліся ўсе дзьверы і ў залю пасыпаліся людзі ў чорных масках і чорным адзеньні. Яны ляцелі на нас, як зграя варон. Іх было вельмі шмат. Мы сядзелі ў правым сектары Прэзыдыюма. Пярэднія маскі сходу скочылі на бар'ер і, пераскокваючы праз пярэдніх дэпутатаў (я сядзеў, здаецца, у другім ці трэцім радзе), кінуліся на мяне, топчучы нагамі і хапаючы рукамі.

З аднаго я садраў маску. Пад ёй быў азлоблены тып гадоў трыццаці з чорнымі валасамі і вачыма -- характэрны мангола-расейскі твар. Тады на мяне накінуліся ўтрох і пачалі тахціць нагамі, стараючыся запіхнуць пад лаву. Потым падскочылі яшчэ і выцягнулі мяне ў праход. Двох трымалі за рукі, а трэці чамусьці стараўся выціснуць мне вочы пальцамі ў шархаватай пальчатцы. Я круціў галавой, не даючы падонку зрабіць бандыцкі прыём. Прыём яму ня ўдаўся. Сарваў мне толькі скуру ля пераносіцы. Мне заламалі рукі і пацягнулі да дзьвярэй.

На лесьвіцы ўсюды ланцугом уздоўж сьцен стаялі міліцыянеры. Калі бандзюгі вялі мяне па сходах, то раз пораз стараліся з размаху ўдарыць аб сьцяну, а падонак, які ішоў з тылу, увесь час біў мяне чаравікамі па нагах. Пад ганак падагналі адчынены хапун і я, зразумеўшы, што можа быць, рэзка выграўся і сам ускочыў ў кадлуб, не даючы магчымасьці ім кінуць мяне на жалезную падлогу.

*24-05-2015.* Зянон Пазьняк.

**ВЫБАРЫ-95**

У траўні 1995 года адбыліся рэжымныя выбары ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Нам было вядома, што Лукашэнка паставіў задачу, каб любым спосабам не прапусьціць ў Вярхоўны Савет ніводнага фронтаўца. Фронт удзельнічаў у гэтых выбарах. Я балатаваўся па сваёй Ангарскай акрузе Заводзкага раёна, спатыкаўся з выбаршчыкамі -- імправізаваныя сходы ў дварах і на вуліцах. (Вельмі цікавы мы мелі вопыт, назіраючы дзейнасьць прафэсійных правакатараў.)

У травеньскіх выбарах рэжым ня стаў рызыкывыць. Амаль ва ўсіх акругах у Менску, дзе балатаваліся фронтаўцы, выбары прадбачліва не адбыліся (прышло галасаваць менш за палову выбаршчыкаў).

Восеньню на паўторных выбарах я балатаваўся ў Смаргоні. Там супраць мяне выставілі лекара гарадзкой палiклiнiкi (самы прахадны кадр у правінцыі на той час).

У Смаргоні мая каманда (кіраўнік групы С. П. Папкоў) некалькі разоў рабіла апытаньні людзей (па 130-170 асобаў). Ўвесь час аказвалася, што я ішоў наперадзе зь невялікім адрывам (4-5 адсоткаў).

У выніку ўсё сталася, як і ў Менску: выбары не адбыліся (прагаласавала, як паведамілі, крыху менш за палову). Але праз нейкі час нечакана для выбарчай камісіі выявілася (знайшліся сумленныя людзі), што неўлічылі 500 галасоў (прытым галасавалі ў асноўным за мяне). Так што ў сапраўднасьці выбары адбыліся і мая кандыдытура прайшла.

Я напісаў скаргу ў ЦВК. ЦВК паслала ў Смаргонь камісію на чале з членам ЦВК Аляксандрам Жуком. Камісія пацьвердзіла парушэньне і фальсіфікат. І вось тады старшыня ЦВК А. Абрамовіч наадрэз адмовіўся прымаць патрэбнае па закону рашэньне. Камісія А. Жука паставіла пытаньне аб звароце ў пракуратуру. Абрамовіч адмовіўся. Растлумачыць сваю пазыцыю ён ня мог, але казаў, што нічога ня будзе рабіць. (Пазьнейшы мой зварот у пракуратуру таксама ня меў выніку, нават адказу не было.) На двары ўжо сьмярдзела новая рэчаіснасьць.

Абрамовіч як скончаны канфарміст ("чалавек-трава" як мы яго называлі) стаў потым аддана супрацоўнічаць з рэжымам і падрыхтаваў яму гэтую дзікую ў юрыдычна-палітычным плане канстытуцыю дыктатуры, што існуе цяпер і пакрывае варварства рэжыму.

У Вярхоўны Савет 13-га скліканьня насуперак устаноўкам рэжыму прарваліся акрамя мяне яшчэ тры дэпутаты Незалежнасьці: Юры Беленькі, Валянцін Голубеў і Генадзь Грушавы. Беленькага і Голубева новыя ўлады таксама выкінулі. Пакінулі толькі аднаго Грушавога.

Ужо тады стала зразумела, што нармальных, законных выбараў у Беларусі больш ня будзе. Ва ўсялякім разе да таго часу, пакуль існуе ва ўладзе гэтая антыбеларуская калгасна-гэбоўская група.

*24-05-2015.* Зянон Пазьняк.

# З Ь М Е С Т

2013



2014

2015

# ДАДАТАК

2011-Д



2012-Д



2013-Д

**2014-Д**



**2015-Д**



* * *

# Кнігі, выдадзеныя Зянонам Пазьняком за мяжой

1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2000 г.
2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2002 г.
3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2003 г
4. Зянон. Вялікае Княства. -- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2005 г.
5. Зянон. Вялікае Княства (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
6. Зянон. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2005 г.
7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. -- Нью- Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). -- Варшава, 2006 г.
10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2007г.
11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).
12. Зянон. Дарога. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2007 г.
13. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр'ялы (1990 —III.1996). -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2007 г.
14. Парсіваль (2-е выданьне). -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2009 г.
15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)
16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр'ялы (IV.1996—2002). -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2010 г.
17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр'ялы (2003--2010). -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2010 г.
18. Зянон Пазьняк. Сяргей Навумчык – Дэпутаты Незалежнасьці. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2010 г.
19. Зянон Пазьняк. Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2010 г.
20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2011 г.
21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2011 г.
22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2012 г.
23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2012 г.
24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). -- Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2012 г.
25. Зянон. Тэрра Дэй. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Варшава, Нью Ёрк, Вільня, 2014 г.
26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Warszawa, 2014.
27. Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства. (Факсімільнае выданьне. Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). -- Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.
28.Зянон. Палын-палын…-- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.
29. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.,
30. Zenon. TERRA DEI. – New York, Warszawa, – «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), "Беларускія Ведамасьці", 2017 г.
31. Зянон. Глёрыя Патрыя. – Вільня, 2000 г.
32. Даніэль Дэфо. Рабінзон Круза. (Факсімільнае выданьне. Прадмова і пасьля-слоўе – Зянон Пазьняк). – Нью Ёрк – Варшава, – БВТА, «Беларускія Ведамасьці», – 2017 г.
33. Зянон Пазьняк. Vox Angelica. Кніга перакладаў. – Нью Ёрк- Варшава, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.
34. Зянон Пазьняк. Краявід перад нізінай. – Варшава – Нью-Ёрк, – «Беларускія Веда- масьці», – 2018 г.
35. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Разбурэньне. т. IV. – Варшава – Нью-Ёрк, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.

ISBN: 978-83-948192-2-4
(Пазьняк Зянон Станіслававіч)

Зянон Пазьняк

# ЦЯЖКІ ЧАС
## РАЗБУРЭНЬНЕ

Платформа беларускага змаганьня,
кн. 4, артыкулы і матар'ялы (2011- 2015)

т. IV

*Выданьне і друк коштам аўтара*
*Некамэрцыйнае выданьне*

**Зянон Пазьняк. ЦЯЖКІ ЧАС. РАЗБУРЭНЬНЕ , т. 4.**
Выданьне: «Беларускія Ведамасьці», Варшава – Нью-Ёрк, 2018. –
562 с. Папера афсэт. Леттэр (8,5x11); 281 друк. арк. Наклад 250 асоб.
У чацьвертым томе сабраныя артыкулы і матар'ялы, якія даюць праекцыю на палітычныя падзеі і зьмест 2011-2015 гадоў. Гэты час акрэсьлены як пэрыяд актывізацыі акупацыйнай русіфікатарскай палітыкі антыбеларускага рэжыму і разбурэньня беларускай грамадзянскай супольнасьці. Зборнік выяўляе зьмест гістарычнага часу, адлюстроўвае ацэнкі паводзін антыбеларускай ўлады з пазыцыі нацыянальнага супрацьдзеяньня і змаганьня за Беларусь.
ISBN: 978-83-948192-2-4

Кампутарны склад, вокладка, афармленьне – *Зянон Пазьняк*
Кампутарны набор – *Галіна Палачаніна*
Друк – LULU
Наклад – 250 асобнікаў
Папера – афсэтная
Фармат аркуша – Леттэр
Фармат друку – 8,5x11
Ум. друк. арк. – 51
Ул. друк. Арк. – 281
Аддрукавана: у лістападзе 2018 г. у ЗША

**ISBN: 978-83-948192-2-4**

